## Ад рэдкалегіі

Збор твораў Івана Навуменкі ў дзесяці тамах падрыхтаваны Інстытутам мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі згодна з Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 15 жніўня 2008 г. № 1171 «План мерапрыемстваў па ўвекавечанні памяці народнага пісьменніка Беларусі Навуменкі І. Я.».

Гэта першае навукова каментаванае выданне творчай спадчыны І. Навуменкі. Пры жыцці пісьменніка яго Збор твораў выходзіў адзін раз: у 6 тамах (1981—1982 гг.).

Паводле свайго тыпу дадзены Збор твораў з'яўляецца навукова-масавым выданнем. У параўнанні з прыжыццёвым ён папоўнены новымі творамі, якія былі змешчаны толькі на старонках перыядычных выданняў, зборнікаў. У раздзеле «Каментарыі» прыведзены звесткі пра рукапісныя і друкаваныя крыніцы тэксту, месца першай публікацыі і датаванне твораў, гісторыю тэксту, водгукі сучаснікаў І. Навуменкі і іншыя рэаліі. У «Каментарыях» падаюцца найбольш значныя ў мастацкіх адносінах варыянты і розначытанні, выяўленыя ў працэсе зверкі тэксту з рукапіснымі і друкаванымі крыніцамі, а таксама паасобныя выпадкі правак моўна-стылёвага характару, якія адлюстроўваюць працу пісьменніка над удасканальваннем сваіх твораў.

У прадмове да выдання і пасляслоўях да адпаведных тамоў дадзена агульная ацэнка творчасці І. Навуменкі, раскрыта змястоўна-праблемнае багацце яго твораў, іх жанравая разнастайнасць, вызначана месца пісьменніка ў беларускай літаратуры.

У аснову выдання пакладзены жанрава-храналагічны прынцып.

Па тамах творы размеркаваны наступным чынам:

т. 1—2 — апавяданні і нарысы;

т. 3—4 — аповесці;

т. 5—7 — раманы;

т. 8—9 — літаратуразнаўчыя і крытычныя кнігі, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы;

т. 10 — п'есы, дакументальная аповесць, вершы, успаміны, дзённікі, эпісталярый.

За асноўны тэкст прыняты прыжыццёвы Збор твораў у 6 тамах І. Навуменкі, у некаторых выпадках — зборнікі, часопісы, аўтографы, асобныя выданні твораў. Выключэнне складаюць тэксты, адаптаваныя для школьнай серыі, і тыя, у падрыхтоўцы якіх аўтар не браў удзелу.

## Тры сасны пры лясной дарозе

Ён успамінаецца мне не за сваім сталом, што і сёння стаіць у ягоным кабінеце, амаль гэтак жа загрувашчаны рукапісамі, з пыльным календаром невядома якога года на падстаўцы. І не ў апошнія два з паловай гады, гады хваробы, ужо маўкліва адчужаны, абыякавы да кніжак і рукапісаў, таго, што заўсёды было сэнсам яго жыцця,— як быццам ён ужо перайшоў тую мяжу, за якую жывым не зазірнуць. Ніколі не падсоўвае памяць аніякіх фрагментаў з выступленняў на юбілеях, тэлебачанні, навуковых кангрэсах, хаця лекцыі Навуменкі і дагэтуль успамінаюць бацькавы вучні, зараз ужо, праўда, таксама пенсіянеры. Амаль заўсёды, як нахлыне ўспамін, мне бачыцца затулены куток лагойскага лесу, куды на блакітным «Масквічы», а пазней — на непаваротлівай «Волзе» прадзірацца было трэба кіламетраў дзесяць па былой перадваеннай вузкакалейцы, гамерычнага памеру калюжынах, праз жабрацкія, чорныя, на сем-восем хат, лясныя вёсачкі. У глыбіні бору, узбоч парослай травой лясной дарогі, стаяла чарада соснаў, гонкіх, меднастволых, у два абхваты, яны выразна кантраставалі з навакольным борам, відавочна больш маладым і сціплым. Сякера леспрамгасаўцаў калісьці пашкадавала іх,— хто ведае чаму? — і кожнае лясное вандраванне для трох самых апантаных грыбнікоў беларускай літаратуры — Мележа, Лойкі і Навуменкі (часам прыхопліваліся суседзі па трыццаць шостым доме — Скрыган і Брыль) — заўсёды заканчвалася там. Пад «трыма соснамі» — так між сабой называлі яны гэты куток — сцялілася покрыўка, наразалася сала і чорны хлеб, клаліся абавязковыя атрыбуты любога падарожжа савецкай эпохі, вараныя яйкі і соль, ставілася бутэлька, і пакуль прыцемак не зацягваў перадвосеньскі лес шэрым змрокам, безнадзейна было прасіць іх падняцца.

Шкада, што па тагачаснай маладой сваёй легкадумнасці я амаль не ўслухоўваўся ў тыя гаворкі на покрыўцы, і памятаю хіба некаторыя каларытныя, трапныя эпізоды, гісторыі, характарыстыкі. А можа, і не шкада. То быў іх час, іх літаратура, іх жыццё, не сённяшняе; гаворка пад соснамі, пры вёдрах баравікоў, што стаялі ў нагах,— не стэнаграма, як аргумент у нейкай літаратурнай спрэчцы скарыстоўвацца не павінна, ацэнкі, выказаныя дваццаць — трыццаць гадоў таму, могуць кагосьці і пакрыўдзіць, падацца несправядлівымі, а можа, і памылковымі, бо ўсё ж усе вышэйзгаданыя грыбнікі былі людзьмі свайго часу, разам з гэтым часам мяняліся, мяняліся і размовы... Але было ў іх тое, што, мусіць, і прымушае зноў і зноў успамінаць лагойскі лес, адзнака не эпохі, не часу, а менавіта пісьменніцкага пакалення — пэўная шляхетнасць, годнасць, далікатнасць у агульным тоне, стылістыцы гаворкі, у жэстах, у саміх постацях, у тым нават, як адзін аднаму налівалі чарку і фармулявалі мэту гэтага налівання. Важкасць і грунтоўнасць слова, нават і з’едлівага, што вынікала з важкасці і грунтоўнасці біяграфіі. Адным словам, тое, чаго ў сённяшнім дні — і ў літаратуры — трэба шукаць доўга, але можна так і не знайсці.

Нашы сумесныя грыбныя вандраванні пачаліся, калі мне было гадоў пяць, адмахвалі мы па лясах кіламетраў па пятнаццаць,— ён не шкадаваў мяне ніколі, хады не прыцішваў, і была ў гэтым нейкая свядомая бацькоўская праграма; а калі вярталіся ў дачны дамок на Лысай Гары, дзе я адразу кідаўся на ложак, не чуючы ног, смяяўся, апавядаючы маці: «Палову дарогі задаваў пытанні, але другую маўчаў... Але ж ішоў». Лес і баравікі ды яшчэ апантанае кніжніцтва былі ягоным пажыццёвым шаленствам, з бацькавым кнігазборам магла спаборнічаць мала якая прыватная (а тое і дзяржаўная) бібліятэка Беларусі, з Барысам Сачанкам, яшчэ адным шалёным кніжнікам, яны навыперадкі шасталі па букіністычных крамах, шакаладкамі вербавалі і перавярбоўвалі прадаўшчыц — «набяры мой нумар, калі будзе што вартае, а то гэны гіцаль наскочыць...». Мець у сваёй бібліятэцы першадрук, жывую кнігу — о, ён ведаў, як гэта важна, што гэта за пачуццё,— зняць з паліцы шэры томік «Шляхам жыцця», выцвілую да бясколернасці «Новую зямлю» альбо разгарнуць «мармуровую» (цяпер так не ўмеюць) вокладку якіх-небудзь «Историко-статистических очерков Виленской губернии» 1852 года... А яшчэ — са шматлікіх замежных паездак цішком прывозіліся «працы старшыні Мао» і югаслаўскі дысідэнт Мілаван Джылас, «Доктар Жывага» па-нямецку і шырокавядомая ў заходнім свеце «Soviet people» — па-нямецку ён чытаў і гаварыў свабодна (акупацыя, «партызанка» і служба ў разведроце і амаль год пасля вайны ў Нямеччыне, памножаныя на залаты медаль і школу, скончa-

ную за дзевяць гадоў замест дзесяці), па-французску і ангельску — прыстойна, а польская за замежную дык і не ішла, а выдавалі палякі ў тыя часы такое, што беларускаму савецкаму чытачу і прымроіцца не магло.

А яшчэ ён любіў прагуляцца ўздоўж Свіслачы, тады густа парослай па берагах чаротам і асакой, уздоўж Чэрвеньскага тракта, праз блытаніну вулачак і рознакаляровых дамкоў, крытых толем, з вішаннікам, градамі ў гародах, парсючкамі і курамі, пад самую Сакалянку, дзе ў такім жа дамку, пад пільным вокам і ладным дубцом ягонай хітраватай шляхцянкі-цешчы, бавілі свае лета мы, трое ягоных замурзаных, з абдзёртымі каленямі дзяцей. Яны на дзіва нешматслоўна-добра ладзілі, Якаўлевіч і Феліксаўна: галоўны цешчын прынцып выхавання дзіцяці, каторы яна, як шляхцянка, заўсёды фармулявала па-польску — «чэго хцэ, тэго не даць» — ён не аспрэчваў, магчыма, унутрана пагаджаўся, бо і сам прайшоў прыблізна тую ж школу выхавання, хай сабе не ў шляхцянскай сям'і, а ў сям'і пуцявога абходчыка. Старасвецкія грушы, вішаннік, парэчкі, заклапочаная балбатня курэй у сарака хвілінах хады ад галоўнага праспекта — увесь гэты чыста беларускі, пярэсты сінтэз (хто паспеў пабачыць, той ведае, пра што гаворка), пэўна, нагадваў яму роднае мястэчка, менавіта мястэчка, не вёску. Ягоныя Васілевічы. Васілевічы, якія жылі ў ягонай душы, але якіх ужо не было.

Ён наязджаў у Васілевічы рэдка, пасля смерці бацькі — зусім рэдка, падгадваў, каб з маладзейшым братам, чыгуначнікам. Яшчэ радзей заставаўся нанач у бацькавай хаце, а на раніцу збіраўся, як быццам гнала яго адтуль нейкая чорная думка. Пасля таго, як маці перабралася ў Брэст, да самага малодшага,— дык і ніколі. Хіба праездам з якога Мазыра, дзе бываў па дзяжурна-савецкіх дэпутацкіх справах.

Дзіўна, раннія яго апавяданні, вонкава — самыя рамантычныя, самыя летуценныя — гэта, безумоўна, «васілевіцкі» перыяд творчасці. Або, дакладней, цыкл. Аўтабіяграфічны, як і многае ў беларускай прозе і паэзіі. Першае каханне. Дзіўныя дзявочыя імёны, малазразумелая сёння мода на экзотыку, якая, пэўна, так мала гарманіравала з воблікам перадваенных Васілевіч — усе гэтыя Сюзанны з парэпанымі нагамі... Хлопцы ў даматканых штанах, што старанна вучаць нямецкую мову, матэматыку, адчайна чытаюць Гамсуна, бачаць сябе ва ўніверсітэтах, інстытутах, вайсковых вучылішчах...

З бацькавага выпускнога класа іх, здаецца, ацалела чацвёра — Мікола Белы з адарванай рукой, Іван Доўжык, бацькаў сябра, што пасля вайны рабіў леснікам і добра налягаў на чарку, Базыль Васенда, што з'ехаў на працу ў Германію, а пасля вайны бясконца,

дзесяцігоддзямі, пісаў лісты на рознае раённае начальства, дамагаючыся нейкай толькі яму зразумелай праўды. І бацька. І хоць думку аб надзвычайнай рамантычнасці і светласці першых ягоных апавяданняў замацавалі яшчэ рэцэнзіі канца 50-х, а накіды шмат якіх апавяданняў пісаліся яшчэ ў пару карэспандэнцтва ў «Бальшавіку Палесся», калі ён з тых самых Васілевіч аб'ездзіў і абышоў усю папаленую і вынішчаную Гомельшчыну, для яго Васілевічы светлым і рамантычным месцам не былі. Рэальныя, жывыя Васілевічы.

*Для нас у дзяцінстве Васілевічы — гэта былі яблыкі. Цудоўныя сушаныя яблыкі з нейкім непаўторным пахам і смуглява-ружовай скуркай.*

*Скрынкі з сушанымі яблыкамі ды грушамі з Васілевіч траплялі ў наш дом або з пошты, або іх прывозіў бацькаў малодшы брат Мікалай, чыгуначнік, які па службовых справах бываў у родных мясцінах нярэдка, не тое што бацька. Дзед Якаў, відаць, гаспадар быў спраўны — ягонымі рукамі пасаджаны сад пры хаце мне пабачыць давялося, сад быў дабрэнны, і, хоць лёс зрабіў дзеда чыгуначнікам, паводле ўсіх прыкметаў, ды і па сямейных паданнях, сялянская справа была для яго мілейшай... Ва ўсякім разе, ні на Камароўцы ў Мінску, ні на дробных местачковых кірмашах ні тады, ні пазней не даводзілася купіць нешта падобнае да тых яблыкаў ды груш з пары дзяцінства.*

*У нешта больш прадметнае для нас, дзяцей, Васілевічы матэрыялізавацца не змаглі — па савецкім часе падарожнічаць за трыста з лішкам кіламетраў было непрынята і нязручна, сама баба Мар'я, відаць, не надта рвалася браць на лета траіх не надта паслухмяных (яна гэта ведала) унукаў, ды і маці наша, якая ледзьве спраўлялася са сваім маленькім сямейным царствам то крыкам і лаянкай, то пяшчотай, на рукі досыць нямоглай ужо бабулі («Пятроўны», паводле сямейнага азначэння) нас бы не аддала. Тым больш што побач, у Мінску, у сваім дамку ля берага Свіслачы, дзе таксама быў сад з бэрамі і лімонкамі, хлеўчык з парсючком і курамі, жыла другая бабуля, матчына маці — і наша лета было там. Нас чакаў недаспелы агрэст, пыльныя парэчкі, мы латашылі вішні, ганялі з градаў курэй, робячы тым градам шмат болей шкоды, чым куры, за што ўсе трое рэгулярна атрымоўвалі ад бабы крапівой па голых лытках... Увечары мог прыехаць бацька — у гэты, мінскі «маёнтак», ён заязджаў ахвотна, мусіць, каб прыглушыць сум па зялёных прысадах Васілевіч (паўнацэнным гараджанінам ён сябе ніколі не адчуваў, але і вяскоўцам не лічыў, падкрэсліваючы, што Васілевічы — мястэчка). Задраўшы галаву, ён глядзеў на вялізную грушу, на вяршыні якой ішла вайна за пераспелыя бэры паміж шпакамі*

*ды восамі, з узаемнай павагай перакідаўся словам са сваёй шляхетнай, шустрай і вострай на язык цешчай, аддаваў ёй торбачку, складзеную маці і, паляпаўшы нас па галовах, ішоў на тралейбус: бацькоўскі абавязак быў выкананы. Жыццё — рэч не зусім справядлівая: «залаты зяць» (цешчына азначэнне) стаяў у яе вачах вышэй залатога даляра — за розум, паставу і нешта толькі ёй вядомае, хоць ніколі не забіў на тым маёнтку цвіка, як не забіваў іх і дома, не ўскапаў грады,— вялікага імпэту да гэтай працы бацька не адчуваў ніколі. Але ж і цешчы ў галаву не прыходзіла папрасіць Якаўлевіча гэты самы цвік забіць. Забіваць цвікі — гэта была справа Васіля, мужа матчынай сястры, негаваркога прафсаюзнага работніка, якога па бацьку Феліксаўна не назвала, здаецца, ні разу за ўсё жыццё.*

*Для бацькі Васілевічы былі, вядома, нечым нашмат большым, нягледзячы на тое, што выбіраўся ён туды апошнія трыццаць гадоў хіба некалькі разоў. Універсітэт, Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы, пасада віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук... «Я ўсё жыццё бегаю на службу, а колькі б мог аб'ездзіць, паглядзець, напісаць»,— пастаянна скардзіўся бацька, ён час свой шкадаваў, на адпачынку — у Дубултах ці Караліічавічах — з раніцы сядаў за стол і раней абеду не ўставаў, так што выбрацца да маці ў Васілевічы было няпроста. А потым, як маці пераехала да малодшага сына ў Брэст, хату прадалі (аб чым ён потым вельмі шкадаваў),— дык аказалася, што і няма куды.*

*Але, магчыма, была і нейкая іншая прычына тых нячастых наездаў, якая, калі прасачыць за лёсам і ягонага пісьменніцкага пакалення, і маладзейшых «шасцідзясятнікаў», выяўляецца досыць выразна. Васілевічы былі тым месцам, дзе ён перад вайной скончыў на выдатна за адзін год дзявяты і дзясяты класы, дзе ён разам з такімі ж сямнаццацігадовымі «падпольшчыкамі» збіраў з патрушчаных немцамі радыёпрыёмнікаў адзін цэлы, каб слухаць франтавыя зводкі, дзе наладжаваў кантакты з парашутыстамі капітана Манзіенкі, праносіў магнітныя міны, сядзеў у нямецкай турме, з мястэчка ж перабраўся ў партызанскі атрад. У Васілевічы ён вярнуўся з вайны ў мундзіры старшыны армейскай разведкі (куды трапіў за добрую нямецкую мову), малады, прыгожы, а галоўнае — жывы. З Васілевіч паступіў на завочнае ва ўніверсітэт, уладкаваўся карэспандэнтам абласной мазырскай газеты «Бальшавік Палесся», аб'ездзіў свой журналісцкі «куст»: раёны, вынішчаныя вёскі, жабрацкія пасляваенныя калгасы... Скіраванае ў будучае, рамантычнае, шматлікае перадваеннае пакаленне амаль цалкам было заарана жорсткім і няўмольным лемяхом гісторыі, і пасляваенныя Васілевічы ўжо ніколі не сталі*

*такімі, якімі калісь былі. Нават з тых, хто застаўся, добрая палова так і не здолела знайсці сваё месца ў мірным жыцці, тым больш што і самое жыццё паціху сыходзіла з неперспектыўных вёсак ды мястэчак. Васілевічам яшчэ адносна пашэнціла, яны пратрымаліся даўжэй — чыгунка, леспрамгас...*

*Чым старэйшым станавіўся бацька, тым «маладзейшымі» станавіліся ягоныя ўспаміны пра Васілевічы — не вайна, не падполле, не «партызанка» — дзед Піліп, зацяты, упарты аднаасобнік, які сыну не дараваў да скону тое, што кінуў гаспадарку і пагнаўся за чыгуначным «лёгкім хлебам», а малога Іваньку, унука, любіў, цягаў з сабою ў лес збіраць бярозавік, грыбы, касіць на затуленых лясных прагалах сена для аднаасобніцкага каня; бацька, Якаў Піліпавіч, чалавек суровы, сур'ёзны (менавіта такім ён выглядае на зжоўклых і цёмных перадваенных фотаздымках, ды і па бацькавых аповедах), які на дзве сотні не надта важкіх перадваенных рублёў пуцявога абходчыка ды яшчэ на бульбе, што дазвалялі чыгуначнікам саджаць на паласе адчужэння, цягнуў сям'ю з чатырох дзяцей ды яшчэ выкручваўся неяк плаціць за навучанне — старэйшыя класы школы перад вайной сталі платныя... У бацькавай свядомасці ішла нейкая пераацэнка, тое, што ў час маладосці здавалася мізэрным, дробным, раптам пачало набываць маштаб і важкасць. Яно заўважалася і па тэматыцы твораў, па тым, як змяняўся ягоны пісьменніцкі інтарэс, як увага з напружаных, зломных перыядаў гісторыі паступова змяшчалася да някідкіх, але вечных тэм — дзяцінства, прыроды, ціхіх правінцыйных, безнадзейна неперспектыўных мястэчак, да іх побыту і сціплага люду.*

*Усё жыццё ён, як адчувалася, трошку шкадаваў маці, да якой быў падобны не толькі вонкава, але і запаволенасцю рухаў, лёгкай нуднаватасцю і адначасова летуценнасцю, жыццёвай непрактычнасцю. Усміхаўся, успамінаючы, што маці, дачка з багатай сялянскай сям'і, ніколі не магла дараваць дзеду Якаву, што ў замужжы ела горш, чым у бацькавым доме — дзед Якаў, праўда, паводле бацькавых жа ўспамінаў, мала зважаў на такую лірыку. А ў апошнія гады пачаў усё болей успамінацца яму бацька са сваёй суровасцю, іранічным стаўленнем да ўсяго таго, што выбівалася за нормы сялянскага жыцця, тым больш да той плакатна-агітацыйнай аптымістычнай траскатні, на якую быў гэтак багаты перадваенны час. Кансерватыўна-абачлівая мудрасць Якава Піліпавіча неаднаразова выратоўвала сям'ю ў вайну,— хаця б тады, калі шаснаццацігадовы Іван у сорак першым годзе прыпёр у хату цэлае бярэмя зброі з пакінутых акопаў, і, знайшоўшы ў сене цэлы арсенал, дзед Якаў, ціха ла-*

*ючыся, уначы тапіў яго ў старым закінутым калодзежы. Ён не мог патлумачыць сынам палітыку Камінтэрна, але нават у самыя ліхія часы ўсе былі пры кавалку хлеба, пры бульбіне і сякіх-такіх штанах. Тады гэта здавалася драбязой, наперадзе ім — усяму пакаленню — свяцілі нябачаныя далі. А вось у апошнюю пару дзесяцігоддзяў, калі час бязлітасна ператрос усё тое, што «апраўдвала» — хоць часткова — і вынішчаныя пакаленні, і жабрацтва палескіх вёсак і мястэчак, і «бесперспектыўнасць» іхнюю ў пасляваенны час (тысячу гадоў былі перспектыўнымі і раптам перасталі) — лёс бацькі, майго дзеда Якава, як і лёс закаранелага аднаасобніка, майго прадзеда Піліпа, выклікаў у бацькі нейкія новыя, баюся, што нялёгкія перажыванні.*

*Пры апантаным кніжніцтве, фенаменальнай падкаванасці ў любой літаратурнай з'яве (дзякуючы бацькавай бібліятэцы, я здолеў нерэальна лёгка «праскочыць» экзамен па замежнай літаратуры ў бязлітаснай філфакаўскай легенды, выкладчыцы замежнай літаратуры Цімафеевай, бо прачытаў «Уліса» Дж. Джойса, які па-руску не быў выдадзены ў той час, і на якім яна збіралася мяне «зрэзаць» — але ён быў надрукаваны па-ўкраінску ў «Всесвіте», які дома быў...) сялянскі погляд на рэчы застаўся непераможным. Дзіўна — з сялянскай працы ён любіў і ўмеў толькі касіць — школа прадзеда Піліпа не прайшла дарэмна; абразанне бацькам саду ля дому ў пісьменніцкім легендарным паселішчы на Лысай Гары межавала са шкодніцтвам (ён, праўда, шчыра ганарыўся фантастычнай ікебанай абкарнаных сліў і вішань, пянькамі нядаўна пышных кустоў белых ружаў, матчынай гордасцю), а наагул — не балела яму галава за той сад, ён любіў толькі бярозу каля хаты, якую сам пасадзіў і якая вымахала над усім пісьменніцкім паселішчам. Бярозу ён чапаць забараняў. Але ж, праязджаючы з лецішча ля заслаўскіх кар'ераў, якія распаўзаліся ўсё шырэй — мінскія будоўлі патрабавалі безліч пяску і друзу,— ён нядобра падціскаў вусны і нязменна прамаўляў: «Псуюць поле...», як быццам ягоны надзел праглынула ненажэрная зяпа кар'ера. Поле — яно як пачатак пачаткаў, хаця, як чалавек разумны і адукаваны, ён разумеў неабходнасць, непазбежнасць індустрыяльнага свету — разумеў, але не любіў. Як не любіў акуратненькіх, чыстых нямецкіх гарадоў, а гіпербарэйскіх памераў лужына пасярод вёскі Ваўканосава, у якую па кабіну заходзіў «Беларус» (ён з маці прывёз мне харчоў на студэнцкую «бульбу», у мясцовай краме, апрача солі, «чарніла» ды хлеба, нічога не было) запаліла ў ягоных вачах вясёлыя агеньчыкі. Лужына — яна ў нас наагул скразны літаратурны вобраз. Архетып.*

*Васілевіцкія таполі, сасна ля чыгуначнага пераезду, палескія бары, дзе ён паказаў мне «свае» нерушы «меднагаловых», крамяных, вышэйшага гатунку баравікоў (другое, пасля кніжак, бацькава шаленства, якое ён таксама здолеў перадаць у спадчыну ўсім сваім дзецям), не адпускалі яго да апошняга. У Васілевічах не засталося ні хаты, ні сяброў, толькі Якаў Піліпавіч ды Марыя Пятроўна на могілках. І ён усюды шукаў свае Васілевічы, страчаныя, незваротныя, як маладосць. Васілевічы, якіх ужо не было. То ездзіў са мной на кірмаш у Ракаве, хадзіў, глядзеў парсючкоў, купляў сабе кавалак старога сала ці жылаватай таннай каўбасы (кавалачак менавіта такой нібыта яму адразаў у дзяцінстве нейкі міфічны дзядзька Ілля), то рваўся «прыкупіць хату ў якім сельсавеце», а то прасіў завезці яго ў глухую лясную вёсачку на Лагойшчыне: едучы з грыбоў, мы бачылі там каля лялечнай — тры на чатыры — хаткі каларытнага беларускага дзядка з кульбаю, у дзіўным брылі... Бацька хацеў папрасіцца пераначаваць, пагаварыць, паглядзець на зоры ўначы... Ідэя стаць на начлег у незнаёмай вёсцы без дай-прычыны захапіла мяне слаба, а вось пра якую ладную хату я абяцаў яму падумаць — відаць, для яго два дачныя дамы пад Мінскам было сапраўды не тое... Але адклаў на адно лета, тады на другое. А там і не спатрэбілася ўжо.*

Аналогіі з Рэмаркам, Олдынгтанам, Барбюсам, Хемінгуэем, прадстаўнікамі «страчанага пакалення», што сустракаюцца ў працах беларускіх літаратуразнаўцаў, мне здаецца, недарэчныя. У нас гэта не страчанае, а забітае пакаленне. Неяк увосень, выбраўшыся на ўзлессе каля лагойскай лясной вёсачкі Мокрадзь, чорнай, з бядняцкімі, на адно вакно, хаткамі — яны так кантраставалі з раскошай кастрычніцкага лесу («глянь, у нас называлі — удовіна хата» — сумна ківаў галавою бацька, праязджаючы праз тую Мокрадзь па вузкай жоўтай пясчанай дарозе),— ён апавядаў мне, як увосень 1943 года (Гомельшчыну ад немцаў ачысцілі раней за ўсе астатнія часткі Беларусі) іх, учарашніх партызанаў, пасля ўрачыстага мітынгу, нават не пераабмундзіраваўшы, у ватоўках, кажухах, перашытых нямецкіх мундзірах, войлачных бурках і лапцях, кінулі паперадзе рэгулярнага войска штурмаваць нямецкія вышыні дзесьці пад Парычамі. Добра, калі выжыў кожны дзясяты. Чаму на такі ўспамін у светлы, крышталёвы дзень, выкіравала яго сіроцкая Мокрадзь, якая наўпрост праз лес — тры-чатыры кіламетры ад Хатыні? А можа, такая ж раскоша фарбаў была і тады, пад Парычамі?

Арнольд Макмілін у сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры», выдадзенай у Гісэне ў 1976 годзе па-ангельску, напісаў, што Іван

Навуменка, магчыма, знайшоў менш даўгавечную тэму ў сваёй ваеннай прозе, чым В. Быкаў. У гэтым была свая праўда: быкаўская проза, не вельмі засяроджваючыся на канкрэтных рэаліях вайны, канцэнтравалася на паказе тых безвыходных сітуацый, у якія заганяла чалавека і савецкая сістэма, і вайна. Навуменкаўская проза, з яе жаданнем паказаць, як жылі беларуская вёска і мястэчка пад акупацыяй, якімі былі ўнутраныя прычыны, што прымусілі мірны сялянскі народ узяць зброю і пайсці ў лес, як склаўся лёс учарашніх маладых падпольшчыкаў і партызанаў ужо на армейскіх дарогах, пасля вызвалення ад немцаў паўднёвай Беларусі, была трошкі іншай плынню (як і многае з ваеннай беларускай прозы) — у пэўнай ступені тым струменем разважлівай спакойнай мастацкай праўды аб тым — ***як гэта было***. Хроніка «партызанкі» ў трылогіі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці» — ад развалу і адчаю, і проста страху 1941 года, калі разбегліся пакінутыя НКУС знішчальныя батальёны, калі «прызначаныя партызаны», былое раённае начальства, самі здалі сховішчы са зброяй у абмен на магчымасць мірна распаўзціся па хатах ды жонках, да трагічнага і крывавага ўздыму — ужо нізавога, народнага, 1942—1943 гадоў, зменаў у грамадскай псіхалогіі, калі просты, не надта прылашчаны ў даваенныя гады савецкай уладай чалавек зразумеў, што, якім бы там ні было перадваеннае жыццё, акупацыя — большае зло, што адседзецца па хатах не ўдасца, бо прыйшлі тыя, каму мясцовы люд патрэбны хіба толькі як рабочая скаціна, іх можна, як у свой час індзейцаў і папуасаў, забіваць, паліць цэлымі вёскамі, гнаць таварнымі вагонамі ў Нямеччыну — гэтая хроніка сапраўды была разумнай і праўдзівай, нягледзячы на тое, што Галоўліт партызанскую тэму не любіў і выразаў у кожнага, хто за яе браўся, старонкамі... Але гэты струмень праўды быў найперш актуальным для тых, па чыёй біяграфіі, дарослай, юнацкай ці дзіцячай, падкаваным ботам прайшлася вайна. Ішоў час, падрасталі новыя пакаленні, для якіх тая, ужо далёкая вайна, была гісторыяй, не сучаснасцю, як яно, зрэшты, і павінна было быць... Наіўна было б думаць, што беларуская ваенная проза 60-х гадоў, моцная і грунтоўная, са сваім, не такім ужо і сціплым у тыя гады колам чытачоў, будзе гэтак жа чытацца пакаленнем, напрыклад, 90-х. Але сваю грамадзянскую і мастацкую ролю яна выканала, пакінуўшы ў спадчыну праўдзівую мастацкую хроніку той страшнай вайны і, магчыма, прадказаўшы ў падтэксце і тыя будучыя грамадскія катаклізмы, якія ці не рэальнымі вынікамі той вайны былі абумоўленыя і толькі чакалі сваёй пары, каб узарвацца?

Але — гэта ўжо справы былых часоў. І новыя пакаленні рвуцца ў свае нябачаныя далі, і пачынае здавацца сапраўды натуральным тое,

што паціху, як і вайна, «забываюцца» Мележ, Шамякін і Навуменка, Чыгрынаў і Сачанка, дый многія маладзейшыя, з літаратурнай генерацыі 70-х... Усе тыя, хто спрабаваў пісаць ад імя свайго пакалення...

Як прафесійны выкладчык літаратуры і проста як чалавек, я заўсёды здзіўляўся таму дзіўнаму калейдаскопу літаратурнага (і не толькі) жыцця, які кардынальна змяняў свой малюнак пры кожным павароце гісторыі, хаваючы пад пластамі новых часоў імёны, творы, лёсы, традыцыі і многае іншае. Наша гісторыя апошніх стагоддзяў трагічная, думаецца, у першую чаргу, тым, што пераемнасць, повязь часоў ірвецца амаль кожнае дзесяцігоддзе. «Дзесяць гадоў,— задумліва сказаў мне ў канцы 90-х адзін з вядомых у Беларусі кіраўнікоў, калі мяне (праўда, як бізнесоўца, а не выкладчыка) і яго запрасіў у «свой» санаторый над Шчарай адзін з калгасных старшынь-дэпутатаў.— Дзесяць гадоў... За дзесяць гадоў жыццё ў нас змяняецца кардынальна. Я гэтых дзесяцігоддзяў, якія розняцца, як нашыя грошы пасляваеннага перыяду, пабачыў дастаткова.— І, падумаўшы, дадаў: — І цябе гэта таксама не міне».

Кіраўнік гэты пра тэндэнцыі айчыннага літаратурнага развіцця не ведаў і да літаратуры наагул дачынення не меў. Але яно сапраўды не мінула. Корпацца ў бібліятэках, дыхаючы пылам старых пажоўклых часопісаў, назіраць з гістарычнай дыстанцыі, як зацягвае рукатворны туман гісторыі вартыя і няўвартыя імёны, на змену ім прыходзяць новыя, каб, у сваю чаргу, зусім хутка іх пакрыла трава забыцця, было, вядома, цікава. Але ж — тое, здавалася, будзе не з намі, не з нашым жыццём, нядаўняй гісторыяй — напрыклад, з літаратурай шасцідзясятых ці васьмідзясятых. Сёння ўжо і яна цікавіць хіба навукоўцаў ды часова студэнтаў-філолагаў, якім сесію здаваць.

Цяжка паверыць і ў тое, што непазнавальна, непапраўна змяніўся выгляд пісьменніцкага дома на Карла Маркса, 36, што ніколі не будзе калядаваць на пляцоўцы Караткевіч, не спусціцца па лесвіцы няспешна, але важка — так, што ўгіналіся цэментовыя прыступкі — манументальны Брыль, не выйдзе на пляцоўку акуратненькі, у вечным чорным палітоне і чорным берэце, з палачкай, паблісківаючы акулярамі, падобны да парыжскага натарыуса Васіль Вітка, не прасунецца, ссутуліўшыся, засунуўшы рукі ў кішэні нейкай затрапезнай курткі, зверавата касячы татарскімі вачамі Адамчык, не пракоціцца па двары ў балоневым плашчыку заўсёды вясёлы Пестрак, нарэшце, не грукнуць дзверы пад'езда і не пачуецца рытмічнае, з інтэрваламі ў трыццаць секунд, ляпанне зачыняемых фортак: па лесвіцы падымаецца бацька.

А калі напрэгчы памяць — ужо дзіцячую — дык з туману праступяць постаці Глебкі, Скрыгана, Лужаніна, Мележа і філасофскага,

у паласатай піжаме, Янкі Маўра з ёмістымі афарызмамі, што ўспаміналіся насельнікамі трыццаць шостага дома пасля таго, як Маўра ўжо даўно не было.

Гісторыя пісьменніцкага дома чымсьці нагадвае айчынную гісторыю ў цэлым і гісторыю беларускай літаратуры ў прыватнасці — сённяшнім жыхарам мала справы да былых насельнікаў, як і да тых мемарыяльных дошак, што шчодра аздобілі вонкавую сцяну старога дома. Іх клапоцяць праблемы бягучага дня.

Можна было б і не бачыць у гэтым вялікай бяды. Хады жыцця не спыніць, яно ніколі надта не азіраецца на ўчарашні дзень. Толькі ж любая культура, любая цывілізацыя мае ў сваёй аснове ідэю пераемнасці, працягу спадчыны, знітаванасці з ёй. Тыя, каго я памятаю па трыццаць шостым доме — гэта не проста каларытныя, яскравыя, вясёлыя людзі. Гэта непадобныя адзін да аднаго, выразна індывідуальныя, але маштабныя творчыя постаці, роўных якім сённяшні час, пэўна, не нарадзіў, але пра якіх ужо амаль забыўся.

Мне, гарачаму аматару яшчэ са студэнцкіх гадоў літаратуры 20-х, у свой час давялося задаць бацьку пытанне: чаму айчынная літаратура, якая стварыла ў гэты перыяд багацейшы мастацкі свет, у наступныя пару дзесяцігоддзяў «правалілася» ўніз, спаўзла да банальнага пралеткультаўскага крэмзання. «Механістычная, машынная культура і культура духоўная развіваюцца па розных законах. У апошняй бываюць правалы на цэлыя стагоддзі — а потым даводзіцца пачынаць з нуля»,— далікатна адказаў бацька. Ён, ашчаджаючы маю юнацкую свядомасць, не надта быў схільны да гаворкі пра іншыя, гэтак званыя пазалітаратурныя фактары. У той размове ён згадаў Рэмарка, пісьменніка, якога любіў, мабыць, за падабенства лёсаў «страчанага пакалення» Першай сусветнай і бацькавага, выкашанага дашчэнту вайной, якога чытаў па-нямецку яшчэ з тых часоў, калі дваццацігадовым старшынёй разведроты ён знайшоў колькі кніжак забароненага ў Нямеччыне тых часоў пісьменніка ў закінутай баўэрскай сядзібе. «Я пражыў доўгае жыццё,— пісаў Рэмарк,— бачыў, як удасканальваліся машыны, як усё большымі станавіліся іхнія магчымасці, як непазнавальна змяняўся вонкавы малюнак жыцця. Ды толькі вось людзі не сталі адзін аднаму бліжэй за гэты час»,— «А твае пісьменнікі 20-х,— сумна ўсміхнуўся бацька,— гэта рэкі, якія пайшлі ў пясок».

Ці думаў ён, што праз дваццаць гадоў пасля гэтай размовы нехта не без падстаў гэткімі ж словамі зможа ацаніць плён працы і яго пісьменніцкага пакалення?

У гэтай напалову мемуарнай прадмове мне хацелася б хутчэй задаць пытанні (у тым ліку і самому сабе), чым даць адказы на іх.

Бо час навуковых артыкулаў, сухіх і аб'ектыўных, яшчэ прыйдзе, таму што так ці іначай нам давядзецца выпрацоўваць прынцыпы захавання і разумення традыцый, намываць з імклівай і халоднай ракі забыцця той залаты пясок дакладных набыткаў літаратуры, даваць ім цвёрдую і адназначную ацэнку і вызначаць канкрэтнае месца, упарадкаваць мінулае стагоддзе, як гэта зрабілі тыя ж ангельцы або французы. І гаворка не ідзе пра тое, хто вышэй, а хто ніжэй стаіць на прыступцы, яна ў тым — што стаіць за кожнай фігурай для літаратуры, для культуры, для нашчадкаў.

Што тычыцца бацькі, дык ён быў у чымсьці фігурай унікальнай для свайго часу — своеасаблівы творчы кентаўр, спалучэнне пісьменніка і навукоўца, што для беларускай літаратуры нібыта і не навіна (успомніць хоць таго ж М. Гарэцкага, нашага класіка); мы сёння можам назваць і прычыну з'яўлення гэтага феномена ў першай траціне ХХ стагоддзя — незадаволенасць агульным узроўнем і крытычнай, і навуковай думкі, а часам і адсутнасць яе. Заходнееўрапейскія літаратуры, дарэчы, на той момант ужо мінулі гэты этап, і максімум, што дазваляў сабе англійскі раманіст — гэта эсэістыка, а не літаратуразнаўчая манаграфія. Хаця ёсць і выключэнні.

У нас і дагэтуль — што ні літаратуразнаўца — то паэт або празаік, а то і разам узятае. Ніхто і не кажа, што гэта блага — тут бачыцца наша спецыфіка, культурны феномен і адначасова сведчанне нейкіх глыбінных, істотных працэсаў, праблем росту маладой яшчэ еўрапейскай літаратуры. Але раўназначнасці дзвюх асобаў — у спалучэнні з маштабнасцю і першай, і другой постаці ўсё-такі, як мне здаецца, удалося ў пасляваенны час дасягнуць толькі яму.

Хаця ацэньваў бацька сябе даволі сціпла, пасмейваўся, што калі ён — неблагі пісьменнік невялікага народу, дык няма чаго і пнуцца за нейкай прывіднай славай. Мне гэта падабалася, як падабалася ў гады аспірантуры і пісьменніцкая сціпласць К. Крапівы ў размовах са мной, бязвусым дысертантам — гэта была пазіцыя разумнага чалавека, які — з вышыні пражытага — вельмі мала цаніў той факт, што ён пісьменнік, які адбыўся. З іншага боку, бацька падкрэслена заставаўся ўбаку ад тых інтрыгаў і чынадральскіх гульняў, якіх у тагачасным Саюзе пісьменнікаў ставала; і Акадэмія навук, і Інстытут літаратуры імя Я. Купалы ўяўляліся яму, відаць, больш прыстойным светам, адухоўленым навуковым пошукам,— ён з нашмат большым задавальненнем працаваў з той выдатнай, але ж і канфліктнай, калючай кагортай навукоўцаў-гуманітарыяў, якія тады працавалі ў акадэмічных інстытутах. Як яшчэ раней — на ўніверсітэцкай кафедры. Мяркую, што і тут прасочваецца сумная аналогія — і акадэмічная навука, і ўніверсітэцкія кафедры таго

часу былі непараўнальна вышэйшыя за сённяшнія, і дзякуй Богу, што ёсць яшчэ магчымасць набраць тэлефон на «284» і папрасіць Міхася Іосіфавіча Мушынскага пракансультаваць маладую амбітную аспірантку. Шкада будзе, калі і гэтыя рэкі пойдуць у пясок.

І яшчэ адна важкая рыса — натрапляючы ў апошнія гады свайго жыцця на мемуары, дзе ўчарашнія аматары сакратарскіх партфеляў і прэміяў, аказваецца, толькі тым і займаліся ў савецкі час, што адважна і апантана змагаліся за нацыянальную культуру, а для большай пераканаўчасці гэтага сумнiўнага тэзіса шчодра палівалі брудам калегаў па пісьменніцкім цэху, жывых і мёртвых, не шкадуючы і такіх трагічных волатаў, як Крапіва і нават Колас, не кажучы ўжо пра бацьку, ён ставіўся да гэтага досыць раўнадушна, не маючы ніякага жадання ўступаць ні ў палеміку, ні ў спрэчкі. «Я ведаў ім цану і раней,— казаў ён.— І бачу, што не памыляўся». Больш разгорнутых ацэнак, больш эмацыянальных рэакцый — не было.

А ўсё ж — не ўпісалася ні гэтае, ні наступнае («сямідзясятнікі») пакаленне ў сваю сучаснасць. Ці то сучаснасць была нейкая не такая, ці то прычына ў іншым... «Мы, франтавікі, ніколі б не дапусцілі таго, што зрабілі з пасляваенным жыццём. Прадзерліся да Берліна, выйгралі такую вайну, паглядзелі, як жыве тая ж Чэхія, немцы — каб зноў пазаганяць людзей у нішчымныя калгасы, у гарадскія катухі, сядзі ціха і толькі вякні... Але колькі вярнулася з той вайны... З майго класа — чатыры чалавекі...» — некалі пачуў я ад бацькі зноў жа скупую фразу. Адчуванне ўнутранай неўладкаванасці ёсць, бадай, у кожным празаічным творы пра сучаснасць, напісаным у 60—70-я гады, гэта пацвердзіць кожны, хто добра ведае тую прозу.

Я разумею, што вайна для бацькавага, дый трохі маладзейшага пакалення, была і яшчэ тым вельмі асабістым, без чаго ніколі не запаліцца няўлоўная іскра мастацтва, якая прысутнічае ў сапраўднай літаратуры незалежна ад таго, у якой стылёвай манеры ты пішаш, якія ў цябе эстэтычныя прыярытэты або ідэйныя погляды... Але была і іншая прычына. Так, вайна як тэма стала ў пэўнай ступені выратаваннем літаратуры пасля дваццаці гадоў мёртвага штылю — і адначасова сведчаннем пазнейшага крызісу, у тым ліку і сённяшняга. Бо ацэньваць сучаснасць у беларускай літаратуры — справа рызыкоўная, і лёс літаратараў 20-х грозным прывідам стаяў для пасляваеннага пісьменніцкага пакалення — яны мусілі памятаць, чым заплацілі іх папярэднікі за падкрэсленую ўвагу да сучаснасці. Мала хто будзе спрачацца з тым, што другая палова 1950-х — ажно па 1980-я — калі не залаты, дык сярэбраны век для беларускай прозы. Але хто здолее назваць дзясятак твораў гэтага перыяду, у якіх глыбока і ўзважана адбілася ***тая рэчаіснасць***? Не рэтраспектыва, не вайна, не калектывізацыя?

Ці разумелі ўсё гэта яны — жыхары трыццаць шостага дома? Безумоўна, як разумелі ўсё і пісьменнікі 1920—30-х. Спроба пераадолець гэты крызіс у творчасці бацькі мне бачыцца ў ягоным імкненні «схапіць» затуханне правінцыі, пазбаўленага глебы і перспектывы чалавека «з глыбінкі». Ён прадбачыў і будучую дэвальвацыю нораваў — магчыма, аб’ектыўную — у «Інтэрнаце на Нямізе». Бачыцца мне і патаемнае жаданне рэабілітавацца перад сабой за бяздумную маладосць («Мы загубілі прыгожы сялянскі свет»,— фраза, якую ён паўтараў часта) у напісаным у 90-я «Дзяцінстве». Хаця віна ягонага пакалення ў рассяляньванні была, уяўляецца, не такой ужо і вялікай. А яшчэ — да самага канца ён настойліва імкнуўся данесці праўду ваеннага пакалення, якая і якое станавіліся ўжо не надта і патрэбнымі, бо памяць вайны даўно, яшчэ ў савецкія гады стала як бы рытуалам, пампезным звонку і не надта кранальным для тых, хто гэтай вайны не бачыў...

Жыццё хуткаплыннае — гэтую банальную ісціну кожнае пакаленне мусіць адкрываць нанова. Даўно ўжо не сцелецца тая покрыўка пад тымі соснамі. Няма каму. Ды і я ўжо не той хлапчук, што сядзеў на яе краі. Новыя постаці, новая эстэтыка, новыя рытмы. Але міжволі параўноўваючы ўчарашняе і сённяшняе, мусіш адзначыць — было нешта такое ў тым пісьменніцкім пакаленні, што дазволіла ім пакінуць непараўнальна больш, чым пакінем мы. Ва ўсім. У жыцці, у літаратуры і ў памяці.

А тыя сосны пры лясной дарозе стаяць. Заязджаў сёлета — павітацца.

*Павел Навуменка.*

# 1954

## МІШАЎ КАЛЕЙДАСКОП

Мішу Болбуту далі падрыхтоўку на лета адразу па двух прадметах — па рускай і беларускай мовах. Лета было ўжо на зыходзе, ужо і школу адрамантавалі для новых заняткаў, а за граматыкі Міша ўсё яшчэ не браўся. Ды не вельмі і возьмешся, калі ў садзе, у дзеда Анісіма так рана паспелі сёлета бэры і жытнікі. Ясі — ледзь язык не праглынеш!

Нялёгка было ўлезці да калгаснага садавода ў давер'е: спачатку дзед сустрэў Мішу не надта ветліва.

— Дык, кажаш, дапамагаць хочаш, на садавода думаеш падавацца? — прыжмурыўшы вока, перапытаў ён.— А я чуў, што пераэкзаменоўку табе далі. Мусіць, лайдачыць любіш...

— Ды не, дзедка!.. Граматыку я даўно... назубок вывучыў. Спытайце, калі не верыце, у Галіны Мікалаеўны.

Адным словам, Міша трапіў у часовыя памочнікі да калгаснага садоўніка. Невялікая работа вынесці з саду колькі вязанак сухога вецця, якое зразае на дрэвах крывым нажом дзед Анісім, затое яблыкаў можна есці — хоць распеbecause. Але яблыкі яблыкамі, а два экзамены на восень — не жартачкі! З'еш хоць мільён яблыкаў, але ад гэтага ў галаву табе не ўлезе, дзе ставіць коскі, а дзе — працяжнікі. Галіна Мікалаеўна не дзед Анісім, яе не ашукаеш!.. Хіба толькі што-небудзь такое прыдумаць, каб Мішаў аўтарытэт адразу вырас. А калі доўга над чым думаеш, дык абавязкова дадумаешся...

Аднаго разу Мішу напаткала шчаслівая ідэя. «Што, калі напісаць верш дый паслаць яго ў рэдакцыю? Пашанцуе, дык

надрукуюць... Тады Галіна Мікалаеўна адразу ўбачыць, што Міша Болбут можа дамагчыся значна большага, чым расставіць у дыктанце коскі і працяжнікі».

Жывое пацверджанне свайму намеру Міша бачыў у асобе Ціхона Салавейчыка, іхняга ж хлапца, які ўжо зрабіўся паэтам. Не шмат гэты Ціхон і вучыўся: закончыў толькі сямігодку. Але адзін надрукаваны яго верш Міша сам бачыў. Акрамя гэтага, Ціхон меў яшчэ цэлы жмут новых вершаў і, можа, з сотню адказаў з рэдакцый. А калі з чалавекам размаўляюць,— значыць, ён варты таго!

Цэлы дзень Міша хадзіў задуменны, нават не пайшоў у сад да дзеда Анісіма. Ён вырашыў апісаць свой калгас. З гэтай прычыны сходзіў ён на поле, паглядзеў, як працуе там камбайн, пабываў і на сенажаці. А вечарам, калі сеў пісаць, пачало яго нават трэсці, як у ліхаманцы, што лічыў ён амаль абавязковым для сапраўднага паэта. Міша адчуваў, што верш у яго атрымліваецца і атрымліваецца выдатна. «Дружная праца» — размашыста напісаў Міша загаловак. І далей з-пад яго пяра пацякло:

Мы працуям смела
Мы працуям дбайна
Песній зазвінела
Праца на камбайні
Йдзе машын размова
Што аж стогнуць нетры
Пасвяцца каровы,
На свежым паветры,
А на сенакосі
Гоман, шум вясёлы
Звоняць песню косы
Для нашай жывёлы.

Калі Міша скончыў пісаць і, набраўшы поўныя грудзі паветра, голасна прачытаў верш, то прыйшоў к вываду, што апісаў амаль усё, што робіцца ў іхнім калгасе. І напісаў не горш за таго самага Салавейчыка, надрукаваны верш якога ён добра памятае. Дрэнна хіба толькі з коскамі і працяжнікамі. Але ў рэдакцыі разбяруцца... Самае галоўнае, каб быў верш...

Дзеля падмацавання веры ў поспех Міша прачытаў назаўтра свой верш Саўку Гвазду, які зранку аціраўся каля саду, але

трымаўся воддаль, бо дзед Анісім меў з ім нейкія рахункі. Апрача таго, Гвозд лічыў сябе памочнікам кінамеханіка, ні разу не купляў білета ў кіно, а таму, на думку Мішы, быў паважнай і сур'ёзнай асобай у вёсцы. Праўда, Саўка не адразу згадзіўся выслухаць верш. Ён спачатку цвыркнуў слінай праз плячо і наважыў было рушыць прэч. Але Міша вынес яму два яблыкі, і тады Гвозд, зрабіўшы сур'ёзны твар, сеў каля плота.

— Па-мойму, здорава! — жуючы яблык, сказаў Саўка, калі Міша скончыў чытаць і чакаў ацэнкі.

У той жа дзень верш быў адасланы ў рэдакцыю. Праз тыдзень Міша наўмысля зайшоў у паштовае аддзяленне, хаваючы ў сэрцы надзею, што верш надрукаваны і работнікі аддзялення ўжо ведаюць пра гэта. Але там яго нават не заўважылі. Заходзіў Міша на пошту і другі раз, і зноў тое ж самае. Ён павесіў было нос і збіраўся з роспачы засесці за граматыку, але вырашыў дзён са тры пачакаць яшчэ.

Нарэшце ліст з рэдакцыі прынеслі. Міша борздзенька разарваў канверт. Там было аж два аркушы, ды яшчэ надрукаваныя на машынцы.

«Паважаны таварыш Болбут! — пісалася ў лісце.— Рэдакцыя атрымала ваш верш. Але ён недасканалы яшчэ ў многіх адносінах: вы не навучыліся яшчэ ўвасабляць свае пачуцці і думкі ў яркіх мастацкіх вобразах; ваша паэтычная інтэрпрэтацыя мае сур'ёзныя хібы — адсутнічае ў вас цэльнасць успрымання навакольных падзей у іх жыццёва-мастацкім адзінстве. Вы пішаце пра «машын размовы» і побач вядзеце гутарку пра кароў, а вядома ж, што каровы не з'яўляюцца тэхнікай... Ваша паэтычная задума не сцэментавана адзінствам ідэі і мастацка-выяўленчых сродкаў. Таму ваш твор уяўляе сабой кангламерат разнастайнай думкі, калейдаскоп шчырых, але слаба выражаных пачуццяў...» — «Настойліва вучыцеся паэтычнаму майстэрству,— было ў канцы пісьма.— Чытайце класікаў, бярыце з іх прыклад». Унізе стаяў подпіс: «Літкансультант Аркадзь Варонка».

«Не надрукуюць»,— толькі і зразумеў Міша з ліста. Настрой яго адразу апаў, бо ўперадзе ён не бачыў нічога вясёлага. Перачытаўшы ліст спачатку, Міша запыніў сваю ўвагу на словах «кангламерат» і «калейдаскоп». Што яны азначаюць,

ён не ведаў. У Галіны Мікалаеўны таксама не спытаеш. Граматыка не дазваляе...

І Міша наважыў распытаць дзеда Анісіма, хоць і не дужа верыў, што той ведае сэнс гэтых слоў.

Дзед Анісім быў чымсьці якраз нездаволены. Але над Мішавым пытаннем задумаўся.

— Калейдаскоп, кажаш?..— перапытаў ён.— Гэта, мусіць, той струмант, што бацылаў разглядаюць: маленькая падзорная труба, адным словам...

— Эге, не туды загнуў, дзеду,— перабіў яго Міша.— На бацылаў мікраскоп ёсць, а падзорная труба...

— Вось як! Вучыць яшчэ надумаўся!.. Марш з саду! — ускіпеў раптам дзед.— З-за яго мяне настаўніца сароміць: адарваў, моў, вучня ад заняткаў, у яго пераэкзаменоўка, а я яго да саду далучыў... А што ты мне казаў? Хлусіў... Каб духу твайго больш не было тут!.. Ідзі сам перш навучыся, прафесар-садавод...

Дзед сярдзіта адвярнуўся і пакрочыў у глыб саду.

Міша, разгублены, стаяў на месцы.

*1954*

# 1955

## ВЯСНОВЫЯ ПРАТАЛІНЫ

### I

Галінка рабіны ўсю ноч біла ў шыбу, у коміне плакаў вецер, грукала непрывязаная аканіца. Мікалай Аляксеевіч не спаў, хоць вярнуўся на кватэру стомлены і прамоклы да ніткі. Учора яны разам з загадчыкам фермы Цімохам Збанком аблазілі ўсё Зарэцкае і ні да чаго пэўнага не дадумаліся. Дарогу да Мядзведкі расквасіла зусім — ні на санях па ёй, ні на калёсах. А за Мядзведкай — цэлае возера, хоць садзіся на лодку і шыбуй прама на Курган, дзе скіданы стагі. Можа, і прывязеш тады сена — у лодцы...

Збанок мітусіўся, лез у самую ваду, а пасля ў яго высокіх гумавых ботах чвякала ўсю дарогу. Гэтае чвяканне больш за ўсё выводзіла з цярпення Мікалая Аляксеевіча, і ён ледзь стрымліваўся, каб не змяшаць Збанка з граззю. Хацелася спытаць Збанка, чаму ён не праяўляў сваёй руплівасці тыдзень назад, калі праз Мядзведку ляжала добрая санная дарога і ўсё сена можна было вывезці за тры дні. І яшчэ было вострае жаданне пацікавіцца, ці ўдалася самагонка ў Краўцовай Алены, якой ён, загадчык фермы Збанок, штодня выводзіў палачкі ў табелі і якая з’яўлялася на рабоце гады ў рады.

Пра Аленіны працадні Мікалай Аляксеевіч даведаўся гэтымі днямі, калі ўсё яно і само выплыла наверх. Адсюль вынікала горкая і балючая праўда, што ён, новы старшыня, за гэтыя тры месяцы сваёй работы нічога людскага ў калгасе не зрабіў. Чым ён лепшы за Канапляніка, якога змяніў і якога сам лаяў на справаздачна-выбарчым сходзе? Ну, Канаплянік піў га-

рэлку, быў нячысты на руку, па тыднях не бываў у праўленні, рабіў розныя агіднасці, ведаючы, што рана ці позна яго вясёлыя дзянькі скончацца. Ён, новы старшыня, не п’е гарэлкі, сядзіць крукам у праўленні, ужо другі месяц складаючы разам з рахункаводам перспектыўны план развіцця калгаса. А якая розніца паміж Канаплянікавым і яго кіраўніцтвам? Невялікая, калі зайсці на ферму і паглядзець, што там робіцца.

Учора зранку Мікалай Аляксеевіч заглянуў на ферму і жахнуўся. Сена выйшла зусім. У кармушкі панакідана леташняе аб’еддзе, якое толькі што пасцягвалі з вышак.

Старшыня доўга мясіў гной, ідучы з хлява ў хлеў, усё больш набіраючыся злосці. Вазьмі цяпер з гэтага самага Збанка, які, утуліўшы голаў у плечы, паслухмяна і пакорліва клыпае ззаду. Сена можна было вывезці з Кургана. Але Збанок не разлічваў, што ў сярэдзіне студзеня гэтак распусціць.

— Дык што рабіць будзем? — звярнуўся старшыня да жывёлаводаў.— Самі вінаваты. Давайце цяпер самі ратунку шукаць.

— Няхай праўленне самалёт купіць, можа, тады і падступімся да Зарэцкага,— кінуў нехта невясёлы жарт.— Гавораць жа, што цяпер вы там дзень і ноч нейкія планы складаеце...

У групе пракаціўся смяшок, а Мікалай Аляксеевіч адчуў, як чырвань апякла твар, а ў грудзях затахкала сэрца. З хвіліну ён не мог прамовіць і слова.

— Часаць языкі і калгас развальваць я нікому не дазволю! — крыкнуў старшыня.— Няхай Збанок вінаваты, няхай старшыня, а вы дзе былі? Хто з вас прыйшоў у праўленне і сказаў, што трэба падвезці пабольш сена? На дзядзьку спадзяваліся?

— А ты не крычы! — з гурту рванулася нізкая, з пабітым воспаю тварам даярка Сынклета Крывіцкая.— Вінаватых вы ўсе шукаць умееце.

Яна ўзяла рукі ў бокі і ўшчыльную падступіла да Мікалая Аляксеевіча, матнула нагой. Стары, разлезлы галёш сарваўся з Сынклецінай нагі і ляснуўся аб сцяну хлява.

— Палюбуйся, новы старшыня, якую спяцоўку выслужыла Сынклета Крывіцкая за два гады на ферме. Колькі даў бы ты за гэтую спяцоўку ў кірмашовы дзень? Ну, гавары!..

З абшарпанай, падвязанай хусткай Сынклецінай фуфайкі шэрымі касмылямі лезла вата, на нагах у жанчыны былі вялікія разлезлыя галёшы.

— Чаго ж ты маўчыш, старшыня? — наступала Сынклета.— Ці, можа, першы раз мяне ўбачыў такую прыгожую ды харошую? Дык як ты думаеш, добра мне плаваць па гразі ў такім абутку? Крычаць дык ты, мабыць, умееш, пачулі ўжо, дзякуй богу, а дзе бачыць трэба, дык табе і вочы засланіла...

Першы раз за час сваёй работы ў калгасе апынуўся Мікалай Аляксеевіч у такім недарэчным становішчы. Абыходзіцца з людзьмі ён, здаецца, умеў, а тут, на табе, сарваўся... Старшыня не ведаў, што рабіць.

— Няма пра што гаварыць,— пачуўся з гурту па-дзявочаму звонкі голас цялятніцы Ганны Хведасюк.— Ведаеш жа, Сынклета, якое багацце ў нас, дык чаго артачыцца лішне. Хамута добрага на ўсю ферму няма, а табе спяцоўка. Які пан, такія і халявы. Парадак трэба спачатку навесці...

Мікалай Аляксеевіч, які нарыхтаваўся ваяваць, адразу абмяк. Разам загаманіў увесь гурт, людзі перапынялі адзін другога. Выйсце было толькі адно — вазіць сена з другой брыгады, з Выселкаў. Гэта восем кіламетраў у адзін толькі канец, па бездарожжы. На пабітую аўтамашыну, якая паўгода ўжо стаіць на прыколе, разлічваць не прыходзіцца...

Усю гэтую ноч Мікалаю Аляксеевічу не давала спакою неадступная думка: у чым ён памыліўся? Учарашняя размова на ферме пакінула прыкры, горкі ўспамін. У вачах паўставаў абшарпаны ўбор Сынклеты Крывіцкай, рэзаў вушы яе ўедлівы голас. Так, пра спяцоўкі жывёлаводам трэба было падумаць раней. Але ці яго гэта віна? Ён жа прыняў спадчыну, горш якой не знойдзеш. Рахункі ў банку арыштаваны, грошай ні капейкі, растуць працэнты на пазыку, якая не пагашалася з таго часу, як яе ўзялі. Сабралі за гэтыя месяцы лічаныя капейкі, і паспрабуй імі заткнуць усю прорву. Не трэба было пакідаць Збанка загадчыкам фермы. Які з яго загадчык? Баламут нейкі, сем пятніц на тыдні ў яго. Але каго паставіць на месца Збанка?

Галінка рабіны раз-пораз біла ў акно, грукала аканіца, і Мікалай Аляксеевіч ніяк не мог заснуць. За перагародкай на печы вохкала ў сне гаспадыня бабка Ульяна, са стала скокнуў

стары гультаяваты кот, які, відаць, у гэты позні час шукаў сабе спажывы.

Крычаць учора, вядома, не варта было, крыкам справе не пасобіш. Але ў глыбіні душы старшыня быў пакрыўджаны на калгаснікаў. Яго, выходзіць, не разумеюць. Учора падкалоў нават нехта: дзень і ноч седзіцё ў праўленні, усё планы складаеце... Іменна з плана і хацеў пачынаць ён, новы старшыня, і ніхто ніколі не саб'е яго. Яшчэ працуючы аграномам абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі, Мікалай Аляксеевіч абдумаў усе тыя захады, якія зробіць ён, прыехаўшы ў калгас. Першая справа, вядома,— план, гэта ж відаць і сляпому.

Як аграном, Мікалай Аляксеевіч добра бачыў тыя недахопы, якія ўкараніліся ў гаспадарцы. Зямля неблагая, і многа яе, але догляду гаспадарскага не было. Сеюць без гною. Зямля запушчана. Перад яго прыездам, нібы на смех, трэці раз узапар пасеялі жыта па жыце. Якая ўжо тут, к д'яблу, агратэхніка. Але чаму так? Шкодніцтва? Якое там шкодніцтва. Самая звычайная абыякавасць, якая горш за шкодніцтва. Шкодніка можна за каўнер ды ў турму. А тут і кіраўнікі, і людзі, бадай, прызвычаіліся да думкі, што як ні рабі, а з прорвы не вылезеш.

З чаго ж пачынаць работу ў такіх умовах, як не з плана? Не абяцаць ніякіх малочных рэк, а сказаць проста і ясна: давайце працаваць... Толк будзе...

Пад раніцу ўжо ў памяці старшыні ўсплыў худзенькі тварык Ганны Хведасюк. Да Мікалая Аляксеевіча толькі цяпер дайшло, што гэта яна сваім умяшаннем спыніла ўчора непажаданую для яго размову.

«Ганну Хведасюк трэба прызначыць загадчыцай фермы,— прыйшла раптам ясная думка.— Гэтая выцягне...»

Гаспадыня прачнулася ўжо і бразгала чыгункамі. Мікалай Аляксеевіч наважыў заснуць і накрыўся коўдраю з галавой.

## II

Студзеньская адліга была нядоўгай. Падзьмулі злыя сіверы, Мядзведку скавала зноў, і, мабыць, надоўга ўстанавілася сухое, марознае надвор'е. Раніцамі з комінаў вясковых хат узнімаліся ў халодную сінечу неба прамыя шызыя слупы дыму. Вясёлыя вераб'і не падавалі голасу і хаваліся ў застрэшшах. Толькі на

Мядзведцы было шумна. З ранку да вечара па люстрана-зялёнай гладзі Мядзведкі коўзалася дзетвара. Шустрыя хлопчыкі ў расхлістаных кажушках не прапускалі ніводных саней. Яны чапляліся ззаду і, расчырванелыя, здаволеныя, гатовы былі імчацца так да самага Кургана. Дзядзькам, што ехалі па сена, прыходзілася раз-пораз здымаць важкія рукавіцы з адным пальцам і брацца за пугі.

Збанок стараўся, шчыраваў. Ён занараджваў цяпер усе падводы, якія былі ў калгасе, і адпраўляў іх па сена. Старшыня проста не разумеў, чаму ў Збанка раптам з'явіўся такі спрыт.

Халодным зімовым вечарам быў склікан агульны сход, на якім старшыня хацеў пазнаёміць калгаснікаў з перспектыўным планам і атрымаць іх адабрэнне.

Людзі на сход збіраліся даволі дружна. Адчыняліся і зачыняліся дзверы, і разам з белымі клубамі марознага паветра ў школу заходзілі калгаснікі. Больш за ўсё прыйшло мясцовых, шчаўроўскіх. З Выселак і Зазыбаў, дзвюх далёкіх ад цэнтра вёсак, прыйшлі амаль адны толькі мужчыны.

За сталом у чырвоным дубленым кажусе сядзелі выселкаўскі брыгадзір Лявон Гарнастай, доўгі, як жардзіна, рахункавод Пятро Кавалеўскі і яшчэ некалькі калгаснікаў. Збанок у прэзідыум не сеў, ён, мабыць, прачуў ужо, што яго будуць здымаць.

Першым па парадку якраз і стаяла пытанне аб жывёлагадоўлі. Мікалай Аляксеевіч устаў і расказаў пра безгаспадарчасць Збанка, пра тое, што ён п'е, незаконна прыпісвае працадні. У канцы старшыня паведаміў, што праўленне наважыла зняць Збанка з работы, а загадчыкам фермы прызначыць Ганну Хведасюк.

З тым, каб зняць Збанка, згадзіліся ўсе.

На прапанову аб прызначэнні загадчыцай фермы Ганны Хведасюк сход адказаў прытоеным маўчаннем. Гэта ў першую хвіліну збіла Мікалая Аляксеевіча з панталыку. Ён стаў таропка даказваць, што праўленне ведае Ганну як добрую работніцу, што ёй будуць памагаць...

— Не хвалі ты нам Ганну,— пачуўся ззаду голас Сынклеты Крывіцкай.— Мы яе лепш за цябе ведаем. Ты скажы, што ёй з дзецьмі рабіць. Хіба за хвост сабе прывяжа?

Над сталом падняўся на ўвесь свой доўгі рост рахункавод Пятро Кавалеўскі.

— Пасядзяць дома дзеці,— крыкнуў ён густым басам.— Не маленькія...

— Хату падпаляць,— не здавалася Сынклета.

Пятро ўхапіўся, нарэшце, за самы галоўны козыр. Ён паведаміў, што для ўсіх, хто працуе цяпер на ферме, закуплена спецвопратка — ватнікі, гумавыя боты — і што заўтра ўсё гэта можна атрымаць на складзе. Зала прыціхла, а рахункавод з выглядам пераможцы паглядзеў на старшыню, хоць сам жа першы праціўіўся, каб выдаць апошнія грошы на гэтую пакупку. Ганну Хведасюк прызначылі.

— Садзіся за стол, ты ж цяпер начальніца,— параіў ёй той жа рэзкі Сынклецін голас, але жанчына, пачырванелая і збянтэжаная, не кранулася з лаўкі і толькі нервова перабірала пальцамі махры суконнай шэрай хусткі.

Затым выступіў Мікалай Аляксеевіч. Ён акінуў позіркам залу: толькі на некалькіх першых лаўках сядзелі пераважна мужчыны, далей жа ўсюды былі хусткі і касынкі. Старшыня гаварыў проста, спакойна, па памяці называў урочышчы. Гэта, відаць, людзям падабалася.

А калі старшыня пачаў называць лічбы, па зале папаўзлі спачатку ціхія перашэпты, а потым і прыглушаная гамонка.

Апошнюю, самую галоўную частку плана старшыня даводзіў сходу, калі жаночая палавіна залы гаманіла ўголас. Дарэмна Пятро Кавалеўскі падымаўся над сталом, барабаніў тоўстым чырвоным алоўкам па графіне, заклікаў жанок да парадку. Яны на хвіліну сціхалі, але потым зноў цягнуліся галава к галаве і зноў горача гаманілі пра сваё, жаночае.

Мікалай Аляксеевіч, нарэшце, скончыў, і зала сціхла. Жанкі чакалі, што будзе далей.

— Калі салому раздаваць будуць? — устала з месца Сынклета Крывіцкая.— Канаплянік абяцаў перад зімой па дварах развезці, а новы старшыня як вады ў рот набраў. Сэрца ўсё збалелася: у хлеў зойдзеш, а карова калоціцца, як асінавы ліст. Ляжыць жа цэлую ноч на гнаі; сама б, здаецца, пад яе легла...

— Пачакай, цётка Сынклета, пра салому потым,— забарабаніў аб графін Пятро Кавалеўскі.— Мы спачатку план павінны абмеркаваць.

— Пакуль той план, дык карова акалее!..

У зале зноў загаварылі, і з гэтай рознагалосай жаночай

гамонкі нельга было разабраць ні слова. Кожная старалася давесці сваё. Але рахункавод быў, відаць, прызвычаены да такіх рэчаў. Ён стаяў над сталом, барабаніў аб графін алоўкам і цярпліва чакаў, пакуль пройдзе гэты націск жаночай красамоўнасці. Ён такі дамогся свайго. Жанкі паступова сціхлі, і тады слова ўзяў сам рахункавод. Ён гаварыў пра тое, што і старшыня, толькі па-свойму. Пятро называў калгаснікаў па прозвішчах, успамінаў, колькі атрымалі яны на працадні летась і пазалетась, і паведаміў, што атрымаюць у гэтым годзе, калі гаспадарка будзе весціся па намечаным плане. Рахункавода слухалі. Услед за ім выступіў Лявон Гарнастай. Яны ўдвух досыць добра давялі сходу тое, што з-за шуму не здолеў давесці старшыня.

Са школы Мікалай Аляксеевіч, рахункавод і Лявон Гарнастай выйшлі апошнімі. Трашчалі ад цэпкага марозу парканы, у небе зырка мільгацелі на дзіва ясныя і чыстыя зоркі. Сям-там у вокнах свяціліся агні. Закіданая снегам, прыціхлая вёска ў гэты паўночны час здавалася прыгожай.

— Ну, добра, пайду дамоў.— Старшыня падаў руку рахункаводу і брыгадзіру.— Заўтра ў раён трэба.

— Пастой, Мікалай Аляксеевіч.— Брыгадзір затрымаў старшынёву руку.— Ты, брат, нешта раскіс. Можа, пра сход думаеш? Сход, канешне, не вельмі выдатны, але лепшых у нас даўно не было. Гэта ж табе не ў гарадскім тэатры — пазваніў у званочак і гавары па рэгламенце.

— Галава нешта баліць, выспацца трэба,— паскардзіўся старшыня.

Ён наставіў каўнер і таропка рушыў у кірунку сваёй кватэры.

Брыгадзір з Пятром Кавалеўскім яшчэ крыху пастаялі на вуліцы, а потым рашуча павярнулі да рахункаводавай хаты.

— Добры хлопец, хоць і малады,— сказаў Лявон Гарнастай.— Толькі дзікаваты ці фанабэрысты.

— У бухгалтэрыі ён разумее,— зазначыў рахункавод.— А чаго ён наогулварты — пабачым...

За апошні тыдзень Мікалаю Аляксеевічу прыйшлося аж два разы з’ездзіць у раён. Ад Шчаўроў да раённага цэнтра, калі ехаць шляхам, было, бадай, цэлых сорак кіламетраў. Але цяпер, зімой, гэтая адлегласць, дзякуючы Мядзведцы, вёрст на

восем скарачалася. Там, дзе шлях, мінаючы балоты, даваў ладны крук, па Мядзведцы можна было ехаць напрасткі. Атуленая хмызнякамі і трысцём, Мядзведка не падавала ніякіх адзнак жыцця. Толькі калі выедзеш на гала, дзе алешыны і кусты не абступаюць рэчку, там снег не трымаецца на люстранай паверхні лёду, а рэчка не хоча паддавацца марозу. У гэтым месцы вада ўздувае лёд, робіць палонкі, з якіх у марозныя дні валіць белая пара. Летам тут круцяць віры, і самыя спрытныя плыўцы не адважваюцца тут купацца. Дзядзькі добра ведаюць гэтае месца, і там, дзе рэчка робіць круты паварот, вырываючыся з трысця і алешніку, яны выязджаюць на бераг і вярсты дзве едуць проста па полі.

Вознік Баніфацый Міцкевіч пад’ехаў да старшынёвай кватэры яшчэ на золаку. Гэты маўклівы, пануры з выгляду чалавек падабаўся Мікалаю Аляксеевічу. У час паездкі яны ўсю дарогу маўчалі і думалі кожны аб сваім. Баніфацый нязменна вазіў дзяружку, каб старшыні было чым ухутаць ногі. Сам ён адну нагу хаваў пад сена, а другую — на дзеравяшцы — нібы на паказ ускладаў на драбінку вазка.

— Дзе вам нагу адцялі? — спытаў аднойчы Мікалай Аляксеевіч.

— Пад Нарвай,— спакойна адказаў Баніфацый.— На міну натрапіў.

Яны зноў з паўгадзіны ехалі моўчкі.

— Хто гэта назваў рэчку Мядзведкай? — пацікавіўся Мікалай Аляксеевіч, калі яны пад’ехалі да павароту, дзе трэба было ўзбірацца на бераг.— Добрая Мядзведка, калі яе і марозам не праймеш...

— Рэчка быстрая,— згадзіўся Баніфацый.— Дзед мой мне малому казаў, што тут некалі мядзведзі вадзіліся. Можа, і назва ад гэтага. А вёрст за дваццаць адсюль вёска Мядзведзічамі завецца, там гэтая ж рэчка цячэ. Добры калгас там, у Мядзведзічах,— апошнія словы Баніфацый прамовіў з непрытоенай зайздрасцю.

— А наш дрэнны? — запытаў старшыня.

— Дрэнны. Горшага, мабыць, і няма ва ўсёй вобласці. Яшчэ Хаўратовічы на нас паглядаюць. Можа, сустракалі, іх старшыня, як і вы, на санях у раён прыязджае.

— Сустракаў.— Мікалай Аляксеевіч на гэты раз прадчуваў,

пра што будзе гаварыць яго маўклівы вознік.— А хто ж вінаваты, што дрэнна ў нас?

— Хто яго ведае,— з хвіліну памаўчаўшы, адказаў вознік.— Прычын многа розных. Людзі не ў той бок паглядаюць, бо заробак, сказаць па праўдзе, нецікавы. Я вось цэлы год Канапляніка вазіў, вас цяпер важу, коней даглядаю, ды і жонка сяды-тады выходзіла. Атрымалі ж мы не надта — дванаццаць пудоў збажыны авансам. Я так лічу, што гэты аванс і на канчатковае выйдзе. Мне на бок падацца нельга, а хто сілу мае, той на калгас не глядзіць. За ўсякую халеру хапаюцца, абы-дзе капейку ўрваць. На падсочку ідуць, смалу гоняць, грыбы вараць, на цагельні гліну месяць, а зямля, як бог дасць. Мая жонка і то іншы раз пілуе: ты б, кажа, лепш лыжкі стругаў ды цабэркі збіваў, і то б карысць была большая...

— Дык як жа вы дапусціліся да такога развалу? — не вытрымаў Мікалай Аляксеевіч.

— А так вось і дапусціліся. Да вайны калгас наш быў ніштаваты, у сілу ўбіраліся. І я нават як конюх на выстаўку ў Маскву з’ездзіў. Пры немцах, самі ведаеце, гаспадарка зруйнавалася, ад вёскі адны галавешкі засталіся. Гадоў тры ці чатыры будаваліся. Старшыня ў нас тады з галавой быў — Сініцкі. Ён у «Плодагародніне» цяпер загадчыкам. Дык зноў не пашанцавала — хварэць стаў старшыня, у раён папрасіўся. Прыслалі другога нам старшыню, таксама някепскі быў чалавек, але вельмі ўжо слабахарактарны. І ўраджай у нас быў той год лепш не трэба. Едзеш па полі і душа радуецца — жыты, аўсы, ячмяні зямлю рвуць. Я ўжо думаў: ну, дзякуй богу, выб’емся ў людзі. Але, як гавораць, не пераскочыў — не кажы гоп. Скруцілі нашага старшыню з яго характарам у дзве столкі.

— А вы куды глядзелі? — спытаў старшыня.

— А туды і глядзелі... Быў ён, Махнач, слабы характарам, я ўжо гаварыў. Ну, той яго пакліча ў хату, чарку дасць, другі пазаве. А ён і не п’яніца быў, а адмовіцца не ўмеў. А людзі ж розныя ёсць — адзін з адкрытай душой частуе, а другі даўно ўжо вылічыў, што за гэтую чарку прыбудзе ў яго хаце. Каб хаця ён з разборам хадзіў, гэты Махнач. А то глядзіш — пасядзіць у якога-небудзь тарбахвата, што ад работы туляецца, як сабака ад мух, а той назаўтра воз мурагу вязе. А сумленным людзям

крыўдна: працуй, чакай, пакуль табе ў канцы года што-небудзь на працадні перападзе. Так і пайшло — адзін хапае, другі хапае. А тут і раён яшчэ памог. Выканаў наш калгас пастаўкі, здаў натураплату. У раёне бачаць — цягне. На табе яшчэ адну норму, выканай за тых, што пакуль не намалацілі. Па суседству памагчы можна б было, калі сапраўдная бяда, гэта я разумею. Але ў тых жа Хаўратовічах малатарню паламалі, хлеб у бабках пагніў, а мы за іх здавай. Другі б старшыня пастаяў за свой калгас, даказаў бы раённаму начальству, што і для яго ёсць законы, а наш хацеў добрым быць. Выканалі мы хаўратоўскую пастаўку, падлічылі, што засталося, і селі макам! Толькі і засталося — пасеяць...

З таго часу і пайшоў беспарадак. Чатыры старшыні да вас змянілася, а ладу так і не навялі.

— Дык што ж мне рабіць, я ж чырвонцаў не прывёз у чамадане! — у голасе Мікалая Аляксеевіча прагучала крыўда за беспарадак, за які і ён цяпер адказваў.

Баніфацый шмаргануў лейцамі, і буланы з заінявелай грывай жарэбчык лёгка перайшоў на рысь. З берага яны зноў з'ехалі на рэчышча Мядзведкі, і мерны пошчак конскіх падкоў аддаваўся гулкім рэхам у прыбярэжных лазняках.

— Народу вашы чырвонцы не трэба,— пасля невялікага роздуму сказаў Баніфацый.— Ён і так зразумее, калі да яго з адкрытай душой...

Дзень для старшыні быў удалы: ён дабіўся крэдыту на мінеральныя ўгнаенні, а ў райвыканкаме даведаўся, што яго калгасу занараджана гатунковае насенне. З раённай пошты Мікалай Аляксеевіч пагаварыў з жонкай. Дамоў ехалі, калі над сінімі зімовымі палямі ўжо была ноч. Пацяплела, жарэбчык бег дадому сваёй ахвотай. Сям-там краем дарогі мільгалі агеньчыкі вясковых хат, зрэдку, прарэзваючы фарамі лёгкі зімовы змрок, імчалася насустрач гружаная дрэвам леспрамгасаўская машына. Перад самай дамоўкай Баніфацый, пахваліўшы надвор'е, запрасіў Мікалая Аляксеевіча заўтра, у нядзелю, да сябе ў госці.

— На старасці год сына прычакаў,— усхваляваным, новым голасам сказаў Баніфацый.— Трое ў мяне, і ўсе — дочкі. А гэта даў Бог сына. Няхай расце. А то я ўжо думаў, што і род мой звядзецца... Пятром запісаў, майго бацьку, нябожчы-

ка, Пятром таксама звалі. А дзеда майго — Баніфацый. На ўсю вёску адно ў мяне празванне такое. З-за яго, мабыць, і камандзір палка мяне ведаў. Сустрэне, бывала, і ўсё пытае, што гэта за святы такі Баніфацый і калі яго адзначаюць. А я і сам не ведаю, хіба ўспомніш усіх гэтых святых... Дык прыйдзіце заўтра, у нас па-простаму...

— Не магу, Баніфацый Пятровіч,— адмовіўся старшыня.— І не крыўдуйце. Сёння вы самі расказвалі пра тых, што ходзяць на пачастункі. А я сабе даўно за правіла ўзяў — на такія рэчы забыць.

— Дык гэта ж зусім другое,— нясмела прабаваў угаварыць старшыню вознік.

— Для вас другое, а для каго-небудзь тое самае...

Баніфацый болей не прасіў, і рэшту дарогі яны праехалі моўчкі, думаючы кожны аб сваім.

## III

Калі б да вайны школьніку Міколу Голубу сказалі, што ён будзе аграномам, стане старшынёй калгаса, то ён не паверыў бы гэтаму ні за што на свеце. Зусім не такія планы пеставаў у сваёй юнацкай душы маўклівы і зацяты Мікола Голуб. Юнака вабілі нязведаныя далі, і ніякай рамантыкі на палях, дзе растуць звычайныя хлеб і бульба, ён не бачыў. Калі і хацеў кім-небудзь быць Мікола Голуб, то камандзірам. Камандзірам карабля, які перасякае акіянскія прасторы, начальнікам партыі геолагаў, якая адкрывае нечуваныя багацці зямлі, камандзірам флагманскага самалёта, які вядзе эскадрыллю праз Паўночны полюс...

Пачалася вайна, і ніякім камандзірам на першым часе Мікола Голуб не стаў. Яго, як скончыўшага дзесяцігодку, забралі ў армію. Фашысты набліжаліся да роднага мястэчка, вялікі чыгуначны вузел кіламетраў за восемдзесят на ўсход быў пад артылерыйскім абстрэлам, і навабранцам прыйшлося адыходзіць у тыл, даўшы добрага круку па яшчэ не занятых абласцях Украіны. Можа, упершыню тады, хаваючыся ад фашысцкіх самалётаў у высокай густой пшаніцы, востра адчуў Мікола Голуб, як пахне родная зямля.

А пасля яму, радавому артылерыйскага разліку, давялося многа перакапаць гэтай зямлі. Капаў ён акопы і траншэі, на свае вочы бачыў, што такое суглінак, падзол і чорная, як

сажа, балотная зямля. І яшчэ бачыў Мікола Голуб, як многа на роднай зямлі вёсак і вёсачак, якія ніколі не адзначаліся на школьных картах, але затое былі вельмі важнымі пунктамі на штабных тысячаметроўках.

Здарылася так, што каля невялікай вёсачкі пад Старой Русай батарэя, у якой служыў Мікола Голуб, прастаяла болей года. Пазіцыі займалі зімой, калі ляжаў снег. А вясной выявілася, што навакол акопаў і бліндажоў — засеянае жытам поле. Над батарэяй, калі не стралялі, спяваў жаўрук, а ў дні зацішша на зялёны ствол гарматы іншы раз садзіліся цікаўныя вераб'і.

А жыта расло. Спачатку рунь спорна закусцілася, пазней густая збажына пайшла ў стрэлку, а яшчэ праз колькі часу жыта шумела поўным калоссем. Наводчыкі і зараджаючыя цяжка ўздыхалі. Мікола разумеў, чаму яны сумуюць. У тое лета ўраджаю не ўбіраў ніхто...

На трэцім годзе вайны такі стаў камандзірам Мікола Голуб. Стаў малодшым лейтэнантам, камандзірам узвода.

Канец вайны малады камандзір сустрэў у далёкім алтайскім шпіталі. Ён прыехаў у сваё мястэчка, калі яго вуліцы бялелі снегам першай неваеннай зімы. Маладому дэмабілізаванаму афіцэру прапаноўвалі многа розных раённых пасад. Але ён не заняў ніводнай і праз месяц падаўся вучыцца.

У горадзе, куды прыехаў дэмабілізаваны лейтэнант Голуб, было шмат розных інстытутаў, але ён спачатку зайшоў у сельскагаспадарчы. Нягледзячы на тое, што прайшла палавіна навучальнага года, яго прынялі без экзаменаў.

Вучоба ішла, як і трэба. Мікола Голуб пасля чатырох гадоў перапынку вучыўся грунтоўна. Ён канспектаваў кожную лекцыю, кожную патрэбную кнігу. Яго нязменна абіралі старастам пакоя і вельмі часта — касірам пакаёвай камуны. Наконт капейкі Мікола Голуб быў прыжымісты.

На другім годзе вучобы прыйшло каханне. Аднойчы Мікола разам са знаёмымі хлопцамі пайшоў у інтэрнат, дзе жылі студэнткі медінстытута. Хлопцы, якія былі знаёмы з дзяўчатамі даўно, цэлы вечар рагаталі і падколвалі адзін другога, а Мікола ўвесь вечар прасядзеў моўчкі. Яму спадабалася медычка Галіна, самая смяшлівая з усіх дзяўчат, што жылі ў пакоі. Яна кінулася ў вочы хлопцу з першага позірку.

Вастраносенькая, з залатымі завіткамі валос, дзяўчына ні хвіліны не сядзела спакойна. Смяялася яна так залівіста, так прыемна звінеў яе срэбраны галасок, што ў хлопца цяплела на душы, а навакольны свет здаваўся куды больш цікавым і прывабным.

Мікола стаў часта хадзіць у пакой да медычак. Сядзеў, маўчаў, а дзяўчаты прымалі ўсё гэта з уласцівай ім хітрасцю, як патрэбнае. Яны, вядома, разумелі, да каго прыходзіць гэты маўклівы аграном, але знаку, што разумеюць, не падавалі ніякага. Не падавала знаку і Галя. Яна шчабятала аднолькава як з Міколам, так і з другімі. Хлопец з кожным днём набіраўся злосці і рашучасці.

Аднойчы Мікола прыйшоў адзін і папрасіў Галю на хвілінку ў калідор. Дзяўчаты хітравата пераглянуліся і апусцілі вочы.

— Я купіў білеты ў тэатр,— рашуча сказаў Мікола.— Маскоўскія артысты...

— Трэба ж было спытаць у мяне, ці хачу я ісці,— з падробленай нездаволенасцю зазвінеў Галін голас.

— Ну, тады я прадам білеты...

— Вось гэта па-рыцарску,— залілася Галя на ўвесь калідор.— Сказаў бы хоць, што парву, што пайду адзін, а то — прадам...

У тэатр яна, між іншым, пайшла. Але іх адносіны і пасля гэтага заставаліся няяснымі. Галя старалася часцей гаварыць пра дружбу. Нейкі паварот у іхніх адносінах намеціўся пасля аднаго, добра памятнага Міколу, выпадку. На трэцім годзе вучобы праводзіліся лыжныя спаборніцтвы студэнтаў. Лыжы Мікола любіў яшчэ з дзяцінства, ён і цяпер, у час вучобы, ахвотна выходзіў з сябрамі на лыжах за горад, лёгка браў перашкоды. Таму яго зусім заслужана лічылі адным з лепшых лыжнікаў і вылучылі на спаборніцтвы ў складзе інстытуцкай каманды.

Першынство аспрэчвалі тры студэнцкія каманды, але было ўжо загадзя вядома, што самая моцная з іх — політэхнічнага інстытута.

— Вунь той, даўгалыгі, летась першым прыйшоў,— таемным голасам паведамілі хлопцы, паказваючы на высачэннага політэхніка.— Ты, Мікола, трымайся, галоўнае — націсні перад фінішам.— Сябры цішком сыпалі яму ў кішэню драбкі цукру.

Фініш быў перад паркам, на самай ускраіне горада. Мінулай вясной у гэтым парку Мікола праляжаў з кніжкамі цэлы месяц, рыхтуючыся да сесіі. Мікола чамусьці думаў, што Галі сярод балельшчыкаў няма, і раптам убачыў яе. Расчырванелая, у белай пуховай шапачцы, яна махала некаму са сваіх медыкаў. Мікола адвярнуўся — яго разабрала злосць.

Пачатак прабегу для хлопца быў зусім няўдалы. Мабыць, у спешцы ён дрэнна замацаваў лыжу, і на першым жа кіламетры пры спуску з зусім не высокага ўзгорачка ў яго падвярнулася нага, лыжа саслізнула з яе і панеслася, як апантаная. Яму прыйшлося зняць і другую лыжу і дыбаць пад спуск, праваьваючыся па пояс у рыхлым снезе. Мікола бачыў, як аглядваліся на яго, праносячыся міма, медыкі, політэхнікі. На іх тварах была напісана жаласлівая спагада...

Дрыжачымі пальцамі зноў замацоўваў Мікола лыжы, у душы яго кіпеў нейкі дзікі гнеў. Калі ён стаў на лыжы, спіна самага апошняга спартсмена сінела, мабыць, за цэлага паўкіламетра. Тут было не да сяброўскай парады, і націскаць даводзілася з самага пачатку.

І ён націснуў. Ён імчаў па снезе, як шалёны, зусім не думаючы, ці хопіць на такі тэмп у яго сілы. Хутка ён дагнаў апошніх. Яшчэ праз некалькі хвілін ён ужо быў усярэдзіне. Мікола не збаўляў тэмпу, не глядзеў на тых, каго абганяе. Яго позірк быў нацэлены наперад. І вось ён убачыў спіну таго, даўгалыгага. Той бег прыгнуўшыся, шырокімі, размеранымі крокамі. Мікола націснуў яшчэ...

Нарэшце ён усёй істотай адчуў, што ідзе вядучым. Сэрца ледзь не выскоквала з грудзей, хлопец хапаў ротам гарачае паветра. На хвіліну мільганула думка, што ён не вытрымае такога дзікага тэмпу. Але думаць было ўжо некалі — наперадзе сінеў зімовы парк. Мікола прыгнуўся і рвануў апошні раз.

Ён не бачыў фінішу. У вачах мільганула нешта пярэстае, рознакаляровае, і Мікола, запавольваючы тэмп, панёсся далей з адной думкай — аддыхацца на адзіноце. Ён ад’ехаў далёка ад фінішу і ўпаў на снег. Калі ж вярнуўся да фінішу, перад ім з павагай расступіліся ўсе, хто браў удзел у спаборніцтвах. Нават даўгалыгі глядзеў на яго з незахаванай цікаўнасцю. Міколу прысудзілі самую вышэйшую прэмію — патэфон.

На патэфоне ігралі некалькі вечароў узапар, а пасля Мікола замкнуў яго і схаваў пад ложак. Такім паваротам справы хлопцы былі задаволены не вельмі, але Мікола на гэта не зважаў.

— Прыжымісты,— гаварылі пра яго хлопцы.— Гэты свайго не ўпусціць...

З Галяй адносіны прыкметна палепшыліся. Два гады пасля гэтага іх заўсёды бачылі разам і даўно вырашылі, што яны, у асноўным, падыходзяць адно аднаму. Галя часта звала яго «мой камандзір», і Мікола не крыўдзіўся за гэта. Ёй трэба было вучыцца на год болей за Міколу, і ён, скончыўшы інстытут і атрымаўшы прызначэнне на работу, чакаць не захацеў. Яны пажаніліся.

Ад'язджаючы ў свой горад, Мікола ў адной руцэ трымаў чамадан, у другой — сваю прэмію, патэфон.

— Дай я панясу патэфон,— папрасіла Галя.

А яшчэ праз тры гады Галя зноў праводзіла Мікалая Аляксеевіча ў дарогу. Ён папрасіўся ў самы адстаючы калгас. То быў славуты год трыццацітысячнікаў. Яны дамовіліся, што яна прыедзе да яго ў вёску вясной. Як і тады, у першае расстанне, Мікола нёс чамадан, а Галя — патэфон...

## IV

Мікалай Аляксеевіч добра ведаў, што трэба рабіць цяпер, зімой. За насенне ён не хваляваўся. З раёнам наконт гэтага дамоўлена. Веснавыя работы МТС бралася выканаць на восемдзесят працэнтаў. «Галоўным участкам» былі ўгнаенні. За вайну і пасляваенныя гады зямля зусім збяднела.

Вазілі на поле лічанымі вазамі, а ў зводках пісалі пра сотні тон. Самі сябе ашуквалі. Торф, бадай, зусім не капалі. Прывозілі для прыліку па некалькі вазоў на гектар. Везлі сыры, прама з балота, цвёрдыя чорныя цагліны і цяпер валяюцца па полі. Так далей працаваць нельга. Зямлі сёлета трэба даць поўную норму і нават больш.

І яшчэ трэба выцягнуць жывёлагадоўлю. З кармамі бедна. Сена позняе, падгніўшае, але трэба выцягнуць...

Усе гэтыя дні з самага ранку да позняга вечара Мікалай Аляксеевіч лётаў па калгасе. Яго бачылі то ў адной, то ў другой брыгадах. Вакол вачэй у старшыні заляглі вялікія чорныя

кругі, ён перастаў у час галіцца. Па разліках трэба было, каб гной вазіла штодзень паўсотня падвод. Не выязджала ж на возку і палавіны. Лепш за ўсіх вазіла гной выселкаўская брыгада Лявона Гарнастая. Брыгада адна давала за дзень столькі, колькі дзве астатнія.

Аднойчы надвячоркам, калі Мікалай Аляксеевіч, прамёрзлы і галодны, вяртаўся з Зазыбаў, ён нос у нос сустрэўся са Збанком. Той, прыпёршыся грудзямі да веснічак, размаўляў з маладзіцай, што стаяла на двары, стараючыся, каб яе не ўбачылі. Збанок быў выпіўшы, бо гаварыў на ўсю вуліцу.

— Дык як яно, жыццё-быццё, таварыш Збанок? — прывітаўся Мікалай Аляксеевіч.

Маладзіца, убачыўшы старшыню, ахінулася хусткай і таропка шмыгнула ў хату.

— Жыццё нармальнае,— смела адказаў Збанок.

— Ну, а на работу калі? — адразу перамяніў тон старшыня.— Здаецца, месяц ужо, як у адпачынку?

— Я сваё адпрацаваў. Няхай цяпер папрацуюць другія, тыя, што на гатовае прыйшлі. Пабачым, што ў іх атрымаецца...

— На якое гэта гатовае? — ускіпеў Мікалай Аляксеевіч.— За такое гатовае, ведаеш, у турму мала. Дык вось слухай, гаспадар, калі на гэтым тыдні на работу не выйдзеш — вясной абрэжам агарод па самую хату. Гэта я абяцаю табе пэўна.

Старшыня крута павярнуўся і пакрочыў па вуліцы.

— Не палохай, бачылі такіх,— данёсся да яго п'яны Збанкоў голас.

Праз два дні Збанок прыйшоў на работу. Трымаўся ён хоць і незалежна, але ціха. Яго паставілі старшым па здабычы і вывазцы торфу, выдзеліўшы пад яго ўладу некалькі хлапцоўпадлеткаў.

Са Збанком старшыня ўправіўся лёгка, з другімі было куды цяжэй. На работу не выходзіў яшчэ шмат хто. Неяк старшыня зайшоў у хату да Івана Дземяшкевіча. Гаспадар, чорнавалосы, шыракаплечы мужчына, сядзеў босы на прыпечку і падшываў валёнак.

— На работу, мабыць, збіраецеся? — спытаў Мікалай Аляксеевіч.

Гаспадар толькі глянуў спадылба і не адказаў нічога. Маўчаў і старшыня. З печы на Мікалая Аляксеевіча з прагнай

цікаўнасцю пазірала некалькі пар чорных, як і ў гаспадара, вачанят.

— На работу трэба заўтра ісці,— цвёрда сказаў старшыня.— Інакш будзем рабіць вывады. Нам такіх калгаснікаў не трэба, што толькі лічацца ў спісах.

— Рабіце вывады,— спакойна прамовіў Дземяшкевіч.— А на работу я прыйду толькі тыдняў праз тры. Я ў леспрамгас падрадзіўся на гэты час. Крыўдуй не крыўдуй, старшыня, а інакш не магу. Мне жыць трэба, а калгас пакуль што мяне не вельмі забяспечыў.

— Калі ўсе будуць думаць так, як вы, то калгас ніколі і не падымецца. Калгас — гэта ж людзі.

— Не агітуй мяне.— Дземяшкевіч рашуча пачаў надзяваць валёнак.— Многа, брат, я чуў прыгожых слоў і абяцанак. Пабыў бы ты ў маёй скуры, то, мабыць, заспяваў бы іначай. Табе — прайшоў месяц, і палажы на стол тысячу рублёў. А мне ты паложыш што-небудзь да восені?

— Я буду на працадні працаваць, як і ўсе! — рэзка кінуў Мікалай Аляксеевіч і пайшоў да дзвярэй. У цёмных сенцах ён доўга шукаў клямку, і гаспадар выйшаў, каб памагчы яму. Але з клямкай старшыня, нарэшце, справіўся сам і, бразнуўшы дзвярыма, скочыў з высокага ганка. Пра тое, што трэба адмовіцца ад вызначанага яму гарантыйнага заробку, Мікалай Аляксеевіч сказаў упершыню...

У лютым пачаліся снежныя віхуры. Снегу намяло столькі, што невысокую лазенку на ўскраіне вёскі занясло зусім — тырчаў толькі бляшаны комін. У дварах кожны дзень трэба было пракопваць да хлявоў і калодзежа траншэі.

Вывазка гною зусім пайшла на спад. За дзень болей аднаго рэйса зрабіць было цяжка. Старшыня хадзіў пануры і маўклівы, заняты неспакойнымі думкамі аб тым, як выйсці з гэтага прыкрага становішча. Здаецца, ніколі ў жыцці ён так не адчуваў сваёй бездапаможнасці. Калі ён браўся за якую-небудзь справу, то абавязкова бачыў яе канец, яе вынікі — такі ён быў чалавек. Цяпер жа пра канец не хацелася і думаць...

Але ратунак быў знойдзены. У той вечар, калі Мікалай Аляксеевіч наважыў прасіць у МТС трактар для вывазкі ўгнаенняў, ён зноў адчуў у душы ранейшы спакой. Ён акуратна пагаліўся і напісаў пісьмо жонцы...

У дагаворы з МТС не было пункта пра вывазку ўгнаенняў. Але Мікалай Аляксеевіч быў упэўнены, што дамовіцца з дырэктарам. У поўдзень ён паехаў у МТС. Аказалася — дамовіцца не так лёгка. Старшы механік (дырэктара не было, паехаў у вобласць здабываць запасныя часткі) наадрэз адмовіўся выдзеліць трактар. Довадаў у яго было багата: на такія рэчы не прадугледжана выдаткаванне гаручага, невядома, як аплочваць працу трактарыстаў, людзі заняты на рамонце. Мікалай Аляксеевіч спрачаўся са старшым механікам да самага вечара і — без поспеху. Ён пазваніў у райкам партыі. Першага і другога сакратароў таксама не было, а інструктар адказаў, што заяўкі на вывазку ўгнаенняў трактарамі ёсць і ад другіх калгасаў і што гэтае пытанне пастаўлена перад абласнымі арганізацыямі.

Вечарам, калі за вокнамі кабінета сінеў хуткі зімовы змрок, Мікалай Аляксеевіч папрасіўся ў эмтээсаўскага механіка пераначаваць на яго канапе. Той здзіўлена ўзняў стрэлкі прыгожых брывоў.

— Мне ў калгас нельга вяртацца. Паеду заўтра ў раён ці ў вобласць па гэты ж трактар. Без трактара — калгасу крышка, і я там як старшыня не патрэбен...

Механік моўчкі расхаджваў па кабінеце, нешта абдумваючы.

— Але і ўпарты ты,— сказаў ён нарэшце.— Ну, добра, дам я табе трактар — на сваю адказнасць, не забывай.

Стары, яшчэ даваенны «Чалябінец» прыгрукатаў у Шчаўры назаўтра пад вечар. Ён прыцягнуў доўгія эмтээсаўскія кары з палазамі, абцягнутымі жалезам. Старшыня хацеў, каб ужо ў гэты дзень быў зроблены хоць адзін рэйс. Людзей сабралася мала. Мікалай Аляксеевіч папрасіў накідаць гной і жывёлаводаў. Сынклета Крывіцкая сахора не ўзяла і дэманстратыўна пашыбавала грэцца ў старожку.

— Дня мала, дык яшчэ і нанач хоча запрэгчы.

— Заўсёды вам дрэнна,— не вытрымаў старшыня.— Не хочаце рабіць — не рабіце, але і не бунтуйце народ...

— А ты думаеш, калі даў боты і ватоўку, то Царства Нябеснае адкрыў,— залямантавала на ўвесь двор Крывіцкая.— З досвітку да ночы таўчэшся ў брудзе, ды яшчэ і гной накідай. Хіба гэта парадак?

— Не трэба тваёй дапамогі! — не помнячы сябе, крыкнуў старшыня.— Вон з калгаса!

Ён са злосцю хапіў сахор і амаль подбегам выскачыў з хлява. Людзі моўчкі ўзяліся за працу. Нават трактарыст недзе раздабыў вілы і стаў да гурту. Старшыня ўздзіраў сахаром цёплы зляжалы гной і цэлымі бярэмкамі кідаў яго ў разложыстыя кары.

— Вы пластамі бярыце, старшыня,— пачуў Мікалай Аляксеевіч голас Ганны Хведасюк.— Так лягчэй.

Загадчыца фермы стаяла збоку, і ёй, відаць, было няёмка, што толькі адна яна не працуе. Гною накідалі хутка, трактар павёз яго на поле, але ніякай радасці на душы ў старшыні не было.

Вечарам таго ж дня Мікалай Аляксеевіч накіраваўся ў Выселкі. Ён адчуваў, што паводзіць сябе з людзьмі не так, як трэба, і яму хацелася нешта зрабіць, каб вызваліцца ад цяжкіх, маркотных думак. Старшыня вырашыў схадзіць да Лявона Гарнастая. Гарнастай быў у сваіх Выселках да ўзбуйнення калгаса за старшыню, быў, як і Мікалай Аляксеевіч, партыйны. Іх, партыйцаў, разам з кладаўшчыкам, цяпер было ўжо трое, і райкам збіраўся стварыць у калгасе партыйную арганізацыю.

Гаварыць пра свае няўдачы і сумненні старшыні не хацелася нікому, нават Гарнастаю, якога ён паважаў больш за астатніх. Мікалай Аляксеевіч хацеў проста пабыць адзін на адзін з гэтым чалавекам, пачуць яго бадзёры голас і смех.

У Гарнастаевай хаце ён застаў некалькі вяскоўцаў. Тыя сядзелі за сталом і зацята рэзаліся разам з брыгадзірам у карты. Пры ўваходзе старшыні ніхто не выказаў асаблівага здзіўлення. Гульня працягвалася ранейшым парадкам, толькі брыгадзір прапанаваў Мікалаю Аляксеевічу пачакаць «высадкі». Старшыня сядзеў, маўчаў і хмурыўся. Ён думаў аб тым, што прыйшоў дарэмна.

Нарэшце падышла і «высадка», але гуляць у карты Мікалай Аляксеевіч адмовіўся наадрэз. Ён сядзеў маўклівы і насуплены, і людзям стала пры ім ніякавата. Яны пачалі разыходзіцца. Праз паўгадзіны ў хаце засталіся толькі старшыня і Гарнастай.

— Я думаў, ты нешта асаблівае ведаеш, каб не адрывацца ад людзей,— спрабаваў пажартаваць Мікалай Аляксеевіч.—

А ў цябе спосаб, якім, мабыць, земскі начальнік карыстаўся,— карты... Вы на грошы, выпадкам, не гуляеце?

— Не зарабілі яшчэ грошай,— у тон старшыні адказаў брыгадзір.— Як заробім, тады ўжо і вырашым — прагуляць нам іх у карты ці не.

Але брыгадзір, мабыць, разгадаў невясёлыя думкі маладога старшыні.

— Ты, брат, не крыўдуй за карты,— прагаварыў ён ужо лагодней.— Добрага клуба мы з табой яшчэ не пабудавалі, электрычнасці і радыё ў нас няма. Дык хіба гэта такі ўжо грэх пагуляць у карты? І не думаю, брат, я картамі з людзьмі збліжацца. Трыццаць гадоў стаіць на гэтым самым месцы мая хата, якраз па сярэдзіне вёскі. Мне тут, хоць бы ты і хацеў, дык ніяк ад людзей не адарвешся. Перасяляцца ж адсюль я не думаю.

— Мая жонка летам пераедзе,— з крыўдай у голасе прамовіў старшыня.— І за гэта дакараць мяне, Лявон Пятровіч, не варта. Я сваёй ахвотай паехаў у калгас...

— Ды я ж зусім не пра тое.— Аж прыўзняўся з месца брыгадзір.— Які ж ты калючы!..

Хутка Мікалай Аляксеевіч сабраўся дадому. Нешта перашкаджала яму раскрыць перад Гарнастаем свае думкі і сумненні, пагаварыць душа ў душу.

— Пачакай, прыйдзе жонка, павячэраем,— прасіў брыгадзір.— Куды табе спяшацца, на ноч гледзячы? Яшчэ на ваўкоў якіх нарвешся.

Але старшыня заставацца не хацеў. Ён сказаў колькі слоў наконт бягучай работы, папрасіў Гарнастая быць заўтра на праўленні і выйшаў.

— Не разгадаю я цябе ніяк,— ужо на ганку сказаў брыгадзір.— І хлопец ты, здаецца, добры, з галавой. Але рвешся ты, як той малады, неаб’езджаны конь, і пад гару навыскач. Хочаш усё сам зрабіць, адзін.

На вуліцы Мікалая Аляксеевіча ледзь не збіў з ног рэзкі парыў ветру. Вецер быў цёплы, паўднёвы, і дзьмуў ён проста ў твар старшыні. Да сасонніку, які быў ад вёскі за які-небудзь кіламетр, Мікалай Аляксеевіч дабіраўся ледзь не цэлую гадзіну. Снег стаў мяккі, глейкі, нават на ўезджанай дарозе ён правальваўся пад нагамі.

У лесе ісці было лягчэй. Дзесьці ў вяршалінах хвой заводзіў вецер, глуха стагнаў малады сасоннік. Мікалай Аляксеевіч ішоў і думаў пра вясну. Снег можа сагнаць праз два тыдні, а ўгнаенняў вывезена яшчэ мала. З другога боку, надыход вясны радаваў старшыню. Калі снег сыдзе за два-тры тыдні, падзяжу на ферме, бадай, не будзе. Кармоў засталося вельмі мала, у абрэз.

## V

Назаўтра з самай раніцы Мікалай Аляксеевіч падаўся на ферму. Вецер трохі сціх. Заснежаныя палі і лес удалечыні здаваліся сінімі. Гэтую прыкмету наступаючай вясны старшыня ведаў яшчэ з дзяцінства.

Трактар стаяў ужо з нагружанымі гноем карамі. На работу выйшлі ўсе, каго ўчора прызначыў старшыня, і гэта яго ўзрадавала.

Трактар загрукатаў і рвануў за сабой нагружаныя кары. Наверсе сядзела пяцёра накідальшчыкаў і, нібы пікі, тырчэлі ўваткнутыя ў гэты няўклюдны воз сахары з белымі, яшчэ не адпаліраванымі мазолістай рукой чаранкамі.

Мікалай Аляксеевіч правёў вачамі трактар. «Каб толькі не сапсаваўся, то вясну з ім сустрэць можна»,— падумаў ён.

— Мне трэба з вамі пагаварыць,— паклікала старшыню Ганна Хведасюк.— Давайце адыдземся.

Выгляд загадчыцы фермы быў збянтэжаны, спалоханы. З-пад яе вязанай шэрай хусткі выбілася пасмачка русявых валос і прыклеілася да ўспацелага лба.

— Збанок сена прадаў, два стагі...— збіваючыся, расказвала Ганна.— Яшчэ ўвосень, да вас, мабыць... Цяпер віляе — кажа, зімой перавёз. А ніхто таго сена не перавозіў. Сена на адзін тыдзень цяпер засталося...

— А вы куды глядзелі?! — не сваім голасам закрычаў старшыня.— Ферму хто прымаў? Збанку паверылі?

Жанчына, заплакаўшы, кінулася прэч ад старшыні. Ён не ведаў, што рабіць. У яго не было слоў, каб чым-небудзь яе суцешыць...

Астатняе адбылося вельмі хутка. Мікалай Аляксеевіч ледзь не подбегам кінуўся на поле, дзе корпаўся Збанок са

сваімі маладымі памочнікамі. Калі старшыня крочыў па полі, недзе ў глыбіні душы ў яго яшчэ хавалася надзея, што Збанок проста пажартаваў і ўсё як-небудзь абыдзецца. Але гэтая надзея адразу знікла, як толькі Мікалай Аляксеевіч убачыў Збанка. Той сядзеў каля агню і расказваў нешта вясёлае хлопцам. Куча торфагноевага кампосту была амаль закончана. Убачыўшы старшыню, Збанок усхапіўся. Старшыня, не ведаючы з чаго пачаць і не вітаючыся, падышоў да кучы. Яму кінулася ў вочы, што чорныя кавалкі торфу неяк залішне тыркаюцца з кучы.

— Гной перакладалі торфам? — рэзка спытаў старшыня.

— А як жа, перакладалі,— замітусіўся Збанок.— Без торфу гной перагарыць.

Мікалай Аляксеевіч злёгку дакрануўся да тарфянай цагліны, і яна ўпала на дол. Упала і другая, і трэцяя. Тады старшыня прыўзняў пласт гною. Гной быў цёплы, торфу ў сярэдзіне кучы не было. Збанок прыладзіў кавалкі торфу толькі зверху...

Кроў кінулася ў твар Мікалаю Аляксеевічу. Не памятаючы сябе, ён схапіў загрудкі збялелага Збанка і страсянуў яго што было сілы.

— Што гной перагарыць, ты ведаеш, што жывёла падохне, ведаеш... Каму сена прадаў, сволач?..

У Збанка, нібы нежывога, матлялася галава, ён агідна ляскаў зубамі. Старшыня штурхануў яго ад сябе, і Збанок, закрываючы твар рукамі, упаў на снег. Заенчыў нехта з хлопцаў... Цяпер толькі старшыня прыйшоў у розум. Ён крута павярнуўся і пайшоў прэч з поля.

Без думак, з пустой душой зайшоў Мікалай Аляксеевіч на сваю кватэру і, не распранаючыся, упаў на ложак. Одум узяў яго пазней. Яму здавалася, што з гэтага дня, з сутычкі са Збанком, у яго жыцці пачалося нешта недарэчнае. Ніколі да гэтага не падняў ён рукі на чалавека. Збанка ён не паспеў ударыць, хоць яго варта было павесіць... Ударыць не паспеў, але аўтарытэт свой, старшыні, кіраўніка, там, на полі, пакінуў назаўсёды. Цяпер Збанок можа перайсці ў наступленне, у яго ёсць зачэпка. І нічога ён, старшыня, Збанку цяпер не зробіць — ні за сена, ні за кампосты... Пад вечар ужо Мікалай Аляксеевіч надумаўся ехаць у раён. Ён паедзе і раскажа ўсё дачыста ў райкаме. Кіраўніка з яго, як відаць, не атрымалася, і ў калгасе

яму болей заставацца не варта... Ды і сам ён заставацца тут болей не хоча...

Сыпаў лёгкі сняжок, калі старшыня прыйшоў на канюшню. Баніфацый здзівіўся, што старшыня едзе адзін, проці ночы, але пярэчыць не стаў. Ён хутка запрог каня і параіў завесці каня нанач да Сініцкага, таго самага, што быў некалі тут за старшыню і цяпер працуе ў «Плодагародніне». За вёскай снег пайшоў спарнейшы — ён падаў вялікім мокрым хлоп’ем. Мікалай Аляксеевіч час ад часу торгаў лейцамі, ён хацеў ехаць хутчэй. Па лёдзе Мядзведкі конь бег спорнай рыссю. Прайшло ўжо з гадзіну язды, і старшыня ўглядаўся ў перадвячэрнюю імжу, засланую снегам, шукаючы вачыма павароткі на бераг. Раптам конь захроп і стаў на дыбы. У тую ж хвіліну пад ім падламаўся лёд. Старшыня скочыў з вазка — конь пярэднімі нагамі падламваў пад сябе лёд, а сані сталі ў яго на спіне тарчма...

Не раздумваючы, Мікалай Аляксеевіч кінуўся да каня і хапіў яго за аброць. Конь ірвануўся да чалавека, і лёд падламаўся пад ім зноў... Старшыня з галавой нырнуў у ваду, а конь балюча ўдарыў яго пярэдняй нагой у грудзі. Не выпускаючы з рук аброці, Мікалай Аляксеевіч закрычаў дзікім, нечалавечым голасам...

Ён чуў, як нехта падбег да палонкі, як трэснулі рассечаныя гужы. Вызваліўшыся ад саней, конь у тое ж імгненне вынес старшыню на лёд...

Калі Мікалай Аляксеевіч адплюшчыў вочы, ён убачыў высокага чалавека, які адной рукой трымаў мокрага, дрыжачага каня, а другой — сякеру. Гэта быў Іван Дземяшкевіч, той, што хадзіў на заработкі ў леспрамгас і яшчэ не зарабіў ніводнага працадня ў калгасе. Дземяшкевіч паклаў на лёд сякеру і, не выпускаючы каня, пачаў распранацца.

— Скідай паліто, бяры мой кажух і бяжы! — камандаваў ён.— Загінеш. Выпі гарэлкі і зараз жа на печ!.. Каня я прыганю...

Старшыня пабег...

Праз гадзіну, пераапрануўшыся ў сухое адзенне, Мікалай Аляксеевіч ляжаў на печы, стараючыся сагрэцца. Бабка-гаспадыня, божкаючы, пабегла купляць гарэлку. Але раней за бабку ў хату ўскочыў Баніфацый Міцкевіч. Ён грукаў па падлозе

дзеравяшкай, лаяў старшыню за неасцярожнасць і вінавацціў сябе. Тады ўзлез на печ і выняў з-за пазухі пляшку.

— Ад хрысцін яшчэ засталася. Твая, брат, пляшка. Ты пі, цераз сілу, а пі...

На другую ноч у Мікалая Аляксеевіча паднялася тэмпература. Думкі блыталіся, ён часта ўпадаў у забыццё. Трызненне цягнулася доўга.

Неяк ноччу Мікалай Аляксеевіч расплюшчыў вочы і ўбачыў дзіўны малюнак. На стале стаяла прыкручаная лямпа, а над ім, схіліўшыся, сядзелі дзве бабкі. Гаспадыня, бабка Ульяна, вяла размову з другой, незнаёмай старшыні бабкай. Мікалаю Аляксеевічу гэтая размова нагадала спакойнае булькатанне ляснога ручая. Адчуванне было такое прыемнае, што ён зноў заплюшчыў вочы, стараючыся працягнуць сваю ціхую паўдрымоту. Праз усю ноч ён чуў спакойную гаворку бабулек...

Пад раніцу ён папрасіў піць. Бабкі ўсхапіліся і пачалі завіхацца ля гаршчочкаў, збанкоў, кубкаў і пляшачак, якімі была застаўлена ўся лаўка каля ложка.

— Гэта вось фершал прынёс, казаў па тры лыжкі ў дзень даваць,— асцярожна трымаючы бутэлечку ў руках, тлумачыла бабка Ульяна.— Выпі, галубок, я табе дам узвару пасля...

— А гэта я трыпутнічку наварыла, ён жар сцішае... Выпі, каток...

Мікалай Аляксеевіч паслухмяна піў усе лекі. Яму не хацелася крыўдзіць бабак, якія не адыходзілі ад яго ні днём, ні ноччу. Ён адчуваў іх мацярынскі клопат, і яму было лёгка і ціха на душы. У спакойнай паўдрымоце ён слухаў спагадныя размовы бабулек.

— Дасць Бог, ачуняе,— ціха разважала гаспадыня.— Прастуда ў яго. Гэта ж чалавек такі, скаціну шкадаваў, дык сам у ваду кінуўся. Харошы чалавек, слова благога не чула ад яго. Я, кажа, табе, бабка, яблынькі гноем абкладу, яны не памерзнуць, і яблык будзе болей...

Неяк пад вечар Мікалай Аляксеевіч адплюшчыў вочы і здзівіўся: бабак каля яго не было. На стале стаяла прыкручаная лямпа, а на сцяне скакалі цені. За перагародкай гаварылі. У паважную гаворку бабак уплятаўся нечы знаёмы рэзкі голас. Старшыня напружыў памяць, але ніяк не мог успомніць. Яго зноў апанавала дрымота. Нарэшце дзверы адчыніліся, і

пад нечымі цвёрдымі крокамі заскрыпелі масніцы. Мікалай Аляксеевіч зноў расплюшчыў вочы і яшчэ болей здзівіўся: над ім стаяла Сынклета Крывіцкая. Сустрэўшыся позіркам са старшынёй, яна заморгала вачыма і, крута павярнуўшыся, падалася за перагародку.

— Не трэба, Сынклета,— чуў Мікалай Аляксеевіч голас сваёй гаспадыні.— У мяне ж яблыкі свае ёсць, нясі дзецям.

— Назад не вазьму, бабка,— гаварыла даярка.— Другім старшыням не насіла падарункаў, а гэтаму прынесла.

А назаўтра прыехала Галя, жонка. Яна кінулася да ложка з поўнымі слёз вачыма і доўга не магла прамовіць ні слова. Бабкі адступілі на сярэдзіну пакоя і з трывогай наглядалі за гэтай карцінай. Перасіліўшы сябе, Галя стала доктарам. Яна асцярожна абслухала яго, змерала тэмпературу.

— Крызіс прайшоў,— сказала яна радасна і села ў знямозе на ложак.

Бабкі перахрысціліся і, асцярожна ступаючы, выйшлі з пакоя.

Галя прабыла ў яго цэлы тыдзень. Стараючыся яго не хваляваць, завіхалася на палавіне гаспадыні і раз-пораз прасоўвала за перагародку стрыжаную, нібы ў хлапца, галаву. А ён увесь час думаў пра сваю прыкрую сутычку са Збанком, пра тое, што кармы на ферме цяпер, мабыць, выйшлі зусім. Думкі былі неспакойныя, трывожныя, і ён не хацеў імі дзяліцца ні з кім, нават з Галяй. Мікалай Аляксеевіч проста ўзрадаваўся, калі пачуў аднойчы ў пярэднім пакоі голас Гарнастая. Брыгадзір нешта вельмі доўга абціраў ногі, потым тарабарыў з гаспадыняй і з Галяй. Ён прыйшоў не адзін. Нізка прыгнуўшыся, услед за брыгадзірам у пакой улез і рахункавод Пятро Кавалеўскі. Яны абодва так асцярожна ступалі па падлозе, што старшыня міжволі ўсміхнуўся.

— Ды ён, выходзіць, жывы,— весела загаварыў Гарнастай.— Нашага брата голай рукой не возьмеш — вылезе і з агню, і з вады.

Брыгадзір з рахункаводам селі і пачалі расказваць, як некалі тапіліся і ратаваліся яны, іх сябры і знаёмыя. Расказвалі яны з такой ахвотай і падрабязнасцямі, нібы гэта было самае галоўнае ў іхнім жыцці.

— На ферме як? — не вытрымаў старшыня хітрыкаў.

— Выкручваемся,— проста сказаў Гарнастай.— Ты ачуньвай, не думай пра гэта. Па ўсіх прыкметах з адстаючых мы вылазім. З раёна зводку прыслалі: на трэцім месцы мы па вывазцы ўгнаенняў. Такое пасля вайны ў нас першы раз...

— Са Збанком дрэнна ў мяне выйшла,— нечакана для сябе загаварыў Мікалай Аляксеевіч.— Сам не ведаю, што рабіць. Давёў ён мяне, а цяпер пачнуць плявузгаць.

— А што Збанок?

— Яго павесіць мала! — загарачыўся Пятро Кавалеўскі.— Ходзіць цяпер, падтуліўшы хвост. Мы, брат, яму проста сказалі: калі не паложыш грошы на стол, сушы сухары. Хопіць з ім цацкацца.

Збанок чуе, з якога боку вецер. Людзі на работу пайшлі. Івана Дземяшкевіча мы ў цяслярскую брыгаду прызначылі. Чалавек дваццаць вярнулася адыходнікаў...

Гэтыя навіны дзейнічалі лепш усякіх лекаў.

Назаўтра Галі трэба было ад’язджаць. Яна выцягнула з-пад ложка патэфон, асцярожна выцерла на ім пыл і паставіла пласцінку. Мікалай Аляксеевіч, прыўзняўшыся на падушках, слухаў музыку, успамінаў інстытут, сяброў, сваё каханне да Галі. Ён выразна, да болю адчуваў, што паміж яго ранейшым і цяперашнім жыццём пралегла рэзкая мяжа, і гэтая мяжа пачалася тут, у калгасе. Інстытут, сябры, спрэчкі — усё гэта здавалася далёкім, адышоўшым, малазначным.

Галя паехала, а яшчэ праз два дні Мікалай Аляксеевіч выйшаў на ганак. У твар яму дыхнула свежым, п’янкім паветрам, і ў старшыні закружылася галава. Ён хапіўся рукою за вушак і доўга стаяў, не адважаючыся сысці з ганка. Потым асцярожна сступіў на зямлю і паволі прайшоўся па двары. Было цёпла, дружна звінелі капяжы.

Мікалаю Аляксеевічу захацелася на поле. Пацягнула яго туды моцна і ўладна, і ён не мог працівіцца гэтаму нечакана ўзнікшаму і вастраму жаданню. Трымаючыся парканаў, старшыня выйшаў на агарод. Ён не хацеў ісці вуліцай, каб бачылі яго слабасць.

Поле было заслана наміткай сіняватай смугі, а лес за ім стаяў сіні-сіні. На ўсёй прасторы, як кінуць вокам, сярод снежнай сінечы вытыркаліся шэрыя вясновыя праталіны. Вясна наступала, і гэтыя першыя праталіны, здаецца, на вачах шырыліся, раслі, займаючы ўсё поле...

Старшыня, асцярожна ступаючы, каб не праваліцца ў пацягнутыя здрадлівай зеленаватай кашай разоры, дыбаў па агародах на поле. Ён бачыў, што на полі стала, можа, утрая больш кампоставых кучаў, і яму хацелася пералічыць іх усе да адной, абмераць іх сваімі крокамі...

Перад самай дарогай Мікалай Аляксеевіч раптам спыніўся як укапаны. Ён убачыў Ганну Хведасюк. Яна выйшла са свайго двара, згінаючыся пад вялікай ношкай сена. Жанчына ішла ў кірунку фермаў, наперарэз старшыні, мабыць, не заўважаючы яго. Паглядаючы на маленькую, мізэрную постаць жанчыны, Мікалай Аляксеевіч адчуваў, як гарачы, салёны камяк падступае к горлу, а сэрца пачынае біцца хутка і часта. Старшыня раптам з балючай яснасцю ўспомніў, як, не памятаючы сябе, ён крычаў тады на гэтую маленькую, па-дзявочы зграбную жанчыну, як яна, плачучы, адскочыла ад яго...

Яму хацелася пазваць цяпер Ганну Хведасюк, сказаць ёй нешта такое, каб яна засмяялася, каб ёй стала добра і лёгка, але ў яго не хапіла сіл на гэта. Ён адчуваў сябе вінаватым перад ёй, і ад гэтага яму было яшчэ больш балюча.

Старшыня раптам крута павярнуўся і пайшоў у двор Ганны Хведасюк. Ён яшчэ не ведаў, чаго ён сюды ідзе. Дайшоўшы да ганка, ён пастаяў у нерашучасці, потым падняўся па прыступках і ўзяўся за клямку.

Тое, што старшыня ўбачыў у хаце, адразу перамяніла яго настрой, і ён ледзь не разрагатаўся. На падлозе валтузіліся два хлопчыкі. Яны так зацята змагаліся, што нават не звярнулі ўвагі на чужога чалавека. У кожнага з іх на нагах было па адным чаравіку. Меншы шмаргаў большага за нагу, стараючыся зняць чаравік, і аж усхліпваў ад бяссілля.

— Хлопцы, хопіць ваяваць,— не вытрымаў старшыня.

— Я яго не чапаю, ён сам лезе,— апраўдваўся старэйшы.

— Не, чапаеш,— румзаў меншы.— Сам гуляеш, а мне сядзі. І ўчора гуляў, і сёння. Казаў, птушку прынясеш, і не прынёс. Аддавай мае чаравікі, ты свае падраў!..

У меншага так набалела на душы ад гэтай яўнай несправядлівасці старэйшага брата, што слёзы ў яго сыпаліся бобам. Мікалай Аляксеевіч наважыў стаць на бок меншага.

— Не трэба яго крыўдзіць,— сказаў ён старэйшаму.— Няхай і ён пагуляе.

— Яму нельга, у яго быў коклюш,— пераконана адказаў большы.— На дварэ холадна.

Супраць такога доваду крыць было нечым. Мікалаю Аляксеевічу раптам прыйшла ў галаву шчаслівая думка. Ён успомніў, што ў яго гаспадыні ёсць цэлы куфэрачак з шавецкімі прыладамі. Паабяцаўшы хлопчыкам зашыць дзіравыя чаравікі, ён кінуўся на кватэру.

Хлопчыкам, відаць, спадабаўся гэты высокі чорны дзядзька. Вяртаючыся назад, старшыня яшчэ здалёк убачыў, што яго новыя сябры з нецярпеннем пазіраюць на вуліцу, прыціснуўшы да шыб прыплюшчаныя кірпы.

Шаўцом Мікалай Аляксеевіч не быў ніколі. Але пра гэта ён зараз не думаў. Ён няўмела сукаў дратву, нязграбна забіваў у падэшву цвічкі, але хлопчыкі пазіралі на яго работу з захапленнем. Чаравікі былі адрамантаваны не надта, але твары хлопчыкаў аж свяціліся ад задавальнення...

Увесь дзень у душы Мікалая Аляксеевіча панавала спакойная ўпэўненасць. Сёння ён пазіраў на свет, на людзей новымі, добразычлівымі вачыма. Ён прайшоў па полі, пільна прыглядаючыся да тых змен, што адбыліся за два тыдні яго хваробы. Трактар ужо адправіўся назад у МТС. Старшыня прыкідваў на вока, колькі вывезена гною. Гэта было яшчэ не тое, пра што ён марыў, але для пачатку няблага.

На фермах капала са столі, на цялятах вахлакамі вісела поўсць. Але яны досыць жвава мясілі гной, махаючы тоўстымі хвастамі.

— Не цяляты, а ваўкі,— паведаміла Сынклета Крывіцкая.— Здаецца ж, сена хоць па жмені вымяркоўвалі, абурыны парым, пойла два разы даем. І ўсё як у прорву. Прывядзі ваўка — і таго з'ядуць...

Выходзячы з хлява, Мікалай Аляксеевіч твар у твар сутыкнуўся з Ганнай Хведасюк. Маленькая, у абшарпаным ватнічку, яна акінула старшыню хуткім спалоханым позіркам і залілася чырванню. Ён стаяў насупраць яе і таксама не ведаў, з чаго пачынаць.

— Падзяжу не было? — спытаў старшыня нечакана для самога сябе, адводзячы позірк убок.

— Не было,— паспешліва адказала жанчына.— Толькі Крывуля на ногі ўпала. Ветэрынар лечыць цяпер.

— Корму няма, Ганна Цітаўна?

Жанчына акінула старшыню таропкім удзячным позіркам.

— Дастаём як-небудзь. На лядзе аўсянка зазімавала, дык возім, сечку парым. Каб хутчэй на пашу!..

— Прыходзьце на праўленне, Ганна Цітаўна. Што-небудзь прыдумаем...

Старшыня хадзіў па калгасе, вітаўся з людзьмі, і яго не пакідала не знаная раней спакойная ўпэўненасць. Гэтая ўпэўненасць ішла, мабыць, ад добразычлівых позіркаў, якія крадком кідалі на яго людзі, ад іх запытанняў, прасякнутых жывым, трапяткім клопатам, ад тысячы іншых дробязей, што стваралі ў душы нейкую прыемную суладнасць і яснасць. Сэрцам адчуваў Мікалай Аляксеевіч, што ў калгасе наступіў той жаданы пералом, аб якім ён столькі думаў. Гэта быў пакуль што не ўраджай, не высокія прыбыткі, не важкія працадні. Гэта быў толькі добры настрой, які свяціўся ў вачах людзей. І гэта было самае галоўнае...

Ля канюшні цюкалі сякерамі, абчэсваючы бярвенне, цесляры. Чорны, шыракаплечы Іван Дземяшкевіч першы заўважыў Мікалая Аляксеевіча.

— А-а-а, хрэснік,— усміхнуўся ён.— Мне, як і таму папу, належыць першая плата. З халоднай купелі, дзякуючы мне...

— Хроснага бацькі не забуду,— у тон Дземяшкевічу адказаў старшыня.— У першае ж свята пачастую так, што на сваіх нагах дадому не дойдзе...

Цесляры рагаталі...

Ідучы ўжо надвячоркам на праўленне, старшыня, здаецца, не адчуваў стомленасці. Ён спрытна пераскокваў лужыны і раз-пораз абмываў боты ад ліпкай вясновай гразі. З думак старшыні не выходзіла Ганна Хведасюк. Вобраз маленькай руплівай жанчыны нараджаў у душы Мікалая Аляксеевіча не знаныя ім раней цеплыню і душэўны спакой.

На праўленне старшыня ішоў з патэфонам. Ён наважыў яго аддаць як прэмію загадчыцы фермы ад імя праўлення і не хацеў, каб хто-небудзь ведаў, што гэты самы патэфон некалі ўручалі яму. Старшыня на хаду прыдумваў словы, якія прыйдзецца яму сказаць на праўленні.

Дзьмуў цёплы свежы вецер, і пад яго павевамі на заснежаных палях увачавідкі раслі вясновыя праталіны.

*1955*

# НАД ЦІХАЙ ВІЦЦЮ

Юрка ехаў на рачулку Віць, на балотную гідраметстанцыю, куды яго накіравалі працаваць пасля заканчэння тэхнікума. Ён злез з пасажырскага поезда ў Бабінавічах і толькі паспеў паставіць куфэрак на платформу, як паравоз свіснуў, і вагоны паплылі далей. Дарогі да Віці Юрка не ведаў.

На лавачцы каля станцыйнага памяшкання сядзелі тры дзяўчыны. Яны лушчылі гарбузікі і, не хаваючы сваёй цікаўнасці, ва ўсе вочы разглядалі хлапца.

Юрка вагаўся — ісці да дзяўчат ён не адважваўся. Але паратунку не было, трэба было ў каго-небудзь спытаць пра дарогу.

Хлопец выцер хустачкай узмакрэлы твар і падышоў да дзяўчат. Бялявенькая, што сядзела з самага краю, хіхікнула і адвярнулася за спіну суседкі.

— Сціхні, Люська, не люблю.— Люсіна суседка злёгку штурхнула дзяўчыну. Яна, відаць, была старэйшая і сур’ёзна паглядала на Юрку.

— Ад вадакачкі трубы да Віці пракладзены,— тлумачыла яна.— Таму да самай рэчкі насып ідзе, ён ляжнёўкай называецца. Толькі цяпер ваду не пампуюць...

— Не пампуюць? — перапытаў хлопец.

— Вадакачка ж не працуе цяпер. Да вайны тут завод быў, цягнікоў многа станавілася. Вапну тут здабывалі.

— Гашаную,— уставіла Люська і засмяялася.

— Ды не крыўляйся ты. Не апатыты, а фасфарыты...

Юрка пайшоў. Ляжнёўка з двух бакоў была абсаджана дрэвамі, і хлопец ішоў па ёй, як па калідоры. Праз колькі часу зялёная сцяна скончылася і насып быў пракладзены проста па лесе. Над прасекай разгалістымі шатамі навісалі грабы і бярозы. Патыхала настоеным водарам прэлага лісця і сырой лясной зямлі.

Юрка ўжо колькі разоў перакладаў куфэрак з правай рукі ў левую, а канца ляжнёўцы ўсё не было.

Нарэшце лес скончыўся, і ляжнёўка пайшла сенажаццю. Адсюль хлопец убачыў і метэаралагічную станцыю. Яна была амаль ля самай рэчкі. Домік станцыі быў драўляны і высокі, нібы двухпавярховы.

Хлопец неяк наперад не думаў, якой будзе гэтая станцыя. Яшчэ ў тэхнікуме, калі студэнты здавалі выпускныя экзамены, будучыня ўяўлялася крыху інакшай. Юрка, як і яго сябра Сымон Баравік, у тэхнікум прыйшоў з дзетдома. Ён не вельмі думаў пра работу — неяк жа ўсё ўладзіцца. Але сябры іншы раз размаўлялі пра будучыню. Тон у такіх гаворках заўсёды задаваў Сымон. Ён гаварыў, што іх, можа, пашлюць за Палярны круг, на ільдзіну, да іх будуць прылятаць самалёты, будуць пісаць у газетах, і іншы раз Юрка, хоць гэтага ён ніколі і не гаварыў услых, уяўляў сябе ў ролі выратавальніка многіх людзей, якіх недзе ў моры насцігла бура, і толькі ён адзін заўважыў небяспеку. Да яго падыходзяць удзячныя людзі, кожны хоча сказаць яму нешта асаблівае. А ён? А што ён, ён толькі выканаў свой абавязак...

Атрымалася не так. За Палярны круг наогул не паслалі нікога. Праўда, Сымона накіравалі ў цікавае месца — ва Уладзівасток, мабыць, да маракоў. Такіх жа, як Юрка, было таксама шмат — каго паслалі на самыя звычайныя метэаралагічныя станцыі. Ва ўпраўленні хвалілі Пеўніка, загадчыка метстанцыі на рачулцы Віці.

— Юрый Іванавіч, галубок.— Пачуў раптам Юрка прыемны і нібы здаўна знаёмы голас. Ён азірнуўся і ўбачыў нізенькага лысага чалавечка, які, пакінуўшы веснічкі адчыненымі, бег яму насустрач. «Мой загадчык Пеўнік»,— падумалася хлопцу.

Пеўнік, не пытаючыся, узяў з Юркавых рук куфэрак, паставіў яго на траву і ўсё падскокваў, мітусіўся і дакараў Юрку за тое, што ён не адбіў тэлеграмы, калі выязджаў з упраўлення.

Дворык станцыі быў вельмі прыгожы і спадабаўся Юрку з першага позірку. Пасыпаная белым рачным пяском дарожка вяла да веранды, спавітай зялянінай дзікага вінаграду. Пад яблынямі ў садку стаялі выструганыя падпоркі, бо голле аж угіналася пад цяжкасцю пераспелых пепінак.

— Які ж вы нядобры,— прывітала Юрку ладная з выгляду гаспадыня.— Пеця аж тры разы на станцыю ездзіў, а вас усё няма. Будзем знаёмы — Вольга Апалонаўна...

Пеўнік у прысутнасці жонкі не мітусіўся, маўчаў і толькі неяк бездапаможна шморгаў носам. У пакойчыку ўсё было

прыбрана вельмі чыста, і Юрка з непрывычкі не ведаў, куды сесці. Быў ужо надвячорак. Чырвоныя праменні вячэрняга сонца прыгожа аздаблялі ціхі паўзмрок кватэры, на сцяне павольна адбіваў секунды старамодны гадзіннік з драўлянай зязюляй наверсе. У гадзінніку раптам нешта зашыпела, зашоргала, і ён, па-старэчаму, нібы кашляючы, пачаў адбіваць гадзіны. Юрка налічыў дзевяць удараў.

— Пеця, прыгані карову,— сказала гаспадыня.— Авечкі няхай паходзяць яшчэ...

Певунік надзеў кепку і хуценька памкнуўся на двор.

Вечарам пілі чай з малінавым варэннем, якое Вольга Апалонаўна прынесла аднекуль з кладоўкі. За чаем гаварыла адна гаспадыня. Яна расказвала пра работу станцыі, і з гэтай гаворкі вынікала, што без Вольгі Апалонаўны станцыя проста не змагла б існаваць. У той жа вечар, не саромеючыся, Вольга Апалонаўна расказала і пра тое, як спачатку яна не хацела ісці за Певуніка, які быў удаўцом, ды яшчэ і старым, і як, перадумаўшы, яна ўсё ж зразумела яго і пайшла за яго замуж.

— А цяпер жывем, як людзі, і не крыўдзімся адно на аднаго,— Вольга Апалонаўна пагладзіла Певуніка па голым, нібы калена, цемі.— Маем усё, што трэба,— піць, есці, і на людзі не сорамна паказацца. Праўда, Пеця?

Певунік прамармытаў у адказ нешта невыразнае і пабег у другі пакойчык перадаваць зводку.

Певунік дазволіў Юрку пакуль што знаёміцца з прыборамі і прыглядацца да работы. Хлопец за два дні агледзеў псіхраметрычную будку, глебавыя тэрмометры, гелографы і самапішучыя прыборы. Апараты былі ўсе новыя, і хлопец мімвольна ўспомніў свой тэхнікум — там былі такія самыя. Певунік работу паставіў умеючы, і Юрка дзень за днём пранікаўся ўсё большай павагай да свайго начальніка. Зводак за дзень перадавалася багата — гідралагічных, мікракліматычных, сінаптычных. Певунік бегаў да тэлефона бадай кожныя дзве гадзіны. Вольга Апалонаўна на станцыі не рабіла нічога.

Праз тыдзень Юрка стаў на работу. Яна яму не здалася цяжкай — у тэхнікуме іх вучылі большаму. Праз колькі дзён вярнуўся з водпуску трэці работнік, Дземідзюк, які жыў у Бабінавічах.

Калі выпадала вольная часіна, Юрка аглядаў навакольныя мясціны. Ён хадзіў уздоўж звілістага рэчышча Віці: рачулка спакойна несла сваю рудаватую ваду некуды аж у Дняпро. На яе хвалях гойдалася жоўтае лісце. Хлопец іншы раз завітваў і ў сасновы бор, які быў крыху далекавата, да яго трэба было ісці ў процілеглы ад ляжнёўкі бок вузенькаю, зарослай сцяжынкай. Верасы ўжо адцвіталі, і паветра было густа напоена п'янкім мядовым водарам. Зранку бор звінеў галасамі — сюды хадзілі па грыбы, а к вечару ў лесе ўсталёўвалася ўрачыстая цішыня. Толькі зрэдку разносілася мычанне заблудзіўшай каровы і працяглае рэха паравознага гудка з Бабінавіч. У такія хвіліны Юрку звычайна апаноўвалі спакойныя, як гэты ціхі лясны шум, думкі. Тэхнікум, Сымон Баравік, сябры — усё здавалася далёкім, што мінулася даўно-даўно.

Аднойчы, захапіўшы кошык, Юрка прыйшоў у бор зранку, але не пачуў звычайных пералівістых галасоў. Гэта яго здзівіла. Прасекай хлопец выйшаў да мясцінкі, якую даўно для сябе прыкмеціў. Тут раслі гонкія бярозкі, а ўвесь дол быў засланы хрупкім нізкарослым верасам. Хлопец адчуваў, што ў такой мясцінцы абавязкова павінны расці баравікі, але ён знаходзіў тут толькі рэдкія карэньчыкі.

Прайшоўшы колькі крокаў, Юрка раптам спыніўся як укапаны. Проста ў яго пад нагамі каля бярозкі цэлай сям'ёй сядзелі вялікія, як конскія капыты, баравікі, іх чарнаватыя шапкі былі пацягнуты ледзь прыкметнай сіняватай павалокай. Юрка хуценька азірнуўся і крыху далей убачыў яшчэ большую сям'ю. У аднаго баравіка шапка нагадвала цэлае рэшата — такі ён быў вялікі.

Юрка, падскокваючы, вырываў грыбы і, не ачышчаючы карэння, складваў іх у кучу каля кошыка. Ён стараўся пабраць баравікі, што раслі воддаль ад кошыка. На невялікай лапінцы вырасла, мабыць, болей за сотню грыбоў.

Сеўшы пад бярозку, хлопец стаў абразаць карэнне. За спіной раптам пачуўся сухі трэск, і, павярнуўшыся, Юрка ўбачыў дзяўчыну, якая ішла проста на яго. Ён пазнаў яе, хоць дзяўчына была ў старым ватніку, падпяразаным брызентавым рамянём. Гэта была тая самая дзяўчына, што паказвала яму тады ў Бабінавічах дарогу на гідраметстанцыю. Хлопец прыўзняўся, атрасаючы з полаў карэнне.

— Колькі грыбоў! — у голасе дзяўчыны Юрка пачуў сапраўдную зайздрасць.— Ну і дурная ж я, што сюды адразу не прыбегла.

У кошыку дзяўчыны Юрка ўбачыў толькі лічаныя баравічкі, і таму яе словы неяк непрыемна яго кальнулі.

— Трэба было прыбегчы,— пакрыўджана сказаў ён.— Але ў лесе грыбы для ўсіх роўныя.

— Няхай сабе роўныя, толькі гэта мая мясцінка. Тут мне заўсёды шанцуе...

Дзяўчына адышлася за некалькі крокаў ад кошыка і, ухапіўшы жмак сухога верасу, падняла яго. На дне ямкі з-пад вывaратня Юрка ўбачыў шмат пачарнелых грыбных карэнняў.

— Маскіроўка,— весела прамовіў хлопец.— Толькі ўсё роўна ў лесе грыбоў не схаваеш. Я таксама лічыў, што тут грыбы павінны расці...

— А вы шчаслівы,— сказала дзяўчына, калі ўжо яны ішлі па лесе.— Я яшчэ ні разу столькі грыбоў не знаходзіла...

Юрку хацелася зрабіць дзяўчыне што-небудзь прыемнае, але ён не ведаў што. Раптам ён моўчкі пакрочыў ад яе ўбок, а яна, здзіўленая, стаяла і пазірала яму ўслед, не разумеючы яго намеру. І толькі калі Юрка пачаў калясіць па верасе, яна звонка, на ўвесь лес засмяялася.

Але бывае ж і так, што чаго вельмі хочаш, тое збываецца. Не прайшоў Юрка і сотні крокаў, як убачыў два ладныя чорнагаловыя баравікі, якія нібыта спецыяльна выраслі для гэтай хвіліны. Ён, зняўшы з пляча свой кошык, выламаў з зямлі баравікі і паднёс іх дзяўчыне.

— Гэта вам,— сказаў ён сур’ёзна.— Мне няма куды класці...

Дзяўчына моцна зачырванелася і ўзяла з Юркавых рук грыбы. Замяшаўся і Юрка, ён не ведаў, што гаварыць далей.

— Будзем знаёмы,— выпаліў ён нарэшце.— Юрый!..

— Ніна,— прамовіла дзяўчына ў замяшанні і падняла на Юрку вочы. У гэтых вачах не было ўжо ранейшай гарэзлівасці, яны пазіралі неяк разгублена, спалохана.

Яны зноў пайшлі па лесе, крыху воддаль адно ад другога. Цяпер баравікі Юрку не трапляліся, затое Ніна час ад часу ставіла свой кошык на дол і клала ў яго нейкія грыбы. Толькі перад самай сцежкай на ўскрайку лесу Юрка знайшоў яшчэ

аднаго баравічка і ўжо моўчкі паклаў яго ў Нінін кошык. Кошык быў амаль што поўны, хоць баравікоў у ім было не вельмі многа.

— А чаму сёння ў лесе няма людзей? — запытаў Юрка, калі яны выйшлі на сцежку.

— Дык сёння ж першае верасня! — галасна ўсклікнула дзяўчына.— У школе ўсе, хіба вечарам прыбягуць. А дарослыя — на полі...

Першае верасня! Як жа Юрка мог забыць гэты дзень, які і для яго быў святам цэлых адзінаццаць год. Там, у тэхнікуме, сёння шумна, весела.

— А вы ў школу не ходзіце? — спытаў Юрка пасля невялікага роздуму.

— Я — студэнтка! — у голасе дзяўчыны звінела гордасць.— Хутка і я паеду...

Ніна расказала дарогай пра сябе. Яна зараз на трэцім курсе горнага тэхнікума, а яе спецыяльнасць — разведка і выкарыстанне карысных выкапняў. Летам яна была на практыцы, таму заняткі іх пачнуцца крыху пазней — у другой палавіне верасня. Вучыцца Ніне яшчэ два гады, а там...

Юрка цяпер шчыра зайздросціў ёй — паедзе вучыцца, у яе такая цікавая спецыяльнасць. Эх ты, сіноптык, куды табе раўняцца з гэтаю птушкай! Перад ёю раскрываюцца нетры зямлі, Урал і Каўказ, а ты сядзі са сваім Пеўнікам, вымярай ападкі і тэмпературу і чакай з мора пагоды...

Хлапца апанаваў такі глыбокі сум, што ён з хвіліну не мог прамовіць слова.

— А ваша работа вам спадабаецца? — Ніна як угадала яго думкі і паглядзела на Юрку дапытлівымі вачамі.

— Яна мае значэнне для ўсёй народнай гаспадаркі,— цераз сілу, нібы па падручніку, адказаў Юрка.— Для авіяцыі, напрыклад, для сельскай гаспадаркі...

Развіталіся яны перад самай ляжнёўкай.

— А які ж вы малайчына, столькі грыбоў Пеця ніколі не прыносіў,— запела Вольга Апалонаўна, як толькі Юрка зайшоў у двор.— І адны баравікі. Пеця, ідзі павучыся, як трэба грыбы збіраць,— крыкнула яна Пеўніку, які кошкаўся ў хлеўчуку.

Пеўнік прыбег, паглядзеў на грыбы, і на яго твары адбілася шчырая радасць.

— Я, брат, таксама грыбавік, а табе проста шчасце падваліла. Былі і ў мяне некалі ўдачы. Эх, разам нам не выпадае па верасе пахадзіць,— паскроб патыліцу Пеўнік.

— Зімой на рынку за нізку грыбоў па дваццаць рублёў даюць,— нараспеў сказала гаспадыня і доўгім позіркам акінула ўслон, на якім Пеўнік раскладаў грыбы.— Вы, Юрый, мусіць, на цэлую сотню сёння назбіралі. Гэта добры заработак. Белыя грыбы можна і ў сельпо ў Бабінавічы здаваць...

— Сціхні ты, бухгалтэрыя,— не вытрымаў Пеўнік, і ў яго аж пабялеў твар.

Такім Пеўніка хлопец бачыў першы раз. Радасць ад удачы, ад сустрэчы з Нінай неяк патухла, і Юрка ціха падаўся да калодзежа мыцца.

Работа на станцыі ішла сваім парадкам. Юрка працаваў, мабыць, спраўна, бо ні Пеўнік, ні Дземідзюк яго ні разу не папракнулі. Хлопец хутка асвоіўся са шматлікімі формамі справаздачнасці — аб узроўні балотных вод, аб мікрасаставе глебы, аб зменах рэльефу. Зводак пісаць трэба было багата. Куды больш хлапцу падабалася хадзіць каля апаратаў. Яны лавілі, занатоўвалі не бачныя нікому змены. У тоненькіх загагулінках, якія пакідалі на разграфлёнай паперы самапішучыя прыборы, хлопец хутка навучыўся разгадваць хістанні атмасфернага ціску, скачкі тэмпературы, насычанасць паветра вільгаццю. Барограф, тэрмограф здаваліся хлопцу разумнымі, жывымі істотамі.

Усе гэтыя дні Юрка думаў пра Ніну. Ён успамінаў сустрэчу з ёй у грыбах, і жывы вобраз дзяўчыны паўставаў у яго вачах. Хлопец моцна дакараў сябе за тое, што не сказаў тады Ніне ніводнага разумнага слова. Яна, мабыць, дрэнна аб ім думае...

Юрка папрасіўся аднойчы ў Пеўніка падзяжурыць дзве змены ўзапар, а назаўтра на цэлы дзень выбраўся ў бор. Ён спадзяваўся сустрэць там Ніну, бо, па яго разліках, яна яшчэ не магла паехаць. Хвалюючыся, нібы перад экзаменам, ішоў хлопец знаёмай прасекай да мясцінкі, дзе яму так пашанцавала тады на грыбы. Ён чамусьці думаў, што Ніна абавязкова павінна быць там. Яшчэ здалёк Юрка заўважыў постаць, якая мільгнула паміж знаёмых бярэзінак. Хлопец на хвіліну спыніўся, а пасля рашучым крокам накіраваўся ў бярэзнік. Ён

хацеў з'явіцца перад дзяўчынай нечакана і на хаду прыдумваў словы, якія ён скажа Ніне пры сустрэчы. Не дайшоўшы колькі крокаў да бярэзніку, Юрка раптоўна спыніўся. Па верасе тупала нейкая сагнутая старая і раз-пораз кідала нядобразычлівыя позіркі ў Юркаў бок. Хлопец, не павітаўшыся, павярнуўся і пайшоў па лесе. Ніны ён не сустрэў...

Назаўтра, аддзяжурыўшы сваю змену, Юрка пашыбаваў у Бабінавічы на станцыю. Ён хадзіў па дашчаных памостках, якія замянялі перон, дачакаўся вячэрняга цягніка ў надзеі, што вось-вось паявіцца на станцыі Ніна. Але яе не было. Юрка сабраўся ўжо ісці на Віць, як раптам, нібы з-пад зямлі, перад ім вырасла Люська, тая, што сядзела ў час Юркавага прыезду на лавачцы разам з Нінай.

— Пеўнікаў пляменнік, добры дзень! — сказала яна і чамусьці захіхікала.— Дык як жа вы там, багата грыбоў насушылі?..

Чырвань кінулася Юрку ў твар, і яму захацелася сказаць гэтай языкатай дзяўчыне што-небудзь колкае, абразлівае. Мільганула нядобрая думка пра Ніну, якая не знайшла нічога лепшага, як толькі дзяліцца сваімі сакрэтамі з гэтай балбатухай.

— Грыбы трэба ўмець збіраць,— з націскам сказаў Юрка.— Гэта не гарбузікі лушчыць...

— Ды вы збіраць умееце, аж кошыка не хапае. Ніна цэлых два дні злавалася.

— А дзе яна цяпер? — стараючыся гаварыць спакойна, спытаў Юрка, злосць у якога пачала паступова праходзіць.

— Паехала пазаўчора,— бесклапотна адказала Люська.— Раней паехала, каб не спазніцца атрымаць у інтэрнаце месца.

## II

На Віці наступіла восень. Дні стаялі ціхія, пагодлівыя, але павольнае заміранне жыцця адчувалася ва ўсім. У паветры лятала срабрыстае павуцінне, маўкліва, задуменна стаялі вольхі, а клёны сваімі шатамі нагадвалі вялізныя вогнішчы. Не спяшаючыся, цякла Віць, а ў высокім сінім небе журботна курлыкалі журавы.

На Пеўніка нахлынулі розныя справы па гаспадарцы, і ён усё часцей прасіў Юрку падзяжурыць за яго. Прасіў ён такім голасам, нібы прасіў прабачэння, і ад гэтага хлопцу заўсёды

станавілася прыкра. Вольга Апалонаўна ўсё завіхалася з рознымі прыпасамі на зіму. Яна перастаўляла ў кладоўцы цэлыя батарэі банак з марынаванымі грыбамі, варэннем, перакладвала мяшэчкі з сушанымі ягадамі, нізкі грыбоў, нейкія засушаныя зёлкі, прасушвала шынкі і кілбасы.

«Арцель яна збіраецца карміць, ці што?» — не раз думаў Юрка, і ў яго душы расло нездавальненне ўсім гэтым парадкам жыцця ў доме Пеўніка. Ён успамінаў свой інтэрнат і свой пакой, дзе сем хлопцаў жылі на гарбаце і рублёвых булках, здаецца, весялей, чым тут жывуць на шынках і варэнні. Ад такіх успамінаў станавілася страшэнна сумна, і хлопец стараўся хутчэй заняцца якой-небудзь работай, каб разагнаць думкі.

У гэтыя дні Юрку выклікалі ў райкам камсамола. Сакратар назваў хлопца «каралём надвор'я» і, паморшчыўшы лоб, доўга думаў, куды яго паставіць на ўлік. Нарэшце вырашыў — у бабінавіцкую школьную арганізацыю. Ад Віці туды хадзіць бліжэй.

Нізенькая дзяўчынка, сакратар камсамольскай арганізацыі, доўга не магла прыдумаць для Юркі даручэння.

— Можа, вы даклад прачыталі б? — нясмела прапанавала яна.— Ну, пра гром, маланку — на антырэлігійную тэму...

— Няхай толькі на сходы прыходзіць,— пачуў Юрка за сваёй спіной голас. Адвярнуўшыся, хлопец убачыў Люську, якая, мабыць, мела нейкае дачыненне да камсамольскага камітэта.— А то ён і не вылазіць са свайго хутара,— гаварыла Люська, і вочы яе праменіліся смехам.

Нарэшце наступіла сапраўдная восень. Неба, нібы рэшата, бясконца сеяла аднастайны, нудны дождж і халодную імжу. Сіратліва стаялі голыя вольхі і бярозы, а далёкі бор шумеў сумна, прыглушана.

Жыццё на Віці ішло нудна і аднастайна.

Зімой стала крыху весялей. Віць прытаілася сярод хмызнякоў, зрабілася вузенькай і непрыкметнай. Затое лес папрыгажэў. Ён стаяў суровы і сур'ёзны ў сваёй зімовай зацятасці. Ноччу ён шумеў глуха і насцярожана. Юрку з непрывычкі было нават страшнавата.

Над Віццю ўзыходзіў такі светлы і круглы месяц, якога Юрка, здаецца, яшчэ ні разу не бачыў. Уся даліна Віці ў гэты час ззяла нейкім дзівосным харастве м.

Аднойчы вечарам Юрка выйшаў на Віць паглядзець венцяры, якія Пеўнік паставіў нанач. Ціха шумела прыбярэжнае трысцё, па срабрыстым лёдзе вецер гнаў лёгкі сняжок. Чыстае, зорнае неба, белая аднастайная даліна Віці, суровая сцяна зімовага лесу — усё гэта выклікала ў душы нейкую ўрачыстасць і спакой.

«Прыехала б сюды Ніна,— міжволі нарадзілася думка.— Тут так прасторна...»

У адзін з зімовых дзён Юрку прапанавалі зрабіць даклад у бабінавіцкім клубе. Хлопец гаварыў з запалам, і слухалі яго ўважліва. Даклад, мабыць, спадабаўся, бо Юрку задалі нават зашмат пытанняў. Ён аж узмакрэў, пакуль адказаў на ўсе гэтыя пытанні, якія больш за ўсё датычыліся розных нечаканасцей у надвор'і. Пасля даклада да Юркі падышла Люська.

— Прыходзьце ў клуб,— сказала яна.— На канікулы і Ніна прыедзе, яна ж у нашай школе вучылася. Прыходзьце, а то са сваім Пеўнікам хутка адзічэеце на тым хутары.

Хлопец пакінуў бабінавіцкі клуб у добрым, прыўзнятым настроі. Гэты настрой не пакідаў Юрку ўсе дні, якія заставаліся да пачатку студэнцкіх канікул, хоць на станцыі былі і свае непрыемнасці. Занядужаў Пеўнік, і яго паклалі ў бакоўку, якую дагэтуль займаў Юрка. Вольга Апалонаўна, як апантаная, бегала па пакоі з нейкімі бутэлечкамі і зёлкамі. Цяпер уся станцыя лягла на Юрку і Дземідзюка. Але хлопец носа не вешаў. Яму прыбавілася рухавасці, у адной сарочцы выбягаў ён на заснежаную пляцоўку і з небывалым раней спрытам узлазіў па лесвіцах да прыбораў.

— Занядужаеце, Юрый,— з непаддзельным спалохам гаварыла Вольга Апалонаўна.— Станцыю ж закрыць нельга...

Па Юркавых разліках Ніна павінна была прыехаць ужо, але Пеўнік не ўставаў, і хлопец не мог адлучыцца ў Бабінавічы цэлы тыдзень. Станцыя згубіла для Юркі ранейшы інтарэс, і ён хадзіў вялы, безуважлівы. Пеўнік, мабыць, разгадаў Юркаў настрой. Аднойчы пад вечар, крэкчучы, ён выйшаў з бакоўкі і падсеў да хлопца.

— Чаго ты сумны, Юра? — спытаў ён ціха, не гледзячы ў вочы свайму памочніку.

Юрка не ведаў, што адказаць.

— Мне ў Бабінавічы трэба, Пётр Іванавіч. Я пасля дзяжурыць хоць цэлы месяц магу.

— То ідзі, Юра. Мне лепш стала, ідзі і нічога не думай. Усё добра будзе...

— Заўтра вы цэлы дзень адпачываць будзеце, Пётр Іванавіч,— узрадавана сказаў хлопец і стаў борздзенька апранацца.

Бабінавіцкі клуб гудзеў, як вулей, іграў акардэон, лёгка насіліся па зале пары. Юрка праціснуўся наперад і пачаў шукаць вачамі Ніну. Яе не было ў клубе, але ў хлопца было такое адчуванне, што яна абавязкова прыйдзе. Хутка Ніна прыйшла сапраўды, і яе паяўленне Юрка ўлавіў не вачамі, а адразу ўсёй істотай. Яна паявілася ў дзвярах з расчырванелымі ад марозу шчокамі, з заінелай пасмачкай валасоў, якія выбіліся з-пад вязанай шэрай хусткі. Ніна здалася Юрку на дзіва прыгожай, і ён з хвіліну не мог адарваць ад яе свайго позірку. Дзяўчына нарэшце заўважыла яго і кіўнула, усміхнуўшыся. Юрка лёгка прабраўся да яе і павітаўся.

— Чаго ж вас не відаць? Можа, вы холаду баіцеся? — сказала Ніна.

— Ды не,— збянтэжыўся Юрка.— На станцыі ў нас... А вы надоўга прыехалі?

— Я ўжо чатыры дні тут, праз дзень паеду. Гэта ўжо маці ўпрасіла застацца, а то я паехала б ужо. Нас усяго на тыдзень пускалі.

Юрка імгненна спахмурнеў і не ведаў, што гаварыць далей. Падбегла Люська і, як сарока, пачала трашчаць нешта сваё, незразумелае. Пасля зайгралі вальс, і Ніну запрасіў танцаваць высокі хлопец у армейскім кіцелі. Юрка танцаваць не ўмеў і з зайздрасцю пазіраў, як кружылася Ніна з высокім, прыгожым хлапцом. Ён яе не адпускаў, і яны танцавалі ўзапар усе вальсы і полькі.

Люська расказала, што высокі хлопец — студэнт, вучыцца ён у самай Маскве, і што наогул сёння студэнты спраўляюць свой развітальны вечар. Яна дакарала Юрку за тое, што ён не паказваўся ў Бабінавічах усе гэтыя дні. Студэнты між тым сабраліся ў купку і пачалі спяваць пад акардэон. Спявалі яны хораша, суладна, і Юрку на душы стала да болю маркотна.

З клуба студэнты таксама выходзілі разам. Яны ішлі ўпоперак усёй вуліцы талакой і пелі знаёмую студэнцкую песню. Ніна ішла поруч з высокім хлопцам. Юрка прайшоў услед за студэнтамі да ляжнёўкі і павярнуў на Віць. Стала цяплей, з дрэў церушыўся лёгкі іней.

Назаўтра Юрка хадзіў каля прыбораў і стараўся ні пра што не думаць. Ніна стала ў думках далёкай, чужой, незразумелай. Прывезлі пошту. Быў загад па ўпраўленню, у якім падводзіліся вынікі работы гідраметстанцый за апошні квартал мінулага года. Станцыю на Віці ставілі ў прыклад, а яе супрацоўнікам аб'яўлялася падзяка.

З гэтай поштай Юрка атрымаў і першае пісьмо ад Сымона Баравіка, хоць напісаў яму ўжо некалькі пісем. На канверце стаяў штамп далёкага горада Уладзівастока. Пісьмо было радасным і смелым, як і сам Юркаў таварыш. Сымон пісаў пра Вялікі акіян, пасаты і тайфуны, марскія штормы і свае асабістыя прыгоды і заслугі ў шмат якіх цікавых справах.

Ад пісьма на душы ў Юркі стала яшчэ маркотней.

Быў ужо вечар, і хлопец міжволі падумаў, што, напэўна, зараз садзіцца на поезд Ніна. Яны ідуць з чамаданамі ў вагоны, і поруч з Нінай ідзе той высокі маскоўскі студэнт. Яны абое прыгожыя, вясёлыя, смяюцца...

Дні пацягнуліся аднастайныя, страшэнна падобныя адзін на другі. Пачаліся завірухі, і снегу намяло столькі, што праз яго цяжка было прабіцца на пляцоўку станцыі. Без лыж да Бабінавіч цяпер трэба было дабірацца гадзіны тры.

Вечарамі, як і заўсёды, пілі чай з малінавым варэннем. Гаспадыня ў такія гадзіны ўспамінала дні сваёй маладосці. Пеўнік моўчкі шморгаў носам, а Юрка адчуваў, што ўся яго істота ўсё больш напаўняецца пратэстам супраць усяго гэтага ўкладу жыцця.— «Не, так ён жыць не прывык, не будзе так жыць!..»

— Цяпер зіма, Юрый,— сказала ў адзін з такіх дзён Вольга Апалонаўна.— Прадукты цяпер даражэйшыя. Так што я з вас за сталаванне на паўсотні больш вылічваць буду. Гэта да лета толькі,— з сур'ёзным выглядам дадала гаспадыня.

Юрка моўчкі кіўнуў у знак згоды.

Хлопец, як і раней, бегаў да прыбораў, складаў зводкі, але ўсю гэтую работу ён рабіў напаўмеханічна, у нейкім

здранцвенні думак і пачуццяў. Аднойчы ўвечары, калі на двары ва ўсю моц гуляла завіруха, а на канапе з вязаннем у руках гучна храпла Вольга Апалонаўна, Юрка напісаў заяву ва ўпраўленне. Ён тлумачыў, што думае яшчэ вучыцца, а таму просіць яго перавесці на другую станцыю, бліжэй да горада. Назаўтра пісьмо з заявай Юрка сам занёс у Бабінавічы і кінуў у паштовы вагон.

## III

Вясна прыйшла імклівая, хуткая. За які тыдзень снег сагнала нават у лесе. Віць памаладзела, пажвавела, яе хвалі весела перакатваліся пад навіслымі алешынамі.

Прыйшоў ліст з упраўлення, яго прынёс сам Пеўнік. У ім пісалі, што пры магчымасці Юрку перавядуць на другую станцыю, але калі ён адпрацуе на Віці не менш двух гадоў. Пеўнік быў пахмурны, пра ліст ён, мабыць, ведаў.

Вясной Юрка прыкметна акрыяў. Ён часцей хадзіў у Бабінавічы і, калі выдавалася вольная часіна, любіў вечарамі стаяць на станцыі. Праносіліся цягнікі, запыняючыся ў Бабінавічах іншы раз на якую хвіліну. Юрка не раз лавіў сябе на думцы, што, мабыць, і ён праз год паедзе з Бабінавіч і тады ўжо ніколі не вернецца на Віць.

Вясной Пеўнік зацята ўкінуўся ў гаспадарку. Ён завіхаўся на градах, садзіў радыс, агуркі і нават аднекуль прынёс табачнай расады, хоць сам і не курыў. Юрка цэлымі днямі сядзеў каля прыбораў, а вечарамі хадзіў на станцыю або вандраваў па ваколіцах.

Ідучы аднойчы ўздоўж звілістага рэчышча Віці, хлопец спыніўся здзіўлены. На беразе рачулкі была навалена вялікая куча бярвенняў, гарэў агонь, а некалькі цесляроў бязладна цюкалі сякерамі. Юрка падышоў бліжэй і ўбачыў невысокага дзядзечку, які, відаць, камандаваў усёй гэтай работай.

Дзён праз колькі невысокі чалавечак, у якога было смешнае прозвішча — Глыба, сам завітаў на метстанцыю.

— Дык, кажаш, пагода будзе? — зірнуўшы на барометр, спытаў ён у Юркі.— Ды толькі ці надоўга?

— Ціск нармальны,— адказаў Юрка.— Пагода, магчыма, утрымаецца.

— Я да Пеўніка прыйшоў, але, можа, і вы мне паможаце,— пачаў нарэшце Глыба.— Падводзіць нас сельэлектра: абяцалі прыслаць гідратэхніка і не прысылаюць.

— Якога гідратэхніка? — Юрка падняў ад папер галаву і здзіўлена пазіраў на Глыбу.

— Электрастанцыю ж мы ладзімся будаваць. На Віці, можа, бачылі, бярвенняў навазілі. То хаця б да сенакосу абводны канал пракапаць. Замер дык яшчэ летась зрабілі і чарцяжы прыслалі ўжо. Але ж я адзін магу і не так зрабіць, магу памыліцца. Я ж працую толькі прарабам...

Юрка паглядзеў на прараба вясёлымі і зацікаўленымі вачамі.

— Можа памагчы і Пеўнік, магу і я, калі хочаце,— смела сказаў Юрка.— Гідратэхніку мы два гады вывучалі, па ёй быў самы цяжкі экзамен.

— Канечне,— ахвотна згадзіўся дзядзечка.— Гэта ж не абы-што. Толькі калі ж у вас будзе час? Я б прыйшоў к вам, гэта ж недалёка...

— Заўтра,— сказаў Юрка.— Я скажу Пеўніку, ён пусціць.

Думка аб тым, што на Віці пабудуюць электрастанцыю, вельмі спадабалася Юрку. Глыбава просьба павысіла яго настрой, і ён адразу расказаў аб ёй Пеўніку, калі той з’явіўся дадому з вялікім бярэмем арэхавых кійкоў. Пеўнік выслухаў навіну спакойна.

— Пра гэтую станцыю размову пачыналі яшчэ пазалетась, здаецца. А пабудаваць можна, чаму ж не. Паглядзім...

Юрку ён пусціў да прараба без слоў. Назаўтра хлопец памчаў на Віць з самага ранку, адмовіўшыся ад снедання, якое толькі ладзілася гатаваць Вольга Апалонаўна. Па беразе рачулкі ўжо крочыў прараб. У сельэлектраўскіх чарцяжах хлопец разабраўся лёгка, ды і Глыба, здаецца, разумеў іх не горш за яго. Абводны канал меркавалася пачаць ад алешніку, дзе, выскачыўшы на прастор, Віць рабіла ладны крук, свавольна пятляючы па сенажаці. Турбінная камера, трансфарматарная будка — усё гэта, згодна з чарцяжамі, павінна было размясціцца зусім блізка ад метстанцыі.

Юрка прападаў цяпер каля Віці ўвесь свой вольны час. Удвух з Глыбам яны абазначылі калкамі шлях абводнага канала, які павінен быў скараціць цячэнне ціхай рачулкі. Праз тыдзень

на беразе Віці, як грыб-дажджавік, вырас дамок з абчэсаных сасновых бярвенняў. Ён весела пазіраў двума вокнамі на прыбярэжныя лазнякі.

У нядзелю раніцай, толькі выйшаўшы за веснічкі, Юрка пачуў безліч галасоў. Азірнуўшыся, хлопец убачыў, як, збочыўшы з ляжнёўкі, у кірунку Віці ішло, можа, з сотню хлапцоў і дзяўчат. Наперадзе падскоквалі, апіраючыся на рыдлёўкі, стрыжаныя хлапчукі. Пеўнік выйшаў на ганак і таксама пазіраў на гэтую працэсію, прыклаўшы руку да лба.

— Школа на суботнік прыйшла,— сказаў праз паркан яму Юрка.— Канал капаць будуць.

Юрка зайшоў у двор і, захапіўшы пад павеццю рыдлёўку, таропка пакрочыў да Віці.

На сенажаці, уздоўж роўнай лініі калкоў, ужо ўзляталі ў паветры камякі чорнай зляжалай зямлі. Гоман стаяў, як на кірмашы. Хлопец выбраў сабе дзялянку. Ён толькі паспеў зрабіць некалькі ўзмахаў рыдлёўкай, як пачуў за сваёй спіной знаёмы голас.

— Дажджу не будзе, Архімед? — хіхікала, стоячы ля хлопца, Люська.— А то я свой дажджавік забыла дома.

Юрка ўсміхнуўся, але не адказаў нічога. Толькі цяпер ён заўважыў, што забыў перамяніць туфлі. Ён іх купіў на лета, і яны былі амаль яшчэ новыя. Люська прыстроілася побач і, відаць, не хацела адставаць ад Юркі. Але ў яе ладзілася горш.

— Хутка Ніна прыедзе,— абыякавым голасам раптам паведаміла Люська.— На практыку,— дадала яна.

Юрка зачырванеўся і таму апусціў галаву, каб не заўважыла Люська. Ён сам думаў пра Ніну, але не хацеў, каб ведала гэтая лапатуха.

Юрка капаў спорна, так што Люська нашмат адстала ад яго. Нарэшце ёй, відаць, абрыдзела капаць поруч з ім, бо хлопец маўчаў як рыба, і Люська перабралася ў другое месца. Адтуль нёсся яе залівісты смех.

Юрка папрацаваў да знямогі. За дзень гуртам пракапалі добры кавалак. Ідучы дамоў, хлопец падумаў пра Ніну і не мог зразумець, аб якой практыцы гаварыла Люська.

Дні стаялі спякотныя, сонечныя. Наступіла нарэшце касавіца.

У адзін з тых дзён вечарам Юрка прыйшоў на станцыю ў Бабінавічы і сеў на лавачку. На перон выйшаў дзяжурны

ў чырвонай шапцы. З-за павароту быў ужо чуцён блізкі гул поезда. Праз хвіліну цягнік спыніўся з усяго разбегу, нібы ўкапаны, цяжка задыхваючыся парай, і Юрка ўбачыў, як з другога вагона выйшла Ніна. Яна была не адна. Услед за ёй ішоў нейкі лысаваты чалавек з доўгімі чахламі ў руках. Юрка ўстаў з лавачкі і таропка пайшоў, не хочучы, каб Ніна ўбачыла яго цяпер. Адышоўшыся ўжо да сцежкі, хлопец раптам пачуў ззаду знаёмы пералівісты голас:

— Куды ж вы так спяшаецеся? — Ніна набліжалася да Юркі імклівай, лёгкай хадою.— Раскажыце хоць, што тут у вас новага?

— Нічога,— збянтэжана прамовіў Юрка.— Горача вельмі сёння. Магчыма, будзе дождж...

Дзяўчына звонка засмяялася і паглядзела на Юрку сваімі гарэзлівымі вачамі.

— А я на практыку прыехала. Ледзь адпрасілася сюды. Не хацелі браць...

— Дык вы яшчэ на Каўказ паедзеце? — спытаў Юрка ціха.

— Чаму на Каўказ? — Ніна зноў бліснула на Юрку вясёлымі вачамі.— Гэты таварыш, што са мной, з міністэрства. Вапну будзем разведваць.

— Дык хіба ж з горнага тэхнікума сюды прысылаюць? — Юркаў твар адбіваў, мабыць, поўнае замяшанне і неразуменне.

— Вапна, гліна — гэта ж таксама спецыяльнасць геолагаў.

Дамоў Юрка ляцеў як на крыллях. Ён не заўважыў, як насунулася хмара, і не затуліўся пад засень дрэў, калі, нібы з вядра, лінуў дождж. Апамятаўся хлопец толькі тады, калі падышоў да канца ляжнёўкі. Дождж суняўся, а на беразе Віці паблісквАў агеньчык. Юрка подбегам накіраваўся туды. Побач з домікам быў пабудаваны ўжо і шалаш, а ў ім гарэў агонь. Ля агню сядзелі Глыба і яшчэ трое і курылі.

— Што ж ты, брат, пра надвор'е гадаеш, а сам мокры ходзіш,— сустрэў Глыба Юрку.

— Ды так, прамок...

У шалашы ішла свая размова, і Юрка не хацеў яе перабіваць.

— Да восені, можа, і закончыцца наша работа,— гаварыў дзядзька, што сядзеў у самым кутку шалаша.— Сілы шмат трэба, а карысці вялікай, можа, і не будзе. Ну, электрыку пра-

вядзем, пілараму, можа, паставім. Трыццаць нашых кілават — гэта ж табе не Днепрагэс, свет імі не перавернеш.

Юрка прыйшоў дадому і, не распранаючыся, прысеў ля стала. Яму хацелася нешта зрабіць. Усе ўражанні дня спляліся, пераблыталіся ў адзін клубок і не давалі хлопцу спакою. Нарэшце Юрка ціхенька высунуў шуфляду стала і дастаў сшытак. Ён вырваў чысты лісток і пачаў таропка пісаць. Пісаў ён ва ўпраўленне. Юрка прасіў нікуды яго з Віці не пераводзіць, а яго ранейшую заяву прыслаць яму назад.

«У Вольгі Апалонаўны жыць больш не буду»,— мільганула думка, і хлопец узрадаваўся ёй.

У суседнім пакоі шуршэў паперамі Пеўнік, ён складаў зводку за дзесяць дзён. Юрка выйшаў на ганак і падставіў разгарачаны твар свежаму начному ветру. Ціха булькала пад навіслымі алешынамі Віць, а адтуль, з шалаша, бліскаў вясёлы агеньчык...

*1955*

## СІДАР І ГАРАСЬКА

У поўдзень, як стане сонца над самай галавой, рэйкі награюцца так, што на іх боязна ступіць босай нагой. Калі ад таго месца, дзе рамонтная брыгада робіць разгонку, паглядзець уздоўж чыгуначнага палатна, то здаецца, што якраз каля крывой гэтае палатно становіцца рэчкай, а над ёю трымціць-пераліваецца туманная бель. У хвіліны гэтакай нясцерпнай спякоты брыгада звычайна ладзіцца на абед. Пуцейцы, пераважна дзядзькі ў гадах, спакваля ідуць у халадок, дастаюць акрайцы хлеба і бутэлькі з малаком. Без абеду аціраецца адзін толькі Гараська, цыганаваты хлопец з вачамі-слівінамі, самы малодшы з пуцейцаў. Жыве Гараська самапасам, начуе ў нейкай цёткі, якая яму раднёй, як дзясятая вада на кісялі. Пра гэтую цётку расказваюць, што ў яе зімой лёду не дастанеш. Але Гараська не з тых, што асабліва задумваюцца над нягодамі лёсу.

Якраз апаўдня, нібы па гадзінніку, на гарызонце з’яўляецца доўгая, як дзіда, постаць пуцявога абходчыка Сідара, будка

якога стаіць непадалёку ад месца работы. Сідар так павольна перастаўляе свае ногі, якія ў яго амаль не згінаюцца ў каленях, што здаецца, быццам ён ідзе па вузкай, небяспечнай кладцы. Гараська ў гэты час ужо напагатове. Прыладзіўшыся на броўцы, ён пільна сочыць за Сідарам.

— Руб дваццаць, сыр з маслам,— дэкламуе ён у такт павольным Сідаравым крокам.

У кустах чуецца прыцішаны рогат. Усе з цікавасцю чакаюць дармавога спектакля, які кожны дзень разыгрываецца Гараськам.

— Пастаў Сідару на галаву шклянку з вадой, то ўвесь абход зробіць і кропелькі не разалье,— выказвае свае назіранні Гараська.

Але самае цікавае адбываецца тады, калі Сідара запрашаюць перакурыць. Гараська, уставіўшы вочы ў дол, ціхенька падсядае да дзядзькоў. На яго твары такі выраз спакою і паслухмянасці, што Сідар, які раз-пораз кідае насцярожаныя позіркі ў бок хлопца, канчаткова супакойваецца і заводзіць гаворку.

— Дзядзька Сідар,— лагодным галаском пад'язджае Гараська.— Казалі, што ўчора вы ў грыбы хадзілі. Дык як, растуць ужо грыбы?

— Якія цяпер грыбы? — не чакаючы падколу, павольна цягне Сідар.— Увесь лес абхадзіў і знайшоў толькі два баравікі.

— А пастухі казалі, што вы нешта ўсё вакол кароўяга тырла кружылі. Якія ж там грыбы ў алешніку?..

Дзядзькі, пападаўшы ў траву, сіпяць прыдушаным смехам, і Сідар, нарэшце, разумее, што ўсю гэтую гутарку Гараська распачаў не так сабе.

— А каб табе твой паганы язык адсох!..— злуецца абходчык і ўскладвае на плечы свае прычындалы.— Каб цябе чэрці ў тым алешніку кружылі, дзе ты мяне ў грыбах бачыў...

Невядома, колькі б працягвалася гэтая несціханая вайна паміж абходчыкам Сідарам і цыганаватым Гараськам, каб не адбыліся падзеі іншага маштабу, якія надоўга прымусілі забыць пра гэтыя жыццёвыя дробязі.

Аднойчы, калі рамонтная брыгада размясцілася на абед, усе ўбачылі нешта незвычайнае. Па шпалах, сігаючы ва ўсе

сваё доўгія ногі, бег Сідар. Ён быў без шапкі, у расхлістанай сарочцы, і з твару яго ручаямі цурчэў пот.

— Хлопцы, вайна! — не дабегшы да пуцейцаў, закрычаў ён хрыплым, натужным голасам.— Германец напаў...

Пуцейцы склалі інструмент на ваганетку з чырвоным сцяжком і павольна рушылі на станцыю. Ззаду ўсіх крочыў Гараська, ён ішоў задуменны і маўклівы.

Перад прыходам немцаў рамонтная брыгада распалася. Адны пайшлі ў армію, другіх эвакуіравалі ў глыбінныя раёны. Сідар, які быў хворы на нагі, застаўся ў сваёй будцы, а Гараська некуды знік з вачэй.

Прыкладна праз год доўгая постаць Сідара зноў пачала маячыць па чыгуначным палатне. Толькі цяпер па рэйках на ўсход каціліся ўжо нямецкія эшалоны. Яны часта везлі гарматы, танкі і іншую вайсковую амуніцыю. Сідар спачатку ні ў якія абходчыкі ісці не думаў. Ён корпаўся дома і асабліва не любіў паказваць носа далей будкі. Усё неяк сталася само сабой. Вясной у будку ўваліліся некалькі чалавек у чорных мундзірах нямецкіх чыгуначнікаў. Яны, нават не прывітаўшыся з Сідарам, з выглядам гаспадароў сталі аглядаць памяшканне.

— Ты работаць мусіш,— тыцнуўшы пальцам у грудзі Сідару, заявіў тоўсценькі майстар.— Будка ёсць германская маёмасць. Не пойдзеш — з будкі заўтра вон...

— Хворы ж я чалавек, раматус у мяне,— спрабаваў адмовіцца Сідар.

— За сабатаж — вось што! — тоўсценькі майстар, шчоўкнуўшы сабе па горле, намаляваў пальцам у паветры пятлю...

Назаўтра Сідар пайшоў у абход. Праўда, на яго службу новыя гаспадары, мабыць, пакладаліся не вельмі. Узбоч палатна яны павысякалі лес і кусты, а на кожным кіламетры чыгункі пазаймалі будкі, набудавалі бліндажоў і паставілі туды сваю варту. Двое салдат з гэтай варты ўвесь час шпацыравалі па Сідаравым абходзе.

Аднойчы, калі Сідар сядзеў у будцы і абедаў поснай заціркай, адчыніліся дзверы і на парозе з’явіўся Гараська. Сідар не бачыў яго, бадай, з самага пачатку вайны, і было ў Гараськавым абліччы нешта новае, незнаёмае раней. Вочы-слівіны пазіралі неяк удумліва і насцярожана, абветраны твар

здаваўся памужнелым. Сустрэў гаспадар Гараську не надта ветліва.

— Дык вы, дзядзька, значыць, на ранейшай службе? — Гараська, не пытаючыся дазволу, сеў на лаўку і ўтаропіўся ў Сідара.

— А ты што за такі спрос?

— Дык я так, па старому знаёмству. Цікава, а шмат вам немцы плоцяць? Можа, і павышэнне па службе вам выйдзе?

— Адчапіся ты ад мяне, хлопец...— Сідар адклаў лыжку і засмучана паглядзеў у акно.— Трэба мне гэтая служба як сабаку пятая нага. Дзень пражыў, і дзякуй богу. Добра, што жывыя засталіся. Такая сіла ў немца, што ты зробіш...

— Невясёлае жыццё,— сказаў Гараська на развітанне і пайшоў да выхаду. Ён з незалежным выглядам прайшоў паўз Сідаравы вокны і пашыбаваў у кірунку станцыі.

Пра Гараськава наведванне Сідар хутка забыў. Хапіла ўсялякіх клопатаў і без гэтага. Сваю службу нёс ён спраўна, хоць і не вельмі стараўся. Усё ішло пакуль што ціха, а большага ён і не хацеў. Неяк Сідар, робячы абход, заўважыў шрубу, якая вытыркалася са шпалы. Немцы перашылі чыгунку на свой манер: кастылі яны замянілі непадатлівымі шрубамі, якія трэба было завінчваць ключом. Сідар хацеў закруціць шрубу, але яна не паддавалася. Ён налёг ключом мацней, і заржавелая галоўка шрубы адламалася. У гэтую ж хвіліну ад моцнага ўдару ў скронь Сідар упаў на палатно, і ў яго вачах паплылі чырвоныя кругі. Расплюшчыўшы вочы, ён убачыў над сабой тоўсценькага майстра, які, нібы ашалелы, скакаў па шпалах.

— Шуруп ёсць нямецкі маёмасць! — крычаў майстар.— Ты ёсць шкоднік, ты псуеш дзяржаўную маёмасць... Цябе трэба пад суд! Ідзі прынясі шуруп...

Сідар доўга поўзаў па адхоне, шукаючы галоўку шрубы. Знайшоўшы, ён моўчкі аддаў кавалак іржавага жалеза майстру. Той ужо ўтаймаваўся і, шпурнуўшы шрубу, павучаў:

— Ты павінен быць прыклад у рабоце. Германія любіць сумленны рабочы...

Па рэйках ляскалі нямецкія эшалоны, якія ішлі на ўсход, і Сідар усё часцей думаў аб тым, як выбрацца куды-небудзь з будкі. Тады б можна было лягчэй расквітацца з гэтай службай.

На якое ліха яна яму здалася... Але праходзілі дні, тыдні, і ўсё заставалася па-ранейшаму.

Аднойчы ў месячную летнюю ноч Сідар павольна чыкільгаў па сваім абходзе. Уперадзе, крокаў за сто, раз-пораз слізгаючы электрычнымі ліхтарыкамі па рэйках, ішлі нямецкія вартавыя. Сідар дайшоў ужо да месца на крывой, а за ім канчаўся яго абход. Раптам з адхону ўзнялася чорная постаць, і ў тую ж хвіліну Сідар ляжаў на броўцы, прыціснуты да яе нечымі дужымі рукамі.

— Не ўздумай толькі крычаць...— пачуў Сідар узбуджаны шэпт.— Нямецкі вартаўнік!..

Сідар расплюшчыў вочы, і ад страху і здзіўлення па яго целе папаўзлі мурашкі. Проста яму ў твар дыхаў узбуджаны Гараська, а каля мастка завіхаліся яшчэ двое.

— Вось і сустрэліся, дзядзька Сідар,— шаптаў Гараська.— Ды ты не бойся, маўчы толькі, мы цябе не зачэпім...

— Пашкадуйце мяне, хлопчыкі. Заб’юць жа мяне...

— Паўзі пад адхон,— пачуў Сідар уладарны шэпт і кулём скаціўся з броўкі.

Тыя хвіліны, што ён ляжаў пад адхонам, здаліся Сідару доўгімі-доўгімі. Ён адчуваў, што ўсё яго цела пакрылася ліпкім халодным потам. Нарэшце там, перад крывой, пачуўся гул поезда, які хутка нарастаў. Сідар зразумеў, што цяпер усё скончана, і неяк адразу пакінуў хвалявацца. У галаве наступіла поўная яснасць. Чамусьці ўспомніўся тоўсценькі майстар, які ўдарыў яго ў скронь і прымусіў поўзаць па адхоне, шукаць заржавелую шрубу.

— Запалкі адсырэлі, Гараська,— пачуў Сідар прыглушаны голас.— Не паляцца.

— Давай сюды, халява!..

Гул нарастаў, поезд быў ужо блізка ад мастка.

— У мяне ёсць запалкі, на, вазьмі, Гараська,— сказаў Сідар на поўны голас.

Гараська кошкай каўзануўся па насыпе і дрыжачымі рукамі ўзяў карабок. Сідар падняў галаву і глядзеў, як ён падпальваў чорны шнур, што вёў да скрынкі, прымацаванай пад мастком. Яны ўчатырох беглі па бульбянішчы да хмызнякоў.

— Дзякуй табе, дзядзька, вось што,— прыблізіў да Сідара ўзмакрэлы твар Гараська. Ён дыхаў часта-часта, і Сідар чуў, як тахкала яго сэрца...

— Мы так зробім, што не зачэпяць цябе... Дапамагай нам тут, а?..

У адно імгненне Сідару звязалі рукі і спуталі доўгай вяроўкай ногі.

— А гэта дакумент для немцаў, не крыўдуй, дзядзька.— І Гараська, размахнуўшыся, ударыў Сідара кулаком у пераносіцу. У тую ж хвіліну над крывой узняўся вялізны слуп агню.

*1955*

## ЭХ, МАХОРАЧКА...

Бывае ў жыцці так, што самая позняя восень вясной здасца. Усё залежыць ад таго, які настрой у чалавека і чаго чалавек ад жыцця чакае. Мы з сябрам Цішкам Драздом ад жыцця чакалі шмат чаго, і таму нам было вельмі весела. Па-першае, мы чакалі нашых. Нашы былі ўжо на Дняпры, і ў ясныя асеннія вечары да партызанскага лагера на Косетаўскіх балотах даносілася артылерыйская кананада. У такія хвіліны ўсе, хто быў у лагеры, вылазілі з шалашоў і прагна лавілі прыглушаны гул далёкай страляніны.

— Рады, дразды, бач, дзюбы раскрылі!..— падыходзіў да нас дзядзька Апанас Мядзведзька. У сваім зялёным нямецкім шынялі і авечай кучомцы з чырвонай стужкай ён, гэты дзядзька, быў вельмі смешны. Але мы не смяяліся з яго ўбору, бо ў нас з Апанасам Мядзведзькам была асаблівая дружба.

Апанас Мядзведзька быў не абы-які дзядзька — ён быў чалавек геройскі. Пра свае баявыя справы дзядзька Апанас расказваў не надта часта. Ведалі мы, што да вайны ездзіў ён машыністам, вадзіў хуткія кур'ерскія паязды. Неяк так здарылася, што разбамбілі яго поезд, і астаўся Мядзведзька на захопленай немцамі зямлі. Спрабавалі фашысты пасадзіць дзядзьку на паравоз. Але не вельмі пакаталіся, як кажуць: дзе селі, там і злезлі. У адну паездку стукнуў ён вартавога немца шуфлем у каршэнь, а сам сігануў з прыступак у цёмную ноч. Вядома, ад нямецкага поезда засталіся адны ўспаміны. Так Мядзведзька трапіў у наш партызанскі атрад «Смерць фашызму».

Як спецыяліста чыгуначнай справы, накіравалі дзядзьку ў падрыўную групу. Падрыўніком ён, мусіць, быў адменным, бо заўсёды перад заданнем сам камандзір атрада выклікаў дзядзьку да сябе ў шалаш і доўга з ім раіўся. Адным словам, дзядзьку Апанаса паважалі і любілі ў нашым атрадзе ўсе. Мы ж пазнаёміліся з Апанасам Мядзведзькам на грунце махоркі, і гэта асаблівая гісторыя.

Справа ў тым, што дзядзька Апанас быў заядлым курцом, нездарма ў яго аж вусы былі жоўтыя. А тытуню ж, вядома, у партызанах не садзілі. Ад недахопу курэння дзядзька проста хварэў. У такія дні, калі ў яго капшуку не было ні каліва, дзядзька хадзіў страшэнна злосны і на чым свет стаіць лаяў немцаў. Ды і не адзін толькі дзядзька Апанас цярпеў голад на махорку. Смешна было глядзець, як да якога-небудзь партызана, які разжыўся тытуню на закрутку, прыстройвалася цэлая чарга. Гаспадару цыгаркі жаласліва зазіралі ў вочы і прагна чакалі, калі ўжо тая цыгарка пойдзе па кругу. Няхай бы тады паспрабаваў хто лішні раз зацягнуцца!

Мы з Цішкам Драздом прыйшлі ў атрад з раённага гарадка, а да гэтага былі сувязнымі. Там, у гарадку, засталіся нашы сябры-падпольшчыкі, і да іх па розныя звесткі пра немцаў амаль кожны тыдзень пасылаў нас камандзір атрада. Вось пра гэта і даведаўся нейкім чынам Апанас Мядзведзька.

— Хадзіце, хлопчыкі, да мяне,— паклікаў ён нас аднойчы ў свой шалаш.

У дзядзькавым шалашы ляжалі розныя прычындалы падрыўной справы: жаўтаватыя шашкі толу, скруткі бікфордава шнура, мяшочкі сухога пяску, узятага з чыгуначнага насыпу. Але дзядзька запрасіў нас не для таго, каб хваліцца сваёй гаспадаркай. Ён дастаў з кутка цынкавую каробку ад запалаў, але ў той каробцы ніякіх запалаў не было. Там быў чысты сотавы мёд. Мёду нам з Цішкам Апанас Мядзведзька тады не пашкадаваў, і мы доўга не маглі ўцяміць, з якой ласкі стаў ён да нас такі добры. Але хутка ўсё праяснілася.

У той дзень, як камандзір атрада зноў паслаў нас з Цішкам у гарадок да падпольшчыкаў, у ляску, ужо за лагерам, дагнаў нас дзядзька Апанас. Ён так бег, што на лбе ў яго аж раса выступіла. Мы спыніліся і не ведалі, што рабіць. Пра тое, што мы ходзім да падпольшчыкаў і прыносім розныя звесткі, не

павінен быў ведаць ніхто, акрамя камандзіра. Адно неасцярожнае слова — і загубіш шмат людзей, тых, што ваююць без зброі, у падполлі. Таму слова «канспірацыя» мы з Цішкам цвёрда памяталі. Але Апанас Мядзведзька нездарма быў стрэлянай птушкай, ён ведаў, з якога боку падысці.

— Чуў я, хлопчыкі, што вы ў Зазыбы ідзяце,— не маргнуўшы вокам прагаварыў ён.— Зайдзіце, будзьце ласкавы, да Фёдара Пінчука, ён з самага ўскрайку жыве, дзічка ў яго пад вокнамі. Няхай дасць махоркі. Скажыце, Мядзведзька прасіў. Ён мне ніколі не адмовіць...

Хітры быў чалавек Апанас Мядзведзька! Зазыбы былі нашай, партызанскай вёскай, іісці туды нам было нечага.

Мы з Цішкам кіўнулі ў знак згоды. А па дарозе наважылі, што прынясём Мядзведзьку махоркі, хоць і не пойдзем у Зазыбы. Нашы падпольшчыкі не тое што махоркі, птушынага малака дастануць, калі трэба для справы. А дзядзька Апанас варты таго, каб пачаставаць яго тытунём. Ну, а калі ведае крыху, куды мы ходзім, бяда невялікая, чалавек свой...

Мы з Цішкам не курылі і не ведалі смаку гэтай справы, хоць разумелі ўжо, што тытунь у партызанскім жыцці — рэч немалаважная.

У лагер мы вярнуліся не толькі са звесткамі для камандзіра, але і з некалькімі пачкамі тытуню для дзядзькі Апанаса. Тытунь мы прынеслі нямецкі, хоць акцыянерная кампанія Фрыца Вольфа і К°, як было напісана на пачках, мусіць, і не здагадвалася, што яе прадукцыяй забяспечваецца самы непрымірымы вораг германскай імперыі — дзядзька Апанас. Дзядзька ж Апанас ледзь не палез да нас цалавацца, калі мы аддалі яму тытунь. Зразумела, яму тлумачыць не трэба было, што махорка гэта не той маркі, якую вырабляў Фёдар Пінчук з Зазыбаў.

Але варта было пабачыць дзядзьку Апанаса пасля таго, як ён зацягнуўся нямецкай махоркай.

— Смердзюхі, увесь свет захацелі заваяваць, а махоркі людскай зрабіць не ўмеюць,— лаяўся дзядзька, але цыгаркі не кідаў.— Гэта ж не махорка, а пацяруха нейкая. Ні табе крэпасці, ні смаку, як салома. Вось да вайны махорка была, дразды! Купіш пачак за пяцьдзясят капеек, а яна што той чай. Ядраная, моцная, ліха яе матары! Зацягнешся — і адразу

чорцікі з рожкамі ў вачах заскачуць. Эх, хутчэй бы закурыць нашай махорачкі...

Сказаць, каб дзядзька лішне грэбаваў нямецкай махоркай, усё ж нельга было. Курыў ён яе зацята і калі мы адпраўляліся на сувязь, хітравата падміргваў нам: прынясіце, моў, яшчэ. І мы прыносілі, хоць кожны раз ад дзядзькі моцна пападала і Гітлеру, і ўсёй яго радні за нізкую якасць тытунёвай прадукцыі.

І вось загрымела на Дняпры. Днём грымоты былі далёкімі, прыглушанымі, а вечарам зямля гула безупынна, нібы хтосьці біў па ёй вялізнымі молатамі. Гэты гул мы слухалі, як найпрыгажэйшую музыку. Слухалі і не маглі наслухацца. Часам нават не верылася, што праз які-небудзь тыдзень-два мы ўбачымся з нашымі, з тымі, хто ідзе ад самай Масквы і Сталінграда, што зноў можна будзе хадзіць па зямлі, не баючыся напаткаць варожую кулю.

Дзядзька Апанас проста памаладзеў. Ён ужо зусім не здаваўся нам смешным у сваім даўгаполым нямецкім шынялі. Адзін раз мы засталі дзядзьку за незвычайным заняткам: ён галіўся. Дрымучая дзядзькава шчэць не хацела паддавацца пераломленай брытве, але Апанас Мядзведзька быў не з такіх, каб адступаць.

— У войску павінен быць парадак,— растлумачыў ён нам.— Асабліва, калі войскі сустрэнуцца,— рэгулярнае і партызанскае...

Вечарамі, калі здаралася быць у лагеры, мы сыходзіліся ўтрох, лажыліся на сена і слухалі далёкія гарматныя грымоты. Любілі мы пазіраць і ў зорнае неба. У ім цяпер часта мільгалі агеньчыкі нашых самалётаў. Яны ішлі на захад. Любілі мы слухаць таксама дзядзькавы размовы.

— Прыйдуць нашы,— развіваў планы на будучае дзядзька,— дык я першай справай на газеты накінуся. Кожную газетку за гэтыя два гады, што без мяне выходзіла, прачытаю. А пасля сяду на паравоз — і даёш Берлін! Я, дразды, яшчэ палятаю па чыгунках...

Назаўтра мы зноў накіраваліся да сваіх сувязных у гарадок. Звесткі былі важнымі,— уся станцыя была забіта эшалонамі. Немцы збіраліся ўцякаць. У лагер мы неслі гэтыя радасныя звесткі і некалькі пачак нямецкай махоркі для дзядзькі Апа-

наса. Мы лічылі, што гэтая махорка будзе апошняй і насіць яе нам больш не прыйдзецца.

Апанаса Мядзведзькі ў лагеры не было, ён пайшоў з групай на чыгунку. Нас жа камандзір атрада, не даўшы ні хвіліны адпачыць, паслаў на новае заданне. Але мы і не адчувалі стомы, бо такое заданне, якое цяпер выпала на нашу долю, можна было выканаць толькі адзін раз у жыцці. Фронт быў блізка, і камандзір пасылаў нас для сувязі з наступаючымі часцямі нашай арміі.

Мы ішлі ўсю доўгую асеннюю ноч, а назаўтра раніцай, у саўгасе, паблізу ад гарадка, убачылі нашых. Трое хлопцаў-разведчыкаў, крыху старэйшых за нас, былі першымі воінамі, каго мы ўбачылі. Мы прывіталіся, як салдаты, як даўно знаёмыя. Разведчыкі, пагаварыўшы з намі, папрасілі нас крыху пачакаць і адышліся ў лес. Там, пэўна, была рацыя, бо праз гадзіну ў саўгас уступілі часці.

Двое разведчыкаў з дазволу камандавання пайшлі з намі ў партызанскі лагер, каб устанавіць сувязь. Дарогай яны папрасілі ў нас закурыць, і мы аддалі ім апошнюю нямецкую махорку, якую не паспелі аддаць дзядзьку Апанасу. Мы думалі, што яны будуць лаяць тытунь таксама, як і дзядзька Апанас, але яны курылі і не казалі нічога.

Мы зноў лёгка прайшлі ўсю дарогу да лагера, і першы, каго мы ўбачылі, быў дзядзька Апанас. Ён подбегам шыбаваў да нас, падбіраючы полы свайго нямецкага шыняля, і на вачах у яго, здаецца, былі слёзы. Ён нічога не змог сказаць пры сустрэчы, толькі пацiснуў разведчыкам рукі і пайшоў поруч з намі.

— Дайце, хлопцы, закурыць,— нарэшце прамовіў дзядзька, і яго голас задрыжаў.— Сыгралі мы ўжо немцам на чыгунцы развітальны марш...

Разведчыкі пераглянуліся, зірнулі на нас і працягнулі Мядзведзьку свае кісеты. Ён таропка скруціў цыгарку, прыкурыў і глыбока зацягнуўся.

— Ну, дзякуй вам, хлопчыкі, адразу пачуў сапраўдны смак. Вы не ведаеце, якую мы дрэнь курылі цэлыя два гады...

Мы з Цішкам таксама закурылі тады за кампанію. І мы зразумелі яшчэ, што позняя восень можа быць на дзіва падобнай да сонечнай вясны. Эх, махорачка!..

*1955*

# 1956

## ВЫПАДАК З ГЛАДЫШКАЮ

Восень была яснай, цёплай — рэдка выдаецца такая восень. Стаяў лістапад, а ў паветры лятала лёгкае павуцінне — сей жыта, салі агуркі... Хлопцы проста рваліся з лагера, які цяпер быў размешчаны на сумных Пажыхарскіх балотах. У атрадзе ўжо цэлы тыдзень не бачылі ні каліва толу, і таму многія знаходзілі прычыну, каб папрасіцца на заданне. Маладзейшыя дык ледзь не білі сябе кулакамі ў грудзі — пусці толькі, прывязем не менш воза фугасаў. Амаль кожны другі з роты, якой камандаваў высокі і хмуры Амяллян Ткач, хваліўся, што ведае безліч мясцін, дзе не ўзарваліся нямецкія бомбы. Калі б хто падлічыў, колькі можна выплавіць толу з гэтых хвалёных бомбаў, то ўбачыў бы, што яго, мабыць, хапіла б, каб узарваць усю германскую імперыю.

— Ведаю я ваш тол,— гаварыў хмуры Ткач.— Да дзевак закарцела. Фугасы!..

Але хлопцы са свайго боку ведалі, што Амяллян Ткач добры, а строгасць напускае толькі для прыліку. Яны прыставалі, і Амяллян Ткач здаваўся. Ужо, можа, дзесяць каманд пайшло на вышукі гэтых самых бомбаў, якія недзе там не ўзарваліся.

Цішку Дразду ўвесь гэты тыдзень не шанцавала. У яго, як на тое ліха, ускочыла на шыі скула, шыя адубянела — галавы не павернеш. Ужо цэлых тры дні, заматаўшы шыю ручніком, Цішка ныў у шалашы і з лютай нянавісцю слухаў, як весела рагочуць тыя, каму пашэнціла ісці адкопваць нямецкія фугасы.

За гэты тыдзень Цішку так абрыдзеў несалёны лагерны суп з кароўім лоем, што ён, здаецца, на край свету пайшоў бы, каб толькі болей не тырчаць, як дурню, у гэтых буданах.

Цішку вызваліў з бяды сам Ткач. Ён паклаў на шыю печаную цыбуліну, і скулу прарвала. А пад вечар камандзір роты высыпаў на сваю шурпатую далонь порах з патрона, змяшаў яго з чорнай балотнай зямлёй, папляваў і ўсе гэтыя лекі прыклаў да раны.

— Праз два дні пойдзеш на заданне,— сказаў Ткач.— А цяпер дыхай паветрам. Яно, кажуць, свежае...

Цішка даўно любіў Ткача. Было ў ім штосьці такое, за што спадабаеш чалавека адразу, з першага позірку. З ім заўсёды было лёгка і спакойна.

На заданне Цішку Дразду выпала ісці з двума Петрусямі — Сакалоўскім і Прыбытковічам — і гэта яго засмуціла. Яму не падабаліся гэтыя фанабэрыстыя і старэйшыя за яго хлопцы. Абодва яны хадзілі ў скураных тужурках, наглянцаваных хромавых ботах, а на іх галовах ліха сядзелі заломленыя кучомкі з шырачэзнымі паскамі. Цішка ж насіў звычайную світку з даматканага сукна, а на нагах у яго былі вялізныя нямецкія чаравікі з задранымі ўгару насамі. Але Цішкава няласка да абодвух Петрусёў, мабыць, ішла не ад іх тужурак і наглянцаваных ботаў. Тут трэба было капаць глыбей.

Справа ў тым, што два Петрусі не вельмі лічылі Цішку за партызана. Праўда, вядома, што самі яны, бадай, на цэлы год прыйшлі ў атрад раней за Цішку. Па гэтай прычыне Сакалоўскі і Прыбытковіч звысока паглядалі на Цішку і пры ўсякім зручным выпадку паказвалі сваю ўласную перавагу. Яны быццам і не хацелі ведаць, што да атрада Цішка быў падпольшчыкам і сувязным і яшчэ ў сорак другім годзе сядзеў у нямецкай турме. Ды, нарэшце, куля не пытае ў партызана, у якім ён годзе прыйшоў у атрад. Вось два тыдні назад не вярнуўся з чыгункі Цішкаў сябра Кузьма, з якім яны разам уцякалі ад немцаў з мястэчка. Цішку часамі было крыўдна...

Праўда, Прыбытковіч крыху лепшы за свайго дружка. Калі застацца з ім сам-насам, то ён чалавек як чалавек. Пагаворыць, пажартуе, як з роўным. Але варта прыляцець гэтаму Сакалоўскаму, і на Прыбытковіча нібы ўздзелі другую скуру. Качаргой носа не дастанеш!.. Мабыць, цягнуўся ён за сваім

фанабэрыстым сябрам. Вядома, пра ўсю гэтую фанабэрыю не ведаў Ткач. Паказаў бы ён ім заслугі! Цішка адчуваў, што і сам камандзір роты недалюблівае абодвух Петрусёў.

Заданне было не дужа важнае. Усё тыя ж фугасы. З Зазыбаў, вёскі кіламетраў за васямнаццаць ад атрада, свой чалавек паведаміў, што выкапаў і схаваў дзве нямецкія авіябомбы. Гэтыя бомбы трэба было забраць і прывезці ў атрад.

Запрэглі ў вазок каня, і Сакалоўскі з Прыбытковічам селі спераду, наваліўшы пад самыя драбіны сена. Цішка прымасціўся ззаду. У яго яшчэ крыху балела шыя, і ён адчуваў сябе не надта добра. Відаць было, што Петрусям яго кампанія не падабаецца.

Прыехалі да Зазыбаў апаўдня. Было цёпла, сонечна, і ў гайку цінькалі вясёлыя сініцы. Дзве сярэднія фугаскі з пакрамсанымі стабілізатарамі ляжалі ва ўмоўленым месцы — пад стогам сена. Да вечара можна было яшчэ вярнуцца ў атрад.

Але Петрусі ў атрад варочацца не хацелі. Яны перамíргнуліся, і Сакалоўскі сказаў, не пазіраючы на Цішку:

— Пабудзеш з канём. Падкінь яму сена. Мы да вечара вернемся. Ёсць справы важныя...

— Я тады паеду адзін,— цвёрда адрэзаў Цішка.— Заданне было прывезці бомбы.

— Я табе паеду,— ускіпеў Сакалоўскі.— Вельмі разумны стаў.

Пакінуць Цішку аднаго Петрусі ўсё ж не адважыліся. Яны пераміналіся з нагі на нагу ў сваіх хромавых ботах і, відаць, не ведалі, што рабіць.

— Няхай ідзе з намі,— шукаючы прымірэння, сказаў Прыбытковіч.— Каня адгонім у лес і прывяжам. Сена ж добрага захапілі...

Цішка ведаў, што ніякай важнай справы ў Сакалоўскага з Прыбытковічам няма. Але калі іх пасылалі ўтраіх, то яны павінны быць разам. Па дарозе да вёскі Петрусі балбаталі пра нейкую Нюрку, якая жыве тут, у Зазыбах. На вуліцы ўжо яны спусцілі халявы гармонікамі і пачысцілі боты. Цішка клацнуў затворам і паставіў вінтоўку на баявы ўзвод.

Зазыбы былі сваёй, партызанскай вёскай, і ніхто не звярнуў увагі на двух фанабэрыстых Петрусёў і Цішку ў вялізных нямецкіх чаравіках. Жанчыны выбіралі на агародах брукву і

ссякалі капусту. Хлапчукі на поплаве насіліся з паветраным змеем.

Сакалоўскі з Прыбытковічам зайшлі ў хату пад грушай. Цішка ў хату не пайшоў. Ён сеў на лавачцы і паставіў вінтоўку паміж кален. Петрусі хутка выйшлі з хаты, лузгаючы гарбузікі,— мабыць, той Нюркі не было дома.

— Вось што, Цішка-Мішка, ты не дуйся як мыш на крупы,— сказаў Сакалоўскі.— Будзь сваім хлопцам. Сёння тут вечарынка ладзіцца, пагуляем. Жывем жа адзін раз на свеце. А цяпер сходзім у адно месца. Каяцца не будзеш, да вечара вернемся. Пальчыкі абліжаш,— і ён засмяяўся.

Цішка пайшоў. Яму было няёмка адмовіцца, хоць у душы і расла нейкая трывога. Ён думаў аб тым, што не трэба было згаджацца з самага пачатку.

Хлопцы выйшлі на другі канец Зазыбаў і ўглыбіліся ў бярэзнік. Яны ішлі нацянькі вузкай сцяжынкай. «У Выселкі ідуць»,— падумаў Цішка, і яму стала яшчэ больш трывожна. Выселкі ўжо не ўваходзілі ў партызанскую зону, там не было ні сваіх дазораў, ні пастоў. Ісці туды без патрэбы — глупства. Але тут, на паўдарозе, Цішка ўжо не мог спыніцца. Гэтыя кавалеры яшчэ падумаюць, што ён баіцца...

— Я, яшчэ калі на шашу хадзілі, прыкмеціў гэты хутарок,— гаварыў Сакалоўскі.— Дамок такі ладненькі, дубы, а на дубах, брат, вуллі. Штук восем. Жыве, мабыць, нейкі недабіты куркулёк. П’е сабе чаёк з мёдам і не шманае, што людзі на жыватах да шашы поўзаюць, жыццё сваё на карту ставяць...

Яны ўтраіх выйшлі на прагаліну і ўбачылі Выселкі. Вясковыя прысады ззялі асенняй пазалотай. На процілеглым ускраі вёскі, крыху на водшыбе, пад навіссю высокіх дубоў стаяў, мабыць, той самы домік, пра які гаварыў дарогай Сакалоўскі. Домік і будыніны каля яго былі сапраўды адзінокімі, як хутар.

— Чаго мы пойдзем у вёску? — сказаў Цішка і спыніўся.

— Мы прыйшлі ўжо, не бунтуй, хлопец,— засмяяўся Сакалоўскі. —Немцаў няма, не бойся...

Цішка лаяў сябе, але ішоў. Хмызнякамі яны падабраліся да самага двара і перамахнулі праз паркан. Быў адвячорак, у вёсцы было ціха. У двары Сакалоўскі прынік тварам да акна,

потым рашуча накіраваўся ў хату. Прыбытковіч з Цішкам увайшлі за ім.

— Дзень добры вам,— сказаў Сакалоўскі і, узяўшы вінтоўку за ствол, грукнуў прыкладам аб падлогу.

Гаспадар, жылісты невысокі дзядок з бародкай клінам, адказаў не надта ветліва. Гаспадыня, не хаваючы страху, пазірала на ўвайшоўшых. Сярод хаты стаяла калыска, у ёй спала дзіцё.

— Ты, бацька, гасцей, відаць, не чакаў,— наступаў Сакалоўскі.— Ці, можа, прыйшлі не тыя госці, што трэба.

— Для маіх гасцей яшчэ свята не настала,— хмура адказаў дзядок і ўзяўся падшываць валёнак.

— Ну, рад не рад, а ў хату прыйшлі — значыць, госці. Можа, мядком пачастуеш...

— Багата ласых на мёд, усім не хапае.

— Прадаваць панясеш?

— То, можа, вы за мяне падатак заплоціце?

Цішка бачыў, як наліваецца густой чырванню твар у Сакалоўскага, і чакаў бяды. Ён хацеў што-небудзь сказаць, зрабіць, але не знаходзіў сіл і, цяжка пераводзячы дыханне, пазіраў на Сакалоўскага.

— Наце, галубчыкі, хоць малачка выпіце.— Падбегла бабка да Сакалоўскага.— Яно свежанькае, салодкае...

— Не ўсякае малако салодкае,— нібы скрозь зубы выцадзіў Сакалоўскі і, узяўшы гладышку з бабчыных рук, грымнуў яе аб падлогу.

Цішка з белым, як малако, тварам паглядзеў на свае чаравікі — яны ўсе былі ў малочных пырсках...

— Мы жыцця не беражэм, а ён мёдам гандлюе, контра праклятая! — грымеў Сакалоўскі.— Паліцэйскім не шкадуеш мядку, гад. Выходзь на двор, я з табой пагавару, кулачуга!

Стары раптам пабялеў і, кінуўшы валёнак, падскочыў да Сакалоўскага.

— Выйдзе з цябе дух! — крыкнуў ён.— Паскуднік!

— Немцы! — залямантавала раптам бабка.— Божа ж мой, немцы!

Цішка кінуўся да акна — у вулачку на доўгіх фурах уязджалі немцы. Яны, мабыць, звярнулі з шашы. Немцаў было многа — чалавек сорак. Трое ўжо стаялі перад самай хатай...

Сакалоўскі з Прыбытковічам ірвануліся да дзвярэй. Цішка наставіў вінтоўку ў акно.

— Назад, дурні.— Гаспадар з нечаканым спрытам ірвануўся наперарэз уцекачам.— Паб'юць, як курапатак. Яны не бачылі вас, а то першымі стралялі б...

Астатняе адбылося, як у сне. Цішка толькі памятае, як бабка выскачыла на двор забаўляць немцаў, як гаспадар адчыніў пограб і яны ўтраіх паляцелі на бульбу разам са сваімі вінтоўкамі. Гаспадар раскатурхаў дзіця, яно плакала, а калыска скрыпела над самай Цішкавай галавой.

Пасля дзіця сціхла. У хаце пачулася нямецкая гаворка. А сярод незразумелых чужых слоў Цішка раптам выразна пачуў на сваёй роднай мове:

— Адказвай, стары, твой сын хутка прыйдзе з лесу, ад партызан?

І голас гаспадара:

— Мой сын у войску, гэта ўсе ведаюць.

Незнаёмы голас:

— Мы ведаем пэўна — ён у лесе, у партызанах. Яго бачылі нашы людзі. А нявестка дзе?

— Яна ў суседзяў капусту шаткуе. А сын мой у войску, вам няпраўду сказалі, начальнік.

— Ты хлусіш, стары. Мы добра ведаем, твой сын — партызан.

Кудахталі куры, іх, мабыць, лавілі. Пішчала свінчо. Фура, нарэшце, ад'ехала ад двара.

Можа, праз гадзіну гаспадар адкрыў пограб.

— Паехалі ўжо, вылазьце,— сказаў ён хмура.— Забралі ўсё, хай іх за жывот возьме. А вас я адразу не распазнаў. Думаў, паліцэйскія, можа, халявы ж такія бліскучыя. А смерць мая позніцца, побач хадзіла, а ў хату не зайшла. Значыць, яшчэ пажыву... Сына майго, Змітрака Якіменку, не ведаеце? Ён жа ў вас там недзе...

Сакалоўскі з Прыбытковічам не глядзелі ў вочы гаспадару. А ён, нібы нічога не здарылася, зноў узяўся за свой валёнак.

— Мабыць, у другім атрадзе ваш сын,— сказаў за ўсіх Цішка.

Бабка паднесла новую гладышку малака:

— Выпіце, дзеткі, хай на яе немач, на гэтую вайну. Напакутуюцца людзі.

Ад малака ўсе трое адмовіліся...

— Дык, можа, мядку, у мяне пад лежаком схавана...

— Мы ў другі раз зойдзем. Пазней,— сказаў Цішка.— Дзякуй вам...

Ужо ў Зазыбах Сакалоўскі папрасіў:

— Слухай, брат Цішка, не гавары Ткачу. Ну, усякае бывае ў жыцці, сам ведаеш. Не скажаш, а?

Цішка маўчаў. Тое, аб чым прасіў Сакалоўскі, здавалася яму маленькім, дробязным у параўнанні з нечым вялікім, агромністым, што адбылося нядаўна. Дый Петрусі ў сваіх блішчастых тужурках таксама здаваліся цяпер Цішку маленькімі, нейкімі мізэрнымі. Яму стала іх шкада, бо ён адчуваў сябе мацнейшым за іх.

— Паедзем у атрад,— сказаў Цішка.— Я ж з вамі быў таксама, як жа я скажу...

*1956*

## ДЭЛЕГАТЫ З БЯРЭЗНІКАЎ

### I

Таня прыйшла з поля і ў ахвоту памылася. Нізенькую абамшэлую лазню дзяўчаты растапілі яшчэ з раніцы. Таня любіла гэтую старую будыніну, якая дажывала свой век. Так было ўжо заведзена — мыліся перад святам, і шызаваты дымок з бляшанага вядра, якое стаяла замест коміна, заўсёды прадвяшчаў адпачынак і свята.

Некалі лазня была атулена зялёнай засенню чаромхі, бэзу і малінніку. У цёплую пару нават не распраналіся ў лазні, а проста ў кустах, на мураве. Кусты павысякаў недалёкі Танін сусед Апенька, які гадоў пяць назад браўся адрамантаваць лазню. Яно тады адразу і выплыла наверх, што ні пра які рамонт Апенька не думаў.

Ён паціху гнаў у лазні самагонку на продаж, пакуль яго адтуль не вытурылі.

За апошнія гады лазня неяк зніцілася, прысела. Стаяла яна за агародамі, наводшыбе, як сірата-бабылка. Але Тані, як і раней, падабалася сюды хадзіць. Прабіраючыся сцяжынкай да лазні, дзяўчына, здаецца, і цяпер удыхала ў сябе востры, хмельны пах вясновай чаромхі...

Вечарам Таня збіралася ў клуб, на танцы, хоць за апошні год яе рэдка там і бачылі. Падраслі ўжо новыя танцоркі, тыя, што пяклі яшчэ аладкі з пяску, калі першым вясеннім цветам красавала Таніна маладосць. Стаяць разам з імі ў душным клубе і чакаць, пакуль хто-небудзь запросіць на польку, Таня не любіла. Не прыйшло яшчэ да Тані тое звычайнае шчасце, на якое мае права кожная дзяўчына. Быў у яе некалі хлопец, вясёлы, жартаўлівы і прыгожы. Тады Тані нават зайздросцілі таварышкі. Але даўно няма таго хлопца. Яшчэ тады, як калгас толькі падымаўся на ногі, падаўся ён шукаць лягчэйшага, чым у іхнім калгасе, хлеба і больш не вярнуўся. А Таня нікуды не паехала шукаць сабе шчасця.

Сёння Таніна звяно закончыла першую праполку ільну. Гэты лён сёлета даўся ім у знакі. Вясна была няўстойлівая, халодная, як злая, вуркатлівая свякруха. Дзяўчаты проста выбіліся з сіл і праклінылі гэты лён і сваю невясёлую з-за яго жытку.

Таня расчэсвала косы, седзячы перад маленькім люстэркам, калі ў хату ўвайшоў старшыня. Яна нават не чула яго крокаў, можа, таму што старшыня насіў летнія брызентавыя боты на мяккіх падэшвах. Дзяўчына проста адчула чужы позірк на сваёй спіне.

— Гэта ў цябе самая лепшая сукенка, Танюша? — нейкім незнаёмым ёй голасам запытаў старшыня.

Таня пазірала на яго здзіўлена. Яе раптам апанавала злосць.

— Можа, сватоў да мяне думае засылаць старшыня? — яна адказала намерана жорстка.

— Табе трэба ў дарогу збірацца, Танюша.— Старшыня нібы і не чуў жорсткасці ў яе голасе.— Паедзеце ў Заходнюю Беларусь як дэлегацыя з нашага раёна. Помніш жа, тры гады назад прыязджалі да нас з Гродзеншчыны. Дык вось, у іхні раён паедзеце, яны тэлеграму прыслалі. Платон Іванавіч паедзе, ты, а трэцяга проста не ведаю, каго паслаць. Работы ж яшчэ столькі, а людзі туды добрыя трэба... Мы ж для іх як настаўнікі. Не падкачайце вы там...

— А калі ехаць?

— Заўтра ранічкай, Танюша.

— Дня перадыхнуць не дадуць,— гарачылася Таня.— Хай яно згарыць усё...

Назаўтра раніцай упрытык да ганка праўлення стаяла калгасная трохтонка. У кузаве раскурвалі леташні самасад вусаты палявод Платон Іванавіч і Сазонт Апенька.

— Садзіся ў кабіну,— сказаў Тані старшыня.— Ехаць пара ўжо. Яшчэ двух чалавек у тэльманаўцаў возьмеце...

Да Тані цяпер толькі дайшло, што Апенька таксама едзе дэлегатам. Настрой у яе адразу ўпаў, дзяўчына нават не паспела як-небудзь падкалоць свайго суседа. Шафёр ужо круціў баранку, вырульваючы на сярэдзіну вуліцы, а старшыня і калгаснікі, што стаялі ля праўлення, махалі рукамі на развітанне.

«Знайшоў дэлегата,— са злосцю думала Таня пра старшыню.— Ва ўсім калгасе не было нікога лепшага за Апеньку. З ім жа ад сораму згарыш».

Якой-небудзь разумнай прычыны, каб пасылаць Апеньку дэлегатам, Таня не бачыла. Проста гэты хітры Аўцюх, іхні старшыня, знайшоў дзірку для гэтага абібока. Добрага чалавека паслаць шкода — на рабоце ж ён трэба. А з Апенькі работы як з таго казла малака, то няхай хоць едзе дэлегатам. Але каб яна ведала ўчора, што яе параўнялі з Апенькам, то нізавошта б не паехала.

Тэльманаўцаў села на машыну двое — нядаўна прызначаны намеснік старшыні Гудок і даярка Надзейка Палякова. Нізкі, у вайсковым кіцелі Гудок усё тупаў каля кабіны. Ён, мабыць, думаў, што Таня саступіць яму месца. Але дзяўчына знарок адвярнулася, каб не сустракацца з ім позіркам. Гудка яна ведала, ён быў раней у раёне нейкім нарыхтоўшчыкам і на кожнай нарадзе крычаў пра малако і яйкі.

Прыехалі на станцыю.

— Не разыходзьцеся,— папярэдзіў Таню і Надзейку Палякову тэльманаўскі намеснік, калі яны сабраліся ў станцыйны скверык,— хутка поезд.

Гудок, відаць, добраахвотна браў на сябе абавязкі кіраўніка дэлегацыі.

— Вы тады свісніце, як нас не будзе,— адрэзала Таня і пацягнула Надзейку за рукаў.

Апенька ўжо сядзеў у скверыку на лаўцы і снедаў салам з цыбуляй. Галоўкі цыбулі ён грыз з такім смакам, нібы гэта была не цыбуля, а яблыкі. Апрануўся Апенька якраз як на паляванне: на ім былі мышынага колеру штаны, перашытыя з нямецкага шыняля, абшарпаная скураная тужурка, а на нагах — гумавыя боты з халявамі да самых кален.

— Як ён яшчэ стрэльбы не захапіў,— Таня штурханула пад бок Надзейку.— Ну і пудзіла ж гарохавае. Проста сорамна разам з ім ехаць. А ваш гэты Гудок варты чаго-небудзь?

— Ён толькі ж месяц як у нас,— Надзейка, відаць, не ведала, што гаварыць.— На ферме быў разы два, дык жанкі рагочуць. «Дзе, кажуць, той твой матацыкл, што ты па раёне катаўся? Можа, даў бы хоць на кірмаш з'ездзіць, яйкі прадаць...»

У вагоне Таня села на лаўку з Надзейкай і Платонам Іванавічам. Апенька палез на верхнюю лаўку і адразу захроп. Гудок прысуседзіўся да кампаніі маракоў у купэ, размешчаным побач,— адтуль даносіўся яго зычны голас і гучны перастук касцяшак даміно.

Да Тані вярнуўся добры настрой. Яна любіла ездзіць. Дарога заўсёды прыносіла новыя ўражанні і неяк асвяжала і ўздымала думкі. Платон Іванавіч гаварыў пра Гродзеншчыну. Ён быў у тых мясцінах яшчэ ў час першай германскай вайны.

— Зямля там сугліністая, горшая, як у нас, але дагледаюць яе добра,— тлумачыў палявод.— Там цукровыя буракі даўно сеюць. І канюшыну, лубін лепей шануюць, як у нас. Вось толькі сенажацей там малавата. Жывёла добрая, нямецкай пароды. Але нам форсу траціць не трэба. Да нас ім яшчэ далёка...

Таня слухала Платона Іванавіча і глядзела ў акно. У акне мільгалі зялёныя з шэрымі балотнымі пляшынамі сасоннікі, кучаравыя бярозавыя гаі, руды алешнік, разлапістыя дубы ў маладым уборы. Лясная палеская нізіна ляжала перад вачыма. Краявіды такія ж аднастайныя, як і дома, у Бярэзніках,— лес, балота, у прагалах апавітыя сіняй смугой вёсачкі з жытнёвымі азёрамі, якія шчыльна падступаюць да іх, а далей зноў лес і зноў балота. Усё тут, здаецца, даўно знаёмае...

— Я там, на Гродзеншчыне, нават адну дзяўчыну пакахаў,— хваліўся Платон Іванавіч.— Юзяй звалі. Думаў, прывязу,

як кончыцца вайна, у Бярэзнікі, дык у хлопцаў вочы на лоб палезуць. Прыгожая была дзяўчына. Толькі бабе маёй не кажы, Таня.

— Дык чаго ж вы не прывезлі яе?

— Немец як даў нам у пятнаццатым годзе, дык я ледзь сам уцёк. Цэлы тыдзень поўз на жываце па твані, каб у палон не трапіць, і харчаваўся адной бручкай. А вёска Юзіна, казалі, уся ў бежанства пайшла...

Поезд спыніўся на вялікай люднай станцыі. Маракі і разам з імі Гудок рынуліся да выхаду. Яны хутка вярнуліся з поўнымі ўсялякага харчу рукамі. Апенька злез з верхняй лаўкі і пайшоў у канец вагона, да бачка — яго мучыла смага.

— Матросы шклянку забралі,— паведаміў Апенька, адразу вярнуўшыся.— Гарэлку п'юць, і гэты тэльманаўскі намеснік таксама п'е разам з імі. Можа, у цябе, Тацяна, бутэлька ёсць — вады набяру?

— Няма ў мяне бутэлькі,— сказала Таня, не адрываючыся ад акна.

— Наце кубак вам,— прапанавала Надзейка Палякова.

Апенька напіўся, прынёс пусты кубак і, крэкчучы, зноў ускараскаўся на верхнюю лаўку. У суседнім купэ спачатку гучна, бы на кірмашы, аб нечым спрачаліся, а пасля п'янымі галасамі зацягнулі песню. Мацней за ўсіх напінаўся Гудок — яго голас грымеў, як вялікая медная труба. Платон Іванавіч слухаў гэты дармовы канцэрт і нездаволена чмыхаў у падстрыжаныя вусы. Ён насупіўся і маўчаў.

Наспяваўшыся, Гудок вярнуўся ў купэ, дзе моўчкі сядзелі дэлегаты. Намеснікавы ногі, відаць, трымалі свайго гаспадара не дужа надзейна, бо ён абедзвюма рукамі ўхапіўся за лаўкі.

— Як тут, парадак у мяне? — зычна запытаў Гудок.— Я люблю парадак і чыстату, зразумелі?

— Пасуда, мабыць, чыстая ўжо,— падкалола Таня.

— Падкаўнерыкі павінны быць чыстымі і падшытымі,— развіваў далей нейкую сваю думку Гудок.— На насках ботаў павінна ззяць сонца...

Але хутка тэльманаўскі намеснік нават п'янай галавой скеміў, што наконт падкаўнерыкаў і ботаў ён загнуў дарэмна. Уся дэлегацыя была ў чаравіках, толькі гумавыя боты Апенькі звісалі з верхняй лаўкі.

— Вы ведаеце, што я капітан, я ротай камандаваў.— Гудок, імкнучыся падтрымаць свой аўтарытэт, палез у кішэню па дакументы...

Платон Іванавіч ужо болей не мог трываць. Ён падхапіўся і ўзяў Гудка за руку.

— Лезь на лаўку, капітан,— прыцішаным голасам, але злосна сказаў ён.— А не — дык паляціш з карабля. Зразумеў?..

Гудок пакорліва ўзабраўся на сярэднюю лаўку. Ён адразу ж і заснуў. На адзін паверх вышэй, пад самай столлю вагона, хроп Апенька.

Крыху пазней маракі прынеслі Гудкову шапку і паспрабавалі завязаць гутарку з дзяўчатамі. Але з іхняй спробы нічога не выйшла. Таня і Надзейка маўчалі або адказвалі з’едлівымі кепікамі. Маракі, не сустрэўшы спачування, падаліся да выхаду — там цэлае купэ было занята праваднiцамі.

Болей ніякіх прыгод не адбылося да самай канечнай станцыі. Было аж дзве перасадкі, і Гудок зноў паспрабаваў адлучыцца. Але Платон Іванавіч на гэты раз яго не пусціў. Сабраўшы ўсіх дэлегатаў разам, ён сказаў цэлую прамову, звернутую галоўным чынам да Гудка.

— Кіраваць намі будзе Таня,— сурова звёўшы выцвілыя бровы, заявіў палявод.— Пра яе работу аж у Маскве пісалі, яна два разы на выстаўцы была. Мы яе выбіраем, а ты, Гудок, слухайся. А не — дык купім білет назад. Нам такія дэлегаты не патрэбны. Раскажу сакратару райкама, то ён цябе па галоўцы не пагладзіць. Пабачыш...

Гудок паспрабаваў агрызнуцца, але не знайшоў падтрымкі. На першым часе ён надзьмуўся і сядзеў моўчкі.

Але вытрымкі ў тэльманаўскага намесніка хапіла ненадоўга. У Баранавічах, дзе дэлегацыя абедала ў сталоўцы, Гудок непрыкметна перакуліў кілішак і адразу павесялеў. Калі разлічваліся за абед, ён на цэлую пяцёрку кінуў болей, чым належала з яго. Апенька, убачыўшы чужую шчодрасць, аднаго рубля наўмысна недаплаціў.

## II

На месца дэлегацыя прыехала позним вечарам. Бярэзнікаўцаў сустракалі. Мясцовыя кіраўнікі, не адкладваючы справы на заўтра, павялі сваіх гасцей у клуб. Сярод сустракаючых Таня

пазнала рослага і моцнага, як дуб, старшыню калгаса Наліўку, які прыязджаў да іх у Бярэзнікі. Тады Наліўка быў нейкім ціхім, нерашучым, задумлівым. Цяпер жа ён граў галоўную дудку: жартаваў, успамінаў пра сваю экскурсію на Палессе, рабіў усё, каб бярэзнікаўцы адчувалі сябе як дома.

Але ні гаспадары, ні госці не маглі пераадолець нейкай скаванасці і напружанасці. Добрая гаворка не ладзілася. У вокны клуба, які чымсьці нагадваў доўгую пустую адрыну, глядзела чужая, незнаёмая ноч. На стале, засланым чырвоным абрусам, гарэлі чатыры лямпы. Па адзін бок доўгага састаўленага стала сядзелі бярэзнікаўцы, па другі — гаспадары, чалавек дваццаць.

Гаварыў бадай што адзін Наліўка. Нават Гудок на ўсе яго пытанні адказваў коратка і блытана, як вучань, які добра не вывучыў урок.

Гаспадары былі ўсё ж абыходлівымі людзьмі і не паглядзелі на тое, што на дварэ ноч і што трэба спаць. Наліўка некуды выбег, і праз колькі хвілін у клубе замільгалі белыя хвартухі дзяўчат. Чырвоны абрус са стала сцягнулі і пачалі накрываць яго звычайнымі настольнікамі. У адну хвіліну на стале паявілася розная закуска — бярэзнікаўцы нават не паспелі запратэставаць. У клуб прываліла яшчэ калгаснікаў, яны падыходзілі да бярэзнікаўцаў і віталіся з кожным за руку.

Дэлегаты змяшаліся цяпер у шумлівай грамадзе, якая размясцілася за даўжэзным сталом. Таня апынулася паміж двух хлопцаў, насупраць яе сядзеў Апенька.

— Я быў у вас,— сказаў ёй той, што сядзеў з левага боку.— Ваш партрэт вісеў у канторы за шклом, я бачыў. Вы гуму сееце...

— Кок-сагыз,— усміхнулася Таня.— Толькі мы цяпер яго не сеем.

Твар хлопца здаваўся Тані знаёмым — высокі лоб з навіслымі русявымі валасамі, нос з гарбінкай. Толькі той хлопец, што прыязджаў у Бярэзнікі, быў у зашпіленай на ўсе гузікі бравэрцы з даматканага тоўстага сукна і ў цяжкіх ботах. Дзяўчаты, хіхікаючы, празвалі яго тады падкулачнікам.

Наліўка падняў тост за вечную дружбу, і за сталом згодна зазвінелі шклянкі. Толькі Таніна чарка і шклянка яе суседа стаялі некранутымі.

— Вінцэсь! — закрычаў Наліўка на ўвесь клуб.— Ты чаму не пасеш сваю суседку? Аштрафую на пяць працадзён.

— Трэба выпіць,— ціха прамовіў да Тані хлопец, і яна выпіла з ім.

Другім разам устаў Платон Іванавіч. Ён толькі пачаў падкручваць свае вусы, як усе дружна запляскалі ў далоні. Паляводсказаў складна, хораша, і на яго паглядалі цяпер з незахаванай павагай.

— Агітатар,— пачула Таня нечы шэпт.— Можа, з Мінска яго выпісалі...

Таня бачыла, як імгненна пачырванеў Вінцэсь і адставіў сваю шклянку ўбок.

— Брыгадзір ён,— сказаў хлопец некаму.— Я яго на свае вочы там бачыў.

— Платон Іванавіч у нас цяпер паляводам.— Таня пагля-дзела на свайго суседа даверлівымі вачамі.— Для брыгадзіра стары ён ужо...

Апенька ж не зважаў ні на якія прамовы і размовы. Ён сачыў толькі за тым, што накладвалася на талеркі, і еў з такім апетытам, нібы ў яго роце цэлы тыдзень не было і макавай расінкі. Відэльца ён не прызнаваў і браў вяндліну, каўбасы проста рукою. Таня, зірнуўшы на Апеньку, адчула, як загарэліся ў яе шчокі, а па целе пайшла нейкая млявасць. У яе знікла ўсякая ахвота да яды, і дзяўчына са страхам чакала, што вось-вось хто-небудзь з гаспадароў зарагоча з Апенькі. Але людзі елі, пілі, і ім не было, здаецца, ніякага клопату да Апенькавага апетыту.

Калі ў вокнах засінеў ужо досвітак, у клуб падышло яшчэ моладзі. Мабыць, недзе блізка была гульня, бо двое хлопцаў стаялі ў парозе з гармонікамі. У гэты час пачаў гаварыць прамову Гудок. Яго зычны голас грымеў на ўвесь клуб. Тэльманаўскі намеснік, мабыць, зусім забыўся на тое, што ён тут госць і што яму належыць расказваць пра свой калгас. Гудок адчуваў сябе нібы на трыбуне і да нечага заклікаў, ставіў задачы, гаварыў, што гродзенцам абавязкова трэба ліквідаваць свае недахопы і падцягнуцца.

Таня, чырвоная ад сораму, падняла вочы ад стала і агля-нулася. Калгаснікі слухалі Гудка сур’ёзна, без усмешак на тварах. Гудкоў сусед, пажылы ўжо чалавек, паклаўшы галаву

на стол, пазіраў прамоўцу прама ў рот. Калі Гудок скончыў, яму пляскалі ў далоні гэтак жа гучна, як і Платону Іванавічу. Гарманісты, што стаялі ў парозе, па сваёй ахвоце сыгралі яму туш...

Назаўтра Таню з Надзейкай пабудзілі карэспандэнты. Трое рослых хлопцаў прываліла ў хату, дзе дзяўчаты начавалі. Карэспандэнты ўжо недзе пранюхалі, што дэлегацыю ўзначальвае Таня, і, мабыць, па гэтай прычыне рашылі ад яе не адставаць.

З карэспандэнтамі Таня пайшла да праўлення. Яшчэ зводдаля дзяўчына ўбачыла Гудка, які, размахваючы рукамі, нешта даводзіў Наліўку. Платон Іванавіч праходжваўся па вуліцы. Апенька сядзеў на ганку ў тужурцы і нешта маляваў дубцом на пяску.

Таня з цікавасцю аглядала вёску, у якую яны прыехалі. Вёска была вялікая, раскіданая, зусім не падобная да іхніх Бярэзнікаў. Ад плошчы, узбоч якой стаялі аж два каменныя касцёлы, у розныя бакі разбягаліся вузенькія вулачкі. Вуліца была забрукавана вялікім каменнем. «Па гэтым бруку калі праедзе трактар, то, мабыць, хоць вушы затыкай»,— падумала Таня.

Наліўка павёў гасцей у парк, які ўшчыльную падыходзіў да будынка праўлення. Старыя разлапістыя ліпы так цесна спляліся сваімі кронамі, што толькі вузенькія пасачкі сонечнага святла прабіваліся скрозь зялёную навісь. Ад гэтага сыраватая алея нагадвала доўгі, змрочны калідор. Недзе там уверсе, у самых шатах дрэў, безупынна сварылася вараннё.

— Парк быў панскі, а цяпер наш,— паведаміў Наліўка, наблізіўшыся да Тані.— Да нашага пана паны з усёй ваколіцы з’язджаліся. Пілі, елі, наладжвалі музыку. Я парабкам у пана быў...

— Цёмна тут, у гэтым парку,— сказала Таня.— Тут і днём сонца не ўбачыш...

— Паны любілі цянёк.— Наліўка павярнуў у бакавую алею.

Гудка між тым сярод дэлегатаў не было. Агледзелі і пацягнутыя зялёнай раскай сажалкі, дзе бесклапотна разгульвалі сытыя карасі і карпы. Наліўка не прамінуў пахваліцца парніковымі рамамі, дзе вырошчвалася розная расада, а тэльманаўскі намеснік усё не паяўляўся. Ён вынырнуў нечака-

на аднекуль з-за вугла, калі госці разам з гаспадарамі аглядалі ўжо калгасны двор. Гудок без ніякіх тлумачэнняў далучыўся да людскога гурту.

Дэлегаты нічому не здзіўляліся. Было відаць, што амаль усе будынкі ўзведзены яшчэ пры панах і маладыя арцельцы пакуль што мала чаго дадалі да іх. Карэспандэнты, якія з самага пачатку паразгортвалі блакноты, нарыхтаваўшыся запісваць, пахавалі іх у кішэні і крочылі ўслед з сумнымі тварамі.

На поле паехалі паснедаўшы. У брычку, запрэжаную шустрым жарэбчыкам, селі Платон Іванавіч і Таня; Вінцэсь, Танін учарашні сусед за сталом, кіраваў канём. Наліўка з астатнімі гасцямі і карэспандэнтамі расселіся на шырокай фуры, запрэжанай двума вялізнымі біцюгамі.

— Я, здаецца, тут быў,— сказаў палявод да Тані.— Наш полк праходзіў сюдой.

— Можа, вы і нявесту сваю знайшлі? — пажартавала Таня і адразу схамянулася: Вінцэсь слухаў іхнюю размову. Платон Іванавіч маўчаў.

Па полі пакрочылі пешшу, межамі. Людскі рэй вёў за сабою цяпер Наліўка. Азіміна ішла ў гродзенцаў добрая, такой можна было хваліцца. Тані кінулася толькі ў вочы, што жытнёвае поле нечым нагадвае зялёны дыван, сшыты са шматкоў. Адны шматкі цямнейшыя, другія святлейшыя, і гэта рабіла ўражанне нейкай пярэстасці.

Разгадка прыйшла пазней, калі Наліўка вывеў гасцей на ярыну. Пярэстасць тут была яшчэ болей прыкметнай. Цяпер Таня ўбачыла, што аднаго цэлага масіву няма — зямля падзелена на вузкія палоскі. Сям-там захаваліся яшчэ і межы, выкладзеныя ва ўсю даўжыню каменнем. Гэтыя межы былі падобны цяпер на непатрэбныя сцежкі, якімі спаласавана поле...

— Перакрыжаваным спосабам нельга сеяць? — спытаў Платон Іванавіч у старшыні калгаса.

— Нельга, камення замнога. Яго нам яшчэ хопіць. Тут і трактару цяжка,— Наліўка адказваў так, нібы ён у нечым быў вінаваты перад гасцямі.

Хадзілі па полі доўга. Сонца паліла нясцерпна, і ўсе прытаміліся. Апенька адстаў — ён клыпаў на цэлую вярсту ззаду ад усіх. Таня прысела на крушню ўзбоч дарогі. Да яе нячутна падышлі жанкі, што палолі тут жа, каля самай дарогі.

— Горача вельмі, вады выпіце.— Жанчына ў завязанай па самыя вочы хустачцы працягнула Тані гарлачык з вадой.

Таня напілася і з удзячнасцю паглядзела на жанок.

— То ў вас, можа, машынамі полюць? — спытала жанчына, смела пазіраючы Тані ў вочы.— Можа, у вас не трэба, як нам тут, па зямлі поўзаць?

— Полюць у нас, як і ў вас.— Таня чамусьці зірнула на свае рукі.

Падышоў Апенька і, нікога не спытаўшы, пацягнуў да сябе гарлачык. Ён хлябтаў на поўны рот, пакуль не спаражніў пасудзіну. Жанкі зірнулі адна на другую з затоеным смяшком.

— Трэба было паліто скінуць, горача,— сказала нейкая з жанок сур'ёзна.

— То дзядзька, пэўна, начальнік, хоча, каб усе бачылі яго,— сказала другая.— Тут табе не да сонца...

Жанчыны, закрываючы раты рукамі, пырснулі смехам. Апенька моўчкі пачыкіляў па дарозе, уздымаючы пыл сваімі балотнымі ботамі.

Сонца хілілася ўжо к захаду. Ляскаючы доўгай пугай, высокі хлапец гнаў па дарозе статак, каровы звінелі прывязанымі да шыі званочкамі. Назад, у Наліўкаву вёску, ехалі тым жа парадкам, што і на поле. На бруку ўжо Платон Іванавіч крануў рукой за плячо Вінцэся, фурмана.

— Мястэчка Верастовіца далёка адсюль, не ведаеш?

— Кіламетраў сорак. А скуль вы ведаеце Верастовіцу?

— На кірмаш туды ездзіў,— усміхнуўся Платон Іванавіч і, саскочыўшы з брычкі, пайшоў абочынай дарогі.

## III

Па калгасах палешукі ездзілі цэлых пяць дзён. Усюды было, бадай, тое ж самае, што і ў Наліўкі. Дэлегатаў загадзя чакалі і грунтоўна рыхтаваліся да іх прыезду. На полі ў тых калгасах, куды прыязджалі дэлегаты, людзей было не густа. Калгаснікі, апранутыя па-святочнаму, з самай раніцы стаялі ля веснічак, сядзелі на платах — чакалі гасцей. Хлапчукі дзяжурылі, узабраўшыся на дрэвы за вёскамі. Убачыўшы райвыканкамаўскі «газік» і райкамаўскую «Пабеду» на дарозе, яны гарохам сыпаліся з дрэваў і што сілы імчалі ў вёску.

Старшыні і брыгадзіры, наспех паказаўшы дэлегатам будынкі, правёўшы іх па полі, адзін перад другім стараліся вызначыцца хлебасольствам.

А хлебасольства было шчодрае — багацей, як на Дзяды. Не шкадавалі гродзенцы парсючкоў, якія б да будучых Каляд нагулялі лішніх пудоў па шэсць сала, і баранчыкаў, якіх бы пасля асенняга Кузьмы з Дзям'янам рахункаводы запісалі б ужо валухамі. Сталы проста ўгіналіся ад жаранага, паранага і, як гавораць, таго, што ляжала так кускамі...

Таня проста аж знясілела за ўсе гэтыя дні. Яны праехалі ўжо, можа, дзесяць калгасаў — у адным снедалі, у другім абедалі,— і, калі не лічыць Наліўкі і Вінцэся,— нікога яна не запомніла, ні з кім не пагаварыла як з чалавекам. Дзяўчына старалася ўспомніць, што яна ведае пра калгасы, у якіх яны былі, і памяці не было за што зачапіцца. Вось толькі хіба рыба цудоўная ў гродзенцаў. Бадай, за кожным сталом падавалі свежых карпаў і карасёў. Ва ўсіх калгасах ёсць, значыць, сажалкі — гэта вельмі добра, гэта трэба запомніць...

За сталом дэлегаты і гаспадары абяцаліся дружыць, абменьвацца вопытам, запрашалі прыязджаць адзін да другога ў госці. Таня бачыла, што Платон Іванавіч таксама неяк абвяў. Ён ужо не падкручваў, як у Наліўкавым клубе, вусоў, а ўставаў, гаварыў колькі слоў і садзіўся. Толькі адзін Гудок за кожным сталом заклікаў працаваць лепш і ліквідаваць усе недахопы...

У гэты вечар яны пад'язджалі да дзясятага ці, можа, да адзінаццатага калгаса. Вёска была прыгожая — уся ў зяляніне садоў, абоч парканаў роўнаю чарадой стаялі клёны. Над рачулкай, спусціўшы вецце да самай вады, сумавалі разгалістыя вербы. За вёскай спускалася сонца, і яго чырванаватыя мяккія праменні аздаблялі ўсё наваколле нейкімі чароўнымі, казачнымі фарбамі. Тані здалося, што яна некалі даўно-даўно бачыла ўжо гэтыя мясціны, бачыла вербы, што схіліліся над рэчкай. Яна ўсё хацела ўспомніць, дзе яна бачыла такі куток, і не магла. «А дзе ж млын?» — раптам мільганула думка, і Таня ўсё ўспомніла: бачыла яна адну карціну ў Маскве, у музеі, як ездзіла на выстаўку.

«Пабеда» мякка падкаціла да саду. Там пад самымі яблынямі былі накрыты доўгія сталы.

— Не падабаюцца мне гэтыя пачастункі, Платон Іванавіч,— ціха сказала Таня.— Хіба мы сюды есці прыехалі?

— Госць як нявольнік, Таня, ты толькі цішэй.— Палявод з натугай вылазіў з вузкіх для яго дзверцаў «Пабеды».

Таня прыкмеціла — у кожным новым месцы ўсё пачынаецца з самага пачатку. Гаспадары спярша прыглядаюцца да сваіх гасцей, як бы ацэньваючы іх вартасць. Ніхто нічога не гаворыць, але гэта відно па позірках, па прытоеных усмешках, па тых непрыкметных рухах, якія гавораць часам болей за словы. На Платона Іванавіча ўсюды глядзелі з павагай — яго каржакаватая, дзябёлая постаць, сівізна на скронях, падстрыжаныя вусы, ордэн на штрыфлі пінжака выдавалі ў ім чалавека, які трохі пахадзіў па жыцці. Гудка сустракалі як добрага знаёмага, з якім развіталіся толькі ўчора. Таня бачыла — яго слухалі, але пытанняў не задавалі ніколі. Да Апенькі ж адносіліся знешне абыякава, але за гэтай абыякавасцю хавалася прытоеная насмешка. Стаяў Апенька заўсёды збоку, калі ішлі глядзець калгасны набытак — ішоў ззаду. Ні разу не гаварыў ён за сталом. Мабыць, людзі нейкім беспамылковым чуццём разгадвалі, з кім маюць справу.

Апенька, мабыць, і сам адчуваў, што яго паважаюць не асабліва. Ён хадзіў маўклівы і насуплены, не ўступаючы ў гаворку нават са сваімі.

Вясковы вечар быў напоўнены рознагалосай гамонкай і яшчэ нечым прыемным, няўлоўным, пахла мочанымі яблыкамі, укропам.

Гаспадары завіхаліся каля стала. Яны за познім часам і не збіраліся хваліцца перад гасцямі сваім багаццем. Палявод ужо стаяў у шчыльным акружэнні калгаснікаў і нешта даводзіў. Таня з Надзейкай пабеглі да рэчкі. На лужку перад рэчкай поўзаў на каленях Апенька. «Згубіў ён тут што?» — падумала Таня.

Дзяўчына спытаць не паспела — да Апенькі падыходзілі два хлопцы.

— А я аер ірву,— сказаў Апенька, устаючы.— Яго корань ад многіх хвароб памагае. Не расце ў нас гэтая траўка.

— Мы можам табе, дзядзька, цэлы воз нарваць такога дабра. На тваё здароўе.

Хлопцы, перасмейваючыся, нагнуліся і сталі рваць аер разам з Апенькам, сочачы ў той жа час за Надзейкай і Таняй.

Гэты аер дарэмна Апеньку не прайшоў. Як толькі ён вярнуўся ў сад, яго адразу ж абступілі вяскоўцы.

— То ваша Палессе, таварыш, пэўне, аж пад самай Украінай? Зямля ў вас, мусі быць, добрая,— запытаўся ў Апенькі шчуплы на выгляд чалавечак у шапцы з вялізным брылём. Яго вочкі паглядалі з-пад гэтага брыля насцярожана і колка.

— Блізка ад Украіны мы,— згадзіўся Апенька.— Але ў нас балот багата, цяпер паасушылі іх, праўда...

— А колькі, прыкладам, далі вам летась на працадзень?

— Зерня тры кілаграмы далі, ды бульбы...

— То таварыш шмат хлеба мае, раз такую вопратку справіў.— Чалавечак памацаў пальцамі крысо абшарпанай Апенькавай тужуркі.— Хром, мусі быць, яшчэ мікалаеўскага вырабу.

Ззаду засіпелі прыдаўленым смяшком. Апенька стаяў з пабялелым тварам і не ведаў, што адказаць.

За сталом Апенька на гэты раз еў і піў мала і некага шукаў вачыма. Ён папрасіў слова першы, адразу пасля таго, як выступіў мясцовы старшыня. Таня са здзіўленнем і страхам глядзела на Апеньку.

— У нашым калгасе хто робіць, той без хлеба не сядзіць,— пачаў Апенька без ніякіх прывітанняў.— А хто не верыць, можа прыехаць і паглядзець. Мы не хаваемся. І парадак, праўду кажучы, таксама ў нас лепшы. У вас яшчэ аднаасобнікі розныя сыкаюць на калгас. Чуў я, як адзін тут кепікі строіў. Пасля вайны мы былі бядней за вас, але ж падняліся. Тры кані было на ўвесь калгас. А цяпер колькі ўсялякага набытку. Няхай прыедзе, паглядзіць той аднаасобнік, калі я брашу...

Таня слухала і ледзь верыла вушам, што ўсё гэта гаворыць Апенька. Адкуль у яго ўзяўся гэтакі патрыятызм?

Апенька між тым сеў і зноў пачаў некага шукаць вачыма. За сталом усе прыціхлі, потым бурна прывіталі не вельмі складную Апенькаву прамову. І тут якраз наступіла тая перамена, на якую Таня ўжо і не спадзявалася. Так, як гаварылі ўсе гэтыя пяць дзён і госці, і гаспадары, гаварыць ужо нельга было. Упершыню паразмаўлялі, здаецца, шчыра і сардэчна...

Назаўтра апаўдня дэлегаты вярнуліся ў Наліўкаў калгас. Вечарам тут меціўся апошні сход, на які запрашаліся людзі з тых калгасаў, дзе дэлегаты не паспелі пабываць. Сход рашылі правесці на ўзбочыне парку, пад навіссю старых, некалі панскіх ліп.

Наліўка быў вясёлы, прыветлівы, як і ў першы дзень прыезду дэлегатаў. Ён сыпаў, як з меха, жартамі і прымаўкамі.

— Вось зараз мы вам лазню наладзім, а ўжо вечарам вы нам...

Дэлегатам сапраўды прапанавалі памыцца ў лазні. Наліўкава лазня мала чым рознілася ад роднай, бярэзнікаўскай. Такая ж старая, збуцвелая хатка, толькі трохі большая. Дзяўчатам — Тані і Надзейцы, аказалі павагу: яны мыліся першымі. Потым зайшлі мужчыны.

Гудок выбраўся з лазні апошні і, зайшоўшы на колькі хвілін у лаўку, рушыў у парк, пад дрэвы. Твар у яго быў чырвоны і задаволены. Падаслаўшы на траву свой кіцель, Гудок лёг у адной нацельнай сарочцы і адразу заснуў.

Ён прачнуўся ад нейкага бязладнага прарэзлівага звону і шматгалосага ляманту. Падхапіўшыся, ён убачыў дым і зразумеў, што недзе гарыць. Праз хвіліну Гудок у адной нацельнай сарочцы быў ужо каля лазні, адна сцяна якой палыхала барвовым полымем. Каля будынка мітусіліся людзі, махалі рукамі і нешта крычалі. Гудок, не раздумваючы, узяў каманду на сябе.

— Усе па вёдры! — загрымеў ён.— Ваду браць з сажалкі.

Нехта падаў яму бусак, і адразу з даху старой будыніны паляцелі на зямлю трухлявыя, напаўабгарэлыя дошкі і кроквы.

Прыгрукатала і стала як укапаная чырвоная пажарная машына, запрэжаная парай коней. Пажарнікі разматвалі доўгі шланг.

— Да гумна! — закрычаў Гудок не сваім голасам.— Там дах саламяны!..

Пажарнікі паслухмяна завярнулі нахрапуджаных коней да гумна, якое стаяла недалёка ад лазні. Нейкі парадак быў наведзен — ляманту стала менш... Жанкі і мужчыны подбегам цягалі ваду з сажалкі і, адварочваючы твары ад будынка, які палыхаў агнём, пляскалі ў зяпу агню вадой. Полымя ад гэтага, здавалася, расло яшчэ вышэй.

— Ні к чорту работа! — надрываўся Гудок.— Станавіся ў ланцуг!..

І вось ужо ад палаючай лазні і да самай сажалкі расцягнулася доўгая людская чарга. У гэтай чарзе стаяў і Наліўка. Вёдры з вадой ішлі цяпер безупынна...

Полымя залілі хутка. Выгарала паўсцяны. Наліўка першы час хадзіў прыбіты і разгублены.

— Лазня глупства, мы ўсё роўна збіраліся зносіць гэтую трухліну,— тлумачыў ён чорнаму ад копаці Гудку.— Але звону будзе на ўсю вобласць. У такі дзень і недаглядзелі...

К вечару Наліўка зноў стаў сам сабой. Ён насіўся па парку, загадваў, жартаваў.

— Ты, брат, камандзір, гэта я адразу адчуў,— ляпаў ён па плячы Гудка.— Сам стаў пад тваю каманду. Лазня — пра яе ўспамінаць не варта, а вось у гумне ў нас на паўмільёна трасты ляжыць. Змікіціў ты, выручыў з бяды...

Вечарам, нягледзячы на пажар, такі наладзіў Наліўка апошні, развітальны сход. Па праўдзе кажучы, бяседа за сталамі, якія былі накрыты на ўзмежку парку, пад маладымі дрэвамі, была мала падобна на сапраўдны сход. Але Тані яна спадабалася болей за ўсё, што яна бачыла і чула за гэтыя дні. Нагаварыўшыся, госці заспявалі разам з гаспадарамі. Большую за ўсіх пашану атрымала тут Надзейка Палякова. Яна ні разу нідзе не выступала, але затое ў яе быў такі добры і прыемны голас. Яе спевамі можна было заслухацца. Гудок грымеў мацней за ўсіх, Апенька ж ледзь чутна падцягваў хрыплым, натужным голасам.

Вінцэсь, як і ў першы раз, сядзеў поруч з Таняй і, асмялелы ад лішніх чарак, абяцаўся к восені зноў прыехаць у Бярэзнікі і прасіў дазволу пісаць ёй лісты. Таня бачыла, як раз-пораз кідаў позіркі на прыгожага Вінцэся Платон Іванавіч, і ўсміхалася сама сабе.

Блізіўся ўжо ранак, а госці разам з гаспадарамі ўсё гаварылі і спявалі. За сталом сядзелі блізкія, шчырыя сябры, якія, здаецца, зусім не збіраліся развітвацца.

*1956*

# ГАНЬБА «СВЯТОГА» ЛУКІ

Сакратар райкама камсамола Марат Стальмашонак не ведаў, што рабіць. Сёння, можа, у дзясяты раз да яго забягала Марыля Паліваная з Белай Крыніцы і, канешне, зноў патрабавала лектара. Тры месяцы за сакратара Марат Стальмашонак, і ўвесь гэты час Марыля не дае яму спакою. Па-першае, не вельмі ёй дагодзіш гэтымі лектарамі. Марыля патрабуе такога лектара, які б ушчэнт разбіў «святога» Луку, што ўжо трэці год жыве на лёгкім хлебе ў Белай Крыніцы. Гэты Лука, мабыць, дужа хітры чалавек, нездарма ён праславіўся за святога. Расказваюць, што калі Лука ідзе вуліцай, то ён увесь час пазірае на неба і нешта шэпча, а дома заўсёды чытае тоўстую кнігу ў чорнай вокладцы. Адным словам, у Белай Крыніцы ёсць людзі, якія вераць, што Лука сапраўды святы, і ходзяць да яго лячыцца і варажыць. Лечыць Лука «святою» вадой, а варожыць на чорнай кнізе.

Марыля Паліваная, сакратар белакрыніцкіх камсамольцаў, патрабуе такога лектара, які б разбіў усе хітрыкі «святога» Лукі. Пасылалі ў Белую Крыніцу і ўрача, і выкладчыка астраноміі з раёна, але Лука ўсё роўна трымаецца моцна. Марыля гаворыць, што трэба прыслаць лектара, які б ведаў Свяшчэннае Пісанне і разбіраўся ў чорных кнігах, бо без гэтага ваяваць з Лукой цяжка. Але паспрабуй, дастань такога лектара! Яго, мабыць, і з Масквы не выпішаш...

Настрой у Марата быў не дужа важны. Ён, мусіць, разважаў над тым, што на чарговым пленуме Марыля зноў будзе яго распякаць.

Раптам Марат падхапіўся і выскачыў на вуліцу. У яго галаве нарадзілася шчаслівая ідэя. «Гешка, напэўна, ведае Свяшчэннае Пісанне,— разважаў Марат.— Ён жа сам расказваў, як некалі поп паставіў яго ў вугал на грэчку за тое, што ён на ўроку Закону Божага гуляў у «цот і лішку». Як толькі знайсці гэтага Гешку?»

Але Гешку — такім было прозвішча адваката мясцовага нарсуда — доўга шукаць не давялося. З прычыны таго, што ў гэты гарачы час касавіцы спраў у судзе не было ніякіх, Гешка хадзіў па скверы і расказваў нешта вясёлае двум сваім знаё-

мым хлопцам. Тыя аж за жываты браліся з рогату. Чалавек Гешка быў вясёлы і дасціпны, гэта ведалі ўсе.

Стальмашонак адвёў Гешку ўбок і, надаўшы твару сур’ёзнасці, запытаў:

— Вы Свяшчэннае Пісанне ведаеце?

— А як жа,— ніколечкі не здзівіўся запытанню Гешка.— Я ж яшчэ ў шаснаццатым годзе закончыў цэпэша.

— Якое цэпэша? — не зразумеў Стальмашонак.

— Ну, царкоўнапрыходскую школу, скарочана.

— А з лекцыямі вы калі-небудзь выступалі?

— Я, брат, яшчэ ў дваццатым годзе адменным лектарам быў, калі на рабфаку вучыўся,— ажывіўся Гешка.— Мая прафесія, можна сказаць...

Гэта было якраз тое, што і трэба. Стальмашонак расказаў усё, што ведаў пра «святога» Луку, і яны лёгка дамовіліся, што Гешка пойдзе чытаць лекцыю ў Белую Крыніцу.

Стальмашонак быў задаволены. Адно, што яго крыху засмучала, дык гэта Гешкаў выгляд. Гешка быў маленькі, шчупленькі і знешне нагадваў старога абскубанага вераб’я. Такога, бадай, яшчэ і слухаць не будуць. Але выбіраць не прыходзілася...

А далей падзеі развіваліся такім парадкам. На другі дзень пасля размовы Гешка паявіўся ў Белай Крыніцы. Надвор’е стаяла спякотнае, сонечнае, і вясковая вуліца была бязлюднай. Гешка паспрабаваў адшукаць Марылю Паліваную, каб дамовіцца наконт лекцыі, але яму сказалі, што яна на сенажаці. Тады лектар прайшоўся разы са два па вуліцы, спыняючыся каля бабулек, што сядзелі з малымі на прызбах. Пра што з імі гаварыў Гешка, гэта засталося невядомым. Але раптам твар у лектара прасвятлеў, і ён, борздзенька падхапіўшыся, пашыбаваў уздоўж вуліцы. Гешка ўжо ведаў, дзе жыве «святы» Лука, і адважна пераступіў парог яго хаты. «Святы» сядзеў за сталом і, плямкаючы губамі, чытаў чорную кнігу. У яго былі хітрыя шэрыя вочкі і калматая барада.

— Зубы баляць,— заенчыў Гешка, хапіўшыся за шчаку.— Дапамажы, святы чалавек. У дактароў веру страціў, дваццаць вёрст да цябе ішоў.

— Маё слова і за сто вёрст чутно,— задаволена прамовіў «святы».— А як тваё імя?

— Хвёдар,— прапішчаў жалобным голасам Гешка.

— Дык вось, раб Божы Хвёдар, святое таінства на зубы нельга тварыць пад дахам. Пойдзем пад чыстае неба.

«Святы» адліў у медную конаўку вады з нейкай чорнай бутлі і разам з Гешкам выйшаў на двор. Ён пасадзіў лектара на лавачку і загугнявіў над яго галавой.

— Месяц на небі, мядзведзь у лесі, рыба на моры... Як ім у кучу не схадзіцца, за адным сталом не садзіцца, з аднае чары віна не піць, з адной чашы стравы не есць, так Хвёдаравым зубам не балець...

«Святы» загадаў Гешку глынуць тры разы загаворанай вады, патрымаць яе ў зубах, а пасля гэтай вадой умыцца. Але Гешка сядзеў і ўсміхаўся.

— Цябе пакарае нячыстая сіла,— ускіпеў «святы».— Ты што, смяяцца з мяне прыйшоў?

— Слабы ты загавор ад зубоў ведаеш,— сумным голасам прамовіў Гешка.— Ён мала дапамагае. Як цябе тут і церпяць? Вось паслухай мой загавор, ён прыгодны і зімой, і летам.

І Гешка, падняўшы вочы к небу, пачаў:

— Маладзік маладой, у цябе рог залатой, на моры купаўся, нам паказаўся. Табе на цёмныя ночы, а нам на светлыя вочы, вам на стаянне, а нам на здароўе, вам на вісату, а нам на красату. Первы цар — ясен месяц на небі, другі цар — зелен дуб у полі, трэці цар — белы камень у моры. Сколькі тром царом у кучы не схадзіцца, столькі раба Лукі зубкам не балець, і косці не шчымець, і крыві не псаваць...

«Святы» Лука стаяў, вырачыўшы вочы.

— Ты хто такі? — цяжка дыхаючы, спытаў «святы».

— Такі, як і ты,— адказаў Гешка.— Думаю пасяліцца ў тваёй вёсцы. Лячыць людзей буду і варажыць. Ты ж загавараў усіх не ведаеш, лечыш дрэнна.

— А хто табе дазволіць тут жыць? — кіпяціўся Лука.

— А табе хто дазволіў?

— Ану, скажы загавар ад прыстрэку,— ухапіўся нарэшце за апошні паратунак Лука.

— Хадзілі-гулялі ўрокі-парокі па чыстым полі, па сінім моры,— затараторыў Гешка.— На сінім моры белы камень, з-пад белага камня выйшлі тры дзявіцы, тры сястрыцы, яны разносілі ўрокі-парокі — шэры глаз, зялёны глаз, чорны глаз...

— А які ад звіха загавар? — яшчэ спадзяваўся на Гешкава няведанне «святы».

— На моры, на лукамор'і хадзілі тры дзявіцы і рвалі тры травіцы; першая — зелле жоўтае, другая — зелле краснае, трэцяя — зелле састаўляла і звіх замаўляла...

«Святы» Лука здаўся. Ён стаяў са збялелым тварам і цяжка дыхаў.

— Не жыві тут,— папрасіў ён Гешку слабым голасам.— Хіба мала табе месца...

— Тут прырода мне падабаецца,— з сур'ёзным выглядам заявіў Гешка.— І, кажуць, зарабляеш ты добра.

— Я табе адступнога дам,— запрапанаваў «святы».— Колькі ты просіш?

Гешка зрабіў выгляд, што задумаўся. Тады Лука пацягнуў яго ў хату і спрытна паставіў на стол гарлач з самагонкай. Гешка пацікавіўся яшчэ чорнай кнігай. «Рокамболь, или Роковая любовь»,— стаяла на тытульным лісце.

— Цябе ж засмяюць, калі ўбачаць, па якой кнізе ты варожыш,— сказаў ён «святому».

— А я нікому яе не паказваю. На ёй вокладка добрая, чорная. Цяпер такіх не робяць.

За сталом Гешка сам амаль не піў, паболей падліваў «святому» і абяцаў перабрацца з Белай Крыніцы ў другое месца. Лука ад радасці перакульваў карэц за карцом.

А надвячоркам бабулькі, што сядзелі з дзецьмі на прызбах, убачылі цікавы малюнак. Па вуліцы, граючы на балалайцы, крочыў Гешка, а перад ім скакаў упрысядкі Лука.

Гоп-чак! Каля броду
Замуцілі качкі воду,
Бо ўбачылі качура.
Гоп-чак-чыра, гоп-чура! —

на ўсю вуліцу запяваў «святы», а Гешка ў такт яго песні дрынкаў на балалайцы. За «святым» цугам ішла дзетвара, а бабулькі адварочваліся ад Лукі.

Вечарам, калі п'яны, як цэп, Лука хроп каля сваіх жа веснічак, Гешка чытаў у Белай Крыніцы лекцыю. Людзей сабралася столькі, што аж клуб трашчаў. Гешка ўмеў гаварыць! Ён расказаў пра сваю бабулю, якая ведала ўсе загавары, але

калі звіхнула нагу, то яе прыйшлося везці ў бальніцу. Гэтым загаварам лектар і навучыўся, калі скакаў яшчэ верхам на бярозавым кійку. Але больш за ўсё пацяшаліся ў Белай Крыніцы з чорнай кнігі, якую Лука падараваў Гешку...

Пасля Гешкавай лекцыі Марыля Паліваная больш не турбавала Марата Стальмашонка.

*1956*

## НАСТАЎНІК ЧАРЧЭННЯ

Да вайны яшчэ ў той школе, дзе вучыўся Косця Кветка, маляванне і чарчэнне выкладаў старамодны настаўнік Апалінарый Феактыставіч, па празванню Цыркуль. Гэтую мянушку Косця прыклаў свайму настаўніку, як толькі перайшоў у шосты клас, і яна прыжылася.

Высокі, тонкі, у чорным, яшчэ царскіх часоў, сурдуце, Апалінарый Феактыставіч знешне на самай справе апраўдваў дадзенае яму празванне. Але менш за ўсё гэтага абцягнутага чорным сукном чалавека можна было назваць сухім і чэрствым. Ён быў старамодным, крыху напышлівым, але толькі не сухім.

Прадмет свой Апалінарый Феактыставіч ведаў добра, але быў надзвычай мяккім чалавекам, і гэтай мяккасцю яго карысталіся не на карысць вучобе. Вучні ведалі, што да рэвалюцыі іх настаўнік выкладаў у гімназіі латынь. І хоць цікавасці да латыні шасцікласнікі, вядома, не праяўлялі абсалютна ніякай, тым не меней на ўроках Апалінарыя Феактыставіча часта гучала гэтая мёртвая, але прыгожая мова.

Аматарам лацінскай мовы часцей за ўсе прыкідваўся Косця. Можа, яму падабалася ўзрушанасць старога настаўніка, які, хвалюючыся, вымаўляў незразумелыя звонкія словы, магчыма, ім кіравала самае звычайнае самалюбства, але Косця часцей за другіх ішоў на свядомую правакацыю. Калі хтонебудзь не зрабіў чарцяжа і прадчуваў немінучую пагібель, яго нязменным выратавальнікам быў Косця.

Пры ўваходзе Апалінарыя Феактыставіча ў клас Косця, які сядзеў на першай парце, напускаў на свой твар цень

задуменнасці і летуценнасці. Настаўнік раскрываў класны журнал, але ў гэты час Косця ўжо сядзеў з паднятаю рукой.

— Я слухаю цябе, Кветка,— дазваляў настаўнік выказацца.

— Апалінарый Феактыставіч, як будзе па-лацінску кніга?

Стары настаўнік адрываў свой позірк ад класнага журнала, і на твары яго з'яўлялася ўсмешка. Ён, вядома, здагадваўся, што не прагай ведаць новае лацінскае слова гарыць яго яшчэ не сталы апанент. Але пераадолець спакусу і не адказаць на пытанне Апалінарый Феактыставіч не мог. Той, над кім навіс дамоклаў меч быць выкліканым і ісці са сваімі чарцяжамі да стала, на нейкі час быў выратаваны.

— Словы свабода, кніга і дзеці на лацінскай мове маюць блізкае гучанне,— натхняўся стары настаўнік,— лібэрас, лібэра, лібры... Гэта ж так лёгка запомніць...

Інтарэс шасцікласнікаў да мовы Авідзія і Гарацыя ўзрастаў па меры таго, як набліжалася доўгачаканая хвіліна збавення — званок на перапынак. Нарэшце вартаўніца дрэнькала ў стары, вышчарблены званок, і стрыжаныя шасцікласнікі гаманлівай талакой зрываліся з месца. Апалінарый Феактыставіч з разгубленай усмешкай закрываў класны журнал, у які ён за ўвесь урок не паставіў ніводнай адзнакі...

Вучні падрасталі, станавіліся старшакласнікамі, заводзілі прычоскі. У дзясятым класе здольны і няўрымслівы Косця ўжо не дазваляў сабе карыстацца слабасцю старога настаўніка. У адносінах класа да Апалінарыя Феактыставіча паявілася нешта новае. Гэтае новае, бадай, можна было назваць прытоенай, схаванай недзе ў глыбіні юнацкіх душ павагай да свайго настаўніка. Маладосць, нарэшце, ацаніла вялікую, нязменную любоў і адданасць Апалінарыя Феактыставіча латыні — прадмета, які даўно можна было забыць...

Гэтую павагу класа адчуваў і сам настаўнік, хоць знешне, здавалася, яна не праяўлялася ні ў чым. Пасля ўдалага чарцяжа, зробленага кім-небудзь з дзесяцікласнікаў, Апалінарый Феактыставіч ставіў умельцу пяцёрку, закрываў журнал і, строгі, сур'ёзны, падымаўся над класам.

— Вам трэба думаць не толькі пра гэтыя чарцяжы,— заяўляў ён.— Пара ўжо кожнаму з вас зрабіць для сябе чарцёж усяго будучага жыцця. Але ў гэтым вам лепш за мяне дапаможа Авідзій...

Апалінарый Феактыставіч пачынаў чытаць Авідзія. Голас у яго быў слабы, прыглушаны, ён дрыжаў і зрываўся, але старога настаўніка слухалі з затоеным дыханнем. Ніхто не разумеў слоў лацінскага верша, які перажыў многія стагоддзі, але ўсе, здаецца, адчувалі магутнае, узнёслае пачуццё, схаванае ў далёкіх, урачыстых метрах...

— Авідзій любіў сваю зямлю, як можа яе любіць вялікі сын сваёй Айчыны,— натхняўся стары настаўнік.— Таму яго слова будзе жыць да таго часу, пакуль будзе ўладарыць чалавек на зямлі. Тыраны прымусілі паэта пакінуць родны край. Ён жыў ля берагоў нашага Чорнага мора, якое называлася тады Понтам Эўксінскім...

Апалінарый Феактыставіч заўсёды тлумачыў Авідзія напышліва, у прыўзнятым, урачыстым стылі. Але цяпер гэта дзясятаму класу падабалася.

Косця тайна ад сваіх сяброў хадзіў у раённую бібліятэку і прасіў Авідзія. Авідзія ў бібліятэцы не было. Бібліятэкарша дзівілася:

— Навошта ён здаўся вам, гэты Авідзій? Чалавек дзесяць яго прасілі ўжо. Па праграме ж яго не праходзяць?..

Зрэдку класу ўдавалася ўцягнуць Апалінарыя Феактыставіча ў размову, далёкую ад яго любімай латыні. Ён быў не вялікі майстар адказваць на пытанні юнакоў і дзяўчат, якія праз некалькі месяцаў збіраліся пайсці ў новы, невядомы і цікавы для іх свет.

— Мы з вамі, маладыя сябры, людзі розных эпох,— звычайна заяўляў стары настаўнік.— Мае жыццёвыя прынцыпы не падыдуць для вас. У вас ёсць нешта новае, чаго не ведала маё пакаленне. Мне ўжо цяжка дагнаць вас і нават цяжка вас добра зразумець. Але ў нас з вамі ёсць адна такая рэч, якую нельга адабраць ні ад вас, ні ад мяне. Гэта наша Радзіма. Беражыце яе чэсць, нясіце яе славу наперад. А я ўжо стары і слабы чалавек...

У сярэдзіне навучальнага года Косця Кветка паступіў у лётнае вучылішча. Яму трэба было ехаць у далёкі горад, аж за Волгу. Косця прыйшоў развітацца з сябрамі. Затаіўшы дыханне, глядзеў дзясяты клас на Косцю, які першым, не дачакаўшыся атэстата, пакідаў школу і родны гарадок. Заняткі ў той дзень адмянілі з трэцяга ўрока.

Дзесяцікласнікі, употай згаварыўшыся, склаліся па рублю і купілі Косцю ў якасці развітальнага падарунка табакерку са срэбраным вечкам. Усе ведалі, што Косця курыць яшчэ з восьмага класа, і цяпер гэта нават перад вачыма настаўнікаў не было парушэннем правіл, бо Косця забраў ужо свае школьныя дакументы. Трэба было напісаць нейкія словы на вечку табакеркі, каб Косця не забываў свайго класа і свайго гарадка. Гэтыя словы якраз і прыдумваў дзясяты клас, калі ў пакой увайшоў Апалінарый Феактыставіч. Ён яшчэ не ведаў, што яго ўрок адмянілі, і яму хутка ўсё растлумачылі. Расказалі настаўніку і пра падарунак для Косці — табакерку, і пра тое, што трэба нешта выгравіраваць на срэбраным вечку...

Вось тады і напісаў Апалінарый Феактыставіч на дошцы словы, якія ўсім спадабаліся і вастрыём цыркуля з лепшай класнай гатавальні былі перанесены на вечка Косцінай табакеркі: «Patriam nostram amare et defendere debemus...»

Гэтыя словы якраз падыходзілі для ўрачыстасці моманту, і сутнасць іх таксама поўнасцю адпавядала намерам дзесяцікласнікаў.

«Радзіму нашу любім і абараняць яе павінны»,— значылі ўрачыстыя лацінскія словы.

Косця ж станавіўся вайскоўцам, яму трэба было ведаць гэтыя словы. Але ў той дзень гэты лацінскі сказ, які быў напісаны на дошцы, мабыць, запомніў не адзін толькі Косця...

Косця паехаў у далёкі горад і прыслаў адтуль толькі два лісты. Але ў абодвух ён прасіў перадаць гарачае лётнае прывітанне Апалінарыю Феактыставічу. Дзясяты клас закончыў школу без ніводнага другагодніка, і па гэтай прычыне ладзіўся ўрачысты выпускны вечар. Але вечара ў той год не было — пачалася вайна. Атэстаты выпускнікам аддалі без ніякіх цырымоній, і ніхто з іх не паступіў у інстытут. Хлопцаў на трэці дзень вайны мабілізавалі ў войска.

У гарадок прыйшлі фашысты. У школе размяшчаўся цяпер нейкі вайсковы штаб. У першыя ж дні нямецкага ўладарання былі арыштаваны мясцовы натарыус, старшыня абутковай арцелі і ляснічы. Яны лічыліся актывістамі і, на думку фашыстаў, уяўлялі сур'ёзную небяспеку для германскай імперыі. Апалінарыя Феактыставіча арыштавалі ў той жа дзень за знявагу нямецкай зброі. Адбылося гэта вось як.

У гаспадыні, дзе кватараваў стары настаўнік, нямецкія салдаты рэквізавалі парасё. Свінчо не давалася ў рукі, і салдаты застрэлілі яго з аўтаматаў тут жа, на двары. Апалінарый Феактыставіч, які прысутнічаў пры гэтай баталіі, назваў салдат грабежнікамі. Яго як злоснага бальшавіцкага агітатара адвялі ў штаб на допыт да афіцэра. Але і там Апалінарый Феактыставіч не адступіўся ад сваіх слоў.

— Ёсць добрая лацінская пагаворка, якая ўзнікла да таго, як варвары разбурылі Рым,— ахвотна растлумачыў ён афіцэру: — «Aqvila non captat muscas...» — «Арлы не ловяць мух». У вашых салдат на шапках арлы, але яны падобныя да злых гіен.

Гэта былі апошнія словы, якія сказаў стары настаўнік. Яго расстралялі разам з натарыусам, старшынёй абутковай арцелі і ляснічым у бярозавым гаі за гарадком. Насельніцтву было аб’яўлена, што гэтыя людзі з’яўляюцца камуністамі і партызанамі...

А на трэцім годзе вайны, калі фронт яшчэ стаяў пад Арлом і Белгарадам, вясновай зорнай ноччу над занятым фашыстамі палескім гарадком доўга кружыў самалёт. Лётчык спусціў дзве асвятляльныя ракеты і, карыстаючыся поўнай адсутнасцю ў тутэйшага гарнізона зенітнай артылерыі, зацята абстрэльваў з кулямёта чыгуначную станцыю. Ён пачаставаў фашыстаў і дзвюма бомбамі, якімі знёс вадакачку. Тады было забіта чатыры фашысты і яшчэ некалькі паранена. Праз тыдні два пастушкі прынеслі ў гарадок цікавую знаходку — звычайны кашалёк, у якім ляжаў кавалачак шоўкавай парашутнай матэрыі. На матэрыі быў зроблены надпіс на чужой мове і стаяў подпіс «Косця».

Дзяўчаты, якія закончылі дзесяцігодку, прачыталі незразумелы надпіс. На шоўкавай матэрыі былі напісаны словы, якія некалі дзясяты клас выгравіраваў на вечку срэбранай табакеркі: «Patriam nostram amare et defendere debemus...» Да самага таго дня, пакуль з гарадка не прагналі немцаў, пад страшным сакрэтам з вуснаў у вусны перадавалася навіна, што немцаў вясной бамбіў Косця Кветка...

У сорак пятым годзе, калі ўжо ішлі бai за Берлін, Косця Кветка вярнуўся ў родны гарадок. У яго было тры ордэны на гімнасцёрцы і пусты правы рукаў. Косця пацвердзіў, што гэта

сапраўды ён бамбіў тады гарадок і скінуў свае вымпелы. За гэтую бамбёжку Косця атрымаў ад свайго начальства вымову — ён адхіліўся ад маршруту... Косця прывёз з сабой табакерку, якую некалі ў складчыну падараваў яму дзясяты клас.

Спачатку Косця працаваў фізруком у той жа школе, дзе выкладаў чарчэнне і маляванне Апалінарый Феактыставіч. Цяпер ён завочна скончыў інстытут і выкладае фізіку. Расказваюць, што настаўнік з Косці атрымаўся добры, і вучні яго любяць. І калі тлумачыць Косця закон Архімеда, ён гаворыць не толькі пра выцесненую целам вадкасць, а і пра жыццё самога Архімеда з Сіракузаў, які храбра абараняў свой горад ад ворагаў.

*1956*

## ПРЫ АПОШНЯЙ СУСТРЭЧЫ

Сёлетняй вясной мне разам з нашым выкладчыкам нямецкай мовы Пятром Пятровічам прыйшлося выконваць даручэнне па мясцкамаўскай лініі. Нас паслалі выбраць мясціну для маёўкі — улонне прыроды, дзе б стомленыя за год лекцыямі, канспектамі, нарадамі і сходамі выкладчыкі тэхнікума адпачылі. Добрую мясціну мы знайшлі — з салаўямі, рэчкай і адносна невялікай колькасцю камароў. Я нарваў кураслепу, Пятро Пятровіч забіў гадзюку, якая прыгрэлася на вясновым сонцы. Але часу да прыходу аўтобуса, маршрут якога ляжаў праз гэтыя мясціны, яшчэ заставалася многа.

Пятро Пятровіч старэйшы за мяне. Як педагог, ён строгі і патрабавальны. У гэтым мне прыйшлося пераканацца. Не раз я заўважаў, што на маіх уроках хто-кольвечы са студэнтаў рыхтаваў нямецкую мову. Мая заўвага дапамагала ў такіх выпадках не заўсёды: наступны ж урок — нямецкая мова.

На першамайскай дэманстрацыі я бачыў на грудзях у Пятра Пятровіча дзве калодкі ордэнаў Чырвонага Сцяга. За абы-што такіх узнагарод не даюць. Мне даўно хацелася запытацца ў свайго старэйшага калегі пра яго баявыя прыгоды, але ніяк не было зручнага выпадку. Сёння ж мая цікаўнасць была задаволена цалкам.

Мы ляжым на зялёнай мураве непадалёку ад развілкі дарог, дзе стаяць слупы з указальнікамі. Над намі ціхая засень бяроз, сіняе неба, па ім плывуць белыя купкі воблачкаў. Мы адпачываем ад гарадскога тлуму і мітусні, дыхаем свежым лясным паветрам, слухаем пераклічку вясёлых драздоў.

Я разгортваю газету, якую прывёз з сабою. «Чытай уголас»,— просіць Пятро Пятровіч. Я чытаю спачатку навіны дня, а пасля надрукаваную на апошняй старонцы заметку, якая паведамляе, што ў заходнегерманскі гарадок Андэрнах прывезлі першую партыю зброі з-за акіяна, што там спешна будуюць новыя казармы і што Гансу Пупке, жыхару гэтага гарадка, у хуткім часе прыйдзецца плаціць яшчэ большыя падаткі, а яго гандаль пойдзе яшчэ горш...

— Ну, дык як ты думаеш, што ж скажа нарэшце твой Ганс Пупке? — пытае Пятро Пятровіч.

— Чаму мой,— крыўджуся я.— Я яго ніколі ў вочы не бачыў...

— Ды ты не злуй. Гэта, можа, і лепш, што ты не бачыў. А я, брат, бачыў. Хочаш, раскажу табе пра аднаго такога Ганса Пупке?

Пятро Пятровіч ляжыць на спіне, падклаўшы рукі сабе пад галаву.

— Дык вось слухай. Толькі я пачну з самага пачатку, каб табе было зразумела. Перад вайной я закончыў інстытут і адзін год працаваў настаўнікам. Толькі выкладаў не нямецкую мову, а біялогію. Я ж біёлаг па спецыяльнасці, а мовазнаўцам мяне зрабілі пасля вайны. Праўда, нямецкую мову я ведаў яшчэ з маленства, потым у інстытуце падвучыў яшчэ.

Рос я без бацькі і гадоў да чатырнаццаці карміўся ў аднаго немца-хутараніна — батрачыў у яго разам са сваёй маці. Пасля саўгас у нас арганізаваўся, паступіў я ў камсамол, у час калектывізацыі трыбушыў гэтага самага свайго «апекуна». Па камсамольскай пуцёўцы паслалі мяне на рабфак. Маё пакаленне поўных дзесяцігодак, як вы, неканчала.

Пасля рабфака, тры гады папрацаваўшы ў саўгасе, я паступіў у інстытут, а закончыў яго, калі мне ішоў трыццаты год. Пачаў працаваць, справіў сабе першы касцюм, задумаў жаніцца — прызвалі ў армію. Праслужыў год — вайна...

Мне не пашанцавала ў першы ж дзень вайны — ледзь у палон не трапіў. У тую ж раніцу, як пачаў фашыст вайну, драпнула мяне асколкам у нагу каля Брэста, і я адстаў ад сваіх.

Сяджу, брат, у нейкім хляве і паглядаю праз шчыліну, як смела ідуць па нашай зямлі фашысты. З закасанымі рукавамі, вясёлыя, рагочуць. Ідуць дзень і ноч, здаецца, і канца не будзе гэтай зялёнай навалачы. Ніколі, брат, не забуду таго хлява. Яны ідуць, гарлапаняць песні, а я на сваёй зямлі хаваюся як крот, і душаць мяне слёзы бяссільнай злосці. Не ведаю, як усё гэта вытрымаў, але неяк вытрымаў. Падлячыўся крыху — і ў дарогу...

Па дарозе на ўсход набралася такіх, як я, чалавек дванаццаць. Ідзем лясамі, і няма сярод нас ніводнага здаровага чалавека. Хто ў руку ранены, хто ў нагу, хто ў галаву. Ідзём ноччу, а днём ляжым у жыце, жуём жытняе зерне, шукаем шчаўе. І ведаеш, што больш за ўсё запомнілася мне з усяго нашага паходу: светлячкі і верш Някрасава «Забытая деревня». Ноччу мільёны гэтых светлячкоў параскіданы па лесе, нібы нейкія зоркі. Я біёлагам быў, ды гэтага раней не бачыў. А адзін баец маладзенькі, ён з намі тры дні ішоў, усю дарогу дэкламаваў: «У бурмистра Власа бабушка Ненила починить избенку лесу попросила...» Просім яго — кінь, без цябе нявесела, а ён цягне і цягне... Памёр ён хутка, паранены быў у галаву.

Дык вось, брат, кіламетраў чатырыста прайшлі мы. Абадраліся, абраслі, як звяры... Затое ж і злосці набраліся на немцаў!.. Ці лёгка быць валацугам, баяцца кожнага куста на роднай зямлі. Ну, думаю, хіба не дайду да сваіх! Але дайшоў, дайшло нас шэсць чалавек. Перавёз нас цераз Дняпро каля Лоева аднаногі дзядок і перахрысціў: ідзіце, сынкі, ды хутчэй вяртайцеся. Неўзабаве пасля гэтага і са сваімі сустрэліся.

Тут пайшлі справы звычайныя. Падлячыўся крыху, потым ваяваў. Камандзірам узвода мяне прызначылі. Паранены быў і зноў трапіў на фронт, думаў часта пра той дзень, калі ступлю на родную зямлю. Хацеў пабачыць сваімі вачыма, як будуць уцякаць фрыцы. Расквітацца мне з імі вельмі хацелася і за тое, што ў хляве сядзеў, і што галодны бадзяўся па лясах...

Можа б, так звычайна і праваяваў, каб не гэтая нямецкая мова. Байцы майго ўзвода неяк даведаліся, што я разумею панямецку. Патрыбушым дзе-небудзь фашыстаў, і цягнуць яны

да мяне розныя пакуначкі, флакончыкі — прачытай, што гэта за такі эрзац і ці можна яго спажываць. Дайшло і да начальства, што я ведаю нямецкую мову.

Выклікае мяне аднойчы маёр з дывізійнай разведкі. «Нямецкую мову ведаеш?» — «Ведаю».— «Добра ведаеш?» — «Добра». Пагаварыў, распытаў, хто я, адкуль. А яшчэ праз колькі часу забралі мяне з нашай часці. Паслалі вучыцца.

Вясной сорак трэцяга года скінулі нас, групу ваенных разведчыкаў, з самалёта на беларускую зямлю. Начальнікам у нас быў спрактыкаваны чалавек, капітан, ён ужо другі раз ляцеў у тыл...

На шашы загула машына. Пятро Пятровіч падхапіўся і стаў збірацца. Я ж у душы лаяў гэтую машыну, пакуль яна не з'явілася на павароце. Слава богу, не наша...

— Ну што ж, як і трэба было, трапілі мы да партызан. Усіх карт ім не раскрывалі: у нас была свая задача. Хадзілі, прыглядаліся да людзей, знаёміліся з мясцовасцю. Больш за ўсё нас цікавіла чыгунка. Тая самая чыгунка, па якой я некалі ехаў у армію (Гомель — Брэст) і якую мне прыйшлося перапаўзаць на жываце ў сорак першым, хаваючыся ад фашыстаў.

Фашысты рыхтавалі наступленне на Курскай дузе, і нашаму камандаванню трэба было ведаць, якія рэзервы яны падцягваюць на фронт, што і колькі вязуць. Вядома, нам трэба было працаваць так, каб усяго гэтага даехала да фронту як мага менш...

Седзячы ў лесе, убачыш не вельмі многа. Трэба было ісці туды, у самую зяпу фашыстаў. Гэтую задачу ўсклалі на мяне і яшчэ на аднаго разведчыка, які таксама гаварыў па-нямецку. Начальнік падзяліў паміж намі ўчасткі чыгункі, і мы пайшлі.

Мяне звязалі з адным нашым чалавекам, падпольшчыкам, які жыў у невялікім чыгуначным гарадку. Ад яго я і пачаў сваю новую службу. З тыдзень прасядзеў я на гары ў свайго гаспадара, наладзіў некалькі патрэбных сувязей, размеркаваў абавязкі і вывучаў немцаў, як і ў першыя дні вайны, пакуль што праз шчыліну. Праўда, мне здалося, што цяпер яны ходзяць па нашай зямлі не так ужо ўпэўнена...

Нарэшце я вылез са свайго сховішча. Дакументы ў мяне былі ў парадку, з усімі патрэбнымі арламі, касцюм зусім адпавядаў маёй службовай пасадзе паўнамоцнага агента па

нарыхтоўцы скураной сыравіны і пушніны фірмы Эрыха Фідлера і К°. Такая фірма сапраўды была недзе аж у Лейпцыгу. Толькі, каб пазбегнуць прыдзірлівых позіркаў вайскоўцаў, мне прыходзілася на левай руцэ насіць чорную пальчатку і выдаваць яе за анямелую. Але ў гэтым я напрактыкаваўся хутка.

Мая новая служба пайшла нядрэнна з самага пачатку. Наконт пушніны мяне і слухаць не хацелі. Нямецкія чыноўнікі з сельскагаспадарчых камендатур з таямнічым выглядам паведамлялі мне, што мясцовае насельніцтва цяпер займаецца паляваннем не на зайцаў, а на іх, немцаў. Яны раілі мне быць асцярожным.

На скураную сыравіну я заключаў кантракты і, не шкадуючы, частаваў маіх будучых пастаўшчыкоў цыгарэтамі. Вядома, падоўгу заставацца на адным месцы я не мог. Але гэта спачатку мне якраз і было патрэбна. Я аб’ехаў некалькі станцый, пабываў на дадзеных мне яўках, звязаў новых разведчыкаў з нашай групай. Тады вярнуўся зноў у лес.

Работу, брат, мы разгарнулі цікавую. Можа, чытаў калі ў зводках, як наша авіяцыя бамбіла ў сорак трэцім скапленні воінскіх эшалонаў у Гомелі, Бранску? Дык была там кропля і маіх клопатаў. Яшчэ эшалон не дайшоў да Гомеля, а ў Маскве ўжо ведалі, чым ён гружаны, што ён вязе. Бывалі выпадкі, калі эшалон загараўся на хаду або ўзрываўся немаведама ад чаго. Гэта таксама часта было справай нашых рук.

Пасля таго як наладзілі работу, займацца «нарыхтоўкай пушніны» мне ўжо нельга было. Дзякуючы сувязям з падпольшчыкамі, я прыладзіўся на невялікай станцыі рамонтным рабочым. За немца я сябе тут ужо не выдаваў. Але такі лёс разведчыка: прыходзіцца ўвесь час мяняць скуру.

Нямецкае наступленне на Курск правалілася, нашы войскі занялі ўжо і Арол, і Бранск, падыходзілі да Гомеля. Сядзець на месцы ў такі час не выпадала, і я чакаў новага прызначэння. Фашысты спяшаліся пабольш вывезці дабра: адчуваючы размах нашага наступлення, адводзілі на новыя рубяжы тэхніку і войскі.

Вось тут са мной і здарыўся выпадак, дзеля якога я і пачаў усю размову.

Аднойчы праз сувязнога я атрымаў загад неадкладна з’явіцца на адзін буйны чыгуначны вузел, які знаходзіўся

кіламетраў за шэсцьдзясят на захад ад маёй станцыі. Загад быў тэрміновы.

Я пераапрануўся ў форму нямецкага чыгуначніка і, схаваўшыся ў напаўразбітым вагоне, стаў чакаць эшалона, які б ішоў на захад. Чакаць прыйшлося доўга. І вось на станцыю прыбыў патрэбны мне састаў. На адкрытых платформах стаялі гарматы, у вагонах поўна салдат. Эшалон быў небяспечны, гэта я добра ведаў. За такім эшалонам сачылі і партызаны: магчыма, пад якім-небудзь вагонам падвесілі магнітную міну нашы ж хлопцы.

Але выбіраць не прыходзілася. У нямецкім аддзенні мяне на гэтай станцыі маглі пазнаць, і трэба было спяшацца. Калі эшалон даў гудок адпраўлення, я ўскочыў у тармазную будку і лёгка загаварыўся з вартавым, які хадзіў па платформе. Ён толькі спытаў, куды я еду, і адразу перастаў мной цікавіцца.

І вось мы едзем. Я стаю ў тамбуры, ён — на адкрытай пляцоўцы. Быў ужо верасень, дрэвы стаялі ў першай асенняй пазалоце, але было яшчэ досыць цёпла. Сям-там паблізу ад чыгункі жанчыны капалі бульбу. І вось гляджу я: мой немец махае кожнай жанчыне пілоткай, кланяецца і крычыць на ламанай рускай мове: «Да свідання, матка, нікагда больш не ўвідымся». І гэтак на ўсім шляху, пакуль мы ехалі.

У развітальных крыках немца было столькі сапраўднай радасці, што я ўсё зразумеў. Ён, гэты немец, радаваўся таму, што пакідае нашу зямлю, што ўцякае далей ад пекла, якое зазнаў, ваюючы на чужой зямлі...

І ўспомніў я, брат, сорак першы год, шчыліну ў хляве, праз якую назіраў урачысты марш вясёлых, самаўпэўненых немцаў. Што, вылезла наша зямля бокам!.. Я дачакаўся той хвіліны, калі ўбачыў ворага, які радаваўся, што ўцякае ад нас. Эшалон ішоў на Брэст...

Але тут здарылася тое, чаго я баяўся з самага пачатку і пра што забыўся, назіраючы за немцам. Мы праязджалі паляну, зарослую нізкарослым чэзлым хмызам. Наперадзе быў лясок. І раптам уперадзе грымнула. Паравоз ахутаўся белым воблакам пары, платформы палезлі адна на другую, хоць эшалон і рухаўся, як чарапаха. З хмызу і ляска застракаталі кулямёты.

Я сігануў з прыступак у адхон і ўваліўся ў нейкую высахлую копанку. Услед за мной туды, як мяшок, упаў і мой

немец. Ён калаціўся ўсім целам, у яго ляскалі зубы, і мне стала брыдка, хоць і маё становішча было невясёлае.

Але мне зусім не хацелася паміраць ад партызанскай кулі разам з немцам. Ён нешта шаптаў пра сваю сям'ю, развітваўся з дзецьмі. І, паверыш, мне стала шкада гэтага немца. У мяне не паднялася рука забіць яго, хоць яшчэ ішла вайна, хоць мне самому трэба было выкручвацца са становішча, у якое я трапіў. Я сунуў пад нос немцу пісталет, забраў яго аўтамат і папоўз. Партызаны яшчэ стралялі...

Вось я і расказаў табе выпадак, што здарыўся аднойчы са мною. Я часта цяпер думаю, ці правільна зрабіў, што не забіў таго немца. Вось ты прачытаў пра Ганса Пупке, можа, гэты самы немец і ёсць Ганс Пупке. Дык як ты думаеш, захоча ён яшчэ раз апрануць вайсковую форму, захоча ваяваць?

— Не, не захоча, Пятро Пятровіч,— пераканальна сказаў я.— Той Ганс Пупке ніколі не захоча.

Я ўпершыню ўбачыў лёгкую сівізну на скронях майго старэйшага калегі, убачыў, які валявы, энергічны ў яго профіль.

Хутка прыйшоў наш аўтобус.

*1956*

## СЕЛЬСКАЯ ІДЫЛІЯ

Атрахіму Гляку, чалавеку, які працаваў у літаратуры амаль чвэрць стагоддзя, у апошні год зусім не шанцавала. Фартуна, як кажуць, павярнулася да яго задам. І ўсё з-за гэтых крытыкаў, гэтых недапечаных разумнікаў, каб яны павыдыхалі. Адзін падпусціў асцярожную іголку, а другі дык ужо без ніякага сораму выскаліўся наконт апошняй Глякавай аповесці. Змяшаў, можна сказаць, народжаную ў пакутах кнігу з граззю.

Атрахім Гляк трымаўся мужна, як і належыць трымацца чалавеку, што ведае сабе сапраўдную цану. Канчаткова падкасіў яго нейкі вясковы падшывалец, які настрачыў ліст у рэдакцыю. Вядома ж, куды конь з капытам, туды і рак з клешнямі. Нахватаўся, мабыць, смаркач розуму ў гэтых крытыкаў і давай вучыць пісьменніка...

Змешчаны ў газеце ліст быў цяжкім ударам. Хлапец з вёскі, кажучы па праўдзе, выкрываў Атрахіма Гляка ў поўным няведанні сельскага жыцця. Ён даводзіў яму, нібы малому, што салідолам трактары не запраўляюць, салідол, моў, змазачнае рэчыва. І яшчэ тлумачыў гэты знаўца тэхнікі, што цяпер трактараў з зубчатымі коламі амаль няма — ёсць толькі гусенічныя ды яшчэ на гумавых колах... Павучанням, адным словам, не было канца. Вясковы Сакрат у сваім пісьме, паміж іншым, паведамляў далей, што кароў ёркшырскай пароды не існуе, ёсць толькі ёркшыры-свінні...

У аповесці пасля такой крытыкі не засталося ніводнага жывога месца. Нават самыя ўдалыя, на думку аўтара, раздзелы, якія да надрукавання аповесці ў часопісе, змяшчаліся ў газеце, гэты недарослы ўсявед ставіў пад сумненне. А ў гэтых раздзелах якраз расказвалася пра каханне. Яны, можна сказаць, былі самымі дарагімі для сэрца творцы. Атрахім Гляк, у адрозненне ад ранейшых сваіх твораў, смела пайшоў тут на збліжэнне з жыццём. Раней закаханыя ў яго творах нязменна прызнаваліся адзін другому ў каханні каля трактара, або ў час малацьбы, або пасля камсамольскага сходу, на якім падводзіліся вынікі спаборніцтва. Яны раней нават пра свае пачуцці гаварылі паміж іншым, а болей націскалі на агратэхніку, на пытанні палітычнай вучобы.

Не тое ў новай аповесці. Атрахім Гляк адышоў тут ад усялякага шаблону і штампу. Ён, здавалася, знайшоў сапраўдны жыццёвы канфлікт. У яго новым творы закахаліся не проста маладыя хлопец і дзяўчына, якім паложана любіцца ў дваццаць гадоў. На старонках аповесці разыгрывалася самая сапраўдная драма. У маладую дзяўчыну закахаўся пажылы пасівелы трактарыст, дачка якога вучылася ўжо ў інстытуце. Маладая гераіня пасля некаторага вагання адказала гарачым пачуццём на заляцанні пасівелага ветэрана працы. Герой новай аповесці ні разу не сказаў палымяных слоў кахання непасрэдна каля трактара. Наадварот, убачыўшы сваю любімую, ён выключаў матор і ляцеў да яе, нібы на крыллях.

Трактар прастойваў, выпрацоўка зніжалася. Славуты ў мінулым перадавік і наватар пачаў дапускаць агрэхі, араў неглыбока. Спачатку яго партрэт знялі з ганаровай дошкі

перадавікоў. Пасля пачалі прабіраць на розных вытворчых нарадах і сходах. Але нічога не дапамагло. Каханне аказалася мацнейшым за сорам пастаяннага знаходжання на чорнай дошцы, за крытыку ў насценгазеце.

Кожны вечар пасівелы трактарыст і трапяткая сарамлівая дзяўчына сустракаліся за вёскай, каля рэчкі, у засені кустоў духмянай чаромхі. За рэчкай спяваў сваю несціханую песню салавей. Пад самымі нагамі ў закаханых, у люстры ціхай рачулкі адбіваліся яркія начныя зоркі і месяц-сярпок. Закаханыя ні слова не гаварылі пра агратэхніку. Яны размаўлялі толькі пра каханне, пра свае высокія і высакародныя пачуцці.

Канец гэтага насычанага непаддзельным драматызмам апавядання быў вытрыманы, здавалася, у духу адпаведнасці з суровай жыццёвай праўдай. Жонка пасівелага трактарыста раптоўна памерла ад раку (пра заляцанні свайго мужа яна нічога не ведала). Дачка-студэнтка, прыехаўшы з інстытута, благаславіла свайго любімага бацьку, які зноў пачаў грымець на ўсю вобласць як перадавік і наватар, у новую жыццёвую дарогу. На апошніх старонках аповесці маладая мачыха са сваёй равесніцай-падчарыцай збіралі на лузе кветкі, каб паднесці букет мужу і бацьку, які вось-вось павінен быў прыехаць са злёту перадавікоў, з самага Мінска...

Гэтыя дарагія для сэрца мясціны аповесці былі названы недарэчнай ідыліяй...

Атрахім Гляк страціў спакой, сон і апетыт. Ён доўга і ўпарта шукаў сваёй памылкі. І яна знойдзена. Пісьменнік бязлітасна прызнаўся самому сабе, што ён трохі, мабыць, адстаў ад вёскі, ад яе жыцця. Гэта ж ужо, лічы гадоў дваццаць пяць, як ён жыве ў горадзе. Прыязджае, вядома, час ад часу ў калгас, але гэтым, мусіць, не надточыш. Пасадзяць у прэзідыум, павозяць на машыне па полі, а то яшчэ пазавуць на вяселле... Так жыццё не вывучыш. Трэба стаць да яго бліжэй, упрытык, як кажуць. Трэба вярнуць сваё добрае імя, народ яго ўсё-такі памятае...

Рашэнне было прынята канчатковае і беспаваротнае. Атрахім Гляк наважыў паехаць у самую далёкую вёску, адпачыць там душой і целам, прыблізіцца да жыцця. Гэтая гарадская мітусня і тлум сапраўды перашкаджаюць пісаць. Там, на ўлонні прыроды, прыйдзе самае сапраўднае натхненне. Толькі

трэба паехаць неафіцыйна, інкогніта, так сказаць, а то зноў пацягнуць у прэзідыумы.

Праз тыдзень Атрахім Гляк ужо крочыў вясковай вуліцай аднаго далёкага палескага раёна. Вёска была глыбіннай — за цэлых сорак кіламетраў ад чыгункі. Якраз тое, што і трэба. Тут ніхто не стане даймаць ні нарадамі, ні пасяджэннямі. Апрануўся Атрахім не дужа фасонна — з простым народам трэба быць простым ва ўсім...

Свяціла сонца, шчабяталі нейкія птушкі. На самым ускрайку вуліцы на Атрахіма гаўкнуў руды сабака, а пасля, мабыць, засаромеўшыся сваёй няветлівасці, завіляў хвастом і зноў разлёгся пад плотам. Вуліца была пустой — ні душы. Прайшоўшы добрую палову вёскі, Атрахім, нарэшце, напаткаў двух старых — высокага і нізкага. У нізкага ў руках былі жалезныя вілы.

— Пасядзім трохі, дзядзькі! — з ходу прывітаўся Атрахім і пачаставаў старых папяросамі. Дзядзькі закурылі і ахвотна прыселі не прызбе.

— Дык калёсных трактараў, кажаце, і ў паміне няма,— пачаў Атрахім размову, якая яго даўно хвалявала і мучыла.

— Можа, дзе і ёсць, а на нашых балотах на іх не вельмі пакатаешся,— дыпламатычна адказаў той, што трымаў у руках вілы.— Загрузне такі трактар у нас...

— Значыць, адны гусенічныя?

Старыя прамаўчалі.

— А скажыце, на ферме ў вас свінні толькі ёркшырскай пароды?

Старыя пераглянуліся:

— А вы, таварыш, хто такі будзеце?

— Ды з раёна я,— сумеўся Атрахім.

— А працуеце дзе?

— У райвыканкаме, у аддзеле сельскай гаспадаркі.— Атрахім Гляк цвёрда наважыў не раскрываць сваіх картаў.

— Ты пасядзі, Кандрат,— сказаў высокі стары нізкаму, які трымаў вілы ў руках.— Пагамані з таварышам, а я вераб'ёў пужану. У проса, халеры, унадзіліся...

Нізкі стары загаварыў ахвотней. Ён падрабязна даводзіў Атрахіму пра мясцовую пароду свіней. Толькі чамусьці ста-

ры раз-пораз пазіраў у той бок, куды пайшоў яго напарнік. Атрахім за гаворкай не заўважыў, як перад прызбай раптам, нібы з зямлі, вырас высокі стары. Цяпер ён трымаў у руках паляўнічую дубальтоўку.

— Уставайце, грамадзянін,— закамандаваў ён, не спускаючы пальца з курка.— Высветлім вашу асобу...

Атрахім прабаваў спрачацца, угаворваць старых. Але яны былі няўмольнымі. Выйсця болей не было ніякага, і Атрахім Гляк, нарэшце, назваў сваё прозвішча. Але на старых гэта не зрабіла ніякага ўражання.

— А хто цябе ведае — ці ты Гляк, ці ты Грак,— раўнадушна адказваў высокі стары.— Брыгадзір разбярэцца...

Брыгадзіра, маладога яшчэ хлопца, знайшлі, можа, гадзіны праз тры. Старыя пашапталі яму нешта на вуха, і ён прыступіў к допыту. Брыгадзір таксама дагэтуль не чуў прозвішча Атрахіма Гляка і, вядома, не чытаў яго кніг. Так што і дакументы тут не дапамаглі. Але паратунак быў зноў-такі знойдзен. Пазванілі ў сельсавет і папрасілі да тэлефона загадчыцу хаты-чытальні. Тая, падумаўшы, пацвердзіла, што пісьменнік такі, Атрахім Гляк, здаецца, ёсць...

Брыгадзір нездаволена паглядзеў на старых.

— А навошта ж было таварышу гаварыць, што ён з аддзела сельскай гаспадаркі,— узбунтаваўся высокі стары.— Мы ж ведаем, што ўжо тры гады такога аддзела ў раёне няма. Аграном жа адтуль у нас працуе. А людзі ўсялякія бываюць, хто яго ведае. На тым тыдні вунь краму ў Казловічах хацелі абкрасці...

Каб загладзіць сваю віну, калгаснікі пасялілі вядомага ім цяпер пісьменніка ў самую лепшую хату. У хаце было чыста і ўтульна, пахла рамонкамі і сырадоем. Нездарма ў ёй гаспадарылі аж дзве гаспадыні — маці з дачкою. Атрахім асабліва ўпадабаў дачку — вясёлую і смяшлівую Волечку. Яе галасок звінеў, нібы той званочак, калі яна вечарам вярталася з поля. Атрахім, пазіраючы на Волечку, адчуваў, як вяртаюцца да яго творчыя сілы, як несупыннай хваляй набягае натхненне. Ён ужо марыў аб той шчаслівай часіне, калі пасядзіць з Волечкай пад разгалістай вішняй, калі раскажа ёй аб сваіх вялікіх задумах... Хто ведае, як адгукнецца на яго прызнанне палымяная маладая душа?..

А пакуль што Атрахім штодня хадзіў на луг і збіраў кветкі. Кожны вечар Волечку чакаў на стале букет духмяных рамонкаў...

Невядома, колькі б працягвалася гэтая ідылія і чым бы яна скончылася, каб не адзін прыкры выпадак. Аднойчы познім вечарам Атрахім Гляк ляжаў на вышках, на свежым, мяккім сене, і марыў. У шчыліну страхі яму падміргвала вясёлая зорка. Атрахім усе гэтыя дні толькі і думаў пра Волечку. Яна, здаецца, вярнула яму маладосць, прынесла светлае, радаснае адчуванне жыцця...

Раптам да Атрахімавага слыху данесліся прыдушаная гаворка і смех Волечкі. Не было сумнення — дзяўчына з некім сядзела пад разгалістай вішняй у садку.

— Ён жа табе кветкі носіць, гэты лысы таўкач,— чуўся сярдзіты хлапечы голас.— Людзі сена косяць, а ён кветкі збірае. Смяюцца з яго...

— Дурны ты, Кастусь, на ліха мне яго кветкі. Ён жа, можа, жанаты чалавек. Што ты гаворыш...

— Ведаем мы такіх жанатых...

— Трэба ён мне як сабаку пятая нага. Як ты сказаў? Таўкач! — Волечка засмяялася.

— Я яму ногі паперабіваю, калі на лузе ўбачу яшчэ раз...

— Ціха ты!

Нарэшце галасы заціхлі. Пад разгалістай вішняй цалаваліся...

*1956*

## СЯБРЫ-РАВЕСНІКІ

*(Эцюд)*

Мяне ўзнялі юнацтва дні —
Майго адлёту крылы.

*Аркадзь Куляшоў.*

У вялікім раённым сяле Бацькавічы, на тым месцы, дзе была некалі пыльная кірмашовая плошча, цягнуцца да сонца сваімі срабрыстымі кронамі разложыстыя таполі. Таполям

толькі крыху болей як па дзесяць гадоў, але яны ўжо досыць высокія і разгалістыя, так што бацькавіцкім закаханым ёсць куды пайсці летнім вечарам, калі на небе высыплюць частыя зоркі, а хітраваты круглы месяц пачынае ўсміхацца са сваёй вышыні.

Адны называюць плошчу, засаджаную таполямі, паркам, другія — скверам. Спрачацца з аматарамі вячэрніх зорак на гэты конт, бадай, не варта, бо ў Бацькавічах дзве гэтыя назвы добра і мірна ўжываюцца. Тым болей што ёсць і трэцяя, самая галоўная назва — Ляпіцаў гай...

Сказаць пра Ляпіцаў гай толькі тое, што вечарам тут грае мандаліна і што на кожнай лавачцы чуваць прыцішаныя, вымаўленыя для аднаго або адной словы, будзе палавінай праўды. Калі ж гаварыць усю праўду, то нельга абмінуць і зялёны домік, які стаіць пад самай навіссю срабрыстых таполяў. Домік гэты не дужа прыкметны ў суседстве з двухпавярховай каменнай будынінай. Але не скажаш, што ў Бацькавічах ніхто не запыняе позірку на зялёным доміку, які двума сваімі вокнамі даволі бадзёра пазірае на белы свет.

Пад дахам гэтага прыветлівага на выгляд доміка збіраецца самы разнастайны люд. Заходзяць сюды шафёры, якія па той ці іншай патрэбе прыгналі свае паўтаратонкі ў Бацькавічы. Пасля нарады або справаздачы заглядваюць старшыні калгасаў, брыгадзіры, жывёлаводы. Адным словам, многія з тых, хто прыехаў у Бацькавічы па асабістых ці службовых патрэбах, калі ў кішэні ляжыць скамечаная дзясятка, рэдка здолеюць мінуць парог зялёнага доміка.

Але не падумайце благога пра зялёны домік. Сюды заходзіць сумленны народ. Заходзяць з дарогі або перад дарогай, заходзяць двое або трое, калі яны стрэліся пасля доўгага расстання. Як жа дзеля такога выпадку не пасядзець за столікам, засланым цыратай з адбітымі на ёй даўганогімі журавамі? Як не пагаварыць пра жыццё-быццё, пра яго ўздымы і няходжаныя пакручастыя сцежкі?

Добра пасядзець тут летнім вячэрнім часам, калі паціху згасаюць размаітыя фарбы дня, а разложыстыя таполі, што, нібы ганаровая варта, стаяць пры зялёным доміку роўнай чарадой, пачынаюць шаптаць сваім срабрыстым лісцем павабную і таемную казку ночы.

Хто калі перажываў расстанне з роднымі мясцінамі, той ведае, як радасна і дорага ўбачыць іх зноў, прайсці па скрыпучым тратуары і не аступіцца ў тым месцы, дзе адразу не хапае дзвюх дошак. Нават таму, што дзірка ў тратуары знаёмая, старая, сэрца напаўняецца прыемнай цеплынёй. Бо ці не па гэтым самым тратуары ішоў ты, блытаючы крок, і, можа, упершыню ў жыцці вёў пад руку тую, пра каторую трызніў у сне і наяву. Ты ішоў п’яны без віна і спалохаўся па-сапраўднаму, калі твая каханая ледзь не ўпала, трапіўшы нагой у тратуарную шчыліну. Ты абураўся тады ўсім сэрцам камунгасаўскім начальнікам, які пад носам у сябе не бачыць такіх беспарадкаў. А цяпер табе ніколечкі не крыўдна, што на дашчаным тратуары дзірак яшчэ больш і, мабыць, захавалася тая, памятная...

Ты прыехаў у свае Бацькавічы і бачыш, што сям-там павырасталі новыя камяніцы. І ты глядзіш на іх трошачкі недружалюбна. Іх жа тады не было, гэтых камяніц, і ты як бы раўнуеш, што выраслі яны без цябе...

Але ўсё ж болей такога, што пазнаеш ты да самых малюткіх дробязей. Той жа поўны жнівеньскі месяц узыходзіць над дахамі родных Бацькавічаў, так жа шчодра высыпаюць частыя зоркі. Ёсць ў небе адна такая зорка, на якую ты загадаў даўно-даўно, яшчэ калі табе ў бібліятэцы для дарослых не вельмі ахвотна давалі кнігі. У жнівеньскую поўнач, як і тады, гэтая зорка свеціць над самай тваёй галавой. Стаіць на сваім месцы па-ранейшаму зялёны домік, акружаны новым Ляпіцавым гаем...

Няхай даруюць суровыя крытыкі, асабліва тыя, што нават памятныя сустрэчы адзначаюць квасам або ліманадам. Сёння варта зайсці ў зялёны домік у знак спаткання з роднымі мясцінамі і сябрамі. Сябры — бацькавіцкі ляснічы Цішка Дрозд і настаўнік Мікола Біцюг разам са мной. Не так даўно Цішка не быў ляснічым, Мікола — настаўнікам, а ўсе мы ўтрох тады ніколі не расставаліся. Дык чаму ж нам не зайсці ў зялёны домік?

Недзе ў скверыку іграе мандаліна, шэпчуць срабрыстым лісцем таполі. А мы будзем сядзець і размаўляць да таго часу, пакуль цётка Аміля, якая ўжо восем гадоў нязменна пампуе піва, не скажа, што пара зачыняць зялёны домік.

— Ну, дык як твой, Цішка, лес расце?

Цішка смяшлівы і спакойны, ён рэдка калі здзіўляецца, і хоць мы не бачыліся ўжо цэлых тры гады, ён расказвае з такім выглядам, нібы мы развіталіся ўчора.

— Берасклет такі расце на балоце, я ж табе казаў. Вучоныя ўсё спрачаюцца: будзе ён расці на балоце ці не, а ён расце. У два разы хутчэй, як на звычайным грунце.

Цішка любіць лес, яму, відаць, падабаецца быць гаспадаром, ляснічым. Ён насадзіў бераслетавыя плантацыі на асушаных тарфяніках і можа пра берасклет расказваць усю ноч. Ён нават становіцца крыху хвальком, гэты спакойны і смяшлівы Цішка.

Мікола Біцюг крыху падтрунівае з яго. Гэта, можа, таму, што яму, Міколу, няма чаго асабліва расказваць пра сябе. Вучыць ён сабе дзяцей, і ўсё. Дзеці канчаюць школу, становяцца дарослымі, працуюць. Што ж тут асаблівага раскажаш?..

Я адчуваю, што і Мікола, і Цішка, канечне, хочуць трохі пахваліцца перада мной. Міколу зрабіць гэта цяжэй, у яго няма таго, што ёсць у Цішкі,— берасклету. І школа, дзе працуе Мікола, самая звычайная, у ёй адно крыху лепш, другое крыху горш, чым у іншых школах.

У юнацтве ж Мікола быў куды больш бунтарнай натурай, чым Цішка. У яго душы жыло шмат усялякіх захапленняў. Адзін час ён лічыў, што прысвеціць сваё жыццё збіранню народнай творчасці. Мікола тады здолеў улагодзіць усіх знаёмых бабулек, і яны вечарамі спявалі яму песні, а ён запісваў. Запісаў набралася некалькі сшыткаў, але пасля аказалася, што ўсе Міколавы песні надрукаваны ўжо гадоў восемдзесят назад.

Пазней Мікола падбіў і мяне пісаць гісторыю нашых Бацькавіч. Па тым часе ў мяне была ўжо досыць грунтоўная адукацыя — цэлых восем класаў. Мы з запалам узяліся за работу. Была спісана вялікая бухгалтарская кніга, дзе з вышыні птушынага палёту мы аглядалі гісторыю роднага сяла. Мы не забылі ніводнай больш-менш прыкметнай падзеі, якая адбылася на нашых вачах або на вачах нашых бацькоў. Але чым далей мы заглядвалі ў глыб мінулага веку, тым справа аказвалася цяжэйшай. Па-першае, ніякіх рукапісаў ці манускрыптаў у нашых Бацькавічах не знайшлося. А сельсавецкі сакратар Жыкун проста прагнаў нас, калі мы ў імкненні да аб'ектыўнасці папрасілі паказаць царкоўныя кнігі з метрычнымі запісамі.

Адзінай крыніцай для нас, як для гісторыкаў, заставаўся мой васьмідзесяцігадовы дзед Атрахім. Але і тут нас напаткала няўдача. Справа ў тым, што мой родны дзед быў цвёрда перакананы, што раней было ўсё добра, а цяпер усё перавярнулася і стала горшым. Ён не хацеў слухаць ні пра трактары, ні пра заводы, а даказваў сваё. Довадаў у дзеда было не асабліва багата.

— Зойдзеш, бывала, перад Вялікім пастом да Румана ці Ёткі,— гаварыў дзед Атрахім,— дык колькі хочаш бяры і тараноў, і селядцоў, і алею. І напавер давалі. А цяпер знайдзі таго тарана хоць за грошы. Богу душой не вінават, а прыходзіцца скароміцца...

У сваёй гісторыі мы збіраліся паказаць Ётку і Румана як бязлітасных эксплуататараў, мясцовых багацеяў і буржуяў. А мой родны дзед узносіў іх да неба. На грунце такога ўзаемнага непаразумення прыйшлося нам разысціся з дзедам Атрахімам. Ён не мог для нас, гісторыкаў, служыць надзейнай крыніцай. Але факт застаўся фактам — гісторыя Бацькавіч не была даведзена да канца.

Перад самай вайной Мікола раптам захапіўся вайсковай справай. Ён перачытаў усё, што магло знайсціся ў нашых Бацькавічах пра Суворава і Кутузава. Сваё жыццё Мікола наважыў аддаць артылерыі. Яшчэ не закончыўшы дзесяцігодкі, ён паслаў запытанне ў вайсковае вучылішча. Але вучыцца на артылерыста майму сябру не прыйшлося. Пачалася вайна...

У процівагу Міколу, у юнацтве Цішка быў больш сузіральнай натурай, любіў паразважаць і пасмяяцца. Цішка рос без бацькі. Яго бацьку, які працаваў на чыгунцы, раптам паслалі на курсы. Там ён правучыўся цэлых два гады і вярнуўся апрануты ў форменны суконны касцюм. Яго прызначылі дзяжурным па станцыі. Дома бацька заявіў, што ён разбіраецца цяпер не толькі ў простых дробах, а і ў дзесятковых, і таму жыць з Цішкавай маці не будзе, бо яна так і засталася малапісьменнай.

Цішка, канечне, апранаў новыя сарочкі радзей, чым мы з Міколам. Не вельмі ж разгонішся на той сотні, якую вылічвалі з бацькавага заробку. Але ён быў на дзіва шчодрай душой. У яго можна было ўзяць любую кніжку, няхай гэта была б самая любімая Цішкава кніжка. Аднойчы я хацеў купіць падручнікі,

а грошай не ставала. Цішка без хістанняў выняў мне з кішэні пяцёрку. У яго таксама заставалася пяцёрка на два тыдні да чарговых бацькавых аліментаў. І ён сам забыў пра пазычаныя мне грошы. Дык хіба ж калі-небудзь забудзеш пра такую дарагую пяцёрку?

Вось таму мы і сядзім у зялёным доміку, які акружаны слаўным Ляпіцавым гаем, разважаем пра жыццё-быццё, пра тое, што прайшло і што яшчэ абавязкова павінна быць. Вецер паціху гладзіць срабрыстыя галовы тапаляў, пахне мятай і даспелымі антонаўскімі яблыкамі. У скверыку смяюцца дзяўчаты і хлопцы, з якіх мы, мабыць, ужо нікога ў твар не ведаем.

А Цішка гаворыць, на яго проста няма сёння ўпынку. Калі ўдумацца ва ўсё, што ён нам паведаміў сёння, то выходзіць, нібы і ляснічы ён самы лепшы, і лясніцтва ў яго самае адменнае. Мабыць, трохі хвальком стаў наш Цішка. Раней такога з ім быццам не было. Але па-ранейшаму Цішка ўмее ўсміхацца па-дзіцячаму шчыра, даверліва і, канечне, нічога благога з ім не здарылася і не здарыцца ніколі.

Мы ведаем утрох, хоць гэтага ўслых і не гаворым, што не проста так сабраліся пад дахам зялёнага доміка. Тое, што мы спаткаліся пасля доўгага расстання, гэта, вядома, прычына. Але ж, мабыць, ёсць і другая, яшчэ большая прычына. Нам цяпер па трыццаць, а дружбе нашай без усялякай хлусні па дваццаць гадоў. Плялі мы некалі смелыя планы наконт будучага жыцця, нашага месца і ролі ў гэтым самым жыцці...

Наш Мікола, які цяпер усяго толькі выкладае гісторыю ў Бацькавіцкай школе, некалі ж думаў прабірацца ў Балгарыю і падымаць там народ на рэвалюцыю. І навошта праўду таіць, мы сур’ёзна і падрабязна абмяркоўвалі Міколаў план. Яшчэ тады, калі балгарскі народ стагнаў у няволі, Мікола выпісаў з самай Масквы балгарскі слоўнік.

З-за вялікай адлегласці ў часе цяжка ўспомніць, наколькі далёка пайшоў наш Мікола ў балгарскай мове. Але мы памятаем — рэвалюцыйныя лозунгі ён ведаў добра. Ён вымаўляў іх з уздымам, з натхненнем, і русявая пасмачка валасоў спадала пры гэтым на яго высокі лоб. Мы верылі, што за ім, безумоўна, пойдуць балгары на смяротны бой...

Нам па трыццаць ужо, такім чынам, і можна падвесці сякія-такія рахункі зробленаму.

Вядома, Міколу не прыйшлося падымаць рэвалюцыю ў Балгарыі. Паднялі яе там і без яго. Але ж важна другое — Мікола ўсё-такі адчуваў, што рэвалюцыя балгарам трэба, і аб гэтым можна ўспамінаць нават і ў трыццаць год.

Мы ўспамінаем, смяёмся, а Мікола нікольki не крыўдзіцца. Хацелася б толькі спытаць у яго, ці не пляце такіх самых смелых планаў хто-небудзь з Міколавых сённяшніх выхаванцаў. Але паставіць рубам такое пытанне, здаецца, няёмка. Мы размаўляем пра другое, а ў Міколы вырываецца само:

— А вы ведаеце, што тысячу гадоў назад у нашых Бацькавічах спынялася кіеўская княгіня Вольга?

Гэтага мы не ведалі, вядома, але раз Мікола гаворыць, то ён нешта чуў. А наш сябра расказвае старую легенду пра Ёўжыныя студні, якія былі нібыта выкапаны непадалёк нашых Бацькавіч, каб вялікая княгіня, якая аб'язджала свае ўладанні, напілася чыстай вады. Гэтую легенду Мікола вычытаў у Адама Кіркора, які жыў за сто гадоў да яго і пісаў пра нашы мясціны. Але куды цікавей тое, што гэтае ж паданне, толькі ў новай адзежыне, Мікола пачуў ад самага славутага бацькавіцкага старажыла.

— Дык цяпер ты, летапісец Нестар, мабыць, шукаеш гэтых студняў?

— Я ўжо іх знайшоў,— спакойна гаворыць Мікола.— І студні, і гарадзішча. Бацькавічы раней не на гэтым месцы стаялі. На гэтым месцы яны з часу шведскай вайны. Шведы, мабыць, спалілі іх. А другі раз яны былі спалены, калі казак Нябаба тут ваяваў з панамі.

Мікола, відаць, пільна стаіць на варце слаўнага мінулага нашых Бацькавіч. Можа, ён і дапіша тую гісторыю, якую не змаглі мы напісаць гадоў шаснаццаць назад...

— Ты нам заўтра раскажаш пра гарадзішча,— гаворыць Цішка.— Гэта цікава, калі ты не выдумаў.

— Заўтра не раскажу, бо пазвалі мяне на вяселле. Жэніцца мой выпускнік на маёй жа выпускніцы. А гарадзішча ты і сам ведаеш. Ты ж сам адвёў там месца для кароўяга стойбішча, неразумная лясная галава.

Мне здаецца ўсё ж, што Мікола дарэмна падкалвае Цішку. Мог, вядома, ляснічы і не ведаць, дзе калісьці было гарадзішча. Але ж гэта яшчэ не гаворыць, што ён абыякавы да гісторыі Бацькавіч. Ён, можа, і сам робіць гэтую гісторыю.

Цішка хваліцца бераснлетам, але маўчыць пра дубы. А ён жа насадзіў гектараў сто. Берасклет праз дзесяць год высякуць на гутаперчу, а дубы будуць расці і расці. Гадоў праз трыста паглядзяць на іх людзі і скажуць: «Недарма пражыў на свеце той ляснік, які пасадзіў гэтыя дубы».

У скверыку зноў іграе мандаліна. Чуюцца адтуль галасы — маладыя, незнаёмыя. Можа, тыя двое, у якіх заўтра будзе вяселле, таксама ходзяць па нашым скверыку, слухаюць мандаліну і ціхі шэпт срабрыстых таполяў. Яны думаюць, вядома, пра сваё шчасце. У чым толькі яны бачаць гэта сваё шчасце? Мікола, мабыць, пра гэта лепш ведае, бо ён жа ідзе на іх вяселле, ён жа вучыў іх.

Мы не адны ў зялёным доміку. За суседнім сталом, які засланы такой жа, як і ў нас, цыратай з адбітымі на ёй даўганогімі журавамі, сядзяць, як і мы, трое. У іх свая размова, да якой нам няма ніякай справы. Але вось адзін з гэтых незнаёмых нам людзей гаворыць словы, ад якіх мы ўсе ўтрох уздрыгнулі.

— За Івана Ляпіцу,— і падымае чарку.

— Няхай яму зямля пухам,— прамаўляе другі.

Гэта сказалі незнаёмыя людзі, якія і не жывуць у Бацькавічах. А мы ж лепш ведаем Івана Ляпіцу і абавязаны яму болей, чым якому-небудзь другому чалавеку.

...Перад вайной не было ў Бацькавічах ні старога, ні малога, хто б не ведаў нізенькага, шчупленькага муляра і печніка Івана Казлюка, якога празвалі Ляпіцай.

Ідзём гаманлівай талакой у школу, а насустрач Ляпіца ў сваім адубелым ад гліны фартуху.

— Вы не бачылі маіх ваўкоў? Збеглі яны ад мяне...

— А якія вашы ваўкі, дзядзька?

— Белыя, чырвоныя, зялёныя — усялякія.

— Га-га-га! А хіба ж ёсць чырвоныя ваўкі?

— Дык чаго ж вы вушы развесілі, невукі? А яшчэ прыроду вывучаюць. Марш у школу, лайдакі вы, абібокі. Я ўжо раскажу вашай настаўніцы...

А ў школе ў той дзень толькі і гамонкі пра зялёных і чырвоных Ляпіцавых ваўкоў.

Ва ўсіх Бацькавічах не знайсці было хаты, дзе б Іван Ляпіца не зрабіў печы або грубкі. Яны не дымілі і не чадзілі. Бывала, ідзе Ляпіца марозным днём і крычыць:

— Войска маё, стройся!

І з усіх камінoў падымаюцца ў неба роўныя слупы дыму...

Быў у Ляпіцы кум і найлепшы сябра Кузьма, таксама муляр. Яго, можа б, лічылі нямым, каб ён, выпіўшы, не гаварыў: «Усё, брат, ад зямлі — і хлеб, і гліна. А калі будзе хлеб і гліна — усё можна зрабіць, брат...»

Іншы раз любіў Іван Ляпіца са сваім маўклівым Кузьмой пасля таго, як яны злепяць новую печ, зайсці ў зялёны домік і перакуліць чарку.

— Яшчэ адна печ злеплена,— гаварыў пры гэтым Ляпіца.— Няхай грэюцца людзі, няхай вараць сабе страву, няхай жывуць на свеце...

А маўклівы Кузьма, спаражніўшы кілішкаў тры, падтакваў: «Усё, брат, ад зямлі — і хлеб, і гліна...»

Калі мы падраслі, Ляпіца ўжо не займаў вялікага месца ў нашых думках. І амаль зусім мы забылі пра яго, як пачалася вайна. У родныя Бацькавічы прыйшлі немцы.

У той час мы складалі планы барацьбы з фашызмам. Калі б аб гэтых планах як-небудзь пранюхаў Гітлер, то ён бы не раз пакаяўся, што распачаў вайну.

Нам патрэбен быў толькі кіраўнік, чалавек з баявым вопытам, які б павёў нас на святую барацьбу. Такога чалавека мы бачылі ў асобе былога кіраўніка раённага Асаавіяхіма Хвядоса Рэдзькі. Рэдзька ўласнаручна некалі выдаваў нам значкі юных варашылаўцаў, і мы справядліва лічылі, што ён павінен узначаліць нашу групу.

Але Рэдзька гуляў з намі ў хованкі. Ён адпусціў сабе бараду і ўвесь час нам тлумачыў, што слабы здароўем і што яму спярша трэба падлячыцца. А калі мы намякнулі, што некалі ў Асаавіяхіме была сапраўдная баявая вінтоўка і што мы хочам яе цяпер атрымаць, Рэдзька замахаў на нас рукамі і збялеў як палатно...

Пакуль ішоў гэты гандаль з Рэдзькам, у Бацькавічах адбылася гісторыя, пасля якой мы зусім забылі дарогу да былога раённага асаавіяхімаўца.

Стаяла першая ваенная халодная зіма. Бацькавічы, здавалася, застылі ў нейкім нямым чаканні.

Аднойчы камендант прывёз аднекуль бочку спірту і вывесіў аб’яву, што за кожны здадзены насельніцтвам кілаграм медзі і

свінцу можна атрымаць бутэльку гарэлкі. Мабыць, не толькі пра кулі і патроны з бацькавіцкай медзі думаў фашыст. Мабыць, думаў ён і пра душы, якія можна купіць за гарэлку.

Медзь і свінец панеслі нават не ўсе паліцэйскія. Але сярод тых, хто атрымліваў кварты, быў і Ляпіца. Ён цягаў з лесу цэлыя яшчэ артылерыйскія снарады. Ляпіца прыходзіў кожны дзень, на вуліцы яго чакаў кум Кузьма. Яны разам ішлі піць нямецкую гарэлку... Мы паглядалі на Ляпіцу з нянавісцю. Яго ўперадзе чакала наша расплата...

А праз тыдзень ноччу занялася агнём нямецкая камендатура. Бухалі Ляпіцавы снарады. Зыркія водблескі пажару скакалі ў кожным акне. Назаўтра раніцай вялі босымі па снезе падпальшчыкаў — Ляпіцу і кума яго Кузьму. Кузьма маўчаў, а Ляпіца кланяўся людзям...

Так Іван Ляпіца дапамог нам і навучыў нас. Пасля гэтага на бацькавіцкіх парканах паліцэйскія зрывалі лістоўкі. Яны былі надрукаваны сапраўдным шрыфтам, толькі радкі былі няроўныя: скакалі ўверх і ўніз. Як друкары мы былі вельмі нявопытныя.

Летам ужо пад нямецкай дрызінай на чыгунцы ўзарвалася міна. Такіх мін, мабыць, не рабілі і не робяць на свеце. Пад рэйкі мы закапалі калашыну старых Цішкавых штаноў, напакаваную аманалам. У якасці запала ў стык была ўваткнута бутэлечка з сернай кіслатой, якую прыйшлося сцягнуць з непатрэбнай тады школьнай лабараторыі. З хіміі мы ведалі — калі кіслата трапіць на сумесь берталетавай солі з цукрам — адбудзецца выбух...

Плошчу, на якой стаяла нямецкая камендатура, пасля вайны ўжо засадзілі таполямі. Адсюль і назва — Ляпіцаў Гай...

Ззяюць над роднымі Бацькавічамі жнівеньскія зоры, стаяць каля зялёнага доміка, нібы ганаровая варта, срабрыстыя таполі. Нехта ў скверыку іграе на мандаліне, і, здаецца, што тут, каля самага парога, велічна і спакойна плешчуцца амурскія хвалі...

*1956*

# СЯМНАЦЦАТАЙ ВЯСНОЙ

Мне ішоў сямнаццаты год. Мая сямнаццатая вясна была вельмі багатай на кветкі, на цеплыню, на тыя цудоўныя дні, калі, здаецца, сама зямля спявае песню сонцу, жыццю, высокаму сіняму небу.

Даўно ўжо з усіх кветак я найбольш палюбіў бэз. Бэз расцвітаў якраз у час нашых школьных экзаменаў. Букет ружовасініх кветак заўсёды стаяў на стале, засланым чырвоным абрусам. За сталом сядзелі строгія экзаменатары, а на стале былі акуратна раскладзены білеты. Зверху білеты былі ўсе аднолькавыя. Які выбраць?

Падыходзячы да стала, я заўсёды хваляваўся. У такія хвіліны я, вядома, не звяртаў увагі на бэз, хоць стаяў ён у мяне пад самым носам. Затое пасля экзамена пах бэзу да самага вечара п’яніў мне галаву...

Ніколі яшчэ бэз не расцвітаў так, як сёлета. Ён сінеў цэлымі азяркамі па садах, палісадніках, у нашым станцыйным скверыку.

Але бэз у гэтую вясну на першым часе не хваляваў мяне і не радаваў зусім. Упершыню за многія гады і мне, і маім сябрам не трэба было здаваць экзаменаў. Не было і настаўнікаў, якія вучылі нас у школе. Адны з іх пайшлі на фронт і ваявалі пад Ржэвам, а можа, пад Севастопалем, а другія таксама не задавалі нам урокаў, бо на фасадзе нашай школы трапятаў чужы сцяг з чорнай свастыкай.

У нашай школе цяпер размясціўся нямецкі камендант. Ён не думаў аб тым, што нам трэба вучыцца. Камендант дбаў аб другім. Ён павесіў загад, за невыкананне якога дакляраваў адну толькі смяротную кару. Камендант абяцаў смерць кожнаму, хто захоўваў агнястрэльную зброю, хто распаўсюджваў злосныя чуткі пра непераможную германскую армію, хто мог паявіцца на вуліцы ў начны час.

Што датычыць мяне і маіх сяброў — Цішкі Дразда, Міколы і Сымона Біцюгоў,— то мы пакуль што добрасумленна выконвалі толькі апошні пункт загаду. Як гэта і было дазволена, мы расхаджвалі па вуліцах толькі да адзінаццаці гадзін вечара.

Часцей за ўсё мы наведваліся ў наш станцыйны скверык. Пад вечар там збіралася моладзь. На лавачках сядзелі хлопцы і дзяўчаты. Яны размаўлялі і нават іншы раз смяяліся, быццам на свеце не было ні каменданта, ні вайны. Іншы раз у скверыку рыпаў гармонік, а на заасфальтаванай яшчэ да вайны пляцоўцы наладжваліся танцы. Ніхто з нашай чацвёркі ні разу не пайшоў танцаваць. Мы лічылі, што весяліцца, танцаваць у такі час, калі ідзе вайна, калі ліецца кроў, проста ганебна.

— Здраднікі,— са злосцю пазіраючы на тых, што танцуюць, шаптаў Мікола Біцюг.— Знайшлі час весяліцца — гранату б сюды.

— Не трэба раскідвацца гранатамі,— падсякаў Міколу Сымон Біцюг.— Дый у цябе ж яна толькі адна.

Мікола, які заўсёды выказваў самыя крайнія погляды, насупліваўся і змаўкаў, а ў вачах у Цішкі Дразда запальваліся вясёлыя агеньчыкі. Цішка наогул любіў пасмяяцца, любіў вясёлыя гісторыі, і цяпер пасля Сымонавых слоў ён, мабыць, маляваў сабе карціну, як доўгі і няскладны Мікола шпурляе гранату ў дзяўчат, што танцуюць на заасфальтаванай пляцоўцы.

Нягледзячы на рознасць поглядаў і характараў, мы ўчатырох сыходзіліся ў адным: нельга сядзець склаўшы рукі, трэба дзейнічаць. Мы лічылі сябе баявой групай, і на гэта былі ўсе падставы. На нашым узбраенні ўжо быў вінтовачны абрэз, дзве лімонкі з капсулямі, з паўпуда аманалу і кавалак бікфордавага шнура. Мы былі заклапочаны планамі далейшага ўзбраення і ў хуткім часе збіраліся аб'явіць германскаму фашызму бязлітасную вайну.

А пакуль што мы з горда ўзнятымі галовамі праходзілі па скверыку, скоса пазіраючы на нямецкія франтавыя зводкі, павешаныя на дошцы аб'яў. Па праўдзе кажучы, асаблівай увагі на гэтыя зводкі не звяртаў ніхто. Дый весялосць тут, у скверыку, працягвалася нядоўга. У палавіне адзінаццатай на алеі паяўлялася здаравенная постаць паліцэйскага Кірылы Сёхмана, і ўсе збіраліся дамоў. Кірыла тут, у скверыку, адчуваў сябе вельмі значнай асобай. Ён быў важны, надзьмуты і раз-пораз пазіраў на свой наручны гадзіннік, які раздабыў нядаўна.

Цішка Дрозд у такія хвіліны сіпеў прыдушаным смехам, і мы, каб быць падалей ад граху, шыбавалі дадому. Мы добра ведалі, што за птушка Кірыла Сёхман. Да вайны стаяў ён пры

дзвярах клуба кантралёрам, але абакраў касіра, і яго засудзілі. А цяпер ён зноў аднекуль прыплыў. Не варта было з такім тыпам звязвацца.

Адным словам, на нашу агульную думку, усе мы ўчатырох былі добрымі хлопцамі. Мы ні разу не паддаліся на прыманку маладосці, не пайшлі танцаваць, не зналіся з дзяўчатамі. Мы рыхтавалі з сябе барацьбітоў, бязлітасных, мужных, зацятых. І хоць на зямлі была вясна, хоць так прывабна расцвітаў бэз, мы трымаліся стойка, адкладваючы сардэчныя справы на час пасля вайны.

Першым здрадзіў нашай агульнай справе я. У гэты час, калі ішла вайна і калі там, на фронце, паміралі сапраўдныя героі, я, чалавек, які не зрабіў у жыцці яшчэ ніводнага подзвігу, закахаўся самым ганебным чынам.

Пачалося ўсё вось з чаго. Аднойчы ў скверыку я ўбачыў незнаёмую дзяўчыну. У белай сукенцы, з белым капялюшыкам на галаве, яна мне адразу кінулася ў вочы. Яна была зусім не падобная да дзяўчат, якіх я сустракаў дагэтуль. Трымалася яна смела, незалежна і, шчабечучы нешта вясёлае, звонка смяялася.

Я ўбачыў белую тоненькую дзяўчыну і ў першы вечар, і ў другі, і ў трэці. І ўвесь час яна была вясёлая, смяялася. Адзін раз яна нават танцавала...

Першы час я праходзіў міма дзяўчыны з самым незалежным выглядам. Я не кінуў у яе бок ніводнага прыязнага позірку, стараўся на яе не паглядаць. Я лічыў яе асобай пустой, нікчэмнай, не вартай увагі наогул. У думках я вінаваціў тоненькую дзяўчыну за яе бестурботны смех, за яе звонкае шчабятанне. Як магла яна смяяцца ў такі час!

Вядома, дзяўчына ў белай сукенцы нічога не ведала пра мае абвінавачванні. Яна кожны вечар прыходзіла ў скверык, яе жывыя сінія вочкі весела пазіралі на свет, і яна, нібы назло мне, звонка шчабятала.

Я быў поўны абурэння і гневу. Справа ў тым, што хоць я яшчэ і не зрабіў ніводнага подзвігу, але ў глыбіні душы лічыў сябе здольным на гераічныя ўчынкі. У сваім уяўленні я маляваў сябе ў розных геройскіх ролях. Вось я на вачах у дзяўчыны забіваю нямецкага каменданта, забіваю Кірылу Сёхмана, забіваю цэлы дзясятак фашыстаў, нарэшце, падаю

забіты сам... Белая дзяўчына перастала смяяцца, у яе вачах захапленне, роспач, пакута. Яна плача, вінаваціць сябе за свой смех. Яна становіцца другой...

Адзін раз дзяўчына прыйшла ў сквер з кветкамі. У яе руках быў бэз і белая чаромха. Яна трымала кветкі беражна, як трымаюць якую-небудзь вельмі каштоўную рэч. Яшчэ праз колькі часу я пачуў, як яна спявала. Яе голас можна было пазнаць сярод тысячы другіх галасоў... І вось хутка я адчуў, што мне няма куды схавацца ад жывых сініх вачэй з-пад белага капялюшыка, ад звонкага шчэбету, ад гэтай цудоўнай белай птушкі. Яе вобраз стаяў перад маімі вачамі, дзе б я ні быў, што б я ні рабіў. Я ўжо не мог пражыць дня, каб пад вечар не схадзіць у скверык, не пабачыць тоненькай дзяўчыны.

Я стаў задумлівы, разгублена адказваў на пытанні сваіх сяброў і свой душэўны стан не змог схаваць ад іх вачэй.

— Ты гэта што ж, Цімох, можа, хочаш у кусты? — грозна падступіў да мяне аднойчы Мікола Біцюг.— Нешта ты круціш, хаваешся ад нас. Кожны вечар у скверы тырчыш. Ты вады не муці, кажы праўду. Спалохаўся?..

Я ледзь не кінуўся на Міколу з кулакамі, каб змяшаць яго з граззю за яго дурныя здагадкі. Цішка Дрозд мірыў нас пасля гэтага цэлую гадзіну. Сябры ўздыхнулі лягчэй, бо ўбачылі, што адступацца ад іх я не збіраюся. І ўсё ж я не мог расказаць ім праўды...

Хутка я ўжо ведаў імя дзяўчыны — Стася. Нядаўна яе прыслалі аднекуль працаваць у нашу аптэку. Там жа ў аптэцы, у доміку, схаваным у засені бэзавых кустоў, Стася і жыла. Мне было непрыемна, што Стася працуе ў нямецкай установе. З другога боку я апраўдваў Стасю тым, што аптэка, нарэшце, не такая ўжо фашысцкая ўстанова. Можа, Стасю прымусілі працаваць, можа, без працы ёй нельга. Яна ж жыве адна, без бацькі і без маці...

Я нячутна паўтараў імя Стасі тысячу разоў у дзень, яно звінела ў маіх вушах як музыка. Я мог думаць пра сваю дзяўчыну цэлымі гадзінамі, прыдумваў розныя варыянты нашай размовы, нашай сустрэчы. Але пакуль што ніякай размовы не было, я не сказаў сваёй каханай ніводнага слова. Я прыходзіў у скверык, і, калі заўважаў Стасю, сэрца ў грудзях пачынала біцца, нібы птушка, злоўленая ў сіло.

Аднойчы, калі я праходзіў міма лавачкі, на якой сядзела Стася са сваімі сяброўкамі, мая дзяўчына акінула мяне хуткім позіркам. Мне здалося, што гэты позірк быў насмешлівы. Мой твар гарэў ад сораму, мне было ў той вечар балюча і крыўдна, як ніколі. Не сказаўшы нічога сваім сябрам, я падаўся дадому. І тут, па дарозе да роднай хаты, на адзіноце, я неяк нечакана ўпершыню паглядзеў на самога сябе збоку, чужымі вачамі.

Так, выгляд мой быў зусім не фацэтны, ён ніяк не падыходзіў для таго, каб знаёміцца з гэтай чыстай, белай дзяўчынай. На нагах у мяне было штосьці накшталт чаравікаў. Але што гэта былі за чаравікі! Гэта былі нейкія чарапахі, шырокія, распоўзлыя. Чаму я не заўважаў раней, што мае штаны даўно час павесіць на пудзіла ў агародзе? Гэтыя штаны мелі дзве латкі на каленях і ў дадатак яшчэ два агромністыя акны ззаду. Вырас я і з сарочкі; тое, што ў мяне былі закасаны рукавы, мабыць, мала дапамагала справе. Эх ты, кавалер, закаханы рыцар!..

У тую ноч я не спаў. Выхаду са свайго становішча я не бачыў ніякага. Святочных гарнітураў у мяне не было, і зарабіць або купіць іх па тым часе нечага было і думаць.

Памятаю, што такія разважанні мяне нават супакоілі, а тоненькая чыстая дзяўчына зрабілася для мяне крыху далёкай і чужой. «Няхай ходзіць у сваёй чысценькай сукенцы,— помсліва думаў я.— Справа ж не ў капялюшыках і сукенках. Знайшлася княгіня!..»

Некалькі дзён я не хадзіў у скверык. Якраз у гэты час разнесліся чуткі, што немцы думаюць аднаўляць чыгунку. Чуткі гэтыя пацвердзіліся, бо на чыгунцы ішла ліхаманкавая работа. Мы вырашылі, што надышоў час дзейнічаць. Мікола Біцюг высушыў аманал на печы, Цішка Дрозд сцягнуў старую бабуліну кофту з шырокімі рукавамі. Адзін рукаў мы напакавалі аманалам, зашылі і гэтую нашу міну схавалі да часу. Было аднагалосна вырашана, што сваёй мінай мы ўзарвём масток кіламетры за чатыры ад станцыі. Масток хоць і невялікі, але ў вызначаны дзень немцы па нашай чыгунцы не паедуць. Паедуць яны жыватамі...

Якраз у гэты час адбыліся падзеі, якія прымусілі нас яшчэ больш сур’ёзна паставіцца да задуманай дыверсіі. У ясную вясновую ноч ні з таго ні з сяго згарэла парня. На гэтай парні

гнулі вобад, які адпраўлялі некуды на нямецкіх машынах. Апрача гэтага, у некалькіх месцах нашага раённага гарадка былі расклеены антыфашысцкія лістоўкі, надрукаваныя на машынцы. Гэтыя падзеі нас і ўзрадавалі, і засмуцілі.

Мы былі перакананы, што спалілі парню і расклеілі лістоўкі партызаны, якія ноччу прабраліся ў гарадок. З невялікім партызанскім атрадам, які дзейнічаў кіламетраў за сорак ад нас, у другім раёне, мы мелі ўжо сувязь, хоць і нетрывалую. Калі ўсё гэта зрабілі нашы партызаны, то чаму яны наважылі абысціся без нас? Сякія-такія паслугі мы ж ім ужо рабілі. Можа, партызаны нам больш не давяраюць?

Каб вывесці ўсё гэта на чыстую ваду, Сымон Біцюг адправіўся ў госці да сваёй цёткі. Цётка, канечне, была тут толькі прыклёпам, Сымон пайшоў на сувязь з нашымі партызанамі.

Мы ж утраіх таксама не спалі ў шапку. У гэтыя дні мы выказалі вялікае жаданне нанасіць сваім маткам арэхавых кійкоў на фасолю і пад памідорныя кусты. Кійкоў мы нанасілі на пяць гадоў уперад, але справа зноў жа была не ў кійках. Арэшнік рос якраз недалёка ад мастка, які мы наважылі пусціць у паветра. Масток і подступы да яго мы агледзелі добра, самаробную міну занеслі і схавалі паблізу ад мастка.

Былі ў нас поспехі і ў справе самаўзбраення. Нам удалося разжыцца старой заржавелай вінтоўкай, якую мы ўтраіх чысцілі, прыводзілі ў належны выгляд цэлы дзень. Цяпер мы ў дадатак да абрэза мелі сапраўдную вінтоўку, з якой не сорамна было прыйсці да партызан.

Праўда, на грунце асабістай прыналежнасці вінтоўкі паміж намі адбылася спрэчка. Мікола Біцюг патрабаваў, каб вінтоўку аддалі яму. Свае патрабаванні Мікола падмацоўваў тым, што ён здаў норму на поўнага варашылаўскага стралка, а мы з Цішкам толькі на юных стралкоў. Міколу мы далі суровы адпор, і ён, пакіпяціўшыся, быў вымушаны здацца.

Адным словам, цяпер мы адчувалі сябе больш упэўнена. Мы чакалі Сымона, чакалі вестак ад партызан, і ва ўсіх нас быў прыўзняты, гераічны настрой. У адзін з тых дзён я зноў пайшоў у скверык і зноў убачыў Стасю.

Праходзячы паўз яе, я стараўся не пазіраць у яе бок. І не вытрымаў. А яна — мне гэта ніколькі не здалося — паглядзе-

ла на мяне зусім сур'ёзна. Яна не насміхалася з мяне! Я зноў стаў вясёлы, расказваў цікавыя гісторыі сваім сябрам, і яны смяяліся. Я хацеў, каб Стася звярнула ўвагу на наш смех, на мяне. Здаецца, яна глядзела ў мой бок.

Раптам я прыдумаў выхад, адзіны, які толькі мог быць на свеце. Мой бацька, чыгуначнік, яшчэ да вайны выпісаў сабе форменны сіні касцюм. Гэта быў выдатны касцюм, нездарма з бацькавага заробку вылічвалі за яго пакрысе амаль цэлы год. Цудоўнае сіняе сукно было, мабыць, самага вышэйшага гатунку. Бацька толькі і паспеў адзін раз на Першае мая перад самай вайной апрануць касцюм. Цяпер касцюм быў клапатліва схаваны як самая каштоўная рэч у хаце, і неаднойчы ў цяжкія часіны я чуў, як асцярожна маці намякала, што за яго, каб прадаць, далі б хлеба пудоў дзесяць...

Разлічваць на тое, што мне дадуць апрануць сіні касцюм, не прыходзілася. Прасіць аб гэтым было б проста сорамна. Я наважыў зрабіць усё інакшым парадкам. Прасцей за ўсё было вынесці адзенне ў адрыну і там паціху апрануцца, а пасля скінуць. Тым больш што ўвесь касцюм мне быў не патрэбен. З мяне хопіць адных сініх штаноў. І нічога ім за адзін вечар не зробіцца...

План мой быў разлічаны да дробязей. Увесь наступны дзень я гарэў ад нецярпення, уяўляючы, як падыду да Стасі, як загавару з ёй, што ёй скажу. Пад вечар мне ўдалося ажыццявіць першую частку майго плана як найлепш. Я выйшаў агародам у новых сініх штанах, з-пад якіх зусім не відаць было маіх чаравікаў-чарапах, у вымытай кашулі. Я быў ужо ў скверыку і чакаў, што вось-вось прыйдзе мая белая дзяўчына...

Але прыйшла не Стася. Прыбег узбуджаны Мікола Біцюг і рашуча пацягнуў мяне ў цёмны куток сквера.

— Цімох, пайшлі,— уладарна сказаў ён мне.— Заўтра раніцай першы цягнік пойдзе. Хутчэй...

Што ж, трэба было ісці...

Я нічога не сказаў Міколу наконт новых сініх штаноў, а ён, усхваляваны, нават не заўважыў іх. Трэба было зайсці яшчэ па Цішку Дразда. Ён жыў на вакзальнай вуліцы, якая цягнулася поруч з чыгункай, і ад яго нам лепш за ўсё было выходзіць, бо не трэба было перасякаць пераезда.

Дачакаўшыся, пакуль зусім сцямнее, мы выйшлі. Мы захапілі з сабой абрэз і дзве гранаты, вінтоўка была схавана ў лесе. Да арэшніку мы зрабілі вялікі крук на поплаве, потым ішлі жытамі. Мае новыя сінія штаны прамоклі ад расы да самых каленяў, але я лічыў, што гэта дробязь — высахнуць. Ішлі мы смела, бо ў нас была зброя.

Нам прыйшлося чакаць у арэшніку да самай поўначы. Запелі першыя пеўні, дзесьці ў кустах трывожна закігікала нейкая птушка. Тады мы, прыгнуўшыся, пабеглі да мастка. Мы ведалі, што чыгунка ахоўваецца не надта. Узброеная варта была толькі ў будках. У паўкіламетры ад мастка гарэў агонь, і каля яго сядзелі дзядзькі з доўгімі кійкамі. Гэта была так званая «добраахвотная» варта чыгункі, у якую фашысты заганялі сілком.

Мікола з вінтоўкай залёг на насыпе, а мы з Цішкам завіхаліся каля міны. Пад мастком было сыра і глуха. Здаецца, прайшло вельмі многа часу, пакуль мы прыладзілі бікфордаў шнур і ўставілі запал. Чыркнулі сярнічкай, і шнур затрашчаў, выпускаючы цэлыя пучкі іскраў. Мы беглі ад мастка што было сіл.

Выбух засціг нас ужо ў арэшніку. Гэта быў страшэнны выбух. Здаецца, асвяціўся ўвесь лес. Мы ўпалі, потым зноў пабеглі ў самы гушчар. З будкі пачалася бязладная страляніна. Мы адбегліся, мабыць, кіламетраў пяць. З мяне пот ліў цурком, а мокрыя сінія штаны лёпалі па нагах так гучна, нібы хто-небудзь біў па голым целе далоняй.

Каля будкі ўжо не стралялі, і мы прыпыніліся. Трэба было вызначыць цяпер, дзе мы. Моўчкі мы прайшлі цугам, адзін за другім, яшчэ з паўкіламетра і выйшлі на сенажаць. Над ёй густой шчыльнай заслонай вісеў туман. Гэта была Гарадзінка, асушанае яшчэ да вайны балота. Тут мы адшуквалі некалі яйкі дзікіх качак, кнігавак, пекураў, аднойчы збіралі стрэляныя гільзы пасля вайсковых манеўраў. Сенажаць мы ведалі, і можна было тут, у кустах, схаваць нашу зброю. Але рабіць гэтага ніхто з нас не захацеў. Упершыню ў жыцці мы адчулі, што значыць зброя ў руках. З ёю можна было ісці смела, не баючыся ніякага д’ябла. Са зброяй мы крочылі гаспадарамі па роснай топкай Гарадзінцы.

Недалёка ад Цішкавага двара быў вялікі кар’ер. Тут капалі гліну ўсе, каму яна была патрэбна. Мы якраз і збіраліся

спусціцца ў кар’ер, каб абмеркаваць нашы далейшыя паводзіны. Але тут здарылася нечаканае.

— Стой, рукі ўгору! — раўнуў нехта немым голасам, і ў некалькіх кроках ад нас проста з зямлі вырасла чорная постаць. Мы рванулі назад, а той, што крычаў, стрэліў. Куля свіснула каля самых маіх вушэй. Мы ўпалі на зямлю, а чорная постаць, клацаючы затворам, насоўвалася на нас. Я чуў, як Мікола спусціў курок. Асечка. Постаць упала. У тое ж імгненне Цішка бухнуў са свайго абрэза, а я, ірвануўшы чаку, шпурнуў лімонку...

Страшэнны, дзікі крык падняў мяне з зямлі і кінуў у кар’ер. Гэты крык стаяў у маіх вушах, калі я каціўся на дно кар’ера, калі поўз агародамі, прабіраючыся праз парканы і драцяныя агароджы. Маіх сяброў побач не было. Я вырашыў паўзці дадому. Увесь шлях да роднай хаты думка ў мяне працавала чотка і ясна. Я рабіў перадышкі, вымяркоўваў, кудой мне найлепш прабірацца.

І вось я ў сваёй адрыне. Я адразу схаваў прамоклае адзенне і пераапрануўся ў старое. Дзесьці там, на станцыі, усё яшчэ раз-пораз стралялі. Захліпаючыся, брахалі сабакі. За сцяной глуха ўздыхала карова, пражоўваючы жвачку. Рыпнулі дзверы, і да хлява, ледзь чутна ступаючы босымі нагамі па зямлі, падышла маці. Не адчыняючы варот, яна спалоханым шэптам дакарала мяне за тое, што я не шаную ні сябе, ні сям’і. А я, стараючыся гаварыць сонным голасам, спытаў, дзе гэта і чаму страляюць. Няхай пакуль што нічога не ведае маці. Ёй будзе так спакайней...

Калі развіднела, я агледзеў сваё адзенне. Ад новых сініх штаноў засталося адно толькі званне. Яны падраліся ў некалькіх месцах, а на левай калашыне не хапала вялікай латкі. І тут толькі я адчуў, што ў мяне баліць нага. Галёнка была распаласавана, мабыць, аб калючы дрот.

Увесь дзень я, здаецца, зусім не думаў пра Стасю. Пасля ўсяго, што здарылася, яна стала маленькай, непрыкметнай і адышла ў думках кудысьці далёка-далёка. Я трывожыўся аб сябрах. У поўдзень мне расказалі, што на наш гарадок рабілі налёт партызаны, што яны ўзарвалі мост і паранілі Кірылу Сёхмана, які пад раніцу сканаў. Па загаду каменданта на станцыі і каля школы спешна будаваліся дзоты. Пра сваіх сяброў я не пачуў нічога страшнага і паступова супакоіўся.

Нямецкі поезд у той дзень не пайшоў...

А яшчэ праз два дні да мяне завітаў Сымон. Ён вярнуўся з сувязі і прынёс добрыя весткі. Партызаны пра нас ведаюць, і сувязь цяпер будзе рэгулярная.

— Мікола за новую міну ўзяўся,— паведаміў Сымон.— Ён на сёмым небе і цябе, ого, як хваліць...

Я паказаў Сымону нагу. Рана нарывала, я лячыў нагу сам, як мог. Сымон занепакоіўся.

— Ты нікуды не выходзь,— папярэдзіў ён.— Я прынясу ўсё, што трэба. І наогул нам не трэба разам хадзіць.

Ён вярнуўся толькі пад вечар. Прынёс бінты, ёд, нейкую слізкую мазь. Я паглядзеў на сябра здзіўленымі вачамі.

— Мы, брат, дурні вялікія,— бінтуючы мне нагу, гаварыў Сымон.— Ходзім табуном, самі ж стараемся выдзяляцца, у вочы кідацца. Людзі ў сто разоў разумней за нас робяць. Ты думаеш, парню спалілі і лістоўкі раскідалі партызаны? Такія ж, як і мы, партызаны, толькі не такія вароны...

— Сымон,— не вытрымаў я,— скажы, ты хадзіў у аптэку?

Сэрца ў мяне тахкала так моцна, што, мабыць, пачуў і ён.

— Хадзіў, але ты нічога не ведаеш,— жорстка паглядзеў на мяне Сымон.— Нічога не ведаеш, зразумеў? Запамятай гэта...

Не, цяпер я ведаў усё. Ведаў, якім быў сляпым і недалёкім. Такую дзяўчыну хацеў прывабіць сінімі штанамі. Эх ты, дурніца... Тоненькая белая дзяўчына паўставала цяпер у маіх вачах у нейкім новым, казачным святле.

У гэтую вясновую ноч я зноў пачуў, як прыемна пахне расцвіўшы бэз. Ён пахнуў так заўсёды, калі мы хадзілі здаваць экзамены.

*1956*

## ТРОЕ З ЗЯЛЁНАЙ БУДКІ

Калі б у Сашы Пеціка спыталі, чаму ён стаў цырульнікам, то ён, пэўна, не адказаў бы. Ну, стаў, і ўсё. Трэба ж каму-небудзь быць і цырульнікам, калі ў людзей адрастаюць бароды і вусы. Каб раптам пераваяліся цырульнікі, то яшчэ невядома, ці былі б тады прыгажуны і прыгажуні. Хадзілі б вахлакамі...

Адным словам, Пецік не надта ламаў галаву над тым, чаму ён у дваццаць гадоў узяўся за нажніцы і брытву. І ўсё было б добра, каб не Віка, якая кожную раніцу прадавала газеты ў зялёным кіёску. Мала сказаць, што Віка невысока ставіла Пецікаву пасаду, яна проста насміхалася з Пеціка. Ёй, мабыць, падабаліся лётчыкі, лейтэнанты — розныя героі. А што гераічнага мог зрабіць Пецік са сваімі нажніцамі і брытвай?

Вядома, Пецік мог і не сустракацца з Вікай, не слухаць яе насмешак і кпінаў. Але што ты зробіш з сабой, калі ў Вікі вялікія сінія вочы, калі яна ўмее так залівіста смяяцца, а яе белыя, нібы пух, валасы свабодна варушыць кожны павеў ветру... Пецік, можа б, і развітаўся са сваёй прафесіяй, каб дагадзіць дзяўчыне, але яго нечакана прызначылі загадчыкам цырульні. Цяпер пад Пецікавым кіраўніцтвам было чатыры майстры, і яго ўцёкі з работы можна было расцаніць як самае звычайнае дэзерцірства; на такое Саша Пецік пайсці не мог.

І ён стаў працаваць, стаў заводзіць новыя парадкі ў цырульні. Але ўсё ж нешта трэба было рабіць з Вікай. Пасля таго як яна даведалася, што Пецік стаў загадчыкам цырульні, насмешкі яе не толькі не зменшыліся, а сталі яшчэ болей калючымі і крыўднымі. Так далей трываць нельга было.

Пецік знайшоў выйсце. Ён жадаў толькі аднаго — каб Віка пераканалася, што яго работа мае свой сэнс і што недарма з самай раніцы ў цырульні выстрайваецца доўгая чарга.

Малады загадчык наважыў адкрыць новы — завівачны — цэх, жаночае аддзяленне цырульні. У глыбіні душы Пецік таіў надзею, што некалі да яго прыйдзе сама Віка і ён сваімі рукамі з яе белых пушыстых валасоў зробіць цудоўныя завіткі. Тады Віка сама ўбачыць, чаго варты яго лёгкія рукі...

Пецік спецыяльна для вывучэння завівачнай справы паехаў у абласны горад. Там ён прабыў цэлых два тыдні. Ён прывёз з горада патрэбны інструмент і прыступіў да справы. Загадчык уласнаручна ўстанавіў электраабсталяванне, і ў раённым гарадку паявіліся аб'явы, што з наступнага тыдня цырульня пачынае рабіць завіўку.

Была вясна, шапталіся маладым лісцем майскія таполі, і ў душы Пеціка расцвіталі новыя надзеі. Ён думаў аб тым, што праз які дзень папрыгажэюць усе дзяўчаты ў яго пасёлку, а самай прыгожай будзе, вядома, Віка.

Майскім вечарам, калі лагодная свежасць і цеплыня атульвае кожную жывую істоту, ішоў Пецік на спатканне з Вікай. Ішоў, але не дайшоў.

Хлопец раптам убачыў, як на вуліцы стала светла-светла, а людзі кінуліся ў напрамку да станцыі, дзе стаяла цырульня. Пажар! Страшная здагадка скаланула Пецікава сэрца. Ён не памыліўся — гарэла яго цырульня.

Пажар патушылі, а праз месяц у народным судзе разглядалі справу Аляксандра Пеціка. За адно толькі тое, што Пецік няправільна ўстанавіў электраабсталяванне, з-за чаго ўзнік пажар, маладога загадчыка, магчыма, і не судзілі б. Але раз ужо здарыўся такі выпадак, то была прарэвізавана ўся дзейнасць цырульні. У Пеціка выявілі недастачу цэлых чатырох літраў адэкалону «Бэз». Тут ужо крымінальны кодэкс нікольні не хацеў лічыцца з тым, што па шчырасці сваёй душы Пецік асвяжаў твары кліентаў звыш усялякіх норм, зацверджаных прэйскурантам.

Згодна з суровымі даваеннымі законамі, Пеціку далі тры месяцы прымусова-выпраўленчых работ. На другі ж дзень міліцыянер павёў яго на станцыю, каб адправіць на будаўніцтва нейкай шашы пад Кіевам. Добра хоць, што Віка падышла на станцыю...

Але ніякай шашы Пеціку будаваць не прыйшлося. Пачалася вайна, і было не да шашы.

Невялікі пасёлак, у якім за ўсю яго гісторыю так і не быў адкрыты завівачны цэх, жыў трывожным жыццём фашысцкай акупацыі. Пра Пеціка забыліся, тым болей што цяпер ніякай цырульні ў пасёлку не было. Можа, калі і помніла Пеціка, то толькі адна Віка. Усё-такі ён яе любіў...

І вось амаль на трэцім годзе вайны, вясной, у пасёлку зноў паявіўся Пецік. Быў ён у вузенькіх плісавых штоніках, у нейкім старамодным чорным пінжаку, з верхняй кішэні якога звісаў срэбраны бралок гадзінніка. Усё гэта сведчыла, што Пецік, нягледзячы на нягоды вайны, мае пэўныя жыццёвыя поспехі. Ды і сам Пецік не таіў гэтага. Пры першай жа сустрэчы з Вікай ён паведаміў, што працаваў у цырульні ў самым Кіеве, галіў і стрыг розных нямецкіх генералаў і цяпер мае дастатковы капітал, каб адкрыць уласную цырульню і нават наняць уласных майстроў. Віка прыжмурыла вочы і, нягледзячы на тое,

што не бачыліся яны амаль два гады, заявіла, што спяшаецца дадому. Яна пайшла, нават не падаўшы на развітанне рукі. Але гэтая няўвага, здаецца, ніколькі не кранула Пеціка. Наадварот, на яго твары свяцілася задавальненне, і можна было падумаць, што гордая Віка нагаварыла Пеціку самых пяшчотных слоў.

У той жа дзень Пецік пашыбаваў у нямецкую камендатуру, якая размяшчалася на станцыі. Чакаючы прыёму да каменданта, малады камерсант трымаў у потнай руцэ даведку з самай сапраўднай турэмнай пячаткай. І калі хлопца пусцілі да каменданта, ён чамусьці пачаў не з таго, што галіў у Кіеве нямецкіх генералаў і запрацаваў пэўны капітал, а націскаў на сваё турэмнае зняволенне пры бальшавіках. Таўставаты, з добра паголеным тварам немец разглядаў Пецікаву даведку.

— З турмы? — спытаў камендант.— Пойдзеш у паліцыю.

Пецік збялеў. На першым часе ён не ведаў, што адказаць.

— Я майстар, цырульню хачу адкрыць,— прамовіў ён нарэшце.

Камендант паглядзеў на Пецікавы вузенькія штонікі, на срэбраны бралок, і да яго, відаць, дайшло.

— А чаму тут турма? — паказаў ён пальцам на даведку.

— Я цырульню спаліў! — бачачы, што справа ідзе на лад, у нейкім натхненні выпаліў Пецік.

— А навошта паліць цырульню? — на твары немца адбілася самае сапраўднае замяшанне, і ён здзіўлена пазіраў на Пеціка.

— Я ўкраў адэкалон,— ліў на сябе памыі Пецік, не бачачы ўжо ніякага паратунку.

Пры апошнім адказе твар у каменданта прасвятлеў. Ён нарэшце зразумеў Пеціка.

— Цяпер ты не будзеш красці адэкалон і паліць цырульню,— паляпаў Пеціка па плячы камендант.— Адэкалон будзе твой, уласны, а свайго не паляць і не крадуць...

Дні праз два пасля гэтага на зялёнай будцы, дзе некалі Віка прадавала газеты, паявілася шыльда з надпісам: «Цырульня». Зверху, вялікімі літарамі, надпіс быў зроблены па-нямецку, а ўнізе, ледзь прыкметна, на той мове, якой Пецік пакуль што карыстаўся сам. Надпіс каменданту, відаць, спадабаўся, бо ён у другі раз паляпаў маладога камерсанта па плячы, пачаставаўшы пры гэтым цыгарэтай.

З самай раніцы ў дзвярах новай цырульні, апрануўшы бялюткі халат, стаяў Пецік. Бароды і валасы паадрасталі за два гады Пецікавай адсутнасці аж занадта, так што работы хапала. Без чаргі мелі права на абслугоўванне толькі немцы і паліцэйскія. Гэтага правіла малады гаспадар цырульні трымаўся няўхільна, за што, калі гаварыць па праўдзе, яго гонар не надта шанавалі астатнія кліенты. Але ўсё гэта, мабыць, не вельмі хвалявала Пеціка. Тых майстроў, якіх малады камерсант абяцаў наняць у размове з Вікай, пакуль што не было. Нават, каб іх і наняў Пецік, то яшчэ невядома, дзе б яны размясціліся. Маленькая будка, дзе стаяла адно крэсла, адзін столік і вісела даволі патрэсканае люстра, пакуль што была мала падобна на той салон, якім выхваляўся Пецік.

У маладога гаспадара паявіліся сякія-такія падначаленыя. Станцыйная прыбіральшчыца цётка Мальвіна за дваццаць марак у месяц згадзілася мыць сурвэткі, халат і падлогу. Беспрацоўны пры немцах тэлеграфіст Сіла Прохаравіч, якому адцяла нагу гадоў дваццаць назад, калі ён яшчэ ездзіў кандуктарам, узяўся за такую ж невысокую плату грэць і падносіць ваду.

Адным словам, Пецік меў усе падставы быць задаволеным. На сцяне яго цырульні вісеў самы сапраўдны патэнт, дзе чорным па белым было напісана, што гаспадаром цырульні з'яўляецца іменна ён, Пецік. З цёткай Мальвінай і Сілам Прохаравічам Пецік падтрымліваў па гэтай прычыне строга афіцыйныя адносіны. Няхай не забываюць, што гаспадар тут ён. Толькі з Вікай было дрэнна зусім. Яна нават перастала прыкмячаць Пеціка. Калі дзяўчыне здаралася праходзіць міма цырульні, яна ў яе бок нават не глядзела. Усё гэта бачыў Пецік. Бачыў, але чамусьці не вельмі злаваўся на Віку. Ён паранейшаму праводзіў яе прыязным позіркам, у яго святлеў твар, калі праходзіла дзяўчына, наўмысля адварочваючыся. Хто ведае, аб чым думаў у такія хвіліны Пецік, якія планы песціў у сваёй душы...

Пецік любіў пазіраць у адчыненае акно на чыгунку. А па чыгунцы на ўсход імчаліся нямецкія цягнікі. Яны везлі гарматы, танкі, салдат. Іншы раз вагоны былі закрытымі і нельга было разгледзець, што ў іх унутры. Але ж, вядома, раз цягнікі імчаць на фронт, то вязуць яны не дровы. Нават тут,

на невялікай станцыі, у глыбокім нямецкім тыле, адчувалася, што ідзе вайна. Але пра вайну Пецік гаварыць не любіў. Ён ні разу не павёў пра яе размовы ні з цёткай Мальвінай, ні з Сілам Прохаравічам. А калі пра вайну, пра партызан загаворвалі Пецікавы кліенты, у тым ліку паліцэйскія і немцы, ён маўчаў як рыба. Вайна яго не датычыла. Ён рабіў сваю справу і болей нічога на свеце не хацеў ведаць.

Дні ішлі. І кожны з іх быў падобны адзін на другі. З раніцы Пецік адмыкаў сваю цырульню, цётка Мальвіна выцірала падлогу і патрэсканае люстра, Сіла Прохаравіч грэў ваду. Пецік галіў і стрыг, як гэта было заведзена, без чаргі немцаў і паліцэйскіх і ў парадку жывой чаргі цывільнае насельніцтва. Ён праводзіў уважлівым позіркам кожны цягнік, які праходзіў або спыняўся на станцыі. І ў гэтым не было нічога дзіўнага. Кожная, нават маленькая праява знешняга жыцця павінна цікавіць чалавека, які цэлы дзень толькі і бачыць, што нос свайго кліента, і ходзіць два крокі ўзад і ўперад па цеснай каморцы.

Прайшоў месяц. Ужо можна было вызначыць кола Пецікавых кліентаў. Раз у два дні з раніцы прыходзіў галіцца сам камендант. Пецік галіў яго асобнай брытвай, якую даставаў з верхняй палічкі. Адэкалоніў каменданта гаспадар таксама з асобнай бутэлечкі, на якой была залатая этыкетка.

Грошай з каменданта Пецік не браў. За гэта гаспадар кожны раз узнагароджваўся цыгарэтай.

Паліцэйскія галіліся нерэгулярна. Яны то стаялі каля зялёнай будкі талакой, то іх не было відаць па цэлым тыдні. Усё залежала ад нейкіх там аперацый, у якіх яны ўдзельнічалі. Але гэтымі аперацыямі Пецік не дужа цікавіўся.

З астатніх кліентаў Сіла Прохаравіч і цётка Мальвіна хутка выдзелілі двух пастаянных. Першы быў юнак Цішка, які працаваў рамонтным рабочым на чыгунцы. У Цішкі на верхняй губе рос толькі рэдзенькі пушок, але ў цырульню ён завітваў кожны дзень. Цётка Мальвіна першы час нават гневалася: «Бачыш ты, падшыванец, знайшоў час красу наводзіць». Але пазней усё высветлілася. Цішка прыходзіў не столькі галіцца, колькі вёў з Пецікам розныя гешэфты. Ён кожны дзень прыносіў Пеціку пачак цыгарэт, які выгандлёўваў, мабыць, у нямецкіх салдат.

Другім пастаянным кліентам быў землеўпарадчык Трапеза, які цяпер славіўся ў пасёлку як самы адменны майстар шклення акон і розных бляшаных спраў. Трапеза прыходзіў у цырульню пад вечар, пасля свайго звычайнага дзённага абходу, ставіў на падлогу драўляную скрынку са шклом і рознымі прычындаламі і садзіўся галіцца. Галіўся ён кожны дзень. Цётка Мальвіна аднойчы не вытрымала:

— Багата, відаць, жывеш, што так чамадорышся. Да вайны з барадою бегаў, а цяпер маладзіцца... Людзі недзе ў акопах, а ён сабе адзікалоны...

— Нам, дробным рамеснікам, цяпер самае жыццё,— без ніякай злосці адбіў цётчын націск Трапеза.— Патэнт у кішэні, сам сабе гаспадар, ніякага чорта лысага не ведаеш. Зарабіў марку і куды хочаш яе. Хлеба не купіш, гарэлку не прадаюць, то хоць пагаліцца за ўласны капітал...

Гаваркі быў чалавек Трапеза і ніколі не лез па слова ў кішэню.

Кожны новы дзень прыносіў у пасёлак якія-небудзь навіны. То партызаны зноў нямецкі эшалон узарвалі, то нехта заразіў усю паліцыю дэзентэрыяй і бобікі коўзаюцца жыватамі, то бургамістрава жонка, вусатая Анеля, якая цэлы год хвалілася, што яе запішуць у немцы, нібыта пра нямецкае падданства болей ні гуку... Але ўсе гэтыя навіны не рабілі, здавалася, ніякага ўздзеяння на Пеціка. Ён выконваў сваю работу — галіў, стрыг, вечарам падлічваў выручку, і ўсё. Цётка Мальвіна ніяк не магла дабраць розуму, што ён за чалавек. Разбагацець захацеў, то, мабыць, хваробу на гэтых марках разбагацееш. Шалудзіваму сабаку іх толькі пад хвост. Мабыць, недарэка нейкі. Навучыўся мылам бароды мусоліць і болей яму нічога не ў галаве. Нездарма ж да вайны цырульню спаліў...

Сіла Прохаравіч трымаўся крыху іншай думкі пра Пеціка. «Хоча перачакаць час,— заяўляў ён цётцы Мальвіне пазмоўніцку.— У бобікі не пайшоў і ў лес баіцца ісці. Адным словам, ні вашым, ні нашым. Але да ўласнасці прывер접аны і, значыцца, чалавек не наш. Трымай пры ім язык за зубамі...»

А Пецік галіў, стрыг, пільным позіркам праводзіў кожны эшалон, які ішоў праз станцыю на ўсход. Кожны дзень у цырульню з пачкамі цыгарэт завітваў віхрасты пуцеец Цішка, пад вечар заглядваў з драўлянай скрынкай Трапеза, які напаўняў

сваім зычным голасам усю зялёную будку. Усё ішло сваім заведзеным парадкам. Толькі Віка зусім не паяўлялася на гарызонце, які адкрываўся з зялёнай будкі.

Але аднойчы заведзены парадак парушыўся. Трапеза ў той дзень прыйшоў не вечарам, а з самай раніцы. Ён сеў на крэсла, і Пецік адразу намыліў яму зусім яшчэ чысты пасля ўчарашняга брыцця твар. Трапеза не гарланіў, як заўсёды, на ўсю будку, а, здаецца, нешта паўшэптам даводзіў Пеціку. Яны так зашапталіся, што не заўважылі, як у будцы паявіўся камендант. Камендант нездаволена чмыхаў, стоячы на парозе, а Пецік увіхаўся каля Трапезы. Нарэшце гаспадар заўважыў каменданта і так штурхануў свайго кліента пад бок, што той ускочыў, як кіпенем апараны.

Трапеза з намыленым тварам і з разгубленай усмешкай прытуліўся ў кутку, а камендант важна сеў перад патрэсканым люстрам. Пецік галіў немца з падкрэсленай увагай, ён віўся каля яго ўюном. Камендант на гэты раз пачаставаў Пеціка адразу дзвюма цыгарэтамі. Адну з гэтых цыгарэт Пецік пасля прапанаваў Сілу Прохаравічу, але той, моўчкі шчоўкнуўшы бляшанай каробкай, пачаў рабіць самакрутку.

Увесь гэты дзень Сіла Прохаравіч быў не ў гуморы, а ў абед, за вочы, пры цётцы Мальвіне аблаяў Пеціка самымі апошнімі словамі. Але цётка Мальвіна маўчала. Яна мыла падлогу і нібы не чула таго, што гаварыў ёй Сіла Прохаравіч. Пецікаў памочнік пакіпяціўся і, не сустракаючы спачування, пакульгаў дадому сёрбаць, як ён гаварыў, поліўку з макухі.

А цётка Мальвіна маўчала вось чаму. Учора ўвечары яна забегла ў цырульню забраць вядро. Пецік стаяў адзін у халаце, пазіраў у акно і барабаніў пальцамі па шкле. Цётка зайшла за занавеску і пачала там корпацца. Ёй здалося, што ад сценкі ў самым кутку адстала дошка. Яна націснула яе каленам, тады дошка адкрылася, як дзверцы. На падлогу вываліліся два брускі. Цётка Мальвіна ўзяла гэтыя брускі і, нічога не разумеючы, паднесла Пеціку. Таго перасмыкнула як ад апёку.

— Гэта мыла нямецкае,— залепятаў ён пабялелымі губамі.— Пены з яго ніякай, трэба выкінуць к чорту. Толькі грошы заплаціў здуру...

Ён хуценька схаваў брускі ў кішэню. Пры гэтым на падлогу ўпаў белы металічны карандашык. Пецік, хаваючы ка-

рандашык, усё даводзіў, што раздабыў яго для манікюру, гэта значыць, каб фарбаваць пазногці.

Цётка Мальвіна зрабіла выгляд, што паверыла. Яна спакойна ўзяла вядро і выйшла. Але сэрца з яе грудзей ледзь не выскаквала. Ёй было так страшна, аж да дрыжыкаў у каленках, разам з тым весела. Дык вось, значыць, якая птушка гэты Пецік. Няхай сабе залівае пра нямецкае мыла, так яму цётка Мальвіна і паверыла! Яна ж на свае вочы бачыла, як такімі брускамі ўзарвалі нашы вадакачку, калі адыходзілі. А карандашык — пазногці фарбаваць, кажа... Так нафарбуеш, што не застанецца ні пазногцяў, ні саміх пальцаў. Цімка, Гаўрыліхі-стрэлачніцы сынок, хацеў з такога карандашыка свістульку зрабіць, дык і цяпер ходзіць з трыма пальцамі на дзвюх руках...

Цётка Мальвіна не спала ўсю ноч. Ёй было і боязна, і разам з тым пад грудзі падкатвала нейкае радасна-помслівае пачуццё. Сам камендант галіцца ходзіць... Цыгарэткамі частуе... Немец ты дурны! Пачакай, ён табе такую сігарэтку пакажа, што забудзеш, як бацьку роднага завуць. Гэты, відаць, жук, усе трубы прайшоў. Нездарма ж ён тое мыла нямецкае прыпасае. Цягнікі амаль штодня падрываюцца на мінах, хіба ж гэта так сабе. Але ж і хітры! Маці родная да розуму не дайшла б. Ад яе, ад Мальвіны, хаваецца. Няхай што хочуць гавораць пра Мальвіну, але яна скрозь зямлю бачыць. Не на тую напаў. Але яна яму не вораг. Што ёй гэты немец, Царства Нябеснае адкрыў? Хай яму сем скул у горла...

Цётка Мальвіна наважыла маўчаць. Раз ён, гэты Пецік, хаваецца, хоча ёй нос уцерці, яе хата з краю. Толькі яшчэ прыйдзе коза да воза. Няхай сабе Мальвіна дурная, але хто ведае пра тое, што ў яе цэлых два месяцы лячыўся ранены чырвонаармеец, а пасля пайшоў сваёй дарогай. Ніхто не ведае. То-та ж!

Назаўтра цётка Мальвіна адразу ж выявіла, што дошка ў кутку болей не адчыняецца. Пецік трымаўся неяк насцярожана, раз-пораз кідаючы на цётку дапытлівыя позіркі. Не схавалася ад цёткі і тое, што з самай раніцы прыбег гэты самы Трапеза. Відаць, таксама птушка стрэляная. Так яна і паверыла, што яму прыемна цягаць на спіне гэтую драўляную скрынку. Дробны рамеснік! Ведаем мы такіх рамеснікаў!

Калі Сіла Прохаравіч за вочы напаў на Пеціка, цётка Мальвіна толькі сама сабе ўсміхалася. «Няхай плявузгае, аднаногі дурань! Жыццё пражыў, а розуму не набраўся. Сляпы, як ка-

цянё. Але ад яго плявузготы нікому ні горача, ні боляча»,— думала цётка.

Але надышла чарга адкрыць тое-сёе, чаго ён не прыкмячаў раней, і Сілу Прохаравічу. Пасля таго выпадку, калі Пецік хацеў пачаставаць старога камендантавай цыгарэтай, Сіла Прохаравіч проста знелюбіў свайго гаспадара. Ён цяпер сядзеў у цырульні ў выпадках толькі самай пільнай неабходнасці, калі трэба было распаліць стары прымус і нагрэць вады. Сіла Прохаравіч нават падумваў над тым, што варта кідаць гэтую ягоную службу. На якое яна ліха здалася яму! Зарабіць ён на кавалак хлеба і венікамі. Адно, што ўтрымлівала старога тэлеграфіста на яго службе, дык гэта магчымасць пагаварыць з людзьмі. А дома за венікамі нават словам не перакінешся ні з кім.

Аднойчы, надвячоркам ужо, калі на дварэ церусіў дождж, Сіла Прохаравіч прымасціўся ў кутку пры ўваходзе і, здавалася, драмаў. Кліентаў нікога не было. Пецік стаяў ля акна і, як заўсёды, пазіраў на чыгунку. Ён глядзеў на нямецкага вартавога з чорным аўтаматам цераз шыю, які стаяў пад драўляным грыбам на пероне, на абмытыя дажджом бліскучыя рэйкі і барабаніў пальцамі па шкле. Як толькі Пецік забарабаніў, Сіла Прохаравіч адразу насцярожыўся. Яго чуткае, натрэніраванае гадамі вуха адразу ўлавіла да болю знаёмы перастук марзянкі. Некалі ж, не заглядваючы ў тэлеграфную ленту, чытаў Сіла Прохаравіч самыя доўгія тэлеграмы. «Віка, Віка... Віка»,— выбіваў між тым пальцамі па шкле Пецік. Сіла Прохаравіч аж прыўстаў ад здзіўлення. Ён не памятаў, каб гэты малакасос калі-небудзь працаваў на тэлеграфе...

— Не сеюць, брат, цяпер ні вікі, ні чачавіцы,— не вытрымаў нарэшце Сіла Прохаравіч.— Так што і ўспамінаць не варта.

Пецік здрыгануўся ўсім целам і не адварочваў твару ад акна. Так ён прастаяў, можа, з хвіліну.

— Гэта мы некалі ў асаавіяхімаўскім гуртку азбуку Морзэ вучылі,— сказаў нарэшце спакойным голасам гаспадар цырульні.— Толькі забыў я ўсё...

— Чаму ж забыў, знакі ясныя,— пахваліў Сіла Прохаравіч.— Колькі ты прымаў у хвіліну?

— Нічога не памятаю, забыў.— Пецік, відаць, зусім не быў настроены весці размову пра азбуку Морзэ.

Здагадка ніколі не прыходзіць адна. Яна цягне за сабою і другія здагадкі. Прыйшоў Цішка, аддаў Пеціку пачак цыгарэт і сеў стрыгчыся. І ўпершыню за ўвесь гэты час Сіла Прохаравіч раптам вельмі ясна зразумеў, што стрыгчыся Цішку яшчэ не трэба, бо стрыгся ён усяго тыдзень назад, і, значыць, ёсць іншая прычына, якая прывяла яго ў гэтую зялёную будку. Старому стала аж неяк крыўдна. Ён выйшаў на двор. Дождж ужо суняўся, паветра было чыстае, дыхаць стала лягчэй. Сіла Прохаравіч паглядзеў на рэйкі, якія бліскучаю стужкай беглі на ўсход, і чамусьці падумаў што не ўсе дарогі ў жыцці такія прамыя, як гэтыя вось стальныя рэйкі. Падумаў ён і пра свайго сына, які, мабыць, таксама там недзе ваюе. Якімі дарогамі ходзіць ён — прамымі ці такімі вось пакручастымі?..

З гэтага дня Сіла Прохаравіч заўсёды выходзіў на двор, калі ў цырульні паяўляўся Трапеза або забягаў Цішка. Ён добраахвотна станавіўся на варту і пільна сачыў, каб у такія хвіліны хто-небудзь лішні не зайшоў у цырульню. Калі падыходзіў чужы чалавек, Сіла Прохаравіч наўмысля размаўляў з ім, як глухі, не шкадуючы горла. Заўважаў гэта Пецік ці не? Мабыць, заўважаў, хоць і не падаваў ніякага знаку.

Ішлі дні. Так прайшоў месяц, а можа, і болей. За гэты час на чыгунцы адбыліся перамены, якіх мог не заўважыць хіба толькі зусім сляпы чалавек. Цяпер куды болей эшалонаў імчала ўжо на захад, а не на ўсход. У ясныя вечары можна было ўлавіць вухам гукі далёкай артылерыйскай кананады. Наступалі нашы...

Неяк на станцыі скапілася некалькі эшалонаў, бо недзе на захад ад пасёлка партызаны ўзарвалі чыгунку. Эшалоны ніяк не маглі адправіцца са станцыі.

Пецік у гэты дзень быў асабліва трывожны. Ён не адрываў свайго позірку ад акна, часта курыў і, па ўсім было відаць, не знаходзіў сабе месца. Сіла Прохаравіч з неспакойным сэрцам паглядаў на гаспадара цырульні. Цётка Мальвіна хадзіла крадком, баючыся што-небудзь зачапіць. Раптам магутны ўзрыў страсянуў зялёную будку цырульні. Дзынкнула шыба, а з верхняй палічкі ўпала і разбілася бутэлечка з залатой этыкеткай — каменданцкі адэкалон.

Эшалон разарвала быццам папалам: на месцы аднаго вагона дыміліся нейкія абломкі, а кола занесла аж на перон, пад

самы грыб, дзе стаяў вартавы. На станцыі паднялася мітусня і страляніна.

Усе трое ў цырульні стаялі з пабялелымі тварамі. Цётка Мальвіна раптам кінулася збіраць ашкелкі разбітай бутэлечкі.

— Ці ты здурнела? — закрычаў Сіла Прохаравіч і на сваёй дзеравяшцы скочыў да зашчапкі.— У цябе тут нічога няма? — Ён прыблізіў свой твар да самага твару Пеціка.— Давай хутчэй, а то позна будзе...

Пецік паглядзеў на Сілу Прохаравіча, на цётку Мальвіну і зняў са стала люстра. Адхінуўшы ў сцяне дошку, ён выхапіў дзве падобныя на чорныя чарапашкі магнітныя міны.

— У мяне тут брудная вада ў вядры,— раптам знайшлася цётка Мальвіна.— А яны, гэтыя дынаміты, у вадзе не ўзрываюцца?

— Не ўзрываюцца,— усміхнуўся Пецік.

— Ты ідзі, цябе не зачэпяць,— зашаптаў Сіла Прохаравіч.— Прыткні іх дзе-небудзь у кар’еры...

Станцыю ачапілі. Са станцыйных будынкаў не выпускалі нікога. Немцы ператрасалі рэчы ў кожным доме, дзе жыў чыгуначны люд. Праз гадзіну і ў зялёную будку зайшоў камендант з салдатамі. Твар у яго быў злосны, нахмураны. Камендант нікога не пазнаваў.

У зялёнай будцы нічога падазронага не знайшлі. Але ні Пеціка, ні Сілы Прохаравіча са станцыі пакуль што не выпусцілі. Іх разам з рабочымі загналі ў пусты пакгаўз. Там яны сядзелі ўсю ноч. А назаўтра з раніцы затрыманых паасобку выклікалі да каменданта. Сілу Прохаравіча павялі першым. Праз паўгадзіны выклікалі і Пеціка. Немец зноў разглядаў яго даведку з турэмнай пячаткай.

— Будзеш адзначацца ў паліцыі,— заявіў камендант.— Кожная раніца...

Цырульня ў гэты дзень не працавала. Пецік сядзеў у скверыку задумлівы і сур’ёзны. Раптам ён убачыў Віку. Яна некуды спяшалася. Дзяўчына, заўважыўшы яго, падышла першая. Можа, яна прачула ўжо, што ён сядзеў пад замком гэтую ноч?

— Вобыскі ідуць,— чамусьці адразу паведаміла Віка.— Учора, пасля таго як вагон узарваўся, немцы яшчэ дзве міны з-пад вагонаў знялі. З нашых, кажуць, нехта падвесіў. Паліцэйскія шэпчуцца, што вучоных сабак прывязуць немцы. Сабакамі будуць шукаць...

Пецік падскочыў з лаўкі як на пружынах.

— Мне па справе трэба, да пабачэння, Віка,— кінуў ён на хаду і пашыбаваў са скверыка.

Дзяўчына здзіўлена паглядзела яму ўслед.

Праз якую гадзіну Пецік быў ужо дома ў Сілы Прохаравіча.

— Дайце мне моцнага тытуню,— гаварыў ён спяшаючыся.— І каля будкі пасыпце тытунём. Сабакамі будуць шукаць, вас жа схопяць, калі што...

У той жа дзень Пецік знік з пасёлка.

Паявіўся ён зноў, калі прыйшлі нашы. Пецік быў у вайсковай форме і прыехаў на вайсковай машыне. Ён адразу прайшоў у сваю зялёную будку, якую не кранулі ні бамбёжкі, ні іншыя віхуры вайны. Цётка Мальвіна аж праслязілася:

— Я ж з першага дня ведала, хто ты такі, Пецік. Думаеш, я не бачыла, што ў цябе не мыла нямецкае, а гэтыя, як іх, дынаміты. Толькі чаму ж ты хаваўся, мы ж свае.

— Канспірацыя, цётка Мальвіна. Так трэба...

— А з тытунём добра выйшла,— уставіў слова Сіла Прохаравіч.— Толькі, кажуць, той сабака самога каменданта за руку і хапіў, як міну абнюхаў. А азбуку Морзэ ты, Пецік, усё ж добра ведаеш. Мяне не правядзеш, дваццаць год на тэлеграфе...

— Ведаю, Сіла Прохаравіч. Рацыя ж у нас была. Нездарма ж мы немцаў адэкалонілі і эшалоны лічылі. А вам дзякуй, моцныя вы людзі, дапамаглі... Не крыўдуйце, што маўчаў,— канспірацыя...

Пецік спяшаўся. І спяшацца была прычына — непадалёку ад зялёнай будкі нецярпліва пахаджвала Віка.

Пецік развітаўся і пайшоў.

— А гэта што за слова такое — канпарацыя? — спытала цётка Мальвіна ў Сілы Прохаравіча.

— Не канпарацыя, а канспірацыя,— паправіў Сіла Прохаравіч.— Ну, як бы табе ясна давесці... Канспірацыя — гэта, калі ў якой важнай справе за народ трымацца, давяраць такім вось, як мы з табою. Адзін жа нічога не зробіш без народа і нічога ад яго не схаваеш...

Цётка Мальвіна была задаволена.

*1956*

# 1957

## ДВА СТУДЭНТЫ

5 верасня 1956 г.
Здароў, Кузьма!

Такім чынам, мы маем, як гаварыў твой любімы Мітрафан Піліпавіч, новы якасны стан. Я — студэнт другога курса. Сёння гэтая ісціна засведчана гербавай пячаткай у маёй заліковай кніжцы, або, калі гаварыць па-навуковаму, у матрыкуле.

А заўтра, братка Кузьма, мы едзем змагацца за бульбу. На цэлы месяц. У той самы калгас, што і летась,— у «Кастрычніцкую рэвалюцыю». Прыгожыя там, браток ты мой, мясціны. Узгоркі, апавітыя першай асенняй смугою, пералескі, Мінскае возера побач. Дыхай і набірайся, як кажуць, здароўя. Але ў нашых Палыкавічах, вядома, лепш і прыгажэй. Для мяне паездка на бульбу мае прынцыпова станоўчае значэнне. Сэканоміцца, па-першае, стыпендыя — цэлых дзвесце дзевяноста два рублі. Ты не смейся, для мяне такія грошы — цэлы капітал. Па-другое, наогул, мне здаецца, карысна яшчэ адзін цёплы асенні месяц павандраваць, паварушыць мускуламі перад васьмю месяцамі суцэльнай мазгавой работы.

Вядома, ёсць і свае мінусы ў гэтай паездцы.

Шкада, браце, чаравік — парвуцца. Але ўсё-такі, плюсаў на бульбе болей, чым мінусаў. Для чаравік куплю цэлых дзве каробкі гуталіну — не дам іх у крыўду ні перад якімі лужамі.

Паведамляю табе, сябра мой Кузьма, яшчэ адну радасную навіну. Далі мне месца ў інтэрнацкім пакоі. Будзем жыць уча-

тырох — і ўсе, браце, будучыя педагогі, і ўсе вучымся разам. Хлопцы добрыя, толькі Вадзім Пераход, пра якога я табе ўжо расказваў, задзірае, па-мойму, нос. Але, як той казаў, пабачым...

Пакінуў я, такім чынам, назаўсёды сваю зялёную Грушаўскую вуліцу і сваю незабыўную бабульку Пелагею Ягораўну. Добрая была душа ў маёй гаспадыні. Тыя сто рублёў, што плаціла ёй за маё кватараванне наша бухгалтэрыя, яна ж на мяне і выдаткоўвала, ды яшчэ прыкладвала свайго. Два сыны ў яе загінулі ў вайну. Адзін быў лётчыкам-маёрам. Буду хадзіць калоць ёй дровы, і то весялей будзе чалавеку.

На гэтым бывай, мой славуты будучы канструктар. Я тут расхваліўся перад табой, аж самому сорамна. Я ж заўсёды лічыў цябе залатой галавой, а сябе толькі бледным тваім ценем. Проста не разумею, як маглі цябе не прыняць у інстытут. Атрымаў чацвёркі па рускаму сачыненню і замежнай мове. Ну дык што! Не двойкі ж табе паставілі. Не разумеюць яшчэ ў нас, што гэта азначае — закончыць школу рабочай моладзі. Ты, па-мойму, на гэты раз проста спасаваў перад ачкастай камісіяй. Яна ў чатыры вокі глядзела і прагледзела такога Ньютана. Расказаў бы ты ім пра сваё матавіла, што паставіў на камбайне. Пасаромеўся ты, брат, дарэмна. Хваліцца сорамна толькі крадзеным.

Але нічога — не паступіў сёлета, паступіш у будучым годзе. Цісну тваю шурпатую механізатарскую руку.

Галя, пра якую я табе расказваў, таксама едзе на бульбу. Слаўная яна, брат, дзяўчына. Паклон усім нашым. Твой Пятрусь Бярозка.

28 верасня.

Шанаванне табе, самапаглыблены канструктар!

Прывезлі хлопцы з інтэрната твой ліст і твой перавод на пяцьдзясят рублёў. Навошта ты прысылаеш грошы, Кузьма? Мне яны тут абсалютна не патрэбны — кормяць нас як на Дзяды. Не рабі толькі высакароднай міны на твары, усе крэдыты я запісваю ў блакнот з чорнай вокладкай. Твае грошы будуць звернуты табе з пэўным працэнтам гадавых, як злоснаму ліхвяру і капіталаўкладальніку. Я ж закончу навуку раней

за цябе. Дарагі мой аднакашнік Кузька! Тут, на бульбе, шырэй раскрываюцца мае студэнцкія вочы. Ці паверыш ты, што сярод слаўнага нашага студэнцтва ёсць самыя звычайныя лайдакі і абібокі. Баяцца, браце, чорнай работы як чорт ладану. Папершае, некаторыя перад самай бульбай тэрмінова захварэлі, карацей кажучы, узброіліся рознымі медыцынскімі даведкамі. І хто толькі дае ім гэтыя даведкі?

Па-другое, не ўсе тыя, што прыехалі ў калгас, хочуць працаваць. Туляюцца ад работы як сабакі ад мух. А каб ты паглядзеў, як некаторыя нашы дзяўчаты выбіраюць бульбу. Бяруць бульбіну, як нейкую жабу: асцярожненька, двума пальчыкамі. А гэта ж будучыя настаўніцы, яны ж паедуць у вёску. Не дай божа ажаніцца ні мне, ні табе, Кузька, на такой «далікатнай» дзяўчыне. Калі зробім такую памылку, то або памрэм з голаду, або к сарака гадам атрымаем па самай паўнацэннай язве страўніка. Такія дзяўчаты, па-мойму, да прыезду ў вёску лічылі, што булкі растуць на дрэвах.

Вядома, не ўсе так працуюць. Большая палавіна нашых робіць як трэба.

Тут, на бульбе, раскрыўся перада мной наш Вадзім. Калі гэта праўда, што сапраўдны таварыш пазнаецца ў бядзе, то гэты Вадзім дрэнь і паскуднік. Быў такі выпадак.

Адна наша дзяўчына наверадзіла руку, і на пальцах у яе паявіласяваўчанка. Гэта — небяспечная хвароба. Прывезлі ўрача, і ён узяўся дзяўчыну лячыць. Але ў мясцовай аптэцы не было нейкай дэфіцытнай мазі, трэба было ехаць аж у Мінск. Гэтую мазь к заўтрашняй раніцы ўзяўся прывезці Вадзім. Ён папрасіўся ў горад, і думаеш прывёз? Прыехаў праз два дні, а на мазь забыўся. А ў дзяўчыны з-за гэтага на ўсё жыццё застаўся нерухомы мізінец.

Да гэтага Вадзіма прыязджаў бацька, нейкім трэстам кіруе. Пёр на «Пабедзе» кіламетраў дзвесце. Дык, ведаеш, да чаго дадумаўся гэты кіраўнік? Перавёў свайго сынка на асобную кватэру, на малако і смятану да нейкай тарбахваткі.

Вось якія справы, дарагі Кузя.

А бульба ў калгасе добрая, на дзіва. Каб толькі ўправіцца да марозаў. Галя капае бульбу ў суседнім калгасе. Добра капае, яна не «далікатная». Прывітанне нашым. Твой Пятрусь.

16 кастрычніка.

Прывет табе, наш будучы Архімед!

А ў нас лекцыі, лекцыі, лекцыі. Не паступай у інстытут, Кузьма, далібог лепш працаваць трактарыстам. Сядзі сабе за рулём і пасвіствай. Ні табе семінараў, ні калёквіумаў, ні залікаў ніякіх. Вольны, як вецер... Між іншым, я цябе толькі палохаю, Кузьма. Не бойся лекцый. У нас іх многія не баяцца. Накуплялі розных чамаданчыкаў, паставяць іх на сталы і хаваюцца за імі, як за барыкадамі. Робяць, што хочуць, толькі не вучацца. Той самы Вадзім і яшчэ адзін абібок ужо трэці дзень рэжуцца на лекцыях у «балду».

Павінен табе сказаць, што і выкладчыкі ў гэтым вінаватыя. Адзін чытае — заслухаешся, забываеш, што на лекцыі, а другі — уваткнецца ў канспект і «бу-бу-бу...». Аж павекі зліпаюцца. А наогул, кожная лекцыя, я лічу, карысная. Навука — гэта ўсё-такі не вясёлая аперэта.

Але ў нас завяліся ўжо крытыканы. «Даеш свабоднае наведванне лекцый!» Уяўляю сабе, як бы ўзрадаваўся наш Вадзім, калі б зусім не трэба было хадзіць на лекцыі. Ён, праўда, і цяпер не вельмі ходзіць. Як у той песні: «Калі прыйдзе, калі не».

І ведаеш, прыцярпеліся ў нас к такім, як Вадзім. Лічаць усё гэта ў парадку рэчаў. Я проста знелюбіў гэтага тыпа. У пакой не хочацца прыходзіць з-за яго. Жывуць са мной яшчэ Віктар Гармаш і Алег Пратасевіч. Мы з Віктарам іншы раз збіваем рогі гэтаму краснабаю. Алег жа трымаецца пазіцыі неўмяшання. Не хоча псаваць добрых адносін з аднакурснікам.

Учора здарылася вось што. Мы з Віктарам прыйшлі з бібліятэкі позна. Хацелі выспацца, бо займаемся цяпер многа. Адчынілі дзверы, а ў пакоі ў нас стоўпатварэнне вавілонскае. На стале — батарэя бутэлек. За сталом — Вадзімава акружэнне, нават дзве дзяўчыны. Аказваецца, у нашым пакоі ідзе гулянка. Прапанавалі і нам з Віктарам выпіць па шклянцы.

Мы, вядома, ад гарэлкі адмовіліся. Бывай, мой сябра. Я цяпер аж зялёны ад злосці. Пятрусь Бярозка.

4 лістапада.
Няхай жыве наша з табой дружба, Кузьма!

Было пасяджэнне камітэта камсамола. Вадзім выбавіўся з бяды лёгкім перапалохам — яго папярэдзілі. Шанцуе гэтаму губашлёпу. Мне няма часу, Кузьма. Бярэм шэфства над культурнай работай аднаго завадскога клуба. Будзем арганізоўваць самадзейнасць. Кульні за наш поспех чарку на Кастрычніка.

Не падкалвай наконт амураў. З Галяй у нас проста добрая дружба. Яна медычка, вучыцца аж на трэцім курсе. Пятрусь.

29 лістапада.
Кузьма!

Не прысылай мне грошай. З мяне хопіць сваіх. Ведаю ж, які ты мільёншчык. Шмат займаюся, аж галава трашчыць. А ў інтэрнаце танцы і танцы. Проста нейкая пошасць пайшла. Займацца ў пакоі нельга. Затое Вадзім задаволены. І, ведаеш, дзяўчатам ён падабаецца. Хоць не ўсім. Галя сказала, што ён нейкі слізкі. Што ты думаеш на гэты конт, дзед, а?

Высылаю табе дзве таўсценныя кніжкі пра трактары. Толькі што паявіліся. Пятрусь.

14 снежня.
Добры дзень, Кузьма!

Здарылася нешта вельмі непрыемнае, чаго са мной не было ніколі ў жыцці. І ўсё з-за гэтага праклятага Вадзіма. Да мяне пазаўчора вечарам зайшла Галя. На лекцыі я не хадзіў, страшэнна балела галава. Мы сядзелі і размаўлялі. Раптам перагарэла лямпачка. У гэтую хвіліну ўварваўся Вадзім і, захіхікаўшы, выбег з пакоя. На калідоры ён плявузгаў нешта брыдкае пра мяне і пра Галю хлопцам. Я выйшаў услед за ім і, не стрымаўшыся, ударыў яго па мордзе. Днямі будуць разбіраць маю справу на камсамольскім сходзе. Галоўнае, Кузьма, я не хачу, каб скланялі Галіна імя. Я не скажу пра яе ні слова. Мне за мой учынак, мабыць, уляціць. Але з Вадзімам

мы яшчэ паваюем. Я ўсё ж раскрыю яго слізкае нутро. Выпруць калі-небудзь гэтага слімака з інстытута. Будзь здароў, Кузька. Твой П. Бярозка.

*1957*

## ВЕРАНІКА

Наш дзясяты клас быў гераічны. Нас у класе было шаснаццаць хлопцаў, і амаль усе мы марылі пра подзвігі. Чатырнаццаць з шаснаццаці збіраліся паступаць толькі ў ваенныя вучылішчы. Астатніх двух — Федзю Пячкура і Валерыя Самасада, якія разлічвалі трапіць у «цывільныя» інстытуты,— мы за вочы называлі дэзерцірамі. Адносна Федзі думкі, праўда, крыху разыходзіліся. Федзеў бацька, стрэлачнік, сагітаваў сына прабівацца ў чыгуначны інстытут. Ён даказваў, што інжынер-чыгуначнік — самая лепшая прафесія на свеце. Федзя, які жыў ля самай чыгункі і іншы раз дапамагаў бацьку чысціць стрэлкі, пагаджаўся з гэтым, за што мы і лічылі яго адступнікам, бо яшчэ год назад Федзя таксама стаяў за ваеннае вучылішча. Усё ж Федзю рабілася сякая-такая скідка. У ваенны час чыгуначнікам таксама прыходзіцца нялёгка, гэта мы добра ведалі.

Валерыю Самасаду скідкі не рабілася ніякай. Ён збіраўся паступаць на біялагічны факультэт, лавіў матылькоў, засушваў усялякую траву. І таму ў нашых вачах ён быў страчаны для арміі чалавек. Валерый і сам не таіў сваіх чыста цывільных намераў. Ён ніколі не купляў часопіса «Огонёк», дзе штотыдзень друкаваліся агляды з еўрапейскага, афрыканскага і азіяцкага тэатраў ваенных дзеянняў, не цікавіўся ваеннай справай і нават не здаў нормы на значок «Юны варашылаўскі стралок». Валерый мог цэлую гадзіну расказваць пра якога-небудзь жука-вадзяніка, якога ён злавіў сачком у сажалцы, і мы на Валерыя хутка махнулі рукой.

Усе ж астатнія цвёрда наважылі прысвяціць сябе вайсковай справе. Былі ў нас свае авіятары, артылерысты, маракі, агульнавайсковыя камандзіры, нават ваенны ўрач і інтэндант. Падрыхтоўка да паступлення ў ваенныя вучылішчы ішла

адпаведна намі ж распрацаванай сістэме. Кожны з нас раніцай абліваўся халоднай вадой і ўсялякім спосабам развіваў сваю мускулатуру. Найбольшых поспехаў у гэтым дамогся Слава Загароўскі. Калі ён у локці згінаў руку, яго мускулы станавіліся цвёрдымі, як камень. На турніку Слава падцягваўся чатырнаццаць разоў і на адной правай руцэ — пяць разоў. Ён далей за ўсіх кідаў гранату, хутчэй за ўсіх бегаў. Пад вадой Слава мог трымацца цэлых сто сем секунд.

Аднойчы, яшчэ ў час канікулаў, мы рашылі праверыць сваю вытрымку на голад. Слава нічога не еў чатыры дні. Ён піў толькі ваду. Усе астатнія вытрывалі без яды па два дні. Толькі Грыша Селязень пражыў без харчу ўсяго адзін дзень. Пад вечар ён не вытрываў і наеўся. Расказвалі, што Грыша ўвабраў усё тое, чаго не з’еў за дзень галадоўкі.

Калі гаварыць пра Грышу, то мы не былі ўпэўнены, што яго прымуць у ваеннае вучылішча. Ростам ён быў ніжэй за ўсіх, на турніку падцягваўся ўсяго два разы, ды і то яго туды падсаджвалі. Любая дзяўчына магла кінуць гранату далей за Грышу. І ўсё-такі Грыша Селязень не адступаў ад свайго намеру трапіць у ваеннае вучылішча. Ён шэсць разоў узапар прагледзеў кінакарціну «Если завтра война», лепш за другіх ведаў воінскія знакі на пятліцах і рукавах, вывучыў на памяць біяграфію Аляксандра Суворава.

Тады мы параілі Грышу паступаць у інтэнданцкае вучылішча. Нельга было ўсё ж адмаўляць яго вайсковых заслуг. А што датычыць фізічнай загартоўкі, то для інтэндантаў яна не так ужо і патрэбна. Сядзі сабе на складзе і лічы патроны. Грыша згадзіўся стаць інтэндантам. Ён ірваўся ў войска, і таму не адмаўляўся ні ад якой службы.

Адным словам, наш дзясяты клас, калі гаварыць аб яго мужчынскай частцы, быў амаль цалкам гераічны. Усе мы, хто рыхтаваўся ў ваенныя вучылішчы, здалі нормы на чатыры абаронныя значкі: ГПА, ГСА, ППХА, ЮВС, не прапускалі ніводнага ваеннага фільма і прагна чыталі ўсё, што паведамлялася пра баі на еўрапейскім кантыненце, у Лівійскай пустыні і на прасторах вялікага Кітая.

Наша захапленне вайсковай справай было невыпадковым. Мы цвёрда ведалі, што калі-небудзь капіталісты нападуць на нас, бо яны ж не хочуць перамогі сусветнай рэвалюцыі. І нашы хлопцы рыхтаваліся да абароны.

Вядома, была і другая прычына, чаму мы проста не маглі жыць без подзвігаў. Амаль кожны з нас падаў заяву на атрыманне пашпарта, і нас вось-вось павінны былі занесці ў спіскі для галасавання. Усе нашы хлопцы без выключэння завялі сабе прычоскі. Мы адпрасоўвалі сабе штаны і пільна сачылі за тым, каб была роўная складка. Мы іншы раз парушалі рэжым школьніка і пасля кінасеанса аставаліся на танцы. Нас пачыналі хваляваць зорныя майскія вечары, прыцішаны шэпт на лавачках у скверыку і задуменныя пераліва гармоніка дзенебудзь на ціхай вуліцы. Вось чаму нам больш за якую-небудзь другую падабалася песня «Любімы горад». У ёй спявалася пра вялікія подзвігі, аб якіх мы марылі, і пра вялікае каханне, якога мы чакалі як узнагароды за гэтыя подзвігі.

Што ж датычыць кахання, то ў нашым дзясятым класе па-сапраўднаму закаханы быў толькі Слава Загароўскі. Пра гэта ведалі не толькі вучні, але, мабыць, і настаўнікі. Толькі сам Слава ніколі не раскрываў свой сакрэт. Ён быў горды і зацяты, гэты Слава, і хлопцы ніколі да яго не прыставалі з роспытамі.

Яшчэ калі мы вучыліся ў дзявятым класе, да нас прыйшла новая вучаніца — Вераніка Хмялеўская. Бацьку яе, палкоўніка, паранілі на фінскай вайне, і ён прыехаў жыць у нашу ціхую Малінаўку. Вераніка была вельмі прыгожая. Такая прыгожая дзяўчына яшчэ не вучылася ў нашай школе. На яе можна было глядзець, не адрываючы вачэй, усе шэсць урокаў. Вераніка прыгожа хадзіла, прыгожа сядзела за партай, прыгожа размаўляла. У яе ўсё было прыгожае: смуглявы твар, пастава, сінія вочы, доўгая каса, смех — усё тое, што дадзена чалавеку ад нараджэння і чаго не купіш ні за якія грошы.

Калі гэта можна назваць закаханасцю, то ўсе нашы хлопцы не былі раўнадушныя да Веранікі. На перапынках мы дурэлі, бараліся, мераліся сілай. І ўсё гэта рабілі, мабыць, толькі для таго, каб звярнуць на сябе ўвагу Веранікі. Нават Валерый Самасад аднойчы цэлы дзень нешта даводзіў Вераніцы пра райскую птушку, якая жыве ў далёкай Інданезіі. Але дзяўчына не выказвала ні да кога асаблівай прыхільнасці. Яна размаўляла з усімі аднолькава: ветліва, прыязна, і болей нічога.

Зусім іншае хутка адчуў клас у адносінах Веранікі да Славы Загароўскага. Гэтых адносін мы доўга не маглі разгадаць.

Слава ні ў чым не ўступаў Вераніцы. Яму прырода таксама не пашкадавала ні прыгажосці, ні розуму, ні сілы. Ён законна лічыўся адным з першых у класе.

Нашы хлопцы не сумняваліся: любая дзяўчына з дзясятага класа дазволіла б сябе праводзіць дадому, каб з ёй пайшоў Слава. Да прыходу Веранікі самай прыгожай у класе лічылася Ліда Шашолка. Калі яшчэ ў дзявятым класе быў навагодні баль-маскарад, яна, надзеўшы маску цыганкі, цэлы вечар хадзіла ўслед за Славам і набівалася яму паваражыць. Ліда ў той вечар танцавала толькі з ім. Пасля хлопцы цішком перадавалі адзін аднаму атрыманыя ад дзяўчат звесткі, што Ліда нібыта прызначала Славу спатканне і што ён ад гэтага спаткання адмовіўся. Ліда нам не вельмі падабалася. Залішне ўжо яна задзірала нос. Таму на яе прыгажосць ніхто не звяртаў увагі: мы былі задаволены Славам, што ён не захацеў сябраваць з гэтай ганарыстай Лідай.

І вось прыйшла да нас Вераніка. Была ўжо апошняя чвэрць навучальнага года. Вераніка паявілася ў класе ў той дзень, калі мы павінны былі рашаць кантрольную па геаметрыі з прымяненнем трыганаметрыі. Задачы абяцалі нам цяжкія. На іх рашэнне адвялі цэлых два ўрокі. Нам было не да Веранікі ў гэты дзень.

Але іменна тады клас і зразумеў, што за дзяўчына прыйшла да нас. Калі настаўнік раздаваў нам праштампаваную паперу на чарнавікі і чыставікі, ён у нерашучасці спыніўся перад задняй партай, за якую села новенькая дзевяцікласніца.

— Вы ж прапусцілі цэлых два тыдні,— сказаў настаўнік.— Можаце цяпер не пісаць. У нас будзе яшчэ адна кантрольная, у самым канцы чвэрці.

Вераніка ўзяла лісткі, нічога не адказаўшы. У той дзень мы не звярталі ўвагі на новенькую. Хапала нам клопатаў і без яе. Вераніка напомніла дзявятаму класу аб сваім існаванні сама. Празвінеў званок з першага ўрока, але ніхто не падымаў галавы ад сваіх лісткоў. Задачы настаўнік сапраўды даў цяжкія. І вось у гэты момант з-за сваёй задняй парты паднялася Вераніка і падышла да стала. Яна паклала перад настаўнікам рашэнне, перапісанае начыста. Клас застыў у нямым чаканні. Настаўнік таксама не ведаў, што рабіць.

— Вы пасядзіце,— сказаў ён.— Я зараз праверу.

Вераніка пайшла на сваю заднюю парту. Клас нічога не рабіў. Усе пазіралі на настаўніка і чакалі, што ён скажа.

— Правільна! — узрадавана прамовіў нарэшце настаўнік.— Усё правільна. Цяпер я за вас не баюся.

Слава Загароўскі, які сядзеў на першай парце, моцна пачырванеў. Яшчэ не было выпадку, каб ён першы не рашыў задачы ці не напісаў укладання. Цяпер жа яго абагналі. І абагналі не тыя, з кім ён усё-такі мераўся сілай, а нейкая дзяўчынка, якой дагэтуль ніхто не ведаў.

У класе ў той дзень гаварылі толькі пра Вераніку. На ўроках хлопцы непрыкметна кідалі позіркі на заднюю парту, дзе сядзела новенькая. Выказваліся розныя здагадкі і меркаванні, якія, аднак, яшчэ болей заблытвалі справу. Нехта сказаў, што Вераніка другагодніца і таму так хутка рашыла задачу. Гэтая здагадка была абвергнута самімі дзяўчатамі. Яны ўжо ведалі пэўна, што Вераніка ніякая не другагодніца. Было выказана меркаванне, што Вераніка так добра ведае матэматыку таму, што вучылася ў ленінградскай школе. Ленінград — гэта ж не Малінаўка. Там і настаўнікі лепшыя, і патрабаванні большыя. Але і гэтая думка пераважнай большасцю галасоў была адхілена. Мы ведалі, што наша школа неблагая, бо ўсе, хто ездзіў паступаць у ленінградскія і маскоўскія інстытуты ці вучылішчы, яшчэ не правальваліся на экзаменах.

Найбольш верагоднае меркаванне выказаў Грыша Селязень. Ён заўсёды аб усім самым важным даведваўся першы. Пасля Грышавага паведамлення справа нібыта стала яснай, мы praніклiся яшчэ большай павагай да Веранікі.

— Бацька Веранікі палкоўнік-артылерыст,— дакладваў Грыша.— А ў артылерыі без матэматыкі ні кроку, гэта ж ясна. Вось ён і займаецца з дачкою матэматыкай.

Сапраўды, з Грышам можна было згадзіцца. Але мінуў тыдзень, і прыйшлося адкінуць гэтую апошнюю здагадку. Вераніка рабіла трыумфальнае шэсце па ўсіх навуках, якія выкладаліся ў дзявятым класе. Яе ўкладанне па рускай літаратуры зачытвалі перад усім класам. Яна першай зрабіла кантрольны пераклад з англійскай мовы. Ёй паставілі выдатныя адзнакі па фізіцы, хіміі, геаграфіі, чарчэнні.

— Зубрылка,— сказала аднойчы ў адрас Веранікі Ліда Шашолка.— Сядзіць дома і зубрыць дзень і ноч. Ведаю я такіх...

Лідзе хлопцы не далі дагаварыць. Болей за яе самую не зубрыў ніхто. Але ж гэта не дапамагала ёй стаць выдатніцай.

Пазней выявіліся і другія таленты Веранікі. Яна ўмела іграць на піяніна і добра спявала. Здала яна таксама нормы на ўсе абаронныя значкі. Кніг Вераніка перачытала столькі, што ёй можна было толькі зайздросціць.

— У прыродзе сустракаюцца выключныя экзэмпляры,— выказаўся аднойчы Валерый Самасад.— Ім дадзена болей, чым астатнім. Гэта можна наглядаць у царстве раслін, жывёл і таксама на людзях. Вераніка — багата адароны чалавечы тып...

— Сам ты тып,— абрэзалі Валерыя.— Раўняе жывёлу з чалавекам...

З таго часу і пачалося прытоенае, глыбока схаванае спаборніцтва паміж Славам Загароўскім і Веранікай. Слава, вядома, уступаў дзяўчыне. Ён не прачытаў столькі кніг, ён нават баяўся падыходзіць да школьнага піяніна, якое стаяла ў піянерскім пакоі. Калі Вераніка адказвала ўрок, ёю можна было заслухацца. Мала таго, што гаварыла яна выразна, правільна будуючы кожны сказ, у яе яшчэ быў надзвычай прыемны голас, і сама яна ў гэты час проста ззяла...

Слава таксама меў тысячу выдатных якасцей, якія маглі падабацца любой дзяўчыне. Ён быў самы смелы, самы разумны, самы моцны. Рэдка ж спалучаюцца ў адным чалавеку ўсе гэтыя адменныя якасці. Але Вераніка нібыта не заўважала Славы. Яна глядзела на яго, як і на ўсіх астатніх, і не аддавала яму ніякай перавагі перад другімі.

А далей пайшло яшчэ горш.

Аднойчы перад самымі экзаменамі Слава зрабіў выдатную стойку, якая назаўсёды запомнілася ўсім, хто тады вучыўся ў дзявятым класе. Ён стаў на рукі на першай парце і так прайшоў увесь рад, да самай апошняй парты. Хлопцы былі ў захапленні. Слава высока трымаў гонар тых, хто наважыў прысвяціць сваё жыццё высакароднай вайсковай справе.

Але Вераніка не толькі не ўхваліла гэтага ўчынку, а нават зняважыла Славу.

— Не вялікі гонар падняць ногі вышэй галавы,— сказала яна.— Збіраешся паступаць у цырк, то навошта скакаць па партах...

Горш абразіць было нельга. З гэтага часу пайшла ўжо адкрытая вайна Веранікі са Славам. Не праходзіла дня, каб яны не абмяняліся якімі-небудзь колкасцямі. Вераніка зневажала Славу як магла. Яна высмейвала кожны яго крок, кожнае яго слова. Слава не заставаўся даўжніком. Ён таксама не шкадаваў з'едлівых кепікаў у адрас Веранікі. Так яны закончылі дзявяты клас.

У дзясятым класе працягвалася тое ж самае. Вераніка не прызнавала за Славам ніякіх дадатных якасцей. Яна яго падкалвала яшчэ больш, чым раней. Хлопец плаціў дзяўчыне тым самым. Але дзесяцікласнікі паразумнелі. Хітрыя ад прыроды дзяўчаты хутка скемілі, што гэта вайна ідзе не так сабе. Здагадка паміж тым пакрысе пацвярджалася. Калі Славу намякалі, што ён нераўнадушны да Веранікі, то хлопец адразу мяняўся з твару. Ён чырванеў, гарачыўся, бянтэжыўся і гэтым самым выдаваў сябе з галавой. Ліда Шашолка проста ненавідзела Вераніку. Яна заўсёды станавілася на бок Славы ў яго паядынках з Веранікай, але гэтай падмогі Слава быццам не заўважаў.

Пасля аднаго выпадку мы пераканаліся, што і Вераніка нападае на Славу не проста так. На Кастрычніцкія святы ў школе быў наладжаны вечар. На яго прыйшлі не толькі вучні, але і выпускнікі школы, якія вучыліся цяпер у інстытутах. На вечары быў і свой школьны лейтэнант. Ён закончыў дзесяцігодку два гады назад і прыехаў у Малінаўку на пабыўку. Вераніка прыйшла на вечар у новай сукенцы, і з яе не спускалі вачэй ні студэнты, ні лейтэнант. Усе запрашалі Вераніку танцаваць. Але яна адмаўлялася. Яна сядзела ціхая і задуменная. Такой яе не бачылі ніколі.

Быў на вечары і Слава. Ён сеў побач з Лідай Шашолкай, і яны аб нечым доўга размаўлялі. Пасля пайшлі танцаваць. Ліда танцавала ўвесь час са Славам, здавалася, што ім абоім было вельмі весела.

Вераніка не даседзела да канца вечара. Яна знікла неяк ціха і непрыкметна. Ніхто не бачыў, калі яна пайшла...

Пасля гэтага Вераніка перамянілася. Яна стала нейкай строгай, задуменнай. На Славу яна болей не нападала. Яна проста старалася яго не заўважаць.

Пра тое, што паміж Славам і Веранікай нешта ёсць, цяпер ужо ведаў увесь наш клас. Толькі гэта былі дзіўныя, незразу-

мелыя адносіны. І Слава, і Вераніка пазбягалі адзін аднаго, ніколі паміж сабой не размаўлялі і не сустракаліся. З нашага дзясятага класа болей ніхто не быў закаханы, і мы з трывогай глядзелі на гэтых дваіх, якія так упарта таіліся адно ад другога.

Так прайшоў той апошні год нашага навучання ў школе. За гэты год мы ўсе пасур'ёзнелі і сталі трошачкі болей шанаваць адзін аднаго. Нам усім трэба было рабіць нейкі крок у невядомае жыццё, і гэта прыкметна зблізіла, з'яднала клас. Толькі Слава і Вераніка па-ранейшаму пазбягалі паміж сабою сустрэч і размоў.

Надыходзіў май, наш апошні школьны май. Усім класам мы згаварыліся пайсці ў лес па дзеразу. Гэты паход у лес мы прыдумалі не толькі для таго, каб нарваць лапак і ўпрыгожыць сваю школу, мы хацелі як-небудзь звесці Славу з Веранікай і пакінуць іх дзе-небудзь адных. Няхай бы яны нарэшце пamірыліся. Хопіць ім гуляць у хованкі...

Свой план мы здзейснілі. Мы зрабілі так, што Слава з Веранікай засталіся ўдваіх на адной дзялянцы. Яны проста не маглі не пагаварыць адно з другім. Мы радаваліся, што яны нарэшце паміж сабой аб усім дамовяцца.

Але ніякай добрай гаворкі паміж Славам і Веранікай, відаць, не адбылося. Слава выйшаў з лесу маўклівы і змрочны. Вераніку мы наогул не маглі дачакацца. Яе ў лесе не было...

Мы неслі ў школу дзеразу і размаўлялі аб усім пабочным. Адчувалі сябе ўсе няёмка. Каля рэчкі нас дагнала Вераніка. Яна была вясёлая, узбуджаная. Слава на дзяўчыну не глядзеў. Вераніка весялілася, а ён рабіўся ўсё больш змрочны...

З гэтага часу ўсё зноў пайшло па-ранейшаму. Вераніка пры ўсякім выпадку падкалвала Славу, высмейвала і пацяшалася з яго. Толькі Слава цяпер маўчаў. Нешта нібы звязала яму язык. Мы думалі, што гэтым незразумелым адносінам не будзе канца.

Але канец наступіў. Ён наступіў нават раней, чым яго чакалі. Наш дзясяты клас вытрымаў свае апошнія экзамены, і цяпер ішла падрыхтоўка да развітальнай урачыстасці. Вераніка, Слава і Валерый Самасад заслужылі атэстаты выдатнікаў, а ўсе астатнія — самыя звычайныя атэстаты. Гэтыя атэстаты нам павінны былі выдаць на школьным вечары. Мы, чатырнаццаць

хлопцаў, свайго намеру не змянілі. Мы збіраліся паступаць у ваенныя вучылішчы.

Але вечара ў той год не было. Атэстаты нам аддалі без ніякай урачыстасці. Пачалася вайна, напаў Гітлер.

Усіх хлопцаў на трэці дзень вайны выклікалі ў ваенкамат. Нам знялі машынкай прычоскі і ўсім шаснаццаці загадалі быць вечарам на станцыі. На станцыю прыйшлі праводзіць нас усе дзяўчаты дзясятага класа. Прыйшла і Вераніка. Яна стаяла ў купцы дзяўчат маўклівая і, здавалася, нават спалоханая. Дзяўчаты гаварылі, жадалі нам хуткай перамогі і звароту дамоў, а яна маўчала. У яе не было для нас ніякіх слоў.

Мы і на гэты раз здагадаліся, што трэба зрабіць. Мы трошкі адышліся ўбок з такім разлікам, каб Вераніка асталася адна са Славам Загароўскім. І яна асталася. Вераніка нешта гаварыла Славу, яна была ўсхваляваная і ад гэтага яшчэ болей прыгожая. Але нам было няёмка падслухоўваць чужую размову. Таму ніхто не ведаў, што сказала тады Вераніка Славу. Мы толькі бачылі, як яна папраўіла на штрыфелі Славінага пінжака значок «Юны варашылаўскі стралок».

Такой Вераніку мы запомнілі назаўсёды. Болей яе нам не прыйшлося пабачыць. Нас вярнулася з вайны толькі шасцёра, і ўсё ж мы не змаглі абараніць Веранікі. Яе расстралялі фашысты ў нашай Малінаўцы яшчэ ў сорак другім годзе за тое, што яна друкавала на машынцы лістоўкі. Расстралялі Вераніку каля самай рэчкі, у бярозавым гайку, там яна і пахавана. Мы, шасцёра, хто прайшоў вайну і застаўся жывы, помнім Вераніку. Але двое нашых, мабыць, не толькі помняць яе. У Малінаўку сяды-тады прыязджае Слава Загароўскі. Ён цяпер падпалкоўнік, і ў яго на скронях лёгкая сівізна. Слава жанаты, у яго двое дзяцей. Але на бераг нашай невялікай рэчкі, дзе пахавана Вераніка, ён прыходзіць заўсёды адзін. Ён падоўгу ходзіць там і пра нешта думае.

Прыходзіць на гэты бераг, калі прыязджае ў Малінаўку, і другі чалавек — Валерый Самасад. Ён цяпер дацэнт. Тады, у дзясятым класе, ніхто з нас не здагадваўся, што Валерый таксама кахаў Вераніку.

*1957*

# НА ВІШНЁВАЙ ВУЛІЦЫ

Нашы зноў адступалі. Прыколаты булаўкамі тонкі чорны шнурок, які адзначаў лінію фронту на нямецкай карце, зноў перасунуўся ва ўсходнім напрамку. Нашы здалі ўжо і Растоў, і Варонеж...

Карту немцы павесілі на сцяне клуба яшчэ ў сярэдзіне зімы. Яны, мабыць, спадзяваліся, што лінія фронту болей не кранецца з месца пасля ўсяго таго, што называлася ў іх зводках выроўніваннем пад Масквой. Гэтае выроўніванне болей за ўсё на свеце захапляла Сяргея і яго сяброў. Сяргей тады не раз спыняўся перад нямецкай картай, аддаючыся глыбокім стратэгічным разважанням. Калі б гэтыя разважанні як-небудзь дайшлі да вуха Гітлера або яго намесніка ў Бацькавічах каменданта Шпека, то Сяргею і яго сябрам прыйшлося б не соладка. Але ні Шпек, ні тым болей Гітлер не ведалі пра існаванне баявой і рашучай у сваіх планах групы ў вялікім раённым сяле Бацькавічы. Удары гэтай групы па нямецкай ваеннай машыне яшчэ толькі намячаліся, яны цесна звязваліся з наступленнем нашых, якое да вясны, па ўсіх разліках, павінна было дакаціцца і да Бацькавіч.

Стратэгічным планам Сяргея і яго сяброў не суджана было збыцца. Чорны шнурок нерухома застыў далёка ад Бацькавіч, якія нават не значыліся на нямецкай карце. Гэты шнурок вужакай абвіўся вакол Ленінграда і быў прыколаты не так ужо далёка ад Масквы.

Аднойчы шнурок сарваўся з булавак і навіс на верхнім сваім, прымацаваным кнопкай, канцы. У гэтым становішчы шнурка Бацькавічы апынуліся па той самы бок лініі фронту, што і Масква. Сяргей тады цэлы дзень жартаваў і пацяшаўся над немцамі, якія ў сябе пад носам не заўважылі новага скарачэння фронту.

Але цудаў на свеце не бывае. Хоць шнурок і вісеў па другі бок Бацькавічаў, але па сяле расхаджвалі жывыя фашысты. Яны высока трымалі свае галовы ў шапках з арламі і ва ўсю моц грукалі каванымі ботамі па дашчатым тратуары. Фашысты па ўсіх прыкметах не збіраліся ўцякаць з Бацькавіч.

Неяк перад вясной Сяргей пачуў нямецкую песеньку, словы якой яму няцяжка было разабраць, хоць яго веды ў школе па

нямецкай мове былі не надта ўжо грунтоўнымі. Вясёлы немец-салдат іграў на губным гармоніку і, падміргваючы дзяўчатам, што сабраліся ў клубе, спяваў:

Алес гэйт фарюбэр, алес гэйт фарбай,
Вір лаўфэн ім дэцэмбар, ды русэн ім май...

Сяргею падабалася, што салдат у сваёй песеньцы глядзіць на скарачэнне фронту пад Масквой трохі прасцей, чым тыя генералы, што складаюць зводкі. Ён такі прызнае, што немцы далі добрага драла з-пад Масквы. А наконт таго, што да немцаў вернецца поспех у маі, то бабка, як кажуць, на двое гадала...

Прыйшла вясна, а за ёй і лета. Свяціла сонца, але ніякай радасці на свеце не было. Цёплыя, ясныя дні нібы пацвярджалі словы песенькі, што спяваў нямецкі салдат. Нашы зноў адступалі...

Летась, калі не было яшчэ ні карты з чорным шнурком, ні немцаў у Бацькавічах, Сяргей зусім па-другому глядзеў на свет. Якраз у гэтую вясну ён павінен быў канчаць дзесяцігодку, і жыццё, здавалася, раскрывала перад ім свае прывабныя далі. Яно вельмі шмат чаго абяцала на парозе сямнаццатай вясны. Патаемна Сяргей не раз ужо думаў пра той момант, перанесены ў прывабную далеч будучыні, калі злезе ён з поезда ў сваіх Бацькавічах, прывёзшы ў роднае сяло справаздачу аб сваіх перамогах у вялікім свеце. На яго будуць з павагай пазіраць аднавяскоўцы, будуць вітацца з ім за руку. А вечарам яго сустрэне яна, без каторай гэтыя поспехі стануць бляднымі і нецікавымі. Ёй першай ён зробіць самую шчырую справаздачу аб сваіх перамогах і сваіх планах.

Дзяўчына ўвайшла ў Сяргеева жыццё мінулай вясной, якая так шмат чаго абяцала. Звалі яе Жэняй, і вучылася яна на адзін клас ніжэй за Сяргея. У Жэні былі вясёлыя сінія вочы, светлыя косы і гнуткая, павабная постаць. Болей нічога пра Жэню Сяргей сказаць не мог, ды болей нічога не варта было і гаварыць.

У школе Сяргей рэдагаваў насценную газету. Аднойчы яму падалі заметку, у якой паведамлялася аб тым, што Жэня прапускае ўрокі фізкультуры. Ён, як рэдактар, прыкідваў ужо, якую пад заметкай намаляваць карыкатуру. Калі рыхтавалі выпуск насценгазеты, да Сяргея падышла Жэня. Яна аднекуль

даведалася пра заметку і ціхім, вінаватым голасам папрасіла яе не змяшчаць. Сяргей чамусьці разгубіўся і паабяцаў праверыць факты. Фактаў ён не правяраў, бо назаўтра атрымаў ад Жэні запіску. Яна дзякавала яму за тое, што заметка не паявілася ў насценгазеце, і прасіла даць ёй пачытаць якуюнебудзь цікавую кнігу. Кнігу Сяргей дзяўчыне прынёс, і ў ёй ляжала ўжо яго запіска. Так ён упершыню здрадзіў свайму рэдактарскаму абавязку.

Сябрам сваім Сяргей не сказаў пра Жэню ні слова... А пасля гэтага было многа запісак. Некаторыя былі нават напісаны чырвоным чарнілам. Спатканне ж было толькі адно, і, можа, таму яно запомнілася да самых малюткіх дробязей. Вечарам таго дня, калі здавалі апошні экзамен, Сяргей асмеліўся адбіцца ад талакі хлопцаў, якія шпацыравалі па дашчаным тратуары, і прыблізіўся да дзяўчат, сярод якіх была і Жэня. Хітрыя ад прыроды дзяўчаты, у адрозненне ад Сяргеевых сяброў, адразу скемілі, чаго хоча Сяргей. Для прыліку яны шчабяталі аб кнігах і экзаменах і непрыкметна падвялі хлопца да вуліцы, дзе не было ліхтароў, але затое было вельмі шмат лавачак пад белымі ад квецені вішнямі.

Сяргей застаўся са сваёй дзяўчынай адзін на адзін. Гэта быў той момант, да якога хлопец у думках даўно рыхтаваўся, і, мабыць, як гэта часцей за ўсё здараецца ў жыцці, аказаўся зусім не падрыхтаваным. Сяргей абмяняўся з дзяўчынай думкамі наконт надвор’я, і на гэтым пункце размова мусіла прыпыніцца. У роце ў Сяргея перасохла, голас зрываўся, сэрца тахкала так моцна, нібы хлопец толькі што адолеў высокую гару. На сённяшнім апошнім экзамене Сяргей хваляваўся ў сто раз меней, чым тут, на лавачцы пад вішнямі, дзе не было ніякіх экзаменатараў.

Выручыла радыё. А палове дванаццатай сталі перадаваць апошнія паведамленні, і голас дыктара выразна далятаў уначы да вішнёвай вуліцы. Па радыё перадавалі нямецкае абвяржэнне, у якім катэгарычна сцвярджалася, што на савецкай граніцы не групуюцца ніякія германскія войскі.

Гэтае паведамленне было паратункам для Сяргея. Ён пачаў развіваць свае погляды наконт міжнароднага становішча, даводзіць дзяўчыне, што нашай моцы немцы баяцца і ніколі не адважацца напасці на нас. Жэня, мабыць, не чытала штотыд-

нёвых ваенных аглядаў у часопісе «Огонёк» і таму маўкліва слухала. Высокія пытанні міжнароднай палітыкі занялі тады большую палавіну гэтай незабыўнай майскай ночы.

Але ў каханні важна якраз не тое, пра што гаворыцца,— куды важней другое: як гэта ўсё гаворыцца. Дзяўчына, мабыць, адчула ў Сяргеевым голасе не толькі глыбокае перакананне чалавека, які разбіраецца ў палітыцы, але і нешта другое, болей важнае для яе, бо даверліва прытулілася да хлопца.

Гэты трапяткі, даверлівы дотык пляча дзяўчыны прымусіў Сяргея перайсці з пытанняў міжнародных адносін да пытання, якое болей за ўсё хвалявала і яго самога — іх адносін з Жэняй.

Сяргей прызнаўся ў той вечар у каханні, хоць пра яго пачуццё дзяўчына, напэўна, ведала і раней. Яна ўспрыняла яго словы з прыкметнай радасцю, але сама маўчала. Тады Сяргей патрабаваў адказу і ў яе. Яна таксама мусіла прызнацца...

Ужо світала, калі Сяргей адважыўся пацалаваць Жэню.

Тыдняў праз тры пасля гэтага спаткання пачалася вайна. З таго вечара, праведзенага з Жэняй на вішнёвай вуліцы, Сяргей болей не бачыў сваёй дзяўчыны. Яна жыла ў другой вёсцы, дзе не было дзесяцігодкі, і пайшла дамоў у тую ж раніцу, якую яны сустрэлі разам.

У пачатку вайны Сяргей быў цвёрда перакананы, што нашы самае большае праз тры месяцы скруцяць фашыстам рогі. Выйшла інакш. На другім месяцы вайна падкацілася да Бацькавіч, і Сяргей разам са сваімі сябрамі наважыў рушыць у эвакуацыю. Яны такі і рушылі, мужна перанёсшы слёзы і нязгоду сваіх матак. Па Сяргеевых звестках, Жэня, дачка агранома, таксама падалася ў глыбінныя раёны.

Але адысці далёка ад родных Бацькавіч Сяргей са сваімі сябрамі не паспеў. Калі хлопцы з поўнымі сухароў і кніг торбамі падышлі да Дняпра, недзе за ракою ўжо самкнуліся нямецкія танкавыя кліны. Пераправа праз Дняпро была разбурана, а «юнкерсы» і «месершміты» бамбілі ўжо далёка наперадзе.

У ляску прыдняпроўскай вёсачкі хлопцы знішчылі дакументы, якія, на іх думку, маглі выдаць фашыстам ваенную і дзяржаўную тайны. Былі спалены пасведчанні на значкі ПВХО, ГТО, ЮВС, ГСО, білеты Мопра і Саюза ваяўнічых бязбожнікаў. Толькі камсамольскія білеты хлопцы панеслі

з сабой назад у Бацькавічы, схаваўшы іх пад узадраныя сцелькі чаравікаў.

Сяргей успамінаў Жэню. Гэты ўспамін заўсёды нёс з сабою лёгкі смутак па той незабыўнай сустрэчы на вішнёвай вуліцы.

Перад вясной ужо Сяргей даведаўся, што Жэня ні ў які тыл выехаць не змагла. Яна жыла, выходзіць, увесь час побач з ім, за якіх-небудзь дванаццаць кіламетраў. Калі Сяргей думаў пра вайну, пра свой удзел у змаганні, у яго вачах нязменна паўставаў вобраз Жэні. Ён бачыў сваю дзяўчыну ў ролі санітаркі, якая перавязвае яго, параненага і скрываўленага, маляваў сябе ў якасці партызанскага разведчыка, які прыходзіць у Жэніну вёску, а яна, патаемна ад сваіх родных і блізкіх, перадае яму патрэбныя звесткі. Сяргей адчуваў, што ў яго нібы вырастаюць крыллі, што ён дужы, смелы і вынаходлівы...

У гэтыя дні да Сяргея прыйшла рашучасць. Немцы к лету адрамантавалі чыгунку, і цяпер па нашых жа рэйках ляцелі на ўсход нямецкія вайсковыя эшалоны. Глядзець на гэта было балюча і крыўдна. У Бацькавічах на адкрытыя платформы грузілі калёсы, якія вырабляліся з нашага ж дрэва ў былой леспрамгасаўскай майстэрні. Гэтая майстэрня стаяла на самым водшыбе сяла, і ахоўваў яе ўсяго адзін паліцэйскі.

Аднойчы ў ціхі майскі вечар Сяргей цвёрда заявіў сябрам, што не мае намеру сядзець склаўшы рукі. Ён заклікаў хлопцаў уключыцца ў вайну з фашызмам неадкладна, з тым разлікам, каб сеяць сярод фашыстаў паніку, зрываць іх вайсковыя падрыхтаванні. Сябры згадзіліся, што настаў час дзейнічаць.

Тады і спалілі майстэрню, дзе вырабляліся калёсы для немцаў. У тую ноч, калі палілі майстэрню, Сяргей паверыў самому сабе, што ён умее не баяцца. Гэта было вельмі важнае пачуццё — не баяцца смерці.

Услед за радасцю першай перамогі прыйшло і засмучэнне. У Бацькавічы час ад часу прыходзілі звесткі пра скінутыя пад адхон нямецкія эшалоны пад Пціччу, Рэчыцай, Гомелем, пра разгромленыя нямецкія атрады. У Бацькавічах пасля спаленай майстэрні не было болей ніякай вайны супраць фашызму. Камендант Шпек па гэтай прычыне, мабыць, радаваўся. Яму, можа, сам Гітлер аб'явіў падзяку за гэты парадак і спакой. Усе тыя дні Сяргей хадзіў сумны і прыгнечаны. У групе была толькі

адна вінтоўка, адзін абрэз і чатырнаццаць патронаў. З такой зброяй не наваюеш. Сувязь з партызанамі, якая наладзілася ў пачатку вясны, зноў парвалася.

У гэты час якраз і наважыў Сяргей схадзіць у Жэніну вёску. Мінулым летам каля яе праходзіла наша абарона, і ў акопах мусіла застацца якая-небудзь зброя.

Сяргей цэлы дзень вандраваў па лесе і толькі пад вечар знайшоў дзве лімонкі. Гэта была добрая знаходка, і дзеля яе варта было яшчэ раз прыйсці ў гэты лес, дзе, можа, калі-небудзь хадзіла і Жэня. А вечарам, схаваўшы ў лесе гранаты, Сяргей прыйшоў у Жэніну вёску. Ён распытаў, дзе знаходзіцца яе дом, і сеў на лавачку каля веснічак. Хлопец чамусьці верыў, што Жэня павінна адчуць, хто яе чакае, і выйсці да яго. Ён чакаў можа цэлую гадзіну і дачакаўся сваёй дзяўчыны. На зямлю ўжо спусціўся ціхі летні вечар, калі, нячутна адчыніўшы веснічкі, на вуліцу выйшла Жэня. Хлопец яе адразу пазнаў і паклікаў да сябе.

— Сяргей! — працяжна прамовіла Жэня.— Як ты да нас трапіў?

Хлопец не ведаў, што адказаць. Ён толькі глядзеў на яе твар, на яе стройную постаць, слухаў яе пяшчотны, пералівісты голас.

Яны селі на лавачку. Над лавачкай, як і там, у Бацькавічах, была вішнёвая навісь, з неба пазіралі на зямлю тысячы зорак, недзе, аж пад самым лесам, званілі начэпленымі на шыі званкамі коні. Сяргей нешта расказваў, і яму было добра і лёгка на душы. На другім канцы вуліцы раптам зайграў гармонік, і дзяўчына ўстрапянулася, нібы спалоханая птушка.

— У нас вечарынка сёння, Сяргей,— паведаміла яна.— Сумна ў нас, паліцэйскім самагонку носім, каб дазволілі патанцаваць...

— Я цябе нікуды не пушчу, Жэня.— Хлопец лёгка прытуліў дзяўчыну да сябе.

Яна не супраціўлялася, і, абняўшыся, яны прасядзелі, можа, большую палавіну гэтай ночы. Побач была Жэня, і Сяргею цяпер усё ўяўлялася лёгкім, ясным і нястрашным. У палове ночы ў небе пачулася ледзь улоўнае роўнае гудзенне самалёта. Самалёт ішоў, здаецца, пад самымі зоркамі, яго агнёў не было відаць.

— Наш самалёт,— сказаў Сяргей з радасцю ў голасе.— У нямецкіх зусім другі гул матора...

— Мяне дома чакаюць, Сяргей,— падхапілася Жэня.— А дзе ж ты будзеш начаваць?

— У вас на сене,— сказаў Сяргей.— Ты мне чым-небудзь накрыцца вынесеш...

Яна вынесла яму кубак малака, і ён спаў, накрыўшыся Жэніным старым паліто...

Жэня пасля гэтага спаткання стала яшчэ больш блізкай і роднай. У Сяргеевай душы было такое адчуванне, што ён ведае яе даўно-даўно. Яна сказала, што прыйдзе ў Бацькавічы, і Сяргей чакаў гэтай сустрэчы.

Справы групы пайшлі лепш. Сяргей пасля спаткання з Жэняй хадзіў на сувязь з партызанамі, гэтая сувязь цяпер стала больш трывалай... А на фронце нашы адступалі. Баі цяпер ішлі недзе аж за Донам. Нямецкім зводкам верыць не хацелася, і Сяргеевы сябры падаліся аж у суседні раён, дзе надзейны чалавек меўся дастаць лямпы для радыёпрыёмніка. Сяргей застаўся адзін. Яму было трывожна і маркотна.

У той дзень, калі прыйшла Жэня, на бацькавіцкіх парканах паявіліся афішы, у якіх паведамлялася, што ў мясцовым клубе выступяць артысты. Артысты мусілі прыехаць з горада, каб за нямецкія грошы рабіць прадстаўленне, і таму Сяргей ужо загадзя думаў пра іх зняважліва. Ён наважыў у клуб не ісці. Нічога добрага там не магло быць, паколькі гэтае прадстаўленне дазволілі немцы.

Сяргей сустрэў сваю дзяўчыну гэтак жа, як летась,— на тым жа дашчаным тратуары, у такім жа, як і тады, акружэнні дзяўчат. Яна адышлася ўбок і прапанавала Сяргею схадзіць на вішнёвую вуліцу. Яна сказала «на нашую вуліцу», і хлопец адчуў, як нейкая вялікая, гарачая хваля напоўніла ўсю яго душу, паглынула ўсе іншыя жаданні, апрача жадання быць побач з ёй, глядзець ёй у твар, адчуваць дотык яе лёгкай рукі. Ён хацеў бачыць сваю дзяўчыну толькі такой, як у тыя папярэднія два спатканні. І вось яна ідзе побач з ім — ціхая, задуменная, блізкая. Яна стала яшчэ прыгажэйшай, яго дзяўчына...

Яны селі на тую лавачку, і Сяргей забыў пра ўсё на свеце. Не было цяпер ні вайны, ні немцаў у Бацькавічах, ні спаленай майстэрні, ні сяброў, якія недзе вандравалі. Была адна толькі

Жэня, якая даверліва прытулілася да Сяргеевага пляча, якая таксама ніколі не забывала яго. Вішнёвая вуліца жыла сваімі прывабнымі вячэрнімі шорахамі, і гэтыя шорахі гучалі, як неразгаданая цудоўная музыка жыцця.

Раптам крокаў за паўсотню ад лавачкі бліснулі агеньчыкі кішэнных ліхтарыкаў, і Сяргей зразумеў — ідзе нямецкі патруль. У тую ж хвіліну дзяўчына схапіла яго за руку і амаль сілком пацягнула ў чужы, незнаёмы двор. Затаіўшыся за вішнямі, яны чакалі, пакуль пройдзе патруль.

— Прысядзь,— шэптам сказала Жэня.— А то ўбачаць...

Патруль слізгануў ліхтарыкам па вішнях і пайшоў далей.

— Давай будзем сядзець на прызбе,— прапанавала Жэня.— У двары немцы не ўбачаць. Абрыдзела гэтая вайна. Хутчэй бы які-небудзь канец.

Сяргей адчуў, як моцна ўкалолі яго гэтыя простыя і даверліва сказаныя словы. А Жэня скардзілася на тое, што немцы нічога не прывозяць, што нельга нават дастаць грабянца, што на нямецкія маркі нічога не купіш...

Сяргей слухаў і, здаецца, не даходзіў да сэнсу ўсяго таго, пра што расказвала дзяўчына. На душы ў яго была нейкая прыкрасць. А Жэня сядзела, блізка прытуліўшыся да хлопца. Яна жадала свайго маленькага шчасця, няхай украдзенага на гэтай прызбе ў пільнага нямецкага патруля. Яна не спытала, як там на фронце. Для яе, мабыць, ён, Сяргей, аднолькавы — спалілі б ці не спалілі яны з хлопцамі тую нямецкую майстэрню. Можа б, яна сёння сюды і не прыйшла, каб ведала, што ён робіць такія рэчы.

Прывабнасць ночы некуды знікла, хоць побач з Сяргеем і сядзела Жэня. Ён адчуваў сябе дужэйшым, і ад гэтага яму было проста шкада дзяўчыны.

Сяргей павёў гаворку пра фронт, пра тое, што нашы абавязкова вернуцца. Ён не ўтрымаўся і намякнуў, што хутка і ў Бацькавічах немцам стане не соладка. Жэня не перабіла яго ніводным словам. Толькі мінулагодняя гаворка пачалася з палітыкі і закончылася словамі пра каханне, а цяпер усё атрымлівалася якраз наадварот...

Ужо зусім развіднела, і цяпер можна было, не зважаючы на нямецкі патруль, шыбаваць дадому. Сяргей правёў дзяўчыну да яе леташняй кватэры.

— Ты ж прыйдзеш заўтра ў клуб? — нясмела спытала Жэня.— Да вас артысты прыязджаюць, а ў нас сумна — адны вячоркі...

Прыйсці ў клуб Сяргей паабяцаў...

Назаўтра па ўсіх Бацькавічах разнеслася сумная вестка. На золаку нашы скінулі парашутны дэсант каля вёскі Глушаўкі. Нейкі сквалыга, які вадзіў каня на начлег, паквапіўся на дабро дэсантнікаў. Ён зацягнуў у свой двор скінуты з самалёта мяшок з харчовым прыпасам. З-за гэтага мяшка і загарэўся сырбор. Мясцовы паліцэйскі заўважыў у зубах таго тарбахвата савецкую папяросу і, прыціснуўшы яго, дазнаўся пра месца, дзе знаходзяцца дэсантнікі. Праз якую-небудзь гадзіну лагер дэсантнікаў быў акружаны. Траіх дэсантнікаў фашысты забілі, а траіх узялі ў палон. Іх павінны былі вось-вось прывезці ў Бацькавічы...

Гэтая вестка балюча ўразіла Сяргея. Яму здавалася, што сам ён кругом вінават. У тую ноч, калі людзі садзіліся на самалёт, можа, у самой Маскве, каб ляцець у незнаёмы ім край, ён, тутэйшы жыхар, цэлую ноч балбатаў з дзяўчынай пра нявeдама што.

З поўдня Сяргей блукаў ля камендатуры — сюды павінны былі прывезці дэсантнікаў. І ён убачыў іх — двух рослых хлопцаў і дзяўчыну. У аднаго хлопца была перабіта рука, яна трымалася на марлевай прывязі, перакінутай праз шыю. Усе трое крочылі з горда ўзнятымі галовамі. Каб не было канвою, то можна б было падумаць, што гэтыя трое проста выйшлі на шпацыр. Дык вось якія яны — людзі, што, можа, яшчэ ўчора хадзілі па вуліцах Масквы. Як блізка Масква, калі ляцець з яе на самалёце, і як далёка яна, каб прайсці праз палі, лясы і рэкі, што аддзяляюць сталіцу ад Бацькавіч, і вызваліць вось гэтых вязняў...

Захопленых дэсантнікаў замкнулі ў школе. Сяргей ведаў — памяшканне іхняга дзявятага класа немцы пераабсталявалі пад турму. На вокнах там цяпер краты, а за гэтымі кратамі трое тых, што скінуліся з неба на Бацькавіцкую зямлю. З пустой душой пайшоў Сяргей у клуб. У яго сэрцы акрамя безвыходнага, як цяжкі камень, суму не было болей ніякіх жаданняў. Сябры яшчэ не прыйшлі — не было з кім параіцца. Пра Жэню Сяргей амаль не думаў — з учарашняй ночы яна стала ней-

кай звычайнай, маленькай, якую хацелася толькі пагладзіць па галаве.

Ён прывітаўся з дзяўчынай і расказаў ёй пра захопленых дэсантнікаў. Твар у Жэні спахмурнеў, але яна нічога не адказала. Паднялі заслону, і на сцэну выскачыў нейкі размаляваны клоўн. Немцы, якія сядзелі на першых лаўках, запляскалі ў далоні. Клоўн падскокваў на сцэне, выпрабляў розныя мартаплясы — на яго было агідна глядзець. Сяргей збоку зірнуў на Жэню — на яе вуснах свяцілася ўсмешка, а вочы ззялі задавальненнем і цікавасцю. Хлопец крануў дзяўчыну за руку, даючы знак, што збіраецца выйсці.

— Куды ты? — спалохана спытала Жэня. Яна пазірала на Сяргея з замяшаннем і трывогай.

— Не хачу я сядзець тут,— ціха прамовіў Сяргей і, прыгнуўшыся, падаўся да выхаду.

Думка прыйшла ўжо на вуліцы — ясная і халодная, як лязо сякеры. Недалёка ад клуба, па другі бок вуліцы, стаяла каменная будка, дзе грукаў рухавічок, прыстасаваны для электраасвятлення нямецкіх будынкаў. Сяргей успомніў пра дзве гранаты, захаванне якіх было на яго адказнасці. Кінуць адну з іх у акно каменнай будкі, каб пашкодзіць рухавічок, было зусім лёгка...

Сяргей не помніў, як бег да гумна наводшыбе Бацькавіч, дзе ў падстрэшшы былі схаваны лімонкі, як вяртаўся назад, да будкі. Ён баяўся толькі спазніцца. Каля будкі хлопец дзейнічаў размерана і ўпэўнена. Ён выбраў момант, калі з будкі выйшаў механік, і, прыўзняўшыся, шпурнуў у акно гранату... Грымнуў выбух, а ўслед за гэтым ва ўсіх нямецкіх будынках патухла святло. Яно патухла ў тым школьным пакоі, дзе сядзелі злоўленыя дэсантнікі, і ў клубе, дзе скакаў на сцэне размаляваны клоўн. Сяргей, прыгнуўшыся, бег ваколіцай — яму ўжо нічога не пагражала. Ён думаў пра трох палонных дэсантнікаў, якім у гэтую хвіліну, мабыць, стала весялей на сэрцы. Яшчэ мільганула думка пра тое, што яго ўчынак адобраць сябры, бо ўсё-такі спакойнага сну ў фашыстаў гэтай ноччу не будзе...

*1957*

# ПІЛІПКА

Сонца к восені робіцца меншым, таму і не смаліць гэтак нясцерпна. Піліпка для сябе гэтую справу даўно ўжо і канчаткова вырашыў. Тут тое самае, што і са звычайным агнём, бо сонца ж таксама агонь. Падсунешся да самага вогнішча, дык можна і штаны спаліць, а воддаля сядзіш сабе, як пан, і нічога. Вось толькі не зусім ясна, як паводзіць сябе сонца зімой. Яно, мабыць, уцякае ад зямлі, а зямля яго даганяе. Але ж зямля яшчэ і круціцца вакол сваёй восі. Піліпка гэта добра ведае, Галіна Рыгораўна гаварыла ж у школе. Інакш не было б дня і ночы.

Зімой, мабыць, зямля гэтак жа даганяе сонца, як Піліпка карову Коўбу, калі яна ўнадзіцца ў канюшыну. Калі проста пабяжыш за Коўбай, не дагоніш век, яна толькі ўсю траву збэрсае. Трэба бегчы напярэймы, даўшы добрага крука...

Піліпка больш за ўсё на свеце не любіць двух жывых стварэнняў — карову Коўбу і свайго вотчыма. З Коўбай набярэшся гора на пашы, а з гэтым дурным вотчымам — дома.

Колькі Піліпка папрапорваў адзежы і папраколваў ног, бегаючы за крыварогай, ненажэрнай Коўбай. Усе каровы як каровы, а Коўбе заўсёды мала. Гоніш тавар паўз агароды, глядзіш, Коўба ўжо ў бураках, хаўпе на поўны рот бурачнік. Воз сена вязуць, то хоць жмак, а схопіць. Аднойчы Коўба адбілася ад чарады, і Піліпка цэлую ноч шукаў яе, аблазіў усё поле, бегаў у лесе па ламаччы. «Каб цябе ваўкі з’елі,— з нянавісцю думаў Піліпка пра Коўбу.— Можа б, спала тады ліха з маёй галавы!»

Але як жа, так і з’ядуць Коўбу ваўкі! Хутчэй яна іх паесць. Пад раніцу ўжо знайшоў Піліпка ненавісную карову. Коўба ўскочыла ў сіласную яму і цэлую ноч жэрла кукурузныя кіяхі. Прыйшлося яе адтуль выцягваць на вяроўках. З Піліпкі за гэта цэлых пяць працадзён спісаў брыгадзір.

Коўба — жывёліна, розуму не мае, што з яе возьмеш. А вотчым жа Піліпкаў усё-такі чалавек. Але горш за звера. Кіпіць і кіпіць, век яму не ўгодзіш. І навошта толькі маці ўзяла яго да іх у хату. Ведама, жанчына...

Піліпка ўжо не малы, адзінаццаць год яму. Летась запрацаваў сто працадзён, а сёлета ўжо ёсць сто дванаццаць. Да школы

яшчэ восем працадзён набяжыць, будзе сто дваццаць. А можна трохі і прыпазніцца ў школу. Летась жа прыйшоў у школу Пiлiпка, калі складанне простых дробаў канчалі ўжо, і нічога, дагнаў. Галіна Рыгораўна нават кніжку пра Гулівера і ліліпутаў падаравала яму гэтай вясной за добрую вучобу. На кніжцы і пячатка школьная.

Праўда, летась малавата далі на Піліпкавы працадні. Шэсць пудоў, паўтара мяшка прывёз Піліпка дадому. А сёлета будзе болей. Летась жа ўсяго дзве вялікіх сцірты збожжа на полі было, а сёлета цэлых чатыры. Толькі адну сцірту змалацілі, а колькі папавазілі хлеба...

Піліпка думае пра тое, што яны б вельмі добра жылі, каб не было гэтага вотчыма. Зосі ўжо восем гадоў, глядзела б Ніну. Маці ж працуе ого як, у яе нават грамата з раёна вісіць пад шклом. А што ён прынёс ім у хату, гэты вотчым? Толькі свае бліскучыя хромавыя боты ды сіні пінжак з меднымі гузікамі. І каб хоць чалавек быў, а то нейкі дарожны рамонтнік. Як жа, рамантуе ён тыя дарогі. Пойдзе дождж, дык машыне не праехаць. Стаіць сабе цэлы дзень каля лаўкі, а то спіць, абкасіўшы дарогу, на траве. Адзін раз Піліпка ледзь не растаптаў яго сваёй чарадой соннага. Растаптаў бы, і нічога яму не зрабілі б. Не спі пад нагамі...

Піліпка шкадуе сваю маці. Ведама, жанчына, хоць і грамату ёй далі ў раёне. Навошта гэтага вотчыма было браць? Каб яна спыталася ў Піліпкі, то ён бы ёй ніколі не дазволіў. А цяпер позна ўжо — на стары крук павесілі зноў калыску. Дзіця такое ж крыклівае, як і вотчым. Толькі тое і рабі, што вісі над калыскай.

Піліпка, канешне, пракорміць і маці, і Зосю з Нінай. Сто дваццаць працадзён у яго будзе, сама меней. Няхай сабе па два кілаграмы дадуць — то колькі ж будзе хлеба! А гэты гад печаны, хіба ж прынясе ён у хату калі-небудзь капейку? Ён тое жалаванне даўно ўжо наперад прапіў. Ён толькі ад іх цягне, каб яму кішкі выцягла. Іхняе есць ды яшчэ крычыць на Піліпку, нібы ён у хаце гаспадар.

І чаго толькі маўчыць маці. Плача, а маўчыць. Слова яму баіцца сказаць насуперак. Усё ўлагоджвае яго, усё лесціць. Улагодзіш такога ірада, а як жа. Ён ужо калі табе ўссеў на шыю, то і не злезе. Каб маці хоць слова прамовіла, то і Піліпка

са свайго боку не маўчаў бы. Ён бы яму даказаў, ён бы ўсё ўспомніў...

Піліпка не забыў таго дня, калі ў плоце завісла іхняя рабая свінка. Ён жа сам парасяткам прынёс яе ад цёткі, з самых Выселак нёс у мяшку. І свінка ж была такая добрая, ядучая. Колькі Піліпка папанасіў ёй травы і ўсялякіх прысмакаў! Як бабоўнік ірваў у алешніку, то яго ледзь гадзюка не ўкусіла за нагу...

Тут, канешне, ніхто не вінаваты, што свінка задавілася. Дык мей жа ты сумленне... Прывёў кульгавага Амельку і яшчэ нейкага тарбахвата, набралі гарэлкі і з'елі самі ўсю свінку да вечара. Толькі і паспытаў Піліпка халадцу, што наварыла маці з галавізны...

Хлопец успамінае ўсе крыўды, якія зрабіў яму вотчым. З першага дня, як прыйшоў ён да іх у хату, Піліпку стала ліха. Хоць ты на вочы яму не паказвайся. То чаго ты масніцаю скрыпіш, то не ляскай гэтак клямкаю, то чаго твае ногі смярдзяць. Адзін раз такога даў штурхаля, што Піліпка ледзь аддыхаўся. Ён цэлую ноч праплакаў тады. Маці таксама часта плача, стала нейкая кволая, слабая, як асенняя муха. Жыў бы на свеце бацька, то было б не так...

Піліпка добра памятае свайго бацьку і ганарыцца ім. У бацькі быў ордэн і цэлых тры медалі. Ён быў у партызанах, а пасля аж два гады на вайне, і два разы яго там паранілі. А як прыйшоў з вайны, працаваў брыгадзірам. Ён памёр якраз у той год, як нарадзілася Нінка. Бацька ніколі не біў Піліпку. У яго было розуму, можа, у сто разоў больш, чым у гэтага... Гэты ж, канешне, не быў ні на вайне, ні ў партызанах, а таму і здаровы, бы конь. Нап'ецца гарэлкі і спіць сабе...

Сёння Піліпку ўвесь дзень папсаваў гэты дурны вотчым. Можа, ён і Алеся праз яго дарэмна пакрыўдзіў. Але нічога, Алесь хлопец харошы, тым болей што яны памірыліся ўжо. Алесь прынясе гнілак, і ён можа яшчэ раз сказаць яму, што ножык у яго добры, не горшы за Піліпкаў. Сёння на світанні Піліпка зайшоў у хату, каб паснедаць і ўзяць торбачку з полуднем. У хаце ён цяпер не спіць, хай яго сарочка не чапае, гэтага дурня. Ён змайстраваў сабе пасцель на вышках, у хляве, і яму яшчэ лепш, як у хаце. Толькі пачаў Піліпка снедаць, а гэты дурніла як падскочыць:

— Чаго ты плямкаеш ротам, як тая свіння? Есці хоць навучыся акуратна...

Піліпка кінуў тую яду, згарыць няхай ён з ёю. Ён сабе і бульбы напячэ, і наесца без гэтага акуратнага. Маці не вытрымала, выскачыла ўслед за Піліпкам, туліцца да яго, плача:

— Не крыўдуй на яго, Піліпка. Ён такі нервены стаў...

Ведама, жанчына. Нервены... Гэтага нервенага даўбнёй не заб'еш...

Можа б, Піліпка і забыў пра сённяшнюю сварку, каб не Алесь. Алесь прынёс ножык — новенькі складанчык, такія Піліпка нядаўна бачыў у іхняй лаўцы.

— Во,— кажа,— ножык, не раўня твайму шчарбатаму. За яго я сем рублёў і дваццаць капеек заплаціў.

Ножык у Піліпкі зусім не шчарбаты, толькі дзюбка трохі адломлена. Яна адламалася, калі Піліпка рабіў сабе ражок з рога пярэстай Крывулі, якую зарэзалі ў касавіцу на мяса. У Крывулі былі такія рогі, што сякеру аб іх зломіш, не тое што ножык. А ножык у Піліпкі добры, лязо як брытва, з сапраўднай загартаванай сталі. Гэты ножык у Піліпкавага бацькі, можа, яшчэ ў партызанах быў. Таму Піліпка і не сцярпеў Алесю.

— Ерунда твой ножык,— сказаў ён.— Ім жабы не зарэжаш...

Алесь ускіпеў.

— У цябе ўсё лепшае, і сам ты самы лепшы,— уз'еўся ён.— А ты нават рудога Сальвасевага сабакі спалохаўся, закрычаў, што воўк. Заяц ты, баязлівец...

— А помніш, як цябе крывашыі Лявон палкаю перыў за яблыкі? — не вытрымаў Піліпка.— Каб я не свіснуў ззаду, то ён бы палку паламаў на табе...

Яны такі пагрызліся сёння з Алесем за гэты ножык. Але цэлы ж дзень сварыцца не будзеш, тым болей што Алесь хлопец добры, толькі трохі языкаты. Піліпка, канешне, ведае, што пасля дзядзькі Хвёдара, які за пастуха ў іх брыгадзе, ён галоўны падпасак, а не Алесь. Яму і чаравікі выдалі, і брызентавы плашч, а Алеся нават у спісах не было, як вычытвалі жывёлаводаў. Але ўсё роўна сварыцца з ім не трэба, бо на заўтрашні дзень у Піліпкі была справа, у якой без Алеся не абыдзешся.

Заўтра Піліпка збіраўся падскочыць на іхнюю канаўку Ведрыцу і павудзіць трохі плотак. Ён ужо і чарвякоў падгадаваў

сабе. Папрасіў кароўяй пячонкі на складзе, і цяпер такія сытыя чарвякі ў бляшанцы з-пад кансерваў шамацяць. Піліпка, вядома, папросіцца ў дзядзькі Хвёдара, але ж дзядзька не будзе бегаць за Коўбай. Ён будзе касіць сваю пожню. Прыйдзецца пабегаць Алесю. Затое ж і рыбкі яны наварацъ!

Піліпка першым пайшоў на прымірэнне з Алесем.

— Твой ножык харошы,— падышоў ён да насупленага Алеся.— Гэта я так сказаў...

— А ці ж праўда, што крывашыі Лявон на мне палку паламаў? — у Алесевым голасе чувацъ была яшчэ крыўда.— Я нават не чуў, ці стукнуў ён мне.

— Ён, можа, толькі і дастаў цябе самым кончыкам па сарочцы,— ахвотна пайшоў насустрач сябру Піліпка.— Ты ж бегаеш хутка, уцёк бы...

— А той раз, можа, і воўк быў,— падвесяліў Піліпку ў сваю чаргу Алесь.— Я не кажу, канешне, што то Сальвасеў сабака...

...Свеціць негарачае ўжо сонца. Піліпка ляжыць, заклаўшы рукі пад галаву, і думае. Думаць ён можа цэлы дзень, і яму нават галава не баліць ад гэтага. Мабыць, прывык. Дзядзька Хвёдар вечна маўчыць — вяроўкі ўе або стружа лыжкі. Сёння ён косіць пожню. Яны і кароў сюды прыгналі, бо дзядзькава дзялянка каля самай вялікай сціrты. Колькі хлеба будзе з такога стога? Мабыць, пудоў тысячу.

Піліпка падымаецца з зямлі і шукае мясцінку, дзе б можна было раскласці агонь. На поплаве, дзе пасвяцца каровы, агонь раскладаць няма разліку. Пакуль зробіцца на дзёране прысак, пройдзе многа часу. А бульбы трэба напячы, пакуль прыйдзе Алесь. Ён пайшоў па ігрушы на былыя сядзібы хутаранцаў. Людзі там ужо даўно не жывуць, а ігруш багата.

Піліпка раздзьмухвае агонь на жытнішчы, на ўзмежку з самым поплавам. Зямля тут мяккая, сухая, за гадзіну нагарыць прысак. Па полі да самай сціrты ідуць дзядзькавы пракосы. Навошта ён пакасіў каля ўзмежку? Травы тут ніякай, адна салома. Хіба на подсціл... Піліпка кладзецца воддаль ад агню і зноў думае. Ён любіць думаць...

Алесь чамусьці позніцца. Піліпка ўжо разы два падымаўся, выглядаў сябра. Яго ўсё не было. Хлопец падняўся яшчэ раз

і ўбачыў Коўбу. Матляючы хвастом, яна шыбавала ад статку, мабыць, зноў на канюшыну. Вось жа гадзюка!

Піліпка пабег. Ён не бачыў, як пстрыкнуў вугольчык, як занялася агнём саломінка, як па ёй полымя перадалося другой саломіне, пакуль не дайшло да пракоса дзядзькі Хвёдара. Сухая скошаная пожня ўспыхнула, як порах...

Піліпка ўбачыў сцірту ў агні, і яму ў першае імгненне здалося, што гэта сонца. Сонца было агромністае, нібы вялізны залаты шар. Піліпка закрычаў дзіка, з нечалавечым адчаем, і ўпаў на зямлю. Думка прыйшла пазней: «Там жа тысяча пудоў хлеба... Колькі ж трэба рабіць, каб выплаціць за такую сцірту?»

Хлопец узняўся з зямлі і кінуўся да сцірты. Да яе ўжо нельга было падступіцца: нясцерпная гарачыня апякала твар, вочы, рукі. Піліпка зразумеў, што ніякага паратунку няма. Яму захацелася сціснуцца ў камячок, зрабіцца маленькім і нябачным. Узнікла вострае і неадольнае жаданне пабегчы да маці, прытуліцца да яе грудзей і ўсё дачыста ёй расказаць. Маці добрая, яна не будзе злавацца на Піліпку, не закрычыць на яго. Яна будзе толькі плакаць разам з ім.

Але ў тую ж хвіліну Піліпка ўспомніў пра вотчыма, і сэрца яго сціснулася ад цяжкага халоднага суму.

Гэты вотчым цяпер іх заесць, ён ужо не дасць жыцця ні Піліпку, ні маці. І прыйшла, нарэшце, другая думка — ясная і прывабная, як жаданне сну пасля цяжкага дня. Яна напоўніла Піліпкаву душу лёгкасцю і спакоем...

Піліпка пакрочыў ад статку. Каровы, устрывожаныя відовішчам агню, збіліся ў гурт і наперабой рыкалі. Адна толькі Коўба не зважала на пажар. Матляючы хвастом, як маятнікам, яна зноў шыбавала на канюшынішча. Піліпка болей не пабег яе адварочваць.

Хлопчык ішоў нацянькі і не звяртаў увагі на сцірту, з якой шугала чырвонае полымя, ні на людзей, якія з крыкам беглі на поле.

«А можа, падумаюць на Алеся ці дзядзьку Хвёдара»,— стрэліла раптам у галаве думка, і Піліпка, спыніўшыся, ледзь не павярнуў да сцірты.

«Не, не падумаюць,— адразу ж прыйшло заспакаенне.— Агню ж яны не раскладвалі — ні Алеся, ні дзядзькі Хвёдара каля кароў не было...»

Піліпка, не зварочваючы ў вёску, пайшоў. Не аглядваючыся, ён мінуў калгасны двор — там нехта біў у чыгунную рэйку, падвешаную каля кузні. На вуліцы нейкая жанчына лямантавала...

Ужо за вёскай Піліпка думаў аб тым, што маці аддадуць хлеб на яго працадні. Хлеба цяпер будзе меней, але ж два мяшкі будзе. А кніжку пра Гулівера возьме сабе Зося. Ёй жа ў школу трэба ісці.

Падышоўшы да насыпу чыгункі, Піліпка расшнураваў чаравікі, зняў і акуратна паставіў у траву. Людзі знойдуць, маўляў, і аддадуць маці...

Калі з-за павароту паказаўся цягнік, Піліпка напружыніўся, чакаючы, калі колы заляскочуць бліжэй. Яшчэ праз хвіліну, калі цягнік зусім наблізіўся, ён кінуўся на рэйкі...

*1957*

## РЭДАКТАРАВА ХАТА

Усё здарылася зусім не так, як гэта ўяўлялася мне спачатку. Ехаў я ў Бярэзнікі з усведамленнем важнасці і адказнасці сваёй камандзіроўкі, і душа мая проста спявала. Навакол быў май, расцвіталі сады, шчабяталі птушкі, свяціла сонца. Я ехаў у кузаве паўтаратонкі і складаў самыя смелыя планы наконт сваёй будучыні. Упершыню за чатыры месяцы работы ў рэдакцыі абласной газеты мне даручылі сапраўднае вялікае заданне. Блізілася гадавіна Перамогі, і рэдактар загадаў мне ў самы аператыўны тэрмін арганізаваць паласу з калгаса, які называўся «Дзень Перамогі». Учарашнія франтавікі павінны былі расказаць у газеце, чаго дамагліся яны за першы неваенны год...

Хто меў хоць якое-небудзь дачыненне да газеты, той лёгка зразумее маю радасць. Сапраўдны ж газетчык і пачынаецца з паласы. Пішы заметкі, карэспандэнцыі, надрукуй нават нарыс — ты прайшоў яшчэ не ўсё, стромкіх і цяжкіх вяршынь ты яшчэ не дасягнуў. Вяршыня ж газетнага Эльбруса — паласа, якая заканчваецца падвалам, падпісаным поўным тваім прозвішчам...

Тое, што мне даручылі арганізаваць паласу, азначала пэўнае прызнанне маіх магчымасцей. Нават загадчык сельгасаддзела, найпершы ў рэдакцыі спецыяліст па самых сур'ёзных заданнях, і той прамаўчаў, калі сам рэдактар даваў мне інструкцыі.

Няхай даруюць залішне сціплыя людзі той мой ні з чым не параўнаны гонар, які тады проста аж распіраў мне грудзі. Жыве ў душы газетчыка гэты гонар, і будзе ён жыць да таго часу, пакуль грымяць ратацыі, што тысячамі адлічваюць пахнучыя свежай фарбай газетныя лісты, пакуль збіраюцца гаманлівыя лятучкі, на якіх рэдка хваляць, а болей прапясочваюць, пакуль стаіць у кабінеце адказнага сакратара ёмкая рэдакцыйная карзіна.

Ёсць вялікая радасць убачыць надрукаваным сваё слова і ведаць, што яго прачытае многа-многа людзей.

Ехаў я ў Бярэзнікі з самымі ўзвышанымі думкамі і з самымі светлымі надзеямі. Хіба ж не радасна спецкару абласной газеты зайсці ў рэдакцыю раённай газеты і на запытанне, чаго прыехаў, спакойна і ўпэўнена адказаць, што будзеш рабіць паласу. На цябе будуць глядзець з павагай, бо кожны ведае, што абы-каму паласы не даручаюць.

Карацей кажучы, радаваўся я сваёй перамозе і, вядома, не здагадваўся, што вельмі хутка напаткае мяне прыкрая непрыемнасць. У самых ужо Бярэзніках, дзе каля чайной спынілася спадарожная паўтаратонка, скочыў я з кузава на брук, і тут якраз здарылася гэтае самае няшчасце. Падэшва майго правага бота адвалілася зусім, хоць да гэтага трымалася, здаецца, яшчэ даволі моцна. Яна ляжала на бруку, стаптаная, непатрэбная, а я стаяў, абуты ў адзін бот.

Гэта была непрыемнасць, горш за якую не прыдумаеш. Многа пабачылі мае боты. Мясіў я імі гразь у трох еўрапейскіх дзяржавах, калі быў на вайне, і вось раптам яны не дацягнулі ўсяго некалькі дзён да поўнай гадавіны свайго мірнага служэння.

Падвялі мяне боты ў самы адказны момант пасляваеннага жыцця. Босымі ж карэспандэнты не арганізоўвалі палос нават у той першы неваенны год, калі ордар на новы абутак выдаваўся пасля ўсебаковага абмеркавання на пасяджэнні мясцкама.

Час быў вячэрні, і не заставалася нічога, як узяць падэшву ў рукі і паклыпаць паціху ад людскіх вачэй у рэдакцыю раённай газеты. Марш гэты, вядома, не меў ніякай урачыстасці, бо мой гонар знік яшчэ там, на бруку ля чайной...

Добрая ўсё-такі рэч, гэтая самая раённая рэдакцыя! Няхай сабе перапоўнена гасцініца, але ты, прыезджы газетчык, не прападзеш, калі ёсць дах над рэдакцыяй. Стаіць праціснутая канапа, якая скрыгоча ўсімі сваімі рэбрамі, а калі няма яе, то на месцы рэдакцыйны стол, заўсёды знойдзецца падшыўка цэнтральнай газеты, якую можна пакласці замест падушкі пад галаву і спаць сабе, як пан, на стале...

Праз непрыемнасць, якая здарылася са мной, я і пазнаёміўся з бярэзнікаўскім рэдактарам Яўсеем Панасюком. Калі я паціху пераступіў парог раённай рэдакцыі, яшчэ не ведаючы, якімі словамі растлумачу сваю бяду, Панасюк якраз пісаў перадавы артыкул. Ён сядзеў за сталом, але думка яго, відаць, блукала дзесьці далёка-далёка, бо рэдактар спачатку нават не заўважыў майго прыходу. Прыйшлося-такі грунтоўна кашлянуць, каб Панасюк нарэшце заўважыў маю асобу.

Ёсць яшчэ на свеце тое, што называецца салідарнасцю газетчыкаў. Газетчык газетчыка ў бядзе не пакіне. Яўсей Панасюк зразумеў мяне лепей роднага бацькі. Мы з ім былі знаёмы лічаныя хвіліны, а ён ужо, наморшчыўшы лоб, думаў, як і чым мне дапамагчы.

— Ты які нумар носіш?

— Сорак пяты.

— Не ногі ў цябе, браце, а лыжы. Хацеў табе свае сандалі даць. А цяпер прыйдзецца хіба лапці сплясці.

Да лапцей, вядома, не дайшло. У той жа вечар Панасюк, узяўшы пад пахі мае боты, падаўся да самага славутага ў Бярэзніках шаўца Зэліка Шустэрмана. На гэты раз ён наважыў націснуць сваім рэдактарскім аўтарытэтам. Не павінна ж была сарвацца святочная паласа ў абласной газеце! А я сеў дапісваць за Панасюка перадавы артыкул пра вывазку ўгнаенняў. Ніколі, здаецца, да гэтага я не пісаў з такім натхненнем. Артыкул пра ўгнаенні я пісаў, як паэму. Я шукаў пранікнёных, узнёслых слоў, і словы такія знаходзіліся, яны клаліся на паперу прачулымі, шчырымі радкамі.

Гэты артыкул атрымаўся крыху разнастыльным. Сур'ёзны і дзелавы пачатак, які накідаў Панасюк, раптам перайшоў у галоп лірычнай імпрэсіі. Але выбіраць не прыходзілася, і Панасюк, які вярнуўся ад шаўца з добрымі весткамі, благаславіў гэты сумесны твор у друк.

А назаўтра раніцай дзякуючы клопатам Панасюка я атрымаў боты з добра прыбітымі падэшвамі. Святочная паласа з калгаса «Дзень Перамогі» не сарвалася...

Можа, праз які месяц пасля гэтай паласы мяне прызначылі карэспандэнтам па кусту, у які ўваходзілі і Бярэзнікі. Мне цяпер часта прыходзілася сустракацца з Панасюком. І не толькі сустракацца — я начаваў у яго кабінеце, званіў па яго тэлефоне, ездзіў з ім па раёне.

Валодала мной у той час юнацкае імкненне шукаць прыгожых, сапраўды ідэальных людзей. Меркамі для вымярэння якасцей выключных асоб карыстаўся я тады даволі жорсткімі. Так што няхай не здасца каму-небудзь дзіўным тое, што ніякіх ідэальных людзей я не сустракаў. Кожны, хто набліжаўся ў маім уяўленні да людзей гэтай катэгорыі, пазней абавязкова выяўляў у сваіх паводзінах, характары, поглядах, нават знешнасці нешта такое, што псавала яго абсалютную ідэальнасць. Але ж нельга жыць на свеце, калі не верыш у прыгожае, святое, калі не адчуваеш, што побач з табой жывуць сапраўды цудоўныя людзі.

І вось тут выпала мне спаткацца з чалавекам, знаёмства з якім неяк перавярнула мае ранейшыя погляды. Гэтым чалавекам і быў Панасюк. Прызнаюся, што на першым часе мяне прывабіла яго біяграфія. Яна была сапраўды цікавая.

Некалі, яшчэ ў пачатку трыццатых гадоў, закончыў Панасюк харчовы тэхнікум. Ён вучыўся там варыць піва. Чым у юнацкія гады прывабіла Панасюка гэтая спецыяльнасць, застаецца невядомым. Але варыць піва бярэзнікаўскаму рэдактару не прыйшлося. Яшчэ там, у тэхнікуме, праявіў ён сябе добрым асаавіяхімаўцам і здольным карэспандэнтам. Гэта і вырашыла яго жыццёвы лёс.

Пасля заканчэння вучобы Панасюк напрасіўся на працу ў газету, якую тады выдаваў усесаюзны Асаавіяхім. З мандатам карэспандэнта гэтай газеты ён аб'ездзіў Сібір, Украіну, быў на Каўказе і на Поўначы. Так ён праездзіў тры гады.

Пазней ён пайшоў у армію. І тут, бадай, пачынаецца самае цікавае ў жыцці Панасюка. Яму надзвычай пашанцавала на баявыя паходы. Пачаў ён іх каля возера Хасан і ракі Халхін-Гол. Самураяў нялёгка было супакоіць, але іх усё-такі ўтаймавалі. Там, каля далёкага мангольскага возера Буір-Нур, Панасюка скубанула асколкам сталі. Лячыўся ён ужо ў Беларусі. Толькі ажаніўся, стаў працаваць у заводскай многатыражцы — і зноў у дарогу. Пачаўся паход у Заходнюю Беларусь. Трэба было абараняць родных пінчукоў і наднёманцаў. Не абышлося без Панасюка і тады, калі, набудаваўшы перад самым Ленінградам дотаў, заартачыўся белафінскі генерал Манергейм. Супакоілі і Манергейма...

Перад самым нападам Гітлера Панасюк працаваў ужо рэдактарам раённай газеты пад Брэстам. У сярэдзіне чэрвеня павёз ён групу сялян у адзін падмаскоўны калгас, каб вучыліся, як трэба ладзіць арцельную гаспадарку. Дэлегацыя, якую ўзначальваў Панасюк, павінна была яшчэ наведаць і Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку ў Маскве. Але ні пахадзіць па выстаўцы, ні вярнуцца назад пад Брэст Панасюку ўжо не давялося. Напаў Гітлер, і рэдактар чацвёрты раз пайшоў на вайну.

Паваяваў ён крыху болей за год, і знайшлася для яго новая работа. Гэтая новая работа яго нават узрадавала — трэба было ляцець у Беларусь, да партызан. Так апынуўся Панасюк у Бярэзніках. Прывёз ён у раён партатыўную друкарскую машыну і яшчэ з канца сорак другога года пачаў выпускаць гэтую самую раённую газету.

Вось такая была біяграфія Панасюка. Спачатку ў мяне ўзнікла думка, што гэты чалавек непаседлівы, што ён павінен прывыкнуць да перамены клімату, што яго, мабыць, цягне ў новыя, нязведаныя далі.

Але ніякія далі Панасюка, здаецца, не вабілі. Ён радаваўся, што, нарэшце, трапіў у ціхія Бярэзнікі і што працуе рэдактарам раённай газеты. Вучыцца болей ён не збіраўся, пра павышэнне па службе не думаў.

— Для мяне цыганскае сонца болей не свеціць,— не раз чуў я ад Панасюка.— Хопіць, наездзіўся, наглядзеўся. Пяць гадоў на адным месцы — гэта ўжо аседласць. Мяне цяпер нават усе сабакі ведаюць. Не брэшуць і не кусаюцца. Добра, брат, жыць на адным месцы...

Панасюк наважыў будаваць хату. Сваю, уласную. Мяне гэтая вестка спачатку неяк нават абразіла. Як гэта — рэдактар і раптам пабудуе хату, абжывецца гаспадаркай? Не, у рамкі майго ідэальнага героя такі чалавек не ўмяшчаўся. Далёка яму да сапраўднага, ідэальнага героя. Ён жа цягнецца да спакою, да нейкага абывацельскага, мяшчанскага жыцця.

Але Панасюк быў добрым чалавекам, і я праз некаторы час зрабіў яму невялікую скідку. Правёў я на скрыпучай рэдакцыйнай канапе многа начэй, і ні разу Панасюк не пакінуў мяне без падушкі. Такім дабрачынным ён быў не толькі ў адносінах да мяне. Карэспандэнты рэспубліканскіх газет, радыё, тэлеграфнага агенцтва, нашай газеты — усе разам мы ўсё глыбей праціскалі старую рэдакцыйную канапу. Бярэзнікі якраз былі раёнам, што ляжаў на шляху да іншых цікавых раёнаў, і недахопу ў карэспандэнтах тут ніколі не адчувалася. Але ні разу не чуў я, каб Панасюк наракаў на тое, што яго рэдакцыя стала перавалачнай базай. У яго пазычалі грошы, званілі па рэдакцыйным тэлефоне, начавалі — усё гэта рэдактар лічыў звычайнай справай.

Сям’я ж Панасюка жыла не ў асаблівай раскошы. Яна займала невялікі пакойчык у самой рэдакцыі. У гэтым пакойчыку пахла друкарскай фарбай, сюды даносіўся той шматгалосы тлум, якім кожны дзень жыла рэдакцыя.

Старэйшы Панасюкоў сын Пятрок хадзіў ужо ў другі клас. Сядзець дома ён не любіў, бо трэба было няньчыць малодшых братоў Івана і Колю, таму ён увесь свой час праводзіў на вуліцы. Можа, па гэтай прычыне ён так рана абраў сабе прафесію, якой вырашыў прысвяціць жыццё. Пятрок цвёрда наважыў стаць футбалістам. Вучыўся ён не дужа добра, бо лічыў, што для футбаліста лішняя навука не патрэбна.

Па рэдакцыі свабодна расхаджваў і сярэдні Панасюкоў сын — пяцігадовы Іван. Гэта быў чалавек больш спакойны і ўраўнаважаны, які, тым не менш, выяўляў пэўны нахіл да газетнай работы. Калі ў рэдактарскім кабінеце не было бацькі і званіў тэлефон, Іван браў трубку і нязменна адказваў, што «тата ў ляйкаме».

Аднойчы ён, прабраўшыся ў друкарскі цэх, дацягнуўся да наборнай касы і прысвоіў поўную жменю літар. Іван праглынуў тады тры літары «І», у чым прызнаўся толькі на трэці дзень.

Медыцынскае ўмяшанне не патрабавалася. Хлопец без ніякай шкоды для здароўя пераварыў шрыфт.

Самы малодшы, Коля, ніякіх талентаў пакуль што не выявіў. Ён ляжаў у плеценай лазовай калысцы і часцей за ўсё смяяўся бяззубым ротам. Навакольны свет яму, відаць, падабаўся...

Панасюк любіў сваіх сыноў і ганарыўся імі. Пазней ужо да мяне дайшло, што, мабыць, і пабудову хаты ён задумаў дзеля іх. Проста варта было даць большую прастору гэтым тром малайцам, якія мелі вострую патрэбу паболей бегаць і крычаць...

— Брат, сам не заўважыў, што аднаўляю дом Раманавых,— любіў жартаваць Панасюк.— Пятро, Іван, Мікалай — гэта ж усё рускія самадзержцы. Не хапае толькі Екацярыны і Елізаветы...

— Без тваёй Кацярыны хоць вушы затыкай,— умешвалася ў размову Панасюкова жонка, маленькая і спакойная ў рухах жанчына.— Дый няхай не хваліцца — які ён бацька. Я ж усіх дзяцей без яго нарадзіла. Першым хадзіла — ён на фінляндскай вайне быў. Іван нарадзіўся ў лесе, у партызанах, яго тады ў брыгаду нечага выклікалі, толькі праз тры дні вярнуўся. Коля ўжо цяпер, пасля вайны, нарадзіўся, а яго таксама дома не было. На курсы паслалі. Тэлеграму мне прыслаў...

— Хлапцы маіх крывей, нічога,— адбіваў жончын націск Панасюк.— Гэта добра, што сваімі сіламі на свет прабіваюцца.

Панасюкі жылі згодна...

Хутка Панасюку, як удзельніку вайны, далі лесу на хату. Выдзелілі яму і ўчастак на ўскраіне Бярэзнікаў. Участак быў добры — адсюль адкрываўся від на шырокую лугавіну, якая цягнулася да самага бору. Нейк так здарылася, што ў той дзень, калі Панасюку перавозілі лес, у Бярэзніках сабралася аж трое нас, карэспандэнтаў. Быў тут карэспандэнт рэспубліканскай газеты, карэспандэнт тэлеграфнага агенцтва і я. Усе мы карысталіся рэдакцыйнай канапай, не раз сядзелі і за сталом у Панасюка, а таму палічылі кроўным сваім абавязкам дапамагчы рэдактару. Быў аб'яўлен суботнік, і мы ўтрох дружна рушылі на ўчастак, дзе згружаўся лес. Панасюк узрадаваўся, убачыўшы нас. У той дзень мы яму такі дапамаглі: разгрузчыкаў наймаць было не трэба.

— Для вас, браткі, цэлы пакой у сваёй пяцісценцы адвяду,— частуючы нас вечарам, зычыў Панасюк.— Нават стол

пастаўлю. Сядзіце сабе і пішыце. Хопіць нашаму брату па гасцініцах аціраცца...

Панасюкова пяцісценка расла між тым не вельмі хутка. Прайшло, можа, паўгода, пакуль на будаўнічую пляцоўку заявіліся першыя цесляры. Затое на суседнім участку будоўля ішла куды спарней. Лес туды прывезлі ў той жа час, што і рэдактару, але там ужо, нібы грыб-дажджавік, узняўся ладны дамок, у якім не хапала толькі вакон і дзвярэй.

— Хто гэта ваш сусед? — спытаўся я аднойчы ў рэдактара.

— А ліха яго ведае,— Панасюк даваў спраўку з неахвотай.— Півам гандляваў, выгналі. Здаецца, нейкія скуры цяпер нарыхтоўвае...

Некалі было будаваць хату бярэзнікаўскаму рэдактару. Хапала ў яго клопатаў і без хаты. Але свайго звычайнага гумару ён не губляў. А калі чалавек умее смяяцца, то ніколі не падумаеш, што ён жыве дрэнна.

Прыйшлося Панасюку пабываць у розных пераплётах, але ўсё гэта, здаецца, не наклала ніякай адмеціны на яго аблічча і характар. Тры разы ён быў ранены і захаваў юнацкую рухавасць і весялосць натуры. У яго паставе, хадзе не было ніякай паважнасці, якая звычайна прыходзіць да людзей гадоў пад сорак. Хадзіў ён неяк падскокам, смяяўся звонка і залівіста, і каб не лысая галава, то можна было б думаць, што маеш справу з вясёлым маладым чалавекам.

Панасюк быў задаволены сваёй пасадай і сваёй работай. Грэх таіць, рэдактару раённай газеты прыходзілася дый прыходзіцца часамі нялёгка. Перад райкамам адказны ён на ўсе сто працэнтаў, а надышла якая-небудзь адказная кампанія, і рэдактара пасылаюць самым звычайным упаўнаважаным на раён. Паспрабуй агрызнуцца — «у цябе ёсць апарат, справіцца».

Панасюкоў «апарат» у тыя памятныя гады складаўся з яго самога і адказнага сакратара Мялешкі Валі. Валя была дзяўчынай на выданне. Калі я хоць кропельку разбіраюся ў людзях, то пра справы сардэчныя яна думала разоў у дзесяць больш, чым пра газету. Дзяўчына праводзіла доўгім прыязным вокам кожнага лейтэнанта і наогул віднага маладога чалавека, які праходзіў паўз рэдакцыю па дашчаным тратуа-

ры. Наведвальнікаў рэдакцыі мужчынскага полу яна таксама дзяліла на дзве катэгорыі — маладых і немаладых.

Калі да гэтага дадаць, што ўвесь месячны ганарар раённай газеты лёгка можна было спусціць за гадзіну з добрым знаёмым каля піўнога ларка, то стане зусім зразумела, што газета трымалася на Панасюку і на тых адданых ёй энтузіястах, якіх ён здолеў вакол яе згуртаваць. Дзякуючы ім Панасюк рабіў газету досыць цікавай. Ён неяк заўсёды ўмеў быць у самым цэнтры падзей, ведаў, дзе што робіцца, хто чым дыша, каго трэба падтрымаць, а каго «стукнуць». У нядзельныя дні, калі рэдактар быў дома, ён нязменна ішоў на кірмаш. Яго вёў туды, вядома, не меркантыльны інтарэс. Кірмаш даваў рэдактару матэрыял самы разнастайны. Тут ён сустракаўся са знаёмымі калгаснікамі і брыгадзірамі, размаўляў з імі ў абстаноўцы, што выключае ўсялякую афіцыйнасць. Прыглядаўся Панасюк і да тых, у каго ўжо завялося пастаяннае месца на кірмашы. Пазней у газеце паяўляліся з’едлівыя фельетончыкі і заметкі.

Калі Панасюк сядзеў за сваім рэдактарскім сталом, рэдка так здаралася, каб у яго нікога не было. У рэдакцыю ведаў дарогу самы разнастайны люд. Аднойчы, калі я сядзеў у Панасюка, дзверы расчыніліся, і на парозе нерашуча спыніўся высокі чарнявы юнак з прыгожымі рысамі твару. «Заходзь, Коля, заходзь»,— у голасе рэдактара загучалі нейкія новыя, незнаёмыя мне ноткі. Юнак сеў на стул і маўчаў. Ён хацеў, відаць, нешта сказаць, але не адважваўся пры староннім чалавеку.

— Вершы прынёс? — запытаў рэдактар.— Не саромейся, гэта свой, ён таксама ў рэдакцыі працуе.

Коля выцягнуў з-за пазухі цэлы стус вершаў, і мы пачалі іх чытаць. Вершы былі яшчэ слабенькія, але траплялася ў іх нешта жывое і свежае. Коля пісаў пра трактары, пра сяўбу ў калгасе, пра лес і салаўёў — пра тое, што ён бачыў і чуў. І ў гэтай непасрэднасці была свая шчырая паэзія. Адзін верш Панасюк паабяцаў надрукаваць, і Коля паляцеў з рэдакцыі, як на крыллях.

— Харошы хлопец,— сказаў мне рэдактар, калі юнак выйшаў.— Можа, паэтам стане. Здаецца, ёсць здольнасці. Скончыць дзесяцігодку, забяру ў рэдакцыю. Валя, мабыць, к таму часу замуж выйдзе...

Ён стаў нечага задуменны і маўклівы. А прыцемкам, калі мы сядзелі на прыступках рэдакцыйнага ганка і слухалі размаітыя галасы вячэрняга раённага гарадка і ціхае шаптанне таполяў, што абступалі рэдакцыю, Панасюк расказаў мне адну гісторыю.

— Ведаеш, выратаваў мне жыццё ў сорак другім годзе адзін хлопец, яшчэ падлетак. Смелы быў хлопец, баявы. Нас прывезлі сюды ў раён на самалёце шасцярых. Вылецелі з падмаскоўнага аэрадрома мы вечарам, а ў поўнач былі ўжо тут, на месцы. Лётчык усё кружыў над самым лесам, шукаў умоўленых сігналаў. Надвор'е сапсавалася, хмары, хоць выкалі вока, не відаць нічога. Лётчык крычыць: «Паляцім назад, не маю права высаджваць вас, сігналаў няма». Але хіба прыемна лінію фронту яшчэ два разы пералятаць ды разрывы зенітак лічыць. «Высаджвай! — патрабуем.— Мы сігналы на зямлі самі знойдзем». Высадзіў ён нас такі. Скочыў я з парашутам, вопыту вялікага ў мяне не было, толькі два разы і скакаў на трэніроўках. Раскрыў парашут высока над зямлёй, ну, і панесла мяне. Думаў ужо, што якраз у самыя лапы фашыстаў занясе. Зачапіўся за нейкае дрэва і, не разгледзеўшыся, давай хутчэй вызваляцца ад парашута. Рукі і твар абдзёр, пакуль прымасціўся на галіне. Памацаў рукой — сяджу на дубе, ля самай вяршаліны. Паспрабаваў злазіць, да самай ніжняй галіны дабраўся. Але скакаць небяспечна, дуб, адчуваю, высокі. Таварышаў маіх таксама не чуваць, паразносіла ветрам. Знойдуць, думаю, вызваляць з бяды...

А на світанні, як глянуў уніз, дык і галава кругам пайшла. Стаіць мой дуб на ўзлеску адзін адным, бы той рэкрут на часах, як у песні пяецца. Недалёка вёска відаць, крыху збоку — другая. А дуб мне трапіўся высачэзны, ствол у тры абхваты, ад ніжняй галіны да зямлі метраў дванаццаць. Скочыш — і касцей не збярэш.

Хоць бы смерць людская трапілася, думаю. А то саб'юць, як варону, і каркнуць не паспееш. Але нічога не папішаш, сяджу на гэтым самым дубе, замаскіраваўшыся. Назіраць мне адгэтуль добра — усё бачу, што ў адной і ў другой вёсцы робіцца. Нічога, здаецца, страшнага: бабы кароў выганяюць, са стрэльбамі нікога не відаць. І вось гляджу: гоніць хлапчук кароў пад гэты самы дуб. Прыгнаў, размясціўся пад ду-

бам і цяпельца сабе раскладае — ужо на восень бралася. Прыгледзеўся, нікога не відаць паблізу, і крычу зверху: «Хлопчык, немцы ў вёсцы ёсць?» А ён як кінецца наўцёкі з-пад дуба. Ну, думаю, цяпер прапаў, пойдзе і раскажа ўсім. А ён адбегся крыху і разглядваецца: хто гэта і адкуль крычыць. Нічога ён не ўбачыў, але ісці пад дуб баіцца. Тут я галінай зашастаў, і ён убачыў мяне. Бачу, паспакайнеў, падыходзіць. «Як ты туды залез! — дзівіцца.— Я думаў, на такі дуб век не ўзлезеш». А я сваё: «Немцаў,— крычу,— няма ў вёсцы?» — «Няма,— адказвае,— і паліцэйскія паўцякалі, партызан баяцца». Тут я зусім супакоіўся.

Папрасіў яго знайсці астровіну, каб з дуба як-небудзь злезці. Але дзе ж ты такую жардзіну знойдзеш! Мой пастушок усё ж не разгубіўся. Пачухаў патыліцу і пабег. Бачу, цягне бярэмак сена. Палажыў і зноў пабег. Шчасце маё, што копы блізка стаялі. Цэлых дзве капы перацёг ён пад гэты дуб. «Ну, цяпер скакай! — крычыць.— Толькі на сена, не разаб'ешся». Скочыў я і, як бачыш, не разбіўся...

Панасюк змоўк. У той вечар неяк асабліва шасцелі лісцямі тапалі. З цэнтра гарадка даносіліся вясёлы смех і маладая гамонка. Бярэзнікі ў вячэрнія часы заўсёды прыгажэлі, і гарадок набываў нейкую задуменнасць і ціхую прывабнасць. Можна было да самай глыбокай ночы сядзець вось так на ганку і слухаць, як паволі заціхае жыццё. Першым змаўкаў рэпрадуктар на плошчы, вясёлай талакой праходзілі гледачы з апошняга кінасеанса, і толькі закаханыя шапталіся ў скверыку насупраць. Закаханых пераседзець было нельга: яны не развітваліся да світання.

— А дзе цяпер гэты пастушок?

Ён адказаў мне не адразу. Ён яшчэ доўга маўчаў і думаў.

— Таго пастушка няма больш на свеце. Павесілі немцы ў сорак трэцім годзе. Ведаеш, пасля таго дуба ён стаў нашым сувязным. Кожнага тыдня за дзесяць вёрст прыбягаў за газетай. Адзін раз нават свой верш напісаў: «Нам з фашыстам нельга жыць, нам фашыста трэба біць». Злавілі яго аднойчы з газетамі і павесілі... Можа б, паэт з яго вырас...

Панасюк любіў газету. Вось чаму ён ніколі не скардзіўся на цяжкасці. Паедзе ўпаўнаважаным на раён і дыктуе па тэлефоне заметкі з сельсавета. Пісаў ён не вельмі выдатна і заўсёды

зайздросціў тым, у каго «лёгкая рука». Але ў яго затое было надзвычай тонкае чуццё на факты. Добрага факта Панасюк не прамінаў ніколі. Ён умеў яго павярнуць такім бокам, што прыходзілася дзіву давацца: як ты не падумаў пра гэта сам...

Ён быў яшчэ ў прыдачу і надзвычай шчодры чалавек. Не ўсякі рэдактар выкладзе перад прыезджым карэспандэнтам усе найлепшыя козыры свайго раёна. Ён жа і сам можа напісаць і ў абласную, і ў рэспубліканскую газету. Панасюк жа шчодра раздаваў братам па пяру і тэмы, якія падказвала яму жыццё раёна, і факты, сабраныя ім самім. З гэтай багатай крыніцы чэрпаў не раз і я сам. Ездзіў у тыя калгасы, куды Панасюк мне раіў паехаць, гаварыў з людзьмі, прозвішчы якіх ён мне называў.

Аднойчы я рашыў аддзячыць Панасюку за гэтую яго шчодрасць і дапамогу. Напісаў нарыс, прачытаў яму, а пасля падпісаў пад ім не толькі сваё, але і яго прозвішча. З рэдакцыі прыслалі Панасюку ганарар. Але ён не спяшыў атрымліваць грошы па паштовым пераводзе. Гэты перавод валяўся ў яго на стале да таго часу, пакуль яго не выявілі мае ж сябры-карэспандэнты. Выявілі і, канечне, далі належны ход грошам, якія так недарэчна заляжаліся недзе на пошце. Добра пасядзелі вечарам.

Так мы працавалі. Прайшоў год, і другі, і трэці. За гэты час адбыліся, вядома, пэўныя змены і ў Бярэзніках, і ў самой рэдакцыі. Выйшла замуж і якраз за лейтэнанта адказны сакратар Мялешка Валя. Газету яна пакінула без ніякіх хістанняў. Сакратаром стаў той самы дзесяцікласнік, які некалі чытаў Панасюку і мне свае вершы. З ім рэдактару стала, вядома, лягчэй. Старэйшы Панасюкоў сын Пятрок паступова расчараваўся ў футболе. Ён пераключыўся на авіяцыю. Клеіў планеры, майстраваў мадэлі і быў цвёрда перакананы, што ўсе тыя, хто проста ходзіць па зямлі, а не лятае ў паветры, не варты яго ўвагі.

Сярэдні, Іван, той, што праглынуў тры літары «І», пайшоў у школу. Вучыўся ён добра, лепей за свайго старэйшага брата, але асаблівай зацікаўленасці да газетнай работы ўжо не праяўляў.

Яго замяніў самы меншы — Мікалай. Ён цяпер пастаянна сядзеў у рэдакцыі, пералістваў «Огоньки» і «Крокодилы»,

і калі хто ў адсутнасць бацькі званіў у рэдакцыю, нязменна тоненькім галаском адказваў: «Тата ў ляйкаме...»

За гэтыя тры гады прыкметна рушылася наперад і будаўніцтва Панасюковай хаты. Яна падабралася пад дах, і каб засяліць яе, трэба было толькі наслаць падлогу, зляпіць печ і ўставіць вокны. Пры сустрэчы Панасюк ніколі не забываў напомніць, што ў яго хутка наваселле...

Але на Панасюковым наваселлі мне пагуляць не прыйшлося. У той год, калі гаспадар разлічваў перабрацца ў сваю новую хату, яго выклікалі туды, куды заўсёды выклікаюць газетчыкаў, калі хочуць прапанаваць ім новую работу. Таварыш, які лістаў Панасюкову асабістую справу, нават узрадаваўся, калі прачытаў, што ён яшчэ да вайны працаваў у заходніх абласцях Беларусі.

— Вось туды і паедзеце, таварыш Панасюк,— сказаў ён.— Месца вам знаёмае, людзі таксама. Будзеце рэдагаваць палітаддзельскую газету МТС. Трэба калгасы там арганізоўваць, хопіць хадзіць аднаасобнікамі...

Панасюк, вядома, не пярэчыў. Не мог жа ён сказаць, што распачаў будаваць сабе хату, і таму паехаць на новую работу не можа.

— Гадоў тры папрацую ў Заходняй,— разважаў пры мне Панасюк.— Трэба ж і там вёску падняць. А тады вярнуся ў Бярэзнікі. Палюбіў, брат, я гэты раён і ні на які другі не памяняю. А хаце нічога не зробіцца: дах жа ёсць. Будзе стаяць хоць сто гадоў. Уласнасць.

З таго часу прайшло не тры, а цэлых сем гадоў. Палітаддзельскіх газет больш няма, бо калгасы ў заходніх абласцях Беларусі даўно арганізаваны і даўно сталі на ногі. За гэты час я толькі адзін раз бачыў Панасюка.

Сустрэліся мы на нарадзе, незадоўга перад тым, як палітаддзельскія газеты перасталі выходзіць. Панасюк хваліўся сваёй новай работай, але пра Бярэзнікі не забываў. Ён абяцаў туды вярнуцца.

Гэтай вясной мне прыйшлося наведацца ў Бярэзнікі. Пакінуў я іх у той жа год, што і Панасюк, бо мяне таксама перавялі ў другую газету. З камандзіроўкай гэтай газеты і прыехаў я ў раён, адкуль некалі рабіў сваю першую паласу. Вядома, я хваляваўся, як хвалюецца кожны, хто ўспамінае

сцежкі свайго юнацтва. Як і ў той першы прыезд, трапіў я ў Бярэзнікі вечарам і адразу пакрочыў да Панасюковай хаты. Хацелася мне пабачыцца з бярэзнікаўскім рэдактарам, успомніць дарагое, незабыўнае, пераспаць у той бакоўцы, якую ён некалі дакляраваў нам, карэспандэнтам... Я чамусьці лічыў, што абавязкова застану Панасюка дома.

Але дома бярэзнікаўскага рэдактара я не застаў. Дый наогул у дом гэты госцем зайсці яшчэ нельга было. Стаяў ён з забітымі крыж-накрыж вокнамі і ўсім сваім выглядам гаварыў, што яго гаспадар яшчэ не вярнуўся. А вакол суседняга доміка, што пачаў будавацца разам з Панасюковым, ужо шумеў малады сад, і веяла ад гэтага гнязда зажыткам і спакоем. Мне ж прыйшлося ісці начаваць у гасцініцу...

*1957*

# 1958

## ДОМ НАД МОРАМ

Па ўзбярэжжы цягнуліся дачы, вілы, курорты. Белы дом, на шостым паверсе якога мы аблюбавалі пакой пад назіральны пункт, высіўся на самым беразе вузкага, нібы высунуты язык, заліва, якім мора ўядалася ў пясчаную нямецкую зямлю.

Тэрмас з супам прынёс нам пад вечар старшына Нізкалобаў.

Сіняя фуфайка і брыджы старшыны былі ў пяску: адкрыты пляж абстрэльвалі, і метраў дзвесце прыходзілася паўзці на жываце.

У гэтым курортным доме над морам мы жылі ў вялікай раскошы, не бачанай за ўсю вайну. Не такая ўжо цяжкая справа — наглядаць за праціўнікам пад аховай тоўстых сцен і перадаваць звесткі па тэлефоне.

— Ахтунг! Танкі! — скамандаваў памкамузвода Смірноў, калі каржакаватая постаць Нізкалобава паказалася ў праёме дзвярэй.— Мерзлякоў застаецца ля стэрэатрубы, астатнія ў гасціную!

Мерзлякоў, які толькі што пачаў дзяжурыць, быў незадаволены.

— Мне няма? — спытаў ён на ўсякі выпадак у старшыны, прымошчваючыся на мяккім, пружыністым крэсле ля акна.

— Ад вашай прэкрасный Елена вы атрымалі ўчора,— напомніў старшына.— На кожны дзень дзевушка не хапае пачуццяў.

Нізкалобаў, чуваш, хмуры і змрочны з выгляду, любіў гаварыць павучальна.

Мы перайшлі ў гасціную, пакой, які сваімі вокнамі выходзіў толькі на мора. Бяспека тут была паўнейшая, выключаючы прамое пападанне снарада ці бомбы. Зацягнулі вокны самаробнымі шторамі з чорнай траскучай паперы і запалілі дзесяць свечак.

— Ілюмінацыя з прычыны прыбыцця ў наш горад імператара Хірахіта,— сказаў Смірноў.

Смірноў жартаваў, мог жартаваць і старшына. Мы ж, пяцёра, стаялі з сур’ёзнымі тварамі і глядзелі на брызентавую сумку Нізкалобава. У гасціную мы прыйшлі не дзеля супу, што плёскаўся ў дваццацілітровым тэрмасе.

Нізкалобаў ведаў, што нам трэба, але марудзіў. Ён сеў на мяккі пуф, выцер насоўкай чырвоны спацелы твар і закурыў.

— Не цягні жылы, старшына,— сказаў Філімонаў.— Давай буду танцаваць.

— Табе няма. Твой Дашка яшчэ піша...

Астатнія не адважыліся выпрабоўваць лёс. Памкамузвода Смірноў лёг на двухспальны дубовы ложак і барабаніў абцасамі па падлозе. Ён атрымліваў лісты толькі ад маці і сястры і быў спакойны.

Старшына сядзеў і курыў. Мы стаялі і чакалі. Нашаму цярпенню прыходзіў канец.

— Сёння кавалеры ордэна Славы нешчаслівыя,— нарэшце прамовіў Нізкалобаў.— Мае шчасце толькі адзін кавалер. Зато я вас частую за заўтрашні Першы май...

Нізкалобаў выцягнуў з-пад палы дзве фляжкі ў мяккіх, варсістых футлярах.

— З вадой ці так? — спытаў ён.— Нежанаты, сто градусаў...

Ён мог аб гэтым і не пытаць. Кавалеры ордэна Славы разбаўленага спірту не пілі.

— Каму шчасце? — дапытваўся Філімонаў.— Таму піць не дамо. Хопіць ліста.

— Піць усім, па чарзе. Свята...

Смірноў падняўся і схадзіў да Мерзлякова. Над залівам вісела ноч. Вясновае неба засеялі зоркі. Туману не было, люстраная гладзь затокі здавалася чорнай. Процілеглы бераг маўчаў.

— Філімонаву і Серадзе не піць,— вярнуўшыся, загадаў Смірноў.— Зменіце Мерзлякова апоўначы. Чарга дзяжурыць Булавенку, але ён будзе іграць. Заступіць раніцай.

— Булавенку і ліст,— паведаміў Нізкалобаў.— Два лісты. Ён шчаслівы.

— «И в Омске есть, и в Томске есть моя любимая...» — заспяваў Смірноў.

— Танцуй, Булавенка! — загадаў Нізкалобаў.

Усе пачалі біць у далоні, зацягнуўшы гугнявымі галасамі вясёлы матыў. Лёня Булавенка, высокі, белабрысы, шоргаючы кірзавымі ботамі па падлозе, пайшоў па крузе.

— Упрысядкі!

Няўклюдна выкідваючы ногі, Лёня зрабіў яшчэ адзін круг.

— Танец лебедзяў першага класа,— зазначыў Нізкалобаў, аддаючы Булавенку два яго лісты.

Свечкі разлівалі мяккае, спакойнае святло. На сцяне віселі два пейзажы: вадзяны млын пад развесістай вярбой і статак кароў і авечак на лузе. На гэтым жа лузе паненкі ў белых сукенках, што раздуваліся knізу, як парасоны, збіралі кветкі, а кучаравенькі пастушок, падобны на анёла, дзьмуў у дудачку. Ля процілеглай сцяны стаяла піяніна. Пакой таму і абралі пад гасцінуую. На піяніна іграў Булавенка, выхаванец дзіцячага дома.

Святочны выгляд гасцінай псавалі абшарпаныя плашч-палаткі і зялёныя, з чорнымі крапінамі, маскхалаты, кінутыя на спінкі крэслаў. Аўтаматы сціпла туліліся ў кутку. Танканогі кафейны столік, на якім стаяла шэсць задымленых кацялкоў, дзець было некуды, ён стаяў у самым цэнтры гасцінай.

— Піць! — загадаў Нізкалобаў.— Берлін заўтра наш. Вайне канец!..

Гэта было падобна на казку. Першамай, канец вайны. Шкада, што мы не былі цяпер у Берліне.

Лёня Булавенка не вячэраў, ён чытаў лісты. Мы ведалі, хто іх напісаў. Адзін — Каця з Дарагабужа, там полк стаяў на папаўненні, другі — полька Эва-Іяланта з літоўскага гарадка Калварыя, ля самай прускай граніцы. Гарадок мы занялі паўгода назад, восенню.

Філімонаў і Серада, павячэраўшы, пайшлі змяняць Мерзлякова, хоць маглі адпачываць яшчэ цэлую гадзіну. Але яны не хацелі сядзець проста так. Калі прыйшоў Мерзлякоў, аддалі яму яго норму, аставіўшы некранутым тое, што належала дзяжурным. Праз паўгадзіны ўсё перамянілася...

Старшына Нізкалобаў заплакаў. Ён плакаў заўсёды, калі выпіваў. На мяккіх нямецкіх крэслах сядзела пяцёра кавалераў ордэна Славы, старажылаў узвода пешай разведкі, што памяталі адзін другога яшчэ са Ржэва. У разбітым Ржэве фарміраваўся полк.

— Мамедава няма! — плачучы, крычаў старшына.— Спіць у зямлі наш друг Мамедаў!..

Мамедаў быў трэцім па ліку камандзірам узвода. Яго смяротна паранілі два тыдні назад.

— Перастань, старшына,— да Нізкалобава падышоў Смірноў і паклаў яму рукі на плечы.— Ніхто нікога не забыў...

Гарэлі свечкі ў высокіх медных кандэлябрах. Недзе блізка адзін за другім разарваліся тры снарады. Прастракатала кулямётная чарга. Смірноў кінуўся да дзяжурных.

— Усё ціха,— сказаў ён вярнуўшыся.— Баяцца гансікі. Іграй, Булавенка!..

Булавенка ўжо сядзеў за піяніна. Ён нам іграў усе ночы з таго часу, як мы пасяліліся ў белым курортным доме над морам.

Тонкія пальцы Булавенкі бегалі па клавішах, нараджаючы мяккія гукі. Для той музыкі, якой жадалі ўсе, не хапала прывычнай абстаноўкі. Нізкалобаў гэтага не разумеў: ён не жыў апошнія шэсць дзён у белым доме над морам.

— Патушыць свечкі! — загадаў Смірноў.

Маскіроўку знялі, і тады ўсё стала на месца. Вокны гасцінай глядзелі на мора. Адтуль не стралялі. Узыходзіў месяц, і яго святло вырывала з бязмежнай марской роўнядзі шырокую сінюю паласу. На ёй гойдаліся серабрыстыя кругі. Здавалася, што пад самымі вокнамі некуды цячэ спакойная, цёплая рака. Яе хвалі з лёгкім аднастайным шумам набягалі на пясчаны бераг. Такім морам мы любаваліся ўсе апошнія ночы...

Булавенка зайграў вальс. Мы прысунулі свае крэслы да акна і глядзелі на мора. Мы ведалі адзін пра другога ўсё, нават тое, аб чым кожны ў гэтую хвіліну думае. Усе мы думалі пра дзяўчат, якія прысылалі нам на фронт трохкутнічкі. Мы ведалі, што ў іх пісалася кожнаму. За два гады наступлення мы ўсе адспавядаліся адзін перад другім душой, і ў нас не было тайнаў. Траім дзяўчатам пісалі пра каханне і траім пра дружбу. Жанатых сярод нас не было. Трое кавалераў Славы яшчэ ні разу не цалавалі дзяўчат. Проста не паспелі. Старэйшаму было дваццаць два, малодшаму — дваццаць.

Булавенка іграў, узмахваючы рукамі, як крыламі, а мы маўчалі. У нас было лёгка і ціха на душы. Красавік нёс вясну. Зямля была чужая, але вясна па ёй ішла, як і там, на родных прасторах.

— «Аганёк...» — закамандаваў Смірноў.

Тыя, каго дзяўчаты праводзілі на вайну, маглі ўспомніць ганак, веснічкі, аганёк у знаёмым акне.

Самога Смірнова на вайну дзяўчына не праводзіла. З Кларай ён пазнаёміўся, калі ляжаў у шпіталі ў Пензе. У медсястры былі вялікія, нібы здзіўленыя, вочы. Гэта мы ведалі з фотакарткі. Клара здрадзіла яму вясной сорак чацвёртага, пасля таго як Смірноў, мінуўшы перасыльныя пункты і запасны полк, вярнуўся ва ўзвод, адкуль выбыў ранены.

Спачатку Клара перастала пісаць. Потым, можа, на дзясятым неадказаным лісце прыйшла звычайная паштоўка, напісаная цвёрдым мужчынскім почыркам. У ёй невядомы Кларын муж, якога мы адразу залічылі ў інтэнданты, раіў кінуць жарты і не турбаваць яго жонкі. Пасля Клары Смірноў спяваў «Аганёк» па-другому. У яго песні дзяўчына, махнуўшы на развітанне хлапцу, што пайшоў ваяваць, у той жа вечар сядзела на ганку з другім. З часу здрады Клары тэма дзявочай нявернасці заняла пэўнае месца ў нашых размовах...

— «Цёмную ноч...» — папрасіў Нізкалобаў.

Паплыла мяккая, крыху журботная мелодыя. За акном была не асенняя, а светлая, вясновая ноч. Не свісталі кулі, і ў парваных правадах не шумеў вецер. Працяжна, нібы зачараванае, уздыхала мора. Яно навявала светлы сум. Мы ўспаміналі дзяўчат. Ці чакалі яны нас гэтыя доўгія мяцежныя гады? Вядома, чакалі. Можа, яны, як і мы, таксама сядзелі ў гэты час ля акон і марылі аб стрэчы...

У суцэльную легкадумнасць дзяўчат, нягледзячы на здраду Клары, мы не верылі. Такога не магло быць. Дзяўчаты мусілі нас чакаць. За ўсё, што мы пабачылі на вайне, мы мелі поўнае права на іх вернасць...

Плылі ў вясновую сінь за акно мяккія акорды, уздыхала мора, і, можа, заслухаўшыся гэтай музыкай вясны і надзей, не падавалі свайго голасу гарматы...

Булавенка па сваёй ахвоце зайграў пра Лізавету, што не спіць да самай раніцы, чакаючы весткі ад друга. Ён хацеў

нас развесяліць. Піяніна проста грымела... Пра якую толькі Лізавету думаў сам Булавенка? Яму пісалі дзве дзяўчыны. З імі абедзвюма Лёня быў знаёмы па адным дні. Полька Эва-Іяланта не вельмі добра валодала рускай мовай, і ў сваіх лістах яна называла Булавенку Лоняй.

Старшына Нізкалобаў заснуў у мяккім крэсле пад музыку Булавенкі. Гэта мы выявілі толькі тады, калі канцэрт кончыўся і калі, задрапіраваўшы вокны маскіровачнымі шторамі, зноў запалілі свечкі. На якой толькі песні старшына заснуў? Урэшце, гэта не мела значэння. Пра дзяўчат ён не думаў, бо меў жонку, дзяцей, дом. Старшына, мабыць, лепш за нас разумеў, што ноч дадзена на тое, каб спаць.

З раніцы, адбыўшы сваю чаргу наназіральным пункце, Булавенка спаць не лёг. Ён быў узбуджаны і вясёлы. У той час, калі ўсе спалі, ён пісаў лісты.

Дзень быў па-сапраўднаму майскі. Свяціла сонца, і тысячай усмешак яму адказвала мора. Яго бяскрайняя шырыня ўдалечыні злівалася з небам. Над люстраной гладдзю вады насіліся чайкі. Рэдка пастрэльвала наша артылерыя, і яшчэ радзей адгукаліся немцы. Сыпануў дождж і перастаў гэтак жа нечакана, як і пачаўся. Пад вокнамі дачы ярка зазелянелі газоны.

У поўдзень трэба было аднесці афіцэру разведкі карту, на якую мы штодня наносілі новыя агнявыя пункты праціўніка. Ісці ў штаб папрасіўся Булавенка.

Праз некалькі хвілін яго забіла асколкам снарада пад самымі вокнамі белага дома, на пясчаным пляжы...

У брызентавай сумцы Булавенкі мы знайшлі ўсе лісты, якія пісалі яму Каця з Дарагабужа і Эва-Іяланта з літоўскага гарадка Калварыі. Там ляжалі і два неадасланыя Булавенкавы трохкутнічкі. Мы іх дзяўчатам не паслалі. У іх Лёня пісаў толькі пра тое, што вайна канчаецца. У адным лісце ён абяцаў заехаць у Калварыю, у другім — у Дарагабуж.

Пасля смерці Булавенкі мы заўважылі тое, чаго не заўважалі раней. На фотакартках Эва-Іяланта і Каця былі вельмі падобныя адна на другую. Можна было падумаць, што яны сёстры. Мы напісалі кожнай, што Булавенка яе любіў.

К вечару процілеглы бераг здаўся. Вялі палонных.

*1958*

# ПЕЦЯ

З'ехаліся дадому ўсе. Вядома, папярэдне спісаліся. За пасляваенны час гэта ўпершыню. Прыязджалі і раней, але па адным. Васіль заскочыць на два ці тры дні, калі вяртаецца з Сочы ў Ленінград. Адпачынак у яго звычайна ў чэрвені, і ён штогод ездзіць на цёплыя воды лячыць свой радыкуліт.

Ігнат прыязджаў толькі два разы. Жыве ён далёка, аж у Чалябінску. Адтуль не вельмі наездзішся, бо адна дарога займае палову водпуску.

Павел жыве, як кажуць, пад бокам, у суседнім раёне, і заскаквае часцяком. Але болей дня ён ні разу не прабыў. Ён — дырэктар школы, і ў яго заўсёды па горла розных неадкладных спраў. Павел хваліцца, што ў Глінічах, дзе ён жыве, куды прыгажэйшая і цікавейшая прырода, чым у нас, у раённым пасёлку. Там рэчка, заліўныя сенажаці, лес, чыстае паветра.

Я не прыязджаю ніадкуль, бо жыву разам з бацькамі. Праўда, здараецца і мне па месяцу і больш не начаваць у сваёй хаце, але гэта дробязі. У асноўным я мясцовы жыхар.

Старэйшыя браты прыехалі з жонкамі і дзецьмі, і ў нашым двары цяпер сапраўдны дзіцячы сад. Мне адразу прыйшлося знаёміцца з трыма пляменнікамі і дзвюма пляменніцамі. Пра Паўлавых дзяцей, Валерку і Таню, я ўжо не гавару, для іх я дзядзька яшчэ з таго часу, калі яны адольвалі першую трохметроўку ад шафы да стала. Да Паўла я езджу ў госці, і з Валеркам і Таняй у мяне сталая дружба.

Адным словам, у нас цяпер і шумна, і весела. Стол накрываецца безупынна: то для дзяцей, то для дарослых. Клопат аб чатырох пляменніках і трох пляменніцах, у той час, калі яны не ядуць і не спяць, у асноўным падае на мяне. Старэйшыя браты на правах гасцей разважаюць з бацькам аб палітыцы і міжнародным становішчы. Іх жонкі загараюць у садку, пераважна ведучы гаворку пра моды і цэны. Маці завіхаецца па гаспадарцы, каб накарміць і дагадзіць сям'і, якая цяпер амаль у тры разы большая, чым была некалі ў яе. Я ўвесь час з дзецьмі.

— Няхай забаўляе нашых, раз няма сваіх,— пакепліваюць з мяне браты.— Прывыкне, дык, можа, хутчэй ажэніцца...

Васіль старэй за мяне на дзесяць гадоў, Ігнат — на пяць, Павел — на тры. У Васіля трое дзяцей, у Ігната і Паўла — па двое. Я пакуль нежанаты, хоць мне без аднаго году трыццаць. На гэта ёсць свая прычына. Але з дзецьмі я, здаецца, ладжу не горш сваіх сямейных братоў. Мой аўтарытэт у вачах пляменнікаў нават большы, чым аўтарытэт іхніх уласных бацькоў. У гэтым мне, мабыць, моцна памагае мая прафесія. Васіль — падпалкоўнік, Ігнат — тэхнік, Павел — настаўнік, а я кінамеханік.

Пеця, шасцігадовы Васілёў сын, сталы жыхар Ленінграда, пазнаёміўшыся са мной, дзівіцца:

— Дык ты можаш глядзець усе карціны бясплатна?

— Магу.

— І па два разы?

— Нават па дваццаць.

У яго вачах сапраўднае захапленне. Ён лічыць мяне самым шчаслівым чалавекам на зямлі. Прыкладна так адносяцца да мяне і астатнія пляменнікі. Усе яны пасля знаёмства са мной цвёрда наважылі стаць кінамеханікамі. Па-гэтаму кожнае маё слова для іх закон. Яны нават стараюцца паддобрыцца да мяне, бо лічаць, што толькі я магу іх вывесці на сапраўдную дарогу. Нават самы меншы з пляменнікаў, Паўлаў Валерка, якому мінула толькі чатыры гады, і той стаіць гарой за прафесію кінамеханіка.

Нягледзячы на тое, што ў жылах маіх малодшых родзічаў цячэ аднолькавая кроў, яны народ даволі рознахарактарны. У тым, што не датычыць кіно, яны вельмі часта не прыходзяць да агульнай думкі, а іншы раз нават бяруцца за чубкі. Найбольш няўрымслівы ленінградскі Пеця. Наконт яго я памыліўся, бо на першым часе палічыў залішне непрыстасаваным да жыцця. Шасцігадовы мой родзіч толькі ў двары дзеда ўпершыню ўбачыў карову. А ўбачыўшы, закалаціўся як асінавы ліст.

— Я баюся, ён укусіць...

— Гэта карова, Пеця, яна не кусаецца.

Хлопец адразу пераключыўся на правільны тон.

— Тады я ведаю,— сказаў ён упэўнена і бадзёра.— Карова дае малако.

Сякія-такія сумненні адносна каровы ў Пеці ўсё ж засталіся. Падыходзіць да яе блізка ён не адважваўся і са страхам

паглядаў на рогі. Пасля нядоўгага роздуму аднойчы ён запытаў:

— А чаму карова сама не п’е малака, а аддае людзям?

— Яна любіць траву.

— Дык малако ж смачнейшае за траву. Трава проста горкая.

Прыйшлося даводзіць гарадскому родзічу, чаму карова есць горкую траву і не п’е салодкага малака.

Гэта было ў першы дзень прыезду Пеці. Назаўтра ён ужо ведаў усіх хатніх жывёл і нават без ніякага страху спрабаваў пакатацца на свінні. Сярод астатніх пляменнікаў ён вылучыўся на самае віднае месца. У гэтым яму, бадай, найбольш дапамог прэстыж горада Ленінграда. Паміж Пецем і чалябінскім Толем адбылася гарачая спрэчка. Стрыечныя браты ледзь не пабіліся, пакуль выявілася, чый жа горад на самай справе лепшы.

— Ленінград такі ж вялікі, як і Масква,— даказваў Пеця.

— І Чалябінск вялікі,— стаяў на сваім Толік.

— У нас тралейбусы і метро.

— І ў нас тралейбусы, і яшчэ электрычка.

— У нас рака Нява і мора,— гарачыўся Пеця.

— І ў нас ёсць рака,— не здаваўся Толік.— І ў нас яшчэ Азія...

— У нас была рэвалюцыя і скінулі цара. У нас жыў Ленін, а ў вас не...

Толя здаўся. Ён насупіўся і гатовы быў вось-вось заплакаць. Але хітры Пеця якраз у гэты момант праявіў поўнае велікадушша.

— Ваш горад харошы, я ведаю,— зусім сур’ёзна сказаў ён.— Хочаш, я да цябе прыеду?

— Прыязджай,— ахвотна дазволіў Толя.— Я табе дам прыгожых каменьчыкаў. У мяне іх шмат.

Дзякуючы гэтаму ўсталявалася згода. Пляменнікі гуртам кінуліся за калітку. Там вельмі многа цікавага, такога, чаго не ўбачыш у горадзе. На выгане пасвяцца гусі, спераду важна дыбае сярдзіты гусак, які сіпіць на кожнага, хто пасмее наблізіцца да чарады. Уздоўж пыльнага шляху бягуць тэлеграфныя слупы, на дроце сядзяць і шчабечуць ластаўкі. У копанцы, сярод выгана, колькі хочаш вадзяных жукоў, маленькіх жаб і іншых цікавых стварэнняў. Я магу крыху адпачыць ад пляменнікаў і іх бясконцых пытанняў.

Маці за гэтыя дні проста памаладзела. Ёй прыбавілася і сілы, і рухавасці. Яна то бяжыць да суседзяў па свежыя курыныя яйкі, то рве на градах гуркі і радыску, то завіхаецца ля печы. Нявесткі спрабуюць ёй дапамагчы, але яна іх праганяе. Яна хоча ўсё зрабіць сама.

На матчыным твары нейкая ціхая яснасць. Здаецца, яна з усімі аднолькава ласкавая, ветлівая. Яна ні ў кога ні аб чым не пытае, а толькі ўпотай пераводзіць свой позірк з сыноў на нявестак і любуецца ўнукамі. Але я нешта заўважыў. Мне здаецца, што маці з усёй шумлівай чарады ўнукаў і ўнучак выдзеліла Пецю, Васілёвага першанькага. Я бачыў, як пранікліва ўзіралася яна ў яго чысты, прыгожы тварык, як гладзіла па русявай галаве. Я некалькі разоў лавіў гэтыя дапытлівыя матчыны позіркі, якія часцей за ўсё яна спыняла на Пецю. І яшчэ я бачыў, як цалавала маці ўнука. Яна паклікала яго ў агарод аднаго і цалавала там доўга, са слязамі на вачах. І я, здаецца, усё разумею...

У нашай сям'і таксама быў Пеця, самы старэйшы брат. Ён пажыў на свеце толькі тры гады. Маці заўсёды гаварыла, што ён быў самы прыгожы і разумны з усіх дзяцей. І мы, чацвёра, ніколі гэтага не аспрэчвалі. Пеця памёр у той год, калі нарадзіўся Васіль і калі бацька пайшоў ваяваць з панамі. Мацярынскі смутак па сваім першанькім прайшоў праз усё наша дзяцінства.

— Пеця не знасіў ні новых штонікаў, ні сарочкі,— сумна гаварыла маці, прымяраючы каму-небудзь абноўку.— Ні разу не абуў чаравічак. І пахавала яго ў лапціках...

Наша дзяцінства таксама не бачыла лішняй раскошы. Але мы не хадзілі ні голымі, ні босымі, ні тым болей галоднымі.

— Пеця не пакаштаваў ні булкі, ні абаранка,— чулі мы ад маці.— І цукру не папрабаваў. Дзе ж было ўзяць таго цукру? Быў сіненькі, тоненькі, як свечка...

Пецевай картачкі не было, яго ніхто не фатаграфаваў, і мы малявалі сабе вобраз брата ў думках. Мы ўяўлялі яго беленькім, ціхенькім, у доўгай зрэбнай кашульцы. Я памятаю, што імем Пеці маці часта асуджала выбрыкі старэйшых братоў. Сённяшні дырэктар Павел аднойчы павіс на суку грушы, зачапіўшыся за яго новай кашуляй. Яго адтуль прыйшлося здымаць. Кашулю, вядома, Павел парваў. Маці яго не карала, бо вельмі спалохалася за Паўла.

— Расцеш ты на лес гледзячы,— сказала яна з дакорам.— Пеця б так ніколі не зрабіў. Ён бы не падзёрся на гэтую грушу, ён слухаўся маці...

Калі мне было гадоў дзесяць, я ненарокам разбіў фарфоравую вазу, якая стаяла на стале ў чыстай палавіне хаты. Я чакаў кары, бо ведаў, што гэта каштоўная рэч, якую маці вельмі шанавала. Але маці не кранула мяне нават пальцам.

— На табе шкура гарыць, вісус ты безгаловы,— прамовіла яна без злосці.— Каб не Пецевы імяніны, то пахадзіў бы па табе дзяркач.

Пеця выратаваў мяне ад кары, хоць ён і не жыў на свеце. Праз усё наша дзяцінства прайшоў нязменны матчын дакор: «Пеця б так ніколі не зрабіў...» І, здаецца, усе мы паверылі ў Пецю. Ніхто ніколі не сказаў пра яго благога слова. Ён быў чысты, светлы, наш самы старэйшы брат Пеця...

Тую вазу, якую я раскалоў, удалося, паміж іншым, адрамантаваць. Яе неяк склеілі, перавязалі тонкім медным дроцікам і пераставілі са стала на шафу. Усю вайну маці хавала ў ёй картачкі бацькі, які пагнаў калгасны статак у тыл, Васіля і Ігната, якія былі на фронце, і Паўла, які вясной сорак трэцяга года пайшоў у партызаны. З маткай быў адзін толькі я. І я ведаю, як беражна здымала яна гэтую вазу з шафы, як раскладвала на каленях картачкі, як глядзела на іх цэлымі гадзінамі. Так было да самага канца вайны.

Сёння вечарам наша старая сямейная ваза канчаткова перастала існаваць. Даканаў яе ленінградскі Пеця. Можа, у гэтым трошкі вінаваты і я, што не дагледзеў. Пляменнікі распачалі гульню «ў нашых і фашыстаў», і Пеця аблюбаваў сабе шафу, на якой стаяла ваза, у якасці назіральнага пункта. Ад старой склеенай і перавязанай дротам вазы засталіся толькі дробныя шкелкі. Маці пачала іх хуценька збіраць.

— Нічога, Пецечка, нічога,— прамовіла яна мякка і ласкава.— Калі што-небудзь б’ецца, то гэта, кажуць, на добрае. Вось збяру чарапкі, а то яшчэ ногі парэжаш...

Маці не заўважыла, што Пеця быў абуты і не мог парэзаць ног. Яна не сказала ні слова пра таго далёкага Пецю. Але я ведаю, што яна пра яго думае...

*1958*

# ПРЫПЯЦКАЯ ЗОНА

На поўдні Палесся, у тым краі, дзе паўнаводная і спакойная Прыпяць спяшаецца ў абдымкі да прыгажуна Дняпра, ёсць адзін вельмі цікавы раён. Раён гэты слаўны перш за ўсё сваімі кантрастамі. Тут нібы спаткаліся стэпавая, пшанічная Украіна з лясной, бульбяной Беларуссю. Спаткаліся, каб не расставацца...

Развітаўшыся з невялічкай, атуленай смалістым борам чыгуначнай станцыяй, якая носіць назву раёна, і крочачы ў паўднёвым напрамку, вы болей не ўбачыце ні хваінкі, ні бярэзінкі, ні прывычнага для вока балотца з рудой стаячай вадою. Вакол, куды ні кінеш вокам,— збажына, зялёныя азяркі кукурузы, якую тут называюць кіяхамі, і зноў збажына. Сям-там сярод гэтага палявога прастору ляніва ўзмахне крыллем вятрак, што звычайна стаіць на ўскраіне схаванага ў зяляніне садоў сяла. Здалёк відаць пікі пірамідальных таполяў. У небе павольна апісвае плаўныя кругі коршак, якога вельмі лёгка зблытаць з арлом.

На стромкіх таполях няма дзе прыгняздзіцца ганарыстаму буслу, і буслы абмінаюць тутэйшыя сёлы. Яны ляцяць на поўнач, да Прыпяці. Там якраз у збытку ўсяго таго, што падабаецца даўганогім гаспадарам нізін. У надпрыпяцкіх зарасніках з вясны да восені не змаўкае шматгалосы хор жаб, і як ні стараюцца нястомныя працаўнікі буслы, ім не ўдаецца хоць бы на дзень разладзіць гэтую адвечную музыку балот.

Мне давялося пахадзіць і паездзіць па гэтым раёне, і я не пераставаў любавацца кантрастамі, якіх тут не заўважыць хіба толькі сляпы. У паўднёвай, стэпавай частцы раёна — адно, а ў паўночнай, якая называецца Прыпяцкай зонай,— другое. Пройдзеш якія-небудзь дваццаць кіламетраў, і перамена кідаецца ў вочы выразна і рэзка. Розныя, неаднолькавыя краявіды, адметныя малюнкі вёсак, нават другая гаворка...

Сонца ўзыходзіць на стэпавай роўнядзі неяк нечакана. Ледзь-ледзь зардзее на ўсходзе вузенькая палоска, а праз якую-небудзь хвіліну ўжо ўсё наваколле заліта пераліўным, зіхатлівым бляскам. Гэта зусім не падобна на той мяккі, павольны ўсход, які можна наглядаць каля атуленай лясамі і хмызнякамі Прыпяці. Сонца паводзіць сябе тут зусім

па-іншаму. Яно тут як ветлівы наведвальнік, які ніколі не зойдзе ў хату, папярэдне не пастукаўшы ў дзверы. Спачатку лёгкая чырвань зайграе ў вяршалінах далёкага бору, потым сонечныя зайчыкі, нібы прабуючы сваю моц, лягуць на спакойныя хвалі ракі, і толькі калі яна ўсміхнецца, ясна і прыветліва, сонца поўнай жменяй кіне свае праменні ў шыбіны вясковых хат...

А вазьміце вецер. Сярод палявога прастору ён свавольны і нахабны. Ён як хоча разгульвае па пыльнай дарозе, прыгінае да самай зямлі пшаніцу, прымушае кланяцца гордыя сланечнікі, уздзірае саламяныя стрэхі хат. Ля Прыпяці ж вецер куды асцеражнейшы. Ён тут калі і разыдзецца, то з ім ёсць каму паспрачацца. Насупіцца і загамоніць лес, трывожна зашэпчуцца прыбярэжныя лазнякі, а разгневаная Прыпяць высока ўздымае свае празрыстыя хвалі, кідаючы іх адну за другой на нізкія берагі...

Палявая, стэпавая раўніна багацей за Прыпяцкую зону. У гэтым вельмі лёгка пераканацца, калі хоць раз пабываць на кірмашы ў раённым цэнтры. Кірмаш наогул тут бывае адменны: такога кірмашу не ўбачыш ні ў Мазыры, ні ў Рэчыцы, ні ў іншых найбольш выдатных тутэйшых мясцінах. Вялізная плошча, на якой без перабольшання магла б размясціцца палова Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі, у базарныя дні гудзе, як пчаліны улей. Яна ўся — наўсцяж і ўпоперак — застаўлена аўтамашынамі, фурманкамі, ларкамі і палаткамі. Чаго тут толькі не прадаюць! Здаецца, пажадай птушынага малака, і, калі ласка, вам прададуць яго, колькі захочаце.

Галоўную дудку на гэтым кірмашы іграюць, вядома, палявыя калгасы. Яны прывозяць не толькі пшаніцу, сала, масла, кормных япрукоў, індыкоў, курэй і гусей, розную садавіну і гародніну, яны з фанабэрыяй прадаюць тое, што адвеку не расло на забалочаных і пясчаных землях Прыпяцкай зоны. У ларках гэтых калгасаў пад канец лета можна купіць вінаграду, па смаку мала чым саладзейшага за журавіны, якіх процьма на прыпяцкіх імшарах. Аднак жа вінаград ёсць вінаград, тым болей што яго сюды не прывозяць з-пад Адэсы. Мясцовыя бахчавікі гандлююць таксама кавунамі (жыхары Прыпяцкай зоны гавораць, што іх бульба смачней за такія кавуны), кабачкамі, баклажанамі і сякімі-такімі іншымі смачнымі рэчамі, якімі багаты сонечны поўдзень і якія, што граху таіць, даволі марудна прасоўваюцца да Палярнага круга.

Прыпяцкая зона прывозіць на продаж самае звычайнае, чым нікога не здзівіш. Яна гандлюе бульбай, грыбамі, сушанымі ягадамі, рыбай, бярозавымі венікамі і дрывамі. Растуць, вядома, і ў надпрыпяцкіх вёсках яблыкі і грушы. Але гэта звычайныя антонаўкі і бэра зімовыя, якім цяжка спаборнічаць няхай сабе з недаспелым вінаградам і кавунамі, кожны з якіх па сваёй велічыні толькі крыху больш за кулак таго дзядзькі, што завіхаецца каля вагаў.

Жыхары палявых сёл прыязджаюць на кірмаш толькі на машынах. Яны важна расхаджваюць ад крамы да крамы, прыцэньваючыся галоўным чынам да шэрсці і шоўку. Палявік не пашкадуе спусціць каля піўнога ларка хоць цэлую паўсотню, бо ён жа багацей...

Тыя ж, што ядуць хлеб з надпрыпяцкіх пяскоў, не лічаць за ганьбу прыехаць на кірмаш на звычайнай буланцы, а то і даклыпаць проста пяшэчкам. Яны больш прыглядаюцца да паркаляў і корту, у сталовай аддаюць перавагу звычайнай гарбаце і, наогул, не вызначаюцца ніякай зухаватасцю. Характар іх пераважна ціхі і памяркоўны.

У адзін з цёплых дзён верасня я дабіраўся ў самую далёкую вёсачку Прыпяцкай зоны. Палавіну шляху я шчасліва праехаў на паўтаратонцы, якая вазіла нарыхтоўкі на раённы пункт «Заготзбожжа». У маю вёсачку машына не ішла, там, па дакладных звестках, якія я атрымаў ад шафёра, яшчэ не намалацілі. Ісці заставалася кіламетраў васямнаццаць.

Пачыналася восень. Яшчэ горача свяціла сонца, зусім па-летняму дрыжала сіняватая смуга над пыльнай дарогай, у кустах крушыны свісталі вясёлыя дразды. Буяла яшчэ на лугавінах зялёная атава, у палісаднічках вясковых хат наперагонкі хваліліся сваёй някідкай прыгажосцю жоўтыя вяргіні і астры. Але ўсеўладная восень неадступна цікавала за гэтымі апошнімі праявамі хмельнага летняга жыцця. Яна ўжо заслала суцэльным залацістым абрусам палі збажыны, злёгку пасерабрыла шаты разгалістых прыдарожных бяроз, а паветра напаіла той празрыстасцю і чысцінёй, якая бывае толькі цёплай, лагоднай восенню.

Мая справа была не такая ўжо тэрміновая, асабліва спяшацца не трэба было, і я з прыемнасцю расцягнуўся на траве пад засенню бярозы. Добра іншы раз вось так, без клопату і

хвалявання, паваляцца ў цяньку, падыхаць чыстым паветрам, у збытку насычаным пахамі поля, лесу, лугавіны. Мабыць, няма лепшых лекаў ад гарадскога тлуму і мітусні, ад службовых згрызот і дробных недарэчнасцей, без якіх, мабыць, не абыдзешся ў жыцці. На адзіноце прыходзяць думкі, якія, здаецца, ніколі не наведаюць чалавека, запрэжанага ў цяжкі воз паўсядзённасці. Нездарма старажытныя філосафы аддавалі яўную перавагу спакою і сузіральнасці.

Высока ў сінім бязвоблачным небе плыве яркае сонца, шчодра лье на зямлю сваю цеплыню і святло, а ўлагоджаная і сагрэтая яго ласкай зямля адказвае хмельным буяннем жыцця.

Цёпламу, яснаму дню радуецца кожная жывая істота. Над маёй галавой, на бярозе, цінькаюць бесклапотныя сініцы, пробуюць моц сваіх крылляў, імкліва носячыся ў небе, прыгожыя ластаўкі. На маленькім лапіку зямлі, дзе я прылёг, ідуць свае клопаты і турботы. Некуды спяшаецца цягавітая мурашка, уверх па сцяблінцы паўзе спакойная божая кароўка, нястомна таўкуць мак дурнаватыя мошкі, якія зусім не думаюць пра тое, што вечарам, з першым павевам холаду, яны ўсе загінуць.

Над Прыпяццю сінее лес, адтуль нясе церпкім густым водарам, сатканым з пахаў хвоі, прэлай зямлі, грыбоў і багуну. Шырокая лугавіна прымешвае свайго да гэтай багатай і разнастайнай гамы: пахне аерам, мурагом, салодкай медуніцай...

Спакойна, нібы ў ціхім паўсне, набягаюць думкі; магчыма, гэта нават не думкі, а проста адчуванні, нешта такое, што ўзнікае на граніцы пачуцця і развагі. Маю істоту перапаўняе адчуванне непарыўнасці, еднасці душы і цела з усім гэтым бясконцым і дзівосным хараламм жыцця. Я думаю пра сонца, пра гэтага нястомнага і бескарыслівага сейбіта, якім пасеяна ўсё жывое на зямлі. Сонца дае цеплыню і святло, зямля свае жыватворныя сокі, але хто сее прыгажосць, радасць, несмяротнасць жыцця? Адкуль у прыродзе такое багацце і разнастайнасць форм? Хто той нябачны мастак і дэкаратар, які так прыгожа расквеціў і аздобіў зямлю, стварыў гэтую бясконцую сімфонію фарбаў, гукаў, ліній? Паводле якога закону з маленькага лятучага зярнятка вымахала вось гэтая беластволая бяроза з раскідзістай шапкай-кучмой? Дзе, у якім сейфе

схаваны чарцёж, адпаведна якому яна расла, усё шырэй і шырэй раскідаючы зялёнае голле, цягнучыся сваёй вяршалінай да сонца, да святла?..

Некалі, яшчэ ў дашкольныя гады, я лічыў, што ў кожным зярнятку тоіцца маленькае нябачнае дрэўца або раслінка, з якіх яны пазней і вырастаюць. Школа абвергла гэтае наіўнае заблуджэнне. Пад мікраскопам мы разглядвалі і зерне жыта, і макавае зерне, і кавалачкі жолуда і ўсюды бачылі адно і тое ж: клеткі, пратаплазму, бялок. Але загадка дзіцячых год засталася неразгаданай. Чаму з макавага зерня, якое куды меншае за жытняе, вырастае большая і прыгажэйшая расліна? Чаму звычайная муха або камар, як іх добра ні кармі, ніколі не дасягнуць велічыні майскага жука? І наогул ад чаго залежыць уся гэтая непадобнасць жывога на зямлі?..

Я ляжу пад бярозай, успамінаю свае дзіцячыя заблуджэнні, і ў мяне хораша і ціха на душы. Каб сёння хто-небудзь задаў мне адно з гэтых пытанняў, я адказаў бы не лепш, чым некалі адказвалі мне. Прырода...

Я думаю яшчэ пра восень. Мабыць, памыляюцца тыя, хто бачыць у восені толькі адно заміранне жыцця. Жыццё ў гэтую пару не замірае, а нараджаецца. Яно проста стаіць перад пачаткам новага, яшчэ шырэйшага круга. Бяроза, пад якой я ляжу, адшумела летнім зялёным лісцем і паслала ў свет, можа, мільёны новых бярозак, схаваных у яе лятучым насенні.

Дайце гэтаму насенню пульхную глебу, трошкі святла і цеплыні, і народзіцца новы бярозавы гай...

Восень — гэта ростані на вечных дарогах старога і новага жыцця. Няхай прыгрэе сонца, і тады за цёплым летам адразу пачнецца вясна, без ніякай восені і зімы, без ніякага перапынку. Хіба ўвосень не расцвітае прыгажуня яблынька, зведзеная ў зман здрадлівай ласкай бабінага лета? Нездарма, відаць, нашы далёкія продкі кожны новы год пачыналі з восені...

Добра пад бярозай! Закрыеш вочы, і тады разгалістае зялёнае дрэва ўявіцца мачтай, лёгкі шум яго лісцяў плёскатам хваль, і можна плыць і плыць пад гэту аднастайную музыку ў дальнія далі. Можна пабачыць заморскія краіны, наведаць казачную Атлантыду, асвяжыць засмяглыя губы цудадзейным малаком какосавай пальмы. Усё можна пад прыдарожнай бярозай...

Мяне разбудзілі нечыя размераныя цвёрдыя крокі па ўзбочыне дарогі. Я падхапіўся і ўбачыў хлопца ў вайсковым адзенні з рэчавым мяшком за плячамі.

— Пачакайце! — крычу я, устаючы з зямлі.

Хлопец спыніўся. Ён сярэдняга росту, шыракаплечы, яго энергічны, даволі прыгожы твар здаецца бронзавым ад вятроў, сонца і дарожнага пылу. Мяне ён разглядае з выразам лёгкай цікаўнасці ў шэрых, удумлівых вачах.

— Вы не ў Дронькі?

— Бліжэй,— адказвае ён, называючы сваю вёску.

Я ведаю вёсачку, куды ён дабіраецца. Стаіць яна на пясчаным узгорку, маленькая, раскіданая, нічым не славутая. Няма ў ёй ні садоў, ні добрых агародаў, ні лесу паблізу — нічога такога, чым бы магло залюбавацца вока. Мабыць, для таго каб спыніць рух сыпучых пяскоў, нехта насадзіў толькі ракітніку і вербаў. Кусты растуць проста на вуліцы, калі можна назваць вуліцай сухі пясчаны прасёлак, які пятляе ад хаты да хаты. Сваёй формай вуліца вельмі нагадвае былое, пакінутае рэчышча.

Плятуць у вёсцы адменныя кашы і кошыкі, умеюць рабіць выдатныя свісцёлкі і дудкі. Гэта, здаецца, усё, што я ведаю пра мясціны, якія выгадавалі такога ладнага хлопца.

— Адслужылі? — гледзячы на чорныя пагоны з трыма залацістымі лычкамі, пытаюся я.— Сувязіст, тэхнік?

— Адслужыў,— адказвае хлопец.— Быў механікам. Шафёр, трактарыст, танкіст — усё разам. А цяпер практыкуюся ў пешай хадзьбе.

— Цяпер вам работы будзе. У калгасах свае трактары, машыны. Такія, як вы, цяпер нарасхват.

Сонца хіліцца ўжо к заходу. Ісці лёгка і прыемна. З Прыпяці вее свежы, лагодны вецер, ён нясе, здаецца, на сваіх крыллях вострыя пахі водарасцей, рыбы, чорнага маронага дуба, камель якога паднялі з дна ракі. Дарога ўецца то полем, на якім чакае сваёй чаргі рэдзенькі авёс і дрэмле пачарнелы бульбоўнік, то кустоўем і рэдкалессем. Прыкметы ўсеўладнай восені тут яшчэ болей выразныя. Трапечуць чырванаватым лісцем маладыя асінкі, наперагонкі хваляцца сваімі ярка-чырвонымі гронкамі стройныя рабіны, а чародкі маслякоў і падасінавікаў выбягаюць з кустоў на самую дарогу.

Мы ідзём і размаўляем пра салдацкую службу, пра тэхніку, без якой цяпер не ступіш і кроку. Потым гаворка заходзіць аб міжпланетных зносінах, пачатак якіх, здаецца, вельмі блізка. Добрая дарожная размова, якая непрыкметна скарачае доўгія пыльныя кіламетры.

Мой спадарожнік з тых людзей, якія ўмеюць слухаць, але самі не вельмі ахвочы гаварыць. Па характару ён ураўнаважаны і спакойны. За плячамі ў хлопца не менш дзесяцігодкі, гэта відаць з тых кароткіх заўваг, якія ён час ад часу робіць. Я мысленна прыкідваю, што ў школе мой спадарожнік, напэўна, найбольш любіў фізіку і матэматыку. У яго практычны склад мыслення, ён любіць усё дакладнае, прадметнае і даволі раўнадушны да адцягненай, напаўфантастычнай гаворкі. Ён любіць тэхніку, гэта, здаецца, яго сапраўднае жыццёвае прызванне.

— У Прыпяцкай зоне машын не вельмі многа,— з сумам у голасе гаворыць хлопец.— Дзве гадзіны ідзём, і хоць бы адна...

Я разумею яго заклапочанасць. Ён вяртаецца дадому і хоча рабіць тое, што найлепш умее. Мне робіцца прыкра ад думкі, што ў пясчанай вёсачцы, куды ён ідзе, можа не аказацца ні трактара, ні камбайна.

Сонца вісіць ужо над самым лесам. Яшчэ паўгадзіны, і яно зусім схаваецца за далёкім надпрыпяцкім борам. У святле заходзячага сонца пералескі, кусты, поле — усе навакольныя мясціны здаюцца мне зусім незнаёмымі, новымі. Вяршаліны бяроз, здаецца, абліты золатам, густым ярка-барвовым полымем гараць макаўкі асін. Кусты, дрэвы, стагі сена пусцілі ад сябе доўгія цені, здалёк яны нагадваюць абрысы нейкіх казачных караблёў. Уражанне такое, што ўсе гэтыя мясціны я бачу ўпершыню.

— У Карэліі ўжо цёмна зусім,— гаворыць мой спадарожнік.— Затое ў чэрвені там любата. Чытай цэлую ноч газету, ніякае асвятленне не трэба. Белыя ночы...

— Вы служылі ў Карэліі?

— Тры гады. Харошы край! Азёры, лясы, граніт...

Мне знаёма Карэлія з мінулай вайны. Мы, аказваецца, служылі ў адных і тых жа мясцінах, хадзілі па адных і тых жа дарогах. Успамін аб Карэліі нас прыкметна збліжае.

У вёсачку мы прыходзім прыцемкам. Мне трэба далей, да Прыпяці; узыдзе месяц, і па халадку я адолею свае тры кіламетры самае большае за гадзіну. Я развітваюся з хлопцам, і нейкае імгненне ён вагаецца. Потым рашуча бярэ мяне за рукаў.

— Нікуды ты не пойдзеш,— гаворыць ён.— Пераначуеш тут...

Я не ўпіраюся, хоць ведаю, што лішнія сведкі пры сустрэчы родных і блізкіх пасля доўгага расстання не вельмі патрэбны. Суцяшаю сябе тым, што адразу падамся спаць куды-небудзь на вышкі з сенам. Хлопец харошы, развітацца з ім проста так не хочацца.

— Рада будзе маці,— кажу я.— Тры гады ўсё-такі...

Хлопец маўчыць. Я бачу, што ён хвалюецца. Мы ідзём па вуліцы, боты правальваюцца ў пясок, але ён, здаецца, гэтага зусім не заўважае. Ён крочыць шпарка, нібы па асфальту, і я ледзь паспяваю за ім. Нарэшце мы спыняемся каля невялікай хаткі.

Ледзь не пад самымі вокнамі тыя ж вербы і ракіты, што і ўсюды па вёсцы. У хаце цёмна.

— Я не да маці,— нейкім дрыжачым голасам паведамляе нарэшце хлопец.— Так проста, у госці...

Веснічкі адчынены, некалькі крокаў па двары, і вось мы ў хаце. У твар патыхнула цеплынёй людскога жылля, сырадоем, мятай.

— Ёсць хто ў хаце? — пытаецца хлопец, і голас яго дрыжыць.

— Алёша!

Я чую таропкі тупат босых ног па падлозе, пацалункі, дзявочы смех і слёзы адначасова.

— Родны мой! Я ліст атрымала... Але ж не думала, што ты так хутка... Карову падаіла і лягла... Мы сёння бульбу пачалі... А ты дома быў?..

Я пачынаю здагадвацца, куды трапіў. Лепш за ўсё ў маім становішчы паціху адчыніць дзверы і пайсці сваёй дарогай да Прыпяці. Тут я буду толькі перашкаджаць. Асцярожна намацваю клямку.

— Марыйка, запалі лямпу. Тут таварыш са мной. Ён таксама служыў у Карэліі. Пераначуе...

Працяглае маўчанне, роспачны ўздых, павольны тупат босых ног па падлозе. Я гатовы праваліцца скрозь зямлю. Праходзіць некалькі доўгіх хвілін. Я, здаецца, чую, як у Алёшы тахкае сэрца. Марыйка, відаць, пераапранаецца.

Нарэшце лямпа запалена. Перад маімі вачамі ўтульны белы пакойчык і яго мілая гаспадыня. Марыйка зграбная. Нечым няўлоўным яна падобна на Алёшу.

Алёша і Марыйка разгубленыя. Дзяўчына болей за хлопца; гэта, мабыць, таму, што, вітаючыся з ім, яна не ведала аб маёй прысутнасці. Я ж не зводжу з дзяўчыны вачэй і ўжо зусім не каюся, што прыйшоў у госці разам з Алёшам. На душы ў мяне радасна і ціха. Гэтыя двое нібы нарадзіліся адно для аднаго...

Мы сядзім за сталом, вячэраем. Над лямпаю носяцца пярэстыя матылі. Яны пакідаюць свае сонныя шчыліны і ляцяць на святло. За акном ноч. Там гойдаюць веццем разгалістыя вербы, шасцяць асеннім лісцем ракіты.

— Мама і сёння за Прыпяццю,— паведамляе Марыйка.— Там нашыя кашары...

Гэта Марыйка сказала ўслых. А яе позірк, накіраваны на аднаго толькі Алёшу, гаворыць другое.

«Дурань ты, Алёшка,— здаецца, гавораць прыгожыя Марыйчыны вочы,— навошта прывёў ты ў хату гэтага манцёра? Навошта адкладваць да заўтра тое, што нам належыць сёння?..»

Павячэраўшы, я прашуся на вышкі, на сена. Гэтым дваім трэба хутчэй даць нагаварыцца, а то яны маўчаць, нібы пасварыўшыся. На вышкі мяне ўсё ж не пускаюць — там няма ніякага сена. Марыйка сцеле мне на канапе ля акна. Яны з Алёшам збіраюцца прайсціся па вёсцы.

Прачынаюся ад сцішаных прыглушаных галасоў.

Алёша з Марыйкай, відаць, сядзяць на лавачцы пад акном. На стале прыкручана лямпа, у хаце ціхі паўзмрок. Колькі цягнуўся мой першы сон? На бліскучым цыферблаце наручнага гадзінніка палова чацвёртай. А лёг я ў адзінаццаць.

— Нядобра, Алёша, што ты не заехаў да сваіх. Што твая мама падумае? — чую Марыйчын голас.

— Нічога не падумае. Яна ведае пра цябе. Паслязаўтра паедзем разам у Вяляцічы.

— Не паеду я, Алёша. Я ж яшчэ не твая жонка.

— Сходзім у сельсавет, запішамся.

— Нельга так, Алёша. Трэба табе спачатку дазволу ў сваіх бацькоў запытаць. Можа, яны яшчэ не згодзяцца, каб ты жыў у мяне...

— Згодзяцца...

Усё ясна і зразумела. Вяляцічы — багатая вёска, размешчаная сярод палявога пшанічнага прастору ў паўднёвай частцы раёна. Яна ўся тоне ў садах, яна гандлюе ў нядзельныя кірмашы вінаградам, кавунамі, тлустымі свінымі тушамі. Вяляцічы славяцца сваім гаражом, у якім, здаецца, дванаццаць аўтамашын. Там ёсць трактары, камбайны, электраматоры. Там знайшлася б работа па густу механіку Алёшу...

Засынаю зноў. Там, на лавачцы, пад зыркімі вераснёвымі зоркамі, цячэ бясконцая гарачая размова.

Прачынаюся на світанні. Алёша спіць на раскінутым на падлозе сенніку. Марыйка — на ложку. Якія ў іх абаіх прыгожыя, чыстыя твары, колькі сілы і маладосці ў гэтых вольна раскінутых, загарэлых руках!

Асцярожна, каб не пабудзіць дзяўчыну і хлопца, выходжу на двор. Перад вачамі ў ранішнім тумане знаёмая рассыпаная вёсачка, задумлівыя вербы, ракіты. Бачу і нешта новае, чаго яшчэ не было тут летась. На калгасным двары аўтамашына. Стаіць на прыколе, на драўляных калодках. Значыць, свая, знойдзецца занятак Алёшу.

Ногі тонуць у пяску. Пясок і пясок. Недзе вёрст за трыццаць адсюль багатая вёска Вяляцічы...

*1958*

## СПРАВА АБ КАНОПЛЯХ

На выбоіне «газік» падкінула, матор заглух, і машына, прабегшы некалькі метраў, спынілася.

— Спецыяліст з цябе,— сказаў сакратар райкама Мікалай Іванавіч Казачонак, адчыняючы дзверцы і вылазячы.— Кожнай калдобіне кланяешся.

— Спецыяліст,— бяскрыўдна пацвердзіў шафёр Іван Лямех, плячысты рабаваты хлопец з насмешлівымі шэрымі

вачамі.— Гэты дрындулет даўно пара ў музей здаць, а я вас катаю.

Дзень быў летні, пахмурны, нізка над зямлёй плылі цяжкія рваныя воблакі. Апошні тыдзень безупынна ліў дождж, і дарогу расквасіла. Іван, падняўшы капот і нешта насвістваючы, корпаўся ў маторы, а Мікалай Іванавіч нецярпліва паходжваў па ўзбочыне. Краявід не радаваў вока. Па абодва бакі дарогі ляжала скошаная сенажаць; трава, што заставалася ў радах, парудзела ад дажджу. Па пракосах з незалежным выглядам дыбалі два буслы, тыркаючы час ад часу сваімі чырвонымі дзюбамі ў дол. Дзесьці ў бярэзніку, што шчыльна падступаў да сенажаці, рыкала карова. Было холадна і няўтульна, нібы на зямлю ступіла позняя восень.

— Селі ў лужыну,— сказаў Мікалай Іванавіч, заняты нейкімі сваімі думкамі.

— Паехалі,— весела крыкнуў Іван.— Маліцеся Богу, каб не селі каля моста.

«Газік», апусціўшыся па самы радыятар у ваду, павольна пераадольваў лужыну. Нарэшце машына выбралася на добрую каляіну.

— Мне медаль трэба даць за работу,— сказаў Іван, адварочваючыся да сакратара і падміргваючы невядома каму.— Сорак тысяч на гэтай балалайцы наездзіць — не жартачкі. Яе ж спісваць хацелі, а я зямны шарык на ёй абкруціў, калі мераць па экватару. Пры адным капітальным рамонце і без ніводнай вымовы...

Сакратар усміхнуўся. Ад гэтага яго стомлены, немалады твар з дзвюма выразнымі маршчынамі, што пачыналіся ля куточкаў губ, папрыгажэў і падабрэў.

— Вымову, дапусцім, ты яшчэ можаш заслужыць,— сказаў ён.— Зробіш яшчэ адну пасадку сярод лужыны — вось табе і вымова.

— Не-е-э! — запратэставаў Іван.— Хочаце маім пальцам ды ў маё ж вока. Чыжэўскаму выносьце вымову, а не мне. Гэтай дарогі не рамантавалі з таго часу, як стаіць белы свет. Па ёй танк не пройдзе, не тое што няшчасны «казёл». Чыжэўскі начальства не любіць, таму і дарогі не хоча рамантаваць. Каб меней да яго ездзілі...

— Ну, ты скажаш...

Наперадзе паказаўся перакінуты цераз рачулку драўляны мост, а перад ім вялікая, цераз усю дарогу, лужына. Іван адразу анямеў. Твар яго стаў злосным, а рукі нібы прыкіпелі да баранкі. «Газік», гонячы перад сабой хвалю мутнай, гразкай вады, асцярожна праходзіў небяспечнае месца. Ужо на сярэдзіне лужыны шафёр раптам уключыў газ, і машына імгненна выскачыла на драўляны насціл моста.

— Так Сувораў браў крэпасці,— з незахаваным гонарам заявіў Іван, правай рукой выціраючы ўспацелы лоб, а левай трымаючыся за руль.— Галоўнае — нечаканасць і націск...

— Стратэг,— сказаў сакратар.— Ты сапраўды калі-небудзь атрымаеш медаль...

Дарога пайшла лесам. Шаты разложыстых вольхаў і бяроз навісалі над самым шляхам, густы белы туман, выпаўзаючы з лясных нізін, засцілаў усё наваколле. Востра пахла церпкай прэллю і грыбамі. Буйныя кроплі вады, спадаючы з лісцяў, барабанілі па брызенту, якім была абцягнута кабіна «газіка».

— Я кажу праўду: Чыжэўскі не любіць начальства,— гаварыў Іван.— Ведаеце, як называюць цяпер «Чырвоны ўсход»? Палыкавіцкая аўтаномная рэспубліка. Летась Чыжэўскі такі адкалоў нумар. Гэты мост праламаўся ад трактара, дык ён яго не рамантаваў да таго часу, пакуль не скончыў сяўбу. З раёна ў Палыкавічы за ўсю вясну прабраўся толькі Цімох Пятровіч. Давёз я яго да гэтага моста, ён тут разуўся, скінуў штаны і, дай Бог здароўя, босы цераз ваду. Ужо з другога берага крыкнуў мне, каб прыехаў па яго праз два дні. Тады ж і гэтая гісторыя з каноплямі выплыла наверх. У газеце пазней ужо пісалі, калі мост адрамантавалі, карэспандэнт спецыяльна прыязджаў правяраць факты...

Сакратар райкама Мікалай Іванавіч быў у раёне новым чалавекам, і таму Іван кожную паездку частаваў яго сваімі расказамі і назіраннямі. Іван круціў баранку райкамаўскага «газіка» чатыры гады і многа ведаў. Мікалай Іванавіч ведаў менш, калі мець на ўвазе той бок жыцця, пра які мала гавораць на бюро і рэдка пішуць у газетах. Абралі Мікалая Іванавіча першым сакратаром паўгода назад, пасля таго, як яго папярэднік, Цімох Пятровіч Назараў, пайшоў працаваць старшынёй калгаса. Сказаць, што новы сакратар зусім не ведаў раёна, якім ён прыехаў кіраваць, нельга было. Некалі, амаль

трыццаць гадоў назад, у гэтым раёне Мікалай Іванавіч толькі-толькі пачынаў працаваць. Скончыўшы палітасветныя курсы, займаў ён у тыя далёкія гады першую сваю пасаду загадчыка хаты-чытальні ў гэтых самых Палыкавічах...

Уз'ехалі на ўзгорак, з вышыні якога адкрылася вёска. Размешчаная ў лагчыне, яна мела чатыры вуліцы, якія здалёк нагадвалі грані правільнага чатырохвугольніка. Хаты, хлеўчукі, парканы, калгасныя фермы — увесь знешні выгляд вёскі яшчэ не страціў адмецін пастаяннай перабудовы і даробак. Побач з нізенькімі, пастаўленымі на скорую руку хаткамі стаялі новыя зрубы, узводзіліся новыя грамадскія будыніны. У адным двары перасыпалі хлеў, у другім — капалі калодзеж. Сям-там падняліся ўжо маладыя сады, але зелянiны, дрэў вёсцы яшчэ не ставала. Палыкавічы ў час акупацыі былі спалены фашыстамі, аб гэтым мог здагадацца кожны, хто быў знаёмы з вясковым жыццём.

— Вячэраць будзем тут ці дома? — спытаў Іван, спыняючы машыну насупраць праўлення калгаса, вялікага новага будынка, у якім размяшчаліся таксама клуб і радыёвузел.

— Заначуем,— коратка адказаў сакратар.— Можа, яшчэ і заўтра не выедзем.

— Ясна,— сказаў шафёр, напусціўшы на твар выраз абыякавасці. Ён падагнаў машыну пад самы паркан, выключыў матор і выцягнуў з-пад сядзення тоўстую кнігу без вокладкі.

Мікалай Іванавіч зайшоў у праўленне. У першым вялікім пакоі стаялі тры сталы. За сярэднім сядзеў бухгалтар, малады яшчэ хлопец у вайсковай гімнасцёрцы, за двума бакавымі — дзве дзяўчыны. Драўляная перагародка аддзяляла бухгалтэрыю ад кабінета старшыні.

— А Чыжэўскага няма,— адказаўшы на прывітанне, паведаміў бухгалтар,— паехаў у дзіцячы дом заключаць дагавор наконт пастаўкі дроў. К вечару павінен вярнуцца,— дадаў ён з нейкай паспешлівасцю.

— Добра,— сказаў сакратар.— Я нікуды не спяшаюся. Дамоўлюся з Галоўкам, і правядзём партыйны сход.

— Ён дома. Надзя, скоч па Галоўку,— загадаў бухгалтар, відаць, адчуваючы сябе няёмка з той прычыны, што ў канцылярыі не аказалася нікога з калгасных кіраўнікоў.

— Не трэба, я сам знайду Галоўку,— сказаў сакратар.— Вы ў гэтым месяцы ўжо авансавалі?

— Не поўнасцю,— сумеўся хлопец.— Жывёлаводам выдалі, а на палявыя працадні яшчэ не.

— Грошы давалі толькі за зімні квартал,— удакладніла дзяўчына, якая сядзела за правым сталом.

Бухгалтар кінуў на яе хуткі, нібы спалоханы, позірк і паспяшыў растлумачыць:

— Авансаванне ў нас галоўным чынам паквартальнае. Так нават лепш: болей грошай выдаём адразу. Авансуем жа па два рублі на працадзень. Але ў перыяд адказных работ праводзім разлік штомесяц...

— А касавіца хіба не адказная работа? — сказаў сакратар.

Бухгалтар пачырванеў і змоўк. Дзяўчаты, сагнуўшыся над паперамі, зацята шчоўкалі лічыльнікамі. Было відаць, што размова закранула балючае месца, таму Мікалай Іванавіч яе спыніў. Ён прайшоў з кута ў кут прасторнай канцылярыі, спыніўшыся на хвіліну ля насценнай газеты. Яна называлася «За высокі ўраджай» і прысвячалася майскім святам. Дзве калонкі займаў передавы артыкул, перапісаны, мабыць, з газеты, была надрукавана адна заметка пад назвай «Выканаем абавязацельствы». Апошняе акенца газеты займала намаляваная сінім алоўкам паштовая скрынка з заклікам пад ёй: «Падавайце заметкі ў наступны нумар нашай газеты». Мяркуючы па тым, што наступны нумар спазніўся ледзь не на два месяцы, заметак у рэдакцыйную скрынку паступала, відаць, не дужа многа.

Побач з насценнай газетай вісеў устаўлены ў рамку вялікі аркуш паперы, дзе былі акуратна перапісаны абавязацельствы калгаса на бягучы год. Папера крыху парудзела, і, прыгледзеўшыся, Мікалай Іванавіч адразу заўважыў падман: усюды па тэксту мінулы год быў падпраўлены тушшу на сёлетні. Ахвота знаёміцца з такімі абавязацельствамі прапала, і сакратар выйшаў на вуліцу. Іван адчыніў дзверку кабіны і, пераканаўшыся, што сакратар нікуды не збіраецца ехаць, закрыў яе і зноў углыбіўся ў кнігу.

Надвор'е праяснялася. Воблакі паўзлі ўжо не такою густою чарадой, сям-там паміж імі ўтвараліся прасветы, і тады на нейкі момант выблісквала сонца. Зямля хутка падсыхала.

У твар дзьмуў лагодны паўднёвы вецер; радуючыся перамене надвор'я, заядла ціўкалі кашлатыя ад непагадзі вераб'і. На вуліцы біліся два пеўні — чырвоны і белы. Яны абодва стаялі ў ваяўнічых позах, пільна сочачы адзін за адным. У адзін момант пеўні ўзляталі, стараючыся дзеўбануць адзін аднаго ў грэбень. Куры, з-за якіх, відаць, пачалася гэтая бойка, не звярталі на яе ніякай увагі. Яны з абыякавым выглядам нешта дзёўбалі ў мураве.

Бойка пеўняў развесяліла Мікалая Іванавіча. Ён нават спыніўся, наглядаючы, з якой зацятасцю праціўнікі не згаджаліся ўступаць адзін аднаму першынства. Нарэшце белы злаўчыўся і некалькі разоў запар дзеўбануў чырвонага ў грэбень. Ён яўна браў верх. Мікалай Іванавіч гучна ляснуў у далоні, і перапалоханыя пеўні разбегліся ў розныя бакі.

Мікалай Іванавіч пакрочыў вуліцай. Яму з часу выбрання сакратаром райкама два ці тры разы прыйшлося праязджаць праз вёску, дзе ён некалі прабаваў свае першыя сілы. Але гэта былі звычайныя паездкі па раёну, і ён нават не здолеў як след разгледзець усё новае, што паявілася ў Палыкавічах за трыццаць гадоў яго адсутнасці. А новым было ўсё: вуліцы, хаты, доўгія грамадскія будыніны, магазін, яслі, школа, нават лес, які далей адступіў ад вёскі, і неба, што стала, здаецца, вышэйшым. Мікалай Іванавіч не пазнаваў нічога. Ён памятаў Палыкавічы вялікай раскіданай вёскай. Была, праўда, адна вуліца, дзе хаты ціснуліся адна да адной — «як авечкі ў летні жар»,— як пісаў Якуб Колас. На іх стрэхах рос буйны зялёны мох, і хаты з-пад гэтых стрэх глядзелі на белы свет сваімі падслепаватымі акенцамі нібы спадылба. Амаль у кожным двары раслі разгалістыя грушы-дзічкі...

Гэта быў цэнтр, забудаваны, мабыць, яшчэ ў часы прыгону. Астатняя вёска, падхопленая ветрам сталыпіншчыны, рассыпалася на хутары і хутаркі, якія злучаліся паміж сабой толькі вузкімі сцежкамі. З узгоркаў, якімі ў тыя далёкія часы пачыналіся Палыкавічы, здавалася, што вёска пайшла скакаць упрысядкі.

Была ў вёсцы царква, а насупраць яе вялікі папоўскі дом, з шасці пакояў. У другой палове гэтага дома, рэквізаванай у папа, размяшчалася хата-чытальня. Усё знікла — і царква, і папоўская хароміна. Мікалай Іванавіч шукаў вачамі месца, дзе

некалі была хата-чытальня, і доўга не мог знайсці. Усе старыя арыенціры прапалі. Нарэшце сакратар убачыў сваю памылку: пошукі трэба было пачынаць ад узгорка пры ўездзе ў вёску. Планіроўка вуліц стала зусім другой, і месца, дзе некалі стаяў багаты дом папа Ярашэвіча, мабыць, адышло пад агароды.

Крочачы вясковай вуліцай і ўспамінаючы даўняе, Мікалай Іванавіч раптам злавіў сябе на адчуванні, што за ім нехта ідзе. Ён крута павярнуўся і сутыкнуўся амаль твар у твар з рослым танклявым юнаком, апранутым у паношаны шэры пінжачок. Хлопец ішоў за два крокі ад сакратара і, відаць, не адважваўся з ім параўняцца.

— Добры дзень, Мікалай Іванавіч,— збянтэжана прамовіў юнак,— я хацеў з вамі па справе...

— Слухаю вас, па якой справе? — Мікалай Іванавіч прыцішыў крок, углядаючыся ў твар свайго субяседніка. Хлопцу было не болей васямнаццаці гадоў; чорныя, нібы ластаўчыныя крылы, бровы, пухлыя прыгожыя губы, мяккія рысы — усё гэта рабіла яго твар падобным на дзявочы і нейкім знаёмым. Юнак хваляваўся.

— Я працую загадчыкам радыёвузла, манцёрам і сакратаром камсамольскай арганізацыі,— пачаў ён.

— Пасад многа,— Мікалай Іванавіч усміхнуўся.— Слухаю вас...

Ад гэтай усмешкі юнак пасмялеў. Яго шчокі паружавелі, ён пачаў гаварыць гучна і шпарка:

— Мы хочам купіць духавыя інструменты і просім вашай дапамогі. А то што ж атрымліваецца: клуб ёсць, а моладзі сумна ўсё роўна. Толькі гармонікі ды патэфоны, культурную работу наладзіць цяжка... Летась мы пастанавілі стварыць духавы аркестр. Дамовіліся з Чыжэўскім: пяць дзён камсамольцы адпрацуюць на будаўніцтве кароўніка бясплатна, калгас жа наймае людзей з мястэчка. Ну, як суботнік які-небудзь. А калгас за гэта купіць інструменты... Працавалі ўсе, сам Чыжэўскі хваліў. Казаў — добрая ініцыятыва. А грошай на інструменты не даў...

— Не даў? — перапытаў сакратар.— А чаму ж ён не даў?

— Кажа: камсамольцы — памочнікі праўлення. Яны як належыць памаглі калгасу. А духавы аркестр не галоўны ўчастак. За тыя грошы праўленне нібыта купіла шыферу і бляхі...

Мікалай Іванавіч прысеў на лавачку. Юнак стаяў, калупаючы наском чаравіка вільготны пясок. Праехаў грузавік, у яго кузаве гучна ляскалі пустыя малочныя бітоны. Трое хлапчукоў, якія вынеслі з двара папяровага змея з доўгім ільняным хвастом, застылі ў нерашучасці. Яны, відаць, не адважваліся рабіць першую пробу пры чужым чалавеку.

— Сядайце, калі ласка,— прапанаваў сакратар.— Як ваша прозвішча?

— Бабошка,— адказаў юнак, прымошчваючыся на самым канцы лавачкі.

— Сцяпан Бабошка вам не родзіч? — устрапянуўшыся, спытаў Мікалай Іванавіч. Ён глядзеў на юнака з напружанай, незахаванай цікавасцю, знаходзячы на яго твары да болю знаёмыя рысы.

— Гэта бацька мой. Ён быў да вайны старшынёй калгаса і загінуў у партызанах у сорак трэцім годзе. Адкуль вы ведаеце майго бацьку?

— Ведаю,— коратка адказаў Мікалай Іванавіч.

Так, ён ведаў Сцяпана Бабошку, першага палыкавіцкага камсамольца, вясёлага і жартаўлівага хлопца. Іх было тады толькі пяць камсамольцаў на ўсе Вялікія Палыкавічы: сакратар ячэйкі Валодзя Цюх, які быў і сакратаром у воласці, Арцём Чыжэўскі, люты бязбожнік і заяты вораг кулакоў, Сцёпка Бабошка, найлепшы спецыяліст на розныя выдумкі, Мальва Веснавая, дачка дзяка, якая, насуперак бацькавай волі, першай з вясковых дзяўчат уступіла ў ячэйку, і ён сам, загадчык хатычытальні. Далёкія, незабыўныя гады... Няўрымслівую пяцёрку праклiналі ў царкве поп Ярашэвіч і дзяк, бацька камсамолкі. Клялі ў сваіх закутках і на людзях усе кулакі і падкулачнікі. І не толькі клялі...

Тады здавалася, што на іх, камсамольцах, трымаецца ўвесь белы свет. Яны ўсё ведалі і ўсё ўмелі: высмейвалі самагоншчыкаў, раскрывалі людзям вочы на тое, якімі лекамі карыстаецца шаптуха Халява, дабіваліся перамеру зямлі ў заможнікаў.

І тады, у тыя прамяністыя гады, ён, Мікалай Казачонак, упершыню пакахаў. Пакахаў чарнабровую Мальву, дзякоўскую дачку і першую камсамолку. Была Мальва задуменная і ціхая, але характарам цвёрдая як крэмень. Жыла ў бацькоўскім доме ў асобнай каморцы, бегала ў мястэчка, у сямігодку, і выпісвала

часопіс «Бязбожнік». Ніхто не ведаў, колькі вечароў прастаяў пад запаветным акном дзякоўскай хаты Мікалай Казачонак, накіраваны ў Палыкавічы змагацца з рэлігіяй — опіумам народа — самім камітэтам камсамола акругі...

На першым часе здавалася, што Мальва Веснавая аднолькавая з усімі. Яна была ласкавая, шчырая, і болей нічога. Але гэта толькі здавалася. Калі двое з палыкавіцкай ячэйкі — Сцёпка Бабошка і ён, Мікалай Казачонак,— пайшлі на прызыў, стала ясна, што Мальва зрабіла свой выбар: вясёлага і прыгожага Сцёпку, які на памяць ведаў усяго Дзям'яна Беднага і байкі Кандрата Крапівы, выбрала яна. Яму, вясёламу Сцяпану, заліваючыся чырванню, падарыла Мальва вышытую насоўку са сваімі ініцыяламі ў самым куточку...

Потым была вайсковая служба, школа палітсастава, у якой Мікалаю Казачонку давялося вучыцца разам са Сцяпанам Бабошкам. З далёкіх Палыкавіч у адрас Сцяпана прыходзілі лісты, напісаныя знаёмым почыркам. Былі ў тых лістах Сцяпану пацалункі, а яму, Казачонку, камсамольскія прывітанні. Гэта было даўно-даўно, трыццаць гадоў назад...

— Колькі ў калгасе камсамольцаў? — спытаў Мікалай Іванавіч, разглядваючы прыгожы твар свайго субяседніка. Было на гэтым маладым твары, бадай, болей ад маці, чым ад бацькі, вясёлага Бабошкі.

— Сорак два,— сціпла адказаў Бабошка.— Ды яшчэ ў школе трыццаць...

Недзе ўдарылі ў рэйку. Па вуліцы, пакульгваючы, шыбаваў нізенькі шчуплы чалавек, у якім Мікалай Іванавіч пазнаў Галоўку, ветфельчара і сакратара калгаснай партыйнай арганізацыі. Ён, відаць, дачуўся аб прыездзе сакратара райкама і спяшаўся яму насустрач.

— Ну, а радыёвузел у вас добры?

— Добры, летась пабудавалі,— прамовіў Бабошка.— Цяпер ужо і брыгады радыёфікаваны на сто працэнтаў. Перадаём Маскву і Мінск, а вечарам старшыня выступае...

— Як выступае?

— Дае нарады брыгадзірам, асвятляе ход работы і загады...

— Кожны дзень?

— Кожны дзень...

Задыхаўшыся, падышоў Галоўка. На яго дробненькім успацелым твары застыў выраз трывогі і заклапочанасці. На

нагах у фельчара, нягледзячы на летнюю пару, былі буркі з галошамі...

— Я па машыне пазнаў, што вы прыехалі,— прамовіў ён вітаючыся.— Чакалі вас на тым тыдні, але ж дажджы, па нашай дарозе не праедзеш...

— Трэба рамантаваць дарогу,— сказаў Мікалай Іванавіч устаючы.— А то пра яе ўжо казкі складаюць...

— Трэба,— згадзіўся ветфельчар.— Даўно трэба. Але ж...

Бабошка падняўся таксама і стаяў разгублены, не ведаючы, заставацца яму ці пайсці прэч. Ён, відаць, хацеў яшчэ нешта сказаць і не адважваўся.

— Камсамольцы ў вашым калгасе малайцы,— заўважыўшы разгубленасць хлопца, сказаў Мікалай Іванавіч.— Іх варта падтрымаць. Заўтра будзе партыйны сход, і вы ўсе прыходзьце. Там пагаворым пра ўсё.

— Дык жа партыйны сход,— не зразумеў юнак.

— Твой бацька быў смялейшы,— Мікалай Іванавіч, мабыць, не заўважаючы гэтага сам, перайшоў на «ты».— Мы, брат, некалі ўмелі дамагацца, чаго хацелі. З сакратаром райкама наконт сусветнай рэвалюцыі спрачаліся, а духавыя інструменты, каб прыйшлося, вырвалі б у самога Бога. Так што пагавары з камсамольцамі, і заўтра выкладвайце на стол усе свае крыўды. Будзе адкрыты партыйны сход, прыходзьце...

Юнак кінуў удзячны позірк на сакратара райкама і развітаўся. Ён павесялеў, знікла скаванасць рухаў і жэстаў.

— Маці ў школе працуе? — спытаў Мікалай Іванавіч.

— У школе,— адказаў юнак, ускінуўшы прыгожыя стрэлкі брывей. Ён глядзеў на сакратара райкама з незахаванай цікаўнасцю. Але гэтай цікаўнасці Мікалай Іванавіч ужо не заўважаў. Ён пачаў з Галоўкам размову аб справе, дзеля якой і прыехаў у Палыкавічы.

Са сваім колішнім сябрам Арцёмам Чыжэўскім Мікалай Іванавіч сустрэўся ў першы ж дзень свайго прыезду ў раён. Спаткаліся яны каля райкама, дзе ў гэты дзень мелася адбыцца раённая партыйная канферэнцыя. Каменны будынак райкама, высокія дрэвы вакол яго, цэлая вуліца такіх жа каменных, на гарадскі манер узведзеных будынкаў — усё гэта было новым, незнаёмым для Мікалая Іванавіча. Ён памятаў мястэчка іншым: з пыльнай кірмашовай плошчай, з прысадзістымі

драўлянымі скляпкамі, якія называліся «магазінамі», са скрыпучым дашчаным тратуарам. Будучы сакратар райкама з цікавасцю аглядаў гэтыя яўныя адмеціны прагрэсу былой глушы, і яго ахоплівала нейкае супярэчлівае пачуццё. Едучы ў раён, ён, мабыць, падсвядома спадзяваўся ўбачыць яго ранейшым, перажыць радасныя хвіліны спаткання са знаёмымі мясцінамі. Нечага ён не ўлічыў. Мястэчка папрыгажэла, яно называлася цяпер гарадскім пасёлкам, а сам ён, безумоўна, пастарэў. Жыццё ідзе наперад...

У гэтыя хвіліны роздуму Казачонка аклікнуў па імені Арцём Чыжэўскі. Яго таксама не пазнаў бы Мікалай Іванавіч, каб той не падышоў першы.

— Кажаш, круг замкнуўся,— сказаў палыкавіцкі старшыня.— Быў рэдактарам, быў сакратаром абкама, быў дырэктарам інстытута, а цяпер зноў у той самы раён, дзе некалі складаў частушкі пра папа? Сам ці паслалі?

Арцём Чыжэўскі нічым не нагадваў таго калючага няўрымслівага камсамольца, якім яго памятаў Мікалай Іванавіч. Было ў яго паставе, твары, голасе нешта цвёрдае, моцнае, тое, што сведчыць аб пераконанасці чалавека ў сваёй праваце, аб тым, што чалавек гэты пазнаў ужо ўсю мудрасць і складанасць жыцця.

— Збіраўся паміраць, ды ўрачы ўратавалі,— жартам адказаў на запытанне Мікалай Іванавіч.— Сказалі, што самае лепшае для мяне цяпер — свежае паветра. Цэлых два гады лячылі. За гэты час начытаўся ў газетах добрых навін і папрасіўся сюды...

— Былі і мы рысакамі, хоць тваіх маштабаў і не прыйшлося пакаштаваць,— з нейкім жалем прамовіў Чыжэўскі.— Дырэктар МТС, дырэктар кансервавага завода, дырэктар мясакамбіната — гэта таксама пасады. А цяпер я на месцы — старшыня калгаса. З зямлі вырас і на зямлю сеў. Ніжэйшых пасад ужо няма. Я на канферэнцыі выступлю за цябе. Як-ніяк, разам пачыналі, разам будзем і канчаць...

— З нашых палыкавіцкіх болей у раёне нікога няма? — пацікавіўся Мікалай Іванавіч.

— Няма. У мяне ў калгасе сядзіць гэты самы Цюх, калі памятаеш. Настаўнічае,— з неахвотай адказаў Чыжэўскі.

— Валодзя Цюх? Дык гэта ж ён, здаецца, цябе ў камсамол прымаў. Помніш, як прымушаў ён чытаць Емяльяна

Яраслаўскага: «Пытанне стаўлю рубам, забудзь бацьку і маці, а кнігу гэтую перавары нутром. Толькі азбука ленінізму пано-жа перагрызці старую пупавіну...» Як ён цяпер, Валодзя Цюх? Сабрацца б нам як-небудзь разам...

Далёкае, незабыўнае раптам нахлынула на Мікалая Іванавіча і, не даўшы апамятацца, закруціла яго пачуцці і думкі ў сваім імклівым віры. На нейкі момант ён уявіў сабе ранейшага Арцёма Чыжэўскага, напорыстага і грубаватага вясковага хлопца, у якога заўсёды свярбелі рукі па вялікіх справах. Гэта ён, Арцём, прагнуў адным заходам расправіцца з вясковымі багацеямі, з папом, з дзякам, з усімі тымі, хто біў паклоны перад старым жыццём. Ён быў самы няўрымслівы ў тыя далёкія гады. Яму, здавалася, было цесна ў Палыкавічах, дзе яшчэ знімалі шапкі перад папом, перад заможнікамі, перад каморнікам, які прыехаў з раёна. І ў процівагу Арцёму — Валодзя Цюх, сакратар камсамольскай ячэйкі. Ён быў іх розумам, іх сумленнем. «Перадушыш кулакоў, а далей што? — наступаў ён на Арцёма.— Што будзеш рабіць з зямлёй, з вёскай? Не ведаеш? «Азбуку ленінізму» да палавіны не вывучыў, а хочаш свет перавярнуць... Адсталы ты яшчэ і цёмны, Арцём... А што сілы і злосці ў цябе многа, гэта добра...»

Захоплены ўспамінамі, Мікалай Іванавіч нібы перанёсся ў тыя далёкія гады. Зрэшты, усе яны былі добрымі хлопцамі — неспакойнымі, смелымі і, вядома, гарачымі. Мэта ім здавалася блізкай, шлях да яе ясным, як светлы сонечны дзень. Яны былі шчырымі ў сваёй нянавісці да ўсяго старога і, можа, таму іншы раз перагіналі палку. Валодзя Цюх, самы памяркоўны і разважлівы ў іх ячэйцы, быў супраць усялякіх заскокаў, але чамусьці яго, а не каго-небудзь іншага, больш за ўсё ненавідзелі кулакі ў Вялікіх і Малых Палыкавічах. Можа, таму, што Валодзя пісаў у «Беларускую вёску», разносячы нядобрую славу пра палыкавіцкіх кулакоў на ўвесь белы свет, можа, была і якая-небудзь іншая прычына. Ва ўсякім выпадку, яго першым напаткала нянавісць тых, хто адчуваў свой хуткі канец. Знайшлі Валодзю вясновай ноччу збітага да смерці і зацягнутага, нібы дзеля насмешкі, пад першамайскую арку, якую ён сам і паставіў. Мала хто спадзяваўся тады, што ён будзе жыць. Але Валодзя ўсё ж неяк выжыў...

— Не бачыў я, брат, нашага Валодзю з таго самага дня, як паехаў з Палыкавіч,— з адценнем лёгкага суму прамовіў Казачонак.— З табой, калі памятаеш, у Кіеве сустракаліся перад вайной, а яго не бачыў. Харошы чалавечына. Як ён там цяпер?

— Пабачыш,— неазначальна прамовіў Чыжэўскі.— Беспартыйны актывіст...

Сяброўскай гаворкі паміж імі ў той дзень не адбылося. Арцём Чыжэўскі адгарадзіўся нейкім нябачным парканам напаўжартаўлівых, напаўсур’ёзных слоў, за якімі хавалася прытоеная насцярожанасць. «Што ты за чалавек і чаго ад цябе можна чакаць?» — гаварыў, здаецца, калючы, праніклівы позірк Чыжэўскага. У падтрымку Казачонка на канферэнцыі ён усё ж выступіў.

Пра сапраўдныя адносіны паміж Чыжэўскім і завучам Палыкавіцкай школы Уладзімірам Іванавічам Цюхам першы сакратар райкама дазнаўся толькі вясной. Ужо з месяц у яго папцы на стале ляжала заява былога таварыша і сябра. Яна была напісана строга афіцыйнай мовай, і ў ёй самае прыдзірлівае вока не знайшло б нават намёку на тое, што настаўнік піша свайму даўняму знаёмаму. Гэтую заяву завуч прынёс сам, але ў той дзень першага сакратара ў райкаме не было. Ён прыходзіў у другі раз. Але ішло пасяджэнне бюро, і настаўнік зноў не пабачыў першага сакратара.

Перад сваім прыездам у Палыкавічы Мікалай Іванавіч паспрабаваў загаварыць пра Цюха з Чыжэўскім.

— Крытыкан,— сказаў старшыня.— Не жадаю і ворагу такога старога друга. Летась жа фельетончык наконт канопляў у абласной газеце яго клопатам паявіўся. Параўнай, чыя праўда: ён на мне нейкую там сотню ў газеце зарабіў, а я канаплямі калгасу паўмільёна адваліў... Цяпер хвост падтуліў, не пікне. Дый без мяне яму рогі збілі...

Пра справу з канаплямі Мікалай Іванавіч крыху ведаў. Таму, сустрэўшыся з Галоўкам, ён перш захацеў паглядзець поле, дзе летась выраслі гэтыя славутыя каноплі. Малады Бабошка рушыў у напрамку праўлення, а сакратар райкама з ветэрынарам пакрочылі ў процілеглы бок, за вёску. Надвор’е праяснілася. Сонца хоць і хілілася к захаду, але грэла яшчэ моцна. Зямля, багата напоеная дажджамі, дыхала лёгкай парнасцю.

Палыкавіцкіх аколіц Мікалай Іванавіч не пазнаваў. Але ён ішоў наперадзе Галоўкі: нейкае няўлоўнае адчуванне блізкасці і роднасці гэтых мясцін дапамагала яму выбіраць правільны кірунак. Мікалай Іванавіч, зважаючы на Галоўкаў раматус, ішоў няшпарка. Яны мінулі кукурузныя палі, прайшлі міма лавы жыта. Сям-там на полі ўзвышаліся разгалістыя грушы-дзічкі.

— Тут былі некалі сядзібы хутаранцаў,— сказаў Мікалай Іванавіч.

— Можа быць,— згадзіўся ветэрынар.— Я сам з-за Прыпяці, а тут працую пасля вайны.

Яны мінулі яшчэ рэдкі беразнячок, прайшлі пнёўем, і тады позірку адкрылася шырокая балацянка. Яна была заліта вадой і нагадвала цэлае возера, з якога сям-там вытыркаліся чорныя астраўкі грунту.

— Тут летась сеялі каноплі? — спытаў Мікалай Іванавіч.

— Тут.

— Затое сёлета можаце рыбу разводзіць.

— А навошта леташні снег успамінаць? — запярэчыў Галоўка.— Выраслі каноплі, вось што галоўнае. У гаспадарцы ж нельга без рызыкі. Паўмільёна ўзялі з гэтага балота...

— А каб быў мокры год?

— Каб быў мокры, то загінула б насенне...

— Слабы ты сакратар, Галоўка,— нязлосна сказаў Мікалай Іванавіч.— Чыжэўскаму пры табе раздолле. Чытаў я пратаколы вашых партыйных сходаў. Правялі за год сем сходаў, і ўсе закрытыя. Па першаму пытанню выступіў таварыш Чыжэўскі, ён адзначыў... Па другому пытанню выступіў таварыш Чыжэўскі, ён нацэліў... Самі сябе агітуеце. Таму і каноплі на неасушаным балоце сееце. Гэта ж авантура, як ты не разумееш? Так, брат, гаспадаркі не ўздымеш, хоць вам летась і пашанцавала...

— Калгас жа за гэтыя тры гады пры Чыжэўскім усё-такі падняўся,— спрабаваў пярэчыць Галоўка.— Працадзень узрос, будаўніцтва...

— Ведаю, як падняўся. У першы год прадалі дубовы лес на корані за бясцэнак. Дуб жа расце чатырыста гадоў. Вашым унукам яго прадаваць ужо не прыйдзецца. Летась вас гэтыя каноплі выручылі. А сёлета, здаецца, спадзяецеся атрымаць страхоўку і за тыя пасевы, што вымаклі, і за тыя, што проста не ўзышлі. Так што поспехі, як бачыш, ніжэй сярэдніх...

— Я згодзен, але...

Вярталіся ў вёску, калі зямлю ахінала сіняватае сутонне летняга вечара. На фермах рыкалі каровы і ляскалі жалезныя бітоны. Нехта кляпаў касу, і пошчак аддаваўся звонкім рэхам у росных вячэрніх палях. Дзесь ля праўлення граў гармонік і звінелі маладыя галасы.

— А з Цюхам вы брыдка зрабілі,— сказаў Мікалай Іванавіч.— Ён жа меў рацыю, калі пісаў той фельетон пра каноплі. У старога настаўніка адрэзаць агарод — горш не прыдумаеш...

— Брыдка,— згадзіўся Галоўка.— Я быў супраць, але Чыжэўскага не пераспорыш. Даказваў, што лепшую зямлю трэба пад кукурузу...

Вёска жыла сваімі начнымі гукамі і рухамі. У палосах святла, якія клаліся на вуліцу ад вокнаў хат, бясшумна праносіліся чорнымі ценямі кажаны, ціха рыпелі веснічкі, на лавачках прыглушана размаўлялі і смяяліся.

— Вы ж не абедалі, мабыць,— прамовіў Галоўка.— Зойдзем да мяне...

— Дзякуй, браток, я не галодны. Ты мне лепш пакажы, дзе жыве Цюх. Да яго трэба ў першую чаргу. Гэта ж мой стары таварыш...

— Дом насупраць школы, цераз вуліцу. У першай палавіне кватэра Мальвіны Рыгораўны, а ў другой — Уладзіміра Іванавіча. Самыя паважаныя педагогі...

— Добра, знайду. Збірай к заўтраму людзей. Накажы ў брыгады. Пачнём, думаю, гадзін у восем вечара. Не позна?

Развітаўшыся з Галоўкам, Мікалай Іванавіч пайшоў у напрамку да праўлення. Трэба было паклапаціцца аб шафёру. Але на сваю машыну сакратар райкама наткнуўся яшчэ на дарозе. Яна стаяла на развілку вуліц, пад разгалістым дрэвам. Іван сядзеў у машыне не адзін: з кабіны даносіўся прыцішаны дзявочы смех. Мікалай Іванавіч, пастаяўшы ў нерашучасці, махнуў рукой і павярнуў да школы. Ён спыніўся на хвіліну перад вокнамі кватэры Мальвіны Рыгораўны Бабошкі, а затым, узбегшы на ганак настаўніка Цюха, рашуча пастукаў у дзверы.

*1958*

# 1959

## ВЕРАСЫ НА ВЫЖАРЫНАХ...

Вочы, вушы, сэрца, гарачая кроў ёсць у звяроў, у птушак, у жывёл, а мара — толькі ў аднаго чалавека...

Мяне навучыў марыць лес. Лесам быў акружаны наш невялікі чыгуначны пасёлак з усіх чатырох бакоў. За доўгія гады гаспадарання чалавека сасновыя бары, бярэзнікі і дубровы значна адступілі, вызваліўшы месца сенажацям і палям. Але ўсё роўна сонца з-за лесу ўзыходзіла і за лес заходзіла. Таго, што называецца стэпавым прасторам, шырынёй, мы ў дзяцінстве не бачылі, але гэта не зніжала нашага парывання зазірнуць за полаг тае невядомасці, якая адкрывалася недзе за роднымі барамі і гаямі.

У сінюю бязмежную далеч бегла чыгунка. Летам, у спякотныя дні, над рэйкамі трымцела белаватая смуга. Чыгуначнае палатно здалёк, за які-небудзь кіламетр, здавалася ў такія хвіліны рэчкай, па якой гуляюць-пераліваюцца імклівыя хвалі. Колькі разоў, уведзеныя ў зман гэтым прыгожым міражом, мы, пасялковая басота, мералі крокамі гарачыя рэйкі, каб нарэшце дайсці да таго месца, адкуль пачыналася гэтае дзіўнае відовішча. Але ўсякі раз рэчка адступала, яна была заўсёды наперадзе, прайдзі хоць кіламетр, хоць два, хоць дзесяць...

Па рэйках імчаліся цягнікі. На вагонах аднаго з іх, які, не спыняючыся, пралятаў паўз нашу маленькую станцыю дакладна ў дзве гадзіны дня, былі таблічкі з надпісам «Ленінград — Адэса». Мы хадзілі ў школу і ведалі, што абодва гэтыя вялікія гарады стаяць ля мора. Якое яно толькі, мора? І як гэта можна паверыць, што, стоячы на адным яго беразе, ніколі не ўбачыш

другога? Мы зайздросцілі кандуктарам, якія, безумоўна, бачылі мора.

Мора было марай. Лес яе калыхаў і пеставаў. Праз усё дзяцінства прайшла яго бясконцая казка аб нечым неразгаданым, патаемным і разам з гэтым такім родным і блізкім душы. Лес, як і чалавек, бываў сумны і радасны, гнеўны і добры, у яго было тысяча казак і тысяча песень. Настрой лесу мяняўся кожнага дня і кожнай гадзіны. Тая самая хваіна вечарам была зусім не такая, як раніцай. Яна станавілася сур'ёзная і зацятая, яна нібы гаварыла: «Ідзіце дадому і не перашкаджайце мне думаць. Прыйдзеце заўтра, усё будзе па-другому». Ласкавая з раніцы лясная палянка, атуленая соснамі і бярозамі, к вечару нават крыху палохала сваёй самотнасцю і трывожнанасцярожаным настроем. Здавалася, яна чакае нейкіх новых гасцей, і гэтыя нябачныя госці ўжо нячутна спускаюцца на яе з вяршалін сосен і бяроз на крылах доўгіх ценяў...

Чамусьці з дзяцінства найбольш палюбіўся кавалак лесу, заціснуты паміж чыгункай і шырокім пясчаным шляхам, які вёў у суседняе сяло Макаўкі. Шлях называўся Макаўскім, а лес — Казіны Рог. Мы доўга ламалі галаву, чаму такі прыгожы лес завуць казіным. Ніякіх коз там не было і ў паміне.

У Казіным Розе нельга было заблудзіцца. Па левы бок ляжала чыгунка, па правы — Макаўскі шлях. Далёкія гудкі цягнікоў падхоплівала звонкае лясное рэха і несла іх на сваіх крылах ад сасны да сасны, ад бярозы да бярозы.

Лес быў як жывы. Ён, здавалася, скакаў і прытупваў, калі па рэйках імчаўся цягнік; у радасна-нямым здзіўленні сустракаў ён, бадзёры і ўмыты, першыя прамені сонца; ён злаваўся і стагнаў, калі над зялёнымі шапкамі соснаў і бяроз грымеў летні гром...

Казіны Рог пачынаўся пяццю велічэзнымі дубамі. Яны стаялі спакойна і паважна, нібы вартавыя, што самі ўсведамляюць адказнасць сваёй вялікай службы. Пад дубамі мы звычайна абуваліся. Абувацца было абавязкова. Лес меў свае тайны і законы, якія нельга было пераступаць. Няверных ён мог пакараць.

Крыклівыя, галасістыя, уступалі мы пад зваблівыя шаты. Суніцы, чарніцы, маліны, арэхі — гэта было дзяцінства. Чарнаротая талака трымалася разам, яна пабойвалася ваўкоў, і ў

глыбіні яе расхрыстаных грудзей, мабыць, сядзеў яшчэ не развеяны страх перад лесавіком. Лесавік уяўляўся дзедам з сівой імшанай барадой. Ён быў злы, бязлітасны, ён мог да ночы кружыць вінаватага на адным месцы, не даючы яму выйсці з лесу. Так нас палохалі нашы жывыя дзяды.

Дзяды расказвалі яшчэ адну байку. Яна датычыла кветкі папараці. У ноч на Івана Купалу нібыта расцвітала яна нябачаным дзівосным хараством. Таму, хто сарваў бы яе, жыццё абяцала свае бясконцыя дары.

Паход у начны чэрвеньскі лес ляжаў ужо на рубяжы таго новага перыяду жыцця, калі дзяцінства канчалася, а юнацтва яшчэ не надышло. Ідучы ў цёмны росны лес глядзець, як расцвітае кветка папараць, мы не вельмі верылі ў дзедаўскую легенду. Непапраўны ўдар нанесла ёй школьная батаніка, якая растлумачыла, што папараць зусім не цвіце, што яна размнажаецца спорамі. Але ў лес, ды яшчэ ноччу, мы ўсё-такі пайшлі. Чаму? Цяжка знайсці ўсеабдымны адказ на гэта. Праўдзівей за ўсё таму, што трэба было канчаткова скінуць полаг невядомасці, які ахінаў казачную кветку. Трэба было развітацца з дзяцінствам...

Ранняе юнацтва прынесла новыя мары. Іх стала яшчэ больш, чым раней. Яны віліся, як сіні дым у яснае надвор’е: неакрэсленыя, лёгкія, бяздумныя. Крыклівая талака распалася, яна саступіла месца сяброўству, якое прымала ў сваё кола па строгаму адбору. Сяброўства патрабавала блізкасці імкненняў і душ.

Сябрам тых год быў Клім, па-школьнаму — Кім, вясёлы, шчыры хлопец з добрым шырокім тварам, густа засеяным вяснушкамі. Мы вылучылі адзін аднаго, калі вучыліся яшчэ ў шостым класе, і два гады яднання нашых душ праляцелі як у дзіўным сне. Жыццё Кіма не песціла, ён жыў у сястры, якая трымала яго ля сябе, кіруючыся адным толькі голым абавязкам. Можа, таму і быў Кім такі падатлівы на ласку, на шчырае слова, на дружбу.

Золкай вясной, калі сіні снег яшчэ хаваецца ад першых промняў сонца па ярах, у засені разгалістых хвой і бяроз, вытыркаецца на балотным куп’і першая трава — чорнагалоў. Не баіцца яна ні замаразкаў, якія зацягваюць з ночы хрупасткім шкельцам лёду лужыны і канавы, ні снежных завірух, што раз-

гуляюцца, бывае, і ў красавіку, ні галалёдзіцы, ад якой губляюць вецце нават асілкі-дубы. Чорнагалоў трывае. Высунуўшы на свет сваю чарнаватую пупышку-порхаўку, ён пераносіць усё.

У дні кароткіх вясновых канікул, якія надыходзяць пасля самай доўгай, трэцяй, чвэрці, мы з Кімам гналі на чорнагалоў схудзелую за зіму карову. Карова была адна, а нас, пастухоў, двое. Але гэта не бянтэжыла. Нам трэба быў лес, яго патаемны, бясконцы шум, яго вясновы водар. Лес будзіў мары, ён расказваў казкі, адна за другую цікавейшыя.

Мы клаліся на барвенак, гэткі ж зялёны і пахучы, як і летам, і гадзінамі слухалі працяглае шаптанне хвой. Там, над вяршалінамі дрэў, некуды спяшаліся хмары, зрэдку выбліскваля сонца, а мы ляжалі і маўчалі. Нам было добра. Мы адчувалі сябе злітымі ў адно з гэтым зялёным лясным шумам, са шпаркім бегам хмарак, з бязмежнасцю сіняга неба. Іншы раз узнікала да болю ясная ілюзія, што мы не ляжым, а плывём і разам з намі плывуць хвоі, бярозы, увесь лес.

— Што ты чуеш, Кім? — пытаўся я ў такія хвіліны ў сябра.

— Чую шум марскога прыліву, плёскат хваль аб камяністы бераг, крыкі чаек...

Кім, значыць, плыў таксама. Ён адчуваў тое самае, што і я. Нашы сэрцы біліся на адной хвалі, і мы абодва трызнілі аб моры.

Ілюзія знікала, і тады мы проста вандравалі па вясновым лесе, ласаваліся леташняй ягадай-касцяніцай, якая пасаладзела за зіму, палохалі шустрых вавёрак. У абед раскладалі агонь, пяклі бульбу, чыталі Новікава-Прыбоя і Станюковіча.

Лес калыхаў нашу мару аб моры...

Пасля восьмага класа Кім, адмовіўшыся ад клопатаў сваёй сястры, паехаў у Адэсу. Яму ўдалося паступіць у мараходнае вучылішча. Ён пісаў мне аб салёных марскіх хвалях, аб лятучых дэльфінах і заўсёды называў Чорнае мора сінім. Ён лавіў сваю жар-птушку.

Я ж яшчэ цэлы год таптаў папараць у Казіным Розе. У вачах стаяла мора. Па-ранейшаму шапталі аб ім купчастыя хвоі, і пад іх музыку я маляваў сабе карціны прыліваў і адліваў. Але зусім непрыкметна для мяне з белай марской пены паўстала яна, мая Ларэлея. Яна не мела рыбінага хваста, не расчэсвала

косы залатым грабянцом, не спявала зваблівых песень. Мая русалка вучылася ў дзясятым класе, звалася Юлькай і наўрад ці заўважала сарамяжнага дзевяцікласніка, у якога пры сустрэчы з ёй ледзь не выскоквала з грудзей сэрца.

Той апошняй школьнай восенню прыгожа цвілі верасы. Яны разліліся ружовымі азёрамі ў Казіным Розе, па выжарынах і рэдкалессі, цягнуліся аж да самага сяла Макаўкі. Штодня на світанні я бег па грыбы. Лес сустракаў мяне густым, як малако, туманам, цёплай парнасцю і звонкім перагукваннем жаночых галасоў. Галасы звінелі злева, справа, наперадзе, але я не баяўся канкурэнцыі. Мае грыбы раслі толькі для мяне.

Абуўшыся пад пяццю дубамі і ўступіўшы ў лес, я забываў на ўсё. Знаёмая, зведаная стыхія летуценнасці захоплівала мяне цалкам і несла на сваіх лёгкіх нябачных хвалях. Паўсядзённасці не існавала. Не было прасторы і часу. Былі толькі мора і Юлька. Мора плыло пад нагамі ружовым разлівам верасоў, шумела вяршалінамі соснаў, а Юлька ішла побач. Я слухаў яе пявучы голас, дакранаўся да яе рукі, лавіў позірк яе вясёлых вачэй.

Пра Юльку ведаў увесь лес. Знаёмыя сосны прыгадвалі, аб чым я размаўляў з ёй учора і пазаўчора, бярозы шасцелі пажоўклым лісцем у такт яе ціхім крокам, лясны ручай паўтараў пералівы яе мяккага голасу...

К поўдню раменная почапка маёй лубкі муляла плячо, прыемнай стомай гулі ногі, і я варочаўся да сапраўднасці. На неабсяжных выжарынах цвіў верас, урачыстыя ў сваім асеннім спакоі, стаялі сосны і бярозы. Цяпер я хацеў сустрэць жывую Юльку. Хацеў, каб яна пабачыла, колькі ў мяне баравікоў і які я адменны грыбавік. Я ведаў, што Юлька на гэтыя верасы не прыйдзе. Яна жыла на другім, процілеглым ад майго, канцы пасёлка, і там быў свой лес і свае грыбы. Але я спадзяваўся на нейкі цуд і чакаў сустрэчы.

Той восенню я Юльку ў лесе не сустрэў...

* * *

Кім прыйшоў вясной. Яго не было ў нашым пасёлку ледзь не два гады. Вярнуўся ён да сваёй сястры страшэнна схудзелы і зморany і адразу захварэў на сыпны тыф. Я некалькі разоў наведваў таварыша і аднойчы чуў, як ён трызніў.

— Мора гарыць! — крычаў ён.— Страляйце, страляйце, яны ляцяць!..

Ён лаяўся страшнымі словамі і некаму пагражаў. Праз дзень ці два пасля гэтага стала ясна, што крызіс мінуў і Кім ачуняе. Яго сястра хадзіла з мокрымі вачамі, здаецца, яна па-сапраўднаму шкадавала брата.

Я радаваўся звароту Кіма. Ён, здавалася, прынёс мінулае, радаснае, што за гэтыя цяжкія месяцы стала далёкім-далёкім. З таго часу, як пачалася вайна і ў наш пасёлак прыйшлі фашысты, я не думаў пра мора і рэдка ўспамінаў Юльку. Найбольш я думаў пра вайну. Юнацтва, якое толькі-толькі ўступала на сваю жыццёвую сцежку, прагнула подзвігаў.

Некалькі хлопцаў з тых, што разам са мной хадзілі ў школу, збіралі зброю. Нам памагаў лес. Ён прыхаваў для нас пад сваімі шатамі патроны, запалы. Не знайшлі мы пакуль што толькі вінтовак. З самай вясны вандравалі мы па верасах, капаліся ў пакінутых акопах, але вінтовак не было. Лес шумеў насцярожана і грозна, у яго песні чуўся пякучы боль. Мы вярталіся дамоў з пустымі рукамі...

Гэта здарылася ў тыя дні, калі Кім пачаў толькі ачуньваць. У нашу хату ўварваліся ўзброеныя фашысты і загадалі мне збірацца. Яны яшчэ загадалі ўзяць з сабой пілу і сякеру. Спачатку я нічога не разумеў.

Усё стала зразумела, калі калону мабілізаваных пасялкоўцаў павялі чыгункай у напрамку да лесу. Мы ўжо ведалі, што гоняць нас валіць лес. Фашысты аднаўлялі чыгунку, яны баяліся нападу партызан і таму вырашылі высекчы дрэвы на дзвесце метраў узбоч палатна. У калоне разам са мной ішло і некалькі тых, з кім мы разам шукалі зброю.

Даруй мне, родны Казіны Рог!.. Ты калыхаў маё дзяцінства, ты нашаптаў мне тысячы казак-сноў. Быў ты маім найлепшым другам і таварышам, а я прыйшоў цябе нішчыць. Сваімі рукамі я падразаў і сек тыя бярозы і сосны, што столькі год спявалі мне дзівосную песню пра шырокае мора. Чаму я не адсек лепш гэтыя паганыя рукі?.. Прабач мне, дружа, я быў без зброі, а над каркам маім стаяў вораг...

Даруй мне і ты, вясёлая Юлька! Я трызніў табой у сне і наяву, я марыў пра столькі подзвігаў у гонар твайго светлага імені. Ведаюць пра гэта дубы і бярозы, якіх я сёння знішчаю.

Я столькі чакаў з табой сустрэчы на родных верасах, і вось сустрэўся. Цябе таксама прыгналі сюды, нявольніцу... Лепш бы не глядзелі на гэты свет мае вочы. Даруй мне, Юлька!

Мы пілавалі і секлі Казіны Рог цэлы тыдзень. Калі ўсё гэта скончылі, з палатна чыгункі быў відзён Макаўскі шлях. Немцы для дакладнасці абстрэлу на дальніх дрэвах папрыбівалі першыя літары лацінскага алфавіта.

Восенню зноў цвілі верасы. Мядовы іх водар быў густы і п’янкі. Гэта, можа, ад таго, што мы цяпер не тапталі верас нагамі, як некалі, а паўзлі па ім на жыватах. Нам з Кімам далі міну, восем паўкілаграмовых шашак толу і націскны ўзрывальнік, астатняе залежала ад нас саміх. Мы выбралі ўчастак чыгункі, ля якога нядаўна шумеў Казіны Рог.

Мы ляжалі ў верасе за якую-небудзь паўсотню метраў ад палатна дзве ночы і два дні. Ноччу цягнікі не хадзілі. Першы дзень мы вывучалі абставіны, знаёміліся з характарам патрулёў. Нам не хацелася падкладаць міну проста так. На ёй мог узарвацца выпадковы паражняк.

К канцу другога дня, калі за паваротам схаваліся спіны трох патрулёў, я прыслухаўся і спытаў:

— Што ты чуеш, Кім?

— Чую шум цяжкага цягніка, ён за два кіламетры ад нас.

Мы чулі аднолькава востра. Устаўшы са свайго берлагу, кінуліся да палатна. За хвіліну цяжкі таварны цягнік праходзіць паўкіламетра, за тры хвіліны была пастаўлена міна. Цягнік ужо імчаўся на нас. За тыя секунды, што аставаліся да выбуху, мы ляцелі па верасе між ссечаных пнёў да Макаўскага шляху. Маладыя дрэўцы, што падняліся за лета, бязлітасна сцёбалі нас па нагах і руках. Казіны Рог пусціў буйныя парасткі, ён не хацеў паміраць...

*1959*

## ВЯСЕЛЛЕ Ў ПАЛЫКАВІЧАХ

Дзень сонечны, нядзельны. Лётае белая павуціна, маўклівай задуменнасцю вее ад вясковых прысадаў. Лёгкія празрыстыя колеры пануюць у паветры, у бязвоблачным небе, ва ўсім наваколлі.

У суседніх з Асцюкамі Палыкавічах прастольнае свята — Прачыстая. Калі ісці ад Асцюкоў да Палыкавіч шашой — адлегласць шэсць кіламетраў, калі напрасткі, полем і ляском,— усяго тры.

Жыхары абедзвюх вёсак даўно параднiлiся. Цяжка знайсці ў Асцюках сям'ю, якая б не мела ў Палыкавічах сваяка — свата, цёшчу, свёкра, кума, брата, родзічаў другога ці ў крайнім выпадку трэцяга калена.

Сёння Асцюкі, нягледзячы на свята ў суседзяў, малоцяць. Малацьба ідзе ля гумна, на ўскраіне вёскі, дзе паўкругам пасталі стагі. Натужна тарахціць стары, спрацаваны ХТЗ, які цяпер толькі і годны, каб круціць пас малатарні. З току нясецца рогат і крык, які чуваць за вярсту. Гэта, мабыць, таму, што на таку адны маладыя. Працаваць спакойна і паважна яны не ўмеюць.

Не смяецца толькі адзін чалавек — трактарыст Іван Кніга. Ён ляжыць крокаў за дзесяць ад трактара і жуе саломіну. На яго прыгожым чарнявым твары адбітак зацятасці і змрочнасці. Здаецца, Івану няма ніякай справы ні да малацьбы, ні да ўсяго гэтага шматгалосага тлуму.

Дарога, якая вядзе ў Палыкавічы нацянькі, праходзіць паўз гумны. Па ёй клыпае на фэст вартаўнік збожжасклада Дзямід Гузік, нізкі, крыху сагнуты стары з драўлянаю леваю нагою.

— Куды, дзядзька? — крычаць з току.

Дзямід робіць выгляд, што не чуе, і чыкільгае на сваёй дзеравяшцы далей. Але адбіцца ад языкаватай талакі не такто проста.

— Не спяшайся, дзядзька,— данімае той жа голас.— Будзька цябе на матацыкле падвязе. Пайшоў запраўляцца...

Ля малатарні новы выбух рогату. На брыгадзіра Пятра Будзьку сёння не зважаюць. З раніцы ён бегаў па таку, камандаваў і загадваў, а цяпер ляжыць пад стогам і спіць. Прычыну перамены ў брыгадзіравым настроі ведаюць усе. У яго ў Палыкавічах вялікая радня, і Будзька даўно мог сядзець у кума на покуці за святочным сталом. Але прыйшлося скарыстаца. Ці то з гора, ці то, можа, проста, каб нагнаць упушчанае, Будзька на сняданні перабраў лішку і зараз адпачывае.

Дзямід падыходзіць да малатарні. На ім новы суконны гарнітур, вышытая сарочка, на назе наглянцаваны бот.

— Можна было б і падвезці,— гаворыць Дзямід.— Хіба не заслужыў? Але ў нас не ў той бок глядзяць. Рэлігійнае свята! А можа, мне не на свята, а па дзелу патрэбна. Разумнікі!

— А што ў цябе за справа, дзядзька Гузік?

— Гэта маё ведае...

У размову ўступае Марыля Сініца, загадчыца збожжасклада. Яна нясе бярэмак новых мяхоў і не вельмі дружалюбна пазірае на вартаўніка.

— Да вечара можаце гуляць,— гаворыць Марыля.— А вечарам павінны быць тут. Склад вам не цацка. Я за вас адказваць не збіраюся.

— А цябе ніхто і не просіць! — гарачыцца Гузік.— Ёсць начальства большае за цябе. Ты кожнага дня ляціш куды хочаш, і я не пытаюся, дзе ты была. А калі на вяку чарвяку раз прыйшлося...

— Правільна, дзядзька! — падбадзёрвае вартаўніка нехта з хлопцаў.— Дай там дыхту. Склад не ўцячэ, а Прачыстая адзін раз на гаду бывае.

— Прачыстая, Прачыстая,— агрызаецца вартаўнік.— Знайшлі гуляку Дзяміда Гузіка. Склад прапіў... Калі мяне на вяселле пазвалі, то не магу ж я, хросны бацька маладой, не пайсці? Не магу. Дык навошта ж языкамі малоць?

— Цяпер ясна, дзядзька Гузік,— рагочуць хлопцы.— Нездарма ты сёння такім кавалерам...

Нешта мармычучы, Гузік адыходзіць.

— На Марылю не крыўдуй, дзядзька! — крычаць яму хлопцы наўздагон.— Усе дзяўчаты такія. Яны злыя, бо іх замуж не бяруць. Баяцца іх характару і бягуць жаніцца ў Палыкавічы...

На таку толькі і размоў што пра вяселле. Услых абмяркоўваюць жаніха і нявесту. Сёння жэніцца іхні хлопец Рыгор, які цяпер працуе ў Палыкавічах трактарыстам.

Твар Івана Кнігі, які адзін з усёй талакі не прымае ўдзелу ў размове, то чырванее, то бялее. Хлопец у гэтую хвіліну проста баіцца, каб хто-небудзь не распачаў з ім гаворкі. Хаваць сваіх пачуццяў Іван не ўмее.

У дзяўчат супраць Івана змова. Пазіраючы ў яго бок, яны робяць адна адругой таямнічыя знакі і пырскаюць смехам. Цікаўнасць да Івана і яго настрою ў іх дужа вялікая, бо перамігванне і перасмешачкі не спыняюцца з самай раніцы.

Іван бачыць усё гэта, і яго разбірае яшчэ большая злосць. Ён злуецца на сябе, што згадзіўся пайсці на ток, на рабую Марылю Сініцу, якая выстаўляе сябе начальніцай, на ўсіх, у каго здаровае, бесклапотнае горла. Але болей за ўсё Івана выводзяць з цярпення намёкі і загадкі, якімі, нібы згаварыўшыся, сёння ўсе размаўляюць.

Хлапец устае і падыходзіць да трактара. Мерна тахкае стары спрацаваны матор, у радыятары сіпіць пара, бясшумна слізгае бліскучы пас. Па таку, нібы апантаная, носіцца Марыля. Яна то бяжыць у склад, куды заносяць поўныя мяхі, то завіхаецца каля вагаў. Грукоча малатарня, глытаючы сноп за снопам. Рагочуць запыленыя да самых вушэй малацьбіты.

Іван бярэ старое дзіравае вядро і ідзе да студні.

— Матор перагрэўся,— гаворыць ён, не звяртаючыся ні да каго.— Трэба заліць вады...

Пасля таго як хлопец знікае, з хвіліну ўсе маўчаць. Потым, нібы праз адчыненыя застаўкі, прарываецца на волю стомленае доўгім чаканнем дзявочае красамоўства.

— Гэта ўсё Марыля вінаватая! — крычыць са стога шустрая бялявенькая дзяўчына.— «Малаціць, малаціць!» Ёй хоць бы што, а ў хлопца сэрца разрываецца...

— Цэлы будзе, не памрэ. Яшчэ ніводнага не панеслі на могілкі з-за гэтага.

— Такая ўжо княгіня, гэтая Шура. Проста дурныя нашы хлопцы. Куды адзін, туды і ўсе...

— У Палыкавічы іх цягне...

— Але папаварыла гэтая Шура з Івана вады. І з носам аставіла. Так яму і трэба. Няхай не бегае за чужымі...

Цяпер у наступ перайшлі хлопцы:

— Маладзец Рыгор, з-пад носа ў Івана перахапіў дзяўчыну.

— Паваяваць там было за што. Такой у нас з агнём не знойдзеш. Нашы дзяўчаты проста ад зайздрасці нагаворваюць на Шуру.

— Далёка ім да Шуры. Такая толькі вокам павядзе, і хлопцы за ёй цугам.

— Усе дзяўчаты такія. Хто больш перад імі віляе, да таго яны і ліпнуць.

Прыйшоў Іван са старым вядром, з усіх дзірак якога цурчэла вада. Размова ў адзін міг абарвалася. Тарахцеў трактар,

грымела малатарня, густымі клубамі падымаўся шэры едкі пыл. Іван заліў ваду ў радыятар, падняў капот і пачаў корпацца ў маторы. Праз некалькі хвілін матор сціх, пас, бездапаможна слізгануўшы, павіс дугой у паветры.

— Усё,— сказаў трактарыст, выціраючы рукі пакуллем.— Трэба свечы мяняць...

— Іван, хоць гадзіну яшчэ,— папрасіла Марыля.— Заўтра б завезлі ў раён гэтыя восем тон і разлічыліся. Мы і так ад Палыкавіч адсталі.

— Што, я сам запрагуся ў малатарню? — агрызнуўся трактарыст.— Сказаў усё, значыць усё.

— Табе цяпер на работу напляваць,— уз’елася Марыля.— Падумаеш, прычыну знайшоў, свечкі... Мігрэнь у цябе ад рэўнасці, вось што. Дурнымі ўсіх лічыш. Пачакай, на праўленні...

Іван моўчкі пайшоў прэч. Сонца толькі-толькі пачало хіліцца к захаду. Пасля доўгага тарахцення і грукату на таку стаяла нязвыклая цішыня. Было чуваць, як асядае ў сціртах салома.

— Якая яго муха ўкусіла? — здзіўлена спытала дзяўчына, што адграбала салому.— Кінуў-рынуў, як на пажар...

— Вядома, якая,— ахвотна растлумачылі хлопцы.— Палыкавіцкая, чорненькая. Балюча кусаецца. Як укусіць, то і праз год не ачухаешся.

— Губіце вы нам жыццё, дзяўчаты! — робленым трагічным голасам залямантаваў нехта з хлопцаў.— Нейкая канарэйка такога арла скасавала. Ёй бы яму ногі мыць...

— Паперабіваць бы вам гэтыя ногі...

Прачнуўся брыгадзір Пятро Будзька. Ён цёр заспаныя вочы і ўтрапёна пазіраў на ўсіх.

— Кончылі ўжо? — запытаў ён у Марылі.

— Можаце канчаць тое, што пачалі раніцай. Які брыгадзір, такія і парадкі. Адзін спіць без просыпу, другі робіць што хоча...

— Ну, ну, разышлася. Стог жа змалацілі. Паабедайце, а калі трактар спраўны, то падмалоцім яшчэ. Нідзе ён не дзенецца, той Іван. Не пабяжыць на чужое вяселле, не бойся.

Ток апусцеў...

Іван Кніга блукаў па ляску ўзбоч сцежкі, якая нацянькі вяла ў Палыкавічы. Сонца садзілася за лесам. Праменні падалі на вяршаліны дрэў, і ад гэтага там, наверсе, панавала залатая

празрыстасць. Унізе, на верасавым доле, расплываліся шэрыя цені. Было ціха.

Хлопец раз-пораз нагінаўся, зрываючы брусніцы. Ягады здаваліся горкімі. Думкі набягалі адна за адной, зліваючыся ў нейкую гарачую, шалёную хвалю. Хвілінамі гэтая хваля захліствала ўсяго яго, распірала грудзі, салёным камяком падступала к горлу. Тады муцілася свядомасць, знікалі думкі і расло неадольнае жаданне бегчы куды-небудзь у белы свет. Хацелася ўцячы ад знаёмых твараў, насмешлівых вачэй, ад гэтай сцежкі...

Іван забрыў у зацішак і лёг пад дубком. Сухі ліст, сарваўшыся з галіны, упаў на дол. Ад усланае леташнім лісцем зямлі ішоў халадок. Вярнуўся спакой. Няўрымслівае, шалёнае пачуццё пачало знікаць, саступаючы месца балючаму суму. Боль, нібы цвік, сядзеў у сэрцы. Іван ужо адчуваў, што нікуды не ўцячэ і нідзе не схаваецца ад свайго смутку. Ён не ў гэты дзень пачаўся і не заўтра кончыцца.

Аднекуль з шэрага ляснога зацішку выплыў і паўстаў перад вачыма вясёлы круглы твар раз’язнога механіка Шацілы. «Год будзеш пакутаваць,— некалі суцяшаў былы карабельны качагар.— Марской хваробай трэба перахварэць. Тапчы ўсё пад ногі... Гуляй з другімі. Хутчэй тады пройдзе гэта...»

«Гэтае» не праходзіла, Шаціла проста аказаўся слабым прарокам. Іван даўно чакаў загадзя вядомай развязкі, і ўсё-такі яна застала яго неспадзявана. Яна, Шура, растварылася ў наваколлі і замяніла сабой увесь свет. Пра яе ведалі і рэчка, і поле, і кожнае дрэва вось на гэтай сцежцы...

Можа, Іван заснуў, а можа, гэта было толькі ціхае трызненне. Ледзь чутна шасцеў лісцем дубок, і ў яго шасценні звінеў знаёмы з дзяцінства матыў: «Табе, Йванка, сто дарог, сто дарог, гані гора за парог, за парог...» Песню спявала бабка. У яе былі мяккія рукі і маршчыністы твар. Маці памерла рана, і яе Іван не памятаў...

Усе сто дарог прывялі да Шурыных веснічак. І гора нікуды не прагоніш, калі яно ў табе самім...

Іван ляжаў доўга. Ён не варушыўся: у вушах звінела бабчына песня, і яна гучала цяпер, як музыка на Шурыным вяселлі. Душу агарнуў жаль да самога сябе. На вочы набеглі слёзы. І раптам прыйшла ясная думка, як раніца цёплага летняга дня:

«Люблю Шуру і буду любіць. Што з таго, што яна цяпер замужам. Яна ж такая толькі адна...»

Ён устаў і абтрос з сябе апаўшае лісце. Сонца зусім схавалася за лесам. Паміж дрэў расцякаўся змрок. І цяпер Іван ужо выразна пачуў не гукі гармоніка і перастук бубна, а тарахценне трактара і прыглушаны гул малатарні. Вострая радасць ахапіла хлопца: не вяселле, а Рыгораў трактар гудзеў у Палыкавічах. Іван кінуўся па сцежцы ў вёску. Ён ужо бачыў Шуру не ў падвянечным плацці за вясельным сталом, а на таку, ля малатарні...

Калі ён выбег з ляска, у палыкавіцкіх вокнах загарэліся першыя аганькі. Трактар ужо не гудзеў. Не зважаючы на гэта, Іван ляцеў на ток. Там ён ужо нікога не застаў. Было толькі ясна, што малацілі тут да самага вечара. Ля гумна Іван наткнуўся на дзеда-вартаўніка: той драмаў, накрыўшыся кажухом.

— Усё змалацілі? — з надзеяй у голасе запытаўся Іван.

— Усё,— адказаў вартаўнік.— А цяпер пайшлі гуляць вяселле. Толькі якое гэта вяселле: папяюць, паскачуць, бы на вечарынцы...

Дзед адвярнуўся і накрыўся кажухом з галавой.

Блішчэлі ў небе ціхія зоркі. На вуліцы заліваўся гармонік, чуліся звонкія галасы і смех. Іван павярнуў назад у Асцюкі.

«Ноч светлая,— думаў ён па дарозе.— Калі малаціць, то не трэба ніякая «лятучая мыш»...»

Звінела ў Палыкавічах вяселле...

*1959*

## ДА ЗВЁЗДАЎ

Спрэчка пачыналася к ночы, гадзін у адзінаццаць, калі вяртаўся з бібліятэкі Раман-малодшы, чорны, хударлявы аспірант з прыкметнымі пралысінамі. Раман-старэйшы прыходзіў раней. Дзе ён вандраваў з ранку да вечара, чым займаўся ўсе гэтыя дні, заставалася загадкай. Было вядома тое, што ён перажывае крызіс і дэпрэсію. Напісаны раздзел дысертацыі разбілі жорстка і бязлітасна, у інстытуце не пакінулі. Фізік пачаў выпіваць.

Раман-старэйшы не меў цяпер ніякага права на гэты інтэрнацкі пакой, дзе стаялі тры жалезныя ложкі, засланыя шэрымі каменданцкімі коўдрамі, і столькі ж пафарбаваных у зялёны колер тумбачак. Але з інтэрната яго не выселілі.

Сёння спрэчка пачалася раней звычайнага. Раман-малодшы ў бібліятэку не хадзіў: у яго балела галава. Ён сядзеў на ложку, чытаў Эйнштэйна і дацінаў свайго калегу скептычнымі пытаннямі. Спецыяльнасць Рамана-малодшага з Эйнштэйнам нічога агульнага не мела, ён вывучаў логіку і псіхалогію і збіраўся пісаць пра ўмоўныя рэфлексы. Але яго вабіла тэорыя адноснасці, адкрытая славутым фізікам, з якою ён не згаджаўся ў многіх пунктах.

Раман-малодшы сцвярджаў, што эфір усё-такі існуе. Гэтым ён тлумачыў здольнасць святла імгненна заліваць наваколле. Такая пазіцыя карэнным чынам супярэчыла тэорыі Эйнштэйна, але апошняга Раман-малодшы падазраваў у няўменні лагічна і паслядоўна мысліць.

— Людзям уласціва памыляцца,— гаварыў ён, маючы на ўвазе Эйнштэйна.

Сапраўды, як можа паверыць нармальны чалавек хоць бы ў тое, што найдрабнейшыя матэрыяльныя часцінкі, з якіх складаецца святло, з’яўляюцца аднычасова і хвалямі, гэта значыць проста энергіяй, невядома да чаго прыкладзенай? Дзе ж тут логіка?

— Слухай, кэптэн, вопыт Майкельсона яўна памылковы,— сказаў Раман-малодшы, адарваўшы на хвіліну вочы ад кнігі.— І на такім хісткім збудаванні трымаецца тэорыя адноснасці. Бедная тэорыя...

Апанент, якому адрасаваліся гэтыя словы, ляжаў з ускінутымі на спінку ложка нагамі і пазіраў у столь. Ён быў маўклівы і змрочны.

Сваім знешнім выглядам і характарам Раман-старэйшы прыкметна адрозніваўся ад свайго калегі і цёзкі. Ён быў абсалютна рыжы. Як і ўсе рыжыя людзі, ён вызначаўся душэўнай раўнавагай і не любіў многа гаварыць. Рэзкі і фанатычны Раман-малодшы ў хвіліны раздражнення крычаў, што ў жылах яго суседа па ложку цячэ не кроў, а слізкая флегма.

Раман-малодшы, дацяўшы свайго цёзку пытаннем, зноў уткнуўся ў кнігу і перагарнуў, можа, дзесяць старонак, пакуль пачуў яго адказ.

— Гвадалквівір,— нарэшце прамовіў Раман-старэйшы.

На дварэ стаяў лістапад, а ў халоднае надвор'е фізік заўсёды трубіў носам. Па гэтай прычыне вымаўленае ім слова прагучала не вельмі выразна.

— У цябе зноў французскае вымаўленне,— сказаў Раман-малодшы.— Паўтары, што сказаў.

— Гвадалквівір,— паўтарыў фізік.

— Пры чым тут Гвадалквівір?

— Рака ў Іспаніі,— паясніў Раман-старэйшы.

— Ты загаварваешся,— сказаў Раман-малодшы.— Але і пры белай гарачцы ты кусацца не будзеш. З тваім тэмпераментам небяспека для грамадства невялікая.

Ночной зефир
Струит эфир.
Шумит,
Бежит
Гвадалквивир.—

пасля хвіліннага роздуму прачытаў фізік (яго вымаўленне сапраўды нечым нагадвала французскае).

Пачуўшы пра эфір, Раман-малодшы насцярожыўся. Тэорыю адноснасці ён крытыкаваў ужо два гады і размовы на гэтую тэму вёў сур'ёзна.

— А вершы пры чым тут? — спытаў ён.

— З верша відаць, што Пушкін верыў у эфір. Але яму можна даравацъ, тады яшчэ не было Эйнштэйна...

— Вывады Майкельсона не лагічныя,— загарэўся Раман-малодшы.— Як ты мне дакажаш, што светавыя сігналы з дзвюх кропак, якія ляцяць на адлегласці па прамой да трэцяй кропкі, трапляюць на яе адначасова? Тут жа ігнаруюцца і адлегласць паміж кропкамі, і хуткасць іх руху!..

— Ігнаруюцца,— праз хвіліну пацвердзіў фізік.

— А гэта лагічна? — кіпеў логік.

— А Гвадалквівір лагічны? — трубнуўшы разоў са тры носам, перапытаў Раман-старэйшы.

— Не паяснічай, прычым тут твой дурны Гвадалквівір? Прычапіўся к слову...

— Прытым, што слова цяжка вымаўляць. Хіба людзі не маглі прыдумаць лягчэйшага?

— У Іспаніі другая артыкуляцыя. Ім няцяжка.

— Ёсць у іспанцаў лёгкія словы,— пасля хвіліннага роздуму прамовіў Раман-старэйшы.— Эбра, Гвадарама, Таха... Парлата эспаньёла...

Раман-малодшы ўскіпеў. Ён не ўмеў спрачацца. Ён закрычаў так, што, бадай, было чуваць не толькі ў суседніх пакоях і калідоры, а і на вуліцы.

Логік бегаў па вузкім праходзе між ложкаў, церабіў свае рэдкія валасы і лямантаваў. Можна было падумаць, што ў яго нешта ўкралі.

— Гэта ж махлярскі прыём, ім карыстаюцца толькі жулікі і шарлатаны! — крычаў ён.— Ты мне хочаш даказаць, што чорнае — гэта белае. Калі так, то ідыёцтва і геніяльнасць сапраўды адно і тое ж...

У суседнім пакоі справа загрукалі ў сценку. Праз хвіліну загрукалі і злева. Гэта азначала, што суседзі не жадаюць больш слухаць працягу навуковай спрэчкі.

Раман-малодшы змоўк. Ён заўсёды сціхаў пасля бурных выбухаў. У такія хвіліны ў яго з'яўлялася патрэба што-небудзь рабіць. Логік схапіў чайнік і пабег у кубавую за кіпятком.

Калі ён вярнуўся ў пакой, Раман-старэйшы ўжо корпаўся ў кішэнях свайго бобрыкавага паліто, якое вісела на цвіку ва ўмураваным ў сцяну ля самых дзвярэй гардэробе. У яго не было курыва, і ён вышкрабаў з кішэняў тытунёвую пацяруху на самакрутку.

Раман-малодшы, насуплены і злосны, пачаў вячэраць. Ён выцягнуў з тумбачкі батон, селядзец, пакуначак цукру і літровую шкляную банку з-пад агуркоў. З такіх банак, адкінуўшы прэч умоўнасці, абодва Раманы пілі чай. Гэта давала эканомію ў часе: не трэба некалькі разоў разліваць кіпяток па шклянках. Харчовы рацыён, які склаў для сябе Раман-малодшы, грунтаваўся на прадуманай аснове. У селядцы многа фосфару, а ён асабліва патрэбен для работы мозга і наогул усёй нервовай сістэмы. Агульны тонус жыццядзейнасці арганізму былі закліканы падтрымліваць вугляводы, якіх колькі хочаш у цукры.

Рыжы фізік хадзіў па вузкім прамежку між трох ложкаў і курыў. Над яго ўласным ложкам вісела ім жа напісаная таблічка: «Курыць можна». Курэнне не магло нанесці якой-

небудзь шкоды здароўю насельнікаў пакоя, бо ў мэтах вентыляцыі фортачка не зачынялася круглы год.

Віселі яшчэ дзве таблічкі, сэнс надпісаў на якіх быў зразумелы толькі тым, хто жыў у пакоі. Над ложкам Рамана-малодшага красаваўся старанна вымаляваны чырвоным алоўкам на лісце паперы надпіс: «Per aspera ad astra». У перакладзе з латыні гэта азначала: «Праз перашкоды да звёздаў». Лозунг напісаў і павесіў фізік, але ён падабаўся Раману-малодшаму і той яго не здымаў.

Быў яшчэ трэці лозунг, напісаны ўжо Раманам-малодшым, які, аднак, вісеў непастаянна. Рыжы фізік мірыўся з ім толькі тады, калі ў пакоі не было нікога з пабочных. «Няхай жыве незалежная Гана!» — стаяла на глянцавым, аздобленым кветкамі і ружовашчокімі амурчыкамі лісце паперы. На першы погляд лозунг прывітаў нараджэнне першай самастойнай дзяржавы ў сэрцы Афрыкі. Але, апрача прамога сэнсу, у ім таіўся яшчэ і езуіцкі намёк.

У вёсцы, адкуль паходзіў і Раман-старэйшы, жыла дзяўчына Ганна Мялешка, якая пісала яму лісты. Фізік, нягледзячы на свае трыццаць пяць год, саромеўся дзяўчат, чырванеў і бянтэжыўся ў іх прысутнасці, але з Ганнай перапісваўся. На гэта і намякаў лозунг. Расшыфраваць яго можна было ў тым сэнсе, што адзінота далёкай Ганны, якая, відаць, чакала Рамана, кончыцца не хутка.

Нарэшце сеў вячэраць і фізік. Са сваёй тумбачкі ён выцягнуў толькі банку такой жа ёмістасці, як і ў Рамана-малодшага. Спрэчкі, якія адбываліся штовечар, не ўплывалі на характар іншых адносін паміж калегамі. Раман-старэйшы апошні месяц знаходзіўся на поўным патранаце цёзкі, спажываючы той жа фосфар і вугляводы.

Вячэра працягвалася пры панылым маўчанні і задуменнасці абодвух Раманаў. І раптам яе перарваў жаночы голас у калідоры і таропкі, настойлівы стук у дзверы. Літровыя банкі, недаедзены селядзец, батон — усё гэта імгненна паляцела назад у тумбачкі. У апошнюю секунду фізік сарваў са сцяны лозунг наконт незалежнасці Ганы.

— Можна? — яшчэ раз паўтарыла высокая жанчына ў вуальцы, ужо зайшоўшы ў пакой.

Абодва Раманы стаялі ля сваіх ложкаў, як салдаты па камандзе «смірна».

— Георгій не прыходзіў? — уладна спытала жанчына і падняла вуальку.

Яе твар з густа наведзенымі бровамі і нафарбаванымі губамі гарэў нецярпеннем і злосцю.

— Паехаў на раён,— адказаў фізік, паглядаючы сабе пад ногі.

— Надоўга?

— Казаў, на два тыдні...

— Перадайце яму, што ён падлюга...

Жанчына накінула на твар вуальку, павярнулася і рушыла з пакоя. З хвіліну панавала цішыня, потым фізік і логік усміхнуліся. Мір, парушаны Эйнштэйнам, быў адноўлен.

— Калі адзін называе подлым другога,— сказаў Раман-старэйшы,— то ўжо гэтым самым ён лічыць сябе лепшым. А чым гэтая дама лепшая за Георгія. У яе ёсць муж, у яго жонка.

— Мы таксама подлыя,— заявіў псіхолаг.— Схлусілі гэтай. Сказаць бы ёй у вочы...

— Дык ён жа сам прасіў. Мінус на мінус дае плюс. Мы схлусілі і сатварылі дабро. Дама перастане нас турбаваць.

— Філасофія ўсяяднасці,— выцягнуўшы з тумбачкі банку з недапітым чаем, заўважыў Раман-малодшы.— Ты апраўдваеш подласць. Па-твойму, няма на свеце абсалютна ідэальнага кахання, усё адносна?

— Усё,— пацвердзіў Раман-старэйшы.

— А цуды мастацтва, навеяныя вялікім каханнем? А смерць у імя яго?

— Дуэлі забаронены, справа рашаецца ў судзе. Вялікія ж творы пісалі і не закаханыя.

— Глупства! — пачаў гарачыцца Раман-малодшы.— Ідэальнае ёсць ідэальнае, яго не пахіснеш. Яно было і будзе ва ўсе вякі. Нават твой Эйнштэйн не абышоўся без яго. Без абсалютнага не будзе адноснага. Ідэал — гэта тая зорка, што свеціць ярчэй за ўсё.

— Прыгожыя і недакладныя словы. Астраномія не ведае такой зоркі. І наогул, зоркі яшчэ не пералічаны.

— Ты хлусіш самому сабе! — зноў закрычаў Раман-малодшы.— Ты ж не бегаеш, як гэты кныр. Што цябе стрымлівае? Ну, скажы што?..

У самы разгар новай спрэчкі адчыніліся дзверы, і ў пакой зайшоў трэці жылец, Георгій. Ён прынёс цэлую гару пакункаў і кінуў іх на ложак.

— Дэбаты наконт сэнсу жыцця? — спытаў Георгій.— Ну, і на чым спыніліся?

— Прыходзіла твая,— паведаміў фізік.

— А што вы ёй сказалі?

— Як ты прасіў.

— Цудоўна. А яна што?

— Сказала, што ты падлюга...

— Некультурна, але перанясём. Галоўнае — у час паставіць кропку. У гэтым сэнс жыцця, сябры...

Раман-малодшы, надзьмуты і маўклівы, пачаў раскладваць пасцель. Фізік класціся не збіраўся. Ён нечага чакаў. Георгій тасаваў свае пакункі ў тумбачцы.

— Кэптэн,— прамовіў ён да фізіка.— Дзяжурны яшчэ адкрыты, схадзі купі.

Раман-старэйшы ўсхапіўся і, борздзенька накінуўшы паліто, узяў у Георгія грошы.

— На рэшту бычкоў і грыбной салянкі? — спытаў ён.— Якраз хопіць.

— Не трэба, ёсць лепшае. Купі сабе папярос.

Раман-старэйшы вярнуўся хвілін праз дваццаць. Георгій за гэты час пагаліўся. Ён заўсёды галіўся нанач. Псіхолаг, накрыўшыся коўдрай з галавой, спаў ці рабіў выгляд, што спіць.

Георгій піць не хацеў. Ён наліў сабе толькі на дно шклянкі.

— Выпі ты,— сказаў ён Раману-старэйшаму.— Я сёння добры, таму частую. І дай цёзку, можа, не будзе такі злосны.

У дзверы зноў пастукалі, на гэты раз няўпэўнена і ціха.

— Шанцуе нам на візіты,— нездаволена прабурчаў фізік.— Дыхнуць не даюць...

— Заходзьце! — крыкнуў Георгій, папраўляючы гальштук.

Фізік, таропка закаркаваўшы пляшку, паставіў яе пад ложак.

Дзверы асцярожна прыадчыніліся, і ў праёме паказалася галава Сашы, стрыечнага брата Рамана-старэйшага. Саша вызначаўся ўсімі прыкметамі «цырыка», або аўстрыйца, як жартам называлі першакурснікаў. Ён меў тоненькую шыю, вёў

канспекты па ўсіх прадметах і вітаўся з выкладчыкамі хоць да сямі раз на дзень, абы толькі сустрэўся.

Рыжым «цырык» усё ж не быў, хоць насіў тое ж прозвішча, што і Раман-старэйшы.

Зайшоўшы ў пакой, Саша нерашуча перамінаўся з нагі на нагу. Ён хацеў нешта сказаць. Гэта было відаць па яго разгубленым твары.

— Гавары, калі прыйшоў,— дазволіў фізік.

— Я атрымаў стыпендыю на курс, і ў мяне засталіся грошы,— прамовіў «цырык» хвалюючыся.— Восемсот рублёў... Мабыць, касір аблічыўся...

— Гэта не бяда,— сказаў Раман-старэйшы.— Занясеш заўтра ў касу і аддасі. Я калі быў старастам, то касір мне аднойчы недадаў. Два месяцы хадзіў без стыпендыі. Ёсць правіла: лічы грошы, не адыходзячы ад касы.

— Ды і я баюся: можа, яшчэ хто не атрымаў...

— Ну, то правер, спісак жа ў цябе ёсць.

— Заняткаў заўтра няма, самападрыхтоўка. Калі я ўсіх пабачу.

— Не заўтра, дык паслязаўтра. Правер усё, тады аддасі. Што табе гэтыя грошы, кішэню прапякуць? Будзе і касіру навука, няхай не памыляецца.

Георгій, седзячы на ложку, нешта перакладваў з кішэні ў кішэню. Ён маўчаў. Потым устаў і пачаў апранацца.

— Кэптэн,— сказаў Георгій.— Я начую ў Няхрышчанкі. Мы з ім артыкул пішам. Калі прыйдзе тая самая, я на раёне.

— Ясна,— адказаў Раман-старэйшы.— А калі жонка прыедзе?

— Не прыедзе...

Георгій, наставіўшы каўнер паліто, пайшоў.

Раман-малодшы спаў. Праз колькі хвілін падаўся на свой пяты паверх і «цырык». Яго настрой прыкметна павысіўся.

Раман-старэйшы яшчэ з паўгадзіны не тушыў святла і, крочачы з кута ў кут, усміхаўся сам сабе. Пра каго ён думаў? Можа, пра стрыечнага брата, «цырыка», які глядзеў на свет такімі яснымі і чыстымі вачамі...

Раман-старэйшы расклаў пасцель, патушыў святло і лёг. Жалезны ложак быў для яго яўна кароткі, і спаць на ім прыходзілася, сагнуўшыся ў крук. На такіх ложках студэнт,

а пасля аспірант Раман Булыка праспаў восем год. Той, хто вырабляў ложкі, проста не разлічыў, што на іх давядзецца спаць такім волатам, як Раман-старэйшы. Метр дзевяноста сантыметраў — сапраўдны грэнадзёрскі рост.

З-за свайго росту Раман-старэйшы яшчэ ў студэнцкія гады атрымаў і клічку Кэптэн. Справа ў тым, што сённяшні фізік у вайну быў лейтэнантам і нават два месяцы камандаваў ротай. Таму аднакурснікі з-за павагі да баявых заслуг сябра ліквідавалі неадпаведнасць, якая існавала паміж званнем Рамана і апошняй займаемай ім пасадай, і павысілі яго чын да капітанскага. Што ж датычыць англійскага гучання слова, то пэўную ролю тут адыграў колер Раманавых валасоў і рост. Рамана няцяжка было зблытаць з сынам Альбіёна.

У акно пакоя лілося мяккае месячнае святло. Ад гэтага ён здаваўся цяплейшым і ўтульнейшым. З неба падміргвалі тры зоркі — самыя крайнія з сузор'я Рыбы. Іх таямнічыя прамені дабіраліся да маленькага аспіранцкага пакоя некалькі светавых год...

Назаўтра першым прачнуўся Раман-старэйшы і рашуча рвануў коўдру з цёзкі.

— Уставай, будзем лячыцца! — загадаў ён.— Ёсць ганарар за ўчарашнюю хлусню.

Булыка выцягнуў з-пад ложка бутэльку і паставіў на тумбачку.

— Паддай адзін, а я не хачу,— сказаў Раман-малодшы.— Мне было брыдка слухаць, як ты ўчора кленчыў...

— Я не кленчыў, ён паставіў сам.

— Ну, дык пі, калі паставіў...

Раман-малодшы не хацеў спрачацца. Такое здаралася не часта. Булыка зноў схаваў бутэльку пад ложак. Ён закурыў і пачаў крочыць між ложкаў.

Без стуку ў пакой уляцеў «цырык», Саша. Ён стаяў ля дзвярэй і плакаў, па-мужчынску закрываючы твар рукамі. Яго вузкія плечы ўздрыгвалі.

Потым ён усё расказаў. Да Сашы толькі што прыбягаў касір. Ён меў інфармацыю, што стараста першакурснікаў утаіў перададзеныя грошы і збіраецца іх прапіць са сваім стрыечным братам. Саша, не паспеўшы праверыць па спіску, аддаў яму ўсе восемсот.

— Касір думае, што я хацеў іх украсці,— захліпаўся ад плачу Саша.— Ён нават не падзякаваў. А я ж раскрыў толькі вам...

— Ясна, хто пастараўся,— бялеючы з твару, ціха загаварыў Булыка.— Падлюга абсалютны! Падлюга, які лічыць, што свет населены такімі самымі, як ён. Дысертацыя спісваецца з чужых брашур, горла тых, што бачаць, можна заліць гарэлкай, да касіра выгадна паддобрыцца...

— Людзям уласціва памыляцца,— усміхнуўся Раман-малодшы.

Булыка дастаў з-пад ложка паўлітру.

— Пойдзем умывацца,— сказаў ён, засоўваючы бутэльку ў кішэню.— Пальеш мне на рукі, спірт найлепш адмывае бруд і забівае мікробаў. Чыстай рукі яму болей не падам...

— Праз перашкоды да зёздаў,— усміхаючыся, прамовіў Раман-малодшы.

— Падлюгі з намі не паляцяць,— адказаў Булыка.

Ён таксама ўсміхаўся. Раман-старэйшы проста не ўмеў доўга злаваць...

*1959*

## ЖУЛЬ ВЕРН

### I

Люблю фантазію і таямнічасць. Гэта з самых малых год. Усякаму падшыванцу, калі яму міне пяць вёснаў, хочацца, каб свет хадзіў дагары нагамі. А незвычайнае пачынае вабіць з калыскі. У праўдзівасці сказанага могуць лёгка пераканацца сённяшнія бацькі. Ляжыць, напрыклад, у люльцы сінявокі чалавек, які пражыў вясну, лета, восень і яшчэ зусім не ведае, што такое зіма. Падыдзі да яго звычайна, павітайся, назаві па імені — ніякага ўражання. А надзьмі шчокі, вырачы вочы, прыцмокні ў дадатак языком — і маеш захапленне сінявокай істоты...

Цяга да выключнага, дзіўнага, мабыць, у самой прыродзе чалавечай. Той жа чалавек, калі яму стукне тры гады, лічыць за найвялікшае шчасце, калі бацька пераменіць сумнае вер-

тыкальнае становішча і ўпадобіцца ў сродках перамяшчэння сваім далёкім продкам. Сын тады папаўзе за ім хоць на край свету. Ён забудзе пра цукерку, якую да гэтага канючыў цэлую гадзіну, забудзе нават на зялёнага каня, які ржэ, стоячы на сваіх драўляных колах. Хіба ж гэта часта здараецца, каб знаёмы, звычайны бацька разам з ім падаўся на ўсіх чатырох даследаваць самыя таямнічыя закуткі хаты. Можна ўрэшце і абсядлаць бацьку, тады ён адразу стане канём і будзе імчаць з кута ў кут, варта толькі добра паддаць яму шпорамі...

А калі споўніцца сыну сем гадоў, то чым заменіш яму казку? Неабавязкова памятаць, як запісана яна ў Афанасьева ці ў неразлучных братоў Грым. Проста пляці кашэль з ваўкамі, бабай-ягой, праставатым Іванкам, якому шчасце само лезе ў рукі. Галоўнае, каб не хутка быў канец. Акругленыя сынавы вочкі не зміргнуць, і чым спрытней снуе язык незвычайныя прыгоды, тым часцей і глыбей уздыхае вераб’інымі грудзьмі зачараваная істота.

Таямнічае — вабіць. Нястрымна хочацца зазірнуць за паласу невядомасці, дабрацца да самага кораня рэчаў. Мабыць, па гэтай прычыне ў сына доўга не залежваюцца цацкі. Купіш навейшай маркі аўтамабіль, які заводзіцца ключом і можа калясіць па хаце, колькі ты захочаш, а праз дзень ён ужо ляжыць разабраны, і цікавасці да яго ў сына абсалютна ніякай. Цікавасць ужо здаволена. Сын хацеў паглядзець, што ўсярэдзіне, ён падазраваў прытоенага маленькага чалавечка, які круціць гэтыя вінцікі і калёсікі, а там аказалася звычайная пружынка. Гліняны сабачка, які можа свістаць, калі дзьмуць яму ў дзюрачку, што праароблена ззаду, жыве яшчэ менш за аўтамабіль. Сын, насвістаўшыся, пад вечар разбівае яго малатком і ледзь не плача ад крыўды: ён думаў убачыць нешта дзіўнае, а ўнутры ўсяго толькі пустата...

## II

У дзяцінстве я быў хваравіты і вельмі баяўся холаду. Гэта давала поўную перавагу нада мной майму суседу, чырванашчокаму мацаку Кірылу, які лятаў зімой у расхрыстаным кажушку, а засопшыся, праганяў смагу кавалкам лёду. Ён грыз лёд, як цукар, а мяне прабіралі дрыжыкі. Мне здавалася, што

Кірыла захварэе. Але ніякая хвароба яго не брала. Ён насіўся па замерзшай рачулцы на сваіх дзеравяшках з ранку да вечара і, здаецца, мог бы там і начаваць.

Але варочацца пад вечар дамоў Кірылу прымушалі некаторыя прычыны. Па-першае, трэба было пад'есці. Які б смачны ні быў сіняваты лёд са срабрыстымі вочкамі застыглых у ім бурбалак, але без падмацавання бульбай Кірылаў жывот ныў і бурчаў, а ногі пачыналі пруцянець. Акрамя таго, Кірыла яшчэ пабойваўся маці. Яна асабліва распякала за чаравікі. Пары чаравік на зіму Кірылу, вядома, не хапала, і таму на гэтым грунце ў хлопца штовечар былі непаразуменні з маткай.

Аднойчы маці схавала чаравікі, і тады Кірыла вылецеў на лёд босы. Ён коўзаўся на сваіх чырвоных, як у гусака, лапах, можа, цэлую гадзіну, а ўся вуліца, разявіўшы рот, дзівілася з гэтага яшчэ не бачанага відовішча. Паміж іншым Кірыла і пасля свайго босага коўзання па лёдзе не захварэў.

На навуку Кірыла налягаў не вельмі і ўрокі вучыў збольшага. Таму ў яго заўсёды было многа вольнага часу, якім ён распараджаўся як хацеў.

Я шчыра зайздросціў Кірылу і асабліва яго здароўю. У вачах жа майго суседа я быў чалавекам непаўнацэнным, і ён без лішняй далікатнасці заўсёды мне аб гэтым напамінаў. Яго словы і насмешкі, вядома, крыўдзілі, але супраць сілы не пойдзеш.

— Такіх, як ты, мне трэба пяць на аднаго,— выхваляўся сусед.— Я магу цябе адной рукой вобземлю пляснуць.

Ён не хлусіў, чырванашчокі мацак Кірыла...

Іншы раз, калі мы каталіся на рэчцы, Кірыла выклікаў мяне на спаборніцтва. Ён даваў мне магчымасць адбегчыся ад яго метраў на пяцьсот, а потым нязменна даганяў. Кірыла імчаўся на сваіх дзеравяшках, як віхор і, дагнаўшы мяне, рагатаў на ўсё горла. Я ж стараўся ў такія хвіліны куды-небудзь збочыць, каб ніхто не бачыў майго сораму...

## III

Ганарлівая Кірылава пагарда да мяне прымусіла шукаць новых сяброў. І я знайшоў іх — кнігі. Першая, якая трапіла ў рукі, называлася «Казкі і праўда аб небе». Казкі пра неба

не здзівілі. Іх узбытку расказваў дзед, сівы, сухенькі, вечна чым-небудзь заняты. Ён любіў разважаць пра Бога, які жыве на небе, пра райскія кушчы, куды пасля смерці трапяць людзі святога жыцця, і пра пекла, прыгатаванае для грэшнікаў. Дзедавы казкі амаль нічым не адрозніваліся ад тых, якія я знайшоў у кнізе.

— Нараджаецца на свет чалавек,— гаварыў дзед,— у небе запальваецца зорачка, памірае — яна падае. Зорачка як свечка. Колькі на небе зорак, столькі на свеце людзей. Хто пад якой планідай нарадзіўся, той так свой век і пражыве. Усё ў волі Божай. Без Бога нават ніводзін волас з галавы не выпадзе.

— А ты, дзед, сваю зорачку ведаеш?

— Ніхто, акрамя Бога, гэтага не можа ведаць, унучак.

— То ты, дзед, як будзеш паміраць, скажы мне. Я выскачу на двор і пагляджу, як будзе падаць твая зорка.

— Смерць жа, унучак, не гаворыць, калі прыйдзе.

К таму часу, калі мне ў рукі трапіла кніжка пра неба, дзеда ўжо не было. Памёр ён у лесе, восенню, паехаўшы па дровы. Спуджаны конь, вырваўшыся з аглобляў, прыбег у двор без гаспадара. Ноч была цёмная, воблакі зацягнулі ўсё неба, на ім не блішчала ніводнай зоркі...

Першае пачуццё, якое прыйшло пасля кніжкі пра неба,— жаль да дзеда. Ён памёр, і няма да яго ніякай справы ні небу, ні зоркам. Нікуды не паляціць яго душа. Мёртвыя не лётаюць...

І яшчэ было захапленне, перамешанае са страхам. Якое вялікае неба! Хто і калі пералічыць зоркі, рассыпаныя ў Сусвеце? Хто, які чалавек ступіць першым на бераг далёкай планеты? Неба, бясконцае неба... Як у гэта паверыць і як з гэтым згадзіцца?..

## IV

Ноч. Зіма. У хаце ўсе спяць. Я адваяваў сабе печ. Цяпер ужо не па той прычыне, што вечна мерзну. Проста на печы больш выгадная пазіцыя для маскіроўкі. Лямпа з прыкручаным кнотам стаіць у самай шыйцы, і таму на хату падае толькі вузкая палоска святла. Мерна цікаюць на сцяне ходзікі, але з печы не ўбачыш, колькі часу. Гэта і добра, што не ўбачыш. Няхай спыніцца час, няхай забудуць пра свае абавязкі пеўні,

няхай не цэдзіцца праз замерзшыя шыбіны сіняе зімовае світанне! Я чытаю...

Зашмальцаваны томік Жуля Верна, дадатак да старой «Нівы», мне адпушчан толькі на адну ноч. Заўтра кніжку будзе чытаць другі. Не скончыш за ноч — вінаваты сам. Ахвотнікаў многа, а кніга рэдкая, у бібліятэцы яе не возьмеш.

У коміне вые і стогне вецер, і гэта найлепшы акампанемент для чытання. У кнізе таксама шалее акіян, раз'юшаныя хвалі вось-вось перакінуць звязаны на жывую нітку з паламаных мачтаў плыт, на якім бясстрашныя падарожнікі. Але людзі плывуць. Іх вядзе ў нябачаны свет нейкая нястрымная прага да новага, нязведанага, неапісанага. Вось ужо мрояцца ў сінім тумане няпэўныя абрысы далёкага берага. Што гэта? Востраў, мацярык ці, можа, проста міраж знясіленых ад голаду і смагі людзей?

Страшна перагарнуць наступную старонку. А што, калі зноў расчараванне, калі новыя сотні міль па салёных, бязлітасных хвалях, без пітва, без яды?

— Ты яшчэ не спіш? Зараз жа тушы лямпу! Другія пеўні праспявалі, а ён усё не начытаецца. Высах, счарнеў з-за гэтых кніг...

Гэта маці. Яна кніг не чытае. Яна не ведае радасцей, якія яны прыносяць. Яе галоўны клопат — каб мы, дзеці, былі сытыя, адзетыя, здаровыя.

— Я зараз, мама. Засталося толькі дзве старонкі. Ты спі, я зараз...

Цікаюць на сцяне ходзікі, вые ў коміне вецер, на разлезлым валёнку разлёгся стары паласаты, як тыгр, кот і ледзь чутна пяе «рулі» сваім заўсёды халодным носам. Час ад часу ён уздрыгвае, дзярэ кіпцямі поўсць валёнка і варушыць вушамі. Кату, мабыць, сняцца мышы. Наогул жа да мышэй ён даўно абыякавы, ён недачувае і недабачвае, і яны, ведаючы гэтыя старэчыя слабасці ката, ніколькі яго не баяцца. На жардзіне развешаны перавяслы цыбулі. У скупым святле, якое падае ад лямпы, яны здаюцца гронкамі нейкіх дзівосных заморскіх раслін.

За адну ноч можна пражыць некалькі жыццяў. І яны западуць у сэрца водгуллем сваіх радасцей і гора, сваіх узлётаў і падзенняў. Сiняваты зімовы ранак просіцца ў акно, і я развітваюся з героямі Жуля Верна. Я люблю іх, неспакойных

бяссрэбранікаў, іх дапытлівы розум і добрае сэрца. Яны адкрылі новы востраў, і іх радасці мне хопіць на тое, каб, паспаўшы якую-небудзь гадзіну, ускочыць бадзёрым і вясёлым.

## V

Дзякуючы Жулю Верну я рана пачаў вандраваць па свеце. Для гэтага не трэба было ні караблёў, ні цягнікоў, ні цягавітых мулаў. Хапала адной фантазіі. Пасля кожнай кнігі Жуля Верна я крочыў па тых самых сцежках, што і яго героі. Гэта было лёгка і ўдавалася ў любы час і ў любым месцы. Звычайная, тысячу разоў бачаная і зведаная вясковая вуліца магла стаць новай і незнаёмай, варта было толькі выключыцца з плыні паўсядзённага жыцця. Родныя бары і бярэзнікі ў залежнасці ад патрэбы маглі ператварацца ў трапічныя зараснікі ці ў сібірскую тайгу. Невялікая, паўзарослая асакой і аерам рачулка Змейка, якая пятляла па сенажаці за агародамі, рабілася то блакітным Нілам, то імкліваю горнаю ракой.

Гэта было цудоўна — вандраваць па свеце. Знікала ўсё дробязнае, будзённае, душа поўнілася радасцю адкрыцця, самаахвярнасцю подзвігу. У часы такіх вандровак забываліся ўсе крыўды і згрызоты, і я адчуваў сябе найвялікшым уладаром, які раздае людзям толькі радасць і шчасце.

Пазней паявіліся жывыя чараўнікі, якія правялі па свеце з компасам і картай і прымусілі пільна прыглядзецца да таго, што ляжыць пад нагамі.

Геаграфію ў пятым і шостых класах выкладаў Антон Антонавіч Струк, нізенькі, чорны чалавек з глюгматым, як у турка, носам. Яго незвычайнасць праявілася з першага ўрока.

Географ таропка ўвайшоў у клас, шпурнуў на стол туга напакаваны жоўты партфель і, узяўшы рукі ў бокі, арліным позіркам акінуў прыціхлыя рады пяцікласнікаў.

— Кагты,— загадаў ён страшэнна картавым голасам.— Геаггафія — навука дакгадная...

Дзяжурныя кінуліся за картамі.

І адразу пачалося нешта падобнае на магію. Антон Антонавіч не паварочваўся тварам да карты. Ён стаяў да яе спіной. Але яго ўказка, нібы разумная жывая істота, надзвычай дакладна апускалася на горныя хрыбты, плыла па

рэчышчах ад вытокаў да вусця, адзначаючы ўсе звіліны, парогі і перакаты.

Пазней высветлілася, што Антон Антонавіч усюды быў і ўсё бачыў. Ён ніколі аб гэтым не казаў прама. Але гэта разумелася само сабой.

— Мы ідзём па Сахары,— гаварыў географ.— Вады трэба ўзяць не менш чым на пяць сутак, каб дайсці да бліжэйшага аазіса. На галаве ў нас пробкавыя шлемы, іначай мы не пройдзем і палавіны шляху — загінем ад сонечнага ўдару. Тэмпература — пяцьдзясят шэсць па Цэльсію. Пад нагамі гарачы, нібы прысак, пясок. Пакладзіце туды яйка, і яно праз паўгадзіны спячэцца, не трэба ні агню, ні кіпятку. На сотні кіламетраў вакол нас мёртвая шэрая пустыня. Пясок, пясок і пясок. Заўважце, у ім вельмі многа серы, але яе тут не здабываюць. Расліннасці амаль няма, толькі зрэдку ля падножжа бархана ўбачыш калючыя кусцікі той жа пароды, што і наш каракумскі саксаул. Прабяжыць яшчарка, можна наткнуцца на маленькую змейку, падобную на мядзянку. Яе ўкус смяртэльны.

Мы шукаем у Сахары нафту,— вёў нас далей Антон Антонавіч.— Нафта тут павінна быць. Аб гэтым сведчаць выветраныя рэшткі дэвона, якія трапляюцца на шляху. Некалі тут быў квітнеючы край, былі гарады і людныя паселішчы. А яшчэ раней, мільёны год назад, Сахара была дном акіяна.

Мы ідзём па Сахары за Антонам Антонавічам месяц, два, тры. Скура ў нас стала чорная. Мы загартаваліся і лягчэй пераносім страшэнную спёку. Слабыя і хворыя, вядома, адсталі. Яны вярнуліся назад...

Я бачыў сябе сярод тых, што загартаваліся. Назад я не вярнуўся б нават перад пагрозай смерці. Тыя, што адправіліся ў падарожжа, што адкрываюць невядомае, не павінны думаць аб смерці.

Але былі сярод нас і слабыя...

— Кірыла Бомзель,— выклікаў назаўтра майго суседа Антон Антонавіч.— Пакажы Сахару і раскажы, што ты пра яе ведаеш.

Кірыла ляніва ўставаў з самай задняй парты, за якой ён сядзеў, і медзведзяватай паходкай ішоў праз увесь клас да карты. Карта была нямая, і Кірылава ўказка ў пошуках Сахары блукала недзе па прасторах Ледавітага акіяна. Па класу поўз

прыдушаны смех. Нарэшце Кірыла спыняў пошукі, апускаў кудлатую галаву і калупаў указкай насок чаравіка.

— Не можаш знайсці Сахары,— стараючыся быць ветлівым, гаварыў географ.— Ну, тады раскажы, што ты пра яе ведаеш.

— У Сахары горача,— пачынаў Кірыла і, насупліваючыся, змаўкаў. Пра Сахару ён болей нічога не памятаў. Ён стаяў абыякавы, прыціхлы і пазіраў некуды ў акно. Але так лёгка адступіцца ад някемлівага вучня географ не жадаў. Ён хацеў разбудзіць яго інтарэс.

— Можа, ты ведаеш, што ёсць карыснага ў Сахары? — дапытваўся Антон Антонавіч.

— Там ёсць змеі. Яны вельмі кусучыя,— паведамляў Кірыла і цяпер ужо змаўкаў канчаткова.

Кірыла ў Сахару не збіраўся. Па свеце ён разам з намі не вандраваў. Гэта было ясна.

— Садзіся, вельмі дрэнна,— ужо злосна гаварыў географ.— Гэта твой пяты кол у чвэрці. Здаецца ж, нармальны чалавек: галава, рукі, ногі, як у людзей, а ведаў ніякіх. Завошта цябе бацька корміць хлебам? Што з цябе будзе?..

Кірылава няласка да навукі была дробяззю ў параўнанні з тым радасным, захапляючым, што прыносіў нам кожны ўрок. Свет быў вялікі, агромністы, разнастайны. Ён быў створаны для нас. З падземных глыбінь білі гаючыя ключы, яны маглі паставіць чалавека на ногі, калі ён знямогся ў дарозе. Зямля прыхавала для нас нафту, жалеза, вугаль, золата: гэта трэба толькі знайсці. Зямля шанавала тых, хто шукае, хто служыць ёй. Засмяглая Сахара бралася пракарміць усё чалавецтва, дай ёй толькі вады! Неспакойны вецер гатоў быў круціць усе млыны і рухавікі, толькі іх пабудуй! Упартыя рэкі маглі пацячы, куды хочаш — перасячы іх шлях плацінамі. Усё ў тваёй уладзе, чалавек!..

## VI

Урокі геаграфіі былі святам. Але той, хто дае найвялікшую радасць, можа прынесці і самае вялікае гора. Я любіў Антона Антонавіча, для мяне ён быў незвычайным чалавекам. Я ставіў яго вышэй за ўсіх астатніх настаўнікаў, а да ўрокаў геаграфіі рыхтаваўся як да ўрачыстасці. Ні разу не запнуўся я

пры адказе, і калі б мяне разбудзілі нават ноччу, я пералічыў бы ўсе рэкі, горы, нізіны любога кантынента. І ўсё-такі не я быў першым вучнем па геаграфіі. Не мяне выдзеліў Антон Антонавіч і не мяне хваліў ён перад усім класам.

Шчаслівіцам быў Андрэй Камінскі, скарочана — Рэй, або Комін, як звалі яго мы. Нічога асаблівага не знаходзіў я ні ў яго знешнасці, ні ў адказах, ні нават у ведах. Рэй, на першы погляд, выглядаў бесклапотным рагатуном, якому проста шанцавала. Здаралася, што ён збіваўся, калі адказваў, мог пераблытаць назву ракі або гары. Мог нават не вывучыць урока. Але Антон Антонавіч яго хваліў і ўзносіў да неба. За што?

Цяпер, на адлегласці, якая аддзяляе ад тых далёкіх дзён, цяжка ўспомніць усе падрабязнасці. Хутчэй за ўсё географ выдзеліў нашага аднакласніка за яго нейкую нястрымную і ненасытную цікаўнасць. Комін не мог пражыць дня без якога-небудзь захаплення. Цяжка было ўгадаць, што яго зацікавіць заўтра. Ён мог захапіцца якой-небудзь драбязой і дакучаць ёй і нам, і настаўнікам хоць цэлы тыдзень.

Бацька Коміна працаваў цесляром і будаваў новыя дамы то ў нашым пасёлку, то ў суседнім саўгасе, то на торфзаводзе. Па гэтай прычыне і ў Рэя не было сталага жыхарства. Год ці паўтара ён жыў там, дзе працаваў бацька, але школы не мяняў. Адзін час, зімою, Рэй прыходзіў на заняткі з саўгаса за шэсць кіламетраў.

Можа, таму, што Комін болей за нас вандраваў па аколіцах, палях і лясах, у яго скапілася так многа цікаўнасці. Аднойчы ён запытаў у географа, за колькі часу можа нарасці на балоце метр торфу. Антон Антонавіч не здолеў адказаць. Такое з ім здарылася ўпершыню. Ён збянтэжыўся і паабяцаў расказаць пра торф у другі раз.

Антон Антонавіч споўніў абяцанне праз дзень. Тады Рэй устаў з-за парты і голасна заявіў, што балоту, якое называлася Багінскі Мох, дзесяць тысяч гадоў. Торфам з Багінскага Моху, дзе яго капалі на паліва, карысталіся ўсе, але ніхто не ведаў, што ён такі старажытны.

А ў хуткім часе Рэй прынёс у клас пачарнелае, цвёрдае, як камень, сцябло нейкай расліны. Ён здабыў яго з чатырохметровай балотнай глыбіні і выхваляўся, што яго знаходцы пяць тысяч гадоў.

З Рэем звязана старонка жыцця, пачатак якой не хацелася б успамінаць. Чамусьці, нягледзячы на тое, што Антон Антонавіч хваліў яго болей за ўсіх, у класе хлопца любілі не вельмі. Можа, у гэтым таілася самая звычайная зайздрасць, якой здольны паддавацца адразу многія, а можа, была якаянебудзь іншая прычына. Ва ўсякім разе сам Рэй не крыўдзіў нікога. Ён любіў парагатаць, мог каго-небудзь злёгку падкалоць, але такія грахі меў за сабой кожны з нас.

Я не любіў Рэя таксама. Мяне ставілі ў прыклад многія настаўнікі, а той, перад кім я найбольш схіляўся і чыёй пахвалы гэтак прагнуў — Антон Антонавіч,— абраў сваім героем зусім другога. Хвілінамі мяне апаноўвала злосць на географа. Чаму ён не бачыць, што ў гэтага Рэя сем пятніц на тыдні, што ён — ветрагон і баламут, які заўтра ж забудзе геаграфію, калі стрэне што-небудзь цікавейшае.

Больш, чым каго з настаўнікаў, я любіў Антона Антонавіча, і больш, чым хто, прымушаў ён мяне пакутаваць...

Рэй не ўваходзіў у нашу спулку, якая абменьвалася рэдкімі кнігамі, і, вядома, не праглынуў столькі томікаў Жуля Верна, колькі мы. Але аднойчы мы дачуліся, што менавіта ён з'яўляецца ўладаром аповесці таго ж Жуля Верна пад назвай «З гарматы на Месяц». Мы ведалі, што такая кніга ёсць, але ніхто з нас нават не трымаў яе ў руках. Ад гэтага яшчэ больш распалілася жаданне завалодаць кнігай. Яна ўяўлялася самай цікавай з тых, што мы прачыталі. З гарматы на Месяц! Хіба ж у такой аповесці магла ісці гутарка пра звычайныя рэчы?

Рэй рашуча адмовіўся даць кнігу. Ён не ішоў ні на якія ўступкі, не хацеў абмену, не верыў у самыя шчырыя клятвы. Комін ведаў, з кім мае справу. І ён не памыляўся. У тым, што датычыла кніг, спулка не прызнавала ніякіх правіл сумлення. Абы завалодаць кнігай, а там трава не расці!.. Самыя цікавыя кнігі былі ў нас, і мы іх з рук не выпускалі...

Верхаводзілі ў спулцы сямікласнікі. Тыя ж, хто вучыўся ў шостым класе, былі на правах бедных родзічаў. Ім кніга давалася на адну ноч, а здаралася, што іх зусім абыходзілі. Мы, шасцікласнікі, вылазілі са скуры, каб выслужыцца.

Выкрасці ў Рэя Жуля Верна даручылі мне...

Першы план праваліўся. Перахапіць кнігу ў каго-небудзь з тых, каму Рэй яе даваў чытаць, не ўдалося. Комін адчуў, што за яго Жулем Вернам палююць, і трымаў кнігу дома.

Тады прыйшлося прасіць дапамогі Кірылы. Яму было напляваць на Жуля Верна, але ён згадзіўся здружыцца з Рэем, каб здабыць кнігу. Але і з гэтага нічога не выйшла. Кірыла швэндаўся на торфазавод, дзе жыў Комін, стараўся да яго паддобрыцца, нават удзельнічаў у нейкіх раскопках, але Рэй яму не верыў.

Усё ж Кірыла саслужыў нам сваю службу. Ён выведаў, што малодшы Рэеў брат Іван вельмі цікавіцца агнястрэльнай зброяй. Ён вучыўся ў другім класе, але ў яго вучобе якраз быў часовы перапынак. Іван знайшоў дынамітны патрон, якім узрывалі пні, і паспрабаваў ім вывернуць дуб. Дуба ён не паваліў, але сваё правае вока страціў назаўсёды, бо не ўмеў як след карыстацца дынамітам. Па гэтай прычыне Іван і не хадзіў у школу, яго вока яшчэ не зажыло.

Было ясна, што з такім хлопцам, як Іван, кашу зварыць можна. Нягледзячы на сваю няўдачу з дынамітам, Іван не страціў ваяўнічасці і страшэнна любіў страляць. За порах ён мог зрабіць усё, што хочаш.

Нядзельным майскім ранкам мы з Кірылам падышлі да Рэевага двара. Самога Коміна дома не было: гэта мы ведалі дакладна. Аднавокі Іван сядзеў на верхняй перакладзіне варот і боўтаў нагамі. Якой-небудзь разумнай прычыны сядзець у такі ранні час на варотах, вядома, не было, але ж не ўсё тое, што робіцца на свеце людзьмі, можна назваць разумным.

Мы прынеслі Івану васьмушку пораху, і, убачыўшы яго, ён аж задрыжаў ад узбуджэння. Без ніякіх ваганняў ён вынес нам кнігу Жуля Верна.

Рэю быў нанесен удар у самае сэрца...

## VII

Але менавіта ўкрадзены Жуль Верн зблізіў мяне з Рэем.

Назаўтра я прыйшоў у клас з выглядам пераможцы. Мне вельмі хацелася паглядзець, як будзе трымаць сябе Рэй, будзе ён прасіцца, плакаць ці помсціць. Я гарэў нецярпеннем хутчэй сутыкнуцца са сваім праціўнікам і, вядома, убачыць яго прыніжаным і разбітым...

Рэй не даў повад для радасці. Ён нікому не сказаў пра кнігу, і толькі па яго пахмурнаму твару можна было здагадацца, што ён усё ведае. Яго спецыяльна зачэплівалі, падкалвалі,

але ён маўчаў, як быццам не было ні кнігі, ні палявання за ёй, ні гандлю з ахвочым да пораху яго братам Іванам. Пра такі канец ніхто з нас не думаў.

Так цягнулася тыдзень, другі, трэці. З усімі тымі, хто памагаў выкрадаць Жуля Верна, ён размаўляў, як і раней, і ў яго голасе не чулася ні пагрозы, ні злосці. Гэтая высакароднасць з боку Рэя неяк абяззбройвала.

Усё вырашылася пасля памятнага выпадку. Даведзеныя да шаленства маўчаннем Рэя, мы самі перайшлі ў адкрытае наступленне. Здаўшы апошні экзамен за шосты клас — геаграфію,— мы акружылі свайго праціўніка і на яго вачах пачалі лістаць украдзенага Жуля Верна. Рэй трымаўся мужна. Ён па-ранейшаму маўчаў. Толькі ледзь-ледзь задрыжала яго верхняя губа, і ён адвярнуўся, каб не паказаць сваіх слёз.

Гэтага не вытрымала спулка. Мы моўчкі аддалі Рэю Жуля Верна і, прыгнечаныя, пайшлі прэч...

А потым я цэлае лета хадзіў на торфазавод купацца. Там было безліч глыбокіх кар’ераў, запоўненых бурай, нібы ячменная кава, вадой. Пасля такога купання прыходзілася нанава абмывацца ў рачулцы Змейцы. Хадзіў я на торфазавод, вядома, не дзеля купання. Там жыў Рэй. З ім нарэшце мы сышліся.

Каб заваяваць давер Рэя, я першыя дні, пакуль яго не сустрэў, насіў пад пахай Жуля Верна. Гэта была ўжо мая кніжка, у ёй расказвалася пра падарожжа вакол зямлі за восемдзесят дзён, і я разлічваў, што Комін яе не чытаў. Спаткаўшы Рэя, я першы, без ніякіх умоў, даў яму кнігу...

І праляцела тое лета залатым карагодам незабыўных уражанняў. Рэй быў цудоўны хлопец з адкрытай і шчырай душой. Сваімі захапленнямі і радасцямі ён дзяліўся з кожным, хто ішоў да яго без каменя за пазухай. Нацэленыя Жулем Вернам вандраваць па ўсім свеце, адкрываць неадкрытае, мы пакуль што ажыццяўлялі адысею па блізкіх ваколіцах. Прырода не пакрыўдзіла родныя мясціны. Па лесе валяліся вялізныя валуны, аброслыя сівым мохам. Ляднік прынёс іх сюды, зрэзаўшы з гор Скандынавіі. Вёрст за восем ад мястэчка, ля невялікага чыгуначнага раз’езда, здабывалі вапну. А побач, у лагчынцы, атуленай вербалозам і ракітнікам, біла з зямлі крыніца. Вада яе была незвычайная, з рэзкім і непрыемным пахам. Ад яе выгарала трава навокал. Але па ваду прыязджалі з наваколь-

ных сёл і бралі яе бочкамі тыя, хто хварэў на раматус і на іншыя невядомыя нам хваробы.

На балоце ржавая вада сям-там зацягвалася вясёлкавымі кругамі. Аднекуль сюды прасочвалася нафта. Родная зямля таіла ў сваіх нетрах безліч скарбаў...

Але тым памятным летам нас найбольш узрушылі птушкі. Знаёмы даўганогі бусел, сіваграк, ластаўка былі не толькі нашымі, але і афрыканскімі. Баючыся холаду, яны на зіму ляцелі да берагоў Ніла.

Рэй выказаў здагадку, што ўсе гэтыя птушкі нашы. Бо калі б было інакш, то навошта б яны прылятаталі вясной? У Афрыцы ж цэлы год лета, і птушкам няма ніякай разумнай патрэбы марна траціць сілы на пералёт. Проста іх вабіць родная зямля, дзе некалі таксама круглы год было горача, як у Афрыцы.

Думку, якую выказаў чатырнаццацігадовы Рэй, я ні разу не сустрэў пасля ў кнігах. А яна і сёння здаецца мне справядлівай...

Незабыўны ўспамін тых далёкіх дзён — начлег у лесе. Па грыбы ў чужы незнаёмы бор мы адважыліся ісці ўтрох: Рэй, я і Кірыла. Дзень быў пахмурны, дажджлівы, сонца з самай раніцы схавалася за важкімі шэрымі воблакамі. Мы, вядома, маглі вярнуцца. Але заблудзіцца нам з Рэем, мабыць, проста хацелася. Бо навошта ж тады мы ўзялі з сабой запалкі, хлеба і сала на добрыя два дні? Мы прамоклі да ніткі і, вядома, заблудзіліся. І вось ноч у лесе, вялікі касцёр з яловых лапак і голля, завостраныя шпотыкі, на якіх мы пражым сала... Над намі кашлатая яловая навісь, а ў прагалах між вяршалін — знаёмыя зоркі — чарпак Вялікай Мядзведзіцы, Палярная, сузор’е Арыёна, бясконцы Млечны Шлях...

Ноччу распагодзілася. Арыентуючыся па зорках, мы маглі б знайсці патрэбны кірунак на поўнач і поўдзень, каб выйсці на шлях. Але не хацелася. Мабыць, упершыню ў жыцці мы ўзбытку пілі перамешаную са страхам слодыч вялікага пачуцця самастойнасці. Вакол шумеў чужы, таямнічы лес, кігікала нейкая птушка, нешта ў кустах трашчала, а мы сядзелі вакол кастра і смажылі сала...

У поўнач Кірыла не вытрымаў і заплакаў. Ён быў удвая дужэйшы за кожнага з нас, але румзаў, не саромячыся сваіх слёз. Мы з Рэем яго суцяшалі...

Той год нашага сумеснага навучання ў сёмым класе быў апошні. Дзесяцігодкі ў мястэчку яшчэ не было, і наступным летам усе разляцеліся, хто куды...

## VIII

Расказанае — кавалачак дзяцінства далёкіх трыццатых гадоў.

Сёння мне столькі, колькі было майму бацьку, калі я захапляўся Жулем Вернам. І ў мяне ёсць дзеці. Старэйшаму сыну дванаццаць, малодшаму — сем. Старэйшы ўступіў у тую паласу жыцця, калі патрэбны незвычайныя прыгоды-вандроўкі і, вядома, Жуль Верн. Малодшы глытае казкі. І яны, наіўныя, думаюць, што ім першым адкрываецца вялікая неразгаданасць свету.

Я закончыў той самы геаграфічны факультэт, на якім гадоў на дванаццаць раней вучыўся Антон Антонавіч. Ведаю цяпер дасканала, што занадта вандраваць яму не прыйшлося. Як і ўсе студэнты, з’ездзіў ён на Урал, Каўказ, і ўсё. Але Жуль Верн таксама многа не ездзіў. І быў вялікім падарожнікам...

Кірыла, дужы мой сусед, працуе настаўнікам, як і я. Шляхі нашы разышліся даўно, і, зрэшты, я мала аб ім ведаю.

У нашым мястэчку цяпер дзесяцігодка. Паблізу здабываюць вапну, і ёсць меркаванне, што ў хуткім часе ля серавадароднай крыніцы пабудуюць лячэбніцу. Але не вапнай і не лячэбніцай славута сёння мястэчка. Славу яму зарабляе Андрэй Камінскі. Ён адзін з тых, хто будаваў і запускаў спадарожнікі Зямлі. Пра гэта ўжо напісана ў газетах...

І нешта новае адбываецца ў нас, чаго, мабыць, не было за ўсю гісторыю. Саўгас, торфазавод і мястэчка спрачаюцца за Андрэя. Прадстаўнікі кожнага з паселішчаў даказваюць адзін аднаму, што Андрэй Камінскі нарадзіўся іменна ў іх. Спрэчкі часта ўзнікаюць і ў школе, куды ходзяць дзеці з усіх гэтых месц. Калі дзеці звяртаюцца да мяне, як да суддзі, я заўсёды кажу, што Андрэй — местачковец. У саўгасе і на торфазаводзе ён жыў часова. У вачах местачкоўцаў ззяе радасць, саўгасаўцы і торфазаводцы маркоцяцца. І ўсім ім разам хочацца сказаць:

— Ідзі, чалавек!

*1959*

# НОВАЯ ХАТА

Залатымі іскрамі ў памяці: сонечны дзень, расчыненыя ў двор вароты і цэлы абоз расточаных на дышлях доўгіх вазоў, нагружаных смалістымі бярвеннямі. Мы будзем ставіць новую хату! Маці мітусіцца, у яе расчырванелы твар і шчаслівыя вочы. Абед для вознікаў яна прыгатавала проста на двары, яшчэ і цяпер курацца залітыя вадой чорныя галавешкі. Бярвенні са звонам ляцяць з вазоў на дол, і вось ужо вялікая іх куча высіцца сярод зялёнага, зарослага муравой двара.

Вознікі паселі кругам каля абруса, разасланага на зямлі. Яны п'юць гарэлку, сёрбаюць боршч і смяюцца. Бацька разам з імі. Маці стаіць узбоч, трымаючы ў руцэ вялікую лыжку. Есці яна не садзіцца. Яна вясёлая, прыветлівая, і я вельмі люблю яе такой. Я сяджу на стусе бярвенняў і ем дранік са скваркай. Так мы пачалі будаваць новую хату...

Мне і старая падабаецца. У ёй два маленькія акенцы, закураная столь і дзіравая, але чыстая падлога. Аднекуль з кутка часта вылазяць лупатыя жабы-рапухі і скачуць па падлозе. Жаб я палохаю малатком. Малаток у мяне заўсёды з сабой. Я нават не ўяўляю сабе, як гэта можна жыць без малатка.

Новую хату будавалі доўга, і ўсяго я не памятаю. Я падбіраў смалістыя трэскі, якія плылі з-пад сякер цесляроў, і насіў іх на дрывотню. Спрабаваў сам цясаць сякерай з доўгім, выцягнутым, як свіное рыла, лязом, якую называлі склюдам, але ледзьве ўтрымаў яе ў руках.

Бацька часта злуецца і лаецца. Ён папікае маці то за абед, то за тое, што яна недзе забавілася, то за анучы, якіх яна не высушыла. Маці маўчыць. Яна ніколі не абзавецца ніводным словам. Мне шкада маці, і ў такія хвіліны свайго бацьку я ненавіджу.

— Вырасту, дык я табе дам,— пагражаю я яму.

— Не трэба так гаварыць, сынок,— кажа мне маці.— Бацька стаміўся, таму і злосны. Мы ж ставім новую хату.

Потым мы паехалі ў лес па мох. Там было хораша і ціха. Птушкі ўжо не спявалі, бо наступіла восень. Моху надралі поўны воз. Маці натрапіла на журавіны і пачала збіраць іх у прыпол. Бацька ўжо запрог каня, я залез на воз, на мяккі мох, і мы чакалі маці. Бацька злаваўся, што яе доўга няма. Калі яна

падышла, ён закрычаў, штурхануў яе ў грудзі, і маці ўпала. Усе журавіны рассыпаліся. Я саскочыў з воза і кінуўся на бацьку.

— Гад ты, чорт! Я цябе заб'ю! — закрычаў я на яго.

Бацька паехаў, а мы з маткай засталіся ў лесе. Маці плакала. Пасля яна супакоілася, і мы сабралі рассыпаныя журавіны.

— Грэх гаварыць так на бацьку,— павучала мяне маці.— Ты ж яго родная кроў. Ён пазлуецца дый перастане. Мы ж новую хату будуем. Недастаткі, зайздроснікаў і ворагаў колькі, ён і сярдзіты таму. Вось паставім хату...

Хату складвалі ўжо на другое лета. Мне вельмі спадабаўся пляскаты карандаш, які быў у кішэні аднаго цесляра. Зверху карандаш быў чырвоны, але пісаў чорным тоўстаю паскаю. Я папрасіў карандаш сабе. Цясляр абяцаў аддаць яго мне, як толькі кончаць складаць хату. Але хату к зіме склалі, а карандаша ён так і не даў. Гэта было крыўдна. Бацька ўвесь час лаяўся, але маці маўчала. Я любіў сваю маці.

Крылі хату зімою. Мае чаравікі падраліся, і глядзець, як крыюць, я не хадзіў. Малаток ад мяне бацька адабраў, ён сам з ім сядзеў на даху новай хаты. Калі ён прыходзіў грэцца, у яго быў чырвоны твар, сіні нос і кавалачкі лёду на вусах. Спачатку цвікі бацька сек з калючага дроту на абусе старой сякеры, уваткнутай у драўляную калодку. Потым аднекуль прынёс у анучы многа новых, сапраўдных цвікоў. Я папрасіў цвікоў сабе, і ён даў мне два. Іх я адразу забіў камнем-кругляком у прыпек. Хацелася забіваць яшчэ, але цвікоў не было. Назаўтра я падгледзеў, куды бацька іх хавае, і набраў сабе дзве жмені.

Я наўбіваў цвікоў у сцяну, каб было дзе вешаць матцы ручнікі, проста так у падлогу, адзін цвік забіў у стол, каб не спаўзаў абрус.

У абед прыйшоў бацька, зняў папругу і, нічога не пытаючыся, пачаў мяне ёй хвастаць. Мяне з яго рук вырвала маці. Яна першы раз за ўвесь час, як мы ставілі новую хату, стала крычаць і сварыцца на бацьку. Ён не сеў абедаць, грукнуў дзвярамі і выскачыў на двор.

Вясною рэзалі дошкі на столь і падлогу. Піла была доўгая, з вялікімі зубамі і зусім не падобная на звычайную. Бацька стаяў наверсе, на сталюзе, а маці ўнізе. Яе твар быў увесь белы, нібы абсыпаны мукою. Я набраў поўную шапку

чыстай, пахучай кірсы і занёс свайму суседу Алесю. У іх дошак не рэзалі і кірсы не было. Алесь за гэта даў мне мочаны яблык.

Потым я мясіў гліну ў карыце. Хлопцы пайшлі ў арэхі, але мне было некалі. У новай хаце ляпілі печ. Ляпіў яе чорны, вясёлы дзядзька, які ўмеў кукарэкаць, як певень, брахаць пасабачы і мяўкаць, нібы сапраўдны кот. Дзядзька мне падабаўся, і я папрасіў яго зляпіць мне з гліны сабачку, які будзе свістаць, калі дзьмуць яму ў дзюрачку, прарobленую ззаду. Такіх сабачак прадавалі на кірмашы гаршчанікі. Але чорны дзядзька сказаў, што са свісцёлкамі мне займацца сорамна, а трэба ісці ў школу, бо я ўжо вялікі хлопец. У школу я хацеў і сам, але ведаў, што мяне запішуць толькі аж на тое лета.

Новая хата, калі ў ёй наслалі падлогу, зляпілі печ і ўставілі вокны, была шырокая і светлая. У ёй пахла смалою, журавінамі і мохам. Са старой хаты мы прынеслі ложак, стол, дзве табурэткі. Маці напавер купіла ў суседкі фікус, але ўсё адно ў хаце было вельмі прасторна. Я галёкаў і бегаў з кута ў кут і адзін раз з разбегу стукнуў малатком па жоўтых, пафарбаваных дзвярах, якія вялі ў другую, яшчэ не агледжаную палавіну хаты. Ад філёнкі адскочыла маленькая планачка. Але бацька не біў мяне, як тады, за цвікі. Ён прыладзіў планачку клеем, а мне толькі сказаў, што з малатком дурэць нельга.

І вось незабыўны малюнак: мы спраўляем улазіны. Двор пасыпаны жоўтым пяском, па гразі, за весніцамі, пакладзены кладкі. У нашай новай хаце поўна людзей. Прыйшлі цесляры, якія рубілі хату, вознікі, што вазілі бярвенні, чорны дзядзька, які ляпіў печ. Прыйшлі нашы сваякі і суседзі. У хату назносілі лавак, сталоў, талерак, нажоў і відэльцаў. Сталы заслалі белымі абрусамі, заставілі гарэлкай і закускамі. Маці гатавала гэтыя закускі цэлы тыдзень.

Ні разу не было так шумна і весела ў старой хаце. Пілі гарэлку, спявалі, цалаваліся, танцавалі. Я ніколі не бачыў такой вясёлай і шчаслівай сваю маці, як у гэты дзень. Яна апранула белую кофтачку, сінюю спадніцу, абула свае, яшчэ дзявочыя, чаравікі з высокімі халяўкамі. Маці спявала і танцавала разам з усімі. Вечарам уся вуліца звінела песнямі. Госці варочаліся дамоў з нашай новай хаты.

У новай хаце было хораша. Я сядзеў ля акна і пазіраў на вуліцу. На дрэвах, парканах, дахах, на полі, якое цягнулася аж да далёкага сіняга лесу, ляжаў снег. Свяціла сонца, снег гарэў і пераліваўся залатымі бляскамі. Яны то патухалі, то ўспыхвалі зноў.

Бацька хадзіў нездаволены. Ён, як і раней, крычаў на маці, прыдзіраўся да яе без ніякай прычыны, лаяўся. Я ў такія хвіліны адыходзіў ад акна і залазіў на печ. Маці моўчкі плакала. Аднойчы, калі бацькі не было ў хаце, яна апранула мяне, апранулася сама, мы паставілі на санкі матчын куфэрак і пераехалі ў старую хату. Малаток я захапіў з сабой, каб палохаць рапух, калі яны зноў асмеляцца вылазіць з кута на падлогу.

У старой хаце было холадна і няўтульна. Маці запаліла печ, і к вечару хата нагрэлася. Яна нешта варыла, потым абаім нам паслала пасцель на куфэрку. Я сядзеў на падлозе з малатком і чакаў рапух. Але яны не паказваліся. Яны, мабыць, памерзлі, калі мы жылі ў новай хаце.

Позна вечарам прыйшоў бацька. Твар яго быў разгублены і вінаваты. Ён пашукаў вачамі, дзе сесці, але садзіцца не было на чым, і ён застаўся стаяць у парозе.

— Вось што, Ганна,— сказаў бацька нейкім дрыготкім голасам.— Даруй мне, калі што якое. Характар у мяне такі. Не саром мяне перад людзьмі. Даведаюцца суседзі, што яны скажуць. Пайшлі дадому...

— Не, Сцяпан, не пайду,— маці трымалася рашуча.— Хай што хочуць гавораць людзі. Я табе маўчала ўсе гэтыя гады. Думала, клопат, недастаткі, аціхнеш з часам, калі ўзаб’ёмся на хату. А тут і новая хата, а ты зноў за сваё. Ламі свой характар, а іначай не пайду.

— Усё бывае ў жыцці, Ганна...

Яны гаварылі доўга, і канца іх гаворкі я не чуў, бо заснуў на падлозе. Соннага, мяне перанеслі ў новую хату...

*1959*

# 1960

## ПА МАХОРКУ

### I

Дні незабыўныя, поўныя хмельнай радасці. Тыдзень як мястэчка, раённы цэнтр, названы нават у зводцы Саўінфармбюро, стала нашым: у кожным доме стомленыя, у абшарпаных шынялях, стаптаных чаравіках байцы. Дывізія ішла на Палессе ад самай Волгі. Партызаны ў масе байцоў здаюцца нават зухаватымі — яны ў скураных тужурках, у нямецкіх, мадзьярскіх, славацкіх і яшчэ бог ведае якіх мундзірах.

З партызан у мястэчку пакінуты толькі тыя, хто прызначан на якую-небудзь пасаду. Астатнія — іх непараўнальная большасць — на перадавой. Фронт блізка: ён цяпер якраз у тых мясцінах, дзе стаялі лясныя буданы.

Я таксама атрымаў пасаду, але гэта ненадоўга. Мне васямнаццаць гадоў, і да мяне яшчэ не дайшла чарга прызыву.

Прызначан я старшым падатковым інспектарам раённага фінансавага аддзела. Так захацеў загадчык райфа Змітро Ткач, нядаўні камандзір партызанскай роты.

Пра абавязкі падатковага інспектара ў мяне ўяўленне цьмянае: я нават не ведаю, якімі падаткамі абкладаецца насельніцтва. Ткач вопытнейшы — да вайны ён быў сакратаром сельсавета. Удвух з ім мы на ўласны страх і рызыку захапілі дом, у якім жыў паліцай, прывалаклі два пісьмовыя сталы, і на гэтым дзейнасць райфа пакуль што прыпынілася.

Мястэчка бамбяць немцы, ніхто не прысылае ў нашу кантору інструкцый, няма ў нас нават звычайнай паперы, каб напісаць які-небудзь цыркуляр. Ткач жыве тут жа, у райфа,

у пакойчыку-бакоўцы, спіць на ложку без матраца, ломіць на дровы плот, якім абгароджан дом, і калі ідзе сёрбаць бульбяны суп у наспех наладжаную сталовую, бярэ з сабой аўтамат, які звычайна стаіць у кутку ля ложка. Я таксама расхаджваю па мястэчку з аўтаматам, хоць у партызанах яго ў мяне і не было. Дзеля форсу я выменяў аўтамат за наган у байца-сувязіста.

Праз тыдзень ці два мяне прызавуць у армію, я гэта ведаю, таму гляджу на сваю пасаду, як кажуць, скрозь пальцы. Ведае гэта і Ткач, таму не прынявольвае мяне, не прызначаючы пэўных гадзін пачатку і сканчэння рабочага дня. Я прыходжу ў райфа, і мы пачынаем чытаць газеты, якія загадчык дастае ў дывізійным палітаддзеле. Мы чытаем доўга, са смакам, не мінаючы ніводнай заметкі, бо за два гады акупацыі не так часта траплялі нам у рукі савецкія газеты. Становішча на фронце добрае, нашы наступаюць, але канца вайны не відаць. Яшчэ і Ленінград у паўкальцы блакады, і Мінск у немцаў, і нечакана фашысты зноў захапілі Жытомір.

Дні стаяць хмурныя — цёплая восень кончылася. Пачынаецца трэцяя ваенная зіма. Трохі страшнавата ад думкі, што прыйдзецца пачынаць вайсковую службу зімой, ляжаць у халодных акопах, мерзнуць на снезе. Холаду я заўсёды баяўся і баюся.

У адзін з тых дзён Ткач нарэшце даў мне заданне. Ён занядужаў, не галіўся, выгляд меў хмурны.

— Чым хваліцца перад дзеўкамі аўтаматам, схадзі ты лепш у Брусы,— сказаў ён мне.— Скажаш маці, што я жыў-здароў, і папросіш махоркі. Я табе камандзіроўку выпішу.

Брусы — вёска, дзе нарадзіўся і працаваў сакратаром сельсавета Ткач. Яна ў другім, таксама напалавіну вызваленым, раёне, вёрст за пяцьдзясят.

Ісці ў Брусы я згадзіўся з радасцю. Па дарозе на Брусы, калі даць трошкі круку, ляжыць другое мястэчка — Глыбінка, у якім жыве знаёмая мне дзяўчына Клара Сінельнікава. Я не бачыў яе ўсю вайну, але ведаў, што яна дома. Я заўсёды распытваў пра яе ў людзей, якія траплялiся з таго боку.

Я сабраўся ў дарогу і рушыў чыгуначнай веткай-аднапуткай, якая вядзе ледзь не да самых Брусоў, каб на трыццатай вярсце збочыць на Глыбінку. Зямля ўжо замерзла, але снегу няма. Лес стаіць голы і шэры. Я крочу хутка, мяркуючы за

кароткі дзень дайсці да Глыбінкі і там пераначаваць. Па дарозе трапляюцца чырвонаармейцы — адзінокія і групамі. Яны ідуць у бок майго мястэчка.

Знаёмства з Кларай у мяне дзіўнае. Да вайны я вучыўся ў дзявятым класе і трошкі — самахоць — захапляўся скрыпкай. Мне было няцяжка сыграць на слых усе мелодыі, якія я ведаў, ды і сам я спрабаваў сёе-тое выдумляць. Скрыпка трапіла да мяне ад дзеда па бацьку, які некалі іграў на местачковых вяселлях. У нашай сям'і з заняткаў дзедавых падсмейваліся, таму я не асабліва выхваляўся на людзях сваімі талентамі. У школе, аднак, ведалі, што я іграю, і, калі ўзнікла патрэба каго-небудзь паслаць на абласную алімпіяду ў Мазыр, паслалі мяне.

Там, у Мазыры, мы і сустрэліся з Кларай. Сыграў я на алімпіядзе кепска — горш, чым умеў, таму што вельмі хваляваўся. Клара спявала. Яна выступіла добра, намнога лепей за мяне. І ёй доўга пляскалі. Голас у яе быў прыемны, мяккі, але яшчэ болей, чым яе голас, спадабалася мне яна сама — даўганогая, русявая.

Алімпіяда праходзіла вясной — раставаў снег, на Прыпяці пачынаўся крыгаход. Я першы раз быў у горадзе, і Мазыр — хоць гэта горад і не надта вялікі — зрабіў на мяне надзвычайнае ўражанне.

Удзельнікі мастацкай самадзейнасці жылі ў школе — былі якраз вясновыя канікулы, і вечарам Клара падышла да мяне і запрасіла пагуляць. Мы доўга хадзілі па ахінутых сінім змрокам вуліцах. Пад нагамі хрумсцела тонкая наледзь, з Прыпяці чуўся глухі шоргат — ламаліся крыгі.

Клара вучылася ў дзясятым, і мне, дзевяцікласніку, было з ёй трохі ніякавата.

— Ты куды будзеш паступаць? — спытала Клара.

Я мерыўся ў артылерыйскае вучылішча: па матэматыцы, фізіцы ў мяне добрыя адзнакі, ды і наогул вайсковая справа падабаецца.

— А я яшчэ добра не ведаю, куды паступлю,— прызналася яна.— Хачу ў кансерваторыю. Але ці прымуць? Туды такі вялікі наплыў...

Я сказаў, што яе прымуць абавязкова. Я гаварыў шчыра, сам верачы ў тое, што дакляруючы, і Клара пачала ставіцца да мяне яшчэ прыхільней.

— Давай будзем перапісвацца,— прапанавала яна.

У яе словах я пачуў, відаць, трохі больш, чым яны значылі на самай справе. Той вясновы вечар з хрумсткай наледдзю на шэрым асфальце, з цёмна-сінімі сілуэтамі дрэў я запомніў надоўга.

Ехалі мы з Кларай у адным вагоне. Каб дабрацца да Глыбінкі, яна на маёй станцыі мусіла перасесці ў цягнік, які хадзіў па ветцы-аднапутцы. Прытуліўшыся адно да аднаго, мы маўкліва стаялі ля акна. Ноч была месячная, ясная, імкліва прабягалі ахутаныя сінім змрокам кусты, паляны, чорныя дрэвы. Сярэбраным бляскам адсвечвалі азярынкі талай вады.

Цягнік на маю станцыю прыбыў апоўначы, чакаць Кларынага трэба было яшчэ гадзін пяць — ён адпраўляўся на світанні. Я ўзяўся паказаць Клары мястэчка. Каб мы прыехалі днём, я, можа б, на такое і не адважыўся, бо хадзіць з дзяўчатамі саромеўся.

Мы хадзілі па вуліцах, гразь трохі зашэрхла, а ў месячным святле мне самому мястэчка здалося вельмі прыгожым. Тое, што не радавала вока днём — пакрыўленыя хаты з залатанымі дахамі, паламаныя парканы, беспарадак у забудове,— усё гэта ад позірку схавалася. Атуленыя хісткімі ценямі будынкі, дрэвы ўяўляліся не горшымі, чым у Мазыры.

Нахадзіўшыся, мы, каб адпачыць, узабраліся на ўзгорак, з вышыні якога адкрываецца від на мястэчка і на яго ваколіцы.

Я асмялеў і, не зважаючы на тое, што Клара вучыцца ў дзясятым класе, пацалаваў яе. Яна палажыла мне руку на плячо. Так, абняўшыся, мы сядзелі і цалаваліся да самага світання.

Клара паехала. Яна дала мне адрас і прасіла, каб я абавязкова ёй напісаў. Мы дамовіліся, што будзем пісаць адно другому да таго часу, пакуль не скончым вучыцца і не знойдзем кожны сваёй дарогі. Пра далейшае не гаварылі. Яно як бы разумелася само па сабе.

Напісаў я Клары не хутка, тады, як пачалася вайна,— праз тры месяцы. Я ведаў, што ў кансерваторыю яна не паступіць, і хацелася яе суцешыць. Я паведамляў, што ў мястэчку не застануся, каб у далейшым паступіць у ваеннае вучылішча.

І вось я іду да Клары. Прабіцца на ўсход мне не ўдалося — немцы пераранялі,— у ваеннае вучылішча не паступіў. Але я цэлы год быў у партызанах і маю некаторыя падставы глядзець на сябе з павагай. Чаму менавіта цяпер мне захацелася

пабачыцца з Кларай, я і сам добра не ведаю. Хутчэй за ўсё таму, што перада мной — новая дарога ў вайну, у невядомасць.

Пра Клару гэтыя два гады я думаў часта. Яна ўяўлялася мне найлепшай з дзяўчат, якіх я ведаў. Мне хацелася зрабіць нешта асаблівае, выключнае, што ўзвысіла б мяне ў вачах дзяўчыны, дазволіла стаць упоравень з ёй. Былі думкі пра музыку — яна мяне па-ранейшаму вабіла.

На скрыпцы я даўно не іграў. Ды і не было болей скрыпкі. Можа, у самой музыцы і тоіцца прычына, па якой я, як на крылах, лячу ў Глыбінку да Клары. Мне здаецца, што лепш, чым яна, мяне ніхто не зразумее. Армія, якая прыйшла ў мястэчка, прынесла новыя песні, якіх да вайны не было. Я ўжо ведаю і «Зямлянку», і «Аганёк» і вельмі востра адчуў, што чалавеку, які ідзе на вайну, вельмі патрэбна тая, якая б думала пра яго, яго чакала.

У даваенных песнях нічога гэтага не было: там імчалі тачанкі, бадзёра выдыгалі тры вясёлыя, трохі самаўпэўненыя танкісты і нават Кацюша, выходзячы на бераг, сумавала неяк залішне весела, як бы ўпрысядкі скакала.

Чыгунка-аднапутка — мёртвая. Сям-там рэйкі пакалечаны, парваны толам. У двух ці трох месцах на адхоне ляжаць бокам патрушчаныя вагоны. Я ведаю, што гэта партызанская работа. Сам я ў гэтых мясцінах не быў, але, гледзячы на адмеціны лясной вайны, адчуваю прыліў гордасці. Мне здаецца, што сёе-тое я нясу Клары.

Ад чыгункі да Глыбінкі — шэсць вёрст. Трыццаць кіламетраў я адолеў даволі хутка.

Бралася на вечар. З насыпу я звярнуў на езджую дарогу, якая пятляе між зялёных сасоннікаў. Мясціны скрозь высокія, пясчаныя, і мне прыемна ад думкі, што ваколіцы Кларынага мястэчка прыгожыя. Па дарозе цягнуцца вайсковыя абозы, вурчаць маторамі грузавікі, цягачы. Фронт і тут блізка — кіламетраў за трыццаць.

## II

Глыбінка — поўная войска. Проста па дварах дымяць кухні, бегаюць з кацялкамі байцы, ля студняў пояць коней. Я памятаў Кларын адрас, але цяпер, калі пачало вечарэць, гэта

не мела значэння. Я завітаў у першую хату і спытаў, дзе жыве настаўнік Сінельнікаў. Правесці мяне да Клары падахвоціўся хлапчук, які, калі я зайшоў у хату, вячэраў разам з пажылымі байцамі-пастаяльцамі.

Мы з хлапчуком прайшлі з канца ў канец усю доўгую вуліцу і завярнулі ў правулак. Чорнымі праёмамі вокан зірнула каменная двухпавярховая школа — такая ж, як і ў маім мястэчку. Школу немцы спалілі, нават у змроку відаць закопчаныя сцены. У блізкім суседстве са школай — Кларын дом.

Я падзякаваў хлапчуку і ўзяўся за клямку фортачкі. Кларын дом з чатырохскатным дахам, вялікімі вокнамі, у якіх святло. Я прайшоў па двары — вузкім прамежку паміж яблыневым садам і палісаднікам — і спыніўся перад ганкам. Сэрца ў мяне як не выскаквала з грудзей. Усю дарогу ішоў спакойны, а тут захваляваўся... Ганак мяне ўразіў. Ён, як шацёр: да самага даху навес-франтончык шчыльна аплялі сухія цяпер сцяблiны дзікага вінаграду.

Я ступіў пад шацёр, намацаў клямку, прайшоў у цёмныя сенечкі. Разгубіўшыся, я такі доўга ў іх правалтузіўся, пакуль знайшоў дзверы на кухню.

На мяне непрыхільна глядзела паўнатварая, мажная жанчына, у пярэстым, на манер сарафана, пярэдніку.

— Вам каго?

Услед за мной зайшоў са двара рослы хлапчук, з бярэмем дроў, з грукатам кінуў іх на абабітую ля печкі бляхай падлогу.

— Вы да каго? — зноў спытала гаспадыня.

— Клара Сінельнікава тут жыве? — прамовіў я глухім, незнаёмым мне самому голасам.

Жанчына адчыніла пафарбаваныя ў белы колер дзверы, прайшла цёмны пакой, потым адчыніла наступныя. У тым далёкім пакоі было светла, там размаўлялі і смяяліся.

— Клара, да цябе.

Я пазнаў яе адразу, хоць за два з палавінай гады яна вельмі змянілася.

Такая ж даўганогая, рослая, але круглейшая, павальнейшая ў рухах. На мяне са здзіўленнем глядзела сталая дзяўчына.

— Клара, помніш,— выступалі ў Мазыры?

— Валодзя! — чырванеючы, усклікнула яна, і на твары яе адбілася збянтэжанасць.— Адкуль ты? Я думала...

— Іду ў Брусы па камандзіроўцы... Вось зайшоў... Хацеў пабачыць...

Яна збянтэжылася яшчэ болей:

— У цябе час ёсць? Можа б, ты заўтра зайшоў? Заўтра раніцай. Добра, Валодзя?

— Клара, што ты гаворыш,— азвалася маці.— Куды ён пойдзе? Няхай начуе ў нас.

Я стаяў як аглушаны і ў першую хвіліну не мог прамовіць і слова.

— Распранайся, Валодзя,— замітусілася Клара.— Даруй, я не падумала...

Цяпер мне было ўсё адно. Можна было распрануцца, павесіць на цвік тут, на кухні, сваю апранаху, а можна было і пайсці, прыткнуцца нанач у якой-небудзь местачковай хаце. За год партызанства я начаваў у многіх хатах. Тое, што сказала Клара, не магло быць памылкай. Яна проста забыла пра мяне.

За час, пакуль я распранаўся, Клара супакоілася. Запаліла лямпу ў суседнім пакоі, запрасіла мяне туды. Гэта была сталовая: стаяў стол, засланы белым абрусам, некалькі крэслаў з гнутымі спінкамі, на абклеенай зеленаватымі шпалерамі сцяне паважна такаў старамодны гадзіннік. Мы прыселі на крэслы. У суседнім пакоі гучна размаўлялі.

— Я нічога пра цябе не ведала. Ты, здаецца, пісаў, што ідзеш на ўсход?

У голасе Клары прагучалі ранейшыя, знаёмыя мне ноткі. Яна як бы выклікала на інтымнасць.

— Не ўдалося,— коратка адказаў я.

— Ты быў дома пры немцах?

— У партызанах.

Яна з цікавасцю на мяне зірнула. Але ўсё адно не адчувала, што я не той, даўнейшы, з кім яна сустрэлася ў Мазыры на алімпіядзе. Яна стала дарослай, але пасталеў і я. У вайну людзі хутка сталеюць.

— Што ты думаеш рабіць цяпер?

— Пайду ў армію.

На момант на яе твары мільгануў цень заклапочанасці, быў такі выраз, як бы яна старалася ўспомніць штосьці забытае, але важнае. Праз хвіліну зноў стала ранейшай і трымала сябе так, нібы яна настаўніца, а я вучань.

— Напішы мне, Валодзя. Абяцай, што напішаш. Помніш, мы дамовіліся, што будзем сябрамі...

Мне стала ўсё нецікава. Было б лепш, каб я не астаўся тут начаваць. Але я астаўся, і цяпер было няёмка пакідаць Кларын дом, паказваючы, што я на яе крыўдую. За што я мог крыўдаваць? Нас нішто не звязвала, апрача таго, што мы два дні прабылі разам у Мазыры, ехалі ў адным вагоне і я паказаў ёй ноччу сваё мястэчка.

У пакой зайшла чарнявая дзяўчына з гітарай, і Клара ёй узрадавалася. Яна хуценька мяне з ёй пазнаёміла, назваўшы партызанам, узяла яе паліто, і праз хвіліну мы ўтраіх далучыліся да кампаніі, якая сядзела ў суседнім пакоі за сталом і частавалася. Тут былі чатыры афіцэры: два досыць пажылыя, капітан і маёр, і два зусім маладыя лейтэнанты. Дзяўчат разам з той, што прыйшла з гітарай, таксама чатыры. Клара і тут назвала мяне партызанам. Мяне пасадзілі за стол, налілі паўшклянкі гарэлкі, прымушаючы выпіць першым. Клара падбадзёрвала позіркам — пі!.. Я выпіў, і ў мяне перахапіла дыханне — гэта быў спірт.

— Партызан, а піць не ўмее,— адзін з лейтэнантаў гучна засмяяўся.

Пасля гэтага ніхто на мяне не звяртаў увагі. Клара паружавела, пажвавела, ёй, відаць, спадабалася, што са мной, няпрошаным госцем, добра абышліся. Дзяўчаты выпілі патрошку, афіцэры са мной яшчэ па паўшклянкі. Дзіўна — я не п'янеў!.. Мне толькі зрабілася яшчэ сумней.

На дзяўчатах і на Клары — святочныя сукенкі. Клара з усіх чатырох самая прыгожая, і найбольшыя знакі ўвагі выказваў ёй той самы лейтэнант, які засмяяўся, калі я няўдала першы раз выпіў. Ён, гэты лейтэнант, прыгажэй астатніх. Прадаўгаваты, чарнявы твар, мужны профіль, нос з гарбацінкай. Такія твары адбівалі на рымскіх манетах.

Лейтэнант з тварам рымскага імператара папрасіў Клару заспяваць. Яна пачала «Кацюшу». Яе суседка затрэнькала на гітары, няўмела падыгрываючы. Я злаваўся на Клару нават не за «Кацюшу». Няхай спявае, калі ёй хочацца. Было крыўдна, што яна забыла, што я трошкі ўмею іграць. Я б і на гітары сыграў лепш за гэтую дзяўчыну.

Я падняўся, падзякаваў. Клара выйшла за мной у сталовую. На стале стаяла прыкручаная лямпа, агеньчык ледзь блішчаў.

— Ляжаш на канапе,— ціха сказала Клара.— Я прынясу коўдру.

Канапа стаяла ў закутку, за дубовай шафай. Клара пайшла па коўдру, я — на двор. Падаў снег. За той час, што я прабыў у Кларыным доме, белым пухам пакрылася зямля, дахі, стрэхі хлявоў. Я вярнуўся — на канапе ляжала коўдра. Я зняў пінжак, чаравікі і, болей не распранаючыся, лёг. Я чакаў, што Клара выйдзе. Яна выйшла, паўхвіліны пастаяла ля майго ложка, нагнулася. Яе валасы казытнулі мне твар. Шапнула «спі» і пайшла...

Няўжо яна не разумела, што я не засну?

За дзвярамі гаманілі, спявалі, потым пачалі танцаваць. Мяне душыла крыўда і роспач. Я разумеў, што Клара нічым мне не абавязана, што мы з ёй выпадковыя знаёмыя і яна вольная рабіць, што хоча. Але ўсё адно было крыўдна.

Гадзіны праз тры баляванне скончылася, і кампанія рушыла на вуліцу. Кавалеры пайшлі праводзіць дам. З імі пайшла і Клара. Я чакаў, што яна хутка вернецца, але вярнулася толькі двое афіцэраў. Відаць, яны былі пастаяльцамі ў Кларыным доме.

Было далёка за поўнач, і заставацца далей на канапе за шафай я не мог. Я ціха ўстаў, абуў чаравікі, апрануў свой лапсярдак і выйшаў на вуліцу.

## III

У сваё мястэчка з Брусоў я вяртаўся другой дарогай, якая пятляла па лесе па той бок чыгункі-аднапуткі. Гэты маршрут я выбраў наўмысна, як бы стараючыся сабе самому даказаць, што ні ў якім выпадку не хачу спаткацца з Кларай. Я нёс мяшэчак з махоркай і раз-пораз курыў, скручваючы тоўстыя цыгаркі. Упершыню адчуў я смак тытуню. Спрабаваў я курыць і да гэтага, але то было не болей як вучнёўства. Я нават не зацягваўся.

Маладосць падатная на крыўду. Разумеючы, што Клара мела ўсе падставы забыць пра мяне, я тым не меней лічыў сябе абражаным, зняважаным і маляваў у сваім уяўленні карціну наступнай сустрэчы з Кларай. Бачыў я сябе франтавіком-

ветэранам з многімі заслугамі, ордэнамі, і чамусьці мне вельмі хацелася прыехаць у Кларына мястэчка параненым. Я іду па вуліцы, рука вісіць на марлевай перавязі, і нечакана сустракаю Клару. Яна глядзіць на мяне са здзіўленнем, з захапленнем, ёй толькі сорамна, што тады, калі я першы раз завітаў у яе дом, яна так няласкава мяне сустрэла. Але я непрыступны і горды. Ківаю Клары, як звычайнай знаёмай, і іду сваёй дарогай...

Другая ноч застала мяне ў лясной, спаленай немцамі вёсцы. Хат не было, паміж хвоямі чарнелі зямлянкі. Я доўга блукаў, пакуль уладкаваўся на начлег. І ў гэтай вёсцы поўна салдат, людзей у зямлянках — не пралезці. Мяне затрымаў патруль, і пажылы сяржант, свецячы сабе ліхтарыкам, доўга разглядаў маё камандзіровачнае пасведчанне, пад якім стаяла пячатка МТС.

— Колькі табе гадоў? — спытаў ён.

— Васямнаццаць.

— Салдатам будзеш, а не падатковым інспектарам...

Сяржант уладкаваў мяне ў перапоўненую зямлянку. Я даў яму жменю махоркі. І па жмені байцам, якія мяне прынялі. Мяшэчак апусцеў напалавіну...

## IV

Планета Зямля не такая вялікая, і лёс мне зычыў яшчэ раз сустрэцца з Кларай. Аж праз дваццаць з лішнім гадоў пасля той ночы, калі, зняважаны, я збег з яе дома. Усе гэтыя гады я пра Клару не думаў. Калі і выплываў успамін пра яе, то толькі ў сувязі з тым, што некалі і мне было васямнаццаць гадоў.

Здарылася якраз так, што сустрэўся я з Кларай у дні душэўнага ўзлёту, у найшчаслівейшы ў сваім жыцці месяц.

У Гомелі я сеў у цягнік дажджлівым восеньскім вечарам. Калі зайшоў у купэ, там ладкавала рэчы высокая, досыць маладая жанчына.

Я павітаўся, павесіў паліто, паклаў у скрыню пад лаўкай чамадан і, няпэўна занепакоены, выйшаў у калідор.

Мне здалося, што ў купэ — Клара Сінельнікава. Уваходзілі, нязграбна несучы паперадзе сябе чамаданы, новыя пасажыры, праважатыя, ляскалі дзверы купэ, панаваў той непрыемны гармідар, які ўтаймоўваецца звычайна за пяць хвілін да

адыходу цягніка. Я стаяў каля акна, курыў, глядзеў на шэры мур станцыйнага будынка.

Поезд крануўся.

Прайшла праваднiца, спытаўшы, ці трэба мне пасцель, другая разносіла па купэ чай. У імжыстай цемені млява свяціўся горад, няроўныя ланцугі агнёў дрыжалі. Мужчыны, пераапрануўшыся ў піжамы, выходзілі ў калідор пакурыць.

Паплылі слаба асветленыя вуліцы прадмесця. Жоўта-шэрае зарыва горада вісела ззаду. Я зайшоў у купэ. Памылкі не было — зноў мне прыйшлося ехаць у адным вагоне з Кларай. Яна сядзела пры століку, памешваючы лыжкай чай. Распаўнелая саракагадовая жанчына, але тыя ж вочы, тыя ж доўгія ногі ў белых чаравіках з высокімі халяўкамі.

— Вы мяне не пазнаяце?

Яна ўсміхнулася:

— Пазнаю.

— А мне прыйшлося гадаць — вы ці не вы?

— Ешце вінаград,— сказала яна, зняўшы сурвэтку з талеркі.

— Хто вы? — спытаў я аб першым, што мяне найбольш цікавіла.— Памятаеце алімпіяду ў Мазыры...

— Не артыстка. Майго голасу хапае, каб пець за сталом. А вы, я бачу, таксама не ваенны.

— Не.

Вінаград трохі з кіслінкай. Цягнік, загрукаўшы на стыках, прыкметна прыцішвае бег. Наперадзе станцыя. Па цёмным аконным шкле з надворнага боку цякуць сярэбраныя струменьчыкі.

— Я дзіцячы ўрач,— сказала Клара.— Жыву ў Маскве. Даўно ўжо —дзясяты год.

— А я інжынер. Геолаг. Тут, на Палессі, мы знайшлі нафту. Два тыдні назад. Вы чулі пра нафту, Клара?

— Чула,— сказала яна.— А што тут асаблівага? Усюды нешта знаходзяць.

Цягнік спыніўся, і праз хвіліну крануўся зноў. У калідоры ціха — у вагон ніхто не сеў. Я не адразу знайшоўся, што адказаць. У тыя дні я быў узрушаны: мне здавалася, што ўсе гэтак жа, як і я, павінны радавацца і захапляцца тым, што на Палессі, у краі пяскоў і балот,— нафта.

— І каля вашай Глыбінкі будзе нафта. Там вельмі перспектыўны раён.

— У мяне там нікога няма,— з сумам прамовіла яна.— Бацька памёр даўно, маці — пазалетась. Брат прадаў дом. Ён таксама інжынер. Толькі не геолаг, а тэхнолаг. Працуе ў Днепрапятроўску.

Пранёсся сустрэчны пасажырскі цягнік. У такт двайному перастуку колаў светлымі палоскамі мільгалі вокны вагонаў.

— Вы жанаты? — спытала яна.

— Вядома.

— Ёсць дзеці?

— Ёсць.

— А я разышлася. Жыву з сынам. Ён ужо дзесяцігодку канчае.

— Куды думае пастулаць? — спытаў я зусім недарэчна.

— Ды вы ўсе аднолькавыя! — у Кларыным голасе ноткі раздражнення.— Спіць і ў сне бачыць сваю радыётэхніку. Тэхніка, тэхніка — як бы на ёй свет клінам сышоўся... І муж быў такі. Ён канструктар. Прыйдзе апоўначы з завода, уткнецца ў газету. Як я пражыла дзень, што думала,— яго не цікавіць. Яму хапае тэхнікі і палітыкі. І вы, відаць, такі?

— Такі.

Я ўсміхнуўся: калі мераць Кларынымі меркамі, то я яшчэ горшы. Дома не бываю месяцамі, а калі прыеду, то таксама накідваюся на газеты.

— Проста пакаленне такое чэрствае,— працягвала Клара.— Інстытуты паканчалі, а культура пачуццяў — як у феадалаў... Жонка павінна натхняць, ствараць настрой, утульнасць. Яе абавязак бегаць па магазінах, прасаваць сарочкі. А яна ж таксама працуе, інстытут скончыла, у яе свае пытанні да жыцця. Ці не праўда?

Яна зірнула на мяне — яе шэрыя вочы цямнелі. Прабівалася на твары лёгкая ружовасць. Я маўчаў. У мяне не знаходзілася слоў, каб сказаць ёй што-небудзь пераканаўчае. Доўга маўчала і яна. Нарэшце спытала:

— Вы былі на фронце?

— Быў.

— Чаму не напісалі мне?

— Пакрыўдзіўся.

— А за што было крыўдзіцца? Вы не лепшы за другіх. Таксама гледзіцё на жанчыну як на істоту, якая павінна толькі ляскаць у далоні, захапляючыся вамі. Я тады трапіла ў няёмкае становішча. Прыйшлі нашы — радасць! Гэтыя ваенныя — яны ж франтавікі — запрасілі да сябе. Маладыя хлопцы, заўтра на фронт пойдуць. Можа, загінуць. Пакуль выбралася дадому — мой рыцар уцёк. Калі хочаце ведаць, я думала пра вас і чакала ад вас ліста...

У яе словах чулася нейкая праўда, і было да болю крыўдна ад думкі, што нешта вельмі ў жыцці важнае я зразумеў не так, як трэба.

Я выйшаў у калідор пакурыць. У акне мільгалі тэлеграфныя слупы, цёмныя лавы яловых пасадак, а ў іх прагалах — ахутаныя шэранню ночы палі. Дождж тут не ішоў і было святлей. Калі я вярнуўся ў купэ, мая пасцель была заслана. Начнічок разліваў сіні паўзмрок. Клара ляжала на сваім месцы, акрыўшыся коўдрай, адвярнуўшыся тварам да сценкі. Я зняў пінжак і лёг. Мякка пастуквалі колы, вагон пагойдваўся, ледзь чутна паскрыпвала аконнае шкло — яго не шчыльна прыгналі да рамы.

*1960*

## РАМАН З ЭПІЛОГАМ

*Апавяданне знаёмага настаўніка*

### I

З рабочага цягніка я злез ціхім вячэрнім часам на раз’ездзе, які ў праваднікоў і кандуктараў носіць назву «Дзвесце семдзесят трэцяга». Звычайна ж яго завуць Дзеўкамі, бо ён прылягае да вёскі з такой самай назвай.

— Хто к дзеўкам — скакай! — пачулася каманда, пададзеная нечым басам, і трое хлопцаў у вопратцы чыгуначнікаў ірванулі з вагона ў тамбур. Я падаўся за імі.

На раз’ездзе нічога не змянілася. Як і раней, стаіць на сваім месцы слуп з ліхтаром, а крыху воддаль прысадзістая

будыніна з жалезным дахам, дзе жывуць брыгадзір пуцейцаў і абходчык. Ніякіх адмецін добраўпарадкавання не відаць: ні памяшкання для пасажыраў, ні білетнай касы, ні нават лавачкі, на якой можна было б прысесці. Я дагэтуль не ведаю, хто запальвае ліхтар, якім ноччу выяўляецца наяўнасць гэтага закінутага раз'езда. Можа, абходчык, а можа, брыгадзір пуцейцаў, хоць такая работа, здаецца, і не павінна ўваходзіць у кола іх прамых абавязкаў.

Трое хлопцаў, што першымі саскочылі з цягніка, ледзь не подбегам пашыбавалі ў вёску. Я не спяшаўся. Мне не хацелася спяшацца і не было куды.

Калі б у мяне спыталі, чаго я прыехаў у Дзеўкі, ахвяраваўшы рэштай двухмесячнага дырэктарскага адпачынку, я не адразу б здолеў адказаць. Тым болей што адпачынак гэты супадае з рамонтам школы, нарыхтоўкай дроў, наладжваннем вытворчай базы і іншымі не надта салодкімі рэчамі. У такіх выпадках звычайна гавораць, што прыехаў дзеля спаткання з маладосцю, з людзьмі і мясцінамі, якія яе саграваці. Можа, і так. У Дзеўках я пачынаў сваю настаўніцкую кар'еру. У гэтай вёсцы мне прыйшлося пражыць два маладыя гады.

Ад раз'езда да вёскі вярста, якую можна прайсці мноствам сцежак, пратаптаных на пясчаным полі. Раней нават жартавалі, што ў кожнага тутэйшага гаспадара свая сцежка. Вунь той, справа, паўз хмызнякі, дыбаў, прыгнуўшыся, гарбаты Кокуль. Ён адзін вылоўліваў у рачулцы Вароне ўсіх шчупакоў, ментузоў і язёў, а калі іх не было, то ракаў, і трухаў са сваёй ношкай да поезда, на базар. Сцяжынай, якая трохі лявей, прабіралася, нібы ліса, удава Музыкаліха. Яна заўсёды енчыла, што едзе ў горад да доктара, але ніколі не забывалася прыхапіць з сабой кошык з грыбамі ці бітон з малаком. Музыкаліха жыла адна, але каровы трымала дзве. Астатні люд пёр напралом; паласуючы сцежкамі поле, спяшаўся штораніцы на заработкі.

Калі ісці з раз'езда ў вёску, то сцежак хоць і многа, але могілак не абыдзеш. Яны якраз насупраць: зялёны ўзгорак, на якім у маўклівай велічы стаяць некранутыя стагадовыя хвоі і маладыя дубкі. Стары славянскі звычай: перш за ўсё паказаць прыезджым людзям свае могілкі. Тут летапісы і манускрыпты вёскі, яе легенды і паданні.

Дзень дагараў. Сонца садзілася за сцяной бору, што цягнуўся на захад ад чыгункі. Праменні яшчэ залацілі вяршаліны соснаў на могілках, а ўнізе на полі папаўзлі ўжо сіняватыя цені сутоння. Я рушыў к шалашу, які стаяў пасярод поля, засаджанага капустай, рэдзькай і кармавымі буракамі. У ім ужо гадоў з трыццаць зарабляў свой вартаўніцкі хлеб судом мне дадзены цесць, кульгавы Міна.

У шалашы гаспадара не было, і ў чаканні яго я прылёг на капе аўсянай саломы, складзенай проста ў капусце. На гэтай капе мой родзіч, відаць, нёс сваю службу, адсюль аглядаў свае ўладанні, бо салома была ёмка ўтаптана.

Змяркалася. Недзе зарыпаў гармонік, з вёскі даносіліся прыглушаныя зыкі песень і смеху, а тут, на полі, панавалі цішыня і спакой. Было светла. Месяц, поўны і круглы, як гарадскі ліхтар, павіс збоку, над самым лесам. Лілі на зямлю сваё зыркае святло жнівеньскія зоры.

Я веру, што ў кожнага чалавека ёсць сваё адчуванне часу, яго непаўторнасці і красы, адчуванне, якое цяжка выказаць словамі. Я заўсёды любіў вечары на схіле лета, з іх паэзіяй задуменнасці і цішыні, з іх бяздонным зорным небам, асабліва ўрачыстым у такую пару. У гэты час, здаецца, у прыродзе адбываецца нешта вялікае, агромністае, а ты толькі прысутнічаеш маўклівым зачараваным сведкай...

Мяне агарнулі ўспаміны. Поле, ціхі вечар, могілкі, гармонік і песні ў вёсцы — усё, здаецца, як і тады. Час нібы спыніўся. Але ты ўжо не той. Ты адчуваеш гэта сэрцам і ўсёй сваёй істотай. І пусці цябе па дарогах і сцежках, якія ты некалі прайшоў, ты б, здаецца, здолеў шчасліва абмінуць усе каменні і завалы...

## II

Першы раз я прыехаў у Дзеўкі ў трыццаць дзявятым годзе. Малакасос у касцюмчыку, купленым яшчэ на матчыны грошы. Меў па тым часе дзевятнаццаць гадоў, восем класаў цвёрдай адукацыі і дыплом трохмесячных настаўніцкіх курсаў. Такія педагогі, як я, тады траплялiся нярэдка. Маладых настаўнікаў з інстытуцкай асветай забіралі на вайсковую службу, некато-

рых пасылалі ў заходнія вобласці Беларусі, толькі-толькі вызваленыя ад паноў.

Па шчырасці, дык я сам напрасіўся ў Дзеўкі. На сваю бяду. Адсюль паходзіла бабка, маці маёй маці, была сякая-такая радня, і думалася, што каля блізкіх людзей будзе лепш, чым на чужыне. Пра кожную вёску ходзіць свая слава, добрая ці благая. Калі ўспаміналіся Дзеўкі, то пра іх звычайна гаварылі ўсміхаючыся:

— Калі яны дзеўкі, дык любяць замуж выходзіць...

Гаварылі і горшае:

— У Дзеўках есці не дадуць, а пераначаваць, калі ласка...

Але я, малады, лічыў такія гаворкі драбязой, перажыткам мінулых дзён.

Вёска звычайная, саламяная. У яе агульным малюнку было нешта вясёлае, разухабістае. Дзве вуліцы крыж-накрыж, і амаль у самым цэнтры, на выгане, паравы млын. Хаты і наогул уся забудова не мела якога-небудзь пэўнага парадку: адна хата глядзела на вуліцу вокнамі, другая — глухой сцяной, у адзін двор можна зайсці проста з вуліцы, у другі — вузкім адгароджаным правулкам, мінуўшы агарод, сад і хлявы.

Народ тут жыў неяк лайдакавата. Зямля неблагая, і, каб урабіць яе як след, можна было б жыць з хлебам. Але аб ёй не дбалі. Галоўны клопат ляжаў у заработках. На пабочны промысел падаваліся ледзь не з кожнага двара. Па святах — іх у Дзеўках было вельмі многа — вёска гула песнямі. Выпіць і паспяваць тут любілі, кожнае свята цягнулася два-тры дні, і мне нават здавалася, што святы выдумвалі знарок.

Хлопцы фарсілі ў хромавых ботах з апушчанымі гармонікам халявамі і насунутымі на іх калошынамі штаноў, дзяўчаты — у пярэстых сукенках і лодачках. Абыходжанне хлопцаў з дзяўчатамі мне, таксама вяскоўцу, здалося залішне вольным, абразлівым, але ўсяму гэтаму тады я яшчэ не вельмі надаваў увагі. Пры дзяўчыне тут маглі і мацюкнуцца, і наогул не саромеліся непрыстойных учынкаў.

Калі толькі ехаў на працу ў Дзеўкі, думалася, што сур’ёзна займуся самаадукацыяй, паступлю вучыцца ў завочны тэхнікум. З першай палучкі купіў сабе гадзіннік і настольны каляндар, у якім распісаў заняткі над павышэннем уласнай адукацыі на кожны дзень. Ды нахлынулі справы больш

неадкладныя. У дзевятнаццаць гадоў прыходзіць тое, што павінна прыйсці. Я закахаўся.

Тая першая восень маёй работы ў школе супала з пачаткам вялікай вайны. Германія напала на Польшчу, разгаралася полымя сусветнага пажару. Пра тое, што фашысты асмеляцца ваяваць з намі, у той час ніхто не думаў, але нейкая трывога ўсё ж вісела ў паветры. Да заходняй граніцы ішлі эшалоны з артылерыяй, танкамі, войскам.

Я ж марыў аб вучобе, ведаў таксама, што праз год-два мяне прызавуць у армію, а пакуль што добрасумленна складаў канспекты па арыфметыцы, батаніцы і геаграфіі (я адразу вёў тры прадметы ў пятым класе), а вечарам, калі здаралася вольная хвіліна, бег на раз’езд к вячэрняму цягніку. Цягнік для мяне быў тады пасланцом з вялікага і шырокага свету, у якім ішло цікавае, незвычайнае жыццё, зусім не падобнае на тое, якое я бачыў у Дзеўках.

На раз’ездзе я пазнаёміўся з Алесяй. Тоненькая, чарнявая дзяўчына кожнае суботы злазіла з рабочага цягніка, трымаючы ў руках фанерны, пафарбаваны ў зялёны колер, чамаданчык. Аднойчы мне прыйшлося ісці поруч з ёй у вёску. Быў цёплы вечар, поле ахутаў змрок, у небе свяцілі чыстыя асеннія зоркі.

— Баюся могілак,— сказала Алеся.— Дрыжу, калі іду паўз іх адна. Ведаю, што нічога страшнага на свеце няма, ніякай нячыстай сілы, а ўсё адно баюся...

Яна вучылася ў педагагічным тэхнікуме, на другім курсе, хоць была маладзей за мяне на два гады. Мы вельмі хутка, за нейкія лічаныя дні, сышліся ў поглядах на жыццё, у сваіх сімпатыях і антыпатыях. Мы любілі адны і тыя ж кнігі, адных і тых жа пісьменнікаў. Тыдні праз два пасля першага знаёмства я ўжо ведаў, што не магу без Алесі жыць.

Была яна, як дзіця: непасрэдная, шчырая, даверлівая і зусім не ўмела таіць сваіх пачуццяў. І хоць па адукацыі яна ішла вышэй за мяне (у іх тэхнікуме прайшлі ўжо прагрэсіі, адносіны і лагарыфмы, а я толькі планаваў іх вывучэнне ў сваім календары), героем быў я. Я ж ужо настаўнік, а яна толькі вучаніца!..

Восень у той год была цёплая, бабіна лета зацягнулася ледзь не да самага лістапада. Горад блізка, за дваццаць кіламетраў, і Алеся прыязджала дамоў па два, а то і па тры

разы на тыдзень. Я ведаў, што гэта дзеля мяне. Колькі было іх, незабыўных вечароў, калі мы марылі і цалаваліся!

Мары сягалі высока. Я развіваў перад дзяўчынай самыя смелыя планы, у ажыццяўленні якіх галоўнай дзеючай асобай рабіў самога сябе. То я экстэрнам канчаў тэхнікум і смела ступаў у вышэйшую навуку, рабіў пераварот у педагогіцы, то ішоў у армію, станавіўся камандзірам, здзяйсняў подзвіг, пра які пісалі ў газетах. Бясконцая чарга гераічных спраў была намечана ў тыя памятныя цёплыя вечары...

Алеся сагравала мае летуценні. Са сваім каханнем яна звязала ўсё лепшае, да чаго сама імкнулася ў жыцці. Дзяўчына баялася толькі, што я паеду здзяйсняць запланаваныя подзвігі адзін, без яе, і мне будзе цяжка. Я стаў яе героем і рыцарам. У вянок сваіх мар яна ўпляла самыя прыгожыя кветкі і гэты вянок усклала на мае плечы...

Калі разбірацца глыбей, то мы былі дзеці свайго часу і ў нашых марах было шмат ад яго гераікі: перад вачамі стаялі подзвігі папанінцаў, абаронцаў граніцы ля возера Хасан і ракі Халхін-Гол, праслаўленых лётчыкаў.

На гэтай агульнай хвалі мы і плылі, не заўважаючы і нават адварочваючыся ад звычайнай будзённасці і друзу жыцця.

У тыя самыя вечары, калі, затуліўшыся ў засені школьнай бярозы, мы трызнілі ўслых аб будучым, па вуліцы раўлі і галёкалі п’яныя галасы, нesліся дзікія выгукі і лаянка. Але мы гэтага не чулі, праўдзівей кажучы, не хацелі чуць. Мы лічылі гэта дробязямі, перажыткам мінуўшчыны, што хутка само сабой знікне. Мы былі ідэалістамі і рамантыкамі.

Вядома, хутка я стаў хадзіць у хату да Алесі, там мяне лічылі сваім. Маці нават звала зяцем. Апорай сям’і была яна, жанчына практычная, з цвярозым розумам і разлікам, а не бацька, мяккі, бязвольны і вялікі дзівак.

— Я, брат, чапаевец,— пахваліўся мне пры першым жа знаёмстве Максім Пацалуйка, Алесін бацька.— Толькі заціскаюць мае заслугі. Вось каб жывы быў Васіль Іванавіч, ён бы такога не дапусціў...

— Ма-а-ксім! — азвалася жонка.— Не хлусі ты хоць пры чалавеку. Які ты чапаевец, ты ж і страляць не ўмееш. Не верце вы яму: меле гэтая малатарня, сама не ведае што...

Потым высветлілася, што нейкае дачыненне да Чапаева Пацалуйка ўсё ж меў. Мабілізаваны ён быў ужо ў дваццатым годзе і жывога Чапаева, вядома, не бачыў, але служыў нібыта ў той часці, якой раней камандаваў герой грамадзянскай вайны. Максім лічыў сябе чапаеўцам на той падставе, што Чапаеў, калі б ён быў жывы, не абмінуў бы яго, зацікавіўся б ім і нават пасябраваў бы з ім асабіста.

Пацалуйка ў ліку нямногіх у вёсцы не належаў да адыходнікаў. З калгаса ён атрымліваў мізэрны заробак, лічаныя пуды збажыны і бульбы, але на працу ішоў дзень у дзень. Яго галава пастаянна была занята нейкімі планамі, праектамі, удасканаленнямі, хоць у бедных Дзеўках асабліва ўдасканальваць і не было чаго.

— Платон! — паклікаў мяне аднойчы Пацалуйка на вуліцы.

Я падышоў, думаючы, што ён скажа што-небудзь пра Алесю. Яна якраз здавала залікі і больш тыдня не прыязджала. Але пра дачку Максім нават не ўспомніў.

— Ты геаметрыю ведаеш? — спытаўся ён з нейкім змоўніцкім выглядам.

З гэтай навукі я ведаў няшмат. Нешта пра трохвугольнікі, пра суму іх вуглоў, пра тое, што паралельныя ніколі не перасякуцца. Пытанне Пацалуйкі здзівіла мяне.

— Навошта вам, дзядзька, геаметрыя?

— Без яе, брат, як без рук. Задумаў я адну штуку, але ж трэба разлік. Спрабаваў сам чытаць, Алеся кніжку прывезла, але літары там нейкія не нашы...

Ён ад прыроды быў вынаходнік, меў залатую галаву і рукі. У гэтым прыйшлося пераканацца пазней. У тыя перадваенныя гады ў калгасах пачыналі сеяць кок-сагыз. Спецыяльнай тэхнікі не было ніякай. Сеялі гэтую паўдзікую расліну страшэнна прымітыўным спосабам: пальцамі ў глебе рабілі лункі, апускалі туды шчапоць дробных, нібы макавых, зерняў, потым рукамі заграбалі ямачку.

І вось Максім Пацалуйка сваім адумам сканструяваў коксагызную сеялку. Яе пусцілі ў ход і не маглі нахваліцца, машынай за дзень засеялі ўсю плошчу, вызначаную калгасу.

Сеялку паказвалі на раённай выстаўцы, яе чарцяжы пасылалі ў наркамат. Адказу Пацалуйка не атрымаў, пачалася вайна.

Пасля вайны ўжо мне давялося бачыць заводскую сеялку, сканструяваную інжынерамі. Гэта была сапраўдная машына, а не драўляны кораб на жалезных колах, якой здавалася Пацалуйкава. Але сам прынцып дзеяння быў той самы.

Пацалуйкава сеялка, калгас, парадкі ў вёсцы, нават вайна, якая ўжо ішла на свеце,— усё гэта не займала вялікага месца ў маіх думках.

Восень, зіму, вясну — мой першы настаўніцкі год — уладна захапіла Алеся. Яна кожнае хвіліны прысутнічала ва ўсім, што я рабіў і аб чым думаў. У вушах звінелі радкі Купалавага верша пра дзяўчыну Алесю, якая легкакрылай птушкай узвілася ў неба. Мелодыю да гэтых радкоў прыдумаў я сам, і было ў ёй, памятаю, нешта сумнае і нешта ледзь улоўна трывожнае. Жыве, мабыць, у чалавеку тое, што звычайна называюць прадчуваннем...

Па прыездзе ў Дзеўкі я меціў кватараваць і сталавацца ў цёткі, стрыечнай матчынай сястры. Яна мела прасторную хату, агарод, сад і жыла, па расказах маці, няблага. У кватаранты да сябе яна мяне, аднак, не ўзяла. Прычына тут была, бадай, простая: цётка, як і многія іншыя, часта ездзіла на базар, ведала цану капейцы і справядліва разважыла, што каля настаўніка ды яшчэ родзіча не вельмі пагрэешся.

Кватараваць мне прыйшлося ў чужых. Мае гаспадары жылі неяк неўладкавана, неахайна, як цыганы. Сам гаспадар, кульгавы Міна, цяжкай работы рабіць не мог, жыў наводшыбе. Летам ён прападаў у шалашы, вартуючы калгасную капусту і буракі, а зімой — на ферме, начуючы і харчуючыся як прыйдзецца.

Гаспадыня, кабета гадоў за сорак, на мужа не зважала. Была яна бежанка, як гаварылі, з «мазуроў», любіла выпіць і павесяліцца. Хадзілі чуткі, што да яе заляцаецца брыгадзір пуцейцаў, цішком пасмейваліся нават, што Міна бацька сваім дочкам толькі па метрыках.

Старэйшая дачка, Феня, працавала на наступнай за нашым раз'ездам станцыі буфетчыцай. К майму прыезду яна пратаргавалася, і гэта каштавала сям'і нямала — каб вызваліць Феню з бяды, прыйшлося неадкладна прадаваць карову. З гандлем Феня развітвацца, аднак, не хацела. У нашай школе сельпо арганізавала невялікі буфецік, і яна — як быццам нічога не здарылася — заступіла за яго прылавак. Гэта была

мажная дзяўчына, з вялікімі, нібы здзіўленымі, вачамі і густа падведзенымі бровамі. Яна любіла паказаць сябе выхаванай і далікатнай.

— На дэсерт сягоння кампот з сухафруктаў,— гаварыла Феня, уваходзячы вечарам у маю бакоўку і ставячы на стол кубак звычайнага ўзвару з груш-дзічак.

Малодшая, Лёдзя, з твару падобная на бацьку, была за вучаніцу ў кравецкай арцелі ў горадзе і наязджала дадому рэдка. Трымалася яна незалежна, да старэйшай сястры і маці адносілася абыякава і часамі нават варожа.

Я жыў у сваіх гаспадароў, мала цікавячыся жыццём і парадкам, які панаваў у іх доме. А тут адбывалася нешта нездаровае, нешта часамі агіднае і брыдкае. У хату іншы раз прыходзілі незнаёмыя мне мужчыны. Яны паяўляліся заўсёды вечарам, прыносілі сваю гарэлку і закуску. Наладжваліся выпіўкі, і ў іх прымалі ўдзел маці і старэйшая дачка. Мужчыны аставаліся начаваць. Зачыніўшыся ў сваёй бакоўцы, я стараўся не звяртаць на гэта ўвагі або, калі прыязджала Алеся, ішоў на спатканне да яе.

Кіно ў Дзеўках бывала рэдка, не часцей аднаго разу ў месяц, і калі прыязджала кінаперасоўка, карціну паказвалі ў школе. Два ці тры разы мне прыйшлося варочацца дамоў з кіно разам з Феняй. Яна старалася гаварыць на гарадскі манер, у голасе яе чуліся гуллівыя ноткі і, нібы незнарок аступіўшыся, яна тулілася да мяне.

Адзін раз паўраспранутая Феня зайшла да мяне ў бакоўку. Было позна, але я яшчэ чытаў. Я прапанаваў Фені кнігу, і яна, не сказаўшы ні слова, бразнула дзверцамі...

Гром грымнуў летам, калі я паехаў у сваю вёску на першыя, ужо запрацаваныя канікулы. Алесі дома не было, яе паслалі важатай у піянерскі лагер, і аставацца ў Дзеўках без яе не хацелася.

Я ліхаманкава рыхтаваўся да паступлення ў завочны тэхнікум. Паступаць меціў на апошні курс, каб скончыць вучэнне разам з Алесяй. У канцы таго лета мне прыслалі позву ў народны суд. У ёй я значыўся... адказчыкам.

Пра гэта не хочацца ўспамінаць. Суд быў не адзін, іх было восем ці дзевяць. Ні ў які тэхнікум я не паступіў. Гарбаты Кокуль і хітрая Музыкаліха, сведкі, вельмі слушна давялі

першаму суду, што я абяцаў Фені жаніцца, быў яе фактычным мужам і з’яўляюся бацькам яе дзіцяці. Суды ішлі з пераменным поспехам: то ў маю карысць, то ў карысць самазванай маёй жонкі. Справу павінна была разглядаць апошняя інстанцыя, Вярхоўны Суд. Але пачалася вайна. У армію я пайшоў аліментшчыкам.

І ўсё ж самае горкае было не ў тым, што распушчаная, бессаромная Феня захацела мяне зацягнуць у сваю сетку. Ад мяне адвярнулася Алеся.

Увесь наступны год я патраціў на суды ды яшчэ на тое, што рабіў усялякія захады, каб вярнуць каханне Алесі. І не вярнуў. Яна трымалася горда і непрыступна. Абраза, якая легла ёй на плечы праз мае судовыя справы, аказалася мацнейшай за каханне. Былі ў мяне два моцныя саюзнікі — Алесіны бацька і маці,— але не дапамаглі і яны. Яны ні на кроплю не верылі ў якую-небудзь маю віну. Алеся верыла...

## III

Я чакаю Міну. Над полем, лесам, вёскай — урачыстае зорнае неба. Яно заўсёды супакойвае. Перад тварам яго бязмежнай велічы з думак і пачуццяў знікае ўсё дробязнае, недарэчнае, усё тое, што можна забыць праз дзень або праз год. Нячутна ўпала, апісаўшы срэбную дугу, знічка. Высока, пад самымі зоркамі, праляцеў самалёт — рухомая чалавечая зорка. Паволі навісае туман, расцякаецца парнасць. Галасы і зыкі ў вёсцы сціхаюць. Я задрамаў.

Прачнуўся ад ціхіх крокаў і прыглушанага кашлю.

— Ці не ты гэта, Платоша?

— Я, дзядзька Міна.

— То чаму ж ты ў хату не зайшоў? Валяешся адзін на полі. Хіба ж мы табе чужыя, ці што? Хадзем хоць у курэнь, я агонь раскладу...

Агонь стары расклаў рупна і хутка. Знутры шалаш выглядае досыць утульна: дзве гладкія лаўкі, сухі, як камень, грунт пад нагамі, дым прамым круглым слупком выносіць у шырокую гарлавіну. Усюды на ўбітых у сценкі цвіках вісяць перавязаныя ніткамі пучкі зёлак.

— Лечыце, дзядзька Міна? Столькі траў...

— Ат, які з мяне лекар. Дактароў вунь поўная бальніца. Адна дакторка, праўда, сама ў мяне просіць: прынясі тое, прынясі другое. Прызнае травы.

Міна пастарэў. Апошні раз мне прыйшлося бачыцца з ім тры гады назад — непадалёк ад вёскі школа нарыхтоўвала дровы,— тады вартаўнік здаваўся дужэйшы і жвавейшы. Яго добры, задумлівы твар перасеклі глыбокія маршчыны, ён яшчэ больш сагнуўся і яшчэ глыбей прыпадае на левую нагу.

— Ну, як жа жыццё-быццё, дзядзька?

Агонь весела ліжа сухія бярозавыя сукі, водбліскі полымя скачуць па чорных, задымленых сценках, у шалашы светла. Недзе ў закутку пад лаўкай, сагрэўшыся, завёў сваю песню цвіркун.

— Жыць можна,— гаворыць Міна.— Здароўя толькі няма. Не тое здароўе.

Ён становіцца наўкаленцы і дастае з-пад лаўкі бутэльку, закаркаваную нейкімі сухімі зёлкамі.

— Ты ж з дарогі, нічога не еў. Перакусі хоць хлеба з салам. Памідоры ёсць. А гэтую на зуброўцы настаяў. Вып’ем, тады і пагаворым.

Мінава настойка — пахучая і моцная — адразу б’е ў галаву, лаўка, сценкі шалаша, старое ёлкае сала, якое вартаўнік парэзаў на ёмкія скрылікі, здаецца незвычайна смачным. Голас старога даносіцца аднекуль здалёк, хоць ён сядзіць насупраць мяне, на другой лаўцы.

— Лепш закусі, а то звянеш. Яна што спірт, я да зуброўкі яшчэ шалфею дабавіў, гаркату змяншае. Мабыць, выпіваеш не часта, служба ў цябе такая. А я выпіваю...

Побач з многімі сваімі благімі якасцямі гарэлка мае адну бясспрэчна добрую. Яна скарачае адлегласць паміж людзьмі, ломіць сцены маўчання, збліжае душы. Пачаць размову, дзеля якой я прыехаў, паўгадзіны назад было цяжка. Цяпер лёгка, і я пачынаю яе:

— Як Сашка, дзядзька Міна? Што ён думае пра мяне?

Стары маўчыць. Ён апусціў сваю сівую галаву на рукі і нешта ўзважвае. Гарэлка яго мала кранула, ён такі ж павольны ў рухах, гэтак жа глуха і сіпла гучыць яго голас, калі ён гаворыць.

За шалашом, у капусце раптам затрашчала. Было такое ўражанне, што нехта задыхаецца, некага душаць. Я падхапіўся і выскачыў з шалаша. За некалькі крокаў ад яго мільганулі два шэрыя камы.

— Сабакі,— сказаў Міна з шалаша.— Качаны, халеры, паваляць. Разгуляліся.

Плыве над полем светлая жнівеньская ноч. Зыркую яе цішыню вартуюць кусты і дрэвы на ўзбочыне дарогі, цёмны пагорак могілак і адзінокі агеньчык ліхтара на раз’ездзе. Ахутаныя полагам туману, навакольныя прадметы здаюцца незнаёмымі, няпэўнымі, хісткімі. Ноч ахінула ўсё шэрым крылом і пасеяла навокал цішыню. Яна загадала спаць людзям, птушкам, жывёле — усім, хто можа разгадаць яе спрадвечныя таямніцы. Але не ўсе спяць...

Я вярнуўся ў шалаш. Стары сядзіць усё ў той жа паставе і думае. Яму, відаць, цяжка пачынаць размову.

— Сашка мне ўнук, а табе ніхто,— нарэшце гаворыць ён.— І ты не крыўдуй на яго за той ліст. Малады ён, гарачы. У такія гады вы ўсе гарачыя. А бацька яму трэба. Не можа ж нарадзіцца на свет чалавек без бацькі...

Пра гэта я пачаў думаць нядаўна, сур’ёзна, бадай, з таго дня, калі атрымаў злосны і крыўдны для мяне ліст ад Сашкі. У ім ён адмаўляўся ад мяне, як ад бацькі, ад маёй дапамогі, а я, прачытаўшы яго, думаў аб людской няўдзячнасці і яшчэ аб тым, што залішне многа згрызот спатыкае мяне ў жыцці.

Пачуўся далёкі, прыглушаны гул цягніка. Пазваньваючы нечым, нехта таропка патрухаў паўз шалаш.

— Музыкаліха спяшае,— адзначыў Міна.— Малако і грыбы вязе прадаваць. Каб малако не скісла, будзе начаваць на базары.

— Тая самая Музыкаліха? Яна ж старая ўжо.

— Старая, а пад сябе грабе. Магла ж раніцай паехаць, ды не хоча, каб бачылі...

У насцярожанай цішыні добра чуваць, як звіняць, падрыгваюць рэйкі, як, задыхаючыся, абдаючы сябе парай, набліжаецца да раз’езда стары спрацаваны рабочы цягнік. Шырока над полем разносіцца працяжнае рэха яго гудка. Тахканне кола аб стыкі замаруджваецца, робіцца гучнейшым, натужна рыпяць тармазы, цягнік стаў. Праз некалькі хвілін зноў раскацісты,

ужо блізкі гудок, тахканне колаў, якое ўсё ўзрастае, частае, перарывістае дыханне нястомнага старога рабацягі.

— Трэба было мне Сашку ў гэты, як іх называюць, прыют аддаць,— нібы сам з сабою разважае Міна.— Людзі раілі. Загінулі бацькі, і ўсё. Пашкадаваў. Дый цяжка аднаму аставацца...

— Не варта, дзядзька Міна, пра гэта. Што было, тое сплыло. Што Сашка робіць цяпер?

— На лесапілку ходзіць, а вечарам кніжкі чытае. Варанё ёсць варанё, надзьмулася і крача: «Праб'ю сабе дарогу без яго помачы. Не трэба мне такія бацькі...»

— Я прыехаў, дзядзька Міна, пагаварыць з Сашкам. Так болей нельга пакідаць.

— Добра, Платоша. Ты даруй за ўсё, але ж ён не вінаваты. Ён толькі як малы быў, дык пытаўся: «Дзе, кажа, мой тата, і чаму ён не едзе да нас». Я яму гавару, што маму тваю забілі немцы, ну, а тата з другой ажаніўся, ён на службе, і яму прыехаць нельга. Можа, я дрэнна рабіў, што гаварыў так, але ж хацелася дзіця ўцешыць. «А чаму, кажа, ён, тата, нам хоць ліста не напіша?» Што ты яму адкажаш? Бачыць у другіх бацьку, ну, і свайго мець хочацца. А падрос, перастаў пытацца. Можа, яму людзі што нагаварылі, языкі ж не завяжаш, можа, сам здагадаўся. Я табе і напісаў тады, каб перастаў слаць грошы. Ён жа лічыў, ды і людзі таксама, што раз грошы шлеш, значыць, бацька. А так, няма бацькі, ну і няма. Можа, сабакам сена косіць. А як прыйшлі твае гэтыя сёлетнія грошы, усё і загарэлася. «Не хачу, крычыць, ні яго грошай, ні яго самога...»

Агонь паволі згасае. Маленькім астраўком, у самай сярэдзіне тлее вуголле. Праз шчыліну дзвярэй у шалаш глядзіць ноч, зверху праз гарлавіну падміргваюць зоркі. Яны прыкметна бляднеюць. Хутка раніца.

— Пацалуйка Максім хворы ляжыць,— паведаміў стары.— З самай вясны як лёг, дык і не ўстае. Нутро застудзіў. Пераначаваў у кузні, а яшчэ холадна было. Паправіцца, можа, кажуць, ужо лепш яму...

Пацалуйку я бачыў, здаецца, нядаўна. З газетнага ліста пазіраў сур'ёзны хударлявы чалавек, зусім не падобны на таго Максіма, якога я ведаў. І толькі подпіс пад партрэтам гаварыў, што гэта той самы Пацалуйка. Газета яго прадстаўляла як ка-

валя, калгаснага вынаходніка. Няўжо яго хворага фатаграфавалі?

— Мулка табе будзе спаць, Платоша. Вазьмі мой кажух пад галаву, а плашчом сваім акрыешся. Блох няма, не бойся, я іх палыном выжываю.

Міна ўклаўся на голую лаўку і, мабыць, ужо спіць. Зрабіў ён гэта ціха і непрыкметна — без старэчых уздыхаў і крэкту. Не чуваць нават, як ён дыхае. Загартаваны на холадзе, на слоце чалавек. Колькі яму год і колькі правёў ён начэй у такіх вось шалашах, дзе дахам — неба і зоркі. Пра што думаў доўгімі начамі адзіноты. І якою мераю адпушчана гэтаму чалавеку шчасця і няшчасця?..

Нязваныя, няпрошаныя набягаюць успаміны. Іх цэлы рой, іх проста так не адгоніш і нікуды ад іх не ўцячэш. Яны ў табе самім і частка цябе самога...

З Мінам прыйшлося спаткацца ў цяжкім сорак шостым годзе, калі ў дадатак да спусташэння вайны вёска атрымала мірны неўраджай. Мяне дэмабілізавалі яшчэ ў вайну, пасля шпіталю, і ў сорак шостым я скончыў двухгадовы настаўніцкі інстытут. Ехаў на працу. Міна з клункам пустых мяшкоў дабіраўся ў той хлебны край, нівы якога не выпаліла дашчэнту засуха. У цягніку спаткаліся.

На маёй судовай справе быў пастаўлены крыж. Аб гэтым паклапацілася сама старэйшая Мінава дачка. Яна захоўвала вернасць сваім прынцыпам і ў вайну. Любіла шумнае, разгульнае жыццё і загінула недарэчна... Памерла вясёлая Мінава жонка. Другая дачка выйшла замуж і некуды з’ехала. Пра гэта я ведаў.

Я забыў толькі пра маленькага сінявокага чалавека, які сваім паяўленнем на свет прынёс мне столькі згрызот. Гэтага чалавека звалі Сашкам, яму было ўжо шэсць гадоў, ён жыў з дзедам, прасіў есці, і дзеля яго кульгавы дзед ехаў з пустымі мяшкамі на край свету.

— Бог ім суддзя,— сказаў тады пра жонку і дачку Міна.— І ты не крыўдуй. Бывае ў жыцці ўсякае. А хлопчык харошы. Вось еду...

Я паабяцаў старому памагчы і час ад часу патроху пасылаў. І сёлета паслаў, ведаючы, што Сашка кончыў школу і, можа, збіраецца ў далёкую дарогу.

І раптам ліст, гнеўны, абураны. Без ніводнай граматычнай памылкі. Першы ліст ад таго, хто, носячы дзедава прозвішча, ненавідзячы і пакутуючы ў глыбіні душы, лічыў мяне бацькам. Такі ліст меў права напісаць толькі сын.

Пра цябе, Сашка, я не думаў ні з любоўю, ні з нянавісцю. Ты не сын мне. І зусім не хацеў я, пасылаючы сціплыя капейкі, прынесці табе столькі пакуты. Мне варта было падумаць аб другім: ты мог мець не такое дзяцінства, мог жыць у шумлівай дзетдомаўскай грамадзе. Я ж настаўнік, педагог, і гэта мой абавязак. Але, выходзіць, што педагог я дрэнны. Якія ж словы сказаць табе заўтра, і дзе іх знайсці, гэтыя простыя, чалавечыя словы?..

## IV

Чалавек з гадамі старэе. Дзеўкі памаладзелі. Я іду вуліцай вёскі і здзіўляюся. Здаецца, нейкі свежы вецер пранёсся пад вясковымі стрэхамі, развеяў іх ускудлачаную, трухлявую салому, паздзіраў з дахаў зялёны мох, параскідаў гнілыя парканы. Няма хат, якія пазіралі маленькімі акенцамі з-пад навіслай страхі, нібы злы чалавек спадылба, няма пакручастых завулкаў-лабірынтаў, зарослых травой-муравою і густою крапівой... Тыя ж дзве вуліцы крыж-накрыж, але агульны лад будынкаў, якія падцягнуліся да іх, зусім іншы. Многа хат новых, на добрых каменных падмурках, з шыфернымі або гонтавымі дахамі, многа — проста перасыпаных, дагледжаных, з новымі вокнамі, дзвярамі, дахамі. І амаль ля кожнага двара, які яшчэ захаваў свой памятны старасвецкі выгляд, кучы сасновых бярвенняў, пірамідкі цэглы — адзнакі хуткай перабудовы.

Садкі, палісаднічкі, фіранкі на вокнах. Па абодва бакі вуліцы канавы, масткі праз іх да двароў, сям-там маладыя дрэўцы ў пераплётах агароджы. Новы будынак школы, стары побач з ім выглядае мізэрным і занядбаным. Дзве шарэнгі слупоў, ёсць, значыць, электрычнасць і радыё. Цэлы гарадок грамадскіх будынін, новых, дагледжаных. Такога ў Дзеўках не было...

І толькі млын, стары знаёмы, знешне змяніўся мала. Высока ўзносіцца яго бляшаная труба з нацягнутымі ад яе ў

чатыры бакі дратамі падпоры, расчынены вароты, мучным пылам абсыпаны сцены і парканы. Млын, роўна ўздыхаючы, меле. Людзі сеюць, росцяць хлеб, каб яго есці. На зялёным выгане завознікі: чатыры машыны і тры фурманкі. Ля млына прыбудоўка, там скрыгоча-звініць на ўсю аколіцу піла-цыркулярка. Людзі будуюць новыя хаты, каб весялей у іх жыць. Ім трэба дошкі, цёс, гонта. На цыркулярцы працуе Сашка, з якім у мяне сёння размова.

Размову я адклаў на вечар. А цяпер хаджу па вёсцы, гляджу на яе перамены, і мне трохі сумна. Трое з тых, каго я спаткаў на вуліцы, павіталіся са мной першыя. Можа, гэта пяцікласнікі, якіх я некалі вучыў. Нікога з іх я не пазнаў у твар, і ніхто не запыніўся, каб пагаварыць са мною. Не было, значыць, аб чым гаварыць.

Светлы жнівеньскі дзень. Высока ў блакітным бясхмарным небе плыве сонца. Паветра напоена той празрыстасцю і чысцінёй, якая толькі і бывае на схіле гарачага лета. У палісадніках дацвітаюць вяргіні. Іх час, белых і ружова-сініх вяргінь, ужо прайшоў, і цвет іх не яркі і не кідкі. Лётае ў паветры лёгкая павуціна — верная прыкмета блізкай восені. Восень яшчэ пагуляе з летам у хованкі, дасць тыдзень-два цёплым дзянькам, усміхнецца здрадлівай лагоднасцю бабінага лета і запяе вятрамі, заімжыць дажджом.

— Платон! — голас мяккі, грудны, знаёмы. Ён прымушае здрыгануцца ўсёй істотай. Гэта Алеся. Пружыністай, нетаропкай паходкай яна ідзе да мяне.

— Добры дзень, Аляксандра Максімаўна. Вы тут?

На ёй лёгкія летнія туфлі, шэры касцюм, які шчыльна аблягае складную, з адзнакамі паўнаты, фігуру. Смуглявы твар, прыпухлыя вусны, вясёлыя шэрыя вочы з прыпудранымі, але ўсё ж прыкметнымі маршчынкамі каля павек. У выразе касцюма — белая блузка, адкрытая, ледзь кранутая загарам, шыя.

— Добры дзень, Платон Іванавіч. Якімі клопатамі абавязаны вашаму прыбыццю?..

— Ты ведаеш, Алеся.

На імгненне патуплены позірк вачэй, ледзь улоўная дрыготка ля вуснаў, і зноў адкрыты, чысты пагляд, поўны добразычлівасці і цікавасці. Жанчына ўзяла сябе ў рукі.

— Па-ранейшаму дырэктарам?

— А ты — завучам?

— Як жыццё?

— Ды ўсё так...

— Ну, то завуч дырэктара разумее,— гаворыць Алеся.— Дровы, рамонт, нарады ў райана па пытаннях вытворчага навучання...

— Педсавет, бацькоўскія сходы, агіткалектыў,— дабаўляю я.

— А завучу лягчэй? — пытаецца яна.

— Строгі твар, касцюм, у якім горача летам, расклад заняткаў, канспекты, наведванне ўрокаў і галоўнае выгляд, што ўсё табе на свеце вядома. Таксама нялёгка.

— О, з такім дырэктарам я не баялася б нічога!

— З прыемнасцю меў бы завуча, які разумее з паўслова.

Гэты жартаўлівы тон, даўно ўзяты намі на ўзбраенне, нагадвае сцяну, за якой можна схавацца ад чаго хочаш: ад сур'ёзнага, сумнага, ад таго, што цябе хвалюе і займае твае думкі.

Сустрэча з Алесяй не першая. Нельга не сустрэцца дырэктару і завучу, якія працуюць амаль што ў суседніх раёнах, у адной вобласці. Я ведаю пра Алесю ўсё, яна пра мяне таксама. Замуж яна выйшла трошкі раней, чым я ажаніўся, у яе двое дзяцей, муж дырэктар саўгаса, добры, разумны чалавек. Як педагог, яна вельмі аўтарытэтная.

— Бацька папраўляецца?

— Лепш яму, здаецца, стала. Я ж і прыехала з-за яго хваробы. Гэтак перахвалявалася. У нас канферэнцыя паслязаўтра, і ў мяне на секцыі даклад.

У Алесіным голасе нейкія новыя ноткі. Гэта, мабыць, таму, што хворы бацька і што тут, на вуліцы яе роднай вёскі, мы спаткаліся ўпершыню з таго памятнага далёкага часу...

Кавалер я не здагадлівы: мы цэлай паўгадзіны стаім пасярод вуліцы, на сонцы. Алеся абмахваецца хусцінкай, і да мяне нарэшце даходзіць. Мы ідзём пад школу: там старыя, знаёмыя бярозы, цянёк.

— А ўсё ж, чаго ты прыехаў, Платон?

— Сямейныя справы. Іх трэба неяк уладзіць.

На яе расчырванелым смуглявым твары грымаска раздражнення. Свайго настрою, як і некалі, яна зусім не тоіць.

— Слухай, Платон, я чула ад людзей. Гэта ж несусветнае глупства. Як твая жонка яшчэ церпіць? Грошы прысылаў, прыехаў цяпер, навошта табе гэта? Ці ведаеш ты, што людзі гавораць? Сумленне, кажуць, усё ж такі прачнулася ў ім,— гэта пра цябе так,— брыкаўся-брыкаўся, маўляў, дый прызнаў. Свая кроў, значыць. А я ж ведаю, што не сын ён табе. Няхай тады не разумела, у сямнаццаць гадоў розуму не пытаюць. А цяпер ведаю...

— Што ты ведаеш, Алеся?

— Тое, што ты быў мяшок. Ідэаліст. Таму цябе і абкруцілі. Другога не абвялі б вакол пальца...

У голасе Алесі горыч. Яна не абыякавая да нашага з ёй мінулага, і хваля пяшчотнасці залівае мне грудзі. Мы сядзім на лавачцы пад старой знаёмай бярозай. Яе купчастая шапка, нібы гара, навісае над будынкам ранейшай школы, якая цяпер ператворана ў нейкі склад. Дрэва такое самае, як і раней, за доўгія гады яно ніколькі не змянілася, а школа стала маленькай і непрыкметнай. Чаму гэта так? Можа, таму, што прыйшлося павандраваць па свеце, на многае паглядзець. А можа, проста з той прычыны, што непадалёк высіцца другі будынак, вялікі і прасторны.

Алеся неспакойная. Такая яна вельмі падобная на тую далёкую студэнтачку, якая спаткалася на сцяжынцы юнацтва. Толькі яна яшчэ і нецярплівая, і катэгарычная ў сваіх думках, яна можа быць і злосная, гэта Алеся... Такой я яе не ведаў. Цалаваў гэты мілы прыпухлы рот, гэтыя шэрыя вочы, смуглую шыю, абнімаў вось гэтыя стройныя, падатлівыя плечы, а не ведаў. Дый ці трэба было ведаць? Залатым, іскрамётным агнём успыхнула яно, першае, святое пачуццё, і хіба ж трэба было яго тушыць?..

Алеся гаворыць, гаворыць, але я мала слухаю. Яе словы не даходзяць да свядомасці. Я толькі гляджу на знаёмы, дарагі твар, на прыгожыя, мяккія лініі рота, на каштанавы завіток ля вуха, у якім ледзь прыкметная срабрыстая павуцінка, і думаю. Чаму ж мы з табой, дзяўчына, размінуліся на той дарожцы, па якой спачатку так хораша пакрочылі? І ці здолелі б мы прайсці па ёй, каб не развёў нас выпадак? Ты ж любіла мяне, Алеся, я ведаю, ты даказваеш гэта яшчэ раз тым, што так горача гаворыш. Але ці не больш за мяне ты любіла сваю зорку, тую пу-

цяводную зорку, у якую паверыла. Твая мара была чыстая, як вада са сцюдзёнай крыніцы, як ранішняя раса. Побач з ёй не было месца ніякаму бруду, ніякай мане і фальшы. І ў сямнаццаць гадоў розуму не пытаюць, гэта ты добра сказала. Але ж ёсць яшчэ сэрца, Алеся... Няўжо яно схлусіла таксама, тваё сэрца?..

Сонца схілілася са свайго гарачага паўдня, і пад бярозай, з таго боку, дзе мы сядзім, няма больш ценю. Нам трэба развітвацца. Ад таго, што на гадзіну мы спаткаліся пад памятным дрэўкам, нічога не зменіцца. Не прыбавіцца ні горычы, ні радасці. Усё ўжо было, і ўсё мінулася.

— Калі ж ты паедзеш, Алеся?

— Хачу сёння, тады яшчэ паспею на канферэнцыю. Я так рада, што бацька папраўляецца. Ты ж ведаеш, які ён у мяне.

— Шчаслівай дарогі...

— Бывай здароў, Платон. І не забудзь таго, што я табе сказала. Хопіць хадзіць у пакутніках. Твой цярновы вянок перасох і рассыпаўся, а рыцарства антыпедагагічна. Гэта я кажу як завуч, але твая жонка зразумее мяне таксама. Яна ў цябе яшчэ цярплівая, Платон. Шануй яе і не крыўдзі...

Яна пайшла лёгкай, упэўненай хадою, ні разу не азірнуўшыся. Знаёмая і незнаёмая Алеся, загартаваная ў моры жыццёвых будняў і радасцей. Прывабная жанчына, якая ведае сабе цану і ведае, што яшчэ можа падабацца.

З нечым я ўнутрана не згадзіўся з Алесяй. Але ў чым? На гэта адразу не адкажаш нават самому сабе. І, можа, гэта зусім не нязгода, а нешта іншае, што трымаецца на адным толькі пачуцці супярэчнасці. Можа, яшчэ проста не памёр ва мне той зняважаны хлапчына, якому жыццё дало пстрычку па носе. Зняважанаму трэба шукаць вінаватых, хоць, можа, найбольш вінаваты ён сам. Чалавек заўсёды апраўдваецца першнаперш перад самім сабой. Сведак у такіх справах не бывае, і таму рэдка хто здолее сябе асудзіць. Вінаваціць жа другіх куды лягчэй...

Сонечны дзень плыве ў цёплай бясхмарнай празрыстасці. У апошнія дні лета заўсёды нараджаецца адчуванне запаволенасці часу. Усё навокал млявае, перасычанае радасцямі жыцця, ахопленае смуткам блізкага знікнення. Залатым лістападам асыплецца бяроза, скінуць свой багаты ўбор ліпы і клёны, што ў

маўклівай задуменнасці стаяць узбоч дарогі, панікнуць, завянуць кветкі ў палісадніках. Носяцца стайкамі, прабуючы моц маладых крыл, шпакі. Іх песень даўно ўжо не чуваць, яны жыруюць, і харчу для іх цяпер многа ўсюды. Пройдзе які-небудзь месяц, шпакі адляцяць, каб па вясне вярнуцца зноў на гэтыя бярозы і клёны.

Я думаю пра Алесю, праўдзівей кажучы, успамінаю, кім яна была для мяне ўсе гэтыя доўгія гады. Мне хочацца знайсці той душэўны рубеж, пачынаючы з якога Алеся стала для мяне проста знаёмым чалавекам. Такі рубеж быў, ён толькі растварыўся ў часе. Ні памяць, ні сэрца яго дакладна не адзначылі. Спачатку ўспамін аб дзяўчыне паліў гарачым болем, потым боль паступова сцішыўся, саступіўшы месца лёгкаму, прыемнаму суму. Потым знік і сум, змяніўшыся спакоем. Любімы твар, ахінуты павалокай таямнічасці і неразгаданасці, твар, рысы якога доўга не ўдавалася цалкам узнавіць у памяці, раптам праступіў ясна і выразна. Я ўжо быў спакойны, не хваляваўся і таму мог разглядаць гэты твар, прыкмячаючы на ім кожную рыску, ацэньваючы яго ўсмешкі, сляды маркоты і задуменнасці, мог прыслухоўвацца да пераліваў некалі любімага голасу, знаходзячы ў ім новыя, нячутыя раней ноткі. Я па-новаму ўбачыў кожны жэст і рух дзяўчыны, перабраў у памяці кожнае сказанае ёй слова. І недзе ў гэтым прыдзірлівым аналізе скончылася казка пра Алесю, складзеная юнацтвам, і дзяўчына паўстала ў думках звычайнай і зямной. Але скончылася і каханне. Гэта было яшчэ ў вайну...

## V

Пад вечар — сустрэча з Сашкам.

Двор старога Міны неяк падабраўся, звузіўся, папрыгажэў. Некуды зніклі доўгія хлявы і адрыны з правaламі саламяных стрэх, і ад гэтага на двары стала весялей і святлей. Хата перасыпана, новы падмурак і дах. Малы хлевушок, навес, пад якім штабель напілаваных і наколатых дроў. Агарод, дзе па бульбе ганарыста пасталі сланечнікі. Некалькі дрэў у садку: вішні, слівы. І кветкі пад вокнамі хаты. Адкуль у Міны кветкі?

Разгадка наступіла ў хаце. З першага позірку было відаць, што лад і парадак тут наводзяць не дзед з унукам. Белыя

фіранкі, вазоны, чыста вымытая падлога, рэчы, кожная з якіх ведае сваё месца, і, самае галоўнае, дамавіты прыемны пах — усё гэта сведчыла, што ў хаце ёсць дбайная гаспадыня.

Яна напомніла аб сабе адразу.

— Вы да мамы? — спыталася дзяўчына, выйшаўшы з-за перагародкі.— Яна ў бальніцы і прыйдзе не хутка.

Дзяўчыне гадоў васямнаццаць, у яе прыемны грудны голас, у якім чуваць ноткі блізкай жаноцкасці, і ў поўнай адпаведнасці з узростам горды і незалежны выгляд. У руках яна трымае кніжку.

— Не, я не да вашай мамы. Некалі я ў гэтай хаце жыў. Зайшоў паглядзець.

Стрэлкі чорных броваў ляцяць угору, на твары лёгкае замяшанне, якое дзяўчына зусім не ўмее хаваць.

— Саша, прыйшлі да цябе.

Я зусім не разлічваў на прысутнасць дзяўчыны, і таму ўся загадзя вызначаная стратэгія аказалася бескарыснай. Тых слоў, якія падрыхтаваны, не скажаш.

Саша выйшаў з-за той жа перагародкі. У яго руках таксама кніга. Незнаёмы танклявы хлапец з адкрытым тварам і даволі смелым паглядам шэрых вачэй.

— Добры дзень. Прабачце, што перашкодзіў. Міна Іванавіч прасіў зайсці. У вашай хаце я кватараваў. Яшчэ да вайны...

Я назваў сваё прозвішча. Сесці мне не прапанавалі. Трэба было як-небудзь ратаваць становішча, і зрабіць гэта прыйшлося мне як старэйшаму.

Я сеў без запрашэння. Потым пачаў аглядаць хату. Перагародка дзяліла яе на дзве палавіны — большую і меншую. У большай, пярэдняй частцы, дзе сядзеў я, відаць, жылі самі гаспадары. Ад бакоўкі, першага майго рабочага кабінета, не засталося і следу.

Двое маўчаць, нібы згаварыўшыся. Па ўсяму відаць, яны і не збіраюцца са мной размаўляць. Зусім магчыма, што яны ўжо загадзя дамовіліся паміж сабой. Няма нават і намёку хоць бы на звычайную чалавечую ветлівасць. Я чамусьці спакайнею. Зрэшты, на што-небудзь іншае разлічваць і не прыходзілася.

— Гады ідуць,— кажу я.— Столькі перамен у вас, што і не пазнаеш. Калі я тут працаваў, была толькі сямігодка. А цяпер дзесяцігодка. Вы, Саша, дзесяць класаў скончылі?..

Саша маўчыць. Ён апусціў сваю русую галаву і глядзіць у падлогу. Дзяўчына адышла ў кут, села і робіць выгляд, што чытае кнігу. Маўчанне наўмыснае, дэманстратыўнае, у гэтым няма ўжо ніякага сумнення. Мяне нарэшце апаноўвае злосць. Сто разоў мела рацыю Алеся. Чаго я сюды прыехаў? Што мог перамяніць? І зрэшты, якая мне справа да таго, што нехта некалі напаскудзіў. Мала я праз гэта нацярпеўся? Мала меў згрызоты? Хопіць філантропіі, яна мне вылезла бокам!

Я падняўся. Мой твар гарэў. У грудзях бушавала злосць, але я пастараўся развітацца спакойна...

...Полем іду да раз'езда. Крокаў за дваццаць ад сцежкі Мінаў шалаш, але заходзіць мне туды не хочацца. Няма нават жадання развітацца са старым. Таго, што здарылася, не паправіш. Не было ніякай патрэбы прыязджаць у Дзеўкі, варушыць лахманы гэтай старой, амаль забытай гісторыі...

На раз'ездзе пуста і ціха. Цягнік хвілін пятнаццаць як прайшоў. Наступны — у дзве гадзіны ночы. Настрой мой панылы і маркотны. І, мабыць, ад гэтага здаецца змрочным усё навакольнае. Будка, у якой жывуць брыгадзір пуцейцаў і абходчык, пафарбавана ў недарэчны жоўты колер. Чаму ў жоўты? Чаму будка не карычневая, не зялёная, не каштанавая? І наогул, што такое колер? Сіняе сутонне вечара заўсёды навявае лёгкую маркоту. Як і цяпер. А сінеча летняга марыва вабіць, хочацца ісці, ісці. На Сашы была сіняя безрукаўка, дзяўчына стаяла ў белым. Ёсць цесная сувязь настрою, які валодае чалавекам, і колеру...

Вечар патушыў усе колеры, застаўся толькі адзін — шэры. І ў гэтым шэрым — бляск агню, срэбнае мігценне зорак, таямнічае, загадкавае святло месяца. Ці не напамінак гэта, што пасля ночы прыйдзе дзень?.. Зоркі льюць святло. Калі льюць, то павінен быць гук. Можа, хто-небудзь у будучым перакладзе на музыку ззянне зорак, і тады чалавек пачуе дзівосныя сімфоніі.

Раптам я чую плач. Надрыўны, цягучы жаночы плач, з жудасным прычытаннем. Роспачнае галашэнне набліжаецца, яно ўжо на самым раз'ездзе. Па бліскучых у святле месяца рэйках ідзе жанчына, хапіўшыся абедзвюма рукамі за галаву, і яе літанні гучна разносяцца па цёмным полі:

— А мая ж ты до-о-о-нька, асірацелі мы з табо-о-ю, а ён жа цябе так зва-аў, так ён цябе клі-і-каў, не пабачаць яго твае во-о-о-чкі...

Роспачны, балючы рэчытатыў плыве над полем, над рэйкамі, і страшная здагадка абпальвае ўсю істоту: гэта ж памёр Пацалуйка, а Алеся паехала...

І яшчэ адну ноч прыйшлося правесці ў Мінавым шалашы. Агню не раскладалі, і ў гарлавіну шалаша глядзелі яркія жнівеньскія зоркі. Мігцелі яны ўрачыста і патаемна ў сваім высокім вечным спакоі.

Назаўтра быў сонечны дзень, трымцела над полем сінявагая смуга, а ў блакітным бясхмар'і лятала белая лёгкая павуцінка. Поле, якое адшумела ячмянямі, жытамі і аўсамі, чакала новага засеву. Але сейбіты ў той дзень не прыйшлі. Труну на зялёны пагорак могілак прывезлі на машыне. Яна рухалася павольна і неяк урачыста, а за ёй у нямым маўчанні ішла вёска. Сівыя, чорныя, русыя непакрытыя галовы мужчын, белыя і чорныя жаночыя хусткі. Труна абабітая чырвонай тканінай, і замест крыжа — пафарбаваны ў чырвоны колер драўляны абеліск...

— Мы паставім табе гранітны помнік, Максім. Ты, як першы калгаснік, заслужыў... І зробім жалезную агароджу,— гаварыў над жоўтай пясчанай магілай высокі, вузкатвары чалавек.

У маўклівым натоўпе, што згрудзіўся на могілках, я ўбачыў Сашку. Хлопец зірнуў на мяне, твар яго перасмыкнуўся. Грымнуў нястройны залп з драбавікоў. На чырвоную крышку труны паляцелі жмені жаўтапёсу.

Сцяжынкай з могілак я пайшоў на раз'езд. На паўдарозе мяне дагнаў Сашка. Ён быў узбуджаны, хваляваўся, і я бачыў па яго твары, што яму хочацца сказаць нешта надзвычай важнае. Я ўзяў яго пад руку.

— Харошы чалавек быў Максім,— сказаў я.

— Харошы,— адказаў хлопец ледзь чутна, аднымі губамі, і паглядзеў мне ў вочы...

*1960*

# ЧУЕЦЕ, ХЛОПЦЫ?..

У хвіліны тугі і самоты, калі цяжар жыццёвых нягод да болю сціскае сэрца, а зрок нібы ахутваецца хісткай павалокай туману, праз якую не ўбачыш нічога нават зблізку, я спрабую аднавіць у памяці малюнкі мінулага. Магчыма, гэта слабасць. Добра не ведаю. Толькі ў кожнага павінны быць, здаецца, моманты душэўнага ўзлёту, якія не сорамна прыгадаць. Бо калі чалавек узляцеў аднойчы, ён здолее гэта зрабіць яшчэ і яшчэ раз...

Мае хлопцы, мае бедалагі! Сысціся б нам разам, парагатаць, пасмяяцца. Бачу цябе, вясёлы Цішка Дрозд, твой заўсёды смяшлівы твар і разумныя шэрыя вочы. Іншы раз мне здаецца, што зборы ў тваёй хаце, кнігі, якія мы праўдай і няпраўдай цягалі з усіх пасялковых бібліятэк, нашы гарачыя спрэчкі і дыспуты — самы шчаслівы час майго жыцця. Часта я так думаю. Было ж у жыцці нешта большае, было тое, пачынаючы з чаго, усе мы сталі глядзець на сябе трошачкі з большай павагай, але ўсе сцяжынкі з той вяршыні, на якой мы разам апынуліся, вядуць у тваю пахілую хату, якой ужо, мабыць, нават няма на свеце.

Кім ты збіраўся стаць, Цішка? Здаецца, канструктарам. Не журыся, браце, што, можа, і не зусім выйшла. Садзіш ты дубкі, і хто ведае, можа, гэтая работа нават лепшая за тую, пра якую ты трызніў у сямнаццаць. Самалёты, якія ты збіраўся канструяваць, хутка старэюць, пішуць нават, што яны наогул учарашняе слова тэхнікі. А дубы будуць расці заўсёды. Заўтра іх, можа, будуць садзіць больш, чым сёння. Бо наўрад ці адмовіцца наш нашчадак ад звычайнай чалавечай спакусы паляжаць у цяньку пад дрэвам. Самалёт ён замяніць ракетай, а дуб і сасну не замяніць нічым...

А ты, Мікола? Хоць ты і таіўся і ніколі не выказваў сваіх намераў, але мы бачылі цябе на трыбуне. Хто лепей за цябе ведаў гістарычныя даты, цытаты з Маркса, хто глыбей разбіраўся ва ўсім тым, што ў пару захаплення вершамі мы называлі сумным словам — эканоміка. Зрэшты, ты робіш тое, што найбольш імпанавала твайму сэрцу: вучыш. Ахопленыя бескарыслівым юнацкім прароцтвам, мы, вядома, не думалі, што ты будзеш тлумачыць стрыжаным першакласнікам сэнс

вялікіх і малых літар. На такое б мы ніколі не згадзіліся, мы ўяўлялі цябе настаўнікам усяго чалавецтва. Не крыўдуй, Міколе, грэшныя гэтым усе мы, твае сябры, бо замахваліся ў жыцці на нешта большае.

Ты вучыш людзей, сябар. З літар складаецца слова, жывое, чалавечае, несмяротнае. Колькі такіх слоў панясуць у жыццё твае першакласнікі? Якім словам будуць успамінаць цябе, свайго першага настаўніка?

Чацвёрты з нас, Грыша, спачывае даўно... Ніколі мы з ім болей не спаткаемся. Не пацiснем яго дужай, сумленнай рукі. Мы нават не ведаем, кім ён хацеў быць: не паспеў расказаць, а можа, не паспеў выбраць і ў думках сваёй жыццёвай зоркі. Ён трошкі саромеўся нас, сваіх хлопцаў, саромеўся таму, што адстаў у школе на клас. Чытаў тыя самыя, што і мы, кнігі, спрачаўся, а пра сваю зорку не расказаў. Толькі, можа, я хлушу, хлопцы?..

Памятаеце лістападаўскі вечар, дождж разам са снегам, пахілую Цішкаву хату, дзе мы найчасцей сыходзіліся? Мы любілі самастойнасць і не хацелі чужых вачэй і вушэй. Проста гэтага не дазваляла справа, за якую мы пачыналі брацца. У Цішкі было найлепш: ніхто нічога не чуў і не бачыў. Помніш, Мікола, як ты прынёс у той вечар пад крысом свайго шэрага, перашытага з шыняля пінжака нашу першую зброю — вінтовачны ўрэзак? Я і цяпер не ведаю — можа, ты не расказваў, а можа, я забыў: столькі ж прайшло часу з тых дзён,— дзе ты яго ўзяў. Урэзак з выгляду быў нягеглы: доўгі, неабрэзаны прыклад і кароткі, надломлены ствол. Нехта, хто ў вайсковай справе разбіраўся не надта, трохі нам напсаваў: надрэзаўшы напільнікам ствол, ён спрабаваў яго пераламаць, як палку, таму знізу на дуле і асталася загнутая сталёвая паска. Але мы не бедавалі, бо затвор хадзіў гладка, быў спраўны, астатняе залежала ад нас саміх.

Мы радаваліся ў той вечар, хлопцы, хоць нам было нярадасна, бо немцы пісалі, што забралі Маскву. Радаваліся першай зброі, з якой можна страляць. Пра што другое мы маглі ў той цяжкі час думаць?

Гэта ён, Грыша, у той вечар прапанаваў нам, памятаеце, хлопцы?.. Ён зноў трохі саромеўся, бо думаў, што мы прымем яго словы за жарт. Ён тады сказаў, што трэба нам вывучыць

«Інтэрнацыянал» па-нямецку. Мы яго зразумелі адразу, хоць самі пра гэта яшчэ не падумалі.

Памятаеце, Цішка і Мікола, як на другі вечар мы сабраліся вывучаць гімн і прынеслі кожны па падручніку, у якім ён быў надрукаваны? У адной кнізе, я забыў у чыёй, словы «Інтэрнацыянала» былі не такімі, як у трох астатніх. Гэта быў проста ранейшы пераклад на нямецкую мову. Але мы рашылі вывучыць па тых падручніках, на якіх стаяла навейшая дата выпуску.

За вечар мы вывучылі першыя восем радкоў. Болей неяк не прыйшлося. Але болей, бадай, і не трэба было, бо наўрад ці далі б нам даспяваць пры такіх умовах, на якія мы разлічвалі. У Грышы было горшае, чым у нас, вымаўленне нямецкіх слоў, бо ён вучыўся ў вячэрняй школе, а там патрабавалі менш. Але разам у нас атрымлівалася суладна і хараша. Памятаеце, хлопцы:

Völker hört die Signale
Auf zum letzen Gefecht,
Die Internationale
Erkämft das Menschen recht!

Мы, вядома, не былі ніякімі героямі. У вайну, што прайшла, мы, можа, не зрабілі і сотай часткі таго, што другія, кім мы па-сапраўднаму ганарыліся і захапляліся. Але і за тое, што мы рабілі, нас маглі павесіць. Колькі разоў нас маглі павесіць, хлопцы?..

Памятаеце, мы не хацелі, каб нас вешалі. Расстрэл здаваўся нам куды прыгажэйшым.

Калі Грышу арыштавалі, мы не баяліся, што ён нас выдасць. Яго схапілі параненага, са зброяй, і мы ведалі, што яго чакае. Мы не хацелі толькі, каб яго вешалі. Ля вісельні не спяваюць. Яго расстралялі. У эсэсаўцаў хапіла сумлення прызнаць, што ён салдат. Мы не чулі, хлопцы, але я веру, што ён праспяваў тады, калі ў яго стралялі, тыя восем радкоў, якія мы вывучылі на памяць.

Але так было толькі тады, у цёмную ноч акупацыі. Пазней усё перамянілася. У мяне быў яшчэ выпадак.

Перад самым канцом вайны мы занялі нямецкі горад, чысты і неразбураны. На яго ўскраіне размяшчаўся вялікі, абнесены дротам лагер. Гэта быў не канцэнтрацыйны, а звычайны

рабочы лагер, хоць ён меў калючую агароджу, баракі і вышкі для вартавых. Калі нашы танкі праязджалі паўз лагер, з яго варот ірвануўся вялікі, пярэсты натоўп. Там былі розныя людзі, і ўсе яны радаваліся, убачыўшы нас. Былі ў натоўпе і нашы дзяўчаты — мы іх пазналі па гаворцы.

Вечарам трое нас, запыленых і замурзаных танкістаў, трохі выпілі. І тады прыйшла думка схадзіць да дзяўчат з лагера. Мы пагаліліся, памыліся, наглянцавалі боты і, калі спусцілася вясновая ноч, цішком шмарганулі з ляска за горадам, дзе стаялі нашы танкі.

У вароты лагера мы прайшлі незатрыманымі — вартавых не было. Лагер не спаў, у бараках чуліся галасы. Мы спыняліся ля кожнага і прыслухоўваліся, каб улавіць знаёмую гаворку. Раптам да нашага слыху данеслася знаёмая велічная мелодыя. Спявалі «Інтэрнацыянал» напаўголаса, на невядомай нам мове... Людзі ў лагеры — многа тысяч людзей — жылі нечым прыгожым, вялікім, што не часта бывае ў жыцці. Я тады ўспомніў Грышу і вас, хлопцы. Мы, не згаворваючыся, павярнулі назад, да варот. Проста мы прыйшлі ў лагер трохі запозна. Машыны, апроч таго, маглі зняцца з месца і ноччу. Такія выпадкі здараліся. Вайна яшчэ не скончылася...

*1960*

# 1961

## БЫЛІ ДРЭВЫ

Канец нашай вуліцы прылягаў да чыгункі, да самага пераезду, за якім між жытоў, ячмянёў, аўсоў — аж да сіняга лесу — курэў пылам шырокі пясчаны шлях.

Імчаліся на ўсход і захад цягнікі. Дабіраліся да чыгункі, да станцыі жыхары з навакольных вёсак і сёл. Увесь рух жыцця ў невялікім абсягу мястэчка тварыўся ў нас на вачах.

Апошняй перад пераездам з правага боку стаяла хата Петрыка Лося. Хата старасвецкая: глухой сцяной на вуліцу, на чыгунку, вокнамі на агарод. Але не гэтым яна звяртала на сябе ўвагу. Сядзіба Лося была як зялёны востраў. Яна аздабляла ўсю шэрую, бедную зелянінай вуліцу.

У вялікім Петрыкавым садзе расло ўсё: чырвоныя дробныя, накшталт дзявочых пацерак, райкі, мядовыя ігрушы фунтоўкі, яблыкі цыганкі, што віселі на дрэве ледзь не да самай зімы. Па ўзмежку шырокага, на паўвярсты, агарода стаялі купчастыя бярозы. Пад імі, асабліва пасля зацяжных, імжыстых дажджоў, вытыркаліся, нібы ў лесе, сыраежкі, падабабкі і вялізныя, як парасоны, мухаморы.

На вуліцы, перад Лосевым дваром, раслі чатыры таполі. Іх Петрык пасадзіў, калі яшчэ быў малады. У цяньку дрэў, на мураве, заўсёды запыняліся падарожныя. Вясковыя дзяўчаты, якія ішлі ў мястэчка, тут прыхарошваліся, абувалі чаравікі з высокімі халяўкамі, дзядзькі, якія мусілі ехаць далей па чыгунцы, распакоўвалі белыя льняныя торбы і паважна пачыналі снеданне ці абед. Вечарам пасля работы пад таполі сыходзіліся бацькі нашы — пагаманіць, пакурыць.

Мы, дзятва, таполямі ганарыліся: такіх не было на ўсёй вуліцы. Вясной збівалі з іх майскіх жукоў, лазілі на дрэвы глядзець, ці не гоняць яшчэ з пашы статак. У летні поўдзень любілі ляжаць у цяньку, сачыць за чыгункай і расказваць па чарзе розныя гісторыі. Старэйшы і самы дасціпны з нас, якому па праву належала роля завадатара, быў Хведзька Баброў, кандуктараў сын. Ён прасвятляў нас наконт таго, як пабудован гэты свет і што ў жыцці самае галоўнае. Самым галоўным Хведзька лічыў неабходнасць што-небудзь вынаходзіць.

— Паравоз выдумаў Стэфенсон,— пазіраючы ў неба, паведамляў Хведзька, калі праз закрыты шлагбаумамі пераезд грукаў таварны састаў.

— А дзе ён цяпер, гэты Стэфенсон?

— Памёр даўно. Ён жыў сто гадоў назад.

— А хто прыдумаў самалёт? — даціналі мы Хведзьку.

— Браты Райт.

— А яны жывуць?

— Адзін брат памёр, а другі жыве. Толькі ён ужо зусім стары.

— А параход хто вынайшаў?

— Фултан.

— А ён не памёр?

— Памёр.

Хведзька любіў паказваць, што ведае ўсё на свеце, фарсіў сваёй дасціпнасцю і на бясконцыя нашы пытанні адказваў як бы з неахвотай. Нам жа было дзіўна і трохі страшна: разумныя такія вынаходнікі, якія ўсё ўмелі, і раптам памерлі. Чаму яны не прыдумалі лекаў, каб ніколі не паміраць? Навошта наогул жывуць на свеце людзі? Каб памерці? Зрэшты, доўга разважаць пра смерць не прыходзілася. Былі справы больш неадкладныя. Самая галоўная з іх — сад.

Да Лосевага саду мы баяліся нават наблізіцца. Калі і перападалі нам яблык ці груша, то з рук нашых матак, якіх узнагароджвала за іх паслугі сама Ласіха. Не ведаю, чаму мы ні разу не залезлі ў гэты сад. Можа, таму, што Ласіху ўсе нашы маткі лічылі жанчынай праведнага жыцця. Яна заўсёды ведала, калі якое свята, па кім якую трэба заказаць малітву ў царкве, якой травой лячыцца ад жывата, ад раматусу. А можа, прычына была самая простая: там, дзе жывуць, стараюцца шкодзіць паменш.

Красці яблыкі мы хадзілі аж на другі канец мястэчка, дзе быў бальнічны сад. Яго вартаваў глухі на абодва вухі вартаўнік Гагуля. Днём, калі мы напаўнялі пазухі жытнікамі і наліванкамі, ён беспрабудна спаў у шалашы. Гагулю з работы не здымалі, хоць да канца лета ўсе тыя дрэвы, што стаялі бліжэй да паркана, мы абцярэблівалі начыста.

З намі ў талацэ бегаў Есіп, сын прачкі Румбы, шыракатвары, канапаты хлопец, які заўсёды хацеў есці. Яблыкаў ён налатошваў болей за ўсіх і мог іх грызці, не набіваючы аскоміны, хоць цэлы дзень. Усе гаварылі, што яго бацька — Лось. Таму амаль штодня мы дапытвалі Есіпа:

— Учора ноччу Лось да вас прыходзіў?

— Прыходзіў,— пацвярджаў хлопец.

— А што ён вам прынёс?

— Ён ніколі нічога не прыносіць...

Было незразумела: Лось жыве без дзяцей, мае немалое багацце і зусім не клапоціцца пра сына. Есіп быў апрануты горш за ўсіх, хадзіў у старызне, якую Румба прыносіла са станцыі ад тых, каму яна мыла бялізну.

Можа, па гэтай прычыне Петрык Лось выклікаў да сябе вострую цікавасць. Ён быў шчуплаваты, рухавы, хадзіў заўсёды подбегам. І неяк ён не старэў. Сівізна на скронях, сівая галава — гэта мы бачылі яшчэ тады, калі, апроч мамы і таты, толькі-толькі навучыліся пазнаваць іншых людзей, і ў тую пару, калі ўжо набліжаліся да прывабных рубяжоў самастойнага паўналецця.

Мы раслі, а Лось застыў на месцы.

Дзіўна, але праўда. Лося ставілі ў прыклад сваім гаспадарам амаль усе жанчыны з нашай вуліцы. Яго павець была поўна сухіх наколатых дроў, і гаварылі, што такога запасу ў яго не меней як на пяць гадоў. Зімовымі раніцамі, калі на дрывотнях яшчэ толькі гахалі тупымі калунамі жанкі, разбіваючы старыя, непадатлівыя карчы, каб запаліць у печы і зварыць бульбу, з коміна Лосевай хаты ўжо віўся вясёлы шызы дымок.

Уся вуліца жыла ў крэдыт, а Лось — прыпасам. Да яго хадзілі пазычаць грошы, соль, муку, а калі вясна выдавалася зацяжная, халодная — нават бульбу. Сам Лось не даваў нічога. Размяркоўвала дары між суседзямі Ласіха, высокая чарнаротая кабета, страшэнна набожная. У яе не гнуўся хрыбетнік, і

паласкалі ёй бялізну, закідвалі грады, бялілі палотны, пралі і ткалі ў аддзяку за пазычанае маладзейшыя суседкі.

Пра тое, што Лось завітвае да Румбы, ведалі ўсе. Гэта даводзіла сама яго каханка, трохі прыдуркаватая, з шырокім, як рэшата, чырвоным тварам, нязграбная, як шула. Праходзячы цяжкім, слановым крокам паўз Петрыкаву сядзібу і ўбачыўшы на двары Ласіху, яна кожны раз спынялася і, трасучы ў паветры рукамі, глухім, сіплым басам пачынала сваю амаль штодзённую размову.

— Гэй ты, сухарэбрыца! — крычала Румба праз паркан.— Ці хутка з цябе дыхлі выцягне? Я твайго Петрыка на руках насіць буду, а ты што? Ад смерці ж не адкупішся, хоць і масла жарэш...

Калі на двары ў гэты час быў сам Лось, ён выскакваў на вуліцу з віламі ці дубовым дрынам і гнаўся за Румбаю. А ўвечары, крадком, тулячыся да парканаў, ішоў да яе. Румба хвалілася жанкам, што як толькі Ласіха памрэ, яна перабярэцца жыць да Петрыка. Такое нібыта ён дакляраваў ёй сам.

Лося за яго заляцанні асабліва не дакаралі. Такія грахі вадзіліся не толькі за ім. Усё-такі Петрык быў добры гаспадар, не сядзеў склаўшы рукі і ведаў, здаецца, нешта такое, чаго не ведалі і не ўмелі нашы бацькі. Тое, што ён меў, набыў сваім адумам, калі не лічыць, што суседкі памагалі ў хатняй гаспадарцы яго прамой, як аршын, жонцы.

Міналі гады ...

Шырокі Лосеў агарод, вядома, падцiснулі, звузіўшы яго да звычайнага ўчастка, які адводзілі пад пляц. Ведаючы аб гэтым наперад, Петрык спляжыў усе бярозы, што раслі на мяжы яго агарода, папілаваўшы іх на дровы. Дровы цяпер ужо не ўмяшчаліся пад павеццю — акуратны, вялізны, як стог, штабель узвышаўся проста пасярод двара.

На колішнюю Лосеву сядзібу разам з іншымі навасельцамі перацягнула сваю хатку Румба. Яна пастарэла, пасівела за апошнія гады, праходзячы паўз Лосеў двор, маўчала, не пазіраючы нават у той бок. Але надзеі зрабіцца Петрыкавай жонкай хоць пад старасць, мабыць, не пакідала, бо ніякага іншага рэзону перабірацца на новае месца не было.

У Лося астаўся сад. Некаторыя яблыні і грушы ўсохлі, але яшчэ шмат стаяла здаровых, маладых, і па-ранейшаму зялёны куток гэты радаваў, лашчыў вока сваёй ціхмянай утульнасцю

і спакоем. Таполі на вуліцы разрасліся, высока ўзмахнулі веццем і здаля відаць былі кожнаму, хто падыходзіў ці пад'язджаў да мястэчка. Дрэвы нібы сталі часткай вуліцы, яе неабходнай прыналежнасцю.

Па-ранейшаму па вечарах збіраліся пад таполямі мужчыны: стрэлачнікі, грузчыкі, счэпшчыкі — звычайны чыгуначны люд, які пасля станцыйнага тлуму і мітусні любіў пасядзець у цішыні на мураве. Іншы раз да мужчын выходзіў са свайго двара Петрык. Сярод замурзаных, закураных чыгуначнікаў быў ён белы, чысценькі — сівая барада, валасы, чыста вымытыя даматканыя штаны, кашуля. З хвіліну пастаяўшы, Лось пачынаў скардзіцца на Румбу і яе сына.

— Спакою няма,— сыпаў ён словы тонкім, пісклявым голасам.— Калі ён ужо настане, той спакой?.. З самага рота вырываюць. Крадуць яблыкі і валакуць на базар мяхамі. А я ж стары. З чаго мне жыць, старому, скажыце?

Мужчыны маўчалі. Ніхто з іх, мабыць, сур'ёзна не верыў, што Румба багацее, жывучы побач з прагавітым Лосем.

Але аднойчы здарыўся выпадак. Румба слепла, працаваць яна не магла ўжо зусім. Яе Есіп хадзіў на чыгунку — нагружаў і разгружаў вагоны. З таго, што ён зарабляў, яны жылі ўдваіх.

На Спаса Есіп узлез, па загаду маці, на паркан і стаў калаціць той бок Лосевай грушы, які навісаў над цяперашнім Румбіным агародам. Румба, відаць, меркавала, што мае права на грушы, бо з-за ценю, які падаў ад дрэва, тут, на гэтай лапінцы яе агарода, не расла бульба.

Потым пачуўся крык. Калі ўсе агледзеліся, Есіп ужо ляжаў на зямлі, на сваім агародзе, з рота ў яго цякла кроў. Азіраючыся па баках, прыгінаючыся пад дрэвамі, з саду ў двор бег Лось з вялізным калом у руках...

Неяк непрыкметна, пад восень, калі на зямлю падае ліст і цяжка адрозніць жывое дрэва ад нежывога, Лосеў сад засох. Гэтага б, можа, і не заўважылі адразу, каб за адну ноч не зніклі ўсе чатыры таполі. Галлё Лось склаў на выгане ў акуратныя лаўжы і спаліў, а камлі перацяг у свой двор і пілаваў іх на дровы пілой-аднаручкай два тыдні. Скончыўшы работу, лёг і памёр. Нібы прадчуваў смерць і што было моцы стараўся завяршыць справы на зямлі...

*1961*

## «КУКУРУЗЬКА»

Вёска называлася Лес, а калгас — «Чырвоны Лес»...

Нічога чырвонага ў навакольных бярэзніках, нізкарослых балотных сасняках з багуном і камарыным раем, вядома, не было. Назву далі ў той памятны год, калі ўсе навакольныя вёскі нібы нараджаліся нанава, атрымліваючы гучныя, урачыстыя імёны.

У той жа год у Анікея Моркаўкі нарадзіўся першы сын, і ён назваў яго — Трактар. Суседзі нямала тады парагаталі, павыскалялі зубы, гадаючы, як Анікей назаве наступных дзяцей. Ледзь не ў адзін голас парашылі, што калі народзіцца дачка, то будзе звацца не іначай як Камуна.

Анікея ў вёсцы ўсур'ёз не прымаў ніхто. Быў ён вераб'інага росту, трапяткі, непаседлівы. На вузкім тварыку глыбока сядзелі мітуслівыя вочкі-проразкі, носік чырванеў пры самым невялікім холадзе і раз-пораз, нібы сам сабой, шморгаў. І толькі голасам — пісклявым, прарэзлівым і незвычайна зычным — выдзяляўся Анікей. Ад гэтага голасу, асабліва калі Анікей крычаў на сходах, бліжэйшыя суседзі на лаўках затыкалі пальцамі вушы.

Да вайны «Чырвоны Лес» ішоў ніштавата: пяскі і падзол, раскіданыя астраўкамі па лясных прагалах, ураблялі як трэба, на гной не скупіліся, і хлеб елі. Наогул вёску заснаваў народ жвавы, напорысты: парабкі, што селі на зямлю толькі ў дваццатым годзе, сяляне з навакольных старых сёл, чые надзелы да таго звузіліся, што суседу з суседам стала цяжка размінацца плугамі.

Анікей з першага ж года быў на нажах з калгасным кіраўніцтвам. Козыры ў яго меліся заўсёды. Ён такі сёе-тое ведаў: цэнтральную газету выпісваў адзін з усяе вёскі яшчэ задоўга да таго, як арганізаваўся калгас, і прачытваў яе ўсю, якая б пільная работа ні чакала яго ў гаспадарцы. Пошту ў тыя гады прывозіў дзікаваты, чорны як грак балагол Беня, дзеля гэтага ён даваў круку, зварочваючы з пясчанага гасцінца, які вёў ад станцыі да мястэчка, і грукаючы на сваёй рысорнай таратайцы па пнях і карэнні да вёскі.

Зімой і ў непагодлівыя асеннія дні Беня не паяўляўся па тыдню, і тады Анікей, накінуўшы на плечы шэрую, прапале-

ную на правым крысе світку, подбегам трухаў у мястэчка, за дванаццаць вёрст, каб атрымаць свае газеты.

Была газа — ён вечарамі чытаў пры лямпе, становячыся нагамі на спецыяльна выразаны для такой патрэбы бярозавы чурбак, каб дацягнуцца да бляклага святла вісячага васьмерыка. Жонка даўно спала, а ён чытаў. Хлопцы, якія апоўначы вярталіся з пагулянкі, запрыкмеціўшы ў акне шчуплую Анікееву постаць, што нібы вісела пад самай столлю ў паветры, заходзіліся дзікім рогатам, свісталі, галёкалі. Але ён не зварачаў на гэта ніякай увагі, і яны з цягам часу аціхалі.

Газы найчасцей не было, і Анікей — да дамашняй работы не вельмі кідкі і рупны — з самага ранку гахаў на дрывотні, секучы сасновыя смалякі і карчы. У яго двары магло не быць дроў, але лучыны заўсёды хапала. Камінок да поўначы так і палаў: Анікей чытаў газету.

Першым старшынёй у «Чырвоным Лесе» ледзь не да самай вайны быў Гаўрыла Корбут, гаспадар, па сутнасці, някепскі ў межах таго абсягу, які належаў калгасу з сарака двароў. Але ніводны сход не абыходзіўся без таго, каб Анікей не выступіў супраць Корбута з самай бязлітаснай крытыкай.

— Ты куды гэта нас, Гаўрыла, вядзес, я ў цябе пытаюсся? — крычаў Анікей, размахваючы рукамі і падступаючы да самага стала, за якім сядзеў старшыня, вялізны, плячысты — волат супраць Моркаўкі.— Разві правіцельства і парція так прызывае, як робіцца ў нас тутака? Хто на Працыстую тры дні гуляў, я пытаюсса? Увесь калгас гуляў стараразымны, рэлігійны празнік, а ты дзе быў, прадсядацель? Заместа канкрэтнага рукаводства ты к брату ў Лемяхі ездзіў. Авёс мысы тоцаць, два кані вікі аб'еліся, не падохлі цуць, а ты к брату паехаў піць самагонку. Разві ета правільна, я пытаюсса?.. Разві такоя рукаводства моза прывесці нас да культурнай і зазытацнай зызні?..

Моркаўка ведаў усе пастановы, усе законы, і крыць супраць яго было нечым. Корбут проста прапускаў яго словы міма вушэй, пазіраючы ў час Анікеевай прамовы некуды ў столь, думаючы сваё, і толькі калі на сходзе прысутнічаў хтонебудзь з раёна, асабліва калі свежы чалавек, старшыня неспакойна ёрзаў, хмурыўся, і яго шырокі круглы твар наліваўся яшчэ большай барвовасцю.

З Анікеем зладу не было. Ён не прапускаў ніводнага промаху, нядбайства ў гаспадарцы, каб не абрушыцца на вінаватых, не прыпомніць ім усе іх мінулыя, даўно забытыя грахі. Ён не баяўся выступіць хоць супраць усяе вёскі, і калі ў час прамовы на яго ззаду гыркалі, падколвалі кепікамі, ён паварочваўся тварам да сходу і шарсціў усіх па парадку.

— Вот ты, Змітро, брыгадзір называесса,— крычаў Анікей.— А сказы, хто Бураковай Ганні трудадні паставіў за юнь месяць? Бацыў яе хто на полі ці не, я ў цябе пытаюсса? Зонкі табе мала, да ўдавы бегаес і калхозным дабром за ета рассцытваесса... А ты не барані яго, Мікіта, лепс успомні, як ты скінуў сабе ў двор мясок калхознага зыта...

Брыгадзір Зміцер Палуян роў, як павярэджаны бык, і тут жа, на сходзе, лез да Анікея з кулакамі, крычаў, аж захліпаўся Мікіта, так што прыходзілася ўмешвацца мужчынам, каб развесці крыкуноў. Але Моркаўку гэта не бянтэжыла. Ён гнуў сваё.

Мог Анікей ні з таго ні з сяго проста пасярод вуліцы спыніць каго ён хацеў і выказаць яму ў вочы ўсё, што аб ім думае. Мужчыны — тыя проста адмахваліся і, мацюкнуўшыся, ішлі прэч. Але ён не мінаў і жанок, хоць з імі было б лепш не звязвацца.

— Абцэственнай сазнацельнасці ў цябе мала, Таццяна,— выгаворваў Анікей дзябёлай жанчыне, сваёй суседцы, якая адразу з чатырма вёдрамі крочыла паўз яго двор па ваду.— Адных вутак сорак стук імеес, а на гасударсцвенны заём ты на сколькі падпісаласса? На дзесяць рублей падпісаласса. Магла падпісацца, як мінімум, на сто. Ты разві не ведаес, якое ў насай стране ідзе страіцельства? Днепрагэс, ведаес, сколькі стоіць?..

— Чаго ён, людцы, да мяне чэ-э-піцца, чаго ён вя-а-жацца? — лямантавала на ўсю вуліцу Таццяна.— Чаго ён усё віж-у-уе, чаго ён со-о-чыць?..

Але літанняў Таццяне хапала ненадоўга, праз хвіліну яе апаноўваў гнеў, той безразважны жаночы гнеў, калі аб прыстойнасці гаварыць не прыходзіцца.

— Што ты — поп, што мяне спавядаеш? — Таццяна ставіла на зямлю вёдры, брала рукі ў бокі і, як хмара, насоўвалася на

Анікея.— Смурод няшчасны! Ты лепей за сваёй жонкай прасачы, папытайся, каму яна яешню скварыць і хто яе водзіць у каноплі!..

Жонкай вясковыя жанкі ўпікалі Анікея часта, але ўсё, што яму гаварылі, ён таптаў пад ногі. А гаварылі благое: нібыта і брыгадзір Зміцер гасцяваў у яе, калі Анікей ездзіў на лесанарыхтоўкі, і нейкі міліцыянер з мястэчка быццам не мінае двара, калі наязджае ў вёску. На сямейным жыцці Анікея гэтыя гаворкі не адбіваліся ніяк. Жонка яго — увішная, старэйшая за Анікея гадоў на пяць кабета — пастаяць за сябе ўмела. Дома да мужа яна адносілася ласкава, як да малога дзіцяці, сварак між імі ніколі не было. Анікей не піў, не курыў, не гуляў у карты, а на чытанне газет жонка глядзела як на забаву.

Моркаўку ні разу не вылучылі кладаўшчыком, рахункаводам ці нават у рэвізійную камісію, хоць ён жыў сумленна, рукі ў калгаснае не запускаў, а ў сэнсе адданасці грамадскай справе стаяў вышэй і за брыгадзіра, і за старшыню. Проста Анікея лічылі дзіваком, злосць на яго калі хто і меў, то толькі пад гарачую руку, і ўспаміналі аб ім, калі хацелася парагатаць, расказаць што-небудзь смешнае. Зрэшты, сам ён быў чалавекам бяскрыўдным, пасад не дамагаўся, а калі крычаў на сходзе, на вуліцы, то на гэтым усё і канчалася.

Ніхто не цікавіўся Анікеем, таму і не здагадваўся нават, што гэты слабы, хваравіты і, зрэшты, не надта пісьменны чалавек мерае жыццё і людзей вельмі высокімі меркамі, судзіць іх, не даруючы ніякіх дробязей, слабасцей, з вышыні той новай, блізкай яго душы праўды, у якую ён паверыў, адмовіцца ад якой не мог.

Моркаўка быў адзінокі. У кампаніі, калі, патаемна ад жонак, дзе-небудзь на загуменні сходзіліся мужчыны, таропка выцягвалі з-пад палы запацелыя паўлітроўкі і закусвалі чым прыйдзецца, ён не хадзіў, на бяседы ў святы, на нярэдкія ў вёсцы хрэсьбіны, вяселлі яго не запрашалі. Жонка — тая хадзіла сама, звалі яе ці не звалі. А ён, нават у тыя гадзіны, калі ўся вёска заходзілася ад песень, музыкі, скокаў, ад нястрымнай, п’янай весялосці, мог сядзець адзін у хаце, ціха варушачы тонкімі сінімі губамі, чытаць газету або думаць штосьці сваё, незразумелае гэтым вясёлым, бесклапотным людзям.

Зрэшты, з адным чалавекам ён усё-такі неяк сышоўся, зблізіўся — з самім старшынёй калгаса Корбутам, праўда, у той час ужо, калі Гаўрылу са старшынства знялі. Гэта здарылася ледзь не перад самай вайной. Летняй ноччу аўчарнік, які стаяў наводдаль ад вёскі ў хмызняку, запаліла маланкай, і пакуль хапіліся — згарэў і будынак, і авечкі. Корбуту пагражаў суд, следчы, які прыехаў з раённай пракуратуры, завёў на яго цэлую папку — усё хадзіў, выпытваў, запісваў. Канчаткова Корбутаву справу павінен быў вырашыць агульны сход. Следчы і прадстаўнік з раёна, які прыехаў здымаць Корбута, самыя вялікія надзеі на гэтым сходзе ўскладалі на Моркаўку — яго слава нястомнага крытыкана была вядома.

Бліжэйшае старшынёва акружэнне — брыгадзір, рахункавод, кладаўшчык — пашыліся ў куткі і сядзелі там, як рудыя мышы, нават слова не пасмелі прамовіць у абарону свайго старшыні. Яны ўжо загадзя парашылі, што Гаўрыле — капцы. Пералом у настроі сходу зрабіў Анікей.

— Хочаце сказаць, сто вінават адзін Корбут,— закрычаў Анікей.— Паліціцаская блізарукасць, і больс ніцога не выйдзе з етага. Калгас — есць дабравольнае абцесцвенае хазяйства, і за абцесцвенае дабро далзны ўсе атвяцаць, а не адзін Гаўрыла. А сто громаадводаў нет — райвон вінават, які не прыслусваецца да ўказанняў парціі і правіцельства. Нігдзе па калгасах нет громаадводаў, хоць наса навука даўно дайсла да етага. Мозат ясцэ дваццаць аўцарнікаў згарэць. Мозат сам пракурор згарэць, бо і ў райвоне нет громаадводаў...

Анікеева прамова на гэты раз была выслухана з вялікай увагай і адабрэннем. Пасля яго загаварылі другія. Зняць Корбута з пасады знялі, але хоць і згарэла сто дваццаць авечак, пад суд яго не аддалі.

Корбут, які цяпер, як і ўсе, стаў хадзіць з касой і граблямі, часцяком загаварваў з Анікеем, а іншы раз нават заглядваў да яго ў хату.

— Дзіўны ты нейкі чалавек, незразумелы,— гаварыў ён Анікею.— Па шчырасці табе скажу: ні ў грош я цябе не ставіў, як быў старшынёй. Думаў — балаболка недавучаная, пляткар. А ты ўсё ж чалавек. Толькі ўсё адно нейкі ты такі... Ну, як бы з неба зваліўся. Хочаш, каб па закону ўсё было, па інструкцыі.

А курыца і тая ж па закону не жыве. Сёння тут яйка кіне, заўтра — там...

— Курыца моза, а цалавек не моза. Долзан за цалавек імець цэль,— гарачыўся Анікей.— Парція і правіцельства прызываюць нас к правільнай зызні. Ты з газеты цытаес...

— Ды зразумей жа ты, галава садовая. Хіба ж я супраць чаго-небудзь такога? Мы цяпер лепей жывём, як даўней жылі, гэта правільна. І яшчэ лепей жыць хочам, хоча кожны. Але ж людзей так проста адным хапам не зраўняеш. Адзін — туды, другі — сюды, гэта ж людзі табе, а не што. Ты коней запражы ў воз — адзін цягне, другі падвільвае, бесславесная скаціна і тая, бачыш, хітруе. А ты ад чалавека хацеў. Кожны стараецца, каб яму першаму лепей было. Праз гэта і закон абходзім маўчком, цішком, адзін гэтым бокам, другі — тым...

— Знацыць, несазнацельна зывём. Не далзно так быць,— стаяў на сваім Анікей.

Пераканаць яго было нельга...

На вайне ён прабыў усе чатыры гады, не на фронце, праўда, а ў дарожна-будаўнічым батальёне і ў пантоннай часці. Прынёс чатыры медалі, у выцвілым рэчавым мяшку — банку кансерваў і буханку хлеба, дарожны свой паёк. Старэйшага сына ледзь пазнаў, перад ім стаяў дужы шыракаплечы хлапец, вышэйшы за бацьку. Зваўся ён цяпер ужо не Трактар, а Тарас: маці перахрысціла, з папом нават, у першы год акупацыі.

Справы ў «Чырвоным Лесе» пайшлі — горш не прыдумаеш. Ледзь не палавіна мужчын не вярнулася з вайны, а многія з тых, што вярнуліся, кінуліся ў адыход, на жывую капейку — хто ў леспрамгас, хто на чыгунку.

Анікей астаўся ў калгасе: араў, касіў, два ці тры гады быў конюхам. Усе заўважылі: вайна яго неяк перамяніла, перайначыла. Не тое каб ён стаў цішэйшы, не, спакойна гаварыць ён не ўмеў і цяпер, лямантаваў па-ранейшаму, але ва ўсім тым, што ён даводзіў сходу ці каму-небудзь паасобку, паявілася больш развагі, нейкі роздум, пошукі.

Недзе яшчэ ў тыя далёкія цяжкія гады на кожным сходзе Анікей пачаў крычаць пра кукурузу.

— Ета з цорт ведае сто палуцаецца. Зацараваны круг палуцаецца. Уразай добры не палуцыс без гною, а зыватнаводства не падымес без уразаю. Сто насы каровы ядзяць? Асаку ядзяць.

Так зыватнаводства не падымес, а без зыватнаводства ўразаю не падымес. Я прайсоў тры страны — Украіну, Румынію і Балгарыю. Усюды кукурузу сеюць, і каровы ад етага там сытыя, мясныя і малоцныя. Ета з настаясцая багацтва — кукурузя. Разві яна ў нас не расце? А цаму мы не сеем?

Кукуруза ў «Чырвоным Лесе» расла. Яе тут называлі кіяхамі і садзілі яшчэ Анікеевы дзяды і прадзеды. Садзілі ў агародзе каліў сто ці трохі болей для невялікай патрэбы — на кашу. Ніхто, вядома, не думаў аб тым, што кукурузай трэба карміць кароў і свіней.

Да Анікея цяпер прыслухоўваліся болей, чым раней, але, мабыць, і аграному не прыйшло б у галаву падымаць такім шляхам гаспадарку.

Пра кукурузу Анікей крычаў упарта — год, два, тры... Але яго трыумф менш за ўсё быў звязан з ім самім. Пачалося з узвышэння яго сына — Трактара-Тараса. Бацькі нібы ў ваду глядзелі, даючы яму такое імя. Тарас, калі вучыўся яшчэ ў сямігодцы, сядзеў на плугах за прычэпшчыка. У армію пайшоў трактарыстам, вярнуўся механікам. Працаваў у МТС, скончыў курсы, завочна паступіў у тэхнікум. Калі МТС ліквідавалі, яго запрасілі механікам у вялікі, узбуйнены калгас, у які цяпер на правах звычайнай брыгады ўваходзіла вёска Лес.

Сын не падобен быў на бацьку ні знешнасцю, ні характарам: рослы, дужы, стрыманы ў словах і пачуццях. Тэхніку ведаў, і яго запрашалі на працу ў другія, багацейшыя калгасы. Але ён пайшоў у свой.

Пры сыне — начальніку над усёй калгаснай тэхнікай — першую ў жыцці кіруючую пасаду заняў і Анікей. Яго прызначылі звеннявым па кукурузе.

Моркаўка, праўда, выхваляўся, даказваючы, што заўсёды ён стаяў за кукурузу, але ў той час, калі яе пачалі сеяць, ніхто пра гэта асабліва не ўспамінаў. Тым болей што ў Анікея на першым годзе яго кіравання звяном выйшаў поўны правал.

Звеннявых склікалі ў раён, тры дні чыталі ім аграномы лекцыі, як сеяць, даглядаць кукурузу, і дамоў вярнуўся Анікей з сшыткам, спісаным вялікімі, крывымі літарамі. Са свайго боку ён не пашкадаваў старання, каб прылучыць да навукі, зведанай ім самім, бабуль і жанок, запісаных у яго кукурузнае звяно. Ён пабываў у кожнай хаце, крычаў там, даказваў, бо

жанчыны не вельмі яго слухалі. Як садзіць кіяхі і калі, яны ведалі, таму Анікееву навуку лічылі непатрэбнай.

Пры сяўбе вынікнуў канфлікт. Тэрмін сяўбы Анікею прызначыла праўленне, праўленню — раён. Жанчыны ж — усё звяно — у адзін голас заявілі, што кукуруза не ўзыдзе, бо зямля халодная. Самі яны для агародаў яшчэ толькі прарошчвалі насенне ў цёплых пячурках. Але Анікей паставіў на сваім.

Кукуруза не ўзышла. Усе чатыры гектары. Сям-там прабіліся кволыя раслінкі і адразу пачалі жаўцець. На поле немаведама адкуль зляцелася процьма гракоў, якія бязлітасна выдзёўбвалі гэтыя безнадзейныя ўсходы.

Анікей той вясной цяжка занядужаў і праляжаў два месяцы.

Усё ж ён ад свайго не адступіў. Не мог ён пагадзіцца, што звычайныя, даўно знаёмыя яму бабулі, якія ніякай навукі не ведалі, разумнейшыя за вучоных аграномаў. З пасады Анікея не знялі, у астатніх калгасах з кукурузай было мала чым лепей, і на другую вясну ён зрабіў па-другому.

За год ён наведаў раённую сельгасінспекцыю не меней чым сорак разоў. Так паспеў абрыдзець усім яе работнікам, што яны ад яго ўцякалі, але затое вясной дамогся, што ў калгас, у дадатак да мясцовага агранома — маладой ружовашчокай дзяўчыны, прыехаў сам галоўны аграном раёна. З Анікея, яго няўрымслівасці, гэты хваравіты, апрануты ў зімовае паліто чалавек пасмейваўся, але за нешта ён і паважаў Анікея, бо прасядзеў у брыгадзе, зрэдку адлучаючыся, тры тыдні — увесь час, калі рыхтавалі насенне, глебу і сеялі кукурузу.

Кукуруза ўзышла і вырасла...

Трэба было бачыць Моркаўку: ён штодня шастаў высокім бадыллем, хаваючыся ў ім, як малады заяц у трысці, выскакваючы то на адным, то на процілеглым беразе зялёнага вострава.

— Во, кукурузька! — крычаў ён кожнаму, хто ішоў ці ехаў паўз поле.

Можа, упершыню дзікаваты чалавек гэты дзяліўся з другімі сваёй радасцю і згодай...

*1961*

# НЕГРЫ Ў МІНСКУ

Дом, у якім я жыву,— пачарнелы ад копаці, са шкляным прасветам на даху — стаіць насупраць самай вялікай гасцініцы ў горадзе. Дом па-свойму адметны: ён выстаяў пад бомбамі — адна ці дзве трапілі ў яго, але ён не рухнуў, і толькі звілістая трэшчына, нібы маршчына на твар, лягла на яго фасад. Тады ж, у вайну, ён гарэў, але не згарэў, а толькі пацямнеў, закурэў. Такіх дамоў, асабліва ў цэнтры горада, які напавал ляжаў у руінах, знойдзеш няшмат. Яны — нібы тыя салдаты-ветэраны, што асталіся жывыя пасля самых страшэнных боек.

Мірныя вятры прашумелі над горадам, і ён, шматпакутны, але жывы, падняўся да сонца светлымі аграмадамі карпусоў, лёг шырокімі праспектамі, плошчамі. Горад старажытны, старэйшы за летапіс, у якім упершыню ўпамінаецца яго імя, нараджаўся зноў.

Па суседству з маім домам сталі новыя, сучасныя ў сэнсе архітэктуры. Яны падперлі яго сваімі плячамі і, як гавораць спецыялісты, уключылі ў адзіны ансамбль. У астатнім дому пашанцавала не дужа. На яго сценах не віселі маляры ў сваіх люльках, а на старым даху толькі ў мясцінах найбольш буйных прабоін нацягнулі лісты новай бляхі. Вадасцёкавыя трубы пražжавелі, яны абрываліся недзе на вышыні трэцяга паверха, і ў вялікі дождж вада ляцела на асфальт, як горны паток...

Вядома, сталася так не таму, што дом берагглі, як рэліквію. Проста не дайшлі рукі. Але тое, што дом стаіць якраз насупраць гасцініцы, мае свае вынікі.

З ранку да позняй ночы шуміць гасцініца галасамі. Прыязджаюць у горад не толькі з Масквы, Ленінграда, Баку, далёкага Уладзівастока, але і з замежных краін. У летнія месяцы паток зарубежных турыстаў такі напорысты, што яны амаль цалкам захопліваюць гасцініцу. На гасцінічным двары машынам цесна, яны выстройваюцца ўсцяж вуліцы, дзве ці тры заўсёды стаяць пад вокнамі старога дома. Машыны самых разнастайных фірмаў, марак, колераў: ёмістыя, як пасажырскія вагоны, аўтобусы з таблічкай: «Лондан — Масква», вёрткія гоначныя легкавікі, сямейныя лімузіны з рашоткамі наверсе пад паклажу, чырвоныя, сінія, зялёныя, жоўтыя...

Гасцініца, ва ўсякім выпадку яе парадны ўваход, мае свой трывалы, замацаваны гадамі побыт. Ля ўвахода гадзін з

васьмі раніцы дзяжураць хлапчукі. У іх кішэнях — разменная манета, а ў запацелых кулаках — набор адштэмпеляваных марак. Хлапчукі вядуць сумленны абмен, яны дарма не хочуць чужога. За чужаземны пенс ці су яны шчыра прапануюць родны медны пятак, за сваю саракакапеечную ці рублёвую марку — замежную марку, нягледзячы на тое, колькі яна каштуе.

Канвенцый, заключаных паміж краінамі, наконт парадку абмену дробнай манеты і марак, відаць, не існуе, але парадак даўно ўсталяваўся, набыў трывалыя формы сам сабою. Я не раз бачыў, як паважныя, высокія англічане, рухавыя італьянцы з чорнымі вясёлымі вачамі, маўклівыя, задуменныя грэкі-гарнякі, металісты ці шафёры з самым сур'ёзным выглядам схіляліся над хлапчукамі, агрубелымі пальцамі перабіралі на іх далонях манеты і маркі, прапаноўваючы ўзамен свае, і абодва бакі з дапамогай двух-трох знаёмых слоў цудоўна дамаўляліся і разыходзіліся задаволеныя.

Замежныя машыны, асабліва калі яны чым-небудзь вызначаюцца, заўсёды акружаны гуртам цікаўных. На першым часе мне такі малюнак не падабаўся, гэта, мабыць, нейк абражала гонар: хіба мы самі такія бедныя, што дзівімся на чужое дабро? Пазней зразумеў памылку: на машыны найбольш глядзелі, як глядзяць на іх на звычайнай выстаўцы,— добрым захапляюцца, а з такога, чым не здзівіш, злёгку, бяскрыўдна пакеплiваюць.

Турысты — іх абсалютная большасць — глядзяць на горад здзіўлена. Іх знаёмства з Мінскам пачынаецца з балкона ці з гасцінічнага ганка. Горад адкрываецца мяккімі лініямі вуліц і плошчаў, якія лашчаць вока, лёгкімі анфіладамі дамоў, дзе ўсё ажурна, празрыста, натхнёна. Горад, у якім я жыву, ветлівы — я гэта ведаю, ветлівы не толькі тварамі, вачамі людзей, але і ўсім, што ў ім ёсць, сваім агульным настроем, сваёй мелодыяй. Такі горад пабудаваны для жыцця. Яго шырокія вуліцы, утульная па-дамашняму зеляніна дрэў, кветкі пасярод асфальту, спакойная, стрыманая ўзнёсласць кварталаў, якія не гнятуць душы сваёй каменнай масіўнасцю, прастор пераходаў і плошчаў, скверы, паркі — усё гэта, каб лягчэй дыхалася чалавеку, каб поўніліся яго грудзі добрымі, светлымі пачуццямі. Горад — помнік эпохі, яе песня, яе парыванне.

Я ведаю, што горад павінен выклікаць радасць, як выклікае яе прыгожы, адухоўлены твар дзяўчыны або поўная любві да жыцця мелодыя. І я раўніва гляджу на турыстаў: няўжо яны могуць быць хмурнымі, змрочнымі ў такім горадзе? Не, здаецца, я не памыляюся...

А наогул іншы раз здараецца. Кожны, хто выходзіць з гасцініцы, перш-наперш упіраецца позіркам у стары дом, у яго закураныя, перабінтаваныя цэментавымі замазкамі сцены. Некаторыя адразу хапаюцца за фотаапараты. Дом за апошнія гады падрамантавалі, навесілі ацынкаваныя вадасцёкавыя трубы, новыя, бліскучыя, перакрылі дах, а яны ўсё адно хапаюцца...

Негры прыехалі ноччу, а выйшлі на балкон раніцай, калі горад толькі-толькі прачынаўся. Быў пачатак чэрвеня, у настоенай ранішняй цішыні востра пахла маладой зелянінай. Негры стаялі на балконе і глядзелі на горад. Іх было шасцёра, рослых, дужых чорных людзей, апранутых ва ўсё белае. Толькі на нейкае імгненне яны акінулі позіркам стары дом і, не знайшоўшы ў ім нічога цікавага, прывабнага воку, разглядалі вуліцы і плошчы. Негры стаялі доўга, пакуль зусім не прачнуўся і не зашумеў горад. Потым яны зніклі ў дзвярах і выйшлі з гасцініцы: каля яе ганка тоўпіліся, як звычайна, хлапчукі.

Хлапчукі наперабой прапаноўвалі абмен маркамі і манетамі. Негры стаялі нерухома і моўчкі ўсміхаліся.

— Афрыка, Трансвааль,— гартанным голасам прамовіў адзін з неграў і дадаў: — Калонія. Чужыя грошы, чужыя маркі. Няма абмен...

І хлапчукі, мабыць, зразумелі. Нібы згаварыўшыся, яны кінуліся да чарнаскурых людзей з вялікімі сумнымі вачамі і, не просячы нічога ўзамен, шчодра надзялілі іх сваім багаццем — манеткамі, маркамі, значкамі. Мне здалося, што самі негры сталі даверлівыя, шчырыя, як гэтыя дзеці.

— Пасіба, таварыш, пасіба, таварыш...

Потым негры пайшлі па вуліцы; ім насустрач рухаўся паток людзей, якія спяшаліся на работу. На неграў глядзелі прыязна, цікаўна, некаторыя ўсміхаліся ім, спыняліся, каб паціснуць руку. З хлебнага фургона, рэзка затармазіўшы машыну, выскачыў шафёр і кінуўся цераз вуліцу наперарэз гасцям з Афрыкі, хочучы сказаць ім нешта важнае...

Негры ішлі па Мінску разгубленыя, даверлівыя... Афрыка, краіна далёкіх дзіцячых сноў... Я лічыў цябе дзівоснай і недасяжнай, як казка. Трохі пазней, ужо ў тым узросце, калі душа прагнула незвычайных подзвігаў, а школа пасеяла першыя зерні палітграматы, джунглі, кракадзілы, ільвы бясшкодна зніклі недзе ў ружовым тумане, саступіўшы месца нечаму новаму. Невядома адкуль выплыла і зазвінела ў вушах мелодыя, сумная і хвалюючая. Я ніколі не чуў, як спяваюць гэтую песню, не ведаў мелодыі, але ад гэтага яна яшчэ больш хвалявала.

У той дзень, светлы, сонечны, калі па горадзе ішлі пасланцы з Афрыкі, мелодыя ўзнікла зноў:

Трансвааль, Трансвааль, страна моя!
Ты вся горишь в огне...

Нешта сумнае і адначасна радаснае агарнула душу далёкім, нібы забытым, успамінам. Песню гэтую спявалі даўно, спявалі, мабыць, тыя, хто жыў у маім старым доме, калі ён быў яшчэ новы і калі вузкімі вулачкамі горбіўся горад. Што ж прымусіла іх успомніць пра Трансвааль — далёкі афрыканскі край? Шырыня душы, сумленнае, шчырае сэрца, якое глыбей, чым сваю, разумела чужую бяду? Ці, можа, прадчуванне вялікіх перамен? Песня ж, як і горад, помнік эпохі...

*1961*

## СНЫ

Чацвёртая рота займала тры апошнія хаты.

Не хаты, а дамы нават — вялікія, прасторныя — і мураваны скляпок — прыгрэбнік ці амшанік. Па ўсіх прыкметах, прыгарадная вёска некалі мела выгляд фарсісты: дамы з мезанінчыкамі, верандамі, на вільчыках — конікі, узорыстая разьба па аканіцах.

Усёй гэтай прыгажосці ўцалела няшмат: часцей за ўсё аканіцы, падаконнікі, нават рамы павыдзіраны; хлява, калодзежнай пабудовы, паркана не асталося на ўсю вёску ніводнага, абшарпаныя хаты тужліва стаялі на пясчаным касагоры, як

сіроты. З жыхароў у вёсцы не было ні душы. Іх нібыта пагналі на захад немцы.

Зрэшты, другому батальёну выпаў рай: першы і трэці стаялі на ўскраіне Краснага Сяла, разбуранага, знішчанага дашчэнту. Там, у горадзе, які славіўся фантанамі, нават напіцца вады не было дзе.

Дывізія вылезла з-пад Нарвы, з гнілых балот, і стаяла на папаўненні. Роты штодня праводзілі заняткі. На пустых палях, на зялёных, усеяных кураслепам, лотаццю сенажацях, у празрыстых, як паркі, бярэзніках грымела вучэбнае «ўра», капаліся па-тылавому глыбокія, на поўны профіль, акопы.

На заняткі з чацвёртай роты не хадзілі двое — ездавыя Казловы: Іван — цясляр з-пад Віцебска, які з сякераю за поясам пахадзіў па свеце, ставіў хаты па багатых сёлах і пад Масквою, і пад Вязьмаю, і Ягор — закаранелы жыхар лясной марыйскай вёскі, які да вайны нават не ведаў ні горада, ні чыгункі. Абодва мелі гадоў па пяцьдзясят, былі нестраявыя і нават у тыя дні, калі не ездзілі на палкавы склад па амуніцыю, карысталіся прывілеямі, пра якія мог марыць кожны. Але абодва былі рупныя, склаўшы рукі ў вольны час не сядзелі, і ніякіх нараканняў на іх ад камандзіра роты або старшыны не было. Іван з невядома дзе знойдзеных матэрыялаў збудаваў павець на трое ротных коней, накрыў яе старой бляхай і толем, зрабіў лавачку перад домам, дзе жыў камандзір роты, і нават пасыпаў вакол яе жоўтым пяском. Іван быў цясляр, гэта ведалі ўсе і не здзіўляліся з таго, што ён вечна што-небудзь будаваў. Ягор найбольш завіхаўся ля коней, мыў іх, скроб або карміў. Коні, якія знаходзіліся пад наглядам Казловых, заўсёды вылучаліся: яны былі гладкія, чыстыя, не падбіваліся ў самай далёкай дарозе.

Казловы жылі ў мураваным скляпку. Іван зрабіў там нары, змайстраваў столік, печачку, зашкліў невялікае акно, і прыгрэбнік ператварыўся ва ўтульнае, ціхае жытло. Нехта з байцоў выкінуў на двор самавар — пагнуты, пакарэжаны, прабіты ў двух месцах кулямі. Ягор адразу, як убачыў, падабраў яго і панёс да Івана. Удвух яны доўга раіліся, а назаўтра Іван, едучы на палкавы склад, захапіў з сабой і самавар, загарнуўшы яго ад чужога, завідлівага вока ў брызентавую папону. Праз

два дні медны самавар, запаяны, палуджаны, стаяў на стале ў скляпку і зіхацеў незвычайным бляскам.

Глядзець на самавар хадзілі ўсе, не выключаючы самога камандзіра роты. Старшына — хітры ўкраінец Музычэнка — нават заседзеўся, чухаў патыліцу і ўздыхаў, у думках дакараючы сябе за нездагадлівасць. Ён, мабыць, меў патаемны намер пазычыць самавар для камандзіра, але ўголас не выказаў гэтага, бо ўсе ведалі, што за медны бляск дорага заплачана. Казловы, якія не курылі, завезлі туды, у аружэйную майстэрню, двухтыднёвы прыпас махоркі.

Ягора, пасля таго як у скляпку з'явіўся самавар, часта бачылі на лузе; сагнуўшыся, ён ірваў нейкія зёлкі, калупаў дзёран лапаткай і выцягваў з зямлі карэнне.

Вечарам у Казловых было свята. На стале ледзь чутна звінеў самавар, дрыжаў язычок плошкі, а ездавыя ў споднія з расхрыстанымі грудзьмі сарочках сядзелі на нарах адзін насупраць аднаго і, гучна студзячы кіпяток, абліваючыся потам, чаявалі. Пайковага цукру ім хапала на дзве першыя кружкі, астатнія — аж да дзясятай — яны пілі так, шчодра разбаўляючы кіпяток духмяным травяным настоем. І маўчалі. Цэлыя тыя дзве гадзіны, пакуль пілі чай.

Усё гэта стала вядома ў роце дзякуючы Грыбіну, у мінулым дзетдомаўцу, другому нумару пры кулямёце. Той не прапусціў выпадку пагасцяваць у ездавых, а потым іх жа пры ўсіх падняў на смех.

— Чутка ёсць,— убачыўшы Казловых, паведаміў ён.— Камандзір загад атрымаў: некаторых у калгас будуць запісваць.

— У які калгас?

— У той, дзе бульбу садзяць і рэпу. Колькі хочаш будзе рэпы. Еш, хоць расперажыся. Бяжыце, бацькі, запісвацца.

Іван прамаўчаў, а Ягор, да якога насмешка дайшла не адразу, абурыўся.

— Пусты галава, доўгі язык,— сказаў ён на ламанай рускай мове.— Смаркаты сабакаў сын...

Ягора мабілізавалі ў сорак другім. Два яго сыны былі таксама ў арміі: старэйшы пайшоў па прызыву, яшчэ да вайны. Пад Смаленскам яго паранілі, і цяпер аб ім не было ніякіх вестак. Малодшы ваяваў недзе блізка, амаль побач, бо лісты

ад яго прыходзілі за чатыры-пяць дзён. Дома асталіся жонка, дачка і зусім яшчэ малы, васьмігадовы сын. Рэдкія весткі пра сябе Ягор слаў на два адрасы: сям'і і сыну. Сам пісаць не ўмеў, нават па-руску гаварыў не надта добра; пісаў за яго Іван, які пра сваю сям'ю, што была яшчэ пад немцам, нічога не ведаў і пісем ніадкуль не атрымліваў.

Бадай што ў кожным месяцы быў дзень, калі Ягор хадзіў самотны, безуважлівы, нібы на яго нападала нечаканая хвароба. Ён тады не еў, не піў, работа валілася ў яго з рук. У такі дзень ён стараўся схавацца куды-небудзь у зацішны куток і маўкліва сядзеў, ашчаперыўшы галаву рукамі, ціха пахістваючыся.

Іван ведаў, што гэта не хвароба. Ён стараўся знайсці свайго напарніка і вёў яго, як малога, у скляпок — туды, дзе яны жылі. У гэты дзень пісаліся лісты ад Ягора. Сам ён нічога не дыктаваў, а толькі з нейкім прытоеным страхам ці здзіўленнем сачыў, як паўзе па паперы Іванаў аловак, выводзячы пакручастыя значкі, падобныя на сляды па снезе. Паперы, газеты Ягор баяўся. Нават калі прыходзілі лісты з дому ці ад сына, на яго твары застываў страх. Ад усяго, што напісана чалавечай рукой, ён чакаў толькі бяды.

Іван, не ведаючы пра сям'ю нічога з самага пачатку вайны, трымаўся бадзёра, галавы не апускаў, і, мабыць, без яго Ягор даўно прапаў бы.

— Такі ўжо ён чалавек,— тлумачыў Іван.— Баязлівы, ціхі. Яго б куды-небудзь на работы якія, а не на фронт. Але што ты зробіш — вайна...

Казловы жылі дружна, разам заўсёды; Іван быў нібы за старшага над маўклівым, панурым Ягорам. З роты выбыла многа людзей — забітых, параненых, а іх, хоць ездзілі пад кулямі, мінамі, снарадамі, за два гады ні разу не зачапіла.

— Мы святыя з Ягорам, нас нішто не возьме,— тлумачыў Іван.— Іван Хрысціцель не апошні ў Бога чалавек. А пра Ягорыя Пабеданосца і казаць няма чаго...

Іван знаходзіў словы, каб гаварыць з усімі: байцамі, старшыною, камандзірам роты, нават вышэйшым начальствам, а Ягор мог даверліва і шчыра размаўляць толькі з адным Іванам. Адзін раз толькі, калі немцаў пагналі ад Порхава і Мгі, Ягор напаткаў інгермаландца — жыве пад Ленінградам невялікі

такі народ — і пагутарыў з ім па-свойму, па-марыйску. Той збольшага разумеў Ягора, а Ягор — яго. Ездавога гэта здзівіла і ўзрадавала.

— Панімайш, Іван: думал, ест удмурт, мары, мардва — малы народ, разный німнога язык, а панымайт чалавек можна. А тут жывут людзі, далеко как, дзве тысяч вёрст, і панымайт язык мары.

Упершыню Ягор і паспачуваў тады Івану:

— Эта чалавек, Іван, жыл пад немец. Смерт відэл, страх. Плоха твая сям'я, Іван. Немец — сабак, звер, стрэляйт, вешайт. Плоха...

Гаваркі, рухавы Іван умеў сысціся з кожным, але былі тайны, у якія пасвячаўся адзін толькі Ягор. Кожнай раніцы, дзе б яны ні начавалі, Іван расказваў Ягору свае сны. Сны яго былі нейкія маляўнічыя, узнёсла-радасныя, і не зусім верылася, што не маладому ўжо чалавеку можа так прыгожа сніцца.

— Бачыў я, Ягорка, сон, ох і сон,— замотваючы абмотку, пачынаў Іван.— Ведаеш, у нас за вёскай поле, шырокае, аж да самага возера, а возера, брат, таксама шырокае, цэлае мора табе, а не возера. Дык вось іду я нібыта полем, мяжой; раса пад нагамі як срэбра, блішчыць, пераліваецца, а жыта высокае-высокае, ну, увесь у ім схаваешся, каласы поўныя-поўныя, проста аж хіляцца да зямлі і шасцяць, шасцяць. А неба сіняе-сіняе, ні хмарыначкі на ім, ні воблачка. А за возерам, брат, сонца ўзыходзіць. Любата, ды і толькі. А я, значыцца, іду, дыхаю, а паветра чыстае-чыстае, здаецца, пі і век не нап'ешся яго. І так лёгка мне, і так радасна, што, здаецца, узяў бы ды і заспяваў. Вось у гэтым месцы я, брат, прачнуўся. Што б мог значыць такі сон, Ягорка?..

Ягор маўчаў і нешта доўга думаў.

— Можат, канец вайна скора, еслі такой шчаслівы сон. Ты говорыш, проста песня.

Пераказаўшы з усімі падрабязнасцямі свой сон і ўсміхаючыся ад ціхага задавальнення, Іван пытаўся:

— А табе што снілася, Ягорка?

Ягору часцей за ўсё не снілася нічога. А калі і гаварыў ён пра які-небудзь свой сон, то вельмі коратка, з нейкім надрывам:

— Відэл меншы сын. Он гнал цялёнак і плакал...

У пачатку чэрвеня дывізія заняла пазіцыі ля Чорнай Рэчкі, на Карэльскім перашыйку.

Іх забіла абодвух разам адным пападаннем снарада, перад самым наступленнем. Быў цёплы дзень пачатку лета, пасля дажджоў пайшла шчодра расці трава, у маладой яркай зеляніне стаяў лес. Грыбін, які прыбег на пункт боезабеспячэння па патроны, спачатку падумаў, што ездавыя некуды сышлі. Фурманкі, цынкі з патронамі стаялі на месцы, ля гравійкі пасвіліся выпражаныя коні. Здзіўлены Грыбін азірнуўся і за некалькі крокаў ад павозак, у траве, убачыў невялікую, не больш чым на локаць, варонку і ўзбоч яе Казловых — у расшкумутаных, падпаленых шынялях, з раскінутымі чорнымі, як і вывернутая зямля, далонямі рук...

*1961*

## СОЛЬ

Калі ты, чалавек, маеш хлеб і да хлеба, ты яшчэ маеш не ўсё. Калі на тваіх плячах добрая апранаха, а на нагах спраўныя ялавыя боты, ты яшчэ не багач. Калі ў руках тваіх новенькі, апошняй маркі аўтамат, то гэта яшчэ не азначае, што ты непрыступны для ворага. Трэба з’есці не адзін пуд солі, каб у гэтым пераканацца...

Мы з Міколам Дашуком, вядома, не мелі асаблівых заслуг перад партызанскім рухам. У атрад мы прыйшлі позна. На гэта былі свае прычыны. Зрэшты, сёе-тое мы рабілі і да таго, як упрыгожылі свае шапкі чырвонымі паскамі і ўскінулі на плечы трохі заржавелыя ад доўгага ляжання вінтоўкі.

У атрад мы з’явіліся, як кажуць, на ўсё гатовае. У яго спісах значылася звыш трох соцень рознага люду. Спецыяльны чалавек па прозвішчы Дудка, які да вайны прадаваў маркі і канверты ў паштовым кіёску, вёў падрабязны летапіс баявых спраў і аперацый атрада. Тое, што Дудка паспеў запісаць за паўгода баявой дзейнасці, заняло дзве тоўстыя бухгалтарскія кнігі, разграфленыя па старонках на крэдыт і дэбет.

Атрад атабарыўся ў глухой балотнай вёсцы Бабры, у якую вяла толькі адна лясная дарога. Яе завалілі падпілаванымі соснамі, замініравалі, каб лагера партызан не дасягнулі карнікі.

Большасць навакольных вёсак фашысты спалілі яшчэ зімой, калі тут лютавала эсэсаўская дывізія. Бабры ўцалелі. Хаты, хлявы і адрыны былі тут пераважна прасторныя, складзеныя з новага лесу. Месца хапала і жыхарам, і партызанам.

Хоць вайна ўжо ішла трэці год, бабраўчане яшчэ не бачылі немцаў.

Партызаны неслі каравульную службу, пасты і сакрэты былі расстаўлены па балотных выспах і лясных сцежках. На чыгунку час ад часу хадзіла падрыўная група.

У межах таго абсягу, які кантраляваўся партызанамі, баявой работы атраду знаходзілася няшмат. Паліцэйскія і гарнізоны навокал былі развеяны, нямецкая ўлада трымалася толькі ў мястэчку і ў тых вёсках, што прылягалі да чыгункі. Разграміць жа местачковы гарнізон, куды сцякалася ўся шваль з раёна і дзе стаяў нямецкі полк і два мадзьярскія батальёны, у партызан не ставала сіл. Пра гэта нават не прыходзілася думаць. Вось у такі час мы з Міколам Дашуком і прыйшлі ў партызаны.

Стаяла ціхая пагодлівая восень, дубы і клёны навокал вёскі палалі, як вялізныя вогнішчы. Жанчыны капалі бульбу, мужчыны крылі новай саломай хлявы. Каб не людзі з вінтоўкамі, якія дэфіліравалі па вуліцах і талакой стаялі ў кожным двары, можна было б падумаць, што вёска жыве звычайным, неваенным жыццём.

Мы, калі ішлі ў партызаны, спадзяваліся, што прымем удзел у якіх-небудзь аперацыях атрада, пойдзем у засаду ці на чыгунку. Хацелася пастраляць з нашых вінтовак, якія ляжалі ў нас у мястэчку без справы болей за год. З іх мы яшчэ ні разу не стрэлілі. Але наша начальства разважыла інакш.

— Пойдзеце назад у мястэчка,— сказаў Хацееў, камандзір атрада, чарнявы, шчуплаваты чалавек з задумлівымі вачамі.— Трэба разжыцца солі...

Хацееў ведаў пра нас рэчы, пра якія другія ведалі мала. Месяцаў пяць назад, вясной яшчэ, атрад захапіў дзвесце кароў, сагнаных немцамі ў кашару з навакольных вёсак. У Дудкі пра гэтую справу ў яго бухгалтарскай кнізе было напісана цэлыя чатыры старонкі. Там называліся прозвішчы партызан, што вельмі хітра наладзілі засаду, высачылі месца, куды немцы ганялі кароў на пашу.

Гэта быў абсалютны фальш. Кароў спецыяльна прыгналі ў лес нашы местачковыя хлопцы. Месца, куды іх прыгнаць, праз сувязную дзяўчыну назначыў камандзір атрада. Але абвяргаць Дудку не мела сэнсу. Тыя ж хлопцы і цяпер яшчэ жылі ў мястэчку. І чым менш людзей ведала пра іх сапраўдную работу, тым было лепш.

— Дык вы пойдзеце нібыта ў разведку,— загадаў Хацееў.— І каб нікому ні гуку. Ведаеце ж, як дарага абыходзіцца нам соль...

Гэта мы ведалі. Атрад еў мяса без солі. Ежу прыпраўлялі каліем — мінеральным угнаеннем, што сям-там засталося ў кучах на асушаным балоце. Але каліевая соль не натрыевая, яе могуць паглынаць расліны, а не людзі. У партызан ад калію балелі жываты, выпадалі зубы, іх твары сталі азызлыя, сінія.

Той, хто займеў хоць шчапоць сапраўднай солі, насіў яе загорнутай у насовачку, як самую каштоўную рэч.

Немцы, мабыць, здагадваліся, што раён астаўся без солі. На ёй, не могучы разграміць партызан сілай, яны рабілі палітыку. Каб купіць у мястэчку кілаграм солі, трэба было прынесці курыцу або дваццаць яек. Цана немалая, але, нягледзячы на гэта, з вёсак у мястэчка валам валілі жанкі і дзяўчаты, каб выменяць хоць які-небудзь фунт гэтай горкай солі. Колькі загінула іх, безыменных пакутніц, у нямецкіх засценках толькі за тое, што ішлі яны з партызанскай зоны...

Мы, калі жылі яшчэ ў мястэчку, пасылалі соль у лес. Мелі надзейнага чалавека, крамніка Андрэя, які яе даставаў. Але, не ўяўляючы па-сапраўднаму бяды, мы куды вышэй ставілі ўзрыў вадакачкі ці падпал парні, дзе вырабляліся калёсныя абады, за тыя сціплыя пуды таннага прадукту, які хавалі ў стог на балоце, каб яго ўзялі адтуль сувязныя. Але што значылі тыя адпраўленыя намі тры ці чатыры пуды солі для атрада, які налічваў трыста чалавек? Пуд тут з’ядалі за тры дні.

І вось цяпер мы ідзём назад, да сваіх сяброў, каб дамовіцца з імі наконт цвёрдых двух пудоў на тыдзень. Інакш будзе кепска.

Мы прыйшлі ў мястэчка ноччу і, каб не пераходзіць чыгункі, дзе лёгка было нарвацца на нямецкі патруль, спыніліся ў Міколавага дзеда, двор якога стаяў наводшыбе. Мы забраліся ў хлеў на вышкі і сустрэлі ўсход сонца моцным

сном. Назаўтра, папярэджаныя дзедам, да нас з'явіліся сябры. Яны прыйшлі па адным, узрушаныя, усхваляваныя. У іх было столькі навін!..

Партызан, падпольшчыкаў, усіх тых, што змагаліся ў цяжкіх умовах фашысцкай акупацыі, некаторыя ўяўляюць сёння, калі даўно адгрукатала вайна, людзьмі зацятымі, суровымі, недаверлівымі. А між тым вялікая гэта няпраўда і памылка! Не было на свеце больш даверлівых людзей, чым падпольшчыкі і партызаны. Не правяралі ў той час мандатаў, не давалі даведак з пячаткамі. Без іх знаходзіў чалавек дарогу да сэрца свайго паплечніка і аднадумца. Мабыць, на вайне, калі навісае пагроза не над адным асобным чалавекам, а над цэлым народам, мы проста лепш і праніклівей умеем бачыць, хто наш друг, а хто вораг...

Вочы нашых сяброў ззялі радасцю і захапленнем. На нас яны цяпер глядзелі як на пасланцаў таямнічага і бясстрашнага партызанскага свету, перад якім схілялі свае смелыя, гарачыя галовы. Гэтак жа сама тыдзень ці два назад мы з Міколам глядзелі на тых, хто прыходзіў да нас з лесу...

Дамовіліся хутка. Сябры запэўнілі, што соль будзе. Пра Андрэя, які гандляваў гэтай соллю ў нямецкай краме, яны сказалі:

— Цяжка яму. Ведаеце ж, якія немцы: з-пад сябе падбяруць. Соль адпускаецца ў краму разважанай па кілаграму ў мяшэчку. А ў Андрэя сям'я: дзяцей адных сямёра. Чуць які недахват, самі ведаеце...

І соль пайшла. Па два пуды ў тыдзень. Яе мы знаходзілі ва ўмоўленых мясцінах: у лаўжах, пад вываратнямі, у стозе зляжалага, накошанага, мабыць, яшчэ да вайны, сена. Мы насілі гэтую соль, трымаючы на адным плячы вінтоўку, а на другім — крапіўны мех, гордыя і радасныя ўсведамленнем таго, што робім.

Важнасць нашых паходаў пад мястэчка была відавочнай. З атрадам, які атабарыўся ў Бабрах, здарыўся цуд. Зніклі азызлыя, абыякавыя твары, па вечарах у вёсцы зарыпаў гармонік. У людзей былі тыя самыя вінтоўкі і гранаты, тая самая вопратка і абутак, але ім далі цвёрдыя дзесяць грамаў солі на дзень — і ўсё перамянілася...

Саляная эпапея працягвалася ледзь не тры месяцы. Ужо зімой атрад, які называўся цяпер брыгадай, зрабіў кароткі налёт на адну чыгуначную станцыю і, маючы дакладныя звесткі ад сувязных, выгрузіў з вагона столькі солі, колькі змаглі яе панесці на плячах дзвесце чалавек...

І неяк так здарылася, што самі мы з Міколам Дашуком забылі аб справе, у якой разам з местачковымі падпольшчыкамі бралі ўдзел. Праўдзівей кажучы, нейкія там трыццаць пудоў солі, што прывалаклі мы партызанам, здаліся дробяззю ў параўнанні з цяжкімі блакаднымі часамі, якія прыйшлося перажыць брыгадзе перад прыходам нашых.

Пра соль нагадаў нам той, хто яе даставаў,— былы нямецкі крамнік Андрэй. Ён неяк дазнаўся, што мы з Міколам едзем з інстытута на канікулы, і прыйшоў спецыяльна на станцыю, каб нас сустрэць.

— Хлопцы, можа б, якую-небудзь даведку мне далі,— папрасіў ён.— Я цяпер у «Плодагародніне» працую, але зневажаюць некаторыя. Не вераць, што памагаў партызанам.

Мы паабяцалі дастаць патрэбную даведку з подпісамі і пячаткай, але ў час тых канікул нічога не здолелі зрабіць. Былі на гэта свае прычыны. Камандзір, які больш за ўсіх ведаў аб местачковых справах, загінуў. Паразляталіся па свеце і многія партызаны.

Дудка, летапісец атрада,— першы, да каго мы звярнуліся з просьбай наконт даведкі Андрэю, сустрэў нас непрыхільна.

— Не ведаю ніякай солі,— заявіў ён, адтапырыўшы тоўстую ніжнюю губу.— Будуць цяпер прымазвацца ўсялякія. Вы хоць і вучыцеся, але ў палітыцы ні бум-бум...

Дудка пазіраў на нас звысоку. Ён узначальваў цяпер раённую кантору сувязі, насіў шапку з какардай, форменны дыяганалевы касцюм і бліскучыя хромавыя боты.

Але, як кажуць, не толькі тое сонца, што ў акне. Калі паабяцалі Андрэю — зробім. Жыве ж яшчэ многа людзей, якія елі нашу соль і, вядома, не забылі яе смак...

*1961*

# У ДОБРЫ ЧАС

Пра тое, што да іх у сям'ю ў навагодні вечар хоча прыйсці Віктар, Наташа сказала ў аўторак раніцай, збіраючыся на работу ў аптэку. І з гэтай хвіліны ўсё ў доме перамянілася. Наташа сказала гэта адной маці, дачакаўшыся, пакуль усе разыдуцца. Яна пазнілася, але стаяла, дрыжачымі пальцамі адшпільвала і зашпільвала гузік на паношаным сваім паліто з рыжанькім вавёркавым каўняром, усё больш чырванеючы і пазіраючы кудысь у акно.

У маці спалоханай птушкай забілася сэрца, але яна перасіліла сябе і прамовіла як можна спакайней.

— Няхай прыйдзе, дачушка. Я прыгатую салат са свежых памідораў — бацька абяцаў прынесці.

Наташа пайшла. І толькі калі яна ўжо застукала абцасамі па ступеньках лесвіцы, маці ціха прысела ля стала, апусціла на калені рукі і ціха заплакала. Потым устала, выняла са старога камода альбом, у якім фотакарткі ляжалі стосікам, нерасклееныя, і доўга перабірала іх, раскладваючы на краі стала.

Трэба было ісці ў магазін, гатаваць абед, але жанчына не спяшалася. Уключыла святло, хоць і без яго было светла, і прайшла па пакоях: у пярэдняй у двух месцах адклеіліся шпалеры, на стале ў кухні абшарпаная, парэзаная цырата, камод і кніжны шкаф без ручак... Яна ўжо глядзела на сваё жытло вачыма таго, незнаёмага чалавека, якога яшчэ ні разу не бачыла і пра каго толькі здагадвалася.

Калі са школы, са свайго другога класа прыйшоў Стасік, а праз гадзіну з восьмага — Люда, маці ім нічога не сказала. Людзе загадала прынесці з двара пяску і чысціць відэльцы і нажы, а Стасіка адразу, без ніякай прагулкі, якой ён звычайна карыстаўся паабедаўшы, засадзіла за арыфметыку.

— Рашыш задачы, тады пабяжыш. Гойсаеш па двары да ночы, а ў дзённіку тройкі.

Троек за чвэрць у Стасікавым дзёніку было толькі дзве, але маці была не ў гуморы, і ён скарыўся.

Наташа спазнілася з работы. Бацька, як заўсёды, прыйшоў у шэсць. Ён абедаў і вячэраў разам. Калі галава сям'і, памыўшыся, сеў на кухні ля стала, маці зачыніла дзверы і прымасцілася на крэселцы насупраць. Яна глядзела на мужа,

на яго яшчэ малады смуглявы твар, на незаўважаную, прыкметную, мабыць, толькі ёй адной, сівізну на скронях.

— Да Наташы Віктар хоча прыйсці на Новы год.

— Няхай прыходзіць...

— Ён у сям'і з намі хоча сустракаць Новы год,— паўтарыла жанчына.

— Які Віктар? Пра што ты гаворыш?

— Ну, хлопец. Ён служыць у арміі, здаецца. Я даўно здагадвалася, але яна маўчыць, і я не дапытвалася. Цяпер хоча прыйсці.

— Глядзі ты, Наташка! — усклікнуў бацька.— Дык дзеўчанё ж яшчэ, дзіця. Пазалетась толькі школу скончыла. Гэта, мабыць, проста так, фіглі-міглі?..

— Ёй дваццаты пайшоў,— запярэчыла маці.

— Ты думаеш, гэта сур'ёзнае?

— Хлопцы ж і раней прыходзілі, але яна дазволу не пыталася. Ты падумай...

— Дык мо таму, што на Новы год?

— І на Новы год былі, як вучылася ў дзявятым. Успомні...

Ён устаў і захадзіў па маленькай кухні — тры крокі ўперад, тры назад. З суседняга пакоя данёсся крык Люды. За нешта яна абурылася на Стасіка, але ні бацька, ні маці не звярталі на гэта ўвагі. З крана ў ракавіну капала вада, на сцяне цікалі ходзікі — кухня, дзе завіхалася гаспадыня, таксама патрабавала дакладнага часу.

— Ён хоць сур'ёзны хлопец? — спытаў бацька.

— Яна нічога не гаварыла, Віктар і ўсё. Я здагадваюся, што яна ўжо другі год з ім знаёма. З таго часу, як ездзіла важатай у піянерлагер. Там тады побач стаялі лагерам ваенныя.

— Яна ж, здаецца, ніколі не пазнілася?

— Ён, мабыць, па медыцыне таксама служыць. Ці не фельчарам? Прыходзіў да яе ў аптэку нібы за лякарствамі. А яна, я здагадваюся, і на курсы гэтыя спецыяльна пайшла, бо вельмі ж ахвотна. У школе ж як вучылася, то пра медыцыну ні гуку.

— Маці! — усклікнуў мужчына здзіўлена.— Адкуль ты гэта ўсё ведаеш? З Наташкі ж абцугамі слова не выцягнеш...

— Калі я маці, то павінна ж ведаць. Прагаварвалася іншы раз, то пры сяброўках, то так.

За акном сінеў вячэрні змрок. Звінеў на лініі трамвай. Густыя, прыглушаныя даносіліся паравозныя гудкі з таварнай станцыі.

— Вось што, маці,— прамовіў бацька, відаць, супакойваючыся і прысаджваючыся да стала.— Не буду я стрэльбы купляць, можа, пазней хіба, га? Наташцы трэба што-небудзь. Ну, туфлі якія ці яшчэ што там. Ды і паліто ў яе, па-мойму, не вельмі.

Яны не запальвалі святла і яшчэ доўга гаварылі ў сінім утульным паўзмроку, зніжаючы галасы да шэпту, не бачачы твараў адзін аднаго. Пахла мочанымі яблыкамі, свежым хлебам; мяккія водбліскі ліхтара, што стаяў насупраць акна, на вуліцы, пераліваліся на медным посудзе, расстаўленым на верхняй палічцы. Людзі гэтыя пажаніліся перад самай вайной, Наташка была іх першым дзіцём, і ўсе дні ліхалецця не бачыла бацькі. Пасля вайны, вядома, усё пайшло, як трэба. Вось ужо два гады, як яны жывуць у гэтай добрай двухпакаёвай кватэры. Аднак хутка ляцяць гады.

Усе дні, што засталіся да суботы, да Новага года, былі запоўнены нечым новым, яшчэ не знаёмым у гэтым доме. Бацька звычайна крыху маладзіўся. Пасля работы ён часта завітваў да суседа пастукаць у даміно або ішоў праз вуліцу да знаёмага майстра пасядзець ля тэлевізара. Цяпер рашуча перамяніў прывычкі. Хадзіў услед за маці, набіваўся на дапамогу, нешта стругаў, клеіў, раз-пораз выносіў з хаты памыйнае вядро, на ўсю лесвіцу грукаючы чаравікамі. Наташа пазнілася ледзь не кожнага дня, і ніхто ёй за гэта не выгаворваў. Люда па загаду маці мыла падлогу, выбівала палавікі, працірала мокрым ручніком шафы і камоду. Усе гэтыя вялікія перамены ў доме не маглі не навесці на роздум Люду і Стасіка, якія яшчэ нічога не ведалі і толькі дарэмна ламалі галовы ад розных здагадак. Першай здагадалася Люда. У пятніцу, калі Наташа вярнулася з аптэкі, як звычайна, прыпазніўшыся, яна кінулася да сястры, прытулілася да яе твару шчакой, прыціснулася. Удваіх яны сядзелі ў спальні, абдымаліся і шапталіся, не запальваючы святла да позняга вечара. Гэта было ўпершыню. Раней такой ласкі і шчырасці адна да адной сёстры звычайна не праяўлялі.

Назаўтра ўсё ведаў Стасік. Прыйшоўшы са школы, ён не здолеў утаіць сакрэт, які яму пераказала Люда, і адразу падступіў з роспытамі да маці:

— Гэты салдат, што да нас сёння прыйдзе, танкіст?

— Ідзі вучы ўрокі, ніякага салдата я не ведаю.

— Ну той, што прыйдзе да Наташы жаніцца?

Маці адразу падабрэла і дазволіла Стасіку ісці гуляць на двор. Але гуляць ён не хацеў. Хлопчыку карцела пабольш ведаць пра чалавека, які прыйдзе вечарам у іхнюю кватэру.

— Можа, ён лейтэнант, мама. Тады ў яго будуць бліскучыя рамяні і вялікая зорка на пражцы,— выказаў Стасік здагадку.

— Не гавары так, Стасік. Нельга так гаварыць.

— А ён калі жэніцца з нашай Наташай, то павязе яе з сабой. Няхай лепш у нас жывуць, а, мама...

Вечарам быў засланы белым абрусам стол, і вакол яго стаяла ўжо шэсць крэслаў. Наташа з Людай прыбіралі елку. Дзед Мароз і цацкі былі тыя самыя, што і летась, і пазалетась, і Стасіка яны мала цікавілі. Бацька пагаліўся электрычнай брытвай, апрануў белую сарочку, сіні касцюм, а на штрыфель пінжака прычапіў ордэнскія калодкі. Так ён рабіў толькі на Першае мая і ў свята Кастрычніка. Маці, Люда, Наташа — усе апранулі новыя сукенкі і туфлі. У Стасіка нічога новага не было, апрача сарочкі ў клетку, якую ён ужо два разы надзяваў. Але хлопчык не крыўдаваў. Ён чакаў салдата. І салдат прыйшоў. Званок зазвінеў а палавіне дзясятай, і адчыняць пайшоў бацька.

— Ерамееў Віктар,— адрапартаваў высокі чарнявы салдат на парозе.— Добры вечар!..

Ён распрануўся, паклаў на стол вялікую каробку з цукеркамі, загорнутую ў паперу, потым прывітаўся з усімі за руку. Наташа стаяла чырвоная як рак. Салдат быў не лейтэнант, а сяржант, але Стасіку ён спадабаўся адразу. Яшчэ нават да таго, як выцягнуў з кішэні і падарыў яму новенькую футбольную камеру.

Бацька размаўляў з салдатам, маці з Наташай сядзелі насупраць, за сталом, і маўчалі, а Люда як падсмаленая насілася з пакоя ў пакой.

Потым пілі віно, піва — сустракалі Новы год.

Наташа, Люда і салдат пайшлі неўзабаве гуляць па горадзе.

Стасік надзьмуў камеру, а потым яму стала шкада дарма яе псаваць, і ён выпусціў паветра. Маці з бацькам стаялі ля акна абняўшыся, глядзелі на вуліцу і ціха аб нечым размаўлялі. На вуліцы сыпаў снег, і ўсё стала белым. Усюды гарэлі агні.

*1961*

## У ШАЛАШАХ

Бою за мястэчка фактычна не было. Дывізія наступала з усходу, ахапіўшы нямецкі гарнізон па флангах, а партызанам паставілі задачу ўзарваць чыгунку з заходняга боку і асядлаць грунтовы шлях.

Сваю задачу мы выканалі лёгка. Была цёмная асенняя ноч без зорак і месяца. Дзьмуў золкі вецер. Нас з Дашуком, як местачкоўцаў, яшчэ звечара выклікалі да камандзіра атрада.

— Будзеце праваднікамі,— сказаў ён.

Мы згадзіліся, хоць мелі права на адпачынак. Нас з Міколам пасылалі ўстанаўліваць сувязь з камандаваннем дывізіі, калі нашы былі яшчэ за сорак кіламетраў ад мястэчка. Мы не спалі тры ночы і хісталіся ад стомленасці.

Калі падышлі да чыгункі, усе пачалі акопвацца. Капалі хто чым: нажамі, кінжаламі, грэблі зямлю рукамі: лапат з сабой ніхто не насіў. Мы з Міколам не акопваліся і, ляскаючы ад холаду зубамі, прыляглі пад кустом. Хацелася спаць, але заснуць пры такой халадэчы не было магчымасці. У мястэчку ў двух ці трох месцах нешта гарэла. Гэта было наша роднае мястэчка, у ім мы раслі і вучыліся, там засталіся нашы бацькі і сябры, але пра ўсё гэта мы не думалі. Нам хацелася спаць.

Немцы трымалі сябе далікатна. Партызаны акапаліся за паўвярсты ад чыгуначнай будкі, дзе размяшчалася нямецкая варта, пра маскіроўку асабліва ніхто не дбаў: размаўлялі, курылі, нехта знянацку нават стрэліў, але тыя, што сядзелі ў дзотах, набудаваных вакол будкі, нібы набралі ў рот вады.

Чыгунку можна было ўзарваць ноччу, але нашы камандзіры чакалі раніцы. Можа, яны разлічвалі пусціць пад адхон які-небудзь бронецягнік? Ніякіх падмацаванняў па чыгунцы ў мястэчка, аднак, не прыйшло, і рэйкі ўзрывалі на шэрым золку.

Немцы гэта добра бачылі, але маўчалі. Маўчалі і тады, калі цераз палатно доўгім цугам, нават не прыгінаючыся, павалілі са сваіх неглыбокіх акопаў партызаны. Страляць немцы пачалі толькі тады, калі апошні партызан схаваўся ў хмызняку.

Хітрасць гэтую разгадалі пазней. Для прыліку пастракатаўшы з аўтаматаў, немцы ўцяклі. У іх, відаць, не было ніякай ахвоты абараняць мястэчка.

У поўдзень мястэчка стала наша. З захаду да яго падышла нейкая нямецкая часць і заняла пазіцыі ў лесе. Дзве танкеткі, пушчаныя, відаць, у мэтах разведкі, падарваліся на мінах, пастаўленых на шляху. Танкістаў, якія сабіраліся сігануць у кусты, зрашэцілі кулямі партызаны. Праз паўгадзіны немцы пачалі абстрэльваць мястэчка з гармат. Так яно стала прыфрантавым.

Партызан запісвалі ў армію. Нам з Дашуком далі адтэрміноўку на двое сутак. Жыхароў у мястэчку амаль не было, яны выбраліся ў шалашы. Недзе там знаходзіліся нашы бацькі і знаёмыя. Нас адпусцілі з імі развітацца.

Памятны той дзень позняй восені выдарыўся цёплы, сонечны. Мы адчувалі сябе героямі і нават забылі пра сон.

Але няхай бы лепш надвор'е было дажджлівым.

Не паспелі мы пахадзіць па мястэчку вольнымі грамадзянамі і гадзіны, як на яго наляцелі нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Потым яшчэ і яшчэ. Многія будынкі загарэліся. На вуліцах, запруджаных вайсковымі абозамі, утварылася мешаніна з конскіх трупаў, раскіданых фурманак, пакарэжаных кухань.

Мы падаліся ў шалашы і знайшлі іх толькі вечарам. Наша з Дашуком вуліца атабарылася аж каля Трох азёр у прыгожым бярэзніку. Ніякіх азёр тут ужо не было, яны даўно высахлі і зараслі ляшчынай.

Шалашы ў лесе стаялі прыкладна ў такім парадку, як і хаты на местачковай вуліцы.

Нашы маткі не таілі радасці, нас віншавалі і запрашалі ў госці амаль у кожны шалаш, але мы кінуліся на салому і праспалі без просыпу ноч і палавіну наступнага дня.

Прачнуліся ад несціханага глухога грому. Дрыжала зямля. Мястэчка ў многіх месцах гарэла. Немец садзіў па ім цяжкімі снарадамі.

Тое, што мы ўбачылі, прачнуўшыся, узрушыла нас і здзівіла. Каля нашага шалаша сядзелі ў адной кампаніі кандуктар Пліс, удава Залаценкава і — што самае галоўнае — Бабурыха побач з Міліцыяй. Яны мірна размаўлялі, выпівалі і закусвалі, і, гледзячы на іх лагодныя, з усімі адметамі ціхмянасці твары, можна было падумаць, што сабраліся найдружнейшыя суседзі і сваякі.

У кампанію запрасілі нас, і мы не пераставалі здзіўляцца.

— Прапала мая кароўка, але ліха з ёй,— гугнявіў тоўсты Пліс.— Абы самі былі жывыя.

— Зімой дзецям без малака нельга,— разважліва прамовіла Залаценкава.— Калі мая пярэдайка не запусціцца, то будзеце браць малако ў мяне.

Гэтыя словы чула Плісава жонка і згодна ківала галавой.

Снарады бухалі адзін за адным, мястэчка гарэла. Надыходзіў вечар. У лесе мукалі прывязаныя да бяроз каровы.

— Выпаліць, як пры белапаляках,— прамовіў нехта.— Хутчэй бы яго адганялі.

— Хопіць, людцы, бедаваць! — падхапілася Міліцыя.— Ціхон, там у сене яшчэ дзве пляшкі, прынясі! — загадала яна свайму мужу. І заспявала прарэзлівым голасам:

І піць будзем, і гуляць будзем,
А прыйдзе смерць, паміраць будзем!..

Маўклівы Ціхон рупна прынёс дзве вялікія чорныя пляшкі. Міліцыя разліла гарэлку па шклянках.

— Вып’ем, кума! — тыцнула яна пад бок Бабурыху.— Не бядуй, хвала Богу, што сама і дзеці цэлыя. Няхай згараць нашы хаты, няхай усё згарыць. Жыць будзем. З людзьмі не прападзеш. Паможам па суседству. А там і мужык з вайны вернецца...

Звінелі шклянкі, і дзесьці ў мястэчку рваліся снарады. Словы, з якімі людзі звярталіся адзін да аднаго, былі поўныя спагады і добразычлівасці, яны гучалі шчыра і ішлі, здаецца, з глыбіні душы. Нешта з’яднала не зусім дружную вуліцу. Нешта пераламалася ў адносінах добра знаёмых нам суседзяў.

А мы думалі: чаму гэта? І ў памяці паўставала нядаўняе мінулае.

Уся вуліца ведала, што Плісава жонка страшэнна раўнуе свайго кандуктара да ўдавы Залаценкавай. Былі ў яе якія-небудзь падставы ці не, гэта невядома. Але крыку, ляманту, зняважлівай лаянкі было шмат. Плісіха ніколі не прапускала выпадку, напаткаўшы дзе-небудзь Залаценкаву, збэсціць яе апошнімі словамі.

Адносіны Бабурыхі і Міліцыі былі яшчэ горшыя. Іх хаты стаялі якраз насупраць, цераз вуліцу, і сварка паміж жанкамі, брыдкая, надакучлівая калатнеча, не спынялася ад ранку да вечара. Суседкі, зневажаючы адна другую, даходзілі да найвышэйшай віртуознасці, іх языкі плялі такія страшныя праклёны, што калі б здзейснілася хоць малая іх доля, яны б абедзве з усёй раднёй і сваяцтвам даўно ляжалі на могілках.

Убачыла, да прыкладу, Міліцыя, як Бабурыха падняла на вуліцы жмак сена, што ненарокам упаў з чыйго-небудзь воза.

— Усё хапаеш, усё цягнеш, каб з цябе кішкі выцягнула! — лямантавала яна, высунуўшы з веснічак свой худы, пабіты воспаю твар.— На чужое квапішся, не хочаш сама рабіць, каб табе дошкі зрабілі. Калі ўжо ты наясіся, каб цябе пранцы з'елі!..

Бабурыха таксама не пазычала праклёнаў. Лаянка чуваць была за вярсту.

Суседкі грызліся, выганяючы на пашу кароў, сустракаючыся ля студні, ідучы ў краму за соллю ці запалкамі. Забрукавалі ўжо местачковую вуліцу, гулі на ёй трактары і машыны, загарэлася электрычнасць у хатах, а лаянка не спынялася. Мы чулі яе, калі хадзілі і ў першы, і ў дзясяты клас.

І вось усё перамянілася. Плісава жонка і ўдава Залаценкава, Міліцыя і Бабурыха сядзелі побач, як галубкі. Гэта было падобна на казку. Пір у асеннім бярэзніку, ля шалашоў, цягнуўся да поўначы. Мястэчка гарэла...

У нас з Дашуком быў яшчэ адзін клопат, таму мы не вытрымалі на гэтай мірнай бяседзе да самага канца. Нам рупіла да сваіх дзяўчат. Дзяўчаты нас чакалі. За тыя некалькі гадзін, якія заставаліся да раніцы, нам трэба было сказаць ім вельмі шмат.

На світанні выбухі сціхлі. Нехта прынёс вестку, што немцаў адагналі. Нехта дасціпны дазнаўся нават, што наша вуліца не

згарэла, выгараў толькі цэнтр і тыя дамы, што прылягалі да плошчы.

У шалашах заварушыліся. Запрагалі кароў, ладкавалі на вазы набытак. Наша адтэрміноўка скончылася.

Пакідаючы шалашы і матак, якія выціралі фартухамі слёзы, мы пачулі прарэзлівы голас Міліцыі:

— Мяне не правядзеш, сувой палатна ты ўзяла, каб цябе за жывот узяло...

У Міліцыі з Бабурыхай пачыналася ранейшае...

Сыпаўся з бяроз жоўты ліст. Местачкоўцы маглі збіраць свае манаткі хоць да паўдня, а нам трэба было даганяць сваіх. Мы пайшлі...

*1961*

# 1962

## РЫЖЫЯ КОНІ

Ілья Клімец, запаліўшы ліхтар, рушыў далей па рэйках. За лесам схаваліся апошнія светла-пунсовыя водбліскі захаду. Усё навокал шарэла, на попельна-сівым небе выбліснула некалькі зорак. Шпалы і насып дыхалі яшчэ назапашаным за дзень цяплом, а з сенажаці, што пачыналася адразу за кустамі, цягнула халадком і прыемным пахам мурожнага сена.

Ілья дайшоў да мастка, за якім канчаўся яго абход, і павярнуў назад. У левым чаравіку муляла — Ілья прысеў на край насыпу, расшнураваў чаравік. Рэйкі пачалі ледзь чутна дрыжаць і пазваньваць: ішоў сто чацвёрты. Яшчэ тыдзень назад Ілья праводзіў яго, калі было зусім светла. Лета ішло на спад, дні прыкметна меншалі. Пасажырскі прымчаў хвілін праз пяць, абдаўшы абходчыка пругкай хваляй цёплага, перамяшанага з пылам паветра. Перад семафорам цягнік даў доўгі прыглушаны гудок, а потым са станцыі данесліся два раскацістыя ўдары званка. Ілья цяпер ішоў да станцыі: яго абход пачынаўся ад першага раз’езда.

На лугавіне, паміж палатном чыгункі і прасёлкавай дарогай, па якой звозілі сена, нехта распальваў агонь: відаць была сагнутая над кволым цяпельцам постаць, а воддаль на атаве пасвіліся коні. Калі Ілья вяртаўся ад пераезда, агонь шугаў ужо на ўсю моц, чалавека каля яго не было, а ў паласе святла стаяў, злёгку памахваючы галавой, вялікі прыгожы конь. Ілья спыніўся, уражаны дзіўным малюнкам: у водблісках агню гладкая поўсць каня адлівала чырвонай, пад колер крыві, мед-

дзю і сам ён здаваўся высечаным з вялікага, суцэльнага кавалка мармуру. Кіруючыся да мастка, Ілья раз-пораз азіраўся: коні, нагнуўшы шыі, скублі траву.

Ля мастка Іван з паўгадзіны вёў пустую, мізэрную размову з Плісецкім, абходчыкам наступнага ўчастка, будка якога стаяла ў лесе. Ілья недалюбліваў гэтага чалавека, лайдакаватага і не вельмі разумнага, і ўзрадаваўся, калі той адстаў з роспытамі.

Праляцелі, адзін насустрач другому, два таварныя цягнікі, абодва цяжкія, гружаныя: на платформах таго, што нёсся на захад, чарнелі сілуэты аўтамашын, невялікіх, з гумавымі коламі, трактараў, гучна ляскалі на стыках жалезныя, напоўненыя бензінам цыстэрны.

Уступала ў свае правы ноч. Агні ў пасёлку пакрысе гаслі, у некаторых вокнах па летнім часе іх наогул не запальвалі. Залацістым ланцугом зыркалі станцыйныя агні — яны свецяць праз усю ноч.

Начная варта прыпадала Ілью праз двое сутак.

За доўгія гады службы ён прывык хадзіць поначы, не адчуваючы ніякай патрэбы сну. Пасля другіх пеўняў толькі прыкметна цяжэлі ногі, як бы наліваючыся свінцом, але ў галаве да самага світання панавала поўная яснасць.

Параўняўшыся з месцам, дзе гарэў агонь, Ілья хвіліну пастаяў, назіраючы, як скачуць светлыя водбліскі, адганяючы цемру, потым рашуча сігануў з палатна пад насып. Ля вогнішча стаялі ўжо два кані, гэткія ж барвова-медныя і нерухомыя, як статуі. Ілья кіраваўся да агню нацянькі: з-пад ног, з сухой травы, выпырхнула, слаба піскнуўшы, птушачка, ды перад вогнішчам, нічога перад сабой не бачачы, ён стукнуўся чаравікам аб корч. Ля агню, на разасланым пінжачку, ляжаў белабрысы хлопец і нешта жаваў. Зачуўшы крокі, ён спалохана ўстрапянуўся, агледзеў Ілью з галавы да ног, потым зноў унурыўся ў агонь. Коні, зачуўшы чужога чалавека, устрывожана застрыглі вушамі і адышліся ад вогнішча. Яны нават не былі спутаны.

— Пасеш? — спытаў Ілья, каб як-небудзь зачаць гаворку.

Хлопец зноў зірнуў на яго, нічога не адказаўшы.

— Ты што, з саўгаса? Нешта я цябе не ведаю.

— З Гноевіц я,— адказаў хлопец, цэкаючы.

— Ці блізкі свет! Дык чаго ты тут з коньмі?..

— Лісям прыгнаў...

У першую хвіліну Ілья нічога не зразумеў. Хлопец здаваўся дурнаватым: адвіслая мокрая губа, доўгая, як у бусла, шыя, несамавітая, з сюсюканнем, гаворка. Коні, відаць, асвоіліся з прысутнасцю чужога і зноў падышлі да вогнішча. Цяпер толькі Ілья разгледзеў іх як след: цёмна-гнядой масці, укормленыя, з гладкай бліскучай поўсцю, яны здаваліся вогненна-рыжымі. Коні былі буйныя, маладыя, самае большае — трохлеткі.

— Ты што, на лісіную ферму іх гоніш? — спытаў Ілья, адчуваючы, як халодны, нудны боль сціскае грудзі.

— Лісям,— пацвердзіў хлопец.

— Ды што яны, падбіліся? Выбракаваныя?..

— Цаму падбіліся? Не... Так толькі ў спраўцы напісалі. Каб здаць на мяся. Дванаццаць стук. Сена мала, а ім за давай...

— Дурань твой старшыня! — ускіпеў Ілья.— Дзе гэта бачана, каб конь сябе не пракарміў?

— Я ніцога не знаю. Маё дзела — старана... Мне старсыня загадаў...

Размаўляць далей з белабрысым Ілья не мог, грудзі поўніліся пякучым жалем, крыўдай, і ён амаль подбегам рушыў ад вогнішча. Ужо на насыпе Ілья яшчэ раз зірнуў на агонь: коні, аблітыя трапяткімі, залацістымі водсветамі агню, стаялі, нібы намаляваныя на карціне.

Ілья доўга не мог супакоіцца, узрушанасць і боль не сыходзілі з душы. Хацелася з кім-небудзь пагаварыць, параіцца, выліць у словах горыч і крыўду. Ён доўга стаяў на мастку, чакаючы, калі на насыпе паявіцца постаць Плісецкага. Той недзе бавіўся, не ішоў. Было парадкам за поўнач, у пасёлку, перабіваючы адзін аднаго, дружна загарланілі другія ці трэція пеўні, на ўсходзе ледзь-ледзь пачало святлець. Вялікая чырванаватая зорка вісела над пасёлкам, як ліхтар. Стоячы на мастку, Ілья прапусціў сто пяты — у вокнах доўгіх спальных вагонаў панаваў сіняваты, мяккі паўзмрок, пасажыры спалі. Прагрукатаў дадатковы паражняк, састаўлены з адных платформаў — пад лес.

Страціўшы цярпенне, Ілья сам пайшоў па абходзе Плісецкага. Ён зрабіў, бадай, болей за кіламетр, уперадзе ўжо шарэла сцяна лесу, а абходчыка не было. Нарэшце Ілья ўбачыў

на краі насыпу чорную сагнутую постаць — Плісецкі седзячы спаў. Ілья наўмысна бразнуў ключом, і той пружыніста, як воўк, падхапіўся, выскачыў на палатно.

— Чаго ты тут? — пазнаўшы Ілью і не могучы стаіць дрыжыкаў у голасе, спытаў Плісецкі.

— Запалі ліхтар.

— А-а-а, усё адно. Днее ўжо. Можна і так.

Ілья змоўк і рушыў да свайго абходу.

— Сына ўчора праводзіў,— дыбаючы поруч, пацепваючы вузкімі плячамі, апраўдваўся Плісецкі.— Сын рамеснае скончыў. Паслалі ў Запарожжа, на завод. Хапануў шклянку, але ж тое яшчэ ўдзень. І ўсё ж размарыла-такі, гадасць. Ты, Ілья, пра гэта нікому. Прашу як суседа...

— Вунь коней гоняць лісам на харч,— сказаў Ілья, трацячы інтарэс да гаворкі з Плісецкім.

— Якіх коней?

— З Гноевіч, калгасных. Дванаццаць штук.

— А чорт іх бяры. На ліха цяпер тыя коні. Машын колькі вунь.

— А-а-а, чалавек ты!..

Махнуўшы рукой, пакідаючы ззаду разгубленага Плісецкага, Ілья злосна пакрочыў да мастка. Цела працінала млявасць. За гэтую ноч ён стаміўся болей звычайнага. Думка білася, шукаючы выйсця, праходзячы паўз мясціну, дзе пасвіліся коні, хацеў не глядзець у той бок, але не вытрываў, зірнуў. У перадсвітальнай шэрані курэлі, чадзячы шызым дымам, галавешкі, віднелася чорная, распластаная на зямлі постаць хлопца, які, відаць, спаў. Па зялёнай, без расы, атаве рассыпаліся гнядыя рослыя коні...

*1962*

# 1963

## ЗВІНІ, ЗВАНОК!

Чытаць і лічыць Міця навучыўся да школы. У іхняй хаце вісеў прыгожы, расфарбаваны ў чырвоны і сіні колеры плакат з вялікімі літарамі, надрукаванымі ўнізе. На плакаце быў намаляваны ружовашчокі хлапчук, які старанна мыў рукі пад рукамыйнікам. Па гэтым плакаце Міця і пачаў вучыцца чытаць, бо дужа хацелася ведаць, што напісана аб прыгожым, хораша апранутым хлопчыку. Васьмідзесяцігадовы Міцеў дзед ведаў толькі дзве літары — «о» і «р» і ахвотна растлумачыў іх сэнс Міцю, астатнія паказала маці. На плакаце было напісана: «Чысціня — зарука здароўя», і, прачынаючыся, Міця кожнае раніцы чытаў гэты подпіс, каб маці не падумала, што ён пазабываў літары.

Мыць рукі самому не вельмі хацелася, аднак Міця мыў іх, бо цяпер ён быў пісьменны і адчуваў сябе ніякавата перад ружовашчокім, прыгожым хлопчыкам. Аднойчы бацька, вярнуўшыся з начной змены з чыгункі, пачуў, як Міця чытае, і ў наступны раз прывёз яму з горада буквар. Па буквары Міця вывучыў астатнія літары, якіх не было на плакаце.

З лічэннем было яшчэ прасцей. Лічыць да дзесяці ўмелі ўсе хлапчукі з Міцевай вуліцы, нават тыя, што не хадзілі ў школу і не ведалі літар. Хоць дзед быў і непісьменны, але ўмеў лічыць і да ста, і да тысячы, і гэтую навуку ў яго лёгка пераняў Міця. Не ўмеў Міця толькі пісаць.

Адзвінела вясёлае зялёнае лета. Ночы сталі даўжэйшыя, дні — карацейшыя. Міця пачаў збірацца ў школу. Цвёр-

дай упэўненасці, што яго прымуць, у Міці не было, бо яму яшчэ не споўнілася сямі год, аднак у школу ён дужа хацеў. Міця даўно зайздросціў хлапчукам і дзяўчынкам, якія, гучна размаўляючы, шыбавалі з сумкамі і кнігамі паўз яго двор у сямігодку. У школу збіраўся таксама Міцеў сусед і сябра Адам, якому ўжо было сем з палавінай год. Разам з ім падаўся ў навуку і Міця.

Той дзень не прынёс хлопцу радасці. Усіх, каго прынялі ў першы клас, настаўніца выклікала па спіску, размаўляла з імі, а Міцева прозвішча нават не назвала. Тады Міця ўстаў з-за парты сам.

— Я ўмею чытаць і лічыць,— сказаў ён.

— А колькі табе год? — спытала настаўніца.

— Шэсць з палавінай.

— Ты яшчэ малы. Ідзі дамоў. Прыйдзеш у школу праз год.

— Я магу палічыць да мільёна! — выгукнуў Міця, але настаўніца яго не слухала...

Давялося ісці дамоў...

Зімой Міця лавіў сіллямі снегіроў і хадзіў да Адама чытаць новы буквар. Гэты буквар ён вывучыў на памяць. Начытаўшыся, Міця з Адамам станавіліся на лаву і знізу глядзелі на насценны гадзіннік. Яны дзівіліся з малюсенькіх шрубак і гаечак, якімі быў прымацаваны механізм да футляра, і весела рагаталі.

Летам пачаліся яшчэ цікавейшыя справы. Міця вельмі любіў птушак і за лета адшукаў шмат гнёздаў. Ён прынёс дамоў чатырох варанят, двух галубоў-туркалікаў, аднаго шызага голуба, трох чыжоў і берасцянку. Птушкі жылі ў клетках, якія Міця змайстраваў сам. Карміў ён іх варанай бульбай, хлебам, мушкамі, камарамі, а таксама чарвякамі, якіх адкопваў за хлявом, у тлустым чарназёме. Міця ведаў, што цяпер яго прымуць у школу, і яму хацелася пахваліцца вучням і настаўніцы сваімі птушкамі.

Зноў надышло першае верасня. У той дзень было цёпла і сонечна. Маці пашыла Міцю новыя штаны і сарочку, а бацька купіў бліскучыя чаравікі. Міця, не спяшаючыся, ішоў па вуліцы ў школу, і яму здавалася, што ўсе, каго ён ні сустракае, глядзяць на яго абноўкі. Па шырокім школьным двары бегалі старэйшыя вучні, дзяўчаты гулялі ў класы. Было шумна і весела. Нарэшце зазвінеў званок.

Міця прыбег у клас першы і сеў за парту. Настаўніца прыйшла маладая, ветлівая. Яна адразу спадабалася Міцю. Хутка яна назвала яго прозвішча, і хлопец устаў з-за парты.

— Я ведаю, ты ўмееш чытаць і лічыць,— сказала настаўніца, і Міцю стала прыемна, што яго пахвалілі пры ўсіх.— Будзеш памагаць другім вучням. А пісаць і рашаць задачы навучышся. Яшчэ шмат чаго трэба ведаць.

На перапынку Міця падышоў да настаўніцы. Яму хацелася сказаць ёй што-небудзь прыемнае і таксама хацелася, каб яна яшчэ раз яго пахваліла.

— У мяне ёсць птушкі,— сказаў Міця.— Яны жывуць у клетках. Я ўмею рабіць сіллі і магу колькі хочаш налавіць сініц.

Твар настаўніцы спахмурнеў.

— А хіба гэта добра трымаць птушак у клетках і лавіць іх сіллямі? — спытала яна.

— Я іх кармлю бульбай і чарвякамі.

— Але ж птушкі хочуць лятаць, спяваць, а ты іх трымаеш у клетках.

— Яны і ў клетках спяваюць.

— Вось што, Міця,— ласкава прамовіла настаўніца.— Ты хутка сам усё зразумееш, а цяпер паслухай мяне. Выпусці птушак. І ніколі не бяры іх з гнёздаў і не лаві сіллямі. Птушкам патрэбны воля, прастор, і тады яны прыносяць вялікую карысць людзям: знішчаюць розных шкоднікаў лесу, поля, саду. У нас будзе ўрок прыродазнаўства, і тады я пра гэта раскажу больш падрабязна.

— Я выпушчу птушак,— шчыра паабяцаў хлопчык.

Міця пабег да Адама, які ўжо вучыўся ў другім класе, пахваліцца, што цяпер і яго прынялі ў школу.

*1965*

## ЗДАРЭННЕ НА ПАЎСТАНКУ ВЯЛІКІЯ ІВАНЫ

Здаляка, з вышыні парослага сасной узгорка, тры белыя домікі паўстанка здаюцца зусім маленькімі. Паўстанак называецца Вялікія Іваны, і гэта можа выклікаць толькі здзіўленне,

бо ніякай вёскі ці паселішча з такой назвай у бліжнім наваколлі няма. Ёсць дом адпачынку, размешчаны на сасновых узгорках, ён носіць паэтычную назву «Арлінае гняздо». Па той бок чыгункі віднеюцца баракі торфапрадпрыемства, заснавальнікі якога не прыдумалі нічога лепшага, як назваць барачны пасёлак «Тарфяны ўчастак № 7». Кажуць, што некалі ў лагчыне, дзе цяпер штучнае возера, стаяў хутарок, які так і называўся — Вялікія Іваны. Хутарок спалілі немцы, потым, пасля вайны ўжо, рачулка, якая цякла па лагчыне, была перагароджана пясчанай дамбай — так утварылася штучнае возера, у якім купаюцца тыя, хто адпачывае ў «Арліным гняздзе». На возера аднекуль прылятаюць нават сапраўдныя марскія чайкі. Вялікія Іваны засталіся толькі назвай паўстанка.

Стаіць харошы беларускі верасень, напоўнены цеплынёй няяркага сонца, празрыстасцю паветра, аздоблены мяккасцю фарбаў і тонаў. Сасновы бор на процілеглым беразе возера ахутан сіняватай павалокай смугі, лашчаць вока вясёлыя бярозавыя гайкі на гэтым беразе, дыша прахалодай і спакоем люстраваная, як матавае срэбра, роўнядзь возера.

Уладальнікі прафсаюзных пуцёвак, якія даюць права на гэты двухтыднёвы рай, займаюцца тым, чым займаюцца ўсе, хто трапіў у дом адпачынку. Снедаюць, абедаюць, нават спяць днём, купаюцца ў возеры, вандруюць па алейках, пасыпаных жоўтым пяском, гойдаюцца ў гамаках, гуляюць у валейбол. Трапляюцца і досыць зухаватыя кавалеры, да якіх належаць людзі самага markednaga ўзросту. Гэтыя старанна адпрасоўваюць белыя штаны і безрукаўкі, заводзяць знаёмствы з дзяўчатамі і жанчынамі, катаюць іх на лодках па возеры, водзяць па лесе, паказваюць найбольш прыгожыя і адметныя мясціны.

Вечарам у доме адпачынку кіно, пасля — сон. Нягледзячы на строгі рэжым і распарадак, правілы якога вывешаны ў калідоры кожнага корпуса, знаходзяцца такія, што, не клапоцячыся аб здароўі, значна ўкарачаюць час, адведзены для сну. У дальніх бяседках нават пасля той пары, калі ў небе павісае зеленаватая зорка Венера, можна ўбачыць парачку-другую, што ніяк не могуць нашаптацца. Дальнія бяседкі жартам называюць востравам расчаравання і слёз.

У нас свая кампанія, досыць выпадковая, але трывалая. Я хаджу з Васілём Голубам, высокім, саракагадовым інжынерам

з прыдняпроўскага гарадка. Мы з ім жывём у адным пакоі. З Васілём добра — ён маўклівы, не даймае роспытамі, днём, вынесшы раскладушку ў сасоннік, праглытвае кнігу за кнігай, а ноччу спіць. Да нас далучаецца Валя, прыгожая, досыць маладая жанчына з вялікімі сінімі вачыма і бялявымі завіткамі перманенту. Валін муж працуе на тым самым заводзе, што і Васіль Голуб. Жанчына далучаецца да нас часцей за ўсё ў перадвячэрнюю пару, калі мы збіраемся на паўстанак. У гэты час прыходзіць пасажырскі цягнік, прывозіць новых уладальнікаў пуцёвак у «Арлінае гняздо» і свежыя газеты, якія можна купіць у паштовым аддзяленні на паўстанку.

Валя ходзіць разам з намі па лісты ад мужа. Лісты прыносяць у дом адпачынку вечарам, а Валя, відаць, не хоча чакаць. Тут ёсць і свая жаночая палітыка. Ходзячы з намі, Валя як бы засведчвае сваю добранадзейнасць у вачах Васіля Голуба. Тым болей што з усіх жанчын яна ў доме адпачынку, бадай, самая прыгожая, на яе заглядваюцца. Ёсць у яе і сталы кавалер, Алёша, памочнік рэжысёра з кінахронікі, малады, стройны халасцяк з кучаравай чорнай шавялюрай і прыемным мужным тварам.

Алёша, калі мы ідзём на паўстанак, заўсёды далучаецца да нашай кампаніі, але, вядома, не з-за нас, а з-за Валі. Яму не адмовіш у розуме, дасціпнасці, ды і наогул з усіх кавалераў сасновага царства ён найбольш фацэтны. З той жа мужчынскай праніклівасцю мы адчуваем, што Валя глядзіць на памочніка рэжысёра як на вясёлую забаўку і прымае яго заляцанні да пэўнай мяжы. Гэта падабаецца нам, не зусім маладым мужчынам, у якіх дома жонкі і дзеці. Падабаецца ўсё болей з кожным днём па адной вельмі немалаважнай прычыне, аб якой ведаю я, бо жыву з Голубам, і, відаць, не ведае Алёша. Валін муж пакалечаны вайной, у яго няма правай рукі і знявечаны асколкамі твар. Ён п’е, раўнуе жонку і работнік не вельмі добры — яго ўжо два разы звальнялі з завода. Ліста ад яго Валя не атрымала пакуль што ніводнага.

З Валяй мы як бы ў маўклівым згаворы. Алёша гэтага не разумее, злуецца, шукаючы прычыну відавочнай марнасці сваіх заляцанняў. Прычыну ён, відаць, бачыць у тым, што Валя неабыякавая да Голуба, і ўвесь двухкіламетровы шлях да паўстанка як можа падколвае майго суседа. Трэба сказаць,

што Алёшу гэта ўдаецца. Нават Валя, звычайна строгая ў прысутнасці Голуба, іншы раз не вытрымлівае і заліваецца бесклапотным смехам. Я не магу яе зразумець: знешне яна нічым не адрозніваецца ад тых апранутых па апошняй модзе дзяўчат і жанчын, некаторыя з якіх ужо на другі дзень свайго знаходжання ў «Арлінным гняздзе» катаюцца на лодках, ахвотна прымаюць ад мужчын розныя паслугі і нават трапляюць на «востраў расчаравання і слёз».

Гэта здарылася на дзясяты дзень нашага жыцця ў сасновым раі. Відаць, у доме адпачынку быў нехта яшчэ з прыдняпроўскага гарадка, і, зрэшты, Алёша ўведаў сапраўдную прычыну правалу сваіх кавалерскіх намераў.

У той ціхі надвячорак, калі мы ішлі на паўстанак, ён як ніколі быў насмешлівы і калючы.

— Ветэраны вайны...— кідаў ён з’едлівыя кепікі.— Маладая Праслаўна, якая аплаквае паланёнага мужа ў Пуціўлі, на гарадской сцяне. Глупства ўсё... Жыццё ёсць жыццё. Хіба не смешна гаварыць у атамную эпоху пра вернасць?..

Голуб, не зважаючы на прысутнасць Валі, брыдка вылаяўся. Я ніколі не бачыў яго такім злосным. Валя ішла з пабялелым тварам.

На паўстанак мы прыйшлі маўклівыя, незадаволеныя адзін другім. Купілі газеты. Валя нарэшце атрымала першы ліст ад мужа і, прачытаўшы, схавала яго ў рыдыкюльчык, які нагадваў мініяцюрную дубовую бочачку. На пероне, на пафарбаванай у зялёны колер лаўцы, сядзеў сярэдніх год мужчына з хваравітым, жаўтлявым тварам і побач з ім хлопчык. Калі мы вярталіся назад, мужчына раптам захрыпеў, на губах у яго паказалася пена, а твар зрабіўся чорна-сіні, як толькі што вывернутая скібіна падзолу. Ён упаў з лаўкі і пачаў біцца галавой аб жарству.

— Доктара!.. Доктара! — закрычаў нехта з тых, што вылезлі з пасажырскага цягніка.— Чалавек памірае...

Хлопчык між тым паводзіў сябе спакойна. Ён дастаў з кошыка белае прасціpадла і накрыў ім чалавека, цела якога зводзілі сутаргі. Потым прысеў на кукішкі і аберуч, пад прасцірадлам, узяў чалавека за галаву.

Сабраўся натоўп. Падышоў дзяжурны паўстанка ў вогненна-чырвонай шапцы.

— Гэта мой бацька,— спакойна растлумачыў яму хлопчык.— Ён хутка ўстане, не трэба доктара. Такая хвароба ў яго з вайны. Яго расстрэльвалі немцы і прабілі галаву. Я таму заўсёды з ім разам хаджу. Мамка прасцірадла дае. Не трэба, каб людзі твар бачылі...

Чалавека трэсла, падкідвала, а малы сын яго цярпліва, з выразам спакою на поўным тварыку сядзеў над ім, не даючы бацьку пабіць галаву. Натоўп пачаў разыходзіцца. Алёшы каля нас ужо не было. Мы вярталіся ў дом адпачынку ўтраіх.

Валя ішла маркотная, але як бы з нейкай лагоднай прасветленасцю на твары.

*1963*

## ПРАКУРОРЫ

Вялікае пясчанае сяло Салаўі мела празванне Пракуроры. Ураджаі ў Салаўях слабыя, з зямлі не пражывеш, і мясцовы люд здаўна займаўся ўсялякім прадпрымальніцтвам. Жылі тут спрытныя на чужое — канакрады, перакупшчыкі. Гэтыя надзвычай добра ведалі законы і заўсёды шнырылі па кірмашах. Мабыць, з-за іх і далі вёсцы другую назву — Пракуроры.

Найбольш адметным «пракурорам» быў Аркашка Шлег — высокі, аднавокі, у наглянцаваных хромавых ботах і скуранцой тужурцы. Калі Аркашка быў пры грашах, то вызначаўся незвычайнай шчодрасцю. Паіў, каго ні сустрэне — знаёмага ці незнаёмага. Міліцыя мела на Аркашку вока, ён не раз сядзеў у турме, але вызваляўся хутка.

Да Аркашкі на кірмашах падыходзілі як да адваката.

— Скажы, братка, як, мяне засудзяць? — пытаўся дзядзька з суседняй вёскі.— Тры хваіны паклаў у лесе, а ляснічы застаў. Склаў прытакол — і ў суд.

— Ярунда,— махаў рукой Аркашка.— Сагласна працэсуальнага кодзікса, стацця дзвесце сорак восем, пункт бэ — месяц прымусоўкі ці штраф. Дастань спраўку, што востра нуждаешся ў дзераве, то і штрафу не будзе.

— Як жа я дастану? — чухаў патыліцу дзядзька.— Хата яшчэ цэлая, хлеў тожа. То ж я на прыгрэбнік дзеравы паваліў.

— Чудак чалавек. А ты ў сельсавеці скажы, што хата цячэ. Не павераць — у раён пішы. А не — таварышу Калініну ў Маскву.

Перад вайной Аркашку прыпаялі моцна — дзесяць гадоў за калектыўны крадзеж.

Перад Салаўямі чыгунка ідзе на круты ўздым, і цягнікі замаруджваюць тут бег. Аркашка з хаўруснікамі, узброіўшыся доўгімі, насаджанымі на жэрдкі крукамі, на хаду ўскакваў на тормаз, адчыняў вагон і, калі там была мануфактура ці другі ходкі тавар, выкідваў пад адхон.

З Аркашкам быў звязан і смешны выпадак, які доўга памяталі ў наваколлі. Аднойчы ў Салаўі прыехаў гарадскі лектар, пабываў у некалькіх хатах і быў здзіўлены тым, што ў кожнай стаялі гіпсавыя барэльефы французскага філосафа Вальтэра. На нейкай нарадзе недасведчаны лектар заікнуўся пра Салаўі, якія незвычайна шпарка цягнуцца да культуры, але яго падняли на смех. Тады высветлілася, што барэльефы былі бясплатнай данінай Аркашкі Шлега аднавяскоўцам пасля таго, як ён выкінуў з вагона вялікую скрыню і знайшоў у ёй не тое, што шукаў.

Зрэшты, лектар не вельмі памыляўся — Салаўі сапраўды цягнуліся да культуры. Ні з якой другой вёскі столькі моладзі не вучылася ў тэхнікумах, інстытутах, колькі з Салаўёў. Маладыя салаўёўцы вызначаліся дасціпнасцю, на ляту хапалі кінутае настаўнікамі. І прабіваліся туды, куды нават гарадскія школьнікі не маглі прабіцца.

У вайну Аркашка Шлег зноў аб’явіўся ў Салаўях. З год пасядзеў ціха, а потым узяўся за ранейшае. Да немцаў сяло паставілася варожа, і Аркашка дзейнічаў беспакарана. Разоў пяць наскакваў на эшалоны, і аднойчы яму ўдалося выкінуць некалькі цюкоў з шынялямі і мундзірамі.

З салаўёўцаў у партызаны падалося нямала людзей, нават камандзірам партызанскай роты быў мясцовы хлопец — Віктар Шлег, пляменнік Аркашкі, лейтэнант, які выбраўся з акружэння. Нягледзячы на тое, што родзіч камандаваў партызанамі, у партызаны Аркашка не пайшоў. Дзейнічаў самастойна. Налятаў з хеўрай на млыны, маслазаводы, па-ранейшаму грабіў эшалоны. З гэтага вынікала нейкая карысць. Салаўёўцы перафарбоўвалі нямецкія мундзіры, шынялі, перашывалі іх

на світкі, паддзёўкі, спадніцы. Не дзіва было ўбачыць, як салаўёвец, седзячы ў зямлянцы, есць з бульбай партугальскія кансервы. Гэта былі дары Аркашкі Шлега. Ён быў усё-такі патрыётам сваёй вёскі.

Пасля вайны, хоць Аркашка і не быў сапраўдным партызанам, мінулае яму не ўспаміналі.

Аркашкаў пляменнік Віктар у партызанах праславіўся смеласцю, меў узнагароды, пайшоў у армію і там меў узнагароды. Вярнуўся пасля вайны капітанам і прывёз з сабой жонку — чэшку. Нікому ў тыя гады не дазвалялі жаніцца з грамадзянамі замежнага паходжання, а Віктару дазволілі.

Пасля вайны, калі на Палессі пачалі разведваць нафту, Віктар падаўся ў пошукавую партыю. Спачатку — доўгія гады — поспеху не было. Буравыя вышкі выраслалі і знікалі, аднойчы паказалася нафта, але, як сцвярджалі спецыялісты,— не прамысловая.

Віктар пераязджаў з раёна ў раён, але работы не кідаў. Быў памбура, бурыльшчыкам, стаў майстрам.

Здарылася так, што на шаснаццатым годзе пошукаў буравыя вышкі выраслі на салаўёўскім полі — адна на пяску, другая — у балацянцы. Салаўёўцы, якія нічога новага не прапускалі, падаліся на буравую ў заработкі. На гэты раз пайшоў у падначаленне да пляменніка і Аркашка Шлег. Меў ён за плячамі гадоў шэсцьдзясят з лішкам, жыў бабылём — ні жонкі, ні хаты. Стаўшы працаваць на буравой, на людзях пахваляўся, што праз дзесяць гадоў Салаўі стануць горадам і там, дзе цяпер пясчаная вуліца, ляжа праспект. Яму верылі і не верылі...

Нафтавы фантан ударыў восенню, у пахмурны, імглісты дзень. На балацянцы за некалькі гадзін утварылася жоўта-чорнае азярко. На буравой качалі, падымалі на «ўра» Віктара. Аркашка кінуўся ў сяло. Выпэцканы з галавы да ног, ён бегаў па вуліцы, зазіраў у двары і, паказваючы бутэльку з чорнай масляністай вадкасцю, шчасліва, як дзіця, смяяўся...

*1963*

# РАКЕТЫ НАД ГОРАДАМ

Мы сядзім у Зыбіка і праз акно глядзім на станцыю. Зыбікаў дом на Вакзальнай вуліцы, і станцыя адсюль як на далоні. Там два нямецкія эшалоны.

— Цялё ён,— гаворыць Іван Зыбік.— Знайшлі каго ўцягваць.

— Ціхі,— згаджаецца Саша Тарлецкі.— Але гэта не значыць, што палахлівец. Сам прасіўся.

Іван Зыбік, адтапырыўшы тоўстую ніжнюю губу і наваліўшыся грудзьмі на стол, разграфляе пры дапамозе школьнай лінейкі аркуш паперы. Ён не вельмі ахайны, Іван, па тры месяцы не стрыжэцца, не абразае пазногцяў, але што датычыць чыгуначных зводак, то тут ён педантычны, нібы бухгалтар. Ён сам вынайшаў форму з мноствам розных клетачак, якія запаўняе лічбамі і скарочанымі словамі. У гэтых лічбах і словах уся карціна руху нямецкіх эшалонаў на ўсход і захад за суткі.

— Колькі на тым складзе яек? — зноў пытае Іван.

— Пяць тысяч,— адказваю я.— Так сказаў Грыша. Навошта яму хлусіць?

— А-а-а, глупства гэтыя яйкі. Хто іх лічыў. Лепш бы ў вагон укінулі.

Мы з Тарлецкім маўчым. Можа, і лепш, каб фосфарныя шарыкі падкінуць у вагон. Але, па-першае, Грыша сам прасіўся, і трэба яго праверыць. Па-другое, мы ўжо двойчы прыляплялі магнітныя міны пад вагон, а вынікаў не ведаем. Эшалон пайшоў, і ўсё. Спрацавала міна ці не — невядома.

Ужо хутка два месяцы, як мы пяцёра — ваенныя разведчыкі. Нас ніхто не вучыў рабоце ў разведцы, не скідаў на парашутах з самалётаў, мы знайшліся самі. На парашуце скінулі нашага начальніка, капітана Мазурэнку, і радыстку. Яны ў лесе, а мы ў чыгуначным пасёлку, дыхаем адным паветрам з немцамі і паліцаямі. Паліцаяў, стараст, бургамістраў, якія ўцяклі са сваіх вотчын, у нашым пасёлку як нярэзаных сабак. Яны збегліся сюды, пад ахову нямецкіх дзотаў, пасля таго як усе лясныя сельсаветы сталі партызанскай зонай.

Мы з пасёлка рваліся ў лес і гэтыя два месяцы маглі быць у партызанах. Зрабіць гэта цяпер лягчэй, чым летась. Каб

немцы не пакаралі сем'і, трэба для бачнасці наладзіць спектакль. Пайсці, прыдумаўшы які-небудзь верагодны прыклёп, у вёску і павярнуць справу так, нібы нас захапілі партызаны. Была ўжо і дамоўленасць наконт гэтага спектакля. Але потым усё вытанцавалася інакш. Нам сказалі, што ў пасёлку мы болей патрэбны. Цяпер у партызаны можна трапіць толькі ў тым выпадку, калі над кім-небудзь навісне пагроза правалу.

— Ты ў бутэльцы занёс шарыкі? — звяртаецца Іван да мяне.

— У бутэльцы. Міколава малако скісла, я наліў свежага.

— Дык ён што, з тваім малаком пойдзе ў кантору?

— Не, дамовіліся, што загорне шарыкі ў анучку, прамочаную газай. Так Мікола загадаў.

У вадзе фосфар гарыць. У малацэ і газе не гарыць. Гэта вядома кожнаму з нас з сёмага класа. Зыбік перапытвае таму, што нервуецца. Мы ўсе ўтраіх нервуемся. Сёння мы прылучаем да сябе новага чалавека — Грышу Грыневіча. Сёння будзе яго першая дыверсія. І хоць мы ведаем Грыневіча яшчэ са школы, парадак ёсць парадак. Прылучыцца да нас можна толькі зрабіўшы дыверсію. Каб нельга было адмовіцца ад далейшай работы. Такі загад капітана.

— Воблака ў штанах ваш Грыша,— упікае нас Іван.— На мандаліне ён яшчэ мастак. Але тут табе не «Дунайскія хвалі». Пабачыце, праваліць. Байдака сёння не было?

— Не было.

Байдак — паліцэйскі шпік. Гэта мы ведаем дакладна. Ужо тыдні два, як ён стаў завітваць на Вакзальную вуліцу. Няўклюдная, крыху прыгорбленая фігура паяўляецца на вуліцы ў перадвячэрні час і маячыць да самага змяркання. Мы ўпэўнены, што і вечарам Байдак, дзе-небудзь стаіўшыся, віжуе. Але што ён сочыць менавіта за намі, сказаць яшчэ не можам.

Іван скончыў разграфляць паперу і схаваў лісткі ў кішэню. Саша Тарлецкі, стройны і падцягнуты, як лейтэнант, ходзіць па пакоі і курыць цыгарэтку. Нам цяжка ў пасёлку. Мабыць, яшчэ цяжэй, чым Мазурэнку і радыстцы, якія адтуль, з партызанскага лесу, перадаюць нашы звесткі ў Маскву. Вакол — партызаны, фашыстаў б'юць на фронце, і яны спаганяюць злосць на мірным насельніцтве. Не праходзіць тыдня, каб ка-

го-небудзь з пасялкоўцаў не арыштавалі. Да нас чарга яшчэ не дайшла. Дый наогул мы стараемся не думаць пра тое, што нас могуць выкрыць і схапіць.

За акном сінеюць змрокі.

— Калі канчаецца работа ў канторы? — пытае Іван.

— У шэсць гадзін,— адказваю я.

— Ну вось, а цяпер восем. Ясна, што праваліўся ваш Грыша.

Мы глядзім на наручныя гадзіннікі. Гадзіннікі ў кожнага з нас з цыферблатам, які свеціцца ўпоцемку. Мы іх купілі ў немцаў за маркі, якія прыслаў капітан. Гадзіннікі нам трэба для справы, якой мы цяпер займаемся. Капітана менш за ўсё цікавяць нашы мясцовыя дыверсіі, паліцаі і бургамістры, што паўцякалі са сваіх валасцей. Яго цікавіць колькасць эшалонаў, якія прайшлі праз станцыю на ўсход і захад, якую тэхніку і войска яны вязуць на фронт, а таксама нумары тых вайсковых часцей, што запыняюцца ў пасёлку. І мы ведаем прычыну такой цікавасці нашага начальніка. Тым болей што яна відавочная. Пад поўнач у небе над вялікім горадам, які ад пасёлка за восемдзесят кіламетраў, загараюцца чырванаватыя агні ракет, якія вешаюць у паветры самалёты. Чыгуначны вузел бамбяць савецкія самалёты. Выбухаў не чуваць, а водбліскі далёкіх зыркіх ракет відаць і ў пасёлку. Паліцэйскія патрулі ў гэты час страляюць у паветра, і чамусьці зацята брэшуць сабакі. Сувязь паміж бамбёжкамі і нашымі чыгуначнымі зводкамі самая прамая і непасрэдная: чым больш прайшло эшалонаў на ўсход, тым даўжэй вісяць у небе падобныя на самыя яркія зоркі ракеты. Акрамя зводак, мы пасылаем капітану і звесткі пра шкоду, якую наносяць чыгуначнаму руху дыверсіі партызан. Гэтыя дыверсіі цяпер такія ж частыя, як і бамбёжкі.

— Фосфар загарыцца тады, калі з анучкі выветрыцца газа,— задумліва гаворыць Тарлецкі.— Можа прайсці і больш як дзве гадзіны. Трэба было праверыць.

— Дык чаму не праверылі?

Пярэчыць не прыходзіцца. Зыбік мае рацыю. Перш чым што-небудзь рабіць, трэба добра падрыхтавацца. Але, з другога боку, нам абрыдзела наша стоенасць і канспіратыўнасць. Капітан Мазурэнка патрабуе, каб мы не сыходзіліся разам, нават не віталіся адзін з другім на вуліцы, на людзях. Гэтага

патрабавання мы не выконваем. Мы сыходзімся амаль штодня. Мы ўсе пяцёра сябруем яшчэ з дзіцячых год, і было б проста смешна, каб мы раптам перасталі вітацца на вуліцы. Нам ненавісна паліцэйскае кодла, у якім мы жывём. Таму хочацца хутчэй чым-небудзь яго ўзварушыць, прымусіць задрыжаць усіх гэтых паліцаяў, бургамістраў, немцаў. Каб яны адчулі, што не такія ўжо надзейныя дзоты, пабудаваныя вакол пасёлка. Можа, таму мы з Тарлецкім і аддалі адразу шарыкі Грышу Грыневічу, як толькі Мікола прынёс іх з лесу.

Некалі, да вайны яшчэ, мы, школьныя дружбакі, марылі стаць лётчыкамі, артылерыстамі, танкістамі. Нам надзвычай падабалася песня «Любімы горад» — у ёй спявалася пра хлопца, які адлятае з роднага горада, каб бараніць яго ад варожай навалы. Пакідае гэты хлопец зялёную вуліцу і незабыўны позірк дзявочых вачэй, каб потым вярнуцца да родных аселіц авеяным славай. Мы нікуды не паляцелі. У сорак першым двое нашых, што паспелі за тыдзень да вайны закончыць дзесяцігодку, былі мабілізаваны ў армію і трапілі ў звычайную пяхоту. Праз месяц яны ўжо ваявалі. Адзін забіты пад Арлом, другому, Івану Зыбіку, удалося вырвацца з палону, і ён цяпер з намі. У сорак другім мы страцілі яшчэ дваіх. У нас была падпольная група, і немцы сёе-тое пранюхалі. Аднаго расстралялі, другога звезлі ў Германію. Што з ім сталася, мы не ведаем. Такая наша кароткая гісторыя.

Як паводзім мы сябе цяпер? Іван Зыбік, Тарлецкі і Васіль Пікус, якога тут няма, укалваюць у рамонтнай брыгадзе на станцыі. Лічаць эшалоны. Я сяджу касірам у лясніцтве. Гэта дае магчымасць з рахункамі лясніцтва завітваць у казначэйствы вайсковых часцей, якія запыняюцца ў пасёлку і бяруць дрэва на дзоты і баракі. Так ці інакш, а сёе-тое ўведаць пра вайсковыя часці ўдаецца. Я крыху ведаю нямецкую мову і дзеля большай гарантыі прадстаўляюся казначэям як перакладчык з лясніцтва. Іншы раз казначэі даюць мне як бы ва ўзнагароду за веданне мовы ілюстраваныя салдацкія часопісы, дзе на палове старонак голыя жанчыны.

Цяжэй, небяспечней нашаму пятаму — Міколу Лагуну. Гэта ён штодня носіць нашы зводкі на паўстанак Гарохаўка, дзе ўладкаваўся прыёмшчыкам на дравяным складзе. Прыцемкам ці на золку Мікола адлучаецца ў суседнюю з Гарохаўкай

лясную вёсачку. Там жыве яго цётка і там адбываюцца сустрэчы з Мазурэнкам ці яго пасланцамі. Для нашых зводак Мікола прышыў заднюю кішэнь у спадніках. Гэта на выпадак, калі стануць абшукваць.

Мы марылі пра адкрытыя, гучныя подзвігі, а тоімся, як рудыя мышы пад венікам. Нават дзяўчатам, з якімі разам вучыліся, да якіх ходзім цяпер, пра свае справы не расказваем. Намякаем, але прама не гаворым. Ад гэтага крыўдна. Вось так мы жывём. Фронт яшчэ далёка. Зіма пачалася весела. Нават мясцовыя фашысты спраўлялі траур з прычыны акружэння нямецкай арміі ля Волгі. Пяць дзён трапятаўся на ветры вывешаны на будынку фельдкамендатуры нямецкі сцяг, абшыты чорным крэпам. Цяпер вясна, канец сакавіка, і справы на фронце пайшлі горш. Фашысты зноў захапілі Харкаў.

— Калі загарыцца ў поўнач, то будзе ў самы раз,— гаворыць Тарлецкі.— Тады чорта з два патушаць.

— Ды не загарыцца,— пярэчыць Зыбік.— Не ведаю я вашага Грышу, ці што? Гэта дзяжа з цестам. Характару ні на грош.

Мы ўсе ведаем Грыневіча. Ён шырокі ў плячах, рослы, як дуб, але надзвычай мяккі характарам. У школе яго звалі Партосам.

Ён згінаў у пальцах пятак і ў той жа час верыў ва ўсякія небыліцы, якія расказвалі вострыя на язык старэйшыя школяры. Грыневіч паступіў у гандлёвую кантору і прапанаваў спаліць склад, дзе дваццаць скрынак з яйкамі.

— Завесь акно і запалі лямпу,— просіць Іван, звяртаючыся да Тарлецкага.— Я прынясу дроў, трэба печ запаліць.

Іван выходзіць на двор, а Саша навешвае на цвікі, убітыя ў верхні плінтус акна, вялікі кавалак брызенту, што замяняе нам штору. Потым запальвае лямпу-васьмярык. Ні пажару, ні таго, што робіцца на станцыі, цяпер не ўбачыш. Але, зрэшты, мы ведаем, што на станцыі да раніцы нічога не зменіцца. Хіба падыдзе яшчэ адзін эшалон з захаду і ўсе тры яны ноч прастаяць на нашай станцыі. Баючыся бамбёжак, немцы заганяюць эшалоны на невялікія станцыі.

Іван уносіць ахапку дроў і пачынае запальваць у печы. Яму трэба згатаваць вячэру для сябе і маці. Маці яго хворая, у яе

адняліся ногі, і яна, прыкутая да ложка, ляжыць у бакоўцы за перагародкай, не ўмешваючыся ў нашы справы. Таму мы і збіраемся ў Івана. У яго нам лепей за ўсё збірацца.

— Я схаджу да Грыневіча,— раптам заяўляе Тарлецкі.— Трэба дазнацца, што там здарылася. Можа, яго схапілі?

— Позна,— пярэчыць Зыбік.— Нарвешся на Байдака.

— Не нарвуся.

Саша выходзіць. Мы з Іванам чысцім бульбу. Гаварыць няма пра што. У печы, разгараючыся, патрэскваюць дровы. Я думаю пра Тарлецкага. З нашай пяцёркі, бадай, самы смелы ён. Нездарма ўзяў сабе клічку Чапаеў. Свае зводкі мы ўсе падпісваем клічкамі. Зыбік падпісвае на лістках Коршак. Такое прозвішча нашага сябра, які загінуў пад Арлом у сорак першым. Я, нібы на смех, узяў клічку Казьма Пруткоў. Можа таму, што люблю кнігі і ведаю, што ніякага Казьмы Пруткова на свеце не было, хоць у чорным, старынным томіку, які я беражна хаваю, і змешчан партрэт вусатага дзядзькі.

Праходзіць гадзіна, а Тарлецкага няма. Бульба зварылася. Іван накладвае на талерку і нясе вячэру маці ў бакоўку. Сам ён есці не хоча. Я таксама не хачу, хоць і не абедаў.

Праходзіць яшчэ гадзіна. Мы пахаджваем з кута ў кут і маўчым. Раз-пораз адхінаем штору і глядзім у акно. Пажару не відаць. Няма горшага пачуцця, як невядомасць. Яно можа давесці да вар'яцтва.

Нарэшце адчыняюцца дзверы і заходзіць Тарлецкі. Твар яго вясёлы.

— Сарвалася! — адчайна махае ён рукой.— Ты казаў праўду — цялё гэты Грыша. Паклаў анучку з шарыкамі ў кішэню яшчэ ў абед і чакаў, пакуль скончыцца работа. Ну, газа выветрылася і фосфар загарэўся.

— У кішэні? — спалохана пытаюся я.

— У кішэні. Але галоўнае не ў гэтым. Ён малайчына, Грыша. Ніякага знаку не падаў. І вынаходлівасці хапіла. Карабок запалак, нібы закурваючы, на калене наўмысна падпаліў, каб пахла серай і каб бачылі другія. Потым выйшаў на двор і затаптаў фосфар у зямлю. Ніхто ні аб чым не здагадаўся!.. На нагу страшна глядзець. Гарэлае мяса. Трэцяя ступень апёку. Трэба доктара...

З хвіліну мы ўсе трое маўчым.

— Разумны, чорт,— нарэшце гаворыць Зыбік.— Можна было лёгка засыпацца.

Мы яшчэ доўга абмяркоўваем здарэнне і спосабы дапамогі Грышу, потым выходзім на двор. Самая поўнач. У гэты час звычайна павісаюць ракеты над горадам. Мінае дваццаць ці трыццаць доўгіх хвілін, і вось паяўляюцца ў небе ракеты — адна, другая, трэцяя. Яны падобны хутчэй за ўсё на чырванаватую планету Марс, якая павісае над зямлёю летнім часам, на захадзе сонца. Мікола панёс зводку ў поўдзень. Можа, гэтыя ракеты — вынік сённяшняй зводкі? Мы доўга стаім і глядзім на край неба, дзе нерухома вісяць гэтыя зыркія далёкія ліхтары. Здаецца, мы нават чуем выбухі бомбаў, якія падаюць на варожыя эшалоны. А можа, гэта не выбухі, можа, проста б'юцца нашы сэрцы? Сёння ўсё-такі мы вельмі ўзбуджаныя...

*1963*

## ТАПОЛІ ЮНАЦТВА

Вечар быў асенні, з дажджом, ветрам, непралазнай гразёю на вуліцы. Жоўтае лісце таполяў падала густа і шчодра, яно заслала ўвесь абнесены жалезнай агароджай прыстанцыйны сквярык. Дзверы ў сквярыку стаялі наўкруг, пасярэдзіне меркавалася зрабіць фантан, але яго так ніколі і не зрабілі: ці то не хапала сродкаў, ці проста хто-небудзь палічыў гэта залішняй раскошай для звычайнай чыгуначнай станцыі. Замест фантана паставілі воданапорную калонку. Вада з-пад адкручанага крана біла такая сцюдзёная, што ад яе зводзіла зубы. Вечарам, пры святле схаванай у лісці дрэў электрычнай лямпачкі, пругкі струмень з-пад крана зіхацеў, як сярэбраны.

У той апошні перадваенны год я жыў няўклюдна, бесталкова. З атэстатам выдатніка закончыў дзесяцігодку, без экзаменаў паступіў у політэхнічны інстытут, мне далі інтэрнат, стыпендыю. Але, не правучыўшыся месяца, я без усякай прычыны пакінуў інстытут, прыехаў у сваё мястэчка. Бацька лаяўся, маці ціха ўздыхала. Каб зачапіць за што-небудзь рукі і не быць нахлебнікам у сям'і, я паступіў картатэтчыкам у бухгалтэрыю кравецкай арцелі. Вядома, пасада і работа мяне

зусім не цікавілі. Толькі два дні ў тыдзень — у суботу і нядзелю — настрой у мяне падымаўся. У гэтыя дні прыязджала дамоў мая аднакласніца Гэля Машчынская, якая вучылася ў педагагічным інстытуце ў бліжэйшым ад нашага мястэчка горадзе. З-за Гэлі я і вярнууўся ў мястэчка.

Я хадзіў да Машчынскіх, на зялёную вуліцу Камунараў, якая была за станцыяй, амаль штовечар, а калі варочаўся дамоў, то заўсёды даваў круку, завітваў на станцыю і піў сцюдзёную ваду з калонкі. Пасажырскія цягнікі — маскоўскі і брэсцкі — к гэтаму часу разміналіся, прастойваючы роўна па тры хвіліны, ля перона пыхкаў толькі мясцовы з маршрутам на тарфяны завод і назад. Ён адпраўляўся, не вельмі прытрымліваючыся графіка: калі ў адзінаццаць, калі ў палове дванаццатай. На станцыі ў гэты час панавала цішыня. У напалавіну пустой, закуранай зале драмалі пасажыры, якім па начным часе не было куды падацца. З перона ў асветленым акне была відаць маладая тэлеграфістка, якая чытала ленту, раз-пораз папраўляючы прычоску. У пакоі дзяжурнага курылі аглядчыкі вагонаў і саставіцелі.

Я хадзіў да Машчынскіх, робячы выгляд, што сябрую з іхнім Аркадзем. Аркадзь вучыўся ў восьмым класе. Я насіў яму кнігі, памагаў рашаць задачы, праседжваючы па дзве-тры гадзіны штовечар. Аркадзь ні аб чым не здагадваўся. Маці Гэлі і бацька, вядома, разумелі. Маці была ласкавая: калі размаўляла са мной, то заўсёды з нейкай як бы вінаватай усмешкай на твары. З бацькам — галоўным аграномам райза — я бачыўся рэдка, ён вечна вандраваў па раёне. Застаючы мяне з Аркадзем, ён моцна, па-мужчынску, паціскаў мне руку і, ні аб чым не распытваючы, ішоў у свой пакой.

Аркадзь мне падабаўся тым, што быў Гэліным братам. І тварам, і характарам ён вельмі нагадваў сястру. Гэтак жа, як і яна, умеў захапляцца: мог гадзіну расказваць пра якую-небудзь марку, што трапіла ў яго калекцыю, тлумачыў мне сэнс магічных знакаў старажытнай Індыі, якія ён перамаляваў у сшытак са старой кнігі. Ні маркі, ні магічныя знакі мяне не цікавілі. Мне было васямнаццаць гадоў, і я ведаў, што люблю Гэлю. Толькі дзеля яе гэтыя два месяцы я прыходзіў у прасторны, са шкляной верандай і дзікім вінаградам на сцяне дом Машчынскіх. Я любіў іхні дом, ціхую зялёную вуліцу, на якой

ён стаяў, любіў Аркадзевы вочы, такія ж вясёла задуменныя, як і ў сястры.

Пра адносіны Гэлі да мяне я нічога не ведаў. Калі мы яшчэ вучыліся ў школе, толькі адзін раз хадзілі разам у кіно. У дзень майго сямнаццацігоддзя яна падаравала мне кнігу — «Сагу аб Фарсайтах». У школе яна ўсё ж ставілася да мяне пасяброўску. Цяпер, прыязджаючы дамоў і застаючы ў кампаніі з Аркадзем, хмурылася, ні разу на яе твары я не заўважыў радаснай усмешкі. Я чакаў, спадзеючыся на цуд.

У той суботні вечар я сядзеў з Аркадзем да адзінаццаці, тоячы надзею, што Гэля прыедзе. Наступалі дні Кастрычніцкіх свят. За цёмным акном шастаў вецер, біў у шыбіну галінай грушы. Я лавіў кожны зык і шорах на двары, каб не прапусціць моманту, калі рыпнуць веснічкі. Добра памятаю: нейкі ўнутраны голас гаварыў мне, што ў гэты вечар павінна здарыцца штосьці незвычайнае, тое, чаго я даўно чакаю і прагну душой. Але Гэля не прыехала.

Я развітаўся і пайшоў на станцыю. Ліў дождж. Не зважаючы на яго, я хадзіў па скверы і слухаў, як шасціць пад нагамі мокрае апалае лісце. У разложыстых шатах таполяў шумеў вецер, мігатліва гойдалася ў вецці электрычная лямпачка. Яе святло падала на дол, і жоўтае, абмытае дажджом лісце здавалася залатым.

Нарэшце я выйшаў са скверыка і ўбачыў Гэлю. Яна стаяла пад казырком бляшанага навеса над ганкам чакальнай залы і, відаць, сачыла за мной увесь той час, пакуль я блукаў па скверыку. Твар яе быў мокры, з-пад сіняй хусцінкі выбілася, апусціўшыся на лоб, пасмачка русявых валасоў. Я падышоў да Гэлі.

— Чаму ты не дома? — халадзеючы ад нядобрага прадчування, спытаў я.

— Я ведала, што ты будзеш чакаць, таму не пайшла.

— Гэля... Ты ведаеш, я прыехаў дзеля цябе...

— Зрабіў глупства.

— Я люблю цябе, Гэля. Можаш ты гэта зразумець?..

Гэтыя словы я вымавіў з адчаем, з болем, з просьбай пакінуць мне хоць кроплю надзеі.

Яе твар на імгненне пакутліва перасмыкнуўся, як бы дзяўчына раздумвала аб чымсьці цяжкім, балючым. Але на

адно толькі імгненне, бо яна адразу ўзяла сябе ў рукі.

— Ведай,— сказала яна цвёрда.— Я люблю другога, не цябе... А з гэтым трэба канчаць... Мне проста сорамна!

Не ведаю, як у мяне хапіла сілы спакойна павярнуцца і пайсці. Але я павярнуўся і пайшоў. Яна стаяла на ганку і пазірала мне ўслед...

Вытрымкі мне хапіла ненадоўга. У душы было так пуста і балюча, што дамоў я ісці не мог. Недзе на палавіне дарогі я спыніўся і амаль подбегам рушыў назад на станцыю. Мне раптам уявілася, што Гэля яшчэ там, што яна мяне проста выпрабоўвае. Але яе там не было — пайшла дамоў...

Я зайшоў у буфет. Там за сталамі сядзелі некалькі запозненых пасажыраў. Адзін з іх, стары, з худым маршчыністым тварам, у паношаным вайсковым шынялі, іграў на гармоніку.

Мелодыя была знаёмая. Стары наігрываў матыў песні, якой мы, перадваенная моладзь, усе ў той час захапляліся. Песня была пра любімы горад, які пакідае юнак, каб бараніць сваю Радзіму. Здаецца, у той вечар я прыняў канчатковае рашэнне. Любімы горад быў і ў мяне, не было толькі любімых вачэй, якія б свяцілі мне ў далёкіх вандроўках. Але гэта нікольki не мяняла справы.

Пасля Кастрычніцкіх свят я пайшоў да раённага ваенкама і папрасіў накіраваць мяне ў лётнае вучылішча.

Я моцна непакоіўся, што «не прайду па вачах» — іншы раз пасля доўгага чытання пабольвалі вочы. Але прайшоў. Калі шанцуе, то шанцуе. Вучыцца мяне паслалі ў далёкі горад.

Ад'язджаў маскоўскім цягніком у цёмны, дажджлівы вечар. З бацькамі развітаўся дома: не хацелася, каб яны былі на станцыі. Завітаў у сквярык. Дрэвы стаялі голыя, ледзь прыкметна гойдалі мокрым веццем. На апалае лісце, якое ўсё цяпер ляжала пад нагамі, з галін глуха і часта падалі буйныя кроплі. Нагнуўшыся над калонкай, напіўся вады, яшчэ раз абышоў сквярык, пастаяў пад бляшаным казырком ля ўвахода ў чакальную залу, дзе месяц назад стаяў разам з Гэляй. Было такое адчуванне, што з роднымі мясцінамі і з усім, што выпала на мае васямнаццаць год, развітваюся назаўсёды.

Вясной, за месяц ці два да вайны, калі я пачаў лятаць пакуль яшчэ з інструктарам, прыйшоў ліст ад Гэлі. Я ні разу не пісаў ёй і не ведаю, дзе яна ўзяла адрас. Ліст быў асцярож-

ны: застанёмся сябрамі, пра сябе — здала залікі, была цяжкая сесія.

Не такі ліст хацеў я атрымаць ад Гэлі і таму не ведаў, што адказаць. Столькі я чакаў гэты ліст. А потым пачалася вайна...

Пасля вайны ўжо некалькі разоў быў на радзіме. Гэлі не застаў: яе сям’я ў пачатку вайны эвакуіравалася ў тылавыя раёны і назад у мястэчка не вярнулася. Таполі ўцалелі, разрасліся: не сквер цяпер, а зялёны востраў. Не ведаю, ці прыязджала ў мястэчка Гэля, а калі прыязджала, то ці выклікалі ў яе якінебудзь успамін таполі ў прыстанцыйным скверыку...

*1963*

# 1964

## ПАД ПОШУМ ДУБОЎ

### I

Шчуплаваты, з сівой казлінай бародкай Антон Бондар — здаля не дзед, а хлапчук — трусіў узбоч воза з альховымі жэрдкамі, калі яго аклікнуў брыгадзір Атрошчанка.

— Перадыхні, дзядзька. Хадзі да нас.

Мужчыны сядзелі на бервяне ля канюшні, курылі.

Бондар, па-вулічнаму Драбок, махнуў рукой. Асенні дзень дагараў у празрыстай яснасці. Над блізкім хвойнікам, за канюшняй, кучаравіліся белыя, у залатых водблісках воблакі. Драбок каня спыніў бы, да мужчын падышоў бы, каб не Піліп Цясляк, з якім у Драбка даўнія, глухія нелады.

— Не любіць ён цябе,— сказаў рыжавусаму Піліпу, апранутаму ў цёплую ватоўку, Атрошчанка.

— А за што мяне любіць? Хіба я маладзіца?

— Па суседству бывае,— падтакнуў Валынец Павел.— Мы з Халімонам, як на хутарах жылі, гадоў дзесяць не здароўкаліся. Праўда, Халімон?

— Няма за што сварыцца,— адказаў камлюкаваты Халімон, стрэлачнік-пенсіянер.— Два тыдні я калгасу пакасіў, дзякаваць, што мне травы далі. Цяпер дайце каня копы перавезці...

— А як не дам, сварыцца будзеш? — спытаў Атрошчанка.— На каня дагавору не было. Памог калгасу, травы табе далі.

— За два тыдні — чатыры капы. Невысокая плата.

— А ты болей хацеў? Табе на чыгунцы колькі плацілі? — спытаў Атрошчанка.

— Усяк было. Пад канец, на старыя грошы, пяцьсот шэсцьдзясят у месяц. Пенсіі на новыя — сорак два рублі.

— Можна жыць,— сказаў Атрошчанка.— Бульба ў цябе свая, карова ёсць. Што вам удваіх з бабай?

— Раз пад саўгас адыходзіце, і вы палучыце пенсію.

Патроху змяркалася. Празрыстая шэрань лажылася на дальняе поле, на дарогу. Па дарозе з ляда — жаночыя галасы, ляскат калёс. Некалькі вазоў з лазовымі мажарамі наверсе завярнула ў двор, на канюшню. Атрошчанка ўстаў, скручваючы на хаду цыгарку, рушыў насустрач вазам. Яго голас даносіўся цяпер з тлумнай жаночай гаманы.

На двары канюшні рыпаў ворат, звінела аб цэментную трубу калодзежа вядро, плёскалася вада, якую налівалі ў доўгі драўляны жолаб. Хлапчукі-вазакі, распрэгшы, паілі коней.

Валынец сказаў:

— У саўгасе парадкі лепшыя, як у нас. Калгас — арцель, а саўгас — гасударственнае дзела. Мы самі бачым — Мормаль за тры вярсты. Хіба там калі бульба ці лубін, як у нас, зазімавалі?

— Я з табой сагласен,— паспешліва падтакнуў Цясляк.— Сазнацельнасць у саўгасе лепшая.

З цемені вынырнула постаць Атрошчанкі, і тут жа праляскаталі калёсы.

— Бондар прыгнаў каня,— сказаў брыгадзір.— Дома напаіў, накарміў — вот вам сазнацельнасць. Заўтра ў поўдзень возьмеш, Халімон, каня. Пакуль я начальства — дазваляю. Добра, што прыйшоў, бо заўтра я яшчэ брыгадзір, а паслязаўтра сам не ведаю, кім буду. Брыгадзіраў у саўгасе няма.

— Начальнікі ўчасткаў у саўгасе,— сказаў Цясляк.

— Дык начальнікаў жа прызначаюць, а не выбіраюць. Тут, браце мой, бабы, як у нас на праўленні, не закрычаць, што хочам за брыгадзіра Кузьму. Паставяць маладзенькага, граматнага...

Падышоў Драбок, маўкліва стаяў і слухаў, аб чым гавораць мужчыны.

— Дык вось, дзядзька Антон, пераходзім у рабочы клас,— сказаў Атрошчанка.— Цяпер тут кругом, як у Мормалі, пойдзе механізацыя. Кароў будуць электрыкай даіць, а куранят

машынай выводзіць. А нам з табой, вось як Халімону, пенсію дадуць. Палезем на печ, накрыемся кажухамі...

— На пенсію сама мала трэба год і ў саўгасе парабіць,— сказаў Цясляк.

— Табе і так дадуць,— перабіў Цесляка Драбок.— У цябе васпаленне гландаў, то як жа з васпаленнем ты будзеш рабо-таць?..

— Э-э, дзядзька, хваціць нам з табой сварыцца. Чаго не падзялілі? Цяпер усё роўна, што маё, што тваё... Былі маладзейшыя, дурнейшыя — сварыліся... Можа, я трохі быў вінаваты, можа, і ты. Цяпер забудзем старое...

— А я з табой не сваруся. Я кажу, што пенсію ты зразу палучыш. Бо ты ж хворы. Доктар пячатку паставіць...

— Хваціць, мужчыны,— умяшаўся Атрошчанка.— Можа, яшчэ ніякага саўгаса не будзе. Не захочуць заўтра нашыя пад саўгас адыходзіць, не прагаласуюць — вот і крышка.

— Прагаласуюць,— сказаў Валынец.— Рукамі і нагамі. Хто гэта ад жывой капейкі адкажацца? Як ні кажыце, мужчыны, а саўгас лепей. Там месяц прайшоў, і чалавеку заплаці. Вымакла, выгарала, але калі ты рабіў, то грошы палучыш. Прафсаюз, нічога не скажаш...

— Марынічы і Бабоўкі тры гады як пад саўгасам,— задумліва прагаварыў Атрошчанка.— Асобенных жалаб не чутно. У Бабоўках Мікіта Банэдыка, кульгавага сын, начальнікам участка ці ўчотчыкам, халера яго ведае. Матацыкл купіў, залатыя часы. Я за трыццаць гадоў на часы не ўзбіўся, усё болей па сонцы...

— Гэта той картавы? Што хваліцца: «Мяне на х’ёнце паяніла».

— Ды не быў ён ні на якім фронце. Гранату ў лесе знайшоў ці шчэ якую трасцу. Пальцы на правай руцэ адарвала...

— Картавы, картавы, а вот жа ўлез...

З ляда, грукочучы, свецячы ў цемені адзінай фарай, прыбліжаўся трактар — гусеніцы гэтак ляскалі, што перабівалі гул матора. У небе між рэдкіх, па-летняму ясных зорак праляцеў не чутны з-за трактара самалёт — пад яго правым крылом раз-пораз успыхваў зялёны агеньчык. Падышоў з запаленай цыгаркай Адам Шчасны, конюх, загаварыў з брыгадзірам:

— Коней заўтра на бульбу?

— На бульбу. Зранку свайго гнядога Антон возьме, а з абеду Халімон копы перавязе. Во ён тут сядзіць. Другі раз просіць, трэба ўважыць...

— Бульба заўтра да абеду,— сказаў Шчасны.— Паляцяць на сход...

— Няхай ідзе, як ідзе, Адаме. Восень цёплая, выберацца бульба. Мы малыя начальнікі... Хоць да новага года з нас, мабыць, чыноў не паздымаюць. За еты год будуць разлічвацца па-калгаснаму...

— Дык я пайду,— сказаў Халімон.— Праседзеў тут з вамі. Дзякаваць, што ўважылі...

## II

У празрыстым паветры, у блакітнай высі лётае белая павуцінка. Сады, задуменныя, з пабурэлым, прыпарушаным дарожным пылам лісцем, агалошваюцца нястомным ціньканнем сініц.

Вуліца Акцябрская як бы за межамі мястэчка і выглядам сваім найменш местачковая: двары ў высокай загарадзі частакола, што ні двор, то гаспадарка — хлеў, хлевушок, пунька, паветка, а часам і амшанік для пчол. Пачынаецца вуліца ад чыгуначнага пераезда і цягнецца ў поле. Не так даўно па ёй без упынку пылілі машыны: у мястэчка — цэнтр раёна — дабіраўся вясковы актыў, бо не праходзіла дня, каб у раёне не прызначалася якая-небудзь нарада. Два гады назад раён скасавалі, і цяпер па вуліцы толькі зрэдку прагукаціць трохтонка: бліжэйшыя вёскі па-ранейшаму здаюць нарыхтоўку ў мястэчку.

Гадоў трыццаць назад вуліцы не было: адразу з чыгуначнага пераезда вачам адкрываўся шырокі — аж да ахутанага сінечай лесу — разліў жытоў, ячмянёў, аўсоў — лепшыя местачковыя землі ляжалі па гэты бок чыгункі. Узбоч пыльнага шляху, выстраіўшыся ў роўны ланцуг, беглі ўдалеч тэлеграфныя слупы, і на ўсім палявым абсягу толькі сядзіба Антона Драбка запыняла на сабе позірк. Зрэшты, па полі было раскідана некалькі сядзіб-хутароў, але двор Драбка — хату, якая стаяла асобна, вокнамі на чыгунку, два хлевушкі і гуменца пад

адным саламяным плехам — атулялі тры высокія старадаўнія дубы з шырокімі, разлапістымі шатамі, і здаляка гэты двор нагадваў зялёны востраў.

Вуліца вырасла за адзін год, са сселеных хутароў,— дальніх, лясных, і блізкіх, палявых,— але сядзіба Драбка засталася некранутай — яна размяшчалася побач са шляхам, і калі да яе дайшла лава хат, яе ўжо нельга было лічыць хутарам.

Жыхары новай вуліцы цвёрда трымаліся за калгас. Большасць карэнных местачкоўцаў, асабліва мужчын, яшчэ ў калектывізацыю падаліся на чыгунку — у стрэлачнікі, грузчыкі,— даслужылі да пенсіі, а з былых хутаранцаў за доўгія гады ў заработкі мала хто пайшоў: іх як бы не пускала зямля, што ляжала адразу за хатамі і агародамі. Маладыя, праўда, на бацькоў не зважалі: канчалі школу, выязджалі ў гарады, на будоўлі ці паступалі вучыцца далей.

Драбок Антон прачнуўся прыцемкам, спаласнуў твар і, стараючыся не рабіць ботамі груку, каб не разбудзіць старую, выйшаў на двор. З поля нясло вільготнай парнасцю, з саду — саладкаватым пахам падапрэлых яблык-паданак.

Пачынала світаць, на полі ляжала мякка-празрыстая шэрань, а на станцыі, якая адсюль, з Бондаравага двара, відаць як на далоні, усцяж на слупах гарэлі электрычныя лямпачкі.

Драбок адчыніў вароты хлява, выпусціў з двара карову — перад цяленнем яе запусцілі,— таму і ўставаць старой рана няма патрэбы, няхай падрэмле ў пасцелі.

Драбок узяў з-пад паветкі сякеру, выняў з сена, са сховішча, два яблыкі і вулічкай-загарадкай рушыў да канюшні. Дол у вулачцы ўвесь засеян жолудам — якраз цяпер ён сыплецца з дубоў як град.

Размовы пра саўгас выбілі Драбка з прывычнай каляіны, і цяпер, у недаджджлівую, цёплую восень, калі трэба звозіць з поля салому або цягаць гной, ён рупіцца дамашнімі справамі, за якія звычайна бярэцца ў слату або ў першыя дні зазімку, калі яшчэ ляжыць груд, няма саннай дарогі і ў калгасе мала работы.

Мінуўшы канюшню, Драбок ідзе на пашу — рассыпаўшыся між пачарнелых, выпаленых пастухамі пнёў, там фыркаюць няспутаныя, вольныя коні. Ужо вывіднела, у блізкім алешніку трашчаць сарокі, на прыбітай, па-летняму зялёнай траве —

кропелькі расы. Гняды, зачуўшы гаспадара, ад травы не адарваўся — стрыжэ вушамі ды спрытней памахвае хвастом. Драбок узяў каня за грыву і павёў да канюшні.

Рыпіць ворат студні — Адам Шчасны налівае ў жолаб ваду. Гняды доўга, прагна п'е, потым пачынае дурэць — набірае вады і, смешна выцягнуўшы губы, ашчэрыўшыся, пырскае. Такое практыкаванне ён можа прарабіць некалькі разоў, але доўга дурэць каню Драбок не дае, вядзе да калёс, запрагае, і ўжо калі выязджае з двара, Адам азываецца першым пасля звычайнага «дабрыдзень» словам:

— Дак як, Аляксандравіч, паступаем у рабочы клас?

— Неяк будзе,— адказвае Драбок.— Жывуць людзі і ў саўгасе. Рабіць усюды трэба...

Па хмурным, татарскага выгляду абліччы Адама цяжка здагадацца, задаволены ён ці не. Зрэшты, ён заўсёды такі, і Драбок ведае пэўна, што Шчасны не можа радавацца таму, што стане саўгасаўцам, бо хлеб з рубля ён ужо еў, усю вайну прарабіў на Урале, на заводзе, нават нейкім дзясятнікам быў, аднак вярнуўся ў калгас.

Драбок торгае лейцамі каня, выязджае на дарогу. Гняды, ведаючы нораў гаспадара, бяжыць трушком. Калёсы гучна ляскочуць, падскакваюць на старым, выбітым карэнні.

Дарога па лесе, куды едзе Драбок, ляжыць праз ляда. На яго памяці тут, на гэтым месцы, гадоў сорак назад стаяла дуброва — дзесяцін пяцьсот, калі не болей. Дубы валілі здуру — каму трэба і не трэба,— і цяпер усцяж, аж да суседняй вёскі Качэргі, стаіць збуцвелае пнёўе.

Ляда пад пашай — усё, за пашу, як і за ворыўнае ўгоддзе, трэба плаціць хлебам і мясам. Колькі разоў усчыналася гаворка пра тое, каб раскарчаваць, узараць пнёўе, засеяць зямлю, але дзела на тым і цяпер. З зачараванага круга не выберашся: мястэчка не мае лепшай, чым тут, пашы, і хочаш не хочаш, а пускай на калгасную зямлю не толькі калгасных кароў, а і ўсіх мястэчковых, бо чыгуначнікі, настаўнікі, усялякі службовы люд жыве не толькі з рубля, а яшчэ і з таго, што дае невялічкая падсобная гаспадарка. Колькі разоў спрабавалі не пускаць на пашу кароў чыгуначнікаў і ўсіх тых, хто да калгаса не належыць, спрабавалі браць плату грашамі ці адработкамі, але з гэтага нічога не атрымалася. Ён, Бондар, у душы быў

супраць такіх захадаў, і выйшла па-ягонаму, бо проста неразумна пазбаўляць сельскіх людзей, няхай сабе і некалгаснікаў, каровы ці свінні.

Драбку добра сядзець на возе, злёгку патузваць лейцамі каня, слухаць ляскат колаў, адчуваць, як прыемны халадок абвявае твар, лезе за расхрыстаны каўнер сарочкі. Ён прывык хадзіць ці ездзіць па знаёмых, зведаных змалку мясцінах, бачыць іх зноў і зноў, хоць па некалькі разоў на дзень, уставаць і брацца за якое-небудзь дзела на світанні. Калі папрацуе да снедання, то і есца добра, усмак, і ўвесь дзень да вечара ў целе пругкая бадзёрасць.

Дарога бралася на ўзгорак, і гняды сцішыў хаду. Яшчэ нядаўна паміж бліжнім і дальнім лядам, якое пачынаецца за ўзгоркамі, стаяла града алешніку, а цяпер і добрага алешніку блізка няма, так, адно кустоўе, і каб насекчы жэрдак, трэба ехаць на край свету. Бондар думае пра тое, што лес паблізу паселішч нішчыцца, і гэта нядобра, што ён нішчыцца — агаляецца зямля, менш становіцца дажджоў, а гэта ў рэшце рэшт уплывае на дабрабыт і дастатак жыхароў. Праўда, калі падумаць глыбей, то і выйсця другога няма: людзей нараджаецца больш, чым памірае, ім трэба дзерава на хаты, на апал, а дзе ж возьмеш, як не ў лесе. На Украіне хаты лепяць з гліны, у гарадах — з цэглы, па чутках, у замежных краінах нават вёскі цагляныя, а ў нас пакуль яшчэ галоўны націск на дзерава.

Цагляны дом прастаіць вечна, думае Бондар, ад дзеда ён можа перайсці да ўнука і праўнука, а дзеравянай хаты век кароткі. Хату, у якой ён цяпер жыве, ён паставіў не так даўно, перад першай германскай вайной, а ўжо перасыпаў яе, паклаў новыя падваліны і штандары, два разы мяняў гонту на даху. Лес быў смалісты, сасновы, але на сонцы смала з дзерава выступае, яно робіцца крохкім, і яго лёгка тады точыць шашаль. Сонечныя сцены ў хаце ўсе з'едзены шашалем.

З узгорка гняды зноў рушыў лёгкай рысцой, раз-пораз храпучы, раздзімаючы ноздры. Адсюль мястэчка не відаць, з правага боку — чэзлы, раскіданы па імшыстым балоце сасоннік, з левага — поле з адзінокімі купкаміігруш-дзічак на месцы колішніх сядзіб хутаранцаў. У кутку паміж сасоннікам і прасцягам балота, якое даўно асушана, стаяць яшчэ дзічкі і нават абымшэлы вішаннік.

Мінуўшы ліпы, Драбок заварочвае ў лес. Лясны грунт балоцісты, пругкі, усыпаны апалым лісцем. Цішыня, спакой між стромкіх, выцягнутых, як струны, алешын і бярэзін, але гняды насцярожана стрыжэ вушамі, раздзімае ноздры. Градой балотнага лесу падзяляюцца местачковыя і саўгасныя землі, перамычка ўсё вузее, бо саўгасаўцы сякуць са свайго боку, а местачкоўцы — са свайго. З паўднёвай стараны, дзе сутыкаецца асушанае саўгаснае і калгаснае балота, перамычкі даўно няма, і саўгасныя будынкі добра відаць з мястэчка.

На паляне, парослай маладой зялёнай атавай, Драбок распрагае каня, пускае на папаску, а сам з сякерай кіруе ў лес.

## III

Драбок, апякаючыся, студзячы вялікую дзеравяную лыжку, сёрбаў агурэчны расольнік, калі ў хату зайшоў Халімон.

— Дабрыдзень!

— Дабрыдзень! Сядай да стала. Баба, налі чалавеку стравы.

— Дзякаваць. Толькі што пад'еў.

— Ну то прабачай. Садзіся. Я прыехаў з лесу, прывёз жардзя.

— А дзе конь?

— На паплавок пусціў, пад дубы. Няхай паходзіць.

Халімон сеў на ўслончык і глядзеў збоку, як Драбок снедае. Есць ён па-старамоднаму: кусае хлеба, жуе, чэрпае лыжкай поліўку, але да рота лыжку адразу не падносіць, а кладзе на лусту хлеба і зацята студзіць. Міска гліняная, ёмістая, улезе ў яе цэлы гаршчок. «Пажыве яшчэ дзед,— падумаў Халімон,— есць добра...» Міжволі ён усміхнуўся, успомніўшы, што наконт Драбкоў, іхняй непераборлівасці ў ядзе, ходзіць цэлая пагалоска. Пагалоска датычыла бацькі Драбка, які, прыйшоўшы з касавіцы, не заставўшы дома жонкі, выняў з печы чыгун і выменціў яго да дна. Шкоду выявіла жонка — стары Драбок апаражніў вядзёрны чыгун цялячага пойла, а чыгунка з баршчом не прыкмеціў.

— Як жа вы, Халімонка, жывяце? — Голас у бабкі, невысокай, спакойнай у рухах, спагадліва-добры. Жонка ў Драбка другая, першая памерла яшчэ перад вайной.

— Жывём, цётка. Дзякуй богу, дзяцей пагадавалі.

— А сынок з вамі?

— Аддзяліўся. Двое сваіх дзяцей мае. На чыгунцы робіць.

— А хату паставіў?

— Паставіў. Поруч з маёй.

— Меншая ваша замуж пайшла, я ведаю. А пра старэйшую нічога не чутно?

— Не чутно. Прапала...

Халімон насупіўся. Яго старэйшую дачку пры немцах пагналі ў Германію, з таго часу пра яе няма ніякіх вестак.

— Каб хоць вайны не было,— сказала бабка.— Настрадаліся людзі.

Драбок выскраб міску, устаў, перахрысціўся ў кут.

— Пойдзем запрагаць. І ў мяне стажок на Калістратавай лужы. З'езджу пагляджу.

Дзень плыве ў млявай яснасці, дальнія, кранутыя асенняй пазалотай бярэзнікі ў сіняватай, хісткай смузе. Па ржышчы рассыпаліся каровы — калгасныя і местачковыя разам. Пастух — малады хлопец — ляжыць уверх жыватом на разасланым плашчыку, чытае кнігу.

Драбок тарганууў лейцамі гнядога, зварочваючы з палявой дарогі на сыпаны шлях.

— Маладыя не хочуць жыць, як мы,— сказаў ён.— Каровы пасе, а пра другое думае.

Моўчкі яны праехалі некалькі гоняў. Пясчаны шлях ляжыць поруч з чыгункай, якая схавана ад позірку кляновымі пасадкамі. Прамчаўся таварны састаў паражняку — паравоз ужо быў, бадай, ля пераезда, а вагоны ўсё яшчэ ляскаталі тут, сярод поля. За цаглянай будкай абходчыка шлях бярэ ўлева, аддаляючыся ад чыгункі, губляючыся ў прыдарожных беразняках.

— Затое балота добра родзіць,— сказаў Халімон.— Хто мог падумаць, што на Трасянцы жыта будуць сеяць. І жыта добрае расце.

— Вучоныя людзі ведалі даўно. Яшчэ за царом мне адзін чалавек сказаў пра балота. Наняў прылады насіць. Балота і тады сушылі, толькі не пад поле, а пад сенакос і каб лес рос лепей. Я малады быў, толькі ажаніўся, капейку хацелася зарабіць. Дык гэты аграном, да якога я наняўся, і гаворыць

мне: «Дурань ты, кажа, бо не верыш, што балота можа карысць даць. Яшчэ людзі будуць хлеб есці з балота...»

— А-я-яй,— дзівіцца Халімон.— А мне думалася, што балота нашыя адкрылі. А яно вунь як... Глядзі ты... І чыгунку пры вас насыпалі?

— Не. Яшчэ да маёй памяці.

— Але глядзі ты, як яно там, пад зямлёй, звязана. Трасянку асушылі, а аколіца сама высахла. Цяпер хаты ставяць. Зімой жа там, бывала, дзеці на коньках коўзаліся, а ўвесну разводдзе. Хоць рыбу лаві...

— Асушаць балота тожа з галавой трэба,— азываецца Драбок.— Не дзела — ваду выпусціць, яе трэба і задзяржаць. Можа, я стары стаў, не помню, але, здаецца, раней дажджоў болей было. Цяпер жа і на балоце сохне. Недарма ж па канавах сталі запруды рабіць.

— Грунтавая вада ўглыб падалася. Па калодзежах відна.

З бярэзніку на шлях высыпала купка дзяўчатак, тры ці чатыры хлапчукі-падлеткі, у аднаго на плячах рыдлёўка. Між дзецьмі ідзе стомленая, немаладая настаўніца з павязанай на шыі хусткай. Калі воз параўняўся са школьнікамі, Драбок зняў шапку, а дзеці дружна адказалі на прывітанне.

— Школа бульбу памагае капаць,— сказаў Халімон.— Але ж гэтыя без вёдзер.

— Магілы даглядаюць. Можа, дзераўцы садзілі.

— А-а, праўда. Немцы ж тут расстрэльвалі. Яўрэяў з восені ў лес завезлі, а астатніх тут. Бензіну шкадавалі — навошта далёка вазіць...

— Дзеці пра немцаў нічога не ведаюць. Можа, і не вераць.

Драбка з Халімонам абганяе машына-трохтонка, а затым трактар на высокіх гумавых колах, які так імчыць, што машыну можа апярэдзіць.

— Ты, дзядзька, наконт саўгаса не сумнявайся,— рашуча гаворыць Халімон.— Лепей вам будзе ў саўгасе, далібог, лепей. Рабочы чалавек зрабіў — сваё палучы. Кроў з носу, а яму аддай. У вас што вырасла, тое на працадні. Неўраджай — засуха ці вымакла — пуста і ў вас. А тут незавісіма ад прыроды, па рабоце, калі чалавек рабіў — то заплаці. Ды і пенсія...

— Яно-то так,— згаджаецца Драбок.— Па маіх гадах даўно трэба на пенсію. Я ж з тваім бацькам чуць не равеснік...

Пясчаны шлях вядзе прама, а на Калістратаву лужу трэба збочваць направа, на выбітую машынамі лясную дарогу. Драбок торгае лейцамі каня, зварочвае ў лес.

## IV

Блішчастага рэпрадуктара, што вісіць на высокім слупе ля двухпавярховага будынка райвыканкама (цяпер тут школа-інтэрнат), днём не чуваць, затое вечарам ён раве на поўную сілу. Апошнія паведамленні ці музыку можна слухаць за вярсту, нават за дзве ад райвыканкамаўскай плошчы, і чым далей, тым лепей, бо зблізку фартэпіянныя клавікорды нагадваюць удары кавальскага молата.

Вечарам, калі няма кіно, у маладым таполевым парку на зацэментаванай, агароджанай жалезнай сеткай пляцоўцы танцы пад радыёлу. Моладзь вылятае з мястэчка, як асенні вырай, але яе ўсё ж дастаткова, каб не пуставалі схаваныя ў засені дрэў лаўкі з жалезнымі ножкамі і танцпляцоўка, забітая шчыльнай талакой.

Брыгадзір Атрошчанка з Паўлам Валынцом, мінуўшы райвыканкамаўскую плошчу, танцпляцоўку, перайшлі вуліцу і пастукалі ў зацемненае знутры акенца піўнога ларка. Па вячэрнім часе ларок зачыняецца, але гэта не азначае, што ў ім пуста. Буфетчыца працуе ад выручкі, таму з часам не лічыцца — вечарам наведвальнікаў яшчэ больш, чым днём.

Упусціўшы мужчын, мажная, раздабрэлая буфетчыца зашчапіла за імі дзверы, адышлася за стойку.

— Налі па сто пяцьдзясят, Надзя,— папрасіў Атрошчанка.

У ларку цесна, накурана — два засланыя цыратай столікі заняты. У правым кутку пустыя піўныя бочкі. Да бочак і рушылі Атрошчанка з Валынцом, намерваючыся там знайсці сабе прытулак, але іх аклікнуў Рогаль, велічэзны, з квадратнымі плячамі мужчына, былы загадчык «Заготзбожжа». Рогаль за столікам удвух з Іванам Прышчэпам, падатковым агентам. Вольны стул у іх адзін, але Прышчэпа выцягнуў з-за занавескі скрынку, сеў на яе.

— Паздраўляю,— сказаў Рогаль, падымаючы кухаль з півам,— цяпер вы рабочы клас, з вас і спрос будзе парабочаму...

Чокнуліся і выпілі. Закусвалі моўчкі. За суседнім столікам, відаць, шафёры — размова пра гумавыя скаты, пра начот, які зрабіў загадчык гаража.

— Хто ты такі, скажы, што будзеш спросам займацца? — п'янеючы, спытаў Атрошчанка.— Можа, хочаш партфель палучыць?

— Хачу.

— То трэба было спярша ў калгасе папацець. Сёння дамовіліся цвёрда — у саўгас залічаць тых, хто ў калгасе рабіў. Не менш пяці гадоў.

— А я рабіў. Хіба ты не ведаеш?

— Два тыдні касіў. У інтарэсах уласнай каровы. Такіх актывістаў ведаеш колькі?..

Рогаль зарагатаў:

— Ды не бойся ты. Тваёй пасады не займу. Я тэхнік, будаўнічае дзела ведаю. Мяне дзе хочаш возьмуць.

— Нешта доўга не бяруць. Як раён скасавалі, то і сеў макам.

Наступіла няёмкая цішыня. Хітраваты Валынец, апусціўшы вочы, дзёўб вілкаю памідор — не ўхваляў нявытрымкі брыгадзіра. Прышчэпа ўстаў, зашаптаўся з буфетчыцай. Вярнуўся да стала, несучы ў сашчэпленых далонях чатыры налітыя да палавіны шклянкі.

— Вып'ем, мужчыны. Усё ясна, нашто сварыцца?

— Пухцін прасіўся ў саўгас,— паведаміў Атрошчанка.— Дык ведаеце, які вэрхал узняўся на сходзе. На вочы не захацелі бачыць. Асабліва бабы. Як пашалелі...

— Пухцін? — здзівіўся Прышчэпа.— Дык ён жа ў Азярыцкім раёне. Старшынёй калгаса. Як Лобана туды перавялі, дык і ён пад яго крыльцы.

— Выгналі. Два гады пабыў, і бывай здароў.

Рогаль абшчаперыў галаву рукамі.

— Дарма не ўзялі Пухціна. Пры ім хлеб елі. Я з ім дзела меў, ведаю. Ураджай, неўраджай, а голага працадня не было. Вялікі чалавек Пухцін...

— Вялікі ачкаўцірацель Пухцін,— сказаў Атрошчанка.— Яго пазыкі ледзь да торбы не давялі.

— Крэдыты спісалі. Галоўнае — вы не сядзелі без хлеба.

— Хопіць, хлопцы, пра Пухціна,— прымірэнча сказаў Валынец.— Давайце вып’ем.

Шафёраў за суседнім сталом няма — за спрэчкай ніхто не заўважыў, калі яны выйшлі. Буфетчыца перамывае шклянкі, гучна ляскаючы аб дно бляшанага тазіка,— дае зразумець, што час позні, заседжвацца не варта.

— Надзя, налі нам піва, і крышка,— просіць Атрошчанка.— Рабочы клас — сазнацельны, лішняга не п’е...

Буфетчыца маўклівa прыносіць кухлі з півам, забірае талеркі з рэшткамі закускі. Рогаль — чалавек адыходлівы, п’е піва, ляпае па плячы брыгадзіра. Спрэчкі як бы і не было.

## V

У госці да Драбка прыехала нявестка — настаўніца з дарослым сынам. Валянціна Андрэеўна — так завуць настаўніцу — некалі працавала ў мястэчку, была завучам у дзесяцігодцы, але пасля смерці мужа заставацца тут не захацела. Гады бяруць сваё — пастарэла, паблажэла Валянціна Андрэеўна, некалі чорныя як смоль валасы ледзь не суцэльна сівыя. Свёкра паважае — наязджае ледзь не штогод і, калі ёсць магчымасць, жыве па месяцу, па два. Нядаўна Валянціне Андрэеўне прысвоілі званне заслужанай настаўніцы, і Драбок ведаў пра гэта — сказалі суседзі.

Унук, бялявы, шыракаплечы мужчына, яшчэ нежанаты, выліты бацька, сын Драбка, пахаджвае па садзе, разаслаўшы дзяружку, ляжыць пад дубамі.

— За мяжу Сяргея пасылаюць,— паведаміла Валянціна Андрэеўна за сталом.— У Гвінею... Ёсць такая краіна ў Афрыцы. Мы таму да вас і прыехалі. Хацела — каб пабачылі...

— А чаму іменна яго? Ён хто такі — інжынер? То ці мала такіх?

— Ён французскую мову вывучыў. Ну, і па рабоце зарэкамендаваў сябе.

Драбок насупіўся, маўклівы, задуменны ўвесь дзень кошкаўся пад паветкай. Выраслі ўнукі, а сыноў няма, усіх чатырох перажыў ён, стары бацька. Ды і ці толькі сыноў... У вайну, восенню сорак трэцяга года, калі з мястэчка прагналі немцаў, заявіўся ў хату Шура, унук ад старэйшага, Ільі. Ваен-

ны, як некалі бацька. Парагатаў, папужаў, страляючы з нагана, суседскіх сабак — і як у ваду прапаў. Ні слуху ні духу...

Бондар прайшоў пад дубы, сеў поруч з унукам.

— Табе не страшна ехаць у гэтую Афрыку? Туды ж, як не захочаш, не пашлюць.

— Я яшчэ малады, дзедушка. Трэба свету пабачыць.

— Вы маладыя дурныя. Таго не ведаеш, што ў маткі сэрца збаліцца. Ты толькі аб сабе думаеш.

— Смешны вы, дзедушка. Я ж не на вайну еду. І ненадоўга — на адзін год.

— А год, думаеш, мала? За год што хочаш можа зрабіцца...

Надвячоркам выбраліся ў госці да другога ўнука — тут, у мястэчку, ён за ляснічага, мае двух дзяцей, і старэйшы хлопчык у гонар прадзеда названы Антонам. Унук Валодзя — па дачэрняй лініі, з немалой Бондаравай сям'і жывой засталася толькі дачка.

Калі выйшлі на рог вуліцы, звярнуўшы да новага, з добрых сасновых бярвенняў дома ляснічага, трапіўся насустрач Пухцін, маленькі, ссівелы, які і цяпер, не маючы ў мястэчку ніякіх абавязкаў, спяшаў некуды подбегам.

— Прывет, Аляксандравіч! — гучна прывітаўся ён.— Куды сабраліся?

Ён пазнаў Валянціну Андрэеўну, сцішыўшы голас, спытаў пра здароўе, пра тое, дзе працуе, і адразу паскардзіўся:

— Вам, настаўнікам, чым вы старэй, болей пачоту. А я толькі малады трэба быў. Пазаўчора на сход не пазвалі. Лічаць — чым старэй, тым дурней...

Унук Валодзя, маладжавы, белабрысы, гасцей чакаў у пакоі — зальчыку, застаўленым вялікімі, пад самую столь, фікусамі. Накрыты стол; збоку, у крэсле, сядзеў і чытаў газету яшчэ адзін госць, немалады, з акулярамі на носе дырэктар лясгаса. Селі за стол, і першы тост Валодзя абвясціў за дзеда.

Дзеду Валодзя налівае няшмат — у самае донца, ведаючы яго звычку — п'е, колькі нальюць. Да гарэлкі ён досыць абыякавы, у будзень чаркі не возьме, але ў святы, у кампаніі, напіваецца да знямогі. Баба вядзе яго тады дамоў пад рукі, штохвіліны ўшчувае, а ён — ці дзень, ці ноч — гарланіць песню да самай хаты.

— Вам будзе лепей у саўгасе,— гаворыць дырэктар, каб зрабіць дзеду прыемнае.— Ды і на пенсію пара, бацька. Хай другія патрудзяцца, колькі вы.

Дзед хоць і змалога, але падпіў, шчокі запунсавелі.

— Я вам вот скажу, таварыш. Я вучоным людзям верыў заўсягды. З малых гадоў. Але не трэба з бухты-барахты. На тое вы і вучоныя.

— Пра што вы, бацька? — дапытваецца злёгку закрануты за жывое дырэктар.

— Пра тое самае. Калгаснік мала палучаў, але, думаеце, людзі не разумеюць? Усё разумеюць. Трэба было гарады будаваць, машыны — адкуль жа ўзяць, як не з зямлі. Але і пра зямлю думаць трэба...

— У саўгасе цвёрдая аплата. Будзе большая матэрыяльная зацікаўленасць...

— Ета вы правільна, таварыш. А скажыце вот што. Той чалавек, што будзе за рубель работаць, ці будзе ён любіць зямлю? Зямлю трэба любіць увесь год, ад снегу да снегу. Тут не так, як на заводзе,— восем часоў адстаяў, а там можна і ў шашкі гуляць. Тут зацемна ўстань і ў поўнач ляж, па часах не вымераеш...

— Ну што вы, бацька!.. Саўгасы ж — не першы год... Мормаль пад бокам, усе мы бачым. Калі трэба, то і ў саўгасе з часам не лічацца...

— Мормаль адзін, ну яшчэ Бабоўкі, Марынічы, а калгасаў у раёне дваццаць ці трыццаць. Яшчэ трэба падумаць, хто хлебам корміць...

Валодзя падпіў, прысунуў сваё крэсла ўшчыльную да дырэктара, пахваляецца:

— Вы ведаеце, Іван Сяргеевіч, які гэта дзед! Ён у сямнаццатым годзе старшынёй палкавога камітэта быў. Спажывецкі кааператыў у мястэчку арганізаваў...

— Арганізаваў,— пацвярджае Драбок.

Сядзяць і гамоняць доўга, да поўначы...

Вылазяць з-за стала, выходзяць на вуліцу. Дзед падпіў не вельмі, песню запяваць нават не памкнуўся — можа, таму, што з правага боку ідзе нявестка — настаўніца, з левага — унук, якога Драбок бачыць не часта. Валодзя з дырэктарам трошкі адсталі. Унук, прыцішыўшы голас, расказвае пра дзеда.

— З сынамі яму не пашанцавала. Было чатыры, а няма ніводнага. Самы старэйшы брыгадай камандаваў,— фактычна генерал, загінуў у пачатку вайны. Двое — настаўнікамі былі — склалі галовы ў партызанах. Самы малодшы, студэнт, прапаў без вестак. Усіх дзед павучыў...

— Вялікі, брат, у цябе дзед,— задумліва гаворыць дырэктар.

## VI

У Бабоўках Пакровы — прастольнае свята. Драбок з жонкай паехалі ў Бабоўкі да дзедавага пляменніка Івана, які сам даўно дзед, бо ўсіх дачок пааддаваў замуж.

Парадкам не быў Драбок у Івана і наважыўся адведаць не без задняй думкі — у сяле саўгас тры гады, хацелася пабачыць на свае вочы, як яно ідзе, ладзіцца. Па-даўняму Іван — хлебасол вялікі, любіў прыняць людзей з форсам, з размахам, каб пілі, елі, гулялі, колькі душа пажадае.

Разам з Драбком з абшарпаных вагонаў прыгараднага цягніка вылезла некалькі местачкоўцаў — прыехала радня да радні. Прамежак паміж паўстанкам і сялом забудован да рэшты, не пазнаць.

Драбок з жонкай не спяшаюцца, ідуць спакваля, аглядаючы новы бабоўскі пасёлак.

Іванава хата — у старой частцы сяла, і на выгляд змянілася не вельмі: той жа чатырохскатны дах, парослы па струхлелай гонце зялёным мохам, вароты ў двор з фацэтным каптурыкам-покрыўкай. Іван, сівы, няголены, у зашмальцаванай гімнасцёрцы, сустракае ля брамы.

— А-а, дзядзька Антон, цётка Хрысціна!.. Вот добра, што прыехалі. Я забыў ужо, калі вы ў мяне былі...

На панадворку гасцей поўна, стаяць пераважна мужчыны, і Драбок прыкметна весялее. Удваіх з жонкай яны вітаюцца з мужчынамі, многіх з каторых зусім не ведаюць — відаць, панаехала новай радні. У хаце жаночае ўладанне — завіхаюцца ля сталоў, пастаўленых узбоч,— як і ў даўнія гады.

— Будзем хутка сядаць,— гаворыць Іван,— вот толькі дачка з Гарынавіч прыедзе.

— Дык як вы тут? — пытаецца Драбок.

— Жывом, дзядзька. Супроць калгаснага не горай.

Іванава «хутка» не надта расплываецца — не паспела пераступіць парог старэйшая дачка з мужам-шоферам (у яе самой дочкі дарослыя), як гасцей садзяць за стол. Драбок прычыну разумее — госці падвальваюць, цягнуцца з вакольных вёсак і сёл, і той, хто не паспее за першае застолле, пасядзіць на прызбе, пачакае. Два кругі. Усё, як і даўней.

Гарэлкі на сталах надзвычай багата — яна ў бутэльках, графінах і нават у вялікім медным самавары. І гэта разумее Драбок — на такое свята, як сёння, госці прыходзяць нязваныя, і трэба пачаставаць чалавека, хто б ён ні быў і калі б ні зайшоў.

Пасля другой, трэцяй чаркі застолле пачынае шумець, валахатыя вясковыя дзядзькі гукаюць, як у лесе, жанкі з пачырванелымі тварамі наперагонкі шчабечуць сарокамі і вось-вось гатовы запець. З правага боку ў Драбка — Дзяніс з Калядзіч, стары, зарослы сівой шчэццю да самых вачэй,— самая яму кампанія.

— Як жывеш? — пытаецца Драбок, стукаючыся з Дзянісам шклянкамі.

— Жыву сабе. Граблі раблю калгасу — трохі плацяць. Сядзіба е, карова... А ты як?

— У нас саўгас зрабілі. Паглядзім...

— Ты, ета, якога году, Антон?

— Восемдзесят другога.

— А я восемдзесят шостага. То не дзяржы, давай вып’ем. Мала такіх дзядоў, як мы, асталося...

Дзяніс закусвае варанай каўбасой, а Драбок — халадцом з цяляціны. На стале ўсяго хапае — і варанага, і смажанага. Сягоння ж свята...

Жанкі зацягнулі песню, і мужчыны падпяваюць. Песень тры ці чатыры — за кожным сталом свая, а хата ў Івана прасторная, як гумно.

Драбку хораша сядзець за сталом, ведаць, што ён яшчэ не хутка з-за стала вылезе, вып’е, закусіць, пагамоніць з мужчынамі. Чалавек на тое і жыве, каб рабіць, гадаваць дзяцей, а сабраўшыся з другімі людзьмі, аддаць ім павагу, расказаць, што ў каго ёсць...

Восень доўга стаяла цёплая, без дажджоў і слаты. Ударыў прымаразак, выпаў сняжок, і Бондар па саннай дарозе вазіў на ферму салому — цяпер ужо саўгасную. Зарплату паспелі выдаць два разы, і было дзіўна, нязвычна лічыць новыя, хрусткія рублі і распісвацца ў ведамасці, якую той самы калгасны бухгалтар высоўваў з маленькага акенца, зробленага ў перагародцы.

Лісце з дубоў апала, ляжыць прыпарушанае снегам у вулачцы-загарадцы і на лужку. З-за дубоў трэць сядзібы Драбок не засявае, пускае пад лужок — цень ад дрэваў вялікі, і, калі сеяць, не надта вырасце. Але ж не адной бульбай ці капустай жыве чалавек. Дубы старыя, пракаветныя — шумяць пры ім, Драбку, як шумелі пры бацьку, пры дзеду... Няхай растуць дубы — яны акраса хлебнай, зялёнай зямлі...

*1964*

## САЛДАТЫ ВЯРНУЛІСЯ

Гарбач прыехаў у горад, на сваю першую завочную сесію, хмурны і злосны. Тое, як абышлася з ім Клара, было падобна на здраду.

Ад вакзала да пачарнелых, са слядамі пажару і вялікага разбурэння каробак універсітэцкага гарадка — дзве сотні метраў. Дарога пралягае праз прыстанцыйны базар, такі ж шумны, гаманлівы, як і тады, зімой, калі Гарбач прыязджаў паступаць ва ўніверсітэт. Гандлююць чым хочаш. Міліцыя сочыць толькі за тым, каб не біліся.

Прыпадаючы на прастрэленую нагу, Гарбач валок цяжкі чамадан, які змяшчаў у сваім ёмістым чэраве ўсё, без чаго не можа абысціся завочнік у гэтыя сорак дзён экзаменацыйнай сесіі: кнігі, паперу, бялізну, не дужа зайздросны харчовы прыпас і нават маленькую — пад адно толькі вуха — падушачку, туга набітую пакуллем. «Брацішка» з пранырлівымі вочкамі ў шынялі ўнакідку падумаў іншае.

— Браток! — тузануў ён Гарбача за рукаў гімнасцёркі.— Дзе мы бачыліся? Ты выпадкова не быў на Першым Прыбалтыйскім? — Гарбач нахіліўся да самага валасатага вуха і

шапнуў такое, ад чаго «брацішка» ашчэрыў вострыя, рэдкія зубкі.

— Свой у дошку. Хочаш без маскараду? Арэхавае масла, цыгарэты «Кэмел», па-нашаму, вярблюд. Касцюм ад Юнры, новы, няношаны. Сала часам не вязеш?

— Вязу.

— З барыгамі не вяжыся. Я ўсё-такі франтавы кораш. Гэтага не трэба? Рэдка дзе знойдзеш. Голенькія, ва ўсіх ажурах...

Ён хіхікнуў, тыцнуў пад нос, разгарнуўшы веерам, набор парнаграфічных картак. Гарбач што было сілы пляснуў па нямытай бурай далоні, і «брацішка», з лютымі пагрозамі і лаянкай, укленчыўшы і азіраючыся па баках, пачаў таропка збіраць рассыпанае па бруку дэфіцытнае дабро.

Дзень пачаўся брыдка. Як бы там ні было, а біцца не варта. Зноў ён сарваўся. Першы раз — тыдні два назад, у вёсцы, калі на паркалёвай парванай сарочцы кавалёвага сына ўбачыў прышпіленыя бацькавы медалі. Аднаногі, азызлы ад недаядання каваль Цімох, франтавік з першага месяца, аддаў іх сыну на цацкі...

Быў летні вечар, разбураны каменны горад глядзеў цёмнымі праваламі пад'ездаў, рэдкае, са светлым вокам агню чалавечае жытло вынікала ў самых нечаканых мясцінах: гняздзілася на версе чорнай каробкі, адзінокай кропкай блішчала на пустыры, але часцей за ўсё праглядвала пад самымі нагамі, з падвальных сутарэнняў. Лепш адчуваў сябе горад драўляны, што расплыўся вуліцамі і правулкамі ўзбоч галоўнай магістралі. Там жывы, амаль непарыўны ланцуг агнёў, афарбаваных колерамі даваенных абажураў, зараснікі бэзу за штыкетнікамі і шматгалосы тлум перанаселенасці. Горад жыў. Вячэрнія вуліцы людныя, чэргі ля дашчаных будак, дзе пампуюць піва і па камерцыйнай цане прадаюць папяросы. Звініць гулкі трамвай, і ўсе лаўкі ў скверах заняты парачкамі.

Павандраваўшы па горадзе, Гарбач вярнуўся ў інтэрнат. Тут быў некалі вучэбны корпус — шырокія гулкія калідоры, вялізныя, забітыя фанерай вокны. У змрочным, з адной электрычнай лямпачкай, вестыбюлі танцуюць пад акардэон студэнткі стацыянара з завочнікамі. Стацыянарніцы павінны былі раз'ехацца, але нешта затрымала іх у горадзе: ці яны адрабляюць абавязковы месяц на разборцы руін, ці запазніліся

з экзаменамі. Гарбач танцаваць не мог і не ўмеў, ён стаў на лесвіцы і, прыхінуўшыся да парэнчаў, глядзеў уніз. Іграў дэмабілізаваны афіцэр з трыма ордэнамі на левым баку расшпіленага кіцеля. Па вышчарбленым паркеце шоргалі кірзавыя боты і даваенныя яшчэ туфлі-лодачкі, дзяўчаты клалі белыя рукі на плечы хлопцаў, абцягнутыя гімнасцёркамі, і ўваходзілі ў круг. Плыла сумнаватая музыка, і па шэрай сцяне скакалі цені.

Да першага экзамена было беганне на лекцыі ва ўцалелую школу, дзе рослыя завочнікі сядзелі на нізенькіх, рыпучых партах першакласнікаў і таропка запісвалі тэзісы выкладчыкаў. Выкладчыкі, як і ўяўляў Гарбач, ледзь не ўсе былі дзівакамі. Заклаўшы рукі за спіну, яны расхаджвалі па аўдыторыі і з выглядам першаадкрывальнікаў кідалі ў залу бясспрэчныя ісціны сваіх навук. Асабліва запомніўся нізенькі, шчуплы Вігдароўскі, які чытаў літаратуру старажытнай Грэцыі. Малады яшчэ, ён адпусціў вусы, на нізкіх плячах насіў шырачэзны, замежнага паходжання пінжак, жоўтыя крагі з гетрамі і меў на дзіва зычны, артыстычна пастаўлены голас. «По древней Элладе бродили аэды...» Ён гаварыў так, што сумнявацца нельга было. Трэба было настроіцца на адзіную хвалю і верыць, што сказанае ім складае аснову жыцця.

Гарбач акуратна вёў канспекты. Яму падабалася, што ва ўсіх выкладчыкаў, якія чыталі ім, завочнікам, было цвёрдае перакананне ў тым, што ведаць іх прадмет абавязкова, што іначай нельга, бо без гэтага не пражывеш на свеце.

У вялізным круглым павільёне гарадской сталовай, які нечым нагадваў залу пасяджэнняў рэйхстага, на абед завочнікам давалі талерку чырвонага, як кроў, баршчу, запраўленага апенькамі, і дзве лыжкі кашы. За відэлец і лыжку трэба было пакінуць у залог дакумент. Выкладчыкі харчаваліся тут жа, і Гарбач бачыў, як паважаны, страшэнна крыклівы на лекцыях дацэнт Буран хаваў у кішэнь пасля абеду няз’едзеную пайку хлеба. Студэнты прапаноўвалі яму кавалак паперы, каб загарнуць хлеб, але ён, зрабіўшы велічны жэст рукой, нязменна адмаўляўся.

Вечарам студэнты бралі ў бібліятэцы па кнізе, Буран набіраў іх цэлы стос, ледзь панесці, але назаўтра прыходзіў па новую партыю. Ён вёў некалькі прадметаў адразу. Фацэтны

Вігдароўскі жыў у інтэрнаце, у закуранай бляшанцы з-пад кансерваў варыў на вячэру аўсянку, старанна адмерваючы лыжкаю крупы. Ва ўсім гэтым было штосьці да болю ў сэрцы харошае...

Студэнткі стацыянара жылі побач, за фанернай перагародкай, якая надвае падзяліла колішнюю фізкультурную залу. Месца хапала і там, і тут — чалавек па пяцьдзясят на пакой. Пад поўнач, пасля лекцый, пасля настырнага сядзення ці ляжання з кнігай, быў «вадапой» — выпівалася вядры па тры кіпятку, а далей, у залежнасці ад настрою,— танцы ў вестыбюлі ці спевы.

Калі спявалі студэнткі, мужчынская палавіна слухала і маўчала. Было штосьці большае, чым звычайная песня, у зладжаным хоры чыстых дзявочых галасоў і ў той насцярожанай цішыні, якой адказваў на спевы раптам анямелы табар завочнікаў. Прыгожым, грудным кантральта заўсёды пачынала адна і тая ж спявачка:

Давно ты не видел подружку,
Дорогу к родимым местам,
Налей же в железную кружку
Свои боевые сто грамм...

А яшчэ праз хвіліну шматгалосы звонкі харал да самай столі напаўняў вялізную фізкультурную залу:

Гитару возьми, струну подтяни,
Солдатскую песню запой,
О времени том, товарищ, споем —
Солдаты вернулись домой...

Завочнікі ўпокат ляжалі на паласатых матрацах, адклаўшы кнігі ўбок, і твары іх былі сур’ёзна-задуменныя...

Песня студэнтак амаль заўсёды прыводзіла ў пакой каменданта — вусатага рухавага ўкраінца, які ставіўся да завочнікаў з несхаванай павагай. Амаль усе, хто атрымліваў у яго капцёрцы матрац і коўдру, насілі на грудзях калодачкі ордэнаў і медалёў, і пажылы камендант, які сам на вайне не быў, лічыў завочнікаў ветэранамі.

— Сумуюць,— падкручваючы сівы вус, заяўляў камендант.— Дзяўчатам замуж трэба. А вы з гэтымі кніжкамі. Можа ж, яшчэ не ўсе жанатыя?..

Студэнткі-стацыянарніцы былі для Гарбача тым прывабным, незнаёмым племем, якое выклікала да сябе вострую цікавасць. Усе са старэйшых курсаў, яны былі ўжо студэнткамі і ў той ружовы, бясхмарны час, калі ён толькі хадзіў з кніжкамі ў дзесяцігодку, марыў пра інстытут. Вайна і ў іх адабрала чатыры ці пяць гадоў. Дзе былі яны гэты час? Што сталася з іх марамі і з хлопцамі, якіх яны кахалі?..

Прадметаў, па якіх трэба было здаваць экзамен, налічвалася аж восем, дня не хапала, і Гарбач да глыбокай ночы праседжваў у кубавой, дзе гарэла святло і ніхто не перашкаджаў. Туды, відаць, яшчэ раней за яго, аблюбаваўшы мясціну каля самага тытана, прыходзіла і бялявая высокая студэнтка са стосікам кніг. Першы раз, лічачы яе гаспадыняй кубавой, Гарбач папрасіў дазволу пачытаць, а ўсе наступныя ночы толькі вітаўся. Яна была зацятая — тры-чатыры гадзіны, не адрываючы вачэй ад кнігі, чытала, як бы не заўважаючы яго прысутнасці. Акно кубавой расчынена ў сквер, там растуць высокія разложыстыя акацыі, пад нечымі ціхімі крокамі шуршыць жарства алей, на лавачках перамаўляюцца.

Нарэшце ён пазнаёміўся са студэнткай — яе звалі Галя, вучылася на трэцім курсе, але паступіла позна, ледзь не ў канцы навучальнага курса, і цяпер трэба даганяць. У Галі досыць прыгожы, змарнелы твар, разумныя шэрыя вочы і як бы выраз болю ў сціснутых губах. Паміж тым, што Гарбач пра дзяўчыну ведаў і што хацелася ведаць, была мяжа, і ён не адважыўся яе пераступіць. Перашкаджала тая, пра якую думаў яшчэ са школы, якой пасылаў франтавыя трохкутнічкі.

Клара прысутнічала ва ўсіх яго занятках і думках вострым, няўтольным пачуццём крыўды і абразы. У тым, як яна абышлася з ім, Гарбачом, было штосьці большае за асабістую знявагу — рушыўся погляд на свет, звыклыя ацэнкі добрага і благога, якія ён прывык лічыць непахіснымі. Там, на фронце, думалася проста: пасля перамогі, пасля вайны, пачнецца ўрачыстае свята шчасця і радасці — мірнае жыццё. Той, хто пабыў на вайне, ведае, якое гэта вялікае шчасце — не капаць акопаў і шчылін, не прыслухоўвацца да посвісту мін, не ведаць пакутлівых хвілін чакання перад атакай. Звычайныя даброты зямнога існавання — магчымасць дыхаць паветрам,

бачыць сонца і зорнае неба, зялёную траву і пясчаную палявую дарогу — здаваліся тады шчасцем.

За сорак летніх дзён Гарбач найбліжэй сышоўся з Мікалаем Архіпавым, маўклівым, кучаравым партызанам, які працаваў цяпер у абласным прафсаюзе настаўнікаў. Архіпаву гадоў пад трыццаць, ён задуменны, сур'ёзны, як бы ўвесь час рашае нейкую цяжкую задачу. Тое, што ён пра сябе расказаў,— навіна і дзіва для Гарбача. У Мікалая ёсць дзяўчына, ён сябраваў з ёю да вайны, калі яшчэ працаваў у вёсцы настаўнікам. У вайну яны не бачыліся, а цяпер перапісваюцца. Перапісваюцца ўжо хутка два гады, і ні разу за гэты час Мікалай не з'ездзіў да сваёй дзяўчыны.

— Не любіш болей? — рубам паставіў пытанне Гарбач.

— Не тое,— адмахнуўся Архіпаў.— Ты глядзіш на ўсё залішне проста...

Іх матрацы ляжалі на падлозе фізкультурнай залы побач, яны з Мікалаем разам хадзілі здаваць экзамены, шукалі зацішку, каб «падзубрыць», разам сталаваліся, і, нарэшце, Архіпаў сказаў тыя словы, якіх Гарбач даўно ад яго чакаў:

— Ты пытаў, чаму не еду. Сам не ведаю. Не хочацца запляміць таго, што было. Ці такая яна, як раней?.. Дый гэта не галоўнае. Ці сам я такі?..

«Ці сам я такі?..» Гарбач раздумваў над словамі нова-знойдзенага сябра, і чым далей, тым болей яны здаваліся яму важкімі і значнымі. Вайна скончылася, але ляжаў разбураны горад, студэнткі, якія мусілі ехаць на канікулы, жылі ў інтэрнаце і выбіралі на руінах уцалелыя цагліны, каб залатаць правалы мёртвых каробак-карпусоў. Ці не так людзі латаюць сваё былое шчасце? На фронце сапраўды думалася проста: «Скончыцца вайна, і ўсё стане на месца». Стане, але як?..

Сябе самога Гарбач бачыў ранейшым. Ён думаў пра людзей, пра свет гэтак жа, як і тады, да вайны, можа, нават яшчэ больш палымяна і ўзнёсла. «Была ж такая вайна, і мы яе выйгралі...» Ён і да свае дзяўчыны, якой пісаў з фронту і ад якой таксама атрымліваў лісты, аднёсся зусім не так, як Архіпаў. Ён злез на станцыі ў гарадку, дзе жыла яна і дзе сам ён разам з ёю вучыўся да вайны ў дзесяцігодцы. І перш чым дабірацца ў вёску, да маці, пайшоў да яе дома. Ён сустрэў яе, пасядзеў, ахмелены шчасцем, ноч на лавачцы і толькі назаўтра

рушыў шукаць машыну ці фурманку. Ён верыў, што Клара будзе чакаць яго, бо пасля ўсяго, што ён пабачыў на вайне, яна проста не мела права растаптаць тое святое і незабыўнае, што між імі намецілася. Здавалася, ён не памыліўся ў тым, аб чым столькі думаў і марыў...

Незразумелае пачалося летам, перад самай яго паездкай на завочную сесію. Ён часцей, чым трэба было вясковаму настаўніку, завітваў у гарадок, аднавіў добрыя адносіны з гаспадыняй сваёй даваеннай кватэры, каб мець магчымасць пераначаваць у гарадку і лішні раз пабачыцца з Кларай. Потым Клара пачала пазбягаць яго. Прыехаў на пабыўку незнаёмы Гарбачу капітан, і яна хадзіла з ім у кіно, на луг за рэчку, вандравала па ваколіцах гарадка. Гарбачу сказалі, што Клара перапісвалася з капітанам увесь апошні год вайны, з таго часу, як ён лячыўся тут у шпіталі. Значыць, яна знаходзіла цёплыя словы для іх абодвух...

Сесію Гарбач з Архіпавым закончылі паспяхова, першыя старонкі іх заліковых кніжак былі запоўнены пакручастымі, зусім не падобнымі адзін на адзін почыркамі выкладчыкаў, якія прымалі экзамены. Жылі яны досыць эканомна, і таму ў іх хапіла грошай, каб купіць чыгуначныя білеты і як след адзначыць заканчэнне першай сесіі. Па чамаданы ў фізкультурную залу яны прыйшлі павесялелыя, з добрым шумам у лёгкіх ад клапот, цяпер па-сапраўднаму ўжо студэнцкіх галовах. Стацыянарніцы таксама раз’язджаліся — час іх адработкі па разборцы руін канчаўся. Можа, таму так прываблна на развітанне спявалі яны песню пра салдат, якія вярнуліся дамоў...

*1964*

## ЯК МЫ ЛАВІЛІ ШПІЁНА

Яшчэ з тых незапомных часоў, калі чалавек пачынае засвойваць назвы навакольных прадметаў і рэчаў, у мяне быў сябрук Адам, можна сказаць, падораны самой прыродай. Адам быў найбліжэйшым суседам, даводзіўся мне стрыечным братам, і нашы двары раздзяляў толькі рэдзенькі штыкетнік, праз

які лёгка пралазілі не толькі куры, але і мой сябрук. Не дзіва, што Адам ведаў усё пра мяне, а я пра яго. Мы былі добрымі дружбакамі і шчыра спачувалі адзін другому ў тыя хвіліны, калі прыходзілася мецць справу з бацькавай папругай.

Адам быў дужэйшы і лаўчэйшы за мяне. Ён далей кідаў каменем, мог ускарабкацца на самы высокі слуп, добра свістаў у два пальцы. У астатнім мы мала чым адрозніваліся адзін ад другога. Я любіў хадзіць да Адама: зімой у іх старой хаце было цяплей і на сцяне вісеў гадзіннік з намаляваным на цыферблаце трактарам. Адам быў на год старэйшы за мяне, таму ў школу пайшоў раней. Але ў той год бацька купіў яму фабрычныя канькі, і таму Адам асабліва на буквар не налягаў. У першым класе ён астаўся на другі год. Мне гэта было якраз на руку, бо недзе ў глыбіні душы мяне ўсё-такі тачыла зайздрасць: Адам меў і канькі, і кніжкі, а я сядзеў дома і няньчыў меншых братоў.

Такім чынам, у першы клас мы з Адамам пайшлі разам. Ён на правах старэйшага па дарозе ў школу растлумачыў мне, як трымацца перад настаўніцай, і наогул расказаў пра школьныя парадкі і звычаі.

У трэцім класе нас з Адамам аставілі на другі год ужо ўдваіх. У Адама была прычына: ён хварэў жаўтухай, у мяне ж прычыны не было, але я, як ні біўся, ніяк не мог засвоіць табліцы множання. Яна здавалася мне сухой і непатрэбнай. З-за гэтай табліцы мяне і не перавялі ў чацвёрты клас.

Як ні дзіўна, але, пачынаючы са свайго другагодніцтва (Адам — з другога па ліку, я — з першага), мы з сябруком сталі вучыцца надта добра і ўжо ў чацвёртым класе лічыліся першымі вучнямі. Мы рашалі самыя цяжкія задачы, завучвалі на памяць самыя доўгія вершы, на нямой карце беспамылкова паказвалі ўсе рэкі і азёры. Падахвоціла нас да навукі наша настаўніца Зося Юр’еўна. Якая гэта была выдатная настаўніца і як цікава яна ўмела расказваць! Пра самыя сумныя рэчы, напрыклад, пра каменне, якога колькі хочаш валяецца на полі, яна расказвала так, што дух зацінала. Яна ўсё ведала, усё ўмела, вясёлая Зося Юр’еўна: добра спявала, малявала, дый сама была надзвычай прыгожая — чарнявая ластаўка-шчабятуха.

Цэлы год Зося Юр’еўна выкарыстоўвала апошні ўрок для чытання кніг і розных гісторый з газет. Якія гэта былі вы-

датныя кнігі і гісторыі! Мы сядзелі за партамі, баючыся паварушыцца, і ніякай дысцыпліны не трэба было наводзіць, бо ўсе забывалі нават, дзе яны знаходзяцца. Асабліва хвалявалі нас кнігі пра вайну і розныя апавяданні пра шпіёнаў. Тады, як мы вучыліся, нават піянерскія газеты вельмі многа пісалі пра тое, як школьнікі затрымліваюць усялякіх дыверсантаў і парушальнікаў граніцы, і Зося Юр'еўна не прапускала ніводнай такой заметкі, каб не прачытаць яе нам.

Мы — і хлопцы, і дзяўчаты — былі закаханы ў Зосю Юр'еўну, і нам было надзвычай сумна развітвацца з чацвёртым класам, у якім у той год не засталося ніводнага другагодніка. Мы ведалі, што ў пятым класе Зося Юр'еўна не вучыць.

Летам, у час канікулаў, мы з Адамам купілі падручнікі за пяты клас і рабілі частыя вандроўкі ў лес. Нам падабалася цішыня і насцярожанасць лесу, і, мабыць, у глыбіні душы жыла надзея, што і на нашу долю выпадзе шчасце натрапіць на якога-небудзь шпіёна ці дыверсанта. І вось нарэшце здарылася. Аднойчы мы пайшлі збіраць яловыя шышкі. Калі вярталіся дамоў, убачылі вельмі падазронага чалавека, які раз-пораз збочваў з дарогі і хаваўся ў жыце. Сумненняў не магло быць — шпіён! З якой іншай прычыны стаў бы гэты добра апрануты чалавек праз кожныя сто метраў завітваць у збажыну, тоячыся там па некалькі хвілін. Ясна, нешта выглядваў, а потым там, у жыце, запісваў ці наносіў на карту. Мы з Адамам жылі ў раённым мястэчку, размешчаным не так далёка ад граніцы, і ведалі, што ў нас ёсць што вынюхваць. Праз мястэчка праходзіла чыгунка, былі ў нас таксама цагельны завод, мылаварня, парня, то хіба ўсё гэта не магло быць цікавым для замежнага шпіёна?

Мы рашылі дзейнічаць. Шкада толькі, што ў мястэчку не было ні пагранзаставы, ні нават вайсковай часці, куды б можна было здаць гэтага небяспечнага тыпа. Ідучы за чалавекам назіркам, мы давялі яго да местачковай вуліцы і ўжо не адставалі ні на крок. Не ведалі мы толькі, куды трэба першнаперш заявіць.

Чалавек між тым не пайшоў галоўнай вуліцай, а завярнуў у глухі правулак, і гэта яшчэ больш умацавала нас з Адамам у думцы, што мы маем справу з асцярожным і хітрым ворагам. Пятляючы правулкамі, зазіраючы ў падваротні, невядомы

нарэшце зноў выбіўся на вуліцу, але трымаўся бліжэй да парканаў, як бы хаваючыся ў цяні таполяў і ліп. А вуліца была пустая — ні чалавека, як гэта бывае толькі ў летнюю жніўную спёку. Мы з Адамам аж гарэлі ад узбуджэння. Што скажа Зося Юр'еўна, калі даведаецца пра наш подзвіг? Як будуць глядзець на нас знаёмыя хлопцы пасля таго, як усё мястэчка загаворыць пра шпіёна?

Першай установай, якая трапілася на нашым шляху, быў народны суд. Якраз тое, што трэба! Я махнуў Адаму, каб ён не адставаў ад незнаёмага, а сам куляй узляцеў на ганак.

У прыёмнай суда, у разамлелай летняй цішыні, сядзела за сталом сакратарка з завязаным хустачкай вокам і корпалася ў паперах.

— Шпіён! — крыкнуў я з парога.

Дзяўчына недаўменна зірнула на мяне сваім адзіным вокам, не прамовіўшы ў адказ ні слова.

— Мы злавілі шпіёна! — яшчэ мацней выгукнуў я.— Ён там, на вуліцы!..

Зацікаўленая сакратарка выйшла са мной на ганак. Але на вуліцы ўжо не было ні Адама, ні незнаёмага. Толькі ля паркана, паўз які хвіліну назад прайшоў шпіён, грэбліся куры.

— Смаркачы вытры! — злосна сказала сакратарка і рушыла назад у пакой.

Адама я напаткаў на рагу вуліцы ля аптэкі. Ён стаяў з сумным, панылым выглядам.

— Гэта, відаць, нейкі доктар,— прамовіў Адам.— У аптэцы сядзіць. Назбіраў жучкоў і разглядае праз лупу. Жучкі кузькамі называюцца. Іх многа ў жыце.

Гэтак падкузьміў нас незнаёмец!

Мы доўга, да самага паўналецця, саромеліся ўспамінаць гэтую прыкрую гісторыю. Потым, успамінаючы, смяяліся.

У вайну Адам загінуў на фронце. Загінула ў партызанах і вясёлая Зося Юр'еўна — першая настаўніца, якая здолела пераканаць нас, што свет такі вялікі і прыгожы і што ў ім заўсёды знойдзецца месца для подзвігу.

*1964*

# 1965

## ВАЛЬС КВЕТАК

### I

Кастравіцкі прыехаў да возера ў канцы ліпеня, у гарачы, напоўнены сонечным бляскам дзень. Ён ніколі не быў тут раней, але многа наслухаўся пра даброты адпачынку ў тутэйшых мясцінах, ціхіх, мала кранутых з-за далечыні ўвагай дачнікаў і ўсіх тых, хто рвецца летам з мітусні гарадоў на прыроду. Возера сапраўды было цудоўнае — вялізнае сярэбранае люстра ў зялёнай аправе сасновых бароў. Але асаблівай цішыні не было, бо дачнікі і турысты на адлегласць, відаць, не зважалі. Па ўзбярэжжы пад соснамі стаялі палаткі, а найчасцей проста «Масквічы» і «Волгі», у якіх спалі ноччу іх уладальнікі, з раніцы дымілі ў лесе кастры і керагазы вясёлага, бесклапотнага табару гараджан.

Па дамоўленасці з навукова-даследчым інстытутам Кастравіцкаму далі пакойчык на біястанцыі, абсталяванай для назіранняў над рэжымам возера. Пра харчаванне ён мусіў клапаціцца сам. К вечару другога дня ён знайшоў сабе стол — у вёсачцы, размешчанай па суседству з біястанцыяй. Сталаваць яго ўзялася маладжавая вясёлая калгасніца — удава ці незамужняя.

Кастравіцкі ўставаў позна — ні лоўля акунькоў і плотак, ні вышукванне пакуль яшчэ рэдкіх у гэтае засушлівае лета грыбоў яго не цікавіла. Ішоў да сваёй карміцелькі, выпіваў збанок малака з аржаным, дамашняй выпечкі, хлебам і, захапіўшы байкавую коўдру, кіраваўся на бераг возера, пад разгалістую вербалозіну з курганом мурашніка па суседстве. З-за гэтага мурашніка дачнікі абміналі вербалозіну, распранаю-

чыся паводдаль, пад стромкімі соснамі ці на самым беразе — на прымятай, выгарэўшай ад сонца траве. Кастравіцкаму падабалася адзінота — на мурашак ён не звяртаў увагі.

Ён радаваўся, што сярод тых, хто, як і ён, адпачывае на возеры, няма знаёмых і не трэба весці нецікавых размоў.

Побач з біястанцыяй размяшчаўся спартыўны лагер студэнтаў, і яны, загарэлыя да колеру бронзы, цэлы дзень галёкалі на беразе, перакідваючыся мячом, у абдымку — хлопцы і дзяўчаты — вандравалі па прыбярэжнаму пяску ці купаліся, падскакваючы ў вадзе, як дэльфіны, і агалошваючы наваколле вясёлымі выгукамі. Студэнты паводзілі сябе як сапраўдныя дзеці прыроды.

З сабой Кастравіцкі прывёз цэлае бярэмя кніг, добрых, чытаных яшчэ ў юнацкія гады, і цяпер напаўзабытых, памятных толькі па тым пачуцці, якое некалі выклікалі. Такую раскошу ён даўно збіраўся дазволіць сабе — і дзесяць, і пяць гадоў назад,— але выпадак надарыўся толькі цяпер.

Ён ляжаў, чытаў, захоплены якой-небудзь думкай, адрываўся ад кнігі, пераводзіў позірк на зіхатліва-блакітную — пад колер неба — роўнядзь возера, на процілеглы, далёкі бераг, амаль схаваны ў трымценні сіняватай смугі. Толькі два ці тры разы на дзень ён падымаўся купацца: вада была халодная і празрыстая, як ранішняя раса; у возера ўпадала толькі маленькая рачулка, адна яна не магла яго напаіць, але ўзровень не паніжаўся нават у гэты спякотлівы месяц, калі мялеюць буйныя рэкі. Кастравіцкі без роспытаў здагадаўся аб прычыне: возера паілі крыніцы, яны, відаць, нябачна білі з дна, таму вада была такая празрыстая і мала награвалася. Пацвярджэнне здагадкі ён хутка ўбачыў на ўласныя вочы: дзве крынічкі, адна ля другой побач, струменілі і на пясчаным беразе. Дачнікі паставілі на гэтых месцах па цэментнаму кругу, і ўсе бралі адсюль ваду.

Кастравіцкі адчуваў сябе надзвычай стомленым, але гэтая стомленасць была не толькі нервовая ці фізічная. У апошні год ён рэдка быў бадзёры, задаволены, часта яго агортвала хваля беспрычыннага суму. І ў такія хвіліны ён не знаходзіў сабе месца. Работа была тут ні пры чым, навуковыя справы ў Кастравіцкага ішлі добра. Здарылася штосьці другое. У душы, у сэрцы як бы парвалася вельмі важная струна, тая, якая

заўсёды давала верны гук, настройвала, служыла камертонам астатніх гукаў.

Ужо хутка год, як ён ловіць сябе на пакутлівым адчуванні, што жонка — не ў прыклад іх папярэдняму жыццю — даволі абыякавая да яго работы, жыве сваім, схаваным і стоеным ад яго, самым рашучым чынам адмаўляючы гэта на словах. Ён зрабіў бясконцую колькасць спроб зблізіцца з ёю, убачыць ранейшай, бадзёрай, упэўненай — такой яе сустрэў, любіў і прывык маляваць у сваім уяўленні. Ранейшае вярталася, але не болей чым на дзень-два, потым незразумелая трывога зноў агортвала жонку, услед за трывогай яе паглынала незразумелая для яго абыякавасць, паглыбленасць у самую сябе. Усё часцей яна выказвала сваё незадавальненне ім, успамінала крыўды — справядлівыя ці ўяўныя, якія ён калі-небудзь ёй прычыніў.

На першым часе ён, мужчына, які пачынаў старэць, уявіў самае банальнае і страшнае — захапленне іншым мужчынам, здраду. Гэта было неверагодна, але словы і ўчынкі жонкі ў яго разгарачаным падазрэннем уяўленні замыкаліся ў стройны, лагічны сваёй паслядоўнасцю ланцуг. Яна не любіць яго, як раней, не хвалюецца, калі ён ад'язджае, не імкнецца, як некалі, зрабіць кожны яго дзень вольным ад надакучлівых, дробязных клопатаў. Усё гэта, што так нечакана на яго нахлынула, не давала спакою, патрабавала неадкладнага вытлумачэння.

Апошні год ён жыў вельмі пакутліва. Было балюча, сорамна перад самім сабою, але ён узнаўляў у памяці твары знаёмых мужчын, усіх тых, з кім магла быць знаёма і жонка. Ён губляўся ад няпэўнасці: яго падазрэнням не было за што зачапіцца. Нават інтуіцыя не падказвала яму, што сярод тых, каго ён ведаў, з кім магла сустракацца і жонка, ёсць супернік. Былі сярод знаёмых двое ці трое мужчын, пра каго ён чуў дый, бадай, пэўна ведаў, што яны без асаблівых душэўных згрызот сыходзяцца з чужымі жанчынамі. Але нікога з іх не мог паставіць побач са сваёй жонкай, уявіць, што яна каму-небудзь усміхаецца, шукае сустрэчы.

Зрэшты, ён расказаў жонцы аб сваіх пакутах: у адказ былі слёзы, папрокі і ніводнага ласкавага слова, якое б яго супакоіла, суцешыла, прывяло ў стан раўнавагі. Заставалася чакаць. Інакшага выйсця не было. Ён сямейны: у яго два хлопцы-падлеткі, і бацька ім патрэбен.

## II

Кастравіцкі бачыў, што гаспадыня, у якой ён сталуецца,— жанчына вольная і незалежная. Дзяцей у яе няма, двор не надта дагледжаны — якраз не хапае мужчынскай рукі, каб перасыпаць пахілы, скрыўлены набок хлевушок, перакрыць новай саломай хату, зрабіць новыя вароты і веснічкі. Дол у двары зарос густой муравой, трыпутнікам, дзяцельнікам, і толькі адна сцяжынка на ім — у хлеў, да каровы.

Гаспадыня — чарнявая, рухавая, з прыемным поўным тварам і амаль дзявочай гнуткай паставай. У яе вялікі запас таго прыроджанага далікацтва, якім, як заўважыў Кастравіцкі, нярэдка вызначаюцца жанчыны з ціхіх беларускіх вёсак. У свайго сталаўніка гаспадыня толькі спытала, адкуль ён і колькі прабудзе на возеры. Болей, відаць, адчуваючы, што чалавек не схільны да гаворкі, роспытамі не даймала, расказвала пра ферму, дзе яна цялятніцай, пра ўраджай агародніны — такі вялікі, што некуды збываць агуркі і памідоры,— пра нейкую экспедыцыю, якая за вёскай свідруе ў зямлі шчыліны: шукае лячэбную ваду.

Маладосць у Кастравіцкага забрала вайна, вучэнне, кнігі. Ён быў дрэнным кавалерам, не бываў на вечарынках, нават танцаваць не навучыўся. Але яму заўсёды здавалася, што ён разумее жанчын. Ён і цяпер з прагнай цікавасцю назіраў за гаспадыняй, стараючыся разгадаць, што кіруе ёй у жыцці. Яна маладая, адзінокая, і не магло быць, каб яна нікога не любіла і не імкнулася да шчасця.

Выпадак дапамог Кастравіцкаму пераканацца, што ён не памыляецца. Вечарам ён збіраў сасновыя галінкі, распальваў агеньчык і ў алюмініевым, вайсковага фасону кацялку гатаваў чай. Яму падабалася гэтае самаабслугоўванне: чай пахнуў дымам, смалой, нагадваў далёкае дзяцінства. Электрычнага святла ні ў вёсцы, ні на біялагічнай станцыі не было, і штовечар, калі над возерам павісаў месяц, Кастравіцкі вандраваў берагам возера.

Студэнты к гэтаму часу ўтаймоўваліся, ля возера нікога не было, толькі з боку спартыўнага лагера даносіліся гукі акардэона і песень. У вячэрні час возера было цудоўным. На люстранай матава-цёмнай паверхні дрыжалі месячныя дарожкі,

і здавалася, што насустрач вандроўніку бягуць імклівыя, запоўненыя срэбрам рэкі.

Адзін раз Кастравіцкі з берага павярнуў да вёсачкі. Над лагчынкай, якая аддзяляла парослыя сланечнікам і гарбузамі агароды ад возера, вісеў туман, у кустах прарэзліва крычала начная птушка. Вячэрняя, ахутаная змрокам вуліца здалася Кастравіцкаму куды прыгажэйшай, чым тады, калі ён хадзіў па ёй днём. Цёмныя купы ліп вырысоўваліся, як вялізныя стагі, неяк па-асабліваму, таямніча і ўрачыста, шасцела на дрэвах лісце. Парканы, хаты, стусы бярвенняў на вуліцы перад дварамі — усё набывала новае, незнаёмае аблічча, загадкава-прыгожае і прывабнае.

Перад хатай, дзе Кастравіцкі сталаваўся, стаяў грузавік, у вокнах гарэла святло, і яны былі завешаны. Час быў не ранні, гадзін дванаццаць ночы, і Кастравіцкі падумаў, што ў яго гаспадыні госці. Назаўтра снедаць ён не пайшоў, разважаючы, што жанчыне хапае клопату і без яго. У абед гаспадыня, не тоячы здзіўлення, спыталася, чаму ён не прыйшоў піць малако.

— У вас былі госці,— сказаў Кастравіцкі.

— Не госці, а госць,— прамовіла яна, пачырванеўшы.— Каханы мой. Заязджае да мяне...

— Вы збіраецеся за яго замуж?

— Які там замуж. Можа б, і прыйшоў, каб я захацела. Але не вольны ён, сямейны, а рушыць сям'ю не хачу...

— Вы любіце яго? — здзіўляючыся шчырасці, з якой жанчына расказвала пра сябе, спытаў Кастравіцкі.

— А хіба ж без гэтага можна? Я б глядзець на яго не захацела, каб не любіла.

Яна задала яму загадку, над якой ён думаў некалькі дзён, усё болей набіраючыся павагі да сваёй гаспадыні. Раней яму здавалася, што кожная жанчына, хто б яна ні была, носіць тайну кахання ў сабе самой, ніколі не адкрываючы яе другім.

Шчырасць гаспадыні была, відаць, прычынай таго, што Кастравіцкі адважыўся расказаць ёй пра свае сямейныя нягоды. Яна слухала ўважліва, седзячы насупраць яго за сталом, падпёршы шчаку рукой, і яе смуглы, чарнявы твар быў задуменна-спакойны.

— Бывае,— сказала яна, выслухаўшы яго блытаную, непаслядоўную споведзь.— Можа, стамілася ваша жонка, а

можа, другое... Але ці вам, мужчынам, бедаваць?.. Завядзіце сабе другую, дык яна мігам апомніцца... У нас, баб, нюх на гэта востры...

Ён зноў хадзіў некалькі дзён пад уражаннем размовы з гаспадыняй, здзіўляючыся той прастаце і яснасці, з якой яна паставіла ўсё на сваё месца. Ён як бы пачаў спакайнець. У яго адносінах з жонкай была няпэўнасць, і ён быў рад цяпер гэтай няпэўнасці. Цяпер яму досыць лёгка ўдавалася адганяць пакутлівыя, неспакойныя думкі.

## III

Дні плылі ў сонечнай аксамітнай смузе. Лета, якое ішло на схіл, усё болей узбагачала фарбы. Кастравіцкі, вандруючы каля возера, лавіў сябе на дзіўным адчуванні: пра сябе самога ён думаў, як пра пабочнага чалавека, другую асобу. І здавалася, што ён лепей за каго-небудзь ведае гэтую асобу, незнаёмую, супярэчлівую і нават загадкавую.

Ён ніколі раней не думаў, хто ён, давяраючы ўнутранаму пачуццю, якое кіравала ўсім тым, што ён рабіў і чаго дамагаўся. Гэтае ўнутранае пачуццё падказвала, што ён, Кастравіцкі, чалавек неблагі, недурны, але няроўны, схільны да зрываў і неўраўнаважанасці. Сам ён даўно адчуваў і праверыў вопытам, што ў яго ёсць тое, што звычайна называюць воляй, але гэтая якасць яго характару праяўлялася несамавіта: на людзях ён быў і роўны, і ўпэўнены, і ўмеў на другіх рабіць уражанне, што сам верыць у тое, што гаворыць, але астаўшыся сам-насам быў вельмі часта ва ўладзе рэфлексіі і дзіўнай расслабленасці. Пра гэта мала хто ведаў і, бадай, найлепш — жонка. Так, найбольш яна. Ці зразумела, ці адчула яна яго дарэшты?.. Ёй болей, чым каму-небудзь другому, даводзілася бачыць яго слабым і бязвольным. Яна ведала ўсе надакучлівыя падрабязнасці яго побыту, дрэнныя бакі яго характару і, відаць, параўноўваючы тое, кім ён здаваўся на людзях і што пра яго гаварылі другія, з тым, што ведала пра яго сама, прыйшла да кепскай аб ім думкі.

Да жыцця паўсядзённага, практычнага ён быў прыстасаваны мала, бярэмя дамашніх абавязкаў клалася на жонку. Яна ж яшчэ і працавала. А ён патрабаваў да сябе ўвагі, праўдзівей

кажучы, нават не для сябе, а да той справы, якой займаўся, патрабаваў, давяраючы таму самаму ўнутранаму пачуццю, якое падказвала, што ён мае права на гэтыя ахвяры ў імя жорсткага, бязлітаснага бога, якому служыў сам.

У яе было сваё жыццё, свае імкненні, інтарэсы, з якімі ён вельмі мала лічыўся. Многа разоў у жонкі былі спробы расказаць пра свае клопаты і згрызоты на рабоце, ён слухаў яе з паблажлівай усмешкай, як штосьці дзіцячае і не зусім сталае. Так, ён яе вельмі крыўдзіў гэтым. У яго абыякавасці, безуважлівасці да жыцця жонкі, відаць, была прычына таго, што і яна пачала адказваць яму такой жа няўвагай. Але калі б гэта была толькі няўвага, ён бы так не хваляваўся, у яго не прапаў бы задарма год жыцця. Цяпер ён ведаў, бадай, пэўна, што жонка расчаравана ў ім, незадаволена сваім з ім жыццём і як бы нанава стараецца яго распазнаць, шукаючы ў ім перш за ўсё благое. Ён адчуваў, што гэта нядобра, і гэтае нядобрае магло прывесці куды хочаш...

Студэнты галёкалі без упынку. Ім, здаецца, зусім не надакучыла дзень за днём займацца адным і тым жа: стаўшы ў круг, перакідвацца мячом, хлопцам ганяцца ў вадзе за дзяўчатамі, а надвячоркам, абняўшыся, блукаць па лясных дарогах парачкамі. Гэтае галёканне і блуканне было, на погляд Кастравіцкага, залішне панылае, аднастайнае. Пра сур’ёзнае гаварыць тут як бы нават саромеліся, цыбатым хлопцам і дзяўчатам жыццё ўяўлялася ясным, бясхмарным.

Гадоў чатырнаццаць назад у студэнцкім тлуме была і жонка, і Кастравіцкі нібы бачыў яе сярод агаленых, загарэлых да колеру бронзы фігур. Яна з яе няўрымсліва-агністай натурай была, вядома, завадатарам у такіх зборышчах, бо ў ёй жыло пастаяннае імкненне выдзяляцца, падабацца, звяртаць на сябе ўвагу. Раней яму чамусьці здавалася, што вясёлыя, энергічныя дзяўчаты і жанчыны найболей бяскрыўдныя. Ён не ведаў сам, на чым грунтавалася такая пераконанасць — хутчэй за ўсё на думцы, што ў такіх людзей усё на віду, на паверхні.

Зрэшты, ён, відаць, заўсёды пабойваўся жыцця, складанасці яго бытавой плыні, чапляючыся за гатовыя, невядома кім выведзеныя формулы. Адна такая формула сцвярджала, што чэрці водзяцца ў ціхім балоце. Ён як бы ўзяў гэтую формулу сабе на ўзбраенне і, думаючы аб той, якая стане яму жонкай,

уяўляў яе зусім не ціхай і нават пабойваўся сарамяжай, мяккай жаноцкасці, якая нагадвала пра здраду, пра самае цёмнае, што можа быць у жыцці. Цяпер ён сам з сябе пасмейваўся: зусім аднолькавыя, адной масці і колеру чэрці маглі вадзіцца і ў ціхім, і ў шумным балоце.

У адзін з тых дзён Кастравіцкі заўважыў, што студэнты перасталі галёкаць. Яны не перакідваліся мячом, не лазілі ў возера, а, разбіўшыся на купкі, хадзілі па беразе, трывожна аб нечым размаўляючы. Ён не надаў увагі гэтай перамене, а вярнуўшыся пасля абеду пад вярбу, напаткаў там знаёмага работніка біястанцыі Бадзюкова, тоўстага, немаладога чалавека, надзвычай узрушанага.

— Бяда,— сказаў Бадзюкоў.— Студэнтка ўтапілася...

Калега гаварыў блытана, цяжка дыхаючы і раз-пораз выціраючы лысіну пярэстай носавай хустачкай, і, зрэшты, Кастравіцкі зразумеў, што студэнтка ўтапілася не ў выніку няшчаснага выпадку, а наўмысна, абдумана, пакінуўшы запіску, у якой прасіла нікога ў яе смерці не вінаваціць. Труп яшчэ не знайшлі, ніхто не бачыў, калі дзяўчына кінулася ў возера і ў якім месцы.

Навіна была незвычайная, і Кастравіцкі да самага вечара думаў пра невядомую студэнтку і пра тыя магчымыя прычыны, якія на пачатку веку прывялі яе да смерці. Хутчэй за ўсё тут было няшчаснае каханне. Сярод самаўпэўненых спартсменаў знайшлася натура глыбокая, уражлівая і, пакахаўшы так, як пра гэта пішуць у добрых старых кнігах, не змагла вынесці ветрагонства, якое, вядома ж, пануе ў адносінах паміж загарэлымі да колеру бронзы рагатунамі. Так вытлумачыў Кастравіцкі самагубства дзяўчыны.

Прайшла ноч.

Назаўтра Бадзюкоў, такі ж узрушаны, разгублены, завітаўшы пад вярбу, лёг пад коўдру побач з Кастравіцкім.

— Труп знайшлі,— паведаміў ён коратка.

— Самагубства?

— Самагубства...

Ён моўчкі ляжаў некалькі хвілін, жаваў у зубах травінку, як бы заняты абдумваннем цяжкай задачы, якую трэба было рашыць. Потым загаварыў, глытаючы словы, задыхаючыся.

— Учарашняе пацвердзілася... Яна свядома пайшла на смерць... Няшчаснае каханне... Ёсць тут адзін студэнт. Звычайны, нічога асаблівага... Яна яго любіла яшчэ ў школе. Разам паступілі ў інстытут, яны тут і летась былі, у спартыўным лагеры. Сёлета ён пачаў хадзіць з другой.

— Прыгожая яна? — спытаў Кастравіцкі.

— Прыгожая.

— Што ж, наглядны прыклад, што вялікія пачуцці жывуць і ў наш час,— задумліва прагаварыў Кастравіцкі.— Бескампрамісная, цэльная натура. Няўжо яна палюбіла нягодніка?

— Звычайны студэнт,— гэтак жа думаючы пра сваё, адказаў Бадзюкоў.— Але хіба гэта мае значэнне? Важна тое, якім яна яго бачыла.

Кастравіцкі здзіўлена зірнуў на Бадзюкова. Самагубства невядомай дзяўчыны закранула гэтага немаладога і з выгляду абыякавага, флегматычнага чалавека не менш, чым яго самога. Ён, відаць, таксама адчуваў трагічнасць, незвычайнасць усяго, што адбылося, і, можа, нават вастрэй за яго, Кастравіцкага, бо ўзрушэнне, якога ён не таіў, не пакідала яго ўжо на другі дзень.

І раптам Кастравіцкі адчуў, што не можа не расказаць біёлагу пра свае сумненні, падзяліцца тым, што хвалюе яго і непакоіць.

— Вы кажаце, важна, якім дзяўчына бачыла свайго героя,— пачаў ён, стараючыся пераадолець хваляванне і гаварыць спакойна.— Я думаю, што гэта не так, праўдзівей кажучы, не заўсёды так. Не на ўсіх этапах жыцця... Пачынаецца каханне з таго, што мы акружаем таго, каго любім, паэтычным арэолам. Мы думаем, адчуваем, што ён такі — адзіны на ўсім свеце, першае, самае першае каханне крыху падобна на вар’яцтва. Розуму, развагі ў ім ва ўсякім выпадку вельмі мала. Але вось мінаюць гады, паэтычны арэол як бы блякне, бляднее, бо вельмі мала людзей ва ўсіх адносінах дасканалых. Але ж каханне застаецца. Любяць не толькі за дабрачыннасці, а і за недахопы. І нават больш...

— З самага пачатку недахопаў не бачаць,— запярэчыў Бадзюкоў.— І ніколі не бачаць...

Кастравіцкі гаварыў, думаючы аб сабе, блытаўся, нерваваўся, увесь час ловячы сябе на пакутлівым адчуванні, што праўда на

баку Бадзюкова, што ён, Кастравіцкі, хоча прыпісаць каханню тое, чаго ў ім ніколі было,— сілу прывычкі, пачуццё абавязку, вернасць у імя гэтага самага абавязку.

— Каханне з гадамі не драбнее, а набіраецца моцы,— задумліва сказаў Бадзюкоў.— Вядома, калі яно было з самага пачатку.

— Яно можа быць living рознае,— пярэчыў Кастравіцкі.— Павінны быць і ў каханні градацыі, перыяды, розная сіла пачуцця.

— Каханне не мае градацый, калега. Яно там, дзе двое адно без другога не могуць жыць. Іншая справа, што ў чалавека можа быць не адно каханне. Мінае адно, наступае другое. А бываюць і аднalюбы. Як гэтая студэнтка.

Яны прагаварылі з гадзіну, потым Бадзюкоў падняўся і пайшоў. Плечы ў яго шырокія, спіна трохі ссутуленая, паходка нетаропкая. Кастравіцкі ўзяўся за кнігу, але чытанне не ішло ў галаву. На душы было прыкра.

## IV

Два наступныя дні Кастравіцкі вандраваў па ўзбярэжжы возера, завітаў у пасёлак, які належаў рыбалавецкай арцелі. Домікі тут у большасці новыя і выглядам сваім не зусім падобныя на сялянскія, як у вёсачцы, дзе Кастравіцкі сталуецца. Усюды пахне рыбай: на ўзбярэжжы, распятыя на адмысловых козлах, сушацца сеці, на пяску, пры самай вадзе, ляжаць перакінутыя ўверх дном асмаленыя лодкі, тут жа, пад паветкай, стаяць драўляныя, на манер насілак, скрыні, у якія рыбу высыпаюць з сецяў, і вялікія, аблепленыя рыбнай луской вагі. Але ў агародчыках ля домікаў, як і ў звычайнай вёсцы, растуць сланечнікі, чарнее збуцвелы картаплянік, відаць градкі капусты, морквы.

Кастравіцкі падсеў да рыбакоў, якія, сабраўшыся ля прыёмнага пункта, сядзелі на тоўстым, напалавіну збуцвелым бервяне і курылі. Навіну пра тое, што ў возеры ўтапілася студэнтка, яны ведалі, і было відаць па ўсім, што яна іх не асабліва ўзрушыла. Кастравіцкаму здавалася, што да смерці, як і да ўсяго ў жыцці, гэтыя загарэлыя, з шурпатымі, парэпанымі далонямі рук людзі адносяцца з нейкім філасофскім спако-

ем, яны нібы ведаюць штосьці большае, важнейшае, толькі не хочуць пра гэта гаварыць. Зрэшты, гутарка ажывілася. Кастравіцкі пачуў, што ў вялікім, прыгожым, багатым на рыбу возеры топяцца штогод, ненарокам і наўмысна, і было нямала выпадкаў у мінулым, калі кідаліся ў ваду дзяўчаты, якім не пашанцавала ў каханні...

Мінуў яшчэ дзень. Пайшоў дождж. Без грому, без маланак, ён ліў як з вядра ўсю ноч, а тры наступныя дні з неба церусілася дробная, надакучлівая імжа. Калі нарэшце распагодзілася і Кастравіцкі выйшаў на сваю мясціну да возера, яго ўразіла незвычайнае бязлюддзе і цішыня, якая панавала на ўсім бачным прасцягу берага. Спартыўны лагер апусцеў, студэнты паехалі, не было і дачнікаў. Патыхала не летам, а сапраўднай восенню, і было штосьці надзвычай сумнае ў малюнку апусцелых, нядаўна гаманлівых стойбішчаў, дзе бялелі палаткі, стаялі буданы, легкавыя машыны. Цяпер тут тырчалі ўбітыя ў зямлю калкі, валяліся абрыўкі паперы, жаўцела палітая дажджом, прымятая трава. І само возера, нягледзячы на бязвоблачную сінечу неба, здавалася хмурным і непрыветлівым. Кастравіцкі наважыў, што паедзе заўтра. Болей тут, каля возера, яму не хацелася быць.

Ён звязаў і спакаваў кнігі, схадзіў у вёсачку і разлічыўся з гаспадыняй, а калі вярнуўся назад, то ўбачыў на беразе, недалёка ад доміка біястанцыі, знаёмую жаночую постаць. Жанчына ў чырвоным капронавым плашчы нецярпліва пахаджвала па беразе. Сумненняў не магло быць: тут, на апусцелым беразе возера, некага чакала Жэня Сінельнікава, сяброўка яго жонкі, якая разам з жонкай выкладала замежную мову ў інстытуце. Кастравіцкага працяло ад нядобрага прадчування. Магло штонебудзь здарыцца дома — і ён ледзь не подбегам рушыў да Жэні. Вітаючыся з ім, задыханым, Жэня пачырванела, збянтэжылася.

— Праязджала міма і рашыла вас наведаць,— сказала яна, не падымаючы вачэй.— Вы ж тут адзін...

Пра жонку не сказала ні слова. У яго адлягло ад сэрца, і адначасова стала сумна-сумна. Жанчына стаяла без рэчаў, да бліжэйшай аўтобуснай станцыі было кіламетраў пяць. Да яго, жанатага мужчыны, прыехала знаёмая жонкі, і гэта магло азначаць толькі адно: яго сямейныя справы перасталі быць

тайнай для другіх. І яшчэ тое, што яму спачуваюць, хочуць усцешыць...

— Я заўтра ад'язджаю,— сказаў Кастравіцкі.— Ужо сабраў рэчы.

— Правядзіце мяне да аўтобуса,— сказала яна нездаволена.

Яны пайшлі сасновай прасекай, пакуль не выбіліся на пясчаны шлях, які вёў у мястэчка, дзе спыняліся аўтобусы. Кастравіцкі маўчаў, думаючы пра Жэню. Яна даволі часта бывала ў іх дома, але ён, заўжды заняты сваім, як бы не заўважаў яе. Што ён пра яе ведае? Ёй гадоў трыццаць пяць, яна замужам, здаецца, разумная, дасціпная. З твару мілавідная, штосьці дзявоцкае, маладое захавалася ў паставе, у далікатнасці, плаўнасці даволі імклівай паходкі. Абодва яны ішлі моўчкі, і гэтае маўчанне належала развязаць яму, мужчыне.

— Як вы правялі лета? — спытаў ён, каб што-небудзь спытаць.

— Дрэнна,— сказала яна і зірнула яму ў вочы.

Ён адвёў позірк.

Іх дагнала легкавая машына. Чарнявы, у спартыўным касцюме хлопец, які сядзеў за рулём, мінуўшы іх, спыніўся і адчыніў дзверцы, паказваючы, што яны могуць сесці і ехаць. Кастравіцкі быў рад, што так шчасліва і нечакана скончылася яго кавалерства: ён заўсёды губляўся, застаючыся адзін на адзін з жанчынай.

Хлопец давёз іх да невялічкай, абсаджанай таполямі і забрукаванай плошчы, дзе спыняліся аўтобусы. Жэня, вылезшы з машыны, пайшла да блакітнага доміка аўтобуснай станцыі і вярнулася адтуль, трымаючы ў руках невялічкі чамаданчык. Яны стаялі з паўгадзіны, перакідваючыся рэдкімі, нязначнымі словамі. Кастравіцкі адчуваў сябе прыкра. Упершыню ў жыцці трапіў ён у такое няёмкае становішча. Ён баяўся пакрыўдзіць, зняважыць неасцярожным словам Жэню, разумеючы, што крок, зроблены ёю, патрабуе ад яго найвышэйшай далікатнасці...

Прыйшоў аўтобус, Жэня не спяшалася садзіцца, як бы чакаючы, што Кастравіцкі што-небудзь скажа. Ён маўчаў. У гэтую хвіліну ў ім жыло толькі адно вострае і неадольнае жаданне — застацца аднаму, сабрацца з думкамі.

Жэня маўкліва працягнула яму руку на развітанне, ён пацiснуў яе, і яна села ў аўтобус...

Кастравіцкі не выехаў у горад і назаўтра. Зранку пайшоў дождж, ціха і аднастайна шасцеў у вяршалінах сосен. За акном ляжала возера, шэрае, маўклівае, нібы спавітае белым хісткім туманам. У густой імжы зусім губляліся абрысы далёкага процілеглага берага. Кастравіцкі быў зусім спакойны і сам здзіўляўся са свайго спакою. Боль, смутак — усё гэта, здаецца, належала ўчарашняму дню, ляжала за далёкай, пройдзенай паласой. Цяпер зноў, як ужо не раз бывала за гэты месяц, да яго вярнулася здольнасць глядзець на сябе збоку, вачамі як бы староннягa чалавека. Ён адпачыў. І не толькі адпачыў. Штосьці з ім адбылося.

Ён адчуваў у сабе гатоўнасць хоць зараз жа сесці за стол, узяць у рукі заточаны аловак, аркуш паперы, патануць у знаёмай, зведанай стыхіі думкі, дакладнай і яснай.

У поўдзень, калі ён моцна захацеў есці і разважаў над тым, ісці ці не ісці да гаспадыні, з якой ён ужо разлічыўся і якая мела ўсе падставы не чакаць яго, дзверы пакойчыка без стуку адчыніліся, і на парозе вырасла постаць Бадзюкова. Ён з хвіліну як бы здзіўлена глядзеў на Кастравіцкага, потым дастаў з-за пазухі, з-пад плашча, і працягнуў яму тоўсты сшытак у мяккай цыратовай вокладцы.

— Прачытайце,— сказаў ён хрыплым, прастуджаным голасам.— Я ведаў, што яна пакінула што-небудзь такое. Два дні шукаў...

Кастравіцкі ўзяў сшытак, разгарнуў на сярэдзіне. Павільгатнелая папера не шасцела. Кастравіцкі дрыжачай рукой стаў перагортваць старонкі. Почырк круглы, дзявочы. На кожнай старонцы выпіскі з Мікалая Астроўскага, Герцэна, Бялінскага, Максіма Горкага — агульнавядомыя, знаёмыя кожнаму добраму школьніку. Ён гартаў далей, сустракаючы вершы, якія чытаў ці чуў яшчэ ў студэнцкія гады, потым зноў пайшлі выпіскі з вядомых пісьменнікаў. Нарэшце ў вочы яму кінуліся словы, якія прымусілі яго сэрца сціснуцца да адчувальнага, фізічнага болю... «Калі я каго-небудзь пакахаю, то на ўсё жыццё. Ён будзе маім героем і маім ідэалам. Чалавекам з вялікай літары. Разумным і добрым, вясёлым і прыгожым. Неабавязкова прыгожым з твару. Я ніколі-ніколі не

дарую яму здрады, бо другога палюбіць не змагу. Можа, гэта смешна, але я такая...»

Кастравіцкі перагарнуў яшчэ старонку. «...З усіх вальсаў я найбольш люблю «Вальс кветак». Я спачатку думала — чаму кветак? Потым здагадалася — час цвіцення кветак — час іхняга кахання. А каханне — гэта музыка, песня. Мне не зразумела толькі, чаму ў музыцы вальса чуваць ноткі смутку, трывогі. Каханне павінна несці толькі радасць, шчасце, для смутку няма ў ім ніякага месца...»

Кастравіцкі асцярожна загарнуў сшытак, аддаў Бадзюкову.

— Акрамя кахання, у яе нічога не было,— ціха сказаў ён.

— Няпраўда, калега. У яе было жыццё. Толькі яна мерала яго самай высокай меркай. Прыгожая кветка на тонкай сцяблінцы. Зламалася...

— У нас ва ўсіх высокія меркі,— сказаў Кастравіцкі.

Бадзюкоў прысеў на табурэтку і закурыў. Кастравіцкаму трэба было збірацца ў горад, але ён марудзіў. За вокнамі па-ранейшаму аднастайна шасцеў дождж, дробны і часты...

*1965*

## ВОДГУЛЛЕ ДАЛЁКІХ ВЁСНАЎ

Майскімі святамі мне і дасюль свецяць далёкія трыццатыя гады...

Наша мястэчка лічылася сялом, у нас быў сельсавет, размешчаны ў доме папа, школа першай ступені, або, як пачыналі яе называць па-новаму, ШКМ, на пыльнай базарнай плошчы ўзвышалася абшарпаная дашчаная трыбуна. Да першамайскіх і кастрычніцкіх свят трыбуну фарбавалі ў чырвоны колер.

У першы клас у тыя гады пачыналі хадзіць не з восені, а з вясны. Два тыдні гаманлівая талака шыбавала ў школу, атрымлівала буквары, алоўкі, сшыткі, грыфельныя дошкі, прывыкала сядзець за партай, слухаць настаўнікаў, затым на ўсё лета распускалася на канікулы...

У школе па тым часе вучылі сур’ёзна. Класы называліся групамі, і нават у першай, самай пачатковай групе быў такі прадмет, як грамадазнаўства. На ўроках грамадазнаўства

настаўніца расказвала пра рэвалюцыю, якая адбылася ў нас і хутка перакінецца на астатнія краіны свету, пра буржуяў, якія смокчуць кроў бедных людзей. Зрокава мы ўяўлялі рэвалюцыю як вялікую бойку: худыя, галодныя людзі душаць, топчуць пузатых, тоўстых, як бочкі, буржуяў за тое, што яны адабралі ў бедных хлеб, вопратку, хаты. Гэта ўяўлялася цалкам справядлівым: бедныя, абліваючыся потам, працуюць і не маюць нават кавалка хлеба, а буржуі нічога не робяць і аб'ядаюцца. Мы дапытваліся ў настаўніцы, калі пачнецца рэвалюцыя ў астатніх краінах, і здзіўляліся з таго, чаму там, за мяжой, рабочыя і сяляне марудзяць.

Першамайскае свята было жывым пацвярджэннем таго, што сусветная рэвалюцыя хутка ўспыхне. Задні і бакавы прасцяг плошчы перад трыбунай напалавіну займала школа. Старшакласнікі неслі партрэты правадыроў, лозунгі, напісаныя белымі літарамі на чырвоным кумачы,— іх трэба было несці ўдвух, трымаючы палкі над галавой і расцягваючы палотнішча, каб можна было прачытаць напісанае. Але асаблівай аздобай вучнёўскай калоны былі дошкі транспарантаў, на якіх школьныя мастакі наглядна паказвалі бойкі рэвалюцыі — чырвонаармеец у будзёнаўскім шлеме коле штыхом тоўстага генерала, худы, жылаваты рабочы змятае мятлой з зямнога шара буржуя, памешчыка і папа.

Правей, перад самай трыбунай, стаялі чыгуначнікі — у іх таксама былі сцягі, партрэты, лозунгі, але такіх транспарантаў, як у школы,— ніводнага. Калгаснікі прыходзілі толькі са сцягамі, але затое сярод іх трое з гармонямі. Далей размяшчаліся смалакуры, пільшчыкі, работнікі цагельнай арцелі, невялікая купка мужчын з мылаварні. Усе з чырвонымі бантамі на грудзях, у новых святочных вопратках.

На трыбуне — па чалавеку ад кожнай калоны і старшыня сельсавета Стрык, худы, высокі, з чорным, нібы вымазаным дзёгцем, тварам. Стрык заўсёды носіцца па сяле на прыгожай кабыле Ластаўцы, чырвона-гнядой, з белымі падпалінамі на нагах і каля вачэй. Калі Стрык не ў сядле, то ўсё адно здаецца, што ён некуды імчыць, баючыся спазніцца,— гэтак шпарка, размашыста ён ходзіць.

Колькі я памятаю, усе тыя далёкія маі былі цёплыя, сонечныя, з сінім, без хмурынкі, небам, першым кволым лісцем

на каструбаватым вецці серабрыстых тапаляў. На галінах адной такой таполі, што расце якраз цераз вуліцу, перад крытым бляхай настаўніцкім домам, сядзяць, нібы вераб'і, хлапчукі. Хлапчукі пераважна з тых, што ў школу яшчэ не ходзяць, але ёсць і шкаляры, якія цішком шуснулі з калоны і ўскарабкаліся на дрэва, каб падзівіцца на цуд. Цуд паўтараецца кожнага мая і відзён найлепей з вышыні.

Творцы цуду — камсамольцы і іх завадатар Гешка Пінчук, камлюкаваты, шыракатвары хлопец, у якога зімой і летам праглядвае з-пад сарочкі паласатая матроская цяльняшка. Камсамольцы ў сяле ломяць і крышаць усё старое: скінулі крыжы з залатых царкоўных макавак, падпалілі на могілках капліцу, а цяпер ездзяць па полі, якое ўжо абагулена, на трактары і заворваюць межы.

Камсамольцы выскакваюць на плошчу з-за настаўніцкага дома, выстройваюцца ў ланцуг, як па камандзе нагінаюцца, кладучы на пясчаны дол пляскатыя бляшанкі. Адно імгненне — і з-пад іх ног вырываюцца воблакі шызага дыму, ахутваючы шчыльнай заслонай ланцуг. І тады пачынаецца першы цуд — камсамольцаў не відаць, затое на тым месцы, дзе яны стаяць, высока над галовамі падымаюцца на дрэўках чырвоныя сцягі. Плошча тоне ў воплесках, у дружных выгуках захаплення.

Камсамольцы зніклі. Прамежак перад трыбунай пусты. Чувацьляскат колаў, бразганне жалеза — з павароту вуліцы на поўным скаку імчыць пажарная каманда. Пажарнікі ў бліскучых медных касках — яны ззяюць на сонцы, як залатыя,— і ў поўнай экіпіроўцы — з сякерамі за брызентавымі паясамі, з доўгімі баграмі ў руках. Трымаючы коней за вуздэчкі, пажарнікі выстройваюцца перад трыбунай. Тады адкрываецца мітынг. Першым пачынае гаварыць Стрык.

Яго пранізліва-звонкі голас пакрывае не толькі плошчу, а і ўсё бліжняе наваколле. І тое, што выгуквае старшыня сельсавета, непасвечанаму можа здацца дзіўным, але словы Стрыка нельга разумець у літаральным сэнсе.

— Пажарнікі! — падымаючы ўгору сцятыя кулакі і як бы збіраючыся ўзляцець над трыбунай, гукае Стрык.— Не тушыце пажараў! Не трэба тушыць пажараў! Няхай шырэй разгараецца агонь рэвалюцыі!

Пажарнікі тоўстымі адтапыранымі пальцамі торкаюць коней пад сківіцы, і коні ўміг, як па камандзе, падымаюць морды, стрыгуць вушамі. Здаецца, яны слухаюць гэтак жа ўважліва, як і людзі.

Наступны лозунг да чыгуначнікаў — гэткі ж звонкі, гучны і, калі кіравацца простым сэнсам, недарэчны.

— Чыгуначнікі! Не спыняйце цягнікоў! Няхай імчацца лакаматывы ў сусветную рэвалюцыю!

Пасля кожнага выгуку прамоўцы — дружны, як адзіны ўздых, вокліч натоўпу. Стрык гарыць сам — вочы блішчаць, на чорных, запалых шчоках чырвань,— але ж і ўмее запальваць. Здаецца, каб падняў ён руку, паклікаў — уся грамада людзей, якія стоўпіліся вакол трыбуны, хлынула б за ім, кінулася б у невядомыя прывабныя далі.

— Смалакуры! Не шкадуйце смалы! Зальём ёй горлы сусветнаму капіталу!

— Пільшчыкі! Хопіць рэзаць дошкі і брусы! Збівайце труну для праклятых буржуяў!

Нарэшце чарга даходзіць і да нас, школьнікаў. Мы горача падтрымліваем усе лозунгі — гучней, чым школа, не крычыць ніхто, але і свайго чакаем з нецярпеннем.

— Школьнікі! Хутчэй вырастайце! Давайце тэмпы росту! Станавіцеся ў армію байцоў рэвалюцыі!

Гоман, воплескі, бой школьных барабанаў...

Астатнія прамоўцы ў параўнанні са Стрыкам гавораць нецікава — што зрабілі, што трэба зрабіць...

Мітынг цягнецца гадзіны дзве, потым яшчэ столькі дэманстрацыя па пыльнай чатырохвярстовай вуліцы сяла. Паліць сонца, баляць разамлелыя ў зімовым абутку ногі. Але дзень незвычайны — б'юць барабаны, палошчуцца на сонцы сцягі, і не хочацца зважаць на стому. Шкада, што пасля абеду свята скончыцца, людзі разыдуцца і наступіць звычайны дзень. Няхай бы ён цягнуўся бясконца...

Цяпер, праз многія гады, мне здаецца, што наш няўрымслівы старшыня сельсавета быў паэтам у глыбіні душы, не любіў будзённасці і, як ніхто ў сяле, адчуваў вялікую, не параўнаную ні з чым радасць палёту, імкнення...

*1965*

# ПА ГРЫБЫ

Грыбы... Лясная казка. Паэма сэрца...

Пасвяціў мяне ў грыбное таінства Коля Шпакоўскі, хлопец гадоў дваццаці, высокі, тонкі, як маладая таполя. Ён прыехаў з горада, жыў у дзеда Кліменка, нашага суседа. У трыццатым годзе Колевага бацьку раскулачылі, але без высылкі, і ён з'ехаў. Працаваў на заводзе, на Урале ці за Уралам — дакладна ніхто не ведаў.

Коля паехаў падлеткам, а вярнуўся магам, чараўніком: іграў на гітары, высвістваў пакручастыя рулады, і хлапечая талака схілялася перад ім у нямым захапленні. Днём Коля, астаўшыся ў адных трусах, загараў на страсе дзедавага хлява, а ўвечары выходзіў на шпацыр.

Зайдешь в ресторанчик,
Чекулдыкнешь стаканчик...

Ён спяваў, падыгрываючы сабе на гітары, а местачковая басота ішла ўслед, баючыся прапусціць хоць адно слова. Знайшліся добрыя людзі і ўладкавалі Колю прадаўцом у саўгасную крамку. Ён пастаяў за прылаўкам адзін толькі тыдзень, захапіў выручку, і ніхто болей не бачыў яго ў мястэчку.

Я забег трохі наперад: Коля ўцёк восенню, а перыяд нашай найшчырэйшай дружбы прыпадае на лета. Коля любіў хадзіць у лес. У сасновы бор з хлапечага гурту ён браў аднаго толькі мяне. Не ведаю, чым вытлумачыць яго прыхільнасць. Можа, тым, што я быў суседам яго дзеда, а дзед толькі адзін раз заспеў мяне на сваёй ігрушы. Другія ў Кліменкаў сад лазілі часцей.

У лесе Коля мяняўся. Не спяваў сваіх песень, не свістаў. Ён добра ведаў птушак, пазнаваў іх па голасу. Аднаго разу мы знайшлі гняздзечка берасцянікаў з жаўтадзюбымі птушанятамі. Мне вельмі карцела забраць птушанят дадому, але Коля не дазволіў. Выбраўшы зацішны, парослы барвенкам грудок, Коля клаўся на спіну і праз навісь сасновых лапін маўкліва пазіраў на неба. Ён мог ляжаць так гадзіну і болей. Я пакідаў яго — ляжаць мне не хацелася — і адзін гойсаў па лесе.

У тое лета рана пачаліся грыбы. Яшчэ толькі налівалася жыта, а ўжо Ганчарова Аляксандра, таксама суседка, хата якой

насупраць, праз вуліцу, вывесіла дасушвацца на сонцы нізкі баравых грыбоў. Жоўтагаловыя каласавікі — грыбы нядоўгія. Пракінуцца на тры-чатыры дні — і няма. Упусціш пару, і абыдзі хоць увесь лес, нічога не знойдзеш. А бывае лета, калі каласавікі наогул не паказваюцца. Аляксандра — кабета стоеная. Шуснуўшы цішком разы са тры ў бор, грыбамі сваімі пахвалілася толькі тады, калі ўбачыла, што лес пусты. Але пагалоску пусціла.

І вось Коля ўзяў мяне ў грыбы. Пабудзіў на золку, загадаў абуцца ў лапці, узяць кошык і нож. Маці наказала далёка ад Колі не адыходзіць, каб не заблудзіцца. Па грыбы мяне яшчэ ні разу не бралі. Калі грыбы прыносілі бацька або маці, я любіў вынімаць іх з лубяной каробкі, сашкрэбваць з тугога карэння чорную лясную зямлю, абіраць ігліцу і жоўтыя бярозавыя лісткі з клейкіх шапачак. Чырвоныя, крохкія сыраежкі, гнуткія, як гума, лісічкі і я сам знаходзіў, калі з гладышыкам хадзіў па суніцы. А на баравіка — цара грыбоў — не натрапіў.

Мы з Колем шыбуем у бор чыгункай. Пачынае світаць, сіне-белы туман вісіць над лугавінай, над узлессем, на якім пачарнелыя дубовыя пні, малады бярэзнік. Дрэва шпалаў макраватае ад туману, кропелькі вады праступілі на гладка вылізанай паверхні рэек — як бы пакрапаў невялікі дожджык. Ззаду і спераду галасы: рушылі па грыбы местачкоўцы.

Коля збочвае з чыгункі не адразу — мінаем барвенкавы бор, куды рабілі сумесныя паходы, праходзім каменную, складзеную з гладкай чырвонай цэглы будку (адна такая ёсць і за вярсту ад мястэчка) і нарэшце трапляем у змешаны, нагрэты сонцам лес — старыя меднастволыя хвоі суседнічаюць тут з раскідзістымі бярозамі. На доле — ягаднік-чарнічнік, рэдкія астраўкі маладога зялёнага верасу і звычайная шорсткая трава, аб якую можна парэзаць руку.

— Шукай тут,— гаворыць Коля.— Тут для грыбоў і сонца, і вільгаць.

У чалавека, відаць, штосьці прыроджанае на пошук. Я яшчэ не знайшоў ніводнага баравіка, а ўжо як бы прадчуваў, што знайду менавіта тут, у нізкіх, прыбітых да зямлі верасах.

— Грыб! — крычыць Коля.— Паглядзі, паглядзі, як цікава расце!..

Я бягу да яго. З чорна-жоўтым каптурыкам, на тоўстай ножцы сядзіць баравічок. На голым месцы, зусім адкрыта — я б таксама яго ўбачыў. І гэта ў чалавека прыроджанае: прага знайсці першым, крыўда, калі не знайшоў. Відаць, гэтае пачуццё ўласціва ў аднолькавай ступені і паляўнічым, і рыбаловам, і грыбнікам — старадаўні інстынкт, які мае шмат агульнага з сучаснымі відовішчамі: футболам, баскетболам, хакеем — гульнёй у перамогу.

Коля разумее мае пачуцці, нагінаецца, штосьці падразае, выкалупвае, але мяне не заве. Я цяпер болей гляджу на яго, чым сабе пад ногі. Мне вельмі крыўдна. Цяпер ужо здаецца, што я ніколі нічога не знайду, што я няўдачнік. Дух на паляванні — магутная сіла. Падупаў духам — удачы не будзе...

— Глядзі пад ногі сабе! — крычыць Коля.— Не гойсай па лесе! Тапчыся і тапчыся!

Я тапчуся. Ён раз-пораз нагінаецца, а мне хоць бы адзін заморак трапіўся. Як бы месца, па якім я хаджу, выклятае. Нарэшце — я не паверыў вачам — пад сасонкай, прыхінуўшыся да шурпатага камля, баравік!..

— Грыб! — крыкнуў я, укленчыўшы на зямлю, як бы баючыся, што баравік ад мяне ўцячэ.

— Не руш! — крыкнуў Коля на бягу.— Ты б яго з коранем вырваў... Не трэба так. Падрэж! А калі грыбніцы не зрушыш, тут яшчэ баравікі будуць...

Свой першы грыб я асцярожна падрэзаў нажом. З чорнай зямлі выглядаў белы як снег кружочак карэньчыка.

Паверыць у сябе — галоўнае. Наступны баравік сядзеў, стоены ў чарнічніку, і трэба было зыркае вока, каб яго адшукаць. Патупаўшы па гэтай мясціне, я знайшоў аднаго за адным трох яго таварышаў. Да шостага ці сёмага баравіка я аб'яўляў аб сваіх знаходках, а потым, як і Коля, змоўк. Радасць таілася ў душы і была яшчэ большая ад таго, што я яе не выяўляю.

У нас — ладна грыбоў, і здавалася, што наперадзе ў асветленых ранішнім сонцам сасняках і бярэзніках чакае нас большая ўдача. Мы рушылі наперад. Пакружыліся па лесе, такім самым, як і той, дзе бралі баравікі. Хоць бы адзін!.. Нічога не расло ў прыгожых бярэзніках. Мы міналі дзялянку за дзялянкай, і нічога, акрамя некалькіх сыраежак, у нашых кошыках не прыбавілася.

І вось дзіва дзіўнае! Вярнуўшыся на ранейшае месца, мы зноў пачалі знаходзіць баравікі. За два крокі ад сасны, пад якой я зрэзаў першы грыб, стаіўшыся ў траве, сядзеў баравік большы і яшчэ прыгажэйшы. Было нават сумнавата ад думкі, што я б яго не знайшоў, каб мы не вярнуліся на ранейшае месца.

Дамоў вярталіся пад поўдзень. Над рэйкамі пачынала трымцець смуга. Напаткалі некалькі чалавек местачкоўцаў — яны ішлі з пустымі лубянкамі.

— Няма грыбоў,— адказалі на наша запытанне.

— Чаму няма...— усміхнуўся Коля.— У Васі вунь трыццаць баравікоў!

Пра свае грыбы, хоць у яго іх было ўдвая больш, Коля не гаварыў.

Ён стараўся выставіць на першае месца мяне. Местачкоўцы зазіралі ў нашы кошыкі і дзівіліся.

Коля здаваўся мне вельмі добрым чалавекам.

Я доўга не мог паверыць, што ён уцёк, украўшы грошы, падвёўшы тых людзей, якія ўладкавалі яго на работу. Але праўда заставалася праўдай. У жыцці ўсё было і больш складана, і больш заблытана, чым аб гэтым хацелася думаць.

Падросшы, пашырыўшы абсягі грыбовішчаў, я захацеў прылучыць да грыбоў і двух дружбакоў сваіх — Івана Качана і Максіма Рылку. Мы вельмі добра сябравалі, разам вучыліся, давяралі адзін аднаму самыя патаемныя сакрэты.

Іван лічыўся адменным шахматыстам — ён выйграваў, аддаючы таму, з кім садзіўся гуляць, наперад каралеву. Дзіўна, але ў грыбах ён быў абыякавы. Па лесе хадзіў, задраўшы галаву, і яго ніколі не кранала, што я знаходжу баравікі, а ён — не.

Максім паставіўся да грыбоў з цвярозым разлікам.

— Чым гойсаць у лес так, як ты, кожны дзень, я схаджу раз на тыдзень, але з тым жа поспехам,— сказаў ён мне і ўзяў з сабой пяцярых малодшых братоў і сясцёр.

Максімава талака не адставала ад мяне ў лесе ні на крок, галёкала, вішчала, і варта было мне знайсці баравік, як мурзатыя грыбнікі, шукаючы яго таварыша, уздзіралі вакол таго месца мох, ірвалі верас — можна было падумаць, што тут прайшоў статак дзікоў.

Зрэшты, я зрабіў Максіму дрэнную паслугу. Яго браты і сёстры, жадаючы напоўніць кошыкі, нахапалі паганак, і хоць маці, сартуючы грыбы, дрэнныя павыкідала, але некалькі ўсё ж трапіла на скавародку, і назаўтра ва ўсёй сям'і балелі жываты.

Мы ўтрох любілі шахматы, валейбол, не прапускалі ніводнага кінафільма (нават тады, калі не было грошай на білет), абменьваліся рэдкімі кнігамі, карацей, былі аднолькавымі ў імкненнях і жаданнях, а вось да грыбоў хлопцы не прылучыліся.

Як і быў, я астаўся адзін.

Вядома, грыбы не самі па сабе вабілі. Быў лес — імшыстыя, сухадольныя, барвенкавыя саснякі, светлыя верасовыя бярэзнікі, зацяты, са стоеным грыбным духам грабняк, змешаны лес, дзе сярод соснаў, асін і бяроз узвышаўся дуб; былі неабсяжныя, з рэдкімі хвойкамі разлівы верасоў на пусташах і выгарах, і кожны дзень лес адкрываў позірку, слыху штосьці новае.

Першая яшчэ з сярэдзіны лета скідала ліст бяроза. Тое, што яна тут, паблізу, можна было заўважыць, нават не ўзнімаючы галавы, па залатой замеці лісцяў паміж верасу і травы. Па такой прыкмеце пазнаваўся і дуб — толькі па леташнім лісці, яно, нягледзячы на дажджы, слоту, доўга ляжала. Асіна лапатала нават у бязветраныя дні, пад восень яна рабілася прыгажэйшай ад усіх дрэў, раўняцца з ёй вогненнымі барвамі мог адзін толькі клён, не часты ў нашым лесе.

Кожная дзялянка несла свае пахі, свой настрой, розны кожнага новага дня — бо дзень на дзень не паходзіць: сёння туман, назаўтра слабы ветрык і туману няма ў памінку, толькі з усходам сонца лёгкай, ледзь прыкметнай смугой спавіваюцца дальнія саснякі і пясчаныя шэра-жоўтыя ўзгоркі. Цудоўны лес пры ціхім дажджы: ён закалыхвае, люляе аднастайным, мяккалагодным шэптам.

Лес — жывая вопратка зямлі, яе музыка. Яго настрой мяняецца на працягу аднаго нават дня. Шмат пазней, у сталыя гады, мне прыйшлося бачыць мора — і паўночнае, і паўднёвае. Яно таксама на вачах мяняецца. Мора выклікае буйныя пачуцці — адвагу, прагу подзвігу, імкненне ў новыя далечы; лес — пачуцці інтымныя, глыбока схаваныя. Па

багацці фарбаў, гукаў, пераходаў лес багацей за мора, толькі яго музыка, светавая гама — не такія кідкія.

Гаспадары асенняга лесу — дзяцел і наіўна-вясёлыя, бесклапотныя сініцы. Астатняе шэрае птаства, збіраючыся ў вырай, змаўкае. У ядлоўцавых зарасніках можна падняць соннага днём цецерука, і ён гучна залапоча крыллем, віруючы між соснаў, ніколі не падымаючыся над купамі дрэў. Цікаўная вавёрка грыбнікоў не баіцца: спусціцца на ніжні сук, падзівіцца вокам-шрацінкай і шугане рыжай маланкай між зялёнай навісі. Некалькі разоў бачыў я асенніх, вогненна-чырвоных лісаў, яны заўсёды перабягалі дарогу. Іх норы ў густых зарасніках, а ў наваколлі — пер’е ўпаляванага птаства. Норы куніц, барсукоў — па пясчаных, атуленых саснякамі ўзгорках. Заяц лесу не любіць. Ён заўсёды дрэмле ў кустах, на ўзмежку з полем, і ўцякае заўсёды ў поле.

Аднаго разу сустрэча ў мяне была непрыемная. Я вяртаўся дамоў і на размоклай ад дажджу дарозе ўбачыў вялікага шэрага сабаку. Штосьці не зусім звычайнае было ў ім — надта ж вялікі, вушы старчаком, хвост падцяты — кінулася мне ў вочы. Але я не звярнуў на гэта ўвагі, чакаючы, што вось-вось з-за павароткі пакажацца паляўнічы. Сабака, не даходзячы да мяне, збочыў. Я прайшоў міма і, ахоплены смутна-трывожным пачуццём, азірнуўся. Гэта быў воўк, перахлябісты, галодны воўк, з сівавата-шэрай поўсцю, драпежнай мордай і дужымі нагамі. Я паддаў ходу, пабег у свой бок, а воўк у свой, трушком, не спяшаючыся...

На грыбы трэба цёплае, нават гарачае, але з частымі дажджамі лета. Тады яшчэ ў чэрвені — ліпені, у ягадную пару, шаўковымі прожылкамі белай цвілі ўкрываюцца чорныя лапікі лясной зямлі. Цвіль-грыбніца паказваецца і на сцежках, і па езджанай дарозе — першая адмеціна грыбнога лета.

Урачыстасць, сапраўдную вагу грыбному сезону надае баравік, але і да яго, і пасля яго растуць у лесе грыбы. Ужо ходзячы па суніцы — а па чарніцы, то пэўна — жанкі прыносяць у прыполах па жмені-другой лісічак. Лісічка — восенню грыб не надта часты ў лесе, расце да самых марозаў. Праз усё лета і восень пракідваюцца сыраежкі. Іх болей дзясятка відаў. Бледна-чырвоных, тонкіх у нас не бяруць, яны горкія. Але сіне-зялёныя, жоўтыя, цёмна-барвовыя сыраежкі,

моцныя, як капыты,— найлепшы на смак грыб. Рана паказваюцца падбярозавікі, або, як завуць іх у нас, ababкі,— добрыя, калі іх браць маладзенькімі, з цвёрдымі каптурыкамі.

Прадвеснік баравіка — чырвонагаловы падасінавік, грыб змешанага лесу, які сапраўды любіць, каб паблізу лапатала асіна, а калі няма яе, дык хоць бяроза ці якая-небудзь вярба. Падасінавік расце пераважна на нізкім, але вылазіць іншы раз, калі лета мокрае, і на пясчаных узгорках. Грыб гэты высакародны — рэдка яго корань бывае чарвівы, толькі адразу цямнее на зрэзе.

Баравік, падасінавік ды яшчэ рыжык — грыбы, якія часцей трапляюць у кошык спрактыкаваных грыбнікоў. Астатніх жа — сыраежак, ababкаў, маслюкоў, махавікоў, лісічак, таваранак — можа набраць кожны, хто заявіцца ў лес, няхай сабе нават першы раз.

У кожнай мясцовасці ёсць свае забабоны наконт таго, які грыб прыгодны, а які — не. У нас не бяруць ваўнушак, таўстух, сінюх — грыбоў вельмі смачных і карысных. Не бяруць і пахучага грыба-караняплода труфеля, які, не бачачы святла, вырастае ў лясных шэразёмах. К таму часу, калі мне пачалі трапляцца гэтыя дзіўныя грыбы-бульбіны, я прачытаў ужо «Трох мушкецёраў», «Віконта дэ Бражэлона» Аляксандра Дзюма і ведаў, што труфель — найдалікатнейшы, надзвычай смачны грыб, які падаваўся на стол французскім каралям. Некалькі разоў я прыносіў труфелі дамоў і як ні ўпрошваў маці падсмажыць мне, яна заўсёды іх выкідала. Яна і слухаць не хацела, называла труфелі «чортавай картопляй», гаворачы, што яе і свінні не ядуць. Свінні сапраўды труфеляў не елі, але яны адварочваліся і ад астатніх грыбоў. Прывыклі думаць, што свіння жывёліна ўсяядная, але, як паказвае прыклад з грыбамі, гэта не так.

Вандруючы па лесе, я непрыкметна для сябе падрастаў, сталеў.

Хутка ў мяне з Аляксандрай Ганчаровай пачалося грыбное спаборніцтва, і вуліца з неаслабнай цікавасцю сачыла за яго вынікамі.

Аляксандру Ганчарову лічылі грыбовіцай-чарадзейкай. Яна ніколі не брала з сабой жанчын, якія набіваліся ў кампанію, а калі пасля вялікіх угавораў і згаджалася з кім-небудзь пайсці,

то ў лесе ўцякала. Пра Аляксандру гаварылі, што яна ведае адметныя, стоеныя для астатніх баравіковыя мясціны, што ў яе асаблівае вока на грыбы, таму яна заўсёды прыходзіць з поўнай лубянкай. Спачатку я і сам так думаў.

Некалькі разоў я сустракаў у лесе Аляксандру і нават спрабаваў сачыць, ідучы назіркам, каб выведаць яе сакрэты. Але хутка пераканаўся, што гэта бескарысна. Камлявагая, прысадзістая Аляксандра насілася па лесе як метэор. Заўважыш постаць, тупаеш на месцы, каб не выдаць сябе, а яна ўжо далёка. Толькі маленькую, нязначную тайну ўдалося мне раскрыць — Аляксандра хавала грыбное карэнне. Схопіць баравік, адрэжа корань і піхне яго ў ямку або пад верас. Але так рабілі і другія.

Мінуў год, другі, трэці, і зрэшты я пераканаўся, што ніякіх асаблівых сакрэтаў у яе няма. Яна добра ведала лес у абсягу дзесяці — дваццаці вёрст. І яшчэ ў яе было чуццё на грыбы. Вось і ўсё. Але і тое, і другое — дар, як кажуць, нажыўны. Гадоў пяць паблукаўшы па лесе, і я яго збольшага ведаў: па нязначным пеньчуку або крывой бярозе мог беспамылкова вызначыць, дзе я. Прыйшло і чуццё. Яно даецца вопытам, і болей нічым.

У сухое лета першы баравік пракідаецца ў бярэзніках з травяным долам, на мясцінах ніжэйшых, макрэйшых. Тут — баравікі-прыгажуны, пераважна чорнагаловікі, і растуць яны сем'ямі. Калі лета, наадварот, мокрае, баравіка шукай па сасняках, па пясчаных узгорках. У багатае і дажджом, і сонцам лета грыбы ідуць усюды: па бары, па бярэзніку, па верасе, іх можна знайсці нават на ўскраі лясных балацянак. Аднойчы я знайшоў вялізны, з шапкай, як рэшата, баравік у мокрай канаве, сярод драсёну. Вельмі прыгожыя чырвонагаловыя, з тоўстым, як кадобчык, коранем баравікі ў імшыстым светлым бары.

Аляксандра, калі мне было гадоў чатырнаццаць, адчула ва мне саперніка і на людзях ставілася прыхільна. Я, вядома, кідаў цень на яе славу, але грыбавік грыбавіка паважае. Грыб дарма не даецца, яго трэба выхадзіць, і толькі неспакушаныя разлічваюць на лёгкую ўдачу. Аляксандра, калі толькі грыбы пачыналіся, прыносіла баравікоў намнога болей за мяне — па дзве і тры сотні. Я рэдка падымаўся вышэй сотні. Болей набірала яна і тады, калі грыб пачынаў расці ўсюды.

Не шкадуючы ног, аббягала ўсе мясціны, дзе калі-небудзь яе напаткала ўдача, і вярталася дамоў, несучы поўную з верхам каробку-лубянку і, у дадатак, поўную навалачку.

Я ж ніяк не мог здрадзіць сваёй прывычцы тупаць на адным месцы, кружыць, калясіць па дзялянцы да таго часу, пакуль усю яе не абыду, не абгледжу ўсіх закуткаў. Такі спосаб надзвычайнага, як у Аляксандры, поспеху не даваў.

Але росквіт грыбнога сезона — палавіна жніўня і палавіна верасня. Потым баравік ідзе на спад. Ён расце ўвесь верасень, часта нават увесь кастрычнік. Толькі не часта, а пракідаецца там-сям. У гэты час ходзяць па апенькі, па зялёнкі, і нават адменныя грыбавікі рады дзясятку баравікоў. Аляксандра, калі адважвалася ў такі позні, неспрыяльны час выбрацца па грыбы, часцей за ўсё вярталася з лесу з пустой каробкай. У яе не хапала цярпення вытупваць, вышукваць рэдкі баравік.

Героем у гэты час рабіўся я. Я прыносіў па сорак, пяцьдзясят баравікоў, а калі шанцавала, то і болей. Мая тактыка вытупвання падыходзіла цяпер як найлепей.

Грыбы — калі імі па-сапраўднаму захапіцца — на ўсё жыццё. Вандрую я і цяпер — па другіх, але таксама прыгожых пералесках, успамінаю свае, яшчэ прыгажэйшыя. І грыбы збіраю, як і ў маладосці,— тупаючы на адным месцы. Зіхатлівых грыбных узлётаў не ведаю, але і вялікіх няўдач таксама не бывае.

*1965*

# ЯЦЬ

Свой першы пашпарт мне прыйшлося атрымаць як злачынцу.

Раённая ўправа часоў нямецкай акупацыі. Усе, хто топча зямлю ў пасёлку, павінны мець дакумент — пасведчанне асобы, дзе замест фотакарткі адбіткі двух вялікіх пальцаў. Фотакартка — рэч ненадзейная, ёй цяжка засведчыць асобу. Іншая справа дзве чарнільныя плямы, адціснутыя ўласнымі пальцамі на ўласным пасведчанні. Пальцы сабе не адсячэш, а ўсе тыя

рысачкі і звіліны, якія пралеглі на скуры, ёсць і на паперы. Кажуць, што такім манерам раней лавілі зладзеяў...

Атрымаць дакумент не так проста. Трэба прыйсці разоў дзесяць. Парадкі ва ўправе пастаўлены па ўсіх правілах першакласнай бюракратыі.

За першым сталом, дзе выдаюць гэтыя самыя пасведчанні асобы, схіліўся згорблены стары з вялікай бліскучай лысінай і вялізным носам, атрыманым у спадчыну ад радавітых, відаць, бацькоў. Ён шамаціць паперамі і раз-пораз акідвае наведвальнікаў хуткім, насцярожаным позіркам з-пад пракаветных, перавязаных ніткамі акуляраў, якія, здаецца, і трымаюцца на носе дзякуючы такому ёмістаму яго памеру. На старым форменны выцвілы сурдут, які насілі бог ведае хто і калі. Трымаецца важна, як сапраўдны пан.

Чарга перад сталом стаіць, чакае. Нават каб проста штонебудзь запытаць у старога, трэба выстаяць у чарзе. Пакутліва цягнуцца хвіліны. І раптам — нечаканае. У пакой улятае высокі, перахлябісты нямецкі афіцэр, кідае на стол перад старым нейкія паперы, тыцкае ў іх пальцам, злосна, пырскаючы слінай, гаворыць штосьці па-нямецку, а потым лупіць старога чорным стэкам па плячах, па лысіне, па твары. Наведвальнікі з усіх ног кідаюцца да дзвярэй...

Праз гадзіну сёй-той зноў заходзіць у пакой. Стары сядзіць за сталом без акуляраў, з заклеенымі жоўтым пластырам кровападцёкамі на лысіне і твары, выгляд у яго спакойны, дзелавы.

— Строгі афіцэр,— павучальна гаворыць ён пра немца, які толькі што яго адлупцаваў.— На тое і ўлада, каб быць строгай...

Падслепавата нахіліўшыся над самым сталом, ён шуршыць паперамі, нешта піша, акуратна выводзячы старадаўнім, прыгожым почыркам кожную літару.

Я ведаю старога не з гэтага дня, калі прыйшоў за дакументам, які будзе пацвярджаць пасялковым паліцаям і немцам законнае існаванне маёй шаснаццацігадовай асобы. Знаёмства з ім пачалося раней...

У той час, калі ў нас, звычайных школяроў, дзівосным, ненасытным полымем успыхнула прага да кнігі, у пасялковай краме на паліцы, у блізкім суседстве з хамутамі, мылам, бочкай рудога кіслага варэння з буракоў ляжалі толькі шэрыя,

сумныя брашуркі пра спосабы торфаздабычы і пра вялікую шкоду, якую прыносіць насельніцтву малярыйны камар. Крама ні ў якой ступені не магла задаволіць наш попыт на кнігу. Бібліятэка рабіла больш. Але і там было вельмі мала таго, чаго так прагнула сэрца...

Мы даставалі кнігі як умелі.

У нашым пасёлку жылі пенсіянеры-чыгуначнікі і іншы чыноўны люд, выгнаны імперыялістычнай вайной з заходніх раёнаў і іншых далёкіх мясцін. У нас яны аселі.

Магнатам сярод іх здаваўся Зыгмунд Мацыеўскі, уладальнік поўнага камплекту дадаткаў да старой «Нивы» за некалькі год.

Кнігі Мацыеўскі прадаваў. І асабліва заядла пачаў таргавацца, калі зразумеў, што без іх нам няма жыцця.

— Гэта ж Луі Бусенар! — гаварыў ён, узводзячы вочы да неба і самотна ўздыхаючы.— Цяпер такіх пісьменнікаў няма. Не шкадуйце за такую кнігу пяцёркі, малайцы. Што сёння за пяць рублёў купіш?..

Мы вельмі добра ведалі, што можна купіць за пяцёрку. Па даваенным часе за такія грошы любы прадавец крамы мог адважыць болей за кілаграм цукерак-падушачак або салодкіх вяземскіх пернікаў. Каб зарабіць пяцёрку, трэба было занесці на станцыю і прадаць дзесяць бярозавых венікаў або збіць для базы «Плодагароднiна» дванаццаць скрынак пад памідоры. Але мы з выдаткамі не лічыліся, Луі Бусенар і іншыя, хто прыносіў непараўнальна большую слодыч, чым цукеркі і пернікі, былі варты грошай.

«Мёртвыя душы» Гогаля каштавалі дванаццаць звязаных і аднесеных на станцыю венікаў. «Князь Сярэбраны» А. К. Талстога — дваццаць скрынак пад памідоры. «Саламбо» Флабэра была куплена нават цаною крыві. Кнігу набывалі зімой, грошы зараблялі, колючы дровы на пошце. Мой сябар Кузьма рассек сабе сякерай чаравік, а разам з ім і вялікі палец.

Мы паважалі Зыгмунда Мацыеўскага. Ён драў з нас немалую капейку за кнігі, але мы яго паважалі. Не кожны чалавек мог захаваць столькі старых, добрых кніг.

Іншы раз, праўда, набягала сумненне. Некалькі кніг стары прадаў нам з парудзелымі, але неразрэзанымі старонкамі. А перад гэтым ён усхваляў іх як толькі мог. Былі падставы думаць, што ён сам іх ніколі не чытаў.

Але, зрэшты, гэта не мела значэння. Я і сёння ўдзячны лёсу за тое, што ў нашым пасёлку жыў пенсіянер Зыгмунд Мацыеўскі...

Поўная непавага да нашага мецэната пачалася з таго дня, калі ў пачатку вайны з пасёлка падалася апошняя чырвонаармейская рота. Вось-вось павінны былі з'явіцца немцы. Пасёлак замёр у трывожным чаканні бяды.

У гэты на дзіва сонечны і ясны дзень і паказваў сябе зусім з новага боку наш знаёмы. Ён жыў на зялёнай ціхай вуліцы, у маленькім уласным доміку, схаваным пад навіссю таполяў. Раней ён асабліва нідзе не вытыркаў носа, а ў гэты дзень лятаў па пасёлку як апантаны. Ён апрануў свой выцвілы сурдут, шапку з какардай і, хапаючы знаёмых за рукаў, тлумачыў ледзь не кожнаму, што пры цару ён служыў па ведамству поштаў і тэлеграфаў.

Нам з Кузьмой таксама давялося сустрэцца ў той дзень з Мацыеўскім. На нас ён пазіраў цяпер звысоку і, як здалося, зняважліва.

— Канец бальшавікам,— заявіў ён рашуча,— я ўсе гэтыя гады ведаў, што так будзе. Навыдумлялі Саветаў, камітэтаў. Народу бізун патрэбен, а яны сходы сабіралі: як сеяць, як цялят даглядаць...

Гаварыць з Мацыеўскім не хацелася, спрачацца таксама, і мы рушылі прэч.

— Пачакайце! — затрымаў ён нас.— Не задзірайце насы. Вы ж цяпер проста непісьменныя.

— Чаму гэта непісьменныя? — абурыліся мы.— А школа?

— Напляваць і забыць. Савецкая ўлада ўсё спрасціць хацела, каб стала ўсё лёгкім. Думаеце, сапраўдная грамата такая лёгкая? Не, ты спачатку папацей, патлумі сабе галаву, каб у яе ўвайшло, дзе трэба «яць» паставіць, дзе «фіту». А «еры» таксама — мяккі і цвёрды!

— На чорта тыя «еры»?

— Пачакайце, вы яшчэ іх зубрыць будзеце, немцы прымусяць. Гэта ўлада цвёрдая. А ваша грамата цяпер сабаку пад хвост. Я скончыў поўны курс рэальнага вучылішча, каб запомніць, дзе «яць» паставіць, а дзе звычайнае «е». Навука вялікая, не раўня вашай сямігодцы...

Яго твар свяціўся ад задавальнення.

З таго дня Мацыеўскі стаў для нас Яцем. Ранейшыя адносіны былі з ім парваны.

Яць, паміж іншым, памыліўся. Перавучвацца нам не прыйшлося. Назаўтра мы чыталі першы загад, які вывесілі ў пасёлку фашысты. Усе словы былі ў ім з літарай «е» — смерць, расстрэл, павесіць,— «яця» мы не знайшлі ніводнага...

Жывога Яця памылка адносна правапісу, здаецца, не асабліва збянтэжыла. Хутка ён ужо сядзеў справаводам ва ўправе. Ён недачуваў, недабачваў, і хлеб яго пры «цвёрдай» уладзе быў нялёгкі. Але на лёс ён не наракаў.

Таго, што фашыстаў гоняць назад, Яць перанесці ўжо не здолеў. Тыдні за два да прыходу нашых ён памёр. Зрэшты, мы цвёрда пераканаліся, што ўсіх тых кніг, якія Яць нам прадаваў, сам ён ніколі не чытаў.

*1965*

# 1966

## КАЦЮША

### I

Узвод пешай разведкі праводзіў на афіцэрскія трохмесячныя курсы старшага сяржанта Папова. Шыракаплечы, сутулы, з чорнымі космамі жорсткіх валасоў, якія тапырацца ва ўсе бакі, навісаюць на лоб, надаючы яго твару надзвычай суровы выраз, расчулены памкамузвода сядзіць на покуце за сталом, амаль нічога не п’е і толькі раз-пораз выцірае бруднаватай насоўкай слёзы.

Папоў — славутасць: ён прывёў шэсць «языкоў», з ім асабіста знаёмы камандзір дывізіі, бо зімой па яго заданню старшы сяржант з групай смельчакоў зрабіў начную вылазку за лінію фронту і прывалок звязанага нямецкага маёра. Да некаторых афіцэраў у палку сяржант звяртаецца на «ты», ездзіў у месячны водпуск на радзіму, на Алтай, дзе да арміі працаваў егерам у запаведніку.

Сяржант, мабыць, пусціў слязу таму, што не хоча пакідаць полк, у якім праслужыў палавіну вайны, і прыфрантавое сяло Вароніна, дзе ведае ў твар кожнага жыхара. Тут, непадалёк ад Вялікіх Лук, фронт стаіць на месцы болей як год.

Капітан Блінцоў, афіцэр разведкі, сказаў напышлівы тост, і разведчыкі, знемагаючы ад нецярпення, стукнуліся алюмініевымі кружкамі. Блінцова не любяць за чыстаплюйства: мае не паложанага ардынарца, адзін займае палавіну дома, выдзеленага ўзводу, а сам толкам не можа скласці звычайнага разведданясення. Гэта робіць за яго перакладчык лейтэнант Мілаванаў.

Затым Блінцоў даў слова камандзіру ўзвода, малодшаму лейтэнанту Сеўруку. Нізенькі, вяртлявы, падобны да хлапчука-школьніка, малодшы лейтэнант прыбыў у полк нядаўна, закончыўшы тыя самыя курсы, на якія пасылаюць цяпер Папова. Разведчыкі злёгку пакепліваюць над сваім камандзірам, бо, як ім здаецца, ён Блінцову залішне дагаджае.

Тост малодшага лейтэнанта нечакана для ўсіх атрымаўся добры.

— Табе трэба падвучыцца, Саша,— сказаў ён Папову.— Тры месяцы на курсах пройдуць хутка. А вайна не тая, што была. Стаіць лета. Нядаўна ўзялі Арол, Харкаў. Возьмем і Вялікія Лукі. Вернешся ў полк і зоймеш маё месца. Я ў мінроту папрашуся...

Папоў палез з Сеўруком цалавацца.

Прамаўляюць па чарзе ўсе разведчыкі, якія сядзяць за сталом. Тут, у звычайнай сялянскай хаце, дзе ўзбоч сцен цягнуцца спецыяльна зробленыя дашчаныя палкі, што замяняюць ложкі, іх чалавек дванаццаць. Астатнія на назіральным пункце. Акрамя байцоў, за сталом сядзіць перакладчык палка, лейтэнант Мілаванаў, русявы, з танклявым, далікатным тварам юнак гадоў дваццаці, а побач з ім — дачка гаспадыні Каця, Кацюша, як яе ўсе называюць, паўнацелая, трохі смяшлівая дзяўчына, апранутая ў простую паркалёвую сінюю сукенку, расквечаную белымі паскамі.

У Вароніне, напаўразбураным артналётамі, бамбёжкамі, размяшчаюцца штабныя, тылавыя службы палка, а ў КацінЫм доме ўвесь гэты час жывуць разведчыкі. Амаль год займаюць яны дом, але ніхто з рухавых, жулікаватых хлопцаў, якія насуперак статуту носяць чубы, брыджы, маюць трафейныя браўнінгі, нямецкія гадзіннікі, не можа пахваліцца асаблівай блізкасцю з дачкой гаспадыні.

Праводзіны сяржанта набліжаліся да канца, калі ў хату заскочыў яфрэйтар Кунько, пасыльны са штаба.

— Капітана Блінцова і малодшага лейтэнанта Сеўрука да начальніка штаба! — выгукнуў ён.

Разведчыкі ўскакваюць з-за стала. Ведаюць — калі капітана і малодшага лейтэнанта выклікаюць у штаб, значыць, прадстаіць заданне. Але ў апошні месяц вылазкі ўзвода з мэтай захапіць «языка» вынікаў не даюць. Немцы апляліся дротам,

замініравалі падыходы і нязменна выяўляюць разведчыкаў яшчэ на «нейтралцы».

На варожым баку нешта перамянілася. Аб гэтым сведчыць звычайнае назіранне. Руху на тым баку менш. Відаць, ранейшы полк немцы з пазіцый знялі. Але пацвердзіць гэта можа толькі «язык».

Блізіцца надвячорак. Па вуліцы, бразгаючы кацялкамі, крочаць на кухню байцы. У хляве, дзе атабарыліся сапёры, нехта крычыць у трубку: «“Бяроза”, “Бяроза”, я “Рабіна”. Калі прывязеце бульбы?..»

Праз паўгадзіны вярнуліся Блінцоў і Сяўрук. Малодшы лейтэнант пастроіў узвод і сам стаў у строй.

— Першы батальён павядзе разведку боем,— сказаў Блінцоў.— На Варонняй гары. Пачатак — у 24.00. Узвод прымае ўдзел у пошуку ў баявых парадках батальёна. Задача ранейшая — захапіць «языка»...

Папоў у строй не станавіўся — мае ў кішэні прадпісанне з’явіцца ў штаб дывізіі. З палкавога ўліку, усіх відаў забеспячэння зняты. Аўтамат, гранаты, маскхалат і процівагаз яшчэ апаўдня здаў старшыне.

— Таварыш капітан,— звярнуўся Папоў да Блінцова.— Дазвольце ўдзельнічаць. Усё адно я ў штаб дывізіі нанач не пайду.

— Не магу. Маёр пра цябе пытаўся. Яму галаву сарвуць, калі з табой што здарыцца.

Папоў крута павярнуўся і рушыў на вуліцу. Пайшоў у штаб прасіцца на заданне. Разведчыкі збіраліся на пошук. Перамотвалі парцянкі, набівалі дыскі патронамі, туга зацягваліся рамянямі.

Папоў вярнуўся панылы. Было відаць, што ўдзельнічаць у баі не дазволілі. Разведчыкі спахмурнелі. Бачылі абразу: з Паповым у штабе не лічацца.

Зрэшты, крыўдаваць не выпадае. Самі вінаваты. Калі ў разведку кідаюць цэлы батальён, то толькі па той прычыне, што за тры месяцы ўзвод не прывёў ніводнага «языка».

Прыцемкам узвод рушыў. Разведчыкі па чарзе вынімалі з нагрудных кішэняў загорнутыя ў цэлафан дакументы, маўкліва перадавалі Папову. Лейтэнант Мілаванаў задаволены: раней байцы, якія выходзілі на пошук, дакументы пакідалі яму, і ў такія хвіліны ён заўсёды адчуваў сябе прыкра.

## II

Немцы, відаць, штосьці заўважылі, бо з наступленнем цемені неба часцей, чым звычайна, паласавалі асвятляльныя ракеты, разлягалася кулямётная траскатня. То справа, то злева чуліся выбухі снарадаў і мін. Немцы закідвалі вудачку: разлічвалі, што на яе клюнуць. Але пярэдні край маўчаў, а ў сяле на гэты раз не загарэўся ніводны дом.

У поўнач на передавой загрымела. Палкавую артылерыю, мінроту падтрымліваў асобны артдывізіён, прыдадзены палку. Роўна ў дванаццаць першы батальён пачаў атаку. Лейтэнант Мілаванаў, які сядзеў на назіральным пункце, адразу адчуў, што атака развіваецца паспяхова. Паміж успышкамі выбухаў было відаць, як, пераадолеўшы міннае поле, батальён у першыя дзесяць хвілін дасягнуў падножжа Варонняй гары. А яшчэ праз кароткі час загучала «ўра» на самай седлавіне. Лінія нямецкіх траншэй, відаць, была захоплена. Перамогі над немцамі, весткі аб якіх даляталі з другіх франтоў, як бы акрылялі байцоў і тут, за апошні час Варонную гару атакавалі некалькі разоў.

Праз паўгадзіны Мілаванава выклікалі на КП палка. У бліндажы з трыма накатамі сядзелі камандзір палка, нізкарослы, цыганаваты падпалкоўнік Ліхачоў, чымсьці падобны на Напалеона, і начальнік штаба маёр Петрыкаў. Перад імі на дашчаным століку гарэлі дзве карбідныя лямпы, а ля сцяны, на драўляным чурбачку, прымасціўся тэлефаніст, здаравенны вусаты дзядзька.

Камандзіра палка Мілаванаў пабойваўся. Ён здаваўся суровым, непрыступным. Затое з начальнікам штаба, у даваенным жыцці настаўнікам гісторыі, нягледзячы на розніцу ў службовым становішчы, адносіны ў лейтэнанта былі самыя прыязныя.

— Даўно ў цябе не было работы, Мілаванаў,— сказаў маёр.— З самага лета не бачылі немцаў. Нямецкай мовы не забыў?

— Не забыў.

— Падрыхтуйся. Захапілі трох палонных. Зараз прывядуць.

Паблізу ад бліндажа разарваўся цяжкі снарад. Вузкія языкі полымя, якія вырываліся з гарлавінак карбідных лямп, мігатліва

затрапяталі, а са столі пасыпаўся пясок. Падпалкоўнік нават галавы не падняў — сядзеў, унурыўшыся ў карту.

У бліндаж ускочыў ад’ютант, старшы першага батальёна Чумакоў.

— Палонных прывялі, таварыш падпалкоўнік.

— Давай сюды. Толькі па адным.

— Ёсць афіцэр, таварыш падпалкоўнік.

— Давай спачатку афіцэра...

Допыт палонных, які бывае ў палку,— нядоўгі. Тут стараюцца дазнацца перш за ўсё аб тым, што мае непасрэдны, практычны інтарэс: якія войскі, іх колькасць, узбраенне, план умацаванняў. Усё астатняе ўдакладняецца ў вышэйшых штабах.

У бліндаж прывялі высокага, немаладога афіцэра. Лейтэнант адразу разгледзеў на яго мундзіры вузенькія пагоны падпалкоўніка медыцынскай службы. «Высокая птушка,— падумаў ён,— але як гэты ўрач трапіў на пярэдні край?»

Падпалкоўніка лейтэнанту Мілаванаву яшчэ ніколі не даводзілася дапытваць.

Немцу прапанавалі сесці.

— Прозвішча, імя, службовы чын? — рэзка запытаў Ліхачоў.

Мілаванаў пераклаў пытанне.

Падпалкоўнік, хвалюючыся, глытаючы словы, загаварыў. Яго вымаўленне належыць да ніжненямецкіх гаворак. Мілаванаў ледзь схоплівае сэнс сказанага.

— Што ён гаворыць? — нецярпліва спытаў Ліхачоў.

— Просіць не выкарыстоўваць яго імя дзеля прапаганды. Баіцца за сям’ю. А так абяцае сказаць усё, што ведае.

Для самога Мілаванава такі адказ — навіна. За час службы ў палку ён бачыў трох ці чатырох нямецкіх афіцэраў, але тыя трымаліся са значна большым гонарам.

— Скажы яму, што мы прапагандай не займаемся. Мы ваюем,— загадаў Ліхачоў.

Немец паспакайнеў і сапраўды стаў расказваць пра ўсё, аб чым пыталі. Высветлілася прычына, чаму ён, старшы санітарны ўрач, апынуўся на перадавой. У палку некалькі выпадкаў цяжкіх кішэчных захворванняў, і таму ён прыехаў на месца...

Унтэр-афіцэр і яфрэйтар, якіх апыталі ўслед за падпалкоўнікам, давалі тлумачэнні яшчэ ахвотней.

Пацвердзілася тое, аб чым здагадваліся. Ранейшы полк з фронту знялі, а суседні расцягнуў пазіцыі... Звесткі былі каштоўныя.

Трое палонных даліся дарагой цаной. Батальён страціў дванаццаць забітымі і болей як трыццаць параненымі. Але была перамога. Варонную гару, на якую пасягалі на працягу цэлага года, нарэшце ўзялі.

## III

Нішто лепей не гаворыць пра ворага, як яго побыт, няхай сабе ваенны, заведзены на скорую руку. За лініяй акопаў і траншэй, на заходнім схіле Вароннай гары захоплены нямецкія бліндажы. Мілаванаў адразу рушыў туды. Бліндажы добротныя, упарадкаваныя, жылі немцы ў іх, як багі. Адгабляваныя, пранумараваныя дошкі, брусы, іншыя дэталі для бліндажоў выраблялiся ў самой Германіі.

Мяркуючы па прыпасах, якія ўдалося захапіць разведчыкам, немцы добра ядуць і п'юць. У ранцах забітых салдат яны знаходзяць бляшанкі з французскімі, нават партугальскімі кансервамі, бутэлькі з вінам, мармелад, кофе ў зернях, а таксама іншыя смачныя рэчы.

Лейтэнант Мілаванаў назбіраў цэлы мяшок нямецкіх папер-газет, часопісаў, лістоў, напісаных салдатамі да жонак і атрыманых ад жонак, зольдбухаў[1] і нават кніг.

Паперы трэба было прагледзець, некаторыя перакласці для штаба палка або адаслаць у разведаддзел дывізіі. Лейтэнант папрасіў дазволу ў капітана Блінцова на назіральны пункт не хадзіць, а складанне разведданясенняў перадаверыў малодшаму лейтэнанту Сеўруку.

Ён трохі дзівак, перакладчык Мілаванаў, і ў палку за гэта дзівацтва яго любяць. У лейтэнантах ходзіць з сорак першага года, ніяк не павысіўшы чына за два з лішнім гады вайны. Паложаны па штату палкавы перакладчык другога разраду не можа мець звання большага, чым лейтэнант, а ў вышэйшыя

[1] Вайсковае пасведчанне асобы.

штабы Мілаванаў ісці не хоча, хоць яго і вылучалі. Ён складае разведданясенні, вядзе карту, наносячы на яе ўсё, што выяўляе палкавая разведка на варожым баку. У палавіну хаты, якую займае сам, Блінцоў Мілаванава не запрашае, і лейтэнант жыве ў прыбудоўцы да хлеўчыка, які гаспадыня мае за кладоўку. Тут ён начуе, чытае і піша, задавольваючыся адзінотай і не наракаючы на лёс.

Лісты нямецкіх салдат, іх жонак лейтэнант пачаў чытаць даўно, бадай з пачатку вайны. Ён вырас у Маскве на ціхай зялёнай вуліцы паблізу Рыжскага вакзала. Нямецкую мову вывучыў з дзяцінства, у сваёй сям'і. Бацька быў мастацтвазнаўцам, прафесарам, пісаў кнігі, маці — урачом, старэйшая сястра — піяністкай. Праўда, бацька сям'ю пакінуў, пераехаў на кватэру да другой жанчыны.

У той дзень, калі пачалася вайна, Мілаванаў атрымаў атэстат за сярэднюю школу, а назаўтра пайшоў у ваенкамат. Яго паслалі на курсы перакладчыкаў. Курсы, калі не лічыць ваенных прадметаў, для Мілаванава былі фармальнасцю.

Пад Масквой тэхнік-інтэндант другога рангу (такое на пачатку вайны было званне перакладчыка) убачыў першых палонных немцаў, і яго ўразіла іх самаўпэўненасць. Вайну яны лічылі выйгранай. Такой жа бадзёрасцю, самаўпэўненасцю патыхалі лісты, якія знаходзілі нават у забітых немцаў.

Пачынаючы з вясны сорак другога года, пад Тарапцом, Вялікімі Лукамі, Старой Русай фронт стаяў амаль без руху, і ў лістах нямецкіх салдат стала мільгаць штосьці іншае. Трошкі меней высокага пафасу і болей гумару. Сталі трапляцца нараканні на няўдзячны лёс вайны.

Вось цяпер лісты сорак трэцяга года. Прытым у такой колькасці, якой лейтэнант яшчэ не бачыў. Схаваўшыся ў катушок, ён пакрысе чытае. Некалькі лістоў ужо адклаў у палявую сумку, каб перадаць інструктару дывізійнага палітаддзела Гольдбергу, які вядзе прапаганду на немцаў. Штосьці істотна новае ў гэтых лістах...

## IV

Верасень на дзіва цёплы. На перадавой зрэдку пастрэльваюць, разы тры-чатыры на дзень снарады рвуцца тут, у сяле, але ў прамежку паміж стрэламі, выбухамі можна назіраць сіняе неба, па якім плывуць лёгкія аблачынкі. Слухаць цішыню. Лятае ў паветры, чапляючыся за дахі і дрэвы, белая павуціна.

Вароніна як бы заціснута між пагоркаў, зарослых кустамі дубняку і арэшніку. У ім дамоў болей за дзве сотні, але шмат пашкоджаных пажарамі, абстрэламі. Уцалелыя дамы па франтонах, ваконных налічніках, крытых ганках аздоблены ўзорнай разьбой. Трапляюцца надбудоўкі-мезанінчыкі.

Рыпнулі дзверкі, яшчэ шырэй расчыніўшыся, і ў катушок да Шлаванава зайшла Кацюша. Прымасцілася на баране, прыхіленай да сценкі, і, прыхапіўшы на каленях зведзенымі рукамі сукенку, глядзіць, як перакладчык перабірае нямецкія паперы. Тут, у хлеўчуку, уся яго канцылярыя — самаробны столік з негабляваных дошак і табурэтка, якую Кацюша прынесла з хаты. На сцяне над столікам прышпілен кнопкамі партрэцік артысткі, якая іграла ў кінафільме «Свінарка і пастух».

Па закону пабочныя, а тым больш неваенныя людзі не маюць права бавіцца тут, у хлевушку, дзе столькі сакрэтаў палкавой разведкі. З другога боку, жыхары ўвогуле не павінны жыць у прыфрантавым сяле. Варонінцаў высялялі, але яны вярнуліся назад. Калі фронт стабілізаваўся, начальства закрыла на гэта вочы. У дадзенай сітуацыі дачцэ гаспадыні проста нічога не скажаш, калі яна завітвае ў хляўчук, дзе стаіць бочка з агуркамі, а засек у кутку засыпан бульбай.

Просты круглаваты твар Кацюшы, з прамым, правільнай формы носам, падпухлымі губамі, свеціцца несхаванай цікаўнасцю. На яе поўных, крыху смуглявых шчоках выступае чырвань. У хаце, сярод разведчыкаў, Кацюша баявая: рагоча, б'е хлопцаў па руках, калі памыкаюцца абняць, а тут, перад лейтэнантам, бянтэжыцца.

— Чаму вы так добра гаворыце па-нямецку? — пытае Кацюша.— Я спачатку падумала, што вы, можа, немец.

— Хіба я падобны на немца, Кацюша?

— Не. Немцы рыжыя. У нашай хаце стаялі тры месяцы.

Наступае няёмкае маўчанне. Кацюша завітвае ў хлевушок даўно, з вясны, калі лейтэнант абсталяваў тут сабе жытло, перабраўшыся з тлумнай хаты. З таго часу між ім і дзяўчынай раз-пораз успыхвае гаворка. Лейтэнант адчувае, што Кацюша прыходзіць не проста так, але ў свае дваццаць гадоў ніякіх адносін з дзяўчатамі ён не меў і не ведае, што рабіць у такім выпадку.

— А дзе вы чулі, калі я гаварыў па-нямецку? — пытае Мілаванаў.

— Вы ж на перадавой па радыё прамаўляеце да немцаў. Тут таксама чутно.

— Не па радыё, а ў дыктафон, Кацюша.

— Голас усё адно мала падобны. Я, каб не ведала, што ваш, не паверыла б.

Яны зноў маўчаць. Начамі, лежачы за перагародкай, на ўтоптаным, накошаным яшчэ да вайны, мабыць, сене, Мілаванаў думае пра Кацюшу. Ва ўяўленні ён нават абдымае яе і цалуе. Яго хвалюе яе паўнаваты стан, тугія, вялікія грудзі, якія прыкметна выбіваюцца пад сукенкай. Яму хочацца сказаць Кацюшы словы, каб яна зразумела, што падабаецца яму.

— Вы да вайны вучыліся ў школе? — пытаецца Мілаванаў.

— Скончыла сямігодку. Далей вучыцца не пайшла,— з сумам паведамляе Кацюша.

— А я дзесяць скончыў.

— Толькі дзесяць? — Вочы ў дзяўчыны ўспыхваюць нечаканай радасцю.— Адкуль жа нямецкую мову ведаеце?

— Бацька навучыў. Маці таксама вучыла.

— Дзе ваш бацька?

— У Маскве. Ён прафесар.

Мілаванаў ведае, што аб пачуццях можна словамі не гаварыць, ёсць рухі, жэсты, ёсць нарэшце позіркі, якія нібы выпраменьваюць магнетычную энергію, прыцягваючы жанчыну да мужчыны. Гэтую самую магнетычную энергію ў сабе самім Мілаванаў адчувае, але ўзняць у такія хвіліны вочы на Кацюшу не можа.

— Вы, мужчыны, усе аднолькавыя,— гаворыць Кацюша.— Асабліва ваенныя. Пойдзеце і на нас забудзеце.

— Я не забуду! — нечакана вырываецца ў Мілаванава.— Калі астануся жывы, прыеду сюды.

Кацюша апускае вочы.

— Да каго прыедзеце? — ледзь чутна пытае яна.

— Да вас.

Ад адных гэтых слоў Кацюша пунсавее, як макаў цвет.

— А вы не хлусіце? А то я буду думаць пра вас...

Замест адказу лейтэнант падымаецца з-за століка, падыходзіць да Кацюшы, нясмела гладзіць па галаве. Яе цёмна-русявыя валасы, заплеценыя ў дзве касы, пахнуць мятай.

## V

Вечарам, калі сплываюць службовыя справы, маёр Петрыкаў зрэдку запрашае лейтэнанта Мілаванава да сябе. Жыве ён у штабной хаце, тут жа, за дашчанай перагародкай, спіць, каб у любую хвіліну дня і ночы ўскочыць па выкліку.

Высокі, стройны, з пасівелымі скронямі і прыкметнай ваеннай выпраўкай, маёр Петрыкаў не належыць да кадравых ваенных. Задоўга да вайны ён скончыў універсітэт, настаўнічаў, а ў апошнія гады выкладаў гісторыю ў педагагічным вучылішчы.

Штабную службу Петрыкаў паставіў добра, з камандзірамі размаўляе разумна і дасціпна. Мілаванаву іншы раз здаецца, што строгі, уладны камандзір палка іншы раз пасуе перад начальнікам штаба.

З перакладчыкам маёр як бы адпускаецца. Суровасць з яго твару знікае, ён яўна сімпатызуе мяккаму, па-дзіцячы наіўнаму лейтэнанту.

— Канта прачытаў? — пытае маёр.

— Прачытаў.

— Ну, якія вывады?

— Кант у многім прадвызначае вытокі сённяшняга нямецкага духу.

— Ты стаў ідэалістам, лейтэнант, як і твой Кант. Што значыць дух? Абстрактная катэгорыя...

— А вы гаворыце агульнымі словамі, Казімір Феліксавіч. Як напісана ў падручніках.

Вядома, Кант ідэаліст. Але сёння ён у чамаданах многіх найбольш адукаваных нямецкіх афіцэраў. Як Ніцшэ, Шапенгаўэр. Гэта што-небудзь ды значыць. Ідэаліста Гегеля ў гэтых чамаданах няма.

— Ну, працягвай, працягвай. Хоць я не разумею, якія адносіны мае кантаўская «рэч у сабе» да ідэалогіі фашызму.

— Самыя прамыя. «Рэч у сабе», па Канту, азначае, што навакольны свет непазнавальны. Уяўленні прасторы і часу, паводле Канта, дадзены чалавечым пачуццям апрыёрна, без вопыту, чалавек як бы нарадзіўся разам з гэтымі ўяўленнямі...

— Ну, а далей што?

— А далей лагічна вынікае, што свет такі, якім паўстае ва ўяўленні. Які захочаш бачыць, такі ён ёсць, бо ніякіх аб'ектыўных законаў не існуе. Усё залежыць ад суб'екта, ад чалавека, які глядзіць на свет. Шапенгаўэр і Ніцшэ пайшлі далей Канта, увёўшы ў філасофію катэгорыю волі. Можна назваць гэта звышчалавекам. Карацей кажучы, фашызм стварае свой міф аб навакольным свеце і сілай волі, у дадзеным выпадку сілай зброі, хоча прымусіць чалавецтва паверыць у гэта. Альфрэд Розенберг нават кнігу напісаў. Яна называецца «Міф дваццатага стагоддзя»...

— Міфы, значыць, ствараюць,— задуменна гаворыць маёр.— А за міфы трэба расплачвацца рэкамі крыві. Увогуле на немцаў падобна. Авантурызм у іх гісторыі даўно прысутнічае.

Канта Мілаванаў чытае даўно. Яшчэ вясной мінулага года трапіла да яго знойдзеная разведчыкамі ў нямецкім бліндажы кніга нямецкага філосафа «Крытыка чыстага розуму». Мілаванаў, відаць, мала б у ёй зразумеў, каб не цікавіўся філасофіяй яшчэ ў школе. Яго аднагодкі паводзілі сябе так, як трэба паводзіць у шаснаццаць ці сямнаццаць гадоў: галёкалі, каталіся на каньках, пісалі першыя запіскі школьным сяброўкам. А ён тады ўжо чытаў Платона і Арыстоцеля...

Ноччу немцы зрабілі шалёны артналёт. Снарады кладаліся гэтак густа, што не чуваць было асобных выбухаў. У сяле загарэліся дзве ці тры хаты. Мілаванаў у час абстрэлу рэдка пакідаў хлевушок, але цяпер сігануў у бліндаж. У цемені ён натыкаецца на некага і ў тую ж хвіліну адчувае, як мяккія дзявочыя рукі абвіваюць яго за шыю.

— Я баялася за цябе,— чуе ён перарывісты Кацюшын голас.— Чаму ты так доўга не ішоў?..

Разведчыкі на заданні. У дабротным, з трыма праўлянымі накатамі разведчыцкім бліндажы, акрамя Мілаванава і Кацюшы, болей нікога няма. Не сціхае шквал выбуху, і пад гэтую музыку лейтэнант упершыню цалуе Кацюшу.

Калі артналёт скончыўся, Кацюша разам з лейтэнантам ідзе ў хлевушок. У трывожную верасеньскую ноч, на дваццаць першым годзе жыцця, Мілаванаў спазнае вялікае пачуццё блізкасці з жанчынай...

Пачынаючы з незабыўнай ночы, усё ў яго адносінах з дзяўчынай мяняецца. Кацюша завітвае ў хлевушок не так часта, як раней, але затое прыходзіць з выглядам гаспадыні. Яна як бы бярэ Мілаванава пад сваю ахову. Мые, прасуе яго гімнасцёрку, брыджы, хустачкі, цыруе шкарпэткі, да бляску глянцуе распоўзлыя кірзавыя боты. Прыходзячы ў хлевушок, абавязкова што-небудзь прыносіць — яблык, памідор, жменю арэхаў. Яна ставіцца да яго, як маці да малога дзіцяці.

Разведчыкі скоса зыркаюць на лейтэнанта. Мабыць, адчуваюць сябе зняважанымі. Бачаць прыхільнасць гаспадынінай дачкі да перакладчыка і, спакушаныя веданнем жаночага сэрца, нічым, ніякімі разумнымі прычынамі вытлумачыць яе не могуць.

## VII

Грыша Гольдберг, рухавы, увішны капітан з дывізійнага палітаддзела, якому Мілаванаў пераслаў некалькі лістоў нямецкіх салдат і іх жонак, прыехаў са сваёй ПГУ — перасоўнай гучна-гаварыльнай устаноўкай — у сярэдзіне дня. У гэты полк ён прыязджае часцей і ахвотней, чым у другі, бо некалі сам служыў тут на пасадзе агітатара і асабіста ведаў многіх байцоў і камандзіраў.

— За лісты дзякуй,— сказаў Мілаванаву.— Якраз ляглі ў маю перадачу. А ты, лейтэнант, чуў навіну? Немцы «Лілі Марлен» перасталі перадаваць. Як бы забаранілі. Затое я прывёз гэту самую пласціначку. Сыграем вечарам. На сон градушчы. Возьмем рэванш за «Кацюшу»...

Лейтэнант уздрыгвае. Чытаючы апошні тыдзень лісты немцаў-салдат, ён ловіць сябе на адчуванні, што ёсць у іх штосьці такое, чаго не было ў лістах мінулых гадоў. Але што? Ён не адразу можа даць назву новым адчуванням, і толькі цяпер, пасля навіны Грышы Гольдберга, думка як бы праясняецца, афармляецца.

Кант памыляецца, думае лейтэнант, жывым пацвярджэннем гэтага з'яўляюцца салдацкія лісты сорак трэцяга года.

У сорак першым, сорак другім немцы, нават многія салдаты, жылі ва ўяўным, выдуманым свеце. Любілі гучныя, высокія словы, а сябе бачылі бясстрашнымі заваёўнікамі. Цяпер іншае. Цяпер салдат цягне да звычайнасці. Успамінаюць родны дом, жонку, дзяцей, тыя даброты жыцця, якія мелі раней. Свет стаў такім, якім быў заўсёды. А забаранілі «Лілі Марлен», мабыць, таму, што легкадумная гераіня гэтай песні не можа натхняць салдат на фронце. Яна здрадзіла каханаму, а салдаты хочуць жаночай вернасці, хатняй утульнасці...

— Возьмем рэванш за «Кацюшу»,— зноў гаворыць Гольдберг.— Памятаеш, як летась немцы выматвалі нам гэтай пласцінкай душу. Толькі прашу — ты прачытай тэкст. Немцы майго яўрэйскага вымаўлення не любяць...

Мілаванаў памятае мінулагоднія лета і восень, калі немцы вялі перадачы, штовечар некалькі разоў іграючы «Кацюшу». Яны выхваляліся перамогамі пад Сталінградам, а песняй пра Кацюшу, відаць, падкрэслівалі сваю перавагу. Маўляў, вашым рыцарам не дапамагае нават вернае дзявочае сэрца. Перадачы спыніліся толькі позняй восенню, калі немцаў пад Сталінградам заціснулі ў «кацёл», а з Вароніна па варожых пазіцыях ударылі залпам тры гвардзейскія мінамёты. Як бы падала свой голас ваенная «Кацюша»...

Прыцемкам ПГУ з Гольдбергам і Мілаваным у будцы рушыла да перадавой. Машына спынілася ў арэшніку, амаль на самай седлавіне нядаўна адбітай Варонняй гары. Адсюль можна разлічваць на самае лепшае гучанне.

На нямецкім баку зрэдку ўспыхваюць асвятляльныя ракеты. У іх няпэўным святле нязвычным здаецца зарослы кустоўем пагорак, звілістыя хады траншэй, гурбачкі акопных брустевраў.

Гольдберг заводзіць патэфон, ставіць пласцінку. У вячэрняй цішыні пачулася гучнае непрыемнае шыпенне, затым плаўныя гукі лёгкай маршавай музыкі. Ломкі, чысты дзявочы галасок у рытме гэтай музыкі спявае:

Vor der Kaserne, vor dem großen Tor...
Stand eine Laterne und steht sie noch davor[1]...

---

[1] Каля казармы, перад вялікімі дзвярамі...
Стаяў ліхтар і цяпер яшчэ стаіць...

Немцы маўчаць. Ніводным стрэлам не азываюцца і ў тым месцы песні, дзе гаворыцца, што дзяўчына, якая сустракалася з салдатам ля казармы, пад ліхтаром, забыла яго, калі ён пайшоў на фронт, і пад тым самым ліхтаром сустракаецца з другім...

Люты, шалёны абстрэл пачынаецца тады, калі Мілаванаў ужо скончыў чытаць падрыхтаваны тэкст, паведаміўшы пра здадзеныя немцамі Бранск і Смаленск, пра баі на Дняпры. Шафёр ужо адводзіў машыну назад, шукаючы больш бяспечнай мясціны, калі побач з ёй, амаль пад самымі коламі, разарваўся снарад... Цяжка параненых шафёра, Гольдберга і Мілаванава санітары неслі на насілках варонінскай вуліцай у працілеглы канец яе, дзе размяшчаецца санчасць. Калі яны праходзілі міма дома, які займаюць разведчыкі, ад яго сцяны цёмным ценем аддзялілася Кацюша, пайшла побач з санітарамі, гучна, па-бабску плачучы...

*1966*

## РЭЙКІ

*І. Д. Казеку*

Васюкевіч не здолеў бы растлумачыць сабе самому, чаму, прыехаўшы ў горад, стаў шукаць не знаёмых па інстытуту, не кватэрную гаспадыню, а Валю Сасноўскую.

Ён дачакаўся яе на вуліцы, калі можна назваць вуліцай расчышчаную ад бітай цэглы і друзу ленту бруку,— па абодва бакі яе ўзвышаліся запарушаныя снегам горы развалін, задымленыя, пачарнелыя каробкі будынін.

Прыехаўшы ў горад, ён адразу з вакзала, найменш пашкоджанага сярод агульнага разбурэння, падаўся на ўскраіну, на драўляную вуліцу, дзе ў барачнага тыпу доме яна займала пакойчык. Яе адрас ён ведаў — год назад яна прыслала яму ліст на фронт. Суседка сказала, што Валя пайшла на работу ў інстытут — у той самы, які скончылі яны разам за два гады да вайны.

У інстытут ён не пайшоў — прахаджваўся паблізу знаёмага, напаўразбуранага будынка з наспех адрамантаваным фасадам і правым крылом.

Чакаў ён нядоўга, трошкі больш за гадзіну.

Валя ішла па вуліцы, і ён адразу пазнаў яе, хоць не бачыў шэсць гадоў, і невысокая, бялявая жанчына ў паношаным карычневым паліто была вельмі падобна на ранейшую, інстытуцкую Валю. Яна таксама пазнала яго, пачырванела, пабляднела, рука яе была халодная і вялая.

Выпадак дапамог ім справіцца з узаемнай разгубленасцю: тут жа, на яго вачах, у яе адламаўся абцас, і яна, смешна прыпадаючы на нагу, ступаючы на насок, давяла яго да «амерыканкі» — так называліся будачкі, у якіх інваліды без папярэдняга заказу рамантавалі абутак. Пакуль яна, пажураўлінаму падцяўшы нагу, стаяла ў будачцы, ён адышоўся, купіў у зялёным ларку на развілку вуліцы пачак папярос і бутэльку гарэлкі па дарагой, камерцыйнай цане.

Перакідваючыся нязначнымі словамі, яны рушылі да яе. Прыйшлі ў яе пакойчык — чысты, добра напалены, з вузкім жалезным ложкам ля грубкі і маленькім столікам ля сцяны, і яна перш-наперш выставіла яго за дзверы, у доўгі, нібы ў казарме, калідор, дзе ён прахаджваўся па рыпучых масніцах, пазіраючы праз акно на заснежаны двор, пакуль яна пераапраналася.

— Тры гады я нічога не ведала пра цябе,— сказала яна, упускаючы яго ў пакой.— Прохараў даў адрас, і я адразу напісала.

Ён здзівіўся пераўвасабленню, якое адбылося з ёй за лічаныя хвіліны. Перад ім стаяла Валя, якая не мела нічога агульнага з той кволай жанчынкай, якую ён сустрэў на вуліцы. Яна змізарнела, паблажэла, але была тая ж, ранейшая, гарэзлівая студэнтка.

— Ты маёр,— сказала яна.— Прохараў гаварыў, што капітан.

Яна ўзяла яго шынель, шапку, павесіла на цвік каля дзвярэй.

— У Сызрані я сустрэў Капуцкую,— сказаў Васюкевіч.— Яна расказвала, што на акопах вы трапілі пад бамбёжку і мала хто астаўся жывы...

— Нас бамбілі два ці тры разы. Але Капуцкай, здаецца, там не было...

Яна выняла з тумбачкі скавародку, два папяровыя пакуначкі і выйшла ў калідор — там, пад табурэткай, стаяў стары закопчаны прымус.

Васюкевіч сядзеў як бы ў здранцвенні: Валін пакойчык з адзіным акном на вуліцу, лазовая этажэрка, цесна застаўленая кнігамі ў парыжэлых вокладках, вузкі студэнцкі ложак — усё гэта здавалася нерэальным, як бы выплыўшым з далёкіх, канчаткова забытых дзён. Было такое адчуванне, што даўно-даўно, за парогам свядомай памяці, ён ужо бачыў, перажываў штосьці падобнае, сядзеў у такім самым пакойчыку, але гэтае даўняе, напаўрэальнае не датычыла Валі, а кагосьці другога, малазнаёмага, каго ён, каб і хацеў, не мог успомніць. У акне бліснуў прамень нізкага зімовага сонца, затрымаўся на шпалеры над дзвярамі — сонечнае святло ў хмуры з раніцы дзень таксама здавалася нерэальным і як бы злавесным.

Валя ўвайшла, паставіла на стол скавародку, талерку з хлебам і з нарэзанай невялікімі кавалачкамі сушанай рыбай.

— Абедаць хаджу ў сталовую. Ведаеш сам — картачкі...

Яна расчырванелася, пажвавела, вязаны белы світар шчыльна аблягаў яе па-дзявочаму круглыя плечы, штосьці новае, незнаёмае свяцілася ў яе злёгку прыплюшчаных шэрых вачах. Так, час змяніў яе, але ўсё ж гэта была Валя, разумная, пры-гожая свавольніца, яна як бы несла ў сабе былое — іх спрэчкі, прымірэнні, бяссонныя з-за яе ночы. Васюкевіч адчуваў, як сплывае здранцвенне, а яго ўсяго захліствае хваля лёгкай, пругкай бяздумнасці. Зусім не хацелася думаць аб тым, што яна была замужам, а толькі глядзець на яе, лавіць позірк неспакойных вачэй, якія яна раз-пораз адводзіла, як бы хаваючы ў сабе вялікую тайну. Тое даўняе, што было перад вайной, вярнулася зноў — зіхатлівае пачуццё бязважкасці, адасобленасці ад усяго на свеце. Ні з якой другой жанчынай за свае трыццаць гадоў Васюкевіч не адчуваў нічога падобнага.

Яна паставіла на стол дзве гранёныя шклянкі, села на табурэтку, і яе калені там, пад сталом, злёгку дакрануліся да яго каленяў. Васюкевіч наліў пароўну, па паўшклянкі, ёй і сабе.

— За цябе,— сказала яна.— За тое, што вярнуўся жывы...

— За нашу сустрэчу,— сказаў Васюкевіч.

Яму хацелася сказаць ёй штосьці важнае, шчырае, і, выпіўшы, пакаштаваўшы амлету з яечнага парашку, ён адразу наліў зноў.

— Я думаў пра цябе ўсе гады,— сказаў ён, падымаючы шклянку.

Яна не выпіла, але апярэдзіла яго ў тым, пра што ён пачаў гаварыць.

— Я выйшла замуж у вайну, зімой сорак другога. Табе цяжка зразумець, як мы тут жылі. Ранейшае тут нічога не значыла. Не крыўдуй, Пятро, але ў акупацыю я пра цябе не думала... Амаль не думала... Было другое — немцы, пагроза, якая навісла над намі ўсімі. Мой муж — з палонных, камандзір. Займаўся тым, чым і я,— шкодзіў немцам. У верасні, праз паўгода пасля нашай жаніцьбы, яго арыштавалі. Ды і жаніцьбы не было — прывяла яго да мяне адна наша, галоднага, абмарожанага. Я тады на Завальнай жыла, каля элеватара...

Яна хвалявалася — шчокі яшчэ болей запунсавелі, павільгатнелі вочы, абмытыя нябачнай слязой.

— Ён быў харошы чалавек,— як бы праз сілу сказала яна.— Смелы і чэсны. Там, дзе яго катавалі, не выдаў нікога. Я не каюся, што так зрабіла. Не магу забыць хлопчыка майго,— прамовіла яна, пакутліва зморшчыўшы твар, і, кінуўшы галаву на стол, на рукі, наўзрыд, па-бабску, заплакала.

Ён устаў, гладзіў яе валасы, плечы, якія раз-пораз уздрыгвалі. Пра свайго малога сына яна пісала яму ў лісце — ён памёр, калі немцы арыштавалі яе самую.

Яна супакоілася, падышоўшы да люстэрка, якое стаяла на этажэрцы, прычасалася.

— Цяпер хачу выпіць я,— сказала яна.

Ён, злёгку ўстрывожаны, глядзеў на яе пасвятлелы твар, адчуваючы, што яна намерылася сказаць штосьці сур'ёзнае, важнае для яго.

— Скажы, чаму ты са мной не ажаніўся, як скончылі інстытут? — спытала яна, пільна пазіраючы яму ў вочы.— Мужняя жонка не дзеўка, чакала б цябе, гадавала б табе сына ці дачку. Можа б, зусім другі быў мой лёс...

Ён адвёў позірк — пытанне было нечаканае.

— Я хацеў ажаніцца, ты ведаеш. Думаў — год папрацую ў школе, тады. Хіба мог разлічваць, што ў дваццаць пяць гадоў забяруць у армію?.. Памятаеш, прыязджаў да цябе...

— Дурань ты,— сказала яна.— Можна было і пасля павесткі. Няўжо ты нічога не заўважыў тады, як прыязджаў?

— Заўважыў. Не хацеў звязваць табе рукі.

На яе твар набег цень пахмурнасці, задумаўшыся, яна маўчала некалькі хвілін.

— З хлопцаў нашага курса застаўся ты ды Іванцоў. Ён таксама ў арміі. Лашкевіч быў тут, у горадзе, загінуў у партызанах. Ты Гак-Свірыдоўскага памятаеш?

— Таго, што курс антычнай літаратуры чытаў?

— У немцаў быў бургамістрам. Яго нашы ўходалі.

За акном згушчаліся сіняватыя змрокі, стала цямнець у пакоі. Яна памкнулася ўстаць, уключыць святло, але Васюкевіч, зразумеўшы яе намер, спыніў яе, паклаўшы сваю руку ёй на плячо.

Яна стала расказваць пра сябе, пачаўшы не з вайны, а з памятнай восені трыццаць дзявятага, калі яго забралі ў армію, а яе, звычайную настаўніцу, якая не папрацавала ў школе і года, прызначылі дырэктарам — з іх школы мужчын таксама прызвалі, і яна аказалася адзіным чалавекам з вышэйшай адукацыяй.

Яна расказвала, ён слухаў, ловячы сябе на дзіўным адчуванні: тое, аб чым яна гаварыла, здавалася, ні яго, ні яе не датычыла, час, падзеі плылі побач, не закранаючы асноўнага, што было між імі. Іх блізкасць пачалася даўно, яшчэ ў інстытуце, і цяпер яму здавалася, што яна не перапынялася ніколі.

— Вось і ўсё,— сказала яна, скончыўшы сваё апавяданне.— Людзі як трэскі на хвалях. Хоць і не зусім так. Я, здаецца, свядома кіравала сваім чаўном. А куды даплыла?..

— Ты магла загінуць,— сказаў ён.— Я нават не ўяўляю, як можна ваяваць у падполлі. Смерць вісіць над табой штохвілінна. Як такое вытрымаць?

— Пра гэта не думаеш. Ведаеш, я зрабіла адно назіранне. Тут, у акупацыі, я сабе самой не належала. Не, не таму, што мне нехта загадваў, стаяў нада мной. Ёсць штосьці большае, вышэйшае, і ты адчуваеш сябе толькі часцінкай яго. Маленькай часцінкай — і ад гэтага радасць. Поўнае зліццё асобы з агульным. Здаецца, так было ў старажытных грэкаў у эпоху гарадоў-дзяржаў.

— У рэвалюцыю было,— сказаў ён.— І ў гэтую вайну. Не толькі на фронце, а і ў тыле. У сорак трэцім я ездзіў на Урал, танкі атрымліваць. Ведаеш, хто іх рабіў? Жанчыны, дзеці...

У акне — ноч, яны, седзячы ў цемнаце, яе не заўважалі.

Па калідоры — раз-пораз частыя крокі жыльцоў, рып масніц, прыглушаныя галасы. Нехта — праз пакой ці да-

лей — завёў патэфон, і сюды даносіліся толькі невыразныя гукі бадзёрай даваеннай песні. Васюкевіч стаў расказваць пра сябе — блытана, паспешліва, кіруючыся не паслядоўнасцю падзей, а толькі тым, што яму хацелася выказаць, звязаць з той думкай, якую першай падала яна. Гаварыў ён доўга і скончыў нечакана, адчуваючы незадаволенасць сабой: што хацеў, не сказаў. Яна ўключыла святло.

— Ты калі ажаніўся? — спытала яна, і ён уздрыгнуў ад звычайнасці, будзённасці пытання, якое тут, між імі дваімі, прагучала жорстка, неміласэрна.

— Восенню сорак чацвёртага,— сказаў ён.— За месяц да твайго ліста.

У яе вачах прамільгнуў спалох, шчокі запунсавелі, але яна адразу ўзяла сябе ў рукі.

— Ты верыў, што я загінула?

— Верыў і не верыў. На вайне нельга верыць у смерць.

— Я табе напісала адразу, як даведалася пра адрас,— сказала яна.— Значыць, не лёс...

На яго зноў як бы напала здранцвенне. Хваля пругкай лёгкасці, адарванасці ад усяго на свеце некуды сплыла, пакінуўшы ў душы шчымлівую пустату. Ён зірнуў на гадзіннік, устаў — было палова дванаццатай.

— Начуй у мяне,— сказала яна і, падышоўшы да яго ўшчыльную, паклала яму рукі на плечы.

На імгненне ён прыхінуў яе да сябе — падатлівую, пакорлівую — і, адчуваючы, як нарастае ў горле, у грудзях горкі, балючы камяк, лёгенька адштурхнуў.

— Астанься! — спалохана выгукнула яна, прыклаўшы далоні да запунсавелых шчок.— Я ў суседкі пераначую. Куды ты проці ночы пойдзеш?..

Ён надзеў шынель, шапку, і тады, нібы спахапіўшыся, стала тарапліва апранацца яна.

— Не трэба, Валя,— сказаў ён і, узяўшы яе мяккую, халодную руку, стаў гладзіць на сваёй далоні.— Я ў ваенным гарадку, у Залужжы, ведаеш?.. Цяпер у афіцэрскім рэзерве. Падаў рапарт аб звальненні... Мне трэба быць там, разумееш...

Яна маўкліва, павільгатнелымі вачамі глядзела на яго, і ён, не азірнуўшыся, пакінуўшы яе апранутай, выйшаў у калідор.

Бяздумна блукаў ён па цёмных вуліцах прадмесця, мінаючы прыземістыя драўляныя дамкі з зачыненымі аканіцамі, затым па руінах цэнтральных вуліц, дзе таксама было цёмна — свяціліся толькі рэдкія, адзіночныя вокны на чорных гмахах каробак. Калі выбіўся да вакзала, гадзіннік паказваў палову першай. Пра цягнік не магло быць гаворкі, яго апошні прыгарадны адышоў у восем вечара.

Ён прабіўся скрозь шчыльны натоўп у вакзал — у абедзвюх чакальных залах вавілонскае стоўпатварэнне, людзі ў шынялях стаялі, сядзелі, нават пад лаўкамі ляжалі — ішла вялікая дэмабілізацыя.

Ён выбраўся на перон і пакрочыў, размерваючы хаду, па шпалах — да ваеннага гарадка не так далёка, дванаццаць вёрст.

Ужо мінуўшы горад, выбіўшыся ў цёмнае зімняе поле, Васюкевіч адчуў, што замёрз, і разам з адчуваннем холаду прыйшла думка, што ён правільна зрабіў, не астаўшыся начаваць. Там, у вёсачцы, якая прылягае да ваеннага гарадка, у сялянскай хаце яго чакае жонка. Праз месяц у іх народзіцца дзіця, і трэба шкадаваць жонку і гэтае іх дзіця, а таго, што не збылося, не вернеш...

Каб сагрэцца, ён прыбавіў кроку. Рэйкі ляжалі прама, губляючыся ў цемені. Мераючы падкаванымі, яшчэ новымі ботамі шпалы, Васюкевіч раз-пораз азіраўся: мог ісці які-небудзь дальні цягнік, які не спыняецца на паўстанку ля ваеннага гарадка, і няма ніякай патрэбы трапляць яму пад колы.

*1966*

# 1968

## СІНІ СНЕГ

Быў надвячорак, церусіў снег. На цэнтральнай плошчы Віктар Пасашка злез з аўтобуса, якім прыехаў са станцыі. Дзіўнае пачуццё валодала ім. Ён не хваляваўся, не чакаў ад падарожжа свайго нічога незвычайнага, нават не надта спадзяваўся пабачыць знаёмых. Замнога вады сплыло за дваццаць гадоў.

Цэнтральная плошча, як і вуліца, па якой ехаў Пасашка, была незнаёмай. Замест прыземістых абшарпаных дамкоў з драўлянымі надворнымі лесвічкамі на другія паверхі стаялі новыя, сучасныя муры, вуліца зрабілася прамой і шырокай. Толькі з процілеглага боку плошчы як бы праглядвалі ранейшыя крамы-камянічкі з навіслымі над дзвярамі шыльдамі.

Узбоч набярэжнай стаялі падстрыжаныя нізкія дрэвы, за імі новая чарада будынкаў, якія зусім засланілі раку. Церусіў снег, але бралася на прымаразак.

Трохпавярховая гасцініца размяшчалася на месцы былога рынку. Тут таксама была суцэльная новая забудова. Горад запаліў агні і здаўся Пасашку чужым і халодным.

Вольнага месца ў гасцініцы не было. Пасашка вярнуўся на Цэнтральную плошчу, перасек яе і зайшоў у рэстаран. Тут было цемнавата, бруднавата, дзве тоўстыя афіцыянткі разносілі па сталах кухлі піва.

Ён знайшоў незаняты столік і адразу адчуў сябе вольным падарожнікам, якому зусім не страшна ад таго, што няма дзе начаваць і што гадзін у адзінаццаць рэстаран закрыецца. Выпадак мусіў выручыць. Пасашка любіў вось такія хвіліны поўнай бесклапотнасці, калі не трэба нічога рабіць, прадпрымаць, цалкам пакладаючыся на волю выпадку.

Афіцыянтка прынесла заказаныя сто грамаў гарэлкі, кухаль піва, і там, ля буфета, адразу зайграў акардэон. Музыкант сядзеў на невысокім памосце, быў немалады, апрануты ў паношаны шэры пінжак. Яго вочы закрывалі вялікія чорныя акуляры, і Пасашка падумаў, што музыкант сляпы.

За трыма суседнімі столікамі сядзелі мужчыны і хлопцы, вопратка якіх сведчыла, што яны з раёна, з вёскі. Вясковых людзей з першага погляду вылучала вопратка — купленыя ў крамах пінжакі, касцюмы былі цесныя або залішне вялікія, з адтапыранымі штрыфелямі, штаны запраўлены ў боты або ў пацягнутыя скурай валёнкі. Дваццаць гадоў назад, калі Пасашка яшчэ тут жыў, мода была іншая: хто насіў пацёртую гімнасцёрку, кіцель, а хто і новае шыў на вайсковы манер. Тады і гараджане любілі фарсіць у кіцелях і галіфэ.

Настрой, які валодаў Пасашкавымі суседзямі, быў падобны на яго ўласны настрой, хоць выказваўся не маўчаннем, а гучнымі размовамі і смехам. Гэта, без усякага сумнення, былі завочнікі, хутчэй за ўсё настаўнікі, якія скончылі сесію ў педагагічным інстытуце, здалі экзамены і залікі. Вечар быў вольны ад абавязкаў і належаў ім адным. Нават кніжкі, падручнікі ляжалі на сталах побач з кухлямі піва.

Музыкант пачаў мелодыю пра незнаёмы пасёлак, безыменную вышыню, і Пасашка здрыгануўся. Ён уявіў чалавека ў цёмных акулярах пехацінцам, камандзірам узвода, які падаў на пачарнелы снег за некалькі крокаў ад асляпляльна сіняга выбуху. Гэта магло быць надвячоркам, на снежнай раўніне. Наперадзе, на ўзгорку, чарнела вёсачка, тры крайнія хаты асветлены водбліскам пажару, і вакол сіні, з цёмным адлівам снег, чорнае неба...

Божа мой, ён жа дзеля гэтага прыехаў... Прадчуваў, што толькі тут, у горадзе, такім блізкім і такім нямілым, знойдзе тое, пра што думае даўно, усе апошнія гады...

Пасашка падняўся, паклікаў афіцыянтку і, разлічыўшыся, выбраўся на вуліцу. Па плошчы, парыпваючы снегам, ішлі парачкі. Ён рушыў да набярэжнай, знайшоў лесвіцу і па абледзянелых прыступках спусціўся ўніз, да ракі. Адсюль горад здаваўся шматпавярховым. На пясчаных пагорках паранейшаму стаялі прыземістыя дамкі, яны карабкаліся ад падножжа да самай седлавіны, ствараючы ілюзію, што горад застаўлен небаскробамі.

Рака ляжала маўклівая, пакрытая лёдам і зацярушаная снегам, з левага боку навісалі над ёю цёмнай аркай фермы новага чыгуначнага моста, справа, за сіняватым прасцягам сенажацей, чарнелі сасоннікі. Горад быў той самы, знаёмы.

Выпадак вывозіў — Пасашка ішоў якраз туды, куды трэба было ісці. Ён хутка ўбачыў скаваны лёдам, зношаны параходзік. Вокны каютак свяціліся, і Пасашка здагадаўся, што параходзік прыстасаваны пад жыллё. Па дашчаным насціле ён падняўся на палубу, знайшоў дзверы і пастукаўся. Ніхто не адказаў, ён хацеў быў рушыць прэч, але пачуў за спіной асцярожныя крокі.

— Зачынена? — спытаў жаночы голас.

— Не ведаю. А што такое тут?

— Ноеў каўчэг для беспрытульных.

Жанчына без стуку адчыніла дзверы, услед за ёй Пасашка падняўся па слаба асветленай лесвіцы ў доўгі калідорчык. З абодвух бакоў яго размяшчаліся каюткі. З першай, тручы сонныя вочы, выйшла чарнявая дзяўчынка-вахцёрша.

— Месц няма,— сказала яна, як бы просячы прабачэння.— У агульным пакоі паставілі дзесяць раскладушак. Каб хоць на гадзіну раней...

Тая, што прывяла Пасашку, стаяла і глядзела на яго. Ён зноў, як там, у рэстаране, унутрана здрыгануўся. Яму здалося, што перад ім Валя, далёкая і забытая, з якой тут, у гэтым нямілым горадзе, у яго было столькі шчаслівых і горкіх хвілін.

Але гэта была не яна, нават не падобная да яе. Ён проста ўзрушыўся, і ўсё ад гэтага...

Развітаўшыся, Пасашка стаў спускацца па лесвіцы. Ён быў ужо ля дзвярэй, калі яго пазвалі наверх.

— Вы прыезджы? — спытала жанчына.— Калі няма дзе начаваць, то вольны ложак ёсць. У маім пакоі. Я геолаг, мужчын не баюся. Толькі дайце мне распрануцца.

Дзяўчына-вахцёрша, узяўшы ў Пасашкі пашпарт і рубель, зачыніла за сабой дзверы. Ён хвілін дзесяць прахаджваўся па калідорчыку, стараючыся не рыпаць маснічынамі, потым спыніўся перад каюткай і пастукаў.

Каютка была маленькая, цёплая, у ёй ледзь не ўпрытык стаялі два вузкія жалезныя ложкі. Пасашка зняў паліто, пінжак і лёг. Суседка павярнулася да яго тварам.

— Я, праўда, геолаг. Вы нічога не думайце. І я бачыла, як вы ішлі ля ракі. Мне здалося, што вы тут першы раз...

— Я тут жыў і працаваў,— сказаў Пасашка.— Тры гады. Адразу пасля партызан. Быў тады маладым хлопцам.

— І нікога знаёмых не засталося?

— Мабыць, ёсць. Не хацелася шукаць.

Ён прыўзняўся на руках, зірнуў у акно. Яно выходзіла на зарэчныя лугі. Пад чорным небам ляжала аснежаная сіняватая раўніна, чарнеў далёкі лес. Некалі з таго лесу па такім самым снезе ён прабіраўся ў горад на сувязь.

— Чаго вы прыехалі?

— Не ведаю. Хачу злавіць за хвост жар-птушку. Штонебудзь фантастычнае.

— Дабранач,— сказала яна і павярнулася тварам да сцяны.

Пасашка маўчаў. Яму стала непрыемна. Крыўдзіць суседку ён не хацеў.

— Я працаваў у газеце,— ціха сказаў ён.— Мастаком-рэтушорам. Ёсць і газетныя мастакі. Дзяўчына была... Наша сувязная. Потым яе абвінавацілі. Я паехаў адсюль. Вось і ўсё...

Ён не заўважыў, калі яна зноў павярнулася да яго тварам.

— Чаму вы так позна прыехалі?

— Я не да яе прыехаў.

— Да каго?

— У горад. Было не толькі благое. Пачынаю старэць і разумею, што лепшага часу, чым тады, у партызанах, у мяне не было.

— А што з ёй?

— Апраўдалі. Выйшла замуж. Жыве не тут. Нічога пра яе не ведаю.

Пасашка разумеў, што не засне. Зрэшты, ён мог і не заходзіць на параходзік, які адслужыў свой век і ператварыўся ў гасцініцу. Тое, што хацеў адчуць, адчуў, і можна было дачакацца на плошчы аўтобуса, сесці і паехаць на станцыю.

— Вы не толькі ў горад прыехалі,— ціха сказала суседка.— У вас штосьці дрэнна... Можа, у сям'і, можа, на душы. Я па сабе ведаю. Находзіць такое, і хочацца вырвацца з прывычнага, абрыдлага...

Ён устаў, прысеў на ўскраек яе ложка. За акном у месячным святле сінела аснежаная раўніна, на дзіва падобная на тую, даўнейшую, па якой ён хадзіў на сувязь у горад...

*1968*

# 1969

## ВАЛОШКІ Ў ЖЫЦЕ

Пясчаная, злёгку ўзгоркаватая даліна ўсцяж заслана зялёным абрусам чэрвеньскага жыта. Адзін клін пачынаецца ад чыгункі-аднапуткі і цягнецца аж да вёсачкі, якая віднеецца ўдалечыні зграмаджанымі хаткамі. Ні дрэўца ў той вёсачцы, ні адзінага кусціка. Пазнаць мясціну можна толькі па чыгунцы ды па вёсачцы на даляглядзе, якая і тады, у снежні сорак трэцяга года, стаяла сярод голага поля. Каля яе ўзвышаўся курганок могільніка з некалькімі хвоямі і старой рыпучай бярозай, на якой чарнела буслінае гняздо. Але ні бярозы, ні хвой не відаць.

Ахоплены смутна-радасным пачуццём пазнавання, успамінаў і яшчэ чагосьці, чаму не так лёгка знайсці назву, Валодзя Шпачок, карэспандэнт абласной газеты, злез з цягніка, трошкі адышоўся ад насыпу і паволі пабрыў па жыце. Ён быў тут толькі тады, у вайну,— тыдзень у снежні і тыдзень у студзені, пакуль яго не параніла, і ніколі не быў пасля, але ўсё адно ў агульным малюнку мясцовасці, у яе настроі ёсць штосьці вельмі знаёмае.

Зрэшты, гэта амаль радзіма. Вёрст за сорак на поўдзень ляжыць Валодзева мястэчка, дзе ён нарадзіўся, вучыўся ў школе, а пазней, калі прыйшлі немцы, удзельнічаў у сякіх-такіх партызанскіх справах.

Затым была армія.

Так здарылася, што першы Валодзеў фронт пралягаў непадалёк ад бацькавай хаты. Пасля прыходу нашых іх,

васямнаццацігадовых местачковых хлопцаў, незалежна ад таго, быў хто ў партызанах ці не быў, мабілізавалі. Запасны полк размяшчаўся ў вялікім сяле Кабыляцічы, у якім жыла нават далёкая Валодзева радня. За два тыдні, пакуль ён поўзаў па-пластунску і дзёўб сапёрнай лапаткай замёрзлы груд, у Кабыляцічы два разы прыходзіла маці — прыносіла хлеба, сухароў і нават тытуню — ён ужо тады пачынаў курыць.

З Кабыляціч іх маршавую роту кінулі сюды — на Дамачоўскія пяскі і балоты, дзе немцы ўгрызліся ў зямлю і не толькі не хацелі адступаць, але амаль штодня прадпрымалі контратакі...

Валодзя пастаяў, паглядзеў і рушыў у напрамку да збітай з новых сасновых бярвенняў канторы МТС (ён ведаў, што яна каля чыгункі). Станцыя, на якой ён злез з цягніка, засталася ззаду. Дзіўна, але ў Валодзевых уражаннях, успамінах гэта станцыя не займала ніякага месца. Як бы і не было яе. Чыгунку ён памятаў, памятаў два рады тэлеграфных слупоў з абарванымі дратамі, але прыземістага цаглянага будыначка, які, мяркуючы па ўсім, захаваўся, відаць, проста тады не заўважыў.

Было гадзін адзінаццаць, сонца паднялося ўжо досыць высока. Два дні назад прайшлі добрыя дажджы, і ўсё навакол буяла, красавала, цвіло. У жыце, якое расло на звычайных пясках, мог ужо схавацца калі не конь з дугой, то хоць ладны лашачок. Леташні, другі па ліку, пасляваенны год быў ураджайны, некаторыя калгасы трохі падправіліся, сёе-тое далі на працадзень. Калі сёлетні год будзе такі самы, то справы пойдуць угору і, магчыма, гэты вынішчаны вайной куток зямлі крыху акрыяе.

Валодзя ўжо два гады працаваў карэспандэнтам абласной газеты, якая выходзіла ў невялікім прырэчным гарадку, любіў сваю газету і ганарыўся тым, што ён у ёй працуе. Ён лічыў, што ад газеты шмат што залежыць. Дастаткова падняць вострыя, нявырашаныя пытанні, знайсці належны кірунак іх развязвання, паставіць іх на суд грамадскасці, і справа пойдзе сама сабой.

Пісаў Валодзя пераважна пра калгасы, сяўбу, касавіцу, таму і на вакольны свет глядзеў вачамі аграрыя, прыкідваючы, наколькі той ці іншы факт падыходзіў для мэт сельскагаспа-

дарчага аддзела рэдакцыі. Вось і цяпер, кіруючыся да канторы МТС, ён на хаду прыдумваў назву для будучага нарыса. «Жыта на былой франтавой паласе» — прыйшло на думку, але гэтую назву ён зараз жа адвёў, яна здавалася невыразнай. Загаловак мусіць быць кароткім, энергічным. «Там, дзе грымелі баі» — узнік другі варыянт, але не задаволіў і гэты.

Тым часам карэспандэнт падышоў да эмтээсаўскай канторы. Яе будынак быў яшчэ не скончаны — левае крыло зеўрала пустымі праёмамі акон, навакол валяліся стружкі і трэскі. Ля ганка вурчаў маторам заведзены «газік», на кучы неачэсаных бярвенняў курылі пажылыя трактарысты ў зашмальцаваных вопратках. У самой канторы, падзеленай дашчанымі перагародкамі на пакойчыкі-катушкі, нехта гучна крычаў у тэлефонную трубку, ляпалі дзверы, заходзілі і выходзілі людзі.

Валодзя тыцнуўся ў кабінет дырэктара, але там было поўна народу.

Болей пашанцавала яму ў галоўнага агранома. Той выслухаў карэспандэнта ўважліва, назваў некалькі лічбаў і, спаслаўшыся на неадкладную патрэбу зараз жа выехаць у калгас, перадаручыў яго ўчастковаму аграному, маладой, даволі прыгожай дзяўчыне.

Блакітнавокі аграном у канторы гаварыць не захацела...

І вось яны ідуць. Дзяўчына паперадзе, карэспандэнт ззаду. Сцяжынка віецца між жыта, якое ім па плечы. Добрае жыта, хоць і расце на пяску. Каласкі бухматыя, ледзь бачна трапечуць далікатна-кволымі паскамі квецені. Крані каласок — на пальцах застанецца жаўтаваты пылок. Хутка колас ахінецца срабрыста-белай павалокай, пачне наліваціа. Жыта красуе...

Карэспандэнт дастаў з палявой вайсковай сумкі блакнот, сёе-тое запісвае. Ён ужо ведае, што дзяўчыну завуць Валя, прозвішча Шапавалава, яна скончыла — лёгка сказаць — Ціміразеўку і другі год працуе тут. Паўнаваты стан аблягае летняя, у сінюю паску сукенка, твар круглаваты, жывы, з мяккімі, прыемнымі рысамі. Тое, што дзяўчына сама падахвоцілася паказаць жытнёвае поле, для карэспандэнта нечаканасць. Такое ў яго практыцы ўпершыню.

Сцежка вывела на палявую, пасечаную трактарнымі коламі дарогу. Сям-там на ўзбочыне жыта трохі прымята, збэрсана. Дзяўчына па-ранейшаму ідзе наперадзе, нібы наўмысна

падбіваючы наскамі брызентавых на нізкім абцасіку туфляў камякі вывернутай, ссохлай зямлі.

— Колькі давалі норму высеву? — пытае карэспандэнт.

— Цэнтнер восемдзесят.— Аграном на міг акінула Шпачка позіркам, прытаіўшы ў куточках губ усмешку.— Але гэта разліковая норма. Не мы ж сеялі — калгас. Мы толькі ўзаралі, забаранавалі. Але ўраджай будзе...

Зрэшты, яна гаваркая. І не стараецца выставіць заслугі МТС ці свае. Як бы выклікае яго, карэспандэнта, на даверлівасць. Валодзя адчувае, што трэба перамяніць тон размовы, выбіцца з каляіны афіцыйнасці. Але не можа. Ён усё-такі ва ўладзе таго, ранейшага.

«Чыгунку яны пераходзілі прыцемкам. У новенькіх шынялях, але ў выліnялых, мясцінамі нават падпаленых дэзінфекцыяй шапках. Рудыя плямы былі амаль на кожнай...»

— Колькі клалі ўгнаенняў? — пытае зноў карэспандэнт.

«Мяшок ён, ці што? — думае дзяўчына.— Як заведзены. Не скажа слова па-чалавечы. А з выгляду, здаецца, нішто...»

Сонца вісіць над галавой. Але не горача. Па небе плывуць лёгкія, белыя хмурынкі. Твар абдало прыемным халадком, ледзь чутна зашасцела жыта. Там, на сярэдзіне зялёнага разліву, пад подыхам ветру жыта ўгінаецца ўсёй лаваю, і ўражанне такое, што па полі перакатваюцца вялікія хвалі.

— Тут вопытны ўчастак,— адказвае аграном.— Шэсцьдзясят гектараў. Мінеральных угнаенняў далі многа. Па пяць цэнтнераў суперфасфату, па тры — калійнай солі. У калгасах транспарту мала, і ўгнаенні ляжалі на станцыі з вясны пад адкрытым небам... Нас нават у газеце крытыкавалі. У вашай... Дык мы іх сюды. На сваю адказнасць. Там, каля вёскі — самі ўбачыце — жыта горшае...

«Там, каля вёскі!..» Валодзя зірнуў на шэрую граду хатак, якія ўжо выразна выдзяляліся сярод суцэльнага зяленіва, і сэрца ў яго зашчымела. Вёска была пазней. Сюды яны адступілі. А спачатку ляжалі на балоце, у рудой вадзе. За вёску яшчэ вёрст пяць... Якраз пачалася адліга. Кашлялі амаль усе. Параненыя стагналі і кашлялі...

— Дык вы ж за натураплату ўвесь ураджай возьмеце,— сказаў карэспандэнт.— Аралі, рассявалі ўгнаенні, баранавалі...

«Ён нейкі казённы,— думала дзяўчына.— Божа, да чаго ёсць на свеце сумныя людзі. Відаць, ва ўсе часы быў прыкладным

хлопчыкам. За партай сядзеў не варухнуўшыся, слухаў настаўніка. Вучыўся на чацвёркі, бо вечна зубрыў. Дома слухаў тату і маму. Ні разу не парваў штаноў... А твар у яго харошы. Якой памылкай можа быць знешнасць...»

— А што, па-вашаму, лепш, каб поле пуставала? МТС усё робіць у калгасах. Цяглавай сілы вельмі мала...

«Ля вёскі яны акапаліся на могільніку. Вунь той могільнік. Ні хвой, ні бяроз з буслянкай няма. Акопчыкі рабілі ў прамежках паміж крыжамі. Потым крыжы папалілі, каб сагрэцца. А хвоі і бярозу, відаць, спілавалі пазней. Пасля яго. Былі добрым арыенцірам для немцаў...»

— МТС часта гоніцца толькі за гектарамі ўмоўнага ворыва,— сказаў карэспандэнт.

«Навошта я з ім пайшла?.. Будзе нудзіць да сканчэння свету. Няўжо сам не ведае, што без трактара тут бы ўсё мохам парасло? Чалавек-цыркуляр. Гаворыць словамі з перадавіцы сваёй газеты...»

— Мы не паспяваем выканаць план і па ўмоўнаму ворыву. Трактары зношаныя, запчастак няма. Думаеце, што-небудзь дастанеш у гутапе. Па бабіт у Маскву пасылалі...

«Пецю Дзікуна забіла тут, на могільніку. Быў з дваццаць шостага года. Дваццаць шосты яшчэ не прызывалі, і Пеця лічыў, што яго адпусцяць. Некаторых адпусцілі. Але ён быў кулямётчыкам, яго, Валодзі, другім нумарам... Раслі на адной вуліцы. У дзяцінстве Пеця ўдарыў яго па галаве жалезным прэнтам. За кольца ад дзвярэй вагона. А на вайне быў ціхмяны, пакорлівы. Ад холаду і дрэннага харчу яго твар парос нейкім белым пухам.

Пецеў бацька і цяпер, дзе ні сустрэне, пытае: “Ён мо не доўга мучыўся?”»

— Скажыце, севазварот тут уведзен?

«Што ты ведаеш пра агратэхніку? Навучыўся словам і дзяўбеш, як дзяцел. Які там севазварот, калі сеецца на пустой зямлі. Добра яшчэ, што прайшоў дождж. А то не сабралі б саломы, як у сорак шостым...»

— Уводзім,— адказала аграном.— Але, ведаеце, шмат цяжкасцей. Палі малыя, раскіданыя. Рады, што дамагліся трохполкі, бо яшчэ і двухполка ёсць...

«Яго параніла на трынаццаты дзень. Ён нават хацеў, каб параніла. Апошнія тры дні не было ніякай дастаўкі. Самае страш-

нае — голад. І яшчэ холад. Сцюдзёная, мокрая золь. Фецісаў, другі нумар, які замяніў Пецю, прывалок конскую нагу...»

— Можа, якія-небудзь перадавыя метады прымяняеце? Радковую сяўбу, прарэджванне пасеваў, ці што іншае?..

— План не выканалі па звычайнай сяўбе,— як бы з выклікам сказала дзяўчына.— Вы што, з неба зваліліся? Раён даваеннай плошчы не асвоіў. Касавіца зрываецца. Палавіна насельніцтва знішчана. Мы на апошнім месцы замацаваліся трывала...

— Ды не крыўдуйце,— Валодзя крыху замяшаўся.— Я ўсё ведаю... Хачу пра ваш вопытны ўчастак напісаць. Усё-такі — новая справа. І пра вас напішу...

«Сімпатычны дурань,— нечакана для сябе падумала дзяўчына.— Няўжо ты яшчэ ні з кім не цалаваўся? Ты ж баішся мне глядзець у вочы. Значыць, я падабаюся табе. Я гэта ўбачыла яшчэ там, у канторы. Інакш не пайшла б з табою ні за якія грошы. Хочаш напісаць пра мяне — напішы. Толькі б ты лепш запытаў, як мне жывецца і ці прыязджаю я ў горад, дзе выходзіць твая газета. Я ж сама цэлы год жыла ў тваім горадзе...»

Яны выйшлі на лугавінку перад самай вёсачкай. Тут была высокая трава, на ўзмежку стаяла копка новага сена. Каля гэтай копкі яны спыніліся. Першай прысела, абцягнуўшы на каленях сукенку, дзяўчына, а за ёй і Валодзя. Абаім было прыемна перадыхнуць сярод зеляніны, цішыні, пад лагодным летнім небам.

— Тут летась трактар падарваўся на міне,— сказала дзяўчына.

— Я тут на фронце быў. Мяне параніла вунь на тых могілках...

Яна як бы спалохана зірнула на яго, і твар яе адразу зрабіўся строгім.

— Вы пасля таго першы раз тут?

— Першы.

— А чаму раней не прыязджалі?

— Ды так. Усё адкладваў...

Ёй адразу стала маркотна. Яна падумала аб тым, што ўсе яе згрызоты, душэўная разгубленасць, мітусня пачаліся з вайны. На трэцім курсе ў яе быў лётчык, кірпаты ветрагон, якога яна, здаецца, любіла па-сапраўднаму. А ён любіў пакрасавац-

ца, пафарсіць і, можа, нават здраджваў ёй з яе ж сяброўкамі. Як бы прадчуваў, што жыцця яму адмерана толькі дваццаць адзін год, і спяшаўся хутчэй пакаштаваць яго салодкія і горкія падарункі...

Валодзя адчуў раптоўную перамену ў настроі дзяўчыны, але прыпісаў яе сваёй нясмеласці. З незнаёмымі дзяўчатамі ён заўсёды губляецца. У кампаніі, дзе ўсе свае, ён можа быць дасціпным, жартуе, нават любіць верхаводзіць, але варта астацца сам-насам з дзяўчынай, як усё гэта прападае. Але так далей нельга. Ён проста дурань...

— Па вас тут божая кароўка бегае,— сказаў ён і памкнуўся зняць з яе пляча казюрку.

Дзяўчына нечакана падхапілася:

— Пойдзем. На мне сёння яшчэ дэкадная зводка...

Яны вярталіся той жа дарогай. Дзяўчына была сумная, думала аб тым, што яе жыццё пайшло наперакос. У горадзе, адкуль прыехаў карэспандэнт, яна год працавала ва ўпраўленні, зблізілася з чалавекам з іх жа аддзела. Ён быў жанаты, выбухнуў скандал. Яе паслалі сюды...

Крочачы сцяжынкай услед за аграномам, Валодзя трошкі адстаў, сарваў у жыце некалькі валошак, даў у рукі дзяўчыне.

— Жыта ўсё-такі выдатнае. Я пра вас напішу...

— Нас за гэтыя кветачкі не хваліць, а крытыкаваць трэба. Самае звычайнае пустазелле...

Яна квола, але добра ўсміхнулася...

*1969*

## ДВА КІЛАГРАМЫ ГАРОХУ

Мястэчка да вечара вызвалілі, а станцыя яшчэ ўсю ноч знаходзілася ў нямецкіх руках. Ваякі, аднак, не надта разлічвалі на сваю моц, бо ноччу ўсе склады падпалілі. Шкада было гэтых складаў — новыя, з добрага сасновага цёсу, яны прастаялі нешта гадоў каля пяці — паставілі іх перад вайной, калі мястэчка зрабілася цэнтрам раёна і сюды павезлі нарыхтоўку.

Станцыйны люд хаваўся — хто дзе мог. Большасць сядзела ў алешніку за асушаным балотам. Адтуль, назіраючы

за вялізным зарывам, якое ўздымалася над станцыяй, многія думалі, што наступае канец свету.

Але канец свету не наступіў. Назаўтра з усходу грымнулі нашы гарматы, салдаты рушылі ў атаку і са станцыі немцаў праперлі. На месцы складаў курэлі сінім дымам галавешкі, вадакачка — гонар станцыі — ляжала мёртвымі глыбамі камення і цэглы. Уцалела толькі памяшканне пакгаўза. У ім і знайшлі два мяшкі з нямецкімі арламі, кожны з якіх на тры чвэрці быў напоўнен гарохам.

Адзін з гэтых мяшкоў, угінаючыся і крэкчучы, ужо валок у сваю пахілую, абмазаную глінай хаціну пенсіянер Ёдка, які да вайны загадваў станцыйнай лазняй. Але бабы Ёдку перанялі, гарох адабралі і паслалі па члена мясцкама сцэпшчыка Кухарыка, які ў гэты няпэўны час адзін прадстаўляў былое станцыйнае начальства. Кухарык, згорблены, сівы, з вузкім, нібы клін, тварам мужчына, як з зямлі вырас, і хоць Ёдка крычаў, што палавіна гароху належыць яму, бо ён мяшкі пад нямецкімі кулямі з пакгаўза вынес, сцэпшчык наадрэз адмовіў у прэтэнзіі пенсіянера, сеў на мяшок і прыняў рашэнне падзяліць гарох паміж усімі сем’ямі чыгуначнікаў.

Пакуль складалі спіскі, пакуль збегалі па крамніка Болбата, які дзеля гэтай урачыстай хвіліны з’явіўся ў форменным чыгуначным гарнітуры, пакуль знайшлі вагі і гіры, прайшла палавіна дня. Але затое ў другой палавіне каля памяшкання пагрузачнай канторы стаяла чарга чалавек на пяцьдзясят, прадстаўленая пераважна жанкамі. Гароху наважылі выдаваць па два кілаграмы.

Дзень быў асенні, цёплы, сонечны, немцаў адагналі парадкам, так што нават раскаты гарматных выбухаў у мястэчка ледзь-ледзь даляталі, і, здаецца, ніштo не прадказвала, што хутка каля пагрузачнай канторы разгуляецца сапраўдная бура. Але яна ўсчалася. Прычынай выбуху жаночага гневу паслужыла тэлеграфістка Ліпская, чарнявая, задуменная, яшчэ досыць маладая жанчына, якая з’явілася на станцыі пры немцах і якую, зрэшты, мала хто ведаў. Магчыма, жанчыны знелюбілі Ліпскую за тое, што яна хораша апраналася, ні з кім знацца не хацела і, здаецца, пагарджала ўсім светам. Як толькі тэлеграфістка падышла да акна, дзе крамнік Болбат развažваў гарох, жаночы натоўп не вытрымаў:

— Шлюндра!

— Верціхвостка!

— Подсцілка нямецкая!

— Гароху захацела... Смалы ёй, а не гароху!..

— Хай бяжыць за сваімі немцамі...

Асабліва лютавала станцыйная прыбіральшчыца Грачаніха, сухая, як жардзіна, і страшэнна языкатая кабеціна, якая і ў даваенныя часы неаднойчы ўсчынала лямант і вэрхал у крамах.

— Дзе ж тая праўда? — галасіла яна, выскачыўшы з чаргі, распатлаўшы пасівелыя валасы, крывячы танкагубы, запалы, нібы яміна, рот.— Пры немцах раскашавала і цяпер хоча. Не ўдасца!.. Знойдзем законы... Мой сын, можа, галаву палажыў, а яна будзе гарох палучаць. Хваробы табе, а не гароху. Помніце, бабы, як яна нашых свіней і курэй перапісвала?.. Каб табе шкуру спісала, гадаўка нямецкая!..

Крамнік Болбат не ведаў, што рабіць. Прозвішча Ліпскай у спісах стаяла, і не было законнай падставы адмовіць ёй у атрыманні гэтага праклятага гароху, тым болей што тэлеграфістка была жанчынай адзінокай, гадавала хлопчыка, а гаспадаркі ніякай не мела. Болбат глядзеў на Кухарыка, Кухарык на Болбата, і абодва стаялі ў разгубленасці і нерашучасці. Гэта яшчэ болей падагрэла разгневаны жаночы натоўп.

— Чаго вушы развесілі — свіней жа яна праўда перапісвала...

— Немцам старалася дагадзіць!

— Цалуйцеся цяпер з ёю. Немцы, уцякаючы, на яе проста забылі...

Лямант узняўся яшчэ большы. Здаецца, увесь боль, пакута няпэўнасці часу, ліхалецця вайны вылілася ў адчайны жаночы крык, у нечаканы прыліў злосці, якая шукала якога-небудзь выйсця...

Ліпская нават слова не прамовіла. Стаяла маўклівая, прыбітая, са спалатнелым тварам. Нарэшце, неяк нечакана выпрамілася і, ні на кога не гледзячы, рушыла да станцыі.

Вельмі хутка, хвілін праз дзесяць, пачалі прабівацца зусім іншыя настроі ў дачыненні да Ліпскай. Пенсіянер Ёдка, які атрымаў свае два кілаграмы і ў пэўнай меры лічыў сябе пакрыўджаным (ён такі праўда паявіўся на станцыі раней за ўсіх), першы выказаў нездавальненне паводзінамі Грачаніхі.

— Ну чаго на чалавека накінуліся? — загаварыў ён, звяртаючыся позіркам то да Кухарыка, які стаў насуплены і змрочны, то да Болбата, які рабіў выгляд, што нічога не чуе.— Што табе гэтая Ліпская, ваду замуціла? Я лічу, што яна харошы чалавек. Свіней перапісвала — ну дык што? Загадаў камендант, дык і перапісвала. Табе б загадаў — рабіла б тое самае. Ды і што, хіба свінню ад цябе адабралі пасля той перапіскі? Ты лепей скажы, колькі насабірала марак, прадаючы свае картапляныя піражкі? Мабыць, поўную панчоху...

— Я на сахарыну прадавала! — нейкім вісклявым голасам выгукнула Грачаніха.

— Многа ж табе той сахарыны трэба было...

Грачаніха атрымала свой гарох і шуснула з чаргі.

Прыкусілі языкі і тыя з кабет, што толькі што адчайней за ўсіх крычалі.

А яшчэ праз некаторы час здарылася зусім нечаканае. Ужо ля акна, на якім Болбат разважваў апошні гарох, засталося не болей дзесяці чалавек, калі да чаргі падышоў Вася Чарноў, качагар вадакачкі, круглатвары, плячысты хлапчына гадоў дваццаці. На Васевай шапцы красавалася чырвоная пасачка, за плячамі была вінтоўка, а за шырокім рэменем тарчала нямецкая граната з доўгай драўлянай ручкай. Яшчэ напрадвесні знік Вася са станцыі, і ўжо тады хадзілі чуткі, што ён падаўся ў партызаны. Цяпер усе ўбачылі, што гэта сапраўды так.

— Завошта Ліпскую пакрыўдзілі? — спытаў Чарноў, звяртаючыся да Кухарыка.

— Ды вось знайшліся крыкуны... Асабліва Грачаніха гэтая... Рота не дала раскрыць...

Чарноў не стаў асабліва слухаць. Некуды спяшаўся.

— Каб у далейшым такое не паўтаралася,— нахмурыўшы бровы, сказаў ён.— Ліпская — гераічны чалавек. Спецыяльна прысланы. Франтавое заданне выконвала. Зразумела?..

— Я занясу ёй гарох дадому,— азваўся Болбат з акна.— Я адразу адважыў, але пакінуў тут, у куточку...

Асенні дзень дагараў апошнімі промнямі позняга сонца. Пачуўся аддалены, глухі гарматны выбух. Дзесьці за агародамі, у хлявах-катушках чыгуначнага люду бляялі някормленыя козы.

*1969*

# КУЛІНА З ЧАРНІГАВА

З нашай радні найвышэй усіх узнялася цётка Куліна, мажная, шыракаватая, з кольцамі і пярсцёнкамі, бадай, на кожным з дзесяці паролых рудымі валасінкамі пальцаў. Гаварылі напачатку, што выйшла яна замуж за вельмі вялікага чалавека. Зрэшты высветлілася, што вялікі чалавек рабіў бухгалтарам у Чарнігаве, праўда, не звычайным, а галоўным, ды яшчэ на заводзе, дзе выраблялі розныя віны і напіткі.

Астатняя радня — вясковая. Дзядзькі, цёткі, пляменнікі, родныя і стрыечныя бацькавы і матчыны браты і сёстры жылі або ў нашай вёсцы, або ў дзвюх суседніх — Аляксеевічах і Крышанах. Але патроху і яны выходзілі ў людзі. Малодшы бацькаў брат застаўся на звыштэрміновай службе ў кавалерыйскім палку, які стаяў у Клінцах, а самы меншы матчын, Карней, або Карнюш, як мы яго называлі, вывучыўся на шафёра і з гонарам праязджаў на сваім газагенератары праз нашу вёску.

Ад нас да Аляксеевіч — пяць вёрст, а да Крышаноў — тры. Тое, што шматлікая бацькава і матчына радня жыла паблізу, мела немалыя перавагі. Я не памятаю, калі будавалі нам хату, але з расказаў маці ведаю, што ў той дзень, калі ў лясніцтве быў нарэшце аплочан лес, з'ехалася васямнаццаць фурманак і бярвенні родзічы і сваякі вывезлі адным махам. Так што даволі прасторная, на дзве палавіны хата, калі не лічыць платы за лес, каштавала бацьку два пуды жытняй мукі, з якой нагналі самагонкі, і аднаго барана-валуха, якога зарэзалі на закуску.

Жылі мы, як і ўсе, не горш і не лепш, часам нават галаднавата. Бацька з першага года ўступіў у калгас, рабіў там конюхам, брыгадзірам, паляводам, але амаль штогод нараджаліся новыя браты і сёстры, і к таму часу, калі я пачаў сёе-тое разумець на гэтым свеце, іх было ўжо сем. Працадні ў калгасе тым часам не павялічваліся, а меншалі, так што і бульбы пачалі даваць у абрэз — большая яе палавіна ішла на нарыхтоўку, і гэта прымусіла бацьку кінуць калгас і зрабіцца адыходнікам. У мястэчку будавалі розныя склады, памяшканні, і бацька рабіў там цесляром. Зарабляў жывую капейку, адмахваючы па дзесяць вёрст туды і назад і прыносячы тры разы на тыдзень па дзве буханкі пад пахай.

Першы трактар, першы аўтамабіль, першае, яшчэ нямое, кіно, якое прывезлі ў нашу вёску,— усё гэта было на маіх вачах. Сорамна прызнавацца, але цягнік я ўбачыў, калі мне было гадоў дзесяць. Бацька ўзяў мяне з сабой у мястэчка, і я нават спалохаўся, убачыўшы гэтае жалезнае страшыдла.

Цётка Куліна прыехала да нас у госці якраз у той год, калі разбіўся самалёт «Максім Горкі», а на пабудову гэтакага ж новага ў нашай чатырохкласнай школе, што размяшчалася ў хаце крывога Амелькі, сабіралі па дзесяць капеек. Цётку разам з яе даволі стараватым, з чорным тварам, мужам прывёз на рысорнай таратайцы местачковы балагол Беня Фунт, і ўся наша вёска замерла ад захаплення. Кулінін муж насіў чорны шарсцяны касцюм, на нагах меў бліскучыя, з доўгімі наскамі туфлі, а на галаве — яшчэ нябачаны ў нашай мясцовасці капялюш колеру варонінага крыла. Пра цётку і гаварыць няма чаго. Яна ўся шасцела шаўкамі, і ад яе гэтак пахла, нібы ў сваім кулаку яна заціснула ўсе водары вакольнага поля і лесу.

Беня Фунт скардзіўся вяскоўцам, што балагольства хутка кіне, бо вельмі прыціскаюць падаткі, а Кулінін муж, шчоўкаючы сярэбраным партсігарам, трактаваў яго гарадскімі папяросамі.

Цётку Куліну частавалі як царыцу. Яна прыехала пасля Сёмухі, калі старая бульба скончылася, а новая яшчэ не вырасла. Мы самі харчаваліся ў гэты час зялёным пер'ем цыбулі ды шчаўем, але дзеля цёткі былі зняты з гарышча вэнджанае сцягенца і мяшэчак з жоўтым, ёлкім салам — апошнія багацці, што ашчаджаліся для сенакоснай і жніўнай пары. Прыехала ўся навакольная радня, і таксама не з пустымі рукамі.

Тры дні гудзеў узбуджанымі галасамі і песнямі наш панадворак. А потым былі яшчэ пярэзвы, пачастункі ў другіх — далёкіх і блізкіх — сваякоў. Ніхто не хацеў перад гарадской цёткай ударыць тварам у гразь.

Ад'язджаючы, цётка ўсіх запрашала да сябе ў госці. Беня Фунт, якога дзеля выпадку спецыяльна выклікалі з мястэчка, ледзь рукі не адарваў, грузячы ў таратайку чамаданы і кашы з яйкамі, маслам, сушанымі грыбамі.

Цётка Куліна яшчэ два разы — з дзядзькам і без дзядзькі — прыязджала ў вёску. Яе хораша прымалі, частавалі, хоць і не гэтак урачыста, як першы раз.

Нарэшце настала і наша чарга паехаць у Чарнігаў да цёткі Куліны. Вядома, не проста ў госці. Мы сталі жыць так, што было не да гасцей. Браты і сёстры падымаліся, шыбавалі ў школу, з кожным годам патрабуючы ўсё болей харчу, вопраткі, абутку. З харчам было неяк прасцей. Бульба ў хаце ўсё-такі не зводзілася. Яна някепска радзіла на лясных шэразёмах, выручаючы не адну толькі нашу сям'ю. Але бывалі і такія месяцы, што, апрача бульбы і агуркоў, мы болей нічога не елі. Як я зайздросціў тым са сваіх сяброў, чые бацькі іншы раз прыносілі з крамы, з Аляксеевіч, па кілаграму срабрыстай камсы ці рудаватых, заляжалых селядцоў! Мой бацька рэдка калі дастаўляў такія прысмакі, ашчаджаючы капейку на рэчы болей сур'ёзныя. Ды і цяжка было накарміць кілаграмам селядцоў нашу вялікую сям'ю. Іншы раз я проста ненавідзеў сваіх малодшых братоў і сясцёр за тое, што іх многа, што яны так многа жаруць.

У нашага суседа Нічыпара Куліды, які гэтак жа, як і мой бацька, рабіў у мястэчку, дзяцей было двое — сын Кірыла і дачка Надзя, і дзякуючы гэтаму Куліды жылі намнога лепей, чым мы. Кірыла прыносіў у школу то мочаны яблык, то скібку хлеба, намазаную самым сапраўдным маслам, а я не заўсёды меў нават іржаны акраец у сваёй палатнянай, пафарбаванай у чорны колер сумцы. Не панясеш жа ў школу вараную бульбу.

Так ці іначай, але мы жылі, хоць жыццё з кожным годам прымала новыя абрысы і кірункі. Лён, каноплі, жыта на сваім прысядзібным участку перасталі сеяць зусім, займаючы ўсю плошчу бульбай ды загончыкамі ячменю і проса. Наш сваяк Атрахім рабіў лесніком, і гэтае сваяцтва прыносіла сям'і пэўную карысць. Дзякуючы Атрахіму вялікую дзялянку ў лесе — вёрст за восем ад вёскі — мы патаемна ад чужога вока таксама засаджвалі бульбай.

Адным словам, жыццё выкіравала ў такую каляіну, што кросны ў нашай хаце паступова зусім звяліся. Яшчэ на маёй памяці маці іх засноўвала на дванаццаць губак, абмотваючы нітамі ўсе сцены, грукаючы набіліцамі і бёрдамі праз усю зіму.

Я любіў той час, калі маці бяліла палотны. Іх рассцілалі на росным лузе ці на атаве, і па доўгай палатнянай дарожцы можна было бегчы ва ўвесь дух, не баючыся пракалоць аб іржэўнік ногі.

З гэтага палатна восенню і зімой маці шыла нам кашулі і штаны.

Але лён на працадні не давалі, і палотнаў не стала. Трэба было дбаць пра крамнае. Вось чаму ў такім прывабным выглядзе вынік перад нашай сям'ёй вобраз цёткі Куліны, якая па-ранейшаму жыла ў Чарнігаве, хоць да нас ужо даўнавата не прыязджала. У школу хадзілі два хлопцы і дзве дзяўчаці, і колькі ім трэба было чаравікаў, штаноў, сукенак. Дзеля гэтага бацька і ашчаджаў грошы. На местачковыя магазіны, у якіх сяды-тады выкідвалі міткаль і корт, разлічваць не прыходзілася: там у такія дні стаялі страшэнныя чэргі.

Можа, цэлы год ішло абмеркаванне паездкі да цёткі Куліны. Маці назбірала трохі масла, насыпала ў мяшэчкі сушаных грыбоў, ягад, гарбузікаў.

Гэта былі бясплатныя дары для цёткі, бо на крам і вопратку мы хацелі пазычыць у яе грошай. Грошай, нягледзячы на бацькаву ашчаднасць, у нас назбіралася вельмі мала. І палавіну з іх трэба было аддаць на білеты, то бацька наважыў узяць у Чарнігаў і мяне. Задача была ў тым, каб пазычыць сот шэсць у цёткі Куліны і накупляць за іх краму, вопраткі і чаравікаў.

У апошнія дні перад выездам бацька раптам захістаўся. Куліна даводзілася раднёй па маці, і на гэтым грунце ў сям'і вынікла жорсткая сварка.

— Не веру, што яна пазычыць грошай! — крычаў бацька.— Тры разы прыязджала, столькі дабра ёй напхнулі, дык хоць бы пасылачку ў адказ... Жыве ж бяздзетная. Лёду ў яе зімой не дастанеш...

Маці згаджалася і не згаджалася. Не магла яна паверыць, каб цётка Куліна, родная кроў і сямейная гордасць, не памагла нам у цяжкую часіну. Бацька, аднак, глядзеў на жыццё болей цвяроза. З Аляксеевіч у Чарнігаве таксама жыў чалавек, які нам ніякай раднёй не даводзіўся, але з якім бацька разам хадзіў на прызыў. У той жа вечар бацька адскочыў у Аляксеевічы і ўзяў адрас Макара Крываножкі — так звалі яго знаёмага.

І вось мы паехалі. Божа мой, колькі ўражанняў, перажыванняў, незабыўных успамінаў дала мне гэтая паездка! І сёння, калі прамінула з таго далёкага часу столькі гадоў, да дробязей я памятаю, як бралі мы ў чыгуначнай касе білет, як садзіліся ў вагон, як ехаў разам з намі ў купэ стары, маршчыністы гарманіст з

драўлянай нагой, які ўсю дарогу іграў на абшарпаным гармоніку вальс «На сопках Маньчжурыі», як праносіліся міма акон вагона тэлеграфныя слупы, раз’езды, такія ж, як і ў нас, беразнякі і хвойнікі. Я ў дарозе нават крыху расчараваўся: у вагоне і на станцыях мітусіліся такія ж самыя, як і ў нашай вёсцы, людзі, і нічога незвычайнага я не ўбачыў у іхніх паставах, вопратцы, абліччах.

Чарнігаў адкрыўся белакаменнымі высокімі гмахамі, бясконцымі садамі і паркамі, што стаялі ў першай асенняй пазалоце. Грук, жалезны ляскат, гудкі аўтамабіляў мяне адразу аглушылі. Мы прыехалі раніцай, маглі б адразу падацца да цёткі Куліны, але бацька разумеў, відаць, што азначае для мяне першы мой прыезд у горад. Ён хацеў, каб горад мне спадабаўся. Таму, хоць грошай у нас было і мала, бацька завёў мяне ў сталовую, заказаў сабе і мне па баршчу і катлеце, купіў аж тры бутэлькі сітра.

Бацька як у ваду глядзеў: цётка Куліна сустрэла нас так, што горш не прыдумаеш. Як толькі мы са сваім няўклюдным драўляным чамаданам пераступілі парог яе пафарбаванага ў жоўты колер, пад жалезным дахам дома, свет для нас пачарнеў. Мала сказаць, што цётка прыняла нас негасцінна. Яна, не таячыся, глядзела на нас, як на ворагаў: падціснула губы, надзьмулася і, пасадзіўшы на табурэтках у зашклёнай верандзе, нават не спытаўшы пра здароўе маці і іншых нашых сваякоў, злосна грукала пасудай на кухні.

Бацька разгубіўся, як дзіця. Пабялеў з твару, слова не мог вымавіць.

Нарэшце, штосьці прамармытаўшы, выскачыў за дзверы. Я астаўся адзін.

Праз гадзіну цётка стала трохі ласкавейшай. Дала мне кубак кампоту і дазволіла пагуляць па садзе. Сад быў такі ж вялікі, як і дом з белымі аканіцамі, на дрэвах яшчэ віселі антонаўкі і вялізныя грушы, якіх у сваёй вёсцы я ніколі не бачыў. Але мне было не да яблыкаў і не да любавання прыгожым цётчыным домам, у якім было, можа, дзесяць пакояў. Мяне душылі слёзы. Першы раз у жыцці бачыў я горкую няўдзячнасць. Мы гэтак шчыра сустракалі цётку Куліну, гэтак хацелі ёй дагадзіць. То чаму ж так хутка яна ўсё забыла? Чым мы перад ёй гэтак правініліся?.. Адказу на гэтыя пытанні, якія ўзнікалі самі сабой, не было.

Да вечара цётка апомнілася. Прыйшоў са службы яе чарнаваты дзядзька, яны аб нечым пашапталіся, і да таго часу, калі вярнуўся бацька, стол на кухні быў засланы белым абрусам, на ім паявіліся сякія-такія закускі і выпіўка. Бацька быў, аднак, неразгаворлівы, піў і еў мала.

Спаць нам паслалі ў нейкім цёмным пакоі: бацьку на скрыпучым драўляным ложку, мне — на канапцы. Пра пазыку бацька нават не заікнуўся.

Назаўтра мы ўсталі досвіткам, калі цётка з дзядзькам яшчэ храплі на сваіх пухавіках. Нават не памыўшыся, выйшлі на двор, затым — на вуліцу.

— Не нудзіся, сын,— нейкім незнаёмым голасам сказаў бацька.— Яшчэ не перавяліся на свеце добрыя людзі. Макар Крываножка абяцаў выручыць. Сам пазычыць грошы і нам дасць...

Мы занялі з бацькам чаргу ля магазіна наўсцяж засаджанай дрэвамі вуліцы і гадзіны праз тры, калі горад загаманіў і загрукаў ва ўсю моц, дасталі на дваіх дзесяць метраў прыгожага, у белую крапінку міткалю і яшчэ дзесяць — моцнага чорнага корту на штаны.

У другі раз бацька стаў у чаргу адзін — грошай на дваіх усё адно не хапала.

У поўдзень, несучы пад пахамі ёмістыя пакункі, мы рушылі да цёткі Куліны. Бацька ішоў вясёлы,— трыццаць метраў міткалю і корту — не жарты. Каб яшчэ купіць пары тры чаравікаў ды хоць дзве ватоўкі, то можна смела ехаць дадому.

Але нас падпільноўвала нечаканасць: цётчын дом быў замкнуты. Мы прасядзелі доўга — гадзіны дзве, але ніхто не з’яўляўся. У бацькавых руках раптам апынуўся сагнуты цвік, ён ім шварганууў пару раз у шчыліне замка, і дзверы расчыніліся. Бацька выставіў на стол слоікі з маслам, мяшэчкі з грыбамі і ягадамі. Усміхнуўшыся, дастаў з кішэні кашалёк і палажыў на стол скамечаную дзясятку.

— Няхай спажываюць, нэпманы праклятыя...

Тым жа самым сагнутым цвіком бацька замкнуў дзверы, і мы пайшлі начаваць да Макара Крываножкі.

*1969*

# МЕСЯЧНАЯ НОЧ

Гэта было дзіўна, але гэта было так: праз тры дні пасля вызвалення мястэчка ад немцаў на нашай невялікай станцыі спыніўся першы эшалон. Пры адступленні спецыяльныя нямецкія каманды рвалі і шкуматалі чыгунку як маглі — пусцілі ў паветра ўсе масткі, нялюдскім прыстасаваннем, прычэпленым ззаду поезда, рэзалі напалам шпалы, крамсалі рэйкі. Таму цяжка было паверыць, што ўшчэнт знявечаную чыгунку магчыма за такі кароткі тэрмін аднавіць.

Але яе аднавілі. Жывым пацвярджэннем гэтаму быў не толькі эшалон, састаўлены з цяплушак, кожная з якіх пускала ў чыстае асенняе паветра шызыя слупкі дыму, але і нямецкія самалёты, што ў той жа дзень наляцелі на станцыю. Увогуле, нашай беднай станцыі за вайну дасталося. Бамбілі яе немцы ў сорак першым годзе, бамбілі нашы ў сорак трэцім, а цяпер вось зноў немцы. Фронт спыніўся за якіх-небудзь дзесяць вёрст ад мястэчка, і бамбёжка, відаць, мусіла стаць справай штодзённай.

Я ў тыя дні жыў у незвычайным узбуджэнні. Мястэчка стала нашым, па яго вуліцах хадзілі самыя сапраўдныя савецкія салдаты з медалямі на гімнасцёрках, з непрывычнымі пагонамі на шынялях, але ўсё адно тое, што адбылося, успрымалася як сон. Яшчэ тыдзень назад зводкі, якія штовечар запісваліся з голасу дыктара ля партызанскага прыёмніка ў пяць рук, паведамлялі пра баі на Дняпры, пра вызваленне Кіева, а тут нечаканы рывок — і немцы прыціснуты да Прыпяці.

Дывізія, якая выгнала немцаў з мястэчка, прыйшла аж з далёкіх прыволжскіх стэпаў. Пра яе нялёгкі шлях сведчыла самае разнастайнае цягло, запрэжанае ў вайсковыя фурманкі: нябачаныя ў нашай мясцовасці маленькія конікі, рагатыя ўкраінскія валы і нават вярблюд, які, здаецца, звысака і пагардліва пазіраў на шэрыя палескія хаты.

Партызаны пайшлі на фронт, адразу папоўніўшы вайсковыя часці. Але маладзейшыя, каму толькі споўнілася па васямнаццаць гадоў, мусілі прызывацца праз ваенкамат.

У адзін з тых дзён мяне і маіх сяброў-местачкоўцаў Івана Пятрушку і Васіля Рабчыка выклікаў да сябе камісар партызанскай брыгады Грэк, які цяпер ужо быў сакратарам райкама.

— Пойдзеце, хлопцы, на станцыю і выступіце перад калектывам ваенізавана-чыгуначнага атрада,— сказаў ён.— Настойліва прасілі. Гераічныя дзяўчаты ў тым атрадзе. Гэта яны нам чыгунку аднавілі. Раскажыце ім, адным словам, пра нашы справы...

Перад вайной я скончыў дзевяць класаў, і, калі не лічыць адказаў на ўроку, мне ніколі ні перад кім не прыходзілася выступаць. Было трохі ніякавата і страшнавата. Але, з другога боку, страшэнна вабілі да сябе людзі, якія гэтыя два з лішкам гады вайны былі па той бок фронту, не ведалі немцаў, не жылі, як мы, без газет і радыё. Вельмі хацелася дазнацца, як адчувалі сябе яны ўсе гэтыя цяжкія месяцы, што і як думалі. Я ўжо, колькі мог, прыставаў з роспытамі да байцоў і камандзіраў, што стаялі ў нашай хаце і ў хатах маіх сяброў, але цікаўнасць была далёка не задаволена.

І вось мы ўтрох пайшлі на станцыю. Быў лістападаўскі вечар. Восень да апошняга часу стаяла на дзіва цёплая, і толькі з учарашняга дня ўзяло на прымаразак, зямля стала грудам. Эшалон пасля бамбёжкі загналі на тупіковыя пуці, пад цень шэрых складскіх памяшканняў.

Мы прайшлі ўздоўж цяплушак, вярнуліся назад і пастукалі ў дзверы самага доўгага вагона, праз шчыліны акон якога прабіваліся палоскі святла. А яшчэ праз хвіліну мы сядзелі ў самім вагоне, паблізу ад разагрэтай дачырвана жалезнай печачкі, на якой дыхалі парай кацялкі і чайнікі. З нараў, пастаўленых у вагоне ў два ярусы і блякла асветленых святлом некалькіх каганцоў, на нас пазіралі два ці тры дзясяткі цікаўных дзявочых вачэй. Апрануты дзяўчаты хто ў што: звычайныя кофтачкі суседнічаюць з вайсковымі, але без пагонаў, гімнасцёркамі, ватныя штаны — са звычайнымі картовымі спаднічкамі.

Першы пачаў гаварыць я. У вагоне панаваў паўзмрок, і, можа, таму я не надта хваляваўся. Не мудрагелячы, расказаў, як мы з хлопцамі яшчэ ў першыя месяцы акупацыі наладжвалі радыёпрыёмнік, як збіралі зброю, наладжвалі сувязі з партызанамі, як дваіх нашых яшчэ ў сорак другім годзе фашысты арыштавалі і расстралялі, як па заданню парашутыстаў-дэсантнікаў на гэтай самай станцыі мы лічылі нямецкія эшалоны, як, нарэшце, пайшлі ў партызаны і што там рабілі.

Увесь той час, пакуль я расказваў, у вагоне стаяла мёртвая цішыня. Дзяўчаты, якія пад нямецкімі бамбёжкамі праклалі, можа, сотні кіламетраў рэек і шпал, глядзелі на нас, звычайных местачковых хлопцаў, як на герояў.

Потым пасыпаліся пытанні. На іх прыйшлося адказваць і мне, і маім сябрам. Мы гаварылі, гаварылі і ніяк не маглі нагаварыцца. А далей — зусім неверагоднае. Нас, у каго ў мястэчку ўсё-такі былі хаты, маткі, бульба, гэтыя дзяўчаты, якія па году ці два не бачылі родных і блізкіх, пачалі частаваць гарохавым супам, салодкім, з сапраўдным цукрам, чаем, сухарамі...

Выйшлі з вагона апоўначы. Ва ўсё неба над станцыяй вісеў круглы шар месяца-поўні. На захадзе некалькі разоў грымнула: азвалася нямецкая, а затым наша гармата. Купка дзяўчат рушыла нас праводзіць. Спачатку вандравалі па рэйках гуртам, а потым неяк зусім непрыкметна разбіліся на пары.

Я апынуўся разам са сваёй равесніцай масквічкай Галяй, падзявочаму стройнай нават у ватоўцы, у зімовай салдацкай шапцы, з-пад якой выбіваліся русыя завіткі валасоў, глядзеў прыгожы, прадаўгаваты твар і задуменныя, здаецца, шэрыя вочы.

Я заўсёды любіў сваю станцыю, любіў разложыстыя стагадовыя таполі, якія яе ахінаюць, а тут яшчэ дзіўная месячная ноч і гэтая масквічка, якая скончыла не дзевяць, а дзесяць класаў, вучылася паўгода ва ўніверсітэце, але ставіцца да мяне як да роўнага. Хіба ж магла быць лепшая ўзнагарода за два гады няпэўнасці, згрызот, надзей і чаканняў, якія выпалі на пару майго яшчэ зусім не сталага юнацтва.

Я гаварыў пра кнігі, пра тое, што пасля вайны абавязкова паступлю на літаратурны факультэт, дзе вучылася і Галя, дэкламаваў вершы — усё, што ведаў, з Пушкіна, з Блока, з Янкі Купалы і Максіма Багдановіча.

— Ты пойдзеш на фронт? — нечакана для мяне спытала студэнтка. У яе нізкаватым, грудным голасе пачулася як бы трывога.

— Гэтымі днямі нас прызавуць.

— У цябе ёсць дзяўчына? Ну, якая будзе цябе чакаць...

— Няма.

— Хочаш, будзем перапісвацца. У мяне быў друг. Студэнт. Вельмі падобны да цябе. Зусім, зусім такі, як ты. Восенню

сорак другога загінуў. Ужо цэлы год няма. Я не хачу, каб ты загінуў. Чуеш? Не хачу!..

Яна на імгненне абхапіла мой твар рукамі, ушчыльную прыблізіла да свайго. Я ўбачыў прыгожыя, як бы спалоханыя вочы, адчуў дотык пасмачкі валасоў, гарачыню яе шчакі...

Мяне прызвалі праз тры дні. Я, вядома, мог за гэтыя дні наведацца да эшалона, выклікаць з цяплушкі сваю студэнтку, запісаць на ўсякі выпадак яе маскоўскі адрас. Але цяпер ужо саромеўся ўласнага нехлямяжага выгляду, разлезлых чаравікаў, перашытага з нямецкага шыняля лапсердака. Мог напісаць адразу з запаснога палка. Але хацелася — з фронту. А потым пісаў, пісаў да самага канца вайны і не атрымліваў адказу. На нейкай з бясконцых прыфрантавых чыгунак загубіўся эшалон чыгуначнага атрада, у якім служыла студэнтка Галя, адзіная з дзяўчат, што сказала мне такія дарагія і такія патрэбныя для вайны словы.

*1969*

## НОЧ У ЛІТОЎСКІМ ГАРАДКУ

Калі на свеце бура, калі лютуюць шалёныя ветравеі, мы марым аб цішыні і спакоі, і, наадварот, калі надоўга ўсталюецца звыклая, застойная цішыня, нам хочацца буры...

Стралковы полк выгрузілі на невялікай станцыі, назвы якой ніхто не ведаў. У цемені вызначалася некалькі прысадзістых будынін, атуленых голымі чорнымі дрэвамі. Апошнія два месяцы полк правёў на колах ды на нагах. Пасля Карэльскага перашыйка яго перакінулі ў эстонскія сасьнякі, што растуць на сыпучых пясках і дзюнах, затым пад беларускі горад Ваўкавыск. Адтуль маршам — да крэпасці Астраленка. Але пад Астраленкай тым часам заціхла.

Людзі свядомыя сцвярджаюць, што дывізія апынулася ў рэзерве Галоўнага камандавання, і таму пасля Карэльскага перашыйка ёй проста шукаюць гарачага месца. Відаць, планы камандавання таксама мяняюцца, калі дывізію ганяюць, як футбольны мяч. Магчыма, мяняецца абстаноўка. Зрэшты, ніхто нічога дакладна не ведае. Можа, нават сам камдыў...

Але станцыя, на якой выгрузіліся цяпер, літоўская, а наперадзе Усходняя Прусія. Дывізіі, мабыць, месца знайшлі...

Адразу пасля выгрузкі — марш. Узвод пешай разведкі, як і заўсёды, у галаве калоны. Шоргаюць боты па вышчарбленым бруку шашы, ціха пазвякваюць у рэчавых мяшках запасныя аўтаматныя дыскі. Віктар Бурачок, які за год вайны здабыў сяржанцкія лычкі, ідзе побач з памкамузвода Смірновым. За апошнія месяцы, праведзеныя ў суцэльных пераездах, маршах, яны здружыліся.

Ноч. Доўгая, асенняя. У твар час ад часу падзімае прыемнай прахалодай. Узбоч шашы бясконцая чарада дрэў. Пад імі парудзелая, мяккая трава, на якую, пасля таго як аб'явяць дзесяціхвілінны прывал, усе пападаюць і імгненна заснуць. Бурачок мерна крочыць, маўчыць і думае аб тым, што такія вось доўгія маршы выпрацоўваюць у чалавека дзіўныя адносіны да жыцця. Ніякіх высокіх парыванняў, а толькі цяга да самага звычайнага. Пад'есці, паспаць. Добра абматаць нагу парцянкай, каб не муляла. Звярцець цыгарку і закурыць. Дом, мірнае жыццё засталіся за недасяжным парогам. Яны так далёка адышліся ад рэальнасці, што і не ўспамінаюцца.

У часе доўгіх пераходаў салдаты маўчаць. Нікому не хочацца гаварыць. Блісне аганёк цыгаркі, пачуецца адрывістае слова каманды. І зноў толькі мернае шорганне ног...

Ідуць ужо болей як дзве гадзіны, а прывалу няма. Можа, блізка тое месца, дзе яны нарэшце спыняцца, і начальства спецыяльна не дае каманды на адпачынак?

— Гадзіна ночы,— напаўголасу гаворыць Смірноў.— Тэпаць нам і тэпаць...

У Смірнова гадзіннік, на якім свеціцца цыферблат. Трафейны, нямецкі. Добра ўсё-такі мець гадзіннік. У любое імгненне можна паглядзець і ведаць, колькі часу. Праўда, гадзіннік нібыта не самай высокай якасці. Замест камняў у ім цыліндры. Але Віктар не ведае, чым цыліндры горшыя за камні, бо з выгляду гадзіннік прыгожы. Блісчасты, нікеляваны.

Каржакаваты, шыракатвары Смірноў спакойна крочыць побач. На вайне ён тры гады, перанёс ленінградскую блакаду. Два разы быў паранены. Апошні раз — на Карэльскім перашыйку. Бурачок ляжаў з ім у медсанбаце, але потым Смірнова вывезлі ў тылавы шпіталь. Віктар ужо думаў, што болей не пабачыцца з

ім, але праз два месяцы памкамузвода пешай разведкі шчасліва вярнуўся ў полк. Абмінуў шматлікія рагаткі і перашкоды.

Наперадзе бліснулі і імгненна згаслі нейкія аганькі. Бурачок, як і ўсе астатнія, падумаў, што наперадзе паселішча, а магчыма, і канечны пункт іхняга маршу. Цвярдзей зашоргалі боты, чаравікі па каменні шашы. Але добры настрой гэтак жа хутка апаў, як і падняўся. Проста на шашы стаяла вайсковая машына з накрытым брызентам кузавам, у маторы якой корпаўся шафёр.

Абмінаючы машыну, калона прайшла ўзбочынай, некаторыя сіганулі нават у кювет. Цёмнае, без зорак і месяца, вісіць неба. Вецер трохі ўзмацніўся, ён прылятае збоку, з поля, прыносячы церпкія пахі прывялых траў, гнілога бульбяніку і мокрай асенняй зямлі. Вочы ўжо прызвычаіліся да цемені, і можна сёе-тое разабраць. Наперадзе ледзь-ледзь бялее палоска неба. Да слыху даняслося далёкае, ледзь чутнае кукарэканне пеўня. У другім месцы забрахалі сабакі. Узбоч размешчаны нейкія паселішчы. Але яны вельмі дробныя, і вёскамі іх не назавеш. Прамільгнуць адна-дзве цёмныя будыніны, вакол іх такія ж цёмныя прысады, і далей зноў голы, пусты прасцяг. Відаць, хутары, думае Бурачок. Недзе ён чуў, што ў Літве няма вёсак у звычайным сэнсе, а толькі такія вось хаты і адрыны, раскіданыя па палявым прасторы.

Хочацца есці. НЗ выдалі на двое сутак, але роўна два дні і ноч яны ехалі або падоўгу стаялі на станцыях. У дарозе было звычайна катлавое забеспячэнне — суп, каша, чай, але можна лічыць, што НЗ паляцеў. У Віктара засталося тры сухары і невялікі шкуматок шпігу. У Смірнова запас болей трывалы. Ён не такі падкі да яды, як Віктар.

— Па сухарыку,— гаворыць Бурачок.

— Можна,— згаджаецца Смірноў.

Віктар з найвялікшай асалодай угрызаецца маладымі зубамі ў крыху ўвільготнены, саланаваты з кіслінкай сухар. За год вайсковага жыцця ён не зведаў стравы болей смачнай, чым звычайны, аржаны, спецыяльна высушаны хлеб. На вайне не так многа радасцей, і найвялікшая з іх — пад'есці, Сухар, у адрозненне ад супу, кашы, дае магчымасць расцягнуць гэтую радасць як мага даўжэй, ён мае ў сабе ўсе смакавыя адценні. Ён пахне дымам, жытам, ільняным мяшком, у якім

яго прывязлі. Маючы сухары і ваду, можна пражыць без усяго астатняга, што ўваходзіць у звычайны салдацкі рацыён.

Каля хутара зноў забрахалі сабакі і кукарэкнуў певень.

У Віктара слабасць да сухароў. Калі яны ёсць у рэчавым мяшку, то ён іх паціхеньку выцягвае і жуе, свядома заглушаючы ўсе дакоры сумлення. Па гэтай прычыне яму ні разу не ўдалося захаваць на патрэбны тэрмін недатыкальны запас.

— Тры гадзіны,— паведамляе Смірноў.— Начальства штосьці задумала...

Амаль пяць гадзін яны ідуць без прывалу. Віктар ведае гэтае пачуццё — ногі паступова робяцца як бы не свае, мяккія, гумавыя. Балець яны будуць потым, а цяпер іх трэба, ні аб чым не думаючы, проста перастаўляць. У гэтым уся задача. Ісці і ісці. Трывалы той, хто ўмее забыцца, прыцярпецца і мераць доўгія вёрсты.

Віктар, калі вучыўся ў школе, не надта захапляўся фізкультурай. На турніку падцягваўся толькі шэсць разоў, ды і то прыбягаючы да маленькай хітрасці — браўся рукамі за жалезную трубу навыварат, ад сябе. Не вызначаўся ў кіданні гранаты і ў іншых практыкаваннях. Але доўгія пяхотныя маршы ён, можна сказаць, пераносіць лёгка. Лягчэй нават за некаторых з тых, хто на вайне па два і па тры гады. Ва ўсякім выпадку, ён ні разу не адстаў і не было такога, каб яго вязлі на фурманцы.

Можа, таму ён някепска ходзіць, думае Віктар, што з дзяцінства любіў грыбы. Набраць грыбоў у іхнім лесе, не надта багатым грыбовішчамі, азначала штодня прабегчы вёрст дваццаць ці нават болей. У лес ён пачаў шыбаваць гадоў з дзесяці. Вось табе і загартоўка...

— Закурым,— гаворыць Смірноў.

Махоркі ў Віктара няма — дні чатыры не выдавалі. Памкамузвода, не перапыняючы кроку, адрывае прамавугольнічак паперы, насыпае табакі, згортвае цыгарку, і Віктару застаецца толькі наслініць яе і прыпаліць. Сам Смірноў цыгарак не курыць — робіць казіныя ножкі. Казіная ножка — асаблівы шык і вызначае пераважна тых, хто служыць ва ўзводзе першай разведкі.

Першыя ж зацяжкі адразу ап’яняюць. Кружыцца галава, пруцянеюць ногі, але так толькі ў першую хвіліну. Яшчэ праз

імгненне свет мяняецца, і жыць на ім намнога весялей. Невядома, як бы салдат ваяваў, як бы мераў непаслухмянымі нагамі доўгія вёрсты, каб не было махоркі.

Калона між тым даўно паламалася. Няма рытмічнага шоргання ног, мернага кроку, які напружвае і дысцыплінуе. Ідуць як хто можа. Віктар са Смірновым былі ў галаве, у трэцім радзе, а цяпер неяк непрыкметна адсталі. Крочаць побач з невядомымі людзьмі, ззаду ляскоча ротная фурманка...

— Пяць гадзін, хутка світаць пачне,— паведамляе Смірноў.— Няўжо з ходу — на фронт?

Але фронтам як быццам не пахне. Каб быў фронт, наперадзе грымела б, свяцілі б водбліскі пажараў, дарога была б запруджана абозамі і калонамі. А так цішыня і амаль бязлюдная шаша. Хутчэй за ўсё — доўгі пераход. Як было пад Астраленкай ці пад Ржэвам, калі ішлі на фарміроўку. Начальства ведае, што ноччу салдат болей пройдзе, чым днём...

Страшэнна хочацца спаць. Наступае той стан напаўтрызнення, калі чалавек прысутнічае ў рэальнасці і адначасова адсутнічае. Можна, аказваецца, спаць і на хаду. Ногі перастаўляюцца самі, цела напружана, а вочы закрытыя. Колькі ідзе такім манерам, Віктар не ведае. Нарэшце як з-пад зямлі каманда:

— Пры-ва-ал!..

Пачынала світаць. На бліжнім шэрым хутары брахаў сабака. Смірнова побач не было. Непаслухмянымі нагамі Віктар перабраўся цераз кювет, упаў на мяккую, вільготную траву і, нават не выбіраючы позы, не акрыўшыся плашч-палаткай, імгненна заснуў...

Гадзіна сну праляцела зусім непрыкметна. Было такое адчуванне, што ён, Віктар, толькі што прылёг і вось зараз жа падхапіўся, узняты шматгалосай, зычнай камандай: «Пад’-ё-ом!» Быў асенні шэры дзень, цемнаватыя купкі хутароў разбегліся па ўсім бачным даляглядзе. Удалечыні, як бы ахутаныя дымам, сінелі палоскі лясоў, яркімі, зялёнымі лапінамі на шэрані зямлі выдзяляліся лугавіны.

Быў усё-такі дзень, і на душы стала весялей. Вайны і цяпер не чуваць было, ды і гадзіна сну не прапала марна: ногі ступалі прутчэй па шэрым, крыху вільготным каменні шашы, хоць яшчэ і адчувалася ў іх моцная начная стома. Калона з

першай хвіліны строю і кроку не захоўвала, і Віктар рушыў у галаву яе, каб далучыцца да ўзвода.

Смірноў ідзе ў адным радзе з Філімонавым і Маскоўскім, гэтыя абодва голасна размаўляюць, смяюцца, як бы і не было ноччу суцэльнага маршу. Маскоўскі, магчыма, трошкі пад’ехаў на фурманцы. Ён неафіцыйны ад’ютант пэўнша другога, афіцэра разведкі Канатнікава, і дбайна сочыць, каб не прапаў вялікі скураны чамадан капітана і скрынка са стэрэатрубамі, біноклямі, якія належаць узводу пешай разведкі.

Разведчыкі ўвогуле вызначаюцца ў палку. Сяржанты, яфрэйтары і радавыя маюць чубы. І хоць гэта па статуту не паложана, начальства маўкліва закрывае вочы. Ды і апрануты, абуты яны лепш: ва ўсіх добра падагнаныя шынялі, боты, плямістыя нямецкія плашч-палаткі. Становішча абавязвае — разведчыкі мусяць не стамляцца і крочыць першымі, у галаве калоны.

Да першага прывалу дайшлі бадзёра. Калі прыляглі на траву, чырванашчокі рухавы Філімонаў, гучна рагатнуўшы, дастаў з рэчавага мяшка ладны кавалак бараніны, спрытна арудуючы бліскучастай, з чорнай тронкай фінкай, стаў дзяліць мяса. Зрэшты, гэта было выдатна. Неўміручы дух прадпрымальніцтва не згасаў ва ўзводзе пешай разведкі. Барана патаемна рэквізавалі ў лясной вёсцы пад Астраленкай, быў сігнал начальству і было следства, але, не міргнуўшы вокам, Філімонаў і іншыя давялі, што рукі іхнія чыстыя. Віктар сам думаў, што барана дзе-небудзь кінулі.

Мяса пахла дымам і смалой — відаць, смажылі на кастры. Але можна было лічыць, што снеданне надзейнае.

Зноў шаша і зноў аднастайны, расхлябаны крок. Віктар любіць хлопцаў са свайго ўзвода. Усе яны трошкі хвалькі, пыл любяць пусціць у вочы і як бы загадзя надзелі на сябе маскі страшэнных зухаў, якім мора па калена. А на справе ўсё прасцей. Сама служба як бы прывучыла да авантурызму, бо без хітрасці не абыдзешся пры самай звычайнай вылазцы на перадавую. Таму, бывае, цяжка стрымацца і тады, калі ўжо ніякай перадавой няма. За цюк бязі, украдзены з чужога эшалона, калі ехалі з-пад Выбарга ў Тарту, двое разведчыкаў пайшлі пад трыбунал. Добра, калі далі ім штрафную...

І ў той жа час няма хлопцаў, чым гэтыя са ўзвода пешай разведкі, якія б лепш разумелі дружбу, таварыства, локаць су-

седа. Як і ўсе, хто цяпер на вайне, чакаюць лістоў з дому, ад матак і знаёмых дзяўчат. І хоць канца вайне не відаць, запрашаюць адзін другога ў госці. У сваю вёску ці горад...

Да паўдня калона расцягнулася, можа, на цэлую вярсту. Узводы, роты зноў змяшаліся, і нельга было нічога зрабіць, бо людзі стаміліся ўшчэнт.

Ужо надвячоркам, калі стаў церусіць дробны дождж, Віктар ледзь не трапіў у бяду. Ён зноў адстаў, крочыў недзе ў сярэдзіне доўгага людскога ланцуга. Шаша рабіла буйны выгіб, і галаву калоны Віктар бачыў напрасткі, праз лугавіну. Яму захацелася дагнаць узвод. Некалькі байцоў рушыла на гэтую лугавіну, і Віктар — за імі. На хвіліны дзве ці тры яны трапілі ў цэнтр усеагульнай увагі. Ланцуг на шашы замёр, з усіх канцоў даносіліся трывожныя галасы і воклічы. Байцы, як і Віктар, не заўважылі, што лугавіна амаль усюды абнесена дротам і на ёй стаяць папераджальныя тычкі. Яны трапілі на міннае поле. Асцярожна, ступаючы след у след, усе шчасліва вярнуліся на шашу.

Чамусьці ў тыя хвіліны, калі Віктар выбіраўся з міннага поля, яму ўспомніўся жаночы манастыр пад Ваўкавыскам. Ён сам не хадзіў туды і нават не бачыў манастыра, але другія хадзілі. Філімонаў пахваляўся, што вельмі горача абнімала яго там і цалавала маладая чарнявая манашка...

Пасля сваёй прыгоды Віктар напаткаў знаёмага малодшага лейтэнанта з аддзела шыфравальнай службы і пайшоў побач з ім. Лейтэнант, як і Віктар, скончыў дзесяцігодку, пасля — нейкія курсы. Наконт сваёй службы ён ніколі нават словам не абмовіўся, але аб прачытаных кнігах яны іншы раз размаўлялі.

Калі сцямнела, да слыху пачалі даносіцца далёкія, глухія выбухі. Наперадзе быў фронт, Усходняя Прусія. Віктар разам з малодшым лейтэнантам падбіліся фурманкі, узяліся рукамі за вяроўку, якой былі абкручаны нейкія нагружаныя на яе цюкі. Віктар адразу заснуў. Ён так і ішоў: засынаў, на хвіліну трывожна прачынаўся і зноў апускаўся ў спакой забыцця...

Прачнуўся ён канчаткова, калі фурманка спынілася. Яны былі ў нейкім гарадку, з абодвух бакоў нешырокай вуліцы

стаялі прысадзістыя дамкі з зацемненымі вокнамі. Выбухі наперадзе былі досыць выразныя, час ад часу край неба за горадком паласавалі светлыя ўспышкі. Байцы гучна перамаўляліся, звінелі кацялкамі.

— Сто вёрст адмахалі,— чуўся нечы злосны голас.— Але, здаецца, прыйшлі да цешчы на бліны. Ужо блізка...

Віктар убачыў, што з-за адной, не вельмі шчыльна прычыненай аканіцы, выбіваецца палоска святла. Ён падышоў да акна і прыклаўся вокам да шчыліны. У пакоі сядзелі тры распранутыя вайскоўцы, было чыста, утульна. Ля сцяны стаяла піяніна, і на ім, лёгка ўзмахваючы далонямі, іграла дзяўчына з зусім белымі валасамі. Віктар нават чуў гукі музыкі. Відовішча было як казка, бо нельга было паверыць, што магчыма вось такое жыццё, можна вось гэтак сядзець у цёплым пакоі, глядзець на белую дзяўчыну, слухаць музыку...

*1969*

## СУКЕНКА ЛАРЭЛЕІ

### I

У вестыбюлі пад высокай, нібы ў акадэмічнай зале, столлю — шараваты паўзмрок, цішыня, якую парушае толькі мернае таканне старамоднага гадзінніка ў вялікай драўлянай каробцы. Гадзіннік вісіць на парудзелай, даўно не беленай сцяне над галавой бабулькі-вахцёршы. У вячэрнія гадзіны ў вестыбюлі заўсёды ціха: лабараторыі зачыняюцца і толькі на другім паверсе займаюцца студэнты-вячэрнікі.

Рыта спускалася па шырокіх прыступках крутой лесвіцы, і ўласныя крокі гулка аддаваліся ёй у вушах. Яна ведала, што Вігдароўскі яе чакае. Стаіць на ганку, падняўшы капюшон гумавага плашча, ці прахаджваецца перад уваходам па пасыпанай жарствой алейцы.

Палохае і вабіць настойлівая зацятасць гэтага зусім не маладога чалавека, з якой ён дамагаецца сустрэч, прыязджаючы з няблізкага горада, выстойвае, нібы школьнік, у скверы каля інстытуцкага корпуса, і, калі б яна нават хацела, ад яго нельга схавацца.

Рыта сказала «дабранач» вахцёршы і выйшла на ганак. На двары імжа, слата, і хоць не позна — палова дзясятай — ўражанне такое, што глыбокая ноч. За скверам, на праспекце, бляклы ланцуг агнёў, прыглушаны гул тралейбусаў, шасценне таксі, а тут цішыня і чорныя, мокрыя галіны дрэў.

Калі Рыта спусцілася з ганка і пайшла па алейцы, Вігдароўскі вынырнуў са змроку і ўзяў яе пад руку.

— Добры вечар,— сказаў ён са стрыманым узбуджэннем у голасе.— Я думаў, цябе няма...

— Я зноў скараціла лекцыю. Чым гэта скончыцца?

— Не кажы так. Ты мяне крыўдзіш...

Яны мінулі скверык і выйшлі на брук вузкага, мала асветленага завулка. Нізкія домікі тут зносяць, капаюць экскаватарамі катлаваны, таму прыходзіццаісці па дашчаным тратуары ўздоўж драўляных шчытоў, якімі агароджана будаўнічая пляцоўка.

Вігдароўскі выпусціў Рыціну руку, і яна пайшла першая. За завулкам яшчэ адзін сквер — прахадны і людны, потым трэба мінуць шырокую асветленую вуліцу, на якой магазіны і можна на кожным кроку сустрэць знаёмага. Рыта заўсёды хадзіла тут адна, Вігдароўскі ішоў назіркам. Калі яны дабіраліся да парку перад стадыёнам, ён зноў браў яе пад руку.

Рыта ведала, што любіць Вігдароўскага. Ён прынёс у яе жыццё нейкі агніста-радасны струмень, нібы вярнуў яе ў напаўзабыты свет маладосці, памог зірнуць на самую сябе і на ўсё навакольнае шырока раскрытымі, здзіўленымі вачамі.

Яны ішлі па алеі пустога, цёмнага парку і маўчалі. І тут мокра, няўтульна, пад нагамі шасціць апалае лісце, звініць трамвай за стадыёнам. Вігдароўскі акрыў яе плашчом і прытуліў да сябе. Яна адчувала яго пругкае, дужае цела, і на душы ў яе быў ціхі, прыемны спакой.

Тут, у маладым асеннім парку, у які далятаюць усе гукі вячэрняга горада, ёсць зялёная, са спінкай і масіўнымі жалезнымі ножкамі лавачка, што належыць ім. Яна стаіць нават не ў самім парку, а на яго ўзмежку з сядзібай, якая прымыкае да прыгожага, двухпавярховага асабняка, у густым зарасніку шыпшыны, і яе амаль ніхто ніколі не займае. Можа, таму, што мала хто ведае.

— Люблю месячныя ночы,— сказаў Вігдароўскі.

— А я люблю цёмныя,— сказала Рыта.

— Чалавеку трэба святло, каб адчуваць сувязь з зямлёй і небам. Мой бацька гаварыў, што музыка ад святла.

— Я думала — яна ліецца з душы. Што і як чалавек адчувае.

— Каб адчуваць, трэба быць не аднаму...

Нехта ішоў ім насустрач, і Рыта шчыльней прытулілася да Вігдароўскага. Яна не любіла сустрэчных тут, у парку. У такія хвіліны заўсёды прыходзіла думка, што яна крадзе чужое шчасце, і ад гэтага было непрыемна.

Міма правандравала такая ж, як і яны, парачка.

— Твой цягнік у дванаццаць? — спытала Рыта.

— Як заўсёды.

— Ноччу другіх няма?

— Ёсць у пяць гадзін раніцы. Маскоўскі.

Ёй было шкада яго. Тады, калі яна пыталася пра цягнік, ён заўсёды здаваўся бездапаможным, пакрыўджаным. Гадзінапаўтары, якія яны сядзелі на лавачцы ў шыпшыне, была платай за тры гадзіны язды ў цягніку, за доўгае чаканне ў скверы, ля інстытуцкага корпуса.

Рыце здавалася — і гэта радавала яе да ўзрушэння — што такіх, як Вігдароўскі, няма, што ён нібы прыйшоў да яе з далёкага, кніжнага свету.

Яна была ўсё-такі жорсткай з ім. Толькі аднойчы — увесь бясконца цудоўны летні дзень — яны прабылі разам, купаліся ў сонечным моры святла і ценяў, у музыцы, сатканай з лясных гукаў і пахаў, якімі адарыў іх бярозавы ўзлесак за горадам. Тады Вігдароўскі вырваў у яе гэты дзень — прыехаў на машыне, тройчы званіў на кватэру па тэлефоне, як бы прад'яўляючы свае права на яе — і яна выйшла да яго, села ў машыну і забыла на ўсё. Ёй цяпер здавалася — гэта было даўно-даўно і дзень той быў самым шчаслівым у яе жыцці.

Пачаўся сапраўдны дождж. Кроплі былі буйныя і частыя. Яны білі па аблубянелым плашчы, як маленькія малаточкі. Рыта адчула, што ў яе прамакаюць ногі. Станавілася холадна і непрыемна. Зрэшты, гэта было смешна — блукаць у цемені пад даждждом сярод голых дрэў.

— Мне пара,— жорстка сказала Рыта.— Табе таксама.

На імгненне ён як бы ў нерашучасці спыніўся і, не выпускаючы яе з абдымкаў, выхапіў левай рукой з кішэні кіцеля

ліхтарчык, слізгаючы яго кволым промнем па мокрым чорным асфальце, павёў па алеі. У палосцы святла круглыя кроплі дажджу мільгалі сярэбранымі кропкамі.

— Я грэюся ля цябе, а ты мерзнеш,— сказаў ён.

Яны дайшлі да канца алеі і сталі спускацца ўніз па ступеньках — на ўзбочыну стадыёна, дзе летам размяшчаецца баскетбольная пляцоўка, Вігдароўскі вёў яе беражна і асцярожна. Унізе, абышоўшы абнесеную жалезнай сеткай пляцоўку, нырнулі пад шырокі, падпёрты белымі калонамі казырок будыніны, якая летам служыла раздзявалкай. Тут таксама стаялі лавачкі з жалезнымі ножкамі, было суха, і яны селі. Вігдароўскі расхінуў плашч, пасадзіў да сябе на калені Рыту і, зняўшы туфлі, узяў халодныя пальцы яе ног у свае далоні. Рыта цясней прыхінулася да яго і маўчала. З цёмнага неба сеяўся дождж, яго аднастайны шум як бы хіліў да сну, да забыцця. Цяпер у Рыты было такое пачуццё, нібы тут, пад казырком раздзявалкі, яны адгарадзіліся ад усяго свету, схаваліся ад усіх і належаць толькі самім сабе. Інстытут, горад, знаёмыя, муж — усё гэта было далёка-далёка і ўсё гэта вельмі мала значыла ў параўнанні з тым, што мела Рыта цяпер, седзячы на каленях Вігдароўскага і слухаючы шум дажджу. Тут было шчасце. Там, за межамі мокрага, чорнага парку — нічога такога, чым варта было даражыць.

І ўсё ж Рыта сказала:

— Доўга не будзем, Сяргей. Разумееш сам.

Ён не адказаў нічога і стаў цалаваць яе.

Яго губы былі сухія, гарачыя, увесь ён — дужы, моцны, нібы знутры напоўнены агнём — пахнуў яблыкамі, палёным вугалем і яшчэ нечым няўлоўным, мужчынскім, што насіў з сабой нязменна. Яна любіла ўсё ў ім — лёгкую, нібы павуцінка, сівізну ў русявых валасах, мужны твар з рэзкімі маршчынамі, якія ішлі ад куточкаў губ, шэрыя, суровыя на першы погляд, вочы. І яшчэ болей любіла далікатнасць, схаваную, стоеную за мужчынскім нешматслоўем. Рыта ведала — Вігдароўскі з пароды тых людзей, у душы якіх дзіўная зладжанасць розуму і пачуццяў. Наважыўшыся на што-небудзь, такія не адступаюць, як бы разумеючы, што зрабіць іначай, чым робяць, не могуць.

Дождж шастаў па жалезным даху навеса, як бы нараджаючы спакойную, мяккую музыку. Можа, вырастала яна не толькі з гэтага аднастайнага шуму, а з усяго, што можна было пачуць і разгледзець у імжыстай, шчыльнай цемені. Яны сядзелі ўнізе — агароджаная баскетбольная пляцоўка нагадвала катлавіну, а наверсе звінеў трамвай, праплываў далёкі, прыглушаны гудок цягніка, млявымі, бледна-жоўтымі агнямі свяціўся горад. Рыта чула роўныя, моцныя штуршкі сэрца мужчыны і чула, як б’ецца ўласнае. Недзе тут нараджалася музыка, а ўслед за ёю бяздумная, шчаслівая адданасць яму, жаданне быць з ім, адчуваць яго да бясконцасці.

— Мне хутка трэба ісці,— прашаптала Рыта.

— Ларэлея,— адказаў ён.— Пачакай, Ларэлея...

Яна любіла, калі ён яе так называў.

Гэтае слова яна пачула ад яго ў першы вечар іхняга знаёмства. Гэта было даўно, болей як год назад, калі Рыта сама жыла ў яго горадзе цэлы месяц, выкладаючы ў філіяле інстытута. Там, у парку, поўным жаўталісця і незабыўнай прыгажосці ранняй восені, яны пазнаёміліся.

Пазней, у хвіліны тугі і самоты, Рыта не раз лавіла сябе на думцы, што яе знаёмства з Вігдароўскім увогуле магло не быць, што яны проста маглі не напаткаць адно другога, і тады ёй рабілася страшна. Яна не магла сабе ўявіць, як бы без яго жыла, без гэтых патайных і ў чымсьці абразлівых стрэч і — самае галоўнае — без пастаяннага думання аб ім. Сяргей прысутнічаў ва ўсім цяперашнім яе жыцці. Ён як бы нябачна быў з ёю побач: яна чула яго голас, бачыла яго ўсмешку, мілы бляск разумных шэрых вачэй. Не, яна нават у думках ніколі не прасіла ў яго парады, адчуваючы, што ён адобрыць усё ёю зробленае ці сказанае. Яны ўдваіх як бы складалі адну нераздзельную істоту, якая жыла адной і той жа радасцю і горам, давала аднолькавую ацэнку з’явам жыцця, на адной хвалі марыла і трызніла. Таму была проста жудаснай думка пра выпадковасць іх сустрэчы.

Цяпер, калі Сяргей быў з ёю, Рыта не гэтак востра адчувала патрэбу ў ім. Яна як бы аддавалася бяздумнай плыні, якая захліствала душу, поўнячы яе адчуваннем радасці і шчасця.

З ім, Сяргеем, было лёгка і хораша, не хацелася ні аб чым думаць, а толькі адчуваць яго побач з сабой, ведаць, што і ён

повен шчасця ад блізкасці з ёю. Нават першыя гадзіны расстання не здаваліся Рыце пакутлівымі. Яна нібы наяве была з Сяргеем, і пачуццё гэтае было настолькі моцным, што Рыта амаль не ўспрымала адзіноты.

Пякучы боль расстання, прагнае чаканне наступнай сустрэчы прыходзілі да Рыты пазней, праз дзень ці два пасля спаткання з Сяргеем. Боль межаваў з радасцю: яна ўся была ў думках аб ім, у напружана-радасным чаканні наступнай сустрэчы. Яе душа была ў такія дні як імклівая рака: хвалі набягалі адна на другую, несліся некуды наперад, а рака заставалася той самай, ранейшай.

Дождж не спыняўся. Ён, здаецца, яшчэ болей узмацніўся, ліў суцэльнымі струменямі. Там, наверсе, адзін за адным гаслі млявыя, хісткія агні, радзей звінеў трамвай. Рыта адчувала, што наступае часіна, калі трэба развітвацца.

— Спознішся на цягнік,— сказала Рыта.

— Хачу спазніцца,— адказаў ён.

Яна прыхінулася да яго шчыльней. Як і заўсёды, ён быў далікатны і не сказаў таго, пра што думаў. Яна ведала: ён проста не можа вось так, адну, адпусціць яе на дождж і макрэчу, а сам пайсці на вакзал. Яна ведала і тое, што калі не пойдзе цяпер, то застанецца з ім на ўсю ноч і не будзе такой сілы, якая адарве яе ад яго. Так ужо было. Але тады яе ніхто не чакаў. Цяпер чакаюць.

— Хіба не разумееш? — сказала яна напаўшэптам, кранаючыся губамі яго вуха.

— Дождж,— прамовіў ён ціха.— Хоць Ларэлея асоба вадзяная, але дажджу баіцца... Рыта, Маргарыта, каралева Марго...

Дождж па-ранейшаму ліў як з вядра. На імгненне яе працяў страх — калі яна не прыйдзе хоць у дванаццаць, там, дома, здарыцца незвычайнае. Але страх валодаў ёю толькі адно імгненне. Седзячы з Сяргеем, яна не магла чаго-небудзь страшыцца. Хваля лёгкай адчайнай бяздумнасці захліснула яе ўсю, яна абхапіла Сяргея рукамі за шыю і пра ўсё забыла...

## II

Дома была трагедыя. Рыта прыйшла позна, мокрая, разгубленая, і муж не спаў. Не гасячы святла, не распранаючыся, ён ляжаў на канапцы і пазіраў у столь.

— Дзе ты была? — спытаў ён, нібыта абыякава.

Яна, ідучы дамоў, зусім не думала, што скажа мужу, таму ў першую хвіліну не знайшлося, што адказаць.

— Быў дождж,— сказала яна.— Мы ішлі разам з Гурэвіч, і я да яе зайшла.

— Ты хлусіш,— сказаў ён, зморшчыўся, нібы ад зубнога болю.— Я званіў Гурэвіч. Званіў усім...

Яна прыкусіла губу, і чырвань заліла ёй твар. Яна ніколі не ўмела хлусіць. Не заўважаныя мужам яе сустрэчы з Вігдароўскім можна было вытлумачыць толькі тым, што сам ён ніколі не цікавіўся, дзе яна бавіць час. Не пытаўся, таму што верыў ёй? Яна мала пра гэта думала. Яна ведала, што не любіць мужа, і ёй было ўсё адно, куды ён ходзіць і з кім сустракаецца. Ён у яе думках займаў вельмі малое месца, і, мабыць, ахопленая да яго няўвагай, яна лічыла, што і ён да яе абыякавы.

— Дзе ты была? — спытаў ён, і яго голас задрыжаў.

Ён быў разгублены, бездапаможны, як дзіця. Выгляд у яго быў такі, нібы ён просіць у яе паратунку. Падсвядома, але выразна і востра яна адчула, што болей за ўсё ён баіцца, каб яна не сказала праўды...

Апушчаныя плечы мужа, яго спалатнелы твар, цяжкае, перарывістае дыханне — усё, усё нібы заклінала яе маўчаць або хлусіць. У душы варухнуўся жаль да мужа. Яна цяпер баялася за яго: ён зусім сабой не валодаў. «Хлусня дзеля выратавання — не грэх»,— мільганулі ў свядомасці недзе вычытаныя словы, і, неяк адразу ўзяўшы сябе ў рукі, пераламаўшы свой настрой, яна сказала амаль бадзёра:

— Ну чаго ты хвалюешся. Я схлусіла. Могуць жа і ў жонкі быць тайны...

— Якія тайны? — усклікнуў ён з надзеяй і радасцю ў голасе.

— Пастарэеш, калі будзеш ведаць.

У яе хапіла вытрымкі маўкліва зняць мокрыя туфлі, распрануцца і, накінуўшы на плечы пярэсты халацік, выйсці ў

калідор. У іх была маленькая кватэрка — пакой з пакойчыкам, ванная, агульная з суседзямі, і, каб трапіць у яе, трэба было прайсці ў процілеглы бок калідора. Вымыўшы рукі і твар, яна вярнулася ў пакой, доўга прычэсвалася перад люстэркам. Муж хадзіў па пакоі, запытальна, здзіўлена на яе пазіраючы.

— Была ў краўчыхі,— нарэшце сказала яна.— Можа трыццацігадовай жанчыне прыйсці ў галаву такое?.. Лекцыю кончыла раней і паехала. Краўчыха ж жыве далёка, на ўскраіне. Дождж пайшоў. А як суняўся, трамваі не хадзілі. Пяць вёрст пехатою...

— Навошта табе краўчыха? — здзіўлена і ўсё яшчэ не верачы перапытаў муж.— Ноччу да краўчыхі?.. Ёсць жа атэлье... Таксі магла ўзяць.

— Не ноччу, а вечарам. Ды я матэрыял і не вазіла, ездзіла дамаўляцца. Калі ж, як не вечарам, паехаць? Таксі не знайшла. Як назло...

— Што ты хочаш шыць?.. Чаму не ў атэлье?..

— Падумай трохі. Можа, успомніш...

Ён адразу павесялеў, пажвавеў. Рушыў у пярэдні пакойчык, уключыў электрычную плітку і паставіў чайнік. Яна міжволі агледзела пакой, у якім стаяла настольная лямпа пад сінім абажурам, разліваючы сумнае, няпэўнае святло. Як усё ў пакоі запушчана, недагледжана. У яе апошні год не было ніякага жадання наводзіць утульнасць, чысціню, і таму на падаконніку, на прыёмніку, на шкле кніжнай шафы шызы пыл, чаравікі, туфлі навалам пад ложкам, скамечаныя сукенкі, сарочкі вісяць на спінках крэслаў. Яна нібы навобмацак адчувала гэты брыдкі, ліпкі пыл, якім, здаецца, усё было пакрыта ў пакоі. Успомніла пяцігадовую Ларысу, дачку, якая жыла ў яе маці за квартал ад іхняга дома, і яе ахапіў пакутліва-шчымлівы боль.

— Дык што ты хацела шыць? — спытаў муж бадзёрым голасам.— Не магу дадумацца.

— Сукенку,— адказала яна.— З парчы, якую прывёз Барыс.

— Вось яно што!

Ён радасна паціраў рукі, расхаджваючы па пакоі.

— Ніколі б сам не дадумаўся. Навошта табе такая сукенка?.. У ёй толькі ў оперы выступаюць...

Пра парчу, якую прывёз яе стрыечны брат з замежнай камандзіроўкі, яна сказала наўздагад, бо ніколі не збіралася

шыць з яе сукенкі, але цяпер адчула, што адказала якраз так, як трэба было адказаць.

Ён прынёс ёй шклянку чаю, быў ласкава-ўзбуджаны, рухавы, відаць, стараючыся забыць тыя пакутлівыя, поўныя жаху хвіліны, якія перажылі яны абое, калі яна толькі прыйшла дамоў. Ён стараўся дагадзіць ёй, рабіў выгляд, што нічога не адбылося, а яна раптам адчула, што ў душу прыйшла нязваная раней пустата.

— Калі панясеш шыць?

— Магу хоць заўтра.

— Я пайду з табой.

— Ідзі,— абыякава адказала яна.— Здолееш праверыць, ці хлусіць твая жонка...

## III

Яна ўзяла ад маці Ларысу, у нейкім узбуджана-няўрымслівым настроі мілавала яе на вачах здзіўленага мужа. Некалькі дзён чысціла кватэру, наводзіла парадак у гардэробе і на кухні. Каструлі, скавародкі цяпер блішчалі, муж мог фарсіць у чыстых, адпрасаваных сарочках, у Ларысы былі новыя цацкі і лялькі. Яна нават напісала некалькі старонак безнадзейна закінутай дысертацыі. Але ўзбуджэння хапіла ненадоўга.

З кожным днём Рыту ўсё болей ахоплівала абыякавасць, безуважлівасць да ўсяго на свеце. Яна адчувала, што з Вігдароўскім сустрэнецца не хутка, магчыма, ніколі не сустрэнецца, і жыццё страціла для яе цікавасць і вастрыню.

На мужа зноў нахлынула насцярожаная падазронасць, ён, відаць, пакутаваў, сумняваўся, штодня па некалькі разоў перапытваючы, чаму яна так позна пайшла да краўчыхі. Яна адказвала, не задумваючыся, верагодна ці не тое, што яна гаворыць. Ён мог бы сам пайсці да гэтай выдуманай ёю швачкі, выкрыць яе хлусню, бо на той вуліцы, якую яна яму назвала, ніякай швачкі яна не ведала. Але ён чамусьці не ішоў, затое кожны вечар, калі ў яе былі заняткі на вячэрнім аддзяленні, чакаў яе ў вестыбюлі, дзе сядзела бабуля вахцёрша і аднастайна тахкаў старамодны гадзіннік.

Дажджы скончыліся, сухія паўночныя вятры прынеслі першы холад. У выбоінах асфальту зашэрхлі сінім ільдом

лужынкі, на дрэвах інстытуцкага сквера трапятала на ветры ўцалелае жоўтае лісце.

Мінула два тыдні. Мусіў прыехаць Вігдароўскі, і Рыта адчувала сябе птушкай, якая трапіла ў сіло. Выйсця яна не бачыла ніякага.

У прызначаны для спаткання дзень яна думала, што не вытрымае. Яна нават не мела магчымасці папярэдзіць Вігдароўскага. Лістамі да запатрабавання яны не абменьваліся ніколі.

У абед прыйшоў з бібліятэкі муж, ад яго не схавалася, што яна ўзбуджана. Ён насупіўся, сказаў ёй штосьці непрыемнае, абразлівае, і яна — гэта здарылася за сем год іх жыцця ўпершыню — накінулася на яго з дзікай лаянкай. У тую хвіліну яна была вельмі блізкай да таго, каб сказаць яму праўду, якой ён болей за ўсё баяўся. Яна, бадай, і сказала яе, толькі не словамі, а шалёнай нянавісцю, якая была ў кожным сказаным ёю слове.

Муж здзівіў яе нязнанай у ім раней вытрымкай.

— Я бачу ўсё,— сказаў ён.— Можаш ісці куды хочаш. Назаўсёды. Каб апоўначы дамоў не вяртацца...

Яна кінулася на ложак, праплакала да вечара. Становішча яе агіднае. Яна здольна сеяць вакол сябе адно толькі няшчасце. З самага пачатку яна ведала, што яе адносіны з Вігдароўскім не маглі быць іншымі, чым былі. У яго двое дзяцей, і ў яе Ларыса. І ўсё адно ёй было страшна ад думкі, што яе патайным, непрывабным сустрэчам наступае канец.

Строгая і маўклівая, з падпудраным тварам, каб не відаць было слядоў слёз, яна пайшла на вячэрнюю лекцыю. Вечар быў сіні ветраны. Пад нагамі, калі ішла па алейцы сквера, нібы звінела працятае марозам, з крупінкамі наледзі апалае лісце. Дрэвы стаялі голыя, чорныя.

Пасля лекцыі ў вестыбюлі яе чакаў муж. Ён узяў яе пад руку, як толькі яна спусцілася з лесвіцы. Калі яны выйшлі на ганак, Рыта ўбачыла Вігдароўскага. Ён быў у паліто, пушыстай зімовай шапцы, стаяў у паласе мігатлівага святла, якое падала ад лямпачкі, падвешанай ля ўвахода. У Рыты перахапіла дыханне, сэрца не калацілася — грукала, але яна не падавала ніякага знаку, што бачыць каханага. Яны з мужам прайшлі паўз яго, і ён нават крыху збочыў, каб даць ім дарогу.

Назаўтра ў Рыты падскочыла тэмпература. Да самага Новага года, болей месяца, яна праляжала хворая.

## IV

Яе здароўе відавочна паляпшалася, і яна сама адчувала, што пачынае жыць нібы нанава. Год яе сувязі з Вігдароўскім паўставаў як дзіўны сон, хісткі і няпэўны; часамі ёй здавалася, што нічога не было — ні асенняга гарадка, дзе яна пазнаёмілася з Вігдароўскім, ні летняга сонечнага дня за горадам у лесе, ні прыездаў Сяргея.

Розумам яна ніяк не магла ацаніць таго, што за гэты год з ёю здарылася. Усё, што было, яна рабіла, нібы падпарадкоўваючыся волі другой істоты, далёкай і незразумелай, якая, аднак, жыла ў ёй самой як бы ў стане часовага вогненна-хмельнага вар'яцтва, якое нахлынула на яе, як насланнё.

Цяпер яна выбівалася на ранейшую дарогу, дзе ўсё было ясна, зразумела і дзе яна магла адказваць за кожны свой крок. Ёй было прыемна, што яна зноў валодае сабой, сваімі пачуццямі. Аб тым, што прамінула, яна думала з ціхім смуткам, ён звінеў у душы, як пяшчотная, напаўзабытая песня. Яна болей не хацела сустракацца з Вігдароўскім і не імкнулася да яго.

Яе жыццё з мужам увайшло ў прызвычаеную, зведаную каляіну, яно нічым не адрознівалася ад таго, якім было два і тры гады назад. Ёй цяпер самой не верылася, што яна, амаль не задумваючыся, знаходзіла словы, каб неяк вытлумачыць свае затрымкі па вечарах і, не хочучы лгаць — ілгала. Ёй было шкада мужа, і яна стала з ім прыкметна ласкавейшай. Жыццё, як і раней, ішло ціха і мірна. Зрэшты, яна даказала сабе самой, што можа быць дбайнай гаспадыняй: іх маленькая кватэрка стала, як ніколі, утульнай.

Вігдароўскі не рабіў ніякіх захадаў, каб сустрэцца. Яна не крыўдавала на яго. Канец іх адносінам паклала яна сама. Тады, у канцы восені, прайшоўшы з мужам па алейцы і зрабіўшы выгляд, што не бачыць Сяргея, яна, вядома, яго абразіла.

Яна старанна рыхтавалася да лекцый і прыходзіла дамоў задаволенай, калі адчувала поспех. Так мінула зіма і вясна. Летам, у чэрвені, студэнты запрасілі яе на свой выпускны вечар. Ёй і раней здаралася быць на такіх вечарах, але гэты выклікаў у душы асаблівы, лагодна-шчымлівы настрой. Сабраліся на другім паверсе рэстарана, у някідкім бакавым зальчыку, вокны якога былі на ўзроўні макушак клёнаў і бяроз, што атулялі

будынак. Заходзіла сонца. У вялікай рэстараннай зале іграў аркестр, а сюды далятталі толькі прыглушаныя, плаўныя гукі, якія танулі ў вясёлым гармідары. Яна патрошку піла віно, слухала тосты, размаўляла з суседзямі, але ўвесь час лавіла сябе на адчуванні, што як бы прыслухоўваецца да самой сябе. Спадыспаду душы падымалася штосьці няўрымслівае, трывожнае.

Яна паспрабавала непрыкметна выйсці. Студэнты яе намер заўважылі, вярнулі з лесвіцы і пасадзілі на месца. Каб заглушыць трывогу, якая невядома з-за чаго на яе нахлынула, яна стала піць усё, што ёй налівалі.

Хутка ёй стала весела, захацелася гаварыць тосты. Ніколі, нідзе яна не адчувала сябе такой дасціпнай, як у гэты вечар. Яе трапныя, вясёлыя словы выклікалі ўсеагульны смех і воплескі.

Да закрыцця рэстарана танцавалі ў вялікай зале. Рыту наперабой запрашалі студэнты, калегі-выкладчыкі, і яна ахвотна і хораша з усімі танцавала.

Ноччу ўсім гуртам рушылі на вакзал праводзіць студэнтаў, што ад'язджалі начнымі цягнікамі. На асветленым пероне яна ўбачыла Вігдароўскага. Ён ішоў праз увесь перон, задумлівы, крыху ссутулены, трымаючы ў правай руцэ невялікі партфель. Ён яе не бачыў, нават не павярнуў галавы ў бок тлумнай талакі, якая вываліла на перон з раскрытых насцеж вакзальных варот.

Яна ледзь не страціла прытомнасць. Ён ішоў на той самы начны цягнік, якім ад'язджаў заўсёды пасля сустрэч з ёю. Яна не ведала, што рабіць, у адзін міг зразумеўшы, што нічога паміж імі не скончана, што яна па-ранейшаму прагне сустрэчы з ім, а ўсё, што яна прыдумала за гэтыя паўгода, не больш як самападман, каб сцішыць боль і смутак.

Яна зрабіла некалькі таропкіх крокаў, каб дагнаць Вігдароўскага, выбілася на сярэдзіну перона. Дарогу ёй перагарадзіў доўгі ланцуг ваганетак, нагружаных паштовай паклажай. Пакуль яна стаяла, узіраючыся ў шэраваты, падсвечаны ліхтарамі паўзмрок ночы, каб не згубіць сярод другіх пасажыраў Сяргея, да яе падышоў выкладчык з іхняй кафедры, ціха крануў за локаць.

— Мы сёння весяліліся, але летняя ноч кароткая,— сказаў ён як бы з сумам.— Прапаную сябе да вас у праважатыя.

Яна пайшла з ім да варот, нават не развітаўшыся са студэнтамі, несучы ў сэрцы востры, як цвік, боль...

Назаўтра яна думала толькі пра Сяргея, адчуваючы, што проста не зможа жыць, калі не сустрэнецца з ім, не адновіць таго, што паміж імі было. Іх расстання як і не было, яна да дробязей памятала ўсё, што ён калі-небудзь сказаў, бачыла яго ўсмешку, крыху сарамлівую і стрыманую, яго прывычку рэзкім узмахам рукі адкідваць непаслухмяную пасму валасоў, якая, калі ён быў без шапкі, заўсёды навісала на лоб. Ён быў нервовы, парывісты і адначасна стрыманы, мог падоўгу маўчаць, думаючы сваё. Ён ніколі не расказваў пра сям'ю, не пытаючы аб гэтым і ў яе, але яна па-жаночы адчувала, што гэта ў яго балючае месца. Не, шчаслівы ў сваёй сям'і ён не быў, тая жанчына, яго жонка, якой Рыта ніколі не бачыла, але пра якую ўсё адно часта думала, даць яму шчасце не змагла. Бывалі хвіліны, калі яна ненавідзела гэтую незнаёмую жанчыну, старалася ўявіць яе твар, паставу, паходку, манеру апранацца. Яна ўяўляла яе асобай пустой, эгаістычнай, самазакаханай.

Насуперак цвярозай развазе, яна іншы раз бачыла сябе жонкай Сяргея. Яна ведала, што гэта немагчыма, ніколі гэтага не будзе, але нават летуценныя, уяўныя хвіліны поўнілі яе радасцю. Яна б клапацілася аб ім, як маці. Яна ведае, адчувае Сяргея лепш, чым ён сам. На заводзе, дзе ён працуе, ён галоўны інжынер, і яна нават не можа ўявіць, каб ён быў не галоўны, каб нехта над ім стаяў, камандаваў. Сустракаючыся з ёю, ён ніколі не гаварыў аб сваіх справах, але яна адчувала, што яна, яе каханне, яе поўны давер да яго — найбольшая яму падтрымка, і іменна такой падтрымкі ён у яе шукае.

Іншы раз у яе ўзнікала вострае, неадольнае жаданне ўсё кінуць, развязацца з мужам, пасяліцца з Ларысай у горадзе, дзе жыве ён, сустракацца з ім, не ведаючы згрызот сумлення. У той жа час яна адчувала, што ніколі так не зробіць. Усё-такі яна даражыць работай, любіць заходзіць у аўдыторыю, пісаць на дошцы доўгія, складаныя формулы, не зазіраючы ў канспект, адчуваючы за спіной насцярожаную, удзячную цішыню. Тое, што яна ведае, умее — частка яе самой, і аддаць усё гэта за няпэўнасць яна не можа.

Праз дзень ці два пасля таго, як яна ўбачыла Вігдароўскага на вакзале, яе сталі адольваць сумненні. Ці любіць ён яе? Ці меў права абразіцца, калі ўбачыў з мужам? Усё-такі яе

становішча горшае, чым яго. Прыязджаў у горад, дзе яго ніхто не ведае, а рызыкавала яна, адна яна...

Упершыню яна зведала дзікія прыступы рэўнасці. Дзіўна — яна цяпер зусім не раўнавала яго да жонкі. Жонка адышла некуды ў хісткі туман, яе як бы не існавала, а побач з Сяргеем яна бачыла другую жанчыну, нахабную і здрадлівую, якую ён памяняў на яе, Рыту. Находзіла такое, што ёй хацелася зараз жа паехаць у яго горад, стаяць ля прахадной, сачыць, з кім пойдзе ён з работы і куды пойдзе... Цяпер яна б была шчаслівая, каб ён, нікуды ні да каго не збочваючы, падаўся да сям'і, жонкі...

Скончылася сесія завочнікаў, і цяпер у Рыты былі два вольныя месяцы. Некалькі гадоў назад яна правяла месяц ля мора, на балтыйскім узбярэжжы, і цяпер рашыла паехаць туды зноў, завітаўшы па дарозе ў горад, дзе жыве Сяргей і дзе пачалося яе з ім знаёмства.

Яна села ў цягнік, якім заўсёды ад'язджаў Вігдароўскі. Ёй хацелася адчуць і перажыць тое, што адчуваў ён, вяртаючыся ад яе. Вагон быў напалавіну пусты, у купэ разам з ёй села адна толькі бабулька, маленькая, ціхая, з накінутай на вузенькія плечы вязанай чорнай хусткай. Цягнік ішоў доўга, спыняючыся ледзь не на кожнай станцыі. Рама была прыспушчана. У акно, халодзячы ёй твар, біў струмень крыху вільготнага начнога паветра. Яна стаяла ля акна, узіраючыся ў змрок летняй ночы. Праплывалі цёмныя пералескі, нягледзячы на позні час, сям-там у вёсках, паселішчах мільгалі агні. Яна думала аб тым, што вось так у акно глядзеў Сяргей, бачыў тое, што бачыць цяпер яна. Потым ёй прыйшла думка, што яны памяняліся месцамі, з такімі пачуццямі, як у яе цяпер, ён ехаў да яе, а дамоў ён мог везці толькі смутак па ёй і жаданне новай сустрэчы.

Вагон пагойдваўся, грукаў на стыках, на кожным прыпынку нудна, прарэзліва скрыпелі тармазы. Яе ахапіла няпэўнасць, якая межавала са страхам: болей як паўгода яны не сустракаліся, ён каб хацеў, падаў бы пра сябе якую-небудзь вестку. І ўсё ж яна не магла паверыць, што ён яе забыў, змяніў на другую.

Змрок паступова растайваў, ахутаныя сінім ранішнім туманам, прабягалі бярозавыя гаі, сасоннікі, праплывалі палі

паспелай залацістай збажыны, скошаныя сенажаці з параскіданымі па іх стагамі, удалечыні выступалі цёмна-зялёныя астравы вёсак.

Яна не прысела, выстаяла ля акна ўсю дарогу, пад'язджаючы да яго горада, адчула, што ўся ў палоне трапяткой, няўрымслівай узбуджанасці. Чамусьці ёй здавалася, што ён стаіць на пероне і чакае яе. Гэтага не магло быць, але ілюзія аказалася такой моцнай, што яна амаль паверыла ў яе. І калі цягнік спыніўся, высунула галаву ў акно і стала разглядаць тых, хто сустракаў прыезджых. На пероне было нешматлюдна, некалькі чалавек рушыла да вагонаў. Сяргея сярод іх не было...

— Даўно дома не былі? — пачула Рыта голас бабулькі.

Яна ў знак згоды кіўнула галавой і паспешліва, каб не выходзіць разам са старой, падалася з купэ.

Сышоўшы на перон, Рыта разгубілася. Рашучасць пакінула яе. Зрэшты, так было заўсёды, калі ёй прыходзілася на штонебудзь адважыцца. Ад ранейшай узбуджанасці не засталося і следу. Яна не ведала, што рабіць. Горад, у якім жыў Сяргей, пра які яна столькі думала, цяпер здаваўся чужым, халодным, нават варожым. Яна нібы лавіла на сабе калючыя, пагардлівыя позіркі пасажыраў, якія высыпалі з вагонаў. Ёй здавалася, што ўсе яны ведаюць ці здагадваюцца аб тым, што ісці ёй няма куды, што яна заблыталася ў жыцці і не можа знайсці дарогі...

Рыце кінулася ў вочы вялікая зашклёная дошка з раскладам руху цягнікоў, і яна падышла да яе. Часу да бліжэйшага цягніка, якім яна магла даехаць да мора, заставалася няшмат — чатыры гадзіны, і Рыта супакоілася. Да яе вярнулася развага. Адзінае месца, дзе яна магла напаткаць Сяргея — прахадная завода. Але ён мог выйсці адтуль толькі вечарам. Цяпер ёй зусім не хацелася сачыць за ім. Самае лепшае ў яе становішчы паведаміць яму, дзе яна адпачывае.

Рыта зайшла ў пакойчык вакзальнай пошты, папрасіла аркушык паперы і канверт. Ніколі яна не пісала Сяргею лістоў. Толькі аднойчы, жадаючы паглядзець, які ў яе почырк, ён папрасіў напісаць яму ў блакноцік некалькі слоў. Яна напісала бяссэнсавую лухту, штосьці рыфмаванае, а ён сказаў, што, мяркуючы па почырку, у яе натуры развага бярэ відавочны верх над эмоцыямі.

Цяпер яна пісала Сяргею першы ліст. Яна доўга вагалася, не ведаючы, як яго назваць. На паперы зрабіць гэта было не так проста, тым болей што яны столькі не бачыліся.

Яна звярнулася да яго так, як звяртаюцца да добрых знаёмых, напісаўшы імя і імя па бацьку, потым коратка паведаміла, дзе і да якога часу будзе адпачываць. Ёй хацелася напісаць не так, а зусім па-другому, цёпла і шчыра, даць хоць маленькае выйсце таму, што сабралася на душы, але яна не была ўпэўнена, што ліст трапіць да Сяргея. Ёй рабілася страшна пры думцы, што яе ліст прачытае нехта другі.

Кінуўшы канверт у паштовую скрынку, яна раптам спахапілася. Яна столькі думала пра сустрэчу з Сяргеем і цяпер сама ад гэтай сустрэчы адмаўляецца. Ледзь не подбегам рушыла яна да тэлефоннай будкі, набрала нумар справачнай. Тэлефаністка спакойна назвала трохзначную лічбу камутатара завода.

— Галоўнага інжынера,— папрасіла Рыта, задыхаючыся, чужым хрыплым голасам.

— Ён у камандзіроўцы,— як бы стрэліла дзявочая скорагаворка, і ў трубцы шчоўкнула.

Да адыходу цягніка яшчэ хапала часу, і Рыта вандравала па горадзе, найболей па старых, нават не забрукаваных вуліцах, на якіх стаялі прыземістыя драўляныя дамкі ў шчыльным акружэнні гародчыкаў і садоў. Яна ведала, што Сяргей жыве не ў цэнтры. Магчыма, ён жыў на адной з такіх вуліц, штодня хадзіў па дашчаным тратуары, па якім цяпер ідзе яна. Усё тут ёй падабалася, здавалася асаблівым, адметным. Яна зварочвала з адной зялёнай вуліцы на другую.

Калі вузкі завулак вывеў яе на людную плошчу, узбоч якой высіліся шматпавярховыя камяніцы, ёй стала сумна. У парк, дзе былі сустрэчы з Сяргеем, яна не пайшла...

## V

Пасёлак быў рыбацкі, зялёны, засаджаны івамі і серабрыстымі таполямі. Домікі былі ўсе на адзін манер — вастраверхія, крытыя чырвонай чарапіцай. Пахла рыбай і водарасцямі. Мора шумела за сотню крокаў ад вуліцы.

Рыта зняла пакойчык у знаёмай яшчэ з мінулага прыезду ўдавы, якая служыла на лодачнай станцыі. Першыя дні яна

вандравала па пясчаным, аблізаным хвалямі беразе і слухала аднастайны, бясконцы шум мора.

За кіламетр ад пасёлка размяшчаўся санаторый. Марскі бераг у тым месцы нагадваў засеяны кветкамі луг. Курортнікі ў markup рознакаляровых трусах, бюстгальтарах, шапачках загаралі, распластаўшыся на пляжы, ці купаліся ў моры. Найболей спрытныя заплывалі далёка за буйкі. Па беразе, даходзячы аж да рыбацкага пасёлка, блукалі парачкі.

Рыта шукала адзіноты. Яна гадзінамі ляжала на беразе, на гарачым пяску, пазіраючы ў сіняе, з рэдкімі табункамі белых воблакаў неба. Мора ёй здавалася жывой істотай — вялікай і дужай. Дыханне мора было няроўным — урачыста-спакойным раніцай і нервовым, узбуджаным пад вечар. Зрэшты, усё тут было вельмі звычайнае ля мора — вада, вецер, сонца, пясок — усё тое, з чым сутыкаецца чалавек з дзён сваёй першабытнай простасці.

Рыта падоўгу думала, стараючыся разабрацца ў супярэчлівым клубку пачуццяў, які яна ніяк не магла разматаць. Яна адчувала, што да яе прыйшло каханне, магчыма, тое, якое бывае раз ў жыцці. Яна не магла яго абмінуць, не здолела б, каб нават захацела. І ў той жа час яе ўсё мацней адольвалі сумненні. Развеяць іх мог толькі Сяргей. З дня на дзень яна чакала яго прыезду...

Чыгуначная станцыя — некалькі драўляных, летняга тыпу будыначкаў пад адным дахам — размяшчалася побач з рыбацкім пасёлкам. Палавіну часу Рыта праводзіла на станцыі. Тут, у тлумным буфеце, яна снедала, купляла ў кіёску газету, потым ішла да мора. У абед прыходзіла зноў...

З зялёных дачных вагонаў вылазілі вясёлыя, бесклапотныя курортнікі. На месяц яны былі вольныя ад работы, службы, звычайных жыццёвых абавязкаў. Яны выходзілі на перон, з прагным бляскам у вачах азіраліся, поўныя жадання лёгкіх прыгод і ўцехі. Рыце гэтыя бесклапотныя людзі здаваліся ненавіснымі. Вігдароўскага сярод іх не было...

Мінула два тыдні, і ўсё часцей у Рыты з'яўлялася адчуванне, што яе чаканне безнадзейнае. Ноччу яна не спала, забываючыся толькі пад раніцу кароткім нервовым сном. Нават да мора яна стала абыякавай. Яна спрабавала чытаць, але не магла адолець і дзвюх старонак, адразу забываючы прачытанае.

У адзін з такіх дзён Рыта паслала Сяргею тэлеграму. Назаўтра яна зусім не пайшла на станцыю, ляжала на беразе, купалася, але ўвесь час лавіла сябе на жаданні падняцца, зірнуць у канец вуліцы, на веснічкі двара...

Усе наступныя дні яна думала пра Вігдароўскага са злосцю, як бы развяваючы той ружовы туман, якім у сваім уяўленні ахутала яго. Цяпер ён здаваўся ёй халодным і фальшывым. Спакваля, не верачы на першым часе сабе самой, яна прыходзіла да думкі, што для яго сувязь з ёю была тым жа, чым вось для гэтых парачак, якія праходжваюцца па беразе. Хвілінамі ён рабіўся ёй ненавісны.

Яна намеціла сабе рубеж — чакаць яшчэ тры дні, а калі не прыедзе, перастаць пра яго думаць, выкінуць з душы, растаптаць ва ўяўленні яго вобраз.

Вігдароўскі не прыехаў. Безнадзейнае чаканне скончылася. Яна нібы прачыналася ад цяжкага, пакутлівага сну.

Болей Рыта не магла пераносіць адзіноты. Яна стала хадзіць на пляж, туды, дзе загаралі курортнікі, ляжала, купалася ў моры, слухала чужыя размовы. Тут было ўсё проста і ясна: людзі, адарваўшыся ад сваіх будзённых заняткаў, прагнулі спакою, адпачынку, вясёлых уражанняў.

Тыдзень назад, калі яна хадзіла на станцыю сустракаць Вігдароўскага, усе, хто толькі прыязджалі, здаваліся брыдкімі ёй, агіднымі. Цяпер яна больш паблажліва глядзела на ўсіх гэтых людзей, якія, не выдумляючы высокіх пачуццяў, весела, бесклапотна бавілі час.

Рыта зайздросціла курортнікам, асабліва тым з іх, якіх паспела выдзеліць з мітуслівага натоўпу і якія пахаджвалі па марскім беразе бесклапотнымі парачкамі.

Яна зайшла павячэраць у рэстаран, які размяшчаўся ў гарадку побач з санаторыем. Тут было цесна, душна, накурана, яна доўга чакала, пакуль вызваліцца столік. Заняўшы месца, слухала музыку, сачыла за мітуснёй танцаў.

На другі вечар Рыту запрасіў высокі смуглявы мужчына, па ўсіх прыкметах, вайсковец, на танга. З ім, адмовіўшы яшчэ дваім, якія таксама яе запрашалі, яна танцавала ўвесь час, аддаўшыся нервовай, неспакойнай плыні джазавай музыкі. Наступны раз кавалер ужо чакаў яе, заняўшы столік. Ён быў лётчык, назваў сябе Юрыем, і Рыта са зласліва-помслівым

пачуццём думала пра Віґдароўскага. Яна свядома наважыла яму адпомсціць, малюючы ва ўяўленні момант, калі ў пары з гэтым лётчыкам напаткае Сяргея. Яна яму толькі кіўне, як звычайнаму знаёмаму...

Юрый — вясёлы, абыходлівы, яго размова лілася лёгка, на першы погляд, без ніякага намагання з яго боку. Рыта не ўслухоўвалася ў словы субяседніка. Ёй было лёгка і добра. Ад віна шумела ў галаве, згрызоты, неспакой сплылі. Яны танцавалі, яшчэ выпілі віна, і лётчык напрасіўся праводзіць Рыту.

Ішлі берагам мора. Яно было спакойнае, цёмнае, з серабрыстымі палосамі адбітага месячнага святла, якія, здавалася, некуды плылі. Калі яны павярнулі ў пасёлак, выбіўшыся на засаджаную акацыямі калідор-алею, Юрый прыхінуў Рыту да сябе, стаў цалаваць. Ад яго пахла потам, вінным перагарам, у адно імгненне ён стаў непрыемным да агіднасці. Рыта паспрабавала вырвацца з яго абдымкаў, але ён, сашчапіўшы рукі за яе плячамі, моцна трымаў. Яна рванулася што было сілы і, вызваліўшыся, ударыла праважатага па твары...

Назаўтра Рыта паехала. Яна тут болей не магла аставацца. Яна здавалася брыдкай самой сабе і старалася не думаць пра дні, калі ёй хацелася стаць вясёлай і бесклапотнай. У горад, дзе жыў Віґдароўскі, прыехала апоўдня. Лёгка, за тры хвіліны, у кіёску справачнага бюро здабыла Сяргееў адрас.

Надвячоркам Рыта пайшла па адрасе. Вуліца аказалася зусім не ў тым месцы, дзе яна вандравала месяц назад. Яна называлася Залінейнай, знаходзілася на другі бок чыгункі і складалася з белых цагляных катэджаў, пабудаваных нядаўна.

Знайшоўшы патрэбны нумар катэджа, Рыта спытала ў хлапчукоў, якія ўсё яшчэ бавіліся на вуліцы, у якой кватэры жыў Віґдароўскі. Яны правялі яе і паказалі. Яго вокны выходзілі на цёмны двор і былі цёмныя. Рыта прысела на лавачцы пад купкай маладых, нізкарослых дрэў і, не зводзячы вачэй з вакон, чакала. Тое, што Сяргей не прыехаў да яе і нават не падаў пра сябе весткі, можна было вытлумачыць вельмі проста — яго не было ў горадзе. Яна ўхапілася за гэтую здагадку, адчуваючы, як радасна б’ецца сэрца, як шчыміць прыемным, салодкім болем у грудзях. Цяпер ён зноў здаваўся тым самым, якім яна прывыкла яго ўяўляць, усё ў яе з ім магло

быць наперадзе. Можна было ўстаць, спытаць у каго-небудзь з суседзяў, ці дома Вігдароўскія, але штосьці не дазваляла.

Нарэшце за спіной у Рыты спынілася легкавая машына, і яна, несвядома для сябе, адчула, што прыехаў ён. Яна пачула яго голас — ён высаджваў жонку і дзяцей, штосьці гаварыў пра кольцы, якія заўтра трэба змяніць у машыне. Сям'я прайшла ў кватэру за некалькі крокаў ад месца, дзе сядзела Рыта, і яна не зводзячы вачэй глядзела на хлопчыка і дзяўчынку, якія неслі ў руках кошыкі. «Былі ў лесе, збіралі грыбы»,— мільганула ў яе здагадка, але яна зараз жа яе адкінула, бо ў вокнах запалілася святло і было відаць, як усе чацвёра выкладваюць на кухонны стол гуркі, памідоры і невялікія качанчыкі капусты. Рыта зразумела, што недзе за горадам у Вігдароўскага агарод і ён ездзіў туды з сям'ёй.

Яна магла ўстаць і пайсці, але сядзела, баючыся, што ён выйдзе, каб адагнаць у гараж машыну, яны могуць стрэцца, і ён зразумее, што яна сядзела ў яго пад вокнамі. Яна дачакалася, пакуль ён выйшаў, завёў машыну і выехаў з двара. Машына, здаецца, была тая самая, на якой ён прыязджаў да яе і на якой яны ездзілі на бярозавае ўзлессе.

Адагнаўшы машыну, ён мусіў хутка вярнуцца, і Рыта магла напаткаць яго на вуліцы. Сустракацца ёй не хацелася. Яна пайшла на станцыю...

## VI

Мінула тры гады.

Ларыса пайшла ў школу, у першы клас. Рыта нарадзіла сына, ён ужо хадзіў, перавальваючыся на тоўстых, запраўленых у чырвоныя штаны, ножках. Сын быў падобны на мужа, і яна была рада гэтаму, як і той згодзе, якая панавала ў доме. Яна па-ранейшаму выкладала ў інстытуце, чытала лекцыі, ёй падабалася насцярожаная цішыня, якая наступала заўсёды, калі, не зазіраючы ў паперку, яна выводзіла на дошцы доўгія складаныя формулы.

Пра Вігдароўскага яна ўспамінала з лёгкім, ціхім смуткам. Яна нічога не чула і не ведала пра яго. Ёй хацелася з ім пабачыцца, але зусім інакш, чым раней. Яна магла знайсці спосаб паслаць яму білет, папрасіць прыехаць на спектакль

у оперу. Яна сама будзе на гэтым спектаклі, будзе слухаць музыку і зводдаля глядзець на яго. Надзене ў тэатр сукенку з парчы, якую прывёз стрыечны брат з замежнай камандзіроўкі. Ён называў яе Ларэлеяй і няхай хоць раз у жыцці ўбачыць у сукенцы Ларэлеі, пры бляску тэатральных люстраў...

Але сукенкі з парчы яна не пашыла. Усё адкладвала. Штосьці як бы замінала...

Восенню, у Кастрычніцкія святы, у іх гасцявала пляменніца мужа, жвавая, вясёлая дзяўчынка, якая канчала дзесяцігодку і збіралася паступаць у інстытут. Калі Рыта вымала з шафы бялізну, каб паслаць ёй пасцель, дзяўчына ўбачыла кавалак ірдзіста-залатой парчы, і вочы ў яе загарэліся. Яна распусціла доўгую, русявую касу, уключыла ўсе лямпачкі, якія былі ў кватэры, і, ахінуўшыся кавалкам бліскучай матэрыі, кінулася да люстра...

Рыта падаравала матэрыю пляменніцы...

*1969*

## ХАТНЯЕ ЗАЙЧАНЁ

Вася Скачок чакае лета. Ён думае пра тое, што ўсе людзі чакаюць лета, толькі не заўсёды пра гэта гавораць, бо ў іх многа іншага клопату. Васеў бацька служыць на чыгуначнай станцыі кандуктарам, стаіць на тормазе таварнага вагона ў чорным, да пят кажусе, які наскрозь прапах мазутам. І хоць цёпла апрануты, а мерзне. Калі прыходзіць з дзяжурства дамоў, прыносіць на твары хмурую зацятасць, і Вася, пасёрбаўшы баршчу, лезе на печ. Два малодшыя Васевы браты, Пятро і Валерык, якія ў школу яшчэ не ходзяць і носяцца па хаце як апантаныя, у такія хвіліны змаўкаюць і сядзяць каля грубкі ў другой, чыстай, палавіне, ціхмяныя, пакорлівыя. Яны, вядома, паціхеньку адзін аднаго шчыкаюць, але не плачуць і не скардзяцца: тата спіць... Летам было б інакш. Летам яны б гойсалі па вуліцы, крычалі ва ўсё горла, а бацька спаў бы сабе на сене ў хляве...

У Васі на лета вялікія планы. Ён страшэнна любіць птушак і думае, што гэтым летам яму пашанцуе больш, чым у мінулым. Летась ён знайшоў два гнязды: адно — у струхле-

лым высокім ліпавым пні — удода і яшчэ адно — галубоў-туркалікаў. Яно было ў зусім нечаканым месцы — на галіне высокай, стромкай алешыны. Вераб'ёў, шчаглоў, якія ўюць сабе гнёзды паблізу да чалавечага жытла — за налічнікамі, у шчылінах, пад дахамі хат, у дуплах, у кустах бэзу,— Вася ў разлік не прымае. Такіх птушак ён будзе мець колькі захоча.

Вядома, скончыўшы школу, Вася будзе не проста бегаць у лес, шнарыць па кустах, караскацца на дрэвы. Летась ён здаў у сельпо на чатыры рублі дваццаць капеек крушынавай і лазовай кары і за гэтыя грошы купіў падручнікі, пенал, алоўкі і сшыткі. Апроч гэтага, ён назбіраў на ржышчы тры пуды каласоў, і маці, якая працуе ў калгасе, запісалі за гэта працадні. Сёлета Вася намерваецца здаць у сельпо столькі крушыны і лазовай кары, каб можна было купіць не толькі падручнікі і алоўкі, але чаравікі, сарочку і штаны. Бацька і так стамляецца — трэба ж яму трохі памагаць.

Пра свой план Вася пакуль што нікому не гаворыць. Няхай будзе дома неспадзяванка.

Ёсць яшчэ адно вялікае жаданне ў Васі, якога ён таксама нікому не выказвае. Калі ездзілі да цёткі Тэрэзы ў горад, Вася ў адным магазіне ўбачыў такі ножык-складанчык, што ў яго аж дух заняло. Тры ці чатыры адменныя лязы, а колькі тых вілачак, розных крывулек! Каб такі ножык Васю, то ён бы і гора не меў. Але каштуе складанчык дарагавата, і, відаць, не так скора Вася яго купіць. Зрэшты, можна і пачакаць.

Васю здавалася, што лета, якое мусіць надысці, будзе незвычайнае. Ён як прадчуваў, што летам здарыцца такое, што ён будзе памятаць доўга-доўга. І яно, гэтае незвычайнае, сапраўды здарылася.

Скончыліся заняткі ў школе, і вучняў адпусцілі на канікулы. Вася перайшоў у чацвёрты клас.

Прыгожы лес у пачатку лета. Лісце на дрэвах квола-зялёнае, далікатнае. Лес аж звініць ад птушыных песень і шчэбету. А колькі на прагалінах, на лугавінах і ўзбалотках кветак! Неба сіняе-сіняе, плывуць па ім, нібы гусі-лебедзі, белыя хмурынкі. Кожны дзень пачынаецца сонечнай зіхатлівасцю, бляскам, і колькі радасці абяцае ён, гэты звычайны летні дзень!

Вася штодня хадзіў у лес і прыносіў адтуль вязанкі крушынавых кійкоў, а таксама скруткі лазы. Лазу трэба драць у

самым пачатку лета, пакуль пад карой многа соку. Гнуткая кара проста сама адстае ад лазовага прута. А ў сярэдзіне лета яе і сілай не аддзярэш.

Быў пачатак чэрвеня. Калгаснікі на лясных дзялянках дасявалі проса, а на пясчаных, прагрэтых сонцам пагорках — грэчку. Трава ўжо стаяла высокая — сама касіць, а краскі на лузе адцвіталі. Вася выйшаў у светлы бярэзнічак, за якім ляжала пакінутае на папар поле. У баразёнцы гэтага зарослага свірэпкай поля Вася выведаў перапёлчына гняздзечка. Цікава было паглядзець, ці вывеліся ў ім маленькія птушаняты.

Вася ішоў па бярэзніку павольна, расхінаючы рукамі высокую траву,— спадзяваўся разведаць яшчэ якое-небудзь птушынае дыханне. У траве пад нізкарослай бярозкай спала, шчыльна прыклаўшы вушкі да спіны, маладзенькае шэрае зайчанё. Вася асцярожна нагнуўся, схапіў зайчанё рукамі за вушы. Яно затрапяталася, пранізліва, як плачуць дзеці-немаўляткі, закрычала.

Вася спалохаўся гэтага нечаканага крыку і хацеў ужо адпусціць зайчанё на волю, але яно нечакана супакоілася.

Вася схаваў зайчанё за пазуху. Прыгрэўшыся каля цела, яно, здаецца, зноў заснула. З гэтым зайчанём Вася прыйшоў дадому.

У хаце зайчанё не выказала ніякай асаблівай трывогі. Хлопчык наліў яму ў спадачак малака, а Петрык з Валерыкам прынеслі маладога капуснага лісця і ўсякай травы. Да малака зайчык не дакрануўся, а зеляніну, смешна раздзімаючы вусікі, адразу пачаў есці. А да вечара і малако пачаў піць, раз-пораз высоўваючы ў сподак маленькі чырвоны язычок.

Зайчанё пасялілі на печы. Яно аблюбавала сабе стары разлезлы валёнак, які там ляжаў. Забраўшыся ў валёнак, зайчанё засынала і вылазіла, каб зноў пад'есці. Першыя дні на зайчыка касавурыўся стары, з падпаленым бокам кот Адась, але Петрык і Валерык далі яму добрай лупцоўкі, і кот болей не цікавіўся госцем.

Аднойчы бацька пасынкаваў тытунь. Адломленыя парасткі і лісты ён паклаў на печы сушыць. Ноччу зайчанё вылезла са свайго валёнка і з'ела ўвесь бацькаў тытунь. І ніякай хваробы з ім пасля гэтага не здарылася.

За лета зайчанё вырасла ў вялікага шэрага зайца. Скакала, падгінаючы заднія лапы, па хаце, брала з рук капуснае лісце, траву. Кот Адась цяпер проста баяўся свайго ляснога суседа. Паглядзець зайца прыходзілі ўсе хлопцы з Васевай вуліцы.

Кійкоў і кары Вася нанасіў утрая больш, чым летась. Канікулы канчаліся. Вася з нецярплівасцю чакаў таго дня, калі пойдзе ў школу. Яму хацелася пахваліцца, што ён злавіў сапраўднага дзікага зайчыка і прыручыў яго.

За дзень да пачатку школьных заняткаў заяц знік. Васі дома не было, і ён не бачыў, як гэта здарылася. Акно ў хаце было расчынена. Заяц мог вельмі проста ўцячы праз гэтае акно.

У школе Вася расказаў пра зайца настаўніку. Настаўнік не ўхваліў Васевага ўчынку.

— Дрэнна,— сказаў ён.— Звярок адвык ад лесу, поля, ад тых прыродных умоў, у якіх ён павінен жыць. Зімой яму будзе цяжка, і ён можа загінуць. Печы ж у лесе няма.

Вася доўга сумаваў. Ён даў сабе слова ніколі болей не лавіць зайцоў. А зімой павесялеў. Каля маладой яблынькі ён убачыў аднаго разу зайчыныя сляды. Вася палічыў, што гэта прыходзіў яго знаёмы заяц, бо кары на яблыньцы нават не крануў.

*1969*

# 1970

## ДЗЕНЬ АПОШНІ І ПЕРШЫ

Дык нарэшце вось яна, ужо ўтаймаваная Германія! Звычайны горад, у якім многа дамоў з вастраверхімі, пакрытымі чырвонай чарапіцай дахамі, многа вузкіх — ледзь-ледзь размінуцца двум сустрэчным грузавікам — вуліц і завулкаў, а ў астатнім усё такое самае, як і ў іншых нямецкіх гарадах, якіх за вайну Віктар Галенчык пабачыў ужо нямала. Ды зрэшты і вастраверхія дахі не толькі ў немцаў. Такія ж Віктар сустракаў у старадаўнім Выбаргу, што стаіць над сінім марскім залівам, і ў ціхіх эстонскіх гарадках і паселішчах, размешчаных на пясчаных, атуленых зялёнымі саснякамі пагорках.

Там была поўнач, а тут сярэдзіна Еўропы, можна лічыць, поўдзень, а сосны аднакія. Горад стаіць ля падножжа пакатай гары, схілы якой густа параслі сасной — здалёк здаецца, што яны засланы суцэльным зялёным абрусам.

У людны, зусім не пашкоджаны вайной горад яны прыехалі ўчора вечарам, ірвануўшыся болей як на сотню кіламетраў: немцы адступалі. Апошнія паўгода, пасля Усходняй Прусіі, Віктар служыў у групе бліжняй разведкі. Група вызначалася тым, што яе лейтэнанты, а таксама некаторыя старшыны і сяржанты больш-менш валодалі нямецкай мовай, а радысты і тэлефаністы маглі лёгка, на слых, запісаць нямецкі тэкст, калі ён перадаваўся азбукай Морзэ. Па гэтай прычыне ўсе, хто служыў у групе, ведалі пра ход вайны трошкі болей, чым астатнія байцы і камандзіры палка сувязі.

Усю ноч Віктар прасядзеў ля «віражу» — вайсковага прыёмніка, які працаваў у дыяпазоне кароткіх хваль. Эфір, запоўнены яшчэ дзень назад сотнямі нямецкіх галасоў, маўчаў. Затое ў ім пры самым нязначным павароце рычажка гучала, як на кірмашы, густа пераплятаючыся, руская, англійская і французская гаворкі.

Віктару і малодшаму лейтэнанту Блюмкіну, які ў гэтую ноч дзяжурыў разам з ім, удалося перахапіць незвычайную навіну: саюзнікі адзначалі перамогу. Гэта вынікала з перадачы англійскай радыёстанцыі, якая зрэдку пераключалася на нямецкую мову. Разведчыкі пападхопліваліся з падлогі, сон з іх як рукой зняло, і шчыльнай сцяной акружылі стол, за якім сядзелі дзяжурныя.

З другой паловы ночы загаварыла па-нямецку наша франтавая радыёстанцыя. Дывізіям і палкам немцаў, якія стаялі перад фронтам, прапаноўвалася здацца ў палон. Называліся нумары вайсковых часцей, прозвішчы камандзіраў, а таксама населеныя пункты, дзе трэба складваць зброю. Праз кожныя дзесяць хвілін перадача паўтаралася. Нямецкая мова, якая на гэты раз гучала з «віражу», была добра зразумелая: на ёй гаварыў рускі чалавек. Разведчыкі стаялі, затаіўшы дыханне...

Калі ў вокнах ледзь-ледзь зашарэла світанне, у пакоік ускочыў узрушаны старшы лейтэнант Пятакоў, камандзір групы.

— Галенчык! — коратка загадаў ён.— У штаб!

Віктар не ведаў, дзе знаходзіцца штаб палка, і Пятакоў павёў яго туды сам. Усю дарогу маўчаў. Нарэшце яны падышлі да нізенькага мураванага дамка, перад ганкам якога стаяў ваенны «газік» з апушчаным брызентавым верхам. У вузкім, як яма, пакоіку за сталом сядзеў начальнік штаба, пасівелы, з прадаўгаватым інтэлігентным тварам маёр Круташынскі, а ўзбоч стала — незнаёмы камлюкаваты палкоўнік з зялёнымі пагонамі пагранічніка. На стале ляжала склеенае прасцірадла двухкіламетроўкі і стаяла запаленая, зусім цывільная лямпа. Маёр узняў на Галенчыка вочы з чырвонымі ад бяссонніцы вейкамі.

— Паедзеце з палкоўнікам. На сустрэчу з немцамі.— Маёр дзюбнуў пальцам у нейкі пункт карты.— Немцы будуць на машыне. Скажаце: «Следуйце за намі». Болей ніякіх слоў. Зразумела?

Палкоўнік-пагранічнік абыякава пацвердзіў:

— Толькі тры словы: «Следуйце за намі».

— Калі ехаць? — спытаў Віктар, зірнуўшы на сваю засаленую, даўно не мытую гімнасцёрку, на змятыя, яшчэ, мабыць, горшыя брыджы, якія тапырыліся на каленях вялікімі пухірамі. Знешні яго выгляд быў зусім не парламенцёрскі.

— Паедзем зараз,— сказаў палкоўнік.— У шэсць ноль-ноль павінны быць у Нойхаўзе.

Пятакоў стаяў ля дзвярэй, глядзеў на Віктара, як бы вінавата ўсміхаўся.

Палкоўнік сеў побач з шафёрам, а Віктар ззаду.

Сонца не ўзышло, але было ўжо зусім светла. Лісце, учора яшчэ кволае, малапрыкметнае, за гэтую ноч шчодра зазелянела. Зацята ціўкалі вераб'і. Яны хоць і нямецкія, але сваім характарам, паводзінамі ніколечкі не адрозніваліся ад тых, якіх Віктар ведаў змалку.

«Газік» імчыць, мінаючы паселішча за паселішчам, якія тут, у Германіі, бадай што зліваюцца. Тыя ж вастраверхія дахі, у вёсках — замкнутыя на манер падковы двары, сям-там мільгне востры шпіль кірхі. Віктар ступіў на нямецкую зямлю яшчэ мінулай восенню, ва Усходняй Прусіі, а ў пачатку зімы іх часць перакінулі сюды, на Першы ўкраінскі фронт. Але да апошняга дня ён бачыў зямлю, на якой ішла вайна, бачыў амаль пустыя гарады і вёскі — немцы насельніцтва выганялі. Тут жа ўсё цэлае, не разбуранае, хоць жыхары і не вытыркаюць носа з памяшканняў.

Палкоўнік маўчыць. Паглыбіўся ва ўласныя думкі, і ў яго такі выгляд, нібы ні шафёра, ні Віктара ў машыне няма. Чымсьці непрыемна гэта маўчанне. Варта было б парай слоў абазвацца. Едуць не ў госці.

Віктар сядзіць і думае аб тым, як скажа патрэбныя словы: «Следуйце за намі». Кожнае з гэтых слоў па-нямецку ён ведае, але ў правільным гучанні ўсёй фразы не ўпэўнен. Вучыў мову несамавіта, службовай ролі артыкляў, прыназоўнікаў, якія кіруюць ладам слоў, да канца не ўсвядоміў, таму хоць і някепска разумее друкаваны тэкст, вусную гаворку, але добрага і пісьменнага сказа не складзе. Таму і ў дадзеным выпадку толкам не ведае, ці пераходны дзеяслоў «следуйце» і ці варта пасля яго ставіць зваротны займеннік.

Зрэшты выйсце знойдзена. Віктар скажа не «следуйце за намі», а «едзьце за намі». Гэты дзеяслоў непераходны. Сэнс будзе той самы, і ў правільнасці сказа ён перакананы. Зваротны займеннік тут не патрэбен...

Пры выездзе з малой — толькі некалькі двароў — вёсачкі машыну раптам прыпынілі. Аднекуль з кювета на вільготную ад ранішняга туману стужку заасфальтаванай шашы выскачылі тры байцы ў плямістых плашч-накідках. Наставіўшы аўтаматы, перагарадзілі дарогу. Палкоўнік выйшаў з машыны, выняў з нагруднай кішэні паперку, перадаў аднаму з байцоў. У гэты час вылез і шафёр, прымацаваў на радыятары вялікі белы сцяг...

Калі машына зноў кранулася, трое байцоў з перавешанымі праз шыю аўтаматамі, пастаўшы ў рад, узялі на каравул. Віктар паспеў заўважыць, што твары іх былі сур’ёзныя, насупленыя...

Далей была зямля, на якую савецкі салдат яшчэ не ступаў. Зялёныя, як і там, на далёкай радзіме, палі жытнёвай руні, бярозавыя і дубовыя гайкі, густая навісь ляшчынніку ўзбоч дарогі. Шаша ўзышла на ўзгорак і стала пятляць па лесе. Можна было думаць, што там, пад дубамі, бярозамі, хвоямі, прытаіліся салдаты нямецкіх палкоў, дывізій, якія мусілі, адпаведна франтавому ўльтыматуму, здацца ў палон. Але лес зласесна маўчаў. Толькі ваўсю рознагалоса шчабяталі абуджаныя раніцай птушкі.

Праехалі яшчэ дзве-тры вёскі. Усюды панавала стоеная цішыня. Ні зыку, ні чалавечага руху. Як бы ўсё вымерла навокал. Ад нямога бязлюддзя Віктару стала ніякавата. Стараўся забыць пра небяспеку, але трывожныя думкі ўспыхвалі міжволі. За вайну некалькі разоў паведамлялася пра забойства парламенцёраў. Апошні раз — у Будапешце. Можа, стаяла такая ж, як цяпер, цішыня? А ў іх нават аўтамата няма. Калі сустрэнуць кулямі, то хутчэй бы. Абы не мёртвае маўчанне...

Наперадзе, за зялёным полем азіміны, паказаліся будынкі горада. Палкоўнік выняў з планшэта карту. Калі пад’ехалі да шлагбаума з паднятай уверх перакладзінай, ён махнуў рукой, загадаўшы спыніцца. Віктар зірнуў на гадзіннік. Было без дзесяці хвілін шэсць. Іх ніхто не сустракаў...

Стаўшы каля машыны ў адзін рад — памочнік пасярэдзіне, Віктар з шафёрам па баках,— дачакаліся шасці гадзін і на ўсялякі выпадак хвілін дзесяць перастаялі.

Нікога не было. Немцы ад сустрэчы ўхіліліся. Можа, яны кінуліся здавацца ў палон саюзнікам?

Бліснулі першыя промні сонца, зайчыкамі зайгралі на пазалочаным шпілі нейкага гарадскога будынка. Палкоўнік падаў знак садзіцца ў машыну. За ўсю дарогу ён так і не прамовіў ніводнага слова.

У вёсцы, якую толькі што праязджалі, парламенцёры пачулі гул матораў. Па шашы ішлі савецкія танкі. І дзіўная рэч: паселішча, якое паўгадзіны назад здавалася мёртвым, раптам ажыло — над варотамі двароў, з акон дамоў, з адтулін франтонаў высоўваліся белыя сцягі...

Яшчэ раз вестку пра перамогу Віктар пачуў, калі яны ўжо вярнуліся ў горад, дзе размяшчаўся штаб палка. Яе выгукнуў шчаслівы вайсковы рэгуліроўшчык, малады чырванашчокі сяржант, які стаяў на скрыжаванні вуліц. Але і без яго ўсё можна было зразумець: салдаты, што сядзелі ў кузавах грузавікоў, махалі пілоткамі, рукамі, крычалі, смяяліся...

Палкоўнік выняў белую хусцінку, выцер слязіну. Горад быў увесь у белых сцягах. Яны звісалі з акон, балконаў...

Віктар, як і ўсе, размахваў рукамі, крычаў — не толькі сваім, а і калоне палонных немцаў, якую вялі па вуліцы. Тады, калі пачалася вайна, яму было толькі шаснаццаць, а цяпер дваццаць, і за гэтыя чатыры гады ён таксама многа пабачыў і перажыў — быў падпольшчыкам і партызанам, і вось ужо амаль два гады на фронце. У сорак першым яму прыйшлося быць сведкам таго, як фашысты займалі іхняе ціхае мястэчка на Палессі, і ён удзячны лёсу, што дажыў да гэтага светлага майскага дня, што пераможцам ступіў на зямлю, якая нарадзіла столькі чалавечага няшчасця.

*1970*

# ЗВОН У ВІХУРНУЮ НОЧ

Вёска Куты — невялікая, усяго дваццаць двароў. Стаіць яна на лясной паляне, што толькі з аднаго боку яднаецца з яшчэ большай, узгоркавай палянай. Амаль да самых хат і даўгой будыніны, дзе размешчана саўгасная аўчарня, падступае густая навісь ляшчынніку і хмурая сцяна ельніку. Летам у Кутах хораша: птушыны шчэбет, мядовы пах кветак, ягады, грыбы. А зімой — глухата. Калі надарыцца снежная віхура, то дарогу да Кутоў пракладваюць трактарам.

Хоць Куты — вёсачка нязначная, але яна як бы валадарыць у наваколлі. Ёсць у ёй васьмігадовая школа, прыгожы будынак якой таксама туліцца да лесу. Пры школе — невялічкі інтэрнат. Дзейнічае ён толькі тры зімовыя месяцы, калі ночы доўгія і вучні з далёкіх вёсак не могуць засветла прыйсці дадому.

Вечар. У пакойчыку-інтэрнаце паліцца грубка. Весела трашчаць ахопленыя яркім полымем яловыя смалякі.

Стась Барэйка і Валерый Томчанка з сёмага класа, якія пазней прыйшлі з урокаў, вараць на плітцы ў закураным кацялку бульбу. Астатнія хлопцы, што вучацца ў пятым і шостым класах, паспелі павячэраць. Двое рыхтуюць за сталом урокі, двое гуляюць у шахматы.

Пры грубцы, стуліўшы калені і трымаючы ў руках пашытую з зайцавай шкуркі шапку, сядзіць Віця Вілюйка. Ён у інтэрнаце не жыве, бо яго хата побач са школай, але кожны вечар прыходзіць да хлопцаў пагуляць.

За сцяной лютуе вецер. Ён усчаўся яшчэ днём, але да вечара не толькі не аціх, а яшчэ болей разгуляўся. Глуха шуміць лес, і калі ўважліва прыслухацца, то здаецца, што ён стогне. Трохі страшнавата ад гэтага працяглага ляснога завывання і ўздыхання.

— Мабыць, восем балаў,— гаворыць чарнявы Стась Барэйка.— Замяце дарогі і лесу наваліць. Як у пазалеташнім годзе.

Валерый Томчанка адцэджвае з кацялка ваду. Ён трохі старэйшы за Стася і Віцю, бо па хваробе адзін год вучобы прапусціў. Можа, з гэтай прычыны пры кожным выпадку Валерый любіць паказаць сваю дасведчанасць. Ён і смеласцю

выхваляецца, бо іншы раз не начуе ў інтэрнаце, а ідзе дадому, хоць да яго вёскі і далекавата — восем кіламетраў.

— Балы бываюць на моры,— нарэшце пярэчыць Валерый.— На зямлі проста вецер.

— А ці не ўсё роўна — на моры ці на сушы?

— Не ўсё роўна. На моры вецер гоніць хвалю. Бывае хваля велічынёй з дом...

Гэтая кароткая спрэчка не замінае хлопцам мірна засесці за вячэру. Да бульбы яны адразаюць па скрыліку сала. Прапаноўваюць павячэраць і Віцю, але той адмаўляецца.

У пакойчык, упускаючы клуб халоднага паветра, заходзіць на хвіліну прыбіральшчыца цётка Насця. Яна жыве пры школе, трохі прыглядае за імі.

— Юшку не забудзьце зачыніць,— папярэджвае яна.— А то да раніцы ўсё цяпло выдзьме. Толькі каб галавешкі не было.

А вецер яшчэ болей разыходзіцца. Ён нібы б’е ў сцяну чымсьці цяжкім, цвёрдым. У лесе — суцэльны гул. Як быццам паўзе па ім агромністае страшыдла, ломячы і крышачы ўсё на сваім шляху. Страшэнны шоргат пачуўся наверсе, з дзікім енкам штосьці праляцела міма заснежанага акна. Відаць, з даху сарвала колькі лістоў бляхі. Пяцікласнікі з шасцікласнікамі кінулі ўрокі, шахматы, трывожна прыслухоўваюцца.

— Чатырнаццаць балаў,— гаворыць Стась Барэйка.

Святло раптам пагасла. Толькі бляклыя водсветы ад грубкі мігцяць у цемені пячуркі. Хлопцы хто стаіць, хто прысеў на кукішкі. Дзікае завыванне, трэск і грукат даносяцца з панадворка. Нават трохі дымна ў пакойчыку: вецер, мабыць, замінае дыму выходзіць з коміна.

Хвілін праз колькі каля дзвярэй пачуўся шоргат, і яны адчыніліся. Зноў увайшла цётка Насця, яна чарканула сярнічкай і запаліла прынесеную з сабой лямпу.

— Бяда,— сказала прыбіральшчыца,— палавіну даху знясло. Драты парвала, святла нідзе не відно. Ты, Віця, дадому не ідзі, начуй тут. Вецер такі, што дыхаць не дае. Снегам, як шротам, сячэ...

Прыбіральшчыца пайшла, а хлопцы зноў трывожна прыслухоўваюцца. Віхура не аціхала. Грукат, гул, дзікі лямант па-ранейшаму чуліся за сцяной. Па даху нібыта скакала сто чарцей.

— Хлопцы, а што, калі чалавека засцігне ў такую ноч? — раптам спытаў Стась Барэйка.— Дзе-небудзь у лесе ці ў полі...

Хлопцы маўчаць. Стоеная цішыня пануе некалькі хвілін.

— Пазалетась тут шафёр замёрз,— сказаў Віця Вілюйка.— Блізка да школы. Тады, як бура была і лес паваліла. Шафёр збіўся з дарогі і вылез з кабіны. Мабыць, дарогі шукаў. Каб не вылез з машыны, можа б, і не загінуў. Святла не было, ноч доўгая. Ён блудзіў тут, блізка. Можа, дрэвам яго ўдарыла...

Зноў на хвіліну запанавала маўчанне. Яго парушыў Стась:

— Хлопцы, трэба нешта рабіць. Можа, і цяпер дзе-небудзь блізка ходзіць чалавек. Загіне, калі не паможам...

— А чым ты паможаш? — няўпэўнена адазваўся Валерый.

— Я прыдумаў, хлопцы. На дрывотні ёсць дзве жалезныя рэйкі. Нават з дзіркамі. Прывяжам іх да турніка. Разумееце, што можа быць на такім ветры?..

— А што можа быць? — перапытаў Валерый.

— Будзе звон. Рэйкі будуць біцца адна аб другую. Чалавек пачуе звон...

Хлопцы пападхопліваліся, захадзілі па пакоі.

— Пойдзем утрох! — тонам загаду раптам загаварыў Стась.— Я, Валерка і Віця. Астатнім аставацца на месцы. Калі што якое, скажаце цётцы Насці...

Стась і Валерый апрануліся, а танклявы Віця, які сядзеў у кажушку, надзеў толькі сваю зайцаву шапку. Пабраўшыся за рукі, хлопцы асцярожна выйшлі за дзверы...

Тыя чацвёра, што асталіся ў пакойчыку, доўга іх чакалі. Акрамя гулу і посвісту ветру, у коміне нічога не было чуваць. Нарэшце да іх слыху сталі даносіцца частыя мерныя ўдары. Рэйкі звінелі...

Стась, Валерый і Віця вярнуліся адубелыя, зацярушаныя снегам. Усе доўга не маглі заснуць. Ім здавалася, што вось-вось нехта пастукае ў дзверы, папросіцца на начлег. Але толькі вецер шалеў за сцяной ды пазвоньвалі прывязаныя да турніка рэйкі.

Нарэшце, мабыць пад самую поўнач, хлопцы палеглі спаць. Віця прымасціўся на адным ложку са Стасем.

Рэйкі звінелі выразна, іх за цэлую вярсту мог пачуць чалавек.

*1970*

# КАСЦЮМ СТАРЭЙШАГА БРАТА

Мне было дваццаць гадоў, але я канчаў толькі сёмы клас вячэрняй школы. Так ужо здарылася, што парадкам запазніўся з навукай.

Той дзень, калі я ішоў здаваць пісьмовую матэматыку — самы адказны экзамен,— быў сонечны. Шапацелі маладой лістотай бярозы і таполі на школьным двары. Па двары гэтым хадзіў некалі мой старэйшы брат Вадзім. Даўно, болей як дзесяць гадоў назад. Тады тут была школа-дзесяцігодка. Цяпер жа — сямігодка, ды і то вячэрняя — для такіх недавучак, як я. Дзесяцігодку пабудавалі новую — у гарадку вырас каменны гмах на тры паверхі.

Ноч перад экзаменамі я спаў кепска. Лезлі ў галаву ўраўненні — з адным і двума невядомымі. Хутчэй за ўсё задача будзе з імі. Адзін поезд выйшаў са станцыі А, другі, насустрач яму,— са станцыі Б. Будзе пару якіх-небудзь лічбін наконт хуткасці, часу ці адлегласці паміж станцыямі, і, калі ласка, рашы, калі паязды сустрэнуцца. Задачы як галаваломкі, але настаўнік на кансультацыі намякаў, што дадуць, па ўсёй верагоднасці, іменна такія. Прынясуць з райана канверт з сургучнай пячаткай і перад класам зломяць сургуч... Настаўнік, вядома, рашыць задачу...

Балела галава, апетыту не было. Але маці прымусіла мяне выпіць шклянку чаю і з’есці намазаную маслам скібку хлеба. На спінцы крэсла вісела адпрасаваная белая кашуля. У такіх кашулях заўсёды хадзіў здаваць экзамены брат Вадзім. Шчоўкаў іх, як арэшкі, нязменна прыносячы адны пяцёркі. У мяне ж пяцёркі ніколі не было. Праўдзівей, перад самай вайной адна была, але наконт яе нават брыдка прызнавацца. У пасведчанні за чацвёрты клас, якое я хацеў утаіць ад маці, бо мяне пакінулі другагоднікам, па ўсіх дзевяці прадметах стаяла «дрэнна». «Добра» было па фізкультуры і «выдатна» — па спевах. Не ведаю, чаму настаўніца, якая ні ў грош мяне не ставіла, раптам так высока ацаніла мой голас. Можа, таму, што я гучней за ўсіх галёкаў на перапынках, а можа, проста хацела падбадзёрыць...

І цяпер у мяне адзнакі не зусім бліскучыя. Пераважна выратавальныя тройкі. «Добра» толькі па геаграфіі і гісторыі.

Але мне іншы раз здаецца, што настаўнік перабольшыў мае веды па гэтых прадметах з-за страху: вечарам мы ідзём дамоў па адной вуліцы, а я ўдвая вышэй за яго ростам...

— Хоць бы на тройку, — прамовіла маці, калі я пачаў рассоўваць па кішэнях нарыхтаваныя малодшымі братамі і сястрой шпаргалкі па алгебры.

Яны перарашалі для мяне, мабыць, увесь задачнік. Брату шаснаццаць гадоў, але ён канчае дзявяты клас. Валя, сястра, з выгляду недарослая піскуха, але ходзіць, як і я, у сёмы. Вучыцца, вядома, не так, як Вадзім, але ўвогуле прыстойна.

Са сцяны пакоя на мяне пазірае Вадзім. Вочы злёгку прыплюшчаны і як бы пасміхаюцца. Маці зрабіла Вадзіму партрэт са звычайнай фотакарткі толькі сёлетняй вясной, хоць з таго дня, як прыйшло першае аб ім паведамленне, мінула нямала гадоў. Калі наш гарадок вызвалілі ад немцаў, мы доўга, можа, цэлага паўгода, чакалі ад Вадзіма лістоў. Потым пачалі пісаць самі. Нарэшце ў канцы вайны прыйшла надрукаваная на машынцы паперка, дзе паведамлялася, што Вадзім прапаў без вестак.

Я ўвесь гэты час амаль не вучыўся. Быў старэйшым у сям'і і пасля сканчэння вайны працаваў аглядчыкам вагонаў на вялікай станцыі, за сорак вёрст ад гарадка. Толькі пазалетась вярнуўся дадому. Сям'і не памагаў, бо сам ледзь зводзіў канцы з канцамі.

— Ты не спяшайся, а думай, думай,— зноў сказала маці.

Я хацеў агрызнуцца, але стрымаўся. Маці зла не жадае. Даўно ведае, што мне хочацца паступіць у школу памочнікаў паравозных машыністаў. Мае таварышы, з якімі разам хадзіў з доўгім малатком, абстукваючы вагонныя колы і бандажы вагонаў, ужо на паравозах. Але ў іх за плячамі адукацыя, сямігодка.

Увесь час, як дакор над маім сумленнем, стаіць прыклад старэйшага брата Вадзіма. У шаснаццаць гадоў ён скончыў дзесяцігодку з атэстатам выдатніка. З-за маладосці яго не хацелі браць у інстытут, а ён свайго дамогся. Хутка ўвялі плату за навучанне, стыпендыю плацілі толькі тым, хто займаўся добра. Многія, хто паехаў вучыцца разам з Вадзімам, вярнуліся дадому. А ён не вярнуўся, бо вучыўся бліскуча. З дому не браў ні капейкі і нават прывозіў сякія-такія падарункі маці.

Часта я нават злаваўся на Вадзіма. Ну няхай у яго прафесарская галава, але не ўсім жа быць такімі. Трэба каму-небудзь і аглядчыкам вагонаў укалваць. На адных беларучках свет не стаіць!.. Але чым далей, тым болей пачынаў я разумець, што мая злосць недарэчная.

Перавёўшыся на сваю станцыю, я паступіў у шосты клас. Пяты прапусціў — сорамна ў дваццаць гадоў хадзіць у пяты. Чытаў кожную вольную хвіліну, выракся пагулянак, за два гады ні разу не схадзіў у кіно. Але ў галаве ўсё адно страшэнная мешаніна.

— Здасі,— сказала маці, калі я выходзіў з дому.— Толькі не хвалюйся. Вадзім заўсёды ішоў на экзамен спакойны. Ён многа займаўся. Але ж і ты столькі сядзеў... Я нават дзівілася...

Не ведаю чаму, але па дарозе ў школу я думаў пра Вадзіма. Увогуле, я мала аб ім думаў, адразу паверыўшы, што ён загінуў. Маці, наадварот, не верыла. Колькі яна папісала ў розныя вайсковыя інстанцыі, жадаючы даведацца хоць што-небудзь пра старэйшага сына. Колькі папахадзіла, распытваючы тых, хто вярнуўся з арміі, з палону, каго рэпатрыіравалі з чужых краін. І ўсё марна. Ніхто пра Вадзіма нічога не ведаў.

Толькі з’ездзіўшы ў той горад, у інстытут, дзе Вадзім вучыўся, маці прывезла сякія-такія звесткі. Вадзім быў залічаны ў студэнцкі батальён і загінуў, хутчэй за ўсё, на пачатку вайны, у цяжкім сорак першым годзе...

Я прыйшоў у клас і сеў за парту. Зірнуў на сваіх таварышаў. Такіх, як я, пераросткаў было двое ці трое, астатнія — зялёныя хлапчукі, якіх вытурылі з дзённай школы за гультайства, курэнне і іншыя непрывабныя ўчынкі. Чамусьці я перастаў хвалявацца...

Задача была тая ж, якую прарочылі на кансультацыі: пра два паязды. Толькі яны выйшлі не насустрач адзін другому, а ўслед. У другога хуткасць была большая, ён мусіў дагнаць першы.

Для нагляднасці я намаляваў нават схему руху гэтых уяўных паяздоў. Склаў ураўненне. Падышоў настаўнік, зірнуў на мае практыкаванні і, усміхнуўшыся, адышоў. Ля другіх ён стаяў даўжэй, хмурыўся, нават маўкліва тыцкаў пальцам у лісткі.

Адным словам, спачатку я адчуў, што рашу задачу, а потым рашыў. Першы з усяго класа. Паклаў лісткі на стол. Асістэнт,

маладая жанчына, прабегла маё рашэнне вачамі і, мабыць парушаючы ўсе інструкцыі, уголас сказала: «Усё ў парадку». Клас — усе дваццаць вячэрнікаў — адарваліся ад папер і глядзелі на мяне. Упершыню ў жыцці піў я вялікую слодыч пачуцця, якое, мабыць, добра ведаў мой брат Вадзім: радасць, задавальненне ад таго, што ты перамог...

Дадому я адразу не пайшоў. Блукаў па вуліцах, чамусьці рушыў на могілкі. Там магіла бацькі. Ён рана, калі мне было ўсяго гадоў восем, памёр ад сухотаў. Але думаў я не пра бацьку, а зноў пра Вадзіма. Я ўсё-такі быў вінаваты перад ім. Калі пачалася вайна, ён прыехаў да нас. Прывёз два вялікія чамаданы кніг і новы шавіётавы касцюм. Пакінуў на захаванне.

Кнігі, цішком выцягваючы з шафы, я прадаў у першы год пасля вайны. Цяжка было з харчаваннем. А калі падрос, некалькі разоў патрабаваў у маці братаў касцюм. Ён, як мне здавалася, вісеў без карысці. Але маці ні разу не дазволіла яго надзець. Нават слухаць не хацела...

Праз тры дні быў назначаны выпускны вечар. Нам мусілі выдаць на ім пасведчанні аб сканчэнні сямігодкі.

Калі я прыйшоў са станцыі дадому, каб апошні раз сабрацца ў школу, на спінцы крэсла вісеў сіні Вадзімаў касцюм.

— Надзень, сынок,— ціха сказала маці.— Насі яго. Ты ў нас старэйшы...

*1970*

## МЯШОК БЕЛАГА НАЛІВУ

— Заўтра, сынок, паедзем у мястэчка, прададзім яблыкі,— сказала Васю маці, прыбегшы са жніва.— Пазычым у Амелькі драбіны, а мяшок возьмем у Насты. Я ў яе папрасіла...

— Не трэба мне драбіны,— адказаў Вася.— Я і так залезу.

— Голле паломіш. Яблынька маладая. Не будзь неслухам.

Маці зноў пайшла. Яна жне жыта, якое сеялі яшчэ пры немцах. Праўдзівей кажучы, немцы ў Бывальках, дзе жыве Вася і дзе ўсяго толькі трыццаць двароў, за ўсю вайну былі толькі адзін раз. Мінулым летам прыехалі на танкетках і спалілі вёску.

Вася зрабіў так, як сказала маці. Драбіны, збітыя з неачэсаных бярэзін, прынёс ад крывога Амелькі, а крапіўны мех яму дала Наста. Яна заўсёды дома, сядзіць або ляжыць на посцілцы ля зямлянкі. У Насты адняліся ногі, і яна нічога рабіць не можа. Толькі поле грады ці рве пер’е.

Яблынька танклявая, і прыставіць да яе лесвіцу не так проста. Але Вася знайшоў выйсце. Паставіў драбіны амаль строма, а збоку, каб лішне не ціснуць на дрэва, падпёр іх жардзінай з рагулькай на канцы. З ніжніх галін можна было абіраць яблыкі наогул без лесвіцы. Хораша ў Бывальках летам. Асабліва калі глядзець на ваколіцы зверху. Жаўцеюць, як залатыя, палоскі жыта. Клін ярыны, бульбы нагадвае вялікі зялёны дыван. Поле нібы падковай акружана лесам. А там, дзе лес адступае, цягнуцца сенажаці з круглымі, як надзьмутыя шары, кустамі лазнякоў. Над полем, лугамі трымціцьпераліваецца сіняватая смуга. Толькі сама вёска выгляд мае непрывабны. Зверху зямлянкі падобны на гурбачкі зямлі, якую натачылі краты. Вызначае вуліцу пакуль што вялізная хата, якую паставіў Кузьма Ахрэмчык. Ён робіць у леспрамгасе і дрэва вывез на машыне. Васевай маці Кузьма таксама памог прывезці бярвенне.

Яблыкі Вася абірае спачатку з верхніх галін. Можна было б іх проста атрэсці, але тады яны паб’юцца аб дол. А так, тручыся адно аб другое ў Васі за пазухай, яны рыпяць, нібы новыя хромавыя боты.

Калі Вася насыпаў палавіну мяшка, у двор зайшоў сусед Пятро Рабец. Цяпер у Пятра часу мала, бо ён пасвіць жывёлу — калгасную і аднаасобную разам. Мабыць, прыгнаў на абед.

— На базар павезяце яблыкі? — спытаў Пятро.

— На базар.

— Хату будзеце ставіць?

— Хату.

— Цяпер добра можна ўзяць. Анэля гуркі насіла, то брала па трыццаць капеек за штуку. А яблыкі ж даражэй.

— Даражэй,— пацвердзіў Вася.

— На тысячу рублёў тут будзе,— сказаў Пятро.— Бярвенне пачасаць хопіць. Дзе на зруб грошы возьмеце?

— Не ведаю,— адказаў Вася.— Прыдумаем што-небудзь. Пазыкі папросім. Маці хадзіла ў ваенкамат, узяла паперу.

— Вам павінны даць. Ёсць закон — у каго хто на фронце, даваць у першую чаргу...

Пятро стаяў і глядзеў на яблыню. Ён хацеў яблыка. Васю было шкада сябра. У Пятра да вайны было аж дзве яблыні. Але яны згарэлі — стаялі блізка ля хаты. І бацька ў яго не на фронце — проста памёр. Пазыкі ім у першую чаргу, мабыць, не дадуць.

— Пашукай у бульбе,— сказаў Вася.— Калі знойдзеш паданку, то вазьмі. Бяры колькі знойдзеш. Я сам ніводнага яблыка не з'еў. Толькі паданку. Маці кажа, да Спаса нельга есці.

Пятро адразу шуснуў у бульбоўнік. Учора лазіў там сам Вася, адшукаў два чарвівыя яблычкі. Можа, за гэтую ноч яшчэ трохі нападала. Але Пятро нічога не знайшоў.

— Няма,— сказаў ён.— Я пайду, мне трэба кароў выганяць.

Вася страсянуў верхнюю галіну, і на дол, абрываючы лісце, паляцелі два ці тры яблыкі.

— Вазьмі,— сказаў ён.— Усё адно на хату не хопіць. Толькі на вуліцы не еш. А то калі ўбачаць, то набягуць. Казік, Юрка. Дзе я ўсім набяруся?..

— Я не буду есці,— паабяцаў Пятро, хаваючы яблыкі за пазуху.— Я табе жаваранкава гняздо пакажу. Выводзіцца за лета другі раз...

Мяшок быў поўны — як завязаць. Вася зайшоў у зямлянку, знайшоў іголку, суравую нітку і зашыў яго. Такі ход прыдумаў ён сам, каб болей нікому не раздаваць яблыкаў. Ахвотнікі знойдуцца. Хай толькі дачуюцца.

Назаўтра быў нядзельны дзень, сухарукі Кузьма Ахрэмчык, леспрамгасаўскі шафёр, разам з іншымі вясковымі кабетамі, якія везлі сёе-тое на рынак, пасадзіў у кузаў Васеву маці і яго самога.

— Што Іван піша? — спытаў ён пра бацьку.

— Ваюе, два тыдні пісьма няма. Можа, дзе галаву зложыў,— маці заплакала.

— У Польшчы бацька,— сказаў Вася.— У артылерыі.

— А ты адкуль ведаеш?

— Ён так хітра запісаў: «За віслу шлём падарункі». Віслу з малой літары напісаў. Каб не выкраслілі. Бо ёсць радкі скрозь павыкрасленыя, нічога не разбярэш.

— Ты разбярэш! — сказаў Кузьма і палез у кабіну.

Кабет шафёр высадзіў на мястэчковым рынку, а маці параіў там не злазіць — яблыкаў хапала. Паехалі на станцыю. Там

таксама стаялі драўляныя рады, на іх бітоны з малаком, кучкі салёных агуркоў, нейкія піражкі.

Яблыкі, каб доўга не стаяць, маці наважыла прадаць танна — два на рубель. Паспелі прадаць толькі адну невялікую кучку. На станцыі, якраз насупраць драўляных радоў, раптам спыніўся эшалон, і ў тую ж хвіліну з зялёных пасажырскіх вагонаў з завешанымі вокнамі пачалі выскокваць салдаты. Усе, хто вылазіў з вагонаў, былі параненыя. Хто нёс руку на марлевай перавязі, у каго забінтавана галава, у некаторых бінты праглядвалі з расхлістаных варатнікоў гімнасцёрак.

— Почём яблоки, мамаша? — спытаў малады чарнявы салдацік, у якога на галаве, паверх бінтоў, праступалі рудыя, крывавыя плямы.

Маці маўчала...

Між тым збіралася чарга. Падбягалі новыя параненыя.

— А ў вас жа і такія ёсць, што хадзіць не могуць? — раптам спытала маці.

— Есть, мамаша. Есть всякие — сидящие, лежащие и даже висящие...

Матчын твар прасвятлеў.

— То бярыце на здароўе. І тым, што ў вагоне, занясіце...

Салдаты ўсё зразумелі. Смех, жарты раптам спыніліся. Бралі па два-тры яблыкі і маўкліва адыходзілі...

Салдат было многа. Мяшок хутка апусцеў...

Ужо на станцыі трэці раз прагучаў званок, як з вагона выскачыў першы, чарнявы салдат з забінтаванай галавой.

— Ты в какой класс ходишь? — спытаў ён Васю.

— У пяты.

Вася сказаў амаль праўду. Да вайны ён скончыў толькі два класы, а цяпер пайшоў адразу ў чацвёрты. І хоць вучыўся мала, толькі два месяцы, настаўніца абяцала перавесці ў пяты клас...

— Так вот тебе наш подарок. Извини, брат, что бедный...

Салдат даў хлопцу ў рукі тоўсты, з цвёрдай вокладкай сшытак...

Вася зірнуў на маці: яе вочы неяк незвычайна свяціліся. Ён сам быў рады, што не прадавалі гэтых яблыкаў.

*1970*

# СВЯТЛО Ў ВОКНАХ

Быў другі дзень кастрычніцкіх свят. У першы дзень яшчэ даволі малады прафесар Чарнейка быў у гасцях у загадчыка паралельнага сектара іхняга інстытута. Было весела, тлумна, многа пілі, пелі, танцавалі пад магнітафон. Ён сам быў у добрым гуморы — выгукваў жартоўныя тосты, смешна выкідваючы доўгія ногі, цешыў усіх, паказваючы, як скачуць у іхняй вёсцы, нарэшце стаў зацята завіхацца каля гаспадыні. Кончылася тым, што гаспадар Пятрок Сяргейчык, добры таварыш і паверaны ў дзелавых і ўсялякіх іншых справах, вынес з кладоўкі заржавелую дубальтоўку, выклікаючы яго, Дзімітрыя Іванавіча, на дуэль...

Нават уласнай жонцы ён учора спадабаўся. «Люблю цябе такога»,— сказала яна, тулячыся плячом да яго пляча, калі яны па бязлюдным мокрым асфальце крочылі дамоў.

А сёння было звычайнае. Сняданне Людзе і Клаве прыгатавала цешча, якая жыве разам з імі, бадай, адна нясе цяжар гаспадарчых згрызот і клопатаў. Дочкі пайшлі ў кіно, цешча лягла адпачыць. Жонка, пакуль Дзімітрый Іванавіч галіўся і ўмываўся, стаяла ля люстэрка, прычэсвалася.

— Дык ты не пойдзеш да Красуцкіх? — спытала яна, хоць добра ведала, што ён не пойдзе.

— Паеду да мядзведзяў,— адказаў ён.

— Слухай, Дзіма... Проста смешна... Ехаць на свята ў пусты, халодны лес...

— Ён не пусты. Прывязу зялёнак. Заўтра мама насмажыць, і амаль зімой будзем есці свежыя грыбы. Чыя яшчэ жонка мае такога мужа?..

— Які ты муж, я ведаю...

Дзімітрый Іванавіч апрануў старое паліто, кінуў у гаспадарчую сумку ножык, кавалак хлеба, пару яблыкаў і рушыў на вуліцу, да тралейбуса, каб трапіць на электрычку, якая адыходзіць у дванаццаць гадзін.

Калі наступае грыбная пара, Чарнейка дня пражыць не можа, каб не рушыць у лес. Утаймоўваючы самалюбства, ён звоніць тады знаёмым, у якіх ёсць «Масквічы», «Волгі», нават тым з іх, з кім зусім не таварышуе. Ён, зрэшты, не грэбуе і аўтобусам, электрычкамі — абы пабываць у лесе. Такая

вялікая прага вырвацца з будзёншчыны, з горада, павандраваць на прасторы. Цяпер позняя восень, але грыбы яшчэ ёсць...

І вось плывуць міма акна знаёмыя сасннякі-пасадкі, шэрыя з лапінамі прозелені лугавіны, асеннія палі. Там, за акном, вясковая звычайнасць, і Дзімітрый Іванавіч поўніцца ёю, ні на што асабліва не звяртаючы ўвагі, убіраючы зрокам знаёмыя здаўна малюнкі. Трэці прыпынак — вельмі ахайная прыгарадная станцыя, усе драўляныя памяшканні якой пафарбаваны, адпаведна чыгуначнаму статуту, у жоўты колер. Мокрым чорным ліпам, ясеням, беластволым бярозам, што шчыльна атуляюць станцыю, відаць, болей як па сто гадоў. Нават голыя яны так спляліся сукамі і веццем, што іх вершаліны ўтварылі суцэльны полаг. За гэтай станцыяй, на вытаптаным лужку заўсёды пасецца каза, і Дзімітрыю Іванавічу прыемна бачыць яе, бо яна як бы сведчыць у карысць пастаянства і парадку, на якім заснаваны свет.

Каза і цяпер на месцы. Задраўшы галаву, маўклівым позіркам праводзіць яна цягнік, да якога даўно прывыкла, бо не адыходзіць ад насыпу ні на крок. Мільгаюць тарфянікі, зялёныя дамкі дачнікаў, мокрае шэрае кустоўе. У вагоне — амаль пуста, едуць дзве немаладыя пары з поўнымі кошыкамі і авоськамі. Відаць, у госці да сваякоў. Асобна сядзіць засмучаная дзяўчына ў лёгкім зялёным палітончыку, у вузкіх спартыўнага фасону штанах, што шчыльна аблягаюць маладыя стройныя ногі.

Станцыя, на якой вылазіць Дзімітрый Іванавіч, у познюю асеннюю пару заўсёды ціхая. Дачнікі не ездзяць, а сваіх жыхароў мала. Людзям, што жывуць тут у драўляных, пад шыфернымі дахамі дамках, можна пазайздросціць. Яны на прыволлі, дыхаюць добрым паветрам. Жывуць у лясной цішыні. Ноччу ім, мабыць, сняцца ціхія, спакойныя сны. Хоць, з другога боку, Дзімітрый Іванавіч ні разу не бачыў тутэйшых тубыльцаў, якія б корпаліся ў сваіх садках ці сядзелі на лавачках. Хутчэй за ўсё, яны працуюць у горадзе, а сюды толькі прыязджаюць начаваць...

Насупраць летняга, з адным толькі навесам станцыйнага памяшкання ацэментаваны, з драўлянай будачкай-накрыўкай калодзеж. Дзімітрый Іванавіч перабіраецца праз утрамбаваныя шчэбнем пуці, кідае ў прорву каменнага жарала вядро і з

прыемнасцю слухае, як звініць жалезны ланцуг, як усё імклівей раскручваецца самаробны ворат, як нарэшце там, у недасяжнай глыбіні, вядро плюхае ў ваду. Вада тут адменная: празрыстая, як сляза, і крынічна-сцюдзёная. Піць Дзімітрый Іванавіч не хоча, але ўсё ж прыкладваецца губамі да халоднага краю вядра і ў бутэльку вады налівае.

Калодзеж стаіць на гурбачку, і адсюль праз грэбень вершалін маладога бярэзніку, якім зарасла нізіна паміж чыгункай і прылеглай да яе шашой, можна ўбачыць кляштарную вежу суседняга гарадка. Гарадок старажытны, упамінаецца ў летапісе дванаццатага стагоддзя, але цяпер страціў сваё значэнне нашчэнт — нават як раённы цэнтр яго ліквідавалі. І ўсё ж тутэйшая зямля выклікае ў Дзімітрыя Іванавіча своеасаблівае адчуванне: над ёй прашумелі вякі, і колькі чалавечых ног яе топталі...

Адразу за станцыяй віецца рачулка-канаўка з незвычайна празрыстай вадой. Скрозь па тарфяных, чорных берагах яна зарасла алешнікам, лазняком, але дно пясчанае, засланае дробнымі шэрымі каменьчыкамі. Можа, таму, што мясцовасць узгоркаватая, рэчачка мае дзіўны нораў: яе напаткаеш усюды ў тутэйшым абсягу. На трох ці чатырох станцыях праз яе пракладзены масты, прабегшы вярсту ці дзве ўперад, яна вяртаецца на такую ж адлегласць назад, бесклапотна булькаючы пад кладкамі і вываратнямі-дзеравякамі. Зрэшты, карысць для грыбнікоў, што блукаюць у тутэйшых мясцінах, з рачулкі неацэнная: у любым месцы можна напіцца.

Хвойнікі падбягаюць амаль да самай станцыі. Да іх вядзе спачатку чорная тарфяная сцежка, што злёгку падрыгвае пад нагамі, а затым раз’езджаная пясчаная дарога. Гэтай дарогай, якая паглыбляецца ў лес, Чарнейка і кіруе, бо ў бліжэйшых сасняках, дзе цвёрды пясчаны дол засланы рудой ігліцай, у такую познюю пару грыба не знойдзеш. Ножык-складанчык ён з кошыка, аднак, вымае, распрамляе лязо — па лесе трэба ісці з нажом.

Зрэшты, тое, дзеля чаго ён выбіраецца з горада, пачынаецца для Дзімітрыя Іванавіча адразу, як толькі ён ступае пад густыя хвойныя шаты. Дзень ціхі, але ў зялёных вершалінах пашумлівае вецер. Задуменная музыка лесу настройвае на роздум, на летуценную развагу.

Можна хадзіць па лесе цэлы дзень, а думка будзе адна, яна толькі разгаліноўваецца, пашыраецца і паглыбляецца, захопліваючы ў свае абсягі тое, аб чым не думалася ўчора і пазаўчора.

Сасоннік канчаецца, пачынаецца чарналессе. Дарога цвёрдая, аплеценая каранямі дрэў, абмытая частымі асеннімі дажджамі.

У выбоінах і цяпер яшчэ стаіць вада. Пад вольхамі, густым ляшчыннікам і асінамі нічога не расце нават летам, хіба толькі дробныя грыбы-паганкі. Спакой тут поўны: чуваць нават, як падаюць на засланую лісцем зямлю цяжкія рэдкія кроплі.

Доўгая дзялянка чарналесся перарываецца прасекай, па якой пралягае лінія высакавольтнай перадачы. Адразу за гэтай прасекай мясціны, да якіх дабіраецца Дзімітрый Іванавіч. Таксама сасоннікі, але парослыя вераском, з мяккім імшаным долам. Мох яшчэ захоўвае пад сваёй коўдрай цеплыню лета, і па ім на доўгіх крамяных ножках растуць зялёнкі. Ніводнай чарвівай у познюю халодную пару не ўбачыш. Пра гэта нават добрыя грыбнікі ведаюць не ўсе...

Чорную сагнутую бабульку Дзімітрый Іванавіч убачыў здалёк. Яна ўжо шмаруе па яго грыбовішчах — відаць, прыехала ранішнім цягніком. Бабульку ён сустракае ў лесе, а таксама на станцыі гадоў пяць ці шэсць і нават прыдумаў гісторыю, якая тлумачыць яе гэтае старэчае бадзянне. Прадала ў вёсцы хату і прыехала ў горад да сына. З нявесткай не ўжылася. Але хаты няма, грошай таксама няма — правялі,— і няма куды дзецца...

Правільная яго здагадка ці не, Чарнейка не ведае. Сустракацца з кім-небудзь твар у твар бабулька не любіць. Убачыўшы чалавека, шмыгае ў гушчар. Але ён заўважыў, што старая не толькі збірае грыбы, а ірве траву, розныя зёлкі, абламвае з камлёў старых бяроз і ялін губу.

Ездзіць у лес дзень у дзень...

Дзімітрый Іванавіч адчувае, што чымсьці блізкі да бяздомнай бабулькі, бо і яму няма куды дзецца. Асабліва ў святочныя дні, калі пасля работы нельга пайсці ў бібліятэку і сядзець там да поўначы.

Бабулька рушыла на левы бок дарогі, а ён — на правы. Нырнуўшы ў сасоннік, ён адразу стаў натрапляць на зялёнкі. Растуць яшчэ, і даволі густа. На паверхню амаль не

вытыркаюцца, сядзяць пад мохам, але ён ведае іхні звычай амаль дакладна, узіраючыся крыху ў прыўзняты мох, знаходзіць іх схованкі...

Нядобрае ў сям'і пачалося даўно, і Дзімітрый Іванавіч да няўрымслівых перажыванняў, якія валодалі ім некалькі гадоў назад, адносіцца нават з гумарам. Тады яму здавалася, што не вытрымае, што няма ніякага сэнсу жыць. Аднак жа сэнс знайшоўся, і на заляцанні жонкі, якіх бывае па меншай меры два на год, ён глядзіць цяпер з лёгкім спачуваннем. Як сказана ў паэта, якога ён, Чарнейка, любіць: «З-пад маёй улады выйшла і чужой не знайшла...»

Дзімітрыю Іванавічу здаецца, што яго ад цяжкай душэўнай хваробы вылечыў лес. А можа, яшчэ цішыня і прыгажосць. У верасні гараджан поўна ў вакольных барах аж за сотню вёрст, а ў кастрычніку лес заціхае. Тады наступае залатая пара для Чарнейкі. Яна і сама па сабе была залатая. Атуленыя вэлюмам жаўталісця стаяць бярозы, дубы, рэдкія ў тутэйшых лясах клёны, барвовымі вогнішчамі палымнеюць асіны...

Вандруючы па асенніх пералесках, ён супакойваўся. Як бы настройваўся на вечнасць. Ён адчуваў, што ёсць самая цесная сувязь паміж стоенымі імкненнямі чалавека і ўсім тым, што робіцца ў навакольнай прыродзе. Чаму лёгкі, шчымліва-прыемны смутак ахоплівае душу іменна восенню? Можа, таму, што голае поле, парудзелая трава, апалае лісце нагадваюць чалавеку аб тым, што і яго жыццё не вечнае...

Пры ўсёй ціхай, нячутнай барацьбе, якая ідзе ў прыродзе, існуюць сталыя формы, парадак, прыгажосць, якія, мабыць, і азначаюць найвышэйшую мэтазгоднасць той ці іншай формы.

Прыгожыя сасна, бяроза, дуб. Калі ёсць парадак у прыродзе, то ён мусіць быць і ў чалавека, бо чалавек таксама часціна прыроды...

У жонкі, калі яна вяртаецца са спатканняў, часта заплаканыя вочы. Не ладзіць са сваімі палюбоўнікамі. Мабыць, раўнуе іх да другіх жанчын. Заводзіць, каб адпомсціць, новыя сувязі. Увесь час чагосьці шукае і не можа знайсці... У тым свеце, які цалкам паглынуў жонку, ніякага парадку, сталых каштоўнасцей, відаць, няма...

Тады, калі Чарнейка блукаў па лесе з кошыкам ці са стрэльбай у руках, ён, відаць, задавальняў свой інстынкт

паляўнічага. Усе мужчыны трошкі паляўнічыя. Ім трэба перамогі. Такіх маленькіх перамог у яго было многа. Гэта таксама ратавала. Але галоўнае — работа. Ён тады жыў на пачуцці супраціўлення і пісаў сваю каронную, як лічыў, кнігу «Народны ідэал у песнях». Патаемна песціў надзею, што калі напіша добра, то жонка зірне на яго другімі вачамі. Будзе каяцца, дакараць сябе, няхай у душы. Чорта з два!.. Два гады, як кніга выйшла. Хвалілі. Адносіны з жонкай засталіся ранейшыя. Хоць ёй ужо за сорак, і, здаецца, можна было б спыніцца...

Дзімітрый Іванавіч сам не заўважыў, як у лесе раптам пацямнела. Зірнуў на неба і зразумеў прычыну — над соснамі віселі нізкія, свінцовага колеру хмары. Пачала сыпацца рэдкая снежная крупка. Ён нават усцешыўся: яшчэ ніколі не прыходзілася збіраць грыбоў па снезе. Зімнія грыбы!..

Пятнаццаць гадоў назад Дзімітрый Іванавіч, тады яшчэ студэнт, пакінуў першую жонку з маленькай дачкой. Таксама за тое, што загарэлася пабочным каханнем. Цяпер ён дачок не пакіне нават у тым выпадку, калі б раптам неба паляцела на зямлю. Дзецям патрэбны бацькі. Без бацькі ім кепска. Сам ён выхоўваўся ў дзіцячым доме і ведае. Праверана жыццёвым вопытам...

Кошык быў амаль поўны, а грыбы яшчэ траплялiся. Іх такі многа пад мохам. Тугія, крамяныя. Апошнія тыдні зялёнак ніхто не збірае, толькі ён ды бабулька. Так і зазімуюць...

У лесе зноў трохі пасвятлела — хмары сышлі. З боку дарогі пачуўся далёкі стук сякеры. Дзімітрый Іванавіч рушыў на гук, хацелася паглядзець, хто яшчэ адважыўся завітаць у лес, не зважаючы на святочны дзень. Расхінаючы навісь галін, ён ішоў і ішоў, адмераўшы, мабыць, болей за вярсту, а гук тым часам як бы аддаляўся. Нарэшце выбіўся на вузкую зарослую травой дарогу, па якой ездзяць толькі калёсамі, і спакваля пайшоў па ёй.

Хутка ён убачыў у густых пасадках маладога сасонніку двух дрывасекаў — старога і маладога. Стары, відаць, бацька, быў у расхлістанай ватоўцы, малады — у адной гімнасцёрцы, у зімовай вайсковай шапцы з зоркай. Гарэла цяпельца, над ім, на дручку, ускладзеным на рагулькі, вісеў чайнік. Мужчыны прарэджвалі сасоннік, складваючы бярвенцы ў штабялі, а

голле — у асобныя лаўжы. «Сын, відаць, прыехаў у водпуск і памагае бацьку»,— падумаў Дзімітрый Іванавіч.

Адышоўшыся, ён знайшоў сухі чурбачок пад старой сасной, прысеў, трохі перакусіў. Паціху згушчаўся змрок. Варта было кіраваць дадому. Ён наважыў не вяртацца на ранейшую дарогу і рушыў нацянькі праз малады алешнік, бярэзнік, што густа ўзняўся па забалочанай нізіне.

Сваю памылку Дзімітрый Іванавіч зразумеў, бадай, праз гадзіну, калі зусім сцямнела. Па гушчары стала надта кепска ісці. Ногі грузлі ў размяклым торфе, і нябачнае ў змроку вецце секла ў твар. Нарэшце, праваліўшыся чаравікамі ў твань, Чарнейка пачуў плёскат рэчачкі. Ён быў блізка ад станцыі. Крута збочыўшы, ён нарэшце выбраўся на сухое і хутка зноў пайшоў сасоннікам.

Драўляны барак, які свяціў усімі вокнамі, Чарнейка ўбачыў праз некалькі хвілін. Ён стаяў пры самым лесе, трохі воддаль ад станцыі, і ў ім, відаць, жылі пуцейскія рабочыя.

Фіранак на вокнах не было, і, праходзячы паўз барак, Чарнейка міжволі зазірнуў у пакойчыкі. Ён быў так уражаны, што нават спыніўся. Ва ўсіх чатырох пакойчыках маткі мылі дзяцей. У першым у шырокай балеі сядзела два чорнагаловых хлапчукі, у другім трохі большы хлапчук стаяў на табурэце, а маці выцірала яго ручніком, у трэцім дзве дзеўчаняці ў аднолькавых кашульках толькі пачыналі распранацца...

Чарнейка азірнуўся: на двары, на падстаўках з цаглін, стаяў вялікі чорны кацёл. Пад ім яшчэ тлелі, пабліскваючы, галавешкі. Ваду, відаць, награвалі спецыяльна, каб на свята памыцца...

*1970*

## ТАЯ САМАЯ ЗЯМЛЯ...

Калі Альшэўскі збіраецца на радзіму, да маці, яго заўсёды ахоплівае асаблівы настрой. Ёсць штосьці радаснае і адначасна шчымліва-сумнае ў вяртанні праз многія гады на сцежкі маладосці, на тыя мясціны, што запалі ў душу назаўсёды.

Альшэўскі даўно стаў гарадскім жыхаром. Але ў бяссонныя ночы ў яго вачах паўстаюць не праспекты розных гарадоў,

не выдатныя плошчы, помнікі, якія ён бачыў, а пясчаная, не замошчаная каменем местачковая вуліца, разгалістая бяроза на суседавым двары, пералескі нізкарослага дубняку за ваколіцай.

Тады, калі Альшэўскі быў малады, канчаў дзесяцігодку, думалася так: ён паедзе ў горад, скончыць інстытут, здзейсніць нешта важнае, значнае, чым праславіць сваё імя, як і мястэчка, якое яго выпусціла ў свет. А калі вернецца дамоў, то ўсе будуць глядзець на яго з гонарам.

За апошнія дваццаць гадоў Альшэўскі наведаў мястэчка некалькі разоў, але ніхто на яго з асаблівым гонарам не глядзеў. Мабыць, цяпер не пералічыш, колькі з роднага паселішча выйшла настаўнікаў, урачоў, розных інжынераў, ёсць нават два генералы, так што ў шэрагу тых, што праслаўлялі мястэчка, ён, Альшэўскі, займае далёка не першае месца. У местачкоўцаў, відаць, проста не хапае сілы, каб паасобку ганарыцца кожным са сваіх вылучэнцаў.

Да старэйшай дачкі Альшэўскага, якая сама канчае інстытут, прыходзіць хлопец, курсант вайсковага вучылішча. Яны, відаць, хутка пажэняцца, так што пры бліжэйшым абсягу ён стане дзедам.

У мястэчку, у старым, пахіленым дамку жыве адна маці. Браты, сёстры даўно разляцеліся. Два ці тры разы Альшэўскі прывозіў да маці жонку і дачок. Уражання на іх яго радзіма не зрабіла ніякага. Хоць даўно забрукавана вуліца, якая паднялася цяпер вышэй матчынага двара, хоць на самім матчыным агародзе стаіць слуп высакавольтнай перадачы, а ў Доме культуры паказваюцца тыя самыя фільмы, што і ў горадзе, мястэчка яны знайшлі пыльным і нецікавым. Што ж, жыццё ідзе наперад. Нішто не паўтараецца...

Альшэўскі спакаваў у чамадан небагатыя падарункі, пайшоў на вакзал. Да канца адпачынку заставалася шэсць дзён, і калі два з іх вылічыць на дарогу, то ўсе астатнія ён меціў прабыць у маці.

Ноччу, лежачы на плацкартнай лаўцы, ён думаў аб тым, што мудрая сталасць змякчае, згладжвае вострыя куты юнацкіх парыванняў, надаючы ім большы чалавечы змест і характар. Час, на які прыпала яго маладосць, запоўніла вайна, затым пасляваенныя нягоды, але ўсё адно час гэты характарызаваўся ўсеагульным жаданнем падняцца вышэй таго становішча,

што было дагэтуль. Нават самыя слабыя з тых, хто вучыўся ў школе разам з Альшэўскім, у горшым выпадку зрабіліся настаўнікамі. Мірнае жыццё, якое настала, спрыяла такой акалічнасці, бо вельмі многія з вайны не вярнуліся. Быў вакуум, а ён заўсёды чым-небудзь запаўняецца.

Думаючы пра сваіх равеснікаў, Альшэўскі не мог успомніць ніводнага, хто б, скончыўшы дзесяцігодку ці нават яе не скончыўшы, пайшоў на якую-небудзь звычайную работу, астаўся на зямлі. Час як бы клікаў у шэраг тых, што сягаюць у неба, разведваюць нетры зямлі, будуюць плаціны, і моладзь ахвотна ўлівалася ў гэтую шырокую раку.

Раніцай у вялікім, нанава адбудаваным горадзе была перасадка. Альшэўскі выйшаў з вагона, знайшоўшы касы, паглядзеў расклад прыгарадных цягнікоў. У яго заставаліся дзве вольныя гадзіны.

Не здаючы чамадана, ён прайшоўся вуліцай да старога парку, які заўсёды лічыўся бадай не галоўнай аздобай горада. Восень бярэ сваё. На асфальтавых дарожках шасціць апалае, яшчэ не падмеценае лісце. Дрэвы на бульварах агаляюцца, а гэта яшчэ выразней падкрэслівае строгую правільнасць новых будынкаў і кварталаў. Альшэўскі мала ведаў стары, разбураны вайной горад, але ўсё адно ён уяўляўся яму прыгажэйшым. Там, здаецца, не было гэтай строгай геаметрыі, гэтай дакладнай выверанасці контураў і ліній, якія так ці інакш нараджаюць аднастайнасць.

Альшэўскі падаўся да ракі. Яна па-асенняму ціхая, люстрана гладкая, з празрыстай, як сляза, вадой. Ля берага на дне можна ўбачыць найдрабнюткія каменьчыкі. На сярэдзіне вада цямнее, адбіваючы ў сабе нізкае шэрае неба. Бясконцымі стажкамі, аж да сіняватай грады сасоннікаў, застаўлены яшчэ зялёныя позняй атавай зарэчныя лугі. Пясчаныя пляжы і плёсы бязлюдныя. Толькі ў адным месцы, спусціўшы ногі ў напаўзатопленую лодку, сядзяць з вудамі трое хлопчыкаў. Чарнее ўдалечыні арка жалезнага моста, да яе павольна набліжаецца белы, здалёку падобны на цацку параходзік...

Трэба было вяртацца на вакзал. Сеўшы ў абшарпаным вагоне прыгараднага цягніка на лаўку, Альшэўскі некалькі разоў азірнуўся, спадзеючыся ўбачыць каго-небудзь з местачкоўцаў.

Яны часта сюды прыязджаюць. Чыгуначнікі — па службе, астатнія — за пакупкамі. Але нікога са знаёмых не было.

Міма акна паплылі закопчаныя будынкі таварнай станцыі, склады, пакгаўзы, нізкія, усцяж атуленыя садамі драўляныя дамкі прадмесця. На паасобных, напалову аголеных ад лісцяў яблынях, утрымліваючыся пад вятрамі, сям-там яшчэ віселі антонаўкі і чырванабокія цыганкі.

Злёгку пакалыхваючы службовым ліхтаром, ідзе немалады, трохі прыгорблены чыгуначнік у зашмальцаванай ватоўцы, нясе пад пахай буханку. На даху нізкага, укрытага паржавелай бляхай будыначка невядома якім спосабам вырас, зацвіў нават, нягледзячы на познюю пару, тоненькі сланечнік. Альшэўскі сядзіць ля акна, поўнячыся прыемным смуткам, пазнаючы і не пазнаючы навакольныя мясціны. За тыя даволі працяглыя прамежкі ў часе, калі ён тут праязджае, краявід прыкметна мяняецца. Усё болей бярэ ўладу камень і мур, усё меней становіцца маленькіх драўляных памяшканняў станцый і раз’ездаў, пафарбаваных, як адно, у жоўты колер, атуленых акацыямі і таполямі. Перамены, аднак, не засланяюць былога, да болю знаёмага.

Альшэўскі, каб і захацеў, не здолеў бы, мабыць, назваць у належным парадку ўсіх гэтых станцый, раз’ездаў, частых прыпынкаў сярод голага поля і лесу павольнага прыгараднага цягніка. Чарговасць знаёмых малюнкаў тоіцца недзе па-за свядомай памяццю, ствараючы свой унутраны рытм, выплываючы нечаканай успышкай радаснага пазнавання.

Стала цемнавата — пайшоў дробны дождж. Бадай на кожнай станцыі — доўгія, нічым не прыкрытыя бурты бульбы. Абмытыя дажджом, яны нават у шэрані асенняга дня выдзяляюцца сваёй прывабнай белізной. Бурты і бурты... Бульбяны край...

У вагоне, як і ўсюды, пярэсты народ. Можна пазнаць чыгуначнікаў, што, ігнаруючы чорныя шынялі, форменныя сурдуты, амаль ніколі не адмаўляюцца ад шапак з цэшкамі. Прафесійны гонар... Гучна размаўляе, заняўшы дзве суседнія лаўкі, талака падвыпіўшых хлопцаў. Відаць, навабранцы. Робяць выгляд, што ім мора па калена. Як і ўсюды, добра апранутыя маладыя жанчыны і дзяўчаты. Боты з высокімі халяўкамі, панчохі — капрон і нейлон, плашчы-дажджавікі...

Мільгаюць аголеныя белыя бярозавыя пералескі, зялёныя сасоннікі. Язды болей як дзве гадзіны...

Местачковая станцыя зусім не змянілася. Той жа прыземісты драўляны будынак, дзе пад адным дахам пакой дзяжурнага, тэлеграф, чакальная зала, каса, буфет. Толькі разложыстых стогадовых таполяў, бадай, яны адны і надавалі станцыі адметны і прывабны выгляд, няма. Іх спілавалі. Нібыта на суседняй станцыі адна такая таполя звалілася і лягла ўпоперак рэек. Глупства, брат...

Матчын дом, здаецца, яшчэ глыбей уехаў у зямлю, паніжэў, паблажэў. На даху гонта сатлела, сям-там пазадзіралася. Ледзь трываюць скасабочаныя парканчыкі. Затое буйна разросся сад — яблыні і грушы так сашчапіліся голлем, што стварылі суцэльны покрыў. Зялёны стаў двор: каровы цяпер няма, адна вузкая сцяжынка да дрывотні...

Перакусіўшы, выпіўшы наліўкі, Альшэўскі трохі паспаў, затым да вечара цюкаў сякерай, расколваючы бярозавыя круглякі. Ён бачыў, што чатырох дзён, якія былі ў запасе, не хопіць нават на тое, каб залатаць самыя буйныя дзіркі. І ўвогуле, маці адна, ёй самотна, трэба думаць пра штосьці другое. У той жа час думка працівіцца таму, што па гэтым двары будуць хадзіць незнаёмыя, чужыя людзі і ён, Альшэўскі, ніколі болей не пераначуе пад родным дахам...

Надвячоркам ён выйшаў на вуліцу, прымасціўся на лавачцы. Зблажэў не толькі матчын дом. Як бы папрысядалі, паменшалі памерамі ўсе навакольныя дамкі, хаціны, панадворкі, да дробязей знаёмыя з маленства. У гэтай частцы мястэчка гарадскога мала, хаты ставіліся на вясковы манер, цягнуліся ў адзін рад з хлявамі і павецямі. Праедзе грузавік, даверху нагружаны бульбай, прамчыць матацыкл. І наступае цішыня...

Альшэўскага, калі ён прыязджае дадому, менавіта гэты першабытны спакой і ўражвае. Як бы зусім па-інакшаму адмерваецца тут час, павольныя, нетаропкія, не запоўненыя ніякімі бачнымі пераменамі, плывуць гадзіны. Шастаюць голлем яблыні, пад рэзкім павевам ветру раптам пасыплецца з іх лісце, і зноў цішыня.

Пад вокнамі, у гародчыку, дацвітаюць ружаватыя асеннія астры. У маўклівай вячэрняй задуменнасці шарэе за агародамі пустое поле...

Калі зусім сцямнела, ён вярнуўся ў двор, прыхінуўся да паркана. Зрэшты, ён увесь дзень чакаў гэтага моманту, прадчуваючы, што зарыва лепей за ўсё будзе бачна адсюль. І не памыліўся. Увесь паўночны край неба быў ахоплен барвовачорнымі сполахамі. Яны перакатваліся з краю ў край і, то павялічваючыся, то змяншаючыся, выклікалі ў душы трывожнае ўзрушэнне. У акупацыю, сямнаццацігадовым юнаком, назіраў Альшэўскі з гэтага самага месца, бадай, такое ж зарыва. Немцы палілі тады вёскі. Цяпер там нафта. Яна цячэ з зямных глыбінь таго, вынішчанага дашчэнту, зведаўшага, як ніхто, ліхалецце вайны балотнага кутка. Зарыва азначае, што спальваецца газ, які заўсёды нафце спадарожнічае...

Альшэўскі стаяў і глядзеў. Полымя шугае ад мястэчка вёрст за васямнаццаць, ён павінен ведаць тое месца. Укрытыя дробным верасам, нізкарослымі хвойкамі жаўтапёсы. Балоты, балацявіны, чэзлае кустоўе, рэдкі асіннік. Каля спаленай Бярозаўкі, дзе, як пішуць газеты, цячэ нафта, у апошнюю блакаду яны, партызаны, хаваліся па трыснягу. Восенню сорак трэцяга, калі надышоў фронт, там былі акопы. Шэсць месяцаў, да самага лета...

Ён вярнуўся ў хату. Рыпелі пад нагамі сухія, вымытыя да жаўцізны, масніцы, цікалі на сцяне ходзікі. На іх цыферблаце намаляваны трактар, які цягне вялізную фуру з сенам. Бацька купіў гадзіннік даўно, калі Альшэўскі толькі паступіў у школу. І тады ходзікі паказвалі час не надта дакладна — то спяшылі, то спазняліся. Маці іх трымае цяпер, відаць, болей для гуку.

Так, ніхто не думаў, што на бярозаўскім балоце знойдзецца нафта. Ён, Альшэўскі, разумее, як тут усё перавернецца гадоў за дваццаць...

— Ты, можа, і не ведаеш, што памёр стары Дарашэнка,— сказала маці.— І Касалапіхі ўжо год як няма...

Тыя, каго ў пару маленства ён называў дзядзькам ці дзедам, амаль усе памёрлі. З усяго канца вуліцы, дзе стаіць матчын дом, трывае толькі іх сусед Банэдык ды дзівакаваты Патап, які некалі стаяў кантралёрам у клубе і да якога яны, местачковая басота, усе, як адзін, падлізваліся...

— Толькі бабы тут асталіся ды цыганы,— расказвала маці.— Маладыя не хочуць. Кончыць школу — едзе ці ў горад, ці ў Саснагорск. Памяшаліся на тым Саснагорску... Думаеш,

каго вельмі ўпросіш палена раскалоць?.. Два разы сякерай цюкне і глядзіць, каб пяцёрку дала ды яшчэ пляшку на стол...

Дзіўны той самы Саснагорск. Вырас яшчэ раней, чым пацякла нафта. На такіх самых пясках і балотах. Саснагорская электрастанцыя — самая буйная з усіх, якія калі-небудзь былі ў наваколлі балотнага краю...

Назаўтра Альшэўскі сяк-так залатаў парканчык ад вуліцы, а пасля абеду рушыў у бор, які звабліваў сцяной сінее на даляглядзе. Бор гэты таксама бачыцца па начах. За ўсе доўгія гады пасля вайны Альшэўскі не быў там ні разу. І цяпер з пасівелымі скронямі, з выразнымі маршчынамі, што пралеглі на твары, ідзе туды як на спатканне з маладосцю. Узяў для прыліку кошык — можа, дзе трапіцца позняя сыраежка ці зялёнка. Што ж, жыццё так пабудавана, што чалавек імкнецца наперад, да новых рубяжоў, вышынь, а калі азіраецца, то самае цікавае, аказваецца, ужо ззаду...

Бор быў не той. Часткі, якая прымыкала да чыгункі, увогуле не існуе. Немцы ў вайну павалілі лес на дзвесце метраў ад палатна, і на тым месцы, дзе шумелі гонкія сосны, буйна разрасліся бярозы ды асіны. Старыя хвоі парадзелі, затое падняліся, увабраліся ў сілу маладыя сасоннікі. Лес зыначыўся...

Альшэўскі, пакуль блукаў між соснаў, думаў пра тое, што гэты новы, няблізкі сэрцу вобраз лесу ён ужо не запомніць, і хоць былога бору, які калыхаў яго юнацкія мары, даўно няма, ён па-ранейшаму будзе стаяць у вачах, уяўленнях, а значыцца, будзе неяк існаваць. Відаць, вось гэтак жа для матак жывуць іх загінуўшыя дзеці, як для дзяцей — памёршыя бацькі...

У трох ці чатырох месцах Альшэўскі ўбачыў прагалы. Дрэвы там спілены, а зямля дашчэнту разварочана. Груды яе, нязвыклай, вывернутай невядома з якіх глыбінь, ляжаць наўкруг. Кожная груда мае свой колер. Сіняя, чырвоная і белая, падобная на вапну, зямля. Відаць, тут бурылі разведвальныя — дзеля нафты — шчыліны...

Правандраваўшы па лесе гадзіны тры, Альшэўскі знайшоў толькі адзін зморшчаны, аб'едзены слізнякамі баравічок.

Вечарам маці расказвала, што жэніцца Юрка, сын Гарбаценкавай Аксінні. Альшэўскі ўздрыгнуў. Прыйшло такое адчу-

ванне, што гэтым сваім прыездам у мястэчка ён як бы замкнуў нейкі круг, як бы падвёў рысу пад тым, што было...

Юрка Гарбаценкаў, чарнявы, востры на язык, дасціпны, быў адменным матэматыкам і спартсменам. І ўвогуле, гэта была цікавая сям'я. Бацька працаваў грузчыкам, старэйшы сын Грыша хадзіў на станцыю ў пару з бацькам, Юрка здзіўляў школу поспехамі ў матэматыцы і ашаламляльнымі практыкаваннямі на турніку.

Летнімі вечарамі сям'я выходзіла на лавачку. Бацька іграў на гітары, Грыша і Юрка — на мандалінах. Сямейны ансамбль быў зладжаны, выконваў, бадай, усё, што калі-небудзь спявалася ці скакалася ў мястэчку. Маці, яшчэ маладая, буйнацелая, стаяла, прыхінуўшыся да парканчыка, з гонарам пазірала на сваіх музыкантаў...

Можа быць, сям'я гэтая была крыху бесклапотнай. Пры двух мужчынах, якія някепска зараблялі, жыла ў старасвецкай, доўгай, як хлеў, хаціне, гнілы дах якой пакрыўся суцэльным зялёным мохам. Палову хаціны займаў кватарант, старшы пажарнік Дашкевіч Іван, вялізны хмуры мужчына, што зімой і летам хадзіў у сінім, да пят, шынялі. Пра Дашкевіча гаварылі, што начамі ён не спіць — вынаходзіць нейкі незвычайны вогнетушыцель. Аб гэтым самым вынаходніцтве Юрка Гарбаценкаў склаў трохі бязглуздыя радкі:

Атрымаў, прыгатаваў, адправіў — у сваім кабінеце —
алхімік Дашкевіч Іван...

Калі пачалася вайна, бацьку і Грышу мабілізавалі адразу, а Юрка астаўся ў акупацыі. Жыў ціха, не высоўваўся, у партызаны не рушыў — можа, бярог маці. Восенню сорак трэцяга, з прыходам фронту, мабілізавалі і яго...

Акопы былі там, ля Бярозаўкі, дзе цяпер цячэ нафта. Так здарылася, што ў роце было чатыры хлопцы з іхняга класа. Іх не надта вучылі — выдалі дзеля стральбы па мішэнях па тры патроны, збольшага паказалі, як разабраць вінтоўку, кулямёт Дзегцярова. Зрэшты, страляць умелі ўсе — да вайны здавалі нормы на значкі.

Юрку забіла ў час першай атакі. Так што пад новы, сорак чацвёрты год маці амаль адразу атрымала тры пахавальныя — муж загінуў у сорак першым, сын Грыша — у сорак другім...

І адважылася Гарбаценкава Аксіння на такое, на што б ніякая другая ўдава ў мястэчку не адважылася. Прыняла на тыдзень салдата, які ехаў на фронт, прыгалубіла яго, а праз дзевяць месяцаў нарадзіла хлопчыка, назваўшы яго дзеля памяці аб меншым сыне Юркам...

Дык вось, значыць, гэты Юрка, які паспеў адслужыць армію, а цяпер, як і многія іншыя, працуе на нафце, жэніцца...

За агародам маці стаянка бурыльшчыкаў — перасоўныя вагончыкі, часовыя — з дошак і фанеры — хацінкі, над якімі, аднак, узвышаюцца антэны тэлевізараў, чарада грузавікоў, у якіх замест кузава доўгія жалезныя лесвіцы бурыльных установак. У гэты дзень Альшэўскі і парканчык не латаў — захацелася з’ездзіць пад Бярозаўку. Пайшоў пешкі, спадзеючыся, што ў дарозе падчэпіцца на якую-небудзь машыну.

Яно так і атрымалася. Спачатку абганялі грузавікі, на якія не сядзеш — ззаду тырчалі жалезныя лесвіцы. Нарэшце паказалася машына, дзе ў кузаве сядзелі, відаць, гэтыя самыя бурыльшчыкі. Ён падняў руку, і машына спынілася. На неачэсаных дошках, якія замянялі лаўкі, сядзелі маладыя хлопцы і дзяўчаты. Усе ў штанах, у зашмальцаваных ватоўках, але з-пад пярэстых дзявочых хусцінак выглядаюць белыя пасмачкі знаёмых, з перакісам вадароду, валасоў, а ў некаторых дзяўчат нават пазногці наманікюраны.

Гарадскі выгляд Альшэўскага, яго шляпа, добра пашыты макінтош на публіку, што сядзела ў кузаве, не рабілі аніякага ўражання. Па тону гаворкі, трохі смяшліва-іранічным, па словах, выразах, якія ўжывалі гэтыя, яшчэ зялёныя бурыльшчыкі, можна было зрабіць вывад, што хлопцы і дзяўчаты скончылі па меншай меры дзесяцігодку.

Але ў той жа час у іх абветраныя, пашарэлыя твары і рукі з выразным налётам шурпатасці. Манікюр на такіх руках як бы нават недарэчны. Сярод нафтавікоў, можа, і той Юрка, якога Альшэўскі ніколі не бачыў...

Праносіліся аблітыя золатам восені бярэзнікі, хмурыя, чорныя тарфяныя палі. Альшэўскі ўзіраўся ў навакольныя краявіды, у некалі знаёмыя вёскі, па вуліцах якіх яны праязджалі. Ён не быў тут з часоў партызанства, фронту, і ўсё дазвання змянілася. Не было ўжо ні ветракоў, што стаялі на пясчаных пагорках паза вёскай, ні разгалістых вербаў на вуліцы, ні драўляных, з

саламянымі стрэхамі грамадскіх будынкаў, што ад звычайных сялянскіх хлявоў, гумнаў адрозніваліся хіба толькі памерамі. Калгасныя фермы на каменных падмурках пакрыты шыферам ці бляхай, усюды строгі план. Тэлевізійныя антэны над дахамі. У хатах большыя вокны, трапляюцца нават зашклёныя веранды. Болей стала садоў...

Але ўдалечыні, акаймляючы непрывабнае ў асеннюю пару тарфяное поле, жаўцеюць, здаецца, зусім знаёмыя бярэзнікі і дубнякі, тыя самыя, па якіх яны некалі хадзілі. Вісіць знаёмае шэрае неба. Ды і дарога сярод тарфянікаў, бярозавых і альховых пералескаў віецца тая ж, толькі лепей дагледжаная. Але тое самае неба і тая ж зямля...

*1970*

## ХЛОПЦЫ САМАЙ ВЯЛІКАЙ ВАЙНЫ...

### I

Пасля Бранска стала ясна, куды кіруецца эшалон. Станцыя Фаянсава, горад Кіраў, палявая пошта 07121. Хлопцы, каго тыдні на два прызвалі раней, паспелі прыслаць адтуль трохкутнікі.

Станцыя Бранск I, як і Бранск II,— у развалінах. Сякіятакія задымленыя каробкі прыстасаваны пад памяшканні ваеннага каменданта, перасыльнага пункта, санпрапускніка, прадпункта. Пуці адрамантаваны. На іх безліч вайсковых эшалонаў. Бранск I, як і Бранск II,— станцыі ўсё-такі вялікія.

Віктару Пасашку, можна сказаць, шанцуе. Па-першае, трапіў у добрую цяплушку. Двух’ярусныя з неачэсаных дошчак палкі на месцы, на падлозе ніхто не спіць. Ёсць жалезная пячурка з выведзенай у столь, а не ў акно трубой. Трэба толькі ўвесь час падкладваць дровы, бо калі хоць на гадзіну пячурка астывае, то на сценах вагона, асабліва ля дзвярэй і па кутках, адразу выступае белая намаразь. Але вагон дружны, дровы хлопцы дастаюць. У ход ідуць снегаахоўныя шчыты, уцалелыя парканы і нават дошкі з чужых вагонаў.

Пасашка задаволен і тым, што едзе са знаёмымі і блізкімі людзьмі. У вагоне Саша Чарняўка, Васіль Міхальчук — хлопцы, з якімі Віктар вучыўся ў адным класе. Адам Пасашка, стрыечны брат, сусед, жылі на адной вуліцы...

Але ёсць у вагоне людзі, знаёмствам з якімі Пасашка асабліва ганарыцца. Гэта партызаны. Іх, бадай, палавіна. З местачковых хлопцаў, якія едуць у вагоне, толькі адзін Віктар быў у партызанах, і па гэтай прычыне ён як бы звязвае маладых местачкоўцаў з тубыльцамі навакольных сёл, вёсак, якія паспелі панюхаць пораху. Зрэшты, і раней так было. Саша Чарняўка, Васіль Міхальчук, якія партызанскіх даведак не маюць, тым не меней у небяспечных справах удзельнічалі. Сярод іх быў і Пасашка, з той толькі розніцай, што ён і тады трымаў сувязь з партызанамі...

## II

У Бранску II удала дасталі вядро кіпятку. Быў ужо надвячорак. Эшалон стаяў. Хлопцы сталі развязваць торбы і сідары, каб падсілкавацца.

Пасашка ўжо месяц, як зноў савецкі. Ім валодае дзіўны, узбуджаны і прыўзняты настрой, хоць сякія-такія рэчы, якія ён назіраў у мястэчку за гэты месяц, яму не зусім падабаюцца. Ён заўважыў: партызаны і наогул усе тыя, каму прыйшлося хадзіць не прамымі, а звілістымі, пакручастымі сцежкамі вайны, не надта раскрываюцца перад байцамі, камандзірамі, што мералі да прыдняпроўскага мястэчка крывавыя кіламетры ад самай Волгі. Вайскоўцы іх проста не разумеюць. Яны гордыя пройдзеным шляхам, перамогамі і як бы забываюць, што акрамя сорак трэцяга года быў сорак першы, калі гэтая самая дарога пятляла адступленнямі, акружэннямі, калі па ёй панура пляліся доўгія калоны ваеннапалонных.

У сваю чаргу партызаны не надта прызнаюць тых, хто, чым мог, шкодзіў немцам, не адрываючыся ад сям’і і роднага паселішча...

Зрэшты, вагон прымірыў супярэчнасці. Наперадзе вайна. Немцы вунь зноў захапілі Жытомір, ірвуцца да Кіева...

Вячэраюць, разбіўшыся на купкі. Так здарылася, што Віктар раскрывае брызентавы сідар не ў кампаніі стрыечнага

брата Адама ці аднакласніка Сашы Чарняўкі, а ў кружку, які як бы ўзначальвае шыракатвары, павольны ў рухах партызан Сяргей Рагазуб. Можа, таму, што разам з гэтым Сяргеем яму аднойчы прыйшлося ляжаць у засадзе, а ў час асенняй блакады ён суткі прастаяў побач з ім па шыю ў балотнай твані... Дый пуставатыя сідары ў партызан. Мястэчкоўцам сяго-таго паклалі ў торбы маткі. А ў партызан толькі тое, што далі на паёк у ваенкамаце. Са сваіх хат яны нічога не маглі ўзяць, бо хаты іх і вёскі спалены...

Павячэралі някепска. Сухары, ваенкаматаўскі шпік, у якім на скурцы стаяць сінія казённыя пячаці, дамашнюю цыбулю запілі падсалоджаным кіпятком. Эшалон усё яшчэ стаіць. Відаць, у першую чаргу прапускаюць тыя эшалоны, якія кіруюцца на фронт. А іх маршрут — у тыл, можна і не спяшацца. У праём дзвярэй, калі хто-небудзь адчыняе іх, каб вышмыгнуць па патрэбе на двор, глядзіць цёмная снежаньская ноч. У вагоне ж пячурка да чырвані распалена. Нехта зайграў на нямецкім губным гармоніку. А ўвогуле трэба спаць. Можа, іх апошняя ноч у эшалоне.

Віктар заснуў імгненна. Прачнуўся, бадай, пазней за ўсіх — ад таго, што замерзлі калені. Усю дарогу, калі пячурка астывала, у яго мерзлі калені. Убачыў: дзверы расчынены, у вагоне бязладны рух. Значыць, прыехалі...

Тыя, хто прарочыў, што станцыі Фаянсава з ходу не праскочыць, не памыліліся. Гэта была іменна яна — некалькі прысадзістых, на скорую руку адноўленых каменных будынін, зацярушаныя снегам домікі пасёлка. А вакол лес — векавечныя сосны, хмурыя, урачыста стоеныя елкі. Туды, у лес, вяла шырока пратаптаная ў снезе дарога...

Калону пастроілі па чатыры ў рад, далі каманду рушыць. Убогі, непрывабны выгляд мела яна. Дзіравыя ватоўкі, шэрыя сялянскія світкі, латаныя-пералатаныя кажухі. У гэта быў апрануты пераважна люд цывільны. Закураныя шынялі розных армій — чырвонаармейскія, нямецкія, мадзьярскія, славацкія і яшчэ бог ведае якія неслі на сваіх плячах партызаны. Сярод абутку былі лапці, чуні, апоркі, розных відаў і фасонаў разбітыя чаравікі і, мабыць, на тры ці чатыры сотні людзей — ніводнай пары прыстойных ботаў. Можа, за гэты ўбогі выгляд на ўсіх тых, хто крочыў у калоне, з нечуванай

лютасцю накінуліся бабы, што гандлявалі тут жа, на станцыі, піражкамі з мерзлай бульбы, махоркай і малаком.

— Сволачы праклятыя!.. Нашы даўно галовы палажылі, а яны толькі ідуць!..

— Ваякі няшчасныя! Спалі з жонкамі на печы...

— Глядзі, ражку наеў, патрыёт...

— Будуць хваліцца потым, што ваявалі...

— Вочы б мае не глядзелі на вас, ірадаў...

— Дэзерціры...

— Кулачугі...

— Пад спадніцамі ў жонак хаваліся...

Віктар, калі вучыўся перад вайной у дзявятым класе, не раз спрабаваў сабе ўявіць, як пойдзе ў армію. Тых, хто паспеў пайсці ў авеяныя ружовым мроівам мірныя гады, праводзілі з аркестрамі, гармонікамі, прамовамі. А табе, браце, вось які аркестр!..

Дні тры мабілізаваных трымалі ў санітарным ізалятары. Ізалятар гэты — як схованка ляснога пустэльніка. Некалькі вялікіх халодных зямлянак, з землянымі, засланымі яловымі лапкамі нарамі. Харч — тым жа сухім пайком...

Нарэшце каманда:

— У лазню!

Старэйшыя, тыя, хто ў свой час паспеў прайсці прызыў, ведалі, што гэта значыць. На хаду зрывалі з сябе шынялі, кажухі, пінжакі, нават сарочкі, таптаді, хавалі ў снег. Некаторыя ляцелі ў лазню ў адных парудзелых споднiках. На Віктару была ніштаватая паддзёўка, якую ён раздабыў, калі грамілі ўласаўскі абоз. Куртачка-талстовачка мела бліскучы замок-маланку. Свае скарбы Віктар таксама старанна затаптаў у снег.

З лазні выходзілі прыгажунамі — хоць у каноплі стаўляй. Шынялі — БВУ, ватнікі, гімнасцёркі — БВУ... Асабіста для Віктара гэта значыла, што атрымаў стары, доўгі, з прапаленым крыссём кавалерыйскі шынель, вышмаргваныя да глянцу, няпэўнага колеру ватнікі і адносна прыстойную гімнасцёрку. Ватнік, праўда, быў караткаваты, а гімнасцёрка шылася як бы на волата. Чаравік увогуле не ўзяў...

Дык вось ён, запасны полк, палявая пошта 07121. Новыя, у струнку пастаўленыя баракі, пасыпаныя жоўтым пясочкам дарожкі, шырокі пляц, на якім пад гукі аркестра разыходзяцца

раніцай роты на баявую вучобу. І ўсё пад навіссю векавых, меднастволых хвой, так што зверху, мабыць, ніякая авіяцыя не прыкмеціць.

Барак, у які трапіў Віктар, змяшчае на сваіх трох’ярусных нарах восемсот чалавек. Віктару дасталося месца на трэцім паверсе, пад самым дахам. Ён дзівіўся: праз ладную шчыліну ў вільчыку падміргваюць зоркі, рукой можна дастаць да зімы, аднак гэтак цёпла ў бараку, што можна спаць не акрываючыся. На другі ці трэці дзень смяшлівы чарнамазы тубылец барака, запыніўшы Віктара, торкнуў пальцам яму ў жывот, запытаў:

— Ты патрыёт?

Віктар не ведаў, што адказаць.

— Патрыёт, патрыёт, запяе твой жывот,— загугнявіў чарнамазы і рушыў сваёй дарогай.

Жывот не запеў, а нават затрубіў вельмі хутка. Не прадбачачы нічога благога, Віктар не хаваў сідара, у якім заставаўся яшчэ ладны прыпас сухароў. Прыпас растаў на вачах. Кармілі ж па трэцяй катэгорыі: шэсцьсот пяцьдзясят грамаў хлеба на дзень, дзесяць грамаў цукру, а на прыварак — што Бог пашле. Тытунёвае забеспячэнне трэцяя катэгорыя ўвогуле не прадугледжвала.

Хлебная пайка лёгка ўмяшчалася на далоні, так што пакуль Віктар стаяў у чарзе за супам ці баршчом (стравы гэтыя адрозніваліся пераважна назвай), то паціхеньку адшчыкваючы ад хлеба, з’ядаў яго ўвесь. Заставалася толькі запіць цвёрды харч супам ці баршчом.

А баявая падрыхтоўка ішла як мае быць. Акрамя яе вялося будаўніцтва новых памяшканняў. Раніцай замест зарадкі трэба было прынесці з лясной дзялянкі бервяно. У абед і перад вячэрай — яшчэ па адным. Бярвенні ніштаватыя: трошкі даўжэй за тэлеграфны слуп і, відаць, трошкі таўшчэй. Адлегласць — два кіламетры ў адзін канец. Бервяно няслі ўтрох, а Віктар — высокі ростам. На першым часе ён думаў, што не вытрывае... Але зрэшты гэта былі дробязі. Галоўнае было не ў гэтым, а ў тым, што ён, Віктар, прылучан да вялікай, святой справы, за якой сочыць увесь свет, якая вырашае лёс будучых пакаленняў. Хіба лёгка было ўявіць у сорак першым, што немцаў з іх армадамі танкаў, самалётаў пагоняць назад, будуць наладжваць ім «катлы», акружэнні, не горшыя, чым

некалі наладжвалі яны самі. Дзеля гэтага напнулася, як сталёвая струна, уся агромністая краіна...

Асаблівыя хвіліны натхнення, узлёты духу перажываў Віктар, калі раніцай на палкавым пляцы пачынаўся развод вучэбных рот. Бліскучыя трубы выдыхалі са сваіх медных горлаў маршы і мелодыі баявых ваенных песень, гулка бухаў вялізны турэцкі барабан, мерна чаканілі крок тысячы людзей, трымаючы раўненне на застылага, з узнятай пад казырок рукой пасівелага палкоўніка, і, захоплены магутнай плынню музыкі, адчуваннем еднасці, блізкасці з усімі гэтымі людзьмі, урачыстай велічнасцю моманту, Віктар забываў пра галодны жывот, пра тое, што на ім целяпаецца няўклюдны шынель, а ад правага чаравіка зусім адстала падэшва. Тое самае, здаецца, адчувалі ўсе...

Маршыруй, пакаленне!.. Самой гісторыяй наканавана табе суровая дарога. На ёй ліецца кроў, губяцца маладыя жыцці, але твае бясцэнныя ахвяры не прападуць. Грыміце, трубы, і чаканьце крок, салдаты самай вялікай вайны!...

Малады васямнаццацігадовы жывот, аднак, нельга было замаліць ніякімі, няхай сабе ўзвышанымі і святымі лозунгамі. Ён патрабаваў харчу, і пры гэтым не толькі ў калорыях, а і ў пэўным аб’ёме. Пасля разводу на пляцы Віктар адразу пачынаў марыць пра абед, пра духмяную пайку, да якой было яшчэ далёка. Іншы раз ён маляваў ва ўяўленні, колькі б мог з’есці хлеба. Адной буханкі здавалася мала, ён тады дабаўляў другую, нарэшце, трэцюю. Ён бы мяў і камячыў гэтыя буханкі, адламваў хлеб вялізнымі кавалкамі і еў бы адразу з дзвюх рук...

На нарах пасля адбою таксама шапталіся пра харч. Ішло паспяховае наступленне на Украіне: немцаў заціснулі пад Корсунь-Шаўчэнкаўскім — і хлопцы марылі трапіць туды, на паўднёвыя франты. Усё-такі там хлебны край: пшаніца, кукуруза, а якія там з белай мукі паляніцы пякуць!..

Ірваўся ў маршавую роту, на фронт, і малады партызан суседняга з Віктаравым раёна Вася Гайчук. Дзіўны, няўрымслівы ён чалавек!.. Ад недаядання шырокі, добразычлівы Васеў твар азыз і пасінеў, стары, мабыць, яшчэ часоў грамадзянскай вайны, шынель вісіць на ім як на калку, але ў Васі тым не меней не ўбавілася ні гумору, ні рухавасці. Увесь свой час, нават той, які адпушчан на асабістыя патрэбы, ён праводзіць

ля кулямётаў. Ручны кулямёт Дзегцярова ён можа сабраць і разабраць за лічаныя імгненні і прагне гэтак жа лёгка валодаць станковым.

Насядзеўшыся ля кулямётаў, Вася прыходзіць у курылку зацягнуцца «бычком».

— Вось сюды,— ён торкае пальцам у вялізную масляністую пляму над левай кішэнькай гімнасцёркі,— Міхаіл Іванавіч прывінціць мне залатую зорачку.

— Які Міхаіл Іванавіч?

— Вядома які. Калінін. Усесаюзны стараста.

— За што?

— Як за што? Нашаткую гансікаў, як капусты. Сумняваецеся?..

Зрэшты тыя, што былі з Васем разам у партызанах, словы яго за жарт не прымалі. Яны ведалі, што ён удзельнічаў у падрыве дзевяці эшалонаў, два ці тры разы яго прадстаўлялі на ордэн, але ўзнагароды не дачакаўся — пайшоў на фронт.

Вынікам размоў і трызненняў пра харч сталася тое, што Віктар выцягнуў з-пад матраца паддзёўку і куртачку з бліскучым замком, якія ў свой час закапаў у снег, і, улучыўшы прыдатную часіну, рушыў са сваім скарбам да галасістых баб на станцыю Фаянсава. Купляць цывільную вопратку ў вайскоўцаў яны, відаць, прызвычаіліся: за дзве каштоўныя па ваенным часе рэчы Віктар ледзь-ледзь выкленчыў семсот рублёў. Затое на тавар уласнай вытворчасці бабы ўзвінцілі цэны як мае быць: невялікі праснак-скавароднік каштаваў сто рублёў, паўлітра малака — пяцьдзясят. Віктар за набыты капітал выпіў бутэльку малака, купіў пяць праснакоў і дзве шклянкі махоркі. Тры праснакі ён з’еў па дарозе і два прынёс — падзяліцца з хлопцамі...

Усё ж паход на станцыю Фаянсава прынёс немалую карысць. Віктар пайшоў у армію па чарговаму прызыву, і як годны да вайсковай службы, але не абвучаны і пры ўсім гэтым як чалавек з пэўнай адукацыяй, ён мусіў вучыцца ў палкавой школе шэсць месяцаў. Але ён нават не мог сабе ўявіць, што цэлыя паўгода пратарчыць тут. На фронт трэба!.. Там і кормяць лепш, і ўвогуле павага франтавіку...

Ёмістая жменя махоркі, перасыпаная ў кішэню ротнага пісара, зрабіла сваю справу. Хітраваты, увішны пісар вельмі

спрытна перарабіў апошнюю пяцёрку на тройку ў чатырохзначнай лічбіне, якая азначала год нараджэння, і з гэтай хвіліны Віктар амаль механічна перайшоў у катэгорыю тых, хто з дня на дзень мог чакаць залічэння ў маршавую роту...

Перад адпраўкай на фронт Віктару пашанцавала: трапіў у нарад на кухню. Жалезнымі ламамі яны адкалвалі камлыгі ўшчэнт зледзянелай бульбы, адпарвалі ледзяшы ў катле з цёплай вадой, затым сяк-так бульбу абіралі. Да раніцы суп для многіх соцень салдацкіх жыватоў быў гатовы. Хлопцы пранюхалі, што Віктар на кухні, і не прамінулі пакарыстацца выпадкам. Аж па тры разы прыбягалі праз заднія дзверы стрыечны брат Адам, Пятро Герасімаў, аднакласнік Саша Чарняўка...

У хлопцаў ад слабага харчу парос на тварах нейкі кволы пух. Віктару было шкада хлопцаў. Ён радаваўся, што яны хоць раз удосталь наядуцца...

Тады, калі Віктар апрануў новы шынель, гімнасцёрку, ватнік, яму стала шкада запаснога палка. Усё-такі былі тут свае святыя мясціны. Апрача пляца, дзе пасля ранішняй паверкі разводзілі роты, была яшчэ сушылка, цёмны цёплы закутак барака, дзе стаяла печка, зробленая з жалезнай бочкі, і дзе, павячэраўшы, салдаты курылі, спявалі песні, варылі бульбу. Па некалькі бульбін у кішэнях заўсёды прыносілі тыя, каму пашэнціла трапіць на кухню. Тут харч па-брацку дзялілі. Прыходзіў на зборышчы і камандзір узвода, немалады, прысадзісты, трохі рыжаваты малодшы лейтэнант. Сядзеў на драўляным чурбачку перад грубкай і маўчаў. Яму таксама выдзялялі дзве-тры бульбіны і на працягу ўсяго вечара давалі закурыць.

Хораша спявалі. Пра каханне, пра дзяўчат. Віктар у душы радаваўся таму, што мае цяпер поўнае права спяваць «Зямлянку». Гэтая песня была складзена як бы пра яго таксама, хоць дзяўчыны, якая б думала аб ім, пакуль не было...

Калі на станцыі Фаянсава ішла пагрузка ў эшалон, бабы, што гандлявалі праснакамі, малаком і махоркай, былі на месцы. Але іх адносіны да салдат у новых шынялях былі зусім не такія, чым да абарванцаў, што месяц назад сюды прывандравалі.

— Сыночкі, канчайце хутчэй вайну. Ужо дыхаць болей нельга.

— Выганяйце немца — і дадому...

— Божа, Божа, якія маладзенькія. Як дома тым маткам...

— Бач, шыя тоненькая. Які ён салдат — дзіця...

Некаторыя з баб выцiралі ражкамі хустак слязіну...

І вось зноў цяплушка. Усе, хто ў вагоне, думаюць, што пасылаюць на Украіну. Сухі паёк выдалі на пяць сутак і на двое — НЗ.

У Віктара трымціць надзея, што паедуць праз местачковую станцыю. Месяц не быў дома, а як засумаваў. Для маці падрыхтаваў падарунак — спецыяльна не скарыстаў дзве метровыя байкавыя прасцірадлы, выдадзеныя на анучы.

Добрая выйдзе з іх для маці кофта...

Пасля Смаленска мары пра Украіну пачалі згасаць. У Сычоўцы Віктар вылез з вагона і за нікчэмныя бульбяныя піражкі прадаў байкавыя прасцірадлы. Было ясна — вязуць пад Ленінград. Блакада з яго канчаткова не знята...

Потым была вайна — залітыя ржавай балотнай вадой акопы пад Нарвай, нудная, двухмесячная перастрэлка з немцамі, якія, адкаціўшыся ад Ленінграда, зацята агрызаліся і не хацелі здаваць Прыбалтыку. Віктар пакрысе прывыкаў да салдацкага бытавання. Навучыўся спаць на снезе, засланым толькі яловымі лапкамі, кіпяціць у кацялку чай, маючы пад рукамі жменю ці дзве сухіх бадылькоў. Карміліцяпер па першай катэгорыі, давалі болей хлеба, і прыварак быў някепскі, але пачуццё голаду, абуджанае месячным знаходжаннем у запасным палку, не праходзіла.

Між тым пачыналася вясна. На балацянках пад Нарвай стала яшчэ горш, чым было зімой. Дарогі зусім расквасіла, паўсюдна, залiваючы акопы і бліндажы, стаялі азярыны талай вады. Але менавіта ў гэты час дывізію, у якой служыў Віктар, правёзшы ў эшалоне праз напаўразбураны Ленінград, перакінулі на Карэльскі перашыек. Баямі на гэтым перашыйку пачалося гарачае, наступальнае лета сорак чацвёртага года...

На вайне такой жа вострай патрэбай, як харч, з’яўляюцца лісты. Без лістоў з дому ці з якога-небудзь іншага месца салдат ваяваць не можа. На Карэльскім перашыйку, пад Ленінградам, загінулі Сяргей Рагазуб і ўсе іншыя партызаны, якіх Віктар ведаў. Былі вельмі моцныя доты на Карэльскім перашыйку...

Віктар, паранены ў шыю і ў руку, ляжаў у шпіталі і чакаў лістоў ад хлопцаў, якія ўсё яшчэ праходзілі падрыхтоўку ў запасным палку. Знаёмых побач не было, ён застаўся адзін... Васю Гайчука ў першы ж дзень наступлення прадставілі да ўзнагароды медалём «За адвагу». Ён трохі неабдумана вырваўся са сваім станковым кулямётам за баявыя парадкі роты, і яго параніла ў галаву асколкам са снарада, пушчанага нашай жа самаходкай...

Пачалі наступленне тры беларускія франты. Хлопцы ўжо былі на вайне. Ад іх сталі прыходзіць лісты-трохкутнічкі, але невясёлыя. Стрыечны брат Адам загінуў ля Дняпра, калі абыходзілі Оршу, Пеця Герасімаў дайшоў аж да Гродна. Ля Нёмана яго цяжка параніла, і некалькі дзён ён яшчэ жыў...

Васіль Міхальчук прапаў без вестак...

Ужо ва Усходняй Прусіі Віктар атрымаў ліст ад свайго аднакласніка Сашы Чарняўкі. Ліст ішоў усяго толькі тры дні, Саша быў побач. Віктар узрадаваўся, марыў аб тым, каб якнебудзь пабачыцца. Але хутка не стала вестак і ад Сашы...

Вайна яшчэ не скончылася, а хлопцаў нараджэння дваццаць пятага года, з якімі разам хадзіў у школу і якія пайшлі на фронт, Віктар жывога не памятаў ужо ніводнага...

*1970*

# 1971

## ВАСЯ-БЛІЦКРЫГ

### I

Было яшчэ досыць рана — гадзін сем ці палова восьмай, а Вася-Бліцкрыг, танклявы белабрысы хлапчына гадоў дваццаці пяці, ужо нецярпліва прахаджваўся па пероне. Васю на станцыі, як і ва ўсім гарадку, ведалі някепска, таму ніхто асабліва не здзівіўся з яго ранняга паяўлення.

— Як жыццё? — спытаў Васю дзяжурны Коля Смолкін, зняўшы шапку з чырвоным верхам і выціраючы зашмальцаванай насоўкай успацелы лоб.

— Падаю ў прорву. Апусціўся на дно.

Калі Вася быў цвярозы, то пра самога сябе заўсёды выказваўся з выключнай крытычнасцю.

— Да прорвы яшчэ далёка,— разважліва сказаў Смолкін.— Буфет адчыняць толькі ў дзесяць. Ды ў цябе і грошай няма.

— Няма,— прызнаўся Вася.

— Скарацілі па штату?

— Скарацілі.

Смолкін, ляніва пазяхнуўшы і зірнуўшы на наручны гадзіннік, адышоўся, а Вася, арлiным позіркам акінуўшы вуліцу, што вяла да станцыі, рушыў у скверык. Прысеўшы на лаўку, ён, аднак, раз-пораз падхопліваўся. Не было ніякага сумнення, што ён кагосьці чакае. На вуліцы ў хуткім часе, сапраўды, паявілася постаць каржакаватага з шырокім чырвоным тварам чалавека. Вася падаўся яму насустрач.

— Здароў, Мікіта,— сказаў ён.— Матэрыял прынёс?

Замест адказу Мікіта падняў і патрос у паветры камандзірскай сумкай, якую трымаў у правай руцэ.

— Пойдзем у пітомнік,— прапанаваў Вася.— Там нас ніхто не ўбачыць.

Мінуўшы станцыю і жалезны чыгуначны мост праз рэчку, Вася з Мікітам пакіравалі ў камунгасаўскі дрэвагадавальнік, дзе густой шчыльнай сценкай падняліся маладыя ліпкі, клёны, таполі. Знайшлі ўтульную, парослую травой палянку. Тут яны сапраўды былі адгароджаны ад усяго свету.

— Паслухай, што я напісаў,— з гэтымі словамі Бліцкрыг выняў з задняй кішэні штаноў аркуш паперы і пачаў чытаць.

Мікіта Банэдык, які да нядаўняга часу працаваў нарыхтоўшчыкам у райспажыўсаюзе, слухаў няўважліва. Ён ведаў, што піша Бліцкрыг на начальніка раённай міліцыі Піліпончыка дарэмна. Ніякіх махінацый той не рабіў. Ну, можа, выпіў дзе трохі самагонкі, дык што?

Увогуле, дурны гэты Бліцкрыг. Шалёны нейкі. Варта б з ім развязацца, але і сам ён, Мікіта, залез па шыю ў гразь. Такія, як Бліцкрыг, давядуць...

— Дзе ты факты ўзяў? — спытаў Мікіта.

— Лейкін падсыпаў. Сказаў, што ў абласным упраўленні Піліпончыка не любяць. Дай толькі сігнал — як піць даць вытураць...

— Гэта той Лейкін, што самога з міліцыі выперлі?

— Той. Ну дык што?

— Няхай бы сам і пісаў.

— Што ты разумееш! — нечакана ўскіпеў Бліцкрыг.— З такімі, як ты, за праўду не паваюеш. Учора згаджаўся, а сёння ў кусты.

«Зайздрослівы ты, Бліцкрыг,— падумаў Мікіта.— Усяму свету зайздросціш. Яшчэ малады, жыццё наперадзе, а такі зайздрослівы. З інстытута выгналі, бо з жулікамі звязаўся. Мне вядома і тое, чаму на міліцыю злуешся. Стаіць, відаць, птушачка ў пашпарце. Але і сам я не лепшы. Хацела б душа ў рай, ды грахі не пускаюць. Гарэлачка, будзь ты тройчы праклятая... Жонка ўцякла, і ніхто цябе за чалавека не лічыць, Мікіта».

— Я падпішу,— сказаў Мікіта.— Але подпіс пастаўлю неразборлівы. Сам ведаеш...

Наслініўшы хімічны аловак, Мікіта паклаў спісаны размашыстым Васевым почыркам аркуш на раменную палявую сумку і вывеў пад ім доўгую загагуліну.

Матэрыял, які склаў Мікіта Банэдык на старшыню райспажыўсаюза, Вася падпісаў не чытаючы.

## II

Вечарам у станцыйным буфеце п'яны Бліцкрыг крычаў:

— Я сваё дакажу!.. Выведу ўсіх на чыстую ваду...

Васю частавалі тры маладыя захмялелыя маракі, якія злезлі з цягніка і, відаць, з-за позняга часу, не адважыліся рушыць у свае вёскі. Выслухаўшы Васю, хлопцы насцеражыліся. Старэйшы, з трыма значкамі на флоцкай гімнасцёрцы і тонкай пасачкай вусікаў, крануў Бліцкрыга за плячо...

— Слухай, ты... Цішэй на паваротах. А не — адшвартоўвайся.

— Вы, рабяты, маладыя... Нічога не ведаеце...

Васеў сусед па століку, чарнявы марачок, быў настроены болей міралюбна.

— Ну, піша чалавек. Няхай піша...

Старэйшы, аднак, нахмурыўся:

— А якія ў цябе доказы?

— Я ўсё ведаю. Спецыяльна займаюся.

Старэйшы марак з вусікамі і чарнявы пераглянуліся і, як па камандзе, падняліся.

— Слухай, друг, выйдзем на хвілінку. Праветрымся. Будзь ласкаў.

Узяўшы моцна захмялелага Васю пад рукі, марачкі вывелі яго ў станцыйны скверык.

Да разгневаных матросаў падышоў дзяжурны Смолкін, які на гэты час быў у буфеце і чуў усю размову.

— Не чапайце яго, хлопцы. Проста ён Богам пакрыўджан. Няшчасная балаболка...

Маракі, ваўкавата азірнуўшыся, падаліся ў буфет і праз хвіліну зніклі адтуль усе трое...

Назаўтра выбухнуў вэрхал дома. Вася прачнуўся позна. Галава як не расколвалася. Доўга піў ваду, нагнуўшыся над вядром.

Бацька сядзеў за сталом, галіўся вышчарбленай брытвай.

— Вон! — закрычаў ён.— Каб твайго духу не было.

— Я сваё дакажу.

— Што ты дакажаш?

— Тое, што ведаю.

Бацька — хілы, шчуплы, верабей у параўнанні з шыракаплечым Васем — кінуўся на сына з кулакамі, але бацьку схапіў за рукі Сяргей, малодшы брат, які нядаўна вярнуўся з арміі.

— Што, я табе грошай не даю? — крыкнуў Вася, стоячы на парозе.— У маі семсот даў, цяпер — восемсот. П'ю не за сваё.

— Не хачу ні цябе, ні грошай тваіх. Праходу ад людзей няма.

— Гледзячы ад якіх людзей.

— Вон, вісус! Равеснікі інстытуты паканчалі, а ён сабака сабакам. Брэша на ўсіх.

— Пабачым, хто каго. Пра тых інстытутчыкаў я таксама ведаю...

Бацька з узнятымі кулакамі зноў кінуўся на Васю, але той паспешліва выскачыў за дзверы.

На двары сярэдні брат Пятро, які служыць шафёрам у лясгасе, накідаў на кузаў трохтонкі гной. Зрабіў выгляд, што Васі не бачыць.

— Дай закурыць,— папрасіў Вася.

Пятро і брывом не павёў. Як бы Васі зусім не было.

— Дай, кажу, закурыць.

Шырокі твар Пятра раптам пабялеў, на губах выступіла пена.

— Закалю-у-у!

Сагнуўшыся, увабраўшы галаву ў плечы, Вася штосілы сігануў да варот. Вілы са свістам урэзаліся ў шулу...

У сям'і Біклагаў — такое сапраўднае прозвішча Васі-Бліцкрыга — бадай, усе трохі мехам цопнутыя... Да трох не лічаць...

## III

Праз два тыдні пасля таго, як Вася паслаў матэрыял на Піліпончыка, у раён прыехала цэлая камісія. Пад сваім матэрыялам Вася паставіў сем подпісаў, але калі камісія стала апытваць тых, хто падпісаўся, а таксама тых, хто проста быў названы

ў якасці сведкаў, то ўсе, за выключэннем Васі-Бліцкрыга, шчыра заявілі, што нічога кепскага пра Піліпончыка не ведаюць. Тыя, хто ўваходзіў у склад камісіі, зацікавіліся асобай самога Васі.

Высветлілася, што па яго допісах у раён за апошнія гады прыязджала яшчэ некалькі камісій. Шмат яго лістоў былі прысланы для прыняцця мер і рэагавання ў райкам і райвыканкам.

Справу на Васю перадалі ў суд. Але зацяты, бясстрашны ён чалавек! Хадзіў па вуліцах, узняўшы галаву, і пахваляўся, што начальства ўрэшце спалохаецца і ніякага суда над ім не будзе, бо ў адваротным выпадку ён выведзе на чыстую ваду ўсіх раённых кіраўнікоў, у тым ліку самога суддзю і пракурора. Суд, аднак, адбыўся. На судзе Вася таксама трымаўся бліскуча. Адкуль толькі, з якіх крыніц бралася ў яго энергія! Ён сказаў доўгую прамову, у якой, не зважаючы на рангі і чыны, выкрываў злоўжыванні начальніка раённай міліцыі і іншых відных людзей гарадка, замахваўся на суддзю і пракурора, патрабуючы іх адводу як асоб зацікаўленых. Але сведкі падкачалі. Мікіта Банэдык, які ў апошні месяц уладкаваўся на працу ў кантору «Заготсена», увогуле заявіў, што матэрыял на Піліпончыка не падпісваў. Калі ж Мікіце паказалі гэты самы матэрыял, то ён, не міргнуўшы вокам, засведчыў, што почырк не яго і подпіс, такім чынам, падроблены.

За паклёп Васю асудзілі на пяць гадоў.

Але час, калі Бліцкрыг быў ізаляваны ад грамадскасці гарадка і мусіў сумленнай працай выкупляць памылкі і грахі, супаў з часам вялікіх амністый. Хутка асуджаныя за крадзеж ці іншыя злачынствы на тэрмін значна большыя, чым Бліцкрыгаў, адзін за адным пачалі з’яўляцца дамоў. Прыехаў і Вася. Ён недзе папрацаваў трохі болей як год.

Начальнік міліцыі Піліпончык быў на ранейшай пасадзе, а Мікіту к таму часу, калі Вася вярнуўся дадому, звольнілі па скарачэнню штату і з канторы «Заготсена».

Вася і Мікіта сустрэліся, як звычайна, у станцыйным буфеце і, нягледзячы на крывадушша, якое праявіў сведка на судзе, даволі хутка памірыліся. Можа, таму, што Мікіта бачыў Васю навылёт. Раіў сцішыцца, гвалту не паднімаць. Але Бліцкрыг крылаў не склаў. Толькі на гэты раз дзейнічаў хітрэй і асцярожней. Нікому нічога не гаворачы, цэлы год збіраў факты

супроць таго ж Піліпончыка. Зноў прыязджала камісія, быў суд, сведкі адмовіліся ад подпісаў, а Васю прыгаварылі цяпер да меншай меры пакарання — да трох гадоў зняволення.

Піліпончык між тым звяў. Быў малады, рухавы, а цяпер здаваўся дзедам: ссівеў, пазелянеў з твару, высах як трэска. Зрэшты, калі Вася праз паўтара года вярнуўся дадому пасля новай амністыі, начальнік міліцыі чакаць болей не стаў. Падаў заяву аб звальненні і з’ехаў з гарадка.

А Мікіта за час другой Васевай адсідкі ўгору пайшоў: уладкаваўся ў аддзеле дарожнага будаўніцтва майстрам, жонка вярнулася. Знайшоў у сабе сілу: піць, лічы што, кінуў. Галоўнае — пабудаваў сабе дом. Сам, сваімі рукамі. Трохі, праўда, цесць памог. Мікітаў дом стаіць у ціхім зялёным завулку, весела пазірае на свет чатырма вокнамі.

Вася-Бліцкрыг прыйшоў да Мікіты летнім надвячоркам. Павітаўся за руку з жонкай і з васьмігадовай дачкой Анютай. Выняў з кішэні і паставіў на стол паўлітра. Жонка адразу нахмурылася. Але Мікіта супакоіў яе.

Выпіўшы шклянку гарэлкі і закусіўшы яшчэ зеленаватымі памідорамі, Вася пачаў каяцца.

— Дурны быў. Навошта да гэтага Піліпончыка чапіўся?.. Нават добра не ведаю яго. Хацелася на сваім паставіць. З-за прынцыпу. Струбіў марна пяць гадоў.

— Піліпончыка ў міліцыі шкадуюць,— падтакнуў Мікіта.— Душэўны чалавек, гавораць. Цяпер на яго месца прыехаў новы. Уга, далёка яму да Піліпончыка!..

— На памылках, брат, вучацца. Больш такім ідыётам не буду. Трэба за розум брацца.

Расчулены Мікіта матлянуўся на двор, вярнуўся са сваёй паўлітрай — пазычыў у суседа. Калі выпілі па трэцяй шклянцы, Мікіта загаварыў:

— Я, брат, цябе разумею. Навылёт разумею... Сам такі быў... Да ты ўсё ведаеш пра мяне. Злосць мяне ўзяла. Свету белага з-за злосці не бачыў. Піць пачаў і пісаць. Колькі я папісаў! І з табой і без цябе. Ты тожа з-за злосці пішаш... Я ведаю... Толькі ж ты малады...

— Мне ўжо трыццаць,— сумна ўздыхнуў Вася.

— Ну, добра. Табе трыццаць, а мне сорак. Што табе шкодзіла жыць? Мог жа інстытут кончыць? Чаму не вучыўся?

— Інстытут — не галоўнае...

— Што тады галоўнае? О, каб мне твая дзесяцігодка!..

— Праўду даказаць трэба!

Вася зрабіўся маўкліва-засяроджаным. Мікіта не любіў гэты яго выраз твару. Здавалася, што Вася ведае штосьці такое, чаго не ведаюць і да чаго ніколі не дабяруцца другія. Адзін ён валодае. І ніколі не спіхнеш яго з таго, на чым ён спыніўся ў гэтай сваёй дурной зацятасці.

— Трэба жыць, як усе,— разважліва сказаў Мікіта.— Я вот паставіў хату і рад. Думаеш, жыць з цесцем было соладка?

— Шавалонка лесу даў? — спытаў Вася.

— Дык ён жа ляснічы на тое,— Мікіта насцеражыўся.— Райвыканкам вынес рашэнне, а лясніцтва адпусціла.

Вася-Бліцкрыг гучна зарагатаў.

— Табе райвыканкам болей дваццаці кубоў выдзеліць не мог. А на хату ўсе сорак пайшлі. Ясна, як Божы дзень. Шавалонка казённага лесу не шкадуе...

Мікіта ад нечаканасці пацягнуў на сябе настольнік — на падлогу ўпала і разбілася шклянка з недапітай гарэлкай. З чыстай палавіны хаты выйшла жонка, з перакошаным ад злосці тварам глядзела на мужа.

Мікіта ўстаў. Узяў з вешалкі зашмальцаваную Бліцкрыгаву кепку. Хмель з яго як рукой зняло.

— Вон з майго дому!.. Я прыняў цябе як чалавека. А ты сволач. Пачакай, запякуць так, што не вернешся...

— Не пужай мяне. Пужалі не такія.

Бліцкрыг сядзеў на стуле і рабіў выгляд, што нічога не здарылася. Збіраўся працягваць размову. Нават узяў з пачка новую папяросу, прыпаліў.

Мікіта рынуў да дзвярэй, расчыніў іх ва ўвесь мах і, хапіўшы аберуч Бліцкрыга за плечы, таўхануў за парог. Кепку ўслед выкінуў...

## IV

Ляснічага Васіля Шавалонку, не жадаючы яму бяды, Мікіта на другі дзень папярэдзіў, але той у адказ рукой махнуў. Бліцкрыга ён не баяўся. На гэта былі свае прычыны.

Прыкладна ў тыя дні, аб якіх тут ідзе гаворка, Васіль Васільевіч меў даволі цікавую размову пра Васю-Бліцкрыга

з сакратаром мясцовага гарсавета. Пасаду гэту займаў добры знаёмы ляснічаму Федзя Красней, з якім Шавалонка перад самай вайной канчаў дзесяцігодку. Красней не горш за самога ляснічага ведаў Васю-Бліцкрыга, бо і той разам з імі вучыўся. Але, па-першае, сакратар родам не з гарадка, а з прылеглай вёскі, а па-другое, у вайну быў далёка ад тутэйшых мясцін — лавіў на Енісеі рыбу. Вось таму ён і пазваніў Васілю Васільевічу, просячы яго зайсці да сябе ў кабінет.

Прычына для размовы пра Бліцкрыга была немалаважная: з Масквы ў адрас гарсавета пераслалі ананімку, напісаную кімсьці з местачкоўцаў. У ёй невядомы аўтар скардзіўся на няўвагу мясцовых улад да інвалідаў вайны: сена не даюць, лесу не даюць. Сакратар райвыканкама лічыў, што ананімку напісаў Бліцкрыг.

Пераймаючы манеру вышэйшых начальнікаў, Красней сядзеў у сваім даволі прасторным кабінеце ў сіняй суконнай гімнасцёрцы, галіфэ і, нягледзячы на летнюю гарачыню, у ботах з высокімі халявамі.

Шавалонка ж з-за гарачыні лесаахоўнай формы не насіў: прыйшоў у расхлістанай, з нямытым каўняром сарочцы ў бледную пасачку, у тапачках на босую нагу.

— Трэба яго правучыць як след! — сказаў Красней пра Бліцкрыга, перадаючы ляснічаму скрэслены рэзалюцыямі шматок паперы.

— Почырк не яго,— прачытаўшы допіс, сказаў ляснічы.

— Глупства почырк. Пакуль будзе Бліцкрыг, спакою не чакай. Сто вёдзер крыві вып’е. Я гэтую пароду ведаю.

Ляснічы напэўна гмыкнуў. Ён ніколі не спяшаўся з высновамі.

— Скажы, чаго ён паехаў у Германію?

— Ну, забіралі маладых на работу. Забралі і яго.

— Ён жа хваліцца, што быў у падпольнай групе. Праўда гэта?

— Трохі быў.

— Пазнавата нешта ён дадому вярнуўся. У сорак шостым годзе. Чаму не спяшаўся?

— Відаць, не ад яго залежала.

— Памятаеш, ён і ў школе лез на першыя месцы. Выступаў на мітынгах, заклікаў. Тыповы кар’ерыст. А вучыўся ж так сабе.

— Ну, вялікай кар’еры ён не зрабіў.

Размова на гэтым і скончылася...

## V

Ляснічы Васіль Шавалонка ў размове з сакратарам гарсавета трохі пакрывіў душой. Свядома апусціў некаторыя падрабязнасці. Красней сапраўды ведаў, каго выклікаў: у гарадку не было другога чалавека, хто б больш, чым ляснічы, мог расказаць пра Васю-Бліцкрыга. Раслі на адной вуліцы, разам хадзілі ў школу. Нейкі час і ў вайну былі разам.

У школе Вася Біклага (тады яшчэ Бліцкрыгам яго не звалі) вызначаўся галоўным чынам па лініі абароннай работы. То быў час, калі найбольшай доблесцю сярод школьнікаў лічылася мець чатыры абаронныя значкі: ГПА, ППХА, ГСА і ВС. Вася не толькі меў усе чатыры, але ўвогуле лічыўся найвыдатнейшым актывістам. Часу, каб наладзіць стралковыя спаборніцтвы ці арганізаваць паход у процівагазах, ён не шкадаваў. Меў ён, здаецца, усе даныя, каб па сканчэнні дзесяцігодкі паступіць у ваеннае вучылішча і выйсці адтуль першакласным камандзірам. Нельга было не залюбавацца яго стройнай фігурай, яго вайсковай выпраўкай, ніхто лепш за Васю не аддаваў рапарты старшыні раённага Савета Асаавіяхіма.

Дзяўчаты на Васю заглядаліся, а настаўнікі заслужана яго вылучалі.

Трошкі дзіўныя рэчы пачалі адбывацца з любімцам школы, калі грымнула сапраўдная вайна. Фронт да гарадка набліжаўся імкліва, хлопцы-дзесяцікласнікі ды нават і маладзейшыя за іх аставацца пад немцам не хацелі. Было вырашана адступаць. Вася першы выказаў такую прапанову, але першы і схібіў. Калі шасцёра хлопцаў з торбамі на плячах зайшлі па Васю, дома яго не засталі. Пазней, праўда, высветлілася, што дома Вася быў, але схаваўся на той час у пустую бочку з-пад гуркоў.

Маладосць не мае злой памяці. Тым болей што адыход з мястэчка хлопцам не ўдаўся. Немцы захапілі пераправу на Дняпры, і прыйшлося вярнуцца дадому.

На пачатку першай ваеннай зімы тыя самыя хлопцы-ўцекачы арганізавалі ў гарадку падпольную групу. Помсціць Васю за здраду не сталі — прынялі і яго.

Напрадвесні, калі на ўзбраенні самадзейных падпольшчыкаў была толькі вінтоўка ды абрэз, Вася тым не меней на адной

з патайных сходак выставіў прапанову падымаць у гарадку паўстанне. Яго злосна высмеялі. Але ён не супакоіўся. Пачаў вербаваць новых хаўруснікаў. Звязаўся з тыпам, які пазней адкрыта перайшоў на бок фашыстаў. У выніку некалькі чалавек з тых, хто толькі-толькі пачалі прылучацца да справы, былі арыштаваны.

У час арыштаў на станцыі стаяў эшалон з мабілізаванымі ў Германію. Вася, нікога не папярэдзіўшы, сеў у вагон.

Праз чатыры гады Біклага вярнуўся ў мястэчка. Хлопцы, што засталіся жывымі, дапыталі яго. Вася не таіў, што там, у Нямеччыне, уцякаў з месца на месца, мяняў прозвішчы, лічачы, што фашысты яго шукаюць. Праўда, ён трохі блытаў з гэтымі ўцёкамі. Спачатку называў адзін горад, а праз месяц, забыўшы — другі.

У бліжэйшым ад гарадка вялікім горадзе размяшчаўся лясны інстытут. Шавалонка, які за вайну і ў партызанах пабыў, і на фронце, вучыўся там. Добра вучыўся, меў аўтарытэт. Менавіта ён і ўгаварыў інстытуцкае начальства прыняць Васю на вучобу ў пачатку другога семестра. Але ўжо ў канцы гэтага самага семестра Біклагу з інстытута выключылі. Улез у незаконны гандаль, меў два прыводы ў міліцыю.

Прыкладна з таго часу Вася і пачаў ацірацца каля станцыйнага буфета. Дарма гарэлкай ніхто не поіць, таму сябрам-застольнікам прыходзілася расказваць розныя незвычайныя гісторыі. Вася спецыялізаваўся пераважна на Германіі.

— Я ведаю нямецкія ўзброеныя сілы! — выгукваў ён.— Называюцца вермахт. Гітлер пачаў бліцкрыг...

З таго часу і пайшло — Вася-Бліцкрыг.

## VI

Натура ў Васі кіпучая, дзейсная, яна не хіліцца да нуднай будзёншчыны, ёй трэба выбухі, феерверкі.

З былых Васевых сяброў стаў паважаным чалавекам не адзін толькі Шавалонка. Ёсць яшчэ дырэктар школы Кухмар, ёсць чыгуначны інжынер Папруга і нават дацэнт педагагічнага інстытута ёсць. Кожны з гэтых асоб, якія займаюць у жыцці пэўнае месца і становішча, паспрабавалі, не забываючы

былое сяброўства, знайсці прымяненне Біклагавай энергіі і здольнасцям.

Кухмар угаварыў загадчыка райана, і Васю залічылі выкладчыкам фізкультуры ў адну з гарадскіх дзесяцігодак. Усё-такі некалі ён выдатна займаўся спортам. На першым часе здавалася, што справа пайшла на лад. Вася даваў бліскучыя справаздачы аб рабоце спартыўных секцый, аб падрыхтоўцы разраднікаў.

На аснове гэтых справаздач райана наважыла накіраваць на абласныя спаборніцтвы некалькі вучняў старэйшых класаў.

Але тут і высветлілася, што ні секцый, ні разраднікаў увогуле не існуе. Проста Васю ўдалося заключыць са старшакласнікамі джэнтльменскае пагадненне. На ўроках фізкультуры яны займаліся чым хацелі, але затое настаўніка не выдавалі.

Чыгуначны інжынер Папруга, які працаваў у другім горадзе і ўсіх Васевых паходжанняў не ведаў, уладкаваў Бліцкрыга тэхнікам у пуцейскую вагон-майстэрню. У майстэрні Вася папрацаваў тыдзень. Але за гэты тыдзень з вагона знікла большая палавіна ламоў, кірак, рыдлёвак, а жалезную печку-буржуйку, якая абагравала рамонтнікаў зімой, удалося вярнуць з базара. Хадзілі чуткі, што Вася шукаў купцоў і на вагон, але не паспеў знайсці.

Такі мела выгляд Бліцкрыгава практычная дзейнасць. Але была яшчэ спроба вярнуцца на сцежкі навукі. Гадоў праз дзесяць пасля няўдалага навучання ў лясным інстытуце Вася паступіў на завочнае аддзяленне ў інстытуце замежных моў. Гэтаму ў нейкай ступені спрыяў дацэнт, які там працаваў. Прадметам вывучэння Бліцкрыг абраў нямецкую мову. Ён жа ўвогуле пахваляўся, што ведае гэтую мову дасканала і яму за свае веды трэба фактычна атрымаць толькі фармальны дакумент.

Вася з’ездзіў на сесію, завёў канспекты па ўсіх прадметах, якія чыталі завочнікам, здолеў атрымаць у інстытуцкай бібліятэцы цэлы чамадан падручнікаў. Праз месяц вярнуўся дамоў маўклівы і засяроджаны. У станцыйны буфет ні нагой. Вось менавіта тады і прайшла па гарадку добрая слава пра Бліцкрыга. Маўляў, узяўся за розум, стаў чалавекам. Некаторыя ўвогуле апраўдвалі Васю цалкам, вінавацячы ў яго нягодах іншых людзей.

Тады ж Бліцкрыг і ажаніўся. З пастаяннай работай ён не любіў звязвацца, але грошай меў, бадай, не менш, чым ляснічы Шавалонка. Капейка ў капейку заробкі, прыбыткі аддаваў бацьку. Пра гэта мала хто ведаў, але ва ўсе часы было іменна так. Бліцкрыг нездарма ціраўся на станцыі: тры, а то і чатыры разы на месяц падварочвалася пад рукі хаўтурка: нагрузіць ці разгрузіць вагон. Ва ўмовах тэрміновасці заказчыкі за цаной не стаялі. За тры дні Бліцкрыг меў тое, што Шавалонка за месяц.

Дык вось дзеля таго, каб пашырыць поле сваіх заробкаў, Бліцкрыг іншы раз сягаў і на суседнія станцыі. У Лапічах, бліжэйшай ад гарадка вёсцы, ён і пазнаёміўся з выкладчыцай нямецкай мовы Валяй Шпакоўскай. Гэта была ціхая, сарамяжная дзяўчына, якая, скончыўшы інстытут, прыехала працаваць разам з сястрой-школьніцай.

У свае трыццаць пяць гадоў Вася быў кавалер ніштаваты: энергічны, мужны твар, з арліным, трохі загнутым носам, шырокія плечы, зграбная постаць.

Увесь Васеў воблік дыхаў чымсьці дужым, глыбока мужчынскім. Вася не ўтаіў тых нягод, якія выпалі на яго жыццёвай дарозе, і бачыў, што Валя яму шчыра спачувае. Але ж наперадзе перспектыва: у кішэні пінжака заліковая кніжка, якая сведчыць, што Вася — студэнт-завочнік і ў хуткім часе таксама можа прыйсці ў школу настаўнікам. Карацей кажучы, Вася і Валя схадзілі ў загс і запісаліся.

На першым часе муж не ставіў перад жонкай вялікіх задач: так, прасіў выканаць сякія-такія кантрольныя работы для завочнага аддзялення. Жыў па-ранейшаму ў бацькі. Яму да капейкі аддаваў заробкі. Раз на два тыдні прыязджаў да маладой жонкі начаваць. Так працягвалася з паўгода. Потым наступіў канец сямейнаму шчасцю. Валя была на дзесяць гадоў маладзей за Васю, але сказала яму словы, якіх ні разу не сказаў яму хто-небудзь другі:

— Ты не выйшаў яшчэ з дзіцячага ўзросту...

Кінула ў сярэдзіне навучальнага года школу, разам з сястрой з’ехала невядома куды. Пасля ўцёкаў жонкі Вася страціў інтарэс да завочніцтва.

## VII

Былы начальнік міліцыі Піліпончык прыязджаў у мястэчка. Збіраўся на пенсію, і яму спатрэбіліся нейкія паперкі. Сустрэўшы Мікіту, Піліпончык ніякай злосці не паказаў, працягнуў руку, а развітваючыся, як бы паміж іншым спытаў пра Бліцкрыга.

— Ды піша ўсё! — усклікнуў Мікіта.— Няхай яму балячкі грудзі спішуць. І ўправы няма. Вось хоць бы вас узяць. Не абы-кім, а начальнікам міліцыі былі. Два разы пасадзілі, а на трэці збаяліся...

— Ды тут, брат, не страх,— Піліпончык усміхнуўся.— Кропля камень точыць...

Зноў жа як бы паміж іншым Піліпончык сказаў, што сустрэў чалавека, які ведаў Бліцкрыга па Германіі, і чалавек гэты сказаў пра яго не вельмі добрае. Мікіта верыў і не верыў... Але іменна Мікіце прыйшлося быць сведкай дзеі, якая на гэты раз адбылася не ў станцыйным буфеце, а ў прырэчным рэстаранчыку, у самы пярэдадзень Першамайскага свята. Мікіта вярнуўся з далёкай вёскі, прамоклы і злосны, бо ўшчэнт разнесены паводкам мост, дзеля якога ён туды ездзіў, наладзіць не ўдалося. Маючы ў кішэні скамечаную траячку, дарожны майстар завярнуў у рэстаранчык, каб трохі сагрэцца і падняць настрой.

Бліцкрыг сядзеў за сталом у кампаніі незнаёмых людзей, п’яны, чырвоны, з пасалавелымі вачамі.

— Разведка — бог вайны! — выгукваў ён.— Я ў вайну выконваў асобыя заданні. Быў у Германіі, у тыле варожых войск.

Мікіта хацеў ужо сігануць за парог, але яго ўвагу прыцягнуў чалавек, які не сядзеў, а стаяў ля стала, абшчаперыўшы рукамі спінку крэсла і пільна ўглядаючыся ў бліцкрыгаў твар. Штосьці ў твары гэтага немаладога чалавека, мяркуючы па зашмальцаванай ватоўцы, шафёра, здалося Мікіце незвычайным.

— Разведчык можа зрабіць тое, чаго не зробіць цэлая армія,— працягваў Бліцкрыг.

— Слухай, друг, тваё прозвішча часам не Біклага? — спытаў раптам незнаёмы.

— Біклага, а што?

Незнаёмы ўшчыльную падступіў да Бліцкрыга, узяўшы загрудкі, падняў з крэсла.

— Помніш Мюлендорф, баўэра Пэтэра помніш? Чаму ж ты, разведчык, залез у нару, калі мы з Сашкам уцякалі? Разам жа збіраліся. Компас наш прыкарманіў. Палучай, сука!..— Незнаёмы біў Бліцкрыга па твары, і галава ў таго матлялася, як у нежывога...

Прамінулі гады. Гарадок разросся, яго цяпер з поўнай падставай называюць горадам. Шавалонкаў сын закончыў інстытут, паехаў працаваць аж на Далёкі Усход.

Бліцкрыг жыве сабе, хоць парадкам пасівеў. Няма вечара, каб не з'явіўся ў станцыйны буфет. Злавіўшы хоць адно слова пра вайну, напружваецца, як вайсковы конь, які зачуў гук баявой трубы. Расказвае, бясконца расказвае...

*1971*

## МОСТ

### I

Пяхотнае вучылішча эвакуіравалі на шосты дзень вайны. У Оршы, на забітай вагонамі станцыі, эшалон без руху прастаяў тры дні.

За гэты час на станцыю некалькі разоў наляталі немцы. Яны былі вельмі нахабныя, на агонь зенітак, ружэйна-кулямётную траскатню з нашага боку ўвагі амаль не звярталі, зніжаючыся ледзь не да самых комінаў. Былі добра відаць крыжы з белымі разводамі на крылах і на фюзеляжы, а таксама галовы лётчыкаў у чорных шлемах.

Траплялі ў цэль немцы слаба. Большасць бомбаў падала на ўзбочыны чыгункі і на пустыры. Было дзіўна бачыць вялізныя, з пластамі вывернутага, не чапанага чалавекам глею варонкі, а побач абсыпаныя зямлёй вагоны, нават не скінутыя выбуховай хваляй з рэек...

На станцыі панаваў беспарадак, мітусня. Дзясяткі эшалонаў з бежанцамі, з заводскім абсталяваннем, з трактарамі і

машынамі прасілі дарогі на ўсход. Не хапала паравозаў. У горадзе сям-там дымілі пажары. З паведамленняў, якія некалькі разоў на дзень грымелі з рэпрадуктара, павешанага пры ўваходзе ў памяшканне вакзала, было цяжка зразумець, дзе фронт, але па словах бежанцаў, немцы паспелі захапіць Мінск і Бабруйск. Было трывожна і смутна.

Эшалон вучылішча крануўся, але праз некалькі станцый зноў надоўга стаў. Ноччу было відаць зарыва, якое вісела над Оршай. Курсанты па чарзе хадзілі ў галаўны вагон, насілі рапарты з патрабаваннем неадкладна накіраваць на фронт. Маўклівы сівы падпалкоўнік, начальнік вучылішча, складваў іх не чытаючы ў цынкавую скрынку з-пад патронаў.

У адну з тых начэй здарылася ЧП. Восем курсантаў самавольна зніклі. Назаўтра раніцай у вагон начальніка вучылішча нехта падкінуў пакет, у які быў укладзен калектыўны рапарт васьмярых уцекачоў. Яны пісалі, што іначай зрабіць не могуць і самі ідуць на фронт, бо іх першыя рапарты пакінуты без увагі...

Вучылішча выстраілі на тупіковых пуцях у доўгую шарэнгу, уцекачоў зганьбілі, хоць яны былі выдатнікамі баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Начальнік вучылішча хадзіў на станцыю, некуды званіў. У наступную ноч ля вагонаў прыбавілася пастоў...

## II

У бок Оршы кіраваў эшалон, у якім ехала на фронт кавалерыйская часць. З праёмаў вагонных дзвярэй высоўвалі разумныя морды коні, чуйна стрыглі вушамі. Звінючы вёдрамі, бегалі ўзбоч эшалона кавалерысты. Адкрытая платформа была загружана цюкамі спрасаванага сена, яе ніхто не ахоўваў. Усе васьмёра лёгка ўскочылі на платформу, а калі эшалон крануўся, перасунулі некалькі цюкоў, зрабіўшы сабе надзейнае сховішча.

Платформа, прыспешваючы бег, грукала на стыках. Станцыя, на якой стаяў эшалон вучылішча, асталася ззаду. Курсанты напаўголаса загаварылі.

— Можа, мы зрабілі глупства,— сказаў Валодзя Галубовіч,— але я не каюся. Іначай не магу. І вы, хлопцы, павінны сказаць... Яшчэ не позна. Можна вярнуцца. Каб пасля не было ніякіх нараканняў...

— Я іначай не магу! — сказаў Саша Варанцоў з Разані.

— І я не магу,— хрыпла прамовіў Грыша-грузін.

— І я...

Гэтак жа выказаліся ўсе восем.

— У кавалерыі нам рабіць няма чаго,— пасля працяглага маўчання сказаў Саша з Разані.

— Галоўнае, хлопцы, каб нас не палічылі нямецкімі парашутыстамі. Дакументаў ніякіх. І справак не навядзеш.

— Галоўнае палучыць вінтоўку,— зноў загаварыў Валодзя Галубовіч.— Калі я палучу яе, то буду страляць. Буду добра цэліцца. Пакуль мяне не заб'юць.

Эшалон з ходу праскочыў наступную станцыю.

Хлопцы пачувалі сябе трывожна. І, можа, ад трывогі ў самым небяспечным месцы — пры пад'ездзе да Оршы — яны адзін за другім паснулі і ўвесь той час, калі эшалон грукаў па рэйках, моцна і соладка спалі.

Раніцай, як толькі эшалон спыніўся, уцекачоў выкрылі. Іх выратаванню спрыяла тое, што фронт быў блізка. Яны самі не ведалі, што ён так блізка.

Пад канвоем высокага панурага старшыні, які загадваў фуражом, і двух байцоў гаспадарчага ўзвода, якія трымалі карабіны наперавес, іх прывялі да куста, ля якога стаяў немалады маёр, па абліччы кіргіз ці казах.

— Хто такія? — спытаў ён з моцным нярускім вымаўленнем.

— Курсанты ваеннага вучылішча. Наш эшалон разбамбілі,— за ўсіх адказаў Валодзя Галубовіч.

— І гдзе разбамбілі?

— Пад Оршай.

— А куды ехала эшалон, на фронт ці ў тыл?

— У тыл.

— А чаму вы ехалі ў сена?

— Хацелі трапіць на фронт,— прызнаўся Валодзя.

Яны сталі перад крываногім маёрам усе восем — маладыя, стройныя, чарнявыя і русявыя, з адкрытымі хлапечымі тварамі, і ён, мудры чалавек стэпаў, адразу зразумеў, што яны не хлусяць.

— Дурны, зялёны башка! — сказаў маёр.— На вайне таксама ёсць закон. Мог бы быць лейтэнант, вясці людзі ў бой, а будзеш чысціць коням хвост...

Маёр загадаў залічыць курсантаў у гаспадарчы ўзвод.

## III

Кавалерыйскі полк з ходу выступаў на фронт. Калі маёр гаварыў пра законы, якія ёсць і на вайне, то ён не хлусіў. У той жа час курсанты бачылі, што вышэйшае ваеннае начальства, накіраваўшы кавалерыю ў гэтае месца, не лічылася з ваеннымі законамі. Вакол лясы, кустоўе, балоты. Кавалерыі разгарнуцца тут цяжка.

Надвор'е між тым сапсавалася. Над лесам павісла шчыльная дажджавая сетка. Дарога, па якой рухаліся эскадроны, вузкая, лясная, і строй адразу парушыўся. Ехалі па лесе доўгім, вузкім ланцугом, чвякала пад конскімі нагамі гразь. Кавалерысты ў накінутых плашч-палатках, з капюшонамі на галаве былі падобны на сярэдневяковых рыцараў.

Мінулі адну лясную вёсачку, другую, трэцюю. Чарнела мокрае дрэва хат. З двароў трывожна глядзелі на коннікаў вясковыя кабеты.

Выбліснуў прагал — лугавіна. Наперадзе пятляла даволі шырокая рэчка, а за ёй зноў сцяна сасновага і лісцвянага лесу. Дарога ў гэтым месцы крута паварочвала ўлева.

Мост цераз рэчку — новы, драўляны, на тоўстых бярвеннях-палях — быў на бальшаку, за паўвярсты ад ляснай, прасёлкавай дарогі. Ён добра праглядваўся. Да яго рушылі ар'ергарды разведкі. Для ўсіх астатніх быў прывал.

Курсантам выдалі карабіны, па трыццаць патронаў. Недзе зусім блізка грукала...

Эскадроны праз паўгадзіны рушылі на бальшак, на мост, на другі бераг рэчкі. Службы ОВС, ПФС і боезабеспячэння — уся абозная гаспадарка — пакідаліся на месцы. Ім было загадана падацца глыбей у лес, акапацца.

Курсанты капалі акопы. Яны не бачылі, як пачаў свой бой з немцамі кавалерыйскі полк. А другой палове дня на тым беразе яшчэ мацней, яшчэ бліжэй загрукала. Хлопцы напружвалі слых, стараючыся разгадаць калібры гармат. Аднак нічога разабраць не ўдавалася.

Абозныя коні трывожна стрыглі вушамі. Капала з дрэў. Дымы кухань слаліся па самай зямлі.

Нягледзячы на гарматны гул, у лесе пераклікаліся птушкі. Адлічвала некаму доўгія гады зязюля.

Пад вечар бязладным пошчакам затрашчалі кавалерыйскія СВТ каля самай рэчкі.

Раптам пачалося нешта зусім нечаканае: па насцілу моста, як бы спрабуючы яго моц, павольна пасунуўся танк. Перабраўшыся на гэты бераг, ён рыгнуў агнём — раз, другі, трэці. Снарады рваліся недзе на бальшаку. За першым танкам на мост узабраліся адразу два. Яны таксама стралялі на хаду. На бартах танка былі крыжы з разводамі.

— Немцы!..

Зычны голас каманды кінуў абознікаў у акопы. З-за дрэў узлесся было добра відаць, што рабілася на мосце. Па ім ішлі танкі. Мінуўшы мост, яны зварочвалі з бальшака ў кустоўе. Некаторыя, маскіруючыся, спыняліся проста на лугавіне. Адчыняліся люкі, з машын выскоквалі танкісты.

Курсанты ляжалі ў акопах, наставіўшы ў бок немцаў карабіны. Яны адчувалі сваю поўную бездапаможнасць. Здарылася штосьці дзікае: кавалерыйскі полк, больш за тысячу людзей, нібы скрозь зямлю праваліўся. З таго берага не даставілі ніводнага параненага, ніхто не прыязджаў па боеприпасы, ніхто ні аб чым не папярэдзіў. Ды і як маглі пакінуць немцам неўзарваны мост?

Валодзя Галубовіч ляжаў з пабялелым тварам. Баяўся ўзняць вочы на таварышаў. Ён гарачэй за ўсіх даказваў, што трэба на фронт, трэба браць вінтоўку, страляць і памерці, не сыходзячы з месца. Быў карабін, быў акоп, але страляць не мела ніякага сэнсу. Немцы раздавяць яго, як яечную шкарлупіну.

Валодзя адчуваў, што яго ахоплівае безнадзейны, адчайна-панылы настрой, за якім, мабыць, пачынаецца або поўная безуважлівасць, або паніка. Згушчаўся змрок. Дождж перастаў, але неба па-ранейшаму было зацягнута воблакамі. Ля моста трашчалі матацыклы і запальваліся агні. Вогнішчаў было шмат. Немцы як бы наўмысна паказвалі, што яны нічога не баяцца. Ад рэчкі даносіўся вясёлы рогат. Мабыць, нягледзячы на цемень, салдаты купаліся.

Ціха заржаў конь і адразу ж перастаў. Мабыць, яму на морду накінулі торбу. А далей ні зыку, ні шораху. Тут, у лесе, панавала поўная стоенасць.

Валодзю душылі слёзы. Было проста немагчыма ляжаць, глядзець на нямецкія агні, адчуваючы поўнае бяссілле. Такое

пачуццё ён ужо спазнаў у Оршы ў час бамбёжак. Але цяпер яно было вастрэйшае, бо тады віну за мітусню, паніку, неразбярыху яны, курсанты, ускладалі на кагосьці другога, а цяпер мусяць адказваць самі. Яны таму і кінуліся насустрач агню, вайне, бо нельга было далей трываць, бачыць бездапаможных бежанцаў, слухаць пра адступленне, лавіць на сабе пагардлівыя позіркі. Тады ў эшалоне Валодзю здавалася, што ўсе, хто носіць вайсковую форму, адчуваюць востры, няўтольны сорам.

Ад ракі рассцілаўся па лугавіне туман. Вогнішчы ля моста бляднелі. Але зыкаў, якія несліся адтуль, стала яшчэ больш. Чуўся смех, выбухі рогату, песні. Нехта іграў на акардэоне. Іграў хараша, суладна. Ад усяго гэтага хацелася выць...

Ля акопаў зашасталі цені. Хтосьці прысеў перад бруствeрам Валодзевага акопчыка. Сунуў курсанту ў рукі дзве бутэлькі.

— Гаручая вадкасць. Бензін з фосфарам. Супраць танкаў,— пачуў ён голас старшыны, які раніцай іх арыштоўваў.

Старшына матлянуўся далей. Валодзя ўзважыў у руцэ бутэлькі. Звычайная паўлітроўка. Закаркавана сургучом, нібы віно. Ён падумаў аб тым, што такія бутэлькі былі, мабыць, і ў кавалерыстаў, але дапамаглі ім мала.

Марудна цягнуліся хвіліны. Ніякай каманды не было. Шыняля Валодзя, як і яго таварышы, не захапіў. Ён мёрз, час да часу пацепваў плячамі, але, прыхінуўшыся да сценкі акопа, патрошку драмаў. Побач былі акопы астатніх курсантаў, але ніхто з іх да Валодзі не падышоў, не азваўся. Яму таксама ні да кога не хацелася ісці.

У поўнач ён прахапіўся ад нейкага руху. Адубянелае, знямелае цела білі дрыжыкі. Агні ля моста ледзь мільганулі, а смеху і выгукаў зусім не было чуваць. Затое тут, у лесе, быў незвычайны рух, даносіўся конскі тупат, прыглушаныя выгукі. Валодзя прыгледзеўся і ледзь не крыкнуў ад радасці: з-за рэчкі, з туману групамі выныpвалі цёмныя постаці коннікаў. Іх было многа. Парыпвалі сёдлы, ледзь чутна пабразгвалі цуглі, у змораных коней екаталі селязёнкі.

Коннікі, дасягнуўшы лесу, спешваліся, вялі коней пад вуздэчкі. А новыя постаці ўсё выныpвалі з туману...

Праз паўгадзіны байцоў, што ляжалі ў акопах, пастроілі ў шарэнгу. Падышоў маёр. У бурцы з шырачэзнымі плячамі, ён

быў падобен на начнога гнома. Маёр сказаў, што трэба спаліць мост, і пажар на мосце будзе сігналам для атакі на танкі. Маёр выклікаў добраахвотнікаў. Паставіў умову: тыя, хто ішоў на дыверсію, мусілі ўмець плаваць.

— Я,— выйшаў са строю Валодзя Галубовіч.

— Я,— пачуўся голас Сашы-разанца.

— Я,— азваўся Грыша-грузін.

Курсанты вызваліся на дыверсію ўсе. Столькі ж ці болей выйшла кавалерыстаў. Аднак маёр адабраў першых васьмярых: чатырох курсантаў і чатырох абознікаў. Старшым прызначыў знаёмага курсантам старшыну. Яго прозвішча было Хаменка.

Старшына павёў групу да рэчкі. Перабраліся цераз яе з поспехам: была не такая шырокая, як здалося спачатку, і палавіну адлегласці не плылі, а ішлі ўброд. Мокрыя, стараючыся сагрэцца, подбегам за лічаныя хвіліны падабраліся ледзь не да самага бальшака. Заляглі ў кустах.

Хаменка папоўз у разведку.

Вярнуўся ён не вельмі хутка. Трывожна цягнуліся хвіліны. Хаменка падпоўз і натужна засіпеў:

— Нашы спалілі пяць танкаў, а мы спалім мост. Немцы спяць. На мосце два вартавыя. Аднаго я бяру на сябе. Другі, з таго боку, няхай стаіць. Бяжыце па мосце да сярэдзіны і кідайце бутэлькі. Самі — у рэчку. Як кончу вартавога, закрычу савой...

Хаменка зноў рушыў да моста. І адразу ж у начной цемры пранізліва кігікнула сава.

Абдзіраючы рукі і твар аб кусты, Валодзя выскачыў на насып, кінуўся да моста. За ім, цяжка дыхаючы, бег Саша-разанец, тухкалі мокрымі ботамі астатнія. На імгненне ў Валодзевай свядомасці мільганула, што толькі ўчора яны, курсанты, ехалі між цюкоў з сенам, хваляваліся і зусім не ведалі, што з імі будзе...

Два вялізныя асляпляльныя слупы агню адзін за адным выбухнулі амаль на процілеглым краі моста. Кінуў бутэлькі Хаменка. У гэты міг Валодзя ўбачыў купкі нямецкіх палатак на лугавіне і тры ці чатыры танкі з жэрламі гармат, звернутымі на ўсход. Адну за другой туды, бліжэй да полымя, шпурлянуў бутэлькі Валодзя і амаль адначасова з ім астатнія. Полымя было страшэннае. Нават ад адной бутэлькі яно шугала бадай не на вышыню тэлеграфнага слупа...

Кідаючыся праз парэнчы моста ў рэчку, Валодзя ўбачыў ярка асветленую лугавіну і чорную хмару коннікаў, якая ляцела на танкі...

Выбраўся з вады ён не хутка, плыў супраць цячэння, і, калі ступіў на бераг, усё было скончана. Падпаленыя звычайнымі бутэлькамі гаручай сумесі, нібы вялізныя стагі сена, палалі нямецкія танкі...

Гэтую гісторыю я пачуў у вагоне хуткага цягніка «Беларусь», які вёз нас з Мінска ў Маскву. Яе расказваў цывільны чалавек гадоў пад пяцьдзясят, калі мы якраз пад'язджалі да Оршы.

Цягнік «Беларусь» — добры і выгадны. Садзішся вечарам у Мінску, а раніцай — у Маскве.

Пасля апавядання майго спадарожніка я міжволі падумаў аб тым, што немцы ў сорак першым ехалі гэтай дарогай да Масквы ўсё лета і восень. На машынах, танках. Але так і не даехалі.

*1971*

## ПЕРШЫ СПЕКТАКЛЬ

У той дзень, калі мы скончылі чацвёрты клас, у нашу вёску завітаў вандроўны тэатр. Артысты прыехалі ў вялікай сіняй будзе, ззаду якой валюхаў прывязаны на жалезны ланцуг мядзведзь. Яшчэ ніколі ў Рудаўцы не было артыстаў, таму на пясчанай плошчы перад школай сабралася многа народу. Прыйшлі старыя і малыя.

Артыстаў прыехала ўсяго трое, але якіх толькі штук яны не вытваралі! Спачатку з буды вылез клоўн з размаляваным тварам, у высокай, завостранай зверху і таксама размаляванай шапцы, адвязаў мядзведзя і пусціўся з ім у скокі. Ён іграў на балалайцы, а мядзведзь, стаўшы на заднія лапы, раз-пораз прысядаў. Гэта ён так скакаў. Пасля касалапы еў запаленую паперу, гнуў з бярозавых жэрдак дугі, забіваў камара, які сеў на патыліцу клоўна. Смеху было на ўсю вуліцу.

Потым з буды выскачыла лісіца. Яе прадстаўляў артыст, які прывязаў сабе ззаду вялікі хвост, а на твар надзеў маску. Лісіца запрасіла мядзведзя ў госці, наклала на талерку розных

прысмакаў, сама ўсё паела, уцякла, а сляды замяла пушыстым хвастом. Падмануўшы мядзведзя, яна нават заспявала песеньку, якая тады ўсім нам запомнілася:

У Енота хвост колечком,
Хвост у крысы без волос,
Посмотрите, поглядите
На мой пышный рыжий
хвост!..

Поспех артыстаў быў нечуваны. Яны ў нас пераначавалі, разжыліся трохі харчамі, а назаўтра паехалі. Але, можа, цэлы месяц не спыняліся ў вёсцы перамовы наконт спектакля. Асабліва не маглі супакоіцца мы, школьнікі.

Справа ў тым, што наша школа мусіла разрастацца. Да гэтага часу ў Рудаўцы было толькі чатыры класы, а ўсе, хто хацеў вучыцца далей, хадзілі за восем вёрст у Мікітавічы ці нават наймалі кватэру ў мястэчку.

Мы ведалі, што з восені ў Рудаўцы адкрыецца пяты клас. Побач са старым будынкам стаяў новы зруб — калгаснікі перавезлі на школьны пляц хату раскулачанага Дзяміда Харланчука.

Пяты клас — гэта ж табе не чацвёрты! Там будзе вучыць не адзін настаўнік, а некалькі, кожны па сваім прадмеце. А ўслед за пятым класам адкрыецца шосты і сёмы. Адным словам, мы хацелі як-небудзь адзначыць адкрыццё ў нашай вёсцы сямігодкі. Артысты падказалі нам выйсце. Трэба наладзіць спектакль!

Летам займацца гэтай справай не было часу — мы пасвілі кароў, свіней, памагалі бацькам, а з пачаткам новага навучальнага года работа закіпела. Да нас прыслалі піянерважатую Галю Вішнеўскую, і калі мы прызналіся ёй, што хочам паставіць п’есу, яна сама загарэлася. Паехала ў раён і прывезла адтуль выдатную п’есу — пра тое, як чырвоны разведчык пралазіць у штаб белых, выкрадае генерала і ў мяшку прыносіць яго да сваіх.

Іграць белага генерала ніхто не хацеў, але мы ўгаварылі Міцьку Галузу, бо знешнасць яго для гэтай ролі вельмі пасавала. У Міцькі вялікая галава і тоўсты, падобны на бульбіну, нос. Калі пад такі нос прырабіць чорныя або сівыя вусы, то генерал выйдзе выдатны.

Чырвонага разведчыка мусіў іграць Валодзя Смарыга. На такую ролю ён таксама падыходзіў найлепш. Быў страшэнна дужы і мог лёгка панесці ў мяшку Міцьку-генерала.

Два месяцы хадзілі мы на рэпетыцыі. Галя Вішнеўская і ўсе астатнія вывучылі ролі назубок. Каб каго-небудзь паднялі сярод ночы, то ўсё, што напісана ў п’есе ад пачатку да канца, ён адбарабаніў бы без запінкі. Аднак, нягледзячы на гэтыя артыстычныя поспехі, наш першы спектакль ледзь не сарваўся.

П’есу наважылі паставіць на Кастрычніцкае свята. Выбралі самы вялікі школьны пакой, у якім некалі займаліся адразу чатыры класы, сталі абсталёўваць сцэну. Тут і высветлілася, што для пастаноўкі п’есы вельмі многага не хапае. Генерал павінен быць у мундзіры. А дзе яго дастаць? Вастраверхія будзёнаўкі, чырвонаармейскія шынялі, гімнасцёркі мелі некалькі вяскоўцаў, а паспрабуй знайсці мундзір! Але ўсё-такі знайшлі. Аднаногі Кузьма, які рамантаваў для калгаса хамуты і іншую вупраж, узычыў нам каптан, перашыты з шыняля. У яго ж дасталі два Георгіеўскія крыжы, якія ён заслужыў на германскай вайне.

Валодзю Смарыгу, які пад выглядам афіцэра прабіраецца ў штаб белых, таксама патрэбен быў мундзір. Але мы парашылі, што як-небудзь абыдземся. Другі мундзір знайсці немагчыма. З бліскучай паперы зрабілі пагоны Міцьку на каптан, а Валодзю — проста на сарочку. Зрэшты, па адных пагонах можна здагадацца, што Валодзя пераапрануты пад афіцэра чырвоны разведчык.

Горш было з іншымі рэчамі, якія патрабаваліся для п’есы. На стале ў штабе белых павінен стаяць тэлефон. Па ім генералу перадаюць, што да яго едзе сувязны афіцэр з суседняй арміі. Так па ходу дзеяння абжываецца ў белым штабе чырвоны разведчык.

Мы ведалі пра тэлефон, але ніхто ніколі яго не бачыў. Яго не было нават у сельсавеце ў Мікітавічах. Галя Вішнеўская апісала на словах, які выгляд мае тэлефонны апарат, і мы змайстравалі яго з дошчачак, а затым пафарбавалі ў вайсковы зялёны колер.

Для спектакля патрэбен быў і самавар. Перад тым як у штаб белых завітае чырвоны разведчык, генерал сядзіць за

сталом, рыхтуючыся піць чай. Самавар для яго раздзьмухвае халявай бота дзяншчык.

Самавара ў Рудаўцы не было. Праўдзівей, адзін быў, яго прывёз з Сібіры Мікалаю Ахрэмчыку яго брат Сцяпан. Але на самавар паквапіліся белапольскія легіянеры і забралі, калі адступалі з Рудаўкі.

Самавар хацелі замяніць кацялком. Але пасля перадумалі. Наўрад ці будзе белы генерал наліваць сабе са звычайнага кацялка. Таму сцэну з самаварам прыйшлося проста скасаваць. Хопіць генералу звычайнай шклянкі, у якую будзе наліты чай. Яе прынясе на талерцы дзяншчык.

Настаў доўгачаканы дзень. П'есу, як і намецілі, ставілі ў самым прасторным пакоі школы. Заслону зрабілі з дзяружак. Посцілкі былі неаднолькавага колеру, але гэта нас, артыстаў, не вельмі засмучала. Галоўнае схавацца на першым часе ад цікаўных вачэй.

Клас паўнюткі народу. Людзі стаяць у калідоры, а таксама на двары пад вокнамі. Хоць бы не сарвацца!..

Як толькі адхінулі заслону, вяскоўцы выбухнулі дружным рогатам. Нягледзячы на тое, што ва ўсіх былі прыклееныя вусы, размаляваныя твары, яны нас лёгка пазнавалі.

— Міцька! — крычалі з залы.— Чай салодкі?

— Гэта не чай, а віно. Генералы віно п'юць...

— Дзе яны таго віна дастануць? Бурачны расол...

— А крыжы, глядзі, сапраўдныя...

Спачатку мы страшэнна хваляваліся. А потым наладзілася. Без адзінай запінкі прамаўлялі патрэбныя словы, размахвалі рукамі. Зала стала сачыць за ходам падзей з неаслабнай увагай, падбадзёрваючы нас, артыстаў, толькі паасобнымі выгукамі. Але нарэшце сціхлі і гэтыя выгукі. Вяскоўцы як бы зліліся з тым, што адбывалася на сцэне, у адно непадзельнае цэлае.

Трыумф быў поўны. Доўга не змаўкалі ў класе шчырыя, дружныя воплескі. Твары знаёмых дзядзькоў і жанок свяціліся здзіўленнем. Мы, самадзейныя артысты, былі на сёмым небе ад шчасця.

*1971*

# У МАКАЎ, НА МЛЫН

*З даўнейшага*

У той старане, дзе ўсходзіць сонца, выбілася палоска зары, а зоркі сталі зусім непрыкметныя. Над кустамі плёнка туману, такая густая, што не ўбачыш другога боку вуліцы. Вуліца ў гэтым месцы крута адступае, беручы на захад і ўтвараючы зарослы зялёнай муравой прамежак-выган. На выгане, пазвоньваючы прывязаным да шыі званком, фыркае чыйсьці конь. Прачнулася і стракоча на паркане сарока. А так яшчэ спіць сяло Вялікія Кавалі. Нават сабакі не брэшуць.

На вуліцы заляскаталі калёсы, але перад дваром Цімоха Валовіка ляскат заціхнуў. З воза саскочыў каржакаваты, у суконнай белай світцы і белых портках чалавек, тпрукнуў на коней, прывязаў вожкі да білаў.

На возе, на мяшках з жытам, сядзяць абматаныя канаплянкамі дзве тоўстыя, як копы, бабы. Вокны нізкай Валовікавай хаты цёмныя.

— Павыдыхалі яны тут ці яшчэ якая трасца...

Чалавек намацаў засаўку, адчыніў веснічкі, зайшоў у двор. Пасярод двара, насупраць студні, над якой у перадранішняй шэрані чарнее высокі журавель, стаяць калёсы. Хамут вісіць на калку перад дзвярамі ў хату. Прыхіленая да пярэдняга кола стаіць дуга. Чалавек падышоў да цёмнага акна і сагнутымі пальцамі пастукаў у шыбу.

Цімох Валовік, не зважаючы на амаль летні час, ляжаў на печы, а жонка яго, Насця, на збітым з дошак палку. Незамужняя дачка Маня, палажыўшы ў галаву згорнуты кажух, спала на лаве. Пахла саладкаватай прэллю — якраз пасярод хаты ляжала выграбеная з падполля бульба з доўгімі белымі расткамі.

Пачуўшы стук у акно, Цімох падхапіўся, спусціў з печы ногі.

— Праспалі, халера на яго...

Насця ўстала, улезла ў андарак і, тэпаючы босымі нагамі па падлозе, пайшла ў сенцы адчыняць. У хату ўвайшоў Пятро, родны Насцін брат.

— Усё не выспіцеся,— сказаў ён.— Стой тут цераз вас. Гаспадары, ліха вашай матары...

У хаце патроху шарэла. Газоўку-васьмярык, якая вісела на абсыпаным дохлымі мухамі дроце пад столлю, можна было і не запальваць.

Цімох сядзеў на прыпечку. Выцягнуў з пячуркі скарчанелыя анучы, мяў іх і расціраў.

— Кажуць, Ёткаў млын на тым тыдні пусцяць,— сказала Насця, каб як-небудзь апраўдацца.— Мо і ехаць не трэба...

Пятро нецярпліва зняў з галавы мікалаеўскую, са зламаным казырком шапку, прыгладзіў рукой рэдкія зляжалыя валасы.

— Раймонт у Ёткі. Сам надоечы пытаў.

— Раймонт, раймонт,— азваўся Цімох.— Чутно — калгасаўцы і млын заграбастаюць. На сабранні гаварылася. Ёткава дачка з чамайданамі ў горад паехала...

Здаецца, невялікая справа сабрацца ў млын. Але так толькі здаецца. Цімох падрыхтоўку да выезду пачаў загадзя. У цёмных сенцах стаяць мех з жытам, мех субару і па паўмяха ячменю і грэчкі. Калёсы агледжаны, падмазаны варволем. Кабыле Цімох падкінуў звечара ахапак паточанага мышамі апошняга мурагу, а ў поўнач занёс у хлеў цэбар паранкі. Але ж нельга ехаць у далёкую дарогу не снедаўшы. Між тым Насця, схадзіўшы на дрывотню, вярнулася з пустымі рукамі.

— Прасіла ж цябе прывезці смалякоў. У людзей дрывотні завалены карчамі, а ў нас ні трэскі. Намучышся з тым снеданнем.

— Хіба табе навозішся?.. Цягаеш, цягаеш, і ўсё як у прорву...

— Згары ты са сваімі дрывамі. У людзей паленца возьмеш, то сухенькае, як порах. А я век гнілякамі душуся...

— Паеду, чорт вас бяры! — Пятро рашуча падняўся з лавы.— Вы тут да паўдня правалэндаецеся. Кукса, мабыць, за пераездам жджэ. Зоймем вочарадзь...

— Не выдумляй, Пятро. Мабыць, гарачага не каўтануў. Паспееш у той Макаў...

Пятро, які матлянуўся быў да дзвярэй, зноў прысеў на лаву. У хаце стала зусім светла. Былі відаць рудаватыя падцёкі на даўно не беленых сценах і на стале. Чорным жаралом зеўрала печ. З палка гопнуў стары паласаты кот і пачаў ляніва церціся ў нагах гаспадыні. На дрывотні Цімох гахаў сякерай. Яшчэ праз хвіліну ён увайшоў у хату і скінуў ля падпечча бярэма смалякоў.

Насця поркалася качаргой у печы — шукала вугольчыка.

— Адскоч, донька, да Маланні, папрасі жару. На, вазьмі чыгунок...

— Не трэба жару,— перабіў Цімох.— Схадзі да Клімянка, пазыч запалак. Паўкарабка. Скажы — у нядзелю купім і аддамо. Нельга ехаць у дарогу без запалак...

— Нельга,— пацвердзіў Пятро.— Ці блізкі свет, дванаццаць вёрст... Я быў забыў. Думаў — завідна вернемся. Дзе тут вернешся?.. Ды яшчэ, можа, і ў таго макаўскага Нохіма раймонт?

У хату між тым зайшлі бабы, што сядзелі на возе. Абедзве абутыя ў новыя лазовыя лапці, апранутыя ў доўгія шэрыя світы, абедзве завуцца Сынклетамі. Нарадзіліся блізнятамі, у адзін дзень, і поп так нарачыў. Сынклета, абматаная навейшай канаплянкай,— Пятрова жонка, а тая, у якой хустка старая, з дзіркамі, і ў якой завязан у торбе жбан з сыраквашай,— яе глухая сястра. Дзяцей у Пятра няма, і жончына сястра жыве з імі.

— Калі паедам? — на ўсю хату гукнула глухая.— Стаім і стаім, а вунь ужэ тавар гоняць...

Сапраўды, на вуліцы пачуўся пераліўчаты гук берасцянай трубы, а перад самым дваром Валовіка пастух ляснуў — як стрэліў — пугай-дратаванкай.

— Выганяй!

Каровы былі нядоены. Схапіўшы драўляную даёнку, Насця матлянулася ў сенцы, але якраз вярнулася з запалкамі Маня.

— Падаі хуценька, донька, і даганяй пастуха.

Першыя промні сонца лізнулі закопчаныя шкельцы шыб, загулялі зайчыкамі па сцяне. У пасках святла, якія коса — з акна ў вугал — перасякалі хату, варушыліся драбнюткія парушынкі. Справы ў Валовікавай хаце пайшлі спрытней, і нават хмуры Пятро павесялеў. Бадзёра трашчалі ў печы смалякі, Насця кідала на засланы ручніком стол блін за блінам, паспяваючы адначасова перамаўляцца з залвіцамі, якія гаварылі абедзве адразу.

Цімох успомніў яшчэ адну рэч. Мінулай восенню, калі, змалаціўшы першыя шэсць коп, ён павёз малоць, то той самы Ётка запатрабаваў квіткі аб здачы прадналогу. І малоць, паршывец, не стаў. Мусіў Валовік зерне, што прывёз на мліва, аддаць на прадналог, а сам новага хлеба чакаў яшчэ тыдні два.

Такі быў загад сельсавета. У Макаве, здаецца, другі сельсавет, але хто можа паручыцца, што і Нохім не запатрабуе тыя самыя квіткі?..

З палка, прыбітага пад столлю, Цімох дастае раменную шабету, туга напакаваную ўсялякімі паперкамі. Тут абавязацельствы па прадналогу, абкладныя лісты, страхоўкі, а таксама безліч розных квіткоў. Чытаць Цімох не ўмее, паперкі адрознівае больш па колеры і форме. Таму, калі ўзнікае патрэба, дзед заклікае на помач унука Піліпчыка, які ўжо другі год бегае ў школу. Толькі ў хату да сына, што жыве побач, праз агародчык, Цімох не ходзіць. Жорстка пасварыліся, калі сын аддзяляўся.

Няласка да сына не датычыць унука. Піліпчык да дзеда часта прыбягае. На той выпадак, калі ўнука нельга ўбачыць на двары, дзед ведае спосаб, як яго да сябе паклікаць.

Цімох выходзіць на двор, шыбуе ў агародчык і бабкай, якой клеплюць касу, стукае па сцяне ў тым месцы, дзе палок. Піліпчык заўсёды спіць на палку.

Сапраўды, не праходзіць і хвіліны, як заспаны Піліпчык з'яўляецца. У яго зусім белая галава — дзед таксама бялявы — і чорныя парэпаныя ногі. Скупы Пятро і дзве Сынклеты тым часам ужо снедаюць. Насця, каб загладзіць віну, паставіла на стол макітру тварагу са смятанай і скварак трохі падсмажыла. Дзед дае спачатку Піліпчыку блінец са скваркай, а потым падсоўвае шабету. Па пісаным і Піліпчык не надта разумее, але ўдвух з дзедам з бяды сяк-так выробляюцца.

— Шукай, унучак, зялёнага квітка. На восем пудоў.

— Тут трыста напісана, кг...

— На кілеграмы мераюць. Ета пазалеташні квіток на картоплю. Шукай другога. Зялёны такі, бытта трава...

— А вось яшчэ адзін... Тут напісана 8 руб. 40 коп.

— Ета штрахоўка, унучак. Шукай, дзе кілеграмы.

— На етым сто трыццаць кг...

— Мабыць, еты. І ражок, бачыш, адарваны. Еты, унучак, еты.

Піліпчыка разбірае самая ахвота пакорпацца ў шабеце, але дзеду некалі. Паспешліва кладзе сумку на ранейшае месца, ідзе запрагаць каня...

Нарэшце выехалі. Насця дае апошнія наказы задыханай Мані, якая з дзвюма каровамі і цёлкай даганяла чараду:

— Рудому тоўчанка ў карыце, а белага выпусціш. Хай пабегае. Курэй глядзі, а то зноў паграбуць агуркі. Квактусе сыпнеш проса. Пашукай у крапіве ля хлява — рабая, мабыць, зноў там зняслася...

Сонечная ўбіраецца ў сілу раніца. Вясёлыя водблескі скачуць на люстраной раўніне копанкі. Там ужо жыруюць, ловячы вадзяных жукоў, нечыя качкі. Нырне птаха з галавой у ваду, і хвіліну-другую толькі хвост, як венік-дзяркач, тырчыць на паверхні. За чыгуначным пераездам аж да самага лесу — пярэстая намітка поля з параскіданымі на ім астраўкамі атуленых вішаннікамі хутароў. Там, на лядах, бліжэй да лесу, сядзібы ціснуцца адна да адной, а па полі параскіданы як папала. Поле няроўнае: на адным загоне лава жыта зямлю рве, на суседнім — жыта рэдзенькае, кволае, папалам са званцом і валошкамі.

Кукса Васіль чакае ля павароту на макаўскі шлях. Пятровы коні гладкія, аж поўсць на іх ільсніцца, круглая, як булка, і сівая Цімохава кабылка, а на Куксавага каня, хоць гаспадар жыве на хутары, сорамна глядзець. Рэбры ды скура — шкілет шкілетам.

— І каня ж ты давёў, чалавек! — не вытрымлівае Пятро.— Глядзі, што ўпадзе па дарозе. Травы табе не стае, ці што?.. Пусціў бы нанач на поплаў, хай грызе. Устаць ды паглядзець лянуешся...

Кукса безбароды, рухавы, з голым, як у жанчыны, тварам.

На непрыемныя для сябе словы не крыўдзіцца, бо таксама Пятроў сваяк.

— Ён жылаваты, падправіцца,— гаворыць ён пра каня.— Стажок на Зарэччы ў мяне ўкрадзены. Весну худобу на саломе ды на гучках дзяржаў. Увесь бярэзнік выцерабіў.

— Пазычыў бы сена ў мяне.

— Дзе ты ўсяго напазычышся. Дзякуй, што Цімох мяшок жыта пазычыў...

Узбіліся на пясчаны макаўскі шлях. Запрэжаны парай гнядых, Пятроў воз наперадзе, за ім — Цімохаў, і апошні — Куксаў. Бабы ўсе паселі на першы воз, мужчыны ідуць. Рыпяць калёсы, мерна памахваюць галовамі коні. Над полем, у чыстым блакіце неба, заліваецца позні жаваранак. На ўсе галасы перагукваюцца дробныя пташкі ў кустоўі, якім шлях

аддзяляецца ад чыгункі. Ціхі, благаслаўлёны час, калі сяўба мінула, а касавіца яшчэ не пачалася. Можа, толькі той-сёй дасявае на пясчаных няўдобіцах грэчку. Ёсць яшчэ такія, што дзяруць у лесе палянкі пад проса. Проса, як і грэчку, можна сеяць позна.

Па рэйках, набліжаючыся жалезным гулам, імчыць цягнік. Коні стрыгуць вушамі, неспакойна дрыжаць, а Куксаў, хоць і худы, ірвануўся ў аглоблях, захроп. Хутаранскія коні, што жывуць на прыволлі, машын баяцца. Увесь той час, пакуль ляскаталі па рэйках вагоны, Васіль свайго вёў, узяўшы за аброць.

Ад сяла да лесу, што суцэльнай сцяной сінее наперадзе, вярсты тры. На полі сям-там ярка-зялёныя, з маладым далікатным лісцем дубовыя гайкі.

— Калгасаўцы, чутно, тарахтар палучаюць,— парушыў маўчанне Кукса.— Такі самы, як некалі камуна. На карасіне работае і пяць плугоў цягне.

Круглы Пятроў твар насуплены. Маўчыць і Цімох. Калгас у сяле арганізаваўся зімой яшчэ. Туды ўпісалася гаспадароў сорак. Кукса таксама збіраецца запісацца ў калгас, але сказаць пра гэта сваякам баіцца. Не туды яны глядзяць.

— Жыць не даюць спакойна,— гаворыць Пятро.

— Людзі множацца, тым часам, а зямля адна,— асцярожна пярэчыць Кукса.— Усе жыць хочуць. Несазнацельнасць...

Пятро скоса зіркае на Куксу, моргае чырвонымі ад недасыпання вейкамі.

— Калі ты такі сазнацельны, то скажы, як мне рабіць разам з гультаём?.. Я поначы ўстану, да снедання нараблюся, што аж паясніцу ломіць, а ён толькі апаўдня ўзграбецца. А мець хоча тое, што і я. Дык што — мне дзяліцца з ім? Пуд мне, пуд, дарагі, табе, няхай твае дзеці сытыя будуць. Спі, пазяхай, доля ў нас роўная...

Сонца пачынае прыграваць. Над коньмі надаедліва зумкаюць авадні. Зноў ідзе цягнік, але цяпер пусты, з процілеглага боку, і Кукса, выварочваючы пяткі лапцей у пяску, подбегам даганяе свайго каня.

Пятро выламвае дубец адганяць аваднёў.

Жалезныя колы ляскочуць па рэйках весела і часта — пад звычайнымі вагонамі, глуха, цяжка — пад пульманаўскімі. Нязвыклая, аж у вушах баліць, стаіць пасля цягніка цішыня.

— Чалавек жа, аднак, прыдумае,— весела гаворыць, вярнуўшыся да мужчын, Кукса.— Хоць бы еты паравоз. Парай рухаецца. Як ета паверыць, што парай? Пара тая лёгкая, як дым. У жменю не схваціш. Аднак жа сіла! Бачыш, як ляціць!..

Пятро злосна сапе:

— З машыны хлеба есці не будзеш.

— Чорт яго ведае, можа, і так. Толькі на той чыгунцы розныя робяць. І лянівыя, і дбайныя. Як ты гаворыш, гаспадары. Здаецца, і сварацца не вельмі. Адзін сто рублёў бярэ, другі — пяцьдзясят. Робяць хто што ўмее.

— Гультаі туды пабеглі,— стаіць на сваім Пятро.— Хто лёгкага хлеба хоча. Дзень робіць, дзень спіць. На зямлі не паспіш. Калі хочаш жыць, то кожнага дня ўстань на досвітку.

— То і Цімохаў сын гультай? Ён жа на станцыі робіць. Дрывакладам ці кім яшчэ? Скажы, Цімох.

— Гультаіна.— Валовік сярдзіта сплёўвае.— Біч. Калі са мной жыў, не аддзяліўшыся шчэ, то век тавару сена даць не ўстаў. Ждаў, пакуль бацька ўстане. Свет цяпер такі настаў. Рабіць людзі не хочуць...

— А мо так і трэба. Вот ты, Пятро, дзень і ноч ірвеш, баб сваіх пазаганяў, а як жывеш? Свеціш голым задам, як і я. Тыя самыя пасталы носіш. Што ты добрае бачыш?

— Бо я гаспадар. Маю хлеб і да хлеба... Пасталы не сорам...

Ужо лес блізка. Дарога пайшла цвярдзейшая. Коні весялей рушылі. На возе ў баб свая гаворка.

— Палячылася б ты! — гукае глухой Сынклеце ў самае вуха Насця.— У Залужжы, кажуць, знахар жыве. Усё лечыць. Святы чалавек. Бярэ нядорага.

— Які чалавек? — гукае ў адказ Сынклета.

— Святы, кажу. Лечыць травамі і вадой. Нядорага бярэ.

— Ніхто яе не вылечыць.— Пятрова Сынклета сядзіць, падагнуўшы пад сябе ногі, на самым перадку, трымае ў руках вожкі.— Такая яна ўрадзілася. Год ад году горшае. Раней толькі трохі недачувала, а цяпер саўсім не чуе. Пазалетась была і ў дохтара. Як у Мазыр ездзілі. Сказаў — не паправіцца.

З лесу насустрач сяльчанам выязджае цэлы абоз цыганоў з палатнянымі будамі на калёсах. Чорныя, закураныя цыганы — старыя і маладыя — у клёшных штанах, запыленых хромавых ботах, паважна крочаць узбоч вазоў, панукаюць гладкіх коней.

Распатланыя цыганкі ідуць босыя, гуртам, і гэтак крычаць, што можна падумаць пра вялікае няшчасце, якое між імі надарылася. Але з будаў выглядваюць замурзаныя цікаўныя цыганяты — пра няшчасце як быццам нішто не гаворыць. За апошняй цыганскай фурай валюхае на жалезным ланцугу злінялы, з бурай поўсцю мядзведзь.

Пятровы коні раптам захраплі, ломячы аглоблі, ірванулі са шляху па пнёўі. Воз вось-вось перакуліцца. Нема загаласіла глухая. Нарэшце калёсы зачапіліся за пень, перадок сарваўся, воз уткнуўся носам у зямлю. Шалёныя лёгкія коні панесліся да кустоў. Пятро кінуўся ім наперарэз... Цыганы між тым нават брывом не павялі — паехалі далей...

Пакуль выпроствалі абухам сякеры на камені-валуне сагнуты шворан, пакуль прыладзілі сарваную атосу, прайшло не меней за гадзіну. Сонца ўжо вісіць над самай галавой. Бабы сядзяць пад высокімі разлапістымі дубамі, якімі пачынаецца лес, увесь час клянуць цыганоў. Гучна божкае глухая: гарлач хоць і завязан анучкай, але палавіна сыраквашы вылілася ў торбу. У лесе рознагалосы птушыны шчэбет, прахалода. У каляінах дзенідзе яшчэ стаіць вясновая вада. Пятро шоргае лапцямі па зямлі панылы, яшчэ болей змрочны. Шлях у лесе разыходзіцца з чыгункай. Але не болей як на паўвярсты. Калі па рэйках бяжыць цягнік, то між соснаў і бяроз разносіцца густы, шматгалосы пошчак. Лес змякчае сталёвы грук колаў, і здаецца, што сам ён глуха ўздыхае, гамоніць, што самі дрэвы скачуць і прытупваюць. Цягнікі ідуць часта: то з Макава, то на Макаў. Але цяпер не зразумееш, якія гружаныя, а якія парожнія. Сярод суцэльнага маладога хвойніку дарога зноў пайшла благая. Напінаюцца коні, рыпяць, уязджаючы ў пясок па самыя ступіцы, колы. Разамлелая, настоеная на церпкім смольным паху, прытаілася ў хвоях цішыня. Душна, млосна. Хоць бы подых ветрыку.

Пятро зняў шапку, нясе ў руках. Зляжалыя валасы мокрыя. Коні трасуць галовамі. Іх спіны макрэюць, хоць паклажа не такая і вялікая. Гэтак горача, што нават аваднёў стала менш. Мужчыны ідуць моўчкі, ды і бабы прыціхлі. Такой благой дарогі яшчэ вёрст пяць... Гадзіны праз дзве фурманкі выязджаюць на гала. Хвойнік расступаецца, відно макаўскае поле. За чыгункай сама вёска бачна. Маленькія купкі хат, як статак авечак, разбегліся па пясчанай раўніне.

Макаўцы — народ адмысловы, нетутэйшы. Яшчэ ў першую рэвалюцыю, праз год пасля таго як згарэў маёнтак залужскага пана, прыехалі яны аднекуль аж з-пад Кіева. Купілі ў казны пясчанай няўдобіцы і пасяліліся. Ва ўсіх навакольных вёсках і сёлах яшчэ і цяпер смяюцца з іх нязвыклай гаворкі.

Але сам Макаў — яшчэ не млын. Млын на станцыі, якая носіць тую самую назву, што і вёска. Адсюль, з гала, гэта вярсты тры. Усё ж мужчыны павесялелі. Калі не завозна, то да вечара можна змалоць.

— Дык, кажаш, Ётка збіраецца даваць лататы? — успомніўшы ранейшую гаворку, перапытвае Пятро.

Хоць горача, млосна, але шэрай суконнай світкі Цімох не скідае. Толькі гузікі расшпіліў і крыссе расхінуў.

— Дачка з чамайданамі паехала. Аж тры чамайданы...

— А што таму Ётку. Зямлі нямашака.

— Млын калгасаўцы, чутно, заграбастаюць. І забяруць ваўначоску і крупадзёрку...— Пятро, аблізаўшы засмяглыя губы, сярдзіта сплёўвае.

Сонца па-ранейшаму паліць нясцерпна. Рэдка ў пачатку лета бываюць такія гарачыя дні. Паветра густое, нібы расплаўленае. Чыгунка зноў ідзе поруч са шляхам, і проста відно, як над рэйкамі трымціць гэтае гарачае паветра. З Макаўскай станцыі, чухкаючы чорным дымам, выязджае цягнік. Кукса кідаецца да свайго каня. Цягнік трохі незвычайны. На пярэдніх адкрытых платформах нябачаныя дагэтуль машыны: пярэдняе колца малое, а задняе — вялізнае, з жалезным зуб’ем. Яшчэ і жалезная труба над тулавам тырчыць.

— Тарахтары! — крычыць Кукса.— Яй-богу, тарахтары. Такі ў камуне быў. Як загрукоча, то бытта гром...

Платформаў тры, і на кожнай з іх па два «тарахтары». Нават нейкія чарнамазыя людзі на іх сядзяць. Адзін проста спіць, уладкаваўшыся пад коламі. Маўклівымі позіркамі праводзяць цягнік Пятро з Цімохам.

— А я быў ашукаў раз Ётку! — з незразумелым узрушэннем паведамляе раптам Кукса.— Завёўся ў мяне чырвонец, і давай, думаю, куплю пшанічнай мукі...

— Маўчы ўжо лепей, заткала! — асякае сваяка Пятро.— Ты ашукаеш...

— Яй-богу, мужчыны, праўда. Узяў мяшок, пайшоў на сяло, а на дварэ нейкая абліпаха. Ні снег, ні дождж. То я мяшком

акрыўся. Пакуль дайшоў да магазіна, то мяшок увесь мокры. Ётка і пытае: «У еты самы сыпаць?» — «Сып, кажу, дома разбяромся». А калі ён паўмеха насыпаў і на вагі ставіць хацеў, то я падумаў, што мука папраўдзе сапсуецца. «Не хачу, кажу, твае мукі, яна грубага памолу...» То ён як закрычыць на мяне...

— Трэ было, каб той Ётка па карку табе даў,— разважліва сказаў Пятро.

— За што ён будзе біць? Я ж не ўкраў... Вольная таргоўля — захацеў, купіў, захацеў, не... Дома баба мяшок высушыла, муку высыпала, то хапіла на цэлыя блінцы...

Пад’ехалі да пераезда. Тут паселішча не падобна на макаўскую вёску. Агледжаныя, з пафарбаванымі аканіцамі дамкі стаяць пад самымі хвоямі. І агародаў няма ў гэтых жыльцоў. Пасее сабе пад вокнамі градку гуркоў і рад. Дзіўна нават: як і з чаго жывуць гэтыя людзі?

— Так падкузьміў я Ётку...— зноў прамовіў Кукса і сам сабе дробненька засмяяўся.

Макаўскі млын, як і хаты, у хвойніку таксама. З-за стромкіх дрэў выглядае высокая труба з адцягнутымі ад яе ў чатыры канцы дратамі. Дзіўна толькі, што з гэтай трубы зусім не відно дыму. Убачыўшы такое, мужчыны занепакоіліся, нават хаду замарудзілі. Толькі Кукса як быццам нічога не заўважаў. Ішоў адзін наперадзе мужчын, ніяк не мог збавіцца ад неадчэпнага смеху, што душыў яго, нібы ікаўка.

Усё стала ясна, калі ўз’ехалі на шырокі, абгароджаны высокім дашчаным парканам двор млына. Пуста на ім — ні фурманкі, ні чалавека. На дзвярах мураванай будыніны, дзе працуе паравая машына, вісіць вялікі замок. Зачынена і запыленая мучным пылам драўляная прыбудоўка. Бабы злезлі з воза. Глухая, трымаючы ў руках торбу са збанам сыраквашы, недаўменна пазірае на замкі.

— Хай на цябе халера! — Пятро выцер рукой узмакрэлую лысіну.— Дзень толькі дарма змарнавалі. І ў Нохіма раймонт...

— Цемната і несазнацельнасць,— сказаў, як бы нечым узбадзёраны, Кукса.— Едзеце ў белы свет з завязанымі вачамі...

Кукса плюнуў сабе пад ногі, на гарачы пясок.

*1971*

# 1972

## ІВАН ДЫ МАР’Я

### І

Першымі ў сяле прачынаюцца не пеўні, якія гарланяць з другой палавіны ночы, не сабакі, што, бывае, брэшуць без дай прычыны ўсю ноч, а птушкі. Яшчэ не ўзышло сонца, яшчэ белая мяккая празрыстасць выганяе апошнія паўзмрокі, што хаваюцца па кутах панадворку, а на вішні, што пры самай хаце, перад вокнамі на вуліцу, усчынаюць гамонку вераб’і. Вішня старая, разгалістая, абымшэлая, ягад на ёй даўно няма, так што няма вераб’ям пажытку, і яны, мабыць, проста радуюцца дню і святлу. Потым прылятае варона, садзіцца на вільчык хаты і доўга, аднастайна каркае. Падзёршы, прачысціўшы горла, варона знікае, а на змену ёй прыбываюць сарокі. Яны прымошчваюцца на штыкетніку, скачуць з калка на калок, трашчаць, мітусяцца і, нарэшце, пералятаюць на суседні двор.

Мар’я ўсоўвае ногі ў старыя, разлезлыя ступакі, бярэ серп, ускідвае на плячо вялікі крапіўны мех, на якім чорнай фарбай прастаўлены нейкія казённыя лічбіны, і, прымкнуўшы дзверы, агародам шыбуе на саўгаснае бульбянішча. Рана яшчэ, на слупе перад белым двухпавярховым будынкам школы маўчыць рэпрадуктар. Ён загаворыць тады, калі Мар’я з поўным мехам зелля паспее вярнуцца дадому.

Мурава на сцежцы ў буйнай серабрыстай расе. Учора Мар’я хадзіла па траву ў пасадкі да чыгункі, на мокры абутак наліпла пылу, пяску, і цяпер ёй прыемна, што раса змывае бруд, бо нават старыя, з патрэсканай шэрай скурай ступакі маюць выгляд прывабны, калі чыстыя.

Мар'я прысадзістая, дзябёлая, з выразнымі, нават суровымі рысамі твару. Ёй даўно мінула семдзесят, але яна яшчэ шпарка ходзіць і рэдка хварэе. Дзяцей у яе няма, з родных — брат Максім, яго хата цераз агарод, а пры хаце хлеў, у якім стаіць Мар'іна карова. Дзеля каровы Мар'я і носіць мяхамі траву, сушыць яе, запасячы скаціне корм на зіму.

Вясной мачыла, але ўвесь апошні месяц сушыць. Таму нават зелле не хоча расці. Мар'я абжынае межы, ірве малачай і свірэпу на разорах, а калі трава забівае пасеў — ячмень ці авёс,— яна ўсадзіць серп і туды. Гэтую справу можна разглядаць як крымінальную, бо пасеў усё-такі саўгасны, значыць, саўгасная і трава, але Бандзючыха — такое Мар'іна прозвішча па мужыку — даўно нічога і нікога не баіцца.

Травы найбольш па кустоўі, па лясных узмежках, просеках. Але туды Бандзючысе не прабіцца, там дзейнічаюць мужчыны. У сяле нямала людзей, якія ў саўгасе не робяць, але кароў дзяржаць. Навыперадкі, дзе толькі можна, як брытвай, выгольваюць яны ўзлобкі, узболаткі, лагчынкі. З балот, сенажацяў калгас з саўгасам парабілі палі, там, дзе некалі малыя зімой коўзаліся па лёдзе, цяпер сеюць жыта, буракі, так што накасіць аднаасобнай карове сена на зіму — нялёгкае дзела.

Некаторыя сена так і не накашваюць — прыходзіцца купляць,— а Мар'я нажынае. Асаблівай мудрасці тут няма: увесь цёплы час, пакуль свеціць сонца і расце трава, трэба прывалакчы мех зелля зранку і яшчэ мех вечарам. Мар'я нават думае, што яе штодзённыя паходы за травой прыбаўляюць здароўя і працягваюць гады. Маладыя развіваюць сілу, бегаючы і скачучы, ганяючы па школьным двары мяч, а яна, старая,— носячы мяхамі траву.

Выжынаючы на росным бульбянішчы зелле, Мар'я бадай што напакавала мех, калі да яе падышоў Харытон, які цяпер за палявога вартаўніка. Ён такі ж прысадзісты, як і яна, па гадах — гады на два маладзей, але з выгляду нават старэйшы. З зарослага пасівелым шчаціннем Харытонавага твару выглядае чырвона-сіні, круглы, як бульбіна, нос.

— Ты сёння тут жнеш,— гаворыць Харытон.— Пайшла б лепей пад маяк, там болей бярозкі.

— Бярозка свінням добра. А я карове сушу.

— Карове пойдзе ўсякая палявая трава. Тая, што расце на гнаі. Не пустая асака ўсё-такі...

— Які тут у вас гной,— пярэчыць Мар'я.— Пасыплеце парашком, ды і на тым.

— А бульба ж расце добрая. На агародах такой няма.

Тое, што гаворыць Харытон, праўда. Саўгасная бульба адменная. Клубні вялікія: па гусінаму яйку. Пры варцы рассыпаецца, прыемная на смак. Мар'я сама не раз пра гэта думала, але так і не даўмелася прычыны. Даглядаюць жа бульбу не надта: машынай пасадзяць, плугам абгоняць. Расце ў траве. Але цяпер, каб запярэчыць Харытону, яна сказала:

— Што ты раўняеш з агародам? На ім з году ў год толькі бульба і бульба. Як шчэ і так расце?..

— Правільна,— згадзіўся Харытон.— Агратэхнікі на агародах няма. Няма перамены клімату.

«Сам ты клімат,— падумала Мар'я.— Стаіць як слуп і старой бабе глузды забівае. Знайшоўся аграном. Ці даўно ў пажарнай бакі адлежваў? Прагналі на пенсію, дык убіўся ў вартаўнікі. Не хочаш, каб твая сухарэбрая мяшкі з травой, як я, цягала...»

Услых Мар'я сказала:

— Ці ў твае гады, Харытон, валачыцца ў такую рань па полі? Дзяцей пагадаваў, капейка на хлеб ёсць. Паспаў бы лепей. Поля ніхто не пацягне.

— Пад старасць не спіцца, Мар'я. Учора звечара пачаў узмежкі абкошваць, ды якраз дырэктар наехаў. То я і касу схаваў. Няёмка пры ім касіць.

Цяпер Мар'я пашкадавала Харытона. За ўвесь доўгі век, што яна яго ведае, быў ён перад ёй праўдзівы, шчыры, намераў не хаваў, не сказаў грубага слова. У маладыя гады нават трохі заляцаўся да яе.

Пазней, калі яна асталася без мужыка, а ў яго выраслі і разляцеліся па свеце тры сыны, ён, падпіўшы, не раз прызнаваўся, што вельмі хацеў узяць яе замуж, але яна на гэта толькі махала рукой. І цяпер ніколечкі не шкадуе. Чаму ў жыцці так?

— То ідзі пакасі па расе, Харытонка,— сказала Мар'я, падняла на плечы мех і пайшла. Па дарозе яна зноў думала пра Харытона. Ён пакорлівы, рахманы, як цяля, а ёй такія

мужчыны ніколі не падабаліся. Затое жонка трапілася — нібы наперакор яго характару. Сапраўдная ведзьма. Крыклівая, языкатая; калі была маладзейшая, перагрызлася з усімі суседкамі. Праўда, пад старасць аціхла.

Мар'я, прынёсшы траву, разаслала яе на братавым двары, а ўчарашнюю, прывялую, але яшчэ не зусім сухую ўскінула на драбінкі пры хляве. Падаіла і выгнала на пашу карову.

Дома, працадзіўшы малако, наліла аж пяць збанкоў. Па маленькім — сабе і брату Максіму, а тры большыя, пузаценькія — на продаж. Малако ў яе бяруць бухгалтарка са школы і дзве настаўніцы, у якіх сем'і, дзеці, а кароў няма.

## II

Мар'я разнясла малако і рушыла на агарод. Сонца пачынае прыпякаць, дзень, відаць, будзе зноў гарачы. Клопату Мар'і хапае: акрамя каровы, якая на поўным яе ўтрыманні, ёсць яшчэ парсючок, якога яна гадуе на пару з братам. Па вузкім дворыку расхаджваюць тры курыцы і цыглясты вогненна-чырвоны певень, надзвычай галасісты.

Дзеля голасу яна, бадай, і трымае яго, бо карміць гэтага абібока з-за трох квактух — залішняя раскоша. Кавалераў хапае ў суседніх дварах. Ноччу, калі Мар'я не спіць, ёй прыемна чуць звонкі, нейкі надрыўна-ўрачысты голас свайго певуна, які першы агалошвае наваколле.

Мар'я поле грады, акопвае на агародзе бульбу, выбіраючы лебяду і іншае зелле, сячэ яго ў драўляным карытцы, палівае трохі ўчарашнім кіслым малаком і нясе парсючку. Усё жывое любіць догляд і ласку. Парсючок беленькі, чысценькі, ён яшчэ здалёк пазнае крокі гаспадыні і вішчыць так, нібы цэлы век не еў. Да яды надзвычай падкі: хапае — аж вушы трасуцца.

За жыццё, акрамя як на ўласным двары, Бандзючыха не працавала нідзе, да вайны жыла за сваім Іванам як у Бога за пазухай, пасля вайны не было ўжо сілы, хоць сяды-тады, асабліва ў касавіцу ці жніўную пару, пасабляла калгасу, які пазней зрабіўся саўгасам. Аднаму чалавеку трэба няшмат: пакуль Мар'я мела трохі здароўя, яна нават думкі не дапускала, што не здолее пражыць на свеце. Але ногі знасіліся, спіна не гнецца, і пасля ношак з травою ў яе ўсю ноч баляць рукі.

Карову гэтую зіму яшчэ пратрымае, але адчувае, што на далейшае не хопіць змогі. Абыдзецца яна тымі трыццаццю рублямі пенсіі, што палучае.

У самую гарачыню, калі разамлелае паветра, здаецца, застыла ў сваёй нерухомасці, Мар’я кідае поліва, ідзе ў хату. Баліць галава, і ў вачах пачынаюць скакаць чырвоныя пісягі. З ёй у апошнія гады часта так робіцца. У скронях цісне, стукае, нібы хтосьці б’е па іх жалезнымі малаткамі, і нейкія лічаныя імгненні аддзяляюць у такі час Мар’ю ад поўнага беспамяцця. Перш чым пераступіць парог, яна, аднак, знаходзіць у сабе сілу зачыніць аканіцы. У халадку яна адляжыцца, і боль пройдзе.

Мар’я зняла ступакі, прылягла на ложак. Праз шчыліну ў аканіцы прабіваецца косы сонечны праменьчык, звініць у паўзмроку патрывожаная муха. Нечакана для сябе Мар’я засынае, бачыць сябе ў сне разам з чубатым Хведзькам, з якім некуды едзе ў вагоне. Яна ведае, што білета Хведзька не купіў, па гэтай прычыне непакоіцца, нервуецца, а ён, падкручваючы бялявы вус, сядзіць насупраць яе і бесклапотна ўхмыляецца.

Ад унутранага неспакою Мар’я прачынаецца. Расплюшчыўшы вочы, ляжыць і думае пра свой сон. Дзіўная рэч — цяпер, калі яна дацягнула да глыбокай старасці, у яе сны прыходзіць не Іван, з якім пражыла дваццаць гадоў, а Хведзька, што мільгнуў у маладосці на нейкія тры месяцы і прынёс толькі згрызоты і пакуты...

Мар’я паднялася, выйшла на двор. Спёка апала, хоць досыць яшчэ душна і млосна. Відаць, збіраецца на дождж. Дождж вельмі патрэбен: высокі бульбоўнік, ледзь паспеўшы адцвісці, пачынае жаўцець, дый колас сама што наліваецца.

На вуліцы, падымаючы густы пыл, праносяцца грузавікі. На школьным двары загарэлыя да чарнаты хлопцы ў адных трусах ганяюць мяч. У мяч гэты, галёкаючы, дзеручы куплены бацькамі абутак, яны бухаюць з дня ў дзень, і мітуслівая, аднастайная забава ім нічолькі не надакучае. Мар’я з нездавальненнем думае пра тое, што свет настаў другі і чалавек цяпер змалку стараецца як бы пабольш пагуляць і павесяліцца. Па былым часе такія вот байбусы пасвілі б кароў, памагалі бацькам, а гэтыя нават курэй з град выгнаць лянуюцца.

Зайшоўшы ў хату, Мар’я выпівае кубак кіслага малака і зноў бярэ серп і мех. Дзверы прымыкае на замок, а ключ

кладзе пад ганак — на той выпадак, калі вернецца з вёскі Валя. Валя — кватарантка, пусціла дзяўчыну да сябе Мар’я год назад, калі памёр дзед Трахімовіч і калі нешта па-асабліваму адчувала яна адзіноту і пустэчу ў хаце.

Цяпер яна пойдзе ў пасадкі. У хуткім часе па вайне каля чыгункі насадзілі маладых клёнікаў, бярозак, таполяў і неяк зусім неўпрыкмет разрасліся яны, як лес. Імкліва бяжыць час — не паспееш азірнуцца, а ўжо жыццё пражыта. У пасадках па вечарах гуляе моладзь, трава змята, збэрсана, але сяк-так мех можна назбіраць.

Хоць між дрэў ляжыць цень, але задуха тут не меншая, чым на гале. Мoжа, таму, што палоска лесу вузенькая, крокаў на дваццаць, яна ўся наскрозь праграецца сонцам. Згінаючыся, падразаючы сярпом жмені кволай, звялай травы, Мар’я зноў адчувае, што страчвае над сабой уладу. Баліць ужо не толькі галава — па ўсім целе разліваецца цяжкая, алавяная знямога. «Будзе дождж,— думае Мар’я,— таму так парыць. Траву, тую, што нажала з раніцы, трэба раскідаць на вышках у Максіма. Іначай з яе атрымаецца гной...»

Не нажаўшы нават паўмеха, Мар’я зняможана кладзецца на дол. Здранцвелай рукой паспявае падцягнуць пад галаву мех і адразу як бы правальваецца ў цёмную бездань. Колькі ляжыць на зямлі, не памятае. Як скрозь цяжкі сон чуе грукат на рэйках, гудок цягніка, але праз гадзіну ці дзве, калі між дрэў пачынае патыхаць вячэрняй прахалодай, сілы пакрысе вяртаюцца. Мар’я ўстае, папраўляе валасы, атрасае спадніцу і кофту ад леташняга лісця. З напалавіну пустым мехам ісці дадому сорамна, і яна, пакуль у ляску не сцямнела, стараецца нагнаць упушчанае. Цяпер, пад вечар, ёй проста шанцуе: наткнулася на некрануты лапік густой сакавітай травы. Тут і назаўтра яшчэ хопіць. Мар’я жне, напакоўвае мех да самага верху...

## III

У хаце Мар’я застае кватарантку, якая вярнулася з вёскі. Дзверкі шафы расчынены насцеж, а ўсё, што ў ёй было, раскідана як папала па пакоі. На ложку, на спінках крэслаў, нават на швейнай машыне ляжаць і вісяць сукенкі, блузкі, на стале разаслана коўдрачка: дзеўчанё, відаць, нядаўна прасавала

некаторыя са сваіх убораў. Завесіўшы вокны, уключыўшы, хоць яшчэ рана, святло, кватарантка завіхаецца перад люстэркам.

Мар'я толькі павіталася і рушыла зноў з хаты — ладкаваць траву, даіць карову. Ад яе вока не схавалася ўзрушанасць кватаранткі. За свой доўгі век яна наглядзелася ўсякага і ведае, што ў маладую пару трывожыць такіх, як гэтая яе Валя. Дзяўчыне дзевятнаццаць гадоў, і сама думаць пра любошчы. Як пра кватарантку Мар'я пра яе нічога кепскага сказаць не можа. Акуратная, нелянівая — з мыццём падлогі і ўсім астатнім, што стварае ў хаце ўтульнасць, гаспадыня клопату не мае. Год назад дзеўчанё скончыла школу, спрабавала прабіцца ў інстытут, але нешта там паламалася, дык яна дадому, у вёску, вяртацца не захацела, зачапілася на службу тут, у мястэчку. Цяпер многія так робяць.

За жалаванне, якое палучае ў сваёй канторы, кватарантка купляе туфлі, шые сукенкі, а харчам забяспечвае бацька. Кожнае суботы яна ездзіць аўтобусам у вёску, прывозячы адтуль у моцнай капронавай сетачцы глячкі з маслам, кавалкі старога ёлкага сала і іншыя прыпасы.

На двары братава жонка Аксіння мые збанок.

— Дождж, мабыць, будзе,— гаворыць яна.— Ты хіба не ведала, што памерла Сёмчыха? Яшчэ ўчора памерла, а сёння хавалі. Народу, праўда, мала было. Самая спякота...

«Без цябе не абыдуцца,— непрыхільна думае Мар'я пра Аксінню.— Ні хаўтуры, ні вяселле. Усюды патрапіш. Абы-дзе запахла чаркай. Лахта...»

— Усе памром,— сказала яна ўслых.— А Сёмчыха сваё аджыла. Бог і так позна прыбраў...

Расчыніўшы хлеў, Мар'я бярэ вілы, ускідвае прасохлую траву на вышкі. Свежую вывальвае з мяшка пад паветкай і патроху растрасае на доле. Затым, зняўшы з калка бляшанае вядро, доіць карову. Рагуля, як заўсёды, стаіць спакойна, чакае, нібы ведаючы, што, аддаўшы гаспадыні належнае, яна на кароткую летнюю ноч атрымае спакой, будзе перажоўваць жвачку, уздыхаць і сніць сваё рабенькае, на кволых ножках цялё, якое яшчэ нядаўна аблізвала сваім шурпатым языком. Парсючок таксама голасу не падае — Аксіння, відаць, яго накарміла.

Пра курэй клопату няма — за дзеньназбіраюцца і ўжо даўно на седале са сваім цыглястым пеўнем.

Аксіння, між тым, у хату не ідзе, стаіць са збанком у руках, чакае. У Мар'і ўзнікае падазрэнне. Братавай верыць не вельмі выпадае, і зусім можа быць, што збанок з малаком зараз жа патарабаніць да каго-небудзь з суседзяў.

— Малако ў хату прынясу,— кідае Мар'я Аксінні.— Не бойся, вадой не разбаўлю і чужым не аддам...

Максімаву і Мар'іну дамоўкі раздзяляе толькі засеяны бульбай агарод, і з таго часу, як Іван, узяўшы Мар'ю замуж, паставіў ёй хату, зімой і летам ляжыць на гэтым агародзе сцежка. Іван быў майстар на ўсе рукі — і швец, і жнец, і на дудцы грэц,— але, бегаючы па заработках, нават сенечак да хаты не прыбудаваў. Усё жыццё карыстаецца Мар'я братавым хлевам, калодзежам, паветкай, па некалькі разоў на дзень ходзячы да яго ў двор. А брат — калека. Яшчэ з першай германскай вайны прыйшоў з драўлянай нагою, да старасці бедаваў бабылём, а потым не вытрымаў, пусціў у хату Аксінню.

А кватарантка яшчэ ў хаце. Выбрала сабе чорную сукенку, якая ёй да твару. Дзеўчанё малое, як мыш, але досыць зграбнае. Толькі характар кватаранткі Мар'я не можа да канца разгадаць. На першы погляд, ціхмяная, пакорлівая, слова насуперак не скажа, але сваім жаночым вокам Мар'я, здаецца, бачыць глыбей. Свавольная, упартая, мабыць, гэта Валя. Употай любуецца сабой, лічыць сябе бог ведае якой красуняй. Мае сталага кавалера, ладнага хлопца, які там, на вёсцы, настаўнікам. Адводу яму не дае, але некалькі разоў за гэты год дадому нават начаваць не прыходзіла. Маўляў, на імянінах была, на дзяжурстве. Можа, і так...

Працэджваючы малако, разліваючы яго па збанках, Мар'я адчувае, што кватарантка хоча ёй нешта сказаць. Нарэшце чуе яе голас:

— Цёця Мар'я, я ад вас, мабыць, выберуся. Замуж пайду...

Мар'я зірнула на Валю і нават пашкадавала яе. Стаіць ціхая, задуменная, ні на твары, ні ў голасе ніякай радасці.

— З Богам, дзевачка. За каго — можа, скажаш?

— Вы яго ведаеце. Ён скончыў інстытут, і яго дырэктарам ставяць.

Мар'я нават здрыганулася. Настаўніка яна сапраўды ведае, як ведае і тое, што дзяўчына яго не любіць,— ёй, старой бабе, бачна гэта па многіх, вельмі красамоўных прыкметах.

— Ты ж яшчэ маладая. Хіба хто гоніць?

— Чаго тут дачакаюся? А ён хоча, каб цяпер.

Мар'я змоўкла. Старая, як свет стаіць, песня. Але раней дзеўка ішла за нямілага, бо другога ратунку не бачыла. Само гора гнала. Не будзеш век сядзець на бацькавай шыі. А цяпер нават такое птушаня, як гэтая Валя, можа на хлеб зарабіць. Хоць і ў яе бацькі, здаецца, яшчэ трое седуноў...

Кватарантка пайшла. Услед за ёй рушыла Мар'я. Занясла збанок з малаком Максіму, а затым, вярнуўшыся, зрабіла яшчэ ходку — да настаўніц. Ные спіна, паясніца, сон усё адно не возьме. Мар'я прысела на лавачцы каля хаты. Збіраецца на навальніцу. Зямля дыхае назапашаным за дзень цяплом, душна, млосна, наваколле як бы анямела. Дрэвы нават лістом не варухнуць. На дварэ цямней звычайнага, неба наўсцяж аблажана хмарамі: па краях іх паласуюць сухія, без грымот, маланкі.

Навальніцы Мар'я баіцца. Гэта пачалося яшчэ з малых год, і яна нічога не можа з сабой зрабіць. Цяпер, пад старасць, непагадзь палохае яшчэ болей. На агародзе, недалёка ад хаты, паставілі два слупы, між імі на перакладзіне прымацавана жалезная скрынка — ёю нібыта рэгулююць электрыку, і Мар'і здаецца, што пярун абавязкова ўдарыць у слупы, а затым па дратах ускочыць у хату. Пайшла б да Максіма, ды няёмка. Цяпер яна шкадуе, што няласкава абышлася з Аксінняй: калі прынесла малако, тая сядзела надзьмутая і нават словам не азвалася.

Стала зусім цёмна, і Мар'я пайшла ў хату. Зачыніла юшку, жарало печы заставіла засланкай. Лягла на ложак і глядзела, як скачуць у акне зыркія водбліскі маланак. Думала пра Сёмчыху, якую сёння пахавалі. Пражыла баба дзевяноста гадоў. Нагадавала шасцёра сыноў і дачок, а памірала адна. Ледзь не ўсе дзеці, апярэдзіўшы матку, пайшлі на той свет за яе раней.

Яна пачала патрошку драмаць, калі да яшчэ чуткага яе слыху данясліся прыглушаныя галасы. Дзявочы, Валін, яна пазнала адразу, а другі, басавіты, мужчынскі, разгадаць не магла. Яна падумала спярша, што кватарантка спаткала жаніха, які, можа, спыніўся дзе-небудзь у знаёмых або ў гасцініцы, але зараз жа адкінула гэту недарэчную думку. Той, Адам, у хату завітваў некалькі разоў — калі ехаў у горад на вучобу і калі вяртаўся назад. Пакідаў чамадан, аднойчы, калі кватаранткі не

было дома, паўдня прасядзеў у хаце, ведучы з ёй, гаспадыняй, нетаропкую размову.

Нечакана Мар'ю абпаліла здагадка, што хлопца, да якога хінецца, кватарантка мае тут, у мястэчку. Толькі, мабыць, непярэліўкі. Не хоча ці не можа ён яе браць, калі ідзе за другога.

Прыйшло раптам зняважлівае пачуццё да таго вясковага цюхцяя. Сляпы ён, нічога не бачыць? Свет клінам сышоўся на гэтай Валі? Думае, проста ўсё, узяў навуку, то возьме шчасце. Не, мой галубок. Не з цяперашнімі дзеўкамі...

У акне па-ранейшаму мігаюць частыя бліскаўкі. Размова там, на лавачцы, узбуджаная, і гаворыць найбольш кватарантка — сыпле як гарохам. Толькі раптам Мар'і здалося, што голас у дзяўчыны нейкі надрыўны, як бы з плачам. Так і ёсць. Яна нешта скрозь слёзы даводзіць, скардзіцца, а ён маўчыць. Добры, мабыць, цюцька: нашкодзіў — і ў кусты. Толькі нашто яна з ім валаводзіцца? Плюнула б у вочы і думаць забыла.

Мар'і робіцца шкада кватаранткі. Яна, старая, таксама вінавата. Не навучыла, не перасцерагла. Дзяўчо маладое, зялёнае, што яно ў тым сяле бачыла? А тут надышла пара, усадзіла вочы ў нейкага ветрагона, а цяпер пакутуе.

Перад Мар'яй, як днём у сне, выплыў раптам зноў бялявы, з сінімі, як васількі, вачамі твар Хведзькі. Не, відаць, ад таго, што схавана ў сабе самой, не ўцячэш, нікуды не дзенешся. Хіба не ведала яна, тады яшчэ дзеўка, што любоў з салдатам, ды яшчэ ў вайну, нічога добрага не прынясе, скончыцца пакутай? Ведала, але гнала прэч усялякія думкі. І цяпер, пражыўшы жыццё, сябе за былое не дакарае.

Як сон прамільгнулі тыя тры месяцы. Столькі прастаялі казакі ў мястэчку. Нарыхтоўвалі сена, цюкавалі і грузілі яго ў вагоны, а з першымі асеннімі дажджамі выехалі. Ноч у ноч лятала яна да Хведзькі. Казакі размяшчаліся ў цагляным доме за станцыяй — ён і цяпер яшчэ стаіць, гэты дом,— і паблізу, у таполевых зарасніках, яны спатыкаліся. Маці хавала чаравікі, сукенку, сароміла, нават біла, суседкі пляткарылі адкрыта, але яна не глядзела ні на што. Хведзька быў даражэй за жыццё...

Ён быў сумленны і шчыры. Каб не склаў галавы ў праклятай Прусіі, прыехаў бы па яе. Тады, калі памерла ўжо яе дзяўчынка, атрымала Мар'я ліст з далёкай кубанскай станіцы. Пісала Хведзькава маці, звала жыць да сябе. Але хіба паедзеш?..

Усчаўся раптам вецер, такі моцны, нечаканы, што гучна ляснула, зачыніўшыся, аканіца ў пярэднім пакоі.

Вецер ірве, вые, скавыча — штосьці затрашчала на даху, дзынкнула разбітае шкло, але ўсе гэтыя гукі патанаюць у напорным, няўрымслівым шаленстве стыхіі. Без маланак і грымот лінуў дождж — нібы там, на небе, утварылася дзірка і з яе хлынула на зямлю цэлая рака.

Дождж палошча сцены хаты, вецер не аціхае, але Мар'і лягчэй: няма, дзякуй богу, грому, ды і пачувае сябе яна цяпер лепей. Днём парыла, душыла, і ў яе старых жылах, мабыць, проста супынялася кроў. Дождж трэба, зямля засмягла ад гарачыні, у некаторых месцах нават патрэскалася, але такі, як цяпер, ён наробіць шкоды. Колас сама наліваецца, сцябліна крохкая, і жыта такі буран з ліўнем паваліць, пасцеле на доле. Прыб'е бульбу, але бульба адыдзе, а жыта не падымецца.

Мар'я ўстала, падышла да акна. На дварэ цёмна, хоць вока выкалі, і па-ранейшаму скавыча і хлюпоча. Такое ўражанне, нібы на дварэ суцэльнае мора. Яно, мабыць, сапраўды так, бо да слыху даносіцца толькі дзікі свіст ветру і плёскат вады.

Мар'я зноў лягла і пачала ўжо засынаць, калі раптам уздрыгнула ад таго, што ў пярэднім пакоі, які займае кватарантка, нешта выразна і гучна грукнула. Дзверы ў пакой зачынены, і Мар'я адчула, што кватарантка ўжо ў хаце, і не адна, а з гэтым сваім кавалерам. Толькі калі яны ўвайшлі? Мабыць, тады, калі бура толькі пачыналася, і з-за свісту, трэску нічога не было чуваць. Мокнуць не захацелі, а схавацца недзе.

Са столі між тым пачынае капаць. Некалькі кропель трапляе на шыю, і ад гэтага асабліва непрыемна. Мар'я адсоўвае ложак падалей ад сцяны. Дах у двух ці трох месцах прагніў, трэба перакрываць ці хоць залатаць дзіркі, а мужчынскай рукі няма. Максім на печ не ўзлезе, не тое, што на дах...

Прападзе дзеўка, думае Мар'я пра кватарантку. Усё жыццё будзе зайздросціць і заляцацца да чужых мужыкоў. А свой дазнаецца і кіне, калі ёсць характар...

Вецер то на хвіліну аціхае, то рве з новай сілай. Дождж як бы стаў трохі драбнейшы.

Яна хоча заснуць, але сон не ідзе. Другім разам, каб не кватарантка са сваім замужжам, яна гэтакай непагоддзю ў ахвоту выспалася б.

«Ты сама была такая,— прыходзіць думка.— Хто табе быў Хведзька, дзеля якога ты не пашкадавала дзявоцтва, не паглядзела, як будзеш жыць далей? Любіла яго, а любоў — як шаленства, як напасць. Хіба можна, калі яна прыходзіць, штонебудзь зрабіць?»

Але гэтае самаабвінавачанне Мар'я тут жа адкідае. Хведзьку яна палюбіла, калі ёй было сямнаццаць гадоў, а замуж за Івана пайшла, калі бура ў сэрцы ўціхла, гадоў праз пяць — Іван тады якраз вярнуўся з германскага палону, а Хведзькі не было жывога. Не, яна б так не змагла — любіць аднаго, а замуж ісці за другога.

Мар'я слухае шум дажджу і думае. Яна і Івана палюбіла, бо нечым падобен быў да Хведзькі. Не тварам, не паставай, а характарам. Хведзька — рослы, тонкі ў стане і ладны ў плячах, як маладая таполя, а Іван — верабей. Але абое былі як агонь, хваты-мужчыны. У Івана ў руках было сем рамёстваў: хочаш — печ злепіць, хочаш — рамы выштукуе. Але сваёй хаты як след так і не агледзеў. Усе дваццаць гадоў, якія з ім пражыла Мар'я, не мог ёй дараваць Хведзьку.

Напачатку многа піў, а яна чакала яго з пагулянак і плакала, але потым — як прасвятленне на яе найшло, стала хадзіць разам з ім і піла чарка ў чарку. Ён спяваў, і яна спявала. Іван нават паважаць яе за гэта стаў, і частыя выпіўкі спыніліся. Бралі па шклянцы толькі па святах. Іван кроку без яе ступіць не мог, але ў сельсавет, каб запісацца, прызнаць законнай жонкай, так і не звадзіў. Атрымлівала б цяпер пенсію за яго, а не за гэтага дзеда...

Эх, Іван, Іван!.. Самага галоўнага ты так і не разгадаў. Любіла цябе шчыра, а за Хведзьку крыўдаваць было не варта. Хіба ў бабскай душы адна толькі песня? Хіба не расказала табе, як на споведзі, што і як было, не глядзела цябе, не чакала з работы, не старалася дагадзіць у самых малюткіх дробязях?..

Не, усё адно Івана яна не забудзе і ганьбы не дасць. Пражылі як людзі. Вялікі быў, слаўны чалавек, хоць хілы, слабы здароўем. За ўсё жыццё ні разу не папракнуў капейкай, бярог яе, Мар'ю, лічыў за гаспадыню. А што гордасці сваёй адолець не мог, другая справа. Такі ў чалавека характар...

Даўно, калі была яшчэ маладая, яна згадвала, што пахаваюць яе разам з Іванам. Зробяць жалезную агароджу, надпісы:

Іван ды Мар’я... Толькі ён быў законным яе мужам. А сталася так, што яна нават магілы яго не ведае...

Вецер бадай што сціх, а дождж сячэ. З-за дашчанай перагародкі, якой надвая падзелена хата, выразна даносяцца прыглушаныя галасы. Кавалер стараецца гаварыць ціха, але ўсё роўна, як у бубен б’е. Што ён той дурніцы даказвае? Плюнула б у вочы, развязалася з паганцам. Дзеўка замуж ідзе, а ён каля яе вісне. Хоць і дзеўка добрая. Другая б ад сораму згарэла, а гэтая ў хату прывяла. Ні сумлення, ні чэсці...

Ты сама пакрывіла сумленнем, дакарае Мар’ю нейкі ўнутраны голас. Дзеда Трахімовіча ў хату ўзяла, пайшла з ім у загс, бо ведала, што ён чуць чаўрае, а пасля яго смерці пенсію палучыш. Хіба гэта чэсна? Нават на яго прозвішча перапісалася...

І зноў уся Мар’іна істота пратэстуе супроць такога наракання. Дзеда яна прыняла, глядзела, абмывала і абшывала, і толькі дзякуючы ёй ён пражыў яшчэ тры гады. Але хіба яна вінавата, што першая вайна ўзяла ў яе Хведзьку, а другая — Івана? Хіба Іван, якога мабілізавалі не ў войска нават, а ў трудармію, думаў, што загіне? Дрэнна бабам, якія пад старасць асталіся без мужыкоў і без дзяцей. Кідае іх, адзінокіх, як трэскі на хвалях...

Непрыкметна для сябе Мар’я заснула, а калі прачнулася, то нават здзівілася незвычайнай цішыні. Кватаранткі няма — знікла разам з кавалерам і чамаданамі. На стале ляжыць новенькая дзясятка. Мар’я ўсміхнулася: за кватэру дзеўчанё плаціла тыдні два назад... Што ж, жыві, мілая, як хочаш...

На дварэ як новы свет. Узыходзіць сонца, і аж пераліваюцца залатымі бляскамі вадзяныя кропелькі на лісці старой вішні. Бульба, трава трохі прыбіты, але зяляніна проста буяе. На вуліцы — лужыны, у канаве, у разорах між градаў — поўна вады. На сцежцы каля хаты Мар’я ўбачыла тры распластаныя, прыбітыя дажджом да зямлі цельцы вераб’ёў.

— Мілыя вы мае,— сказала яна ўголас.— Жаўтадзюбыя подлеткі.

Яна падумала аб тым, што такія вось, з шалёным ветрам і дажджом, ночы таму, відаць, і называюцца вераб’інымі, што ў гэты час гінуць слабыя, безабаронныя пташкі...

*1972*

# 1946

## АДРАДЖЭННЕ САЎГАСА «ЛІПАЎ»

Здаўна Ліпаўшчына славілася сваімі ўрадлівымі землямі, племянной жывёлай, выдатнымі вырабамі майстроў-саматужнікаў. Гэта, бадай, самае жывапіснае месца ў Васілевіцкім раёне. Размешчанае на невялікім узгорку, акружаным суцэльным масівам тарфяных балот, яно ўтапае летам у зяляніне садоў і лясоў, якія вабяць усякага прахожага.

Яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя тут звілі сабе гняздо польскія шляхціцы Горваты. Прыгонныя сяляне з навакольных вёсак пад кіраўніцтвам заграпічных архітэктараў пабудавалі для іх пышныя палацы, на камені падмуркаў якіх можна і цяпер бачыць даты далёкіх дзён. Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, 25 год таму назад, тут была арганізавана савецкая гаспадарка «Ліпаў». З году ў год расла і развівалася гаспадарка саўгаса, павышаўся матэрыяльны дабрабыт рабочых. У апошнія перадваенныя гады плошча земляў саўгаса, разам з балотамі, складала 1614 гектараў. Сюды ўваходзілі 700 гектараў пасеваў, 400 гектараў шматгадовых траў, 20 гектараў гарода і 9 гектараў саду. Сярэдні ўраджай збожжавых складаў 12—14 цэнтнераў з гектара. Асушаныя балоты шчодра ўзнагароджвалі нястомную працу рабочых. Ураджаі збожжавых на асвоеных тарфяніках даходзілі да 20 цэнтнераў з гектара, а што датычыць гародніны, то дагэтуль тут яшчэ не бачылі такой капусты, буракоў, морквы. Капуста і буракі былі экспанатамі Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве, удзельнікам якой два гады быў саўгас.

Вялікія дасягненні былі ў жывёлагадоўлі. На фермах налічвалася звыш 700 галоў буйной рагатай жывёлы, 520 свіней, 74 кані.

На прадукцыі саўгаса работаў уласны крухмальны завод, быў пабудаваны паравы млын. На палях работалі дзясяткі трактароў, камбайнаў і сельскагаспадарчых машын. Ад рэалізацыі прадукцыі саўгас атрымліваў сотні тысяч рублёў даходу ў год.

Радасным і культурным было жыццё рабочых. Выраслі дзясяткі шматкватэрных дамоў, у якіх было электрасвятло, радыё. У саўгасе работалі школа-сямігодка, клуб, бібліятэка. Непазнавальна змянілася і аблічча людзей. Нельга было ўжо бачыць гарэпную сярмягу, зрэбную кашулю, лапці. Рабочыя атрымоўвалі пуцёўкі на курорты і ў дамы адпачынку. Многія пабывалі на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. За дасягнутыя поспехі дзясяткі рабочых саўгаса атрымалі ганаровыя граматы Саўнаркама і Наркамзема БССР. Даярка Пелагея Лапцева і цялятніца Вольга Фядосава былі ўзнагароджаны малымі сярэбранымі медалямі.

...Над Ліпаўшчынай прайшла навальніца вайны. Больш двух год гітлераўцы знішчалі здабытае ўпартай шматгадовай працай дабро. Яны замучылі і расстралялі дзясяткі рабочых, многіх паслалі на катаргу ў Германію, а ў саўгасе зрабілі нямецкі маёнтак, упраўляючым якога пасадзілі немца Газа.

Але ні зверствамі, ні расстрэламі фашыстам не ўдалося зламаць волю людзей, якія самі будавалі сабе шчаслівае, свабоднае жыццё. Рабочыя ішлі ў лясы да народных мсціўцаў.

Восенню 1942 года партызаны разграмілі ў Ліпаве нямецка-паліцэйскі гарнізон. У гэту хвіліну знайшоў сабе магілу і нямецкі ўпраўляючы Газ. Фашысты ашалелі і перад прыходам Чырвонай Арміі яшчэ больш пачалі зверстваваць, знішчаць. Яны ўзарвалі і спалілі ўсё, што не паспелі знішчыць дагэтуль.

З дня вызвалення ад акупацыі пачынаецца нібы другая гісторыя саўгаса «Ліпаў».

10 студзеня мінулага года Саўнаркам БССР пастанавіў аднавіць саўгасную гаспадарку. Прайшоў год настойлівай аднаўленчай працы. На месцы былых папялішчаў, руін выраслі і вырастаюць новыя жылыя домікі. Нанова адбудаваны канюшня і кароўнік, заканчваецца будаўніцтва сталовай. У

гэтым годзе праектуецца пабудаваць новы склад для збожжа, некалькі жылых дамоў. Людзі не забылі, чым славіўся іх саўгас да вайны, якое было тут жыццё.

— Жылі мы так, што зараз здаецца сном,— успамінае цялятніца Аксіння Харчанка.— Бывала, у свята глядзіш і не верыш, што тут толькі пасёлак: усе апрануты па-гарадскому, ідуць у кіно, слухаюць радыё. А колькі было веласіпедаў і патэфонаў! І ўсё адкуль? З працы.

Але працаваць ліпаўцы не развучыліся. Не забылі і сакрэтаў сваіх поспехаў. Аб гэтым сведчыць тое, што ў цялятніц Аксінні Харчанка і Ефіміі Караблёвай за ўвесь перыяд не было адыходу маладняка, і што дэмабілізаваны воін трактарыст Васіль Курленка адзін па частках сабраў і пусціў у ход скалечаны акупантамі трактар, і што ўжо ў першы год тут дабіліся высокага ўраджаю збожжавых. Саўгас трывала падняты на ногі. У мінулым годзе было пасеяна 345 га збожжавых, 43 гектары бульбы, на фермах налічваецца зараз 130 галоў буйной рагатай жывёлы, 58 коней. Мінулагодні план дзяржпаставак саўгас выканаў поўнасцю. У гэтым годзе плануецца засеяць даваенную пасяўную плошчу. Пасеяна 100 гектараў азімага жыта, паднята 220 гектараў зябліва, дадаткова раскарчавана да 100 гектараў балот.

Зварот хлебаробаў калгаснага Дона знайшоў жывы водгук сярод рабочых саўгаса. Поўнасцю ўжо адрамантаваны і правераны ўсе тры трактары і інвентар — 20 плугоў і бароны. Поўнасцю засыпаны і ачышчаны насенныя фонды, вывезена 560 тон гною. У гэтым годзе саўгас упершыню ў вялікай колькасці прыменіць атрыманыя ад дзяржавы сульфатныя ўгнаенні. Пройдзе яшчэ нямнога часу, і саўгас «Ліпаў» верне сабе даваенную славу. Аб гэтым упэўнена гавораць і плотнік Барканаў, і дырэктар саўгаса т. Курчэнка, і брыгадзір свінафермы т. Казлоўскі, аб гэтым упэўнена гавораць усе рабочыя.

*1946*

# ТАК ВЫРАСЛА НОВАЯ ВЁСКА

У тыя дні невялічкая вёска Рудзец, што на Дуброўшчыне, жыла неспакойным жыццём. Вечарамі неба палымнела зарывамі недалёкіх пажараў. То гарэлі спальваемыя нямецкімі карнікамі вёскі суседняга раёна.

— Чуюць сваю пагібель, акаянныя. Усё зруйнаваць, спаліць хочуць. Не міне гэтая навала і нас,— спалохана шапталі жанчыны.

Цёплымі майскімі днямі многія з мужчын і юнакоў, што яшчэ заставаліся ў вёсцы, развіталіся з жонкамі, маткамі, дзецьмі і пайшлі ў лясы да народных мсціўцаў.

У памятны 1943 год вясна выдалася на славу. З усходам сонца ў небе звінелі жаўранкі, на балотах перакліваліся кулікі, вабіла вока зеленеючая на сялянскіх палях рунь. Здавалася, цяжка ўздыхала разамлеўшая ад веснавой спёкі зямля, заклікаючы сейбіта. Але нішто не радавала рудчан. Апускаліся рукі: не сёння-заўтра сюды могуць заявіцца чужынцы, каб спаліць і зруйнаваць набытае шматгадовай працай, мазалямі і потам.

Вяскоўцы выбіраліся ў лясы, баяліся паказацца ў родныя хаты. Па дарозе яны з надзеяй глядзелі на ўсход, адкуль — яны верылі — прыйдзе збаўленне.

Адной раніцай 18 чалавек рудчан пайшлі ў вёску і больш не вярнуліся. Не вярнуліся і тыя, што яшчэ заставаліся дома. Ноччу, як вуж, падпоўз да Рудца карны атрад СС. Фашысты абклалі вёску з усіх бакоў, і пачалася жудасная трагедыя, якую ніколі не забыць рудчанам. Збіваючы прыкладамі акрываўленых людзей, немцы сагналі іх у школу, замкнулі і падпалілі. Доўга з ахопленага полымем дома даносіліся страшэнныя крыкі людзей.

Цалкам спалілі фашысты вёску, раскралі сялянскае дабро, забралі жывёлу. Сведкамі гэтай жудаснай расправы былі пачарнелыя каміны ды стагадовы абсмалены вяз, што рос пасярэдзіне вёскі. А пад ім вяскоўцы пазналі трупы калгаснікаў Якава Рыфаненкі з жонкай і 70-гадовага Лявона Дземідзенкі. І яшчэ пад вязам ляжалі, раскінуўшы ручкі, тры маленькія пачарнелыя цельцы. А на тым месцы, дзе была школа, сярод галоўняў і попелу бялелі чалавечыя косці.

Агульнае гора яшчэ больш аб'яднала рудчан. Людзі ведалі, што ні жудаснымі расправамі, ні расстрэламі нямецкім вандалам не адняць у іх шчасця, якое яны будавалі на працягу стольких год, што хутка адтуль, з усходу, прыйдзе армія-вызваліцельніца і адпомсціць катам за іх злачынствы. Людзі жылі ў лясах, галадавалі і хварэлі, але гэтай веры не гублялі. Яе падтрымлівалі і народныя мсціўцы, якія чым маглі дапамагалі абяздоленым рудчанам.

Жаданы час прыйшоў. Ён прыйшоў у яркую лістападаўскую раніцу. Яго прынесла Чырвоная Армія. Насустрач ёй з лясоў выйшлі рудчане. Як родных сыноў яны абдымалі чырвонаармейцаў. Людзі смяяліся і плакалі ад шчасця.

— Біце іх, сынкі, помсціце ім, гадам, за нашы пакуты і слёзы, а мы цяпер яшчэ лепшае жыццё тут наладзім,— ад імя вяскоўцаў сказаў каваль Фёдар Лявонавіч Дземідзенка байцам і камандзірам часці, вызваліўшай іх вёску.

Ажылі дагэтуль маўклівыя папялішчы і руіны. Зазвінела сякера, запела піла, пайшлі ў ход рыдлёўкі. Праз месяц на тым жа самым месцы вырасла невялікая вёска з зямлянак. Але рудчане не думалі спыніцца на гэтым. Яны рашылі на месцы спаленай фашыстамі вёскі пабудаваць новую, яшчэ лепшую. І хаця засталіся толькі жанчыны ды старыя, ніхто не думаў адкладваць справу адбудовы на доўгі час. Ужо ў першую зіму яны падрыхтавалі і вывезлі лесаматэрыял для 30 хат. На ўсю вёску засталося толькі 4 кані і некалькі кароў. Калі б кожны пачаў будавацца паасобку, то яшчэ доўга б рудчане жылі ў зямлянках. Але не для таго людзі адзінай сям'ёю перажылі нямецкую навалу, перанеслі столькі гора і пакут, каб пасля вызвалення кожны замкнуўся ў свае асабістыя справы.

— Наша сіла ў грамадзе,— гаворыць старшыня калгаса Гаўрыленка.

Яго дружна падтрымліваюць жанчыны і дзяды, адзіная сіла ў калгасе.

Пачалося адраджэнне калгаснай вёскі Рудзец. Вось што расказвае старшыня калгаса:

— Нашы жанчыны проста горамі варочалі, ніякая справа не валілася з іх рук. Усе яны пайшлі ў лес падрыхтоўваць матэрыял для новых хат. Пажылыя мужчыны ўзяліся плотнічаць і шорнічаць. Адчувалася сур'ёзная няхватка цягавай сілы.

Жанчыны ўзяліся за навучанне кароў. Смех і гора было з гэтай жывёлай, але дабіліся свайго — навучылі рагатае цягло вазіць бярвенне, араць і баранаваць. У першую вясну вольнага жыцця рудчане пачалі будавацца. Арганізавалі 4 будаўнічыя брыгады. Асабліва моцна папрацавалі брыгады Кузняцова Мікалая і Брэль Івана. Яны за вясну і лета пабудавалі па 10 хат. Калгасны каваль Дземідзенка Фёдар Лявонавіч забяспечыў будаўнікоў сякерамі, скобамі і іншымі матэрыяламі, неабходнымі ў будаўніцтве. Не пакінулі без увагі рудчане і працу на калгасных палях. Ужо ў першы год жыцця калгаса пасля вызвалення яны поўнасцю разлічыліся з дзяржавай, засыпалі ў фонды Чырвонай Арміі, засеялі амаль усю даваенную плошчу.

Да канца першага года вызвалення больш 30 калгаснікаў перасяліліся з зямлянак у новыя хаты.

Прыйшла другая вясна. Яна прынесла вялікую радасць вёсцы. Пракляты немец быў разбіты, вайна скончылася. Пачалі вяртацца з фронту мужчыны. Усё лета і восень працавалі не пакладаючы рук. Працавалі па-ранейшаму брыгадамі. У другое лета было пабудавана больш 60 хат. Паклапаціліся рудчане аб сем’ях тых, чые мужчыны загінулі на фронце або знаходзіліся ў Чырвонай Арміі. Так былі пабудаваны хаты сем’ям Волкава, Калбасава і інш. Не забылі калгаснікі і пра грамадскія будынкі. У калгасе нанова збудаваны навес для малацьбы, амбар, кароўнік і іншыя хлявы.

Цяпер з 110 згарэўшых калгасных гаспадарак толькі некалькі сем’яў яшчэ не маюць уласных хат. Але і для іх ужо нарыхтаваны лесаматэрыял. Праўленне калгаса рашыла гэтай вясной закончыць будаўніцтва.

Будуюцца рудчане не абы-як. Каму даводзілася пабываць у старой вёсцы Рудзец, ніколі яе зараз не пазнае — шырокія роўныя вуліцы, прасторныя хаты.

— Слаўная работа,— хваляць калгаснікі суседніх вёсак.

*1946*

# 1947

## ЗА ТРЫЦЦАЦЬ ГОД

Змяніліся людзі, аблічча зямлі,
Заместа палосак, убогіх і вузкіх,
Калгасныя гоні, як мора, ляглі.

Увосень 1922 года з’явіўся ў родную вёску Какуевічы Яфрэм Шульга. Чатыры гады змагаўся ён на франтах грамадзянскай вайны. За гэтыя гады многае перажылі і яго аднавяскоўцы. Адразу пасля рэвалюцыі арганізаваліся ў вёсцы першыя сялянскія саветы. Людзі ўздыхнулі свабодна. Была падзелена памешчыцкая зямля. Але не давялося тады выйсці на поле вольнаму сейбіту. У вёску прыйшлі немцы. Пасля іх выгнання яшчэ два гады не сціхала страляніна на вясковых вуліцах. Гулялі тут і банды Балаховіча і Стракапытава, грабілі і забівалі мірных жыхароў белапалякі.

...І вось Яфрэм Шульга вярнуўся дамоў. Зайшоў у нізенькую бацькаву хату.

— Ну, цяпер зажывем,— сказаў ён, здымаючы шынель.— Эх, і жыццё ж мы сабе пабудуем.

Вёска пачынала жыць. Жыццё ішло новымі шляхамі. Актыўна дзейнічаў створаны камітэт беднаты. Беднякі, удовы, былыя беззямельныя будавалі новыя хаты. Вёска за некалькі год разраслася ўтрая. Адкрылася школа. Туды хадзіла ўся вясковая дзетвара. Савецкая ўлада дапамагала сялянам сродкамі, машынамі. Працавала кааперацыя. У гумнах загудзелі малатарні і веялкі.

Ішоў дваццаты год савецкай улады. То быў час, калі ў масах сялянства шырокай хваляй разгортвалася сацыялістычная рэвалюцыя. Сяляне ішлі да калектыўнай гаспадаркі.

— Мы не хочам жыць далей аднаасобна,— гаварыла на вясковым сходзе мясцовая актывістка Пелагея Пінчук.— Не хочам і не можам. Што нам дасць аднаасобная гаспадарка? Зноў, як і раней, будзем дзяліць свае палоскі паміж дзецьмі і ўнукамі. Зноў паявяцца бедныя і багатыя. Бальшавіцкая партыя ўказвае верны шлях — шлях да калгасаў.

У Какуевічах нарадзіўся калгас «12 Кастрычнік». Першым прыйшоў у арцель Яфрэм Шульга. Уступілі ў арцель і былыя франтавікі-чырвонаармейцы Яўмен Шульга, Цімафей Пальчык, Якаў Шульга і яшчэ 50 сялянскіх гаспадарак. Прайшло тры гады арцельнай працы. Яны паказалі вёсцы вялікую перавагу калектыўнай гаспадаркі. Ураджаі на калгасных землях былі значна вышэйшымі, чым на сялянскіх гонях. Калгас умацаваўся арганізацыйна, расла яго тэхнічная база. На поле ўзышоў першы трактар. На чацвёрты год вёска Какуевічы стала поўнасцю калгаснай.

З кожным годам ішоў угору калгас. На грамадскіх фермах стаяла 400 галоў жывёлы, было 150 коней. Калгаснае поле апрацоўвалася трактарамі. Павышалася ўраджайнасць.

Сапраўднае багацце прыйшло тады, калі зашумелі каласістаю збажыною 300 гектараў асвоеных балотных плошчаў. 20 цэнтнераў збожжавых з кожнага гектара! Такіх ураджаяў ніколі не бачыла вёска Какуевічы. Поўніліся арцельныя засекі дабром. Багацелі калгаснікі. Экспанаты вырашчаных на асвоеных балотах культур калгас пасылаў на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку ў Маскву. На выстаўку ездзілі і хлебаробы Змітро Пінчук, Іван Юдзенка, Кірыла Вішняк і другія.

Хлеб — асноўнае багацце. Ад яго ішло ўсё астатняе. У кватэрах калгаснікаў паявіліся патэфоны, радыёпрыёмнікі. На вясковай вуліцы стала не дзіва сустрэць калгасніка, апранутага па-гарадскому, на веласіпедзе. Вёска перастала называцца Какуевічы. Яе назвалі імем выдатнага лётчыка — Чкалава. Шырока раскрыліся прасторы жыцця перад моладдзю. 20 сыноў і дачок калгаснікаў сталі настаўнікамі. Мікалай Шульга, Пётр Шафрэнка, Іван Шульга, Антаніна Пінчук навучалі

дзетвару ў калгаснай сямігодцы. У вёсцы ёсць свае аграномы, урачы. За гады Айчыннай вайны 12 калгаснікаў сталі афіцэрамі Савецкай Арміі. Калгасны сын Іван Мянькоў цяпер палкоўнік Савецкай Арміі.

Савецкая ўлада ўнесла новае ў жыццё кожнай вясковай сям'і. На якое жыццё магла разлічваць удава Ульяна Шафрэнка на сваёй дзесяціне зямлі пры царызме? Зараз яе старасць забяспечана. Старэйшы сын Канстанцін — маёр, Мікалай — настаўнік, малодшы Сяргей працуе на заводзе. Усе пяць сыноў выйшлі ў людзі ў сям'і Цярэнція Зайца. Трое з іх афіцэры Савецкай Арміі, двое працуюць у калгасе.

Расказваюць у вёсцы пра жудасныя дні нямецкай акупацыі. Заціхла тады бурліўшая жыццём вясковая вуліца. Пачаліся расстрэлы. Немцы спалілі жывой калгасную актывістку Пелагею Пінчук з яе двума дзецьмі. Многія калгаснікі змагаліся на франтах Айчыннай вайны. Зноў давялося надзець шынель і Яфрэму Шульгу. Тыя, што засталіся ў вёсцы, ішлі ў лясы да народных мсціўцаў. У чэрвеньскія дні 1943 года фашысты дашчэнту спалілі вёску Чкалава. Але ці маглі яны перамагчы людзей, якія пазналі сілу арцельнай працы, жылі свабодай Сталінскай Канстытуцыі. Калгаснікі верылі, што савецкая ўлада вернецца. Гэта была іх улада, за яе яны змагаліся, аддавалі жыццё.

Вызваленне прыйшло. Пачаўся другі пасляваенны перыяд у жыцці калгаса. Патрэбна было ўсё пачынаць спачатку. Гора, перажытае пры немцах, яшчэ больш з'яднала людзей. Ніхто не замкнуўся ў свае асабістыя інтарэсы.

Хутка споўніцца чатыры гады з дня вызвалення вёскі ад нямецкага засілля. За гэты час зроблена сапраўды велізарная работа. Зноў жыве вёска Чкалава. У новыя хаты перасяляюцца апошнія пагарэльцы. Упэўнена ідзе па шляху ўздыму калгас «12 Кастрычнік». Сёлета тут атрыманы 10-цэнтнеравы ўраджай збожжавых. Па 120 пудоў жыта з кожнага гектара сабрала звяно Анатолія Юдзенкі. Выдатны ўраджай атрымалі і звенні Марыі Шылянок, Паліны Пінчук, Веры Ганжа.

Аднаўлена ў калгасе чатыры жывёлагадоўчыя фермы. Ёсць уласная аўтамашына, малатарня. Сёлета калгасны працадзень будзе аплочаны паўтара кілаграмамі збожжавых, трыма кілаграмамі бульбы. На балоты ідуць угнаенні: калчаданныя,

каінітавыя, калійныя, фасфатныя. Гэта хлеб. Яго дае дзяржава. 100 гектараў азімага жыта пасеяна сёлета на балотах, столькі ж будзе пасеяна вясною ярыны. Сёння ўпэўнена глядзяць у заўтрашні дзень калгаснікі.

Хораша сказаў пра гэта Яфрэм Шульга:

— Спапялілі нашу вёску немцы. Пры былых парадках і за 10 год не падняцца б. А вось глядзі — і ў новых хатах жывём, і хлеб ёсць, і ўсё таму, што аб працоўным чалавеку клапоціцца наша родная савецкая ўлада.

* * *

Залатуха, Касетаў, Пажыхар, Заходы, Узнаж — пяскі, лясы і балоты. Не елі вольнага хлеба тутэйшыя сяляне да рэвалюцыі. Засуха, недарод, град — колькі было такіх ворагаў у селяніна-бедняка! Адышлі ў нябыт тыя часы...

У гэтыя вераснёўскія ночы загараюцца на балотах агні. Іх многа. Гэта малоцяць свой ураджай калгаснікі. На балотах гудуць трактары. На дапамогу калгасам прыйшла дзяржава. Зараз у Чкалаўскай МТС 13 трактароў, іх хутка будзе больш.

2000 гектараў балот на Чкалаўшчыне. Яны дадуць 40 тысяч тон хлеба. Аб гэтым гавораць ураджаі звенняў Ефрасінні Казловай з «Чырвоных Лук», Васіля Галіцкага і Сцяпана Снітко з Пажыхара, звенні калгаса «12 Кастрычнік». Усталі з папялішчаў і руін вёскі Чкалаўшчыны, Узнажшчыны, Дуброўшчыны. Жыццё ідзе кіпучае, баявое.

*1947*

# 1952

## НА НАРАЧЫ

Ад Мядзеля вузкая шаша ўецца берагам возера. Гэта Мястра — меншы сусед Нарачы. З аднаго боку дарогі — люстраная гладзь возера, з другога — калгасныя палі. Своеасаблівы пах водарасцей, што выкінуты хваляй на ўсыпаны галькай бераг, змешваецца з мяккім, ледзь улоўным пахам завяўшай травы, кветак. Уздоўж берага сушацца развешаныя на коллях і рагульках рыбацкія снасці — невады, падвалокі, там-сям, упёршыся носам у бераг, пагойдваецца на вадзе човен.

Кожны новы чалавек, які трапляе ў гэты куток, захапляецца яго своеасаблівасцю і прыгажосцю. Гэта край дбайных хлебаробаў, вопытных рыбакоў, край маляўніча-кантрасных мясцін, характэрных для Паўночнай Беларусі. Тут пачынаюцца азёры, якія перарывістым ланцугом цягнуцца далей на Полаччыну, у Літоўскую і Латвійскую рэспублікі.

Вось і вёска Мікольцы, адкуль добра відаць водараздзел паміж Мястрай і Нараччу. Тут адразу адчуваецца жывое дыханне вялікага возера. Хвалі з плёскатам і шумам набягаюць на прыбярэжныя камені, пакідаючы пасля сябе белую пену. Шырокае возера Нарач, і трэба мець добры зрок, каб убачыць яго процілеглы бераг.

Вёска Чабракі — цэнтр узбуйненага рыбалавецкага калгаса «Чырвоны рыбак». Ціха на вясковай вуліцы ў гэтыя дні. Людзі працуюць — адны на полі, другія ловяць рыбу. Далёка на возеры відаць чорныя кропкі. Гэта вядзе лоў звяно Уладзіміра Целяка. Да яго і накіроўваецца наш човен. Малады хлопец

памочнік рахункавода Сямён Баброўка спрытна ўзмахвае вёсламі, і лодка імкліва разразае хвалі. Там-сям на возеры можна ўбачыць зялёныя астраўкі водарасцей, час ад часу над вадой праляціць вастракрылая чайка, кінецца каменем уніз і праз хвіліну нясе ў сваёй дзюбе серабрыстую рыбку.

Бліжэй і бліжэй пад'язджаем да таго месца, дзе рыбакі закінулі невады. Ужо добра відаць дзве лодкі, што знаходзяцца блізка адна ад другой. Трэцяя лодка — воддаль. Рыбакі раскінулі так званую падвалоку — сетку, якая на вяроўцы распускаецца паміж двума чаўнамі, калі яны аддаляюцца па прамой лініі адзін ад другога. Ніжняя частка сеткі з грузіламі ідзе па дну, а верхняя з паплаўкамі — па вадзе. Захапіўшы сеткай участак возера, абедзве лодкі ідуць на збліжэнне, замыкаючы круг. Калі яны падыходзяць адна да другой ушчыльную, рыбакі пачынаюць выцягваць сетку з вады. Каб рыба не ўцякала пад днішчамі чаўноў, у месцы стыку лодак закідваецца трохгубец — невялікая снасць, якая закрывае рыбе праход пад днішчамі лодак.

Расцягнуўшы сетку, рыбакі ідуць на збліжэнне і неўзабаве замыкаюць круг. Звеннявы Уладзімір Цяляк хутка стаўляе трохгубец. Іван Зарэцкі роўнымі ўзмахамі выцягвае падвалоку і раз за разам стукае боўткай — вялікім кіем з булавой на канцы — па вадзе, каб рыба не ўцякала пад дно лодкі. Моўчкі працуюць Сцяпан Варанец, Сямён Гурскі і Сямён Цяляк. Нарэшце ў лодку агульнымі намаганнямі ўцягваецца злоўленая сеткай рыба. Яе багата. Выбіраецца і трохгубец, куды таксама парадкам трапіла «ўцекачоў».

— Папаўся, галубок! — ускрыквае Уладзімір Цяляк, выцягваючы з сеткі вялікага, амаль у метр даўжынёй, шчупака.

Рыбіна з плёскатам падае на дно лодкі, б'е хвастом і плаўнікамі. На дно лодкі выкідваюцца сялява, краснапёрыя акуні, плоткі, ляшчы, ліні. Маленькую рыбку рыбакі выкідваюць зноў у возера — няхай расце.

Першая тоня прынесла добрую здабычу — больш за цэнтнер. Яшчэ дзве тоні, і лодкі, нагружаныя рыбай, накіроўваюцца да берага. Сёння ж гэтая рыба будзе адпраўлена ў нарачанскую дзяржаўную рыбную гаспадарку, якая размешчана непадалёку.

Пад вечар узняўся вецер, і возера зашумела. Высокія хвалі шумна набягалі на прыбярэжныя каменні. Але, не зважаючы на гэта, новыя звенні рыбакоў рыхтаваліся да начнога лову.

Калгасныя рыбакі паспяхова выконваюць свае абавязацельствы перад дзяржавай. За першае паўгоддзе яны здалі 600 цэнтнераў рыбы, значна перавыканаўшы заданне. Добрыя поспехі дасягнуты ў ліпені і жніўні. Першае месца ў сацыялістычным спаборніцтве заваявалі звенні Уладзіміра Целяка, Усціна Варанцова, Івана Чарняўскага. За здадзеную дзяржаве рыбу калгас атрымлівае многа грошай.

Вечарам рыбакі любяць сабрацца ў пакоі калгаснай канцылярыі, пачытаць газету, пагутарыць аб сваіх справах.

За вокнамі калгаснай канцылярыі плешчацца ў сваім ложы возера, і плеск гэты чуваць у пакоі, дзе сабраліся людзі. Брыгадзіры правяраюць выкананне нарадаў, вызначаюць заданні на заўтрашні дзень.

*1952*

# 1953

## ЁН БУДЗЕ ІНЖЫНЕРАМ

...На беразе ракі, там, дзе яна робіць невялікую луку і дзе пракапаны прамы, як страла, канал, узвышаюцца збудаванні. Адсюль ва ўсе бакі разыходзяцца высокія слупы з нацягнутымі на іх правадамі. На беразе людна: тут сабраліся калгаснікі, старыя і малыя. У гэты дзень адбудзецца адкрыццё гідраэлектрастанцыі, якая дасць святло і энергію ўсяму наваколлю. Праз хвіліну падымуцца застаўкі ў плаціне, і вада хлыне ў апранутую бетонам турбінную камеру.

Людзі хвалююцца — і тыя, што прыйшлі сюды як госці, і тыя, што сваімі рукамі будавалі электрастанцыю, капалі канал. А больш за ўсіх хвалюецца інжынер Радамір Лукошка. Па яго праекту будавалася гэтая электрастанцыя. Ён кіраваў тут усімі работамі і заслужыў права першым уключыць рубільнік. І яму даручаюць гэта. Адно імгненне — і ўсюды зазіхацелі агні. Яны загарэліся ў дамах хлебаробаў, на фермах, на вуліцах. Людзі радуюцца, бо ведаюць, што цяпер будзе лягчэйшай іх праца і жыццё стане яшчэ прыгажэйшым...

Гэты малюнак — уяўны. Радамір Лукошка яшчэ не інжынер і не пабудаваў электрастанцыі. Ён — студэнт-дыпломнік гідратэхнічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна. Вось сядзіць ён за чарцёжным сталом, наносіць на ватман лінію за лініяй і ўяўляе будучыню. Радамір і сем яго таварышаў праектуюць канал, які будзе пракладзены на Палессі. Гэта іх сумесная дыпломная работа. Радамір марыць аб тым, што ён будзе будаваць

гідраэлектрастанцыі. І такое ўжо наша савецкае жыццё, што здзяйсняюцца ўсе мары, калі яны накіраваны на паляпшэнне дабрабыту людзей. Пазнаёмішся з жыццём гэтага сінявокага юнака, з тым, як упарта ён вучыўся і вучыцца, і цвёрда верыш, што вельмі хутка мара яго стане явай.

...Калі Радаміру Лукошку было гадоў шэсць, яго бацька, аграном, неяк узяў сына ў горад. Пакуль бацька займаўся сваімі справамі ў сельгасснабе, хлопчык паглядаў навокал. Нарэшце ўсе справы зроблены. Бацька з сынам ідуць па гарадской вуліцы. Хлопчык уважліва разглядае шматпавярховыя дамы: такіх няма ў яго пасёлку на Любаншчыне.

— А хто робіць такія вялікія дамы? — пытаецца ён.

— Інжынеры, сынок.

Радамір ведаў, што інжынеры таксама вынаходзяць машыны. Яму расказаў аб гэтым стары каваль Герасім. Ва ўяўленні Радаміра інжынеры паўставалі нейкімі казачнымі волатамі, якія ўмеюць рабіць усё на свеце.

Хутка бацька заўважыў, што Радамір змарыўся. Полы паліто ў хлопца адвіслі да таго, што амаль цягнуліся па бруку.

— Ану, пакажы, што гэта ў цябе ў кішэнях? — запытаў бацька.

Хлопец высыпаў кілаграмы тры ржавых шрубаў, балтоў і іншых жалезак, знойдзеных каля склада.

— Мы будзем трактар будаваць,— заступаўся ён за сваё багацце. Але бацька рашуча адмовіўся везці дадому гэты скарб.

У Радаміра, як і ў мільёнаў яго равеснікаў, было звычайнае школьнае маленства: вучыў урокі, хадзіў на піянерскія зборы, захапляўся прыгодніцкімі і навукова-фантастычнымі кніжкамі, прасіўся пад'ехаць на трактары і лічыў сябе памочнікам старога каваля Гарасіма.

Аднойчы бацька ўзяў яго на паляванне. Лодка павольна плыла па Арэсе, шчодра аплеценай зараснікамі лазняку і алешніку. І раптам спаткалі нечаканае: на пантонах стаялі домікі, а на беразе, выцягнуўшы жалезную шыю, узвышаўся экскаватар.

— Што гэта? — запытаў Радамір.

— Гэта машыны, сынок. Яны робяць рэчку шырокай, глыбокай. Каб асушыла яна балота і там, куды мы едзем качак страляць, закаласавала б жыта. Ды якое жыта!

Неўзабаве бацька пераехаў на работу ў другі куток Палесся, на Брагіншчыну. Радамір убачыў, якая збажына можа расці на некалі непралазных багнах. Гэта быў час, калі калгаснае сялянства пайшло ў наступленне на балоты...

Радаміру было дванаццаць гадоў, калі пачалася вайна. Бацька пайшоў на фронт. Юнак упершыню ўбачыў, што існуе на зямлі другі, цёмны, свет са звярынымі законамі. Фашысты забівалі людзей, палілі вёскі, руйнавалі здабыткі чалавечай працы...

Калі Савецкая Армія вызваліла яго раён ад захопнікаў, Радамір зноў пайшоў у школу. Гэта ўжо быў сур'ёзны, удумлівы юнак. Ён узяўся старанна за вучобу. Яго абралі сакратаром школьнай камсамольскай арганізацыі.

Неяк нечакана вырашылася пытанне: кім быць, які шлях выбраць у жыцці? Калі Радамір быў яшчэ дзевяцікласнікам, у калгасе імя Тэльмана адбылася незабыўная падзея — пабудавалі сваю электрастанцыю. Радамір бачыў, колькі радасці прынесла гэта людзям. Ідучы дамоў берагам ціхай Брагінкі, Радамір у гэты дзень вырашыў, што ён абавязкова стане гідратэхнікам. І з гэтага часу ён асабліва настойліва пачаў займацца фізікай, алгебрай, геаметрыяй.

Самае галоўнае пачалося на гідратэхнічным факультэце політэхнічнага інстытута, куды ў 1948 годзе паступіў Радамір Лукошка.

Якаў Цімафеевіч Кавалёў, загадчык кафедры гідраўлікі, з першай лекцыі заваяваў сімпатыі Радаміра і яго новых таварышаў. Яго паважалі за гарачую любоў да сваёй справы, за ўменне растлумачыць самае складанае пытанне так, што яно адразу рабілася зразумелым і простым.

— Гідратэхнік — гэта спецыяльнасць, якая патрабуе самых featuresнабаковых ведаў,— гаварыў Якаў Цімафеевіч.— Гідратэхнік павінен быць і электрыкам, і інжынерам-будаўнікОм, і тапографам. Вы павінны навучыцца будаваць усё, пачынаючы ад дрэнажнай трубы і канчаючы гідраэлектрастанцыяй.

Працаваць прыходзілася шмат. Трэба было вывучыць дзясяткі прыбораў, машын, механізмаў, прыстасаванняў. Трэба было дасканала ведаць прыроду рэк, воднай стыхіі наогул, разбірацца ў грунтах, у будаўнічых матэрыялах, пачынаючы ад дрэва і канчаючы жалезабетонам. Трэба было, нарэшце,

дасканала авалодаць электратэхнікай, механікай, фізікай і многімі іншымі неабходнымі навукамі. А самае галоўнае, што патрабавалася ад будучага інжынера-гідратэхніка,— умець прымяніць на практыцы свае веды, умець будаваць, падпарадкоўваць волі чалавека водную стыхію.

Прафесар Вінакураў, які загадвае ў інстытуце кафедрай гідратэхнічных збудаванняў, правяраючы студэнцкія праекты, іншы раз гаварыў:

— Вы калі будуеце, дык і пра рыбу не забывайце. А то паглушыце яе дынамітам, і рыбаводы на вас крыўду мець будуць.

У гідратэхнічным будаўніцтве трэба ўлічваць самыя разнастайныя фактары і іх узаемадзеянне. Напрыклад, для таго, каб правільна вылічыць магутнасць электрастанцыі, недастаткова ведаць толькі водныя рэсурсы ракі, трэба яшчэ ўлічыць сярэднюю норму ападкаў, метэаралагічныя амплітуды гэтай мясцовасці, улічыць паводку і засушлівы год, ведаць сілу вятроў, характар рачнога дна, профіль берагоў і інш.

Прафесар Вінакураў шмат чаго мог расказаць сваім выхаванцам.

Калісьці ён, сённяшні член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, быў прарабам па будаўніцтву вадзяных млыноў. Пасля вучыўся, будаваў першыя савецкія электрастанцыі па ленінскаму плану ГОЭЛРО. Радаміру, калі ён слухаў лекцыі Вінакурава, іншы раз здавалася, што прафесар, напэўна, ведае на смак ваду ўсіх рэк Саюза.

Радамір быў на другім курсе, калі адбылася падзея, якая ўскалыхнула ўвесь інстытут. У сувязі з сямідзесяцігоддзем таварыша Сталіна інстытуту было прысвоена імя вялікага правадыра.

Якаў Цімафеевіч Кавалёў, старэйшы выкладчык інстытута і сакратар факультэцкай партыйнай арганізацыі, прыйшоў на лекцыю ўсхваляваны, радасны.

— Для мяне сённяшні дзень — самы светлы ў жыцці, таварышы,— сказаў ён.— Імя, якое носіць наш інстытут,— гэта найвялікшая ўзнагарода і чэсць для кожнага з нас. Імя правадыра, якое будзе запісана ў вашых дыпломах, няхай асвятляе ўсё ваша жыццё...

Вечарам Радамір сказаў свайму сябру Анатолю Маглышу:

— Ведаеш, Анатоль, хочацца зрабіць нешта асаблівае, такое, каб аддзякаваць Радзіме, таварышу Сталіну за ўсё!

...Студэнцкае жыццё было бурлівае, напружанае. Прыходзілася іншы раз да трэціх пеўняў («пеўні» вылічваліся па першаму ранішняму трамваю) сядзець над чарцяжамі. Былі і трывогі, і няўпэўненасць. Але затое пасля паспяхова вытрыманага экзамену або заліку Радамір адчуваў прыліў новых сіл.

На вачах Радаміра нараджаўся Мінск, уставаў з руін інстытут, які зараз, шырока раскінуўшы магутныя карпусы з белымі калонамі, красуецца на праспекце імя Сталіна. У інстытуце — прасторныя аўдыторыі, дзясяткі лабараторый з навейшым абсталяваннем, кабінеты, бібліятэка, утульныя інтэрнаты. Радамір любіць займацца ў лабараторыі гідратэхнічных збудаванняў. Тут ёсць усё: дынама-машыны, электраматоры, мініяцюрныя макеты буйнейшых савецкіх гідраэлектрастанцый, плацін, турбін. Ёсць нават свая мікрагэс. Можна наглядна азнаёміцца з усімі дасягненнямі айчыннай навукі ў галіне гідратэхнічнага будаўніцтва.

Радамір яшчэ з першага курса пасябраваў з многімі студэнтамі. Жартаўнік Аркадзь Цяцёркін заўсёды кпіў з яго «залішняга акадэмізму», але, як і Аляксандр Шчакаціхін, лічыў Радаміра сур'ёзным і добрым хлопцам. Урэшце ўсе яны — і Аркадзь з Аляксандрам, і Анатоль Маглыш, і Аркадзь Іванейчык, і Ліля Маляўка — былі добрымі сябрамі. Радаміра паважалі за прынцыповасць, за ўменне казаць праўду ў вочы. Яго не раз выбіралі на кіруючую камсамольскую работу. Радамір быў членам факультэцкага камсамольскага бюро, сакратаром камсамольскай арганізацыі факультэта. У інстытуце яго прынялі ў партыю.

Пазалетась Радаміра разам з Аркадзем Цяцёркіным і Аляксандрам Шчакаціхіным паслалі на практыку на Кегумскую ГЭС, што на Даўгаве. Электрастанцыю яшчэ пры буржуазнай Латвіі праектавалі шведскія інжынеры. Фашысты ў час адступлення разбурылі яе. За аднаўленне ўзяліся савецкія інжынеры. І тут выявілася, што замежныя «аўтарытэты» дапусцілі буйныя хібы ў праектаванні. Гэта перш за ўсё датычылася так званага гашэння энергіі. У выпадку паводкі

электрастанцыі пагражалі спыненне і вялікія капітальныя затраты.

Прыехаўшы з практыкі, Радамір яшчэ з большым запалам узяўся за вучобу. Гадзінамі прастойваў ён каля такарнага станка, абточваючы дэталі, любіў дзяжурыць на электрастанцыі. Вучыўся быць тапографам, геадэзістам.

У інстытуце часта наладжваліся даклады, дыспуты па розных навуковых і тэхнічных пытаннях. Радамір актыўна ў іх удзельнічаў. Ён сам узяўся за навуковую работу. Яго зацікавіла пытанне аб узаемазалежнасці хвалі і іншых фактараў: характару дна, сілы ветру і г. д. Ён клапатліва працаваў, падлічваў, правяраў, рабіў доследы. Затое як многа дало гэта яму ў сэнсе набыцця самастойнасці ў вырашэнні складаных тэхнічных пытанняў!

...І вось за плячыма пятнаццаць год вучобы. Хутка абарона праекта, а там — на работу.

Аркадзь Цяцёркін летуценна разважае:

— Паехаць бы ў Кахоўку або, скажам, на Сталінградскі гідравузел...

Сябры ўспамінаюць сваіх старэйшых таварышаў, што год-два назад скончылі інстытут і працуюць на будоўлях камунізму. Паратэхнік Уладзімір Шаракоў будаваў Волга-Дон, энергетык Барыс Савін працуе ў Кахоўцы, а Барысенка — на Цымлянскай ГЭС...

Радамір, як і яго сябры, спачатку марыў паехаць на вялікія будоўлі камунізму. Але адзін выпадак павярнуў яго думкі ў іншым напрамку. Летась ён ездзіў на канікулы дамоў, на Палессе. Яшчэ ў дарозе пачуў, што на рачулцы Віці калгас будуе гідраэлектрастанцыю. Пабыўшы некалькі дзён дома, ён не вытрымаў і пайшоў паглядзець на будоўлю.

— Канешне, нашу электрастанцыю не параўнаеш са Сталінградскай,— разважалі там цесляры.— Але карысці з яе многа будзе. А колькі такіх рэк, як наша Віць, на Палессі! Пабудуй на кожнай электрастанцыю ды складзі ўсе разам, глядзіш, і новая будоўля камунізму атрымаецца.

Пасля, калі Радамір чытаў дырэктывы XIX з'езда партыі, дзе гаварылася і аб асушэнні Палескай нізіны, ён яшчэ раз успомніў размову цесляроў на Віці. Так нарадзілася мара пабудаваць гідраэлектрастанцыю на Палессі. На тым Палессі,

якое яшчэ паўвека назад было самым глухім і цёмным кутком Беларусі, пра якое вядомы даследчык Кіркор семдзесят год таму назад пісаў: «Сярод балот, на беразе Брагінкі і невялікага возера — мястэчка Брагін. Нарэшце, вялікая казённая вёска Васілевічы ляжыць на рубяжы непраходных балот... Гэта апошнія жылыя пункты. Далей цягнецца царства туманаў, лясоў і балот».

Радамір Лукошка паедзе на тое Палессе, што воляй камуністычнай партыі і савецкага народа ператвараецца ў квітнеючы куток роднай зямлі.

*1953*

# 1954

## СЁННЯ Ў ПІНКАВІЧАХ

Калі едзеш у Пінкавічы, то міжволі ўспамінаецца, што паўвека назад у гэтай вёсцы працаваў настаўнікам народны паэт Беларусі Якуб Колас. Уважлівей прыглядаешся да навакольных мясцін і краявідаў, параўноўваеш тое, што бачыш, з тым, што апісана выдатным беларускім мастаком у яго аповесці «У глыбі Палесся».

Дарэвалюцыйныя Пінкавічы выступаюць у «Палескіх аповесцях» Якуба Коласа пад назваю Выганы. Вядома, мастацкі твор не простая фатаграфія фактаў і падзей, якія адбыліся ў пэўным месцы, а іх абагульненне, тыпізацыя. Таму і нельга ў такім творы шукаць падрабязнага ўзнаўлення ўсяго таго, што было ў жыцці, але вядома і тое, што сапраўды мастацкі твор лепш за ўсякую фатаграфію або апісанне ўзнаўляе праўду жыцця.

Вось дарога з Пінска ў Пінкавічы. Калісьці Лабановічу, герою аповесці «У глыбі Палесся», каб даехаць да Выганаў, прыйшлося старгаваць за рубель на Каралінскім рынку возніка. Сёння рабіць гэтага не трэба. Кожныя дваццаць хвілін з Пінска сюды ходзіць аўтобус. За акном прабягаюць краявіды, ужо знаёмыя нам па апісанню пісьменніка. Тыя ж разложыстыя вязы і ліпы, толькі іх стала больш — яны цягнуцца ўзбоч дарогі амаль суцэльнаю чарадой. І паселішчаў таксама стала больш. Складваецца ўражанне, што едзеш нібы па адной бясконца доўгай вуліцы.

Некалі пры ўездзе ў Выганы на прыдарожным слупе вісела табліца, на якой значылася, што ў вёсцы налічваецца 73 двары.

Сёння нават неспакушаны ў падліках чалавек пераканаецца, што вёска вырасла разы ў тры. Яна раскінулася некалькімі сваімі вуліцамі ўздоўж звілістай, зарослай чаротам і асакой рэчкі Піны. Пры ўездзе ў Пінкавічы добра відаць калгасны двор з новымі будынкамі на каменных падмурках. Далей узвышаецца белы двухпавярховы каменны будынак школы імя Якуба Коласа.

## СВЕДКІ БЫЛОГА

Праўленне пінкавіцкага калгаса імя Молатава размешчана ў новым, складзеным з сасновых бярвенняў доме. Ён раздзелены на тры пакоі. У адным, схіліўшыся над сталом, спакваля б'е на лічыльніках Ананій Курыль, калгасны касір. Робіць гэтую работу ён з поўным усведамленнем яе важнасці і адказнасці. У яго надзвычайна строгі твар і ссунутыя на пераносіцу акуляры. Дзяўчаты, якія сядзяць за суседнім сталом і часам хіхікаюць, расказваючы на вуха адна адной штосьці надзвычай таемнае, адразу змаўкаюць, як толькі Ананій Курыль падыме галаву ад сваёй работы і кіне ў іх бок выразны позірк.

У пакоі, першым ад уваxода, на лаўках сядзяць чалавек з дзесяць калгаснікаў і заядла дымяць цыгаркамі. У пакоі горача, хоць безупынна адчыняюцца дзверы і сюды ўрываюцца белыя клубы халоднага паветра.

Па ўзросту тут пераважна людзі сярэдніх год, але ёсць і пажылыя.

Калі гутарка заходзіць пра Якуба Коласа, то калгаснікі ўключаюцца ў яе вельмі ахвотна. У Пінкавічах ёсць яшчэ людзі, якія добра памятаюць тую пару, калі працаваў тут народны паэт. Вось першы з іх — Мікіта Рыгоравіч Козіч, той, што зараз паліць у грубцы. Ён вучыўся ў школе, калі быў настаўнікам Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч. Памятае пісьменніка і намеснік старшыні Васіль Апанасавіч Кароль, хоць яму і мала прыйшлося пры ім навучацца. Не забылі і Мікіта Рыгоравіч Перышч і Ананій Дзмітрыевіч Курыль, той, што складае касавую справаздачу.

Але ўсе сыходзяцца на думцы, што больш за ўсіх ведае пра Якуба Коласа Фама Пятровіч Бязручка, які працуе ў калгасе

брыгадзірам агародняй брыгады. Ён меў некаторае дачыненне да той рэвалюцыйнай работы, якую вёў некалі ў Пінкавічах Якуб Колас. Але Фамы Бязручкі зараз няма, паехаў па сена.

Мікіта Козіч нізкі, прысадзісты, крыху ссутулены. У яго ўжо зусім сівая галава і абвіслыя вусы.

— Я тады другі год хадзіў у школу, як прыехаў да нас настаўнік Міцкевіч,— расказвае ён, вымаўляючы шмат якія словы на ўкраінскі манер (дарэчы, такое вымаўленне не толькі ў Козіча, і, як тут кажуць, гэта не дзіва, бо да Прыпяці рукой падаць, а за Прыпяццю ўжо Украіна).

— Добры быў настаўнік, нам ён спадабаўся адразу. Просты, абыходлівы і вучыў зразумела. Да яго зух быў нейкі: ледзь што не так, дык — за лінейку і «давай лапу». А гэты браў на зацікаўленасць, на сумленне. І навуку ведалі добра. Я, памятаю, кнігу чытаў, дык нібы рэпу грыз...

— Ды ты ўжо хіба сябе не падхвальвай, дзядзька! Нешта ж ты далёка не пайшоў у навуцы...

— Пойдзеш, чакай! Гэта ж табе не цяпер. Дзве зімы я ў школу пахадзіў, а як на трэцюю прыйшлося, то бацька і кажа: «Хопіць, бо і так ужо дужа вучоны. З тваёй навукі, кажа, хлеба ўсё роўна не есці. А работнік у гаспадарцы трэба». Ну, і пайшоў я гучкі і вецце на корм жывёле рэзаць — з сенам у нас нястача была.

Устаўляе слова Васіль Кароль, затым і Ананій Курыль, які нарэшце адарваўся ад касавай справаздачы. Успамінаюць, што настаўніка Міцкевіча паважалі сяляне, што хадзілі часта да яго за парадамі, што любіў ён слухаць народныя спевы, любіў умелых расказчыкаў. З лёгкай рукі маладога Коласа хадзіла сярод сялян нямала вострых слоўцаў пра цара Мікалая і яго прыслужнікаў.

Адчыняюцца дзверы, заходзяць новыя людзі. Яны прыслухоўваюцца да гутаркі, а іншы раз і ўмешваюцца ў яе. І паступова гутарка пераходзіць на тэму аб жыцці да рэвалюцыі і пры польскіх панах.

— Зямля ў нас неблагая, але мала было яе,— расказвае брыгадзір Фёдар Пасінюк.— На іншы двор якая-небудзь паўдзесяціна прыходзілася. То хіба пракормішся?.. І сапраўднай культуры не было ў гаспадарцы, бо дробная ж яна была. Ураджаі цяпер у нас куды большыя, чым пры ад-

наасобным жыцці. Мая вось брыгада азімых па 16 цэнтнераў ды яравых па 15 з кожнага гектара сабрала. Вось што значыць правільная агратэхніка!

На дварэ змяркаецца. Брыгадзіры даюць заданні на заўтрашні дзень. Работы многа. Зараз вывозяцца гной і торф, ідзе ачыстка насення. Вясна не за гарамі. Намеснік старшыні Васіль Кароль напамінае брыгадзірам аб тым, што трэба падрыхтаваць падводы, каб вывезці ў калгас рэшткі збожжа з раённага ссыпнога пункта. Справа ў тым, што пінкавіцкі калгас насенняводчы, ён вырошчвае толькі гатунковае насенне, якое поўнасцю звозіцца на раённы ссыпны пункт для забеспячэння ім іншых калгасаў. Для размеркавання на працадні калгас атрымлівае адтуль звычайнае збожжа.

Калгасны працадзень аплачваецца нядрэнна: летась выдадзена па два з паловай кілаграмы збожжа і два кілаграмы бульбы, не лічачы грошай і іншых прадуктаў. Шмат хто з калгаснікаў атрымаў па 60, 80, 100 пудоў хлеба. А некаторыя нават не забралі ўсяго свайго збожжа, якое налічана ім на працадні. Вось пра гэта і ідзе зараз размова.

— Жыць стала весялей,— гаворыць Змітрок Палішчук, кладаўшчык.— Падаткі меншыя, прыбыткі большыя. Раней мяне за крысо цягалі: калі ды калі на працадні выдаваць будзеш. А зараз мне прыходзіцца ўслед за Яўхімам Калем бегаць: забяры, калі ласка, свой хлеб, мне склад перадаваць трэба, а тут няма поўнага разліку па працаднях.

Яўхім Каль, які працуе ў будаўнічай брыгадзе, стаіць, прыхінуўшыся да сцяны, і неяк па-дзіцячаму ўсміхаецца. Чалавек ён ад прыроды буйны, нібы высечаны з каменю, гаворыць спакойна і працягла.

— У калгасным свірне, можа ж, не прападзе мой хлеб,— гаворыць ён.— Можа, у мяне ссыпаць няма куды?

— І сапраўды, Яўхім, куды ты столькі хлеба дзенеш? — звяртаецца да будаўніка Аляксандр Шапялевіч.— Пазалетась ты, лічы, у двор свой пудоў сто дваццаць згрузіў. І летась табе, пэўна, цэлых дзвесце налічылі. Няўжо спажывеш столькі? Прыйдзецца табе, відаць, вартаўніка наймаць, каб багацце тваё ахоўвалі.

— Табе пазычу хлеба, бо ты ж бедны,— разважліва адказвае Яўхім Каль.— Толькі і ты, здаецца мне, нават лазню сваю хлебам засыпаў...

Калгаснікі смяюцца.

Вечарам прыехаў з сенам Фама Бязручка. Вокны яго хаты пазіраюць у далячынь балот, што пачынаюцца адразу за агародамі. Балоты гэтыя засланы зараз белаю пеляной, і, здаецца, няма ім канца-краю. Толькі ў тым месцы, дзе Піна ўліваецца ў Прыпяць, мільгаюць агеньчыкі з будкі рачнога вартаўніка.

У хаце Фамы Бязручкі чыста, утульна, цёпла, на стале цікае гадзіннік, на сцяне — рэпрадуктар. Унук Бязручкі, схіліўшыся над сталом, чытае кніжку.

У аповесці «У глыбі Палесся» Якубам Коласам намаляваны партрэт Якіма Бязручкі, асобныя рысы для якога маглі быць узяты ад жывога Фамы Бязручкі. Фаме Бязручку зараз ужо семдзесят гадоў з хвосцікам. Нягледзячы на свой узрост, Фама Пятровіч вельмі рухавы і гаваркі чалавек.

— Памятаю я Канстанціна Міхайлавіча, добра памятаю,— расказвае ён.— Наша хата і раней на гэтым месцы стаяла. Зараз так густа засяліліся, а раней паміж нашым домам і школай пустое месца было. Канстанцін Міхайлавіч часта да нас заглядваў. Быў ён у той час малады, чарнявенькі, шчуплы. Словы на вецер не кідаў, хоць і любіў пагаварыць...

За акном зімовая віхура, вецер б’е ў шыбы снежнымі крупінкамі, а Фама Пятровіч, нібы спяшаючыся, успамінае былі даўно мінуўшых дзён.

— Сабіраліся мы ўтраіх: Сцяпан Каль, мой бацька і я. Часта гутарыў з намі Канстанцін Міхайлавіч: і пра тое, што несправядлівы парадак абавязкова будзе знішчаны, што цар за панамі, а не за простым народам цягне. Ну, і як рабочыя ў Пінску падняліся, то і мы не сядзелі склаўшы рукі. Настаўнік ужо загадзя падрыхтаваў сялян. Напісаў ён на сялянскім сходзе петыцыю самому Скірмунту, што жыў у Альбрэхтове, дзе прапанаваў яму адмовіцца ад нашых заток і сенажаці. Пад ёй сяляне падпісаліся. А каб паліцыя не змагла знайсці вінаватага, бо зачыншчыкаў найбольш жорстка каралі, то падпісваліся не проста па парадку, а па кругу, які начарціў настаўнік цыркулем... Любілі нашы сяляне Канстанціна Міхайлавіча, нездарма памяць аб ім захавалася аж да сённяшняга дня, бо бачылі — малады чалавек, а моцна стаіць за народную справу.

Фама Пятровіч расказвае і аб сабе. У 1905 годзе, які быў багаты падзеямі для Пінкавіч, пайшоў ён на прызыў. У імперыялістычную вайну быў на фронце. Трапіў у палон каля Мазурскіх азёр. У 1919 годзе Бязручка стаў чырвонаармейцам. Ваяваў з польскімі панамі. Пад Койданавам ад панскай кулі загінуў яго таварыш Піліп Цяляк. Пасля ён захварэў і вярнуўся ў сваю вёску. А калі выздаравеў, то ўжо граніца надвое падзяліла Беларусь. Бязручка застаўся па той бок граніцы.

Расказвае Фама Пятровіч цікава і выразна. Маршчыністы твар яго то свеціцца радасцю, то становіцца хмурым і заклапочаным. Падзеі цэлага паўвека прайшлі на вачах гэтага чалавека. І не проста прайшлі, бо ён быў іх актыўным удзельнікам.

— Калі пачалася ў нас размова пра арганізацыю калгаса, то я гарой стаў за гэтую справу,— не без гонару расказвае стары Бязручка.— Уступіў у калгас першым. Даручылі мне агародную брыгаду. А ў агародную брыгаду вядома ж каго пасылаюць: дзядоў ды бабулек, якія хутка будуць сотую гадавіну свайго жыцця на зямлі святкаваць. У насмешку нашу брыгаду называлі «інваліднай камандай». Але мы вось ужо чатыры гады гонару не губляем. Пабудавалі сто парніковых рам. Вось на дварэ снег, замець, а мы тыдні праз два радыс на рынак пашлем. Вясной увесь Пінск гароднінай завальваем. Летась наш гарод толькі грашыма даў калгасу прыбытак на 130 тысяч рублёў. А сёлета парніковая гаспадарка і гарод у два разы павялічваюцца, значыць, і карысць калгасу будзе большая.

## ВЕЧАРАМ

У старых Пінкавічах, як яны выпісаны Якубам Коласам, адзінай культурнай установай сяла была пачатковая школа. Вечарам яна пусцела. Да акна настаўніцкай кватэры вужам падкрадваўся дзяк Бацяноўскі, які лічыў сваім абавязкам знішчаць крамолу, якую ён бачыў ва ўчынках маладога настаўніка. Інтэлігенцыя сяла была прадстаўлена асобамі пісара, яго памочніка і казённага ляснічага. Вечарам жыццё ў

вёсцы замірала, калі не ўлічваць той акалічнасці, што мясцовая «інтэлігенцыя» збіралася дзе-небудзь для чарговай выпіўкі або гульні ў карты.

Пройдзем вечарам па сённяшніх Пінкавічах.

...Вось зіхаціць агонь у вокнах вялікага будынка, у глыбіні двара якога размешчаны парк. Гэта бібліятэка. Яна мае 787 чытачоў і 6411 кніг. Акрамя гэтай, у Пінкавічах ёсць яшчэ дзіцячая бібліятэка. У гэты вячэрні час у бібліятэцы даволі ажыўлена. За сталом сядзіць ужо знаёмы нам кладаўшчык Змітрок Палішчук. Ён чытае газету, перад ім ляжаць дзве ёмкія кнігі. Калгаснік Міхаіл Ткачык перагортвае часопісы.

Бібліятэка ў Пінкавічах — гэта тое месца, якое вельмі ахвотна наведваюць хлебаробы. Тут заўсёды каго-небудзь сустрэнеш. Людзі цікавяцца мастацкай, сельскагаспадарчай, навуковай літаратурай. Вось абанементная картачка Змітрака Палішчука. У ёй запісаны падручнік па садаводству, матэрыялы XIX з’езда КПСС, «Выбраныя творы» Дакучаева, шмат назваў мастацкай літаратуры. Не менш кніг запісана і ў картачцы Міхаіла Фёдаравіча Ткачыка. Сярод іх творы Вільямса, Дакучаева, Мічурына. Актыўнымі чытачамі бібліятэкі з’яўляюцца і калгасніцы. Еўдакія Емяльянаўна Лой, напрыклад, мае за сваімі плячыма больш паўсотні год, але яна не губляе дружбы з кнігай. Шмат кніг прачыталі Марыя Андрыянаўна Лой, Ірына Максімаўна Кучынская. Тут ужо не гаворыцца пра вясковую моладзь, сярод якой, бадай, не знойдзеш ні аднаго чалавека, які б не быў чытачом бібліятэкі.

Бібліятэка не абмяжоўвае сваю работу толькі выдачай кніг. Яна праводзіць і канферэнцыі, і літаратурныя вечары, і дыспуты. У дзень сямідзесяцігоддзя народнага паэта Якуба Коласа жыхары Пінкавіч сабраліся на вечар, прысвечаны яго творчасці. З успамінамі аб Коласе выступаў шмат хто з вяскоўцаў. Літаратурныя дыспуты праведзены па такіх творах, як «Да новага берага» В. Лаціса, «Рыбакова хата» Якуба Коласа, «Маладая гвардыя» А. Фадзеева.

Побач з бібліятэкай — клуб. Адтуль чутны гукі акардэона, мелодыя песні. Ідзе рэпетыцыя хору. Дзяўчаты і хлопцы развучваюць песні для свайго чарговага выступлення. Ёсць сярод мастацкага калектыву свае таленты — песеннікі, якіх веда-

юць у Пінкавічах. Задушэўна співаюць даярка Волька Каль, калгасніца Волька Капко, юнак Уладзімір Махнавец.

Але не адна песня гасцюе ў пінкавіцкім клубе. Ставяцца і п’есы. І не толькі сваімі мясцовымі артыстамі, а і прыезджымі з гарадскіх тэатраў. Ставілі ў Пінкавічах «Пяюць жаваранкі», «Наталку Палтаўку», «Наймічку».

Кіно ў вёсцы часта бывае. У клубе свая стацыянарная ўстаноўка, і кіно дэманструецца пяць разоў на тыдні.

Вечарамі падоўгу не гасне святло яшчэ ў адным доме — у праўленні калгаса. Тут таксама праводзіцца якое-небудзь мерапрыемства. Аграном Тамара Адашчык займаецца са слухачамі агратэхнічнай школы. Але сёння не яе дзень. Сёння сабраліся слухачы заатэхнічнай школы, заняткі з якімі вядзе заатэхнік Зося Кудраўская. Са сшыткамі ў руках прыйшлі на заняткі даярка Марыя Капко, конюх Аляксей Шапялевіч, загадчыца птушкафермы камсамолка Ганна Капко. Заатэхнік расказвае аб мерах, якія абавязкова патрэбна правесці ў жыццё, каб узняць прадуктыўнасць грамадскай жывёлагадоўлі. Жывёлаводы авалодваюць навукай. Без яе нельга. Вучыцца Марыя Капко. Яна даярка і надаіла летась па 1500 літраў малака ад каровы.

На ўсю вёску грыміць рэпрадуктар, устаноўлены на пляцы. Вечарамі ў Пінкавічах не сумна.

## МАЛАДАЯ ЗМЕНА

Захаваўся будынак школы, дзе некалі працаваў Якуб Колас.

Два простыя пакоі. У адным з іх некалі хадзіў Якуб Колас, тут ён вучыў грамаце Аксёна Каля, чытаў рэвалюцыйныя брашуры і адозвы.

А вось тут быў клас. Сорак дзіцячых галовак схіляліся над кнігай, лавілі слова настаўніка, пазнавалі невялікія таямніцы свету, якія патрэбна ведаць праграмай пачатковай школы.

Сённяшняя Пінкавіцкая школа зусім не такая. Яна не пачатковая, а сярэдняя. У ёй не 40 вучняў, а 497. Размешчана яна ў прыгожым двухпавярховым будынку. Вучыць сённяшнюю калгасную дзетвару не адзін настаўнік, а 25, пераважная большасць якіх мае вышэйшую адукацыю.

Пазнаёмімся хоць з некаторымі. Соф’я Канстанцінаўна Крыўко, географ, працуе ў Пінкавічах ужо чацвёрты год. Яна прыехала сюды, скончыўшы Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Рускую літаратуру выкладае Людміла Мікалаеўна Пятруша, якая скончыла Гродзенскі педагагічны інстытут.

— Да твораў Якуба Коласа ў нашай школе асаблівы інтарэс,— расказвае выкладчыца беларускай літаратуры Вольга Фёдараўна Кавалёва.— У школьнай бібліятэцы кнігі пісьменніка заўсёды на руках.

Выкладчыкам матэматыкі ў Пінкавіцкай сярэдняй школе працуе старэйшы педагог Антон Іванавіч Мароз. У свой час ён разам з Якубам Коласам канчаў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, быў асабіста знаёмы з будучым пісьменнікам.

Настойліва вучыцца калгасная моладзь. У яе цудоўныя ўмовы. Светлыя прасторныя класы, утульныя кабінеты для фізічных і хімічных доследаў. Як мы памятаем з кнігі пісьменніка, бацькі некалі не пускалі дзяўчынак у школу: яны лічылі, што навука ім не патрэбна. Сёння палова вучняў у школе — дзяўчаты. Школа ганарыцца выдатніцамі вучобы камсамолкамі-дзесяцікласніцамі Аленай Даніловіч і Таняй Каль, дзевяцікласніцамі Волькай Шкут і Соняй Цяляк.

Актыўна працуе школьная камсамольская арганізацыя (яна налічвае ў сваім складзе 76 членаў).

Гэта аб тых, якія вучацца яшчэ зараз у школе імя Якуба Коласа.

Але нямала дзяцей калгаснікаў ужо выйшлі са школы. Адны з іх навучаюцца ў інстытутах і тэхнікумах, некаторыя скончылі ВНУ і пайшлі на працу.

— Калгас наш узяў вялікі разгон,— расказвае старшыня праўлення Іван Аляксеевіч Некрашэвіч.— Новыя спецыялісты патрэбны. Намецілі мы таксама механізаваць і электрыфікаваць фермы. Спрактыкаваныя людзі для гэтай работы патрэбны.

Новых спецыялістаў у калгасе ўжо нямала. Ёсць свае трактарысты, шафёры, камбайнеры, механікі. Ужо чатыры гады працуюць трактарыстамі Кастусь Гамялькоў, Фёдар Салівон, Фёдар Гарынец, Міхась Лой. Камсамолец Уладзімір Козіч стаў камбайнерам. Летась на калгасных палях працавалі тры трактары, два камбайны, ільноцерабілка.

Ёсць ужо з выхаванцаў Пінкавіцкай школы настаўнікі, інжынеры, медыцынскія работнікі. Часта ўспамінаюць тут імя Паўла Каля, унука Сцяпана Каля, які можа быць прататыпам вобраза Аксёна Каля. Як мы памятаем, быў Аксён Каль чалавекам неспакойным, настойліва шукаў праўды і не баяўся змагацца за яе з панамі. Павел Каль яшчэ пры польскіх панах, хлапчуком, наладзіў радыё, слухаў Маскву. Ён арганізаваў у сваёй вёсцы першую камсамольскую ячэйку пасля памятных вераснёўскіх дзён. Калі пачалася Айчынная вайна, добраахвотнікам пайшоў у армію. Абараняў Маскву, быў паранены. Пасля паступіў у інстытут. Набыў спецыяльнасць геолага. Цяпер Павел Каль працуе ў далёкай Кіргізіі.

Шмат такіх сыноў і дачок, будаўнікоў новага жыцця, вырасла і расце ў Пінкавічах, якія калісьці лічыліся закінутым глухім Палессем.

*1954*

# 1955

## ПА МЕСЦАХ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Цудоўны далягляд адкрываецца позірку з Замкавай гары ў Навагрудку ў вячэрнія гадзіны. Сонца садзіцца якраз за высокім пірамідальнай формы ўзгоркам — «капцом» Адама Міцкевіча. Праменні заходзячага сонца залоцяць лісце клёнаў, што стаяць, нібы ганаровая варта, ля падножжа гэтага ўзгорка, а сам ён на фоне барвовага небасхілу здаецца дзіўным, казачным уцёсам. На многа міль вакол віднеюцца цёмна-зялёныя пералескі, раскіданыя па схілах узгоркаў, удалечыні — ахутаныя сіняватай вячэрняй смугою вёсачкі, якія тонуць у прысадах расцвітаючых садоў, неабсяжны, як мора, прастор палёў.

Ля самага ўзгорка, насыпанага народам у знак незгасальнай любві да вялікага польскага паэта, шуміць-гамоніць галасамі студэнтаў малады парк. У вячэрнія часы тут асабліва мнагалюдна. Пасля заняткаў, залікаў, экзаменаў у парк сыходзіцца шматлікае студэнцтва Навагрудка. У горадзе 6 тэхнікумаў і вучылішч, 3 сярэднія школы. Будучыя настаўнікі, работнікі савецкага гандлю, спецыялісты сельскай гаспадаркі, медыкі, фінансавыя работнікі — усе яны маюць свае любімыя куткі ў гэтым прыгожым парку.

Недзе зайграў акардэон, нехта зацягнуў песню, і вось ужо яе падхапіла многа маладых галасоў, і яна, як на крыллях, лунае над паркам.

Калі стаіш у вячэрні час ля ўзгорка Міцкевіча, глядзіш на панурыя абломкі былога замка, на высокі земляны вал, якім

аддзяляецца Замкавая гара ад маладога гаманлівага парку, міжволі ўзнікае думка аб той пропасці, якая існуе паміж жыццём мінулым, даўно адышоўшым у нябыт, і жыццём светлым, сённяшнім.

Навагрудак... Ля яго мураваных сцен не раз сыходзіліся пакручастыя сцежкі гісторыі. Вотчына кіеўскіх князёў, гэты горад пазней становіцца рэзідэнцыяй літоўскага князя Міндоўга. Пад сцены Навагрудка падводзілі свае тараны татарскія палчышчы Койданы. На гэты з выгляду ціхі гарадок рабілі свае набегі закаваныя ў жалеза нямецкія рыцары. Навагрудак некалі бачыў на сваіх вуліцах урачысты марш напалеонаўскіх войск, а крыху пазней — ганебныя ўцёкі мізэрных рэшткаў французскай арміі. У Навагрудскім замку наладжвала балі і банкеты пышная і тупагаловая шляхта.

Але не развалінамі мураваных сцен, не адзнакамі княжэння розных князёў і шляхціцаў, не бітвамі і баталіямі пад яго сценамі слаўны горад Навагрудак. Гэты невялікі з выгляду гарадок вядомы ўсяму свету тым, што тут нарадзіўся вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч.

Некалі на гэтым самым вале любіў стаяць юны Міцкевіч, любіў глядзець адсюль на родныя сэрцу краявіды. Радзіма паэта тады не мела волі, прыгнёт царызму цяжкім ярмом лажыўся на плечы ўсіх народаў. Выношваючы ў сэрцы мару аб свабодзе радзімы, аб будучай еднасці славянскіх народаў, Міцкевіч пісаў у «Адозве да рускіх»: «...Народы ніяк не зацікаўлены ў тым, каб знішчаць адзін другога. Дзень гібелі дэспатаў будзе першым днём міру і дружбы народаў».

На Навагрудчыне шмат мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю Адама Міцкевіча. Паэт нарадзіўся на хутары Завоссе, непадалёку ад сяла Колдычава, 24 снежня 1798 года. Праз тры гады бацькі паэта набылі дом у самім Навагрудку і пераехалі сюды на сталае жыхарства. Тут, у гэтым зялёным утульным гарадку, прайшлі школьныя гады паэта, сюды прыязджаў ён на канікулы, будучы студэнтам Віленскага ўніверсітэта. Малады паэт любіў вандраваць па родных мясцінах, любіў слухаць народныя паданні, легенды. Шматлікія творы паэта і напісаны паводле гэтых паданняў і легенд. Вусная народная творчасць з’явілася невычэрпнай крыніцай, адкуль паэт браў многія вобразы і матывы сваіх твораў.

Тут, у Навагрудку, Адам Міцкевіч напісаў свой першы верш «Ода аб патары», затым «Оду пра Міндаўга».

Непадалёку ад Навагрудка, каля вёскі Валёўка, атуленае шчыльнаю градою лесу, плешчацца ў зялёных берагах возера Свіцязь. Сюды, у гэты маляўнічы куток Беларусі, штогод з’язджаюцца ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці на Свята песні. Над люстраною гладдзю возера, над прасторамі роднай зямлі шырока і гулка разносіцца вольная песня. Цудоўную прыгажосць Свіцязі некалі апеў і Адам Міцкевіч у сваіх непаўторных баладах «Свіцязь» і «Свіцязянка».

На ўскрайку вёскі Шчорсы Любчанскага раёна расце магутны, у тры абхваты, дуб. Пад яго разгалістымі шатамі некалі любіў сядзець Адам Міцкевіч пасля працы ў бібліятэцы графа Храптовіча. Пад гэтым дубам, як сцвярджаюць знаўцы, паэт ствараў накіды сваёй цудоўнай паэмы «Гражына», дзе ўвасоблена ідэя еднасці народа ў барацьбе супраць нашэсця тэўтонскіх заваёўнікаў.

Мясцовыя жыхары клапатліва ахоўваюць дуб, звязаны з памяццю аб вялікім паэце. Дрэва абнесена двайной агароджай: жалезную зрабілі рабочыя мясцовага саўгаса, а знешнюю — калгаснікі. Пад дуб часта прыходзяць піянеры і школьнікі Шчорсаўскай школы. Гэта яны разбілі пад дубам клумбы, пасадзілі на іх кветкі, штодзень іх даглядаюць. Маленькі Віця Янушка, які пойдзе ў школу толькі гэтай восенню, з гордасцю паведаміў нам, што яго бацька, каваль Павел Янушка, акаваў дуб жалезам, каб яму не страшны былі навальніцы і перуны.

Не пазнаць сёння мясцін, звязаных з памяццю вялікага паэта. За гады савецкай улады яны непазнавальна змяніліся. Калі едзеш па дарогах Любчанскага, Карэліцкага раёнаў, вока радуецца высокай збажыне, цудоўным палям канюшыны, ільну. Хто не ведае, што многія любчанскія, карэліцкія, навагрудскія калгасы даўно сталі мільянерамі, забяспечылі высокія грамадскія і асабістыя прыбыткі. Узяць хоць бы шчорсаўскі калгас імя Варашылава. Летась на працадзень тут выдадзена па 2 кілаграмы збожжа і столькі ж бульбы, па 7 рублёў грошай. На рачулцы Сервеч, па берагах якой, як расказваюць мясцовыя жыхары, любіў вандраваць Адам Міцкевіч, пабудавана гідраэлектрастанцыя магутнасцю ў 75 кілават. Ціхая і непрыкметная з выгляду рачулка робіць для калгаса

надзвычай карысную справу. Дзякуючы ёй у хатах усіх навакольных вёсак запаліліся электрычныя агні, загаварыла радыё. 12 электраматораў працуюць у калгасе: пры дапамозе электрычнай энергіі тут пілуюць лес, малоцяць, нарыхтоўваюць кармы.

У некалькіх кіламетрах ад Навагрудка размешчана азярцо Літвінка, на якое любіў хадзіць Адам Міцкевіч. Азярцо маленькае, даўно б яно зацягнулася цінай, зарасло хмызняком, каб не клопаты мясцовых жыхароў, якія яго любоўна ачышчаюць ад ілу, ад зараснікаў.

Савецкія людзі памятаюць, любяць, свята ахоўваюць усё звязанае з імем выдатнага польскага паэта. У Навагрудку створана камісія па правядзенню юбілею Адама Міцкевіча, у склад якой увайшлі самыя паважаныя людзі горада. Нават у суровыя для нашай Радзімы дні народ не забываў зберагчы дарагія рэліквіі. Не так даўно ў Цэнтральным дзяржаўным архіве БССР знойдзен загад Навагрудскага павятовага рэвалюцыйнага камітэта № 40 ад 16 верасня 1920 года. Гэтым загадам прадугледжвалася стварыць у доме паэта літаратурны музей або народную бібліятэку імя А. Міцкевіча.

Цяпер пра сам домік Адама Міцкевіча. У гады ваенных завірух ён гарэў, разбураўся, але, нібы фенікс з попелу, зноў паяўляўся на тым жа месцы. У гады Вялікай Айчыннай вайны домік быў разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Ён адноўлен цяпер у тым выглядзе, якім ён быў пры жыцці паэта. У гэтым дарагім для памяці доміку аднаўляецца Літаратурны музей Адама Міцкевіча.

У абсталяванні музея прымаюць удзел не толькі жыхары Навагрудчыны, але і многіх іншых месц савецкай краіны. Знойдзена многа барэльефаў, скульптур, ілюстрацый, кніг Адама Міцкевіча. Толькі Навагрудская руская школа № 2 перадала музею звыш 50 экспанатаў — рэпрадукцый, барэльефаў, гарэльефаў, партрэт паэта работы мясцовага мастака Мардасевіча 1857 года.

У адрас музея прыходзяць пасылкі з Масквы, Мінска, Кіева. Маскоўскі жыхар Ляўковіч прыслаў ноты кампазітара Кюі на словы А. Міцкевіча, якія цяпер развучваюцца мясцовымі самадзейнымі калектывамі. З Мінска прыслалі рэдкі партрэт А. Міцкевіча 1895 года работы італьянскага мастака Пальміры.

Кіеўскі скульптар Ульянаў зрабіў для музея бронзавы бюст паэта.

Цікавыя экспанаты перададзены музею Польскай Народнай Рэспублікай.

Памяць аб вялікім польскім паэце жывая і незгасальная. На Навагрудчыне мы сустрэлі студэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна Лявона Мірачыцкага. Са старым партфельчыкам ён хадзіў ад вёскі да вёскі, збіраючы, запісваючы ўспаміны мясцовых жыхароў, звязаныя з мясцінамі А. Міцкевіча.

Трэба было бачыць, з якой любоўю афармілі вучні 2-й рускай школы выстаўку, прысвечаную памяці А. Міцкевіча. Яны намалявалі некалькі партрэтаў вялікага паэта, ілюстрацыі да яго твораў, сабралі шмат рэдкіх, унікальных кніг А. Міцкевіча.

У Навагрудскім педвучылішчы група пачынаючых паэтаў выдае свой рукапісны альманах «Першы промень». Для чарговага нумара альманаха падрыхтавана шмат перакладаў на беларускую мову твораў А. Міцкевіча. Магчыма, гэтыя пераклады пакуль яшчэ нельга друкаваць у сталічным часопісе, але сама праца пачынаючых паэтаў гаворыць, наколькі дарагой для іх з’яўляецца паэтычная спадчына вялікага мастака слова.

*1955*

# ДА ВЫДАННЯ 10-ТОМНАГА ЗБОРУ ТВОРАЎ ІВАНА НАВУМЕНКІ

Сапраўдныя пісьменнікі — асобы пакліканыя; з'яўляючыся нявольнікамі ўласнага творчага прызвання, яны мусяць праз усё жыццё несці свой хай сабе і пачэсны, але вельмі нялёгкі крыж. Элітная ж іх частка наогул пазначана пячаткай выключнасці. Гэта ўжо не проста пакліканыя, гэта — абраныя. І ў той абранасці ніколі не было ні містыкі, ні біблейскага падтэксту, бо яна прэзентавала гарманічнае спалучэнне найвышэйшых крэатыўных патэнцый мастака з яго самаадданай гатоўнасцю прысвяціць свой дар служэнню Айчыне. Творчасць такіх мастакоў вызначаецца радзіннай паяднанасцю з лёсам Радзімы (навошта тая песня, калі яна не пра бацькоўскі край). Менавіта такія мастакі імкнуцца і ўмеюць з цэлым светам гутарку весці (няма нічога больш пачэснага за місію раскрыць перад усім цывілізацыйным супольніцтвам хараство гэтага краю, духоўнае багацце яго насельнікаў). Іван Мележ, называючы пісьменнікаў сынамі свайго народа, падкрэсліваў: значэнне кожнага з іх вызначаецца тым, як ён паказвае свой народ свету, што ён гаворыць свету ад імя свайго народа. Нельга пагадзіцца з дастаткова распаўсюджаным сцвярджэннем, што ў глабальнай гісторыі славяцца толькі тыя народы, якія ў свой час паспяхова ваявалі са сваімі суседзямі. Сапраўдную славу пэўнаму этнасу прыносяць усё ж яго вялікія мастакі, вайсковая слава трымаецца на фізічнай моцы, а яна не вечная, не мае пераемнасці: ці мала было ў мінулым ваяўнічых народаў, памяць пра якія ў навакольным свеце самахоць сцерлася ледзь не адразу пасля таго, як загаіліся свае і чужыя раны. Напісанае ж застаецца, бо гэта нятленны капітал, а заваяванае, нібы пясок з заграбушчых прыгаршняў — праз пальцы,— рана ці позна рассыплецца да тла. Таму і гаворыцца пра вечнасць мастацтва.

Іван Навуменка быў несумненна пісьменнікам сапраўдным. З-за прыроднай сціпласці сваю персону ні абранай, ні выключнай не лічыў. Гэта не перашкаджала яму быць у беларускай літаратуры менавіта такой персонай. Па-першае, тэхніку валодання мастацкім словам ён давёў да вельмі высокага ўзроўню, такіх майстроў звычайна адносяць да агульнанацыянальнага духоўнага набілітэту. Па-другое, слова сваё ён прысвяціў, карыстаючыся вызначэннямі славянскіх пісьменнікаў-дэмакратаў XIX стагоддзя, служэнню Айчыне. У нашым выпадку — роднай Беларусі. Паслядоўная грамадзянскасць жыццёвай пазіцыі не толькі не перашкаджала, а хутчэй садзейнічала паспяховасці яго творчай працы. А зроблена вельмі і вельмі нямала! Шырокае прызнанне атрымалі заслугі І. Навуменкі ў развіцці жанраў рамана, аповесці, апавядання, псіхалагічнай драмы, публіцыстыкі. Тое самае можна сказаць і пра яго навуковыя працы: кнігі пра творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Кузьмы Чорнага, Максіма Багдановіча і іншыя трывала замацаваліся ў ліку выдатных дасягненняў беларускага літаратуразнаўства. Надзелены вялікай працаздольнасцю, ён з юначых гадоў арыентаваўся на народныя максімы: хто дбае — той і мае, а хто спрабуе — той дасягае. Пачаўшы з немудрагелістых допісаў у раённую газету, ён мэтанакіравана, прыступка за прыступкай уздымаўся на парнаскія вяршыні. Стаў народным пісьменнікам Беларусі (1995), заслужаным дзеячам навукі Беларусі (1978), лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967) і Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1972), быў Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР (1985—1990), узнагароджваўся ордэнамі Айчыннай вайны І і ІІ ступеняў, Чырвонай Зоркі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, многімі медалямі. Доктар філалагічных навук (1969) І. Я. Навуменка ў 1972 годзе абіраецца членам-карэспандэнтам АН БССР, у 1980-м — акадэмікам; узначальваў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР (1973—1982), быў віцэ-прэзідэнтам АН БССР (1982—1992), саветнікам прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (1982—2002). У складзе дэлегацыі ад Беларускай ССР удзельнічаў у рабоце XXV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Быў членам многіх грамадскіх арганізацый.

Нарадзіўся Іван Якаўлевіч Навуменка 16 лютага 1925 года ў г. Васілевічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Бацька яго Якаў Піліпавіч Навуменка быў нашчадкам карэннага васілевіцкага сялянскага роду, а паколькі зямлі было мала і яна слаба карміла, падаўся ў рабочыя — працаваў напачатку пуцявым абходчыкам, а потым стрэлачнікам на чыгуначнай станцыі Васілевічы. Маці Ма-

рыя Пятроўна таксама паходзіла з моцнага сялянскага роду — са Смеяноў, якія жылі ў суседняй вёсцы Бабічы. Дзяцінства пісьменніка прыпала на проста-такі дзівосны час, пра што падрабязна расказана ў аўтабіяграфічнай трылогіі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва». Вялікая сям'я, вялікая радня, вялікая колькасць сяброў і знаёмых. «У сям'і,— згадваў пісьменнік у «Аўтабіяграфіі»,— было нас трое хлопцаў (я старэйшы) і сястра. Васілевічы — даволі люднае драўлянае мястэчка, з пяцікіламетровай па даўжыні цэнтральнай вуліцай і чыгуначнай станцыяй. Гудкі цягнікоў змешваліся тут з мычаннем кароў і кудахтаннем курэй. Маё дзяцінства прыпала якраз на той час, калі па пыльнай вуліцы прагрукатаў першы трактар, а ў бязвоблачным блакіце неба, перастаючы быць дзівам, праляцеў самалёт»[1].

Адным словам, цывілізацыя самым рашучым чынам урывалася ў дзіцячую свядомасць, што не перашкаджала яму прагна цягнуцца да казак, паняверак, паданняў і легенд, якіх родныя баба Аўгіння і дзед Піліп ведалі безліч. І столькі розных дзівосаў (куды таму М. Гогалю з яго «Вечарамі на хутары каля Дзіканькі»!) было ў тых расповедах, што будучы пісьменнік пачынаў часам страчваць мяжу паміж явай і фантазіяй: як гэта адбывалася, добра паказана ў аўтабіяграфічнай аповесці «Дзяцінства». З цягам часу адэкватнасць успрыняцця рэчаіснасці адновіцца, страхі рассеюцца, але эмацыянальная памяць пра пачутае застанецца, і яна ніякім чынам не будзе перашкаджаць хлапцу набірацца зусім нармальнага жыццёвага вопыту. Хіба што ў будзённых, звыклых сутнасцях і з'явах ён заўсёды гатовы быў адчуць нейкі дадатковы таемны змест.

На развіццё інтэлекту і фармаванне светапоглядна-псіхалагічных асноў характару падлетка вялізны ўплыў зрабіла кніга. «Кнігі пачаў чытаць рана,— натаваў пісьменнік ва ўжо згаданай «Аўтабіяграфіі»,— здаецца, з другога класа школы. Здарылася так, што спачатку, у гады навучання ў пачатковай школе, чытаў сур'ёзныя кнігі — Тургенева, Гогаля, Талстога. Але потым дзяцінства ўзяло сваё, і я накінуўся на Жуля Верна, Майна Рыда, Дзюма. У Васілевічах нават у тыя далёкія трыццатыя гады можна было дастаць даволі рэдкую кнігу. Сябраваў з хлопцамі, старэйшымі за мяне, і гэта значна пашырала мае магчымасці ў сэнсе забеспячэння кнігамі» (6, 532).

---

[1] Навуменка, І. Збор твораў: у 6 т.— Мінск, 1984.— Т. 6.— С. 532. У далейшым пры спасылцы на гэта выданне ў дужках указваюцца том, старонка.

«Кніга адкрывае свет», так назваў І. Навуменка артыкул, напісаны ў 1960 годзе і прысвечаны беларускай дзіцячай літаратуры. «Запойны» чытач са шматгадовым стажам, ён ведаў, які сэнс укладаў у гэту назву. Менавіта пісьмо ўзвяло велічны храм пісьменства, у якім кніга заняла выключна важнае месца, на вербальным, самым надзейным узроўні фіксуючы, натуючы і зберагаючы крупіцы цывілізацыйнага вопыту, эвалюцыйнага прагрэсу. Кнігу як крыніцу ведаў І. Навуменка, вядома ж, не мог не цаніць. Але для яго, пісьменніка, уяўлялася больш важнай місія кнігі ў справе азнаямлення юнай істоты са скарбамі сусветнай культуры, выпрацоўкі ў душах юнакоў усведамлення, пачуцця ўласнай далучанасці да агульначалавечых духоўных і наогул цывілізацыйных каштоўнасцей. У школьныя гады яму і яго сябрам кніга дапамагала ўпарадкоўваць багатыя, але хаатычна разбэрсаныя ўражанні пра навакольны свет. Стыхійны антрапамарфізм юнага палешука без уздзеяння кнігі мог адбіцца на яго псіхіцы як заўгодна, нават адмоўна.

Наогул жа станаўленне асобы, у тым ліку і творчай, пачынаецца вельмі рана, і ў вытоках яго знаходзіцца слова, дакладней, засваенне, авалоданне ім. У І. Навуменкі гэты працэс, як і ў іншых аднагодкаў, адбываўся натуральна, па меры росту і пашырэння ўласных жыццёвых інтарэсаў, практычнага азнаямлення са з’явамі і рэаліямі штодзённай рэчаіснасці. Першасная стадыя (каб заявіць прэтэнзію на нешта, трэба гэта нешта ўмець назваць) бывае звычайна непрацяглай, неўзабаве дзіця авалодвае «надбытавой» лексікай: «сонца іграе», «бор спявае», «вецер галосіць», «зямля засынае» — такія і многія іншыя метафары экалагічнага паходжання кардынальным чынам узбагачаюць свядомасць дзіцяці, прымушаюць яго ўважлівей углядацца ў навакольны свет, запамінаць назвы прадстаўнікоў мясцовай фаўны і флоры. Іншымі словамі, каб засвоіць падобныя метафары, патрэбна добра ведаць прыроду, адчуваць яе душой. Назвы дрэў, раслін, кветак, розных звяроў і птушак будучы пісьменнік вывучаў не па гербарыях ды чучалах. Недзе з пяцігадовага ўзросту як мог, дапамагаў бацькам. Збіраў ягады, грыбы, пазней удзельнічаў у нарыхтоўцы сена, у іншых гэтак званых сельгасработах. Васілевіцкія ваколіцы ў свой час былі добра-такі абжытыя. У адну мясціну ішлі па журавіны, брусніцы, маліны, чарніцы, буякі, парэчкі... У іншую — па грыбы. Нават у засушлівыя гады ніхто з пустым кошыкам з лесу не вяртаўся: не вырастуць баравікі, падасінавікі ці рыжыкі, дык розных там лісічак, сыраежак, абабак ды груздоў назбіраць можна было заўсёды. Ведалі мясціны, дзе

можна ўкасіць травы на капу-другую, распахаць палянку пад бульбу, надраць моху, нацягаць карчоў-смалякоў для лучыны, нажаць чароту, нарваць вішу, усцягнуць на моцныя сукі борці, назбіраць жалудоў і г. д. Кожная такая мясціна была «пашпартызавана» пэўнай назвай, якая ўзнікла не проста так, а на нейкай падставе. Вось, напрыклад, як называліся некаторыя сенажаці: Зарэцкае, Брадзянка, Крыніцы, Званкі, Доўгае, Астроўкі, Ліпкі, Бель, Забелле, Папова, Пісарава, Нібыцыцкі, Пулякоў рог... А па дарозе да гэтых і многіх іншых сенажацей, да бароў і дуброў мясціліся сотні палянак. І таксама не безыменных. І таксама названых па нейкай прыкмеце ці адзнацы. Хочаш арыентавацца ў наваколлі, хочаш дакладней трапіць туды, куды цябе паслалі,— запамінай, папаўняй слоўнікавы запас. Зрэшты, гэты працэс у дзяцінстве не канчаецца: хочаш не заблукаць у далейшым жыцці — узбагачайся абазначанымі словам ведамі.

Крыніцы папаўнення ведаў у юнага І. Навуменкі былі самыя розныя. У гэтым плане надзвычай плённымі аказваліся чалавечыя кантакты. І ў першую чаргу — з бацькам, маці, з іншымі старэйшымі родзічамі і проста землякамі. Агульным месцам для большасці біёграфаў пісьменніка стала наступнае яго прызнанне: «Але, нягледзячы на яўны трыумф тэхнікі, найбольшы ўплыў на мяне ў той час меў мой дзед па бацьку, які стаяў як бы ў апазіцыі да ўсёй гэтай тэхнікі і навізны» (6, 532). Спрачацца не даводзіцца, быў Піліп Аляксандравіч Навуменка чалавекам каларытным. Атрымаўшы ад бацькі двухдзесяцінны надзел зямлі, лічыў сябе (і, здаецца, трошкі саманадзейна) моцным гаспадаром. Галадаць, вядома, не галадаў, але боты меў толькі адны, і абуваліся яны гады ў рады — па вялікіх святах ды пры наведванні царквы. Наступ тэхнічнага прагрэсу ўспрымаў крайне адмоўна, называючы яго д’яблавым промыслам. Самае цікавае, што падставы для незадаволенасці не заўсёды былі надуманыя. Пралягла, напрыклад, у 1886 годзе каля Васілевіч чыгунка Гомель — Лунінец, і праз нейкі дзясятак гадоў хапугі-камерсанты спляжылі ўнікальную Васілевіцкую пушчу, вывезлі многія тысячы кубаметраў дубняку за мяжу. Асушыў, напрыклад, генерал Жылінскі навакольныя балоты, і мноства птушак ды звяроў назаўсёды пакінулі васілевіцкія ваколіцы. Бурчэў, злаваўся дзед Піліп, але ніхто яго надта не слухаўся. Не паслухаўся яго ў свой час сын Якаў, калі пайшоў працаваць на чыгунку, не паслухаўся і ўнук Іван, калі паступіў напачатку ў піянеры, а потым у камсамол. Камсамольцаў дзед праклінаў з асаблівай лютасцю: як жа, гэтыя «антыхрысты» асмеліліся па бярвенцу разабраць царкву і збудаваць з іх Дом культуры, у якім ладзілі

розныя канцэрты і спектаклі, дэманстравалі кінафільмы. Слухаў дзеда Піліпа ўнук Іван, ды не слухаўся, бо добра бачыў, што надышоў новы час, які рашуча і безаглядна пераступіў цераз многія, на першы погляд яшчэ цалкам трывалыя аспекты ранейшага светаўладкавання. І наогул, вельмі складана вызначыць, чый уплыў на сталенне пэўнай асобы быў большы, а чый меншы або зусім ніякі. Уплывы — гэта духоўныя ўрокі, яркія ўражанні, памяць пра іх. І ніколі ніхто не ведае, дзе, калі, якім чынам і што канкрэтна з тых урокаў адгукнецца ў будучым.

У сталыя гады пісьменнік прызнаваўся, што яго ў дзяцінстве неадольна цягнула да рознага роду дзівакоў і неардынарных асоб. З імі было трошку страшнавата, але вельмі цікава. Яны запаміналіся, праз многія гады рабіліся прататыпамі некаторых герояў. Зрэшты, гэтыя несамавітыя, а часам проста неадэкватныя людзі дапамагалі юнаму Івану адэкватна ўспрымаць жыццё, бачыць яго аб'ёмна, стэрэаскапічна. Карціна свету, якую прэзентаваў, напрыклад, ідэалагічны работнік,— гэта адно, школьны настаўнік, іншы інтэлігент — другое, былы заможны гаспадар — трэцяе, а дзівакі прыадчынялі залюстэркавую рэальнасць, і яна не здавалася надта ўжо абсурднай. Полівалентная матрыца ўспрыняцця жыцця добратакі прыдалася для паспяховага засваення школьных прадметаў.

Сваю вучобу ў Васілевіцкай сярэдняй школе І. Навуменка ўспамінаў з непазбыўным гонарам. Вучоба яму давалася лёгка. Не было ніякіх праблем ні з матэматыкай, ні з хіміяй, ні з біялогіяй, але асабліва любіў ён літаратуру. Вершы пачаў пісаць яшчэ ў малодшых класах. Дасылаў іх і шматлікія нататкі-допісы ў мясцовую раённую газету. Сёе-тое з іх друкавалася. У старэйшых класах спрабаваў пісаць праблемныя артыкулы, рэцэнзіі на мастацкія творы. І хоць іх друкаваць не хацелі, гэта засмучала не вельмі моцна. Не надрукавалі сёння — надрукуюць заўтра. З вялікай надзеяй на светлую будучыню жыла ўся школа, і гэта не дзіўна: васілевіцкая дзесяцігодка была школай узорнай — гэтак званага сталінскага тыпу. Жыццё ў ёй проста віравала. Гарачыя дыскусіі на піянерскіх і камсамольскіх сходах, частыя выступленні тэатральных калектываў, струннага аркестра, яркія канцэрты юных вакалістаў... Навучальны працэс таксама быў на вышыні, таму выпускнікі школы дружна паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, у ваенныя вучылішчы. Гэта не магло не нараджаць у асяроддзі вучняў аптымістычна-рамантычных настрояў і мараў. Здавалася, уся краіна ўздыбілася ў агульным парыванні да новага, перадавога, лепшага. Фантастычныя пералёты савецкіх пілотаў, гераічнае выратаванне чалюскінцаў, працоўныя подзвігі

стаханаўцаў... Не застаўся ўбаку ад усеагульных памкненняў і будучы пісьменнік: за адзін год ён экстэрнам здаў экзамены за восьмы і дзявяты класы. Пра яго напісалі ў газетах, з павагай ціснулі яму руку знаёмыя і незнаёмыя людзі. Гарачая хваля самых смелых планаў на будучыню перапаўняла душу здольнага юнака. Але іх перакрэсліла вайна.

«Айчынная вайна,— прызнаваўся пісьменнік у 1962 годзе,— якая супала з маім юнацтвам, бадай, стала для мяне пачаткам актыўнага жыцця. За вайну прыйшлося пабачыць і перажыць усялякае. Тыдзень ці два ў першы месяц баёў быў у знішчальным батальёне, спаў з вучэбнай вінтоўкай на саломе ў клубе, пакуль непаўналетніх не адлічылі з гэтага батальёна. Потым, калі стала вядома, што мястэчка зоймуць фашысты, разам са школьнымі сябрамі рушыў у водступ, на ўсход. Але далёка адысці не давялося, вайна дагнала каля Дняпра» (6, 539).

Жудасная пашча фашысцкай акупацыі зашчоўкнулася, паўсюль запанаваў злавесны змрок смяротнай небяспекі, над усім навіслі чужая воля-прымус і бязлітасны фашысцкі штык. Здавалася, што пад цяжкім ботам акупантаў замерла, а можа, нават памерла ўсё жывое, захлынуўся ў немачы ўвесь забраны край. Асабліва балюча перажывала ваенную катастрофу менавіта юнае пакаленне. Яны беззапаветна верылі ў магутнасць Савецкай дзяржавы (падставы для гэтага былі, як гаворыцца, статыстычна бездакорныя), у непераможнасць Чырвонай Арміі (магчыма, фінская кампанія не выклікала яркіх уражанняў, затое ж былі бліскучыя вікторыі на возеры Хасан, пры Халхін-Голе; сюды ж можна дадаць беспраблемна-паспяховыя паходы чырвонага войска дзеля вызвалення заходніх рэгіёнаў Украіны і Беларусі). І хоць ведалі пра моц вермахта (што не ўдасца пазбегнуць ваеннага супрацьстаяння з фашысцкай Германіяй, не сумняваўся ніхто), усё ж мала каму здаваліся беспадстаўнымі прагнозы запісных стратэгаў-прапагандыстаў аб ваенных дзеяннях на чужых тэрыторыях, аб малой крыві і г. д. Чужыя тэрыторыі... Менш тыдня спатрэбілася гітлераўцам, каб захапіць Мінск... Васілевічы былі ім здадзены без адзінага стрэлу... Было ад чаго прыйсці ў адчай і роспач. Але дарэмна спадзяваліся захопнікі на пакорлівасць тутэйшага насельніцтва. Тым больш яго моладзевай часткі, якая атрымала трывалае патрыятычнае выхаванне ў сістэме школьнай адукацыі.

У энцыклапедычным артыкуле «Васілевіцкае камуністычнае падполле ў Вялікую Айчынную вайну» паведамляецца: «Дзейнічала з жн. 1941 да ліст. 1943 на тэр. Васілевіцкага р-на. Кіраўнік Ц. М. Астапенка (загінуў у ліп. 1942), потым М. С. Белы.

Аб'ядноўвала 5 груп (57 чал.): 2 у Васілевічах, кіраўнікі Л. П. Курганская-Сакалова, А. І. Белы; у в. Бабічы — П. А. Астапенка; в. Навінкі — А. Ф. Фралоў; в. Хамічы і Гогалева — С. П. Алісейка. Трымала сувязь з партыз. атрадамі Васілевіцкім і імя Варашылава.

Падпольшчыкі вялі паліт. работу, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, вялі разведку, папярэджвалі партызан і насельніцтва аб карных аперацыях гітлераўцаў, вывелі са строю эл. станцыю ў Васілевічах, падпалілі б. мэблевую ф-ку ў в. Бабічы, падарвалі вайск. эшалон на чыг. Калінкавічы — Рэчыца. У барацьбе з акупантамі загінулі С. П. Алісейка, М. І., Ц. М. і Я. А. Астапенкі, А. І., А. М. і Б. А. Белыя, А. П. Блізнец, М. Дз. Варажун, Дз. З. Гарбачоў, У. Дз. Жалезка, А. І. Жукоўская, Г. М. Журонак, М. І. Капітонава (Маўчан), Л. П. Курганская-Сакалова, М. П. Лаўшук, М. Я. Лобан, І. В. і Л. В. Мілановічы, Г. Мульменка, І. Сопат, Г. Г. Сыч, Б. М. Сячко, М. К. Трафімава, М. А. і Ф. Уласенкі, К. Ц. Храменка, І. Ф. Шавяленка, І. Ц. Шаўцоў, П. П. Штурма, Я. П. Шульга, В. І. Шчэрская (Белая)»[1].

І. Навуменка ўваходзіў у тую групу, якую ўзначальваў Анісім Белы. Складалася яна ў асноўным з камсамольцаў-школьнікаў: Мікалай Белы, Іван Доўжык, Кацярына Навуменка, Мікалай Пінчук, Васіль Грыцкін. Пазней да іх далучыліся аграном Даніла Драпеза, урачы Вікенцій Казюк, Канстанцін Горбар і іншыя. Асабліва эфектыўнай зрабілася дзейнасць падпольшчыкаў, калі яны наладзілі сувязь з разведгрупай капітана Фёдара Манзіенкі, закінутай з Масквы. З вялікай пільнасцю сачылі патрыёты за чыгункай, педантычна фіксуючы кожны эшалон, які накіроўваўся на фронт, вынаходліва выведваючы патрэбную на Вялікай зямлі інфармацыю пра нямецкія воінскія часці. Такая дзейнасць таіла ў сабе вялікую небяспеку. У ліпені 1942 года немцы расстралялі Анісіма Белага. Цудам застаўся ў жывых І. Навуменка. Яго пасля доўгіх і пакутлівых допытаў выпусцілі з засценкаў жандармерыі. Пасля гэтага працаваць давялося з падвоенай асцярожнасцю, але ва ўмовах невялікага гарадка цяжка было так закансліравацца, каб дасягнуць поўнай для сябе бяспекі, таму зусім лагічным з'явілася ў чэрвені 1943 года рашэнне пайсці ў лес, у партызанскі атрад. Быў разведчыкам, падтрымліваў сувязь з падпольшчыкамі Васілевіч і навакольных вёсак. З іншымі байцамі Васілевіцкай партызанскай брыгады імя Панамарэнкі дапамагаў

[1] Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя: у 5 т.— Мінск, 1978.— Т. 1.— С. 138.

Чырвонай Арміі вызваляць Васілевічы ад фашысцкай набрыдзі. Адразу ж быў мабілізаваны. Пасля кароткай падрыхтоўкі ў запасным палку трапіў на фронт. Удзельнічаў у баях пад Ленінградам, на Карэльскім перашыйку, ва Усходняй Прусіі і ў Сілезіі. Веданне нямецкай мовы і вопыт работы ў партызанскай разведцы прадвызначылі франтавы лёс І. Навуменкі: яго прызначылі палкавым перакладчыкам, а потым даручылі весці падслухоўванне тэлефонных перамоў прыфрантавых штабоў праціўніка. На перадавой «падзел працы» захоўваўся толькі ў перапынках паміж баямі, таму часта даводзілася І. Навуменку нароўні з астатнімі байцамі палка, прыкрыўшы сваю апаратуру плашч-палаткай, адбіваць атакі праціўніка. Быў паранены.

Ад выдатнага савецкага празаіка Ю. Бондарава давялося пачуць сцвярджэнне, што Вялікую Айчынную вайну выйгралі ўчарашнія дзесяцікласнікі. Гэта, вядома, метафара, але ў ёй утрымліваецца глыбокі і шматзначны сэнс. Сапраўды, з іх, адукаваных (да таго ж яшчэ і значкістаў БГПА, ГПА, «Варашылаўскі стралок» і г. д.), на франтах вайны фармаваўся асноўны кантынгент малодшых камандзіраў. З іх, ацалелых у смяротных віхурах перадавой, выраслі талковыя военачальнікі, якія ў разуменні сучаснай ваеннай стратэгіі пераўзыходзілі сваіх фашысцкіх візаві. Дзякуючы радыёперахопам таго ж І. Навуменкі ўдалося пры наступальных аперацыях, пазбегнуць страт у жывой сіле і тэхніцы.

Часам тое пакаленне называюць выбітым. І падставы нібыта для такога вызначэння ёсць. Згадаем, напрыклад, прызнанне І. Навуменкі, што з яго класа на вайну пайшло дзевятнаццаць хлопцаў, а вярнулася толькі чатыры. І ўсё ж іх дакладней будзе называць пакаленнем, якое не стала на калені. Яны дружна і самаахвярна ўзняліся на абарону Айчыны і ў смяротных бітвах адстаялі яе незалежнасць, гонар і славу.

У сярэдзіне снежня 1945 года на вуліцах Васілевіч паявіўся баявы, ардэнаносны вайсковец са старшынскімі нашыўкамі на пагонах. Землякі ў гэтым статным старшыні пазналі былога школьніка Івана Навуменку. Ён вярнуўся з вайны. З самай страшнай вайны. У ліку чатырох шчасліўчыкаў-аднакласнікаў, ацалелых у яе бязлітасным полымі. І было яму тады толькі дваццаць гадоў. Ну, хай сабе з нейкім хвосцікам. На добры лад, дык жыццё ў яго павінна было толькі-толькі пачынацца, а ён паспеў ужо пражыць некалькі жыццяў. І жыццяў, само сабой зразумела, не абы-якіх, а з лішкам перапоўненых экстрэмальнымі сітуацыямі, трагічнымі падзеямі, незваротнымі стратамі і крушэннямі надзённых мараў. І патрэбна было яму пачынаць новае жыццё. Ён і сам добра не ведаў, якое і як яго пачынаць.

Адно ён ведаў вельмі цвёрда: пасля **такой** вайны жыць як набяжыць не здолее — памяць пра загінулых хлопцаў-равеснікаў не дазволіць. У яго было шмат варыянтаў працаўладкавання, пры каласальным кадравым голадзе пасляваеннага часу ён мог зрабіць любую кар'еру. Але даўняя юнацкая мара стаць пісьменнікам перамагла. Уладкаванне на працу ў абласную газету «Бальшавік Палесся» ўласным карэспандэнтам па Васілевіцкім кусце (Васілевіцкі, Даманавіцкі, Калінкавіцкі і Хойніцкі раёны) і паступленне на завочнае аддзяленне філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта якраз і сталі важнымі прыступкамі да ажыццяўлення гэтай мары. Першая пасляваенная пяцігодка стала для І. Навуменкі па-сапраўднаму ўдарнай. Вучобу ён разглядаў як працу, а працу як вучобу. У асноўным пехатою, па разбітых пасляваенных дарогах, у залевы і завеі дабіраўся малады журналіст у самыя аддаленыя куточкі палескай глыбінкі, каб расказаць чытачам газеты пра нейкі цікавы факт, наватарскае пачынанне, пакрытыкаваць нядбайства і неразваротлівасць, парадавацца таму, што спаленыя фашыстамі вёскі адбудоўваюцца, што побыт палешукоў паступова набывае цывілізаваны кшталт. Вось некаторыя назвы яго публікацый у газеце «Бальшавік Палесся»: «Сур'ёзны прарыў», «У Васілевіцкай МТС зацягваюць рамонт трактараў», «Адраджэнне саўгаса "Ліпаў"», «Расказ дэпутата», «Высокі ўраджай першага пасляваеннага года», «На партыйным сходзе ў калгасе», «У Калінкавічах не будуюць цагельныя заводы», «Так вырасла новая вёска», «Агітатар у трактарнай брыгадзе», «Плады вялікай працы», «У Васілевічах губляюць час», «Багатая калгасная восень» і інш. У гэтых публікацыях яшчэ цяжкавата ўлавіць нейкія характэрныя адметнасці творчага почырку будучага празаіка. Але з-пад яго пяра ўсё часцей і часцей пачалі з'яўляцца публікацыі, у якіх газетчык яўна саступаў месца літаратару. Маюцца на ўвазе фельетоны «Прыходзіцца плаціць», «Спорт і бульба», «Звычайная гісторыя», «Пра залатую рыбку і рашэнне нарсуда» і інш. Падпісаны гэтыя фельетоны псеўданімам Сідар Кляшторны. Яшчэ больш адкрыта пра свае літаратурныя прэтэнзіі заявіў І. Навуменка публікацыяй вершаў «Вясна» (29 мая 1946 г. ), «Ты выйдзі, паслухай...» (5 снежня 1946 г.), «Ёлка» (1 студзеня 1947 г.), «Я голас аддам...» (9 лютага 1947 г.) і інш. Тое самае можна сказаць і пра яго рэцэнзіі на кнігі некаторых савецкіх пісьменнікаў. Не цяжка здагадацца, што чалавек, які ўмеў адрэцэнзаваць мастацкія творы вопытных майстроў, быў здольны аб'ектыўна ацаніць і ўласныя. І. Навуменка такую здольнасць меў. Ён добра разумеў, што без сістэматычнай, грунтоўнай адукацыі яму

няма чаго рабіць у прафесійнай літаратуры. Аматарства — так, тут ужо можна кожнаму ў ахвотку практыкавацца. Часцей за ўсё — для сябе і блізкіх знаёмых. Да прафесіяналаў, да сур'ёзных пісьменнікаў і патрабаванні вельмі сур'ёзныя. Таму і налягаў на вучобу з рэдкай сярод студэнтаў-завочнікаў апантанасцю. Затое і вынік атрымаўся рэдкі ў тым асяроддзі: чырвоны дыплом выдатніка і запрашэнне паступаць у аспірантуру. Адбылося гэта ў чэрвені 1950 года. У аспірантуру І. Навуменка аформіцца ў лістападзе наступнага года, а тым часам — праз месяц пасля сканчэння ўніверсітэта яго перавялі ў штат рэспубліканскай газеты «Звязда». Напачатку працаваў уласным карэспандэнтам па Палескай вобласці, а потым — літаратурным супрацоўнікам.

Пераезд у Мінск меў для І. Навуменкі надзвычай важнае значэнне. Тут, па-першае, былі непараўнальна лепшыя ўмовы для павышэння адукацыйнага ўзроўню. А па-другое, і гэта для яго творчага лёсу мела надзвычайнае значэнне, у сталіцы ён змог далучыцца да літаратурнага асяроддзя. Падарункам лёсу варта лічыць запрашэнне ў шэрагі арганізатараў новага літаратурнага выдання — часопіса «Маладосць», у якім за пяць гадоў працы (1953—1958) паспеў пабываць загадчыкам трох розных аддзелаў. Праца ў рэдакцыі дазволіла істотна пашырыць кола знаёмстваў у асяроддзі маладых пісьменнікаў, пабачыць літаратурны працэс знутры. Гэта дапамагло больш поўна зарыентавацца ў гэтым працэсе, абраць вектары ўласных мастацкіх пошукаў, што заўсёды з'яўлялася для кожнага маладога пісьменніка першачарговай (часцяком так цяжка вырашальнай) задачай. У нашым «практычным» літаратуразнаўстве трывала замацавалася легенда, што І. Навуменка ішоў у беларускую літаратуру па гладкай дарозе. І са словам у яго былі лады нібыта ледзь не са школьных гадоў. І з тэмай гэты стылёва прычасаны і правільны празаік быццам бы не меў ніякіх праблем, адразу абраўшы, ледзь не запатэнтаваўшы для сябе мастацкае асэнсаванне подзвігу сямнаццацігадовых у час Вялікай Айчыннай вайны. Каб гэта было так, дык наўрад ці з'явілася б гаркаватае прызнанне пісьменніка, што ў літаратуру ён прыйшоў позна — у трыццацігадовым узросце. І тут яго можна зразумець: у мясцовым друку ён пачаў выступаць яшчэ школьнікам, у рэспубліканскай газеце «Юный ленинец» яго верш «Новогодняя елка» з'явіўся 5 студзеня 1945 года, усе пасляваенныя гады яму давялося працаваць журналістам і мець штодзённыя стасункі са словам... Тым не менш гэтае «спазненне» варта было б яму ўзгадваць не са шкадаваннем, а з задавальненнем і ўспрымаць як вялікае

шанцаванне. Як гэта ні парадаксальна гучыць, але вельмі добра, што студэнцтва і аспіранцтва І. Навуменкі занялі практычна ўсё пасляваеннае дзесяцігоддзе, што ў яго, які надзвычай сур'ёзна ставіўся да вучобы, для мастацкай творчасці заставалася не дужа шмат часу — якраз столькі, каб метадам спроб і памылак вызначыць амаль паводле Маякоўскага: што такое добра і што такое дрэнна ў літаратуры. Як трэба пісаць, уяўлялі многія яго таварышы па пяры, а як не трэба — адзінкі. У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, калі догматы «тэорыі бесканфліктнасці» насаджаліся з настойлівасцю, вартай лепшага прымянення, гэта праблема мела асаблівую актуальнасць. У пошуках канфліктаў добрага з лепшым пісьменнікі міжвольна прыходзілі да лакіраванага паказу рэчаіснасці, да аблегчанасці і спрошчанасці ў асэнсаванні цяжкасцей і супярэчнасцей пасляваеннага жыцця. Па сутнасці, гэта было псеўдаасэнсаванне, таму рэдка які твор тагачаснай беларускай літаратуры можа прэтэндаваць на годнасць мастацкага дакумента эпохі. «Тэорыя бесканфліктнасці» асабліва небяспечнай была для маладой генерацыі пісьменнікаў: незайздросны лёс таго спевака, якому на самым пачатку спеўнай кар'еры кепска паставяць голас. І хоць ніхто не ведаў аўтараў гэтай тэорыі, і хай сабе нідзе не друкаваліся яе асноўныя пастулаты, уздзеянне яе на літаратуру было зусім рэальным і крайне негатыўным. Моцна даўся ў знакі нарматывізм; абмежаванне сатыры (яна ў савецкай літаратуры нібыта зжыла сябе, абагульняючы, завастраючы адмоўнае, быццам бы ўзводзіць паклёп на рэчаіснасць) прывяло да істотнага збяднення жанравых пошукаў. «Тэорыя бесканфліктнасці» вымушала пісьменнікаў парушаць многія асноўныя законы мастацкай творчасці. Адмоўныя наступствы доўга чакаць сябе не прымусілі: ва ўсіх літаратурных жанрах наглядалася паслабленне псіхалагізму, кампазіцыйная аморфнасць твораў, збедненасць, хадульнасць пафасу, здрабненне характараў і тэм.

Саюз пісьменнікаў СССР першага пасляваеннага дзесяцігоддзя — гэта колькітысячная супольнасць творчых асоб. Улады меркавалі, што аснову яе складала рахманая бальшыня, з якой можна лёгка дамовіцца па любых пытаннях партнёрскіх узаемаадносін. У тым ліку і творчых. Рэкамендацыя ж мастакам слова паказваць рэчаіснаць у трошку прыхарошаным выглядзе ўяўлялася кіраўнічым чыноўнікам ад культуры не проста актуальнай, а жыццёва неабходнай. Народ, маўляў, удосталь насёрбаўся гора і пакут за вайну; аднаўляючы разбураную гаспадарку, яму даводзіцца сутыкацца з такой агромністай масай цяжкасцей, супярэчнасцей і перашкод, што

трэба пашкадаваць яго псіхіку, і хай хоць на старонках кніжак пабачацца ўсім светлыя малюнкі мірнага жыцця, якія ў рэшце рэшт і будуць для ўсіх арыенцірам у побыце, у здзяйсняльнай працы, узорам для пераймання. Як і трэба было чакаць, грамадства дастаткова хутка перанасыцілася «алеаграфічнай» літаратурнай прадукцыяй і перастала яе ўспрымаць чыннікам, фактам мастацтва. Давялося шукаць нейкія альтэрнатыўна-кампрамісныя варыянты адлюстравання рэчаіснасці. І сёе-тое знайшлі. У прыватнасці, пісьменнік стаў больш свабодным у паказе адмоўных бакоў жыцця, так што можна было твор напаўняць любой канцэнтрацыяй гэтак званай чарнаты і не быць абвінавачаным у ачарненні савецкай явы. Але пры адной умове: твор павінен быў вызначацца аптымізмам і паказваць шляхі пераадолення ўсіх цяжкасцей і недахопаў. Дыхаць пісьменнікам стала лягчэй, многім з іх падалося, што з «тэорыяй бесканфліктнасці» наогул скончана. І. Навуменка легкаверным не быў. І чыстым эмпірыкам — таксама. Яму, штатнаму супрацоўніку часопіса, было выразна бачна, што адбылася не смерць, а танная мімікрыя «тэорыі бесканфліктнасці». Вышэй ужо казалася, што ў літаратуру ён ішоў шляхам уласных спроб і памылак. Да гэтага трэба дадаць, што ён пастаянна, хоць і не заўсёды паспяхова, стараўся не патрапіць у пракрустава ложа згаданай тэорыі. У пошуках сваёй сцяжыны яму даводзілася збочваць з торных дарог і бальшакоў, асвоеных папярэднікамі, зварочваць на зыбучыя просекі творчай нязведанасці. І яму, палешуку, не трэба было тлумачыць, як хадзіць па такіх падступных паверхнях, бо з дзяцінства ён засвоіў: твань абмінай, ступай рашуча на самыя высокія купіны і нідзе не застойвайся — багна нерухомы цяжар абавязкова засмоктвае. Ведаў ён і тое, што на хісткіх месцах не трэба губляць галавы, а добра ўсведамляць: куды і дзеля чаго ідзеш, іначай трывалы грунт не хутка адчуеш пад сваімі нагамі. Ён ведаў і ішоў. Агледліва, без спешкі, але рашуча. Самым прадказальным творам ранняга І. Навуменкі варта лічыць апавяданне «Вясновыя праталіны» (1955), бо ніяк не мог літаратар, які меў шматгадовы стаж журналісцкай працы ў палескай глыбінцы, абмінуць тэму сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, што адбываліся ў тагачаснай сельскай рэчаіснасці. Галоўным героем апавядання стаў «дваццаціпяцітысячнік» Мікалай Аляксеевіч Голуб, які з прэстыжнай пасады агранома абласнога сельскагаспадарчага ўпраўлення прыехаў працаваць старшынёй аднаго з самых адсталых калгасаў. Вельмі старанна і шчодра, хоць і не перабіраючы мастацкую меру, надзяляе яго пісьменнік станоўчымі рысамі характару.

Розум, воля, сумленнасць, працавітасць, настойлівасць. І самаахвярнасць. На думку маладога аўтара, толькі валодаючы такім наборам індывідуальных якасцей, мог адважыцца пэўны чалавек узяць на сябе місію выратавальніка безнадзейна запушчанай гаспадаркі. Менавіта за такім чалавекам маглі пайсці калгаснікі, знявераныя доўгімі гадамі пустапарожняга працадня. Аднак жа вера ў новага лідара прыходзіць не адразу. Столькі часу выдаткаваў новы старшыня, каб скласці навукова абгрунтаваны — з канкрэтнымі лічбамі і эканамічнымі выкладкамі — план вываду гаспадаркі з прарыву, а калгаснікі яго даклад на агульным сходзе ўспрынялі не проста абыякава, а нават насмешліва-скептычна. Бо слова, калі яно не падмацавана справай, толькі словам і застаецца; ранейшым часам калгаснікі наслухаліся столькі і такіх абяцанкаў, што перасталі рэагаваць і на адэкватныя прапазіцыі. Зрэшты, у Мікалая Аляксеевіча пад рукамі было не дужа многа аргументаў і сродкаў дзеля паразумення з простымі працаўнікамі, і пісьменнік выдатна гэта ўсведамляў. Таму і з'явілася ў апавяданні гісторыя, неабходнасць якой у яго сюжэтнай канве бясспрэчнай не ўяўляецца: дабіраючыся да райцэнтра, правальваецца герой разам з санямі і канём пад лёд рэчкі Мядзведкі; моцна прастудзіўся, у пакутлівай гарачцы, на мяжы жыцця і смерці ачуньваў чамусьці не ў бальніцы, а пад міласэрным наглядам мясцовых калгасніц. Сапраўды ўжо, не было б шчасця, дык няшчасце дапамагло. Лёд адчужанасці і недаверу ў душах сялян растапіўся, яны ўсё дружней і дружней пачалі выходзіць на работу. І з'явілася ў душы старшыні спакойная ўпэўненасць. Яшчэ вельмі далёка было да багатых ураджаяў, высокіх прыбыткаў і важкіх працадзён, але як вясновыя праталіны, што з'явіліся на вуліцах вёскі і за яе аколіцамі, звеставалі пра набліжэнне цяпла і росквіту прыроды, так і пералом у душах людзей (а ён прачытваўся ў добразычлівых позірках, жаданні дапамагчы, у многіх іншых дробязях) мацаваў надзеі на блізкія поспехі калгаса.

Над апавяданнем «Вясновыя праталіны» І. Навуменка працаваў даволі працяглы час. І хоць яно не прынесла яму вялікага мастацкага задавальнення і пазней не называлася ім сярод лепшых сваіх творчых дасягненняў, аднак для набыцця і замацавання пісьменніцкага вопыту яно саслужыла проста неацэнную службу. У гэтым апавяданні нядаўні нарысіст на шырокім абсягу жыццёвага матэрыялу выпрабоўваў белетрыстычныя падыходы ў яго асэнсаванні, прадэманстраваў калі не майстэрства, дык добрае прафесійнае ўмельства празаіка. Да гэтага неабходна дадаць адну

надзвычай важную дэталь: вопыт працы над апавяданнем адкрыў маладому пісьменніку вочы на праблему адказнасці творцы перад сваёй прафесіяй. Ён добра зразумеў, што да творчасці трэба падыходзіць з адкрытым сэрцам і шчырым сумленнем, што любыя хітрыкі згубна адаб'юцца на ёй. Здавалася, вунь колькі сказана ў апавяданні праўдзівых слоў аб гаротным становішчы пасляваеннай беларускай вёскі, але сябе самога не ашукаеш: «тэорыя бесканфліктнасці» пастаянна дыхала ў патыліцу, паказваючы аблегчаныя шляхі вырашэння рэальных калізій. Уплыў клятай «тэорыі» праявіўся і ў трафарэтнасці сюжэта апавядання. Можна дзясяткамі называць творы і не толькі ў прозе, але і ў драматургіі, у якіх развал пэўнага калгаса ці завода тлумачыўся разгільдзяйствам іх кіраўнікоў, у якіх становішча лёгка выпраўлялася прызначэннем на гэтыя пасады прыстойных людзей.

Апавяданне датуецца аўтарам 1955 годам. Менавіта ў сярэдзіне 1950-х гадоў адбываўся ў яго інтэнсіўны пошук уласнай творчай самасці. Вялікі жыццёвы вопыт і грунтоўная філалагічная адукацыя дазволілі яму абраць у цэлым плённыя вектары мастацкага здзяйснення. Ратуючыся ад навязлівых, падманліва-камфортных абдымкаў «тэорыі бесканфліктнасці», малады пісьменнік, выпрабаваўшы сваё пяро на асэнсаванні сучаснай, актуальнай тэматыкі ў апавяданнях «Мішаў калейдаскоп» (1954), «Над ціхай Віццю» (1955), «Дэлегаты з Бярэзнікаў» (1956), «Сельская ідылія» (1956), «Ганьба «святога» Лукі» (1956), «На вішнёвай вуліцы» (1957), «Два студэнты» (1957), «Рэдактарава хата» (1957) і іншых, шчасліва збочыў хай, магчыма, і не на цалік, але, прынамсі, і не на надта ўтаптаную ідэйна-тэматычную сцяжыну, распачаўшы аповед — усхваляваны, рамантычна-ўзнёслы, але паслядоўна праўдзівы — пра подзвіг юных патрыётаў у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Слова пра пакаленне сямнаццацігадовых, што не стала на калені ў пякельна жорсткіх умовах Вялікай Айчыннай вайны, стала навуменкаўскім брэндам. А «прамаркіраваў» гэту святую тэму пісьменнік невялікім, усяго ў тры апавяданні, зборнічкам «Сямнаццатай вясной» (1957), які выйшаў у «Бібліятэчцы беларускага нарыса і апавядання». Рэцэнзенты (Н. Гілевіч, М. Лазарук, І. Скапараў) аднадушна віталі прыход у беларускую літаратуру таленавітага пісьменніка з адметнай манерай пісьма і са сваёй тэмай. Нараіў жа былому падпольшчыку і Івану Навуменку зрабіць менавіта такі адбор апавяданняў у зборнік і даць менавіта такую яму назву былы камандзір штрафной роты Аляксей Кулакоўскі, які выспаведваў залатое правіла: пісаць трэба пра тое,

што табе дорага; пра тое, што табе добра вядома; і пра тое, пра што лепш за цябе не скажа ніхто. Уся згаданая трыяда для І. Навуменкі найлепшым чынам карэлявала якраз з тэматычным блокам «моладзь партызанская»: ніхто ў тагачаснай беларускай літаратуры не мог зраўняцца з ім у веданні гэтай тэмы. Пры адборы апавяданняў у зборнік улічваліся не толькі сюжэтная фактура, але і іх стылёва-выяўленчыя асаблівасці. Тады яшчэ не было звычкі праводзіць маніторынгі літаратурнага працэсу, затое сустрэч з чытачамі ставала (як ставала, дарэчы, у самай чытаючай краіне свету і саміх чытачоў). У часопісе «Маладосць» былі свае чытачы, і, каб пашырыць іх кола, даводзілася вывучаць чытацкія арыентацыі і зацікаўленасці комплексна. Гэта дапамагло ўсвядоміць, што нейкага спецыфічна моладзевага стылю ў літаратуры быць не можа, а вось на ўзроўні манеры падачы матэрыялу нейкія карэляцыйныя захады варта рабіць. Напрыклад, як гэта зрабіў І. Навуменка ў апавяданні «Сямнаццатай вясной», праявіўшы сябе ў пэўнай меры наватарам. Дапусцім, такія мадыфікацыі празаічнага твора — апавяданне ад імя «я-героя» былі добра вядомы як у сусветнай, так і ў савецкай літаратуры; падкрэсленая экзальтаванасць, самакрытычная іранічнасць — аж да самапрыніжэння — споведзі героя таксама навіной не з’яўлялася. А вось выкарыстанне згаданых выяўленчых прыёмаў дзеля большай выразнасці пры паказе героікі Вялікай Айчыннай вайны ў тагачаснай савецкай літаратуры сустракалася крайне рэдка. Больш звыкла ўсё ж было гаварыць пра подзвіг народа ў мінулай вайне высокай мовай рэквіема, прынамсі, прытрымлівацца стрыманых інтанацый, адпаведных суровай рэчаіснасці таго часу. Ці гэта таму, што апавяданне з’явілася напачатку гэтак званай хрушчоўскай адлігі, ці, можа, мы, сучаснікі, схільны перабольшваць практыку табуіравання, рэгламентацыі метаду сацыялістычнага рэалізму, але за яўнае творчае вальнадумства маладога празаіка ніхто не ўшчуваў, затое хвалілі многія. Якая ні была б танальнасць апавядання, але пісьменніку з дапамогай антытэзійнага спосабу асвятлення матэрыялу ўдалося дасягнуць значнай (перш за ўсё ў эмацыянальным плане) выразнасці. Лішкам дысанансаў вызначаецца сам падзейны фон апавядання. Сямнаццатая вясна для яго галоўнага героя выдалася надзвычай прыгожай, багатай на кветкі, цеплыню, на тыя цудоўныя дні, калі здаецца, што сама зямля спявае хвалу сонцу, высокаму небу і жыццю. Але на зямлі вайна, акупацыя. Вось яны і наклалі свой злавесны адбітак на ўсё і на ўсіх. Сямнаццацігадовыя такой парой звычайна апанаваныя школьнымі экзаменацыйнымі клопатамі. Аднак зараз у

мясцовай школе размясціўся нямецкі камендант, які менш за ўсё турбаваўся, што камусьці трэба вучыцца. Не сеяла больш школа добрае, мудрае, вечнае, адтуль цяпер выходзілі пагрозныя загады, скіраваныя на ўсталяванне «новага парадку», за невыкананне якіх дэкляравалася смяротнае пакаранне.

Яшчэ большы разлад адбываўся ў душах тых, хто ў грозным 1942 годзе сустракаў сваю сямнаццатую вясну і ўпотай збіраў зброю, каб мець магчымасць весці бязлітасную барацьбу з акупантамі. Ім, пасіянарным патрыётам, былі не вельмі зразумелыя, дакладней, не дужа прымальныя паводзіны некаторых іх землякоў. Асабліва абуральнымі здаліся паводзіны часткі моладзі: у час, калі Радзіма стагнала пад пятой акупантаў, калі кругом лілася кроў, яны збіраліся пад вечар у станцыйным скверыку, размаўлялі, смяяліся, іншы раз — о жах! — наладжвалі танцы. Разгневаны Мікола Біцюг гатовы шпурнуць гранату ў гэтых здрадніц-дзяўчат, што танцуюць на заасфальтаванай пляцоўцы,— знайшлі, бачыце, час весяліцца, асабістае жыццё, розныя жыцейскія ўцехі неабходна адкласці да перамогі над ворагамі. І вось тут юнацкі максімалізм быў пасаромлены законамі прыроды. Чалавек народжаны не для вайны. Жывому — жыць. Пры любых умовах. Менавіта таму і «спатыкнуўся» галоўны герой апавядання, які, насуперак шчырым абяцанням трываць да канца вайны, самым ганебным, паводле яго горкага прызнання, чынам закахаўся. І нічога з сабою зрабіць не мог, бо гэта стройнае, тоненькае дзяўчо ў белай сукенцы і белым капялюшыку на галаве з першай жа сустрэчы займела над ім асаблівую ўладу. Марнымі аказаліся любыя спробы развеяць салодкі чмут, назваўшы ў думках дзяўчыну асобай пустой, нікчэмнай, не вартай увагі хоць бы за яе бестурботны смех (у такі час!), за яе звонкае шчабятанне.

«Я быў поўны абурэння і гневу,— прызнаецца юнак.— Справа ў тым, што хоць я яшчэ не зрабіў ніводнага подзвігу, але ў глыбіні душы лічыў сябе здольным на гераічныя ўчынкі. У сваім уяўленні я маляваў сябе ў розных геройскіх ролях. Вось я на вачах у дзяўчыны забіваю нямецкага каменданта, забіваю Кірылу Сёхмана, забіваю цэлы дзясятак фашыстаў, нарэшце, падаю забіты сам... Белая дзяўчына перастала смяяцца, у яе вачах захапленне, роспач, пакута. Яна плача, вінаваціць сябе за свой смех. Яна становіцца другой...» (1, 182).

У гэтым самапрызнанні таксама не абышлося без кантраверзійных праяў. Скрозь флёр наіўных карцінна-гераічных трызненняў героя яўна праступае не проста гонар, а ганарлівасць: вось, маўляў,

толькі я ды яшчэ мае сябры-аднакласнікі засталіся сапраўднымі патрыётамі, гатовымі ўступіць у адчайную барацьбу з акупантамі. А астатнія... Куды ім да нас. Не вытрымалі яны выпрабавання суровым часам.

І якое ж было здзіўленне маладых ганарліўцаў, калі яны даведаліся, што ў мястэчку нехта расклеіў антыфашысцкія лістоўкі, а таксама спаліў парню, прадукцыю якой немцы актыўна вывозілі для нейкіх сваіх патрэб. І зрабілі гэта не партызаны, а хтосьці з мясцовых. З астатніх! Неўзабаве сваю лепту ў барацьбе з акупантамі ўнеслі і яны: узарвалі на чыгунцы масток, забілі ненавіснага паліцэйскага Кірылу Сёхмана, які падсцерагаў іх у засадзе, калі яны вярталіся з падрыўной аперацыі. Сама ж аперацыя прайшла вельмі ўдала. Праўда, адзін з падрыўнікоў падчас уцёкаў з месца выбуху ўмудрыўся моцна параніць нагу. І тут хлопцаў чакала чарговая неспадзяванка. Паводле іроніі лёсу менавіта «здрадніца» Стася, тая самая тоненькая дзяўчына ў белай сукенцы, якая працавала ў аптэцы, перадала бінт і медыкаменты для лекавання.

Не ўшчувалі маладога пісьменніка і за апавяданне «Трое з зялёнай будкі» (1956), у якім таксама адчуваецца стоеная палеміка з практыкай паказу «катурнавага» гераізму. Носьбітам гераічных пачаткаў абраны персанаж, не дужа рэспектабельны ў многіх аспектах. Нават завуць яго неяк несур’ёзна — Саша Пецік. І прафесію ён абраў яшчэ тую — цырульнік! Да таго ж, перад самай вайной малады чалавек за ўчынены па недаглядзе пажар у цырульні і перарасход адэкалону народным судом быў прыгавораны да трох месяцаў прымусовых работ. Вярнуўся Пецік у мястэчка толькі ўлетку 1943 года, на пачатку трэцяга года вайны. У зялёнай будцы каля самага вакзала адчыніў з дазволу нямецкага каменданта цырульню. На гэты раз уласную, паводле патэнта. Падстрыгаў кліентам валасы, ладзячы няхітрыя прычоскі, галіў бароды, і нікому і ў галаву не прыходзіла, чаму гэта ён так пільна праводзіў позіркам кожны нямецкі воінскі эшалон, які праходзіў праз станцыю на ўсход. Толькі ад прыбіральшчыцы цёткі Мальвіны і падсобніка Сілы Прохаравіча доўга таіцца не ўдалося. Першая з іх «вывудзіла» са схованкі ў сцяне толавую міну і з кплівай усмешкай выслухоўвала тлумачэнні Пеціка, што гэта, маўляў, нямецкае мыла, бо бачыла, як такім «мылам» савецкія салдаты пры адступленні ў 1941 годзе ўзарвалі на станцыі вадакачку. Сіла ж Прохаравіч, былы прафесійны тэлеграфіст, паслухаўшы, як аднойчы Пецік у задуменні, машынальна, але на дзіва дакладна і ўпэўнена выстуквае азбукай Морзэ імя каханай дзяўчыны, адразу

ідэнтыфікаваў у асобе гаспадара зялёнай будкі вопытнага разведчыка. Адно яго моцна турбавала: канспіратар з Пеціка атрымаўся не дужа здатны, невыпадкова ж яго сувязнікоў змагла «вылічыць» нават прастадушная цётка Мальвіна. А каб нічога лішняга не ўчулі, не змаглі вылічыць ворагі, Сіла Прохаравіч на час сустрэч рэзідэнта з сувязнікамі выходзіў з будкі і станавіўся на варту.

У зялёнай будцы іх было толькі трое. Трое — лічэбнік зборны і вызначае не столькі колькасць, колькі мае на ўвазе пэўнае адзінства. Напачатку ні пра якое адзінства не магло ісці нават гаворкі, бо лёс звёў іх разам з самых розных прычын, а суровы акупацыйны час не дазваляў быць надта адкрытымі. З'яднала іх агульная бяда — варожае нашэсце, выратавацца ад якога, як і ад іншага стыхійнага бедства, можна было толькі агульнымі намаганнямі, талакой. У старажытнасці гэта яшчэ называлася народным рушэннем. Сіла Прохаравіч зусім рэзонна сцвярджаў, што адзін, без народа, нічога не зробіш і нічога ад яго не схаваеш. Сапраўды, у Пеціка пасля здзяйснення ім падрыву воінскага эшалона без дапамогі землякоў не было ніводнага шанца выжыць. Гэта з аднаго боку. А з другога, менавіта Пецік сваімі актыўнымі дзеяннямі даў магчымасць сваім добраахвотным памочнікам актыўна далучыцца да руху супраціўлення. Можна дапусціць, па вялікім рахунку, што недапамога, несадзейнічанне ворагу ўжо само па сабе з'яўляецца праявай барацьбы з ім. Гэта так, і гэта зусім не пярэчыць выснове, што лёс вайны вырашаецца на полі брані, проста ў перамогі ёсць не толькі аверс і рэверс, а шмат іншых бакоў і граней.

Андрэй Макаёнак на адной з чытацкіх сустрэч прызнаўся, што на першых пасляваенных семінарах маладых пісьменнікаў яны, нядаўнія франтавікі і партызаны, дамаўляліся пісаць калектыўную мастацкую гісторыю Вялікай Айчыннай вайны. Кожны пра тое, што найлепей ведаў. Вышэй ужо адзначалася, што І. Навуменка амаль манапольна валадарыў у тэматычным сегменце беларускай літаратуры 1950—1960 гадоў, які называўся «подзвіг сямнаццацігадовых». Яго апавяданні на гэту тэматыку ахвотна друкаваліся, падтрымліваліся крытыкай, паколькі вызначаліся альбо глыбінёй псіхалагічнага аналізу («Вераніка», 1957), альбо эксклюзіўнасцю фактычнага матэрыялу («Эх, махорачка», 1955; «Сідар і Гараська», 1955; «Выпадак з гладышкаю», 1956; «Верасы на выжарынах», 1959; «Па махорку», 1960; «Соль», 1961; «У шалашах», 1961 і інш.). Маральным імператывам для герояў гэтых твораў стаў беззапаветны патрыятызм. Дарэчы, І. Навуменка вельмі любіў адно са сваіх самых

ранніх апавяданняў «Настаўнік чарчэння» (1956), у якім школьны выкладчык чарчэння і малявання Апалінарый Феактыставіч, мілы дзівак у нязменным чорным сурдуце яшчэ дарэвалюцыйных часоў, сам таго не падазраваючы, вызначыў паводзіны сваіх выхаванцаў і — яшчэ шырэй — іх савецкіх равеснікаў у будучай вайне антычным выслоўем: «Patriam nostrum amare et defendere debemus» — «Радзіму нашу любім і абараняць яе павінны». Пісаць пра такіх герояў — занятак ва ўсіх адносінах пачэсны. І ў маладога пісьменніка ставала фактычнага матэрыялу для напісання многіх і многіх апавяданняў падобнага плана. Аднак ён памятаў галоўныя запаведзі літаратурнай творчасці, а адна з іх вучыла пазбягаць аднастайнасці, манатоннае выкарыстанне нават самых яркіх фарбаў хутка надакучвае. Вопыт папярэднікаў сведчыў, што індывідуальная творчая палітра кожнага пісьменніка значна ўзбагачаецца за кошт прыродаапісальніцтва. І наогул, гэту праблему праніклівы Максім Багдановіч уздымаў у свой час з індывідуальнага да агульнанацыянальнага ўзроўню. Паколькі край беларускі лясісты і балоцісты, сцвярджаў ён, дык неабходна ствараць паэзію лесу, паэзію дрыгвы. У гэтым закліку І. Навуменку прываблівала прапазіцыя не проста, не самамэтна жывапісаць вячыстае хараство пушчаў ды балот, а, падмеціўшы характэрныя асаблівасці іх красы і рытмікі, выносіць на шырокі свет. Уменне заўважаць такія асаблівасці ён дэманстраваў ужо ў некаторых сваіх самых ранніх творах, асабліва ж ярка праявіў яго ў апавяданні «Прыпяцкая зона» (1958). Сюжэт у ім практычна адсутнічае, але прачытваецца яно на адным дыханні, бо латва саткана з майстравіта выпісаных пейзажных замалёвак, пададзеных праз лірычнае ўспрыняцце журналіста, які прыехаў у паўднёвы надпрыпяцкі раён Беларусі і мусіў пешкі дабірацца ў адну з яго вельмі аддаленых вёсак. Яму ўжо даводзілася бываць у гэтым дзівосным рэгіёне, дзе сустракаліся розныя геаграфічныя стыхіі: стэпавая Украіна і кусціста-лясіста-балотная Беларусь. Мясцовасць запомнілася многімі асаблівасцямі, а найбольш — сваімі прыроднымі кантрастамі.

«Сонца ўзыходзіць на стэпавай роўнядзі неяк нечакана. Ледзь-ледзь зардзее на ўсходзе вузенькая палоска, а праз якую-небудзь хвіліну ўжо ўсё наваколле заліта пераліўным, зіхатлівым бляскам. Гэта зусім не падобна на той мяккі, павольны ўсход, які можна наглядаць каля атуленай лясамі і хмызнякамі Прыпяці. Сонца паводзіць сябе тут зусім па-іншаму. Яно тут як ветлівы наведвальнік, які ніколі не зойдзе ў хату, папярэдне не пастукаўшы ў дзверы. Спачатку лёг-

кая чырвань зайграе ў вяршалінах далёкага бору, потым сонечныя зайчыкі, нібы прабуючы сваю моц, лягуць на спакойныя хвалі ракі, і толькі калі яна ўсміхнецца, ясна і прыветліва, сонца поўнай жменяй кіне свае праменні ў шыбіны вясковых хат...

А вазьміце вецер. Сярод палявога прастору ён свавольны і нахабны. Ён як хоча разгульвае па пыльнай дарозе, прыгінае да самай зямлі пшаніцу, прымушае кланяцца гордыя сланечнікі, уздзірае саламяныя стрэхі хат. Ля Прыпяці ж вецер куды асцеражнейшы. Ён тут калі і разыдзецца, то з ім ёсць каму паспрачацца. Насупіцца і загамоніць лес, трывожна зашэпчуцца прыбярэжныя лазнякі, а разгневаная Прыпяць высока ўздымае свае празрыстыя хвалі, кідаючы іх адну за другой на нізкія берагі...» (1, 390).

Журналіста чакала вельмі доўгая дарога, але гэта яго не палохала, не раздражняла. Ён любіў гэты куточак роднай зямлі, быў шчыра рады новай з ім сустрэчы. Замілаваным поглядам адзначыў ён, як гэтым сонечным восеньскім днём зусім па-летняму дрыжала сіняватая смуга над пыльнай дарогай, як хараша буяла на лугавінах зялёная атава, а ў палісаднічках каля вясковых хат са сціплай настойлівасцю хваліліся сваёй някідкай прыгажосцю вяргіні і астры. Цёпламу, яснаму дню радавалася кожная жывая істота. У вышынным паднябессі апісвае плаўныя кругі коршак, грацыёзна выпрабоўваюць моц сваіх крылляў імклівыя ластаўкі, а ў густой лістоце бярозы бесклапотна цінькаюць сініцы... У ніжніх ярусах бачнай «айкумены» таксама кіпела-праяўлялася актыўнасць мірыядаў крылатых і бяскрылых кузурак ды мурашак. І праяўлялася з нейкай дзівоснай гарманічнасцю, суладнасцю з усім. «Маю істоту,— прызнаецца аўтабіяграфічны герой апавядання,— перапаўняе адчуванне непарыўнасці, еднасці душы і цела з усім гэтым бясконцым і дзівосным харалам жыцця. Я думаю пра сонца, пра гэтага нястомнага і бескарыслівага сейбіта, якім пасеяна ўсё жывое на зямлі. Сонца дае цеплыню і святло, зямля свае жыватворныя сокі, але хто сее прыгажосць, радасць, несмяротнасць жыцця? Адкуль у прыродзе такое багацце і разнаітасць форм? Хто той нябачны мастак і дэкаратар, які так прыгожа расквеціў і аздобіў зямлю, стварыў гэтую бясконцую сімфонію фарбаў, гукаў, ліній? Паводле якога закону з маленькага лятучага зярнятка вымахала вось гэтая беластволая бяроза з раскідзістай шапкай-кучмой? Дзе, у якім сейфе схаваны чарцёж, адпаведна якому яна расла, усё шырэй і шырэй раскідаючы зялёнае голле, цягнучыся сваёй вяршалінай да сонца, да святла?..» (1, 392—393).

Прыродаапісальніцтва (або пейзажнасць, як гэта часта, але не зусім карэктна называецца ў практычным літаратуразнаўстве) яркім дыяментам зззяе ў творчай кароне многіх усходнеславянскіх пісьменнікаў. Пад умелым пяром лепшых з іх такія апісанні нярэдка набываюць самакаштоўны кшталт — уяўляюць сабой карціны-перлінкі, узор жывапісу словам. Але ў літаратуры ім усё ж павінна адводзіцца перш за ўсё характаралагічная роля. У гэтым аспекце І. Навуменка найбольш паспяховымі лічыў скандынаўскіх пісьменнікаў, творчая манера некаторых з іх была яму вельмі блізкай, роднаснай. «У аповесцях і раманах Сельмы Легерлёф, і асабліва Кнута Гамсуна («Містэрыі», «Пан»), некаторым чынам рэалізавана тэорыя «натуральнага чалавека». Але справа, відаць, не столькі ў тэорыі, колькі ў тым, што па ўмовах жыцця (блізкага ў пэўнай меры і да сялянскага побыту Беларусі з яго культам лесу, балота, рэчкі, возера) героі, скажам, твораў Кнута Гамсуна ці «Калевалы» пастаўлены адзін на адзін з прыродай, а гэта ў сваю чаргу нараджае іх асаблівае светаадчуванне, светабачанне, адметнае кола паэзіі і надзвычай цвёрдых, як бы падсветленых вякамі існавання «ляснога», «балотнага» народа, маральна-этычных уяўленняў»[1].

У прыведзенай вышэй цытаце І. Навуменка зусім не выпадкова акцэнтуе ўвагу на Кнуце Гамсуне, з творчасцю якога пазнаёміўся яшчэ да вайны, у школьным узросце. Уражанне ад прачытанага было выключна моцным — на ўсё жыццё. Але гаварыць пра непасрэдны, на ўзроўні наследаванняў, уплыў вялікага нарвежца на яго творчасць трэба з вялікай асцярожнасцю. Разам з тым гэтак званыя тыпалагічныя сыходжанні проста-такі кідаюцца ў вочы. Пачнём з таго, што абодва пісьменнікі з'яўляліся прадстаўнікамі не надта вялікіх еўрапейскіх краін, былі сынамі аграрных, сялянскіх народаў, якія пражывалі на лясістых, балотных тэрыторыях. Кожны з іх, шчасліва пераадолеўшы шлях ад стыхійнага да асэнсавана-філасофскага, мастацкага антрапамарфізму, выдатна разумеў прыроду, валодаў надзвычайнай здольнасцю разгледзець і тонка перадаць ашчадным словам хараство і эпічную веліч адвечнага кругабегу прыродных з'яў: фатальнага восеньскага адмірання і рэнесанснага вясновага ўваскрэсення, якія наглядна выяўляюць аб'ектыўную абумоўленасць і неабходнасць існавання кожнага дрэва, кожнай кветкі і раслінкі-былінкі. Шмат агульнага маюць пісьменнікі і ў

[1] Навуменка, І. Якуб Колас. Духоўны воблік героя.— Мінск, 1968.— С. 68.

бачанні месца чалавека ў найскладанейшай структуры глабальнай светабудовы. Гэта агульнасць была абумоўлена асаблівасцямі іх творчых індывідуальнасцей, якія складваліся ў кожнага з іх пад уплывам шмат у чым падобных кліматычна-экатопных і ментальна-псіхалагічных фактараў. А таксама — іх верай у містэральную сувязь чалавечай душы і прыроды.

Выдатны рускі літаратуразнавец Б. Сучкоў у прадмове да шасцітомнага Збору твораў К. Гамсуна з захапленнем адзначаў яго майстэрства ў апісанні прыроды, здольнасць скупымі вербальнымі сродкамі перадаваць велічную прыгажосць наваколля, даўкі пах горных лугоў, нямую цішыню месячнай ночы, трывожнае пабліскванне далёкіх маланак і г. д. Захапляла рускага даследчыка і іншае. «Але яшчэ больш уражліва,— прызнаваўся ён,— чым жыццё прыроды, апісваў ён жыццё чалавечых пачуццяў, дысгарманічнасць унутранага свету чалавека, уладную знявольваючую сілу любоўнай жарсці, яе дзівацтвы і алагічнасці, заблытаную гульню чалавечых эмоцый, канфліктнасць і антаганічнасць адносін, якія схаваны за абыдзёншчынай і звыкласцю штодзённага людскога існавання»[1].

Кажуць, што чалавек — дзіця прыроды. Вянец ён яе ці біч, бастард і цвіль — няважна. Для прадмета нашай гаворкі важна тое, што і прырода, і чалавек у выяўленні свайго «нораву» маюць шмат агульнага (менавіта таму і ўзнікла на гэтым грунце так шмат метафар-прыпадабненняў). Для абазначэння буяння прыроды ўжываецца лексема «стыхія». У паняцці «стыхія пачуццяў чалавечых характараў» мы ўкладваем трошкі іншы змест і сэнс. Але ў гнасеалагічным плане іх аб’ядноўвае выснова: вытлумачальна, але некіруема (прынамсі, цяжкакіруема). І часта гэтая некіруемасць да крайнасці ўскладняла жыццё пэўнаму чалавеку, пракліналася ім за гэта, але ўспрымалася аб’ектыўнай дадзенасцю — насланнём року, псіхалагічным ачмурэннем. Затое пісьменнікамі яна цанілася ва ўсе часы, паколькі абумоўлівала з’яўленне спецыфічных найвастрэйшых маральна-этычных калізій, асэнсаванне якіх вымагала значных мастацкіх, а часам і філасофска-ментальных абагульненняў.

Пра падабенства экалагічна-побытавых кампанентаў існавання скандынаваў і беларусаў І. Навуменка гаварыў неаднойчы. Іншая справа — ментальныя адзнакі: тут пісьменнік выказваўся больш асцярожна, бо добра ведаў, што прырода толькі закладвае асновы

---

[1] Цыт. паводле: Сучков, Б. Кнут Гамсун // Гамсун Кнут. Собрание сочинений: в 6 т.— Москва, 1991.— Т. 1.— С. 5.

характару пэўнага этнасу, а шліфоўку, агранку для яго здзяйсняюць гісторыя, лёс. Да творчасці І. Навуменкі цалкам стасуюцца высновы Б. Сучкова, сфармуляваныя ім у прыведзенай вышэй цытаце адносна прозы К. Гамсуна. Бо і сапраўды, беларускі пісьменнік не менш пераканаўча і ўражліва за свайго нарвежскага калегу апісваў і сферу чалавечых пачуццяў, і дысгарманічнасць унутранага свету чалавека, і ўладную, знявольваючую сілу любоўнай жарсці, і многае іншае. Разам з тым нават няўзброеным вокам можна заўважыць, наколькі розны мастацкі свет абодвух пісьменнікаў. А вытлумачыць гэта не складае вялікай цяжкасці. Так, і адзін, і другі пісьменнікі апісвалі духоўны свет сваіх сучаснікаў. І гэта ў абодвух выпадках былі дзеці сялян. Але! Калі продкамі герояў К. Гамсуна з'яўляліся сяляне і вікінгі, дык Навуменкавых — сяляне і... сяляне, працаўнікі розных мірных прафесій, якія браліся за зброю толькі дзеля абароны родных ачагоў. Само сабою зразумела, што гістарычны вопыт продкаў, засвоены не толькі на генным узроўні, абавязкова адбіваецца на свядомасці сучаснікаў, вымушаючы ў канкрэтнай сітуацыі паводзіць сябе менавіта так, а не па-іншаму.

Чуццё мастацкай формы, мовы, стылю І. Навуменка выпрацоўваў на прыродаапісальных апавяданнях, у творах на маральна-этычную тэматыку адточваў ён майстэрства адлюстравання надзённых праблем рэчаіснасці. Цалкам давяраючыся логіцы развіцця падзей, заглыбляючыся ў псіхалагічныя нетры духоўнага свету персанажаў, ён дасягаў бездакорнай праўдзівасці паказу жыцця. Менавіта на асваенні маральна-этычнай праблематыкі пісьменнік вырашаў надзвычай важную для сябе задачу — выпрацоўкі сваёй манеры тыпізацыі характараў. І вырашаў дастаткова плённа і дынамічна. Напачатку ж, вядома, быў юнак сямнаццатай вясны — мастацкая самапрэзентацыя, хай сабе і не люстэркавая, але вельмі аўтарская і самасная. Аднак вёсны — сямнаццатыя яны ці дваццатыя — праходзяць. Пісьменнікавы хлопцы-равеснікі сталеюць, вырастаюць з ранейшых сваіх духоўных апратак. Паказальна, што апраткі не здаліся нікому з іх ні цеснымі, ні непатрэбнымі: ніхто з іх не адцураўся ад свайго мінулага, і не памерла ў іх душах ні патрыятычнае, ні рамантычнае парыванне. У тым іх моц, прывабнасць і адметнасць. На гэтым грунтуецца іх паводзінная адэкватнасць. Змяняліся часы, жыццё ўсё часцей і часцей ставіла перад героямі апавяданняў І. Навуменкі надзвычай складаныя праблемы. Паступова акрэслілася ў яго творчасці скразная тэма няспраўджанага кахання, дэтэрмінанты якой даследчыкі звязваюць з канкрэтным фактам

біяграфіі пісьменніка — няўдалым яго першым шлюбам. Да гэтай тэмы ён будзе звяртацца зноў і зноў. У апавяданнях. Аповесцях. Раманах. Яна не адпусціць яго аж да канца жыцця. Найскладанейшая гама эмоцый самахоць, але вельмі ўражліва адлюстроўваецца ў творах гэтай тэматыкі. Па няўдалым, спачылым каханні гучыць у іх не пахавальны звон, а нешта больш аптымістычнае, хоць і шчымліва-журботнае, але заўсёды светлае — з аўтарскім ненавязлівым роздумам над дзівоснымі штукарствамі ўсёмагутнага бога Эраса, які і дарыў каханне, не спытаўшыся, і адбіраў яго без папярэджання. На шляху да шчасця закаханых паўставалі рознага роду непаразуменні, абумоўленыя ў адным выпадку нягодамі вайны (апавяданні «Па махорку», 1960; «Таполі юнацтва», 1963; «Салдаты вярнуліся», 1964; «Рэйкі», 1966; «Сіні снег», 1968; «Месячная ноч», 1969; «Праз дзень пасля салюта!..», 1975 і інш.), хцівасцю людзей (апавяданне «Раман з эпілогам», 1960), таямніцамі жаночай душы (апавяданні «Сукенка Ларэлеі», 1969; «Асфальт», 1975 і інш.).

Кідаецца ў вочы, што амаль усе апавяданні І. Навуменкі, прысвечаныя тэме кахання, вызначаюцца высокім мастацкім узроўнем. Напісаны яны з прафесійнай дыхтоўнасцю, роўна, у выверана-ўпэўненай манеры. Хіба толькі апавяданні «Вальс кветак» (1965) і «Іван ды Мар'я» (1972) вылучаюцца на агульным фоне больш высокім градусам перажыванняў ды яшчэ аўтарскай спробай вытлумачыць феномен кахання пастулатамі народнай этыкі і філасофіі. Першае з іх напісана, умоўна кажучы, у форме лірычнай медытацыі, другое — медытацыі эпічнай. У гэтых апавяданнях тая тонкасць і выразнасць мастацкага пісьма, якая была дасягнута ў ранейшых творах дзеля абмалёўкі прыроды, дэманструецца аўтарам ужо дзеля перадачы душэўных станаў, іх настрояў і выяўляецца ў глыбіні і складанасці псіхалагічнага аналізу. Раней ужо адзначалася, што найчасцейшым варыянтам няўдалага кахання ў апавяданнях пісьменніка выступае гісторыя пра тое, як лёс, «сфабрыкаваўшы» пэўную, часам абсалютна нікчэмную прычыну, не дазваляе злучыцца закаханым. А вось у «Вальсе кветак» Кастравіцкаму планіда выпала нібыта шчаслівая. Прынамсі, яго юнацкае каханне перарасло ў вонкава трывалыя і бязвоблачныя сямейныя ўзаемаадносіны з добрай, разумнай жанчынай. Падрасталі два сыны, някепска складвалася навуковая кар'ера. Але ў апошні год яго псіхалагічная раўнавага рухнула. І падкасіла яе сваімі паводзінамі жонка. Нібы нейкая сцяна ўзнікла паміж сужэнцамі. Жонка перастала цікавіцца яго працай, ім самім, затое выяўляла нейкае трывожнае ўтрапенне, успамінала ўсе

крыўды, якія калі-небудзь ён прычыніў ёй. Рэўнасць са спрытам вопытнага ілюзіяніста вымалявала ў свядомасці Кастравіцкага некалькі малюнкаў гіпатэтычнай жончынай здрады. Паспрабаваў пагаварыць з ёю па шчырасці аб сваіх сумненнях, але ў адказ былі слёзы і новыя папрокі ды прэтэнзіі. Каб развеяцца, пазбавіцца застарэлага сплiну, Кастравіцкі на схіле лета выязджае на ўзбярэжжа вялікага возера (паводле ўсіх адзнак гэта Нарач), дзе ў гутарках-дыспутах з калегам-навукоўцам Бадзюковым спрабуе вызначыць прычыны сваіх сямейных нягод, каб разблытаць сілкі ўласнага душэўнага здранцвення. Імкнучыся разабрацца ў сутнасці кахання з дапамогай фармальнай логікі, герой самахоць аказваўся ў абдымках схаластычнай рыторыкі (асабліва гэта тычыцца яго разважання пра градацыйнасць пачуцця ў сямейным жыцці). Яму, навукоўцу, варта было б памятаць, што некаторыя народы антычнай цывілізацыі, выштукаваўшы антрапамарфічную іпастась кахання ў выглядзе бoства тыпу грэчаскага Эрота, не ідэалізавалі яго: сваімі стрэламі ён мучыць і людзей, і багоў. Не лішне яму было б узгадаць і тое, праз якія неверагодныя цяжкасці і пакуты прайшла міфалагічная Псіхея (душа) на шляху да свайго Эрота (каханне). Бязлітаснае, неаднойчы клятае гэта пачуццё. Але — усёмагутнае. Дзеля яго нехта спускаецца ў пекла, у кагосьці падымаецца рука, каб забіць уласных дзяцей, ну а тых, хто без кахання не бачыць сэнсу жыцця,— процьма. Дзённік адной з такіх максімалістак, якая з-за здрады каханага ўтапілася ў возеры, прынёс Кастравіцкаму Бадзюкоў. «Калі я каго-небудзь пакахаю, то на ўсё жыццё. Ён будзе маім героем і маім ідэалам. Чалавекам з вялікай літары. Разумным і добрым, вясёлым і прыгожым. Неабавязкова прыгожым з твару. Я ніколі-ніколі не дарую яму здрады, бо другога палюбіць не змагу. Можа, гэта смешна, але я такая...

З усіх вальсаў я найбольш люблю «Вальс кветак». Я спачатку думала — чаму кветак? Потым здагадалася — час цвіцення кветак — час іхняга кахання. А каханне — гэта музыка, песня. Мне не зразумела толькі, чаму ў музыцы вальса чуваць ноткі смутку, трывогі. Каханне павінна несці толькі радасць, шчасце, для смутку няма ў ім ніякага месца...» (2, 419—420).

На жаль, не толькі гэтага не магло зразумець экзальтаванае, безразважнае дзяўчо. Здавён-даўна мы аксіёматычна ўспрымаем выслоўе: каханне ёсць жыццё. Аднак жа каханне і жыццё — паняцці не роўнавялікія і, само сабою зразумела, не тоесныя. І гэтую акалічнасць студэнтка, здзяйсняючы свой пасіянарна-трагічны ўчынак, не ўсведамляла. Подзвіг самаадрачэння ў імя меншага ў

гэтым выпадку прыніжае большае. Да таго ж памяць адразу высвечвае яшчэ адно выслоўе: самае дарагое ў чалавека — гэта жыццё...

Прагматыку Кастравіцкаму нават у юнацтве наіўна-чыстыя, па-максімалісцку катэгарычныя разважанні студэнткі здаліся б дзіцячым лепятаннем і блюзнерствам, але ён не без узрушэння ўчытваўся ў радкі дзённіка: унутраны голас падказваў яму, што, зразумеўшы яго аўтара, здолее лепш зразумець і сябе, і свае сямейныя калізіі.

Галоўная гераіня апавядання «Іван ды Мар'я» (1972) з трывогай назірае за паводзінамі сваёй дзевятнаццацігадовай кватаранткі Валі, якая збіраецца без кахання выйсці замуж за настаўніка з суседняй вёскі (не застацца б у старых дзеўках!), а сама круціць любошчы з мясцовым хлопцам. Трывожыцца за маладое неразумнае дзяўчо, але асудзіць яе ніяк не можа, бо ўспаміналa і сябе, сямнаццацігадовую. Стаялі тады ў мястэчку казакі, якія нарыхтоўвалі для фронту Першай сусветнай вайны правіянт. Увесь свет засланіў юнай местачкоўцы адзін з іх — бялявы, з гнуткім, дужым станам Хведзька. Ноч у ноч усе тры месяцы, пакуль казакі знаходзіліся ў мястэчку, лятала яна да каханага. Маці хавала чаравікі, сукенкі, сарамаціла апошнімі словамі, спрабавала нават біць, але нічога — ні грозьбы родзічаў, ні плёткі суседак, ні асабістае ўнутранае ўсведамленне таго, што каханне з салдатам, ды яшчэ ў вайну, нічым добрым не скончыцца,— не дапамагала. А скончылася ўсё і сапраўды прадказальна. З'ехалі казакі, але не як у песні, са службы дадому, а на службу — на фронт, у далёкую Прусію, дзе Хведзька і злажыў сваю светла-русую галаву. Абармотам ён не быў, застаўся б жывым, Мар'ю не кінуў бы: недарэмна ж ужо пасля вайны яго маці запрашала сваю няспраўджаную нявестку пераехаць на жыхарства да сябе, у кубанскую станіцу. Ды дзе ты і куды паедзеш? Тым больш што ў яе жыцці з'явіўся Іван, які вярнуўся з германскага палону.

Вельмі няпроста складвалася сямейнае жыццё Івана з Мар'яй! Усе дваццаць гадоў, якія яны пражылі разам, не мог дараваць ён ёй Хведзьку. Напачатку шмат піў, а яна плакала, чакаючы яго з пагулянак. Потым даўмелася хадзіць на тыя пагулянкі разам, дзе брала чарку нароўні з ім — чарка ў чарку. Ён спяваў, і яна спявала. Іван зразумеў яе ход, нават паважаць яе больш стаў за гэта. А Хведзьку не забыў. П'янкі скончыліся, Іван без Мар'і і кроку зрабіць не мог, але не павёў яе ў загс, не зрабіў яе законнай жонкай. І цікавая ілюстрацыя іх узаемаадносін: Іван нібыта парупіўся пра сямейны ачаг, збудаваў Мар'і някепскую хату, але аздабляць яе не стаў. Не

было пры ёй дваровых пабудоў, засталася яна нават без сенечак. І гэта пры тым, што Іван меў залатыя рукі, валодаў, бадай, усімі будаўнічымі прафесіямі. Такія адносіны не маглі не крыўдзіць Мар'ю, але яна шчыра і моцна кахала свайго Івана, таму любая крыўда выглядала мізэрнай у параўнанні з гэтым вялікім пачуццём. Яшчэ ў маладосці яна планавала, што пахаваюць яе побач з Іванам. Паставяць жалезную агародку, зробяць лаканічны надпіс: «Іван ды Мар'я». Не спраўдзілася яе мара, бо адбылася яшчэ адна вайна. І яшчэ раз Мар'я аўдавела, фармальна ні разу не пабываўшы замужам. Не канаваў лёс пакоіцца ёй у вечным сне побач з Іванам, бо займеў ён сабе магілку невядома ля якой ваеннай дарогі, але па жыцці яна ішла з памяццю пра яго. У думках раілася, часам спрачалася, а іншы раз, што граху таіць, і папракнуць магла. Ды дзіва дзіўнае, у сны яе прыходзіў не Іван, з якім яна пражыла дваццаць гадоў, а Хведзька, таму і не магла катэгарычна зганьбаваць кватарантку Валю. «Ты сама была такая. Хто табе быў Хведзька, дзеля якога ты не пашкадавала дзявоцтва, не паглядзела, як будзеш жыць далей? Любіла яго, а любоў — як шаленства, як напасць. Хіба можна, калі яна прыходзіць, што-небудзь зрабіць?» (1, 550).

Усе літаратурныя героі мудрыя мудрасцю аўтара твораў, менавіта яго думкі прэзентуюць яны на іх старонках. Ці азначае гэта, што І. Навуменка разам са сваёй гераіняй прызнаў фатальную магутнасць кахання, каб у наступных сваіх творах праяўляць аўтарскую ўсёдаравальнасць да ўчынкаў герояў? Не і не! Ці ж выпадкова Мар'я, нібы адракаючыся ад ранейшых сваіх прызнанняў, у рэшце рэшт Валіны паводзіны ацэньвае цалкам негатыўна. Сямейныя здрады для пісьменніка — гэта засведчылі пазнейшыя яго творы — назаўжды засталіся агіднымі і недаравальнымі.

Апавяданне ў творчасці І. Навуменкі апошняй чвэрці XX стагоддзя ў параўнанні з ранейшым часам займала больш сціплае месца. Справядлівасць гэтай высновы яскрава бачыцца ў бібліяграфіі яго твораў. Так, у 1975 годзе з двух дзясяткаў публікацый новых апавяданняў былі надрукаваны толькі чатыры: «Птушкі любяць волю», «Какава для папраўкі здароўя», «Лістоўкі сорак першага года», «Асфальт». У наступным годзе з трынаццаці публікацый — ніводнага. 1977 і 1978 гады таксама не далі ніводнага апавядання. Па два апавяданні «Кацюша» і «Сустрэча з маршалам», «Мульменкаў сад» і «Грыбная зямля» далі адпаведна 1979 і 1980 гады. Прыкладна такую ж карцінку даюць і астатнія гады. Не, як апавядальнік І. Навуменка не вычарпаў сябе ў 1950 — першай палове 1970-х гадоў. Твор-

чыя ўдачы ў гэтым жанры (што зусім натуральна) здараліся ў яго і пазнейшым часам. І пазнейшым часам яго творы малой празаічнай формы не страцілі глыбіні мастацкага мыслення. Прычым аказвалася няважным, якім апавяданне выходзіла з-пад аўтарскага пяра, ці то камерным («Какава для папраўкі здароўя»), ці то эпічным («Сярэбраныя мхі», 1987), аднак заўсёды ў ім паўставалі яркія карціны рэальнага жыцця, аздобленыя праніклівым сацыяльным аналізам, прасякнутыя эмацыянальнай напружанасцю чалавечых узаемаадносін, выразнай дакладнасцю мастацкіх дэталяў, напоўненыя лірызмам і мяккім гумарам.

Што ж датычыцца пераразмеркавання накірункаў творчай дзейнасці пісьменніка, дык пра гэта з нагляднай аб'ектыўнасцю можа расказаць тая ж бібліяграфія. Напрыклад, за згадваемы вышэй 1976 год, у якім апавяданні зусім не друкаваліся. А што ж друкавалася? Прадмова да рамана І. Шамякіна «Атланты і карыятыды». Літаратуразнаўчыя артыкулы ў «Весніку БДУ» і «Весцях АН БССР», у «Литературном обозрении» і «Полымі». У газеце «Літаратура і мастацтва» іх выйшла ажно тры. Гэтыя публікацыі прэзентуюць І. Навуменку як навукоўца, як дырэктара Інстытута літаратуры АН БССР. Але не яны пацяснілі з яго творчасці жанр апавядання, увагай яго завалодалі больш буйныя формы празаічнай белетрыстыкі. І перш за ўсё — аповесць.

Цягу да шырокага, маштабнага ахопу матэрыялу пісьменнік адчуваў, бадай што, з першых крокаў сваёй творчасці, таму некаторыя яго апавяданні атрымліваліся вельмі салíднымі паводле памераў. І не дзіўна, што некаторыя з іх («Снежань», «Мой сябар Пятрусь», «Пераломны ўзрост», усе 1958; «Трымценне дубовага лісця», 1964) у часопісах друкаваліся як апавяданні, а ў шасцітомным Зборы твораў найменаваліся ўжо аповесцямі. Пачынаўся ж шэраг аповесцей з «Вайны каля Цітавай копанкі» (1957). І пачатак гэты быў паспяховым не толькі чакаема (хто з творцаў пра тое не марыць!), але і заканамерна. Тут маецца на ўвазе не тое, што яе аўтар да канца 1950-х гадоў вырас у адмысловага майстра прозы; майстэрства майстэрствам, але паспяхова пісаць для дзяцей здольны далёка не кожны, нават самы майстравіты пісьменнік. Важна тое, што ў І. Навуменкі было выдатнае веданне дзіцячай псіхалогіі. І не медычнае або педагагічнае, а менавіта пісьменніцкае веданне, якое ўключае ў сябе самы шырокі спектр душазнаўства. Для дзіцячага пісьменніка вельмі важная гэтак званая вербальная памяць, але яшчэ важней — памяць эмацыянальная, без якой танальнасць твора

рызыкуе аказацца сухой і збедненай. Інтанацыя непадробнай шчырасці і даверлівасці — найпершыя адзнакі выдатнага твора для дзяцей — у аповесці «Вайна каля Цітавай копанкі» дасягаецца не ў апошнюю чаргу таму, што пісьменнік здолеў цалкам растварыцца ў сваім юным аўтабіяграфічным «клоне». Добрае ўмельства выявіў ён і ў справе надання твору займальнасці, не прыбягаючы пры гэтым да нейкіх пісьменніцкіх прыёмаў ды хітрыкаў: проста юныя героі аповесці мусяць набываць крупіны жыццёвага вопыту ў рэжыме пераадолення розных — і не толькі побытавых — перашкод. Характэрна, што вайна паміж дзецьмі местачковых мікрараёнаў Слабодкі і Першамайкі толькі на першы погляд здаецца вайной за права купацца ў Цітавай копанцы. На самай справе гэта было сутыкненне розных жыццёвых пазіцый, непадобных, калі хочаце, дактрын уключэння юнага пакалення ў соцыум. Слабадскую дзятву ўзначальваў руды Алёша Тарабанаў, першамайцаў — белагаловы Косця Кветка. Гэта былі сапраўдныя лідары, але калі першы з іх арыентаваўся на грубую сілу і аўтарытарны стыль кіраўніцтва, дык Косця быў падкрэсленым дэмакратам. У Алёшы было нашмат больш шанцаў на перамогу, паколькі меў пад сваёй рукой натрэніраванае войска, разбітае на два палкі. Так яно і атрымалася напачатку. Горка плакаў белагаловы атаман пасля знішчальнага паражэння. Не шкадаваў ён стратаў ні тэрытарыяльных (неўзабаве першамайцы выкапалі для сябе новую копанку), ні матэрыяльных (у якасці кантрыбуцыі тарабаны забралі валейбольную сетку з мячом), у адчай яго прыводзіла страта даверу сяброў. Але неўзабаве ўсё стала на свае месцы. Тарабанавы «легіёны» былі ўшчэнт разбіты першамайцамі, а хлопцы са Слабодкі пацягнуліся на сядзібу Косці Кветкі, у яго камуну, дзе ніхто нікога накшталт рудога Алёшы не біў і не зневажаў, дзе існавала кааператыўная бібліятэка, дзе паважалі фізічную сілу (яе развівалі living рознымі трэніроўкамі), але хвалілі за розум і веды. Як бачна, вайна за копанку вылілася ў канчатковым выніку ў зацятае змаганне за светлыя, прагрэсіўныя, асветніцка-разумныя ўзаемаадносіны. За асабістую свабоду ў гэтых узаемаадносінах, заснаваную на дабрыні і справядлівасці.

Думкай пра абавязковую неабходнасць спагады, дабрыні і справядлівасці для гарманічнага развіцця і сталення юнай асобы моцна апавіта ўся падзейная прастора аповесці «Пераломны ўзрост». І высноўваецца гэта думка не на ўзроўні пасіўна-банальнага пастулата, а дзёрзка адстойваецца хлапчукамі-пяцікласнікамі. Калі ў адносінах да аднаго з іх — сіраты Пятра Мацюшэнкі — сястра-

апякунка (настаўніца па прафесіі) Агрыпіна Іванаўна стала залішне часта ўжываць такія сродкі «педагагічнага» ўздзеяння як фізічныя экзекуцыі, яны паўсталі і паклікалі на дапамогу і райвыканкамаўскае начальства, і грамадскасць, бо са школьных урокаў і з мноства прачытаных кніг цвёрда ўсведамлялі ісціну: у цывілізаваным свеце ніхто не мае права прыніжаць асобу чалавека, здзекавацца з яго. Тым больш — у краіне, якая ў сваіх канстытуцыйных аналах прадэкларавала свабоду і справядлівасць найвышэйшымі каштоўнасцямі.

Знаёмства з вобразамі аповесцей «Вайна каля Цітавай копанкі» і «Пераломны ўзрост», а таксама з жыццёвымі абставінамі, у якіх сталелі іх характары, дапамагае зразумець, з каго і як выраслі тыя, хто сваёй сямнаццатай вясной паўстаў на подзвіг абароны Айчыны. А гэту тэму пісьменнік неаднаразова закранаў і ў жанры аповесці. Псіхалагічна дакладна, ярка і запамінальна ўзнаўляюцца ім абставіны разгортвання ўсенароднага руху супраціўлення фашысцкім захопнікам на акупаванай зямлі Беларусі, удзелу ў ім маладых патрыётаў у аповесцях «Снежань», «Мой сябар Пятрусь» і «Трымценне дубовага лісця» (1964). На той жа 1964 год прыпадае друкаванне ў часопісе «Маладосць» (№ 8) аповесці «Бульба», задума якой выкладчыку Белдзяржуніверсітэта І. Навуменку была навеяна штодзённымі назіраннямі за жыццём студэнтаў філалагічнага факультэта, канчаткова яна акрэслілася і выспела пасля выяўлення і разгрому ў пачатку 1960-х гадоў студэнцкай фронды (група маладых людзей запатрабавала выкладання ў ВНУ некаторых прадметаў на беларускай мове, а ў кулуарна-прыватных размовах дазваляла сабе кураж з ультрарэвалюцыйнай фразеалогіяй). Сучаснікі лёгка ідэнтыфікавалі прататыпаў аповесці, хоць не ўсе яны такое дэзавуаляванне прымалі без агаворак. А ўсё таму, што некаторыя вобразы абмаляваны дастаткова крытычна. У гэтай відавочна неаўтабіяграфічнай аповесці асоба аўтара выявілася вельмі выразна. У гарачых спрэчках герояў твора пра эстэтычную і сацыяльную місію мастацтва, ролю асобы ў гісторыі, маральныя асновы людскога існавання, як рэха, як водгулле, адбіваецца занепакоенасць аўтара, у асобе якога спалучыліся і пісьменнік, і выкладчык філфака, настаўнік, грамадзянін. Сярод іншых яго турбавала пытанне, якім вырасла першае пасляваеннае пакаленне беларусаў, якімі яны сустрэлі сваю сямнаццатую вясну? Паразважаць было над чым, але не было падстаў для трывогі, а тым больш — для панікі. Гэтая моладзь была іншай, бо нарадзілася і жыла ў іншых сацыяльных умовах, але і яна здолела ўспрыняць і засвоіць

здаровыя інтэнцыі народнага духу. І для яе выслоўе «Радзіму сваю любім і абараняць яе павінны» — чужым не было.

Элегічны хваласпеў нязбытнаму, але не забытаму каханню стаў эмацыянальным стрыжнем сюжэта аповесцей «У бары на світанні» (1971), «Развітанне ў Кавальцах» (1974), «Апошняя восень» (1975), «Замяць жаўталісця» (1976), «Інтэрнат на Нямізе» (1978). Усё гэта вельмі дыхтоўная проза, якую даследчыкі часам называюць інтэлектуальнай. Кожны твор па-свойму цікавы, кожны з іх утрымлівае значны абсяг канкрэтнага матэрыялу, здольнага адэкватна прэзентаваць адпаведныя этапы жыцця краіны. Шмат цікавай канкрэтыкі, напрыклад, у аповесці «Інтэрнат на Нямізе», з якой можна скласці зусім пэўнае ўяўленне пра складанасці станаўлення вышэйшай школы Беларусі ў першыя пасляваенныя гады. Будучаму біёграфу І. Навуменкі шмат інфармацыі пра пачатковы этап яго творчасці, звязаны з працай у абласной газеце «Бальшавік Палесся», пра некаторыя факты тагачаснага яго жыцця, можа падказаць аповесць «Замяць жаўталісця». Ну а аўтабіяграфічная трылогія «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» (1997) наогул будзе для яго невычэрпнай крыніцай звестак пра першыя два дзясяткі яго жыцця, пра станаўленне асобы.

Росквіт таленту І. Навуменкі прыпадае на 1960-я гады, якія ў беларускай літаратуры лічацца «раманнымі»: «Людзі на балоце» (1962) І. Мележа, «Засценак Малінаўка» (1961—1964) А. Чарнышэвіча, «Сэрца на далоні» (1963) І. Шамякіна, «Птушкі і гнёзды» (1963) Я. Брыля, «Вайна пад стрэхамі» (1960) А. Адамовіча — гэтыя і некаторыя іншыя творы ўвайшлі ў залаты фонд беларускай нацыянальнай прозы. Уздзеянне раманнага жанравага імператыву адчуў на сабе і І. Навуменка. І адчуў, здаецца, не вельмі ўсвядомлена. Вось як пра гэта ўспамінае сам пісьменнік: «Часопіс «Маладосць» — там тады працаваў Іван Пташнікаў — заказаў мне апавяданне. У Васілевічах ёсць чыгуначная будка, лес... Туды я любіў хадзіць змалку, ведаў усе ваколіцы. З будкі добра было відаць наша мястэчка. Калі вуліцай прайсці, яно зусім не так бачылася, а тут быццам зялёны востраў сярод хлебнага масіву. Захацелася неяк прыстасаваць гэтыя ўражанні да партызанскіх часоў, да складаных падзей вайны.

Пачаў пісаць апавяданне. Будка, сасна... Напісаў старонак трыццаць і адчуваю — няма канца. Папрасіў у Пташнікава адтэрміноўку. Гавару, што атрымліваецца аповесць. Але і сто старонак мінуў — канца па-ранейшаму няма. Прайшоў год, сацыяльны заказ выкананы не быў, а я адчуў, што ўжо пішацца не аповесць: адна падзея замяняе другую, павялічваецца колькасць персанажаў. З’явіўся абагуль-

нены вобраз Крамера. З вобразам Крамера ў рамане ўзнік канфлікт, інтрыга»[1].

У гэтым самапрызнанні адчуваецца пэўная недагаворанасць. Прынамсі, з яго не вынікае тлумачэнне, чаму пісьменніку стала цесна ў жанравых рамках апавядання. Нібыта захапіўся, распісаўся... Але памеры напісанага — не самы важны крытэрый для жанравай ідэнтыфікацыі, гэтак жа, як і колькасць эпізодаў і персанажаў у творы. Ёсць, праўда, адна зачэпка. Пісьменнік згадвае чыгуначную будку, пераезд, сасну пры ім і адзначае, што адтуль, з пэўнай адлегласці (хай сабе і не дужа вялікай — недзе ў паўтара кіламетра), Васілевічы бачыліся не такімі, якімі паўставалі знутры, з сярэдзіны, са сваіх вуліц і вулачак. Эфект змены ракурсу агляду! Гэта была добрая падказка. І хоць у пачатку 1960-х гадоў І. Навуменка ў літаратуры навічком-пачаткоўцам ужо не быў, але да гэтага часу ён спасціг не ўсе, далёка не ўсе сакрэты мастацкай творчасці, таму распаўзалася яго апавяданне на столькі старонак. Пісьменнік выдатна ўсведамляў, якім унікальным матэрыялам валодаў, аднак не адразу вызначыўся з тым, у якіх кампазіцыйных, структурна-выяўленчых формах будзе ўвасабляць яго. І гэта быў не такі ўжо і банальны клопат. У ранейшых апавяданнях гэты матэрыял неаднаразова закранаўся, але чым больш пісаў празаік твораў, тым больш турбавала яго душу адчуванне недагаворанасці, недасказанасці. І такое адчуванне хутчэй за ўсё інспіравалася ўсведамленнем памацнеласці ўласных творчых магчымасцей, падсвядомым імкненнем адольваць усё больш амбіцыйныя здзяйсненні. У дадатак яшчэ раз паўторым: 1960-я гады сталі для беларускай літаратуры «раманнымі», таму зусім лагічна пад несумненна ўдалай назвай будучага твора «Сасна пры дарозе» напачатку вельмі рашуча было закрэслена слова «апавяданне», потым з пэўнымі сумненнямі, але таксама адпраўлена ў нябыт азначэнне «аповесць», а з радасным хваляваннем выведзена запаветнае — «раман».

Маючы значны літаратуразнаўчы досвед, І. Навуменка ведаў, што сусветная літаратурная практыка прэзентавала шмат мадэляў раманнага тварэння, у тым ліку і мадэрнісцкага кшталту. Яго мала кранала, што некаторыя еўрапейскія псеўданаватары гучна расхвальваліся, уганароўваліся прэстыжнымі прэміямі і г. д. І. Навуменку было добра вядома, што рэалістычныя традыцыі савецкай раманістыкі не страцілі ні сваёй крэатыўнасці, ні плённасці. Вядома яму было і

[1] Навуменка, І. Час абуджае думку творцы // ЛіМ.— 1986.— 11 крас.

тое, што арыентацыя на гэтыя традыцыі ні ў чым не скоўвала яго асабістае творчае самавыяўленне. Больш таго, скіроўвала на пошук уласна непаўторных шляхоў на ніве мастацкага здзяйснення і на пасільнае развіццё гэтых традыцый. Толькі аднаго, падступаючыся да «Сасны пры дарозе», не ведаў пісьменнік: адным раманам яго творчы праект не вычарпаецца, што пра падпольны і партызанскі рух у Беларусі напішуцца яшчэ раманы «Вецер у соснах» (1967) і «Сорак трэці» (1974), сфарміраваўшы трылогію пад умоўнай назвай «Акупацыя», што трылогія пасля выхаду рамана «Смутак белых начэй» (1970—1978) ператворыцца ў тэтралогію. Пісаўся ж першы раман з вялікім натхненнем. Пэўныя цяжкасці, канешне ж, узнікалі, нягледзячы на тое, што персанажы, увесь падзейны рад, часава-псіхалагічны антураж былі нібыта добра вядомы аўтару. Некаторыя факты даводзілася шукаць у архіве, тое-сёе ўдакладняць у сведак тых падзей. Пэўныя клопаты стварыў, напрыклад, вобраз бургамістра Крамера. На адной з чытацкіх канферэнцый, якая адбылася на філфаку БДУ ў 1963-м, пісьменнік прызнаўся, што мусіў ехаць у Прыбалтыку, набівацца ў госці да нямецкіх пасяленцаў, каб скласці ўяўленне, якія яны ў побыце. Але што значылі гэтыя цяжкасці ў параўнанні з той творчай радасцю, якую надавала яму адчуванне, што з-пад яго пяра з'яўляецца новае слова пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны, пра самы трагічны — пачатковы яе этап. І радасць яго была зусім не беспадстаўная. Раман «Сасна пры дарозе» лічыўся б творам нерадавым нават у тым выпадку, калі б аўтар абмежаваўся добрасумленным паказам таго, як моладзь, учарашнія старшакласнікі, пераадолеўшы разгубленасць з-за катастрафічных няўдач Чырвонай Арміі ў пачатку ваеннай кампаніі, узваліла на свае кволыя плечы смяротна небяспечную ношку супраціўлення акупантам. Менавіта такі паказ у сярэдзіне 1940-х гадоў забяспечыў выключны поспех раману А. Фадзеева «Маладая гвардыя». Паміж іншым, варта заўважыць, што І. Навуменка яшчэ тады спрабаваў расказаць пра подзвіг васілевіцкіх падпольшчыкаў. Ён быў перакананы, што Васілевіцкае камсамольска-маладзёжнае падполле ні ў чым не саступала Краснадонскаму. Аднак сакратар Васілевіцкага райкама партыі настойліва не раіў яму пісаць пра мясцовае падполле — шмат у ім яшчэ заставалася загадак. Дык і праўда, што ні робіцца — усё да лепшага! Прайшоў час, і стала зразумела, што яшчэ адну «Маладую гвардыю» пісаць не варта, бо наспела пара новых падыходаў у асэнсаванні гераікі мінулай вайны. З'явілася шмат новай інфармацыі пра яе, больш гуманістычнымі сталі многія

ацэнкі. Нават такая вечная і ўстаялая катэгорыя як патрыятызм пачала трактавацца, так бы мовіць, больш ліберальна. І. Навуменка да гэтых новых поглядаў ішоў паступова, эмпірычным шляхам. І калі мы ў літаратуразнаўчых працах сустракаем сцвярджэнне, што ў беларускай літаратуры другой паловы ХХ стагоддзя ўзмацняўся антываенны, гуманістычны пафас,— гэта тычыцца перш за ўсё рамана «Сасна пры дарозе», у якім мястэчка Бацькавічы пазіцыянуецца плацдармам процістаяння ўсяленскага Дабра і Зла, Жыцця і Смерці. Міця Птах — гэты вельмі начытаны, з дакліва-далікатнай душой і абвостраным пачуццём справядлівасці юнак разам са сваімі сябрамі-аднакласнікамі Іванам Лобікам, Нупрэем Гілём і Міколам Цябутам менавіта так і ўспрымаў жыццё ў родным мястэчку пасля прыходу акупантаў. Да вайны яны і думаць не думалі, што могуць трапіць у такую неймаверна складаную, трагічную сітуацыю. «Калі заўтра вайна, калі заўтра ў паход...» І так настойліва ўнушалася ім, што наша армія наймацнейшая ў свеце, што вайна, калі і пачнецца, дык будзе адбывацца на тэрыторыі агрэсара. А агрэсар — вось ён! Гвалціць, рабуе, забівае... Каб у зародку знішчыць намеры супраціву, акупанты з дзікунскай жорсткасцю распраўляліся не толькі з самімі змагарамі, але і з іх роднымі і блізкімі. Уключаючыся ў актыўную падпольную барацьбу, юныя патрыёты добра ўсведамлялі гэта. Але яны ведалі, што Зло само па сабе не знікае, што Жыццё перамагае там, дзе не баяцца смерці. Яны ўвачавідкі маглі пераканацца, што фашызм нясе смерць усяму цывілізаванаму чалавецтву. Паўстаўшы на абарону ўласнай чалавечай годнасці, гонару сваёй Айчыны, яны тым самым адстойвалі агульначалавечыя гуманістычныя каштоўнасці. Пісьменнік з тонкай праніклівасцю адсочвае асаблівасці далучэння да руху супраціўлення прадстаўнікоў маладзейшага і старэйшага пакаленняў, наладжвання мастоў паразумення паміж імі. Вось гэтая тонкасць, аб'ектыўнасць і дапамагае яму пераканаўча паказаць, чаму і як барацьба з акупантамі набывала ў Беларусі ўсенародны характар, чаму ўсё-такі варта лічыць, што пераможны 1945 год прыйшоў на зямлю не насуперак, а дзякуючы змрочна-трагічнаму 1941 году.

Вялікія надзеі звязваў пісьменнік з выхадам рамана «Вецер у соснах». Карпатлівая праца ў архівах, штудзіраванне спецыяльнай, навуковай літаратуры, сустрэчы з былымі партызанамі і падпольшчыкамі — з землякамі і не толькі... Раман увачавідкі станавіўся шматпадзейным, мнагалюдным, поліфанічным. Пра размах партызанскай вайны сведчылі многія канкрэтныя факты і

эпізоды, апісаныя аўтарам з належным прафесійным майстэрствам. Але водгукі на раман у друку былі вельмі не адназначныя. Асабліва рэзка, нават жорстка раскрытыкаваў яго Янка Брыль. «“Вецер у соснах”,— пісаў ён,— толькі працяг «Сасны пры дарозе», толькі працягвае дзеянне, уносячы ў навуменкаўскую тэму — падлеткі ў падпольным і партызанскім руху — вельмі мала новага, невядомага чытачу па «Сасне пры дарозе» і па яе папярэдніках — свежых, усхваляваных апавяданнях на тую ж тэму»[1].

Даўняму і сталаму прыхільніку таленту І. Навуменкі літаратуразнаўцу Алесю Яскевічу таксама пабачыліся ў рамане пэўныя хібы. Яму таксама здавалася, што ў сваіх ранейшых, «малафарматных», творах аўтар быў больш пераканальны. «Аднак эпічныя творы, населеныя даволі цікавымі і разнастайнымі вобразамі, не выклікалі таго шырокага рэзанансу, як яго лепшыя лірычныя апавяданні, і перш за ўсё таму, што аўтар у апошніх творах, асабліва ў рамане «Вецер у соснах», шмат у якіх месцах адыходзіў ад праўды часу. Апрача таго, лірык па складу таленту, чалавек настраёвага эмацыянальнага бачання жыцця, Навуменка ў сваіх раманах, імкнучыся да эпічнага аб’ектывізаванага апавядання, страчваў некаторыя з тых адценняў, якія якраз і надавалі сілу яго голасу»[2].

У падтэксце выказвання вядомага даследчыка беларускага рамана Паўла Дзюбайлы таксама адчуваецца пэўная негатыўнасць у ацэнцы, але ён стараецца быць аб’ектыўным і па-добраму разабрацца ў прычынах творчых пралікаў. «Маштабнасць і шматпланавасць даюцца пісьменніку нялёгка. Часам Навуменка ідзе за той крытыкай, якая ў «Сасне пры дарозе» бачыла толькі «лакальную праўду» (У. Карпаў), а не тыповую карціну партызанскай барацьбы на Беларусі, без патрэбы і мастацкай мэтазгоднасці гоніцца за знешняй тэматычнай шырынёй, паказвае падзеі то ў адным, то ў другім партызанскім раёне (Бацькавічы — Гарбылі — Рудобелка). У рамане шмат сюжэтных ліній, шмат герояў і дзеючых асоб, шмат масавых і батальных сцэн, але слаба адчуваецца той ідэйна-мастацкі цэнтр, які, як магніт, сцягваў бы ўсё ў адзінае цэлае»[3].

Усё гэта так. Думаецца, сам аўтар адчуваў пэўную разладжанасць у рэалізацыі сваіх творчых задум. Але ён ведаў, што на кожны

[1] ЛіМ. 1968. 1 лістап.

[2] Шлях і развіццё беларускай савецкай прозы.— Мінск. 1972.— С. 232.

[3] Беларуская савецкая проза. Раман і аповесць.— Мінск. 1971.— С. 325—326.

год акупацыі ў яго планаваўся асобны раман, а ў кожным рамане павінна прысутнічаць нейкая арыгінальнасць у мастацкіх падыходах і адсутнічаць перапяванне ранейшых матываў. У першым рамане трылогіі ён вельмі пераканаўча намаляваў карціну гуртавання патрыётаў, распальвання полымя барацьбы з акупантамі, у другім — разгаранне, арганізацыйнае ўмацаванне яе.

Вельмі цікавы сам пачатак рамана. Прайшоў толькі год вайны. Яшчэ не было ні Сталінградскай, ні Курскай бітваў. Бацькавічы стогнуць пад ярмом акупацыі. Арышты, вываз нявольнікаў у Германію, частыя расстрэлы. Але з якой зацятасцю местачкоўцы рыхтуюцца да зімы: да зярнятка сабраны збожжавыя, даведзены да ладу агародніна і садавіна, выкашаны кожны лапік сенажаці... Не адстае ад астатніх і падпольшчык Міця Птах. Уменне мысліць стратэгічна, маштабна дапамагае яму разумець, што харчовая бяспека ў час, калі ўсякая іншая бяспека адсутнічае, нешта ўсё ж значыць, што ўладкаваны побыт — зарука псіхалагічнай трывушчасці землякоў, якія нават у гэты скрушлівы час не перасталі лічыць сябе гаспадарамі роднай зямлі. Без такога адчування цяжка было б спадзявацца на перамогі над ворагам. У тым ліку — і на франтавыя. Гэтыя настроі добра адчулі акупанты з іх памагатымі, пад нагамі ў якіх, як гаворыцца, пастаянна гарэла зямля.

Раман «Сорак трэці» паэт і літаратуразнавец Алег Лойка лічыў лепшым творам беларускай літаратуры пра жыццё Беларусі пад «позняй» акупацыяй. Менавіта Беларусі, а не канкрэтнага куточка на Гомельскім Палессі. У рамане чытач сустракае многіх герояў, знаёмых па першых частках трылогіі. Міця Птах і яго сябры паранейшаму знаходзяцца ў цэнтры аўтарскай увагі. Два гады падполля многаму іх навучылі, ад ранейшага хлапчукоўскага рамантызму засталося не шмат чаго. Ну, хіба што максімалізм у ацэнках падзей. З'явіліся і новыя персанажы. Прынцыповай творчай удачай аўтара з'яўляецца вобраз камбрыга Вакуленкі. У час суровых выпрабаванняў гэты просты палескі дзядзька выявіў выдатныя здольнасці арганізатара. Яму ўдалося сабраць грознае войска, якое кантралявала вялізную тэрыторыю. Ваяваў ён разумна, людзьмі без патрэбы не рызыкаваў, таму і карыстаўся вялікай павагай сярод партызан і мірнага насельніцтва.

У першыя дні свайго партызанства Міця Птах зацікавіўся Яўтушыкам. Пажылы партызан апрануты быў вельмі нядбайна, аднак паводзіў сябе з годнасцю. Потым Міця даведаўся, што Яўтушык з вінтоўкі збіў нямецкі самалёт, а ў час шматлікіх баёў паводзіў

сябе вельмі мужна. Разам з тым ён заўсёды заставаўся селянінам-земляробам, які сумаваў па раллі, па касе і сявеньцы, які пры першай жа магчымасці адстаўляў на час вінтоўку, каб накасіць сямейнікам сена, нарыхтаваць дроў, дагледзець гаспадарку. Вобраз Яўтушыка вельмі шмат дае для разумення характару партызанскай барацьбы.

І. Навуменка паслядоўна праводзіць у рамане думку: лёс вайны вырашаўся не толькі на франтах. Заслуга партызан заключалася і ў тым, што яны былі паўпрэдамі савецкай улады на акупаванай ворагамі тэрыторыі, той улады, якая ў час вайны была адзінай рэальнай сілай, здольнай абараніць народ ад генацыду.

У сілавое поле рамана ўцягнута шмат людзей. Пісьменнік імкнецца разглядаць іх у сістэме, асэнсоўваючы з філасофска-этычнага пункту гледжання. Адзін з герояў разважае: «На зямлі неспакойна, бруд, кроў, а неба ціхае, вечнае. Блішчаць на ім вялікія і малыя зоркі, і праз увесь цёмна-сіні купал пралягае срабрыстая дарога. Млечны Шлях... Кожная зорка — асобнае сонца, а вакол яго кружаць прытухшыя, меншыя сонцы, падобныя на зямлю. Такое вялікае, агромністае неба, і так цесна, няўтульна людзям на малой Зямлі...» (4, 116).

Калі б з такога боку паглядзець на падзеі вайны, то зямныя трагедыі маглі б здацца мікраскапічнымі, дробязнымі. Аднак ні Млечны Шлях, ні вечнасць, ні бясконцасць не існуюць па-за чалавекам. Тут ужо сам Сусвет робіцца абсурдам, калі чалавека ставяць пад дулы аўтаматаў. Боль не бывае абстрактным. Боль заўсёды індывідуальны, асабісты. І пісьменнік, апавядаючы пра падзеі сорак трэцяга года, імкнуўся зыходзіць не з касмічных, а з зямных узроўняў. Ён глядзеў на гэтыя падзеі вачыма непасрэднага ўдзельніка і сведкі, таму і дасягнуў у рамане такой высокай ступені праўдзівасці і пераканаўчасці.

Бязлітасная праўда вайны пранізвае таксама ўсю падзейную прастору рамана «Смутак белых начэй», у якім апавядаецца пра франтавы лёс хлопцаў-равеснікаў, нядаўніх бацькавіцкіх маладых партызан і падпольшчыкаў. Напісаны ён у канцы 1970-х гадоў, калі былі ўжо вядомы такія значныя творы аб мінулай вайне, як «Жывыя і мёртвыя» К. Сіманава, «Танкі ідуць ромбам» А. Ананьева, «Дзікі мёд» Л. Первамайскага, «Ліпень 41 года» Г. Бакланава, «Рэха вайны» А. Калініна, «Прапаўшыя без вестак» С. Злобіна, «Блакада» А. Чакоўскага, «Гарачы снег» Ю. Бондарава, «Сотнікаў» В. Быкава, «Сустрэчы на ростанях» А. Кулакоўскага і іншыя, у якіх падзеі асэнсоўваліся з паслядоўнай праўдзівасцю і майстэрскім

пранікненнем у псіхалагічныя глыбіні характараў. Падобная глыбіня ў вышэйшай меры выяўляецца і ў рамане «Смутак белых начэй». Галоўнаму герою твора Сяргею Каліноўскаму пашанцавала ваяваць побач з землякамі. Усе яны паспелі — у той ці іншай меры — панюхаць пораху яшчэ да мабілізацыі ў дзеючую армію, цудам уцалелі. Затое на фронце адзін за адным знікалі ў ненажэрнай пашчы смерці. Кожную страту Сяргей перажываў вельмі балюча, бо меў з забітымі агульнае дафрантавое жыццё, добра ўяўляў, як няўцешна загалосяць на далёкай радзіме іх маці.

«У гэтым месцы растуць два кусцікі ядлоўцу. На чалавека, які ляжаў пад імі і які гадзіну назад быў Пятром Герасімовічам, нельга глядзець без дрыжыкаў. Твар бяскроўны — белы аркуш паперы. Чэрап знесены. Верхавінка чэрапа, адсечаная асколкам, ляжыць крокі за тры. У яе, нібы пасудзіну, наліло дажджавой вады» (4, 418).

Такія жахлівыя відовішчы здольны зруйнаваць псіхіку любога чалавека. Аналізуючы падрабязнасці гібелі іншых сваіх землякоў, Сяргей прыходзіць у адчай з-за ўсведамлення крохкасці чалавечага жыцця, асабістага бяссілля перад д’ябальскай мясарубкай франтавога процістаяння. Гэта прыводзіць да душэўнага зрыву, які выявіўся ў страце інстынкту самазахавання і жадання жыць. Прага смерці ў душы дзевятнаццацігадовага, здаровага і разумнага юнака — ды яшчэ там, дзе яна і так штохвілінна правіць свой крывавы баль,— што можа ўяўляцца больш яркім аргументам супраць вайны? Неўзабаве ён выйдзе з дэпрэсіі. Пасля кантузіі і лекавання ў шпіталі Сяргей прыкідвае, на які фронт можа патрапіць. Вайна ў яго вачах прывабней не стала, але ён будзе ваяваць, каб яго былыя аднакласніцы, з якіх у родным мястэчку сфармавалі дзясяты клас, змаглі скончыць школу.

Падзеі ваеннага часу ажываюць і на старонках рамана «Асеннія мелодыі» (1987). Яны не з’яўляюцца стрыжнявымі ў сюжэце твора, а менавіта ажываюць у памяці былога партызана Андрушкевіча, які прыязджае на сустрэчу ветэранаў у раённы гарадок Клінск. Ён рады бачыць сваіх паплечнікаў па барацьбе, але на донцы яго душы тлее крыўда на тое, што ў першыя пасляваенныя гады вельмі цяжка ішло прызнанне рэальных заслуг падпольшчыкаў. І віна за гэта клалася не толькі на перастрахоўшчыкаў з шэрагаў афіцыйных чыноўнікаў ды начальства, але і на былых партызанскіх камандзіраў. У рэшце рэшт ісціна перамагла, але колькі на шляху гэтай перамогі здаралася несправядлівасцей, недаверу, нават шальмавання... Уздымаючы гэту праблему, пісьменнік абапіраўся на ўласны вопыт барацьбы за

добрае імя многіх знаёмых і незнаёмых падпольшчыкаў і лічыў яе праблемай дзяржаўнага значэння.

Раман «Летуценнік» (1983) можна лічыць своеасаблівым працягам аповесці «Інтэрнат на Нямізе». Твор гэты па-сапраўднаму займальны, чытэльны. Пра сутнасць яго задумы сведчыць сам аўтар: «У рамане «Летуценнік» мне хацелася сказаць, што ёсць нейкія запаветныя, святыя пачуцці, каханне. І калі ёсць шлюб, у якім адзін бок любіць, а другі не любіць, трэба знаходзіць нейкае выйсце. Шанаваць хоць гэтае аднабаковае каханне. У новым рамане я таксама закранаю гэтыя пытанні. Герой мой — вучоны, гісторык. Недарэмна, як кажуць, есць свой хлеб, па-сапраўднаму апантаны сваёй ідэяй. Але як чалавек ён крыху сумнаваты. Яго сяброўцы праз некаторы час падалося, што ён аднастайны. Тым больш што абодва сустрэліся ва ўзросце, калі душы іх ужо былі абпалены ранейшым каханнем. Сталася так, што сярэдзіна жыцця абаіх атрымалася нецікавай. Пачалі шукаць уцехі на баку, але ў рэшце рэшт прыйшлі да вываду, што нічога лепшага, што ёсць, не знойдзеш. Трэба шанаваць сям'ю.

Я ведаю быт вучоных, у прыватнасці гісторыкаў, крыху чытаў іх творы. Вобраз галоўнага героя збіральны, канкрэтнага прататыпа нават цяжка назваць»[1].

Як бачым, у рамане «Летуценнік» асэнсоўваюцца калізіі, якія пісьменнік упадабаў яшчэ ў пачатку свайго творчага шляху. І не дзіўна, што ўзровень гэтага асэнсавання аказаўся высокім. Шмат цікавых падрабязнасцей утрымліваецца ў рамане пра асаблівасці станаўлення навуковай і творчай інтэлігенцыі ў сярэдзіне XX стагоддзя, пра жыццё беларускага народа ў гэты час.

Значнае, прынцыпова важнае значэнне ў творчасці І. Навуменкі занялі крытыка і літаратуразнаўства. Зрэшты, свой шлях у літаратуру ён і пачынаў менавіта з крытыкі. У канцы 1940—пачатку 1950-х гадоў ён піша рэцэнзіі і артыкулы пра творчасць П. Пестрака, Т. Хадкевіча, І. Мележа, А. Вялюгіна і інш. Паказальна, што і ў часопіс «Маладосць» яго бралі напачатку ў аддзел крытыкі. Больш за паўстагоддзя аддаў ён служэнню гэтаму віду літаратурнай творчасці, паспрабаваўшы свае сілы практычна ва ўсіх яе жанравых мадыфікацыях. Найчасцей жа з-пад яго пяра выходзілі рэцэнзіі і праблемныя артыкулы, літаратурныя эсэ і эцюды, юбілейныя імпрэсіі-віншаванні і інтэрв'ю, водгукі на навуковую

[1] ЛіМ. 1986. 11 крас.

працу і энцыклапедычныя артыкулы... Шмат напісана ім уступных артыкулаў да збораў твораў і іншых выданняў таварышаў па пяры, творчых партрэтаў і раздзелаў для гісторыі літаратуры. Першую літаратуразнаўчую манаграфію «З глыбінь жыцця» выдаў у 1960 годзе і прысвяціў яе даследаванню творчасці Якуба Коласа. А потым была кніжка пра пачынальнікаў новай беларускай літаратуры «Паэты-дэмакраты» (1967). Але сапраўдная літаратуразнаўчая слава напаткала І. Навуменку пасля выхаду манаграфій «Янка Купала: духоўны воблік героя» (1967) і «Якуб Колас: духоўны воблік героя» (1968). Літаратурная грамадскасць адразу вельмі высока ацаніла гэтыя кнігі. Нават у назвах рэцэнзій можна вычытаць тую ацэнку: «Слова значнае і патрэбнае» (Ц. Ліякумовіч), «Новае слова пра Янку Купалу» (А. Ляпіч), «Воблік купалаўскага героя» (Ю. Пшыркоў), «Эстафета купалазнаўства» (У. Юрэвіч), «Які ён, коласаўскі герой?» (Я. Казека), «Даследуецца коласаўская спадчына» (І. Кудраўцаў), «Духоўны воблік коласаўскага героя» (Ю. Пшыркоў), «Паўната ісціны» (Л. Ламека) і інш. Усе пагаджаліся, што аўтару ўдалося ўзняцца над папярэднім купала- і коласазнаўствам, па-новаму раскрыць мастацкі свет песняроў. І сапраўды, абедзве манаграфіі вылучаліся навізной даследчых падыходаў, якія па сутнасці сваёй рэвалюцыйнымі, магчыма, і не былі, затое неслі на сабе многія адзнакі навейшых дасягненняў літаратуразнаўчай думкі. З сімпатыяй і разуменнем успрымаецца спроба аўтара ўключыць творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа ў сусветны літаратурны працэс. Менавіта на такім фоне больш рэльефна выяўляюцца багацце і непаўторнасць іх паэтычнага свету. І менавіта гэты кантэкст дазваляў па-навуковаму адэкватна адказаць на пытанні: што ёсць беларуская класіка, хто можа лічыцца нацыянальным геніем.

Цёпла ўспрынялі спецыялісты і выхад манаграфій «Змітрок Бядуля», «Максім Багдановіч», «Ранні Кузьма Чорны (1923—1929)», надрукаваныя адпаведна ў 1995, 1997 і 2000 гадах.

Паспрабаваў свае сілы І. Навуменка і ў драматургіі, надрукаваўшы ў часопісе «Полымя» (1982, № 5) драму пра гераізм беларускіх падпольшчыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны «Птушкі між маланак». На жаль, тэатры засталіся раўнадушныя да яго п’есы, хоць яна і не пазбаўлена пэўных мастацкіх вартасцей.

Больш за паўстагоддзя доўжылася служэнне І. Навуменкі ў літаратурным цэху беларускай культуры. Зроблена шмат, і многае са зробленага вызначаецца высокім прафесіяналізмам. Паказальна, што яму было б забяспечана пачэснае месца ў гісторыі беларускай

літаратуры адно толькі за яго дасягненні ў галіне літаратуразнаўча-крытычнай творчасці: яго даследаванні айчыннай нацыянальнай класікі з цягам часу не страцілі сваёй свежасці і грунтоўнасці. Тым больш неаспрэчнымі з'яўляюцца яго заслугі ў развіцці празаічных жанраў беларускай літаратуры. Глыбокае асэнсаванне жыцця людзей ва ўсёй яго побытавай сацыяльна-эканамічнай і этычнай складанасці дапамагло яму напісаць шмат высокамастацкіх твораў, поўных любові і павагі да чалавека, а тонкае разуменне прыроды, уменне ярка перадаваць яе прыгажосць, веліч і паэзію паставілі яго імя ў шэраг самых выбітных майстроў-прыродаапісальнікаў. Прадказальнай уяўляецца перманентная пралангацыя грамадскай зацікаўленасці і да твораў, у якіх праўдзіва, псіхалагічна пераканаўча асэнсавана героіка Вялікай Айчыннай вайны, на высокім мастацкім узроўні ўслаўлены подзвіг пакалення, якое ў трагічна складаных умовах акупацыі не стала на калені.

*Сцяпан Лаўшук.*

## ПАЧАТАК ТВОРЧАСЦІ

Як і многія іншыя майстры празаічнага мастацкага слова І. Навуменка пачынаў свой творчы шлях з напісання вершаў. Паводле яго ўспамінаў, свой першы верш ён стварыў яшчэ будучы вучнем другога класа. І амаль як у Якуба Коласа, першымі добразычлівымі сведкамі і цэнзарамі яго мастацкай адоранасці сталі родныя і блізкія людзі — маці і стрыечная сястра, якія блаславілі юнака, сказаўшы, што «верш добры». Таксама ў вучнёўскім узросце паспрабаваў ён свае сілы ў жанрах газетнай нататкі, тэматычнай замалёўкі. Яшчэ напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны, у маі 1941 года, на старонках абласной газеты «Бальшавік Палесся» з'явілася першая публікацыя будучага вядомага празаіка, якая мела назву «Бескультур'е — спадарожнік расхлябанасці» і была напісана ў сааўтарстве з Н. Белым.

Падчас свайго 55-гадовага юбілею, адказваючы на пытанні карэспандэнта «ЛіМа» У. Анісковіча, І. Навуменка, успамінаючы мінулае, казаў: «Пра літаратуру я марыў, і марыў даўно... Так, вершы я пісаў і друкаваў... Я доўгі час працаваў карэспандэнтам абласной газеты «Бальшавік Палесся» ў Мазыры... Там друкаваў вершы, потым — у «Чырвонай змене», нават у «Літаратуры і мастацтве» ў 1947 годзе быў надрукаваны мой верш, недзе ў мяне і нумар гэты захоўваецца... Тады ў сорак шостым — сорак восьмым гадах друкаваў вершы, нарысы і, вядома, нешта марыў пра літаратуру ўжо больш акрэслена» [13, с. 5].

Менавіта праца карэспандэнтам абласной газеты стала тым «унутраным крэатыўным рэактарам» для выспявання і паступовай выкрышталізацыі закладзеных прыродай шматгранных творчых і мастацкіх задаткаў маладога юнака, які ў 20 гадоў ужо меў чатырохгадовы суровы і цяжкі вопыт падпольшчыка, партызана, салдата.

Шматлікія карэспандэнцыі, нататкі, замалёўкі, фельетоны, вершы, рэцэнзіі, нарысы, якія былі прафесійным заняткам для нядаўняга выпускніка школы і студэнта-завочніка, сталі сапраўднай школай шліфавання стылявой манеры спецкара, яго маральна-этычнага густу ў ацэнцы жыццёвых калізій і канфліктаў пасляваеннай рэчаіснасці, спосабам пошуку эстэтычна-вобразнага ракурсу ў выяўленні прыкмет і характараў герояў сваіх газетных і часопісных матэрыялаў.

Газетныя матэрыялы І. Навуменкі, надрукаваныя ім у «Бальшавіку Палесся» на працягу амаль шасці гадоў карэспандэнцкай працы,— адметны і цікавы летапіс адраджэння разбуранага вайной роднага краю.

Цэнтральнае месца ў гэтым публікацыйным масіве займае, безумоўна, жанр нарыса, як найбольш блізкі для сюжэтна-

кампазіцыйнай манеры схільнага да вобразна-мастацкага мыслення спецкара. Асаблівай прыкметай нарыса з’яўляецца тое, што ён палягае на стыку журналістыкі і літаратуры і заклікланы хутка ўлоўліваць і адлюстроўваць найбольш актуальныя і важныя працэсы, якія адбываюцца на пэўным этапе развіцця грамадства.

Паводле тэматыкі, кампазіцыі, выбару герояў і фактаў нарысы І. Навуменкі васілевіцкага перыяду неаднародныя, разнастайныя паводле зместу і формы. Аднак у гэтай неаднароднасці і разнастайнасці выразна праглядваецца вызначальная тэндэнцыя стылістычнай манеры пісьма маладога нарысіста — гэта няўхільнае пранікненне і пашырэнне ў публіцыстычнай прасторы нарыса стыхіі мастацкасці, якая настойліва і ўладарна ўрываецца ў газетны жанр.

Ад нарыса да нарыса падзеі жыцця ў публікацыях І. Навуменкі паступова выходзяць за рамкі канкрэтных фактаў і падаюцца праз прызму асэнсавання іх чалавекам, які мае свой вобраз і характар, валодае індывідуальным, непаўторным поглядам на жыццё. Такія спецыфічныя жанравыя якасці нарыса, як дакументальнасць і праўдзівасць, стануць пазней адметнай рысай паэтычнай і мастацкай манеры будучага празаіка.

У артыкуле «Ад праўды жыцця», надрукаваным у часопісе «Полымя» (1961, № 1), пісьменнік Т. Хадкевіч, аналізуючы творчасць І. Навуменкі, трапна зазначаў наступнае: «Так вось мне, калі я прачытаў новы зборнік апавяданняў Івана Навуменкі «Верасы на выжарынах», запомнілася перш за ўсё апавяданне «Прыпяцкая зона», якое, магчыма, і не з’яўляецца стрыжнявым у зборніку.

Калі падысці фармальна, дык гэта і не апавяданне ў поўным сэнсе слова, а хутчэй мастацкі нарыс. Аднак, чытаючы твор, забываешся на розніцу гэтых двух жанраў прозы... Вось такое ўменне знаходзіць у звычайным паэтычнае, праз трапныя мастацкія дэталі па-новаму асвятліць знаёмыя, здавалася б, нам з’явы — характэрна для творчасці І. Навуменкі — пісьменніка параўнаўча яшчэ маладога, але які добра зарэкамендаваў сябе ў беларускай прозе» [17, с. 183].

Усе тыя эмоцыі, уражанні і факты, якія карэспандэнт газеты «Бальшавік Палесся», а затым рэдактар часопіса «Маладосць» назіраў у жыцці, занатоўваў у дзённікі, публікаваў у газетах і часопісах, у далейшым арганічна знайшлі сваё яркае ўвасабленне і пераасэнсаванне ў мастацкай творчасці.

Для прыкладу спашлёмся толькі на адну такую выразную пераклічку-паралель творчай трансфармацыі і пераносу сюжэтна-фабульнай і факталагічнай канвы падзей з нарыса ў мастацкі твор. У 1953 годзе ў часопісе «Маладосць» выйшаў нарыс І. Навуменкі

пад назвай «Ён будзе інжынерам», дзе раскрываецца жыццёвы лёс маладога навучэнца Мінскага політэхнічнага інстытута, які марыць у будучым стаць адным з актыўных удзельнікаў вялікіх будоўляў краіны. А ў 1955 годзе ў тым жа часопісе публікуецца апавяданне пад назвай «Над ціхай Віццю», дзе раскрываецца вобраз маладога выпускніка політэхнікума, які марыў паехаць у экзатычныя мясціны вялікай краіны, каб прычыніцца да магутных будаўнічых здзяйсненняў сваёй эпохі.

Толькі па размеркаванні герой вымушаны быў ехаць у глыб Палесся, каб працаваць там на метэастанцыі. Але і тут ён знаходзіць месца для прымянення сваіх набытых падчас вучобы ведаў па гідратэхніцы, добраахвотна кансультуючы будаўнікоў невялічкай, але такой патрэбнай для гэтай мясцовасці гідраэлектрастанцыі на рачулцы пад назвай Віць. Апрача таго, знаходзіць наш герой тут і сваё каханне, і жыццёвае прызначэнне.

У 1948 годзе ў «Бальшавіку Палесся» І. Навуменка друкуе сваю першую рэцэнзію на мастацкі твор, аповесць Піліпа Пестрака «Пачатак», якая дае падставу казаць пра тое, што цяга да мастацкага слова, мастацкага мыслення ўвесь час «магнетычна» ўздзейнічала на будучага пісьменніка. Недарэмна ж ён, паступіўшы на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна (завочная форма навучання), перавёўся на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры гэтага ж факультэта, каб глыбей адчуць і спазнаць «механіку і алгебру» словатворчасці. Тут у першых рэцэнзіях намацваецца той аналітызм мыслення, які канчаткова знойдзе сваё выйсце ў сталую пару даследавання І. Навуменкам духоўнага аблічча герояў у творчасці Я. Коласа, Я. Купалы, З. Бядулі, К. Чорнага, В. Дуніна-Марцінкевіча.

Цікавым у гэтых адносінах падаецца і такое, парадаксальнае, на першы погляд, прызнанне падчас аднаго з інтэрв’ю, дзе І. Навуменка выказаў наступнае меркаванне: «І можна лічыць, першым маім сур’ёзным творам стала кандыдацкая дысертацыя, якую пісаў па абавязку і абараніў у 1954 годзе. Значыць, маё жыццё склалася так, што спачатку я быў пасвечаны, калі можна так сказаць, у крытычныя рыцары. Але ўсё ж такі мастацкая літаратура ўзяла ўва мне верх, і сябе я больш лічу пісьменнікам, празаікам, чым крытыкам. Большая ў мяне ўнутраная патрэба да гэтага, большая цяга...» [13, с. 5].

Такім чынам, сталаму майстэрству першых апавяданняў І. Навуменкі папярэднічаў перыяд напружанай шліфоўкі мастацкага інструментарыя і ідэйна-кампазіцыйных пошукаў сваёй тэмы ў розных жанрах газетна-часопіснай публіцыстыкі, асабліва ў жанры

нарыса, які, па сутнасці, выяўляе сябе пэўнай разнавіднасцю жанру мастацкай прозы. Сам ён так выказаўся на гэты конт:

«Пісаў і друкаваў вершы, фельетоны, рэцэнзіі. Мова некаторых публікацый была добрая. Нарэшце дайшоў да формы, якая межавала з апавяданнем. Помню, напісаў вялікі нарыс і падпісаў яго не І. Навуменка, як заўсёды, а Іван Навуменка. Я проста ўзяў і апісаў аднаго чалавека з калгаса, па-мойму, пчаляра, і мне хапіла. Аказваецца, праз пчаляра можна ўвесь калгас паказаць. Я зразумеў, што трэба браць адзінкавы факт, не варыцца ў мностве. Газетная «цыфір» не наблізіла мяне да пісьменніцтва, а, наадварот, аддаліла» [10, с. 58].

Апавяданні І. Навуменка пачаў пісаць у сярэдзіне 1950-х гадоў, калі яму было ўжо каля трыццаці гадоў. Успамінаючы свае першыя падыходы да мастацкай прозы, ён зазначае: «Калі гаварыць пра вершы, то дзясяткі два я надрукаваў у абласной газеце. Друкаваліся яны нават і ў «Чырвонай змене», і ў «ЛіМе» — гэта так даўно было, 46-ы, 47-ы, 48-ы гады. Але я не лічу іх першымі творамі, паколькі я празаік усё-такі.

Першае апавяданне пад назвай «Інтэрнацыянал» я хацеў надрукаваць у абласной газеце. Сюжэт быў такі: партызаны трапілі ў акружэнне, выхаду не было, але яны мабілізаваліся, сабралі свае духоўныя сілы, заспявалі «Інтэрнацыянал» і прарваліся. Адказны сакратар прачытаў і кажа: «Знаеш што, калі б у іх не было патронаў, гранат, то наўрад ці яны б прарваліся...»

У 1950-я гады я працаваў у «Маладосці», загадваў рознымі аддзеламі, і мяне часта пасылалі ў камандзіроўкі. Аднаго разу — каб я выкрыў нейкага там шамана, які тлуміць людзям галовы. І я падумаў: а чаго мне ехаць? Няўжо я не магу сам выдумаць? І сеў-напісаў гумарэску. Гэта было ў 1954 годзе, і называлася яна «Ганьба «святога» Лукі». Але і яе не трэба лічыць за пачатак. Першыя апавяданні, якія лічу сапраўднымі, з'явіліся ў 55-м, іх было адразу два — «Сідар і Гараська» і «Эх, махорачка...». У «Маладосці» выйшлі. Тэма — хлопцы ў вайну, маё пакаленне. Я гэта ведаў і так, уласна кажучы, і пісаў...» [13, с. 5].

Сапраўды, першыя апублікаваныя апавяданні І. Навуменкі «Сідар і Гараська», «Эх, махорачка...» выйшлі ў часопісе «Маладосць, № 6 за 1955 год пад рубрыкай «*З незабыўных дзён*». Але ў другім сваім зборніку «Хлопцы-равеснікі» і ў Зборы твораў у 6 тамах пісьменнік заўжды пад апавяданнем «Мішаў калейдаскоп» ставіў год напісання 1954.

Апавяданне-гумарэска «Ганьба «святога» Лукі» было апублікавана ўпершыню ў газеце «Мінская праўда» (1958, 16 ліп.). Таму мы ў

першым томе Збору твораў у 10 тамах ставім згодна аўтарскай храналогіі на першае месца апавяданне «Мішаў калейдаскоп».

У 1957 годзе быў выдадзены ў Дзяржаўным выдавецтве БССР у бібліятэчцы беларускага нарыса і апавядання першы невялічкі зборнік апавяданняў І. Навуменкі пад назвай «Сямнаццатай вясной», у склад якога ўвайшлі толькі тры апавяданні.

Пазней ужо, абдумваючы свой шлях у літаратуры, І. Навуменка выкажацца наступным чынам:

«З чаго ж усё-такі пачынаецца пісьменнік? Відаць, з нечага вельмі канкрэтнага. Я і цяпер, калі не спіцца, а пад старасць часта не спіцца,— што ўспамінаю? Краявіды... са сваіх Васілевічаў у 51-м я ўжо выехаў назаўсёды, а сказаць па шчырасці — я да Мінска яшчэ і сёння не прывык як след, па-сапраўднаму. Гэта — раз.

А па-другое, гэтыя краявіды, зямля, на якой ты вырас, прытым любы кавалак зямлі,— яны выклікаюць розныя пачуцці. Ёсць, як Колас пісаў, мясціны, дзе і птушка гнязда не ўе і не спявае,— і пісьменнік гэта адчуе. Усё залежыць ад гэтай самай песні зямлі.

Я хачу, каб вы зразумелі: для мяне апавяданне — не падзея, не факт, нават не сюжэт (сюжэт знойдзецца). Важна адчуць! Адчуць тую мясціну альбо той пейзаж, які запомніў, палюбіў, а потым ужо навяжацца — ці тое, што было асабіста, ці прыдумаецца нешта. Кажуць, што я біяграфічны пісьменнік. Канешне, біяграфічны. Але колькі ў той біяграфіі выдумкі! Дык вось трэба гэтая мясціна. І тады яна будзе спяваць!

Словам, пісьменнік — нейкая апасродкаваная істота. Вось як на мандаліне іграюць медыятарам, дык так і пісьменнік — накшталт гэтакага медыятара, які перадае сум ці радасць зямлі, неба, усёй навакольнай прыроды, ну, і чалавека, безумоўна...» [10, с. 61].

Паводле агульнага генетычнага закону культурнага развіцця ўсялякая вышэйшая псіхалагічная функцыя непазбежна праходзіць праз вонкавую стадыю развіцця, бо з'яўляецца (паводле Выгоцкага) іманентнай і першапачатковай сацыяльнай функцыяй. У гэтым сэнсе ўсё чалавечае ў чалавеку выступае на сцэне яго жыцця двойчы і ў двух планах. Спярша — сацыяльным, затым — псіхалагічным, напачатку паміж людзьмі, потым унутры чалавека. Таму і думка асобнага чалавека — гэта шмат у чым думка ўсяго чалавецтва. І чалавек настолькі з'яўляецца чалавекам, наколькі ўвасабляе ў сабе ўсё чалавецтва. Менавіта паводле такога крытэрыя ў многім вызначаецца і якасць таленту мастака слова.

Такой жа жыццёвай філасофіі прытрымліваўся і І. Навуменка, калі падчас аднаго з інтэрв'ю даводзіў: «Я лічу, што кожнаму пісьменніку трэба прайсці пэўны жыццёвы шлях, патрэбна

біяграфія... Вялікая Айчынная вайна — вось гэта галоўная падзея ў маім жыцці. Я ўдзельнічаў у падпольных справах, быў у партызанах, быў на фронце. Пасля вайны ездзіў шэсць гадоў па калгасах, бачыў аднаўленчую работу. Так што ўражаннямі жыццёвымі я дзесьці быў нават перапоўнены, і пра многае хацелася расказаць. Пра вельмі многае...» [13, с. 5].

Ужо значна пазней І. Навуменка яшчэ больш удакладніць сваю мастацкую «хімію» творчасці: «Я заўсёды трымаўся дакументальнага, таго, у чым сам удзельнічаў ці чаго быў сведкам, што бачыў і чуў асабіста. Я ведаю, што яно было, але вельмі важным з’яўляецца, як яно было.

Гэта трэба яшчэ раскрыць, «хімію» гэтага, «было» трэба яшчэ здабыць. Да ўсяго тут даходзіш інтуітыўным шляхам. Трэба намацаць характар... Побач з фактамі нямала і фантазіі, выдумкі. Факты нічога не азначаюць, усё роўна трэба інтуіцыя, каб адчуць, што як... Трэба адчуць дух часу. Калі гаварыць пра вайну, то дух часу я адчуваў па месяцах» [10, с. 62].

Нечакана для пачынаючага аўтара на выхад першых дзвюх кніг «Сямнаццатай вясной» (1957) і «Хлопцы-равеснікі» (1958) дружна адгукнулася крытыка. Свае рэцэнзіі на зборнік далі часопісы «Полымя», «Беларусь», газета «Чырвоная змена». Усе аўтары аднадушна адзначылі тое, што «з першых крокаў у літаратуры Іван Навуменка звярнуў на сябе ўвагу чытача свежым словам пра простага чалавека, шчырасцю інтанацый, тонкім лірызмам у спалучэнні з мяккім дасціпным гумарам...» [8, с. 3].

Але ўсё ж можна лічыць, што па-сапраўднаму вызначыў месца ў літаратурна-мастацкім жыцці неафіта-апавядальніка яго зямляк, вядомы ўжо на той час літаратуразнаўца Ю. Пшыркоў, які апублікаваў свой апалагетычна-крытычны матэрыял на старонках цэнтральнага літаратуразнаўчага часопіса рэспублікі («Полымя», 1958, №7) пад назвай «Апавяданні Івана Навуменкі». Уражаны зместам і якасцю апавяданняў, Ю. Пшыркоў шчыра радаваўся прыходу ў беларускую літаратуру адоранага празаіка, які падае шмат надзей. У артыкуле ён пісаў: «Пісьменнік любіць сваіх герояў такой вялікай любоўю, што гэта любоў перадаецца чытачу. Гэта якасць робіць яго творы цікавымі. Калі пісьменнік і надалей не саступіць з абранага ім шляху, яму заўсёды будуць спадарожнічаць удача і поспех...

Вельмі прыемнае ўражанне пакідае мова апавяданняў. Пісьменнік валодае ўменнем узяць чытача ў палон з першай фразы, адразу прыкаваць увагу да таго, аб чым пойдзе гаворка. Выхад у свет кнігі апавяданняў І. Навуменкі выклікае сапраўдную радасць: у нашу літаратуру прыйшоў здольны навеліст» [15, с. 183].

І хоць рэцэнзент і робіць невялікія заўвагі на тое, што некаторыя апавяданні яшчэ не да канца кампазіцыйна і сюжэтна распрацаваны і маюць штучную скампанаванасць, але агульны пафас ацэнкі нясе зусім не прыхаваны хвалебны змест, што не прамінуў заўважыць і нават пакрытыкаваць пільны крытык В. Крышталь у сваім артыкуле пад сімвалічнай назвай «Удалая творчая заяўка».

Сам жа В. Крышталь таксама станоўча ацэньвае першыя дзве кнігі малой прозы І. Навуменкі, гаворачы аб тым, што «аўтар, абапіраючыся на рэальныя факты з жыцця, праўдзіва паказвае, як у працэсе ўсенароднай барацьбы з фашызмам мужнелі і гартаваліся характары юных герояў, раскрываліся лепшыя рысы чалавечай натуры, закладзеныя ў іх савецкім ладам жыцця». Асаблівую ўвагу звярнуў даследчык на ўдалае выкарыстанне празаікам у апавяданнях прыёму антытэзы, унутранай кантраснасці персанажаў, што «дазваляе пісьменніку трымаць чытача ў напружанасці... праўдзівасцю сітуацый, пранікненнем у псіхалогію герояў» [8, с. 3].

Разам з тым крытык робіць і шэраг сур’ёзных заўваг навелісту, адной з іх з’яўляецца тое, што «ў асобных выпадках, каб пазбавіць сябе ад клопатаў па грунтоўнай шліфоўцы характараў сваіх твораў, пісьменнік нават выносіць у якасці падзагалоўка страховачнае слова эцюд”» [8, с. 3].

Грунтоўнаму, глыбокаму, па-сапраўднаму прафесійна-аналітычнаму разгляду першыя апавяданні І. Навуменкі падвергліся з боку тады яшчэ пачынаючага таленавітага літаратуразнаўцы М. Лазарука, які выступіў на старонках часопіса «Беларусь» (1957, № 11) з разгорнутым артыкулам «Першая кніга». Дасведчаны і кваліфікаваны даследчык змог вельмі дакладна ўлавіць усе асноўныя спецыфічныя мастацкія якасці, характэрныя для творчай манеры пачынаючага, але разам з тым шмат у чым самастойнага, з індывідуальным зрокам бачання свету, пісьменніка.

Так, М. Лазарук слушна зазначае, што «апавяданні І. Навуменкі не вызначаюцца навізной тэматыкі. І тым не менш яны цікавыя, вабяць сваёй непасрэднасцю, арыгінальнасцю паказу жыцця. Сакрэт прывабнасці гэтых апавяданняў у тым і заключаецца, што аўтар свае намаганні скіроўвае не на тое, каб паказаць чытачу некалькі новых фактаў з жыцця народа ў час Вялікай Айчыннай вайны, а на псіхалогію гэтых фактаў, мастацкае, з вышыні сённяшняга дня, іх асэнсаванне» [9, с. 152].

Літаратуразнаўца акцэнтавана вылучае найбольш выразныя рысы мастацкага почырку апавяданняў цікавага навеліста. «Аўтар як бы знарок, цэлым шэрагам рысаў, манерай апавядання падкрэслівае звычайнасць сваіх герояў, акцэнтуючы сваю ўвагу галоўным чынам

на раскрыцці ўнутранага іх свету, руху іх думак, пачуццяў, на іх псіхалогіі.

Псіхалагізм з'яўляецца характэрнай асаблівасцю апавяданняў І. Навуменкі. Часам ён удала спалучаецца з лірызмам, як, напрыклад, у апавяданні «Сямнаццатай вясной». І яшчэ патрэбна адзначыць адну рысу апавяданняў І. Навуменкі — гэта ўменне аўтара карыстацца гумарам.

Будучы добрым апавядальнікам, Навуменка валодае несумненнай здольнасцю *паказваць*. Ён не імкнецца гаварыць за сваіх герояў тое, што можна выказаць у дыялогу або перадаючы ход разважанняў героя, яго перажыванні і пачуцці» [8, с. 153].

Амаль трыумфальны ўваход І. Навуменкі ў беларускую прозу і літаратуру можна падагульніць словамі Р. Шкрабы, які ў сваім артыкуле «Цікавае знаёмства», апублікаваным у часопісе «Беларусь» (1958, № 7) выказаў наступнае меркаванне: «Увогуле ж кніга «Хлопцы-равеснікі» сведчыць, што ў беларускую прозу прыйшоў яшчэ адзін цікавы і шматабяцальны апавядальнік» [18, с. 31].

У беларускую мастацкую літаратуру І. Навуменка прыйшоў са сваёй візітнай карткай — тэмай юнацтва, песняром пакалення «сямнаццацігадовых». І на працягу паўстагоддзя ад апавядання да апавядання даследаваў унутраны свет, погляды, стаўленне да жыцця таго падлетка, хлапчука, юнака, які нарадзіўся ў першыя гады савецкай улады.

Гэтаму пакаленню была асабліва ўласціва такая якасць, як пачуццё гістарычнасці, якое надавала сэнс іх паводзінам і дазваляла мабілізавацца ў цяжкія моманты і сітуацыі жыцця. Людзі гэтага пакалення надзвычай адкрыты навізне, дзеянню. Што і прапісана па большасці агульнымі грамадскімі правіламі і ідэалагічнай настраёвасцю. Ідэал такога гістарычнага існавання замкнёны на празе подзвігу, на гераічным, да чаго юнакоў і дзяўчат рыхтавалі логіка гісторыі, атмасфера і ідэалогія той дзяржавы.

У адным з апошніх сваіх інтэрв'ю І. Навуменка, гаворачы пра сваю творчасць і жыццё, прызнаваўся: «Самае галоўнае, што і тэма ў мяне была — тэма майго пакалення. Ніхто ж нас не мабілізоўваў, самі ішлі ў падполле, партызаны, на загад сэрца. А гэта не простая справа — маглі маці, бацьку арыштаваць і расстраляць.

Я вось на старасці гадоў дадумаўся, што ўсякаму пакаленню трэба нейкая баявая справа. Некаторыя маладыя, не маючы такой справы, шукаюць яе, часта беспрадметна бунтуюць. Гэта ўсё з'явы таго самага парадку. У нас гэта ўсё было натуральна...» [10, с. 59].

Гэтая натуральнасць хораша адлюстравалася ў апавяданнях І. Навуменкі, які паказаў простага героя, звычайнага чалавека з

яго правам мець свае індывідуальныя, натуральныя погляды на экзістэнцыйныя і ідэйныя пытанні свайго існавання ў свеце, якія б захоўвалі ў ім, чалавеку, духоўную і маральную чысціню і цэльнасць.

Таму пісьменнік мог шчыра сказаць пра сябе і сваю творчасць: «Я пісаў пра людзей, якіх ведаў,— сваіх равеснікаў, школьнікаў, салдат, падпольшчыкаў. З нашага дзясятага класа, напрыклад, на фронт пайшло шаснаццаць чалавек, а вярнуліся чатыры. Маё пакаленне, народжанае ў сярэдзіне дваццатых гадоў, вылучаецца цэльнасцю характару. Мне яно асабліва падабаецца сваёй рамантыкай, марай аб подзвігу...» [6, с. 5].

Пісаць пра сваё пакаленне азначала ў першую чаргу пісаць пра вайну, паказваць праз лёсы, чалавечыя характары, якія вельмі выразна праяўляюцца ў абставінах смяртэльнага бою, непаўторны вобраз часу. Вайна, а тым болей Вялікая Айчынная вайна,— падзея, у якую быў уключаны ўвесь народ; яна падпарадкавала сабе ўсе адчуванні, усе іх думы і мары.

У паказе звышскладаных падзей вайны па-майстэрску выкарыстаць жанравыя магчымасці малой празаічнай формы прозы І. Навуменку дапамагала такая якасць яго творчага мыслення, як уменне пашырыць прасторавыя, сэнсавыя і светапоглядныя межы мастацкай прасторы за кошт павелічэння нагрузкі на падтэкст.

Пра плённае выкарыстанне гэтага мастацкага прыёму пісьменнікам трапна выказаўся літаратуразнавец В. Жураўлёў, які ў сваім раздзеле «Сюжэт і рэчаіснасць» у калектыўнай манаграфіі «Праблемы сучаснай беларускай прозы» зазначыў: «На моцнай падводнай плыні развіваецца і рухаецца сюжэт у лепшых апавяданнях І. Навуменкі. Гэта плынь-падтэкст часта настолькі пашырае і паглыбляе ідэйна-тэматычную аснову твора, што кароткае апавяданне па багаццю зместу пачынае набліжацца да твораў буйнога эпічнага жанру. Пра майстэрства І. Навуменкі пераносіць значную частку агульнай задумы на падтэкст можа многа сказаць яго апавяданне “Дом над морам”» [5, с. 208].

Ад пільнага вока крытыкаў і літаратуразнаўцаў не маглі схавацца змены эмацыянальнай настроенасці апавядальніка І. Навуменкі. Сутыкнуўшыся з ваеннай ды і з пасляваеннай рэчаіснасцю, герой яго апавяданняў паступова пачынае адчуваць унутраную незадаволенасць даваеннай спрошчана-прымітыўнай, даверліва-юначай формай успрыняцця сапраўдных канфліктаў жыцця і ідэалогіі. Можа, таму так сумна-журботна гучаць словы галоўнага героя апавядання «Верасы на выжарынах» (1966): «Даруй мне, родны Казіны Рог!.. Ты калыхаў маё дзяцінства, ты нашаптаў мне тысячы казак-сноў.

Быў ты маім найлепшым другам і таварышам, а я прыйшоў цябе нішчыць. Сваімі рукамі я падразаў і сек тыя бярозы і сосны, што столькі год спявалі мне дзівосную песню пра шырокае мора...

Даруй мне і ты, вясёлая Юлька! Я трызніў табой у сне і наяву, я марыў пра столькі подзвігаў у гонар твайго светлага імені. Ведаюць пра гэта дубы і бярозы, якіх я сёння знішчаю. Я столькі чакаў з табой сустрэчы на родных верасах, і вось сустрэўся. Цябе таксама прыгналі сюды, нявольніцу... Лепш бы не глядзелі на гэты свет мае вочы. Даруй мне, Юлька!» [11, с. 215—216].

Таленавіты і праніклівы літаратуразнаўца С. Гусак, аналізуючы зборнік апавяданняў «Таполі юнацтва» (1966), вельмі слушна зазначае: «Сапраўды «склад» пісьменніка вызначаецца асаблівасцю яго светаўспрымання, тым, якімі вачыма ён бачыць рэчаіснасць. Прыгледзеўшыся да твораў І. Навуменкі, вылучыўшы яго асобу, мусіш заўважыць, што рамантык не аўтар, а яго герой-юнак» [4, с. 141].

Прывёўшы прыклад з апавядання «Па махорку», дзе аўтар, параўноўваючы ваенныя і даваенныя савецкія песні, з сумам зазначае іх сэнсавую эмацыйную кантраснасць. «Армія, якая прыйшла ў мястэчка, прынесла новыя песні, якіх да вайны не было. Я ўжо ведаю і «Зямлянку», і «Аганёк» і вельмі востра адчуў, што чалавеку, які ідзе на вайну, вельмі патрэбна тая, якая б думала пра яго, яго чакала. У даваенных песнях нічога гэтага не было: там імчалі тачанкі, бадзёра выдыгалі тры вясёлыя, трохі самаўпэўненыя танкісты і нават Кацюша, выходзячы на бераг, сумавала неяк залішне весела, як бы ўпрысядкі скакала» [11, с. 248].

Пісьменнік стварае «механізм» маральна-духоўнай напружанасці сюжэта, імкнецца знайсці пупавінную сувязь паміж сабой ранейшым і сучасным. І няма тут элемента ментарства, герой і аўтар амаль раўнапраўныя дзейныя асобы ў мастацкай прасторы апавядання.

У гэтым часава-мастацкім зазоры-дыстанцыі паміж мысленнем аўтара і героя свабодна і арганічна перасякаюцца і пераліваюцца структурныя элементы стылістыкі — рэалістычнай і рамантычнай плыняў. Тут эмацыйная пачуццёвасць гарманічна спалучаецца з філасафічнасцю, унутраны маналог дыялектычна суседнічае з глыбокай псіхалагічнай падсветкай. Мусіць, з гэтай прычыны ён, слынны літаратуразнавец і выдатны практык-празаік, так апантана абгрунтоўвае і адстойвае права пісьменніка на «стылёвы паліфанізм».

«Ці можа высокае, рамантычнае крочыць побач з будзённым і звычайным, побач з увагай да паўсядзённага жыцця чалавека? Ці могуць высокія, сапраўды рамантычныя, гераічныя пачуцці суседнічаць з такімі, як спачуванне, смутак, сум, горыч? Мне здаецца, што не

толькі могуць, але і павінны. Я за тое, каб твор вызначаўся эмацыянальнай поліфанічнасцю. І не варта нам задавальняцца толькі адной фарбай, калі жыццё паказвае нам суквецце фарбаў...

Мне думаецца, што значныя вобразы, гераічныя характары ўзнікаюць на скрыжаванні розных стылёвых цячэнняў. Гутарка ж ідзе аб духоўным багацці нашага сучасніка, аб жыццёвай праўдзівасці яго вобраза, аднаўленне якога патрабуе ад пісьменніка майстэрскага авалодвання ўсёй палітрай фарбаў» [12, с. 6].

«Проза І. Навуменкі філасафічная. Героі яе задумваюцца над сэнсам жыцця, спрабуюць разабрацца ў яго супярэчнасцях, вызначыць у ім сваё месца. Яны — людзі, якія імкнуцца раскрыць і спазнаць таямніцы прыроды і светабудовы» [16, с. 49] — пераканана даводзіць нам руплівы даследчык творчасці І. Навуменкі Г. Сіненка ў сваёй кнізе-нарысе «Іван Навуменка» (1981). Філасафічнасць гэта ў пісьменніка ідзе ад унутранай спрактыкаванасці душы адчуць, выявіць, пабачыць рухомасць і развіццё будзённага, традыцыйнага, іх пастаяннае, дыялектычнае абнаўленне, на аснове чаго і складваюцца стратэгія чалавечага быцця, крытэрыі духоўных каштоўнасцей.

Вядомы літаратуразнавец У. Гніламёдаў, развіваючы ідэю мудрага стаўлення герояў І. Навуменкі да жыцця, так выказваецца на гэты конт: «Герой І. Навуменкі верыць у справядлівасць і разумнасць жыцця, ён гатовы абараняць яго чалавечнасць, бо асабіста адчувае за яго адказнасць. Вярнуўшыся з вайны, ён сустракаецца са складанымі праблемамі мірнага жыцця. Не ўсё яму тут зразумела, не ўсё проста — як гэта было на вайне — у чалавечых адносінах, у адносінах з блізкімі. Вайна на ўсім пакінула свой след. І тым не менш верыш, што гэты чалавек абавязкова знойдзе сваё месца, бо ён добры і справядлівы, мужны і прынцыповы» [3, с. 252].

Сучаснасць заўсёды была адной з лейтматыўных тэм апавядальнай творчасці празаіка. Пісьменнік заўсёды трымаў руку на пульсе часу, прагна імкнуўся спасцігнуць дух свайго часу. І менавіта гэтаму спрыяла жанравая форма апавядання, якое аператыўна магло адгукнуцца на любы, нават самы нязначны і няўлоўны зрух у структуры жыццёвых канстант.

Нездарма актыўны даследчык беларускага літаратурнага жыцця другой паловы ХХ стагоддзя У. Юрэвіч у адным са сваіх артыкулаў пад выразнай назвай «Дарогай пошуку» мог слушна зазначыць: «І. Навуменка ўмее вылучыць галоўныя ідэі часу і па-мастацку іх увасобіць, умее заглыбіцца ў жыццёвыя сітуацыі, ісці ў глыбіню характараў. Што гэта так, пераконваюць не толькі ранейшыя творы, але і некаторыя апавяданні, напісаныя ў апошні час, напрыклад, апавяданне “Іван ды Мар’я”» [19, с. 246].

Падагульняючы свой вопыт апавядальнай творчасці, І. Навуменка ў сваім змястоўным артыкуле «Апавяданне вымушана шукаць» так выказаўся наконт важнасці жанру беларускай «малой» прозы. «У апавядання свой мастацкі «мікрасвет», свае адметныя стылёвыя сродкі... У той жа час пошукі апавядання — не пошукі жанравай формы. Апавяданне мусіць шукаць — раскрываць новыя жыццёвыя з'явы, адкрываць новых герояў, даваць ім мастацкую прапіску ў літаратуры» [14, с. 5].

Нельга не згадзіцца з аўтарам гэтых радкоў, можна толькі да гэтага дадаць тое, з чаго мы пачыналі гаворку пра раннюю апавядальную спадчыну класіка нашай прозы, пра *сітуацыю пераходу*. Літаратура ў розных сваіх жанрах, а ў жанры апавядання найперш, як ніякі іншы від мастацтва можа адчуць і прыадчыніць заслону ў новую рэчаіснасць і такім чынам дапамагчы здзейсніць «момант пераходу» для грамадства ў складаны для яго перыяд існавання.

Што і выявілася, на нашу думку, у творчасці І. Мележа, І. Шамякіна, І. Навуменкі, В. Быкава, А. Адамовіча і іншых у сярэдзіне XX стагоддзя.

Падагульніць, калі так можна сказаць, першы этап творчасці пісьменніка, яго гэтак званы «апавядальны цыкл», мы хацелі б выказваннем вядомага літаратуразнаўцы Д. Бугаёва, якое ён зрабіў у артыкуле «Чалавек у пошуку»: «Кнігі апавяданняў стварылі аўтару трывалую і цалкам заслужаную рэпутацыю ўдумлівага, дастаткова тонкага ў сваёй праніклівасці мастака з добрым эстэтычным густам і спакойнай ураўнаважанай манерай настраёвага, часта да празрыстасці яснага пісьма, сагрэтага некрыклівым, але выразным і вельмі гарманічным лірызмам... Навуменка сапраўды прыйшоў у літаратуру са сваёй вынашанай тэмай і сваім любімым героем, вернасць якім у той ці іншай меры захоўвае і зараз» [1, с. 5].

Калі казаць пра мастацкія традыцыі, якія мог выкарыстоўваць І. Навуменка ў свой ранні перыяд творчасці, то найперш можна прыгадаць тое, што стыль яго апавяданняў нясе даволі выразны адбітак творчай вучобы ў Якуба Коласа. І зусім не выпадкова «першым сваім сур'ёзным творам» ён лічыў кандыдацкую дысертацыю, якая мела назву «Тэма працы ў творчасці Якуба Коласа», а пасля і доктарскую абараняў, шмат у чым звязаную з мастацкім светам Якуба Коласа. Аднойчы І. Навуменка сказаў: «Проза памагае літаратуразнаўцу і ў тым сэнсе, што калі ён пісьменнік, то ўсе штукі іншага пісьменніка бачыць, як кажуць, здалёк — дзе той сшыў добра, дзе кепска» [10, с. 65].

Некаторыя даследчыкі бачылі ў ранніх апавяданнях празаіка і вучобу ў Кузьмы Чорнага, асабліва па выкарыстанні прыёму

псіхалагізму. Аднак у сваім інтэрв’ю газеце «ЛіМ» за 28 верасня 1979 года пад назвай «Літаратура гэта самапазнанне» пісьменнік выказаўся наступным чынам: «Разумееце, шукаеш заўсёды сам. Я не магу назваць каго-небудзь, хто быў бы ў мяне літаратурным настаўнікам. Хаця з беларускіх пісьменнікаў на мяне, відаць, найбольш уплываў Колас... Але я думаю, што ў стылі Коласа яшчэ большая гама пачуццяў, яшчэ большы спектр эмацыянальны прысутнічае...» [10, с. 62].

Наогул, гаворачы пра «механіку» сваёй творчай лабараторыі, пісьменнік выказаўся ў адным з інтэрв’ю наступным чынам: «Пісьменнік у нейкай ступені экстрасэнс ці артыст. Артыст павінен сыграць тое, што пісьменнік намеціў. А пісьменнік бярэ гэта з паветра, ад зямлі. Трэба адчуць характар, як ён лепіцца, прычым тут і прататыпа можа не быць... Пісьменнік не ведае, чаму ён піша і як ён піша. Калі ён спачатку напіша план і пачне па плану, то я не веру ў такога пісьменніка» [9, с. 61].

Трэба адзначыць і тое, што І. Навуменка быў творцам і чалавекам прынцыпова адказным і строгім у падыходзе да сваёй і іншых мастацкіх практык. Таму і быў у яго вельмі старанны, нават на грані пакутнасці спосаб працы над напісаннем сваіх твораў.

Нам даводзілася бачыць аркушы чарнавікоў ранніх апавяданняў аўтара. Карціна выглядае вельмі ўражлівай. У сувязі з гэтым прыгадваюцца словы народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча з яго ўспамінаў пра творчую працу Івана Навуменкі. «Гаспадар гартае рукапіс, і мне бачна, што амаль на кожнай старонцы — безліч закрэсленых і перакрэсленых радкоў, розных дабавак і ўставак...» [2, с. 4]. Вось такі ён, нялёгкі хлеб мастака слова.

У працы па выданні першага тома твораў пісьменніка пры супастаўленні розных варыянтаў мы можам зрабіць адназначную выснову, што аўтар усё творчае жыццё быў у клопаце па паляпшэнні зместу і формы сваіх ранніх твораў, робячы тыя ці іншыя праўкі падчас чарговага выдання новага зборніка. Імкненне да больш змястоўнага напаўнення твораў заўважаецца нават у тым, як аўтар рабіў праўкі ў тых ці іншых назвах навел. Напрыклад, апавяданне-эцюд «Ляпіцаў Гай» было перайменавана пазней у «Сябрыравеснікі», апавяданне «Трэці круг» атрымала назву — «Пракуроры», «Чатыры таполі» — «Былі дрэвы».

Апавяданні І. Навуменкі перакладаліся на розныя мовы — англійскую, азербайджанскую, армянскую, балгарскую, венгерскую, іспанскую, казахскую, латышскую, літоўскую, мангольскую, нямецкую, украінскую, польскую і інш.

На рускай мове выйшлі наступныя кнігі апавяданняў І. Навуменкі: «Друзья-товарищи» (1959), «Голубиный взлет: Рассказы» (1961), «Путешествие в юность: Повесть и рассказы» (1967), «Та самая земля: Повесть и рассказы» (1973), «Замять желтолистья: Повести, рассказы» (1978), «Тополя нашей юности: Рассказы и повести» (1978), «Последняя осень: Рассказы и повести» (1979), «Мечтатель: Роман, рассказы» (1987) і шматлікія пераклады ў перыядычных расійскіх выданнях.

Навелістыка І. Навуменкі неаднаразова публікавалася ў калектыўных зборніках твораў беларускіх пісьменнікаў.

Мы жывём зараз у вельмі тлумным і хаатычным свеце, і няма ніякай магчымасці прадказаць, якім будзе новы выгляд будучага. На сучасным этапе традыцыя слабее і адступае, а цывілізацыйная духоўнасць робіцца безабароннай перад праблемамі, якія сама ж сабе і стварае. І ўсё таму, што не мае сакральных арыенціраў. Таму зараз, у эпоху перамен, калі грамадства знаходзіцца ў стане гэтак званага інавацыйнага шоку, асабліва важна канцэптуалізацыя нацыянальнай традыцыі. Выхад дзесяцітомнага Збору твораў Івана Навуменкі будзе садзейнічаць вырашэнню гэтай праблемы.

*Ігар Шаладонаў.*

## Літаратура

1. Бугаёў, Д. Чалавек у пошуку / Д. Бугаёў // ЛіМ.— 1975.— 14 лют.

2. Гілевіч, Н. Пра сённяшніх студэнтаў / Н. Гілевіч // ЛіМ.— 1964.— 24 сак.

3. Гніламёдаў, У. Дыханне часу, лёс пакалення / У. Гніламёдаў // Полымя.— 1967.— № 7.

4. Гусак, С. Свет юнацтва / С. Гусак // Маладосць.— 1967.— № 2.

5. Жураўлёў, В. П. Сюжэт і рэчаіснасць / В. П. Жураўлёў // Праблемы сучаснай беларускай прозы / П. К. Дзюбайла [і інш.].— Мінск: Навука і тэхніка, 1967.

6. Казека, Я. Юнацтва ў вайне / Я. Казека // ЛіМ.— 1967.— 4 крас.

7. Карніловіч, Л. За чалавека ў чалавеку / Л. Карніловіч // ЛіМ.— 1977.— 15 крас.

8. Крышталь, В. Удалая творчая заяўка / В. Крышталь // ЛіМ.— 1958.— 10 верас.

9. Лазарук, М. Першая кніга / М. Лазарук // Маладосць.— 1957.— № 11.

10. Мікуліч, М. У. Пошук вядзе ў глыбіню. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Старонкі інтэрв'ю. Публікацыі / М. У. Мікуліч.— Гродна : Выдавецтва ГДУ імя Я. Купалы, 1998.

11. Навуменка, І. Зб. тв.: У 6 т. Т. 1. Аповесці і апавяданні / І. Навуменка.— Мінск: Маст. літ. 1981.

12. Науменко, И. От «частностей» к гармонии целого / И. Науменко // Лит. газета.— 1969.— 22 сент.

13. Навуменка, І. Літаратура гэта самапазнанне / І. Навуменка // ЛіМ.— 1979.— 28 верас.

14. Навуменка, І. Апавяданне вымушана шукаць / І. Навуменка // ЛіМ. 1969.— 6 чэрв.

15. Пшыркоў, Ю. Апавяданні Івана Навуменкі / І. Навуменка // Полымя.— 1958.— № 7.

16. Сіненка, Г. Іван Навуменка. / Г. Сіненка.— Мінск: Маст. літ., 1981.

17. Хадкевіч, Т. Ад праўды жыцця / Т. Хадкевіч // Полымя.— 1961.— № 1.

18. Шкраба, Р. Цікавае знаёмства / Р. Шкраба // Беларусь.— 1958.— № 7.

19. Юрэвіч, У. Дарогай пошуку / У. Юрэвіч // Полымя.— 1977.— № 10.

# КАМЕНТАРЫІ

Першы том Збору твораў Івана Навуменкі складаюць апавяданні і нарысы 1946—1972 гг.

Творы падаюцца паводле жанрава-храналагічнага прынцыпу. Аснова для іх датавання — дата ў аўтографах, машынапісах, прыжыццёвых выданнях і іншых дакументальных крыніцах.

У Збор твораў упершыню ўключаны апавяданні «Два студэнты», «Тая самая зямля», «У добры час», «Першы спектакль», «Хатняе зайчанё», «Святло ў вокнах» і сем нарысаў пісьменніка; гэтыя творы друкаваліся раней у часопісах, газетах і зборніках апавяданняў.

За асноўны тэкст змешчаных у томе апавяданняў прыняты Збор твораў у 6 тамах (Мінск, 1981—1982, т. 1, 2) як найбольш аўтарытэтнае выданне, якое выдавалася пры жыцці аўтара, а таксама прыжыццёвы зборнік апавяданняў «Тая самая зямля» (1971), аўтографы і іншыя перыядычныя выданні. Паколькі крыніцы асноўнага тэксту розныя, рубрыка *друкуецца* захавана ў каментарыях да кожнага твора.

Для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту твораў, іх датавання і напісання каментарыяў выкарыстаны наступныя архіўна-даведачныя крыніцы:

**1. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ):**

а) аўтографы апавяданняў: «Соль», «Чуеце, хлопцы?..», «У шалашах», «Кукурузька», «Дзень апошні і першы», «Два кілаграмы гароху», «Рэйкі», «Мост», «Вася-Бліцкрыг», «Мяшок белага наліву», «Валошкі ў жыце», «Рыжыя коні», «У Макаў, на млын…»;

б) машынапісы апавяданняў: «Дом над морам», «Прыпяцкая зона», «Па грыбы», «Па махорку», «Вясновыя праталіны», «Верасы

цвітуць восенню…» («Верасы на выжарынах»), «Сны», «Чатыры таполі» («Былі дрэвы»), «Негры ў Мінску», «Мяшок белага наліву», «Мост», «У Макаў, на млын…», «Рыжыя коні», «Іван ды Мар'я».

**2. Прыжыццёвыя выданні твораў Івана Навуменкі:**

а) Зб. тв., 1981, т 1; Зб. тв., 1982, т. 2.

б) зб.: «Сямнаццатай вясной», 1957; «Хлопцы-равеснікі», 1958; «Верасы на выжарынах», 1960; «Таполі юнацтва», 1966; «Вераніка», 1968; «Тая самая зямля», 1971; «Беларускі савецкі нарыс», 1977, т. 2.

**3. Прыжыццёвыя публікацыі ў перыядычным друку:**

а) часопісы: «Беларусь», 1956, № 9; 1957, № 7; 1958, № 5, 12; 1959, № 6; 1963, № 9; 1965, № 7, 8; 1969, № 4, 12; 1970, № 9; 1971, № 9; «Бярозка», 1963, № 9; 1969, № 9; 1970, № 12; 1971, № 9; «Маладосць», 1953, № 1; 1954, № 2; 1955, № 6, 7, 9; 1956, № 3, 11; 1957, № 2, 3, 8; 1958, № 12; 1959, № 3, 6; 1960, № 1, 4; 1961, № 1; 1963, № 7; 1965, № 9; 1968, № 9; 1969, № 6; 1970, № 6; «Полымя», 1956, № 8; 1957, № 2; 1958, № 3; 1959, № 2, 9, 12; 1961, № 2; 1962, № 12; 1964, № 1; 1965, № 1; 1966, № 5, 7; 1969, № 6; 1970, № 7; 1971, № 4; 1973, № 2; «Работніца і сялянка», 1956, № 11.

б) газеты: «Бальшавік Палесся», 1946, 6 сак., 14 крас.; 1947, 30 верас.; 1952, 12 верас.; «ЛіМ», 1957, 1 студз.; 1964, 10 студз.; 1965, 30 крас.; 1969, 9 снеж.; «Звязда», 1961, 1 студз.; 1963, 9 чэрв.; 1970, 21 чэрв.; «Мінская праўда», 1958, 16 ліп.; «Голас Радзімы», 1961, 1 студз.

**4. Пасмяротныя выданні:**

а) зборнік: «Аповесці, апавяданні», 2009.

У выніку зверкі тэкстаў з аўтографамі і прыжыццёвымі публікацыямі выпраўлены памылкі друку і фактычныя недакладнасці, удакладнены даты напісання апавяданняў.

У раздзеле «Каментарыі» прыводзяцца звесткі, якія датычацца гісторыі напісання тэкстаў апавяданняў, называюцца крыніцы тэкстаў твораў з апісаннем пры наяўнасці аўтографаў і машынапісаў.

Разначытанні, выяўленыя ў працэсе зверкі крыніц тэксту, носяць пераважна моўна-стылёвы характар. Яны адлюстроўваюць працэс авалодвання пісьменнікам прыёмамі і метадамі прыгожага пісьменства. Найбольш значныя ў мастацкіх адносінах разначытанні і варыянты падаюцца ў каментарыях асобным падраздзелам пад назвай «Варыянты і разначытанні».

Прыведзены звесткі пра пераклады твораў на іншыя мовы.

## 1954

### Мішаў калейдаскоп (с. 18)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1954 г.

Упершыню — зб. «Хлопцы-равеснікі», 1958. Пад тэкстам: 1954 г.

Уваходзіла ў зб.: «Год карася», 1988; «Хатняе зайчанё», 1998.

## 1955

### Вясновыя праталіны (с. 22)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1955 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1956, № 8.

Уваходзіла ў зб. «Хлопцы-равеснікі», 1958.

У БДАМЛМ, у папцы часопіса «Полымя», захоўваецца машынапіс твора з рэдактарскімі праўкамі (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 48, арк. 1—39). На першай старонцы машынапісу ўгары надпіс: «Апавяданне», з датай: 18.V.1956. «Полымя». № 7.

С. 29:

*Нарва* — горад у Эстоніі.

С. 32:

*Святы Баніфацый* (672—754) — архіепіскап у нямецкім горадзе Майнц, найбольш значны місіянер і рэфарматар царквы ў дзяржаве франкаў, які праславіўся як Апостал усіх немцаў.

С. 33:

*Старая Руса* — горад у Наўгародскай вобл. Расіі.

С. 36:

*МТС* — скар.: машынна-трактарная станцыя.

С. 39:

*Стары, яшчэ даваенны «Чалябінец»...*— маецца на ўвазе трактар «Сталінец-60» (С-60), які пачаў выпускацца ў 1933 г., альбо трактар «Сталінец-65» (С-65), які пачаў выпускацца ў 1937 г. Кіраўскім заводам наркамтанкапрама ў г. Чалябінску (з 1958 г. Чалябінскі трактарны завод).

*Сахор* — жалезныя вілы для накідвання гною.

С. 47:

*Адыходнік* — селянін, які ідзе з вёскі на часовыя заробкі.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *машынапіс*

С. 22:

[2] грукала непрывязаная аканіца. // *ляскала* непрывязаная аканіца.

С. 23:

[24] а ў грудзях затахкала сэрца. // а ў грудзях *спуджанай птушкай забілася* сэрца.

[31—32] А ты не крычы! — з гурту рванулася нізкая, з пабітым воспаю тварам даярка Сынклета Крывіцкая. // *Гаспадары калгаса, кажаш*! — з гурту рванулася нізкая, з пабітым воспаю тварам даярка Сынклета Крывіцкая.

[32—33] Вінаватых вы ўсе шукаць умееце. // Вінаватых вы ўсе шукаць умееце.— *А ну, падзівіся на гаспадыню калгаса, старшынька!*

С. 24:

[19—20] Мікалай Аляксеевіч, які нарыхтаваўся ваяваць, адразу абмяк. // Мікалай Аляксеевіч, які нарыхтаваўся ваяваць, *унутрана нацянуўся як струна*.

[21] Выйсце было толькі адно // Выйсце было толькі адно. *Прыйшлося вазіць сена…*

С. 25:

[1] гультаяваты кот // *лянівы* кот

[6—7] Пасля слоў «усё планы складаеце» ў машынапісе ідзе наступны тэкст: *«План не на паперы, не складзены дзеля самога сябе, а жывая, рэальная справа, да якой трэба весці людзей. Пра такі план думаў ён, Мікалай Аляксеевіч, і на першым часе, пагарджаючы цякучай паўсядзённай працай, дзень за днём выношваў, абдумваў гэты план».*

С. 26:

[38] падняўся на ўвесь свой доўгі рост // падняўся *на ўсю сваю даўжыню*

С. 27:

[28—29] Пасля сказа «Жанкі чакалі, што будзе далей» у машынапісе ідзе наступны сказ: «*Рахункавод папрасіў задаваць пытанні».*

С. 28:

[17—18] Пасля сказа «Закіданая снегам, прыціхлая вёска ў гэты паўночны час здавалася прыгожай» у машынапісе ідзе наступны тэкст: «*Пойдзем Мікалай, да мяне,— звярнуўся да старшыні Пятро Кавалеўскі.— Я ж кабанчыка прыкалоў. А то будзеш непакоіць апоўначы сваю бабку»*.

[26—27] — Галава нешта баліць, выспацца трэба,— паскардзіўся старшыня. // — Галава нешта баліць, выспацца трэба,— *схлусіў* старшыня.

С. 29:

[9] адважваюцца тут купацца. // адважваюцца тут *кідацца ў ваду.*

[22—23] На міну натрапіў. // На міну *нарваўся*.

С. 34:

[2—3] так прыемна звінеў яе срэбраны галасок // так прыемна *пераліваўся* яе срэбраны галасок

[17—18] з падробленай нездаволенасцю зазвінеў Галін голас. // з падробленай *злосцю* зазвінеў Галін голас.

С. 37:

[8—9] прыпёршыся грудзямі да веснічак, размаўляў з маладзіцай // прыпёршыся грудзямі да *паркана,* размаўляў з маладзіцай

С. 39:

[16—17] пераначаваць на яго канапе. // пераначаваць на яго *дыване.*

[17—18] стрэлкі прыгожых брывоў. //стрэлкі *густых* брывей.

С. 41:

[8—9] прагаварыў ён ужо лагодней. // прагаварыў ён ужо *мякчэй.*

[38] Снег стаяў мяккі, глейкі // Снег стаяў мяккі, *пульхны*

С. 44:

[5—6] завесці каня нанач да Сініцкага // завесці каня нанач да *Святліцкага*

[11—12] ўглядаўся ў перадвячэрнюю імжу // ўглядаўся ў перадвячэрнюю *сядгу*

С. 45:

[5—6] Пасля сказа «Выпі каток…» у машынапісе ідзе тэкст: *«А гэты сталетнік, ён прыпыняе кашаль. Падымі ж, сынок, галаву…»*

[30] скаціну шкадаваў // скаціну *жалеў*

С. 49:

[20] Пасля слоў «за два тыдні яго хваробы» ў машынапісе ідзе наступны сказ: *«Угнаенняў-такі падвезлі»*.

[24] На фермах капала са столі // На фермах *цякло з даху*

[25—26] махаючы тоўстымі хвастамі. // махаючы тоўстымі *як трубы* хвастамі.

С. 50:

[6] Пачынаючы са сказа «Старшыня хадзіў па калгасе, вітаўся з людзьмі, і яго не пакідала нязнаная раней спакойная ўпэўненасць» і заканчваючы сказам «Цесляры рагаталі» тэкст у машынапісе адсутнічае.

[37—38] на заснежаных палях увачавідкі // на заснежаных палях *на вачах*

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*
С. 25:

[11] Пасля слоў: «гэта ж відаць і сляпому» ў зб. «Хлопцы-равеснікі» ідзе наступны сказ: *«План не на паперы, не складзены дзеля самога сябе, а жывая, рэальная справа».*

[14] дагляду гаспадарскага не было. // дагляду гаспадарскага *няма*.

[20] Пасля слоў «а з прорвы не вылезеш» у зб. «Хлопцы-равеснікі» ідзе сказ: *«Ехаў сюды кожны новы старшыня, як у нейкае выгнанне, і стараўся хутчэй адбыць свой тэрмін...»*

С. 29:

[36] горшага, мабыць, і няма ва ўсёй вобласці. // *горшага, мабыць, і няма.*

С. 32:

[18] камандзірам узвода. // камандзірам *батарэі.*

С. 33:

[21] парву // *падзяру*

С. 36:

[3] Пасля слоў «але Мікола на гэта не зважаў» у зб. «Хлопцы-равеснікі» ідуць наступныя сказы: *«Прыжымісты,— гаварылі пра яго хлопцы.— Гэты свайго не ўпусціць...»*

[13] ў свой горад // у свой *абласны* горад

[36] брыгадах. // *брыгадзе.*

С. 39:

[31] сахора // *сахара*

## Над ціхай Віццю (с. 51)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1955 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1955, № 9.

Уваходзіла ў зб.: «Хлопцы-равеснікі», 1958; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

За аснову сюжэта дадзенага апавядання І. Я. Навуменкі ўзята факталагічная фабула з нарыса пісьменніка «Ён будзе інжынерам», напісанага ў 1953 г.

С. 51:

*Ляжнёўка* — дарога з насланага бярвення.

С. 52:

*…пашлюць за Палярны круг…*— Палярны круг — паралель у кожным паўшар'і планеты, пачынаючы ад якой і да полюса ляжаць палярныя паясы, дзе бываюць палярны дзень (улетку) і палярная ноч (узімку).

С. 54:

*Дняпро* — трэцяя паводле даўжыні і плошчы басейна рака Еўропы пасля Волгі і Дуная, мае найдаўжэйшае рэчышча ў межах Украіны.

С. 56:

*Урал* — геаграфічны раён у Расіі і Казахстане.

*Каўказ* — геаграфічны рэгіён у Расіі, Азербайджане, Арменіі і Грузіі.

С. 57:

*Сельпо* — сельскае спажывецкае таварыства, а таксама крама-кааператыў гэтага таварыства.

С. 62:

*Уладзівасток* — горад і порт на Далёкім Усходзе Расіі.

*Вялікі акіян* — назва Ціхага акіяна, якую ў 1753 г. прапанаваў французскі географ Ж. Н. Бюаш.

С. 67:

*Днепрагэс* — першая буйная гідраэлектрастанцыя на Дняпры, пабудаваная паводле плана ГОЭЛРО ў 1928 г.

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 51:

23 Вапну тут здабывалі. // *Угнаенні* тут *выраблялі*.

24 — Гашаную… // — *Апеціты…*

29 прасекай // *просекай*

С. 53:

2—3 праменні вячэрняга сонца // праменні *заходзячага* сонца

10 хуценька памкнуўся на двор. // хуценька *паімкнуўся* на двор.

С. 54:

8 водарам. // *водырам.*

С. 56:

2—3 не вельмі многа. *// і не шмат.*

29 вачамі. // *вачыма.*

С. 62:

[30—31] Пасля слоў «гэтага ўкладу жыцця» ў Зб. тв. ідзе ўстаўны сказ: *«Не, так ён жыць не прывык, не будзе так жыць!..»*

С. 63:

[13] не менш двух гадоў. // не менш *года.*

[31] невысокі чалавечак // невысокі *дзядзечка*

С. 64:

[16] Канечне // *канешне*

[21] Глыбава просьба // *Дзядзечкава* просьба

С. 66*:*

[25] Вапну // *Фасфарыты*

С. 67:

[1—2] Трыццаць нашых кілават — гэта ж табе не Днепрагэс, свет імі не перавернеш. // *Трыццаць нашых кілават — гэта ж табе не Сталінградская электрастанцыя, свет імі не перавернеш. Віць жа табе не Волга… — Ты, Архіп, усё ныеш, ныеш… Ты падумай лепш, колькі такіх рэчак як наша Віць, дарэмна цячэ. Ага… Пабудуй на кожнай электрастанцыю ды складзі ўсё разам. Вось табе і Сталінградская ГЭС, дый ці адна яшчэ будзе?*

[15] навіслымі алешынамі // *навісшымі* алешынамі

**Сідар і Гараська (с. 67)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1955 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1955, № 6. Выдадзена пад агульнай рубрыкай: *З незабыўных дзён,* дзе друкавалася разам з апавяданнем «Эх, махорачка…».

Уваходзіла ў зб.: «Хлопцы-равеснікі», 1958; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 70:

[19—20] шрубу // *шурупу*

[21] непадатлівымі шрубамі // непадатлівымі *шурупамі*

[24] Пасля слоў «галоўка шрубы адламалася» ў зб. «Хлопцы-равеснікі» ідзе наступны сказ: *«Ён падняў яе і кінуў у адхон».*

[32] галоўку шрубы. // галоўку *шурупы.*

[34] шпурнуўшы шрубу // шпурнуўшы *шуруп*

С. 72:

[7] Пасля завяршальнага сказа «У тую ж хвіліну над крывой узняўся вялізны слуп агню…» у зб. «Хлопцы-равеснікі» ідзе наступны тэкст: «Праз колькі дзён Гараську давялося яшчэ раз сустрэцца з Сідарам. Ад доўгага блукання па лесе Сідаравы чаравікі стапталіся ўшчэнт і пазіралі на свет вялікімі зёвамі. На пераноссі ў абходчыка красаваўся ладны, з стары мікалаеўскі пятак, кровападцёк, але вочы былі жывыя, вясёлыя.— Не магу я больш там, Гараська,— сказаў Сідар.— З сіл выбіўся, пакуль знайшоў вас…»

**Эх, махорачка… (с. 72)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1955 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1955, № 6. Выдадзена пад агульнай рубрыкай: *З незабыўных дзён,* дзе друкавалася разам з апавяданнем «Сідар і Гараська».

Уваходзіла ў зб.: «Сямнаццатай вясной», 1957; «Хлопцы-равеснікі», 1958; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

Пісьменнік у сваім інтэрв'ю пад назвай «Іван Навуменка: "Усякаму пакаленню трэба баявая справа"», дадзеным даследчыку літаратуры М. Мікулічу і апублікаваным у яго брашуры «Пошук вядзе ў глыбіню» (1998), адказвае на пытанні:

*— Як вы прыйшлі ў літаратуру? Што паслужыла першаштуршком, калі вы адчулі ў сабе пісьменніка, іншымі словамі,— з чаго ўсё пачалося? Крытыка і літаратуразнаўства, на мой погляд, некалькі схематычна і невыразна гэта вытлумачваюць? Празаік на пастаўленыя пытанні робіць даволі разгорнуты адказ.*

— Тое, што мяне цягне літаратура і я ўмею трошкі пісаць, зразумеў даўно, яшчэ ў школьныя гады. Калі мы пісалі сачыненне, я заўсёды чакаў моманту, калі настаўнік, праверыўшы, прынясе яго ў клас. Чаму? Справа ў тым, што іншы раз ён зачытваў мае сачыненні перад вучнямі. Яшчэ да вайны пачаў пісаць у раённую, потым у абласную газету, у якой пасля працаваў карэспандэнтам, у «Чырвоную змену». Мяне друкавалі. Значыць, у мяне ўжо быў нейкі задзел.

Калі вярнуўся з арміі, паступіў на працу ў абласную газету — карэспандэнтам. Пісаў і друкаваў вершы, фельетоны, рэцэнзіі. Мова некаторых публікацый была добрая. Нарэшце дайшоў да формы, якая межавала з апавяданнем.

*Далей Іван Навуменка зазначае*:

— Пісьменніцкае асяроддзе канчаткова завяршыла маю літаратурную адукацыю. У «Маладосці», пачынаючы з 1954 года, пачаў друкаваць апавяданні. «Эх, махорачка…», «Сямнаццатай вясной» і іншыя былі напісаны тады.
С. 72:

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю». (с. 684).
С. 73:

*Бікфордаў шнур* — вогнеправодны (з парахавой сарцавінай) шнур для выбухаў.
С. 75:

*Сталінград* — у 1925—1961 гг. назва г. Валгаграда на паўднёвым усходзе еўрапейскай часткі Расіі. Да 1925 г. меў назву Царыцын.

Варыянты і розначытанні:
Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*
С. 72:

[25] паязды // *цягнікі*
[30] шуфлем // *шухляй*
С. 73:

[5—7] Мы ж пазнаёміліся з Апанасам Мядзведзькам на грунце махоркі, і гэта асаблівая гісторыя. // Мы ж пазнаёміліся з Апанасам Мядзведзькам *пры той акалічнасці, што ён надта знаўся на махорцы,* і гэта асаблівая гісторыя.
[10] Ад недахопу курэння // *Калі не хапала курыць*
[29] запрасіў нас не для таго // запрасіў нас не *на тое*
С. 74:

[6—7] не маргнуўшы вокам // не *міргнуўшы* вокам
С. 76:

[25] падбіраючы полы // падбіраючы *крысы*
[31—32] Пасля слоў «працягнулі Мядзведзьку свае кісеты» ў зб. «Хлопцы-равеснікі» ідуць наступныя словы: *«у якіх была нямецкая махорка».*

## 1956

### Выпадак з гладышкаю (с. 77)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1956 г.
Упершыню — часоп. «Полымя», 1957, № 2.
Уваходзіла ў зб. «Хлопцы-равеснікі», 1958.

Варыянты і розначытанні:
Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 77:

[5] тыдзень не бачылі // тыдзень не *было*

С. 78:

[1] несалёны // нясолены

[27] паглядалі на Цішку // паглядалі на *яго*

С. 82:

[29] адразу не распазнаў. // адразу не *пазнаў.*

С. 83:

[1] Пасля сказа «Выпіце, дзеткі, хай на яе немач, на гэтую вайну» ў зб. «Хлопцы-равеснікі» адсутнічае наступны сказ: *«Напакутуюцца людзі».*

## Дэлегаты з Бярэзнікаў (с. 83)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1956 г.
Упершыню — часоп. «Полымя», 1957, № 2.
Уваходзіла ў зб. «Хлопцы-равеснікі», 1958.

С. 89:

*Кок-сагыз* — шматгадовая травяністая расліна роду дзьмухавец. Адзін з найлепшых натуральных каўчуканосаў флоры СССР. З 1954 г. у сувязі з развіццём вытворчасці сінтэтычнага каўчуку плантацыі кок-сагызу болей не культываваліся.

С. 94:

*Дзяды* — свята беларускага народнага календара, звязанае з памінаннем продкаў (дзядоў). Адзначаюцца некалькі разоў на год: масленічныя, радаўніцкія, траецкія (духаўскія), пятроўскія, змітраўскія. Галоўныя — восеньскія Дзяды (змітраўскія). У цэнтры абраду — вячэра ў памяць памерлых сваякоў. Рытуал Дзяды ў найбольш архаічнай форме захаваўся толькі ў беларусаў.

С. 97:

*Бусак* — доўгі шост з металічным вастрыём і крукам на канцы.

Варыянты і розначытанні:
Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 85:

[16—17] Пасля сказа «З ім жа ад сораму згарыш» у зб. «Хлопцы-равеснікі» ідзе наступны сказ: «*Яшчэ ўздумае і там мулінэ гандляваць».*

С. 86:

[9] Гудок варты чаго-небудзь? // Гудок *што-небудзь варты*?

С. 87:

[11] ўсялякага харчу // *ўсялякай закускі*

С. 88:

[20] звернутую // *адрасаваную*

С. 93:

[15] сказала другая. // сказала *жанчына ў павязанай да вачэй хустачцы.*

С. 94:

[8] сталы проста ўгіналіся // сталы проста *ламаліся*

[28] абоч парканаў // *узбоч платоў*

С. 97:

[3—4] Сход рашылі правесці // Сход *наважылі* правесці

[4] на ўзбочыне парку // на *ўскрайку* парку

С. 97:

[20—21] Падхапіўшыся, ён убачыў дым і зразумеў // *Расплюшчыўшы вочы, ён* зразумеў

[34] нахрапуджаных коней // *спуджаных* коней

С. 98:

[6] Выгарала паўсцяны. // *Згарэла* паўсцяны.

[9] ад копаці // ад *сажы*

**Ганьба «святога» Лукі (с. 99)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1956 г.
Упершыню — газ. «Мінская праўда», 1958, 16 ліп.
Уваходзіла ў зб.: «Хлопцы-равеснікі», 1958; «Вераніка», 1968.

С. 99:

*...які б ведаў Свяшчэннае Пісанне...*— Святое Пісанне — рэлігійныя іўдзейскія і хрысціянскія кнігі, якія складаюць Біблію.

*Закон Божы* — рэлігійна арыентаваная вучэбная дысцыпліна.

С. 100:

*Цэпэша* — скар.: царкоўнапрыходская школа — навучальная ўстанова для атрымання пачатковай адукацыі ў дарэвалюцыйны час.

*Рабфак* — скар.: рабочы факультэт — для падрыхтоўкі рабочай і сялянскай моладзі да навучання ў вышэйшай школе. Існаваў у 1919—1940 гг.

С. 102:

*Ракамболь* — галоўны персанаж цыкла авантурна-крымінальных раманаў XIX ст. французскага пісьменніка Пансона дзю Тэрайля (1829—1871).

## Настаўнік чарчэння (с. 103)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1956 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1957, № 7.

Уваходзіла ў зб.: «Хлопцы-равеснікі», 1958, дзе датуецца 1956 г.; «Вераніка», 1968; «Пераломны ўзрост», 1986; «Год карася», 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Хатняе зайчанё», 1998; «Аповесці, апавяданні», 2009.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

С. 104:

*...той, над кім навіс дамоклаў меч...*— Выраз «дамоклаў меч» азначае — навіслая небяспека. Паводле грэчаскага падання, сіракузскі тыран Дыянісій I пасадзіў прыдворнага Дамокла, які зайздросціў яму, на сваё месца і падвесіў на конскім воласе меч над яго галавою.

*Авідзій* — Публій Авідзій Назон (43 да н. э.— каля 18 н. э.) — старажытнарымскі паэт, знакаміты сваёй элегічнай лірыкай.

*Гарацый* — Квінт Гарацый Флакк (65 да н. э.— 8 да н. э.) — старажытнарымскі паэт залатога веку рымскай літаратуры.

С. 105:

*Чорнае мора* — мора, якое знаходзіцца паміж паўвыспай Малая Азія — на поўдні, Каўказам — на ўсходзе, Усходнееўрапейскай нізінай — на поўначы і Балканскай паўвыспай — на захадзе. Адносіцца да Атлантычнага акіяна.

*Волга* — рака ў еўрапейскай частцы Расіі, адна з найбольшых рэк на Зямлі і найвялікшая ў Еўропе.

С. 107:

*Арол і Белгарад* — гарады на тэрыторыі Расіі, у гонар іх вызвалення падчас Вялікай Айчыннай вайны, у 1943 г., упершыню быў дадзены святочны салют у сталіцы СССР г. Маскве.

С. 108:

*Архімед* (287—212 да н. э.) — знакаміты старажытнагрэчаскі навуковец-матэматык, тэхнічны вынаходнік, які ў час вайны супраць Рыма кіраваў абаронай Сіракузаў і быў забіты рымлянамі.

*Сіракузы* — старажытнагрэчаскі горад-поліс на востраве Сіцылія*,* родны горад Архімеда.

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // зб. *«Хлопцы-равеснікі»*

С. 103:

13—14 апраўдваў дадзенае яму празванне. // апраўдваў *мянушку.*

С. 105:

16 Косця тайна // Косця *ўпотай*

30 Але ў нас з вамі ёсць адна такая рэч // Але ў нас з вамі ёсць *адно агульнае*

С. 106:

32 мабілізавалі ў войска. // мабілізавалі ў *армію*.

С. 107:

24 знёс вадакачку. // *была знесена вадакачка*.

**Пры апошняй сустрэчы (с. 108)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1956 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1956, № 9.

Уваходзіла ў зб. «Хлопцы-равеснікі», 1958.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Б. Якаўлеў.

С. 108:

*...дзве калодкі ордэнаў Чырвонага Сцяга.*— Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга — ордэн СССР. Уручаўся ў 1928—1991 гг.

С. 109:

*Рабфак* — гл. камент. да апавяд. «Ганьба «святога» Лукі» (с. 690).

С. 110:

*Някрасаў Мікалай Аляксеевіч* (1821—1877) — рускі паэт, празаік і публіцыст.

*«Забытая деревня»* — верш М. А. Някрасава, напісаны ў 1855 г.

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

*Лоеў* — гарадскі пасёлак у Гомельскай вобл., цэнтр Лоеўскага раёна.

С. 111:

*Фашысты рыхтавалі наступленне на Курскай дузе…* — Курская бітва, альбо бітва на Курскай дузе (5 ліпеня 1943—23 жніўня 1943) — адна з найважнейшых бітваў Другой сусветнай вайны. Пасля завяршэння бітвы стратэгічная ініцыятыва ў вайне перайшла на бок Чырвонай Арміі.

С. 112:

*Лейпцыг* — найвялікшы горад зямлі Саксонія (Германія).

*Курск* — горад у Расіі, цэнтр Курскай вобл.

*Арол* — гл. камент. да апавяд. «Настаўнік чарчэння» (с. 691).

*Бранск* — горад у Расіі, цэнтр Бранскай вобл.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 112:

[13] цыгарэтамі. // *сігарэтамі.*

## Сельская ідылія (с. 114)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1956 г.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1957, 1 студз.

Уваходзіла ў зб. «Хлопцы-равеснікі», 1958.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 118:

[28] калгаснікі пасялілі // калгаснікі *паслалі*

## Сябры-равеснікі (с. 119)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1956 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1956, № 11 пад назвай «Ляпіцаў гай («Эцюд»)».

Уваходзіла ў зб.: «Хлопцы-равеснікі», 1958; «Вераніка», 1968; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Пераломны ўзрост», 1986.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

С. 119:

*Мяне ўзнялі юнацтва дні — //Майго адлёту крылы.*— Радкі з верша Аркадзя Куляшова «Крылы» (1945).

*Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч* (1914—1978) — народны паэт Беларусі (1968).

С. 123:

*Вялікі пост* — цэнтральны пост у многіх хрысціянскіх канфесіях. Ягоная мэта — падрыхтоўка да сняткавання Вялікадня. Усталяваны ў памяць пра тое, што Хрыстос пасціўся ў пустэльні сорак дзён.

*Суvotraў Аляксандр Васільевіч* (1730—1800) — рускі палкаводзец, генералісімус.

*Кутузаў* — Міхаіл Іларыёнавіч Галянішчаў-Кутузаў (1745—1813) — рускі палкаводзец і дыпламат, генерал-фельдмаршал.

С. 125:

*Княгіня Вольга* — Вольга (?—969) — вялікая княгіня кіеўская (945—957), жонка князя Ігара Рурыкавіча, адна з першых хрысціянак на Русі. Лічыцца заснавальніцай г. Віцебска.

*Кіркор Адам Ганоры* (1818—1886) — беларускі грамадскі дзеяч, этнограф, публіцыст, выдавец, гісторык, краязнавец, археолаг, літаратуразнавец. Член-карэспандэнт Імператарскага археалагічнага таварыства (1856), член Расійскага геаграфічнага таварыства (1857) і Акадэміі ведаў у Кракаве (1873).

*...летапісец Нестар...*— старажытнарускі пісьменнік і гісторык канца XI — пач. XII ст., адзін з заснавальнікаў летапіснага жанру на Русі. Яму прыпісваецца аўтарства летапісу «Аповесць мінулых гадоў».

*...з часу шведскай вайны.*— маецца на ўвазе руска-шведская вайна 1788—1790 гг.— вайна паміж Расіяй і Швецыяй, развязаная Швецыяй, падтрыманая Англіяй, Галандыяй і Прусіяй, з мэтай вяртання тэрыторый, згубленых падчас папярэдніх войнаў з Расіяй.

*Нябаба Марцін* (?—1651) — чарнігаўскі палкоўнік казацкага войска ў час антыфеадальнай вайны 1648—1651 гг.

С. 127:

*Гітлер* (сапр. Шыкльгрубер Адольф; 1889—1945) — фашысцкі дыктатар Германіі ў 1933—1945 гг., правадыр (фюрар) Нацыянал-сацыялістычнай партыі ў 1921 г., рэйхсканцлер з 1933 г. Палітычны курс Гітлера прывёў да развязвання Другой сусветнай вайны. Паводле Нюрнбергскага працэсу (1945—1946) прызнаны галоўным нацысцкім ваенным злачынцам. Скончыў жыццё самагубствам.

*Асаавіяхім* — таварыства садзейнічання абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву, грамадска-палітычная абаронная арганізацыя ў СССР (1927—1948), папярэднік ДАСААФ.

С. 128:

*Аманал* — выбуховае рэчыва.

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 121:

[7] у сне і наяву // у сне і *на яве*

С. 122:

[34] здолеў // *сумеў*

С. 125:

[34] кароўяга стойбішча // кароўяга *тыла*

[35] Пасля слоў «неразумная лясная галава» ў зб. «Хлопцы-равеснікі» ідзе такі сказ: *«Такі ўеў Мікола скептычна настроенага да яго гістарычных вышукаў Цішку».*

С. 126:

[10—11] У чым толькі яны бачаць гэта сваё шчасце? // *Якое толькі іхняе* шчасце?

[38] Яны не дымілі і не чадзілі. // *Яго печы і грубкі* не дымілі і не чадзілі.

С. 127:

[4] не гаварыў // не гаварыў *адных і тых жа слоў*

[13] спаражніўшы кілішкаў тры, падтакваў // спаражніўшы кілішкаў тры, *можа, праз паўгадзіны*, падтакваў

[15—16] ў нашых думках. // *ў нашым жыцці.*

[18] планы барацьбы з фашызмам. // планы *бязлітаснай* барацьбы з *германскім фашызмам.*

[26] нашу групу // нашу *баявую* групу

[36—37] Пасля сказа «Бацькавічы, здавалася, застылі ў нейкім нямым чаканні» ў зб. «Хлопцы-равеснікі» ідзе наступны тэкст: *«Вечарамі па скрыпучым тратуары грукаў каванымі ботамі нямецкі патруль. З нейкіх шчылін павылазілі яснавідцы і гадалкі. Яны нешта там загадвалі сталу, і стол грукаў усімі сваімі чатырма ножкамі, адказваючы «так» або «не». Невядома, што думаў у тыя дні немец-камендант пра Бацькавічы. Можа, ён радаваўся, што здабыў сабе новую вотчыну».*

С. 128:

[16—19] Яны былі надрукаваны сапраўдным шрыфтам, толькі радкі былі няроўныя: скакалі ўверх і ўніз. Як друкары мы былі вельмі

нявопытныя. // *Яны былі надрукаваны сапраўдным шрыфтам, толькі літара «ф» пісалася ад рукі. Гэтай літары наш Мікола проста не знайшоў у старым хляве, дзе да вайны хаваўся набытак раённай друкарні.*

**Сямнаццатай вясной (с. 129)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1956 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1957, № 3.

Уваходзіла ў зб.: «Сямнаццатай вясной», 1957; «Хлопцы-равеснікі», 1958; «Вераніка», 1968; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Пераломны ўзрост», 1986; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1; «Аповесці, апавяданні», 2009; «Хатняе зайчанё», 1998.

Апавяданне пераклалі: на рускую мову — Я. Мазалькоў, на ўкраінскую — Д. Грынько.

С. 129:

*Ржэў* — горад у Расіі, цэнтр Ржэўскага раёна Цвярской вобл.

*Севастопаль* — горад дзяржаўнага значэння Украіны.

С. 134:

*...ён здаваў норму на поўнага варашылаўскага стралка, а мы з Цішкам толькі на юных стралкоў...*— Каб павысіць стралковае майстэрства, Цэнтральны савет Асаавіяхіма 10 сакавіка 1934 г. увёў дзве ступені звання «Варашылаўскі стралок». Для атрымання звання «Варашылаўскі стралок» 2-й ступені былі распрацаваны больш жорсткія патрабаванні. У ліпені 1934 г. быў зацверджаны значок «Юны варашылаўскі стралок».

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 129:

[12] вядома // *канешне*

[22—23] а другія таксама не задавалі нам урокаў // *а да другіх было не дайсці*

С. 131:

[26] я лічыў яе // я лічыў *дзяўчыну*

С. 133:

[8] зусім не фацэтны // *даволі* фацэтны

С. 134:

[6] прабраліся ў гарадок. // *пранiклi* ў гарадок.

[33] быў вымушаны здацца. // быў вымушаны *змiрыцца*.

С. 135:

[12] каштоўная рэч у хаце // каштоўная рэч у *доме*

С. 136:

[13] «добраахвотная» варта // *добраахвотная* варта

С. 138:

[23—24] Эх ты, дурніца… // Эх ты, *дурнiла*…

С. 138:

[25] Пасля слоў «у нейкім новым, казачным святле» ў зб. «Хлопцы-равеснікі» ідуць наступныя сказы: *«Цяпер я ведаў, што мы сустрэнемся з ёй, сустрэнемся абавязкова. Ідзем жа мы па адной дарозе…»*

## Трое з зялёнай будкі (с. 138)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1956 г.

Упершыню — часоп. «Работніца і сялянка», 1956, № 11 пад назвай «Зялёная будка».

Уваходзіла ў зб.: «Сямнаццатай вясной», 1957; «Хлопцы-равеснікі», 1958, дзе мае назву «Трое з зялёнай будкі» і датуецца 1956 г.; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

С. 146:

*Царства Нябеснае* — выраз, у якім «нябёсы» замяняюць імя Бога іўдзеяў. Вядомы паводле Евангелля ад Мацвея.

С. 147:

*Марзянка* — Морзэ азбука — нераўнамерны тэлеграфны код. Назву атрымала ад прозвішча амерыканскага вынаходніка Сэмюэля Ф. Б. Морзэ (1791—1872).

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 139:

[21] Пасля сказа «Так далей трываць нельга было» ў зб. «Хлопцы-равеснікі» ідзе наступны сказ: *«Трэба было нешта рабіць…»*

[22] жадаў // *хацеў*

[32] прыступіў да справы. // *узяўся за справу.*

[33—34] ў раённым гарадку // ў *пасёлку*

[36] Была вясна // *Пачалася* вясна

С. 140:

[8] праз месяц // праз *тыдзень*

[9] справу Аляксандра Пеціка. // справу *абвінавачваемага* Аляксандра Пеціка.

[36—37] галіў і стрыг // *брыў* і стрыг

С. 141:

[1] амаль два гады // *два гады*

[16—17] прамовіў ён нарэшце. // *спахапіўся* ён нарэшце.

[24] ён здзіўлена пазіраў // ён здзіўлена *глядзеў*

С. 142:

[1—2] апрануўшы бялюткі халат // апрануўшы *беласнежны* халат

С. 143:

[10—11] Пецік галіў // Пецік *брыў*

С. 144:

[3] шклення акон // шклення *вокнаў*

[23—24] Але ўсе гэтыя навіны не рабілі, здавалася, ніякага ўздзеяння на Пеціка. // Але ўсе гэтыя навіны, *здавалася*, *не мелі ніякага дачынення да Пеціка*

С. 145:

[13] як кіпенем апараны. // як *ашпараны.*

[34] перасмыкнула як ад апёку. // перасмыкнула як *у прыску.*

С. 146:

[15] пад грудзі падкатвала // пад грудзі *падступала*

[25] сем скул у горла... // сем скул у *глотку...*

[27] яе хата з краю. // яе *справа — старана.*

С. 147:

[3] адкрыць тое-сёе // адкрыць *сёе-тое*

[5] камендантавай цыгарэтай // камендантавай *сігарэтай*

С. 148:

[30] асабліва трывожны. //асабліва *неспакойны.*

С. 149:

[10] Адхінуўшы ў сцяне дошку // *Падняўшы* ў сцяне дошку

[12—13] раптам знайшлася цётка Мальвіна. // *здагадліва сказала* цётка Мальвіна.

С. 150:

[21] Мяне не правядзеш // Мяне не *абдурыш*

[28] нецярпліва пахаджвала Віка. // нецярпліва *хадзіла* Віка.

## Два студэнты (с. 151)

Друкуецца паводле першай публікацыі ў часоп. «Маладосць», 1957, № 2.

У Зб. тв. уключана ўпершыню.

С. 152:

*Ньютан* — Ісаак Ньютан (1643—1727) — англійскі фізік, матэматык і астраном, стваральнік класічнай механікі і асноў сучаснага прыродазнаўства, адкрыў закон зямнога прыцяжэння.

*Дзяды* — гл. камент. да апавяд. «Дэлегаты з Бярэзнікаў» (с. 688).

С. 154:

*Стоўпатварэнне вавілонскае* — біблейскі міф пра спробу людзей пабудаваць пасля сусветнага патопу ў зямлі Сенаар горад і вежу да нябёс. Разгневаны дзёрзкасцю людзей, Бог, паводле Бібліі, «змяшаў іх мовы» так, што тыя перасталі разумець адзін аднаго і «рассеяў» іх па ўсёй зямлі, і яны перасталі будаваць горад.

## Вераніка (с. 156)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1957 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1957, № 8.

У 1968 г. выйшаў зборнік апавяданняў І. Навуменкі пад аднайменнай назвай «Вераніка».

Уваходзіла ў зб.: «Хлопцы-равеснікі», 1958; «Вераніка», 1968; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Пераломны ўзрост», 1986; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1; «Аповесці, апавяданні», 2009.

Апавяданне пераклалі: на рускую мову — Я. Мазалькоў, на англійскую — М. Мінц.

С. 156:

*«Огонёк»* — расійскі і савецкі грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі ілюстраваны часопіс. Выходзіць з перапынкамі з 1879 г. З 1940 г.— штотыднёвік.

С. 157:

*Сувораў* — гл. камент. да апавяд. «Сябры-равеснікі» (с. 693).

*...ГПА...*— ГПА («Гатоў да працы і абароны») — праграма фізкультурнай падрыхтоўкі ў агульнаадукацыйных, прафесійных і

спартыўных арганізацыях у СССР, галоўная ў сістэме патрыятычнага выхавання моладзі. Існавала ў 1931—1991 гг. Здача нарматываў пацвярджалася адмысловымі значкамі.

*...ГСА...*— маецца на ўвазе значок «Гатоў да санітарнай абароны», які выдаваўся тым, хто здаў комплекс мер па санітарнай падрыхтоўцы.

*...ППХА...*— маецца на ўвазе значок «Гатовы да ПВХО» («Гатовы да проціпаветранай і проціхімічнай абароны»).

*...ЮВС...*— маецца на ўвазе нагрудны знак «Юны варашылаўскі стралок», уведзены Асаавіяхімам у ліпені 1934 г. для ўзнагароджвання юных трапных стралкоў.

*Лівійская пустыня* — пустыня ў Паўночнай Афрыцы, паўночна-ўсходняя частка Сахары.

С. 164:

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Сябры-равеснікі» (с. 693).

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 157:

[13] ён не вытрываў // ён не *выцерпеў*

С. 161:

[21] проста ззяла... // ззяла *нябачным хараством...*

## На вішнёвай вуліцы (с. 165)

Друкуецца паводле першай публікацыі ў часоп. «Маладосць», 1957, № 3.

У Зб. тв. уключана ўпершыню.

С. 165:

*Ленінград* — горад на тэрыторыі Расіі, заснаваны ў 1703 г. Пятром I і названы ў ягоны гонар Санкт-Пецярбургам. У гады Першай сусветнай вайны перайменаваны ў Петраград. Пасля смерці У. І. Леніна ў 1924 г. названы Ленінградам. З 1991 г. носіць ранейшую назву — Санкт-Пецярбург.

С. 166:

*Алес гэйт фарюбэр, алес гэйт фарбай, // Вір лаўфэн ім дэцэмбар, ды русэн ім май...*— Усё пераменліва, усё праходзіць // Мы ўцякаем у снежні, рускія — у маі.

С. 168:

*«Огонёк»* — гл. камент. да апавяд. «Вераніка» (с. 698).

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

*ПВХО, ГТО, ЮВС* — гл. камент. да апавяд. «Вераніка» (с. 698—699).

*ГСО* — маецца на ўвазе значок ГСА — (на рускай мове ГСО) — гл. камент. да апавяд. «Вераніка» (с. 699).

*...білеты Мопра...*— маецца на ўвазе МОПР — скар.: Міжнародная арганізацыя дапамогі барацьбітам рэвалюцыі — камуністычная дабрачынная арганізацыя, створаная паводле рашэння Камінтэрна ў якасці камуністычнага аналага Чырвонага Крыжа. Дзейнічала ў 1922—1947 гг.

*Саюз ваяўнічых бязбожнікаў* — добраахвотная грамадская арганізацыя ў СССР, заснаваная ў 1920-х гг., якая ставіла за мэту ідэйную барацьбу з рэлігіяй.

**Піліпка (с. 175)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1957 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1957, № 2.

Уваходзіла ў зб.: «Хлопцы-равеснікі», 1958; «Вераніка», 1968; «Год карася», 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Хатняе зайчанё», 1998.

С. 176:

*...кніжку пра Гулівера і ліліпутаў...*— маецца на ўвазе кніга «Падарожжа Гулівера» ірландскага пісьменніка Джанатана Свіфта (1667—1745).

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв / *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 175:

[13] ўсю траву // ўсю *канюшыну*

С. 177:

[9] свінка задавілася. // свінка *задушылася*.

[17] не ляскай гэтак клямкаю // не *бразгай* гэтак клямкаю

[23] ордэн і цэлых тры медалі. // ордэн і *ажно* тры медалі.

С. 178:

[18] А ножык у Піліпкі добры // А ножык у Піліпкі *харошы*

[32] трохі языкаты. // трохі *языкаваты.*
С. 181:
[7—8] Пасля сказа «Ёй жа ў школу трэба ісці» ў Зб. тв. завяршальны тэкст такі: «Падышоўшы да насыпу чыгункі, Пілiпка расшнураваў чаравікі, зняў і акуратна паставіў у траву. Людзі знойдуць, маўляў, і аддадуць маці… Калі з-за павароту паказаўся цягнік, Піліпка напружыніўся, чакаючы, калі колы заляскочуць бліжэй. Яшчэ праз хвіліну, калі цягнік зусім наблізіўся, ён кінуўся на рэйкі…», а ў зб. «Хлопцы-равеснікі» наступны завяршальны тэкст апавядання: *«Блізкія людзі пасля расказвалі, што ў той дзень бачылі Піліпку. З перакінутымі цераз плячо чаравікамі ён некуды шыбаваў па вузкай пакручастай сцяжынцы, якая вілася ўзбоч бітага, насыпанага шляху».*

**Рэдактарава хата (с. 181)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1957 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць, 1957, № 8.

Уваходзіла ў зб.: «Хлопцы-равеснікі», 1958; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972, пад назвай «Рэдактараў зруб».

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

С. 184:

*Асаавіяхім* — гл. камент. да апавяд. «Сябры-равеснікі» (с. 694).

*Сібір* — геаграфічны рэгіён у Расіі.

*Каўказ* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

*Поўнач* — частка тэрыторыі Расіі, якая знаходзіцца пераважна паўночней Палярнага круга.

С. 185:

*Хасан* — возера ў Прыморскім краі Расіі. У 1938 г. месца ваеннага канфлікту паміж савецкімі і японскімі ўзброенымі сіламі.

*Халхін-Гол* — рака ў Манголіі і Кітаі, пачынаецца на заходніх схілах Вялікага Хінгана. У 1939 г. тут адбыўся ваенны канфлікт паміж савецка-мангольскімі і японскімі войскамі, які завяршыўся поўным разгромам японскіх сіл.

*Буір-Нур* — возера на тэрыторыі Манголіі і Кітая, у якое ўпадае двума рукавамі рака Халхін-Гол.

*Ленінград* — гл. камент. да апавяд. «На вішнёвай вуліцы» (с. 699).

*Манергейм Карл Густаў Эміль* (1867—1951) — фінскі ваенны і дзяржаўны дзеяч, генерал-лейтэнант расійскай арміі (1917), маршал Фінляндыі (1933), прэзідэнт Фінляндыі (4.08.1944—11.03.1946).

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Сябры-равеснікі» (с. 693).

С. 192:

*«Огонёк»* — гл. камент. да апавяд. «Вераніка» (с. 698).

*«Крокодил»* — савецкі і расійскі сатырычны часопіс. Выходзіў у 1922—2008 гг. (з перапынкамі).

С. 193:

*МТС* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя праталіны» (с. 680).

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 185:

[5—6] Пасля слоў «Панасюка скубанула асколкам сталі» ў зб. «Хлопцы-равеснікі» ідуць такія словы: *«зваранай дзе-небудзь на японскім востраве Хакайда».*

[20] чацвёрты раз // *пяты* раз

[31] здаецца, не вабілі. // здаецца, *не цягнулі.*

С. 187:

[33] а таму палічылі // *а пагэтаму* палічылі

С. 192:

[21] Пасля слоў «заляжаліся недзе на пошце» ў Зб. тв. ідзе наступны сказ: *«Добра пасядзелі вечарам»,* які ў зб. «Хлопцы-равеснікі» адсутнічае.

[39] «Огоньки» і «Крокодилы» // *«Аганькі» і «Кракадзілы*»

С. 193:

[1—2] нязменна тоненькім галаском адказваў // *нязменна адказваў*

[25] Пасля слоў «дах жа ёсць» у Зб. тв. ідуць наступныя сказы: «*Будзе стаяць хоць сто гадоў. Уласнасць»,* у зб. «Хлопцы-равеснікі» яны адсутнічаюць.

[33—34] Ён абяцаў туды вярнуцца. // *Ён абяцаў туды вярнуцца, як толькі скончаць работу палітаддзелы.*

## 1958

### Дом над морам (с. 195)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1958 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1959, № 6.

Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах», 1960, «Анталогія беларускага апавядання ў двух тамах», 1967, т. 2; «Вераніка», 1968; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае» 1972; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклалі: на рускую мову — Я. Мазалькоў, на балгарскую — Г. Вылчаў, на ўкраінскую — А. Перайдэнка.

У БДАМЛМ, у папцы часоп. «Маладосць», знаходзіцца машынапіс апавядання «Дом над морам» з рэдактарскімі праўкамі (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 88, арк. 1—8). Угары машынапісу пазначана: «Маладосць» № 6—7 / IV — 59 С. 121—129.

С. 196:

*Хірахіта* (імператар Сёва, 1901—1989) — кіраўнік Японіі ў 1926—1989 гг. Быў 124-м імператарам Японіі. Яго кіраванне было найдаўжэйшым імператарскім кіраваннем у гісторыі Японіі.

*...кавалеры ордэна Славы...* — тыя, хто ўзнагароджаны ордэнам Славы. Гэты баявы ордэн у СССР быў уведзены ў 1943 г. і меў тры ступені. У народзе яго ўспрымалі і лічылі «салдацкім ордэнам», аналагам Георгіеўскага крыжа.

С. 197:

*Омск* — горад у Расіі, цэнтр Омскай вобл.

*Томск* — горад у Расіі, цэнтр Томскай вобл.

*Дарагабуж* — горад у Расіі, цэнтр Дарагабужскага раёна Смаленскай вобл.

С. 199:

*Пенза* — горад у Расіі, цэнтр Пензенскай вобл.

*«Аганёк»* — вядомая савецкая ваенная песня. Аўтар слоў М. В. Ісакоўскі, аўтар музыкі невядомы. Упершыню «Аганёк» з гэтай мелодыяй прагучаў у 1947 г. у выкананні У. Нячаева.

*«Цёмная ноч»* — папулярная песня, напісаная кампазітарам М. У. Багаслоўскім і паэтам У. Г. Агатавым у 1943 г. да фільма «Два байцы».

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *машынапіс*

С. 195:

*Пачатак твора ў машынапісе наступны:*

*Тэрмас с супам прынёс нам пад вечар старшына Нізкалобаў. Белы прыгожы дом, на шостым паверсе якога мы аблюбавалі пакой пад назіральны пункт, высіўся на самым беразе вузкага, нібы высунуты язык, заліва, якім мора ўядалася ў пясчаную нямецкую зямлю.*

6—7 адкрыты пляж // адкрыты *бераг*

17 Мерзлякоў, які толькі што пачаў дзяжурыць // Мерзлякоў, *дзяжурства якога толькі пачалося*

С. 196:

13 чырвоны спацелы твар // чырвоны *ўзмакрэлы* твар

16 — Табе няма. Твой Дашка яшчэ піша… // — Табе няма,— *Патушыў яго імпэт Нізкалобаў.*— Твой Дашка яшчэ піша…

18—19 барабаніў абцасамі па падлозе. // барабаніў *нагамі* па падлозе.

19—20 Ён атрымліваў лісты толькі ад маці і сястры і быў спакойны. // Ён атрымліваў лісты толькі ад маці і сястры і быў спакойны. *Ва ўсякім выпадку пасля апошняй паштоўкі пензенскай Клары.*

23 Сёння кавалеры ордэна Славы нешчаслівыя. // Сёння *ваўкі* нешчаслівыя.

24 — Мае шчасце толькі адзін кавалер. // — Мае шчасце толькі адзін *воўк.*

29—30 Кавалеры ордэна Славы разбаўленага спірту не пілі. // *ваўкі* разбаўленага спірту не пілі.

33 — Піць усім, па чарзе. Свята... // — Піць усім, па чарзе,— *пасур’ёзнеў Нізкалобаў.*— Свята...

38 Зменіце Мерзлякова апоўначы. // Зменіце Мерзлякова апоўначы, *калі ўзыдзе месяц.*

С. 197:

9 Няўклюдна выкідваючы ногі, Лёня зрабіў яшчэ адзін круг. // Няўклюдна выкідваючы ногі *і прысядаючы*, Лёня зрабіў яшчэ адзін круг.

26 Берлін заўтра наш. // *Берлін наш.*

26—27 У машынапісе пасля сказа «Вайне канец!..» ідуць наступныя сказы: *«Ён выпіў першы. За ім, апякаючы горлы, выпілі астатнія. Філімонаў і Серада падносілі ваду запіваць. Крадком яны пазіралі на фляжку, ці многа засталося».*

[28—29] У машынапісе адсутнічаюць сказы: «Гэта было падобна на казку. Першамай, канец вайны. Шкада, што мы не былі цяпер у Берліне».

[37—38] Калі прыйшоў Мерзлякоў, аддалі яму яго норму // Калі прыйшоў Мерзлякоў, *выпілі яшчэ яго* норму

[39] Праз паўгадзіны ўсё перамянілася… // *І тады* ўсё перамянілася…

С. 198:

[2—3] пяцёра кавалераў ордэна Славы // пяцёра *ваўкоў*

[8] Мамедаў быў трэцім па ліку камандзірам узвода. // Мамедаў быў трэцім па ліку камандзірам узвода, *які загінуў.*

[11] Ніхто нікога не забыў... / *Ваўкі нікога не забылі.*

[17—18] Сказ *«Ён нам іграў усе ночы з таго часу, як мы пасяліліся ў белым курортным доме над морам»* у машынапісе адсутнічае.

[19—20] нараджаючы мяккія гукі. // нараджаючы *разрозненыя акорды.*

[33—34] Пасля слоў «усе мы думалі пра дзяўчат» у машынапісе ідзе наступны тэкст: *«Нямецкі красавік прынёс вясну. Зямля была чужая, варожая, але вясна па ёй ішла, як і там, па родных прасторах. Булавенка іграў, а ваўкі маўчалі. «Ваўкі» гучала б цяпер проста смешна. Старэйшаму Сашы Смірнову было дваццаць два, малодшаму — дваццаць. Трое з шасцярых «ваўкоў» ні разу не цалаваліся. За два гады наступлення мы ўсе адспавядаліся адзін перад другім душой, і ў нас не было тайнаў».*

Тэкст ад слоў «усе мы думалі пра дзяўчат, якія прысылалі нам на фронт трохкутнічкі» і да сказа «Зямля была чужая, але вясна па ёй ішла, як там, на родных прасторах» адсутнічае ў машынапісе.

С. 200:

[1—7] Тэкст, пачынаючы са сказа «Піяніна проста грымела…» і да сказа «Старшына Нізкалобаў заснуў у мяккім крэсле пад музыку Булавенкі» ў машынапісе адсутнічае.

[13—26] Тэкст, пачынаючы са слоў «З раніцы, адбыўшы сваю чаргу на назіральным пункце…» і заканчваючы словамі «на пясчаным пляжы», у машынапісе апавядання адсутнічае.

**Пеця (с. 201)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1958 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1958, № 12.

Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах», 1960; «Год карася», 1988; «Хатняе зайчанё», 1998.

С. 201:

*Сочы* — горад-курорт на чарнаморскім узбярэжжы Заходняга Каўказа, у Краснадарскім краі Расіі.

*Ленінград* — гл. камент. да апавяд. «На вішнёвай вуліцы» (с. 699).

*Чалябінск* — горад у Расіі, цэнтр Чалябінскай вобл.

**Прыпяцкая зона (с. 206)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1958 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1958, № 12.

Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах», 1960; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

У БДАМЛМ, у папцы часопіса «Маладосць», захоўваецца машынапіс твора з рэдактарскімі праўкамі. (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 59, арк. 32—44). Угары першай старонкі машынапісу надпіс: «Маладосць» № 6.18/V58 г.

С. 206:

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 699).

С. 207:

*Адэса* — горад ва Украіне, на ўзбярэжжы Чорнага мора, цэнтр Адэскай вобл.

*Корт* — бавоўняная тканіна, звычайна цёмнага колеру, для рабочага і спартыўнага адзення.

*Палярны круг* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

С. 210:

*...наведаць казачную Атлантыду...*— Атлантыда — легендарны востраў, архіпелаг альбо кантынент, які знаходзіўся ў сучасным Атлантычным акіяне і за адзін дзень апусціўся на марское дно ў выніку землятрусу і паводкі разам са сваімі жыхарамі — атлантамі.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. / *машынапіс*

С. 211:

[10] — Бліжэй // — Трохі *далей*

[22] такога ладнага хлопца. // такога *прыгожага* хлопца.

С. 214:

[6] Пасля сказа «Марыйка зграбная» ў машынапісе ідзе наступны тэкст: *«Гледзячы на яе, хочацца ўсміхацца, гаварыць вясёлыя словы і нават спяваць. І сама дзяўчына, як песня…»*

Пасля сказа «Марыйка зграбная» ў машынапісе адсутнічае наступны абзац да сказа: «Алёша і Марыйка разумныя».

[11—12] Пасля сказа «На душы ў мяне радасна і ціха» ў машынапісе адсутнічае наступны за ім сказ: «Гэтыя двое нібы нарадзіліся адно для аднаго…»

С. 215:

[7—8] сярод палявога пшанічнага прастору ў паўднёвай частцы раёна // *сярод пшанічнага прастору*

[19] пабудзіць дзяўчыну і хлопца // *пабудзіць заўтрашніх маладажонаў*

[24] знойдзецца занятак Алёшу. // *знойдзецца работа механіку Алёшу.*

[25—26] У машынапісе адсутнічае апошні абзац са Зб. тв.: «Ногі тонуць у пяску. Пясок і пясок. Недзе вёрст за трыццаць адсюль багатая вёска Вяляцічы...» Заміж яго ў машынапісе наступны апошні абзац: *«Мілая сэрцу, Прыпяцкая зона! Ты ўзгадавала на сваіх пясках цудоўную паву, ты прычаравала найлепшага хлопца. А гэтыя двое маладыя і дужыя. Яны не пусцяць цябе ў занядад. Расці і квітней, Прыпяцкая зона!»*

### Справа аб каноплях (с. 215)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1958 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1958, № 5.

Уваходзіла ў зб. «Верасы на выжарынах», 1960.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

С. 217:

*Суvotraў* — гл. камент. да апавяд. «Сябры-равеснікі» (с. 693).

С. 220:

*...як авечкі ў летні жар…*— радок з верша Якуба Коласа «Вёска» (1907).

*Якуб Колас* (сапр. Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч; 1882—1956) — беларускі грамадскі дзеяч, пісьменнік, паэт і перакладчык. Народны паэт Беларусі (1926).

*Астатняя вёска, падхопленая ветрам сталыпіншчыны, рассыпалася на хутары і хутаркі…*— маецца на ўвазе сталыпінская аграрная рэформа — шырокі комплекс мерапрыемстваў у галіне сельскай гаспадаркі, якія праводзіліся пад кіраўніцтвам П. А. Сталыпіна (1862—1911), які ў 1906—1911 гг. быў прэм’ер-міністрам царскага ўрада. Адным з асноўных кірункаў рэформы была перадача надзельных зямель ва ўласнасць сялян.

С. 223:

*…часопіс «Бязбожнік».*— «Безбожник» — часопіс атэістычнай скіраванасці ў СССР, які выпускала рэдакцыя газеты «Безбожник». Выходзіў у 1923—1941 гг. (у 1923—1932 гг. называўся «Безбожник у станка»).

*Дзям’ян Бедны* — Прыдвораў Яфім Аляксеевіч (1883—1945) — савецкі паэт-песеннік.

*Кандрат Крапіва* (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896—1991) — народны пісьменнік Беларусі (1956), знакаміты драматург, байкапісец, пісьменнік, мовавед.

С. 225:

*МТС* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя праталіны» (с. 680).

С. 226:

*Яраслаўскі Емяльян Міхайлавіч* (сапр. Міней Ізраілевіч Губельман; 1878—1943) — рэвалюцыянер. Дзеяч Камуністычнай партыі. Ідэолаг і кіраўнік антырэлігійнай палітыкі ў СССР. Старшыня Саюза ваяўнічых бязбожнікаў.

*«Беларуская вёска*» — беларускамоўная газета ў БССР для сялян у 1920-я гг.

## 1959

### Верасы на выжарынах… (с. 230)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1959 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1959, № 2 пад назваю «Верасы цвітуць…».

Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах», 1960, дзе дало назву ўсяму зборніку; «Вераніка», 1968; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Пераломны ўзрост», 1986; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

У БДМАЛМ, у папцы часопіса «Полымя», знаходзіцца машынапіс твора (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 48, арк. 74—82). Угары першай старонкі надпіс: Апавяданне — «Верасы цвітуць восенню». Змест машынапісу цалкам супадае з тэкстам Зб. тв. у 6 тамах.

С. 230:

*Ленінград* — гл. камент. да апавяд. «На вішнёвай вуліцы» (с. 699).

*Адэса* — гл. камент. да апавяд. «Прыпяцкая зона» (с. 706).

С. 233:

*Новікаў-Прыбой* (сапр. Новікаў Аляксей Сілыч; 1877—1944) — рускі пісьменнік-марыніст, аўтар раманаў «Цусіма», «Салёная купель» і інш.

*Станюковіч Канстанцін Міхайлавіч* (1843—1903) — вядомы рускі пісьменнік. Атрымаў у 1901 г. Пушкінскую прэмію за «марскія» творы.

*Чорнае мора* — гл. камент. да апавяд. «Настаўнік чарчэння» (с. 690).

*...паўстала яна, мая Ларэлея.*— Галоўная гераіня параўноўваецца з вабным вобразам дзяўчыны са знакамітага верша нямецкага паэта Г. Гейнэ (1797—1856) «Ларэлея».

### Вяселле ў Палыкавічах (с. 236)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1959 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1959, № 3.

Уваходзіла ў зб. «Верасы на выжарынах», 1960.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

С. 237:

*Прачыстая (Успенне Маці Божай)* — летняе свята народнага календара. Адзначалася 28 жніўня (н. ст.). Праваслаўная царква прымеркавала да гэтага дня смерць Божай Маці і ўзяцце яе на неба. Часам у народзе назва гэтага свята ўдакладнялася: Вялікая, Большая або Першая Прачыстая, бо існавала яшчэ і Малая, Меншая, Другая Прачыстая, пад якой меўся на ўвазе дзень Нараджэння Маці Божай (Багач). Разам з Пакровам абедзве Прачыстыя ўтваралі багародзіцкія святкі.

*ХТЗ* — скар.: Харкаўскі трактарны завод.

**Да звёздаў (с. 242)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1959 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1959, № 6 пад назвай «Да зор».

Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах», 1960; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972, пад назвай «Да звёздаў».

Апавяданне на рускую мову пераклаў Я. Мазалькоў.

С. 243:

*Эйнштэйн Альберт* (1879—1955) — нямецкі і амерыканскі вучоны фізік-тэарэтык і грамадскі дзеяч, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, стваральнік тэорыі адноснасці.

*Майкельсон Альберт Абрахам* (1852—1931) — амерыканскі фізік, які сканструяваў дакладныя спектраскапічныя прылады.

С. 244:

*Гвадалквівір* — рака на поўдні Іспаніі ў Андалусіі, якая ўпадае ў Атлантычны акіян.

*Ночной зефир — Струит эфир. // Шумит, // Бежит // Гвадалквивир.*— пачатак верша А. С. Пушкіна, напісанага 13 лістапада 1824 г.

*Пушкін Аляксандр Сяргеевіч* (1799—1837) — рускі паэт, адзін з заснавальнікаў сучаснай рускай мовы і літаратуры.

С. 245:

*Эбра* — найбольш паўнаводная рака ў Іспаніі, якая цячэ па Арагонскай раўніне і ўпадае ў Міжземнае мора.

*Гвадарама* — горны ланцуг у Іспаніі.

*Таха* — рака ў Іспаніі і Партугаліі, найдаўжэйшая на Пірэнейскім паўвостраве.

*Парлата эспаньёла...*— у перакладзе з іспанскай мовы — ці размаўляеш па-іспанску?

С. 250:

*...сапраўдны грэнадзёрскі рост.*— Грэнадзёры (*фр.* Grenadiers) — адборныя часткі пяхоты і кавалерыі, ад пачатку прызначаныя для штурму варожых умацаванняў пераважна ў абложных аперацыях. У грэнадзёры было прынята адбіраць высокіх людзей.

*...з сынам Альбіёна.*— Альбіён (*Albion* — слова кельцкага паходжання) — старажытная назва Брытанскіх астравоў, вядомая яшчэ старажытным грэкам. Цяпер тэрмін выкарыстоўваецца ў Англіі ва ўзвышаным стылі, у іншых краінах — звычайна ў часткова іранічным сэнсе.

*Сузор'е Рыбы* — вялікае задыякальнае сузор'е, якое знаходзіцца паміж Вадалівам і Авенам.

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Хлопцы-равеснікі»*

С. 250:

[16] сузор'я Рыбы. // сузор'я *Лапласа.*

**Жуль Верн (с. 251)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1959 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1959, № 9.

Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах» 1960; «Вераніка» 1968; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае» 1972; «Сярэбраныя мхі» 1983; «Пераломны ўзрост» 1986; «Год карася» 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў» 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1; «Хатняе зайчанё» 1998; «Аповесці, апавяданні», 2009.

Апавяданне пераклалі: на рускую мову — Я. Мазалькоў, М. Златагораў, на балгарскую — Х. Бярбераў.

С. 251:

*Жуль Верн* (1828—1905) — французскі пісьменнік-фантаст. Стварыў «новы тып рамана», які грунтаваўся на дасягненнях навукі.

С. 252:

*Афанасьеў Аляксандр Мікалаевіч* (1826—1871) — знакаміты рускі збіральнік фальклору, даследнік духоўнай культуры славянскіх народаў.

*Браты Грым* (Якаб, 1785—1863; Вільгельм, 1776—1859) — нямецкія лінгвісты і даследнікі нямецкай народнай культуры. Збіралі фальклор і апублікавалі некалькі зборнікаў пад назваю «Казкі братоў Грым», якія сталі надзвычай папулярнымі.

С. 257:

*Сахара* — найвялікшая пустыня на Зямлі, якая знаходзіцца ў Паўночнай Афрыцы.

*...выветраныя рэшткі дэвона...*— Дэвон (дэвонскі перыяд, дэвонская сістэма) — геалагічны перыяд у палеазоі. Працягласць дэвона — 56 млн гадоў (каля 416 млн — 360 млн гадоў таму).

*...па прасторах Ледавітага акіяна.*— Паўночны Ледавіты акіян — найменшы паводле плошчы акіян Зямлі, які знаходзіцца паміж Еўразіяй і Паўночнай Амерыкай.

С. 262:

*...ажыццяўлялі адысею па блізкіх ваколіцах.*— Адысея — багатыя на падзеі вандраванні паводле назвы эпічнай паэмы (VIII ст. да н. э.) Гамера, якая апісвае вандраванні Адысея.

*...зрэзаўшы з гор Скандынавіі.*— Скандынаўскія горы — сістэма гор на Скандынаўскім паўвостраве. Працягласць каля 1700 км, шырыня да 600 км.

С. 263:

*Ніл* — рака ў Афрыцы, другая паводле даўжыні рака ў свеце (пасля Амазонкі).

*Вялікая Мядзведзіца* — сузор'е Паўночнага паўшар'я неба.

*Палярная зорка* — зорка, якая заўжды знаходзіцца над паўночнай кропкай далягляду ў Паўночным паўшар'і, што дазваляе выкарыстоўваць яе для арыентацыі па мясцовасці.

Сузор'е Арыёна — экватарыяльнае сузор'е, якое на тэрыторыі Беларусі бачнае ўвосень і ўзімку.

*Млечны Шлях* — белая паласа, якая перасякае неба, утворана з вялікай колькасці слабых зорак.

С. 264:

*Урал, Каўказ* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

## Новая хата (с. 265)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1959 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1959, № 12.

Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах», 1960; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Год карася», 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1; «Хатняе зайчанё», 1998; «Аповесці, апавяданні», 2009.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *зб. «Верасы на выжарынах»*

С. 266:

[32] пачаў мяне ёй хвастаць. // пачаў мяне *біць*.

## 1960

## Па махорку (с. 269)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1960 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1965, № 9.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

У БДАМЛМ, у папцы часопіса «Маладосць», захоўваецца машынапіс з рэдактарскімі праўкамі (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 373, арк. 22—38). Угары першай старонкі машынапісу пазначана: Апавяданне «Па махорку» № 361 13/VII 65.

С. 269:

*...у зводцы Саўінфармбюро...*— Саўінфармбюро (Савецкае інфармацыйнае бюро; 1941—1961) — інфармацыйна-прапагандысцкае ведамства ў СССР, утворанае пры Савеце народных камісараў СССР 24 чэрвеня 1941 г.

*Волга* — гл. камент. да апавяд. «Настаўнік чарчэння» (с. 690).

С. 270:

*Ленінград* — гл. камент. да апавяд. «На вішнёвай вуліцы» (с. 699).

*Жытомір* — горад ва Украіне, цэнтр Жытомірскай вобл.

С. 273:

*...там імчалі тачанкі...*— маецца на ўвазе папулярная руская песня «Тачанка», створаная ў 1936 г. Аўтар слоў М. І. Рудэрман, аўтар музыкі К. Я. Лістоў.

*«Зямлянка»* — руская савецкая песня перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Музыка К. Я. Лістова, вершы А. А. Суркова.

*«Аганёк»* — гл. камент. да апавяд. «Дом над морам» (с. 703).

*...бадзёра выдыгалі тры вясёлыя, трохі самаўпэўненыя танкісты...*— маецца на ўвазе папулярная руская песня «На границе тучи ходят хмуро». Была напісана братамі Пакрас на словы Б. С. Ласкіна і ўпершыню прагучала ў застаўцы фільма «Трактарысты» ў 1939 г.

*...і нават Кацюша, выходзячы на бераг, сумавала неяк залішне весела, як бы ўпрысядкі скакала.*— маецца на ўвазе папулярная руская песня «Кацюша». Аўтар слоў М. В. Ісакоўскі, аўтар музыкі М. І. Блантэр. Упершыню выканана 27 лістапада 1938 г.

С. 278:

*МТС* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя праталіны» (с. 680).

С. 280:

*Днепрапятроўск* — горад ва Украіне, цэнтр Днепрапятроўскай вобл.

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *машынапіс*

С. 270:

[23—24] Ён занядужаў // Ён *прыхварнуў*

С. 271:

[16] І ёй доўга пляскалі. // І ёй доўга *апладыравалі.*

[31] Я мерыўся // Я *меціў*

[38] Клара пачала ставіцца // Клара пачала *стала адносіцца*

С. 272:

[16] Мы хадзілі // Мы *вандравалі*

С. 273:

[20] рэйкі пакалечаны // рэйкі *пакрэмзаны*

С. 274:

[32] У машынапісе пасля сказа «Клара, да цябе» ідзе наступны сказ: *«І вось яна, Клара».*

С. 275:

[17]Клара супакоілася. / Клара *ўзяла сябе ў рукі.*

С. 276:

[31—32] Такія твары адбівалі на рымскіх манетах. // Такія твары *малявалі* на рымскіх манетах.— Пасля гэтага сказа ў машынапісе ідзе наступны сказ: *«Яны належалі імператарам»*.

С. 277:

[25] выйшаў на вуліцу. // *рушыў* на вуліцу.

С. 278:

[25] Пасля слоў «некалі і мне было васямнаццаць гадоў» у машынапісе ідзе ўстаўны сказ: *«Згаданае часта спраўджваецца»*.

С. 279:

[3] Поезд крануўся. // Поезд *рушыў зноў.*

С. 281:

[9—10] Пасля слоў «і было да болю крыўдна ад думкі, што» ў машынапісе ідзе ўстаўка: *«ў свае сорак гадоў»*

### Раман з эпілогам (с. 281)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1960 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1960, № 1.

Уваходзіла ў зб.: «Верасы на выжарынах», 1960; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972.

Апавяданне пераклалі на рускую мову Б. Якаўлеў і Я. Мазалькоў.

С. 286:

*...перад вачамі стаялі подзвігі папанінцаў...*— Папанінцы — гераічныя даследнікі Арктыкі. Паводле прозвішча І. Д. Папаніна (1894—1986), які разам з Э. Т. Крэнкелем, П. П. Шыршовым і Я. К. Фёдаравым у 1936—1937 гг. здзейснілі дзевяцімесячны дрэйф на льдзіне ад Паўночнага полюса да Грэнландыі.

*Хасан, Халхін-Гол* — гл. камент. да апавяд. «Рэдактарава хата» (с. 701).

С. 287:

*Чапаеў Васіль Іванавіч* (1887—1919) — савецкі военачальнік, легендарны герой грамадзянскай вайны, камандзір 25-й дывізіі Чырвонай Арміі, поўны Георгіеўскі кавалер.

*Адыходнік* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя праталіны» (с. 680).

*Кок-сагыз* — гл. камент. да апавяд. «Дэлегаты з Бярэзнікаў» (с. 688).

С. 288:

*У вушах звінелі радкі Купалавага верша пра дзяўчыну Алесю...*— верш, які мае назву «Алеся», быў напісаны ў 1935 г.

*Сельпо* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

С. 302:

*Філантропія* — дабрачынная дзейнасць, аказанне дапамогі бедным і тым, хто мае ў гэтым патрэбу.

## Чуеце, хлопцы?.. (с. 304)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1960 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1960, № 4.

Уваходзіла ў зб. «Таполі юнацтва», 1966.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

У БДАМЛМ, у папцы часопіса «Маладосць», захоўваецца рукапіс з невялікімі праўкамі (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 126, арк. 1—9). На першай старонцы рукапісу ўгары надпіс, зроблены І. Навуменкам,— «Роздум», але ён закрэслены і напісана: «Апавяданне». Тамсама пазначана і дата прыняцця рукапісу ў часопіс «Маладосць»: 29.II.1960.

С. 305—306:

*...вывучыць «Інтэрнацыянал»* — міжнародны пралетарскі гімн расійскай сацыял-дэмакратыі (з 1906). Напісаны на верш французскага паэта-рэвалюцыянера Э. Пацье (1871), музыка П. Дэгейтара (1888). Упершыню выкананы 23 чэрвеня 1888 г. хорам рабочых з

французскага горада Ліля. У 1918—1943 гг. быў гімнам СССР. Рускі тэкст напісаў паэт А. Коц у 1902 г.

С. 304:

*Маркс Карл* (1818—1883) — нямецкі філосаф, сацыёлаг, эканаміст, палітычны журналіст, грамадскі дзеяч.

С. 306:

*эсэсаўцы* (ад эсэс), СС (SS — скароч. ад *ням*. Shutzstaffeln — ахоўныя атрады) — арганізацыя германскіх фашыстаў, адна з галоўных апор фашысцкага рэжыму. На Нюрбергскім працэсе (1946) была прызнана злачыннай.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *рукапіс*

С. 305:

[7—8] Пасля сказа «Якім словам будуць успамінаць цябе, свайго першага настаўніка?» у рукапісе ідзе наступны тэкст: «*калі ты і ўсе твае аднагодкі сыдзем на вечны спакой, пад бярозай ці хвояй».*

С. 305:

[34—35] Пасля сказа «Радаваліся першай зброі, з якой можна страляць» у рукапісе ідзе ўстаўны тэкст: «*і патрушчаным часткам радыёпрыёмнікаў, якія мы сцягвалі ў Цішкаву хату цэлы тыдзень, стараючыся зляпіць з іх новы прыёмнік. У тое, што Масква не наша, мы не верылі і хацелі пачуць яе голас*».

С. 306:

[3] Цішка і Мікола // *Іван* і Мікола

[20] Мы, вядома, не былі ніякімі героямі. // Мы, вядома, не былі *«вялікімі*» героямі.

[27] Калі Грышу арыштавалі. // Калі *Сіму* арыштавалі.

[31—32] Пасля сказа «Мы не чулі, хлопцы, але я веру, што ён праспяваў тады, калі ў яго стралялі, тыя восем радкоў, якія мы вывучылі на памяць» у рукапісе ідзе ўстаўны сказ: *«Для гэтага ж іх і запаміналі»*.

[33—34] Пасля сказа «Пазней усё перамянілася» ў рукапісе ідзе ўстаўка: *«Нам пашанцавала яшчэ паваяваць і салдатамі».*

С. 307:

[15] Пасля слоў «Спявалі «Інтэрнацыянал» напаўголасу на невядомай нам мове» ў рукапісе ідзе ўстаўка: *«але гэтай песняй пранзіла нас нібы электрычным токам»*.

## 1961

### Былі дрэвы (с. 308)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1961 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1961, № 2 пад назвай «Чатыры таполі».

Уваходзіла ў зб. «Таполі юнацтва», 1966.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

У БДАМЛМ, у папцы часопіса «Полымя», знаходзіцца машынапіс апавядання пад назвай «Чатыры таполі» (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 306, арк. 151—161).

С. 309:

*Стэфенсон Джордж* (1781—1848) — англійскі канструктар і вынаходнік у галіне паравога чыгуначнага транспарту.

*— А хто прыдумаў самалёт? — дацінալі мы Хведзьку.— Браты Райт.*— Браты Уілбур (1867—1912) і Орвіл Райт (1871—1948) — два амерыканцы, за якімі ў большасці краін свету прызнаецца прыярытэт вынаходніцтва і пабудовы першага ў свеце самалёта (спрэчка пра першанства з А. Сантас-Дзюмонам), здольнага да палёту, а таксама здзяйсненне першага кіраванага палёту чалавека на апараце, які цяжэй за паветра, з рухавіком 17 снежня 1903 г. Праз два гады браты змаглі развіць праект у першы практычна эксплуатуемы самалёт.

*Фултан Роберт* (1765—1815) — амерыканскі вынаходнік, стварыў і выпрабаваў у Парыжы (1803) першае невялікае паравое судна.

С. 312:

*Спас* — старажытнае свята, прымеркаванае да часу выспявання садавіны і гародніны. У жніўні тры Спасы: Першы, альбо Мядовы (14.08), Вялікі, альбо Яблычны (19.08), Трэці, альбо Арэхавы (29.08). Хрысціянскай традыцыяй да Вялікага Спаса прымеркавана свята Перамянення Божага.

*...акуратныя лаўжы...*— Лоўж — куча галля.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. / *машынапіс*

С. 310:

[6] Пасля слоў: «мы абцярэблівалі начыста» ў машынапісе ідуць два ўстаўныя сказы: *«Шкода ад паходаў нашых была, мабыць, толькі для хворых. Ім пападала менш яблык».*

## «Кукурузька» (с. 313)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1961 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1961, № 1.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Апрасцімся, сябры!..», 1990.

У БДАМЛМ, у папцы часопіса «Маладосць», знаходзіцца рукапіс апавядання з аўтарскімі праўкамі (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 163, арк. 1—16). На першай старонцы рукапісу, угары, надпіс: № 1. № 738-б 23 / XI — 60. (апавяданне).

С. 313:

*Балагол* — той, хто займаецца перавозам грузаў ці людзей на ўласнай фурманцы.

С. 315:

*Днепрагэс* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

С. 319:

*МТС* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя пратaліны» (с. 680).

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. *// рукапіс*

С. 313:

[7] У той жа год у Анікея // У той жа год *у лескаўца*

С. 316:

[24] Ніхто і не цікавіўся Анікеем // Ніхто, *нават у сям'і,* не цікавіўся Анікеем

С. 318:

[21—22] Старэйшага сына ледзь пазнаў // *Трактара* ледзь пазнаў

С. 320:

[34—35] Можа, упершыню дзікаваты чалавек гэты дзяліўся з другімі сваёй радасцю і згодай… // *Можа, упершыню дзівакаваты чалавек гэты таіў у сабе радасць і спакой.*

## Негры ў Мінску (с. 321)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1961 г.

Упершыню — газ. «Голас Радзімы», 1961, № 1; часоп. «Полымя», 1961, № 2.

Уваходзіла ў зб.: «Тапол і юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; а таксама ў зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў «Горад і годы» (1967) пад назвай «Афрыка ў Мінску».

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

У БДАМЛМ, у папцы часопіса «Полымя», захоўваецца машынапіс апавядання з рэдактарскай праўкай (ф. 421, воп. 1, адз. зах. 306, арк. 158—162), які амаль цалкам адпавядае тэксту Зб. тв.

С. 321:

*Ленінград* — гл. камент. да апавяд. «На вішнёвай вуліцы» (с. 699).

*Баку* — горад на беразе Каспійскага мора, сталіца Азербайджана.

*Уладзівасток* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

С. 323:

*Трансвааль* — калонія Вялікабрытаніі, якая знаходзілася на тэрыторыі заваяванай Трансваальскай Рэспублікі (у межах Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі).

С. 324:

*«Трансваааль, Трансвааль страна моя! // Ты вся горишь в огне…»* — радкі з рускай народнай песні «Трансвааль, страна моя, ты вся горишь в огне…», створанай на аснове верша «Бур і яго сыны» (1899) рускай паэтэсы Галіны Галінай (сапр. Рынкс Глафіра Адольфаўна, 1870 альбо 1873—1942). Гэтым вершам паэтэса адгукнулася на падзеі другой англа-бурскай вайны (1899—1902).

## Сны (с. 324)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1961 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1961, № 2.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

У БДАМЛМ, у фондзе часопіса «Полымя», захоўваецца машынапіс апавядання з рэдактарскімі праўкамі (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 306, арк. 145—150).

С. 325:

*Нарва* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя праталіны» (с. 680).

*Вязьма* — горад у Расіі, цэнтр Вяземскага раёна Смаленскай вобл.

С. 326:

*Смаленск* — горад у Расіі, цэнтр Смаленскай вобл.

С. 327:

*...Іван Хрысціцель не апошні ў Бога чалавек.*— Іаан (Ян) Хрысціцель (6—2 гг. да н. э.— каля 30 г. н. э.) — згодна з Евангеллем, бліжэйшы папярэднік Ісуса Хрыста, які прадказаў прышэсце Месіі. Хрысціў Ісуса Хрыста.

*А пра Ягорыя Пабеданосца і казаць няма чаго*...— маецца на ўвазе Святы Георгій (Пабеданосец, Ягорый Храбры) — хрысціянскі святы, які падчас кіравання рымскага імператара Дыяклетыяна быў абезгалоўлены ў 303—304 гг.

*Порхаў* — горад у Расіі, цэнтр Порхаўскага раёна Пскоўскай вобл.

*Мга* — пасёлак у Кіраўскім раёне Ленінградскай вобл.

*Інгермаландзец* — прадстаўнік аднаго з фіна-ўгорскіх народаў, якія жывуць на тэрыторыі Ленінградскай вобласці Расійскай Федэрацыі.

С. 329:

*Карэльскі перашыек* — участак сушы паміж Фінскім залівам і Ладажскім возерам.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. / *машынапіс*

С. 324:

[23] Чацвёртая рота // *Шостая* рота

С. 325:

[12] чацвёртай роты // *шостай* роты

С. 327:

[13—14] у скляпок — туды, дзе яны жылі. // *у зямлянку, у хлеў, дзе размяшчаліся радавыя.*

[16] Іванаў аловак // Іванаў *карандаш*

С. 328:

[31—32] Пасля сказа «Ты гаворыш, проста песня» ў машынапісе ідзе ўстаўны сказ: *«Сны ў Івана заўсёды былі незвычайныя — пра возера, пра рыбу, пра смалісты бор па той бок возера, пра тлустых, нажыраваўшых у трысці качак».*

## Соль (с. 329)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1961 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1961, № 1.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972.

Апавяданне пераклалі: на рускую мову — Я. Мазалькоў, на ўкраінскую — Л. Шэвель.

У БДАМЛМ захоўваецца рукапіс твора з аўтарскімі праўкамі (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 163, арк. 16—25). На першай старонцы рукапісу ўгары пазначана дата рэгістрацыі яго ў часопісе «Маладосць»: 23 XI — 60 г.

С. 330:

*Мадзьярскія батальёны* — венгерскія вайсковыя падраздзяленні, якія прымалі ўдзел у акупацыі СССР у 1941—1944 гг.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *рукапіс:*

С. 329:

[16—17] Пасля сказа «Калі ў руках тваіх новенькі, апошняй маркі аўтамат, то гэта яшчэ не азначае, што ты непрыступны для ворага» ў рукапісе ідзе ўстаўка: *«Соль жыцця ў другім».*

[20] Мы з Міколам Дашуком // *Мы з Цярэшкай Пугачом*

[26] звыш трох соцен рознага люду. // звыш *шасці соцен…*

[28] паштовым кіёску // *мястэчковым* кіёску

С. 330:

[29] Але наша начальства разважыла інакш. // *Але людзі, уладу якіх над сабой мы прызналі самі, ад якіх залежаў наш лёс разважылі інакш.*

С. 331:

[11—12] мінеральным угнаеннем, што там-сям засталося ў кучах на асушаным балоце. // мінеральным угнаеннем, што там-сям

засталося ў кучах на асушаным балоце *ў вёсках яшчэ з даваеннага часу.*

[32] трыста чалавек // *шэсцьсот партызан*

[38] Міколавага дзеда // *Цярэшкавага дзеда*

С. 332:

[20] запэўнілі // *паабяцалі*

С. 333:

[13] Пасля слоў «крамнік Андрэй» у рукапісе ідзе ўстаўка: «*ціхі, сумленны чалавек. Гэта было ўжо гадоў праз пяць пасля вайны*».

[34] Канцоўка апавядання ў рукапісе мае наступны варыянт:

*«Раз'ехаліся і многія партызаны. Дудка, наш партызанскі летапісец, да якога мы звярталіся з просьбай наконт даведкі Андрэю, сустрэў нас непрыхільна.*

*— Не ведаю ніякой солі,— заявіў ён, адтапырыўшы тоўстую губу.— Будуць цяпер прымазвацца ўсялякія. Вы хоць і вучыцеся, але ў палітыцы ні бум-бум.*

*Дудка пазіраў на нас звысока. Ён узначальваў цяпер раённую кантору сувязі, насіў шапку з какардай, форменны дыяганалевы касцюм і бліскучыя хромавыя боты. Пайшоў угору чалавек. Д'ябал яго ведае, ненарокам забыў ён пра соль. Можа, і праўда. Забыў ён сам пра соль».*

## У добры час (с. 334)

Друкуецца паводле зборніка «Тая самая зямля», 1971.

Упершыню — газ. «Звязда», 1961, 1 студз.

У Збор твораў уключана ўпершыню.

Апавяданне на рускую мову пераклала Р. Веташкіна.

## У шалашах (с. 338)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1961 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1961, № 1.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972.

У БДАМЛМ захоўваецца рукапіс твора з невялікімі аўтарскімі праўкамі (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 163, арк. 26—34). На першай старонцы рукапісу ўгары пазначана дата рэгістрацыі яго ў часопісе

«Маладосць»: 23 XI 60. Тут жа на першым лісце маецца надпіс зроблены аўтарам: «З нізкі “Мяшчане”».
С. 340:

*І піць будзем, і гуляць будзем, // А прыйдзе смерць, паміраць будзем!* — перакладзеныя на беларускую мову словы рускай народнай песні.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *рукапіс*

С. 342:

[9] Пасля сказа «У Міліцыі з Бабурыхай пачыналася ранейшае…» у рукапісе ідзе ўстаўны сказ: *«Зрэшты, гэта былі дробязі. Яны, немаладыя суседкі, ні за што ў жыцці не адказвалі».*

## 1962

### Рыжыя коні (с. 343)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1962 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1962, № 12.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Г. Папоў.

У БДАМЛМ, у фондзе часопіса «Полымя», захоўваецца машынапіс апавядання з рэдактарскімі праўкамі (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 382, арк. 21—25). На першай старонцы машынапісу ўгары маецца надпіс: «Апавяданне». Таксама ў асабістым архіве І. Навуменкі знаходзіцца чарнавы варыянт рукапісу апавядання, захоўваецца ён у гэтым жа архіве-музеі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—7). Палымянскі рукапіс і чарнавы варыянт рукапісу з асабістага архіва амаль цалкам супадаюць.

С. 346:

*Запарожжа* — горад ва Украіне, цэнтр Запарожскай вобл.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *рукапіс з часопіса «Полымя»*

С. 343:

[1] рушыў далей // *пайшоў* далей

[2] светла-пунсовыя водблескі // *чырвоныя* водблескі

[6] цягнула халадком // цягнула *прахалодай*

[12] Пасажырскі прымчаў // Пасажырскі *пранёсся*

[13] пругкай хваляй // *паветранай* хваляй

[18] На лугавіне // *У прамежку*

Зб. тв. // *машынапіс*

С. 343:

[9—10] Рэйкі пачалі ледзь чутна дрыжаць // *Рэйкі ледзь чутна дрыжаць*

С. 344:

[19] прывык хадзіць поначы // прывык *крочыць* поначы

[22] Пасля слоў «панавала поўная яснасць» у машынапісе ідзе ўстаўны сказ: *«Прывык Ілля да адзіноты, да развагі аб усім, што ўсплывала ў памяці або трапляла на вока, і думкі былі спакойныя, ураўнаважаныя, як шпалы, якія ён мерыў сваімі нагамі».*

[29] ён стукнуўся // ён *балюча* стукнуўся

[31] Зачуўшы крокі // *Пры падыходзе Іллі*

С. 345:

[2] Лісям прыгнаў // *На каўбасю прыгамаў*

[10] на лісіную ферму іх гоніш? // на *мясакамбінат* іх гоніш?

[12] Лісям // *На каўбасю*

[16] ускіпеў Ілья. // *узарвала Ілью.*

[20—21] Пасля слоў «грудзі поўніліся пякучым жалем, крыўдай, і» ў машынапісе ідуць устаўныя словы: *«каб не кінуцца з кулакамі на хлопца».*

[23] залацістымі водсветамі // залацістымі *блікамі*

С. 346:

[14] лісам на харч // лісам *на мяса*

[20] А-а-а, чалавек ты!.. // *Сволач! — Нечакана для сябе выбухнуў Ілья лаянкай. Гультай і сволач. Праз такіх вось...*

С. 346:

[22] Пасля слоў «злосна пакрочыў да мастка» ў машынапісе ідзе ўстаўны сказ: *«На сваім абходзе супакоіўся, у думках ён ужо дакараў сябе не за тое, што накінуўся на Плісецкага».*

## 1963

### Звіні, званок! (с. 347)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1965 г.

Упершыню — часоп. «Бярозка», 1963, № 9.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Год карася», 1988; «Хатняе зайчанё», 1998.

### Здарэнне на паўстанку Вялікія Іваны (с. 349)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1963 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1963, № 7.

Уваходзіла ў зб. «Таполі юнацтва», 1966.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

### Пракуроры (с. 353)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1963 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1965, № 8 пад назвай «Трэці круг (Навела)».

Уваходзіла ў зб. «Таполі юнацтва», 1966.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Г. Папоў.

С. 354:

*Калінін Міхаіл Іванавіч* (1875—1946) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Усесаюзны стараста. Старшыня ЦВК РСФСР (з 1919), ЦВК СССР (з 1922), Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР з 1938 г.

*Вальтэр (*сапр. Аруэ Мары Франсуа; 1694—1778) — французскі філосаф, раманіст, гісторык, драматург і паэт эпохі Асветы, адзін з найвялікшых французскіх пісьменнікаў.

### Ракеты над горадам (с. 356)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1963 г.

Упершыню — газ. «Звязда», 1963, 9 чэрв. пад назвай «Водбліскі зыркіх ракет».

Уваходзіла ў зб. «Таполі юнацтва», 1966.

С. 357:

*Воблака ў штанах ваш Грыша.*— маецца на ўвазе паэма У. У. Маякоўскага «Воблака ў штанах» (1915).

*«Дунайскія хвалі»* — вальс, напісаны румынскім кампазітарам сербскага паходжання І. Івановічам (1845—1902) у 1880 г. Гэта адна з найбольш вядомых і знакамітых румынскіх мелодый у свеце.

С. 359:

*«Любімы горад»* — песня ў выкананні М. Н. Бернэса (1911—1969) з кінафільма «Знішчальнікі» (1939) Э. А. Пенцліна (1903—1990). Словы Я. А. Далматоўскага, музыка М. У. Багаслоўскага.

С. 360:

*Волга, Арол* — гл. камент. да апавяд. «Настаўнік чарчэння» (с. 690).

*Харкаў* — горад ва Украіне, цэнтр Харкаўскай вобл.

*Партос* — знакаміты літаратурны герой рамана А. Дзюма «Тры мушкецёры», які вылучаўся сваёй магутнай фігурай і моцай.

С. 361:

*...ўзяў сабе клічку Чапаеў.*— гл. камент. да апавяд. «Раман з эпілогам» (с. 715).

*...ўзяў клічку Казьма Пруткоў.*— Казьма Пруткоў — калектыўны літаратурны псеўданім і сатырычны вобраз, створаны ў 1850—1860-я гг. групай рускіх пісьменнікаў, у якую ўваходзілі А. К. Талстой і браты Аляксей, Аляксандр і Уладзімір Жамчужнікавы.

## Таполі юнацтва (с. 362)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1963 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1964, № 1.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966, якому і дало назву; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Пераломны ўзрост», 1986; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

С. 364:

*«Сага аб Фарсайтах»* — назва знакамітай эпапеі англійскага пісьменніка Д. Голсуарсі (1867—1933).

## 1964

### Пад пошум дубоў (с. 367)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1964 г.
Упершыню — часоп. «Полымя», 1966, № 7.
Уваходзіла ў зб. «Таполі юнацтва», 1966.
Апавяданне пераклаў на рускую мову Г. Папоў.

С. 380:

*Урал* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

С. 382:

*Пакровы* (Пакроў Прасвятой Уладычыцы нашай Багародзіцы і Вечнадзевы Марыі, Трэцяя Прачыстая, Пакровы Багародзіцы) — свята ў гонар дзівоснага з'яўлення Маці Божай, што адбылося ў сярэдзіне X ст. у Канстанцінопальскай царкве, дзе захоўвалася рыза Божае Маці, Яе галаўное покрыва і частка пояса. Святкуецца 14 кастрычніка.

Варыянты і разначытанні:
Зб. тв. // *часоп. «Полымя»*

С. 367:

[24] Пасля сказа «Цяпер дайце каня копы перавезці» ў палымянскім варыянце ідзе наступны сказ: *«Мужчыны зарагаталі...»*

С. 368:

[5] Раз пад саўгас адыходзіце, і вы палучыце пенсію // *Цяпер і вы палучыце пенсію.*

С. 374:

[1] Мінуўшы ліпы // *Мінуўшы ўзлессе*

С. 375:

[24] Пасля слоў «а пра другое думае» ў палымянскім выданні ідзе наступны тэкст: *«Людзі цяпер лепей жывуць, дзядзька. Лішняга клопату не маюць».*

*— Але ж і рабіць не хочуць.*

*— Ірваць жылы не хочуць. У майго бацькі было тры каровы, а малака не еў. А я з адной ем.*

*— Што праўда, то праўда. Цяпер такіх мала, што гатовы свет загрэбсці».*

С. 376:

[3] Тэкст *«— А-я-яй,— дзівіцца Халімон.— А мне думалася, што балота нашыя адкрылі. А яно вунь як... Глядзі ты... І чыгунку пры вас насыпалі?*

*— Не, яшчэ да маёй памяці»* ў палымянскім выданні адсутнічае.

С. 377:

[25] Пасля слоў «папрасіў Атрошчанка» ў палымянскім тэксце ідуць наступныя сказы: *«— Зрабілі саўгас? — у голасе буфетчыцы шчырая цікавасць.*

*— З сённяшняга вечара. З кожнай палучкі будзем у госці прыходзіць».*

С. 382:

[2—5] Самы старэйшы брыгадай камандаваў,— фактычна генерал, загінуў у пачатку вайны. Двое — настаўнікамі былі — склалі галовы ў партызанах. Самы малодшы, студэнт, прапаў без вестак. // *Самы старэйшы брыгадай камандаваў,— фактычна генерал, загінуў у пачатку вайны. Двое з сухотаў памёрлі, адзін — ваенны таксама, а другі — настаўнік. Самы малодшы пракурорам быў, загінуў у партызанах.*

**Салдаты вярнуліся (с. 384)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1964 г.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1964, 10 студз.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклала на рускую мову Л. Філімонава.

С. 386:

*Элада* — геаграфічная вобласць у Грэцыі, вядомая сваім магутным культурным і навуковым росквітам у старажытны час, калыска еўрапейскай цывілізацыі.

*Аэд* — старажытнагрэчаскі вандроўны паэт.

*Рэйхстаг* — назва парламента ў Германіі.

С. 387:

*Давно ты не видел подружку, //Дорогу к родимым местам, // Налей же в железную кружку // Свои боевые сто грамм… //Гитару возьми, струну подтяни, // Солдатскую песню запой, // О времени том, товарищ, споем — // Солдаты вернулись домой…*— маецца на ўвазе песня «Салдацкі вальс» (словы У. А. Дыхавічнага і М. Р. Слабадскога, музыка М. У. Багаслоўскага). У апавяданні словы

песні часткова змененыя, у арыгінале: «Давно ты не видел подружку, // Дорогу к знакомым местам. // Налей же в железную кружку // Свои боевые сто грамм. // Гитару возьми, струну подтяни, // Солдатскую песню пропой // О доме своем, о времени том, // Когда мы вернемся домой.

### Як мы лавілі шпіёна (с. 390)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1964 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1964, № 1.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Год карася», 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Апрасцімся, сябры!..», 1990, пад назваю «Шпіён»; «Хатняе зайчанё», 1998.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

## 1965

### Вальс кветак (с. 394)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1965 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1965, № 7.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

С. 394:

«*Масквіч»* — легкавы аўтамабіль малога класа, які выпускаў Маскоўскі аўтамабільны завод імя Ленінскага камсамола з 1946 г.

*«Волга»* — легкавы аўтамабіль сярэдняга класа, які выпускала вытворчае аб’яднанне «ГАЗ» у г. Ніжні Ноўгарад з 1956 г.

С. 406:

*Астроўскі Мікалай Аляксеевіч* (1904—1936) — рускі савецкі пісьменнік. Аўтар раманаў «Як гартавалася сталь», «Народжаныя бурай».

*Герцэн Аляксандр Іванавіч* (1812—1870) — рускі пісьменнік, філосаф, рэвалюцыянер і публіцыст.

*Бялінскі Вісарыён Рыгоравіч* (1811—1848) — рускі крытык і публіцыст.

*Максім Горкі (*сапр. Аляксей Максімавіч Пешкаў; 1868—1936) — рускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў мастацкага метаду сацыялістычнага рэалізму. Першы старшыня Саюза пісьменнікаў СССР (1934).

**Водгулле далёкіх вёснаў (с. 407)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1965 г.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1965, 30 крас.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

С. 407:

*ШКМ* — скар.: Школа калгаснай моладзі — тып сельскай агульнаадукацыйнай школы ў СССР, які працаваў на базе пачатковай адукацыі і даваў падрыхтоўку ў аб’ёме 7 класаў. Была створана ў 1923 г. як школа сялянскай моладзі, у 1930 г. перайменавана ў школу калгаснай моладзі (тэрмін навучання 3 г.). Апрача агульнай адукацыі давала асновы агранамічных ведаў, вяла вытворчае навучанне на базе сельскагаспадарчай вытворчасці. У 1934 г. пераўтворана ў няпоўную сярэднюю школу (сямігодку).

**Па грыбы (с. 411)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1965 г.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1965, № 9.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Вераніка», 1968; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Год карася», 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1; «Хатняе зайчанё», 1998; «Аповесці, апавяданні», 2009.

Апавяданне пераклаў на рускую мову В. Бараноўскі.

У БДАМЛМ, у папцы часопіса «Маладосць», знаходзіцца машынапіс апавядання з рэдактарскімі праўкамі. (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 373, арк. 11—22). Угары першай старонкі пазначаны надпіс: № 362. 13 VII 65.

С. 411:

*У трыццатым годзе Колевага бацьку раскулачылі, але без высылкі, і ён з'ехаў.— Раскулачванне* — сацыяльны працэс у 30-я гады XX ст. ў СССР, калі пазбаўлялі заможных сялян (кулакоў) зямлі, сродкаў вытворчасці і палітычных правоў.

*Урал* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

Варыянты і розначытанні:

Зб. тв. // *машынапіс*

С. 411:

[8] Коля паехаў падлеткам // Коля паехаў *зеленаротым* падлеткам

[21] прыпадае на лета. // *адносіцца* на лета.

[25] заспеў мяне *// засціг* мяне

[30—31] Коля не дазволіў. // Коля *забараніў.*

С. 412:

[25] Коля збочвае з чыгункі не адразу // Коля збочвае з чыгункі *не хутка*

С. 413:

[25] Свой першы грыб я асцярожна падрэзаў // Свой першы грыб, *дзякуючы Колю,* я асцярожна падрэзаў.

[29] аднаго за адным // аднаго *за другім*

[30] трох яго таварышаў // трох яго *напарнікаў*

[32] што я яе не выяўляю. // што я яе *знешне* не выяўляю.

С. 414:

[19] падвёўшы тых людзей // падвёўшы *трох* людзей

[21—22] Пасля слоў «чым аб гэтым хацелася думаць» у машынапісе ідзе наступны сказ: *«Грыбы захапілі маё дзяцінства, ранняе юнацтва. Ім я аддаваў лета і ўсю цёплую восень»*.

[26] Пасля слоў «давяралі адзін аднаму самыя патаемныя сакрэты» ў машынапісе ідзе наступная ўстаўка: *«было дзіўна, што хлопцы не разам са мной у грыбных паходах. Але ні Іван, ні Максім душой у лесе не загарэліся».*

[38—39] Пасля слоў «што тут прайшоў статак дзікоў» у машынапісе ідзе сказ: *«Такое збіранне не ўяўляе ніякай цікавасці».*

С. 415:

[1—2] Яго браты і сёстры // Яго *памочнікі*

[6] Мы ўтрох // *Я, Іван і Максім*

[22] леташнім лісці // *мінулагоднім лісці*

[26] не часты ў нашым лесе // *рэдкі* ў нашым лесе

[28] дзень на дзень не паходзіць // дзень на дзень *не прыходзіцца*

С. 416:

[4—5] птаства, збіраючыся ў вырай, змаўкае. // птаства, *збіраючыся ў дальнюю дарогу, праяўляе сябе менш.*

[15] Пасля слоў «і ўцякае заўсёды ў поле» ў машынапісе ідуць наступныя словы: *«касавокі шэрак, відаць, баіцца разбіць аб дрэва лоб».*

[20] не звярнуў на гэта ўвагі, чакаючы // *не прыдаў* на гэта ўвагі, мяркуючы

[24—25] і дужымі нагамі. // *пружыністай хадой.*

С. 417:

[26] заўсёды іх выкідала. // *нязменна* іх выкідала.

[30—31] Пасля слоў «з грыбамі, гэта не так» ідзе ў машынапісе наступны раздзел: *«Калі ў сям'і, у школе, у размовах з сябрамі я нечаму навучыўся, нешта пазнаваў, то ў лесе я ўсё гэта абдумваў. Тут я сам-насам заставаўся са сваімі думкамі. Другога часу ў мяне не было. Спаў добра, ледзь прыткнуўся да падушкі — і гатоў, на перапынках паміж урокамі гойсаў па калідоры, у вольныя ад школы гадзіны рабіў урокі, хадзіў у краму па хлеб, завітваў да сяброў. Хадзіў я ў лес не толькі любавацца яго прыгажосцю, думаць, марыць, а вядома, і па грыбы».*

С. 418:

[3] асаблівае вока // *асобы зрок*

[6—7] яе сакрэты. // яе *грыбныя* сакрэты.

[19—20] мог беспамылкова вызначыць, дзе я. // мог беспамылкова вызначыць, *у якім месцы знаходжуся.*

[34] кідаў цень на яе славу // *падрываў яе аўтарытэт*

С. 419:

[14—15] вярталася з лесу з пустой каробкай. // вярталася з лесу *пустая.*

[15—16] Пасля слоў «вышукваць рэдкі баравік» у машынапісе ідуць наступныя словы: *«а на астатнія грыбы яна махала рукой — яны былі ніжэй яе гонару».*

[17] Я прыносіў // Я *нязменна* прыносіў

## Яць (с. 419)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1965 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1965, № 1; газ. «ЛіМ», 1965, 19 студз.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Пераломны ўзрост», 1986; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

С. 419:

*Управа* — назва некаторых мясцовых устаноў у дарэвалюцыйны перыяд і падчас фашысцкай акупацыі (1941—1944) у Беларусі і Расіі.

С. 421:

*Луі Анры Бусенар* (1847—1910) — вядомы французскі пісьменнік, аўтар шматлікіх прыгодніцкіх раманаў для дзяцей і юнацтва.

*«Мёртвыя душы» Гогаля* — твор класіка рускай літаратуры М. В. Гогаля (1809—1852), упершыню выдадзены ў 1842 г.

*«Князь Сярэбраны» А. К. Талстога* — твор, напісаны рускім пісьменнікам 2-й паловы XIX ст. А. К. Талстым (1817—1875), упершыню апублікаваны ў 1863 г.

*«Саламбо» Флабэра* — гістарычны раман французскага пісьменніка Г. Флабэра (1821—1880), упершыню апублікаваны ў 1862 г.

С. 422:

*«Яць», «фіта», «еры»* — літары кірылічнай азбукі, якія выкарыстоўваліся ў дарэвалюцыйным правапісе Расійскай імперыі.

## 1966

## Кацюша (с. 424)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1966 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1979, № 10.

Уваходзіла ў зб. «Смутак белых начэй», 1980.

Апавяданне пераклаў на рускую мову Э. Карпачоў.

С. 424:

*Алтай* — горны рэгіён на тэрыторыі Расіі, Казахстана, Манголіі і Кітая.

*Вялікія Лукі* — горад у Пскоўскай вобл. Расіі.

С. 425:

*Арол* — гл. камент. да апавяд. «Настаўнік чарчэння» (с. 691).

*Харкаў* — гл. камент. да апавяд. «Ракеты над горадам» (с. 726).

С. 427:

*КП палка* — скар.: камандны пункт палка.

С. 430:

*...пад Тарапцом...*— маецца на ўвазе г. Таропец Цвярской вобл. Расіі.

*Старая Руса* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя праталіны» (с. 680).

С. 431:

*На сцяне над столікам прышпілен кнопкамі партрэт артысткі, якая іграла ў кінафільме «Свінарка і пастух».*— «Свінарка і пастух» — чорна-белы фільм 1941 г., музычная камедыя І. А. Пыр’ева (1901—1968). У галоўнай ролі знялася Марына Аляксееўна Ладыніна (1908—2003) — народная артыстка СССР (1950), лаўрэат пяці Сталінскіх прэмій.

С. 433:

*Кант Імануіл* (1724—1804) — нямецкі філосаф, роданачальнік нямецкага класічнага ідэалізму.

*Ніцшэ Фрыдрых Вільгельм* (1844—1900) — нямецкі філосаф, філолаг і паэт, адзін з заснавальнікаў філасофіі жыцця.

*Шапенгаўэр Артур* (1788—1860) — нямецкі філосаф, адзін з найбольш вядомых мысляроў ірацыяналізму.

*Гегель Георг Вільгельм Фрыдрых* (1770—1831) — нямецкі філосаф, які стварыў сістэмную тэорыю дыялектыкі.

С. 434:

*Розенберг Альфрэд* (1893—1946) — нямецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч, адзін з найбольш уплывовых членаў і ідэолаг Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі.

*Платон Афінскі* (428 да н. э.—347 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф, адна з найбольш значных постацей філасофіі, заснавальнік платанізму.

*Арыстоцель* (384 да н. э.— 322 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф, вучоны-энцыклапедыст, заснавальнік шэрагу навуковых

дысцыплін, заснавальнік асобнай філасофскай плыні і фармальнай логікі.
С. 435:

*Палітаддзел* — скар.: палітычны аддзел — ваенна-дзяржаўная ўстанова, якая кіравала палітычнай работай у падраздзяленнях вайсковых часцей Савецкай Арміі да 1942 г.

*«Лілі Марлен»* — песня, якая сталася папулярнай у Другую сусветную вайну. Словы песні з'явіліся ў гады Першай сусветнай вайны, іх аўтар нямецкі паэт і мастак Х. Ляйп (1893—1983), упершыню былі апублікаваны ў 1937 г. У 1938 г. кампазітар Н. Шульцэ (1911—2002) стварыў музыку.

*«Кацюша»* — гл. камент. да апавяд. «Па махорку» (с. 713).

С. 436:

*Сталінград* — гл. камент. да апавяд. «Эх, махорачка…» (с. 687).

С. 437:

*Бранск* — гл. камент. да апавяд. «Пры апошняй сустрэчы» (с. 692:).

*Смаленск* — гл. камент. да апавяд. «Сны» (с. 720).

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

**Рэйкі (с. 437)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1966 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1966, № 5.

Уваходзіла ў зб.: «Таполі юнацтва», 1966; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне мае прысвячэнне: І. Д. Казеку.

У БДАМЛМ, у фондзе асабістага архіва І. Навуменкі, знаходзіцца рукапіс-аўтограф апавядання «Рэйкі» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—15, але з адсутнымі лістамі — 5, 7, 9, 10, 11, 14).

С. 437:

*Казека Іван Дарафеевіч* (1915—2000) — беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец.

С. 438:

*Сызрань* — горад у Самарскай вобл. Расіі.

С. 441:

*Урал* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

С. 443:

*Вавілонскае стоўпатварэнне* — гл. камент. да апавяд. «Два студэнты» (с. 698).

Варыянты і разначытанні:

Зб тв. / *рукапіс-аўтограф*

С. 437:

[16] Пачатак твора ў рукапісе такі: *«Быў дзень і быў вечар — зіхатлівы падарунак за чатыры гады вайны і яшчэ за два тыя гады, калі вайны не было, калі яна толькі нарастала глухімі аддаленымі грымотамі.*

*Маёр Васюкевіч напаткаў Валю проста на вуліцы, калі можна назваць вуліцай расчышчаную ад бітай цэглы і друзу паласу бруку, па абодва бакі якой узвышаліся задымленыя, пачарнелыя каробкі будынін, запарушаныя снегам, горы развалін.*

*Васюкевіч ведаў, дзе жыве Валя, год назад яна прыслала ліст на фронт, дазнаўшыся пра яго адрас ад іх агульнага знаёмага. Ліст быў невясёлы — яна паведамляла, што мужа закатавалі ў акупацыю немцы, а хлопчык памёр перад самым вызваленнем, калі самую яе трымалі ў засценку».*

[30] У інстытут ён // У інстытут *Васюкевіч*

Пасля слоў «у інстытут ён не пайшоў» у рукапісе ідзе наступны тэкст: *«было залішне многа для аднаго дня — сустрэцца з інстытутам і Валяй. Пра яе ён думаў усе гады і сустрэчу маляваў ва ўяўленні глыбока інтымнай, схаванай ад непатрэбных чужых позіркаў. Ён праходжваўся па вуліцы, непадалёк ад напаўразбуранага, з наспех адрамантаваным фасадам і правым крылом будынка інстытута, ведаючы, што Валя хутка выйдзе».*

С. 438:

[20] Пасля слоў «пакуль яна пераапраналася» ў рукапісе ідзе наступны тэкст: *«Яна хацела сустрэць яго прыгожай, такой якой была раней».*

С. 439:

[30] Яна паставіла на стол // *Валя* паставіла на стол

[35] Яму хацелася сказаць ёй штосьці важнае // *Трэба было сказаць Валі штосьці надзвычай* важнае

С. 440:

[31] пытанне было нечаканае. // пытанне было нечаканае, *як стрэл.*

С. 443:

[26] У апошнім абзацы рукапіснага варыянта апавядання адсутнічае першы сказ *«Каб сагрэцца, ён прыбавіў кроку».*

## Сіні снег (с. 444)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1968 г.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1968, 6 верас.; часоп. «Маладосць», 1968, № 9.

Уваходзіла ў зб.: «Тая самая зямля», 1971; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклалі: на рускую мову — Р. Веташкіна, на польскую — Я. Гушча.

С. 445:

*Музыкант пачаў мелодыю пра незнаёмы пасёлак, безыменную вышыню...* — маецца на ўвазе песня «На безыменнай вышыні» з савецкага двухсерыйнага мастацкага фільма «Цішыня» (1963 г.; экранізацыя апублікаванага ў 1962 г. аднайменнага рамана Ю. В. Бондарава). Аўтар слоў М. Л. Матусоўскі (1915—1990), аўтар музыкі В. Я. Баснер (1925—1996).

## 1969

## Валошкі ў жыце (с. 448)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1969 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1969, № 6.

Уваходзіла ў зб. «Тая самая зямля», 1971.

Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

У БДАМЛМ, у асабістам архіве І. Навуменкі, захоўваецца частка чарнавога варыянта рукапісу-аўтографа апавядання «Валошкі ў жыце» (ф. 495, воп. 1, ум. адз. 29, арк. 1—15, з іх 3, 4, 5 адсутнічаюць).

С. 449:

*МТС* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя праталіны» (с. 680).

С. 450:

*Яна скончыла — лёгка сказаць — Ціміразеўку...*— маецца на ўвазе Расійскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт — Маскоўская сельскагаспадарчая акадэмія імя К. А. Ціміразева, альбо Ціміразеўка — вышэйшая аграрная навучальная ўстанова, адна са старэйшых у Расіі.

С. 452:

*Думаеце, што-небудзь дастанеш у гутапе.*— маецца на ўвазе ГУТАП — Галоўнае ўпраўленне аўтатрактарнай прамысловасці.

*Бабіт* — асобы сплаў для заліўкі падшыпнікаў. Названы паводле імя амерыканскага вынаходніка І. Бабіта (1799—1862).

Варыянты і розначытанні:
Зб. тв. // *чарнавы варыянт рукапісу*
С. 448:

[5] Пасля слоў «ні адзінага кусціка» ў чарнавым варыянце рукапісу апавядання ідзе наступны тэкст: *«У гэтых мясцінах Валодзя Шпачок пачынаў вайну. Ты быў на вайне, чалавек, і ты прыехаў на сваё ратнае поле. Калі ёсць у цябе сэрца, то яно затрымціць, затрапечацца…»*

С. 450:

[35—36] Пасля сказа «Такое ў яго практыцы ўпершыню» ў чарнавіку ідзе ўстаўны раздзел: *«Можа, ёй абрыдзела складаць зводкі, адказваць на бясконцыя тэлефонныя званкі? Валодзю дваццаць тры гады, але з незнаёмымі дзяўчатамі ён губляецца. Асабліва з тымі, якія падабаюцца. У кампаніі, дзе ўсе свае, ён можа быць дасціпным, жартуе, нават любіць верхаводзіць, але варта астацца сам-насам з дзяўчынай, як усё гэта прападае. Ён тады насупліваецца і страшэнна сур'ёзнее. Ногі робяцца як драўляныя, рухі нязграбныя, знікае лёгкасць жэстаў, цела напружыньваецца. А самае галоўнае — нічога разумнага ў такім стане ён сказаць дзяўчыне не можа».*

С. 451:

[2] Пасля слоў «камякі вывернутай ссохлай зямлі» ў чарнавіку рукапісу ідзе тэкст: *«Ногі ў яе прыгожыя, нібы вытачаныя…»*

## Два кілаграмы гароху (с. 454)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1969 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1969, № 6.

Уваходзіла ў зб. «Тая самая зямля», 1971.

Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца чарнавы варыянт рукапісу апавядання «Два кілаграмы гароху» (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—6).

Варыянты і розначытанні:
Зб. тв. / *чарнавы варыянт рукапісу*

С. 456:

[15] гадаўка // *сцерва*

[35] хвілін праз дзесяць // хвілін праз *пяць*

С. 457:

[16] А яшчэ праз некаторы час // А яшчэ праз *некалькі хвілін*

[19] качагар // *колішні* качагар

**Куліна з Чарнігава (с. 458)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1969 г.

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1969, 9 снеж.; часоп. «Беларусь», 1969, № 12.

Уваходзіла ў зб.: «Тая самая зямля», 1971; «Год карася», 1988; «Хатняе зайчанё», 1998.

Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

С. 458:

*Чарнігаў* — горад ва Украіне, цэнтр Чарнігаўскай вобл.

*Адыходнік* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя пратапіны» (с. 680).

С. 459:

*...у той год, калі разбіўся самалёт «Максім Горкі»...*— маецца на ўвазе АНТ-20 «Максім Горкі» — савецкі самалёт, пабудаваны ў адным экзэмпляры ў гонар саракагадовага юбілею літаратурнай дзейнасці М. Горкага. Першы палёт — 17 чэрвеня 1934 г., апошні — 18 мая 1935 г.

*Балагол* — гл. камент. да апавяд. «Кукурузька» (с. 718).

*Сёмуха* — свята сашэсця Святога Духа на апосталаў, адно з галоўных хрысціянскіх святаў. Адзначаецца на пяцідзясяты дзень пасля Вялікадня.

С. 461:

*Міткаль* — гатунак баваўнянай тканіны палатнянага перапляцення, неапрацаваны паркаль.

*Корт* — гл. камент. да апавяд. «Прыпяцкая зона» (с. 706).

С. 462:

*...вальс «На сопках Маньчжурыі»...*— рускі вальс пачатку XX ст., прысвечаны загінулым у руска-японскай вайне воінам 214-га рэзервовага Макшанскага пяхотнага палка. Аўтар — вайсковы капельмайстар палка І. А. Шатроў.

## Месячная ноч (с. 464)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1969 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1969, № 4.

Уваходзіла ў зб.: «Тая самая зямля», 1971; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989.

Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

С. 464:

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

*Кіеў* — сталіца Украіны.

С. 465:

*Каганец* — прыстасаванне для асвятлення памяшкання; гліняная, часам металічная пасудзіна з кнотам, напоўненая тлушчам або алеем.

С. 466:

*Пушкін* — гл. камент. да апавяд. «Да звёздаў» (с. 710).

*Блок Аляксандр Аляксандравіч* (1880—1921) — рускі паэт-сімваліст.

*Янка Купала* (сапр. Іван Дамінікавіч Луцэвіч; 1882—1942) — класік беларускай літаратуры. Народны паэт Беларусі (1925).

*Багдановіч Максім Адамавіч* (1891—1917) — беларускі паэт, публіцыст, літаратурны крытык, класік беларускай літаратуры.

## Ноч у літоўскім гарадку (с. 467)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1969 г.

Упершыню — зб. «Тая самая зямля», 1971.

Уваходзіла ў зб.: «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Сярэбраныя мхі», 1983; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989.

Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

С. 467:

*Карэльскі перашыек* — гл. камент. да апавяд. «Сны» (с. 720).

*Астраленка* — горад у Польшчы.

С. 469:

*НЗ* — скар.: недатыкальны запас — сухі харчовы рацыён, які выдаецца вайскоўцам падчас спецыяльных заданняў і мерапрыемстваў, калі адсутнічае палявая кухня.

С. 472:

*Выбарг* — горад у Ленінградскай вобл. Расіі.
*Тарту* — горад у Эстоніі.

### Сукенка Ларэлеі (с. 474)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1969 г.
Упершыню — часоп. «Маладосць», 1969, № 6.
Уваходзіла ў зб.: «Тая самая зямля», 1971; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.
Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

С. 474:

*Ларэлея* — гл. камент. да апавяд. «Верасы на выжарынах» (с. 709).

### Хатняе зайчанё (с. 494)

Друкуецца паводле зб. «Тая самая зямля», 1971, дзе мела назву «Хатняе зайчаня».
Упершыню — часоп. «Бярозка», 1969, № 9 пад рубрыкай «Расказы аб прыродзе».
Уваходзіла ў зб.: «Год карася», 1988; «Хатняе зайчанё», 1998.
Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

С. 495:

*Сельпо* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

## 1970

### Дзень апошні і першы (с. 498)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1970 г.
Упершыню — газ. «Звязда», 1970, 21 чэрв.
Уваходзіла ў зб. «Тая самая зямля», 1971.
Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Я. Навуменкі, знаходзіцца чарнавы варыянт рукапісу апавядання «Дзень апошні і першы». На першай старонцы рукапісу ўгары закрэслена першая назва апавядання — «Юнацтва Максіма», і ніжэй падпісана назва «Дзень апошні і першы».

С. 498:

*Выбарг* — гл. камент. да апавяд. «Ноч у літоўскім гарадку» (с. 741).

*Азбука Морзэ* — гл. камент. да апавяд. «Трое з зялёнай будкі» (с. 696).

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. / *чарнавы варыянт рукапісу*

С. 499:

18—19 Праз кожныя дзесяць хвілін // Праз кожныя *паўгадзіны*

36—37 Маёр дзюбнуў пальцам // Маёр дзюбнуў *сагнутым* пальцам

С. 500:

13—14 Пасля слоў «за гэтую ноч шчодра зазелянела» ў тэксце аўтографа ідзе наступны сказ: *«Дрэвы, кусты ахінуліся далікатным вэлюмам маладой лістоты».*

С. 502:

11 пачулі гул матораў. //пачулі гул матораў *і ляскат гусеніц.*

15 Яшчэ раз вестку пра перамогу Віктар пачуў // *Вестку пра перамогу Віктар пачуў*

33 У рукапісе аўтографа тэкст апавядання заканчваецца словамі: *«…што дажыў да гэтага светлага майскага дня…»*

**Звон у віхурную ноч (с. 503)**

Друкуецца паводле зб. «Тая самая зямля», 1971.

Упершыню — часоп. «Бярозка», 1970, № 12.

Уваходзіла ў зб.: «Год карася», 1988; «Хатняе зайчанё», 1998.

Апавяданне пераклалі на армянскую мову — М. Максапецян, на рускую — Р. Веташкіна.

## Касцюм старэйшага брата (с. 506)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1970, № 9.

Уваходзіла ў зб.: «Тая самая зямля», 1971; «Год карася», 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Хатняе зайчанё», 1998.

Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

С. 509:

*Шавіёт* — тонкая варсістая тканіна з воўны.

## Мяшок белага наліву (с. 509)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1970 г.

Упершыню — часоп. « Полымя», 1971, № 4.

Уваходзіла ў зб.: «Тая самая зямля», 1971; «Год карася», 1988; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Хатняе зайчанё», 1998.

Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

У БДАМЛМ, у папцы часопіса «Полымя» за 1971 год (ф. 42, воп. 1, адзін. зах. 632, арк. 136—140), захоўваеццца машынапіс апавядання, які цалкам ідэнтычны тэксту ў Зб. тв. у 6 тамах. Тамсама, у музеі-архіве, толькі ў асабістым фондзе І. Навуменкі (ф. 95, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1—7), знаходзіцца чарнавы варыянт рукапісу твора з аўтарскімі праўкамі, а таксама машынапіс апавядання, які амаль цалкам ідэнтычны тэксту са Зб. тв.

С. 509:

*Танкетка* — браніраваная гусенічная баявая машына, узброеная адным або двума кулямётамі.

С. 510:

*Крапіўны мех* — мех для збірання і пераноскі зжатай крапівы ці іншых раслін.

С. 511:

*Спас* — гл. камент. да апавяд. «Былі дрэвы» (с. 717).

*Вісла* — рака, на якой размешчана сталіца Польшчы Варшава.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. / *чарнавы варыянт рукапісу з асабістага архіва*

На першай старонцы чарнавога рукапісу пасля назвы твора «Мяшок белага наліву» ніжэй падпісана назва «Яблыкі-наліванкі», якая алоўкам закрэслена.

С. 509:

[29] Маці зноў пайшла. // Маці зноў *падалася на поле*.

С. 510:

[23] Пасля слоў «паб'юцца аб дол» у чарнавіку ідзе наступны тэкст: *«Наліванка-яблыка сакавітае, прыемнае на смак — кісла-салодкае. Але кволае. Тое, што ўпала з дрэва»*.

С. 511:

[1] Пасля слоў «вам павінны даць» у чарнавіку ідуць словы: *«у першую чаргу»*.

С. 512:

[4—5] Пасля слоў «адну невялікую кучку» ў чарнавіку дапісана: *«на тры рублі»*.

[7] Пасля слоў «пачалі выскокваць салдаты» ў аўтографе ідзе наступны сказ: *«Мабыць, гэта быў санітарны эшалон, бо ўсе, хто з яго выйшлі былі параненыя»*.

## Святло ў вокнах (с. 513)

Друкуецца паводле зб. «Тая самая зямля», 1971.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1970, № 6 пад рубрыкай «Трыпціх».

Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

С. 519:

*Лоўж* — гл. камент. да апавяд. «Былі дрэвы» (с. 717).

## Тая самая зямля (с. 519).

Друкуецца паводле зб. «Тая самая зямля», 1971.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1970, № 7.

Апавяданне пераклалі на рускую мову Р. Веташкіна і М. Гарбачоў.

У БДАМЛМ, у асабістым фондзе І. Навуменкі, знаходзіцца машынапісны пераклад на рускую мову апавядання «Тая самая зямля», выкананы М. Гарбачовым.

С. 526:

*...кулямёт Дзегцярова...*— маецца на ўвазе 7,62 мм савецкі ручны кулямёт Дзегцярова, распрацаваны ў 1944 г.

**Хлопцы самай вялікай вайны… (с. 528)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1970 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1970, № 7.

Уваходзіла ў зб.: «Тая самая зямля», 1971; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1; «Аповесці, апавяданні», 2009.

Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

С. 528:

*Бранск* — гл. камент. да апавяд. «Пры апошняй сустрэчы» (с. 692).

*Станцыя Фаянсава…* — маецца на ўвазе станцыя Фаянсавая — вузлавая чыгуначная станцыя ў г. Кіраве.

*Кіраў* — горад у Расіі, вядомы з 1374 г., да 1781 г. называўся Хлынаў. Перайменаваны ў 1934 г. у гонар С. М. Кірава (сапр. Кострыкаў; 1886—1934).

С. 529:

*Волга* — гл. камент. да апавяд. «Настаўнік чарчэння» (с. 690).

*Жытомір, «Зямлянка»* — гл. камент. да апавяд. «Па махорку» (с. 713).

*Кіеў* — гл. камент. да апавяд. «Месячная ноч» (с. 740).

С. 533:

*Корсунь-Шаўчэнкаўскі* — горад ва Украіне, цэнтр Корсунь-Шаўчэнкаўскага раёна Чаркаскай вобл.

С. 536:

*НЗ* — гл. камент. да апавяд. «Ноч у літоўскім гарадку» (с. 740).

*Смаленск, Карэльскі перашыек* — гл. камент. да апавяд. «Сны» (с. 720).

*Ленінград* — гл. камент. да апавяд. «На вішнёвай вуліцы» (с. 699).

*Нарва* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя праталіны» (с. 680).

С. 537:

*…прадставілі да ўзнагароды медалём «За адвагу».*— маецца на ўвазе медаль «За адвагу» — дзяржаўная ўзнагарода СССР, зацверджаная 17 кастрычніка 1938 г.

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

**1971**

**Вася-Бліцкрыг (с. 538)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1971, № 9.

Уваходзіла ў зб. «Тая самая зямля», 1971.

Апавяданне пераклала на рускую мову Р. Веташкіна.

У БДАМЛМ, у асабістым фондзе І. Я. Навуменкі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 29, арк. 1—35, з іх адсутнічаюць 1, 2, 3, 31), знаходзяцца лісты чарнавога варыянта рукапісу апавядання «Вася-Бліцкрыг» з аўтарскімі праўкамі. На апошнім лісце рукапісу пад нумарам 35 унізе старонкі пазначана дата напісання твора: 10. VII 1969.— Гагра.

С. 538:

*Бліцкрыг* — скар.: у перакладзе з нямецкай мовы азначае «хуткая маланкавая вайна». Менавіта такой хацеў бачыць вайну нямецкі генералітэт, які распрацоўваў план нападу на СССР у 1941 г. пад кодавай назвай «Барбароса».

С. 545:

*Енісей* — рака ў Сібіры, адна з найвялікшых рэк свету і Расіі.

С. 546:

*...абаронныя значкі: ГПА, ППХА, ГСА і ВС.*— гл. камент. да апавяд. «Вераніка» (с. 698—699).

*Асаавіяхім* — гл. камент. да апавяд. «Сябры-равеснікі» (с. 694).

*Дняпро* — гл. камент. да апавяд. «Над ціхай Віццю» (с. 684).

С. 547:

*Вермахт* — афіцыйная назва ўзброеных сіл фашысцкай Германіі ў 1935—1945 гг.

*Гітлер* — гл. камент. да апавяд. «Сябры-равеснікі» (с. 693).

С. 551:

*Мюлендорф* — камуна ў Аўстрыі, у федэральнай зямлі Бургенланд.

*Далёкі Усход* — найбольш аддалены ад еўрапейскай часткі рэгіён Расіі.

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *чарнавы варыянт рукапісу*

С. 540:

[6] п’яны Бліцкрыг крычаў // п’яны *Вэрмахт* крычаў

[7] Я сваё дакажу!.. Выведу ўсіх на чыстую ваду… // *Праўды няма! Трэба стварыць партыю праўды! Рыба пачынае гніць з галавы. Начальнікі паабрасталі тлушчам. А некаторыя проста пайшлі ва ўслужэнне замежных разведак. Прадаліся імперыялістам з кішкамі…*

[12] крануў Бліцкрыга за плячо… // крануў *Вэрмахта* за плячо…

[15—16] Пасля слоў «чарнявы марачок, быў настроены болей міралюбна» ў рукапісе ідуць наступныя сказы: *«Дык хто тут у вас прадаўся імперыялістам? — спытаў ён, тоячы ў шэрых вачах іскрынкі смеху — іменна хто з кішкамі? Мы яму гэтыя самыя зараз кішкі на тэлефон…»*

*— Дырэктар школы Кухмір прадаўся! — выгукнуў Вася.— Моліцца на буржуяў…*

*— А якія ў цябе доказы? — чарнявы марачок таксама нахмурыўся.*

*— Яго бацька чацвёртую пасылку з Амерыкі атрымлівае. Я ведаю. Дарма пасылкі з Амерыкі не прышлюць.*

*— Дык то ж бацька, а не сам дырэктар.*

*— Адно кодла.*

*— Адкуль ведаеш пра пасылкі?*

*— Я — разведчык! Служу свайму народу».*

[25—26] Пасля слоў «марачкі вывелі яго ў станцыйны скверык» у тэксце аўтографа ідзе наступны тэкст: *«Біў старэйшы — са злосцю, кулакамі ў сквіцу. Чарнявы падтрымліваў, каб Вася не ўпаў. Галава ў Васі матлялася як у нежывога».*

С. 541:

[31—32] У аўтографе апошні сказ другой часткі апавядання «Да трох не лічаць…» адсутнічае.

[33] Трэцяя частка апавядання ў аўтографе пачынаецца са сказа: *«З міліцыяй не надта пажартуеш».*

[35] але калі камісія // але калі *палкоўнік і два капітаны*

С. 542:

[1] за выключэннем Васі-Бліцкрыга // за выключэннем Васі-*Вэрмахта*

[7] Пасля слоў «мер і рэагавання ў райкам і райвыканкам» у аўтографе ідзе наступны тэкст: *«А на больш сур’ёзныя сакрэтныя сігналы, якія Вася дасылаў у адпаведныя інстанцыі, рэагавання ўвогуле не было».*

[24] Пасля сказа «За паклёп Васю асудзілі на пяць гадоў» у аўтографе ідзе наступны сказ: *«Паслалі будаваць канал Волга-Дон…»*

[30] Ён недзе папрацаваў трохі болей як год. // *На Волга-Доне прабыў трохі болей, чым год.*

У тэксце чарнавога аўтографа апавядання ў VI і VII раздзелах згадваецца патрыятычная дзейнасць мясцовага падполля. У сюжэт твора І. Навуменка ўводзіць новага героя Верлена Кажадуба — «поўнага адзінадумца» Васі-Вермахта ў паклёпніцкай дзейнасці. Гэтыя два раздзелы ў канчатковы варыянт тэксту апавядання не ўвайшлі. Сёмы раздзел канчатковага варыянта апавядання «Вася-Бліцкрыг» амаль цалкам супадае з восьмым раздзелам чарнавога рукапісу.

С. 551:

[15] Апошні сказ апавядання «Расказвае, бясконца расказвае…» у тэксце чарнавога вырыянта адсутнічае.

**Мост (с. 551)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1982, т. 2. Пад тэкстам: 1971 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1971, № 4.

Уваходзіла ў зб. «Тая самая зямля», 1971.

Апавяданне пераклалі: на рускую мову — Р. Веташкіна, на армянскую — М. Максапецян.

У БДАМЛМ, у фондзе часоп. «Полымя» (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 632, арк. 141—150), захоўваецца машынапіс твора з рэдактарскімі праўкамі. І там жа ў фондзе асабістага архіва І. Навуменкі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 27, арк. 1—17) знаходзіцца чарнавы варыянт рукапісу апавядання «Мост» з аўтарскімі праўкамі.

С. 553:

*Разань* — горад у Расіі, цэнтр Разанскай вобл.

С. 554:

*Службы ОВС, ПФС…*— скар.: з рускай — абозна-рэчавага забеспячэння і харчова-фуражнага забеспячэння.

С. 555:

*…затрашчалі кавалерыйскія СВТ…*— маецца на ўвазе 7,62 мм самазарадныя вінтоўкі сістэмы Токарава ўзораў 1938 і 1940 гг. (СВТ-38, СВТ-40), а таксама 7,62 мм аўтаматычны карабін сістэмы Ф. В. Токарава (1871—1968).

Варыянты і разначытанні:

Зб. тв. // *машынапіс з часопіса «Полымя»*

С. 554:

[5—6] Кавалерыі разгарнуцца тут цяжка. // Кавалерыі *рабіць тут нечага.*

С. 555:

[3] Раптам пачалося // *Пачалося*

С. 556:

[7] пагардлівыя позіркі. // пагардлівыя позіркі *бежанцаў.*

Зб. тв. // *чарнавы варыянт аўтографа*

С. 554:

[22] Пасля сказа «Для ўсіх астатніх быў прывал» у чарнавым варыянце аўтографа ідзе ўстаўка: *«На гадзіну, ці трохі болей».*

[23—24] Пасля сказа «Недзе зусім блізка грукала…» у чарнавіку ідзе наступны тэкст: *«Вайна, аказваецца, была не пад Бабруйскам і Мінскам, а падступала да Оршы. Ніхто дакладна не ведаў».*

**Першы спектакль (с. 558)**

Друкуецца паводле першай публікацыі ў часоп. «Бярозка», 1971, № 9.

Уваходзіла ў зб.: «Год карася», 1988; «Хатняе зайчанё», 1998.

С. 560:

*Георгіеўскі крыж* — расійскі ўзнагародны знак у 1807—1917 гг. за мужнасць, выяўленую ў баях супраць ворага. Быў вышэйшай узнагародай для салдат і унтэр-афіцэраў.

С. 561:

*Белапольскі легіянер* — салдат польскай арміі ў гады акупацыі на тэрыторыі Беларусі (1919—1920).

**У Макаў, на млын… (с. 562)**

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1971 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1971, № 4.

Уваходзіла ў зб.: «Тая самая зямля», 1971; «Падарожжа ў юнацтва. Выбранае», 1972; «Водгулле далёкіх вёснаў», 1989; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклалі на рускую мову Р. Веташкіна і А. Астроўскі.

У БДАМЛМ, у папцы часоп. «Полымя» (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 632, арк. 150—164), захоўваецца машынапіс апавядання «У Макаў, на млын…» з рэдактарскімі праўкамі і подпісам угары першай старонкі рукапісу: *«З даўнейшага».* Тамсама, толькі ў фондзе асабістага архіва І. Навуменкі (ф. 495, воп. 1, ум. спр. 31, арк. 1—14), захоўваецца і незавершаны чарнавы варыянт рукапісу твора з аўтарскімі праўкамі.

С. 563:

*Субар* — сумесь рознага зерня.

*Варволь* — тлушч, здабыты з марскіх жывёл альбо рыб.

С. 564:

*Прадналог* — скар.: від падатку для сялян у 1920—1930 г., уведзены савецкай уладай.

С. 565:

*Шабета* — торба, якую носяць на поясе.

С. 570:

*Кіеў* — гл. камент. да апавяд. «Месячная ноч» (с. 740).

Варыянты і розначытанні:

Зб.тв. // *машынапіс*

С. 567:

[20] Пасля сказа «Не туды яны глядзяць» у машынапісе ідзе наступны абзац: *«Дзе ета бачна, каб людзі разам рабілі,— ледзь не крычыць Пятро.— Хіба людзі роўныя?.. Адзін гаспадар, а другі гультай. Як жа яны разам?..»*

[21] Пасля сказа «Жыць не даюць спакойна,— гаворыць Пятро» ў машынапісе ідзе ўстаўны абзац: *«— Галадранцы хочуць калгаса! — Пятро яшчэ болей распаляецца.— Чужое вочы коле. У цябе іе, а ў яго няма, то гатоў, у цябе з горла вырваць. Завісць усё гэта і болей нічога!.. Хіба Міхалька калі-небудзь будзе рабіць? Ва векі вякоў не будзе. Ён любіць позна спаць, жэрці любіць, а рабіць не хоча. У яго работы не пытай... Таму крычыць на сабраніях. Чужое хоча заграбастаць. Каб ты, значыць, рабіў, а ён будзе табой камандаваць. Над табой будзе стаяць і работу пытаць… Ён ета ўмее…»*

[24—25] Пасля сказа «Пятро скоса зіркае на Куксу, моргае чырвонымі ад недасыпання вейкамі» ў машынапісе ідзе наступны тэкст: *«— Дак што, што множацца? А ў калгасе хіба не будуць множыцца… Ты мне скажы — людзі роўныя? Ну».*

С. 568:

[6] Пасля сказа «З машыны хлеба есці не будзеш» у машынапісе ідзе наступны тэкст: *«І поезд гаспадар прыдумаў. Той, у каго было што вазіць. Міхалька не прыдумае. Міхальку толькі спаць ды жэрці. Праўда, у вагон, калі што, то пралезе. У першы клас без білета...»*

[10] Пасля сказа «Робяць хто што ўмее» ў машынапісе ідзе тэкст: *«— Тыя, што з калгаса паўцякалі, тожа падаліся на чыгунку».*

[35] Пасля сказа «Сказаў — не паправіцца» ў машынапісе ідзе наступны тэкст: «— *Якія цяпер дахтары? Толькі званне адно. Вунь Маланнінаму Яўхіму свярдлом галаву пракруцілі. Мазгі пацяклі. А яны — гной, гной...»*

С. 569:

[20—21] Пасля сказа «Пятро шоргае лапцямі па зямлі панылы, яшчэ болей змрочны» ў машынапісе ідзе наступны тэкст «— *Народ пастаў, як вось емыя цыгане. Укусіць і правоў не давядзеш. Ніякага закона не дапытаешся. Усе некуды едуць, ірвуцца. Куды ты едзеш?.. Чаго ты шукаеш?.. Лёгкага хлеба? То ўсюды трэба рабіць. Падманам хоча пражыць народ. Гультай на гультаі... Кукса ўжо нават не спрабуе пярэчыць, згодна ківае галавой, падтаквае...»*

С. 570:

[17—18] Пасля сказа «Пятро, аблізаўшы засмяглыя губы, сярдзіта сплёўвае» ў машынапісе ідзе наступны тэкст: *«Жыццё настала... Гультаі жыццём завалодалі. Сам нічога не мае, таму на тваё зарыцца. Міхалька ў калгас усё пасцягвае... — Чутно, іконы са свае хаты павыносіў. Пакалоў на дровы... — Даўно ён чорту моліцца...— І Бог гада такога не бачыць. Хоць бы яму якую хваробу паслаў».*

С. 571:

[18] Макаўскі млын, як і хаты // Макаўскі млын, як і *дамкі*

[33] Апошні абзац апавядання, пасля сказа «І ў Нохіма раймонт...» у машынапісе наступны: «— *Я ж думаў, вы ведаеце, куды едзеце? — А вы так сабе... Мне дня не шкода. Каняку змардаваў... Пятро плюнуў сабе пад ногі, на гарачы пясок».*

Зб. тв. // *чарнавы варыянт рукапісу*

С. 562:

[8] Пасля слоў «спіць сяло Вялікія Кавалі» ў чарнавым варыянце рукапісу ідзе наступны сказ: «*Ні гуку, ні зыку*».

[16] якая трасца… // якая *халера…*

[17] адчыніў веснічкі // адчыніў *фортку*

[22] Пасля слоў «пастукаў у шыбу» ў чарнавым рукапісе ідзе наступны сказ: *«Тым часам у хаце адбывалася наступнае».*

С. 563:

[7] Пасля сказа «Мо і ехаць не трэба…» у чарнавіку ідзе наступны сказ: *«Ці блізкі свет?..»*

## 1972

### Іван ды Мар’я (с. 572)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1981, т. 1. Пад тэкстам: 1972 г.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1973, № 2.

Уваходзіла ў зб.: «Замяць жаўталісця», 1977; «Выбраныя творы ў двух тамах», 1995, т. 1.

Апавяданне пераклалі: на рускую мову — Д. Кавалёў, на мангольскую — Н. Хайдаў, на ўзбекскую — А. Эргашаў, на чувашскую — В. Ігнацьеў.

У БДАМЛМ, у папцы часоп. «Полымя» (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 690, арк. 109—126), захоўваецца машынапіс апавядання «Іван ды Мар’я» з рэдактарскімі праўкамі.

Зб. тв. / *машынапіс*

С. 576:

[2—3] У машынапісе пасля слоў «Абыдзецца яна тымі трыццаццю рублямі пенсіі, што палучае» ідуць словы: «*за чужога дзеда».*

С. 578:

[20] На двары братава жонка Аксіння мые збанок. // *На братавым двары залвіца* Аксіння мые збанок.

С. 579:

[2] Братавай верыць // *Залвіцы* верыць

[3—4] і зусім можа быць, што збанок з малаком зараз жа патарабаніць да каго-небудзь з суседзяў. // *з-за гарэлкі прадасць роднага бацьку і ўпаўне* можа быць, што збанок з малаком зараз жа патарабаніць да каго-небудзь з суседзяў, *каб выцыганіць рубель.*

С. 580:

[2] Пасля сказа «А ён хоча, каб цяпер» у рукапісе ідзе сказ: «*Яму кватэру даюць*».

[30—31] Пасля слоў «Ледзь не ўсе дзеці, апярэдзіўшы матку, пайшлі на той свет за яе раней» у машынапісе ідуць словы: *«а ўнукі, праўнукі забылі»*.
С. 581:

[6] Прыйшло раптам зняважлівае пачуццё // *Прайшло* раптам зняважлівае пачуццё

[7—8] Пасля сказа «Свет клінам сышоўся на гэтай Валі?» у машынапісе ідзе наступны сказ: *«Палучае кватэру, то ў момант хоча жонку туды пасадзіць»*.

[9] Не, мой галубок. // Не, мой *галубчык*.

[27] Пасля слоў «сябе за былое дакарае» ў машынапісе ідуць устаўныя сказы: «— *Так, мабыць, трэба было. Напісана на яе раду»*.
С. 583:

[26—27] а не за гэтага дзеда… // а не за гэтага *смярдзючага* дзеда…

[38] Даўно *// Некалі*
С. 584:

[7] Пасля слоў «развязалася з паганцам» у машынапісе ідзе сказ: «*Колькі распладзілася брыдоты»*.

[33—34] Жаўтадзюбыя подлеткі. // *Падлеткі, таму і не ўратаваліся.*

# Нарысы

## 1946

### Адраджэнне саўгаса «Ліпаў» (с. 586)

Друкуецца паводле публікацыі ў газ. «Бальшавік Палесся», 1946, 6 сак.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 586:

*Шляхціцы* — у XIII—XX стст. у Беларусі, Польшчы і Літве дваранскае саслоўе.
С. 587:

*Саўнаркам* — скар.: Савет народных камісараў — назва ўрада Савецкай дзяржавы з 1917 г. У 1946 г. СНК СССР пераўтвораны ў Савет Міністраў СССР. Першым старшынёй СНК быў У. І. Ульянаў-Ленін.

*Наркамзем* — скар.: народны камісарыят земляробства — дзяржаўная ўстанова, якая кіравала сельскай гаспадаркай у 1920—1940-я гг. у Беларусі.

### Так вырасла новая вёска (с. 589)

Друкуецца паводле публікацыі ў абласной газ. «Бальшавік Палесся», 1946, 14 крас.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## 1947

### За трыццаць год (с. 592)

Друкуецца паводле публікацыі ў абласной газ. «Бальшавік Палесся», 1947, 30 верас.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 592:

*Балаховіч* — Булак-Балаховіч Станіслаў Нікадзімавіч (1883—1940) — ваенна-палітычны дзеяч беларускага паходжання, былы царскі афіцэр. У 1920-я гг.— адзін з ваенных кіраўнікоў войска БНР, затым служыў у польскім войску.

*Стракапытаў М. А.*— былы царскі афіцэр, кіраўнік антыбальшавіцкага паўстання на Беларускім Палессі ў сакавіку 1919 г.

С. 594:

*Чкалава* — назва вёскі ў Рэчыцкім раёне ў гонар праслаўленага савецкага лётчыка Героя Савецкага Саюза (1936) Валерыя Паўлавіча Чкалава (1904—1938). Раней вёска мела назву Какуевічы.

*...жылі свабодай Сталінскай Канстытуцыі.*— маецца на ўвазе Канстытуцыя СССР 1936 г. (неафіцыйная назва «Сталінская Канстытуцыя») — асноўны закон СССР, прыняты VIII надзвычайным з’ездам Саветаў 5 снежня 1936 г. Дзейнічала да 1977 г.

С. 595:

*МТС* — гл. камент. да апавяд. «Вясновыя праталіны» (с. 680).

## 1952

### На Нарачы (с. 596)

Друкуецца паводле публікацыі ў абласной газ. «Бальшавік Палесся», 1952, 12 верас.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 596:

*Мястра* — возера ў Мядзельскім раёне Мінскай вобл.

## 1953

### Ён будзе інжынерам (с. 599)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Маладосць», 1953, № 1.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 599:

*Сталін Іосіф Вісарыёнавіч* (1878—1953) — савецкі дзяржаўны, палітычны і вайсковы дзеяч. Генеральны сакратар Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай Камуністычнай партыі (бальшавікоў) з 1922 г.

С. 600:

*Сельгасснаб* — скар.: сельскагаспадарчае забеспячэнне (*рус*. снабжение) — дзяржаўная ўстанова, якая ўваходзіла ў склад выканаўчых органаў, па рэгуляванні і планаванні забеспячэння насельніцтва сельскагаспадарчай прадукцыяй.

С. 601:

*Тэльман Эрнст* (1886—1944) — германскі палітычны дзеяч, лідар нямецкага рабоча-камуністычнага руху. Адзін з галоўных палітычных апанентаў А. Гітлера. Забіты паводле ягонага загаду ў канцлагеры Бухенвальд.

С. 602:

*План ГОЭЛРО* — скар.: ад *рус*. Дзяржаўная камісія па электрыфікацыі Расіі — орган, створаны 21 лютага 1920 г. для распрацоўкі праекта электрыфікацыі Расіі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. Абрэвіятура часта расшыфроўваецца таксама, як Дзяржаўны план электрыфікацыі Расіі, то бок прадукт камісіі ГОЭЛРО, які стаўся першым перспектыўным планам развіцця эканомікі, прынятым і рэалізаваным у Расіі пасля рэвалюцыі.

С. 603:

*Кегумская ГЭС* — гідраэлектрастанцыя на рацэ Заходняя Дзвіна ў г. Кегумс у Латвіі.

*Даўгава* — назва ракі Заходняя Дзвіна на тэрыторыі Латвіі.

С. 604:

*Кахоўка* — горад ва Украіне, цэнтр Кахоўскага раёна Херсонскай вобл. У горадзе на рацэ Дняпро пабудавана Кахоўская ГЭС — шостая (ніжняя і апошняя) ступень каскада дняпроўскіх гідраэлектрастанцый на тэрыторыі Украіны.

*...будаваў Волга-Дон...*— маецца на ўвазе Волга-Данскі суднаходны канал імя У. І. Леніна — канал, які спалучае рэкі Волга і Дон у месцы іх максімальнага набліжэння адна з адной каля г. Валгаграда. Пабудаваны за 4,5 г., што ёсць унікальным тэрмінам у сусветнай гісторыі гідрабудаўніцтва. Дзейнічае з 1952 г.

*Цымлянская ГЭС* — гідраэлектрастанцыя на рацэ Дон у Расіі. Уведзена ў энергетычную сістэму Расіі ў сярэдзіне 1950-х гг.

*Сталінградская гідраэлектрастанцыя* — маецца на ўвазе Волжская гідраэлектрастанцыя — ГЭС на рацэ Волга ў Валгаградскай вобл., у г. Волжскім. Найвялікшая гідраэлектрастанцыя ў Еўропе.

С. 605:

*Васілевічы* — горад у Гомельскай вобласці. Радзіма народнага пісьменніка Беларусі акадэміка І. Я. Навуменкі.

## 1954

## Сёння ў Пінкавічах (с. 606)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Маладосць», 1954, № 2. У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 606:

*Пінкавічы* — вёска ў Пінскім раёне, дзе ў 1904—1906 гг. настаўнічаў Якуб Колас.

*Якуб Колас* — гл. камент. да апавяд. «Справа аб каноплях» (с. 707).

С. 607:

*Піна* — рака, прыток ракі Прыпяць, з якой каля г. Пінска яна зліваецца.

С. 610:

*Напісаў ён на сялянскім сходзе петыцыю самому Скірмунту, што жыў у Альбрэхтове...* — маецца на ўвазе Скірмунт Раман Аляксандравіч (1868—1939) — беларускі і польскі грамадска-палітычны дзеяч, буйны землеўладальнік.

С. 611:

*Мазурскія азёры* — група азёр на паўночным усходзе Польшчы ў межах Мазурскага Паазер'я.

*Койданава* — назва г. Дзяржынска да 1932 г.

С. 612:

*Дакучаеў Васіль Васільевіч* (1846—1903) — вядомы геолаг і глебазнаўца, заснавальнік рускай школы глебазнаўства і геаграфіі глебаў.

*Вільямс Васіль Робертавіч* (1863—1939) — рускі і савецкі глебазнаўца-аграном, адзін з пачынальнікаў агранамічнага глебазнаўства.

*Мічурын Іван Уладзіміравіч* (1855—1935) — рускі біёлаг і селекцыянер, аўтар шматлікіх гатункаў пладова-ягадных культур.

*Лаціс Віліс* (1904—1966) — латышскі пісьменнік і дзяржаўны дзеяч. Народны пісьменнік Латвіі (1947).

*Фадзееў Аляксандр Аляксандравіч* (1901—1956) — рускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

С. 613:

*«Пяюць жаваранкі»* — п'еса Кандрата Крапівы (1896—1991), апублікаваная і пастаўленая ў 1950 г.

*«Наталка Палтаўка»* — п'еса І. П. Катлярэўскага (1769—1838), пастаўленая ў 1819 г., апублікаваная ў 1838 г.

*«Наймічка»* — паэма Т. Р. Шаўчэнкі (1814—1861), напісаная ў 1845 г.

*Аксён Каль* — герой трылогіі «На ростанях» (1954) Якуба Коласа.

С. 614:

*Нясвіжская настаўніцкая семінарыя* — навучальная ўстанова, якая рыхтавала настаўнікаў пачатковых школ. Заснавана ў 1875 г. Яе навучэнцамі ў розныя гады былі А. С. Багдановіч (бацька М. Багдановіча), К. М. Міцкевіч (Якуб Колас) і М. К. Раманоўскі (Кузьма Чорны).

## 1955

### Па месцах Адама Міцкевіча (с. 616)

Друкуецца паводле публікацыі ў часоп. «Маладосць», 1955, № 7. У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 616:

*Міцкевіч Адам* (1798—1855) — знакаміты польскі паэт і грамадскі дзеяч беларускага паходжання, аўтар сусветна вядомых твораў «Дзяды», «Пан Тадэвуш», «Гражына» і інш.

*Навагрудак* — горад у Гродненскай вобл., раённы цэнтр, лічыцца першай сталіцай ВКЛ.

С. 617:

*Міндоўг* — (1195?—1263) — некаторымі гісторыкамі лічыцца заснавальнікам і першым вялікім князем ВКЛ.

*Замкавая гара* — гара ў г. Навагрудку, на яе схілах захаваліся руіны Наваградскага замка (XII—XVI стст.). Побач з гарой у гонар Адама Міцкевіча насыпаны Курган Бессмяротнасці.

*Завоссе* — вёска ў Баранавіцкім раёне, на думку некаторых даследчыкаў жыцця і творчасці Адама Міцкевіча, менавіта ў гэтым месцы ён нарадзіўся.

С. 618:

*Свіцязь* — возера ў Навагрудскім раёне Гродненскай вобл., якое паэтычна апеў у сваіх творах Адам Міцкевіч.

*Граф Храптовіч* — Літавор-Храптовіч Іяхім Ігнацы Юзаф (1729—1812) — дзяржаўны навуковы і культурны дзеяч ВКЛ. У сваім маёнтку Шчорсы (зараз вёска ў Навагрудскім раёне) пабудаваў палац, школу, уніяцкую царкву. Будучы вялікім аматарам старажытных кніг, на працягу ўсяго жыцця збіраў іх для асабістай бібліятэкі, якую заснаваў таксама ў Шчорсах.

С. 619:

*Птушка Фенікс* — у міфалогіі старажытных фінікійцаў, егіпцян, грэкаў і іншых народаў — казачная птушка. Пражыўшы некалькі стагоддзяў, яна, паводле адной з версій міфа, спальвала сябе, а з попелу нараджалася зноў маладой і адноўленай. У пераносным сэнсе птушка Фенікс ёсць сімвал вечнага адраджэння і неўміручасці.

## СПІС ПРЫНЯТЫХ СКАРАЧЭННЯЎ:

| | |
|---|---|
| Зб. тв., 1981, т. 1 | Навуменка, Іван. Збор твораў. У 6 т.— Т. 1.— Мінск: Маст. літ., 1981. |
| Зб. тв., 1982, т. 2 | Навуменка, Іван. Збор твораў. У 6 т.— Т. 2.— Мінск: Маст. літ., 1982. |
| зб. «Сямнаццатай вясной», 1957 | Навуменка, Іван. Сямнаццатай вясной.— Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1957. |
| зб. «Хлопцы-равеснікі», 1958 | Навуменка, Іван. Хлопцы-равеснікі.— Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1958. |
| зб. «Верасы на выжарынах», 1960 | Навуменка, Іван. Верасы на выжарынах — Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1960. |
| зб. «Таполі юнацтва», 1966 | Навуменка, Іван. Таполі юнацтва.— Мінск: «Беларусь», 1966. |
| зб. «Вераніка», 1968 | Навуменка, Іван. Вераніка.— Мінск: Нар. асвета, 1968. |
| зб. «Тая самая зямля», 1971 | Навуменка, Іван. Тая самая зямля.— Мінск: Беларусь, 1971. |
| БДАМЛМ | Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва |

# АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК[1]

## Апавяданні

Былі дрэвы ........ 308 ........ 717
Валошкі ў жыце . ........ 448 ........ 737
Вальс кветак ........ 394 ........ 729
Вася-Бліцкрыг ........ 538 ........ 746
Вераніка ........ 156 ........ 698
Верасы на выжарынах… ........ 230 ........ 708
Водгулле далёкіх вёснаў ........ 407 ........ 730
Выпадак з гладышкаю ........ 77 ........ 687
Вяселле ў Палыкавічах ........ 236 ........ 709
Вясновыя пратaліны ........ 22 ........ 680
Ганьба «святога» Лукі ........ 99 ........ 689
Да звёздаў ........ 242 ........ 710
Два кілаграмы гароху ........ 454 ........ 738
Два студэнты ........ 151 ........ 698
Дзень апошні і першы ........ 498 ........ 741
Дом над морам ........ 195 ........ 703
Дэлегаты з Бярэзнікаў ........ 83 ........ 688
Жуль Верн ........ 251 ........ 711
Звіні, званок! ........ 347 ........ 725
Звон у віхурную ноч ........ 503 ........ 742
Здарэнне на паўстанку Вялікія Іваны ........ 349 ........ 725
Іван ды Мар’я ........ 572 ........ 752
Касцюм старэйшага брата ........ 506 ........ 743
Кацюша ........ 424 ........ 733
«Кукурузька» ........ 313 ........ 718
Куліна з Чарнігава ........ 458 ........ 739
Месячная ноч ........ 464 ........ 740
Мішаў калейдаскоп ........ 18 ........ 680
Мост ........ 551 ........ 748
Мяшок белага наліву ........ 509 ........ 743
На вішнёвай вуліцы ........ 165 ........ 699
Над ціхай Віццю ........ 51 ........ 683
Настаўнік чарчэння ........ 103 ........ 690
Негры ў Мінску ........ 321 ........ 719

[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

Новая хата ........................................................ 265 ........... 712
Ноч у літоўскім гарадку ................................... 467 ........... 740
Па грыбы ............................................................ 411 ........... 730
Па махорку ......................................................... 269 ........... 712
Пад пошум дубоў ................................................ 367 ........... 727
Першы спектакль ................................................ 558 ........... 749
Пеця .................................................................... 201 ........... 705
Піліпка ................................................................ 175 ........... 700
Пракуроры ........................................................... 353 ........... 725
Пры апошняй сустрэчы ...................................... 108 ........... 691
Прыпяцкая зона .................................................. 206 ........... 706
Раман з эпілогам ................................................. 281 ........... 714
Ракеты над горадам ............................................ 356 ........... 725
Рыжыя коні ......................................................... 343 ........... 723
Рэдактарава хата ................................................ 181 ........... 701
Рэйкі .................................................................... 437 ........... 735
Салдаты вярнуліся ............................................. 384 ........... 728
Святло ў вокнах .................................................. 513 ........... 744
Сельская ідылія .................................................. 114 ........... 692
Сідар і Гараська .................................................. 67 ........... 685
Сіні снег .............................................................. 444 ........... 737
Сны ...................................................................... 324 ........... 719
Соль ..................................................................... 329 ........... 721
Справа аб каноплях ............................................ 215 ........... 707
Сукенка для Ларэлеі ........................................... 474 ........... 741
Сябры-равеснікі .................................................. 119 ........... 692
Сямнаццатай вясной .......................................... 129 ........... 695
Таполі юнацтва ................................................... 362 ........... 726
Тая самая зямля .................................................. 519 ........... 744
Трое з зялёнай будкі ........................................... 138 ........... 696
У добры час ........................................................ 334 ........... 722
У Макаў, на млын ............................................... 562 ........... 749
У шалашах ........................................................... 338 ........... 722
Хатняе зайчанё ................................................... 494 ........... 741
Хлопцы самай вялікай вайны ............................ 528 ........... 745
Чуеце, хлопцы? ................................................... 304 ........... 715
Эх, махорачка… .................................................. 72 ........... 686
Як мы лавілі шпіёна ........................................... 390 ........... 729
Яць ...................................................................... 419 ........... 733

## Нарысы


Адраджэнне саўгаса «Ліпаў» ............................ 586 ........... 753
За трыццаць год .................................................. 592 ........... 754
Ён будзе інжынерам .......................................... 599 ........... 755
На Нарачы .......................................................... 596 ........... 755
Па месцах Адама Міцкевіча ............................. 616 ........... 758
Сёння ў Пінкавічах ............................................ 606 ........... 756
Так вырасла новая вёска ................................... 589 ........... 754

ЗМЕСТ [1]

| | | | |
|---|---|---|---|
| А д р э д к а л е г і і | 1 | | |
| Тры сасны пры лясной дарозе. *П. Навуменка* | 3 | | |

**Апавяданні**

**1954**

| | | |
|---|---|---|
| Мішаў калейдаскоп | 18 | 680 |

**1955**

| | | |
|---|---|---|
| Вясновыя праталіны | 22 | 680 |
| Над ціхай Віццю | 51 | 683 |
| Сідар і Гараська | 67 | 685 |
| Эх, махорачка... | 72 | 686 |

**1956**

| | | |
|---|---|---|
| Выпадак з гладышкаю | 77 | 687 |
| Дэлегаты з Бярэзнікаў | 83 | 688 |
| Ганьба «святога» Лукі | 99 | 689 |
| Настаўнік чарчэння | 103 | 690 |
| Пры апошняй сустрэчы | 108 | 691 |
| Сельская ідылія | 114 | 692 |
| Сябры-равеснікі | 119 | 692 |
| Сямнаццатай вясной | 129 | 695 |
| Трое з зялёнай будкі | 138 | 696 |

**1957**

| | | |
|---|---|---|
| Два студэнты | 151 | 698 |
| Вераніка | 156 | 698 |
| На вішнёвай вуліцы | 165 | 699 |
| Піліпка | 175 | 700 |
| Рэдактарава хата | 181 | 701 |

**1958**

| | | |
|---|---|---|
| Дом над морам | 195 | 703 |
| Пеця | 201 | 705 |

[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

Прыпяцкая зона ........................................ 206 ............ 706
Справа аб каноплях ........................................ 215 ............ 707

**1959**

Верасы на выжарынах... ........................................ 230 ............ 708
Вяселле ў Палыкавічах ........................................ 236 ............ 709
Да звёздаў ........................................ 242 ............ 710
Жуль Верн ........................................ 251 ............ 711
Новая хата ........................................ 265 ............ 712

**1960**

Па махорку ........................................ 269 ............ 712
Раман з эпілогам ........................................ 281 ............ 714
Чуеце, хлопцы?.. ........................................ 304 ............ 715

**1961**

Былі дрэвы ........................................ 308 ............ 717
«Кукурузька» ........................................ 313 ............ 718
Негры ў Мінску ........................................ 321 ............ 719
Сны ........................................ 324 ............ 719
Соль ........................................ 329 ............ 721
У добры час ........................................ 334 ............ 722
У шалашах ........................................ 338 ............ 722

**1962**

Рыжыя коні ........................................ 343 ............ 723

**1963**

Звіні, званок! ........................................ 347 ............ 725
Здарэнне на паўстанку Вялікія Іваны ........................................ 349 ............ 725
Пракуроры ........................................ 353 ............ 725
Ракеты над горадам ........................................ 356 ............ 725
Таполі юнацтва ........................................ 362 ............ 726

**1964**

Пад пошум дубоў ........................................ 367 ............ 727
Салдаты вярнуліся ........................................ 384 ............ 728
Як мы лавілі шпіёна ........................................ 390 ............ 729

